# ВАЙНА КАЛЯ ЦІТАВАЙ КОПАНКІ

## I

Мала нарадзіцца на свет чалавекам, у якога ўсё на месцы і ўсё па норме: дзве рукі, дзве нагі, галава, вочы. Да ўсяго гэтага трэба мець яшчэ добрае імя.

Яшу на імя не пашанцавала. Калі б яго звалі Яшам, то гэта яшчэ нічога, за такое імя хлопец не крыўдаваў бы. Але так называе яго адна толькі Ліза ды яшчэ настаўніца Марыя Рыгораўна. Усе ж астатнія завуць проста Якавам. І не толькі завуць, а і дражняцца. Асабліва гэты Тарабанаў Алёша, да якога падлізваюцца ўсе хлопцы з іхняй вуліцы.

Калі Яша чым-небудзь не дагодзіць Алёшу, дык той без сораму гарланіць:

Якаў, Якаў спаў з сабакам,
Ішоў Сідар, костку кідаў...

Яшу крыўдна, што пра яго складзена гэткая дурная і недарэчная песня. Ён хацеў бы, каб хто-небудзь склаў такую ж і пра Алёшу. Але пра Алёшу ніякіх смешных песень няма. А калі б і была якая-небудзь, то ніхто не адважыцца яе спець пры жылістым рудым Алёшу, бо яго ўсе баяцца. Ён самы дужы на іхняй вуліцы.

Калі Яша толькі прыйшоў у школу, то настаўніца вычытала яго апошнім па спіску. «Якуб Яскавец!» — прачытала яна, і Яша спачатку нават не зразумеў, што гэта выклікаюць яго. Ён азірнуўся: ці не ўстаў з-за парты які-небудзь Якуб? Але ніякага Якуба ў класе не было, і прыйшлося падымацца яму. Новае імя яшчэ болей не спадабалася Яшу. Няхай бы ўжо лепш быў Якаў, а то нейкі Якуб...

Толькі ў другім паўгоддзі настаўніца стала называць Якуба Яшам. Пачалося гэта вось з чаго. Марыя Рыгораўна задала аднойчы дадому цяжкую задачу. Яша ўмеў рашаць задачы, і таму ён рашыў і гэтую. Але болей задачу не рашыў ніхто. Хлопцы проста паспісвалі ў Яшы.

Да дошкі Марыя Рыгораўна выклікала другога вучня. Ён узяў свой сшытак і напісаў Яшава рашэнне. Тады не вытрымала Ліза, якая сядзела на самай першай парце. Ліза была смелая, бо яе маці таксама працавала настаўніцай, толькі ў другім класе. Яна ўстала і сказала Марыі Рыгораўне, што ўсе хлопцы паспісвалі ў Яшы і што ім павінна быць сорамна.

— Ідзі да дошкі, Яша,— сказала настаўніца.

З гэтага дня яна пачала называць яго Яшам.

Калі ішлі дадому, хлопцы хацелі як-небудзь адпомсціць Лізе за яе доўгі язык. Але за Лізу заступіўся Яша. Ён нават пасварыўся з Аркадзем Панядзелкам, які лічыўся ледзь не самым дужым у класе.

Заступніцтва за Лізу так проста для Яшы не абышлося. Назаўтра Тарабанаў Алёша, убачыўшы Яшу, зароў на ўсё горла:

Жаніх і нявеста
Паелі ўсё цеста...

Алёша пеў гэтую песню, скачучы на адной назе і крыўляючыся, а разам з ім, нібы па камандзе, скакалі і лямантавалі на ўсю вуліцу шасцёра Алёшавых братоў і сясцёр — Адам, Ходзя, Лёдзя, Дуся, Косцік і Пятрусь. Усе Тарабаны былі рудыя, крыклівыя і ніколі нічога не саромеліся. Паміж сабой яны жылі не вельмі дружна. Яша ведаў, што Тарабаны хаваюць адзін ад аднаго памідоры і грушы-гнілкі. У кожнага

ёсць свая патайная хованка. Толькі самыя меншыя, Косцік і Пятрусь, не навучыліся хаваць свайго багацця, бо яшчэ зусім не ўмелі хітрыць.

Тарабаны паміж сабой не ладзілі, але гэта не шкодзіла ім дружна і з'яднана нападаць на чужых. На ўсёй вуліцы яшчэ не было такога смелага, які б пачаў вайну з Тарабанамі. Няхай бы ён паспрабаваў!..

Алёша часта крыўдзіў Яшу, але Яша ўсё роўна штодня ішоў да Тарабанаў. У іх вялікай, нібы гумно, хаце вечна стаяў лямант, але затое было і весела. Тут заўсёды адзін плакаў, другі смяяўся, слёзы жылі ў цеснай, неадлучнай дружбе з радасцю.

Калі Яша яшчэ не хадзіў у школу, ён нават плаціў Тарабанам падатак. Алёша, які ўжо вучыўся і ведаў літары, выпісваў на Яшу абкладныя лісты, устанаўліваючы памер падатку за тыдзень наперад. Штодня трэба было прынесці грэцкі блін, жменю сушаных яблыкаў або якіх-небудзь іншых прысмакаў. Без гэтага пачастунку Алёша ў сваю кампанію Яшу не прымаў, і гуляць з хлопцам ніхто не адважваўся. За гэта Яша і не любіў Алёшу.

Але яшчэ болей не любіў ён Алёшавага бацьку. Стары Тарабан быў заўсёды злосны, насуплены, на людзей пазіраў спадылба і, здаецца, ніколі не смяяўся.

Яша памятае, як разбіралі і звозілі іхняе старое гумно пасля таго, як бацька падаў заяву ў калгас. Тады Тарабан першы прыляцеў на іхні двор і, ні ў кога ні слова не спытаўшы, адразу палез на дах гумна, на якім расла высокая зялёная канапліна. Яша не шкадаваў старога гумна — у ім нават летам было холадна і сыра. Шкада было ластавак. У гэтую вясну якраз пад самым вільчыкам у гумне зляпілі сабе гнёзды аж дзве ластаўчыныя сям'і. Яша ахоўваў ластавак. Ён заўсёды зганяў з гумна вялікага чорнага ката Кузьму, які хадзіў па страсе і прынюхваўся. Кузьма быў вялікім спецыялістам па знішчэнню ластаўчыных гнёздаў. Дабрацца знутры пад самы вільчык ён не мог. Таму Кузьма ўзбіраўся на гумно, вынюхваў зверху, дзе знаходзіцца гняздо, і пачынаў лапамі разграбаць трухлявую салому.

Яша даўно ведаў хітрыкі Кузьмы, і таму ластавак у крыўду не даваў. У двух гнёздах ужо вывеліся маленькія птушаняты. Яны весела шчабяталі і ўсе адразу раскрывалі свае жоўтыя дзюбы, як толькі да гнязда падляталі дарослыя ластаўкі.

Можна ж было пачакаць і не разбіраць гумна да таго часу, пакуль не падрастуць у гнёздах птушаняты. Але Тарабан нават не паглядзеў на ластавак, якія, трывожачыся за сваіх дзяцей, насіліся над самай яго галавой. Ён са злосцю раскідаў старое гумно. Маленькія ластавачкі загінулі ўсе, а Яша цэлы той дзень праплакаў.

Вечарам ён пайшоў да Тарабанаў. На свае ўласныя вочы Яша бачыў, як прыцемкам стары Тарабан завярнуў у свой двор воз з самымі лепшымі бярвеннямі і дошкамі з іхняга гумна. Гэтыя дошкі і бярвенні ён схаваў у сваім хляве пад саломай.

Тарабаны ледзь не штодня крыўдзілі Яшу. Але ён дзень пры дні хадзіў да іх і нават не ўяўляў сабе, што калі-небудзь парвецца гэтая яго няроўная дружба з рудым Алёшам. Без дазволу Тарабана з ім не сталі б гуляць ні Змітрок Калашкан, ні Алесь Бахілка, якія жылі зусім блізка ад Яшы. Яны заўсёды хадзілі ўслед за Алёшам, ва ўсім яму падтаквалі і гатовы былі дзеля яго есці зямлю. Без дружбы з рудым Алёшам нельга было купацца ў Цітавай копанцы, дастаць смачнай вішнёвай смалы з Салвэсевага саду, пагуляць у «яловага» або «кругавога».

Алёша, дзякуючы сваёй сіле і спрыту, быў завадатарам на вуліцы, усімі камандаваў, і ніхто, вядома, не мог адабраць ад яго гэтай улады. Сіла рудога Алёшы яшчэ болей узрасла з таго часу, як яго бацька пакінуў калгас і стаў загадваць самай вялікай крамай на сяле.

## II

Пачаліся першыя ў Яшавым жыцці канікулы. Вучняў адпусцілі да самай восені. Яша перайшоў у другі клас і цяпер трошкі звысоку паглядаў на тых, хто толькі збіраўся ў школу. За добрую вучобу хлопца ўзнагародзілі кнігай «Містар Твістэр». Гэта была цудоўная кніга, і Яша ёю вельмі ганарыўся. Такія кнігі ў іхнім класе далі толькі дваім: яму і Лізе.

Яшу вельмі хацелася паказаць каму-небудзь школьны падарунак. Хваліцца кнігай рудому Алёшу ён не асмельваўся. Сам Алёша вучыўся не дужа добра і, вядома, не мог ухваліць Яшавай прэміі. Ён яшчэ мог і парваць кнігу.

Яша пайшоў з кнігай да дзеда Атрахіма. Дзед жыў цераз вуліцу, насупраць іхняга двара. У калгас ён не ўступіў і лічыўся аднаасобнікам.

— Паедзем, унучак, сеяць грэчку,— сказаў дзед.— Я забараную, а ты пасля папасвіш каня на поплаве.

Яша ахвотна згадзіўся. Наконт дзедавага каня ў яго былі свае планы. Яшу хацелася праскакаць верхам на кані па вуліцы, каб яго ўбачыла настаўніца Марыя Рыгораўна ці Ліза. Пра гэта хлопец марыў усю зіму. Ён уяўляў сабе, як здзівяцца Ліза і настаўніца, калі ўбачаць, што Яша, ані не баючыся, імчыцца, як вецер, на кані.

Яшавай прэміі дзед Атрахім ніколькі не ўзрадаваўся. Ён узяў кнігу, пакруціў яе ў руках і, аддаючы Яшу, падазрона спытаў:

— Ты, можа, у гэтыя канцамолы запісаўся? Можа, начэпіш на шыю чырвоную хустку і будзеш гарланіць, што Бога няма? А то завошта табе далі б гэтую кнігу?..

Дзед сам чытаць не ўмеў, і Яша яго лёгка супакоіў, што кніга не бязбожная.

— Я добра вучыўся, і мне далі кнігу як падарунак,— сказаў ён.

— Якое цяпер вучэнне,— сумна ківаючы галавой, прамовіў дзед Атрахім.— Чаму вас цяпер вучаць? Бацькоў не слухацца, Бога не паважаць. Свет цяпер такі пайшоў...

Дзед Атрахім не прызнаваў новых парадкаў. Асабліва крыўдаваў дзед за Бога. Ён не мог пагадзіцца з тым, што Яшу вучаць не хадзіць у царкву і не верыць папу.

— Не слухай, унучак, гэтых супастатаў,— гаварыў дзед,— без Бога ў душы чалавек як быдла. Ён тады нічога не баіцца і не шануе.

Перад Вялікаднем дзед вадзіў Яшу на споведзь. У царкве было многа людзей, яны спявалі, плакалі, станавіліся на калені. Дзед падвёў Яшу да папа. Поп накрыў Яшаву галаву бліскучай хусткай.

— Грэшан,— адказаў Яша, як навучыў яго дзед, і пацалаваў крыж.

Пасля гэтага поп даў яму лыжачку салодкага прычасця.

— Дай яшчэ,— папрасіў Яша, але дзед спалохана пацягнуў яго за крысо.

Яшава споведзь не абышлася без вынікаў. У царкве ў тую ноч была дзяўчынка, якая вучылася разам з Яшам. Яна таксама спавядалася, але гэта не перашкодзіла ёй расказаць пра ўсё настаўніцы Марыі Рыгораўне. Назаўтра на школьнай лінейцы назвалі Яшава прозвішча. Ён выйшаў на тры крокі наперад з шарэнгі, што выстраілася ў доўгім школьным калідоры.

— Ён цалаваўся з папом,— паказваючы пальцам на Яшу, грымеў на ўвесь калідор дзяжурны, вучань сёмага класа.— Ён забыў, што рэлігія — опіум народа...

Уся школа глядзела на Яшу, і яму было вельмі сорамна. Ён тады ледзь не заплакаў.

Яша пасля гэтага, можа б, і не хадзіў да дзеда Атрахіма, але дзед умеў прыгожа расказваць казкі і іграў на скрыпцы. Ён заўсёды частаваў Яшу чым-небудзь смачным. І яшчэ ў дзеда было шмат мікалаеўскіх і керанскіх грошай.

— За гэта можна было, унучак, купіць цэлую хату,— скардзіўся дзед, даючы Яшу прыгожую паперку, якая некалі значыла цэлых сто рублёў.

— Дык чаму ж вы, дзеду, не купілі?

— А хто ж яго, унучак, ведаў, што настане гэтакі час.

Яша дзівіўся. Дзедава хата была старая, складзеная з патачаных шашалем асінавых бярвенняў. Калі дзед на свае грошы мог купіць добрую хату, то чаму ж ён не купіў?..

Дзед не шкадаваў хлопцу розных пачастункаў, але Яшава маці яго не вельмі хваліла.

— Скнара стары,— гаварыла яна.— З-пад сябе падабраў бы. Я ў голад прадала ўвесь свой пасаг, а ён пуда бульбы не пазычыў. І каб не было. Няма ў яго Бога ў душы...

Пра Бога гаварылі і дзед, і маці, але па-рознаму. Выходзіла, што ў кожнага ёсць свой уласны бог. Дзедаў бог быў грозны, ён быў супроць калгаса, камсамольцаў, новых парадкаў. Бог, якога звала ў сведкі маці, павінен быў пакараць дзеда за яго скупасць, за тое, што ён не спачувае людзям. Ва ўсім гэтым

было цяжка разабрацца. Дзед часта расказваў Яшу пра Страшны Суд, які настане вельмі хутка. На гэтым судзе Бог спытае кожнага, хто як жыў, як шанаваў Бога.

Яша аднойчы пацікавіўся:

— А ты, дзед, баішся Страшнага Суда?

— Усе мы грэшныя, унучак...

— А чаму ты не даў бульбы, як у нас не было? Бог жа пра гэта ведае.

Дзед зазлаваў і спыніў гаворку. Пра свае грахі ён гаварыў менш ахвотна, чым пра чужыя.

Сёння Яша не хацеў спрачацца з дзедам з-за Бога. Яго цікавіў конь. На дзедавым буланчыку хлопец не раз імчаў наўскач так, што аж дух займала. Але гэта было яшчэ тады, калі Яша не хадзіў у школу. Цяпер Яша жадаў прамчацца на кані, як Чапаеў, каб аж пыл курэў з-пад конскіх капытоў.

Пасля таго як дзед забаранаваў загончык пад грэчку, Яша павёў пасвіць буланага. Конь быў рахманы і лёгка даваўся ў рукі. Хлопец ірваў траву, і конь ахвотна выбіраў яе цёплымі губамі з Яшавых рук. Буланы пасвіўся да абеду. А ў абед Яша на ўсім скаку праляцеў па вуліцы Першамайцы, дзе жылі Ліза і настаўніца Марыя Рыгораўна. Але яны не бачылі Яшы. На вуліцы ў гэты час не было нікога, хто б мог пазайздросціць хлопцу. Дзень прайшоў наогул не так, як хацелася Яшу.

Пад вечар ён пайшоў да Тарабанаў. Шырокі, як майдан, выган, які пачынаўся ад Алёшавага двара, шумеў, нібы цыганскі кірмаш. Усе хлопцы былі ў зборы. Ладзілася нешта цікавае. Яшу вуліца сустрэла насцярожана.

— Выдатнік,— з’едліва прамовіў Алёша і зняважліва цыркнуў слінай праз зубы.— Цэлы год да настаўніцы падлізваўся.

— Я не падлізваўся,— апраўдваўся Яша.— У мяне проста добрыя адзнакі.

— Не загаворвай зубы, ведаем мы такіх. За што ж табе прэмію далі?

Усе цягнуліся за рудым Алёшам, і гаварыць тут што-небудзь у сваю абарону было проста бескарысна.

Гаворка спынілася. Відаць, хлопцы надумалі нейкую справу і не адважваліся пачынаць яе пры Яшу.

— Добра, мы цябе праверым,— сказаў нарэшце Алёша.— Збегай дадому і прынясі хлеба. Будзеш забаўляць Салвэсевага Рудзьку. А мы палезем у сад па смалу.

Яша ахвотна згадзіўся. З Рудзькам ён дружыў, і не было нічога цяжкага забаўляць яго хоць цэлую гадзіну, пакуль хлопцы ў Салвэсевым садзе будуць абдзіраць вішнёвую смалу.

— Глядзі ж, пільнуй сабаку! — строга наказаў Тарабан.— Калі хоць раз гаўкне, то будзеш ведаць...

Яша паклікаў з Салвэсевага двара Рудзьку і пачаў яго забаўляць на выгане. Рудзька быў добры сабака, і Яшу ён разумеў. За дружбу ён плаціў шчырай сабачай дружбай. Рудзька клаўся на спіну, потым падскакваў, стараючыся дастаць сваім чырвоным языком Яшаў нос. Ён абавязкова хацеў аддзякаваць за небагаты пачастунак. Яшу было трошкі ніякавата перад Рудзькам за тое, што ён яго ашуквае. Сабака ж не ведаў, што хлопцы ў гэты час абдзіраюць вішнёвую смалу ў садзе Рудзькавага гаспадара.

Нарэшце хлопцы вярнуліся. Яны са смакам жавалі смалу. Яша чакаў, што з ім падзеляцца. Але руды Алёша прайшоў міма Яшы, нават не глянуўшы на яго. Алесь Бахілка адшчыкнуў ад свайго кавалка нейкую крошку і даў Яшу. Яму, відаць, зрабілася сорамна, і, азірнуўшыся, ці не бачыць Алёша, Бахілка адарваў яшчэ крыху ад свайго камяка. Толькі Змітрок Калашкан не пашкадаваў вішнёвай смалы для Яшы. Ён падзяліў свой кавалак ледзь не папалам. У Калашкана не было ні бацькі, ні маці, жыў ён у бабулі і ніколі не скупіўся. Зімой у школе Змітраку далі паліто, кашулю і штаны. Паліто было яшчэ цэлае, а штаны і кашуля зусім парваныя.

Вечарам лавілі майскіх жукоў. Іх лятала вельмі шмат, і яны былі зусім дурныя, бо самі даваліся ў рукі. Іх можна было лёгка лавіць шапкай, збіваць палкай з разгалістай вярбы, на лістах якой іх вісела процьма. Яша ведаў, што жукі шкодныя, бо яны аб’ядаюць лісце. Але ён іх усё ж шкадаваў і паціхеньку выпускаў. Трэба ж і жукам нешта есці, раз яны жывыя. Руды Алёша злоўленых жукоў не пускаў. Ён адрываў ім крыльцы і бяскрылых заносіў на свой двор.

— Без крылаў не паляцяць,— тлумачыў ён хлопцам.— А заўтра іх куры падзяўбуць. Наядуцца жукоў і будуць часцей

несціся. У нас ёсць курыца, якая ўжо нясецца тры разы ў дзень...

Хлопцы не здзіўляліся. У Тарабанаў, вядома, магла быць такая курыца. У іх жа вялікая сям'я, то трэба, каб і куры часцей несліся.

— У майго дзядзькі свіння прывяла сорак парасят,— пахваліўся Алесь Бахілка.— Мы возьмем сабе адно парасятка на развод...

— Ёсць такія свінні,— згадзіўся Алёша.— Я бачыў свінню, якую запрагалі ў воз. І яна цягнула лепей за каня...

Хлопцы паселі на выгане ў кружок і па чарзе расказвалі дзіўныя гісторыі. Над зямлёй плыла цёплая ноч, бясшумна лcraталі ў паветры чорныя кажаны, на балоце, ля Цітавай копанкі, завялі сваю шматгалосую песню жабы. Хлопцам было прыемна і хораша.

— На свіннях можна ездзіць,— падтрымаў Алёшу Змітрок Калашкан.— Я на Салвэсевай рабой свінні да самай чыгункі імчаўся. А мой дзед на ваўку з лесу прыехаў...

— Воўк жа мог яго з'есці,— здзівіўся Бахілка.

— Вось дурань,— цыкнуў на Алеся руды Алёша.— Ты слухай...

— Мой дзед пайшоў у лес па грыбы,— расказваў Калашкан.— Набраў поўны кошык ды ідзе сабе дамоў. А па дарозе воўк. Бяжыць проста на дзеда. Дзед не спалохаўся і хап ваўка за зяпу, каб не ўкусіў. Ну, а пасля сеў на яго верхам, узяў за вушы і прыехаў, як на кані, у самы двор.

— А тады што? — не вытрымаў Яша.

— Калі тады?

— Ну, як у двор прыехаў...

— Тады ваўка забілі, а шкуру злупілі. Дзед цэлы год боты з яе шыў. Сабе пашыў, бабулі, мне...

Ніхто ніколі не бачыў на Калашкане ботаў, але ўсе хацелі яму верыць. Вельмі ўжо цікавая гісторыя здарылася з яго дзедам. Таму ніхто не пярэчыў віхрастаму Змітраку, які да самай позняй восені мясіў гразь чырвонымі ад холаду босымі нагамі.

Яшу да смерці хацелася здзівіць хлопцаў чым-небудзь цікавым. Але нічога дзіўнага ён не мог успомніць. Усё, што расказвалі бацька і дзед, было звычайным і нецікавым, яно

нікольні не магло захапіць хлопцаў. Нарэшце Яша ўспомніў. Некалі дзед Атрахім расказваў пра царкву, якая затанула на іхнім балоце — Гарадзінцы. Хлопец не мог дачакацца, пакуль руды Алёша закончыць новую гісторыю пра льва, які ўцёк са звярынца і якога нібыта на ўласныя вочы бачыў сам Тарабан. Леў напавал нішчыў жывёлу і людзей, але, сустрэўшыся з рудым Алёшам, у якога дарэчы аказалася ў руках сякера, спалохаўся і ўцёк.

— А мне дзед расказваў пра нешта, чаго ніхто не ведае,— з хваляваннем пачаў Яша.

— Ну, давай,— дазволіў Алёша.

Усе прыціхлі, чакаючы пачуць цікавую навіну.

— На Гарадзінцы, дзе цяпер гара Багародзіцкая, стаяла некалі царква,— гаварыў Яша.— Туды ўсе хадзілі маліцца. Па балоце да царквы ляжала адна толькі вузенькая кладка. Адзін раз на Вялікдзень па кладцы ішла жанчына з малым дзіцем. Яна выпусціла дзіця з рук, і яно затанула ў багне. Тады жанчына пракляла царкву, і Маці Багародзіца пачула яе праклён. Яна апусціла царкву ў балота. А на тым месцы вырасла гара Багародзіцкая...

Хлопцы насцярожана змоўклі. Вясной, калі збіралі яйкі качак і кнігавак, кожны сядзеў і сушыўся на гэтай самай пясчанай гары Багародзіцкай, якая невядома чаму вырасла сярод балота. Але ніхто, відаць, не чуў пра гісторыю з царквой.

— Мой дзед і цяпер на Вялікдзень ходзіць на гэтую гару,— хвалюючыся, працягваў Яша.— Прыкладзе вуха да зямлі і слухае. У царкве, якая затанула, на Вялікдзень заўсёды моляцца і звоняць у званы. Дзед сам чуў...

Надыходзіла ноч. Вуліца спала. Чыстае летняе неба было засеяна безліччу зорак. Недзе ў самым цэнтры сяла спявалі пад гармонік свае частушкі камсамольцы.

— Брахня,— парушыў нарэшце цішыню руды Алёша.— Твой дзед проста брэша...

— А што ж ядуць тыя багамольцы, што спяваюць пад зямлёй? — спытаў Змітрок Калашкан.— Не пад'еўшы ж — не паспяваеш?

— Калі царква затанула, то ў ёй жа поўна вады,— выказаў сумненне Алесь Бахілка.— Дзе ж тады спяць тыя святыя?

На гэтыя рубам пастаўленыя пытанні Яша адказаць не мог. Яму стала сорамна і крыўдна, што яго гісторыя аказалася самай горшай.

— Я спытаю ў дзеда,— паабяцаў хлопец.— Ён ведае...

— Дурань твой дзед,— адрэзаў руды Алёша.— А ты яго слухаеш. Пайшлі дахаты...

## III

Яшу не пашанцавала не толькі на імя. Не пашанцавала яму і на бацьку. Бацька рудога Алёшы працаваў у самай вялікай краме. Ім можна было ганарыцца. Ён мог зрабіць усё, што захоча.

— На той год бацька дасць мне стрэльбу,— хваліўся Тарабан.— Буду хадзіць на ваўкоў, мядзведзяў, ласёў. А што, за шкуру добра плоцяць, а мяса будзем саліць...

Хлопцы падтаквалі і зайздросцілі Алёшу. Хто б адмовіўся ад стрэльбы, з якою не страшна і ноччу пайсці ў лес! У тым, што Тарабан настраляе колькі хочаш рознай зверыны, не сумняваўся ніхто. Яго бясстрашша, сілу і спрыт ведалі ўсе.

У Змітрака Калашкана бацька загінуў недзе аж на Белым моры. Ён завербаваўся туды біць цюленяў і маржоў, але там захварэў і памёр. Праўда, Змітрок расказваў пра смерць бацькі зусім не так, як суседзі і сваякі. Аказваецца, Калашканаў бацька зусім не памёр, яго разам з караблём, на якім ён плаваў капітанам, праглынуў велізарны кіт. Бацька выбіў кіту з гарматы адно вока, але болей нічога не паспеў зрабіць. Калашкан шчыра ганарыўся сваім бацькам, і Яша ў душы зайздросціў яму.

Алесь Бахілка таксама штодня выхваляўся бацькам. Яго курносы з буйнымі вяснушкамі твар проста аж свяціўся ад задавальнення, калі ён расказваў пра бацькаў подзвіг. Стары Бахілка ездзіў кандуктарам, і Алесь заўсёды даводзіў, што гэта самая вялікая пасада на чыгунцы. Без Алесевага бацькі не мог адправіцца ніводзін поезд, і без яго дазволу ніхто не мог сесці ў вагон. Бахілкаў бацька стаяў, праўда, на тормазе апошняга таварнага вагона, але хлопцы ўсё адно былі перакананы, што без яго чыгунка не змагла б працаваць. Руды Алёша даўно

ўжо атрымаў дазвол ад Алеся, што пры першай патрэбе стары Бахілка завязе яго без білета аж у самую Маскву.

Але самы гераічны бацька аказаўся ў Аркадзя Панядзелка. Стары Панядзелак, даглядчык чыгуначнай лазні, быў нізенькі, згорблены, і ніхто, вядома, Аркадзю спачатку не зайздросціў. Аркадзева слава пачала расці з таго часу, як настаўніца Марыя Рыгораўна выклікала яго бацьку ў школу. Аркадзь разбіў школьную вітрыну, і Марыя Рыгораўна загадала яму прыйсці з бацькам. Вось тады і высветлілася, што Аркадзеў бацька лавіў бандытаў, а самага галоўнага іх атамана запёр у лазні, калі той парыўся. Бацька пры ўсіх сароміў Аркадзя і нават хацеў перацягнуць яго папругай, але настаўніца не дала. З таго часу хлопцы пачалі адносіцца да Панядзелка па-другому. Яго дружбы дамагаліся ўсе. Аркадзь жыў на чыгуначным пасёлку, і яго па чарзе звалі да сябе ў госці хлопцы і з Першамайкі, і са Слабодкі — дзвюх вуліц, якія падзяляліся чыгункай і невялікай сенажаццю.

Яша не мог пахваліцца ні сваім бацькам, ні дзедам. Бацька ўступіў у калгас, вазіў гной і араў поле. З белымі ён не ваяваў, нават у войску не служыў, і расказаць пра яго што-небудзь цікавае было цяжка. Тое самае і дзед. Ён, праўда, іграў на скрыпцы, і яго запрашалі на вяселлі. Але хлопцы не бралі гэтага пад увагу. Яша аднойчы нават папракнуў бацьку за тое, што ён нідзе не ваяваў.

— Бач, галадранец, чаго захацеў! — засмяяўся бацька.— Дзякуй богу, што ясі хлеб на поўны рот. Без бацькі бryндаў бы, як той Калашканаў вісус...

Бацька не хацеў разумець Яшу, і з ім цяжка было гаварыць...

Канікулы наогул праходзілі цікава. Аднойчы, пасля таго як на станцыю прывезлі малатарні і жняяркі для калгаса, у галаве рудога Алёшы нарадзіўся цікавы план. Ён надумаўся сканструяваць уласны трактар. Для гэтага трэба было шмат розных кольцаў, шрубак, болцікаў. Хлопцы прыцемкам хадзілі на станцыю і наадкручвалі ад малатарань усялякага дабра. Але скласці з гэтых частак трактар усё ж не ўдалося. Меншыя Тарабаны пакралі вельмі многа важных дэталей і, нягледзячы на суровы допыт, які ім учыніў Алёша, нізавошта не хацелі

расставацца з кольцамі і болцікамі. Прыйшлося пабудову трактара часова адкласці. Тым болей што надышлі больш важныя падзеі, якія цалкам захапілі ўсіх хлопцаў. Пачалася вайна з Першамайкай...

Першая бойка выбухнула за Цітаву копанку. Гэтая копанка знаходзілася якраз пасярэдзіне паміж Слабодкай, на якой жыў Яша, Тарабаны, Змітрок Калашкан, Алесь Бахілка, і вуліцай Першамайкай, дзе згрупавалася варожае войска на чале з белагаловым Косцем. Копанка не дужа вялікая, і калі з раніцы прыходзіла купацца Слабодка, то Першамайка ўжо да самага вечара не магла сюды паткнуцца. Іншы раз слабадскія хлопцы вылазілі з вады ў абед, але Першамайка мала радавалася гэтаму. Вада ў копанцы была ўскаламучаная, чорная, брудная.

Да таго, як пачалася гэтая вайна, Слабодка з Першамайкай проста гулялі паміж сабой у чырвоных і белых, а таксама ў Чапаева і бацьку Махно. Яша тры разы быў у чырвоных і толькі адзін раз у белых. Але з таго часу, як хлопцы з абедзвюх вуліц селі за парты, яны паразумнелі. Цяпер ужо ні Слабодка, ні Першамайка ні за якія абяцанкі не пайшлі б у бой пад сцягамі белай арміі або бацькі Махно. Але па-ранейшаму хацелася нечага вялікага, гераічнага. Хіба ж можна адмовіцца ад подзвігу, ад вайны за праўду, калі табе дзесяць, а то і цэлых дванаццаць гадоў?..

У тую ціхую летнюю раніцу, калі Слабодка прыбегла да копанкі, у вадзе ўжо плюхаліся першамайскія хлопцы.

Дзень пачаўся няўдала. Для купання ён загінуў. А дзень быў цёплы, сонечны, крыўдна ў такі дзень не пакупацца.

Тарабанаў Алёша хадзіў па беразе копанкі злосны і нахмураны. А баязлівыя хлопцы з Першамайкі нібы яго і не заўважалі. Яны плюхаліся ў вадзе, рагаталі і пішчалі. Першамайцы вялі сябе проста нахабна.

— Гэй, сіняпупыя, вылазь з вады! — закамандаваў Тарабан.— Я лічу да дзесяці...

— Ты палічы да тысячы,— адказаў белагаловы Косця Кветка.— Камандзір знайшоўся. Хочаш купацца, дык лезь.

Яша, які прысутнічаў пры гэтай размове, замёр ад нечаканасці. Яшчэ ніхто і ніколі не размаўляў так з іхнім Алёшам. Яша трохі ведаў Косцю — ён перайшоў у трэці клас, але ніякім сілачом не лічыўся.

Алёша, мабыць, і сам не чакаў такога адпору. У першую хвіліну ён не знайшоўся, што адказаць.

Слабодка пазірала на свайго камандзіра, чакаючы толькі яго загаду.

— Я з табой пагавару, вылезь толькі з вады,— паабяцаў Алёша.— Ты ў мяне паскачаш...

На словы Алёшы Першамайка адказала дружным рогатам.

— Мы яшчэ пакупаемся, а ты пачакай трохі! — закрычаў з вады той самы белагаловы Косця.— Пагрэйся на сонцы.

Такой абразы сцярпець ужо нельга было. Алёша схапіў грудку зямлі і шпурнуў у белую галаву Косці. За ім, як па камандзе, кінуліся ў бой усе слабадскія хлопцы. Яша таксама раз-пораз кідаў у ваду, дзе плавалі першамайцы, грудкамі, аддаўшыся ўсім сэрцам нечакана ўзнікшаму баявому запалу.

Але Першамайка недарма артачылася. Праз якую-небудзь хвіліну тыя, што купаліся, самі перайшлі ў наступленне. Ды і пазіцыя была ў іх лепшая. На дне копанкі аказалася болей усялякага дабра, чым на беразе. У слабадскіх хлопцаў паляцелі палкі, кавалкі зляжалага глею, усялякі друз. Змітрака Калашкана першамайцы за нагу зацягнулі ў копанку, і ён боўтаўся там у адзенні. Бахілка лямантаваў, бо нехта пацэліў яму дручком па рэбрах. Самому Алёшу кавалкам гліны заляпілі ўвесь твар. Першамайка так насядала, што прыйшлося адступіць. Першамайцы выскачылі з копанкі і голыя гналіся за слабадскімі хлопцамі.

## IV

Гэта была нечуваная ганьба. Яшчэ ніколі Слабодка не адступала перад баязлівай, недарослай Першамайкай. Відаць, нешта з гэтымі першамайскімі хлопцамі здарылася. Адкуль раптам у іх з'явіліся такі спрыт і адвага?

Але лішне разважаць не прыходзілася. Трэба было шукаць нейкага паратунку, каб змыць ганьбу, што павісла над Слабадской вуліцай. Яшчэ, здаецца, ніколі Яша не глядзеў з такой надзеяй на рудога Алёшу. Алёша павінен быў знайсці выхад з гэтага надзвычай цяжкага становішча.

Увесь той дзень, стаіўшыся пад Тарабанавай павеццю, хлопцы думалі. Была выслана разведка, якая далажыла, што

першамайцы не купаюцца болей у копанцы. Але гэтая вестка не прынесла палёгкі. У той дзень не хадзілі абдзіраць вішнёвую смалу ў Салвэсеў сад, не насілі здаваць бутэлькі ў краму Алёшавага бацькі, забыліся на ўсе прыгажосці жыцця, якія лета дае проста дарма.

— Трэба ім усыпаць! — нарэшце рашуча прамовіў Алёша.

Слабодка з палёгкай уздыхнула. Так думалі ўсе, і Алёшавы словы паддалі хлопцам адвагі.

— Трэба ім даць, каб яны помнілі і ніколі да нас не чапляліся,— гаварыў далей Тарабан.— Няхай ведаюць, што яны ўсе нулі без палачак. Я яшчэ пакажу гэтаму Косцю.

Хлопцы крычалі, спрачаліся наконт планаў помсты. Але ў кожнага, ды, мабыць, і ў самога Алёшы, быў у душы прытоены страх перад Першамайкай. Гэтыя ж «нулі без палачак» гналі іх сёння ад копанкі аж да самых агародаў.

У той дзень нічога не прыдумалі. Алёша распусціў хлопцаў па хатах, загадаўшы з'явіцца назаўтра раніцай. Алёша над нечым думаў.

Ноччу Яша не спаў. Яму мроіўся іхні смелы заўтрашні налёт на копанку, уцёкі першамайскіх хлопцаў, сапраўдная перамога. Назаўтра Яша, нават як след не паснедаўшы, прыбег пад Тарабанаву павець. Хлопцы былі ўжо ў зборы. Алёша прыйшоў заклапочаны і сур'ёзны. Ён нешта прыдумаў — гэта бачылі ўсе.

— Нам трэба армію стварыць,— заявіў Алёша.— Толькі не на гульню, як раней — адны чырвоныя, другія белыя. Трэба армія нашай вуліцы. У нас будзе цяпер сапраўдная вайна...

Вядома, ніхто не мог прыдумаць лепей за Тарабана Алёшу. Думка пра армію спадабалася ўсім. Тады Алёша выняў з кішэні лісток паперы і прачытаў прысягу, якую ён сам склаў за ноч. Гэтую прысягу трэба было падпісаць уласнай крывёю. Тут жа пад Тарабанавай павеццю кожны пракалоў Алёшавым пяром руку і паставіў сваё прозвішча пад прысягай...

Алёша прызначыў камандзіраў. Камандзірамі палкоў былі пастаўлены Змітрок Калашкан і Алесь Бахілка. Сам Алёша захаваў за сабой пост галоўнага камандуючага. Яша ніякага чына не атрымаў, ён застаўся звычайным байцом. Такіх, як ён, была большая палавіна.

З гэтай раніцы пачалася старанная падрыхтоўка да наступлення на Першамайку. У якасці будучага тэатра ваенных дзеянняў намячалася, вядома, Цітава копанка. Гэта была справа гонару — разбіць першамайскіх хлопцаў каля копанкі, адплаціць ім за ўчарашнюю ганьбу. Цэлы дзень армія рабіла рагаткі.

Разведка, між тым, даносіла, што каля копанкі першамайскія хлопцы болей не паказваюцца. Гэта трохі знізіла баявы настрой слабадскога войска. Нікому не хацелася проста так, без перамогі, ісці купацца ў Цітаву копанку. Тады Алёша прапанаваў новы план. У выкананні яго галоўную ролю павінен быў адыграць Яша. Алёша загадаў яму ісці на Першамайскую вуліцу і пранюхаць, што там робіцца.

— Цябе яны, можа, і не зачэпяць,— заспакоіў Яшу Тарабан.— А калі будуць біць і распытваць пра нас, то нічога ім не кажы. Зразумеў?

Яша, вядома, разумеў, што яго становішча можа быць нялёгкім. Але ў душы ён радаваўся даручэнню. Яму здавалася, што нездарма Алёша прызначыў у разведку іменна яго. Калі гулялі ў «кругавога», Яша лепей за ўсіх хлопцаў умеў адгадваць, у каго схаваны мяч. Шкада толькі, што раней Алёша не заўважаў гэтага і ніколі не прызначаў Яшу нападаючым.

План разведкі ў Яшы склаўся адразу. На Першамайцы жыла яго цётка, і калі яго сустрэнуць першамайскія хлопцы, ён скажа, што ідзе да яе. Калі ж яны не паверадь і пачнуць яго біць, ён можа давесці іх да самага цётчынага двара.

Яша пайшоў. Ён не ўзяў з сабой ні рагаткі, ні нават палкі. Нікога з хлопцаў на Першамайскай вуліцы ён не сустрэў. Сонца хілілася ўжо к захаду, злосныя сабакі, якія былі тут амаль у кожным двары, з незахаваным падазрэннем праводзілі Яшу. Хлопец прайшоў ужо ўсю Першамайку з канца ў канец і нічога пакуль што не выявіў. Але з пустымі рукамі вяртацца назад не выпадала. Пра сваю цётку Яша забыў, трэба было дазнацца, што робіць гэты самы белагаловы Косця.

— Яша, чаго ты тут ходзіш?

Хлопец здрыгануўся ўсім целам, але адразу ўзяў сябе ў рукі. Яму нічога не пагражала, бо гэта аклікнула яго Ліза. Яна была ў белай сукенцы і стаяла каля сваіх веснічак. З таго часу, як іх адпусцілі на канікулы, Яша не бачыў Лізы.

Прыйшлося да яе падысці. Ліза адразу засыпала яго пытаннямі і павяла ў свой двор. Адмовіцца нельга было ніяк. У школе Ліза ніколі не закрывала рукой сваёй чарніліцы ад Яшы і наогул ставілася да яго прыхільна. А аднойчы, калі ён яе за нешта штурхануў, яна заплакала, але Марыі Рыгораўне не паскардзілася.

Ліза вынесла з хаты кніжку і пасадзіла Яшу побач з сабой на ганку. Гэта была цікавая кніжка, і называлася яна «Рабяты і звераняты». Дома ў Яшы, акрамя чытанкі для другога класа, якую ён адразу прачытаў, як толькі купіў, і «Містара Твістэра», ніякіх кніжак болей не было. Яша прагна гартаў кніжку, забыўшыся ў гэты час на тое, што ён сядзіць побач з Лізай і што сам руды Алёша паслаў яго ў разведку. За гэтым заняткам застала хлопца Лізіна маці.

— Мама, гэта той самы Яша,— адрэкамендавала Ліза свайго госця.

Яша пачырванеў да вушэй. Ён лічыў найвялікшай ганьбай сядзець побач з дзяўчынкай, і тое, што ёсць сведка гэтага яго відавочнага злачынства, кінула хлопца ледзь не ў роспач. Але гэта было яшчэ не апошняе выпрабаванне, якое ў гэты дзень выпала на Яшаву долю.

Лізіна маці пайшла ў хату і хутка паклікала туды Лізу разам з Яшам. Адмовіцца зноў было нельга. Ніколі ў жыцці Яша не адчуваў сябе гэтак няёмка, як у тую хвіліну, калі ён сваімі чорнымі, парэпанымі нагамі ступіў на фарбаваную падлогу Лізінай кватэры. Лепш бы паадсякаць гэтыя чорныя ногі... Лізіна маці паставіла перад Яшам асобную талерку з суніцамі, якія пасыпала цукрам і заліла малаком. Такой раскошы, каб есці суніцы з цукрам, Яша ў сваім жыцці не бачыў.

Пасля гэтага Ліза, нібы хлопец, іграла на гармоніку, а Яша, схаваўшы ногі пад стол, слухаў. Усё гэта было падобна на нейкі сон, і Яша ніяк не мог сабрацца з думкамі. На развітанне Ліза дала яму пачытаць гэтую самую кніжку пра рабят і зверанят.

Ужо на вуліцы Яша вярнуўся да сапраўднасці. Кніжку ён адразу схаваў за пазуху, бо яе маглі парваць або адабраць першамайскія хлопцы. Тут, на вуліцы, Яша ўспомніў і пра тое, што яму трэба выконваць свае абавязкі.

Яшава разведка ўсё ж закончылася з поспехам. Ён дазнаўся пра многае і прынёс рудому Алёшу цікавыя звесткі. Пасля Яшавай разведкі Слабодка яшчэ болей знелюбіла Першамайку, і на гэта былі свае важкія прычыны. Цяпер можна было ўжо здагадвацца, чаму Першамайка трымае сябе так фанабэрыста і непакорліва.

Яша дазнаўся, што белагаловы Косця прывабіў усіх першамайскіх хлопцаў валейболам. Валейбольны мяч і сетку прыслаў Косцю яго дзядзька з горада. Цяпер Першамайка цэлы дзень рэжацца ў валейбол. Першамайскія хлопцы разам ходзяць у лес, разам купаюцца, разам праводзяць амаль увесь свой час. Але гэта яшчэ не ўсё. Косця падбіў першамайскіх хлопцаў, і яны клеяць нейкія планёры. Гэтыя планёры нібыта будуць самі лятаць у паветры. Пра планёры Слабодка, між іншым, не паверыла. Руды Алёша аўтарытэтна заявіў, што ніякі планёр з фанеры ў паветры не ўтрымаецца, бо гэта ж табе не лёгкі папяровы змей... З такой думкай пагадзіліся ўсе.

Становішча складалася не вельмі добрае. Цяпер ужо кожны разумеў, што з рагатак можна пужаць вераб’ёў, а не першамайскіх хлопцаў. Раз у іх такая моцная дружба, то разбіць іх будзе нялёгка.

Зноў Слабодка з надзеяй паглядала на Тарабанавага Алёшу, які адзін мог падказаць правільнае рашэнне. Алёша ж думаў. Ён думаў на гэты раз не вельмі доўга.

— Вечарам палезем у Салвэсеў сад,— сказаў Алёша.— Нарвём яблыкаў. Яны ўжо вялікія. Але есці іх не будзем. Я сам палічу, хто колькі нарве...

Усе са здзіўленнем сустрэлі гэты загад галоўнакамандуючага. Налёт на Салвэсеў сад рабіўся не ўпершыню, але яшчэ ніколі Алёша не патрабаваў такога. Праўда, і раней для Алёшы хлопцы выцягвалі з-за пазухі па лепшаму яблыку, каб ён пакаштаваў. Але аддаць яму ўсе яблыкі — гэта было ўжо замнога нават для Алёшы. Хлопцы стаялі пахмурныя і з выклікам пазіралі на свайго важака...

— Я сказаў, не будзем есці яблыкаў — і ўсё! — раззлаваўся ад гэтых насцярожаных позіркаў Алёша.— Не бойцеся, сам я іх не паем. Пералічым...

Тарабан нешта прыдумаў. Гэта высветлілася пасля таго, як ён адклікаў убок камандзіраў палкоў Змітрака Калашкана і Алеся Бахілку і пачаў з імі раіцца. Камандзіры пасля Алёшавага таемнага шэпту весела зарагаталі. Было ясна, што рыхтуецца нешта цікавае, таму Яша разам з усімі ахвотна палез прыцемкам у Салвэсеў сад. І хоць ён ведаў, што яблыкаў пакаштаваць не прыйдзецца, налаташыў іх поўную пазуху.

Яблыкаў было многа. Алёша пералічыў, колькі нарваў кожны, а пасля дазволіў з'есці па тры яблыкі камандзірам і па два — радавым байцам. Яша з'еў два самыя маленькія яблычкі. Астатнія забраў Алёша.

## V

Назаўтра ўсё стала ясней яснага. Калі Яша прыйшоў на Тарабанаў двор, ён убачыў там Аркадзя Панядзелка і яшчэ некалькі хлопцаў, што жылі на станцыйным пасёлку. Яны елі Салвэсевы яблыкі, якімі іх шчодра частаваў Алёша. Тарабан дамаўляўся з Аркадзем Панядзелкам наконт сумеснага выступлення супраць Першамайкі. Умова была заключана. Аркадзь абяцаў выставіць восем чалавек. Гэта давала вялікую перавагу Слабодцы ў сіле. Цяпер можна было смела ісці вайной на непакорную Першамайку.

Праз два дні каля Цітавай копанкі разгарэўся бой. Бой гэты быў кароткі. Першамайка спачатку не здавалася. Яна заняла выгадныя пазіцыі і мужна абаранялася. У першамайскіх хлопцаў таксама аказаліся рагаткі, так што ніякай перавагі ў Слабодкі не было. Але Косця Кветка, які камандаваў варожым войскам, не ведаў, што лёс гэтай бітвы ўжо загадзя вырашан. Ён не ведаў, што з тылу, з боку балота, падкрадаюцца Аркадзь Панядзелак і яшчэ сем хлопцаў, якія сталі саюзнікамі Слабодкі. І калі станцыйныя хлопцы падняліся ў атаку з тылу, рады першамайцаў змяшаліся. Частка войска кінулася наўцёкі, а другая частка разам з Косцем Кветкам трапіла ў палон.

Яша ўпершыню адчуў вялікую радасць перамогі. У яго два разы пацэлілі грудкай, але яму ніколькі не балела. Ён ганарыўся, як і ўсе, што Першамайка разбіта і што яна цяпер і носа не паткне да Цітавай копанкі.

Захопленым палонным і самому камандзіру Косцю Кветку ўчынілі допыт. Дапытваў сам руды Алёша. Ён спраўляўся наконт таго, колькі жывой сілы і зброі ў варожым войску, якую ваенную падрыхтоўку яно прайшло. Косця Кветка маўчаў. Ён апусціў сваю белую галаву і не гаварыў ні слова. Яшка нават пашкадаваў тады гэтага самага Косцю. Бадай, не варта было яго так мучыць. Хопіць з яго аднаго сораму. Хіба ж гэта прыемна трапіць у палон...

Косцю і тых, што разам з ім былі захоплены ў палон, адпусцілі толькі пад вечар. Паражэнне першамайскім хлопцам абышлося дорага. Па-першае, ім давялося адмовіцца ад Цітавай копанкі. Першамайцы мелі права купацца ў копанцы толькі пад вечар, ва ўскаламучанай і бруднай вадзе.

У дадатак да гэтага Першамайка раззбройвалася. Усе рагаткі, якія належалі варожаму войску, к вечару былі перададзены рудому Алёшу. Гэтымі рагаткамі ён узброіў хлопцаў, што прыйшлі на дапамогу Слабодцы разам з Аркадзем Панядзелкам. Самому Аркадзю Алёша даў аж дзве рагаткі.

Але самым цяжкім для Першамайкі было не гэта. Са стратай рагатак і нават Цітавай копанкі можна было сяк-так прымірыцца. Тарабанаў Алёша патрабаваў яшчэ ў якасці выкупу за палонных валейбольны мяч і сетку. На такія ўмовы Косця Кветка доўга не згаджаўся. Але сіла была не на яго баку. А Тарабан цвёрда заявіў, што не адпусціць палонных і самога Косцю, пакуль не будуць прынесены сетка і валейбольны мяч.

Косцю прыйшлося даць згоду і на гэта. Мяч і сетку прытарабаніў Аркадзь Панядзелак, які цяпер ужо выступаў пасрэднікам паміж дзвюма вуліцамі. Палонных адпусцілі.

Радаснай вярталася Слабодка ад Цітавай копанкі. Перамога была поўная. Яша адчуваў сябе на сёмым небе. У хлопца не было нават кропелькі крыўды на Алёшу за яго ранейшыя насмешкі. Каб Алёша загадаў цяпер Яшу памыць яго ногі, хлопец ні хвіліны не вагаўся б. Пра такую ганьбу Першамайкі, якой дамогся Алёша, Яша нават не марыў. Так ім і трэба, гэтым ганарліўцам, няхай не задаюцца! Яшавы грудзі распіраў гонар за сваю Слабодку, за рудога Алёшу, такога смелага і разумнага...

Некалькі дзён Слабодка жыла ўражаннямі апошняга бою. Можа, сто разоў успаміналіся ўсе падрабязнасці гэтай гераічнай баталіі, паводзіны кожнага, хто прымаў у ёй удзел. Яшу пахваліў сам Алёша. Ён сказаў перад усім войскам, што Яша не баязлівец, што ён і ў разведку хадзіў смела, і добра ваяваў каля копанкі. Калі раней Яша яшчэ не ведаў, што такое поўнае шчасце, то цяпер ён у збытку піў асалоду гэтага цудоўнага пачуцця.

Сетку павесілі на выгане каля Алёшавага двара. Слабодка цяпер з раніцы да вечара гуляла ў валейбол. Яша прыходзіў дамоў толькі прыцемкам, стомлены і шчаслівы. Ён забываў іншы раз нават паабедаць. Ён мог бы і не вячэраць, каб не маці. Але яна не хацела нічога разумець і заўсёды, калі Яша пазніўся, бралася за венік. І ўсё ж гэта былі дробязі ў параўнанні з той вялікай радасцю, якую абяцаў Яшу кожны новы дзень.

Лета праносілася вясёлым карагодам незабыўных уражанняў. Яно шчодра дарыла ясныя цёплыя дні, запоўненыя вялікімі і малымі прыгодамі, зорныя вечары з іх званкамі коней на папасе і нячутным палётам кажаноў, яно не шкадавала суніц, вішань, яблыкаў і многіх іншых цудоўных рэчаў. Гэтае лета як ніколі з'яднала Слабодку. Хлопцы ўсюды хадзілі талакой. Яны пабывалі нават у пелі — густым асінавым лесе,— дзе, як гаварылі бацькі, вадзіліся самыя сапраўдныя ласі, рабілі паход на далёкую рачулку Ведрыцу, лазілі на маяк, з вяршыні якога былі відаць не толькі ўсе вясковыя аколіцы, а адкрываліся новыя, зусім яшчэ нязведаныя далягляды.

І ўсюды, дзе з'яўлялася Слабодка, Першамайка вымушана была ёй саступаць.

— Мы вас білі і будзем біць! — заяўляў руды Алёша, убачыўшы каго-небудзь з першамайцаў.— Дзякуем за валейбольны мяч. Калі купіце новы, скажыце нам. Нам і другі спатрэбіцца...

Першамайцам, вядома, было крыўдна слухаць гэтыя насмешкі. Яны паспрабавалі паўстаць. Аднойчы яны распачалі бойку і былі з ганьбай разбіты зноў. Не прыйшлося нават клікаць Аркадзя Панядзелка з яго хлопцамі. Слабодка

знаходзілася цяпер у зеніце сваёй славы, і яна разбіла б, вядома, армію куды мацнейшую, чым армія Першамайскай вуліцы.

Слабодка святкавала сваю другую перамогу. Услед за ёю прыйшла і трэцяя, і чацвёртая...

Але і летняе яснае неба часта зацягваюць хмары. З Тарабанавым Алёшам пачало рабіцца нешта такое, што псавала ўсю справу. Алёша пачаў задавацца як ніколі. Ён так высока задраў свой аблузаны нос, што з ім проста нельга было размаўляць.

Аднойчы, калі гулялі ў валейбол, Яша адбіў мяч у канаву. Ён пабег за мячом, але Алёша яго спыніў.

— Вон з поля! — загадаў Тарабан.— Недарэкі мне не патрэбны.

Яшу было крыўдна да слёз. Хіба ж не хадзіў ён у разведку, не ваяваў з першамайцамі, што гэты Тарабан выганяе яго цяпер з гульні, як чужога? А сам ён хіба не заганяў мяч у канаву? Заганяў, але на гэта яму ніхто не казаў і слова.

Руды Алёша спыняў гульню, калі яму гэтага хацелася, і забіраў мяч дадому. Там яго ганялі па двары меншыя Тарабаны. Алёша не слухаў цяпер нават камандзіраў палкоў — Змітрака Калашкана і Алеся Бахілку. Тарабана лаялі за вочы ўсе, але пры ім маўчалі. Яго яшчэ баяліся, рудога Алёшы, бо ўсё-такі ён быў самы дужы на ўсю Слабодку.

Нейк Яша сказаў пры хлопцах, што мяч належыць усім і для яго проста трэба зрабіць патайную хованку. Тады не прыйдзецца выпрошваць у Тарабанаў. Яшу падтакнулі ўсе, але ў той жа вечар нехта пераказаў рудому Алёшу Яшаву гаворку. Тарабан выклікаў вечарам Яшу да сябе і збіў яго пры ўсіх. Ніхто за хлопца тады не заступіўся. Боль і глыбокая крыўда распіралі Яшавы грудзі. Уцякаючы ад Алёшы, ён крыкнуў, што выходзіць з войска і болей ніколі не будзе ваяваць за Тарабана.

Але сказаў гэта Яша проста ад злосці. Ён яшчэ і сам не ведаў тады, як зробіць. Усё ж да Тарабана ён не хадзіў цэлы тыдзень.

Яша, як непрытульны, швэндаўся па сваім двары і з зайздрасцю цікаваў за тымі, хто не пасварыўся з Тарабанам і мог гуляць у валейбол, купацца ў Цітавай копанцы, хадзіць па яблыкі ў Салвэсеў сад. Яша нават цішком лазіў на дах сваёй хаты і адтуль выглядаў, што робіцца на Тарабанавым двары...

У самым канцы канікулаў здарылася нечаканае. У двор да Яшы прыбег Змітрок Калашкан, камандзір Яшавага палка, і расказаў, што Аркадзь Панядзелак здрадзіў. Ён са сваім войскам перайшоў на бок Першамайкі. Першамайка цяпер разам са станцыйнымі хлопцамі нібыта рыхтуе наступленне...

У тую ж хвіліну Яша забыў сваю крыўду на рудога Алёшу. Ён памчаўся на Тарабанаў двор. Там якраз ішла нарада. Першамайскае войска рыхтавалася да бою, і ўсе былі ўзбуджаныя, рашучыя і на чым свет стаіць лаялі здрадніка Аркадзя Панядзелка. Яша заняў сваё месца ў баявым страі, ён, як і ўсе, гарэў нецярпеннем бою...

У канцы таго лета Першамайка ўсё ж не адважылася наступаць, хоць да яе і далучаліся станцыйныя хлопцы. Хутка высветлілася, чаму здрадзіў Аркадзь Панядзелак. Першамайка проста мела болей садоў, чым Слабодка. У Салвэсеў сад цяпер наогул нельга было прабрацца. Стары Салвэсь пазабіваў усе дзіркі ў агароджы, абцягнуў частакол зверху калючым дротам, а ў садзе прывязаў свайго сабаку Рудзьку.

Гэтага Рудзьку цяпер ужо нельга было падкупіць ці якнебудзь задобрыць. Ён, мабыць, злаваўся за тое, што яго прывязалі. Яшу ён болей не пазнаваў і гаўкаў на яго, як і на другіх. Салвэсь яго, мабыць, добра карміў.

## VI

Пачаліся заняткі ў школе. Вайна паміж Слабодкай і Першамайкай спынілася. Чуткі аб гэтай вайне ўсё ж неяк дайшлі да дырэктара, бо Тарабана і белагаловага Косцю выклікалі ў настаўніцкую. Невядома, аб чым размаўлялі настаўнікі з камандуючымі дзвюх варожых армій. Толькі пасля гэтай размовы Алёша аддаў загад камандзірам не чапаць першамайцаў. Ён цішком растлумачыў ім, што трэба пацярпець да лета...

Усю тую восень і зіму слабадскія хлопцы хваліліся сваімі перамогамі. Гэта не падабалася першамайцам. У класе былі хлопцы і з адной, і з другой вуліцы. І калі ўзнікала спрэчка пра ацэнку якой-небудзь ваеннай аперацыі, клас дзяліўся на два непрымірымыя станы. Спрэчка займала ўсе перапынкі, яна працягвалася і калі хлопцы ішлі са школы дамоў.

Аркадзь Панядзелак вагаўся. Ён стаяў то за Слабодку, то за Першамайку. Усё залежала ад таго, з кім у той ці іншы дзень Аркадзь дружыў. Яша, прыйшоўшы ў клас, кожны раз дапытваўся ў яго:

— Ты цяпер чый?

Калі Аркадзь быў у згодзе са Слабодкай, ён падаваў Яшу руку. Калі ж у гэты дзень ён належаў да першамайцаў, то вінавата лыпаў сваімі бялёсымі вачамі і адварочваўся.

Спрэчкі паміж Слабодкай і Першамайкай ішлі не заўсёды. У зімовыя канікулы адбылася падзея, якая ледзь не памірыла гэтыя дзве вуліцы. Распускаючы вучняў дахаты, настаўнікі аб'явілі пра ранішнік, які меўся адбыцца на другі дзень Новага года. Гэты ранішнік быў сапраўды выдатны. У самым вялікім класе стаяла ёлка, а пад ёлкай пахаджваў жывы Дзед Мароз. Яша адразу пазнаў гэтага дзеда, бо ім была Ліза з іхняга класа. І хоць Лізе намалявалі вусы і прыклеілі доўгую льняную бараду, яе пазналі ўсе.

Пад ёлкай скакалі і пелі першакласнікі. Гэта было не вельмі цікава. Першакласнікі, можа, яшчэ і чытаць не навучыліся і проста бэкалі па складах, а тут пусціліся ў скокі. На іх Яша пазіраў з пагардай.

Пасля Ліза разносіла падарункі. Усім яна давала адну цукерку ў каляровай паперцы і тры «падушачкі». А Яшу дала аж дзве цукеркі ў паперцы і чатыры «падушачкі». Яша пачырванеў, ён баяўся, што хто-небудзь убачыць, што Ліза дала яму цукерак болей чым каму. Але гэтага, мабыць, ніхто не бачыў, бо аб'явілі, што будзе паказана п'еса.

Яша ніколі не бачыў спектакля і таму хутка забыў пра Лізіны цукеркі.

Усіх запрасілі ў другі клас, дзе была павешана заслона. Заслону адхінулі, і пачалася п'еса. Яша адразу пазнаў усіх, хто быў на сцэне. Спачатку выйшаў белагаловы Косця з другім хлопцам, які таксама жыў на Першамайцы. У іх, як і ў Лізы, былі намаляваны вусы. Косця іграў белагвардзейскага генерала. Спачатку некаторыя хіхікалі, але п'еса была цікавая, і яны змоўклі. У Косці на плячах зіхацелі зробленыя са срэбранай паперы пагоны, а на грудзях вісеў самы сапраўдны царскі крыж. Косця ні разу не збіўся, ён гаварыў як па пісаным.

Хутка Яша зусім забыў, што ён сядзіць у класе і глядзіць спектакль. Баючыся зварухнуцца, сачыў ён за белым генералам, за камандзірам чырвоных, за смелай чырвонай разведчыцай, якая не пабаялася прабрацца ў штаб да самога генерала і падслухоўвала яго загады.

Амаль усе артысты, што ігралі ў п’есе, былі з Першамайкі. Але Яша пра гэта цяпер не думаў. Ён хацеў толькі, каб чырвоныя перамаглі белых, каб выратавалі з турмы смелую разведчыцу, каб нашы зноў адбілі ў белых горад...

Яша не шкадаваў далоняў, калі п’еса скончылася. Белагаловаму Косцю і другім артыстам апладзіравалі ўсе — і Слабодка, і Першамайка. Яны ўсё-такі добра прадстаўлялі. Калі вечарам вярталіся дадому, то размова ішла толькі пра п’есу і першамайскага Косцю, з якога выйшаў такі добры артыст. Тарабанаў Алёша спачатку маўчаў. Але пад канец не вытрымаў.

— Гэты ваш Косця проста задавака, а вы ўсе дурні! — сказаў са злосцю.—Я вось адлупцую яго, дык будзе ведаць п’есу. Генерал знайшоўся... Забыў, як я яго ганяў...

Усе змоўклі. Нікому не хацелася пярэчыць рудому Алёшу, хоць яго пагроза была зусім недарэчнай. Вайна, якую яны вялі летам, зусім не датычыла цікавай п’есы. Ды і сам жа Алёша загадаў не чапаць першамайцаў.

Настрой у Слабодкі быў сапсаваны. Сапсаваў яго сам Тарабан Алёша, якога пакуль што ўсе слухаліся. Палавіну дарогі хлопцы маўчалі. Гэтае маўчанне зусім вывела Тарабана з раўнавагі.

— Бяжыце цалуйцеся са сваім Косцем! — закрычаў ён на ўсю вуліцу.— Мне на вас напляваць. Толькі пабачу, як вы летам пакупаецеся! Гэтыя першамайцы вас і блізка не пусцяць да копанкі...

Тарабан аддзяліўся ад усіх і пакрочыў прэч. Ніхто яго не пазваў, ніхто не пабег услед. Хлопцы стаялі разгубленыя і не ведалі, што рабіць.

— Пайшоў і няхай ідзе,— сказаў Змітрок Калашкан.— Вельмі нос задраў, слова нельга сказаць пры ім. Вайна гэта адно, а п’еса — зусім другое. Ды ніхто і не збіраецца бегчы за Косцем...

Назаўтра Тарабан першым падышоў да хлопцаў. Пра Косцю ён болей не ўспамінаў, і ўсе ўздыхнулі з палёгкай. Усё-такі не варта спрачацца паміж сабой тым, хто жыве на адной вуліцы.

Праз тыдзень пачаліся заняткі, і ўсё пайшло ранейшым парадкам. Мяжа, якая падзяляла класы, усё-такі засталася. Слабодка не збіралася здаваць заваяваных пазіцый, нягледзячы на тое, што першамайцы са сваім Косцем выступілі ў п'есе.

Аднойчы ў клас, дзе вучыўся Яша, зайшла піянерважатая Таня Цырульнікава. Яна сказала, што ўсім, хто цяпер вучыцца ў другім класе, трэба рыхтавацца да ўступлення ў піянеры. Яна яшчэ сказала, што ў піянеры спачатку прымуць тых, хто добра вучыцца і ў каго добрыя паводзіны. Перад усім класам Таня Цырульнікава заявіла, што хутчэй за ўсіх у піянеры прымуць Яшу і Лізу.

З гэтага дня Таня Цырульнікава пачала часта заходзіць у другі клас. Яна хацела арганізаваць тут танцавальны гурток. Але запісвацца ў такі гурток хлопцы адмовіліся. У яго запісаліся адны дзяўчаты. Хлопцы сказалі піянерважатай, што яны згодны ўдзельнічаць толькі ў п'есах пра вайну. Тады Таня наважыла, апрача танцавальнага, арганізаваць і драматычны гурток. У гэты гурток запісаліся ўсе хлопцы са Слабодкі і Першамайкі, якія вучыліся ў другім класе. На рэпетыцыю трэба было заставацца пасля заняткаў кожную суботу.

Але п'есу Таня Цырульнікава падабрала нецікавую. У п'есе паказвалася, як нямецкія рабочыя змагаюцца з фашыстамі. Ніякай вайны ў п'есе не было. Трэба было толькі маршыраваць па сцэне з чырвоным сцягам, спяваць песні і крычаць «Рот фронт!». Пад канец фашысты самі ўцякалі. Самая сумная роля дасталася Яшу. Яму перад канцом належала выйсці на сцэну і сыпануць лістоўкі.

Хлопцы ўсё ж не вешалі насоў. Яны спадзяваліся, што пасля гэтай нецікавай Таня Цырульнікава знойдзе і добрую п'есу. Таму яны і засталіся на рэпетыцыі.

Але і гэтую нецікавую п'есу на сцэне не паставілі. Аднойчы вечарам усе прыйшлі на рэпетыцыю, а піянерважатай не было. Таню чакалі, мажа, цэлую гадзіну, а яна ўсё не прыходзіла. Тады Яша і яшчэ адзін хлопец з Першамайскай вуліцы пайшлі

яе сустракаць. Яны ўбачылі піянерважатую на школьным агародзе. Яна цалавалася пад бярозкай з нейкім высокім хлопцам. Таня не толькі цалавалася, яна яшчэ чамусьці і плакала...

Гэтую навіну Яша з першамайскім хлопцам мігам прынеслі ў клас, дзе іх чакалі астатнія артысты. Глядзець на тое, як цалуецца піянерважатая, хадзілі па чарзе ўсе хлопцы. Пазней высветлілася, што ў той вечар Таня праводзіла ў армію трактарыста, з якім дружыла. Але хлопцы аднадушна вырашылі, што звязвацца з такой важатай, якая цалуецца ды яшчэ і румзае, проста не варта. На рэпетыцыі болей ніхто не прыходзіў, і драматычны гурток распаўся.

## VII

Набліжалася вясна. Сагнала ўжо снег з палёў і балота, дзяўчаты прынеслі ў клас першыя кветкі кураслепу. Другі клас паўтараў пройдзенае. Самымі лепшымі ўрокамі Яша лічыў тыя, калі Марыя Рыгораўна прыносіла ў клас маленькія кніжачкі і гучна іх чытала. У такія хвіліны ў класе наступала мёртвая цішыня. Было чуваць, як дзынкае аб аконнае шкло ажыўшая пасля зімы муха. Затаіўшы дыханне, Яша слухаў гісторыю пра мужнага хлопчыка Гаўроша, які загінуў на барыкадах, пра маленькую Казету, якая ўпусціла ў студню сярэбраную манету, за што яе моцна білі. Марыя Рыгораўна прачытала многа такіх цікавых кніжачак перад класам. Найбольш падабаліся ўсім апавяданні пра грамадзянскую вайну і пра розных звяроў. Той дзень, калі настаўніца прыносіла новую кніжачку, быў для Яшы святам. З нецярпеннем чакаў ён апошняга ўрока, на якім пачыналася гучнае чытанне.

У Яшы быў рубель, і ён захацеў купіць сабе хоць адну з прачытаных настаўніцай кніжачак. Але нават у самай вялікай краме, дзе прадавалі дзёгаць, хамуты, гарэлку і соль і дзе за прылаўкам стаяў стары Тарабан, ніякіх цікавых кніжак не было. Там стаялі толькі тоненькія брашуркі пра першую пяцігодку, пра Асінбуд і пра шкоднасць рэлігіі. Але яны былі напісаны сумна, як задачнік, і Яша іх не купіў.

Яша ведаў, што цікавыя кніжкі ёсць у бібліятэцы, дзе іх і бярэ Марыя Рыгораўна. Але ў школьную бібліятэку запісвалі

з трэцяга класа. Туды для Яшы пакуль што доступу не было. Тады хлопец наважыў запісацца ў сельсавецкую бібліятэку. Там яго не ведалі, і Яша мог лёгка зманіць, што ён ужо вучыцца ў трэцім класе. Але і ў сельсавецкай бібліятэцы хлопцу не пашанцавала. Бібліятэкарша пачала ўжо запісваць яго прозвішча ў картачку, калі ў пакой зайшла Таня Цырульнікава.

— Добры гэта вучань? — спытала ў яе бібліятэкарша.

— Вучыцца добра, але недысцыплінаваны,— адказвала піянерважатая.— З драматычнага гуртка ўцёк, сябруе з хуліганамі...

Гэта і вырашыла справу. У бібліятэку Яшу не запісалі.

Добра яшчэ, што выручыла Ліза. Яна прынесла ў клас кніжку пра Бураціна і залаты ключык. Пасля таго як кніжку прачыталі ў класе, Ліза дала яе Яшу. Ніколі Яша не чытаў такой цікавай кніжкі. Ён ведаў на памяць усе прыгоды хітрага і адважнага Бураціна, але з кнігай не хацелася расставацца. Тады Яша вырашыў перапісаць яе. Ён спісаў дзесяць сшыткаў у клетку, але дайшоў толькі да палавіны. Можа б, Яша перапісаў і ўсю кнігу, але якраз нахлынулі важныя падзеі, і «Прыгоды Бураціна» прыйшлося аддаць Лізе.

Руды Алёша, які вучыўся ў чацвёртым класе, выбіў акно. Ён высадзіў яго з рамай, і Тарабана збіраліся выключыць са школы. Гэта была непрыемнасць. Калі б Алёшу выключылі, то першамайцы ўзрадаваліся б. Яны б задралі свае насы і пальцамі паказалі б на Слабодку. Глядзіце, моў, які ў іх камандзір, яго нават са школы вытурылі...

Але Алёшу ўсё ж не выключылі. Яму вынеслі толькі вымову. Слабодка ўздыхнула з палёгкай...

А далей падзеі пайшлі адна цікавей за другую. Самым вартым увагі ў тую вясну былі, вядома, вайсковыя манеўры. На балоце, недалёка ад Цітавай копанкі, «чырвоныя» ваявалі з «сінімі». Там цэлы дзень бухалі з сапраўдных гармат, стракаталі з кулямётаў, стралялі з вінтовак. Слабодка з цікавасцю сачыла за манеўрамі. Руды Алёша нават прапанаваў чырвонаармейцам свае паслугі. Ён згаджаўся ісці ў разведку. Але Алёшу чырвонаармейцы прагналі.

Калі манеўры скончыліся, Слабодка хадзіла збіраць на балота страляныя патроны. Першамайцы іх таксама збіралі.

Вайны паміж вуліцамі яшчэ не было, але адчувалася, што яна ўспыхне, як толькі пачнуцца канікулы. Вельмі ўжо зноў пачалі фанабэрыцца гэтыя першамайцы!

У Велікодны вечар да Яшы забег задыханы Змітрок Калашкан.

— Пойдзем да царквы,— сказаў ён.— Там будзе нешта цікавае.

Яша апрануўся і пабег услед за Змітраком. Там ужо сабраліся ледзь не ўсе іхнія хлопцы. На цвінтары сапраўды рабілася нешта цікавае. У царкве спявалі веруючыя, а на цвінтары, пабраўшыся за рукі,— камсамольцы. З царквы нясліся спевы пра Бога, а камсамольцы даказвалі пад гармонік, што Бога няма. Але камсамольцы не толькі спявалі. Яны прыдумалі яшчэ хітрэйшую штуку. Калі з царквы збіраліся выносіць Хрыстова цела, на цвінтар прыгрукатаў трактар. На трактары сядзеў стары Крук у вывернутым кажусе і з рагамі на галаве.

Крук быў вядомы на ўсю акругу прайдзісвет і задзіра. Без яго не абыходзілася ні вяселле, ні святочны кірмаш. Кажуць, сам ён жаніўся разоў восем. Паедзе ў далёкую вёску, дзе яго не ведаюць, і жэніцца.

Усяночная прайшла цікава. Багамольцы з пратэсамі хадзілі вакол царквы, а ўперадзе на трактары ехаў стары Крук. Гаварылі пасля, што камсамольцам уляцела за іхні ўчынак. Але слабадскія і першамайскія хлопцы іх цалкам ухвалялі. Камсамольцы сапраўды даказалі, што Бога няма. Во каб быў Бог, то ён жа пакараў бы старога Крука. Смальнуў бы па ім маланкай або наслаў якую хваробу. Стары ж Крук хадзіў сабе жывы і здаровы. Яму нават нішто не забалела.

Для Яшы не прайшоў так сабе і гэты Вялікдзень. Назаўтра да іх у хату прыляцеў дзед. Нават не пахрыстосаваўшыся, ён адразу накінуўся на ўнука.

— Ты, нягоднік, брындаў разам з гэтымі азіятамі! — крычаў ён.— Пачакай жа, вылезе табе бокам твой смех над Богам...

— Я толькі стаяў і глядзеў,— апраўдваўся Яша.— Я ж нічога...

— А на што там было глядзець! — лютаваў дзед.— На супастатаў, на багахульнікаў...

Дзед Атрахім бразнуў дзвярыма і выскачыў з хаты.

## VIII

Зноў прыйшло лета. У першы ж дзень канікулаў руды Алёша аб'явіў, што хутка пачнецца вайна. Трэба было агледзець баявую амуніцыю, нарабіць новых рагатак. Ішлі якраз дажджы, таму вайна не пачыналася. Можна было як след падрыхтавацца. Яша зрабіў новую рагатку і з нецярпеннем чакаў разгортвання баявых дзеянняў. Ён, як і ўсе, цвёрда верыў, што Першамайка не ўтрымаецца. Аркадзь Панядзелак са сваімі хлопцамі зноў быў на баку Слабодкі. Алёша такі ўгаварыў яго. Гэта давала перавагу Слабадской вуліцы.

Валейбольнага мяча не было. Яго за зіму раскалашмацілі меншыя Тарабаны. Пра Салвэсеў сад думаць таксама не прыходзілася. Стары Салвэсь умацаваў яго, як крэпасць. Зверху амаль у кожную частаколіну наўбіваў вострых цвікоў і ў тры столкі працягнуў калючы дрот. Ды нават калі б і ўдалося перабрацца цераз паркан, то ў садзе трэба было бараніцца ад Рудзькі, які і блізка не падпускаў да дрэў. У садзе ж, на вішнях і слівах, ужо выступала смачная смала, і яе можна было б надраць колькі хочаш. Слабодка ад бяздзеяння сумавала.

Праз некалькі дзён руды Алёша зрабіў агляд войску. Ён праверыў, ці ў кожнага ёсць рагатка і як яна дзейнічае. Потым ён прызначыў камандзіраў. Камандзірамі палкоў, як і летась, сталі Змітрок Калашкан і Алесь Бахілка. Аркадзя Панядзелка Алёша таксама прызначыў камандзірам палка, хоць ён і здраджваў некалькі разоў. Наогул, камандзіраў цяпер стала больш, чым летась. З'явіліся начальнікі кавалерыі, артылерыі, авіяцыі. Вядома, ніякай кавалерыі і авіяцыі ў слабадскім войску не было. Алёша выдумаў такія пасады для таго, каб надаць сваёй арміі найбольш сучасны выгляд. І яшчэ ён, мабыць, хацеў, каб яго акружаў вялікі штаб.

Артылерыя ж у слабадскім войску з'явілася. Чырвонаармейскія манеўры не прайшлі дарэмна. Хлопцы назбіралі не толькі стрэляных патронаў, але і цэлых, дзе замест кулі была проста сплюшчаная шыйка. Такіх патронаў было, можа, сотні дзве. Калі з іх павысыпалі порах, то яго набралася ледзь не поўная Алёшава шапка. Гэты порах належала неяк выкарыстаць. Вось тут якраз і ўзнікла думка аб артылерыі. Падаў яе

руды Алёша. Пазней была арганізавана лёгкая кавалерыя з ліку хлопцаў, якія бегалі хутчэй за ўсіх.

У слабадскім войску з’явіліся дзве гарматы, зробленыя з жалезнай трубы. Вядома, ніякай небяспекі для першамайцаў ад іх не было. Хутчэй наадварот. Каб гармату раптам разарвала, то таму, хто яе абслугоўваў, прыйшлося б нялёгка. Артылерыю арганізавалі з тым разлікам, каб наганяць на Першамайку страх.

Яшу Алёша прызначыў старшым бамбардзірам. На яго абавязку ляжала несці на плячы гармату і перад пачаткам наступлення стрэліць з яе. Пасля гэтага яму належала нароўні з усімі кідацца ў бой. Камандаваў Яшам і яшчэ адным бамбардзірам начальнік артылерыі Цярэшка Лузанік. Гэты Цярэшка за шэсць год сваёй вучобы не здолеў нават закончыць трох класаў. Яша цяпер яго дагнаў, хоць Лузанік з незапомных часоў шыбаваў міма Яшавага двара ў школу. Калі Яша яшчэ не вучыўся, ён лічыў Лузаніка надзвычай разумным хлопцам і нават зайздросціў яму. Цяпер жа ўся Яшава павага да Цярэшкі Лузаніка прапала. Цярэшка ж як камандзір паставіў сябе дужа высока.

— Пушку трымай у спраўнасці,— павучаў ён Яшу.— Без маёй каманды не страляць. А то я табе ўсе рэбры пералічу.

— Пералічы,— са злосцю агрызнуўся Яша,— колькі будзе васьмю дзевяць? Не ведаеш. Дык як жа ты пералічыш?

Лузанік аслупянеў. Ён не чакаў такога адпору. Хлопцы засмяяліся. Тады Цярэшка кінуўся з кулакамі на Яшу. Ён быў дужэйшы за яго, і Яшу, вядома, папала б, каб іх не разнялі. Лузанік пайшоў скардзіцца самому рудому Алёшу, і той хутка выклікаў Яшу да сябе.

— Не будзеш слухаць камандзіраў, выганю з арміі! — заявіў Алёша.— Запомні гэта.

— А камандзір мае права пагражаць? — не вытрымаў Яша.— Чаго ён мне збіраецца рэбры лічыць? Няхай лепш табліцу множання вывучыць. Тры гады ў адным класе сядзіць, дурніла.— Яша ледзь не плакаў.

— Ён дужэйшы за цябе,— не адступаў ад свайго Алёша.— Ён цябе адной рукой вобземлю лясне. Такіх, як ты, яму трэба тры на аднаго...

Супраць такога пярэчыць не прыходзілася. Цярэшка Лузанік сапраўды быў дужы як бык. Аднойчы хлопцы пайшлі ў заклад: хто больш з'есць ляжалых груш-дзічак. Лузанік увабраў аж дзве шапкі. Ён, можа б, з'еў і больш, але гнілак ужо не было.

Вайна ўсё не пачыналася. Белагаловы Косцік нешта хітраваў. Першамайцы не паказваліся каля Цітавай копанкі. Нападаць жа на іх проста так Тарабан не хацеў. Трэба было, каб Першамайка сама парушыла мірны дагавор і першай прыйшла купацца ў Цітаву копанку. Тады б належала накінуцца на яе з усім гневам і злосцю.

Пакуль ваенныя дзеянні не пачыналіся, руды Алёша прыдумаў яшчэ адну надта цікавую рэч. Каб захаваць ваенную тайну ад варожай разведкі, ён вырашыў навучыць свае войска новай мове. Дзе Алёша авалодаў гэтай мовай, было невядома, але яго прапанова спадабалася. Слабодка павінна была цяпер размаўляць так, каб Першамайка не разумела ні слова.

Яша адразу авалодаў сакрэтам новай мовы. Трэба было проста расцягнуць слова, перанесці першы склад назад, замяніўшы яго на «ша», і дадаць потым у канцы «ца». Слова рабілася незразумелым. Яшу цяпер звалі: Шаша-яца, Алёшу — Шалёша-аца, Бахілку — Шахілка-баца.

Руды Алёша неўзабаве наладзіў экзамен свайму войску.

— Шаша-яца, ша-ідзіца, шадзі-іца, шады-сюцы,— паклікаў ён Яшу.

Яша ўсё зразумеў і падышоў да Тарабана.

— Шато-хца ша-тыца? — спытаў Алёша.

— Шаршы-стаца шамбардзір-баца! — бойка адказаў Яша.

— Шаладзец-маца! — пахваліў Алёша Яшу.

Дайшла чарга здаваць экзамен і да Цярэшкі Лузаніка.

— Шак-яца шабе-цяца шавуць-заца? — спытаў Лузаніка руды Алёша.

Цярэшка доўга маўчаў. Ён не ведаў, што сказаць.

Хлопцы яму ціхенька падказвалі. Але ён, мабыць, добра не пачуў і выпаліў:

— Шарэшка-пешка!

Хлопцы аж клаліся ад рогату. Цярэшка стаяў чырвоны як рак. Каб яго ўлада, ён кінуўся б на гэтых рагатуноў і сцёр бы

іх на парашок. Але дысцыпліна абавязвала, і Лузанік толькі цяжка соп і шморгаў носам.

— Шарань-дуца! — атэставаў Цярэшку руды Алёша.— Дурань! — дадаў ён на звычайнай мове, відаць, баючыся, што Лузанік не зразумее.

У той дзень Цярэшка экзамена так і не здаў. Мазгі ў яго кудлатай галаве, мабыць, варочаліся, як цяжкія жорны, і Лузанік ніяк не мог дайсці сваім розумам да новай мовы.

Яша ж жыў на сёмым небе. Мова яму вельмі падабалася, і ён гаварыў цяпер толькі па-новаму. Вечарам, прыйшоўшы дамоў, Яша папрасіў:

— Шама-маца, шай-даца шачэраць-вяца.

Маці спачатку нічога не разумела. Калі ж Яша паўтарыў сваю просьбу некалькі разоў, яна ўзялася за венік. Яшу прыйшлося скарыцца і загаварыць па-звычайнаму...

Алёша штодня выдумляў нешта новае. Ён гарэў нянавісцю да белагаловага Косці і хацеў як мага лепш згуртаваць вакол сябе свае войска. Ён наладжваў манеўры, вёў сваю армію на нябачнага праціўніка ў атаку, вучыў поўзаць па-пластунску. Калі называлі прозвішча Косці, Алёша злаваўся і пагражаў. Ён, мабыць, не мог даравацъ Косцю школьнай славы і п’есы.

— Калі яшчэ раз забяром у палон белагаловага,— выхваляўся Тарабан,— я пасаджу яго ў мяшок, і будзем усе разам сячы яго дубцамі. Пакуль не папросіць літасці. А тады прымушу яго з’есці цэлы пуд зямлі...

— Палонных жа не б’юць,— выказаў асцярожную думку Яша.— Ды і нашто біць Косцю, калі першамайцы здадуцца?

— Ты ў мяне замаўчы! — зароў на ўсё горла Тарабан.— Жаласлівы знайшоўся. У нас не гульня, а вайна...

Яша змоўк. Яму не падабаліся Алёшава фанабэрыстасць і жорсткасць. Але пярэчыць Алёшу, калі ён злаваўся, было нельга. Гэта магло дрэнна скончыцца для таго, хто адважыўся б выступіць супроць Тарабана.

На нейкі час Яша адарваўся ад войска. Каровы прабілі іхняй Рагулі бок, і яе не пускалі ў статак. Цэлыя два тыдні Яша ганяў Рагулю пасвіць адну. За гэты час хлопец проста знябыўся. Ён баяўся, што вайна з Першамайкай пачнецца без яго. Гэта было б самай большай карай для Яшы. Як бы ён

глядзеў тады ў вочы хлопцам сваёй вуліцы! За час, праведзены ў адзіноце, Яша проста знелюбіў павольную і ціхую Рагулю. Хутчэй бы зарастаў яе бок.

Рагулю нарэшце парашылі пусціць у статак, і Яша ў той жа вечар пабег на Тарабанаў двор. Там ён супакоіўся. Сапраўдная вайна з Першамайкай яшчэ не пачыналася. Былі асобныя сутычкі, але белагаловы Косця бою не прымаў. Ён вёў нейкую хітрую палітыку.

За час Яшавай адсутнасці руды Алёша прыдумаў гімн для слабадскога войска. Хлопцы маршыравалі па вуліцы і спявалі:

Аты-баты, йшлі салдаты,
Аты-баты, ваяваць,
Аты-баты, йшлі салдаты
Першамайку разганяць...

Песня спадабалася Яшу. Пад яе было лёгка ісці, і яна прыдавала адвагі і смеласці. Кожную раніцу Слабодка, адбіваючы крок, ішла з гэтай песняй купацца ў Цітавай копанцы. Першамайскія хлопцы не паказваліся. Усе лічылі, што яны проста баяцца сілы Слабодкі. Але хутка пайшлі трывожныя чуткі. Нехта расказаў Алёшу, што да Аркадзя Панядзелка прыходзілі пасланцы з Першамайкі, і ён аб нечым з імі дамаўляўся. Гэта была здрада. Аркадзь лічыўся цяпер камандзірам палка, у яго полк уваходзілі не толькі хлопцы з чыгункі, а і са Слабодкі, і калі б ён цяпер перайшоў на бок Першамайкі, гэта зблытала б усе планы вайны. Трэба было нешта неадкладна прыдумаць.

— Ідзі прывядзі мне Аркадзя,— загадаў Яшу руды Алёша.— Ты з ім разам вучышся, проста пазаві яго да сябе гуляць.

Яша пайшоў. Ён не любіў Аркадзя і ніколі не хадзіў да яго. Каб Яшава ўлада, ён ніколі не прымаў бы Аркадзя ў слабадское войска. Хоць яго бацька і лавіў бандытаў, але Аркадзь здраднік. Ясна, што такому давяраць нельга. І навошта яшчэ Алёша прызначыў яго камандзірам палка? Цяпер гэты Аркадзь выдаў белагаловаму Косцю ўсе іхнія планы...

З такімі невясёлымі думкамі прыйшоў Яша на чыгуначны пасёлак, дзе жыў Аркадзь. Ён застаў яго дома, але Аркадзь нават не захацеў з Яшам размаўляць.

— Не пайду я да цябе,— сказаў ён.— Ведаю я вашы хітрыкі... Хочаце мяне да Тарабана зацягнуць.

— Дык ты ж прысягу падпісваў! — не сцярпеў Яша, адразу выдаўшы свае намеры.— Як жа цяпер?

— Пляваць я хацеў на гэтую прысягу. Косця ў сто разоў разумнейшы за вашага Тарабана. Не хачу я з вамі, і канец. І хлопцы нашы не пойдуць...

— Дык чаму ж ты адразу не ішоў да Косці?

— Куды хацеў, туды і ішоў,— адказаў Аркадзь.— А ты не сунь носа, куды не просяць...

На гэтым размова і скончылася. Сваёй задачы Яша не выканаў. Не мог жа ён сілком зацягнуць да сябе гэтага Панядзелка. Хлопец вярнуўся на Тарабанаў двор і пра ўсё расказаў Алёшу.

У той жа дзень пад павеццю тэрмінова засядаў штаб. Алёша ўпершыню разгубіўся. Ён не ведаў, што рабіць. Хлопцы крычалі, усяляк пагражалі Аркадзю, а Тарабан сядзеў і маўчаў. Ён здаваўся нейкім прыбітым, прыніжаным. Такім яго Яша не бачыў ніколі.

— Я яго злаўлю і заб'ю,— прапанаваў Цярэшка Лузанік.— Няхай ведае...

— Калі заб'еш, то ён ужо нічога не будзе ведаць,— перабіў Цярэшку Алесь Бахілка.— Яму трэба проста добра ўсыпаць. Каб не круціў хвастом. Нашым — дык нашым, а вашым — дык вашым.

— Спаймаць, зняць штаны і крапівой, крапівой,— падтрымаў Бахілку Змітрок Калашкан.— Каб ён цэлы месяц не мог сесці. І скардзіцца сорамна будзе...

Пры апошніх словах Алёша падняў галаву. Яго вочы загарэліся. Усе бачылі, што Алёша нешта зноў прыдумаў.

— Аркадзя трэба злавіць,— сказаў ён ціхім, але рашучым голасам.— Але біць яго не будзем. Раз ён знюхаўся з першамайцамі, то біццём не паможаш. Аркадзя трэба прывесці сюды. Зробім на яго засаду...

## IX

Палавіна слабадскога войска вечарам пайшла ў засаду, каб узяць у палон уласнага камандзіра палка. Засаду зрабілі каля Панядзелкавай хаты. Стаіўшыся за вуглом, хлопцы чакалі. Дома Аркадзя не было, значыць, ён недзе гуляў і сваёй хаты, вядома, абмінуць не мог. Чакаць Аркадзя прыйшлося доўга.

— Са сваім Косцем мілуецца,— прашаптаў нехта.— Трэба было на поплаве ля сцежкі схавацца, тады б іх абодвух сцапалі...

— Спыніць размовы! — уладна загадаў Алёша.

Нарэшце паказаўся Аркадзь. Ён ні аб чым не здагадваўся і весела насвістваў. Аркадзь падышоў ужо да сваіх веснічак, але тут перад ім, нібы з-пад зямлі, вырасла постаць Тарабана.

— Не спяшайся,— сказаў Алёша.— Трэба пагаварыць.

Аркадзь закрычаў. Але яго адразу акружылі шчыльным кальцом, заціснулі далонню рот і павялі. Яша вёў свайго аднакласніка пад левую руку. Аркадзь калаціўся як асінавы ліст, яго рука была халодная і ліпкая.

— Пусціце,— хныкаў ён па дарозе.— Мой бацька міліцыі скажа...

Нядаўняга камандзіра палка завялі ў густы высокі дзядоўнік, што рос на слабадскім выгане. Яго ніколі не касілі, і дзядоўнік разросся, як лес. Сюды ніколі ніхто не заглядваў.

— Скідай штаны! — загадаў Аркадзю руды Алёша. Панядзелка пачало трэсці як у ліхаманцы. Хлопцы памаглі Аркадзю спусціць штаны.

— Не біце мяне,— прасіўся ён.— Я вам усё раскажу.

І Панядзелак расказаў. Ён выклаў усё як на далоні. Белагаловы Косця, аказваецца, пачаў да яго пад’язджаць з першых дзён канікулаў. Аркадзь спачатку не згаджаўся. Яму падабалася быць камандзірам палка ў арміі Слабадской вуліцы. Але Косця паабяцаў навучыць Аркадзя рабіць планёры. Ён нават зычыў даць адзін гатовы планёр хлопцам з чыгункі. Акрамя гэтага, на Першамайцы майструюць самакаты. На гэтых самакатах можна ездзіць без нічыёй дапамогі. Трэба толькі вадзіць уперад-назад за рычаг, як на дрызіне, і самакат рухаецца. Слабадскія ж хлопцы не ўмеюць рабіць ні планёраў, ні самакатаў. Яны толькі ваююць...

— Я адбяру ўсе іхнія самакаты і планёры! — не вытрымаў Алёша.— Летась жа мы гулялі іхнім валейбольным мячом. Дадзім ім добра, дык усё наша будзе. Прыцягнуць самі як міленькія.

Аркадзь, захліпаючыся, расказваў, дзе схаваны два першамайскія самакаты. На іх ездзяць па чарзе ўсе хлопцы, а вечарам іх ставяць у гараж. Гараж знаходзіцца за агародамі, у бярэзніку. Яго ноччу ніхто не ахоўвае.

— Можна цяпер пайсці і забраць іх,— захліпаўся Панядзелак.— Я туды дарогу добра ведаю.

— Я не злодзей! — адрэзаў Алёша.— Красці я не пайду. Разаб'ю Першамайку, і гэты Косця прывалачэ мне ўсё ў зубах...

Цяпер Аркадзь пачаў расказваць пра самае галоўнае. Ён стаяў без штаноў у калючым дзядоўніку, і на яго смешна было глядзець. Добра яшчэ, што ўжо зусім сцямнела і Аркадзю не прыходзілася хаваць сваіх вачэй.

Заўтра Аркадзь Панядзелак са сваімі хлопцамі збіраўся перайсці да першамайцаў. З белагаловым Косцем яны дамовіліся, што ўжо раніцай будуць купацца ў Цітавай копанцы. Яны разлічвалі, што без станцыйных хлопцаў Слабодка нападаць не адважыцца...

Панядзелак выдаў яшчэ адзін сакрэт Першамайкі. Там, аказваецца, цяпер камуна. У першамайскіх хлопцаў усё агульнае. У іх ёсць магазін, сталовая і майстэрня. Каб атрымаць што-небудзь са сталовай ці з магазіна, трэба папрацаваць у майстэрні. Ёсць і агарод — адна градка гуркоў і адна памідораў.

Аркадзь расказваў далей зусім дзіўнае і незразумелае. Белагаловы Косця прымае ў сваю камуну не толькі хлопцаў, а і дзяўчат. Дзяўчаты, праўда, прымаюцца не ўсе, а толькі тыя, якія ўмеюць гуляць у «ялавога» і «кругавога».

Навіны былі вельмі цікавыя. Яша слухаў Панядзелка раскрыўшы рот. Ніякая разведка не магла дазнацца столькі, колькі расказаў Аркадзь. Можа, толькі ён брэша? Яша ніяк не мог уцяміць, як гэта ў першамайцаў усё агульнае? Алёша летась, як адабралі валейбольны мяч у першамайцаў, таксама казаў, што ён будзе агульны. А сам што хацеў, тое з ім і рабіў. І калі

Яша прапанаваў зрабіць для мяча адну патайную хованку, каб адтуль яго маглі браць усе, Алёша нават збіў яго. Ён хацеў распараджацца мячом толькі адзін. Яша не верыў, што белагаловы Косця катаецца на самакатах нароўні з усімі, што яму таксама трэба працаваць у майстэрні, каб што-небудзь атрымаць з магазіна. Аркадзь Панядзелак, мабыць, проста хлусіць. Не можа ўсё быць агульным. Ёсць у Яшы ножык-складанчык. Дык хіба ён яго каму-небудзь аддасць? Нізавошта. Гэты ножык Яша сам знайшоў, калі хадзілі з бацькам драць лазу, і ён належыць аднаму яму.

Аркадзь Панядзелак між тым расказаў усё, што ведаў пра Першамайку, і чакаў, што будзе з ім далей. Ён стаяў і калаціўся. Усе маўчалі.

— Дык на чыім жа баку ты цяпер будзеш? — жорстка спытаў Алёша.

— Ні на чыім,— усхліпнуў Аркадзь.— Даю чэснае слова, што не перайду да Косці.

Алёша зарагатаў. Ён паднёс кулак да самага носа Аркадзя.

— А гэта бачыў! — сказаў ён.— Са мной звязаўся, то цяпер не адвяжашся. Ты заўтра пойдзеш да копанкі і скажаш гэтаму Косцю, што назусім перайшоў да яго. Але як толькі я пачну наступленне, перабяжыш да мяне. Зразумеў?

Аркадзь маўчаў. Ён не ведаў, што гаварыць. Яму не хацелася падводзіць Косцю, і ён баяўся рудога Алёшы.

— А калі Косця дазнаецца пра ўсё? — нясмела перапытаў ён.

— Не скажаш, дык і не дазнаецца. І сваіх хлопцаў папярэдзь. Калі хто застанецца ў першамайцаў, то шкуру здзяру. Няхай зарубяць сабе на носе. Заўтра я гэтага Косцю распатлашу ў пух і прах...— Алёша пераможна зірнуў на хлопцаў.

Аркадзь стаяў, апусціўшы галаву. Выбіраць яму не прыходзілася. Ён, мабыць, праклінаў тую хвіліну, калі даў згоду ўступіць у слабадское войска і звязаўся з рудым Алёшам.

— Добра,— нарэшце згадзіўся Аркадзь.— Я зраблю, як ты гаварыў. Аддавайце мне штаны.

Алёша зноў зарагатаў. Ён, напэўна, прыдумаў нешта вясёлае, бо ледзь не качаўся па зямлі ад смеху.

— Я табе не веру,— сказаў Алёша.— Таму штаны аддам заўтра, як разаб'ю Косцю. Пачакаеш да заўтра...

Аркадзь зарумзаў. Ён плакаў, нікога не саромячыся, як дзяўчына.

— Калашкан,— падазваў Алёша камандзіра першага палка.— Знімі свае штаны і аддай гэтаму ваяку. А заўтра, як разаб'ём Першамайку, зноў пераменіцеся. У тваіх штанах ён да Косці не перабяжыць.

Калашканавы штаны былі дзірка на дзірцы, але выбіраць не прыходзілася, і Аркадзь надзеў іх...

Назаўтра грымнуў бой. Усё адбылося амаль так, як намеціў Алёша. Першамайцы, якія ні аб чым не здагадваліся, плёскаліся ў Цітавай копанцы. Аркадзь у падраных Калашканавых штанах сядзеў на беразе. Станцыйныя хлопцы не купаліся.

— Шаляй-страца! — яшчэ на поплаве перад копанкай зароў Цярэшка Лузанік. Яша разам з другім старшым бамбардзірам бухнулі са сваіх гармат.

— У шатаку-аца! — аддаў агульны загад руды Алёша.

Слабодка кінулася ў наступленне. Як толькі пачаўся бой, станцыйныя хлопцы на чале з Аркадзем перабеглі на бок Слабодкі і пачалі біць з рагатак па копанцы. Гэта адразу дало колькасную перавагу рудому Алёшу.

— Шавайцеся-здаца! Шавайцеся-здаца! — крычала ўсё слабадское войска.

Але першамайцы замацаваліся на другім беразе і паспрабавалі адбівацца. Боепрыпасы ім падносілі дзяўчаты. Доўга ўтрымацца яны ўсё ж не змаглі. Руды Алёша паслаў частку сваіх сіл для абходу копанкі з тылу. Яша папоўз на жываце да кусцікаў, адкуль лёгка было ўдарыць першамайцам у спіну. Ён падкраўся да іх і падняўся на ўвесь рост. Раптам нехта стукнуў яму па назе. Хлопец азірнуўся і ўбачыў Лізу. У прыполе яна трымала грудкі гліны. Ліза, значыць, таксама ваявала.

— Стой! Ні з месца! — закрычаў Яша.— Ты палонная!

Ліза зусім разгубілася. Яна глядзела на Яшу спалоханымі вачамі і не ведала, што сказаць. Дзяўчынка хацела ўцякаць, але Яша схапіў яе за руку.

— Пусці мяне, Яша,— Ліза раптам заплакала.— Я не хачу ў палон.

Але Яша яе не слухаў. Ён моцна трымаў сваю палонную за руку. У гэты час ён зусім забываўся на тое, што вучыцца з Лізай у адным класе, што яна дае яму кніжкі, сябруе з ім, што яна, калі была на Новы год Дзедам Марозам, дала яму цукерак больш, чым каму. Яша не помніў у гэтыя хвіліны баявога ўзрушэння нічога таго добрага, што зрабіла для яго Ліза.

Становішча першамайцаў было між тым нявыкрутным. На іх насядалі з двух бакоў. Войска белагаловага Косці кінулася наўцёкі. Наўздагон яму прыпусціла слабадская лёгкая кавалерыя. Але нікога дагнаць не ўдалося. Палоннай была адна толькі Ліза.

На Лізу спачатку ніхто не глядзеў. Усе хваляваліся, расказвалі адзін аднаму пра свае подзвігі. Аркадзь Панядзелак адразу ж аддаў дзіравыя штаны Калашкану і надзеў свае. Калі бой скончыўся, Яша адпусціў Лізіну руку. Ён стаяў побач і маўчаў. Яму было няёмка.

Нарэшце да Лізы падышоў Алёша.

— Палонная? — запытаў ён.— Вось зараз мы табе ўсыплем. Будзеш ведаць, як лезці да нас...

Лізу акружылі і разглядалі, як нейкага звярка. Яшу стала крыўдна.

— Палонных не б'юць,— сказаў ён цвёрда.— Яе трэба адпусціць. Бой ужо скончыўся.

— Гэта ж яго нявеста. Гы-гы-гы,— заржаў Аркадзь Панядзелак.— Яны яшчэ з першага класа шэпчуцца.

Кроў ударыла Яшу ў твар, і ён ужо не памятаў сябе. Ён схапіў Аркадзя за грудзі, і яны абодва пакаціліся па зямлі. Яша без літасці дубасіў Аркадзя па чым папала. Хлопцы кінуліся іх разбараняць. Ліза стаяла з белым як палатно тварам.

— А ты бяжы адсюль! — закрычаў на Лізу Алёша.— Чаго вылупілася?!

Ліза пабегла. Яна не паспела адбегчы і дзесяці крокаў, як Алёша загадаў Калашкану:

— Смальні па ёй з рагаткі. Будзе ведаць, як бегаць з хлопцамі.

— З дзяўчатамі я не ваюю,— Калашкан пры ўсіх схаваў сваю рагатку ў кішэню.

Ліза, адбегшы, нешта крычала і пагражала. Але яе слоў нельга было разабраць.

Яшчэ ніколі так не здаралася, каб Калашкан не выканаў Алёшавага загаду. Усе прымоўклі і чакалі, што будзе рабіць Тарабан. Але ён маўчаў. Ён, напэўна, сам адчуваў, што паводзіць сябе не так, як трэба.

Перамога была невясёлая. Не паспелі разбіць першамайцаў, як самі перасварыліся. Панядзелак румзаў і пагражаў Яшу. Калашкан стаяў надзьмуты. Ніякіх трафеяў, якімі б можна было ганарыцца, Слабодка не ўзяла.

— Будзем купацца,— сказаў Алёша.— Цяпер яны сюды і носа не пакажуць.

Але купанне не развесяліла. Хлопцы боўталіся ў вадзе, як нежывыя. Ніхто не хацеў ныраць, не пырскаўся і не пішчаў. Ніколі, мабыць, у час купання не было на Цітавай копанцы так ціха. Руды Алёша бачыў, што трэба нешта зрабіць, каб войска павесялела. Але што зрабіць, ён не ведаў...

У гэты час Змітрок Калашкан, які першы палез на бераг, незнарок скінуў у ваду Алёшава адзенне. Тарабанавы штаны адразу патанулі, бо ў іх у кішэнях было поўна розных жалязяк, а шапка без казырка паплыла па хвалях. Голы Тарабан кінуўся на Змітрака. У гэты час ён, пэўна, зусім забыў пра тое, што Калашкан — камандзір палка. Ён лупцаваў яго без літасці. Усю сваю злосць Алёша спагнаў на Калашкане. Змітрок не плакаў. Ён моўчкі выцер з разбітага носа кроў і надзеў свае дзіравыя штаны.

— Ты яшчэ папомніш мяне, Тарабан,— сказаў ён.— Ваюй цяпер адзін. Цалуйся са сваім Панядзелкам.

Калашкан пайшоў. Хлопцам было няёмка. Яны бачылі, што Алёша пакрыўдзіў Змітрака дарэмна. Але ніхто за яго не заступіўся. Усе маўчалі, таму што баяліся рудога Алёшы.

— Вельмі ганарлівы стаў,— сказаў Тарабан пра Змітрака.— Не слухае. Не трэба мне такія.

Алёшу падтакнуў толькі Аркадзь Панядзелак. Хлопцы моўчкі папляліся дадому. Першамайку разбілі, але ніякай радасці не было. Яша ішоў ад копанкі сумны і змрочны. Яго

душа працівілася парадку, які ўстанавіў у сваім войску руды Алёша. Ён рабіў што хацеў і ніколі ні з кім не лічыўся. Ён зневажаў усіх, хто сам ішоў за ім. Летась гэтак жа ён збіў і Яшу, і ніхто яго тады не абараніў. Перад вачамі Яшы паўставаў разгублены твар Лізы. «Можа, і сапраўды яе трэба было пусціць,— думаў ён.— Яна ж так прасілася. Гэты дурны Тарабан яшчэ хацеў яе набіць. А Змітрок малайчына, ён не паслухаў Тарабана...»

Назаўтра ў Цітавай копанцы плавала дохлая кошка. Яша адразу здагадаўся, хто яе туды ўкінуў, і яму стала лягчэй на сэрцы. Гэта зрабіла, вядома, Ліза. Яна па-свойму адпомсціла і Яшу, і рудому Алёшу за сваю ўчарашнюю ганьбу. Але Яша не крыўдаваў на Лізу. Яна ўсё-такі здорава прыдумала. Няхай цяпер Тарабан кусае сябе за локці. Цэлы месяц рыхтаваліся да бою, разбілі Першамайку, а ў копанцы ўсё роўна купацца нельга. Ніхто ж не палезе ў ваду, дзе плавае гэтая смярдзючая кошка.

Тарабан пагражаў Першамайцы, белагаловаму Косцю, абяцаў сцерці яго ў парашок, а Яша толькі ўсміхаўся. Ён ведаў, што Косця тут ні пры чым. Калашкан да копанкі зусім не прыйшоў, і Алёша прызначыў новым камандзірам палка Цярэшку Лузаніка.

## X

Статак, у якім каровы прабілі Рагулі бок, ганяў на пашу глухі Пепа. Яму трэба было крычаць у самае вуха, каб ён штонебудзь пачуў. Можа, і Рагуля пацярпела таму, што Пепа не чуў, як яе паролі другія каровы. Пепу лічылі блазнам. Адны гаварылі, што ён стаў прыдуркаватым ад вялікай навукі, другія расказвалі, што яшчэ ў грамадзянскую вайну яму разбілі галаву белапалякі. З таго часу ён і стаў слабы на розум. Але пэўна пра гэта ніхто з хлопцаў не ведаў.

Пепа быў высокі, худы, і вопратка на ім вісела як на калку. Ён заўсёды вінавата ўсміхаўся і нешта гаварыў сам сабе. Руды Алёша ніколі не прамінаў выпадку пасмяяцца з Пепы. Як толькі на вуліцы паказвалася доўгая, згорбленая постаць пастуха, Тарабан камандаваў:

— Пепа, паскачы!

І Пепа, няўклюдна выкідваючы ногі, скакаў. Ён выконваў любое жаданне Алёшы, калі толькі мог яго выканаць. Пепа мог есці зямлю, мог легчы тварам у гразь, мог вось гэтак нязграбна скакаць. У Яшы заўжды падступаў да горла нейкі салёны камяк, калі ён бачыў, як здзекуецца Тарабан з гэтага немаладога чалавека. Рудому ж Алёшу, відаць, прыносіла вялікае задавальненне тое, што дарослы Пепа ва ўсім яго слухае.

У Рагулі зноў вываліла бок, і Яша пагнаў яе на пашу. Толькі ён ганяў цяпер карову разам з Пепам. Яму трэба было наглядаць, каб Рагулю не зачапіла якая-небудзь бадлівая карова. Цяпер Яша быў рады, што адвязаўся ад Тарабана. У апошнія дні ён ужо радзей заглядваў на Тарабанаў двор і не вельмі радаваўся, калі Алёша яго за што-небудзь хваліў. Цяпер жа была добрая прычына зусім не хадзіць да рудога Алёшы.

Паводзіны Пепы з першага дня ўразілі Яшу. Ён не ляжаў цэлы дзень, як другія пастухі, падклаўшы світку пад бок, а ўвесь час, сагнуўшыся, нечага шукаў. Яша ўбачыў, што Пепа раз-пораз ірве і хавае ў кайстру нейкую траву. Потым ён звязвае гэтую траву ў пучкі.

— Навошта табе трава? — закрычаў у самае вуха пастуха Яша.

— Лекі,— усміхаючыся, адказаў Пепа.— Лекі...

Яшчэ праз колькі дзён Яша выявіў, што Пепа зусім не дурны. Хлопец проста дзеля цікавасці спытаў у яго, колькі будзе сто на сто.

— Дзесяць тысяч,— спакойна адказаў пастух.

Тады Яша папрасіў памножыць трыста дваццаць чатыры на семдзесят тры. Пепа памножыў імгненна. Ён не карыстаўся ніякім алоўкам і паперай. Ён мог складаць, аднімаць, множыць і дзяліць у памяці любыя лічбы. Яша аж спалохаўся. Здавалася, што ў Пепавай памяці загадзя былі запісаны адказы на ўсе яго пытанні.

З гэтага дня Яша пачаў глядзець на пастуха новымі вачамі. Ён толькі не разумеў, чаму Пепа так лёгка дазваляе Тарабану здзекавацца з сябе.

— Хочаш, я пакажу табе вужаку,— усміхаючыся, прапанаваў аднойчы Пепа.

— Навошта тая вужака? — Яша аж здрыгануўся.

— Не бойся, яна не ўкусіць...

Пепа прысеў пад вываратнем і выцягнуў адтуль тоўстую, як конскае пута, вужаку. Яна звівалася ў яго руках, але не кусала. Пепа рабіў з вужакай што хацеў: звязваў яе ў вузел, а яна толькі паціху сіпела. Яша не ведаў, што думаць пра Пепу. Дома ён расказаў усё маці.

— Ён чараўнік, сынок, вядзьмар,— сказала маці.— Не звязвайся з ім.

Але Яша не верыў, што Пепа вядзьмар. У школе гаварылі, што ніякай нячыстай сілы на свеце няма. Няма ні Бога, ні чорта, ёсць адна толькі прырода. Пепа ж наогул не быў падобны да ведзьмара. Ён быў ціхі, спакойны і нікому не рабіў ніякай крыўды.

Яша заўважыў, што пастуха любіць усё жывое. Ад яго не ўцякала ні адна карова, на яго не брахаў самы злосны сабака. Яны быццам адчувалі, што да іх падыходзіць чалавек з чыстай і адкрытай душой.

Пасучы разам з Пепам Рагулю, Яша рэдка ўспамінаў Тарабана. Што ўмеў Тарабан? Толькі крычаць на ўсіх і біцца. Пепа ж адкрыў для Яшы новы і цікавы свет.

Кожны дзень пастух паказваў хлопцу новыя птушыныя гнёзды. Ён умеў іх адшукваць па нейкіх нябачных, няўлоўных прыкметах.

— Жаўрук тут жыве,— сказаў Пепа, калі яны гналі статак цераз узаранае на папар поле.

Яша цэлую гадзіну кружыўся па загоне, абмацаў, здаецца, кожны каменьчык і нічога не знайшоў. Пепа ж усяго два разы пратупаў краем гоняў і паказаў Яшу намошчанае ў самай раллі гняздзечка, у якім ляжала пяць шэранькіх, пад колер зямлі, яек.

Другі раз Пепа паказаў Яшу гняздо голуба-туркаліка. Шызы голуб выводзіўся ў дупле, дзе-небудзь на высокім дубе, на які было нялёгка ўзлезці. А туркалік нават не масціў сабе добрага гнязда. Два белыя туркалікавыя яйкі былі добра відаць з зямлі, знізу.

Аднойчы Яша знайшоў гняздо сам. Ён здзівіўся: сярод невялікіх пяці шэранькіх яек ляжала адно сіняватае ў крапінку. Яно было большае за астатнія яйкі. Хлопец доўга ламаў галаву над гэтай праявай і ні да чаго не мог дадумацца. Прыйшлося паклікаць Пепу.

— Гняздо івалгі,— сказаў пастух.— А большае яйка падклала зязюля. Яна лянуецца карміць сваіх дзяцей сама...

Яшу стала крыўдна за зязюлю. Ён лічыў яе такой добрай і разумнай птушкай. Яна ўмела адгадваць, колькі хто пражывае на свеце гадоў, і вось на табе — не хоча карміць сваіх уласных дзяцей. Мабыць, і адгадвала зязюля таксама няправільна, раз яна несумленная птушка.

Пасвіць разам з Пепам было цікава. Ён многа ведаў, але амаль заўсёды маўчаў і толькі бездапаможна, па-дзіцячаму ўсміхаўся. Яша адчуваў сябе дужэйшым за Пепу, і ад гэтага было крыўдна. Такі ён вялікі, разумны, гэты Пепа, а яго ўсе лічаць дурным, насміхаюцца з яго. Чаму ён не пакажа людзям сваю сілу і розум? Яша некалькі разоў прыставаў да пастуха з гэтым пытаннем, але Пепа толькі ўсміхаўся.

— Мне так добра,— гаварыў ён натужным, ціхім голасам.— Я нікога не чапаю, і мяне ніхто не чапае.

Пепа клаўся на спіну і цэлую гадзіну глядзеў у неба, думаючы аб нечым сваім, незразумелым для Яшы.

## XI

Вуліца Першамайка нават сваім знешнім выглядам адрознівалася ад Слабодкі. Хаты былі тут пераважна новыя і не ляпіліся так густа, як у старой частцы сяла — Слабодцы. Амаль у кожным двары быў сад, а там, дзе яго не было, расло хоць некалькі дрэў. Вясной і летам вуліца нагадвала доўгі зялёны калідор.

У двары Косці Кветкі, дзе збіраліся першамайцы і дзе знаходзіўся галоўны штаб камуны, усе гэтыя дні панаваў змрочны і панылы настрой. Першамайскія хлопцы павесілі насы. Ніякай радасці не было. І летась паражэнне, і сёлета. Дзесяць разоў разбіралі прычыну вайсковай няўдачы і сыходзіліся на адным: ва ўсім вінаваты Аркадзь Панядзелак.

Каб не гэтыя восем перабежчыкаў на чале з Аркадзем, Слабодка нізавошта не адолела б Першамайку. Хіба мала першамайцы загартоўвалі сябе, рыхтуючыся да рашаючай бойкі? Кожны дзень займаліся на турніку, вучыліся поўзаць па-пластунску і біць з рагатак без промаху. Аркадзя з яго хлопцамі Першамайка да сябе не запрашала, ён набіўся сам. Даваў абяцанні, прысягаў, што болей ніколі не пяройдзе на бок Тарабана. Сам жа лаяў і высмейваў рудога Алёшу, і зноў пабег да яго падлізвацца. Гэтага нельга было зразумець…

Белагаловы Косця пакутаваў болей за ўсіх. Ён ніколі не думаў, што ім прыйдзецца гэтак цяжка. Калі ён арганізоўваў камуну, усё здавалася лёгкім і простым. Хіба ўдалося б ім, каб яны не дружылі, змайстраваць гэтыя самакаты або хоць адзін планёр? Вядома, не ўдалося б...

А гэтая вайна за копанку?! Яны ж толькі хацелі даказаць, што праўда на іхнім баку.

Першамайка ж зусім не збіралася, выйграўшы бітву, карыстацца Цітавай копанкай адна. Косця хацеў толькі роўнага права для сябе і сваёй вуліцы, каб купацца, калі захочацца. Той самы Ціт, які даўно памёр і які некалі выкапаў гэтую копанку, ён жа не жыў у Слабодцы. Не жыў ён, праўда, і на Першамайскай вуліцы, якой наогул у той час не было. Хутар старога Ціта стаяў наводшыбе ад сяла. Ад усёй сялібы засталіся толькі дзве грушы-дзічкі, некалькі спарахнелых пнёў ды зацягнутая зялёнай краскай, заросшая па берагах вербалозам копанка.

Таму былі ўсе падставы лічыць, што Цітава копанка з’яўляецца нічыёй і ніхто не мае на яе ніякага асаблівага права. Дык чаму ж тады дурны Тарабан ваюе за копанку, чаму ён хоча, каб у ёй купаліся толькі адны слабадскія хлопцы?..

Адчуванне несправядлівасці перапаўняла сэрца белагаловага Косці. Летась Тарабан забраў валейбольны мяч і сетку. Тады ледзь не разышліся ўсе хто куды. Добра, што ён, Косця, прыдумаў рабіць самакаты і планёры і ўгаварыў на гэта хлопцаў. А цяпер вось зноў няўдача...

Косця сядзеў на дубовым бервяне ў сваім двары хмуры і злосны. З раніцы ў штаб камуны не прыйшло і палавіны хлопцаў. Косця ведаў, што гэта азначае. Яму болей не вераць як камандзіру, не вераць, што Першамайка калі-небудзь

даб'ецца перамогі над Тарабанам. Ад гэтага хацелася плакаць...

Хутка разышліся і тыя, што з'явіліся з раніцы на двор Косці. Косця застаўся адзін. Ён схадзіў у бярэзнік, за свой агарод, дзе былі зроблены сховішчы для самакатаў. Ніхто з хлопцаў не паказаў сюды і носа. Ва ўсіх знайшліся нейкія неадкладныя справы, і ўсе пазбягалі свайго камандзіра. Косця вярнуўся ў свой двор, узяў кнігу і паспрабаваў чытаць «Палескіх рабінзонаў». Але чытанне не ішло ў галаву. Упершыню за свае дванаццаць гадоў Косця адчуў, што ён у бязвыхадным становішчы. Ён зайшоў у нейкі недарэчны тупік і не ведаў, як з яго выбрацца. Ён не бачыў за сабой ніякай віны, але ад гэтага боль не змяншаўся. Хлопцы яго пакінулі, можа, нават смяюцца з яго цяпер. Камандзір без арміі... А хіба ж ён напрошваецца ў камандзіры? Выбіралі самі, а цяпер самі адвярнуліся. Косцю было так цяжка, што проста не хацелася жыць...

Так мінуў дзень, і другі, і трэці...

На чацвёрты дзень прыехаў дзядзька Пятро з горада. Ён прыязджаў кожнае лета і жыў у Косцевай хаце. Бацькі свайго Косця не памятаў: ён служыў недзе аж у Туркестане на граніцы, і яго забілі там басмачы.

— Чаго раскіс, герой? — спытаў дзядзька.— Застаўся ў другагодніках?

— Не, проста так,— Косцю не хацелася глядзець дзядзьку ў вочы.

— А ты падрос за год. Такі стаў хлопец. На турніку займаешся? А як ваша камуна?

Косця маўчаў. Яму было сорамна перад дзядзькам.

Дзядзька Пятро быў вялікі, дужы, разумны і не прыставаў з роспытамі. Ён пагаліўся, потым, можа, цэлую гадзіну мыўся каля студні, пырскаючы вадой на дзесяць метраў вакол сябе.

Паабедаўшы, дзядзька расчыніў чамадан, выняў адтуль новенькую валейбольную камеру і падаў Косцю.

— Тую, што прывёз летась, разбілі, мабыць,— сказаў ён, смеючыся.— Разбілі ж, праўда?

Косця заплакаў. Ён стрымліваў сябе як мог, але слёзы ліліся самі. Яны сыпаліся як боб на босыя Косцевы ногі, і не

было ім упынку. Дзядзька моўчкі сеў побач з пляменнікам на ўслон і абняў яго за плечы. І тады Косця ўсё яму расказаў, не ўтаіўшы ніводнай драбніцы...

— Ну, а цяпер скажы, чаму ты плакаў? — спытаўся дзядзька Пятро.

— Таму, што я не вінаваты, а ўсе мяне не любяць. Што я зрабіў гэтаму Тарабану? Я яго ніколі першы не зачапіў, заўсёды ён нападае. І нашы хлопцы таксама добрыя. Лічаць, што адзін я вінаваты...

— Ты плакаў не таму, Косця,— мякка сказаў дзядзька Пятро.— Вашым жа хлопцам таксама крыўдна, што іх разбілі, але яны не плачуць. Яны проста пакінулі цябе, і ўсё. Ты ім болей непатрэбен. Слухай цяпер, што я табе скажу. Ты хацеў стаць героем, а з гэтага нічога не выйшла. Вось таму ты і плачаш, і злуешся.

Дзядзька гаварыў спагадліва, хораша, словы яго не крыўдзілі Косцю, але ён іх не разумеў. Навошта дзядзька памінае гэтае геройства? Хіба ён, Косця, патрабаваў сабе большага, чым іншыя хлопцы? Ён проста стаяў за сваю вуліцу.

— Я быў роўны з усімі,— прамовіў Косця.— Пры чым тут нейкі герой?

— Тады скажы, чаму ты стаў камандзірам? — спытаў дзядзька Пятро.— Чаму ў тваім двары штаб камуны?

— Выбралі мяне, і ўсё.

— Дык чаму ж ты крыўдзішся, калі цябе болей не хочуць слухаць. Тады выбралі, а цяпер не выбралі.

Косця нічога не адказаў. Ён не ведаў, што гаварыць. Хлопец адчуваў толькі, што дзядзька хоча яго суцешыць. Але боль і крыўда на хлопцаў, якія не хочуць яго разумець, ад гэтага не праходзілі.

— Жыве, брат, у нашых душах нейкая нязведаная прага да гераічнага,— гаварыў дзядзька Пятро.— Ты зялёны яшчэ і гэтага не разумееш. Я і сам ваяваў, калі мне было столькі, як табе. Японскага мікаду ў «палон» браў, ноччу на могілкі хадзіў. Страшна было, але ішоў, бо даў чэснае слова, што нічога не баюся. Толькі ў той час у нас камуны не было. Проста выхваляліся сваёй смеласцю адзін перад адным.

Дзядзька аб нечым задумаўся.

Першамайка ведала, што да белагаловага Косці прыехаў дзядзька з горада. Але ў штаб ніхто з хлопцаў усё адно не прыйшоў. Сёй-той пракрочыў па вуліцы міма Косцевай хаты, коса пазіраючы ў бок двара. Можа, хлопцы спадзяваліся, што на гэтым двары зноў вісіць валейбольная сетка і Косця з дзядзькам, як і летась, гуляюць у мяч. Але не было ні мяча, ні сеткі. Дзядзька хадзіў з крывым садоўніцкім нажом па садзе, абразаючы сухое галлё. Косця з панурым выглядам сядзеў на прызбе. Хлопцы адварочваліся і ішлі сваёй дарогай.

Назаўтра дзядзька зноў завёў размову пра геройства. Ён быў вясёлы, смяяўся, і яму, здаецца, не было ніякай справы да Косцевых пакут.

— Не ідуць да цябе твае хлопцы, атаман,— падкалоў ён Косцю.— Чаму б гэта?

— Не ідуць, і не трэба. Абыдуся і без іх.

— Не трэба, не трэба... А сам надзьмуўся як мыш на крупы. Скажы лепш, ты ведаеш, чаго хочуць твае хлопцы?

— Нічога яны не хочуць,— Косця адказаў са злосцю ў голасе.— Як было ўсё добра, дык і яны былі добрыя. А як дрэнна...

— Эге, браце-атамане, так гаварыць нельга. Можаш колькі хочаш сабе злавацца, але справе гэтым не паможаш. Валейбол у вас летась адабралі?

— Адабралі,— Косця здзіўлена паглядзеў на дзядзьку.

— Дык чаму ж ваша камуна тады не распалася?

— Я прыдумаў рабіць самакаты, потым мы ў школе п’есу ставілі. Ну і думалі, што пераможам Тарабана...

— А сёлета, значыць, і самакаты не памагаюць,— усміхнуўся дзядзька.— Дрэнь твае справы, Косця...

Днём дзядзька хадзіў на сяло і на станцыю, а пад вечар вярнуўся надзвычай вясёлы.

— Ведаеш што, Косця,— сказаў ён.— На якое ліха здалася табе гэтая Цітава копанка? Бачыў я яе. Гэта ж нейкая брудная лужына, а не копанка. Смурод там стаіць такі! Давай выкапаем новую.

— Удвух? — здзівіўся Косця.

— Паспрабуем удвух, а там відаць будзе...

Вечарам, узброіўшыся рыдлёўкамі, белагаловы Косця разам з дзядзькам Пятром пашыбавалі на першамайскі выган. Яны ішлі і не бачылі, што за імі праз шчыліны парканаў сочаць дапытлівыя вочы першамайскіх хлопцаў. І калі дзядзька, скінуўшы верхнюю кашулю, узяўся за рыдлёўку і пачаў сячы ёю дзёран, падышло трое цікаўных. Яны былі яшчэ без рыдлёвак.

— Хто не капае, купацца не пусцім,— сказаў дзядзька і папляваў на рукі.— Эх, і копанка будзе!..

У той вечар прыйшлі з рыдлёўкамі шэсць хлопцаў. Дзядзька Пятро паехаў назад у свой горад праз тры дні.

Тады яшчэ не было выкапана нават палавіны копанкі.

## XII

На Тарабанавых зборах Яша цяпер не з'яўляўся. Ён быў заняты. Рагуля ўсё яшчэ не магла хадзіць у чарадзе, за ёю быў патрэбны асобны нагляд. Хлопец пакутаваў ад адзіноты. Пепа блукаў паміж пнёў, ірвучы нейкія зёлкі. Ён мог прахадзіць так цэлы дзень, не прамовіўшы ні слова. Яго, здаецца, нішто не цікавіла на гэтым свеце, апрача свайго ўласнага роздуму і пошукаў лекавых траў.

Аднойчы Яша спаткаўся са Змітраком Калашканам. Змітрок вылез з альхоўніку, перад якім пасвілася Рагуля. Ён цягнуў на спіне вялікую вязку сакавітага бабоўніку.

— Я цяпер да Тарабана не хаджу,— адразу прызнаўся нядаўні камандзір палка.— Ён здурнеў зусім. Няхай са сваім Панядзелкам мілуецца. Задавака...

Змітрок лаяў рудога Алёшу апошнімі словамі.

Ён, відаць, не мог дараваць яму сваёй ганьбы ля Цітавай копанкі. Алёша тады збіў яго проста за нішто.

— Ён яшчэ мяне папросіць, каб прыйшоў,— гарачыўся Змітрок.— Але дудкі, не на таго натрапіў. Можаш перадаць яму.

— Я не пайду да Тарабана,— сказаў Яша.— І не буду яму нічога перадаваць. Не хачу я болей з ім...

Змітрок прасвятлеў. Ён сядзеў на вязцы бабоўніку і ўсміхаўся.

— Я так і ведаў. Цябе ж Алёша таксама біў, дык навошта за ім бегаць. Думаеш, я па гэты бабоўнік сюды прыйшоў? На чорта ён мне. Занясу бабцы, няхай не крычыць, што гуляю. Я хацеў цябе пабачыць...

Калашкан прабыў з Яшам да самага вечара. Яны разам гналі Рагулю дадому.

— А табе не страшна з гэтым дурным Пепам? — спытаў па дарозе Змітрок.

— Ён разумны,— бараніў Пепу Яша.— Ён, каб захацеў, мог бы настаўнікам стаць.

— Настаўнікам? — здзівіўся Калашкан.— Тарабан жа загадае яму, дык ён скача на вуліцы. Які ж з яго настаўнік, калі ў яго клёпкі не хапае?

— А хіба дурны можа рашыць задачу? А Пепа якую хочаш рашыць у галаве, без ніякай паперы. Ён толькі не хоча нічога. Хто яму што скажа, ён тое і робіць. Можа, ён хворы трохі. А так ён разумны...

— Дык чаму ж ён усіх слухае?

— Не ведаю, я ж кажу, можа, хворы...

Змітрака ўразіла, што пастух не баіцца гадзюк і злосных сабак. Яны ўсю дарогу размаўлялі пра Пепу і не прыйшлі ні да якой пэўнай думкі.

— У яго, мабыць, адна палавіна галавы разумная, а другая не,— выказаў здагадку Змітрок.— Але чаму ж яго не кусаюць гадзюкі?

Гэтага Яша не ведаў.

Цяпер Калашкан прыходзіў да Яшы штодня. Яны разам выганялі Рагулю і да вечара бадзяліся па лесе. Змітрок быў добры хлопец. Ён не крыўдаваў, калі што не так, і не любіў біцца. Калашкан мог не есці цэлы дзень і ніколі не ўспамінаў пра яду. Яша проста дзівіўся.

— Я прывычны,— адказаў Змітрок.— Бабулі самой мала, а я магу наесціся зайцавай цыбулі. Я яе колькі хочаш ведаю...

Хлопцы дзялілі Яшаў абед папалам і шукалі зайцавай цыбулі. Яна расла на пясчаных узгорках па сасонніку, была вельмі смачная, і Яша не мог зразумець, чаму дарослыя не любяць зайцавай цыбулі. Калі нарваць яе цэлы жмут ды яшчэ назбіраць прыгаршчы суніц, то не трэба ніякі абед.

Калашкан не быў балбатлівы, і Яша паказаў яму ўсе гнёзды, якія ведаў.

— Як птушкі падрастуць, я забяру іх дадому,— пахваліўся ён.— Будуць у мяне жыць, спяваць. А яды ім хіба многа трэба? Мух і чарвякоў колькі хочаш...

Змітрок ухваліў гэты план. Са свайго боку ён прапанаваў нарабіць клетак, каб птушкі не паўцякалі.

— На той год яны пачнуць несціся,— гаварыў ён.— Прывыкнуць і будуць самі прылятаць на двор.

Першымі хлопцы прынеслі чатырох варанят. Іх пасадзілі ў вялікую фанерную скрынку і паставілі на вышкі. Вараняты не вельмі сумавалі па гняздзе і не перабіралі харчам. Яны елі чарвякоў, вараную бульбу, хлеб і былі заўсёды галодныя.

— Прывыклі,— радаваліся хлопцы.— Ім лепей, як у гняздзе...

Клетку з галубамі-туркалікамі, якіх Яша забраў з гнязда, паставілі ў хаце. Галубы цэлы дзень нічога не елі, але на другі дзень пачалі патроху дзяўбці хлебныя крошкі і піць ваду. Кот Кузьма цяпер па цэлай гадзіне праседжваў каля клеткі, і вочы ў яго гарэлі зялёным агнём. Было ясна, што Кузьма зрыўся на птушак і яго трэба было ад гэтай паганай прывычкі адвучыць. Яша са Змітраком нямала паламалі галаву, каб як прымусіць ката падружыцца з птушкамі.

— Яго трэба добра карміць,— выказаў думку Змітрок.— Ён тады не зачэпіць туркалікаў.

Але Кузьма, выхлебтаўшы цэлы чарапок малака, падыходзіў да клеткі і па-ранейшаму не зводзіў сваіх зялёных вачэй з галубоў. Тады хлопцы ўжылі больш рашучыя меры. Змітрок трымаў у руках голуба, а Яша лавіў ката і, паднёсшы яго да птушкі, бязлітасна лупцаваў. Кот драўся кіпцюрамі і ўцякаў з усіх ног.

Так працягвалася, можа, цэлы тыдзень. Кузьма ўжо не адважваўся падыходзіць да клеткі. Хлопцы парашылі, што ён як агню баіцца шыракахвостых туркалікаў. Аднойчы Яша адчыніў клетку. Адзін голуб вылецеў адтуль і сеў на падаконнік. У тую ж хвіліну Кузьма маланкай сігануў з печы і ў адно імгненне адарваў туркаліку галаву.

Яша лупцаваў ката да знямогі. Але справе гэта не памагло. Голуб быў мёртвы, і ніхто не мог яго ажывіць. Хлопцу стала

сумна. Гэты свет быў заснаваны яўна несправядліва. Чым пакрыўдзіў прыгожы маладзенькі туркалік сытага пушыстага Кузьму? Ці нельга зрабіць так, каб ніхто нікога не чапаў і ўсе — птушкі, звяры — жылі самі па сабе і не нападалі адно на аднаго.

Яша са Змітраком пахавалі туркаліка з пашанай. Зрабілі невялікую труну і на магіле паставілі помнік. Пасля гэтага справы з птушкагадоўляй пайшлі ў хлопцаў яшчэ горш. Маленькія птушачкі — чакунцы, снегіры, паўзункі — не хацелі жыць у клетках і паміралі. Яны вялі за дзень-два, не дакрануўшыся да казюлек, мух і камароў, якіх не шкадавалі для іх хлопцы. Яша зусім засмуціўся. Птушыныя могілкі раслі з кожным днём. Бессардэчны Кузьма вынюхаў гэтыя могілкі і не пасаромеўся павыграбаць мёртвых птушак і паесці.

Жылі толькі чатыры вароны і туркалік. Вароны адчувалі сябе добра. Яны каркалі на ўсё горла, просячы ежы. Туркалік крыху сумаваў у адзіноце. Яша ўжо збіраўся перавесці яго да варон. Але тут здарылася нечаканае.

Аднаго разу, прыгнаўшы Рагулю з пашы, Яша са Змітраком палезлі на вышкі і засталі клетку пустой. Варон не было. Хлопцы не ведалі, што і думаць. Але хутка ўсё стала ясна. Варон нехта пазабіваў, і яны кучай ляжалі ў кутку хлява. Яша гатовы быў кінуцца з кулакамі на таго, хто ўчыніў гэты нечуваны здзек. Якраз выйшаў з хаты бацька, і Яша са слязьмі на вачах падбег да яго.

— Не румзай,— сказаў бацька.— Навошта ў хляве гэтая дрэнь? Яшчэ куранят перадушаць твае вароны. Што ты — сала з іх есці будзеш?

Нават родны бацька не хацеў разумець Яшу. Нікога, апрача абарванага Калашкана, не было цяпер на белым свеце, хто б здолеў суцешыць Яшу. І Змітрок суцешыў.

— Не трэба плакаць,— разважліва сказаў ён.— Старыя ўсе скупыя. Мая бабуля такая самая. Я летась прынёс вожыка, дык яна абліла яго варам. Прыдумала, што ён з’еў кураня. А кураня ў крапіве знайшлося. Яно здохла само.

З Калашканам Яша здружыўся моцна. Ён кожнай раніцы агародамі бег да яго. Вуліцай хлопец не хадзіў — баяўся напаткаць Тарабана. Яны з Калашканам нават правялі адзін да

аднаго тэлефон. Для гэтага Змітрок сцягнуў у бабулі клубок нітак, і яны разматалі яго па агародах ад Калашканавага да Яшавага двара.

Пепа, убачыўшы неяк у руках у Яшы дзвюх маленькіх берасцянак, раззлаваўся. Такім злосным Яша не бачыў яго ніколі.

— Птушак нельга чапаць,— пырскаў ён слінаю.— Без птушак загіне і лес, і поле...

Пепа крычаў і не ведаў, што хлопец не думае рабіць птушкам ніякай шкоды. Яша ж хацеў толькі, каб гэтыя берасцянкі жылі ў яго... Сварыцца з пастухом Яша не жадаў, і таму ён выпусціў берасцянак.

Яны весела пархнулі і зніклі з віду.

У абед прыбег Змітрок і прынёс навіну, ад якой Яша адразу забыў пра Пепу.

— Тарабана разбілі першамайцы ўшчэнт,— хвалюючыся, расказваў Калашкан, і нельга было зразумець, радуецца ён ці не.— Яны выкапалі сабе новую копанку, а Тарабан хацеў адбіць яе ў іх, каб купацца самому. Дык яму ж і далі!.. Гналі да самага двара і цяпер, не баючыся, ходзяць па нашай вуліцы. Я казаў, што ён дамілуецца са сваім Панядзелкам. Каб я быў там, то не разбілі б...

— Першамайцы выкапалі новую копанку? — здзівіўся Яша.

— Выкапалі. Мне Бахілка расказаў. Копанка маленькая, але вады па самую шыю.

— Дык чаго ж Алёша лез да першамайцаў? Копанка ж іхняя. Гэта ж Цітаву ніхто не капаў...

— Так яму і трэба, Тарабану,— радаваўся Змітрок.— Бахілка казаў, што таксама болей не будзе служыць у арміі. Алёша толькі б’ецца і крычыць. Ён думае, што яго ўсе баяцца. А гэты белагаловы Косця нікольկі не баіцца.

Паражэнне сваёй слабадской арміі на гэты раз зусім не засмуціла Яшу. Яму не хацелася, як летась, бегчы на Тарабанаў двор і ўступаць у войска рудога Алёшы.

## XIII

Лета канчалася. Яша ўжо купіў падручнікі для трэцяга класа і наперад ведаў усю чытанку. Яму хацелася ў школу. Ён успамінаў гаманлівую мітусню на перапынках, урачыстую цішыню класа, калі Марыя Рыгораўна вось-вось павінна некага выклікаць, паўзмрок школьнага музея, дзе былі чучалы розных птушак, а ў шафе за шклом стаялі шклянкі з заспіртаванымі гадзюкамі, вужакамі і living рознымі рыбамі. За лета Яша назапасіў многа пытанняў, на якія магла адказаць толькі настаўніца. Ён і сам пра многае даведаўся за гэтае лета, бадзяючыся з Калашканам па лесе. Таму Яша наперад уяўляў сабе, як здзівяцца Марыя Рыгораўна, Ліза, усе іхнія вучні, калі ён пачне расказваць пра тое, што бачыў і чуў.

Вайной з Першамайкай хлопец перастаў цікавіцца зусім. У глыбіні душы ён нават радаваўся, што Тарабанава армія разбіта. Мабыць, выплылі наверх усе тыя крыўды, якія прычыніў Яшу руды Алёша. У Яшавых думках Тарабан займаў цяпер зусім мала месца. Ён здаваўся хвальком, задавакам, і болей нічога.

А з рудым Алёшам здарылася няшчасце. Ён знайшоў у бацькавай краме за скрынямі салодкі коржык і з’еў яго. Тарабан не ведаў, што гэты коржык атручаны і падкінуты спецыяльна для мышэй. Праз некалькі хвілін Алёша пачаў страшэнна крычаць, і яго бацька, здагадаўшыся, у чым справа, кінуўся да доктара. Доктара якраз не было, ён паехаў у другую вёску. Фельчарыца прамыла Алёшу страўнік, але боль не праходзіў. Усе думалі, што Тарабан памрэ. Вечарам паклікалі Пепу. Ён прынёс нейкага травянога настою і даў выпіць хвораму. Ад гэтага зелля боль сцішыўся, і Алёша заснуў. Ён спаў цэлую ноч і яшчэ дзень. Доктар, які прыходзіў пасля Пепы, сказаў, што небяспека мінула і хворы хутка стане на ногі.

Вестка аб тым, што Пепа выратаваў рудога Алёшу ад смерці, уразіла хлопцаў, нібы пярун з яснага неба. Толькі Яша не здзівіўся. Ён даўно ведаў, што Пепа не дурны, што гэта толькі так думаюць пра яго, бо ён усіх слухаецца.

— Я табе даўно казаў пра Пепу,— спаткаўшыся з Калашканам, хваліўся Яша.— Ён ад усякай хваробы можа вылечыць. І бачыш, ён зусім не помсціцца: Алёша з яго здзекаваўся, а ён яго ўратаваў ад смерці.

Калашкан цяпер не спрачаўся. Ён толькі не мог зразумець, чаму Пепа не ідзе ў бальніцу і не заявіць дактарам, што ўмее лячыць.

Дні ішлі.

Да Алёшы, які не ўставаў з пасцелі цэлых два тыдні, ніхто з хлопцаў не хадзіў. Нават Алесь Бахілка і Аркадзь Панядзелак, якія лічыліся камандзірамі палкоў, абміналі Тарабанаў двор. Яша не вытрымаў і падкалоў аднойчы Бахілку, які, налаташыўшы яблыкаў, еў іх на поўны рот.

— Ты хоць бы адно Алёшу занёс. Даведаецца ён, што адзін еў, то пералічыць табе рэбры...

Бахілка пачырванеў і ў першую хвіліну нічога не змог адказаць.

— Я сам па сабе, а Тарабан сам па сабе,— прамовіў ён нарэшце.— Хіба я наймаўся яму служыць?

— Вось Аркадзь пра ўсё раскажа Алёшу, тады будзеш ведаць.

— Няхай расказвае,— абыякава адазваўся Алесь.— Што я такое зрабіў?

Алёшава армія распадалася на вачах. Ніхто не хваліўся першай сёлетняй перамогай ля Цітавай копанкі. Хлопцы нават не злавалі, калі хто-небудзь успамінаў, як першамайцы гналі іх ад сваёй новай копанкі. Лопнуў нейкі абручык, парваліся нябачныя ніці, якімі яшчэ нядаўна ўсе былі моцна звязаны.

Вайна скончылася паражэннем Слабодкі, і ніхто не хацеў пра гэта ўспамінаць...

Незадоўга да заняткаў Яша з Калашканам пайшлі ў арэхі. Арэхаў было мала, хлопцы нарвалі ўсяго па адной кішэні. Нехта ўжо тут добра папасвіўся. Выбраўшыся з густога ляшчынніку на паляну, Яша са Змітраком ледзь не самлелі ад страху: проста на іх ішоў белагаловы Косця са сваімі першамайцамі. Сябры ўжо хацелі рвануць наўцёкі, але чамусьці стрымаліся. На твары Косці і хлопцаў, што яго акружылі, не было ніякай злосці.

— Не бойцеся,— проста сказаў Косця.— Мы не будзем біцца.

Першамайцы сапраўды не збіраліся ні караць, ні забіраць у палон сваіх нядаўніх праціўнікаў. Яны трашчалі арэхамі і

з цікавасцю глядзелі на Яшу і Калашкана. Але размова не клеілася. Ні Яша, ні Змітрок не ведалі, пра што гаварыць...

— Калі хочаце, пайшлі з намі,— прапанаваў Косця.— Арэхаў не нарвяце, мы ўжо былі тут.

Калашкан і Яша пайшлі. Яны хоць і не ўдзельнічалі ў апошнім налёце на Першамайку, але нібы адчувалі віну перад белагаловым Косцем і таму маўчалі. Першамайцы размаўлялі пра сваё. Яны гаварылі пра нейкія качэлі і пра слуп, які трэба выкапаць ля старой грэблі. Яша заўважыў, што першамайскія хлопцы зусім не баяцца белагаловага Косці. Яны перабіваюць яго і нават з ім спрачаюцца. Гэта здзівіла і ўразіла Яшу.

Хлопцы непрыкметна дайшлі да першамайскага выгану, і тут Яша ўбачыў новую копанку, якую хацеў захапіць руды Алёша. Копанка была невялікая, але, мабыць, глыбокая. Вада ў ёй светлая, зусім не такая, як у Цітавай. Паблізу стаяў невялікі буданчык.

— Вы доўга яе капалі? — спытаў Яша.

— Цэлы месяц,— з гонарам адказаў хлопец, якога звалі па-вулічнаму Брык. Сапраўднага імя хлопца Яша не ведаў, бо той перайшоў толькі ў другі клас.— Цэлы месяц капалі,— хваліўся Брык.— Мы сюды нават малькоў пусцілі. Налета будзем лавіць карасёў і шчупакоў.

— Карасёў не будзе,— заявіў Яша.— Застануцца адны шчупакі.

— Чаму? — вылупіўся Брык. Ён пазіраў на Яшу з незахаванай варожасцю.

— Шчупакі з’ядуць карасёў,— адказаў Яша, помсцячы Брыку за лішнюю самаўпэўненасць.— Які дурань пускае карасёў разам са шчупакамі.

Брык анямеў. Ён не чакаў такой смеласці ад Яшы, які адкрыта выступаў супроць першамайскіх парадкаў.

— Вы ўсе такія! — апомніўшыся, залямантаваў Брык.— У вас ніякай копанкі няма, дык вы хацелі нашу захапіць...

— Мы з ім не нападалі на вас,— падтрымаў Яшу Калашкан.— Мы даўно выйшлі з Тарабанавай арміі.

— Сціхні, Васіль! — умяшаўся ў спрэчку белагаловы Косця.— Ты заўсёды крычыш болей за ўсіх.

— Яны ўсё разведаюць і нападуць на нас,— не супакойваўся Брык.— Вось пабачыце.

Яшу стала няёмка. Ён тузануў Калашкана за рукаў, запрашаючы пайсці прэч ад гэтай копанкі, на якую яны не мелі ніякіх правоў. Хлопцы рушылі, ні з кім не развітаўшыся. Іх дагнаў на паўдарозе сам белагаловы Косця. Ён аж задыхаўся ад шпаркага бегу.

— Не слухайце вы гэтага Брыка,— сказаў Косця.— Ён нічога не разумее, таму і крычыць. Пайшлі купацца...

Хлопцы пераглянуліся. Яны ніколі не думалі, што Косця такі добры. Ён запрашаў купацца ў той самай копанцы, якая належала толькі першамайцам і якую нядаўна іхні Тарабан хацеў захапіць.

— Мы не хочам ніякай вайны,— расказваў па дарозе Косця.— Але з вашым гэтым Алёшам хіба дамовішся? Ён проста дурань. У нас жа не армія, а камуна. Зрабіце і вы, калі хочаце, камуну. А навошта біцца?

— Тарабана ніхто не слухае болей,— жадаючы сказаць Косцю прыемнае, прамовіў Яша.— Ніякай арміі ўжо няма. А мы з Калашканам даўно ўжо не ваюем.

— Я вас і даганяў таму,— прызнаўся Косця.— Давайце дружыць. Скажыце хлопцам, няхай прыходзяць да нас. Мы гіганцкія крокі, качэлі такія, будзем рабіць. На слупе...

Брык стаяў надзьмуўшыся. Ён, відаць, не мог дараваць Яшу абразы і не разумеў, чаго Косця вярнуў назад гэтых хлопцаў са Слабодкі.

— Усё ж мы вам далі,— сказаў Брык, убачыўшы, што ні Яша, ні Калашкан болей не збіраюцца ісці дамоў.— Мы ведалі, што гэты ваш Тарабан нападзе. У нас было, можа, сто пудоў каменняў.

— Алёша цяпер баіцца вас,— супакоіў Яша Брыка.— З ім болей ніхто не гуляе, і арміі ў яго няма.

— Няхай ён паспрабуе толькі! — гарачыўся Брык.

Яша з Калашканам прабылі ў першамайцаў да вечара. Хлопцы бачылі два іхнія самакаты. Іх сапраўды не трэба было папіхаць ззаду. Толькі вадзі за рычаг уперад і назад. Ніякай камуны, апрача невялікай будачкі, дзе змяшчалася крама, хлопцы не заўважылі. У гэтай краме было не дужа тавараў. Ляжала некалькі груш і яблыкаў — вось і ўсё.

— А хто ж прыносіць сюды яблыкі? — пацікавіўся Яша.

— Усе, у каго ёсць сад,— расказваў Косця.— Пасля работы мы іх дзелім. А хто не працаваў, таму нічога не даём. У нас і свая бібліятэка ёсць, і майстэрня...

— І ў вас многа кніг?

— Дзевятнаццаць штук. Але цікавых толькі шэсць,— прызнаўся Косця.

— А ў вашу бібліятэку можна запісацца?

— Можна, толькі трэба прынесці сваю кнігу.

Кнігі ў Яшы не было, і гэта яго засмуціла. Прапанаваць стары падручнік арыфметыкі ён не адважыўся, а «Містара Твістэра» — падарунак настаўніцы — не хацелася аддаваць.

— У мяне ёсць кніга пра Бураціна і залаты ключык,— успомніў Яша.— Толькі ў мяне палавіна, я яе сам перапісваў...

— У нас ёсць Бураціна,— сказаў Косця.— Прынесла Ліза. Нічога, мы цябе запішам і без кнігі. Прынясеш, як будзе ў цябе.

Добры хлопец гэты белагаловы Косця. Ён нічога не шкадаваў і адразу ішоў на ўступкі. Яшу ён вельмі спадабаўся. Калашкан таксама не сказаў нічога дрэннага пра Косцю.

— Толькі ён нейкі ціхі,— здзівіўся Змітрок.— Ён жа і крычаць не ўмее. Як толькі Косця камандаваў войскамі і перамог Тарабана?

Гэта было дзіўна і незразумела. Ціхі, памяркоўны Косця здаваўся слабым у параўнанні з самаўпэўненым, грубым Алёшам. Не, ні Яша, ні Змітрок не маглі ўявіць Косцю камандзірам. Але ж неяк ён з’яднаў Першамайку?

## XIV

Белагаловы Косця любіў чытаць. Кнігі прывабілі яго вельмі рана, можа, з дзевяці ці нават з васьмі гадоў. Маці з раніцы ішла на работу, малодшая сястра не ўмешвалася ў Косцевы справы, клапоцячыся толькі аб сваіх ляльках, якіх трэба было і накарміць, і абшыць. Косця быў самастойны і незалежны. Ён рабіў што хацеў у сваёй прасторнай хаце з двух пакояў. І ён чытаў. Чытанне займала большую частку таго часу, якога ў Косці было колькі хочаш. Да дванаццаці год хлопец праглынуў, мабыць, болей за сотню кніг. Магчыма,

па гэтай прычыне Косця і вылучаўся сярод астатніх хлопцаў Першамайкі. Ён заўсёды ўсё ведаў. Ён мог расказаць і пра пустыню Сахару, і пра Паўночны полюс, і пра тое, што людзі хутка паляцяць да зорак.

Здавалася, на белым свеце не існуе ніводнай загадкі і таямніцы, пра якую б белагаловы Косця нічога не ведаў. Першамайскія хлопцы гарнуліся да Косці і даражылі яго сяброўствам.

Была, вядома, яшчэ адна надзвычай важная прычына, якую нельга скідаць з рахунку, калі гаварыць пра папулярнасць Косці на Першамайскай вуліцы. Дзверы яго хаты гасцінна расчыняліся перад кожным, хто б пажадаў сюды зайсці. Тут было заўсёды людна. Хлопцы таўкліся ў Косці ад ранку да вечара. Ніхто на іх не крычаў і ніхто не ўмешваўся ў іх справы. Косця вызначаўся надзвычай добрым і памяркоўным характарам: ён дазваляў у сваёй хаце ўсё. У яго гулялі ў шашкі, майстравалі розныя машыны і хітрыя штукі, а калі на стале ляжаў бохан хлеба, то адломлівалі па ёмістаму кавалку і елі, нібы свой уласны. Нездарма пазней, калі арганізавалася камуна, Косцева хата стала штабам.

Яша і Калашкан штодня хадзілі цяпер на Першамайку. Яны, як свае, купаліся ў копанцы, гулялі з першамайцамі ў «ялавога» і «кругавога». Каля самай копанкі стаялі ўжо качэлі. Іх памагалі ставіць і Яша з Калашканам. Яны разам з усімі хлопцамі неслі слуп ад самай старой грэблі. Змітрок у дадатак забяспечыў першамайцаў жалезным колам, якое ён прывалок з дому. Без гэтага кола, што круцілася на самым версе слупа, не было б ніякіх качэляў. Так што цяпер Яша і асабліва Змітрок мелі свае заслугі перад Першамайкай і ніхто не мог папракнуць іх за мінулае.

З Лізай Яша таксама памірыўся. Ён убачыў яе ў першы ж дзень, як яны прыйшлі на Першамайку. Яшу было вельмі сорамна за тое, што ён тады ўзяў Лізу ў палон. Але яна пра гэта не ўспамінала сама і, здаецца, ніколі не крыўдавала за мінулае.

— У цябе ёсць сшыткі? — спытала Ліза.

— Пяць штук,— Яша паглядзеў у зямлю.— І адзін леташні, падпісаны. Але ён зусім чысты...

— А ў мяне дваццаць. Мне мама купіла...

Яша маўчаў. Ён не мог пахваліцца такім багаццем.

— Я табе два сшыткі дам,— сказала Ліза.— І сцірку дам, у мяне дзве...

Вядома, і пасля гэтага сшыткаў у Лізы заставалася больш, але Яша лішняга не хацеў.

Яша аднойчы спытаў у белагаловага Косці пра камуну. Ён яшчэ не дужа верыў, што яна ў першамайцаў ёсць. Аркадзь Панядзелак расказваў пра агарод, майстэрню і сталовую, але нічога гэтага Яша не бачыў. Таму ён думаў, што Аркадзь проста хлусіў. Нельга ж два самакаты і тую маленькую будачку, дзе ляжыць трохі яблыкаў, лічыць камунай... Камуна ўяўлялася Яшу чымсьці вялікім, прыгожым, дзівосным, што бывае толькі ў казцы.

Косця засмяяўся.

— Камуна — гэта не казка,— сказаў ён.— Проста ўсе людзі будуць некалі так жыць. Мы робім усё разам, вось табе і маленькая камуна. Ты ж адзін качэлі не паставіў бы...

Нічога дзіўнага, незвычайнага першамайцы сапраўды не рабілі. Але ў іх было весела. Таму Яша і Змітрок, як толькі здаралася вольная часіна, беглі на Першамайку. Адзін раз яны ўбачылі нешта зусім новае. На Косцевым двары стаяла аж тры тачкі. На іх хлопцы грузілі нейкія палкі.

— Гэта крушына,— растлумачыў Косця.— Мы яе сушылі, а цяпер возім здаваць. Пудоў дваццаць у нас. Мы грошы збіраем на лыжы і канькі.

Яша і Калашкан не верылі сваім вушам. Яны ніколі не думалі, што за крушыну плацяць грошы. Яе ж у лесе можна наламаць колькі хочаш.

— Мы і лазу здавалі,— хваліўся Косця.— І ўжо зарабілі сорак восем рублёў.

Яша ледзь не плакаў. У яго не было ні канькоў, ні лыж. Каб ён ведаў, то даўно б перайшоў да Косці і сушыў бы гэтую самую крушыну.

Першамайцы нагрузілі свае тачкі і павезлі крушыну. Яша і Змітрок ішлі за імі ўслед з апушчанымі галовамі. У іх былі толькі канькі-дзеравяшкі, і спадзявацца на лепшае пакуль што не прыходзілася.

— Можа, вы будзеце яшчэ сушыць крушыну? — з надзеяй спытаў Яша.

— Не, болей не прымаюць,— Косця, мабыць, шкадаваў, што залішне пахваляўся.— Будзем яшчэ здаваць косці і жалеза.

— Мы касцей і жалеза можам сто пудоў назапасіць,— загарэўся Яша.

— Здадзім тады разам,— паабяцаў Косця.

У Яшы нібы выраслі крылы. Ён ужо бачыў новыя снягурачкі, якія справіць, і ўяўляў сабе, як будзе на іх імчацца па звонкім ільду.

Гэтыя першамайцы былі проста цудоўныя хлопцы. Яны не толькі сушылі крушыну, збіралі косці і жалеза. Яны яшчэ хадзілі абкопваць дубкі, лавілі капканамі кратоў і нават памагалі касіць калгаснае жыта. Яша цяпер бачыў, што Косця не хваліцца. На Першамайцы такі была камуна...

Яша хутка здагадаўся: белагаловага Косцю болей за ўсё на свеце цікавілі планёры. Першамайскі камандзір нават не даваў нікому патрымаць планёр у руках, а хаваў яго ў сваёй хаце на печы. Ён склеіў планёр па малюнку, які быў змешчаны ў часопісе. Першамайскія ж хлопцы, здаецца, не вельмі цікавіліся авіятарскімі захапленнямі свайго камандзіра. Яны нават падколвалі яго.

— Не паляціць твой планёр,— раўнадушна гаварылі яны.— Летась жа не паляцеў.

Косця злаваўся.

Нарэшце настаў дзень выпрабавання. Яша прыйшоў на Першамайку яшчэ з раніцы. Яму дужа хацелася паглядзець, як паляціць планёр. Першамайскія хлопцы сабраліся ля Косцевай хаты. Сам Косця сядзеў на даху. Адтуль ён і запусціў планёр. Але гэты планёр далёка не паляцеў. Ён пратрымаўся ў паветры, можа, якіх секунд пяць і ўпаў на вуліцу ў пясок. Косця злез з даху прыгнечаны і змрочны. Усе бачылі, што добрых планёраў ён клеіць яшчэ не ўмее...

Але гэта былі дробязі — самакаты, крушына, планёр — у параўнанні з тым, што хутка адкрылі Яша і Калашкан на Першамайцы. Першамайскія хлопцы, аказваецца, трымалі моцную дружбу са старым Лявонам, які пасвіў калгасных коней.

Канюшня знаходзілася ў канцы вуліцы, і, калі гналі коней на начлег, можна было скакаць верхам праз усю Першамайку. Гэта асабліва ўзрадавала Яшу. Колькі ён марыў, каб прамчацца верхам на кані на вачах у настаўніцы Марыі Рыгораўны і Лізы. Цяпер яго мара была блізка да здзяйснення.

Яша, хвалюючыся і баючыся, што яму адмовяць, у той жа дзень папрасіўся ў Косці ўзяць яго на начлег. Косця ахвотна згадзіўся.

— Мы пасвім коней да поўначы,— прызнаўся Косця.— Стары Лявон спіць толькі да першых пеўняў, а потым прачынаецца і спаць не можа. Але спіць ён моцна і баіцца, каб коні не нарабілі шкоды. А за тое, што мы пасвім, ён дае нам колькі хочаш ездзіць верхам...

Гэта было цудоўна. Пра лепшае Яша не мог і марыць. У той жа вечар ён скакаў на кані. Ён ляцеў услед за белагаловым Косцем і бачыў, што Марыя Рыгораўна стаяла ля сваіх веснічак. Яна, здаецца, таксама заўважыла Яшу. Толькі Лізы ў гэты час на вуліцы не было. Але Яша ўсё адно радаваўся. Ён цяпер ужо ведаў, што і Ліза ўбачыць яго на кані. Коней жа гоняць на начлег кожны вечар...

Цудоўная летняя ноч вісела над зямлёю. Справа была вёска, злева — шырокі расісты луг, а зверху — неба, засеянае, можа, мільярдам зорак. На поплаве хлопцы расклалі агонь і паселі вакол яго ў кружок. Стары Лявон прымасціўся воддаль, накрыўся з галавой кажухом і адразу захроп. Прагныя языкі агню лізалі сухое ламачча, яно весела патрэсквала, і полымя шугала высока ўгору. Ад гэтага цемень яшчэ болей згушчалася, за дзесяць крокаў ад вогнішча цяжка было штонебудзь убачыць. Недзе ў вёсцы, ля клуба, спявалі камсамольцы прыпеўкі пра кудлатага папа і кулака, рыпаў гармонік, а тут на лузе толькі гарэў агонь ды зрэдку пазвоньвалі званкамі коні.

Косця расказваў пра Афрыку. Ён гаварыў так маляўніча і пераканаўча, нібы вандраваў па Афрыцы сам. Яша слухаў і, здаецца, бачыў на ўласныя вочы густыя трапічныя лясы, перавітыя ліянамі, высокія какосавыя пальмы, на якіх віселі арэхі, кожны велічынёй з галаву. Па афрыканскіх гушчарах блукалі тыгры і львы, у водах блакітнага Ніла плавалі

ненажэрныя кракадзілы. Але Яша крочыў за Косцем па Афрыцы і не адчуваў ніякага страху. Побач былі хлопцы, белагаловы Косця. Перад імі, дружнымі і з’яднанымі, адступала ўсё...

Свет раскрываў перад прыціхшымі хлопцамі свае бясконцыя дары і цуды. І было незабыўна хораша ад адчування багацця жыцця, ад таго, што не ўсё яшчэ адкрыта і знойдзена на зямлі, што можна яшчэ быць і магеланамі, і калумбамі. У небе блішчалі зоркі, гарэў агонь, звінелі званкамі коні. І тут, ля агню, разгараліся і плылі ў неабсяжную далячынь хлапечыя мары...

Яша цяпер разумеў, чаму першамайцы слухаюць Косцю. Ён не быў такі дужы, як руды Алёша, затое ён быў вельмі разумны. Яша дзівіўся: як можна столькі ўтрымаць у галаве? Галава ў Косці, здаецца, была такая самая, як і ў другіх, а ведаў ён, можа, у сто разоў болей...

Пасля пяклі ў прыску бульбу. Ніколі яшчэ Яша не еў такой смачнай бульбы. Яна сама рассыпалася ў роце і была смачней за ўсё, што яму даводзілася да гэтага часу каштаваць.

Аднаго вечара Яша расказваў першамайцам пра гару Багародзіцкую. Слухалі яго ўважліва, а калі ён скончыў, усе змоўклі і запытальна паглядзелі на Косцю.

— Пра царкву, якая затанула, выдумалі,— сказаў Косця.— А гара Багародзіцкая ўзнікла пасля ледавіка.

Косця гаварыў пра ледавікі, якія ішлі з далёкай Поўначы, пра ўзгоркі, балоты і азёры, утвораныя магутнымі льдамі... Яша слухаў і не мог наслухацца...

Разгаварыліся і пра Пепу. Большасць хлопцаў лічыла яго чараўніком.

— Мой дзядзька, які цяпер у горадзе, ведае Пепу,— сказаў Косця.— Ніякі ён не чараўнік. Пепа вучыўся на доктара, а калі горад занялі белыя, ён дапамагаў нашым. За гэта белыя замучылі на яго вачах маці і сястру. Яго самога таксама два разы прастрэлілі кулямі, але ён выжыў. З таго часу Пепа такі.

Косця ведаў вельмі многа. Можа, яму расказваў пра ўсё гэта дзядзька, які працаваў у горадзе і летась прыслаў Косцю валейбольны мяч і сетку...

Першамайка вабіла Яшу як магніт. Ён ужо не мог пражыць дня, каб не збегаць да белагаловага Косці, не пакруціцца

на качэлях. Змітрок Калашкан быў таксама сваім чалавекам на Першамайцы. Яго там паважалі за праўдзівасць і незалежнасць характару. Да першамайцаў хадзілі гуляць Алесь Бахілка і другія хлопцы. Бахілка, як камандзір Тарабанавага палка, спачатку трохі пабойваўся, але яго таксама ніхто не крануў, і Алесь пасмялеў. Аднаго Аркадзя Панядзелка не любілі на Першамайцы, і ён не паказваў туды носа. Руды Алёша ўсё хварэў, і пра яго ніхто не ўспамінаў. Усім было добра і без Алёшы.

Але Тарабан напомніў пра сябе сам. Аднаго разу, калі Яша вяртаўся з Першамайкі дадому, ён нос у нос сутыкнуўся з Тарабанам. Той сядзеў на беразе Цітавай копанкі і, відаць, спецыяльна пільнаваў Яшу.

— Дзе быў? — грозна спытаў Алёша.

Яша хлусіць не ўмеў і расказаў усю праўду.

— Я з вамі пагавару яшчэ,— паабяцаў Алёша.— Не ўцячэ ад мяне ні твой Калашкан, ні Бахілка. Можаш ім перадаць...

І Тарабан, даўшы моцнага кухталя, адпусціў Яшу.

— Калі яшчэ пойдзеш на Першамайку, то будзе не гэтак,— прыгразіў ён.— Зарубі сабе на носе...

Крыўда перапаўняла Яшавы грудзі. Якое права мае гэты Алёша ўсімі камандаваць і з усіх здзекавацца? Рад, што ў яго здаравенныя кулакі. Яша на першым часе не ведаў, што рабіць. Ісці скардзіцца Косцю яму не хацелася. Ён жа ўсё-такі служыў у Тарабанавым войску, і Косця тут ні пры чым. Але Яша нават не дапускаў думкі, што заўтра не пойдзе на Першамайку.

Хлопец пабег агародамі да Калашкана. Змітрок, выслухаўшы навіну, раззлаваўся.

— Я ведаў, што гэты Тарабан будзе яшчэ лезці,— рашуча сказаў ён.— Трэба яго правучыць.

Яны рушылі да Бахілкі. Бахілка спачатку вагаўся, але калі Яша сказаў яму пра Алёшавы пагрозы, набраўся ваяўнічасці. Утрох яны падышлі да Тарабанавага двара. Яны хадзілі, можа, цэлую гадзіну і з выклікам свісталі, пакуль Алёша заўважыў іх. Нарэшце ён выйшаў са свайго двара.

— Ногі ліжаце Косцю! — падступіў ён да Калашкана.— Думаеш, гэта вам так пройдзе...

— Ты да нас не лезь, Тарабан,— Змітрок гаварыў спакойна.— Мы будзем рабіць, што захочам...

Калашкан хацеў абысці Тарабана, але той загарадзіў яму дарогу. Тады да рудога Алёшы падышлі Яша з Бахілкам.

— Мы цябе не чапаем, і ты нас не чапай,— дрыжачым ад узбуджэння голасам сказаў Яша.— Хопіць табе камандаваць...

Тарабан схапіў Яшу загрудкі. У тую ж хвіліну Калашкан падставіў ножку, а Бахілка тузануў яго за плечы. Тарабан упаў, а ўсе трое стаялі. Алёша ўсхапіўся. Ён проста шалеў ад злосці. Цяпер ён кінуўся з кулакамі на Калашкана. Паўтарылася тое самае — трое былі намнога дужэй за аднаго. Алёша ўстаў з зямлі, але біцца ўжо не кідаўся. Ён неяк адразу звяў, адчуўшы, што адзін нічога не зробіць. Угнуўшы галаву ў плечы, Тарабан пайшоў у свой двор...

Насупраць Тарабанавага двара, на выгане, хутка сабраліся амаль усе хлопцы, якія ваявалі ў Алёшавым войску. Не было толькі Аркадзя Панядзелка і Лузаніка. Хлопцы пра ўсё ўжо ведалі, але ніхто не заступіўся за Алёшу. Усе смяяліся, гаманілі, а Тарабан адзін хадзіў па сваім двары. Яшу зрабілася нават шкада Алёшы. Усё-такі ён смелы хлопец. Ён жа і не дурны. Ці нельга з ім дамовіцца проста, без ніякай бойкі? Яша ўжо хацеў сказаць пра гэта Бахілку і Калашкану, каб паклікаць Алёшу і памірыцца, але Тарабан у гэтую хвіліну выйшаў з двара сам.

— Па аднаму цяпер не хадзіце,— крычаў ён.— Галовы паадкручваю...

— Не палохай,— адказаў Калашкан.— Не баімся.

— Генерал без арміі! — крыкнуў Яша.

Тарабан зноў знік на сваім двары. Мірыцца ён не хацеў...

Назаўтра трэба было ў школу. Па Яшу забег Змітрок. І зусім нечакана прыйшоў Косця Кветка. Ён яшчэ ніколі не быў на Яшавым двары.

— Пакажыце мне свайго голуба,— папрасіў Косця.

Яша вынес на двор клетку. Туркалік ужо вырас зусім. Распусціўшы хвост, ён насіўся па клетцы і вуркаваў. Косця глядзеў на голуба моўчкі.

— Яму сумна аднаму,— сказаў ён нарэшце.— Давай пусцім яго на волю.

— Ён прывык у мяне,— сказаў Яша, бо яму шкада было выпускаць голуба.— Ён нікуды не паляціць...

— Калі не паляціць, тады вернецца да цябе. Давай паспрабуем...

Яша неахвотна адчыніў дзверцы. Голуб вырваўся з клеткі і, зрабіўшы над дваром два няўпэўненыя, павольныя кругі, імкліва пачаў набіраць вышыню. Праз хвіліну ў небе відаць была толькі шэрая кропка, якая набліжалася да лесу.

— Не вернецца,— з сумам зазначыў Яша.

— Значыць, знойдзе сваіх,— сказаў Косця Кветка.

Хлопцы пакрочылі ў школу. Пра Тарабана яны нават не ўспомнілі. Ён болей не займаў у іх думках ніякага месца, смелы Алёша Тарабан. Ён не ведаў ні пра ледавікі, ні пра Хрыстафора Калумба, ні нават пра тое, што ў хуткім часе людзі паляцяць да самых зор...

*1957*

## СНЕЖАНЬ

Мне гэты боль знаёмы...
*Г. Гейнэ*

### I

На свеце быў снежань, сумны, бясснежны. Аднастайна і нудна гулі вечарамі тэлеграфныя слупы з абарванымі правадамі. Правады былі парваны не ўсе, два ці тры асталіся цэлыя і звінелі на марозе, як струны, перадаючы свой балючы сум мёрзламу дрэву слупоў. Правады былі мёртвыя: па іх ніхто не вёў цяпер ніякіх размоў. Там, за раённым мястэчкам, тэлеграфныя слупы бралі разгон, беглі ўздоўж шашы, не баючыся ўзгоркаў і нізін, мінаючы сёлы і гарады. Куды яны беглі? Да вайны, мабыць, у самую Маскву, а цяпер — нікуды, бо пад Масквою фашысты.

Мястэчка замёрла, стаіўшыся ў змроку снежаньскай ночы. У пасажырскай зале чыгуначнай станцыі разгульвае вецер, семафор стаіць з апушчаным крылом з самага лета, а чорныя стрэлкі з выбітымі шкельцамі ліхтароў нагадваюць у цемені надмагільныя крыжы.

Да вайны ў мястэчку была электрычнасць, а цяпер яго жыхары нібы паравандравалі ў каменны век: яны асвятляюць сваё жытло пры дапамозе лучыны і валоўяга тлушчу. Зыркае яркімі агнямі толькі адзін будынак — сярэдняя школа. Там цяпер нямецкі камендант, яго канцылярыя і ахова. Людзі па вуліцах ходзяць неяк бокам, у іх неспакойныя, мітуслівыя вочы. У мястэчку паявілася некалькі самагонных апаратаў. Але паліцэйскія стараюцца гэтага не бачыць. І самагонку гоняць кожнае ночы. Вечарамі ў мястэчку гуляюць у карты.

З нейкіх шчылін павылазілі варажбіткі. Яны кладуць рукі на стол, нешта яму загадваюць, і стол нібыта грукае ўсімі чатырма ножкамі, адказваючы на пытанні варажбітак.

Да вайны ў мястэчку было тры школы: дзесяцігодка, сямігодка і пачатковая. Цяпер не працуе ні адна. Па начах надрыўна выюць сабакі. Ходзяць чуткі, што немцы збіраюцца абкласці іх падаткам. Дзіка... Глуха...

Нязменнае толькі снежаньскае неба. Па-ранейшаму ззяе на ім расцягнуты чарпак Вялікай Мядзведзіцы і цэдзіць на сумную зямлю сваё таямнічае святло далёкі Млечны Шлях...

## II

Мы збіраемся ўпяцярых у хаце Цішкі Дразда. Мы — гэта гаспадар хаты Цішка, яго недалёкія суседзі Базыль Маленда і Лявон Гук, Мікола Асмалоўскі, які жыве аж на процілеглым канцы мястэчка, і я. У Цішкі нам лепш за ўсё збірацца. Бацькі ў яго няма, а маці, хворая ціхім памяшаннем розуму, на нашу гаворку не звяртае ўвагі. У Цішкавай хаце, здаецца, халадней, чым на дварэ. Сам Цішка зусім нядаўна прыдыбаў аж з-пад Арла, куды ён уцякаў ад немцаў і дзе капаў супрацьтанкавыя равы. Гаспадар з Цішкі няважны. За гэты месяц, што сядзіць дома, ён мог бы пазабіваць незашклёныя вокны фанерай або дошкамі. Але такой дробязі, як холад, Цішка, здаецца, не заўважае. Выбітыя вокны з восені яго маці пазатыкала living рознымі лахманамі і рыззём. Усё асталося на тым жа месцы і пасля паяўлення гаспадара.

Мы прыходзім да сябра па адным, а сабраўшыся, пастанаўляем запаліць у грубцы. Святла ў Цішкі няма, дроў так-

сама. Сядзець жа ў цёмнай халоднай хаце і гаварыць пра палітыку проста сорамна, і мы накіроўваемся нарыхтоўваць дровы. Усё, што было драўлянага на Цішкавым двары, даўно пасечана і спалена. Гэты двор цяпер голы, як бубен, і мы ведаем, што тут ужо больш не знойдзеш ніякай спажывы для агню.

Узброіўшыся тупым калуном, мы ідзём да чыгункі. Там стаяць у штабялях снегаахоўныя шчыты. Шчытоў гэтых мы перацягалі за месяц процьму, але іх, здаецца, яшчэ хопіць, каб апальваць Цішкаву хату цэлую зіму. Наконт чыгункі, якую можа занесці снегам, у нас клопат невялікі. Чыгунка цяпер не наша, а нямецкая, то няхай па ёй катаюцца лепш чэрці.

Шчыты ніхто не ахоўвае, і мы прыступаем да працы. Цішкавым калуном сеч нельга, ім можна толькі ламаць і крышыць, бо яго, мабыць, не вастрылі з таго часу, як ён трапіў да свайго нядбайнага гаспадара. Мы ломім і крышым, пакуль не ўзнікае цэлая гара дошак. Ад Цішкавага двара да чыгункі метраў трыста, і праз гадзіну мы закідваем дрывамі ўсе сенцы. Добраму гаспадару гэтых дроў хапіла б на месяц, але ў Цішкі яны разыдуцца за два дні.

— Слухай, прывядзі да ладу вокны,— просім мы Цішку.— У хаце ж хоць ваўкоў ганяй. Тут воз дроў спалі — не напаліш.

— Усё адно холадна будзе,— абыякава адказвае гаспадар.

— Заб'еш вокны, дык пацяплее.

— А як прызбу прысыплеш? — агрызаецца Цішка.— Зямля ўмерзла як камень. А вецер жа знізу яшчэ больш дзьме.

Цішку не пераканаеш.

У грубцы трашчаць смольныя дошкі, няроўныя водбліскі святла скачуць па цёмных сценах, па стале, які завален кнігамі, па паліцы, застаўленай рознымі бутэлькамі і шклянкамі. Мы прымошчваемся каля грубкі, грэемся і маўчым. Можа, гэта і лепш, што Цішкава хата мае такі ўбогі выгляд. Ва ўсякім выпадку, яна не выклікае ніякага падазрэння.

Цішкава жыллё ў гэтыя дні, мабыць, падобна да лабараторыі сярэдневяковых алхімікаў. Усюды бутэлькі і бутэлечкі, прабіркі, спіртоўкі, бляшанкі з рознымі парашкамі, кавалкі свінцу і скруткі меднага дроту. Новы чалавек, зайшоўшы ў хату, напэўна, падумаў бы, што тут шукаюць якога-небудзь філасофскага каменя. Але ніякага каменя мы не шукаем. Усе

гэтыя прычындалы яшчэ некалькі дзён назад мелі для нас сваё вялікае значэнне.

Мы проста не можам жыць, каб не збірацца разам. У Цішкі мы сыходзіліся, яшчэ калі не было вайны. То былі школьныя гады. Цяпер усё гэта здаецца далёкім-далёкім, што адышло ў нябыт і болей ніколі не вернецца.

Нам да шаленства ненавісна мёртвая, затоеная цішыня, якая навісла над мястэчкам. Але што рабіць? Фашысты з'явіліся да нас не ў госці. Збіраючыся, мы лаем фашыстаў апошнімі словамі, прарочым ім хуткую пагібель. Але немцам ад гэтага, здаецца, не вельмі баліць. Яны прыгрукаталі на сваіх танках і машынах, з першага дня вайны іх самалёты запаланілі неба. Фашысты крочаць па местачковых вуліцах, пагардліва, звысоку паглядаючы на ўсё наша. Бываюць хвіліны, калі нам хочацца ўчапіцца ў іх горлы зубамі. Але зубамі фашыстаў, мабыць, не перадушыш...

З усіх нас толькі Цішка меў нейкае дачыненне да вайсковай справы. Ён перад самай вайной скончыў дзесяцігодку, і яго ў першыя ж дні пасля нападу фашыстаў узялі на акопныя работы. Мы ўчатырох скончылі па дзевяць класаў, паспеўшы купіць толькі падручнікі за дзясяты.

Як толькі мы дачуліся, што Цішка вярнуўся дахаты, мы ўсёй талакой кінуліся да яго. Нам страшэнна хацелася ведаць, што дзеецца там, на фронце, хацелася пачуць што-небудзь суцяшальнае. Але Цішка сказаў нам нямнога, і яго весткі нас зусім не ўзрадавалі. Ён клыпаў ад Арла цэлы месяц, прынёс дадому асміну вошай і велізарны апетыт, з якога мы не маглі надзівіцца. Цяпер ён сядзеў на печы, еў бульбу і лаяўся. Пра вайну і палітыку ён не хацеў нават гаварыць.

Але адступіцца так лёгка ад сябра мы не маглі. Мы прыйшлі да Цішкі і на другі дзень, і на трэці, нанасілі яму шчытоў і за які-небудзь тыдзень адагрэлі яго. Ён стаў, як і мы, цікавіцца палітыкай.

— Праўда, што немцы ўзялі Маскву? — дапытваліся мы ў Цішкі.

— Мабыць, не, бо нашы так проста Масквы не здадуць.

— А немцы ж пішуць, што ўзялі.

— Мабыць, брэшуць. Яны яшчэ ў верасні кідалі нам лістоўкі, што забралі Ленінград. Гэта была хлусня...

В минуту унынья, о Родина-мать,
Я мыслью вперед улетаю,
Еще суждено тебе много страдать,
Но ты не погибнешь, я знаю...—

дэкламаваў Базыль Маленда някрасаўскія радкі. Нам усім было хораша і сумна ад гэтага верша, ад таго, што жыў на зямлі разумны паэт Някрасаў, які глыбока ўгадаў нашы сённяшнія пачуцці. Мы ўспаміналі гісторыю, успаміналі Карла XII і Палтаву, Напалеона і яго ганебныя ўцёкі з нашай зямлі. Але адной гісторыяй сыты не будзеш. Сапраўднасць ставіла пякельныя, балючыя пытанні і патрабавала неадкладнага адказу. Нешта трэба было рабіць, бо інакш загінеш ад аднаго суму.

У тыя дні і было вырашана сканструяваць радыёпрыёмнік і паслухаць, што робіцца на фронце. Як там Масква? Родная, далёкая Масква...

Веды па радыётэхніцы, набытыя намі ў школе, былі не дужа грунтоўныя. Мы нешта запомнілі пра мегагерцы і кілагерцы, штосьці ведалі наконт выпрамляльных токаў, але ад гэтых герцаў і токаў да прыёмніка, які б нам расказаў пра Маскву, было вельмі далёка.

Да вайны ў нашым мястэчку працавала некалькі бібліятэк. Мы былі запісаны ў кожнай з іх, чыталі не толькі нашых, але і зарубежных пісьменнікаў. Па радыётэхніцы ж ніхто з нас не прачытаў ніводнай кніжкі. Мы цяпер лаялі сябе за бесклапотнасць, за тое, што былі гэткімі дурнямі. Але доўга лаяць сябе нельга.

Праз два дні ў нас было, можа, цэлы дзясятак кніг па радыётэхніцы. Мы ўпяцярых абшарылі ўсе бібліятэкі, якімі ніхто не цікавіўся з таго часу, як лепшыя кнігі расцягалі ахвотнікі чытання. Цяпер мы чыталі сумныя брашуры пра радыё, як некалі прыгодніцкія кнігі Конан-Дойля.

Прайшоў усяго толькі тыдзень, а пра радыё мы ўжо ведалі страшэнна многа. Любы выкладчык фізікі, ні кропелькі не крывячы сваім сумленнем, паставіў бы кожнаму з нас бездакорную пяцёрку. Але ад гэтай пяцёркі да сапраўднага радыёпрыёмніка было ўсё яшчэ таксама далёка.

Начытаўшыся кніг па радыётэхніцы, мы зразумелі, што саматугам можна сканструяваць толькі дэтэктарны прыёмнік. Маючы яго, можна было б слухаць радыёцэнтр, размешчаны за якіх-небудзь дзвесце ці трыста кіламетраў. Ад нашага ж мястэчка да Масквы сама меней восемсот...

Дэтэктарны прыёмнік для нас не падыходзіў. Дый нават каб мы адважыліся яго канструяваць, то дзе дастанеш дэтэктар, гэты цудадзейны каменьчык «плюмбум С», які здольны ўзмацняць радыёхвалі? У мястэчку не прадавалі самых звычайных сярнічак, не то што дэтэктараў.

Нам быў патрэбен лямпавы прыёмнік, які б данёс голас Масквы цераз фронт, цераз неабсяжныя палі і лясы, праз магнітныя буры. А радыёлямпу абцугамі ды малатком не зробіш. Цяпер мы многа ведалі пра радыё і адчувалі сябе ў сто разоў слабейшымі, чым тыдзень назад, калі яшчэ не чыталі кніжак па радыётэхніцы. Ад гэтага хацелася плакаць.

Выйсце мы бачылі толькі ў адным: дастаць гатовы радыёпрыёмнік і паспрабаваць яго адрамантаваць. Да вайны ў мястэчку было некалькі прыёмнікаў. Але мы ведалі: быў загад паліцыі — здаць прыёмнікі.

Мы збіраліся ў Цішкавай хаце і разважалі пра ўсё гэта на працягу доўгіх снежаньскіх вечароў. Мы сталі нават крыху філосафамі. «Зусім магчыма, што не ўсе здалі свае прыёмнікі,— даказвалі мы адзін аднаму.— Ёсць жа такія людзі, якія не любяць развітвацца са сваёй маёмасцю». О, каб нам цяпер трапіўся які-небудзь парушальнік паліцэйскага загаду, што ўтаіў радыёпрыёмнік! Мы б яго расцалавалі, як самага лепшага сябра, узрушылі б нават каменнае сэрца, аддалі б за прыёмнік усё, што ў нас ёсць. Мы б, нарэшце, маглі ўзяць прыёмнік хітрасцю або проста ўкрасці. Гэта цяпер не мела ніякага прынцыповага значэння.

Вечарам у халоднай Цішкавай хаце мы перабіралі ў памяці ўсіх вядомых нам уладальнікаў радыёпрыёмнікаў. Большасць з іх выехала з мястэчка. Але былі і такія, што асталіся. Іх налічылі траіх. Мы пастанавілі, не адкладваючы справы ў «доўгі яшчык», пранюхаць наконт радыёпрыёмнікаў. Былі размеркаваны ролі кожнага з нас, і з верай у поспех наша пяцёрка ўзялася за справу.

Праз два дні былі падведзены сумныя вынікі папярэдняй разведкі. Нягледзячы на ўсе нашы хітрыкі, былыя ўладальнікі радыёпрыёмнікаў вельмі лёгка нас раскусілі. Усе яны паводзілі сябе прыкладна аднолькава. Кожны маліўся і хрысціўся, што не мае ніякага радыёпрыёмніка. У якасці доказу кожны прапаноўваў азнаёміцца з даведкай, выдадзенай паліцыяй аб узяцці прыёмніка.

Мы мусілі прызнацца сабе яшчэ і ў тым, што кожны былы радыёслухач калаціўся як асінавы ліст і пазіраў на нас ашалелымі ад страху вачамі. Можа, яны, гэтыя людзі, палічылі нас за нямецкіх шпіёнаў? За слуханне ж радыё фашысты недвухсэнсава абяцалі смяротную кару.

Перажыванні былых уладальнікаў радыёпрыёмнікаў цікавілі нас не надта. Гэтыя людзі для нас цяпер наогул не існавалі. Няхай любуюцца сваімі даведкамі...

Два ці тры дні пасля гэтага мы хадзілі ахопленыя роспаччу. Ніякага выйсця з нашага становішча, здаецца, не было.

Мы збіраліся ў Цішкі і ад суму пачыналі сварыцца паміж сабой, абвінавачваючы адзін аднаго ў бяздзейнасці і пасіўнасці.

## III

Гора навучае людзей быць мудрымі. У адзін з тых памятных вечароў Цішка выказаў геніяльную здагадку, якая з’яднала і акрыліла нас. Усё-такі нездарма ён капаў сапраўдныя акопы каля Арла, гэты наш ляны і разумны Цішка.

— Трэба прабрацца ў паліцыю,— сказаў Цішка.— Або завесці хоць якое-небудзь знаёмства з паліцэйскімі. Прыёмнікі захоўваюцца недзе тут, калі іх дагэтуль яшчэ ніхто не паламаў...

Гэта сапраўды было проста і геніяльна. Надзея напоўніла нашы сэрцы рашучасцю і прагай дзеяння. У той вечар мы не змаглі ўседзець каля Цішкавай грубкі. Не можа быць, каб паліцэйскіх цікавілі радыёпрыёмнікі. Яны жлукцяць самагонку і швэндаюцца па вечарынках. Аб усім астатнім іхні клопат, здаецца, невялікі.

Была поўнач, калі мы рушылі ў напрамку да паліцыі. Мястэчка спала. Трапяткія водсветы лучыны не мільгалі ўжо ні ў адным акне. У бязвоблачным зімовым небе ззялі абыякавыя

зоркі. Аднастайна і сумна гулі правады на тэлеграфных слупах. Недзе вылі ад суму сабакі.

У вокнах памяшкання паліцыі мы не ўбачылі агню. Паліцэйскія патрулі, якія з вечара бryндалі па вуліцах, відаць, утаймаваліся. Мы два разы прашыбавалі міма ўправы, і ніхто нас не аклікнуў. Гэта надало нам рашучасці. Па нашых разліках, прыёмнікі маглі захоўвацца ў вялікай будыніне, якая стаяла крыху воддаль ад паліцэйскай канюшні. Паліцаі сцягвалі туды розны рэквізаваны набытак. Агародамі мы лёгка прабраліся да задняй сценкі будыніны і прыслухаліся. Ні адзін зык не парушаў цішыні на паліцэйскім двары. І ўсё ж пералазіць цераз плот было рызыкоўна. Ці ж паліцаі такія дурныя, каб не выставіць варты на сваім уласным двары? Гэта патрэбна было праверыць.

Мы зноў прабраліся на вуліцу. Ісці цяпер талакой не выпадала. Трэба было адважыцца каму-небудзь аднаму праверыць пільнасць паліцыі. Выбар упаў на Базыля Маленду. Ён заўсёды прапаноўваў самыя смелыя планы і вызначаўся надзвычай гарачым характарам. Не так даўно Базыль падгаворваў нас пакінуць мястэчка і прабірацца на ўсход. Ён даказваў, што за які-небудзь месяц мы лёгка дабяромся да фронту і пяройдзем яго. Ісці да фронту мы ўсё ж не адважыліся. Ніхто не ведаў, дзе той фронт. Цяпер была якраз магчымасць выпрабаваць Базылёву смеласць.

Базыль згадзіўся праверыць пільнасць паліцэйскіх без ніякіх ваганняў. Мы схаваліся за вугал суседняга будынка, а Базыль, падышоўшы да самых варот паліцэйскай управы, зацягнуў песню. Ён, нібы п’яны, гарланіў на ўсю вуліцу, а мы, стаіўшыся за вуглом, не маглі ўтрымацца ад смеху. Базыля ўсё ж пачулі. Праз хвіліну рыпнула брамка, і з двара паліцэйскай управы высунулася чорная постаць.

— Гэта ты, Саўка? — гукнуў на ўсю вуліцу вартавы паліцай.— Ідзі праспіся. Заўтра ж табе на службу.

Брамка зноў зачынілася, і Базыль шчасліва далучыўся да нас. Было ясна, што ноччу двор паліцэйскай управы ахоўваецца, і так проста туды не прабярэшся.

Мы разышліся па хатах, а назаўтра зноў сабраліся ў Цішкі. Мы былі чамусьці пераконаны, што прыёмнікі абавязкова ў

той вялікай будыніне, што стаіць у паліцэйскім двары. Толькі як у яе залезці? Самы смелы план вылажыў перад намі Базыль Маленда.

— Трэба, каб мяне арыштавала паліцыя,— сказаў ён.— Я там усё разнюхаю...

Базыль не збіраўся рабіць вялікага злачынства. Ён хацеў вечарам прычапіцца да якога-небудзь патруля і зачаць з паліцаямі сварку. Гэтага будзе дастаткова, каб яго арыштавалі і зацягнулі ў паліцэйскую ўправу. А паліцэйскія, па чутках, сваім вязням асабліва разгульвацца не даюць. Яны прымушаюць іх рэзаць дровы, чысціць канюшню. Адным словам, на думку Базыля, ён здолее пранюхаць наконт прыёмнікаў усё, калі яны толькі ёсць.

Што ж, такі план варта было толькі ўхваліць. Мы ў той жа дзень разжыліся пляшкай самагонкі і благаславілі Базыля на пакуты. Самі мы выпілі пакрысе, а будучаму вязню налілі поўную шклянку. Ад яго ж павінна несці перагарам, інакш паліцаі яшчэ не павераць. У той жа вечар Базыль пасварыўся з паліцаямі і яго арыштавалі.

Мы чакалі Базыля чатыры дні. Як і раней, мы збіраліся па вечарах у Цішкі і выказвалі розныя здагадкі наконт Базылёвага лёсу. Усё-такі нялёгка яму там, у лапах гэтых дурняў. Расстраляць Базыля не маглі, на гэты конт мы былі спакойныя. Нічога ж асаблівага ён не зрабіў. Але шомпалаў яму, відаць, прыйдзецца пакаштаваць.

Базыль вярнуўся на чацвёрты дзень вечарам. Ён толькі забег дадому перакусіць, а пад’еўшы, адразу падаўся да Цішкі. Мы яго ўжо чакалі. Базыль прыйшоў злосны і хмуры. Выгляд сябра сведчыў, што яго напаткала няўдача.

— Знайшоў што-небудзь? — запытаўся Цішка.

Не гаворачы ні слова, Базыль дастаў з кішэні нешта загорнутае ў анучку. Ён разматаў гэтую анучку, і на яго далоні аказалася дзве бліскучыя радыёлямпы. Мы ледзь не заскакалі ад радасці. Чаго ж ён тады прытвараецца? Раз знайшоў радыёлямпы, значыць, ёсць і астатняе. Усё-такі малайчына ён, гэты наш няўрымслівы Базыль. Хто-небудзь другі хіба адважыўся б лезці ў самае паліцэйскае кодла? Мы ўжо адчувалі сябе ўладальнікамі радыёпрыёмніка і з нецярпеннем чакалі, што скажа Базыль.

— Не радуйцеся,— нарэшце сказаў наш сябар.— Цішка гаварыў праўду: прыёмнікі былі ў паліцыі. Але гэтыя дурні патаўклі іх прыкладамі і выкінулі на сметнік. Пяць ці шэсць штук я перакінуў цераз плот, але там, здаецца, няма нічога жывога. А батарэй колькі хочаш, я іх навыкідваў...

— З пяці адзін як-небудзь змайструем,— радуючыся, мы нават не далі Базылю дагаварыць.— Галоўнае — лямпы.

— Невядома, ці спраўныя яны. Я ж іх знайшоў там, дзе і прыёмнікі. Унутры ў іх нешта звініць, як патрасеш.

Лямпы былі бліскучыя, як новыя. Яны сапраўды крыху звінелі, калі іх злёгку патрэсці каля вуха. Але нам не хацелася верыць, што лямпы няспраўныя. Мы гарэлі жаданнем хутчэй майстраваць радыёпрыёмнік і ў тую ж ноч рушылі збіраць усё тое, што Базыль выкінуў з паліцэйскага двара.

Па дарозе Базыль расказаў нам пра свае прыгоды ў паліцыі. Ён не траціў часу марна. У першы вечар яму крыху ўсыпалі шомпалаў, але далей усё пайшло як па масле. Базыль знайшоў чым прывабіць паліцаяў. Дзве наступныя ночы ён расказваў ім казкі і розныя гісторыі, вычытаныя з кніг. Яго слухалі, разявіўшы раты, хоць ён вёрз нямецкім ахоўнікам несусветную мешаніну з самых розных прыгодніцкіх кніг. Паліцаі, аказваецца, ласыя да цікавых гісторый, як малыя. Ноччу яны проста дохнуць ад суму. Базыля нават частавалі самагонам, падахвочваючы расказаць што-небудзь новае...

Апоўначы мы забралі ў мяхі выкінутыя Базылём радыёпрыёмнікі і сухія батарэі. Паклажа была ёмістая, і гэта радавала нас. Няўжо мы не зробім з усяго гэтага хоць маленькі прыёмнічак, якім можна было б злавіць савецкую хвалю?

Цэлыя два дні мы ачышчалі патрушчаныя прыёмнікі ад іржы і гразі. Мы радаваліся, як малыя, знаходзячы ўцалелыя кандэнсатары, катушкі напружання і пераключання, ізалятары, і стараліся не думаць пра сваю няўдзячную работу. Здавалася, усе часткі, патрэбныя для просценькага прыёмніка, былі ў наяўнасці. Заставалася скласці іх у адно цэлае па якой-небудзь схеме і хутчэй папробаваць наш прыёмнік.

Нарэшце разборка скончылася. Аставалася манціраваць прыёмнік. Трэба было дастаць салянай кіслаты, волава, спіртоўку, каб зрабіць шматлікія спайкі. Мы паверылі ўжо, што

ў нас будзе прыёмнік, і гэтая задача не ўяўлялася цяжкай. У двухпавярховай дзесяцігодцы, дзе мы вучыліся, быў хімічны кабінет. Там бы мы знайшлі ўсё патрэбнае. Але ў школе — нямецкі камендант, і да яе цяпер не падступішся. Камендант ахоўвае сябе крыху лепш, чым паліцэйскія. Двое немцаў увесь час вандруюць вакол школы з аўтаматамі.

Мы накіравалі свае позіркі на другую школу — сямігодку. Яна стаяла на самым ускрайку мястэчка, і ў ёй жыў стары, дзікаваты выкладчык батанікі і заалогіі. Ён пазачыняў вокны аканіцамі і пільна ахоўваў школьную маёмасць, хоць ніякіх заняткаў цяпер не было. У гэтай школе таксама павінны быць спіртоўкі, кіслата, і няхай нам даруе стары настаўнік...

У школу на ўскрайку мястэчка мы залезлі сярод белага дня, выбраўшы момант, калі настаўнік адлучыўся са сваёй кватэры. Доўга блукалі па класах, пакуль натрапілі на прыродазнаўчы кабінет. Тут усё стаяла ў акуратным, яшчэ даваенным парадку: штатывы, спіртоўкі, прабіркі, калекцыі мінералаў і гербарыяў.

Мы набралі, колькі хацелі, спіртовак і прабірак, рэквізавалі ўвесь запас легкаплаўкіх металаў. У доўгай шклянцы стаяла заспіртаваная гадзюка. Гадзюку прыйшлося выкінуць на падлогу, а спірт мы пералілі ў колбу. Без яго ж не будзе гарэць спіртоўка.

З гэтага часу Цішкава хата стала нагадваць келлю сярэдневяковага алхіміка.

Цэлы тыдзень, забываючы пра абед і вячэру, мы складалі і паялі свой прыёмнік. Ад кіслаты ў нас пачарнелі пальцы, з іх злазіла скура. Мы абвінавачвалі адзін аднаго ў няўмельстве, сварыліся, мірыліся, падганяючы сябе, нібы вар'яты. І ўсё — дарэмна. Прыёмнік быў глухі да радыёхваль, якія нячутна насіліся над намі. Дзве лямпы, якія раздабыў Базыль, былі няспраўныя...

Апошнюю спробу мы зрабілі ў навагоднюю ноч. Снежань кончыўся. Прыёмнік, за які мы змагаліся цэлы месяц, маўчаў. Базыль ад злосці паддаў яго наском чаравіка, а Цішка залез на печ і накрыўся кажухом. Дзесьці ля школы стралялі і пускалі ў неба ракеты фашысты. Яны віталі Новы год...

# IV

У студзені пачаліся снежныя віхуры. Снегу намяло столькі, што ў ім ледзь не схавалася згорбленая Цішкава хата. Сцежку да гэтай хаты праклалі мы: Цішка ўсе гэтыя дні не злазіў з печы.

Тры дні мы не маглі наведаць сябра. На першым тыдні новага года нас траіх пагналі чысціць ад снегу шашу. Мабілізацыю на работу фашысты правялі даволі хітра. Яны на золку ўляталі ў хату і выпорвалі адтуль па адным працаздольным. Да Цішкі немцы не зайшлі. Можа, яны паленаваліся пракладваць сцежку праз вялізныя гурбы, якія намяло на голым Цішкавым двары, а можа, проста парашылі, што ў такой хаце працаздольнага не знойдзеш. Ад работы ўхіліўся і Мікола Асмалоўскі. У яго хварэла на тыф сястра, і немцы пабаяліся паказаць нос у Міколаў двор.

Шаша пралягала кіламетраў за восем ад мястэчка. Да яе калона мабілізаваных местачкоўцаў дабіралася паўдня. Базыль Маленда, Лявон Гук і я трымаліся разам. Мы цвёрда наважылі збегчы пры першай магчымасці. Але гэта ўдалося нам толькі на трэці дзень, і мы зусім не шкадавалі, што не збеглі дачасна.

Базыль Маленда, дзякуючы свайму знаёмству з паліцаямі, выкленчыў для нас самы лёгкі ўчастак. Наш кавалак шашы, атулены лесам, быў амаль чысты ад снегу. Грэючыся два дні ля агню, мы не вельмі перарваліся на нямецкай рабоце.

Але справа не ў гэтым.

На трэці дзень па шашы пайшлі нямецкія машыны. На салдат, што сядзелі ў абцягнутых брызентам кузавах, было смешна глядзець. Гэтыя салдаты нагадвалі старых местачковых баб. Яны паабкручвалі свае галовы і твары нейкімі хусткамі, і з гэтых хустак толькі вытыркаліся іх чырвоныя насы.

— Так уцякаў з Масквы Напалеон,— сказаў Лявон Гук.— Будуць ведаць рускую зіму. Яны падохнуць ад холаду...

З Лявонам можна было б згадзіцца, каб машыны імчаліся на захад. Але ўсе яны пакуль што трымалі кірунак на ўсход. На трэці дзень адна машына з салдатамі спынілася на нашым участку. Да яе адразу ж падбег Базыль Маленда.

— Пан, нах Москаў? — запытаў ён у высокага немца, што вылез з кабіны. Той спачатку нічога не разумеў. Тады Базыль

паўтарыў сваё пытанне. Нечакана салдат схапіў яго загрудкі і пачаў трэсці. Твар немца скрывіўся ад злосці, фашыст тузаў Базыля і нешта крычаў, пырскаючы слінай. Хлопец нарэшце вырваўся з яго рук і адскочыў як апараны.

Машына кранулася, а мы стаялі і не ведалі, што падумаць. Пяць месяцаў назад, калі фашысты занялі наша мястэчка, яны самі на ўсё горла крычалі гэтае самае «нах Москаў». То чаму ж цяпер злуюцца?

Раптам нейкая велізарная хваля шалёнай радасці падхапіла нас і кінула ў лес. Мы ўжо болей не маглі аставацца на шашы, па якой імчаліся на ўсход фашысты. Трэба было неяк абмеркаваць паводзіны немца, які раззлаваўся, калі яго спыталі пра Маскву, трэба было вытлумачыць, што ўсё гэта можа азначаць.

Мы стаіліся пад старымі вольхамі і з хвіліну не маглі аддыхацца ад шпаркага бегу.

— Ясна, немцы адступаюць,— прамовіў усхваляваны Базыль Маленда.— Гэта відна па ўсім...

— Каб яны забралі Маскву, то чаго б злаваўся той даўгалыгі? — выказаў здагадку Лявон Гук.

— Праз два тыдні нашы будуць тут,— падтрымаў я сяброў.— Яны і шашу чысцяць для таго, каб уцякаць.

Мы доўга даводзілі адзін аднаму, што фашысты напярэдадні свайго поўнага краху. Летам яны былі такія самаўпэўненыя, так высока задзіралі свае насы, а цяпер падобныя на старых баб. Нашы, відаць, добра ім усыпалі...

Было незразумела толькі адно. Чаму нямецкія машыны імчацца на ўсход, а не на захад? Можа, фашысты ўцякаюць якім-небудзь іншым шляхам, а па нашай шашы проста падкідваюць падмацаванні. Усё гэта трэба было высветліць.

Мы вярнуліся на шашу, каб забраць лапаты. Зноў пачаў церушыць снег, і гэта было нам якраз на руку. Мы збіраліся непрыкметна знікнуць. Раптам Базыль нагнуўся і падняў з шашы нешта загорнутае ў газету. Ён разгарнуў сваю знаходку, і з газеты пасыпаліся розныя аб'едкі. Але гэта нас не цікавіла. Газета была нямецкая, і мы ўпіліся вачамі ў загаловак, выдрукаваны вялікімі чырвонымі літарамі праз усю паласу. «Русішэ офэнзівэ іст гешайтэрт»,— прачыталі мы. З усяго напісанага нам было вядома адно толькі першае слова...

— Што можа азначаць гэтае «офэнзівэ»? — дапытваліся мы адзін у аднаго. Але ніхто не ведаў. Мы прачыталі яшчэ некалькі радкоў і паціснулі плячамі. Усе словы для нас былі цёмныя, як кітайская грамата. Пяць гадоў вывучалі мы ў школе нямецкую мову, а калі прыйшлося да справы, аказаліся самымі апошнімі ёлупамі.

Прабіраючыся прыцемкам да мястэчка, мы ўсю дарогу злосна жартавалі з уласнага ведання нямецкай мовы. Цяпер мы ўстанавілі пэўна, што нашы веды курам на смех. Мы ўтрох умелі праскланяць «дэр», «ды» і «дас» і праспрагаць «габэн». Мы яшчэ ведалі, як называюцца чарніліца, сшытак, кніга і школа. І на ўсё гэтае патрачана цэлых пяць год!

З нейкім замілаваннем успаміналі мы цяпер нашу маленькую настаўніцу нямецкай мовы. Яна жадала нам дабра, яна так горача заклікала вучыць чужую мову. А мы ў сваёй дурной упартасці нават не хацелі лічыць яе прадмет за сапраўдны. Усю дарогу мы паўмеханічна паўтаралі запаўшыя ў памяць словы, якія заўсёды гаварыў дзяжурны па класу пры ўваходзе настаўніцы: «Іх бін орднэр, ін дэр клясэ фэлен...» Мы нават не ведалі, што азначалі гэтыя словы...

І ўсё ж было нешта такое, што падбадзёрвала і саграВала нас усю дарогу. У памяці паўставаў скрыўлены твар немца, які раззлаваўся, пачуўшы пра Маскву. Калі ён злуецца, то гэта добра, гэта не можа быць дрэнна. Нас саграваў яшчэ кавалак нямецкай газеты. Не прачыталі так, то прачытаем са слоўнікам. Што можа азначаць гэтае «русішэ офэнзівэ»?

Мы не заўважылі, як прыйшлі ў мястэчка. Даўшы крука, апынуліся на вуліцы, дзе жыў Мікола Асмалоўскі. Ён проста заскакаў, калі пачуў пра Маскву і раззлаванага немца. Учатырох мы борзда пашыбавалі да Цішкі Дразда. Ніводзін чалавек за гэтыя тры дні не прайшоў яшчэ па Цішкавым двары. Хата па самыя вокны была занесена снегам. Цішка, нібы мядзведзь, схаваўся ў сваім берлагу і, здаецца, не хацеў нічога ведаць пра навакольнае жыццё.

Зайшоўшы ў хату, мы засталі Цішку на печы. Ён ляжаў на самым чаране, накрыўшыся кажухом. На печы пад цэлай капой трантаў спала і Цішкава маці.

Мы запалілі спіртоўку. У хаце панаваў люты холад. У вядры, што стаяла на ўслончыку ля дзвярэй, вада прамерзла да

самага дна. Там ляжаў вялікі круглы лядзяш, і невядома, як наш сябар усе гэтыя дні абыходзіўся без вады. Мы сцягнулі Цішку на падлогу. За гэтыя тры дні яго твар пакрыўся нейкім белым пухам. Сябравы вочы былі абыякавыя і сумныя.

— Знайдзі нямецкі слоўнік! — загадалі мы Цішку.

Ён яшчэ нічога не разумеў, але, адчуваючы нашу ўзрушанасць, даволі жвава выцягнуў з-пад стоса кніг тоўсты томік у чорнай ледэрынавай вокладцы.

— Знайдзі слова «офэнзівэ»!

Цішка, схіліўшыся над спіртоўкай, таропка гартаў старонкі слоўніка. Тая хвіліна, пакуль ён шукаў незнаёмае нямецкае слова, здалася нам цэлай вечнасцю.

— Наступленне,— нарэшце прамовіў Цішка.

Мы кінуліся яго абдымаць. Мы тармасілі Цішку з усіх сіл, нібы хацелі вытрусіць з нашага сябра ўсю яго безуважлівасць і абыякавасць да жыцця.

— Пастойце! — вырываўся Цішка.— Чаго вы шалееце?

Тады Базыль Маленда падаў яму кавалак нямецкай газеты. Цішка паднёс яе да мігатлівага язычка спіртоўкі і прабег вачамі загаловак, выдрукаваны вялікімі чырвонымі літарамі. Яго вочы адразу ажылі і засвяціліся нейкім радасным, незнаёмым нам раней бляскам.

— Трэба заўтра пабрыцца,— сказаў ён, правёўшы рукою па твары.— Я, мабыць, прастудзіўся, усе гэтыя дні балела галава...

Мы гэтак лямантавалі, што прачнулася Цішкава маці. Яна падняла галаву з-пад сваіх трантаў і здзіўлена пазірала на нас.

— Цішка,— нарэшце прамовіла яна.— Там у грубцы ў чыгунку бульба, ты з’еш. А гэтым салдатам не давай, ім паёк даюць.

Цішкава маці апошнія месяцы чамусьці называла нас салдатамі. Яна толькі ў рэдкія хвіліны прасвятлення розуму пазнавала нас і звала па імені.

— Хадзем наломім шчытоў,— прапанаваў Цішка.— Заўтра я пазабіваю ўсе дзіркі. У гэтай хаце акалець можна.

Зноў трашчалі ў грубцы сухія сасновыя дошкі, а мы сядзелі ля цяпла і слова за словам перакладалі артыкул з кавалка нямецкай газеты. «Рускае наступленне правалілася»,—

называўся гэты артыкул. Але мы не зважалі на назву. Нават з нямецкай газеты было ясна, што фашысты Масквы не ўзялі, што нашы наступаюць, што баі ідуць недзе на захад ад Калініна і Калугі.

Мы ўзносілі да неба нашых генералаў, камандуючых і маршалаў за тое, што яны так лоўка далі ў зубы фашыстам і не здалі Масквы. Мы радаваліся, як дзеці, што самі немцы цяпер пішуць пра нашы самалёты і танкі. Яшчэ зусім нядаўна яны заяўлялі, што ніякіх савецкіх танкаў і самалётаў няма. Усё-такі малайцы нашы гаспадарнікі, што ў такі патрэбны час паклапаціліся аб танках...

Мы цяпер спрачаліся толькі наконт нямецкіх «прэзенсаў», «пэрфектаў» і «партыцыпаў цвай». Яны пры чытанні набылі свой вялікі сэнс, і мы, моршчачы лоб, стараліся свядома разабрацца ва ўсім тым, што некалі завучылі механічна. Над артыкулам мы прасядзелі цэлую ноч. І за адну гэтую ноч прыйшлося разварушыць усе нашы веды па нямецкай граматыцы. За якія-небудзь дзесяць гадзін мы, здаецца, вывучылі столькі слоў, колькі не запомнілі за пяць гадоў на ўроках маленькай настаўніцы. Гэтых слоў не трэба было паўтараць. Здабытыя ў муках з нетраў тоўстага слоўніка, яны самі запісваліся ў памяці.

Пад раніцу спіртоўка патухла. Спірт, настоены на гадзюцы, скончыўся. Ён саслужыў нам вялікую службу, гэты спірт, і проста варта было ўспомніць добрым словам дзівакаватага настаўніка батанікі і заалогіі, які добрасумленна ахоўваў школьную маёмасць. Але настаўніка мы тады не ўспомнілі. Нашы думкі былі цалкам заняты франтавымі справамі.

— Гэтая газета за снежань,— сказаў Цішка.— Можа, яна надрукавана ў пачатку месяца, а можа, у канцы. Нашы за гэты час маглі адагнаць немцаў на сотні кіламетраў.

— Можа, нашы цяпер каля Оршы? — выказаў здагадку Лявон Гук.

— А можа, падыходзяць ужо к Гомелю? — прамовіў Мікола Асмалоўскі.

Ад такіх здагадак было лёгка і радасна.

Мы выйшлі ад Цішкі на світанні. У вокнах местачковых хат мітусіліся зыркія водбліскі палаючай на камінках лучы-

ны. Паволі гаслі зоркі ў цёмна-сінім бязвоблачным небе. На марозе гулі ўцалелыя правады. Яны гулі, здаецца, аб нечым таемным і радасным, чаго яшчэ не ведала соннае мястэчка і што з гэтай ночы ведалі мы.

## V

Сапраўдная радасць, як і гора, ніколі не прыходзіць адна. Яна вядзе за сабою і другую, і трэцюю радасць. Можа, гэта ад таго, што ў чалавека, ахмеленага ёю, вырастаюць крылы і для яго няма тады ні перашкод, ні цяжкасцей. А можа, ёсць і якая-небудзь другая прычына, якой яшчэ да сённяшняга дня не ведаюць самыя разумныя людзі. Не ведаю чаму, але ў адзін з такіх зімовых дзён я завітаў у памяшканне раённай рэдакцыі. У ім было пуста і бязлюдна. Праз выбітыя шыбкі акон у пакоі намяло снегу. На падлозе ў беспарадку валяліся розныя паперы, падшыўкі газет, кнігі. Я прайшоў па ўсіх пакоях рэдакцыі. Усё, што магло цікавіць ласых на спажыву абывацеляў, было расцягнута. Тут не асталося ні стала, ні крэсла, ні нават самай звычайнай вешалкі ці ручкі ад дзвярэй.

Да вайны ў рэдакцыі я быў адзін толькі раз. Я спрабаваў пісаць вершы і доўга не асмельваўся іх каму-небудзь паказаць. Ва ўсякім разе, мае сябры пра гэта нічога не ведалі. Напісаўшы аднойчы добры, на маю думку, верш, я нарэшце адважыўся і пераступіў парог рэдакцыі. Мае вершы — цэлы тоўсты сшытак — у рэдакцыі зганілі самым бязлітасным чынам. У іх знайшлі ўплывы Пушкіна, Лермантава, Блока, Янкі Купалы і яшчэ многіх паэтаў, якіх мне нават не даводзілася чытаць. Апошні верш, на які я ўскладаў асаблівыя надзеі, доўгавалосыя работнікі рэдакцыі назвалі проста безыдэйным. У гэтым вершы ішла размова пра вясновыя ночы, пра салаўя, пра месяц — нязменнага сведку закаханых.

І ўсё ж мяне проста так не выпусцілі з рэдакцыі. Мне далі аркуш паперы і прымусілі напісаць заметку наконт работы школьных гурткоў ППХА і ГСА. І я напісаў ужо звычайнай прозай пра лепшых актывістаў стралковай, супрацьхімічнай і санітарнай справы. Гэтая заметка была надрукавана. Тыдні за два да вайны я атрымаў за яе ганарар — два з паловай рублі.

Можа, успамін аб гэтай заметцы і прывёў мяне ў бязлюднае памяшканне рэдакцыі. Ва ўсякім выпадку, я знайшоў падшыўку раённай газеты і схаваў яе пад крысо. Мне захацелася прачытаць сваю заметку.

І яшчэ я ўбачыў на падлозе рассыпаны шрыфт. Я беражна падняў некалькі металічных літар і, уважліва іх агледзеўшы, схаваў у кішэню. Мне яшчэ не прыходзілася трымаць у руках літар, якімі друкуюць кнігі і газеты, і гэты мой учынак у тую хвіліну, мабыць, азначаў простую павагу да друкаванага слова.

З вечара таго самага дня, калі я заходзіў у былую рэдакцыю, пачаўся суцэльны прыліў удач для нашай пяцёркі.

Пералістваючы падшыўку, у якой было аж па чатыры экзэмпляры кожнага нумара газеты, я нечакана наткнуўся на заметку, якая прымусіла мяне задрыжаць ад узрушэння. У заметцы паведамлялася пра бездакорную работу лістаносца Яўхіма Цельпука з вёскі Асавец. Гэты Яўхім быў сапраўды выдатная асоба! Ён дамогся таго, што кожны калгасны двор у Асаўцы выпісваў газету. Але не гэта было самае галоўнае. Галоўнае — тое, што лепшага лістаносца Яўхіма Цельпука кантора сувязі прэміравала радыёпрыёмнікам «Калгаснік»...

Я ляцеў да Цішкі Дразда як на крылах... Нейкі ўнутраны голас мне падказваў, што цяпер промаху не будзе, варта толькі знайсці гэтага самага Яўхіма Цельпука. Вёска Асавец — не раённае мястэчка, паліцыя туды не заглядвала, і, значыць, радыёпрыёмнік мог застацца ў яго гаспадара.

Назаўтра мы ўтрох рушылі ў напрамку да вёскі Асавец. Цішка на аперацыю не пайшоў, у яго не было добрага абутку. Базыля Маленду ісці адгаварылі. З яго залішне гарачым характарам можна было загубіць справу. Ад мястэчка да Асаўца кіламетраў васямнаццаць, і палавіну шляху мы прайшлі па добрай саннай дарозе. А далей ішлі проста лесам, правальваючыся па грудзі ў снег, прабіраліся ледзь не на карачках. У Асавец заявіліся, калі кароткі зімовы дзень канчаўся.

Вёсачка нам спадабалася з першага позірку. Маленькая, усяго ў адну вуліцу, яна была па самыя парканы засыпана снегам. У сіняватым сутонні студзеньскага надвячорка нам, прамерзлым і мокрым, яна здавалася райскім прыстанкам.

У нас, вядома, быў план, тонкі дыпламатычны план. Мы не ведалі, колькі Яўхіму Цельпуку гадоў, што ён за чалавек,

як ён нас сустрэне. Гэта не мела значэння. Важна было разнюхаць, ці ёсць у яго радыёпрыёмнік.

Для пачатку мы наважылі ўздзейнічаць на былога лістаносца ласкай. Дзеля гэтага мы і неслі ў лясны Асавец з паўпуда солі, самага ходкага па тым часе тавару ў розных гандлёвых і менавых аперацыях. Мы наважылі абмяняць соль на самагонку і спаіць ушчэнт уладальніка радыёпрыёмніка. З п'яным гаварыць лягчэй. У якасці апошняга козыра выступала раённая газета, дзе чорным па беламу пісалася, што Яўхім Цяльпук — актывіст і прэміяваны радыёпрыёмнікам. Гэта давала магчымасць проста прыстрашыць былога лістаносца карай нямецкіх улад...

Мы баяліся толькі аднаго: заметка даваенная, за гэтыя паўгода магло здарыцца самае непрадбачанае. Яго маглі мабілізаваць у армію, маглі забіць фашысты, калі гэтымі мясцінамі праходзіў фронт, нарэшце, ён сам мог куды-небудзь выехаць або проста памерці. У гэты дзень мы жадалі незнаёмаму Яўхіму Цельпуку добрага здароўя ў сто разоў больш, чым каму-небудзь другому на белым свеце.

Наш страх быў дарэмны. Першы стрэчны паказаў нам хату былога лістаносца, дадаўшы, што яе гаспадар, мабыць, дома. У гэтую хату мы ішлі, як у сваты. Нашы сэрцы то нястрымна калаціліся, то заміралі, а твары чырванелі і бляднелі адначасова.

— Спакойна,— сказаў на самым парозе Лявон Гук.— Больш вытрымкі!

Сёння Лявон мусіў выконваць ролю галоўнага дыпламата.

Нарэшце мы ў хаце. Яна выбеленая, чыстая, на комінку, як у вершы Якуба Коласа, ярка палае смольны корч. Насустрач нам падняўся з-за стала нізенькі рухавы чалавечак з выгнутымі, як абады, нагамі. Твар у яго паголены, чысты, і цяжка сказаць, колькі яму гадоў. Дык вось які ён, жаданы Яўхім Цяльпук!

— Вам солі не трэба? — пачаў сваю дыпламатыю Лявон Гук.— Мы з мястэчка.

— Чуеш, Мар'я! — сыпануў чалавечак дробным гарохам.— Звер сам бяжыць на стральца. А ты вохкала, а ты енчыла, што солі няма. Дасць Бог дзень, дасць і падмогу. А што вы, хлопчыкі, за вашу соль хочаце?

З-за коміна сялянскай печы на нас глядзела немаладая кабета. Яе позірк здаўся нам насцярожаным і нават крыху спалоханым.

— Хочам разжыцца самагонкі,— гаварыў далей Лявон.— Надыходзіць жа Новы год, калі лічыць па-царкоўнаму.

— Так-так-так,— сыпаў чалавечак.— А ці многа ў вас солі?

— Паўпуда.

— То я, мабыць, усяе не куплю. У мяне нейкія там тры пляшкі заваляліся. Хіба паклікаць суседзяў?

— Не трэба суседзяў,— збянтэжыўся Лявон.— Хопіць з нас трох пляшак.

Цяпер ужо і гаспадар пазіраў на нас з незахаваным падазрэннем.

Па няпісаных расцэнках за кілаграм солі давалі паўлітра самагонкі. Выключная таннасць нашай солі, відаць, здзівіла гаспадара. Але мы не далі яму апамятацца. Мы высыпалі соль з мяшка проста на белы абрус, якім быў засланы стол.

— А Божа ж мой! — енчачы, саскочыла з печы гаспадыня.— Чаго ж ты, Яўхім, не пасадзіш людзей? Сядайце, хлопчыкі...

Мы селі на доўгую лаву. Гаспадар яўна разгубіўся ад нашага велікадушша. Ён бегаў па хаце, мітусіўся і не ведаў, за што ўзяцца. На стале ж цэлая гара бялюткай як снег солі, сапраўднае багацце...

— Хіба скочу да кума Кузьмы,— нарэшце знайшоў выйсце гаспадар.— Можа, у яго яшчэ прыхаплю пару пляшак...

— Не трэба,— усхапіўся Лявон.

Але гаспадар быў ужо ў сенцах.

Праз паўгадзіны мы сядзелі за сталом. З найвялікшай асцярожнасцю гаспадыня ссыпала соль у гладышкі, і на белым абрусе паявілася скаварада смажанай яечні і дзве вялікія місы з капустай і агуркамі. З пяці набытых намі пляшак гарэлкі мы дзве паставілі на стол. Мы неўзаметку пераміргваліся: гаспадар ростам з вераб’я, яму многа не трэба...

Гарэлку наліваў Лявон. Гаспадару ён наліў ледзь не цэлую шклянку, а нам па палавіне.

— Каб жылося і вялося,— звярнуўся ён да гаспадара.— Не ведаю толькі, як вас завуць.

— Яўхім Калістратавіч.

— Вып’ем, каб дома не журыліся, Яўхім Калістратавіч.

— На здароўечка! — зычыла гаспадыня. Цяпер яна стаяла ля печы і пазірала на нас добрымі вачамі.

Мы прамерзлі і згаладаліся. Пасля выпітай гарэлкі ва ўсім целе разлілася прыемная цеплыня. Каб не сп’янець, мы старанна закусвалі. Гаспадар жа толькі прыкусіў агурка і сядзеў, падпёршы падбародак рукамі.

— Вып’ем яшчэ па адной,— прапанаваў Лявон.

Як і першы раз, ён наліў гаспадару ледзь не поўную шклянку, а нам трошкі меней палавіны. Гарэлка знікла ў горле маленькага Яўхіма Калістратавіча неяк імгненна. Ён зноў закусіў толькі кавалачкам агурка і моўчкі сачыў за намі. У нас жа пачырванелі твары і стала дваіцца ў вачах. Відаць, добрай самагонкі прыпас гэты самы Яўхім Калістратавіч. Мы ж нават не выпілі па цэлай шклянцы, а ўжо так моцна зашумела ў галовах. І гаспадар, і гаспадыня здаваліся нам цяпер такімі добрымі, мілымі людзьмі, а іх выбеленая хата — нейкім райскім кутком. Дзе, цікава, хавае гэты лістаносец свой радыёпрыёмнік? Можа, пад печчу, а можа, у склепе?

— Вы не той самы Яўхім Цяльпук, пра якога пісалі ў раённай газеце? — раптам спытаў Лявон Гук.

Ад гэтых слоў нашага галоўнага дыпламата з мяне зняло ўвесь хмель як рукой. Ды ён жа проста дурань, наш Лявон. Пра гэта трэба было спытаць у самым канцы, калі б мы ўжо раскусілі, што за птушка пакупнік нашай солі. Але маскіравацца позна, нашы карты раскрыты...

— Той самы,— спакойна адказаў гаспадар.— Мяне за маю работу і прыёмнікам прэміявалі...

Мы разявілі раты ад здзіўлення. Што ж ён думае пра нас, гэты лістаносец, калі так ахвотна ва ўсім прызнаецца? Але наступаць дык наступаць...

— А дзе ж цяпер ваш радыёпрыёмнік «Калгаснік»? — націскаючы на апошняе слова, спытаў я.

— Здаў у паліцыю. Сам Кузьма не дасць схлусіць. Ён цяпер у нас за старасту, а да вайны ўчастковым міліцыянерам быў. Ён жа сам і завёз у раён...

Мы ўтраіх анямелі як рыбы. Дык вось, аказваецца, у якое кодла мы трапілі. Трэба хутчэй браць лахі пад пахі ды

ўцякаць, пакуль нас не звязалі і не завезлі ў паліцыю. Але гаспадар, здаецца, не збіраўся нікога клікаць, і мы не крануліся з месца. Што ж, міліцыянер стаў старастам, а самы актыўны лістаносец — яго падбрэхічам. Няхай радуюцца, толькі ці не прыйдзецца хутка заплакаць?.. У маіх грудзях нарастала нейкая хваля дзікай злосці, якую нельга было стрымаць.

— А вы не чулі,— пазіраючы гаспадару ў вочы, пачаў я,— як паляцелі немцы ад Масквы? Восенню пісалі, што ў бальшавікоў няма ўжо ні танкаў, ні самалётаў, а цяпер адумаліся. Хваляцца, што падбіваюць сотнямі кожны дзень, а самі ўсё роўна ўцякаюць. Гэта ў нямецкай газеце напісана...

— У якой газеце? — падхапіўся гаспадар.

— У нямецкай,— падтрымаў мяне Лявон Гук.— Газета за мінулы месяц, мы самі чыталі. Немцы адступілі ад Калугі і Калініна. Пішуць, што скарацілі фронт...

— Так-так-так,— забарабаніў пальцамі па стале лістаносец.— Нам цяпер у вёску не ідзе ніякіх газет. Жывём, як у той бочцы. З вамі, хлопчыкі, гэтай газеты няма?

Мы пераглянуліся. Наша паведамленне так узрушыла былога лістаносца, што гэта нельга было не ўбачыць. Вочы яго ажылі, засвяціліся радасцю, а сам ён проста не мог уседзець на месцы.

— Хіба кума Кузьму паклікаць? — раптам прапанаваў ён.

— На чорта той Кузьма? — насцеражыўся Лявон.— Няхай лепш збірае немцам падаткі.

— І то праўда,— згадзіўся гаспадар.— Кузьма сам па сабе, а я сам па сабе. Давайце лепш вып’ем, хлопчыкі. Заўтра дастанем яшчэ. Пераначуеце ў мяне, куды вы ноччу пойдзеце...

Мы выпілі яшчэ і, адкінуўшы ўсялякую дыпламатыю, расказалі пра ўсё, што вычыталі ў нямецкай газеце. Мы, мабыць, добра сп’янелі, бо дапоўнілі гэты расказ сваімі ўласнымі меркаваннямі аб поўнай безнадзейнасці становішча немцаў на фронце. Яўхім Цяльпук лавіў наша кожнае слова. Ён ажывіўся, павесялеў і глядзеў на нас вачамі добрага бацькі.

Урэшце рэшт, забыўшы пра ўсякую перасцярогу, мы на чым свет стаіць пачалі лаяць гаспадара за тое, што ён так неразумна здаў свой прыёмнік гэтаму цяперашняму старасту. Лістаносец згодна ківаў галавой.

Была ўжо глыбокая ноч, калі гаспадар унёс у хату вязанку сена. Мы паваліліся на гэтую пасцель як снапы...

А назаўтра здарыўся цуд. Лістаносец даў нам паснедаць і, калі мы ўжо сабраліся дахаты, таямніча зашаптаў:

— А мой «Калгаснік» пры мне, цэленькі. Толькі нямы ён, хлопчыкі. Батарэі яшчэ да вайны спрацаваліся...

У тую хвіліну мы, мабыць, проста аслупянелі. Дык вось які ён, перадавы лістаносец Яўхім Цяльпук! Уся наша дыпламатыя паляцела ўчора сабаку пад хвост. Гэты стары так лоўка абвёў вакол пальца нас, трох дурняў.

— Тады аддайце нам прыёмнік,— ужо без ніякай хітрасці выпаліў Лявон Гук.— У вас жа ён без справы, а ў нас сухія батарэі ёсць...

— Ёсць, кажаце? — узрадаваўся лістаносец.— То давайце так, хлопчыкі. Я вам прыёмнік, а вы мне батарэі. Перад Новым годам забягаў да мяне адзін чалавек і вельмі цікавіўся гэтымі самымі батарэямі.

— Дамо вам батарэй. Іх можна назбіраць цэлы воз,— хваліліся мы.

— Прыносьце батарэі і возьмеце прыёмнік.

Але чакаць мы не маглі. Мы гатовы былі пакінуць у заклад свае галовы, але толькі ўзяць радыёпрыёмнік. Мы так шчыра кляліся раздабыць батарэі, што стары нарэшце нам паверыў.

— Бярыце, раз вам так не церпіцца,— сказаў ён.— Я сам прыеду па батарэі. А дзе ж вас шукаць?

Мы пераглянуліся, не ведаючы, што адказаць. Але лістаносец адразу разгадаў прычыну нашага замяшання.

— Я вас не баюся, то не бойцеся і мяне. Мне, хлопчыкі, яшчэ ў першую вайну прыйшлося пакаштаваць нямецкага хлеба. Тры гады прабыў я ў германскім палоне і яшчэ год ваяваў з белапалякамі. Чырвоны ўзводны камандзір быў. Так што немцу я друг невялікі...

Лявон Гук даў лістаносцу свой адрас.

— А вы ад сябе прыйшлі, хлопчыкі, ці вас хто паслаў? — спытаў Яўхім Цяльпук.

— Ад сябе, а што?

— Мяне ў раёне ведалі, дык я думаў...

Мы аддалі лістаносцу газету, дзе пісалася пра яго работу. Ён узяў яе і ўсміхнуўся:

— Хітрыя вы ўсё ж. Да мяне сяды-тады забягае адзін чалавек, то я яму пра вас раскажу. Ён вам яшчэ спатрэбіцца...

## VI

І вось апошняя старонка гэтага зусім не выдуманага апавядання. Маленькі, акуратны «Калгаснік» мы ўстанавілі ў Цішкі. Бутэлькі з кіслатой, прабіркі разам з нашым няўдалым прыёмнікам выкінуты прэч, каб не выклікаць нічыйго падазрэння. Вечарамі, па адным, мы з'яўляемся да Цішкі і з нецярпеннем чакаем, калі Масква пачне перадаваць апошнія паведамленні. Хто-небудзь адзін астаецца на двары, каб папярэдзіць у выпадку небяспекі. Дзяжурыць на двары ніхто не хацеў. І таму прыйшлося ўвесці строгі графік.

Мы і да прыёмніка ўжо ведалі, што Масква наша, што нашы наступаюць, але калі праз трэск і шум у эфіры пачулі голас даваеннага дыктара, то не здолелі ўтрымаць слёз. Мы плакалі і не сароме́ліся гэтых нашых слёз. У той першы вечар мы пасядзелі каля прыёмніка ўсе ўпяцёх, змяняючы адзін аднаго на пасту.

Першыя дні мы хадзілі, ахутаныя нейкім ружовым туманам. Свет перамяніўся, усё стала на сваё месца. Тая праўда, у якую мы паверылі да вайны, аказалася самай моцнай і надзейнай праўдай.

Вельмі хутка, за нейкія лічаныя дні, прыйшла цвярозасць. Масква наша, яна змагаецца, але фронт яшчэ вельмі далёка. Трэба нешта рабіць, каб гэты фронт хутчэй дакаціўся да роднага мястэчка.

— Трэба перапісваць зводкі і даваць людзям чытаць,— прапанаваў Базыль Маленда.— Вядома, надзейным людзям. А то мы толькі грэемся ля печы.

Базыля мы падтрымалі. Ужо на трэці ці на чацвёрты дзень пасля паяўлення прыёмніка нашы зводкі пайшлі па руках. Стаіўшыся, каб не прапусціць ніводнага слова, мы ўчатырох запісвалі гэтыя зводкі. Акрамя шуму і завывання ў эфіры, праз якія ледзь чутна даносіўся голас дыктара, нам перашкаджала

яшчэ Цішкава маці. Яна заўсёды палохалася, калі мы ўключалі прыёмнік.

— Цішка, баюся я,— крычала яна з печы.— На гарышчы нехта гаворыць. Гэта, мабыць, злодзей. Ідзіце праганіце злодзея...

— Сціхні ты! — злаваўся Цішка.— Накрыйся з галавою і спі. Гэта вецер.

Але хворая жанчына не супакойвалася. Яна накрывалася коўдрай і хліпала да самага канца перадачы. Яе страх праходзіў толькі тады, калі пачыналі перадаваць музыку.

— Цішка, дзе гэта граюць? — пыталася маці.— Такая музыка была на маім вяселлі...

І ўсё ж мы слова ў слова перапісвалі зводкі.

Але менавіта ў тыя зімовыя дні пачалося нешта большае, чым проста зводкі. Аднойчы, зусім нечакана, я абмацаў у сваёй кішэні тыя некалькі металічных літарак, якія знайшоў на падлозе ў разрабленай рэдакцыі. Думка нарадзілася імгненна, як электрычная іскра... І вось ужо хлопцы разглядаюць літаркі з такім выглядам, нібы ў іхніх руках нейкія незвычайныя каштоўнасці, здабытыя з марскога дна.

— Трэба надрукаваць лістоўку,— заявіў гарачы Базыль Маленда.— Тады заварушыцца ўсё нямецкае кодла. Няхай фашысты ведаюць, што ім хутка капут. І нашы людзі падымуцца.

У тую ж ноч мы прабраліся ў рэдакцыю і, поўзаючы па падлозе, назбіралі, можа, цэлы кілаграм металічных літарак. Літаркі былі рознай велічыні, і назаўтра мы іх цэлы дзень сартавалі. У нас аказалася сотні ўсіх літар алфавіта, за выключэннем «Ф». «Ф» не было ніводнай. Дзеля гэтай літары прыйшлося яшчэ раз поўзаць па падлозе ў рэдакцыі. Але і сярод новага кілаграма шрыфту не трапілася ніводнага «Ф».

— Гэтая літара наогул не характэрна для нашай мовы,— сказаў разумны Цішка.— Яна прыйшла з царкоўных кніг. Таму мы яе і не знайшлі. Абыдземся і без «Ф».

Але без «Ф» мы не абышліся. У той адозве да насельніцтва, якую сябры даручылі напісаць мне, некалькі разоў траплялiся словы «фашысты», «фрыцы», «фронт». Слоў гэтых з тэксту лістоўкі мы выкінуць не змаглі, хоць цэлы вечар шукалі ім

замены. З другога ж боку, нельга было напісаць «хвашысты» або «хронт», хоць Цішка і даказваў, што гэта сапраўдная норма нашай мовы.

Выйсця, здавалася, не было. У той вечар мы прынялі зводку, дзе гаварылася аб тысячах захопленых у фашыстаў гармат, танкаў, аўтамашын, кулямётаў, і гэтае радаснае паведамленне яшчэ больш павялічыла нашу роспач. Людзі на фронце рабілі цуды, а мы з-за адной нікчэмнай літары не маглі выпусціць нават лістоўку.

— Дапішам «Ф» тушшу,— прапанаваў Цішка.— Ніхто і не заўважыць.

Але так рабіць не выпадала. Лістоўку мы падпісалі «Падпольны камітэт», і саматужніцтва тут было не да месца. Які ж гэта падпольны камітэт, калі ў яго рэдакцыі не хапае сапраўдных літар? Ніхто проста не паверыць нашай лістоўцы.

Але выйсце, вядома, знайшлося, бо мы ўжо навучыліся выкручвацца, як чэрці. Мы ўспомнілі пра дзяўчыну, якую звалі Каця. Гэта Каця працавала да вайны наборшчыцай у рэдакцыі. Варта было толькі праверыць, чым яна дыша, і неяк з ёю звязацца.

Гэтая ідэя нас проста захапіла. Мы ўсе адчувалі сябе слабымі друкарамі і ў глыбіні душы, мабыць, пабойваліся, каб не паўтарылася гісторыя з першым прыёмнікам. Ніхто з нас не ведаў, як аддзяліць слова ад слова, з чаго зрабіць фарбу, каб яна не размазвалася па паперы, дзе нарэшце знайсці гэтую праклятую літару «Ф».

Выведаць пра Кацю ўсё, што патрэбна, было даручана Базылю Маленду. Яго порсткая натура найбольш падыходзіла да такой справы. Базыль сабраў звесткі за адзін дзень, і яны нам здаліся не вельмі суцяшальнымі.

— Гэтая Каця проста дзяўчына, і ўсё,— паведаміў сябар.— Ходзіць на вячоркі, танцуе часцей за ўсё з васпаватым Антонам, што гандляваў да вайны газай. Гэты Антон штодня брындае да яе ў хату. Кажуць, ён збіраецца ажаніцца.

Так, трэба было дзейнічаць, пакуль васпаваты Антон канчаткова не затлуміў галаву нашай дзяўчыне. Другога чалавека, які б меў хоць якое-небудзь дачыненне да друкарскай справы, мы не ведалі, і таму барацьбу за Кацю не выпадала адклад-

ваць ні на хвіліну. Нашы позіркі спыніліся на Міколе Асмалоўскім. Вось каго трэба выставіць супроць васпаватага Антона!

З нашай пяцёркі Мікола быў самы прыгожы. Ніхто з нас яшчэ ні разу не закахаўся, але мы ведалі, што да вайны дзяўчаты вельмі цікавіліся Міколам. Яны першыя пісалі яму запіскі, запрашалі на вальсы на нашых школьных вечарах. Расказвалі нават, што дзве самыя адменныя прыгажуні з дзявятага класа аднойчы пасварыліся паміж сабой з-за гэтага самага Міколы.

— Ты павінен падружыцца з Кацяй,— загадаў Міколу Базыль Маленда,— і перацягнуць яе да нас. Толькі каб гэты Антон нічога не ведаў. Можаш спачатку прыкінуцца, што закахаўся. Табе даецца чатыры дні.

Мікола згадзіўся. Мы ўважліва абмеркавалі становішча. Сапраўды, Кацю, пра якую мы амаль нічога не ведалі, трэба прывязаць да нас моцнай вяровачкай. Яна ж не дурная і ведае, што зробяць немцы, калі дазнаюцца, хто друкаваў лістоўкі. І нічога дрэннага няма ў тым, што Мікола спачатку прыкінецца закаханым. Трэба ж неяк увайсці ў Каціна давер'е. А гэтага Антона чорт не возьме, паспее ажаніцца пасля вайны.

У той жа вечар Мікола адправіўся на пагулянку. Як толькі ён выйшаў за дзверы Цішкавай хаты, Базыль Маленда зарагатаў, як дурны:

— Гэтая Каця павісне яму на шыю, вось пабачыце. Дзе яна такога хлопца знойдзе?.. Толькі як жа Мікола з ёю пацалуецца? У яе ж зубы, бы ў таго каня...

Базылю мы далі рашучы адпор. Мы ведалі ў твар Кацю і не лічылі яе непрыгожай. І зусім не абавязкова Міколу цалавацца. Трэба проста хоць на тыдзень адарваць дзяўчыну ад гэтага Антона, якому прыспічыла ў такі час жаніцца.

А далей пачаліся такія імклівыя падзеі, што мы ні кропелькі не каяліся наконт прынятага рашэння. У суседнім пагранічным раёне, дзе асталося шмат неўзарваных дотаў, раптам, па чутках, аб'явілася цэлая партызанская дывізія. Вечарамі адтуль даносілася нават гарматная страляніна. Праз наша мястэчка ў напрамку гэтага раёна праехала цэлая нямецкая часць. Фашысты ішлі на партызан з танкеткамі і гарматамі.

Мы кожны вечар наладжвалі Міколу допыт наконт яго адносін з наборшчыцай Кацяй і падганялі сябра як маглі. Мікола злаваўся.

— Каця ўсё разумее без вашага дурнога кахання,— агрызаўся ён.— Але нельга ж адразу прапанаваць ёй такую справу. Я ёй расказваю пра фронт, пра Маскву, і яна радуецца. Дзяўчына наша, не бойцеся.

— Агітацыяй, значыць, займаешся,— падколваў Міколу Базыль.— Глядзі толькі, каб яе не сагітаваў Антон. Гэтаму на палітыку напляваць...

— Не сагітуе, не лезь, куды не просяць.

У адзін з тых вечароў у Цішкаву хату прыбег узрушаны Лявон Гук.

— Лістаносец наш прыехаў,— паведаміў ён.— Я яму батарэі аддаў, але з ім яшчэ нейкіх двое. Адзін хоча з намі пазнаёміцца. Яму, відаць, гэты самы Яўхім Калістратавіч расказаў.

Мы параіліся і вырашылі спаткацца з чалавекам, які шукае з намі знаёмства. Не мог жа Яўхім Цяльпук прывесці да нас дрэннага чалавека. Праз паўгадзіны ў Цішкавай хаце сядзеў заатэхнік Самасейка, які да вайны працаваў у райза. Ён ад нас не таіўся і адразу прызнаўся, што мае ўсе правы цікавіцца нашай работай.

— Радыё слухаеце? — спытаў ён.— І цікавыя навіны перадаюць?

Мы раскрылі яму ўсё, што ведалі пра становішча на фронце. Тады Самасейка спытаў пра нашыя ўласныя планы. Ад яго мы таксама не таіліся і паказалі лістоўку, якую збіраліся надрукаваць.

— Падпольны камітэт,— усміхнуўся ён.— А ў вас ёсць такі камітэт?

— Гэта каб паверылі людзі,— прызналіся мы.— Каб напалохаліся фашысты...

— То называйце сябе камітэтам,— сказаў ён сур’ёзна.— Такія добрыя хлопцы. Але ж не толькі адны вы добрыя. Ёсць яшчэ ў мястэчку людзі.

Мы расказалі Самасейку пра Кацю.

— Абы-каго не бярыце,— папярэдзіў ён.— Прынюхайцеся спачатку. І не трэба, каб усе ведалі адзін аднаго.

Мы пераканаліся ў той вечар, што Самасейка меў права гэтак з намі размаўляць. У зарасніках на балоце, куды мы яго правялі, былога заатэхніка на дзвюх фурманках чакалі людзі з вінтоўкамі. Без вінтовак былі толькі Яўхім Цяльпук і яго кум, стараста Кузьма, які некалі служыў міліцыянерам. Яны трымалі ў руках толькі пугі.

А яшчэ праз некалькі дзён мы мелі надрукаваную лістоўку. Яе набрала Каця, яна знайшла ў рэдакцыйным хляве і літару «Ф», і фарбу. Мы зрабілі толькі невялікую раму і драўляны валік. А зводкі кожнага вечара гаварылі нам пра імклівае наступленне нашых. Мы адчувалі, як раслі ў нас, наліваліся сілаю крылы...

*1958*

# ПЕРАЛОМНЫ ЎЗРОСТ

## I

Пека быў добры хлопец. У гэтым я пераканаўся, як толькі мы пазнаёміліся. Ён першы падышоў да мяне і прывітаўся, хоць гэта належала зрабіць мне як гаспадару хаты. Справа ў тым, што Пека прыехаў да нас кватараваць. Прыехаў з горада ў наша ціхае мястэчка, якое ў той памятны год стала раённым цэнтрам. Я трошкі баяўся гарадскіх, трошкі іх недалюбліваў і можа, таму ў дзень прыезду Пекі паставіўся да яго не зусім прыхільна.

Магчыма, была і другая прычына, чаму мне не адразу ўдалося разгледзець у асобе Пекі поўнага свайго аднадумца. З кузава паўтаратонкі, што спынілася каля нашай хаты, саскочыла маладая жанчына велічэзнага росту. Такіх высокіх жанчын я яшчэ не бачыў ніколі. У нашым мястэчку такіх не было. Таму я на першым часе ўсю сваю ўвагу накіраваў на гэтую высокую, якая цяпер ужо лічылася нашай кватаранткай.

З кузава злезлі яшчэ двое — тоўсты мужчына і хлапец маіх год. Але я на іх не глядзеў. Я дапамагаў зносіць рэчы ў другі пакой нашай хаты, якую мае бацькі аддалі пад кватэру прыезджым, і сачыў толькі за высокай тонкай кватаранткай. Яна з непрывычкі стукнулася галавой аб верхнюю дошку каліткі і пасля ўжо ўсе астатнія разы згіналася дугой, калі хадзіла ад машыны ў хату.

Рэчы мы пазносілі, і новыя гаспадары, зачыніўшыся, пачалі іх расстаўляць і ўладкоўваць. Іх кватэра адразу стала лепшай, чым наша. На двор яны выходзілі праз пярэдні пакой, які застаўся нам, і цяпер усё жыццё нашай сям'і было навідавоку. Мне стала крыху сумна ад гэтага, і, каб развеяць маркотныя думкі, я выйшаў на вуліцу. Я не прыходзіў дамоў да самага вечара. А вечарам у нас якраз і адбылося знаёмства з Пекам. Пека, мабыць, чакаў мяне. Ён сядзеў на лавачцы і чырыў дубцом па зямлі.

— Добры дзень,— сказаў ён.— Мяне завуць Пека. Давай дружыць.

— Пека? — здзівіўся я.— Хіба ёсць такое імя?

— Ну, па-звычайнаму Пятро. Гэта мяне так Рашэль называе.

— Якая Рашэль? Твая маці?

— Мацеры ў мяне няма,— сумна прамовіў Пека.— І бацька памёр таксама. Рашэль — сястра...

Мне стала шкада Пекі. Я ўжо вінаваціў сябе за тое, што так няласкава яго сёння сустрэў. Хвілін праз дваццаць мы ведалі адзін пра другога ўсё. Пека, як і я, перайшоў у пяты клас, і мы адразу дамовіліся, што ён запішацца ў «Б» клас, каб нам разам вучыць урокі. Ад свайго новага сябра я дазнаўся, што ён умее гуляць у шахматы і збіраецца змайстраваць уласны радыёпрыёмнік. Я ў той час не гуляў у шахматы, а што датычыцца радыёпрыёмніка, дык нават не дакранаўся да яго. Вядома, я адразу адчуў павагу да Пекі, хоць мяне і калола зайздрасць. Але мае ўласныя козыры былі яшчэ не раскрыты, і я спадзяваўся ўзяць рэванш.

— Ты чытаў «Капітана Гатэраса»? — спытаў я ў Пекі, спадзеючыся на адмоўны адказ.

Гэтая кніга дарэвалюцыйнага выдання трапілася мне без вокладак, і я таіў цвёрдую надзею, што ён яе не чытаў.

— Гэта Жуля Верна? — Пека нікольki не здзівіўся пытанню.— Чытаў яшчэ летась...

Пачатак для мяне складаўся няўдала. Чарга задаваць пытанне была за Пекам, і я насцярожана прыціх.

— А ты чытаў «Рабінзона Круза»?..

Не прачытаць «Рабінзона» было б проста сорамна, на гэтым мяне Пека злавіць не мог. Я прачытаў аж тры кнігі пра розных Рабінзонаў, аб чым яму адразу заявіў. Мы досыць доўга шпілялі адзін другога пытаннямі наконт прачытаных кніг і ўрэшце пагадзіліся, што сілы ў нас прыкладна роўныя. Былі кнігі, якіх не чытаў я, трапляліся і такія, якіх не чытаў мой сябар. Галоўнае, мы абодва любілі кнігі і пазналі адзін у адным людзей, блізкіх па духу. Мы ў той вечар так захапіліся ацэнкай вартасці розных пісьменнікаў, што нават не пачулі, як да паркана, які аддзяляў лавачку ад двара, падышла доўгая Пекава сястра.

— Пека! — пачуўся яе прарэзлівы голас.— Ідзі спаць. Ты ўжо сёння сабе зарабіў...

Пека падхапіўся і, угнуўшы галаву ў плечы, паціху пашкандыбаў у двор. Мне стала крыху няёмка за сябра. Нічога ж дрэннага мы не рабілі.

Але гэты выпадак на першым часе неяк забыўся. Былі справы важнейшыя за крыклівую Пекаву сястру, і мы аддаваліся ім усім сэрцам. Яшчэ не кончыліся канікулы, і я з раніцы хадзіў на заробкі — ссякаў на нашай станцыі траву паміж шпаламі і зносіў яе прэч. За гэта мне плацілі цэлых сто дваццаць рублёў у месяц — грошы па даваенным часе немалыя. Прыходзіў я дадому гадзіны ў чатыры, і Пека ўжо чакаў мяне. У маю адсутнасць ён бавіў час з трыма маімі братамі. Але з імі Пеку было, вядома, нецікава. Двое маіх братоў — Піліп і Кузя — зусім яшчэ не хадзілі ў школу і скакалі верхам на бярозавых кійках, а Васіль, на тры гады малодшы за мяне, перайшоў толькі ў другі клас і не прачытаў яшчэ ніводнай кнігі.

Я прыходзіў, умываўся, хуценька абедаў, і мы з Пекам хаваліся пад павець. Туды разам з намі імкнуліся прабрацца і мае браты, але я іх без літасці праганяў. Пад паветцю мы майстравалі радыёпрыёмнік, і лішнія вочы там былі зусім непатрэбны. З прыёмнікам справа і без таго не клеілася. Пакуль

што мы зрабілі толькі невялікую скрыначку і перамотвалі катушкі. Галоўную дудку ў нашай агульнай справе іграў, вядома, Пека, я ж быў толькі за падсобную сілу. Сябар часта паказваў мне цудадзейны каменьчык — дэтэктар, даказваючы, што да пачатку заняткаў мы будзем мець радыё. У яго такі былі залатыя рукі, у гэтага Пекі. Ён умеў чытаць надрукаваныя ў кніжцы схемы, вельмі спрытна карыстаўся стамескай, напільнікам, кусачкамі. Я пачынаў верыць, што да пачатку заняткаў у нас будзе радыё і што мы з Пекам прынясём у наш пяты «Б» клас самую цікавую навіну.

Але на нашым канструктарскім шляху стаялі неадольныя перашкоды. Розных вінцікаў, шрубак, маткоў меднага дроту ў Пекі хапала, на недахоп матэрыялаў мы паскардзіцца не маглі. Перашкоды былі куды больш сур'ёзныя. Вечарам якраз прачыналася Пекава сястра Рашэль. Яна вяла сябе наогул дзіўна. Ноччу Рашэль чытала і клалася спаць пад самую раніцу. Раніцай уставала, снедала і зноў засынала. Прачыналася Рашэль у той самы час, калі ў нас ішла гарачая работа. Вядома, каб не мая чыгунка, мы б пачыналі майстраваць радыёпрыёмнік днём. Але выбіраць не прыходзілася: новыя штаны, сарочка і чаравікі, у якіх я збіраўся з'явіцца ў пяты клас, у многім залежалі ад майго заробку.

Прачыналася Рашэль, і наша майстраванне канчалася.

— Пека! — крычала яна.— Прынясі вады!..

Пека хуценька складваў прычындалы і з усіх ног бег гаспадарыць. Лёс абеду, які можна было назваць і вячэрай, залежаў ад яго аднаго. Пека насіў ваду, абіраў бульбу, распальваў прымус. Рашэль толькі стаяла і камандавала. Я не зайздросціў Пеку. Я меў уласны заробак і ганарыўся тым, што мной у сям'і ніхто не папіхае. Маці пры маім прыходзе з чыгункі хуценька ставіла на стол абед, і я іншы раз нават шпурляў лыжку, калі лічыў страву нясмачнай...

Усё ж неяк мы майстравалі гэты прыёмнік. Магчыма, мы што-небудзь і зрабілі б, каб не адзін прыкры выпадак. Аднойчы, калі мы прыступілі да самай тонкай работы — перакладвалі лісцікамі слюды пласцінкі будучага кандэнсатара,— Рашэль прачнулася раней звычайнага. Мабыць, занятыя працай, мы не пачулі, калі яна клікала Пеку.

— А гэта што такое?! — закрычала яна.— Ты гэта чым запэцкаў майку?

Пекава майка была зусім яшчэ чыстая, на ёй толькі самае прыдзірлівае вока магло заўважыць маленькую плямінку. Гэтую плямінку Пека пасадзіў яшчэ ўчора, калі мы прыпайвалі катушкі. Рашэль проста шукала прычэпкі, каб адпомсціць Пеку за тое, што ён не з'явіўся, калі яна яго звала.

— Я памыю майку,— лепятаў мой сябар пабялелымі губамі.— Я не чуў, як ты звала...

Рашэль болей не крычала. Яна схапіла скрыначку, дзе ўжо былі прыпаяны тры гатовыя катушкі, і пакрочыла прэч. Пека стаяў спалоханы і маўклівы.

— Ты болей гэтай дрэнню займацца не будзеш! — ужо на парозе крыкнула Пеку сястра.— Ты сабе сёння зарабіў...

Я не разумеў, чаму Пека так баіцца сваёй сястры. Ён вылазіў са скуры, каб ёй дагадзіць, хадзіў пры ёй пакорлівы і маўклівы, хоць па натуры быў вясёлы і рухавы хлопец. Мае меншыя браты Васіль, Піліп і Кузя, да якіх я таксама адносіўся не вельмі далікатна, мяне ніколечкі не баяліся. Яны дражніліся са мной, як з роўным, кралі мае рэчы і, калі ім ад мяне пападала, у ахвоту скардзіліся на мяне матцы. Ніякай улады над імі я не меў. Пека ж дрыжаў перад сястрой як асінавы ліст.

Прыёмніка мы так і не змайстравалі. Пека пасля гэтага выпадку некалькі дзён дагаджаў сястры як толькі мог. Але калі ён заікнуўся наконт радыё, яна нават не захацела яго слухаць.

— Ты перайшоў толькі ў пяты клас,— рашуча заявіла Рашэль.— З радыётэхнікай вы пазнаёміцеся ў сёмым класе, калі па фізіцы будзеце праходзіць электрычнасць. Цяпер гэта табе не трэба.

Рашэль была настаўніцай. Яна хоць і не працавала ў школе, але дужа ганарылася сваёй прафесіяй і заўсёды навучала маю маці, як трэба выхоўваць дзяцей. Пеку яна трымала на строгім рэжыме. Ён уставаў і клаўся спаць у вызначаныя гадзіны, не меў права есці яблыкаў, не памыўшы іх у кіпятку, не мог чытаць кніг, якіх Рашэль не дазваляла. Сама яна, праўда, не прытрымлівалася ніякага рэжыму і па-ранейшаму ўначы чытала, а ўдзень спала.

Муж Рашэлі, якога звалі Сямёнам Барысавічам, дома не стыкаўся. Ён быў нарыхтоўшчыкам і цэлы тыдзень ездзіў па раёне. Працаваў Сямён Барысавіч ад некалькіх арганізацый і нарыхтоўваў усё: скуры, грыбы, рогі і капыты, шэрсць, мёд, лекавыя травы і нават яловыя шышкі. Прыязджаў ён дадому ў суботу, апаўдня, мыўся, галіўся і садзіўся пералічваць грошы. Грошай у яго было заўсёды шмат — поўная раменная сумка.

Хоць Рашэль і была настаўніцай, але мне яна не падабалася. Каб не Пека, я наогул бы ўхіляўся ад усялякіх сустрэч з ёю. З Пекам жа мы пасябравалі, і я часта без яго не мог абысціся. Мы ўжо гулялі з ім у шахматы, і на гэта кожны раз трэба было прасіць дазволу ў доўгай Рашэлі.

— Будзеш гуляць адну гадзіну,— сонным голасам дазваляла Пеку сястра.— У тваім узросце не трэба затлумліваць галавы...

Пека мяне амаль заўсёды абыгрываў, і я ніяк не мог адыграцца. У тую самую хвіліну, калі я, здавалася, быў на парозе да вернай перамогі, паяўлялася кватарантка і падымала Пеку ад шахматнай дошкі. Яна была як заведзеная, гэтая Рашэль. Яна прыходзіла тады, калі менш за ўсё была патрэбна, прымушала рабіць тое, чаго ніхто не хацеў. Я проста зненавідзеў яе пісклявы голас, яе недарэчную даўжэзную постаць. Пека ж маўчаў і цярпеў. Ён ні разу не агрызнуўся, не запярэчыў сястры. Я нават крыху недалюбліваў за гэта свайго новага сябра. Манах ён нейкі, ці што?..

Нарэшце канікулы скончыліся. У першы дзень заняткаў я апрануў усё новае — сарочку, штаны, чаравікі. Я адчуваў сябе імяніннікам і з нецярпеннем крочыў па двары, чакаючы Пекі, каб пайсці разам у школу. У душы я таіў надзею, што ў яго новага адзення няма, і па гэтай прычыне мой настрой быў самы ўзнёслы. Новыя штаны былі са складкай і не тапырыліся пухірамі на каленях, белая сарочка прыемна шасцела пры кожным руху. Мне здавалася, што на мае абновы пазірае кожны, хто праходзіць паўз нашу хату. Але на парозе паявіўся Пека, і мая радасць адразу знікла. Ён быў апрануты куды лепш, чым я. На ім быў сапраўдны суконны касцюм, блішчастыя, з вузкімі наскамі туфлі і прыгожая, з адкладным каўнерыкам, шаўковая сарочка. Усё-такі доўгая Рашэль не пашкадавала грошай на Пеку.

## II

Мы сталі вучыцца ў пятым класе. Пека яшчэ ў першыя дні праславіўся як самы здольны вучань. На другі ці на трэці дзень заняткаў усяму нашаму класу далі рускую дыктоўку. Настаўнік Рыгор Канстанцінавіч, мабыць, спецыяльна для таго, каб праверыць нас, падабраў самы цяжкі тэкст. Я і яшчэ адна вучаніца — другагодніца — напісалі дыктоўку на «здавальняюча», а Пека — на «добра». Ён зрабіў толькі дзве памылкі. Усім астатнім вучням паставілі дрэнныя і вельмі дрэнныя адзнакі. Мы ўтрох былі героямі дня, і самым галоўным героем быў, вядома, Пека. Рыгор Канстанцінавіч яго хваліў перад усім класам. Я крыху зайздросціў Пеку, бо ў чацвёртым класе самым моцным па рускай мове лічылі мяне.

Нам з Пекам падабалася вучыцца ў пятым класе, дзе выкладалі некалькі настаўнікаў. Пяты клас проста нельга было параўнаць ні з трэцім, ні з чацвёртым. Тут было і цікавей, і весялей. Настаўнікі ў нас падабраліся добрыя, і амаль усе яны называлі нас, пяцікласнікаў, на «вы». Спачатку гэта здавалася мне дзіўным, але паступова я прызвычаіўся да такога абыходжання.

У тыя далёкія гады я глядзеў на настаўнікаў як на нейкіх вышэйшых істот. Я не дапускаў нават думкі, што яны могуць быць самымі звычайнымі людзьмі, могуць памыляцца або рабіць якія-небудзь брыдкія ўчынкі. Я цвёрда верыў, што нашы педагогі жывуць нейкім асаблівым, ідэальным жыццём.

Настаўнікі ўяўляліся мне нават у сваім дамашнім побыце гэткімі ж строгімі і разумнымі, як і на ўроках. Раз яны вучаць нас стараннасці, праўдзівасці, сумленнасці, то і самі павінны быць такімі. Інакшай думкі я не дапускаў.

Рашэль, якая хвалілася тым, што цэлых два гады працавала ў школе, сваімі паводзінамі неяк супярэчыла гэтаму майму ўяўленню. Яна па-ранейшаму ўночы чытала, а ўдзень спала або сноўдалася па двары.

Я не хацеў лічыць Рашэль за настаўніцу. Але яна ўсё ж настаўніцай была, у гэтым прыйшлося пераканацца. Яна ведала на памяць безліч вершаў, прачытала страшэнна многа кніг. Іншы раз Рашэль правярала Пекавы сшыткі, і я бачыў, што яна

не прапускала ніводнай самай маленькай памылкі. Яна вельмі добра ведала ўсе граматычныя правілы і, не заглядваючы ў слоўнік, гаварыла, як трэба напісаць тое або іншае слова. Я не памятаю, каб Рашэль хоць раз памылілася...

Мы з Пекам вучыліся даволі роўна. Ён па-ранейшаму пісаў рускія дыктанты лепш за мяне, але па астатніх прадметах я ад яго не адставаў. Урокі мы рыхтавалі разам, на нашай палавіне хаты, і гэта давала нам вялікую эканомію ў часе. Задачы, якія нам задавалі на дом, мы дзялілі папалам і рашалі кожны сваю частку, а потым адзін у другога перапісвалі рашэнне. Гэтак жа мы паступалі і з нямецкім перакладам. Яшчэ лепш ішла справа з вуснымі прадметамі. Тут было прасцей. Адзін з нас чытаў, а другі слухаў. Потым мы закрывалі кнігу і, дапамагаючы адзін аднаму, успаміналі і пераказвалі прачытанае.

Дзякуючы такой, намі ж выдуманай сістэме, на падрыхтоўку ўрокаў мы трацілі не больш дзвюх гадзін. Увесь астатні час мы аддавалі кнігам. Гаспадарчы клопат з Пекавай галавы спаў, бо цяпер Рашэлі прыслужвала мая маці. Пад выглядам падрыхтоўкі ўрокаў мы на працягу доўгіх асенніх вечароў глыталі кнігу за кнігай. Мы чыталі ўсё, што трапляла пад руку. Рашэль аб гэтым, вядома, не здагадвалася. Яна б ніколі не дазволіла Пеку чытаць кнігі, якія не мелі ніякага дачынення да школьнай праграмы.

З Пекам я сябраваў, мы абмяркоўвалі з ім многія рэчы, але адно ў ім было незразумела. Ён ніколі не гаварыў праўды сваёй доўгай сястры. Змаўкаў, калі яна выходзіла са свайго пакоя, і амаль увесь свой час праводзіў на нашай палавіне хаты. Пека жыў нейкім дваістым жыццём. Дома, паблізу ад сястры, ён быў ціхі і пакорлівы, не павышаў голасу і не смяяўся. На вуліцы ж або ў школе Пека мяняўся на вачах. Ён быў, бадай, самы гарэзлівы хлопец у нашым пятым класе. Ён дужаўся з аднакласнікамі, бегаў па партах, прыкладваў кожнаму мянушкі. Адзін раз ён нават разбіў да крыві нос вучню чацвёртага класа за тое, што той назваў яго канапатым. У Пекі сапраўды ўвесь твар быў у вяснушках, і крыўдаваць за мянушку яму не выпадала, бо і сам ён ахвотна даваў іх кожнаму. Мы ледзь тады ўгаварылі таго вучня не скардзіцца ў школе...

Гэтая няўрымслівасць сябра не падабалася мне. Я яго так і не мог зразумець. Калі ён сапраўды такі гарачы і смелы, то чаго ён баіцца сваёй Рашэлі, не скажа ёй насупраць і слова? Чаму ён дома адзін, а ў школе другі?

Іншы раз мне здавалася, што Рашэль вельмі добра ведае свайго брата і таму стараецца моцна трымаць яго ў руках. Нездарма ж яна настаўніца. Але такая думка вельмі хутка знікла. Рашэль не цікавілася нікім, апрача самой сябе. Яна, праўда, любіла ўсіх павучаць і абгаворваць, але рабіла гэта, мабыць, проста так, па прывычцы.

Наогул Пекава сястра задала мне загадку, якую я доўга не мог разгадаць. Мабыць, з-за яе я пачаў пільней прыглядацца да настаўнікаў, якія нас вучылі, знаходзячы іншы раз у іх паводзінах нешта такое, што ў маім уяўленні крыху псавала іх абсалютную ідэальнасць.

Я пачаў прыкмячаць, што ў кожнага настаўніка свой характар, свае звычкі і нават свае ўласныя патрабаванні да вучняў. Нават злаваліся настаўнікі, калі хто-небудзь парушаў дысцыпліну, па-рознаму.

Бадай, найбольш паважаным з усіх педагогаў, якія нас тады вучылі, быў настаўнік рускай мовы Рыгор Канстанцінавіч. Пра яго строгасць старэйшыя вучні гаварылі, акругляючы вочы. Памятаю першы ўрок гэтага настаўніка. Высокі, чорнавалосы, ён увайшоў у клас павольнай, размеранай паходкай. Рыгор Канстанцінавіч не адразу павітаўся з намі, а спачатку доўгім позіркам абвёў клас, нібы прыкідваючы, чаго кожны з нас варты. Цэлы ўрок настаўнік знаёміўся з намі. Ён распытваў, што мы чыталі, якія кнігі нам падабаюцца, дзе працуюць нашы бацькі. Толькі на трэці дзень заняткаў Рыгор Канстанцінавіч даў нам тую славутую дыктоўку, якую, за вылікам траіх, увесь клас напісаў на «дрэнна». Тлумачыў ён вельмі проста і даходліва. Яго нельга было не зразумець. Але ён быў сапраўды строгі і не даравал нічога.

Адзнакі Рыгор Канстанцінавіч ставіў справядліва. Ён мог паставіць «здавальняюча» і за восем памылак, калі бачыў, што вучань стараецца. І наадварот, зніжаў адзнаку таму, хто ў новай дыктоўцы зрабіў тую ж памылку, што і раней. Я не памятаю, каб Рыгор Канстанцінавіч калі-небудзь крычаў. Ён,

здаецца, зусім спакойна выклікаў вінаватага і пачынаў яго ўшчуваць. Настаўнік не лаяўся і нікога не абражаў, але калі ён пачынаў гаварыць, то было чуваць, як б'ецца муха аб аконнае шкло.

Мы паважалі гэтага настаўніка. Яго пахвала лічылася самай вышэйшай у школе. Рыгор Канстанцінавіч быў заўсёды роўны, стрыманы, акуратны. Ён не мяняў сваіх поглядаў і рабіў заўсёды так, як гаварыў. Здавалася, што гэты чалавек выпраменьвае са сваіх вачэй нейкую разумную сілу, супраць якой не мог устояць ніхто.

Рыгор Канстанцінавіч быў нашым класным кіраўніком і, вядома, вельмі хутка дазнаўся аб выбрыках Пекі.

— Сілы ў цябе многа, ці што? — пытаўся ён у сябра.— Не ведаеш, куды яе дзець? А можа, ты задавацца пачаў, Пятро Мацюшэнка? Вучышся добра і таму лічыш, што табе ўсё дазволена?

Пека ніколі не апраўдваўся ў такія хвіліны. Ён стаяў за сваёй партай чырвоны і разгублены. Мне здавалася, што сябру страшэнна сорамна.

Рыгор Канстанцінавіч не называў нас на «вы». Але размаўляў ён з намі, як з дарослымі.

## III

У нашым пятым класе вучылася смяшлівая і вясёлая дзяўчынка Ліна. Вучылася яна няроўна. Здаралася, што ў адзін і той жа дзень у яе дзённік трапляла і выдатная, і дрэнная адзнака. Усё залежала ад Лінінага настрою. Іншы раз, нават добра ведаючы ўрок, яна не ішла адказваць і потым з выглядам пакутніцы не ўставала з-за парты нават на перапынках.

Але ў першым паўгоддзі мы прывыклі бачыць Ліну нейкай вогненна-вясёлай. Яна насілася па класе як апантаная. Ганялася за хлопцамі, гуляла з імі ў «цот і лішку», стукалку і, нават ператварыўшы пры дапамозе шпілек сваю спаднічку ў нешта накшталт штаноў, вярцелася на турніку. Ліна ведала амаль усе хлапечыя тайны, сябравала пераважна з хлопцамі і пра свой жаночы род гаварыла надзвычай зняважліва.

Пасля ўрокаў я і Пека часцей за ўсё ішлі разам з Лінай, бо нам было па дарозе. Дзяўчынка жыла ў гасцініцы, дзе яе бацька працаваў загадчыкам. Дарогай Ліна балбатала без упынку. Яна прыехала ў наша мястэчка аж з Каўказа і вельмі ахвотна расказвала пра смелых і адважных чачэнцаў, пра тое, як яны крадуць сабе ў жонкі дзяўчат і як танцуюць з кінжаламі ў зубах. За гэтыя расказы дзяўчынцы нават далі ў класе мянушку — чачэнка.

На нашым школьным двары Ліна сама аднойчы танцавала каўказскі танец, трымаючы ў зубах звычайны сталовы нож, бо кінжала ў школе не знайшлося.

Ад нас з Пекам у дзяўчынкі не было ніякіх сакрэтаў. Яна скардзілася, што страшэнна не любіць арыфметыкі і пасля кожнай развязанай задачы ў яе баліць галава. Мы з Пекам шкадавалі дзяўчыну і навыперадкі давалі ёй спісваць нашы рашэнні. Я хутка заўважыў, што Ліна ахвотней бярэ Пекавы сшыткі. А Пека, нягледзячы на тое, што арыфметыку мы заўсёды рыхтавалі разам, трымаў сябе так, нібы толькі ў яго аднаго задачы выйшлі па адказу. Гэта мяне крыўдзіла, і бывалі хвіліны, калі Пека здаваўся мне проста ненавісным.

Хутка я пераканаўся, што Ліна наогул хіліцца да Пекі. Па дарозе яна размаўляла часцей за ўсё з ім, звонка смяялася пасля кожнага яго жарту, а я быў, як у той гульні,— трэцім лішнім. Ліне, відаць, падабалася, што Пека гучней, чым другія, крычаў на перапынках, бегаў па партах, дужаўся з кожным, каго ні стрэне. У маёй натуры ніякай няўрымслівасці не было, і таму Ліна проста не выдзяляла мяне сярод іншых хлопцаў.

З Пекам у мяне адносіны псаваліся. Я ведаў, як ён баіцца сваёй Рашэлі, як ходзіць перад ёй на задніх лапках, і таму зусім не лічыў яго смелым. «Варона,— помсліва думаў я пра Ліну.— Што яна такога знайшла ў гэтым канапатым Пеку?»

Аднойчы, калі канчалася ўжо другая чвэрць, я падклаў і Пеку, і Ліне добрую свінню. Тры разы ў тыдзень Рашэль пускала свайго брата пакатацца на каньках. Пускала яна яго ўсяго на адну гадзіну, і таму я не любіў выбірацца на лёд разам з Пекам. Увойдзеш у самы смак, ляціш на дзеравяшках па звонкім лёдзе, забываючы аб усім на свеце, а Пека раптам заве дамоў, яго гадзіна кончылася...

На гэты раз я пакінуў лёд раней за Пеку. У той вечар на нашу замерзлую рачулку прыйшла Ліна. Можа, яна згаварылася з Пекам, можа, дзяўчынка дазналася сама, якой цудоўнай бывае рачулка зімовым вечарам, калі над зямлёй вісіць сіняе сутонне, а лёд звініць і патрэсквае, але яна прыйшла.

Ліна ўмела катацца на каньках, гэта я ўбачыў адразу. Пека імчаў першым, за ім Ліна, а трэцім я. Мне здалося, што Пека з Лінай хочуць наўмысна адарвацца ад мяне, каб застацца адным, і я звярнуў убок, каб ім не перашкаджаць. Мне ад гэтага стала неяк горка і крыўдна, і, зняўшы свае дзеравяшкі, я ціха паклыпаў дадому.

Дома я сеў за арыфметыку. Нам далі рашыць два вельмі цяжкія прыклады на дзяленне дробаў. Гэтыя дробы былі нейкія чатырохпавярховыя, і прайшла цэлая гадзіна, пакуль я рашыў першы прыклад. Пекі ўсё не было. Я ўяўляў, як, пабраўшыся за рукі, Пека з Лінай носяцца па лёдзе, і мяне ўсё болей апаноўвала злосць. «Ён хоча, каб я рашыў і яго прыклад,— з нянавісцю думаў я пра Пеку.— Я рашу, але заўтра паглядзім...» Два разы выходзіла са свайго пакоя доўгая Рашэль і пыталася, дзе Пека. Я адказваў, што не ведаю.

Пека прыйшоў, можа, гадзіны праз тры. Ён быў расчырванелы і ўзбуджаны. «Рашыў задачы?» — спытаў ён у мяне шэптам. Я кіўнуў галавой. «Заўтра пойдзем у школу раней, я ў цябе перапішу...» Выскачыла Рашэль і накінулася на Пеку. Ён спачатку нешта даводзіў ёй пра рэпетыцыю харавога гуртка, але яна не слухала. Яна лямантавала як шалёная, а Пека стаяў насуплены і няшчасны. Мне ў гэтую хвіліну нават стала крыху шкада сябра, і я ўжо зусім на яго не злаваўся.

Але назаўтра прага помсты авалодала ўсёй маёй істотай. Калі па дарозе ў школу мы праходзілі паўз гасцініцу, з яе двара выскачыла Ліна. Яна, мабыць, спецыяльна падпільноўвала Пеку. Са мной Ліна нават не павіталася. Яна гаварыла толькі з Пекам, успамінала рачулку, пытаючыся, калі ён пойдзе зноў катацца на каньках. Я ішоў ззаду і поўніўся злосцю.

— Ты рашыў прыклады? — перад самай школай пацікавілася Ліна.

— Рашыў,— абыякавым голасам адказаў мой сябар.

— Дасі мне перапісаць?

— Дам...

У мяне закіпела ў грудзях. Я ледзь не закрычаў ад абурэння на гэтых дваіх, якія без ніякага сумлення не хацелі заўважаць ні мяне, ні нават маёй працы. Але я ўсё ж стрымаўся. Я толькі адстаў крокаў на дваццаць ад Пекі з Лінай.

— Ты хутка? — на самым ганку паклікаў мяне Пека.

— Хутка...

Але ў клас я не пайшоў. Як толькі Пека з Лінай схаваліся ў калідоры, я сігануў за вугал школы. Я стаіўся ў штабялях дроў і з нейкім радасна-помслівым пачуццём маляваў сабе карціну, якімі вачамі глядзіць цяпер Ліна на свайго смелага і разумнага Пеку, у якога не зроблены ніводзін прыклад. Я нават замерз, седзячы на дровах, але ў клас пайшоў толькі пасля таго, як празвінеў званок.

Арыфметыка была на першым уроку. Пека, вядома, засыпаўся. Настаўнік, ведаючы, што прыклады цяжкія, пасля дзвюх дзяўчынак, якія сказалі, што сшыткі з рашэннем забыліся дома, выклікаў Пеку. Пека пачырванеў як бурак.

— І я забыўся сшытак дома,— нарэшце прамовіў ён.

Пека схлусіў няўдала. Яго сшытак ляжаў на парце, і настаўнік, каб пераканацца, што Пека хлусіць, спецыяльна ўзяў гэты сшытак і пагартаў.

— Вы і не браліся за рашэнне, Мацюшэнка,— сказаў настаўнік Пеку.— У вас жа толькі ўмова ў сшытку... Улічваючы вашы мінулыя заслугі, дрэннай адзнакі я вам не стаўлю, але заўвагу запішу. Дайце дзённік...

Пека ў той дзень са мною не размаўляў. А вечарам здарылася нешта незвычайнае, нешта такое, што назаўсёды прымірыла мяне з маім сябрам і прымусіла глядзець на яго зусім новымі вачамі. Вечарам Пека не выйшаў у нашу палавіну хаты, каб рыхтаваць са мной урокі. Па суботах ён часта не паказваўся са свайго пакоя, і я таксама не сеў рашаць задачы, спадзеючыся заўтра памірыцца з Пекам і засесці за арыфметыку разам з ім. Я сядзеў на прыпечку і чытаў кнігу, як раптам з Пекавай палавіны хаты данеслася нейкае раўнамернае цёпканне. Здавалася, што нехта выбіваў пыл з заляжалага старога паліто. Такія гукі даносіліся з пакоя нашых кватарантаў не ўпершыню, і я заўсёды дзівіўся, чаму Рашэль выбівае адзенне ў хаце, а не на двары.

У гэты час мяне тузануў за нагу мой самы малодшы брат Кузя. Акрамя яго і мяне, у хаце болей нікога не было. Маці даіла карову, бацька быў на рабоце, а двое братоў коўзаліся недзе на рачулцы.

— Пеку б'юць, а ён не плача,— сур'ёзна сказаў Кузя і, пакінуўшы мяне, прыпаў вокам да шчыліны ў дзвярах Пекавага пакоя.

Гэтыя словы працялі мяне, нібы электрычны ток. Страшная здагадка скаланула ўсю маю істоту, і я выскачыў на двор. Зазірнуўшы ў акно, я ўбачыў распластанага ніц на канапе Пеку і Сямёна Барысавіча, які ўзмахваў над ім складзеным у дзве столкі гумавым шлангам. Доўгая Рашэль, адклаўшы ўбок кнігу, спакойна наглядала за гэтай экзекуцыяй…

У той вечар я доўга не прыходзіў дадому. Я вінаваціў сябе ў сотнях самых цяжкіх грахоў перад Пекам. Мне цяпер было ясна, як пакутуе мой сябар, жывучы ў сваёй доўгай сястры. Яго, выходзіць, білі ўсе тыя суботы, калі ён па незразумелай прычыне не выходзіў на нашу палавіну хаты.

Я даў самому сабе слова, што не буду злаваць на Пеку з-за Ліны і нікому не раскажу пра гумавы шланг. Я толькі не ведаў, як буду глядзець у вочы свайму сябру. Пека ж сам не хоча, каб хто-небудзь дазнаўся, што яго б'юць, бо ён ніколі не закрычаў пад гэтым гумавым шлангам. Доўгую Рашэль і тоўстага Сямёна Барысавіча з гэтага часу я проста зненавідзеў.

Дома ўжо ўсе ведалі, што Сямён Барысавіч караў Пеку. Відаць, аб гэтым паспяшыў раззваніць Кузя. Мае браты, Васіль і Піліп, сядзелі на печы маўклівыя і насупленыя і не грызліся, як звычайна, адзін з адным. Толькі Кузя ў сваіх паласатых штанах, якія яму нядаўна перашылі з навалочкі, даволі бадзёра вытанцоўваў па хаце. Хлопец пакуль што карыстаўся ўсімі перавагамі свайго пяцігадовага ўзросту і таму ніколі не губляў добрага настрою. Яго яшчэ ніхто не крануў нават пальцам, яму не трэба было рашаць арыфметыку і дапамагаць маці, і жыццё ўяўлялася хлопцу адной суцэльнай гульнёй. Кузя лез за стол разоў дзесяць у дзень: ён снедаў, абедаў і вячэраў з кожным, хто прыходзіў у хату. Кузя і цяпер, мабыць, чакаў мяне, каб павячэраць у трэці раз.

— Пека не плакаў, калі яго білі,— яшчэ раз паведаміў мне Кузя.— Ён тоўсты, і яму зусім не баліць...

Васіль і Піліп пасля гэтых слоў пашыліся яшчэ глыбей у змрок. Яны не падзялялі Кузевага аптымізму. Кожны з іх меў за сабой сякія-такія грашкі, і таму на печы ў гэты вечар панавала трывожная сваёй затоенасцю атмасфера.

— Бач, прыціхлі,— заўважыў бацька.— Вас бы вось так прычашчаць паплёскай перад нядзеляй, мо перасталі б тады гыркацца...

Назаўтра мы з Пекам памірыліся. Ён ні словам, ні рухам не паказаў, што яго ўчора білі. Я таксама зрабіў выгляд, што нічога не ведаю. Усё было б добра, каб не Кузя, які ўсунуў свой замурзаны нос у гэтую справу.

— Табе з, праўда, уцора не балела, як дзядзя біў? — спытаў Кузя ў Пекі.— Па цым цябе ён біў?

Я ўпершыню даў Кузю шлепака, і ён зарумзаў. Пека выскачыў з хаты. На яго вачах былі слёзы...

Не, я не зайздросціў Пеку. Ён падабаўся Ліне, лепш за мяне апранаўся, смачней еў, у яго былі бліскучыя снягурачкі, але я яму ні кропелькі не зайздросціў...

Пека паводзіў сябе ў школе ўсё горш і горш. Ён стаў нейкі нервовы, ва ўсякім самым бяскрыўдным слове бачыў насмешку над сабой і нікому не даваў спуску. Іншы раз на сябра нападала празмерная ўзбуджанасць, і ён тады насіўся па класе як віхор, смяяўся, вырабляў розныя мартаплясы. Але жартаваў Пека жорстка. Ён кідаў дзяўчатам у чарніліцы павукоў, складаў пра хлопцаў крыўдныя вершыкі, вывіжоўваў чужыя сакрэты, расказваючы іх потым усім. Вучыўся ён па-ранейшаму добра, і таму настаўнікі, нават класны кіраўнік Рыгор Канстанцінавіч, яму многае даравалі. Па дысцыпліне ў другой чвэрці выдатнай адзнакі Пеку ўсё ж не паставілі.

— Мы перахвалілі цябе, Мацюшэнка,— сказаў Рыгор Канстанцінавіч на класным сходзе.— Гэта ж сорам: ты адзін з усяго класа пішаш на выдатна дыктоўкі і так дрэнна сябе трымаеш. Прыйдзецца пагаварыць з тваімі бацькамі...

Пека сядзеў, апусціўшы галаву. Мне было шкада сябра, але я не мог яму нічым дапамагчы. Я нікому не расказаў, што

Пеку дома б’юць, і ён плаціў мне за гэта ўдзячнасцю. Мяне ён ніколі не закранаў ні сваім колкім жартам, ні насмешкай.

У наступную суботу Сямён Барысавіч зноў частаваў Пеку гумавым шлангам. Цяпер, мабыць, за тое, што ён не прынёс у дзённіку выдатнай адзнакі па дысцыпліне...

— Ты не расказвай нікому,— ужо не тоячыся, папрасіў мяне Пека.— Я да лета пацярплю, а потым паеду куды-небудзь...

— Куды ты паедзеш? — спалохана перапытаў я.

— А што? Мне будзе ўжо чатырнаццаць гадоў. Паступлю куды-небудзь на завод. Ты толькі маўчы...

## IV

У трэцяй чвэрці нічога не змянілася. Пека на перапынках падымаў уверх нагамі ўвесь клас. Кожны дзень ён выдумляў што-небудзь новае. Выклікалі ў школу доўгую Рашэль, з ёю гаварыў сам Рыгор Канстанцінавіч, запісвалі Пеку ў дзённік заўвагі па дысцыпліне, але ён не зважаў ні на што. Ён стаў такі калючы і едкі, што, здавалася, помсціў усяму свету.

З Лінай у Пекі адносіны сапсаваліся таксама. Дзяўчынка ў другой палове года неяк нечакана перамянілася. Раней яна была першай у класе весялухай, а наконт розных выдумак магла б паспрачацца з самім Пекам. Цяпер яна ўжо рэдка лётала па класе і рагатала. Ліна стала нейкай задуменнай і сумнай. Яна ўсе перапынкі прастойвала ля акна, углядаючыся ў прастор, які адкрываўся воку з вышыні другога паверха. Я стаў заўважаць, што Ліна пазбягала Пекавай кампаніі.

Я ведаў, што Ліна на два гады старэйшая за мяне і Пеку. Яна, каб не бацькавы пераезды з месца на месца, вучылася б ужо ў сёмым класе. Але чаму Ліна перастала сябраваць з Пекам, я не ведаў. Яна ж і раней была старэйшая за Пеку, але гэта ёй не шкодзіла ім захапляцца. Я ў душы трохі радаваўся, што Ліна не звяртае цяпер ніякай увагі на Пеку. Але гэтую радасць я хаваў за знешняй абыякавасцю да дзяўчынкі.

Аднойчы пасля заняткаў у нашай школе адбыўся цікавы выпадак. Сабакі прыгналі на школьны двор тхара. Яны так на яго насядалі, што звярок сам узбег на каменны ганак і кінуўся

ў калідор. Ужо ў калідоры пагналіся за тхаром мы і насіліся за ім да таго часу, пакуль ён не ўскочыў у грубку, дзверцы якой былі адчынены. Звярок быў цяпер у пастцы, мы яго хацелі узяць жывым. Адтуль ён пазіраў на нас злымі зялёнымі вачамі і шыпеў, нібы кот. Калі мы пачалі пароць у грубку палкамі, тхор палез у комін. Ён не хацеў здавацца.

— Мы яго зараз падсмалім,— спакойна сказаў Пека, дастаючы з партфеля два спісаныя сшыткі.— Давайце, у каго ёсць непатрэбная папера. Выскачыць з грубкі як міленькі...

Ад гэтых слоў я страшэнна раззлаваўся і ўпершыню схапіў сябра загрудкі. На мяне напала нейкая шалёная злосць, і ў першае імгненне я не мог нават вымавіць слова.

— Ты ж ведаеш, што тхор жывы і яму будзе балець,— крычаў я ў канапаты Пекаў твар, які быў для мяне цяпер проста ненавісны.— Табе ж баліць, калі цябе б'юць...

Пека адразу звяў. З нейкім сполахам на твары ён вырваўся ад мяне і, апусціўшы галаву, моўчкі пайшоў да выхаду. Хлопцы здзіўлена паглядзелі яму ўслед. Ахвота лавіць тхара прапала, і ўсе адышліся ад грубкі.

Пасля гэтага выпадку я доўга не мог сабрацца з думкамі. Каяцца перад Пекам мне не хацелася, і разам з тым у вачах стаяла паніклая постаць сябра і яго спалоханы твар. «Чаму ён такі жорсткі? — пакутліва думаў я.— Яго ж крыўдзяць болей, чым усіх. Дык навошта ж на другіх замахвацца? Ён жа ведае, што другім баліць таксама...»

Адказу на гэтае пытанне, якое даўно набалела ў душы, я не знаходзіў. Мне было ўжо трынаццаць гадоў, я прачытаў сто ці болей кніг, ведаў усе рэкі, горы і буйныя гарады на карце зямнога шара і не мог сам сабе адказаць на гэтае простае пытанне.

Мае разважанні парушыла Ліна. Яна дагнала мяне на вуліцы і пайшла поруч. Ліна таксама была нечым усхваляваная.

— Тхор уцёк,— паведаміла яна і без ніякай сувязі са сказаным дадала: — Не люблю задавак і хуліганаў...

Гэтыя словы паласнулі мяне, нібы нажом. Затаіўшы дыханне, чакаў я, што скажа Ліна далей. Яна не ўмела хаваць сваіх думак, аб гэтым я ўжо ведаў даўно.

— Гэты твой Пека проста брыдкі,— сказала Ліна.— Ён з усіх насміхаецца і хоча паказаць, што самы разумны. А ты добры...

Болей Ліна не сказала нічога. Яна пайшла ў сваю гасцініцу, паскардзіўшыся, што зусім не бралася за паўтарэнне арыфметыкі. Але і таго, што дзяўчынка сказала, было дастаткова, каб перавярнуць усю маю душу. Мне было прыемна, цёпла, радасна ад гэтых слоў, якія датычылі толькі мяне. Я прыскорыў крок, каб мяне не дагналі аднакласнікі...

З Пекам мы зноў памірыліся. Прыйшоўшы назаўтра ў клас, ён пераканаўся, што я нічога лішняга пра яго не сказаў, і першы працягнуў мне руку. Мне было трохі ніякавата перад сябрам. Я ўжо ведаў, што думае пра яго Ліна, але ні за якія грошы не адкрыў бы гэтага Пеку. Мне нават здавалася, што я нешта ўкраў у сябра, і таму часта ўзнікала жаданне зрабіць для яго што-небудзь добрае, дагадзіць яму.

Пека па-ранейшаму на перапынках галёкаў, Ліна стаяла ля акна і аб нечым думала, а я стараўся на яе не глядзець. З той памятнай размовы я наогул усяляк пазбягаў Ліны і баяўся сустрэцца з ёю адзін на адзін. Мне было дастаткова таго, што дзяўчынка пра мяне добра думае.

А далей пайшлі падзеі, якія прымусілі мяне яшчэ больш паламаць галаву над загадкамі жыцця. Рыгор Канстанцінавіч даў нам аднойчы напісаць пераказ, які называўся «Мой настаўнік». Ён два разы прачытаў перад класам успаміны лётчыка пра свайго настаўніка. Гэта былі цікавыя ўспаміны. Лётчык яшчэ ў дзяцінстве астаўся без бацькоў. Яны загінулі ў грамадзянскую вайну. Хлопец звязаўся з беспрытульнымі, краў, ездзіў з горада ў горад. Некалькі разоў яго лавілі, накіроўвалі ў прытулкі, але ён адтуль уцякаў і зноў бадзяўся з беспрытульнымі. Але аднойчы на шляху хлопчыка трапіўся чалавек, ад якога ён не захацеў уцякаць. Гэта быў настаўнік дзетдомаўскай школы, і дзякуючы яму той хлопчык пачаў вучыцца і потым стаў славутым лётчыкам. На ўсё жыццё захаваў ён удзячнасць да настаўніка.

Мяне гэтае апавяданне ўсхвалявала. На пераказ нам было адведзена два сумежныя ўрокі, і я скончыў яго перад канцом другога ўрока, не паспеўшы нават як след праверыць напісанае.

Я баяўся, што нарабіў многа памылак. Мяне адольваў страх яшчэ і па той прычыне, што я залішне далёка адышоў ад арыгінала, перасыпаўшы свой пераказ падрабязнасцямі, якіх зусім не было ў апавяданні лётчыка. Але мой страх аказаўся дарэмным. На наступны дзень Рыгор Канстанцінавіч, перш чым раздаць сшыткі, вынуў з вялікага стуса мой і аставіў у сябе на стале. Ён прачытаў напісаны мной пераказ усяму класу, заявіўшы, што гэта самае лепшае ўкладанне.

— За гэтую работу я пастаўлю «выдатна»,— сказаў Рыгор Канстанцінавіч,— а Пятру Мацюшэнку «здавальняюча». Што з табой творыцца, Мацюшэнка? Ты лепш за ўсіх пісаў дыктоўкі і пераказы, а цяпер гэтак спасаваў? У цябе не атрымалася ніякага пераказу, бо ты яго проста не скончыў. Прыйдзецца зноў пагаварыць з тваёй сястрой...

Мне было вельмі шкада Пекі. Ён сядзеў з апушчанай галавой на самай першай парце, і яго твар залівала густая чырвань. Я здагадваўся, чаму Пека не здолеў добра напісаць гэтае ўкладанне. Ён, мабыць, у тыя хвіліны, калі пісаў, успамінаў свой намер уцячы ад доўгай Рашэлі і проста не захацеў хлусіць перад настаўнікам. Я нават крыху злаваўся на Рыгора Канстанцінавіча: ён жа настаўнік і павінен раскусіць гэтую Рашэль. Няўжо ён не ўбачыў, што яна хлуслівая, жорсткая і што з-за яе пакутуе Пека.

Кончылася трэцяя, самая вялікая чвэрць. У дзённіку я прынёс лепшыя, чым Пека, адзнакі. Нават па рускай мове ў Пекі ўжо не было пяцёркі. Па паводзінах яму паставілі «здавальняюча». Але сябра на гэты раз не білі. Рашэль разам са сваім Сямёнам Барысавічам паехала некуды ў горад, і Пека сталаваўся ў нас.

Я ўсё болей і болей думаў пра Ліну. Мне зусім не хацелася з ёю сустракацца, размаўляць, я любіў пра яе толькі думаць. Я не ведаў, ці прыгожая яна, ці разумная, гэта зусім мяне не цікавіла. Са школы разам з Лінай я ўжо болей ніколі не хадзіў, стараючыся знікнуць з класа раней ці пазней за яе. Мне не хацелася якім-небудзь учынкам асароміцца перад дзяўчынкай. Ліна таксама не шукала сустрэч са мною. Але я ніколі за гэта на яе не крыўдзіўся. Мне было дастаткова таго, што Ліна жыве на свеце, вучыцца са мной у адным класе і на ўроках крад-

ком я магу на яе паглядаць. Іншы раз, калі Ліна запіналася, адказваючы ўрок, мне рабілася яе шкада.

У пачатку апошняй, чацвёртай, чвэрці ў нашай школе адбыліся перамены. Рыгора Канстанцінавіча ад нас забралі, і ён стаў працаваць загадчыкам райана. Яго замяніла Рашэль. Яе ж прызначылі і класным кіраўніком у пяты клас.

— Я б ніколі не пайшла працаваць у сямігодку,— заявіла Рашэль маёй маці.— Інстытут я канчала не для гэтага. Усё з-за Пекі. Ён жа зусім адбіваецца ад рук. Куды там толькі глядзяць настаўнікі, не разумею...

У школе Рашэль перастала быць Рашэллю. Яна сказала перад усім класам, што яе завуць Агрыпінай Іванаўнай. Пеку яна называла ў класе Пятром.

Прызначэнне Рашэлі настаўніцай ударыла па мне вельмі балюча. Я не любіў Пекавай сястры і дома гэтага ніколечкі не хаваў. На яе пытанні я адказваў «так» або «не», у пакой нашых кватарантаў не заходзіў, стараючыся не трапляцца Рашэлі на вочы. Мяне брала крыўда за нашага дырэктара: няўжо ён не разабраўся, што Рашэль дрэнная настаўніца, што ёй не месца ў школе. Шкада было і Пекі, ён цяпер цэлы дзень быў на вачах у сваёй сястры.

Я лічыў, што наш пяты клас адразу разбярэцца, хто такая Рашэль. Але я памыліўся. Новая настаўніца зайшла ў клас, асвяціўшы свой твар усмешкай, яна гаварыла нейкім новым, маладым голасам, жартавала, і з яе жартаў некаторыя нават смяяліся. Мы з Пекам не смяяліся. Нам было не да смеху.

Я не слухаў, як тлумачыла Рашэль. Мы разбіралі аповесць «Ташкент — горад хлебны», настаўніца расказвала пра пакуты галоднага Мішкі Дадонава, выклікала нават мяне прачытаць нейкі ўрывак, але ўсё гэта прайшло ў нейкім паўсне. Я не верыў ніводнаму слову Агрыпіны Іванаўны, мяне зусім не ўзрушалі тыя задушэўныя ноткі, якія час ад часу прарываліся ў яе голасе. Нарэшце ўрок скончыўся, і я ўздыхнуў з палёгкай.

— Ну, як новая настаўніца? — спытаў я ў свайго суседа па парце.

— Нічога сабе,— бесклапотна прамовіў ён.— Тлумачыць падрабязна. Толькі вельмі высокая яна. А вам з Пекам цяпер

добра, вы можаце нават не вучыць яе прадметаў. Дрэннай адзнакі яна ж вам не паставіць...

Мой сусед нічога не хацеў разумець.

Для нас з Пекам наступілі нярадасныя дні. Тым, хто не ведаў Пекі, магло здацца, што ён перамяніўся. Пека сапраўды стаў зацяты, маўклівы, ён не галёкаў і не бегаў, як раней, па партах. Некаторыя ўрокі ён праседжваў, не зварухнуўшыся, уставіўшыся позіркам у якую-небудзь адну кропку. Толькі зрэдку, пераважна ў тыя дні, калі ў нас не было ўрокаў Агрыпіны Іванаўны, Пека рабіўся ранейшым. На яго тады нібы находзіла нейкая пошасць, і ён пацвельваўся, высмейваў кожнага, хто яму не падабаўся, выдумляў розныя штукі.

— Пра што ты думаеш? — спытаўся я аднойчы ў Пекі.

— Ты ведаеш,— адказаў ён з яўнай неахвотай.— Я табе казаў ужо. Толькі ты маўчы.

Пека чакаў лета... Я не чакаў нічога. Для мяне страцілі былую прывабнасць дыктоўкі і пераказы, урокі літаратурнага чытання, якія некалі так цудоўна праводзіў Рыгор Канстанцінавіч. Мне проста не хацелася слухаць Агрыпіны Іванаўны, хоць усё, здаецца, яна тлумачыла правільна.

У адзін з тых дзён настаўніца сказала, што мы будзем пісаць пераказ «Мой настаўнік».

— Мы пісалі ўжо гэты пераказ,— загуў клас.

Агрыпіна Іванаўна спачатку разгубілася, але потым узяла сябе ў рукі.

— Па плану вы павінны пісаць пераказ «Мой настаўнік» не ў трэцяй, а ў апошняй чвэрці,— заявіла яна.— Ранейшы настаўнік проста зрабіў памылку.

На гэты раз пераказ я напісаў за адзін урок. Ён атрымаўся ў мяне ў тры разы карацейшы, чым раней, бо я нічога не хацеў выдумляць. Пека выцягнуў стары сшытак і проста перапісаў з яго. Так рабілі і іншыя.

Праз два дні Агрыпіна Іванаўна раздала сшыткі. Цяпер я параўняўся з Пекам: і мне, і яму настаўніца паставіла «здавальняюча».

Я дарэмна баяўся: вялікага аўтарытэту Агрыпіна Іванаўна ў нашым пятым класе не заваявала. Нам не падабалася, што

яна лічыць нас нейкімі дзецьмі і задае іншы раз проста смешныя пытанні.

— Няхай думае ўвесь клас,— пачынала настаўніца ўрок.— Як называлася вёска, дзе жыў Мішка Дадонаў?

Тут нечага было думаць. Разгарнуўшы кнігу, кожны мог адразу прачытаць назву гэтай вёскі.

— Як звалі няньку Пушкіна?

— Арына Радзіёнаўна,— хорам гудзеў клас.

— На якім кані сядзеў Кутузаў у час Барадзінскага бою?

— На белым...

Ад гэтых пытанняў паразумнець было цяжка. Можна было забыць нават тое, што ведаеш. Агрыпіна Іванаўна да кожнага самага маленькага вершыка прыдумвала процьму такіх пытанняў. Атрымлівалася, што мы не вучні пятага класа, а нейкія выхаванцы дзіцячага сада, якім трэба ўсё разжаваць і гатовае пакласці ў рот. Настаўніца не дазваляла нам самастойна ступіць нават кроку. У яе было загатоўлена пытанне на кожны радок верша, на кожны самы маленькі кавалачак тэкста. Для гэтых кавалачкаў мы прыдумвалі загалоўкі, потым складалі падрабязны план кожнага ўрыўка, потым намячалі пытанні, на якія патрэбна было адказваць. Гэтыя загалоўкі, урыўкі, пытанні абрыдлі нам, як камары ў вясновы надвячорак. Урокі літаратурнага чытання мала чым адрозніваліся цяпер ад урокаў арыфметыкі.

Як нешта дзіўнае, што мінула і ніколі не вернецца, успамінаў я заняткі, якія праводзіў Рыгор Канстанцінавіч. Наш былы настаўнік не баяўся, што мы не зразумеем цяжкага матэрыялу, і заўсёды размаўляў з намі, як з дарослымі. Тое, аб чым ён расказваў, было заўсёды новым і цікавым.

Параўноўваючы літаратурнае чытанне з геаграфіяй і батанікай, я прыходзіў да сумнага вываду, што гэтыя два прадметы куды цікавейшыя. Географ і батанік расказвалі пра горы, каменне, вятры, едкі люцік і балотны хвошч з большым захапленнем, чым Агрыпіна Іванаўна пра Пушкіна, Лермантава і Максіма Горкага.

Яшчэ больш не падабалася нам Агрыпіна Іванаўна як класны кіраўнік. Яна зусім не цікавілася нашымі схільнасцямі, характарамі, турботамі. Яна, здаецца, ведала толькі адно: кож-

ны вучань павінен весці сябе прыкладна, а вучыцца добра. Гэта настаўніца паўтарала нам на кожным класным сходзе.

— Гэта ж сорамна не вучыць урока,— распякала яна каго-небудзь з вучняў.

Або:

— Як вам не брыдка парушаць дысцыпліну?

Усе запаведзі, якімі Агрыпіна Іванаўна імкнулася дамагчыся поўнага перавыхавання класа, мы ведалі вельмі добра. Але, нават вывучыўшы іх на памяць, мы чамусьці не рабіліся лепшымі.

Клас вельмі хутка даў сваю ацэнку Агрыпіне Іванаўне:

— Далёка ёй да Рыгора Канстанцінавіча,— была аднадушная думка.— Нейкая яна кіслая.

— Палка,— сказала аднойчы пра настаўніцу Ліна.

Мы з Пекам маўчалі...

Пека хадзіў сумны, вучыўся ён у апошняй чвэрці значна горш, чым у пачатку года. Многія ў нашым класе ўжо заўважылі, што Пека не любіць і баіцца сваёй сястры. Аб гэтым нейкім чынам здагадваліся нават настаўнікі. Я заўважыў: і географ, і батанік, і асабліва настаўніца нямецкай мовы палепшалі да Пекі. Яны стараліся падбадзёрыць яго і пры ўсякім зручным выпадку падхвальвалі.

Наступіла вясна. Яна ў гэтым годзе была цёплая, ранняя. У красавіку ўжо ярка свяціла сонца, дзяўчаты штодня прыносілі ў клас букецікі кураслепу. Пеку з надыходам вясны стала вальней. Амаль па ўсіх прадметах было паўтарэнне, і ён не браўся за кнігі, спадзеючыся на сваю памяць. І да ўрокаў і пасля іх Пека дома амаль не стыкаўся. Ён швэндаўся па мястэчку, гадзінамі прастойваў на станцыі, праводзячы зайздросным позіркам цягнікі. Яны імчаліся не спыняючыся. Агрыпіна Іванаўна ў апошні час паслабіла свой кантроль над Пекам. Можа, яна рыхтавалася да ўрокаў, правярала нашы сшыткі, а можа, была якая-небудзь іншая прычына.

З наступленнем вясны тоўсты Сямён Барысавіч зноў па цэлых тыднях прападаў на раёне. Без яго да Агрыпіны Іванаўны пачаў часта заходзіць Міланцій Казельчык, наш фізкультурнік. Міланція Іосіфавіча за настаўніка мы не лічылі, дый ніякім настаўнікам ён фактычна і не быў. Ён працаваў

масавіком у клубе, і яго проста запрасілі праводзіць спевы і фізкультуру, бо спецыяльнага настаўніка, мабыць, не было. Тую гадзіну ў тыдзень, якая была адпушчана на фізкультуру, мы прагульвалі, бо Міланцій Іосіфавіч гімнастычнымі практыкаваннямі не вельмі цікавіўся. Ён пераважна націскаў на розныя гульні. Хлопцы ў гульнях удзельнічаць не хацелі, і настаўнік займаўся з аднымі дзяўчатамі. Ён наладжваў карагод і, вытанцоўваючы сваімі доўгімі нагамі пасярэдзіне круга, падпяваў: «А лягушкі скачуць так, так лягушкі скачуць...» Дзяўчаты кружыліся і смяяліся ад задавальнення, а хлопцы, стоячы воддаль, пасмейваліся з дзяўчат і з фізкультурніка разам. За доўгія ногі Міланцція Казельчыка празвалі «Бусел», і гэтая мянушка прыжылася. Пра фізкультурніка яшчэ расказвалі, што яго жонка сама ходзіць атрымліваць мужаву зарплату, бо, відаць, яму не вельмі давярае...

«Бусел» зрабіўся частым госцем у нашым доме. Іншы раз з пакоя Агрыпіны Іванаўны даносіліся трэнькание гітары і суладныя спевы. Два ці тры разы наша кватарантка ў час прыходу «Бусла» пасылала Пеку па гарэлку. Мне было непрыемна, што Міланцій Казельчык ходзіць да нас. Але я пра гэта стараўся не думаць. Я думаў пра Ліну. Мы па-ранейшаму ніколі не хадзілі разам са школы і не размаўлялі адзін на адзін. Так мне было лепш. Аднойчы дзяўчынка захварэла і некалькі дзён не прыходзіла на заняткі. Мне ўсе тыя дні было страшэнна сумна.

Вясной усё ж стала весялей. У светлыя зорныя вечары наша вуліца аж звінела ад смеху. Мы радаваліся цеплыні, надыходзячаму лету, цікавым прыгодам, якія чакалі нас наперадзе. Пра Агрыпіну Іванаўну ў такія вясёлыя гадзіны я зусім забываў. Яе для мяне не існавала. З Пекам было другое. Ён і ў часы самай хмельнай весялосці раптам мяняўся, рабіўся змрочны і зацяты.

Ліна на нашай вуліцы ніколі не паяўлялася. Гэта было лепш. Пры Ліне, мабыць, я не адважыўся б вярзці, што ўзбрыдзе на язык, дурэць і адчуваць сябе такім вольным казаком. Мяне палохала нават думка, што дзяўчынка можа падумаць пра мяне нядобра...

Праходзячы аднойчы паўз гасцініцу, я ўбачыў у акне Лінінай кватэры святло. Акно захінала фіранка, і разгледзець з

вуліцы, што робіцца ў кватэры, было нельга. Але ў гэты момант мне так моцна захацелася паглядзець на Ліну, што пераадолець спакусы я не змог. Азірнуўшыся, ці не крочыць хто-небудзь за мной услед, я пераскочыў нізенькі парканчык, які аддзяляў гасцініцу ад вуліцы, і, стаўшы на дыбачкі, прыліп да акна. Я ўбачыў Ліну, яна стаяла ў сіняй просценькай сукенцы ля стала і нешта прасавала. Хваля яшчэ не знанай мне раней пяшчоты заліла ўсю маю істоту, і я адскочыў ад акна.

У той вечар мне было і сумна, і радасна адначасова. У душы жыло адчуванне, што я развітваюся з нечым прызвычаеным, спакойным і ўступаю ў паласу жыцця, якая невядома што абяцае. І яшчэ я ўпершыню пашкадаваў у той вечар, што мне ўсяго толькі трынаццаць гадоў...

Прыйшоўшы дадому і дачакаўшыся, калі Пека пойдзе спаць, я напісаў верш. Ён прысвячаўся Ліне. Верш гэты выліўся з маёй душы неяк сам сабой, без ніякіх асаблівых намаганняў:

Прыляцела ты з Каўказа,
Нібы горная арліца,
І ўсе хлопцы з нашага класа
Табой не могуць надзівіцца.
Ты часта сумная бываеш,
Але не трэба сумаваць,
Хмары вецер паразганяе,
І сонца вечна будзе ззяць...

Мне хацелася зарыфмаваць слова «Ліна», якое звінела так прыемна і мілагучна. Да гэтага слова было столькі багатых рыфмаў — дзяўчына, маліна, хвіліна, каліна. Але напісаць на паперы імя дзяўчыны я не адважыўся. Я зверху напісаў толькі адну літару «Л».

Я, вядома, не збіраўся аддаваць або нават паказваць гэты верш Ліне. Мне было проста радасна ад думкі, што я магу патаемна ад усіх размаўляць з дзяўчынай.

Назаўтра першым быў урок літаратурнага чытання. Агрыпіна Іванаўна сыпанула класу цэлую прыгаршчу сваіх пытанняў, потым загадала скласці падрабязны план нейкага

ўрыўка. Каб ухіліцца ад гэтага сумнага занятку, я ціхенька выцягнуў свой верш і, паклаўшы яго між старонак падручніка, стаў перачытваць. Я, мабыць, вельмі моцна захапіўся, бо зусім не чуў, як да мяне сярод насцярожанай цішыні класа падышла Агрыпіна Іванаўна.

— Дык вось які вы план складаеце,— сказала яна і ўзяла з маіх рук падручнік.

Я анямеў. Кроў прыліла да майго твару, у вушах нешта стукала, а рукі і ногі проста здранцвелі. Настаўніца між тым адышлася ад стала і прабегла вачамі мой твор. На яе вуснах зайграла нейкая брыдкая ўсмешка. Доўгая Агрыпіна Іванаўна, здаецца, збіралася прачытаць верш усяму класу. Але здранцвенне прайшло, і мая істота напоўнілася нейкай дзікай злосцю.

— Аддайце кнігу! — устаўшы з месца, патрабаваў я. У маім голасе, відаць, гучала пагроза, бо настаўніца схамянулася і, як мне здалося, нават неяк спалохана зірнула на мяне.

— Вазьміце,— прамовіла яна нарэшце.— Вашы паводзіны абмяркуем на класным сходзе. Сорамна займацца на ўроку такімі справамі.

Агрыпіна Іванаўна не адважылася прачытаць мой верш, але я не сумняваўся, што яна раззвоніць аб усім у настаўніцкай. Белы свет для мяне пацямнеў. Я проста не ведаў, як з гэтага часу буду глядзець у вочы настаўнікам, як мне жыць далей. Я б, здаецца, даў адсячы сабе руку ці нагу, каб толькі якнебудзь патушыць гэта.

Некалькі дзён я проста не знаходзіў сабе месца. Мне здавалася, што ўсе настаўнікі глядзяць на мяне з захаванай насмешкай, кожную хвіліну я чакаў, што хто-небудзь з іх пачне гаворку пра мой верш. Мне было так балюча і сорамна, што не хацелася нават жыць. Нарадзілася жаданне заснуць на які год ці два і прачнуцца, калі ўсе забудуць гэтую гісторыю...

Мяне не пакідала роспач.

Дома я крычаў на сваіх меншых братоў, агрызаўся на просьбы маці, шалеў ад кожнага самага бяскрыўднага слова, сказанага мне. Пека, наадварот, быў ціхі і пахмуры, як ніколі. Ён хадзіў, апусціўшы галаву, і думаў нейкую сваю цяжкую думу. Але мне ў гэтыя дні было не да Пекі, я жыў сваім горам.

І вось аднойчы здарылася нечаканае. Я прыйшоў вечарам у хату і злосна шпурнуў кніжкі ў кут. Маці паставіла мне есці. Апетыту ў мяне не было ніякага, і, боўтнуўшы лыжкай раз ці два, я моўчкі адставіў яду ўбок. Заняты сваімі думкамі, я зусім не заўважыў, што ў хаце стаіць мёртвая, насцярожаная цішыня. Не распранаючыся, я прылёг на канапу. У гэтую хвіліну з ложка падняўся бацька. Спакойна зняўшы з цвіка папругу, ён падышоў да канапы і стаў мяне бязлітасна хвастаць.

— Не падымай вэрхалу,— прыгаварваў ён,— не надувай губ, еш, калі табе паставілі...

На печы зарумзалі мае браты Васіль, Піліп і самы малодшы Кузя. Я маўчаў, сцяўшы зубы. Нарэшце ганебная экзекуцыя кончылася. Я ўстаў і пайшоў да дзвярэй.

— Гэта табе за мінулы тыдзень,— сказаў мне бацька ўслед.— Заробіш яшчэ — атрымаеш у наступную суботу. Пеку адвучылі, адвучу і я цябе. Бач, ходзіць, падтуліўшы хвост...

Мяне душылі слёзы, але зусім не ад болю. Мне было сорамна самога сябе. Хацелася праваліцца скрозь зямлю, збегчы куды-небудзь у белы свет. Я адчыніў хлеў, узлез на вышкі і лёг на леташняе сена. У процілеглым канцы хлява трывожна зашчабяталі сонныя ластаўкі. Мяне агарнулі невясёлыя думкі. «Дурныя людзі,— думаў я,— сварацца, падколваюць адзін другога, б'юцца... Навошта ўсё гэта? Хіба нельга жыць у дружбе і згодзе? Вось як гэтыя ластаўкі. Нездарма яны такія прыгожыя». Я сапраўды ніколі не бачыў, каб ластаўкі біліся, і думка пра птушак спадабалася мне.

Але пра ластавак я думаў нядоўга. Пякучая крыўда хутка вярнула мяне да зямных спраў, ад якіх ніяк нельга было адкруціцца. Мая годнасць была прыніжана, знявечана, абліта гразёю. Я ўмеў рашаць самыя цяжкія задачы з простымі і дзесятковымі дробамі, амаль не рабіў памылак у дыктоўках, мог паказаць на карце любую раку, возера або мора зямнога шара, і мяне адлупцавалі, як нейкага дурнога шчанюка. Халодны боль сціскаў маё сэрца, калі я ўспамінаў Ліну. Што б яна падумала, каб даведалася, што мяне вучаць жыць папругай?..

У хлеў прыйшла маці. Яна здагадалася, што ў мяне нядобра на душы, і хацела мяне суцешыць.

— Ідзі ў хату,— ласкава сказала яна.— А то яшчэ прастудзішся. Гэта Рашэль падвяла бацьку. Сказала пра цябе, што і ў школе ты калючы, і хвалілася, што Пека яе клопатам стаў цяпер як шаўковы. А я сама не хачу гэтай бойкі...

Я быў удзячны маці, хоць яна не зусім разумела мяне. Я не крыўдаваў на бацьку за тое, што ён пахадзіў па мне папругай. І раней здаралася, што бацька або маці давалі мне кухталя. Але то было пад гарачую руку і за які-небудзь учынак, дзе я сам адчуваў сябе вінаватым. Тое забывалася адразу. А тут ён адлупцаваў мяне без ніякай маёй віны, думаючы, што я зраблюся пасля гэтага лепшым. Дый не маленькі ж я цяпер, каб вучыць мяне папругай. Найшоў каго слухаць... Рашэлі...

— Прынясі мне кажух,— папрасіў я маці.— Буду начаваць тут.

Назаўтра раніцай прыйшоў мяне суцяшаць Пека. З хвіліну ён пасядзеў моўчкі, потым зашаптаў:

— Я табе памагу, калі хочаш. Толькі ты маўчы. Я сабраў ужо трыццаць чатыры рублі, на білет хопіць. Мы можам паехаць і без білетаў. На заводзе скажам, што нам па шаснаццаць гадоў, і паступім на работу. Я думаю ехаць паслязаўтра. Рашэлі якраз дома не будзе.

— Куды ты паедзеш? — спалохана спытаў я.

Мне было вядома аб Пекавым намеры, але я звязваў яго з нейкай далёкай будучыняй. Цяпер жа гэтая будучыня насунулася, прыйшла, і мне стала проста страшна.

— У горад паеду,— рашуча шаптаў Пека.— Паступлю вучнем на завод, я рослы, прымуць. Ты можаш пазней прыехаць, калі баішся. Я табе ліст прышлю...

— Прападзеш ты,— угаворваў я сябра, страшачыся яго рашучасці.

— Не прападу, не малы... Там мяне ніхто не будзе лупцаваць, зваць дармаедам... Дык ты згодны?

— Ты яшчэ падумай, Пека,— спрабаваў угаварыць я сябра.— Здадзім экзамены, тады паглядзім...

— Нечага глядзець,— злосна адрэзаў Пека.— Не хочаш, не трэба. Толькі трымай язык за зубамі.

Ён пайшоў, а я яшчэ доўга думаў, лежачы на вышках, на леташнім сене. Два разы, асцярожна адчыняючы дзверы,

заходзіла маці і клікала мяне снедаць. Нарэшце прыйшоў бацька.

— Не злуйся,— сказаў ён мне нейкім ломкім, незнаёмым голасам.— Глядзі ты, які пан стаў. Пальцам нельга крануць. Бацька ж табе не вораг. Мяне, брат, не так лазой частавалі, і то я свайму бацьку толькі дзякую за гэта.

Я ўжо не злаваўся. Маё гора было маленькім, дробязным у параўнанні з горам, якое выпала на долю Пекі. Яго ж ніколі не перапрошвалі ні доўгая Рашэль, ні тоўсты Сямён Барысавіч, хоць крыўдзілі яны майго сябра амаль штодня. Колькі павінна было накапіцца ў Пекавай душы такой крыўды, каб хлопец адважыўся бегчы ў белы свет!..

З гэтымі невясёлымі думкамі я прыйшоў у школу. Я адчуваў, што нешта трэба рабіць, але яшчэ добра не ведаў што. Пека быў ужо ў класе. Ён прадаваў свае кнігі. Цікавых кніг у Пекі было болей, чым у мяне, і раней ён іх вельмі шанаваў. Цяпер жа прадаваў проста за бясцэнак. І яшчэ я ўбачыў на правай руцэ ў сябра компас. Гэты компас каштаваў у нашай кніжнай лаўцы чатыры рублі і восемдзесят капеек.

Непрыкметна для Пекі я выйшаў з класа. Цяпер я ўжо ведаў, што рабіць. У настаўніцкую да дырэктара мне ісці не хацелася. Там была Рашэль, і яна магла перашкодзіць справе. Я накіраваўся ў райана, дзе працаваў загадчыкам наш былы настаўнік Рыгор Канстанцінавіч. Я наважыў усё расказаць яму...

Мне прыйшлося доўга блукаць па калідорах двухпавярховага будынка райвыканкама, пакуль я трапіў у патрэбны кабінет. На ўрокі я ўжо спазніўся, але гэта мяне нікольki не хвалявала. У кабінеце Рыгора Канстанцінавіча было многа людзей. Я папрасіў дзяўчыну, якая сядзела за сталом у пярэднім пакоі, выклікаць загадчыка. Яна не згаджалася, тады я сеў на стул і пачаў чакаць. Нарэшце Рыгор Канстанцінавіч выйшаў сам.

— А ты чаго тут? — здзівіўся ён.— У школе ж урокі...

— Пека заўтра ўцячэ,— сказаў я.— З яго здзекуюцца...

— Які Пека? — не зразумеў Рыгор Канстанцінавіч.— Хто здзекуецца?

— Ну, Пятро Мацюшэнка. Ён жа ў вас лепш за ўсіх дыктоўкі пісаў.

Хвалюючыся і ад гэтага збіваючыся на кожным слове, я расказаў усё. Твар Рыгора Канстанцінавіча спахмурнеў, а дзяўчына, якая раней не хацела мяне слухаць, аж разявіла ад здзіўлення рот.

— Ну, малайчына, што прыйшоў.— Рыгор Канстанцінавіч паляпаў мяне па плячы.— Трэба было раней толькі... Я і сам заўважаў нешта нездаровае. Думаў — пераломны ўзрост; бываюць, брат, у нашых маладых душах розныя рэвалюцыі. Вось табе і ўзрост... Ну, ідзі ў школу...

З гэтага часу і загарэлася. Я паспеў толькі на трэці ўрок. У сярэдзіне гэтага ўрока Пеку выклікалі ў настаўніцкую. На перапынку ў клас з пабялелым тварам забягала Агрыпіна Іванаўна. Яна некага шукала вачамі і адразу знікла. Пека, вядома, нікуды не паехаў назаўтра...

Праз два дні ў нашай школе быў настаўніцкі сход. Агрыпіне Іванаўне, відаць, моцна ўляцела, бо, прыйшоўшы дамоў, яна доўга хліпала і на нешта скардзілася. Выклікалі ў школу і Сямёна Барысавіча. Ён вярнуўся адтуль злосны і пахмурны. Пеку болей ніхто не крануў нават пальцам.

Дзяжурныя, якія бегалі ў настаўніцкую за крэйдай, геаграфічнымі картамі і глобусам, расказвалі, што на сцяне вісіць загад, у якім Агрыпіне Іванаўне за непедагагічныя паводзіны аб'яўлена суровая вымова з апошнім папярэджаннем. Я ў настаўніцкую не хадзіў з-за прынцыпу.

Пека разам са мной трымаў экзамены за пяты клас. Я атрымаў пахвальную грамату, а Пека не. Яму вывелі тры гадавыя чацвёркі. Я быў рады, што Агрыпіна Іванаўна пад маёй граматай не распісалася.

У тое ж лета нашы кватаранты выбраліся з мястэчка. Але ў гэтым мы з Пекам былі зусім не вінаваты. Сямён Барысавіч, прыехаўшы адзін раз дамоў у сярэдзіне тыдня, застаў у сваёй кватэры фізкультурніка Міланція Казельчыка. Гэта не спадабалася тоўстаму нарыхтоўшчыку, ён некалькі дзён хадзіў злосны і нарэшце заявіў, што яго пераводзяць у другі раён.

Доўгую Рашэль я пашкадаваў адзін толькі раз. Перад самым выездам яна, выціраючы слёзы, скардзілася маёй маці:

— Не думайце, што я такая ўжо шчаслівая. Не было каму біць маладую. Пагналася за дастаткам... і таму пайшла замуж за гэтага чурбака.

Я шчыра спачуваў у тую хвіліну Рашэлі. Але добрае пачуццё да нашай кватаранткі, якое мільгнула толькі на хвіліну, хутка забылася.

З Пекам мы перапісваліся пасля гэтага два гады. Скончыўшы сямігодку, ён паступіў у рамесніцкае вучылішча...

*1958*

## МОЙ СЯБАР ПЯТРУСЬ

### I

У мяне быў сябар, Пятрусь Цімашэнка,— самы лепшы сябар, якога можна займець толькі ў гады юнацтва, калі сэрца адкрыта насцеж усяму прыгожаму і цудоўнаму, што ёсць на зямлі.

Успамінаю нашу ціхую школу, наш дзявяты клас. Школа, атуленая навіссю старых клёнаў і бяроз, стаяла на самым ускрайку мястэчка. Паблізу была кузня, у ёй працаваў стары каваль Вавіла. За доўгія гады, праведзеныя ў школе, мы дасканала вывучылі і характар Вавілы, і нават прыёмы яго кавальскага майстэрства. Стары каваль ніколі не біў сваім молатам па жалезе болей сямі раз. Седзячы ў класе на ўроках і зачуўшы гукі, якія несліся з кузні, мы лічылі ўдары і ніколі не памыляліся. Мы ўжо ведалі, што пасля сёмага ўзмаху молата Вавіла або кідае кавалак жалеза ў горан, або, прыхінуўшыся да сцяны старой, згорбленай кузні, адпачывае... Далей за школай, калі мінуць засыпаны жаўтапёсам і зарослы горкім палыном пустыр, былі могілкі. На вялікім перапынку мы бегалі туды дурэць. На могілках раслі разложыстыя хвоі і заўсёды панавала ўрачыстая цішыня. Гэтую цішыню парушалі мы, ніколькі не турбуючыся, што трывожым вечны спакой сваіх продкаў. У тыя далёкія школьныя часы ніхто з нас яшчэ не думаў аб смерці.

Школьныя гады... Можна забыць многае ў жыцці — сустрэчы і расставанні, гора і радасць. Але ніколі не забудзеш свайго першага і апошняга — школьных гадоў. Прыходзіш ты

ў школу малым, жаўтаротым варанём і пакідаеш яе чалавекам, які ўжо шмат чаго ведае і яшчэ болей — хоча. Той год нашага навучання ў дзявятым класе быў апошнім школьным годам.

Старэйшыя класы, ад сёмага да дзясятага, займаліся ў той год у другую змену. У восем гадзін вечара заняткі канчаліся і пачыналася, уласна кажучы, самае цікавае. Наша школа лічылася ўзорнай, і ўсе мы — і настаўнікі, і вучні — высока трымалі яе прэстыж. Вечарамі разгортвалі сваю чыннасць шматлікія гурткі, рэдкалегіі і сходы. Клас стараўся перад класам навыперадкі. Насценгазетамі была завешана ўся сцяна ў доўгім, вечарамі паўзмрочным калідоры. Спрачаліся гурткоўцы, рэпеціраваліся новыя п’есы, праводзіліся сходы — гэтым быў запоўнены амаль кожны школьны вечар.

Успамінаю незабыўныя вечары ў нашым клубе. Клубам законна ганарылася школа. Дзеля таго каб мець такое цудоўнае памяшканне, прыйшлося ахвяраваць двума сумежнымі класамі. Разабралі сцяну, якая падзяляла класы, і атрымаўся выдатны клуб, які рэдка калі пуставаў па вечарах. Я ўжо казаў, што наша школа была ўзорнай, а гэта да многага абавязвала. Мы не прапускалі ніводнай каляндарнай даты, не адзначыўшы яе сходам, дакладам, дыспутам і вельмі часта — паказам мастацкай самадзейнасці.

Калі я сёння ўспамінаю школу, у маіх вачах паўстае вобраз майго сябра Петруся. Ён быў тады маім богам і маім сумленнем, і — не буду таіцца — я часамі быў закаханы ў яго. У гэтым рухавым, невысокім і не надта дужым на выгляд хлопцу таілася нейкая магутная энергія. Пятрусь быў нашым нязменным дакладчыкам, арганізатарам, застрэльшчыкам. Яго хапала на ўсё: на тое, каб выступіць у дыспуце, сыграць галоўную ролю ў аднаактоўцы, уцягнуць у асаавіяхімаўскі гурток новых членаў. Ён сёння мог зрабіць самае шырокае паведамленне аб сінтэзе штучнага бялка, а заўтра прачытаць даклад аб матывах рэвалюцыі ў паэзіі Блока. Ён быў вельмі здольны, Пятрусь Цімашэнка, і, безумоўна, ведаў аб гэтым сам. У той час і настаўнікі, і мы, яго сябры, прарочылі Петрусю вялікую будучыню.

Нас было чацвёра дружбакоў, як у рамане французскага пісьменніка Дзюма пра мушкецёраў. Петруся мы называлі

Атосам. Яго праніклівы розум даваў поўную падставу для такога прозвішча. Рослы і добры характарам, Грыша Паяльнік быў аднадушна прызнаны Партосам. Ён зусім не займаўся фізкультурай, але быў намнога дужэйшы за кожнага з нас. Мікола Забалоцкі і я па чарзе называліся то д'Артаньянам, то Арамісам. Што датычыць мяне, то я не валодаў ні бясстрашшам і адвагай д'Артаньяна, ні хітрасцю Араміса. Найбольш хітрым з нашай чацвёркі быў, вядома, Мікола Забалоцкі. Ён заўсёды трымаўся крыху наводшыбе і акрамя нас меў яшчэ многа сяброў.

Называлі мы сябе мушкецёрамі, калі вучыліся ў шостым класе, а калі былі вучнямі дзявятага, то ўжо злёгку пакеплівалі са свайго былога мушкецёрства. Вернымі Петрусю засталіся Грыша Паяльнік і я. Мы давалі адзін аднаму ўсе рэдкія кнігі, якія хто-небудзь з нас даставаў, не мелі адзін перад другім ніякіх сакрэтаў. Мікола Забалоцкі хоць і не рваў з намі сяброўства, але часта гуляў у хованкі. Ён мог цішком ад нас прачытаць якую-небудзь кнігу і прызнацца ў гэтым праз месяц, мог па цэлым тыдні не прыходзіць да Петруся. Яшчэ ў дзявятым класе Мікола пачаў увіхацца за дзяўчатамі. Вучыўся ён горш за кожнага з нас, але на заляцанні быў вельмі дасціпны. З яго жартаў смяяліся нават тыя дзяўчаты, якіх мы лічылі вельмі разумнымі і гордымі. Міколу мы за вочы асуджалі і пасмейваліся з яго заляцанняў.

Калі гаварыць пра нас, чатырох, то ніхто, акрамя Петруся, не можа быць сапраўдным героем гэтага апавядання. Мы ўтрох не мелі нават палавіны тых якасцей, якімі валодаў наш сябар, і, мабыць, па гэтай прычыне мы так моцна цягнуліся да яго.

Успамінаючы тыя далёкія дні, я часта думаю пра майго сябра як пра чалавека. Якія сілы бушавалі ў яго сэрцы, якой пуцяводнай зоркай кіраваўся ён у жыцці? Мне цяжка адказаць цяпер на гэта, ніколькі не пагрэшыўшы супраць праўды. У адным толькі я перакананы цалкам і поўнасцю: Пятрусь не быў верхаглядам, хвальком або выскачкай. Прырода ў збытку адпусціла яму энергіі і здольнасцей, а гэта, узятае разам, як нельга лепш пасавалася да нашага шумлівага школьнага

жыцця. Пятрусь быў нашым школьным кумірам, і быў ён ім па праву...

На першамайскай і кастрычніцкай дэманстрацыях Пятрусь нёс сцяг нашай дзесяцігодкі, а ад імя вучняў ён выступаў з трыбуны перад усім мястэчкам. Там, на трыбуне, ён стаяў побач з сакратаром райкама, старшынёй райвыканкама і дырэктарам шпаларэзнага завода. Петруся нікольκі не палохала, што на яго глядзяць сотні цікаўных, дапытлівых вачэй. Сябар смела трымаў сваю звонкую прамову і заўжды ва ўзнагароду атрымліваў самыя дружныя апладысменты. Ні Грыша Паяльнік, ні я, ні тым болей Мікола Забалоцкі такога б ніколі не змаглі.

І яшчэ адна маленькая дэталь, без якой партрэт Петруся, здаецца, будзе не поўны. У нашым мястэчку было тры бібліятэкі, і мой сябар запісаўся ў кожную з іх. Ён многа чытаў, нават вельмі многа. Проста цяжка было ўявіць, калі ён паспявае рыхтавацца да ўрокаў, шматлікіх дакладаў, дыспутаў і адначасова столькі чытаць. Пятрусь вёў падрабязны канспект прачытаных кніг. Я не раз трымаў гэты канспект у руках — таўшчэзны самаробны сшытак у цвёрдай вокладцы. У ім, калі не памыляюся, было запісана пяцьсот ці шэсцьсот назваў розных кніг. Не ведаю чаму, але гэты канспект мне не падабаўся. Хачу быць шчырым: я не зайздросціў Петрусю, хоць сам прачытаў значна менш за яго. Мой таварыш запісваў у свой тоўсты сшытак кароткі змест кожнай кнігі, падкрэсліваючы чырвонай рыскай самае галоўнае. Вось гэтае падкрэсліванне мне, мабыць, і не падабалася. Сам я не вельмі памятаў герояў з тых кніг, якія давялося прачытаць, забываў іншы раз нават прозвішча аўтара. Але з кожнай добрай кнігі мне нешта запаміналася. І тое, што я памятаў, іншы раз нават цяжка было выказаць словамі — гэта было толькі пачуццё, якое валодала мной у час чытання кнігі. Пра свае ж пачуцці Пятрусь ніколі не пісаў у тоўстым сшытку з цвёрдымі кардоннымі вокладкамі.

Мы, Петрусёвы сябры, амаль штодня бывалі ў доме Цімашэнкаў. Іхняя хата стаяла недалёка ад маёй: звычайная сялянская хата, пабудаваная ўжо ў савецкі час, таму прасторная і прыветлівая. За Петрусёвым агародам пачыналася

сенажаць, а далей — сасновы бор, самае любімае месца нашага дзяцінства. У лес мы хадзілі па ягады і па грыбы. Калі яшчэ не было грыбоў, часта блукалі па бары проста так — ганялі вавёрак і кідаліся сасновымі шышкамі. Петрусёў бацька працаваў у калгасе старшым конюхам, і жылі Цімашэнкі добра, нягледзячы на тое, што ў іх была вялікая сям'я і едакоў хапала. Як цяпер бачу Ігната Дзянісавіча, Петрусёвага бацьку. Ён быў дужы і рослы і меў надзвычай вясёлы нораў. Стары Цімашэнка вельмі ганарыўся сваім Петрусём.

— У каго ён пайшоў, проста розуму не дабяру,— гаварыў ён пра сына.— Здаецца, у нашай радні нікога такога галавастага не было. Можа, хіба ў дзядзьку Кузьму ўдаўся: той яшчэ за царом выбіўся ў валасныя пісары. Башкавіты быў чалавек.

Пра царскага пісара дзядзьку Кузьму Пятрусь слухаць не хацеў і заўсёды перабіваў бацькаву гаворку.

Мы любілі хадзіць да Цімашэнкаў. У іх хаце заўсёды панаваў вясёлы тлум, і сумаваць там не прыходзілася. Пятрусь сапраўды быў выключэннем у сям'і. Ён ведаў адно: кнігу і свае грамадскія абавязкі, якіх у яго было вельмі многа.

Чамусьці ўспамінаецца адзін выпадак. Неяк вечарам у нядзельны зімовы дзень мы з Грышам сядзелі ў Петрусёвай хаце і гулялі ў шашкі. Пятрусь, абклаўшыся газетамі і часопісамі, пісаў даклад: мецiўся нейкі чарговы дыспут. У хату раптам зайшоў Ігнат Дзянісавіч і ў нерашучасці спыніўся перад сталом.

— Параконку я захваціў, ледзь упрасіў старшыню,— нейкім вінаватым голасам сказаў ён.— Можа б, ты трохі падсабіў, Пеця. Сена ж выйшла зусім, карова сцены грызе.

Ехаць па сена Пятрусь згадзіўся. Але ён захапіў з сабой і кнігу.

— Навошта яна табе? — здзівіўся бацька.

— Буду чытаць па дарозе. Заўтра ж дыспут...

Калі гаварыць праўду, то я крыху зайздросціў Петрусю: бацька не толькі любіў яго, а і паважаў. Вечарамі на лавачцы перад Петрусёвай хатай часта збіраліся мужчыны, і Ігнат Дзянісавіч расказваў пра сына на людзях. Вочы яго ззялі пры гэтым непаддзельным бацькоўскім гонарам. Стары каваль Вавіла, які жыў паблізу ад нас і дзеці якога даўно

паразляталіся з роднага гнязда, пераадольваючы зацяты кашаль, у такія хвіліны гаварыў:

— Дзеці дзецьмі і застануцца, у іх свая дарога. За іх душой хварэеш, корміш, а як падрастуць, то бацька болей не трэба. Напіша ліст, і за тое дзякуй. Цяперашнія дзеці на бацькоў не глядзяць і такога жыцця, як было наша, не хочуць...

Петрусёў бацька не згаджаўся са старым Вавілам. Ён менавіта тым і ганарыўся, што яго Пятрусь не падобны на яго самога. Не раз даводзілася чуць, як, жартуючы, вызначаў ён жыццёвую дарогу сваіх дзяцей:

— Алёшу я перадам сваю пугу і лейцы,— падміргваючы, гаварыў Ігнат Дзянісавіч.— Да навукі ён не вельмі здатны, але конюху лішняя навука і непатрэбна. Ведай сабе «тпру» ды «но», і хопіць...

— Я на шафёра навучуся,— заяўляў пакрыўджаны Алёша.— Вашых коней хутка не будзе, адны машыны застануцца...

— У шафёры цябе не прымуць,— падколваў меншага сына бацька.— Каб шафёрам стаць, трэба хоць сямігодку скончыць. А ты хіба яе скончыш? У трэцім класе два гады сядзеў, у чацвёртым зноў другагоднік. Да сівых валасоў, можа, і скончыш сем класаў. Пятрусь толькі на тры гады старэй за цябе, а ўжо, бачыш, у дзявятым...

Пакрыўджаны Алёша, шморгаючы носам, адыходзіў убок. Ён не раз меў такія праборкі ад бацькі, але яго поспехі ў вучобе ад гэтага не паляпшаліся. У тым, што шафёру трэба абавязкова скончыць сем класаў, меншы Петрусёў брат, відаць, моцна сумняваўся і пагэтаму на навуку асабліва не налягаў.

Янку і Стасі, якія разам хадзілі ў другі клас і сваіх сімпатый да будучых прафесій яшчэ цалкам не выявілі, Ігнат Дзянісавіч таксама прадугледзеў жыццёвы занятак:

— Янка ў мяне будзе садоўнікам,— атэставаў трэцяга сына Ігнат Дзянісавіч.— Ён вельмі любіць яблыкі. Праўда, ён іх цяпер пакуль што крадзе, але як вырасце, то красці перастане і будзе есці свае. Праўда, Янка?

Белагаловы Янка, якога аднойчы злавіў у сваім садзе каваль Вавіла, ад такой характарыстыкі ледзь не плакаў. Той выпадак, калі хлопец залез у сад старога каваля, можна было

даўно забыць: тады ж Янка яшчэ зусім не хадзіў у школу. Але бацька аб гэтым не забываў...

Стасі Ігнат Дзянісавіч прарочыў быць настаўніцай, і дзяўчынка аж чырванела ад задавальнення. Яна, паміж іншым, вучылася ў адным класе з Янкам і заўсёды дакладвала бацьку аб усіх выбрыках брата.

Пяцігадовая Ліда наконт будучай прафесіі наводзіла спраўкі сама. Перавальваючыся на сваіх ножках, якія былі выгнуты, як абады, яна падыходзіла да бацькі, узлазіла яму на калені і пыталася:

— А кім я буду, тата?

— Цябе я аддам замуж, донька,— гаварыў бацька, цалуючы дачку.— Будзеш глядзець нас з маці, калі мы састарымся...

— Я хачу за Сялгея.

— Можна і за Сяргея, ён кавалер хвацкі...

Сяргея, сына Цімашэнкавых суседзяў, часцей за ўсё можна было бачыць у канаве ля хаты, дзе ён разам з Лідай ляпіў з зямлі аладкі і блінцы. Характар у гэтага хлопца быў, відаць, памяркоўны, бо ён ні разу не падняў рукі на Ліду, нягледзячы на сваю мужчынскую перавагу. Быў, праўда, у хлопца адзін хіб: ён дужа не любіў сваёй ніжняй адзежыны і выбягаў у летнія дні на вуліцу ў адной доўгай сарочцы.

Гаворка пра будучыя жыццёвыя дарогі пітомцаў Ігната Дзянісавіча звычайна канчалася на Петрусю. Яго шанавалі ў сям'і не толькі бацька і маці, але і меншыя Петрусёвы браты і сёстры. Ён ішоў нейкім сваім адменным шляхам, упарта адстойваючы сваю незалежнасць ад розных будзённых спраў. З гэтым усе прымірыліся, бо Пятрусь не быў гультаём. Ён ні разу за ўсе гады вучобы не прынёс у дзённіку не тое што двойкі, а нават звычайнай тройкі, і сваім аўтарытэтам проста абяззбройваў меншых шкаляроў, для якіх суцэльныя пяцёркі былі чымсьці недасягальным. Петруся і ў сям'і лічылі героем. Стася, шчаслівая ад таго, што бацька наканаваў ёй быць настаўніцай, пыталася:

— А наш Пятрусь кім будзе, тата?

— Наш Пятрусь будзе там.— І Ігнат Дзянісавіч уздымаў палец угору, паказваючы гэтым самым, што яго сын дасягне нейкіх незвычайных жыццёвых вышынь.

Ён ганарыўся Петрусём, гэты просты, працавіты чалавек, які еў хлеб са сваіх мазольных рук.

Быў у сям'і Цімашэнкаў яшчэ адзін чалавек, пра якога ніколі не ўспаміналі, калі ішла няхай сабе паўжартаўлівая гаворка пра тое, хто кім будзе. У вузкім прамежку паміж грубкай і сцяной стаяла плеценая калыска. У ёй, не ўстаючы ад нараджэння, ляжала самая меншая дачка — трохгадовая Сцёпа. У Сцёпы былі ясныя, як нябесны блакіт, вочы, надзвычай прыгожы твар і непамерна вялікая, недзіцячая галава. Дзіцё нарадзілася з хваробай, якую ніхто не мог вылечыць...

Перабіраючы ў памяці ўсё, што мела хоць якое-небудзь дачыненне да майго сябра, не магу не расказаць пра адзін выпадак з тых далёкіх, авеяных подыхам ранняга юнацтва дзён. У камсамол мы ўступілі яшчэ ў восьмым класе, а калі ўжо былі ў дзявятым, райкам камсамола даваў нам іншы раз даручэнні не толькі па школьнай лініі. Памятаю, той апошняй перадваеннай зімой нас паслалі наладзіць выпуск насценгазеты ў нашым калгасе. У брыгаду, накіраваную на помач калгаснаму актыву, уваходзілі два дзесяцікласнікі і мы з Петрусём. Старшым у брыгадзе быў Пятрусь. Газету мы выпусцілі добрую: з малюнкамі, карыкатурамі і нават вершамі. Мы пастараліся паказаць дасягненні калгаса, не абмінулі недахопаў. Пятрусь жорстка раскрытыкаваў парадкі з выкарыстаннем цяглавай сілы. Ён не паглядзеў на тое, што старшым конюхам працаваў яго бацька. У той заметцы, якую Пятрусь напісаў сам, Ігнату Цімашэнку папала, бадай, болей, чым каму-небудзь другому...

Ігнат Дзянісавіч пасля гэтага доўга жартаваў:

— І гэта называецца сын,— гаварыў ён, стараючыся надаць свайму голасу суровасць.— З роднага бацькі пры ўсім народзе зняў штаны і адсцябаў. Во, які цяпер свет пайшоў. Чакай ад дзяцей дабра.

Пры гэтым вочы Петрусёвага бацькі ззялі непаддзельным гонарам і захапленнем. Усё-такі толькі ў яго аднаго быў такі адметны, такі разумны і смелы сын...

## II

Той чэрвеньскі дзень запаў мне ў памяць на ўсё жыццё. Я і сёння памятаю яго да малюткіх дробязей. Ён быў сонечны, ціхі, лагодны, гэты звычайны чэрвеньскі дзень. Зранку на кірмаш, які заўсёды бываў у нашым мястэчку па нядзелях, цягнуліся падводы з навакольных калгасаў. Вішчалі на вазах звязаныя парсюкі, гергеталі гусі. З сенажаці несла церпкім водарам скіданага ў копы мурагу. З каміноў хат, не спяшаючыся, падымаліся шызаватыя дымкі і нябачна раставалі ў сінім, бязвоблачным небе.

Заняткі ў нас скончыліся. Мы былі пераведзены ўжо ў дзясяты клас, і ад гэтага на душы было і радасна, і трывожна. Вучыцца заставалася адзін толькі год. А там — бывай родная школа, зялёная местачковая вуліца, цёплая бацькоўская хата! Новы, невядомы свет, у які нам трэба было ступіць, вабіў сваімі таямнічымі, неакрэсленымі далямі і сваімі неразгаданымі радасцямі. Вабіў і трошкі палохаў. Як стрэне гарадское, інстытуцкае жыццё нас, простых местачковых хлопцаў?..

Пятрусь ужо зрабіў свой выбар. Ён збіраўся паступаць толькі ва ўніверсітэт, на гістарычны факультэт. Ён любіў разважаць філасофскімі катэгорыямі, тасуючы цэлыя стагоддзі і эпохі, нібы спрытны ігрок калоду карт. Я адчуваў, што Пятрусь абраў свой шлях правільна. Яго натура не мірылася з дробязным, звычайным, будзённым, ён заўсёды разважаў так, нібы ад яго аднаго залежаў будучы лёс усяго чалавецтва.

Грыша Паяльнік наважыў падавацца ў політэхнічны інстытут. Яго нахіл да тэхнікі праявіўся цалкам. Маўклівы па натуры, ён мог цэлы дзень корпацца ў механізме гадзінніка або перакладваць з месца на месца розныя гаечкі і вінцікі. Мікола Забалоцкі хітрыў і ніколі не гаварыў, куды ён думае прабівацца.

Мае сімпатыі да будучай прафесіі яшчэ цалкам не акрэсліліся. Іншы раз мне хацелася вывучыцца на ляснічага, садзіць сосны і бярозы, слухаць спеў звонкіх лясных птушак. На другі дзень я ўжо аддаваў перавагу вандроўнаму занятку геолагаў, і яны мне здаваліся самымі значнымі людзьмі на

зямлі. Гэтая супярэчнасць нараджала ў душы пякельны неспакой, таму я ніколі нікому не прызнаваўся ў сваіх намерах адносна будучай вучобы.

У той памятны дзень мы пайшлі з Петрусём на кірмаш. Чаму іменна на кірмаш, пра гэта я не магу сказаць пэўна нават сёння. Купляць мы нічога не збіраліся. Парсюкі, кадкі, гліняныя гаршкі, якімі гандлявалі там у нядзельны дзень, нас зусім не цікавілі. Проста, мабыць, хацелася пацерціся між людзей, паслухаць пявучую вясковую гаворку, ад якой мы пачалі ўжо парадкам адвыкаць за дзевяць гадоў навучання ў школе. Пасля мы збіраліся наведаць Грышу Паяльніка, які жыў ля станцыі.

На кірмашы мы спыніліся ля лерніка. Сляпы стары круціў ручку свайго немудрашчага інструмента і пад аднастайны акампанемент леры нечакана звонкім, маладым голасам спяваў старадаўнюю песню. Памятаю, што гэтая песня была зусім не сумнай. Вакол старца сабраўся натоўп. У музыкаву шапку з цвёрдым мікалаеўскім казырком расчуленыя кабеты раз-пораз кідалі медзякі і грыўні, нейкі вайсковец асцярожна паклаў, нагнуўшыся, скамечаную ў потных руках пяцёрку, а сляпы ў расхрыстанай шэрай світцы, не зважаючы на гэтыя шчодрыя дары, круціў ручку сваёй леры і спяваў на дзіва прыгожым голасам.

І раптам шматгалосы кірмаш анямеў. З рэпрадуктара, падвешанага на высокім слупе, які стаяў пасярэдзіне пыльнай кірмашовай плошчы, пачуліся нязвычныя сваёй суровасцю і важкасцю словы. Не ўсе яшчэ дайшлі да сэнсу гэтых слоў, але агульны гіпноз за якія-небудзь лічаныя хвіліны ахапіў усю шырокую кірмашовую плошчу. І толькі цягучыя гукі леры і звонкі голас сляпога музыкі яшчэ некалькі імгненняў панавалі над прыціхшым натоўпам. Але хутка і яны сціхлі.

А з рэпрадуктара на галовы людзей падалі важкія, нібы каменні, словы...

Мы з Петрусём стаялі поруч і, затаіўшы дыханне, слухалі радыё. У маёй галаве не было ніякіх думак. Толькі недзе ў глыбіні душы нарастала трывожнае, неасвядомленае пачуццё. Твар майго сябра быў засяроджаны і суровы. Здавалася, што ў гэтую хвіліну ён рашае нейкую цяжкую задачу. Голасна, з

надрывам, залямантавала жанчына, на другім канцы кірмаша адгукнулася другая, і натоўп заварушыўся. Я бачыў, як малады лейтэнант раптам пачаў абмацваць нагрудныя кішэні і, выцягнуўшы з правай нейкую паперку, локцямі расштурхаў натоўп і подбегам пашыбаваў па вуліцы.

— Вайна,— сказаў мне Пятрусь.— Цяпер фашызм будзе знішчаны. Пайшлі ў райкам.

— Можа, зойдзем па Грышу,— прапанаваў я.

— Некалі,— адмовіўся Пятрусь.— Ды ён, такое цялё, пакуль усё абдумае...

Людзі разыходзіліся з кірмаша. Мужчын вялі пад рукі жанчыны, якія плакалі і, здаецца, хацелі замарудзіць крок. На самым ускрайку кірмашовай плошчы, там, дзе расставілі свой тавар ганчары, мы ўбачылі нешта незвычайнае. Малады, высокі ганчар, які толькі што прадаваў гаршкі, макітры і гладышкі, выцягнуўшы з воза аглоблю, малаціў ёю сваю гліняную прадукцыю.

Нехта смяяўся, нехта пляскаў будучаму воіну ў далоні...

Пятрусь быў цяпер ва ўзбуджаным, прыўзнятым настроі. Ён маляваў мне карціны вайсковых аперацый, выказваў смелыя стратэгічныя прагнозы, і я толькі дзівіўся: адкуль ён усё гэта ведае?

У райкаме камсамола стаяў шматгалосы тлум. Невялічкі пакой райкама быў шчыльна забіты моладдзю.

— Без панікі, таварышы! — крычаў сакратар, нядаўні брыгадзір трактарнай брыгады, з медалём «За працоўную доблесць» на лацкане пінжака.— Ніякіх дырэктыў пакуль што няма. Значкісты ППХА — у райсавет Асаавіяхіма, там арганізоўваюцца супрацьхімічныя дружыны...

Зазваніў тэлефон, і сакратар падняў трубку.

— Ваенкамат просіць дзесяць чалавек пісаць і разносіць позвы,— сказаў ён і, заўважыўшы Петруся, загадаў: — Цімашэнка, набірай каманду! Пад тваю асабістую адказнасць...

У сваю каманду Пятрусь, вядома, залічыў і мяне. Мы, пастроіўшыся па два, рушылі ў ваенкамат. Мы ішлі гордыя і рашучыя, бо выконвалі, па сутнасці, вайсковае заданне. Па дарозе Пятрусь мне шапнуў:

— Можа, упросім ваенкама, каб запісаў добраахвотнікамі. Скажам, што нам па сямнаццаць гадоў.

Але ні ўпрошваць ваенкама, ні нават выпісваць позвы нам не прыйшлося. За сталамі ваенкамата ўжо сядзелі другія людзі і пісалі гэтыя самыя позвы. Нам загадалі пачакаць, і мы, можа, цэлую гадзіну ляжалі ў садку на мураве, наглядаючы, як імкліва папаўняецца ваенкаматаўскі двор тымі, хто прыйшоў на прызыў.

— У самой Германіі падымецца рабочы клас,— разважаў Пятрусь.— Хіба ж нямецкія рабочыя пойдуць ваяваць супраць нашых рабочых? Ніколі не пойдуць. Там жа, у Германіі, нарадзіліся Маркс і Энгельс...

Пятрусь гаварыў хораша і складна. Я шчыра ганарыўся перад хлопцамі, якія ляжалі разам з намі ў садку, што ў мяне такі разумны і баявы сябар. Водбліск Петрусёвага розуму і дасціпнасці клаўся і на мяне, бо хлопцы ведалі, што Цімашэнка са мной дружыць.

Мне на ўсё жыццё запомніўся той ваенкаматаўскі садок. Мірна і ціха шасцелі лісцем старыя яблыні, на якіх паявілася ўжо завязь, у траве бесклапотна скакалі конікі, па-звычайнаму ціўкалі кашлатыя вераб'і, а недзе там, ля Брэста, ішла вайна. Яе подых адчуўся з першага дня і тут, у нашым мястэчку. На плошчы перад райвыканкамам грымеў рэпрадуктар: па радыё перадавалі маршы і ваенныя песні. Сюды, на ваенкаматаўскі двор, валам валілі людзі з куфэркамі, з торбамі за плячамі. Захліпаўся гармонік, і, заглушаючы яго далікатны голас, надрываліся ў песнях прызыўнікі. Мне іх песні не здаліся вясёлымі. І можа, таму, пасля першых гадзін узбуджэння, на душы ў мяне стала трывожна і маркотна. Я прачытаў многа кніг пра розныя войны, і мне падабалася ўсё, што там пісалася. Але, мабыць, чытаў я гэтыя кнігі з затоенай надзеяй, што на маім вяку войнаў не будзе...

Пад вечар ужо нізенькі маёр паклікаў нас у адзін з ваенкаматаўскіх кабінетаў і, спытаўшыся, хто з якой вуліцы, выдаў пад распіску па стосе позваў. У Петрусёвым пачку была позва на яго бацьку.

Майму бацьку не трэба было ісці на вайну, ён не належаў ужо да прызыўнога ўзросту, і я назаўтра падаўся да Петруся,

каб правесці на фронт яго бацьку. Там я ўбачыў малюнак, пра які цяжка расказаць. Цімашэнкава сям'я плакала, не плакалі толькі Пятрусь і маці. Ігнат Дзянісавіч ужо сабраўся, напакаваная торба ляжала на табурэтцы, але ў яго, відаць, не ставала сілы развітацца з сям'ёю.

Белагаловая Ліда цёрлася аб бацькавы калені і, відаць, зусім не думаючы пра развітанне, нешта канючыла сваім тоненькім дзіцячым галаском. Трынаццацігадовы Алёша глытаў буйныя, як у бабра, слёзы, а Янка і Стася лямантавалі на ўвесь голас. Сцёпа плакала таксама. Яе плеценую калыску выцягнулі з-за печкі і, абклаўшы падушкамі, пасадзілі між імі дзяўчынку, каб яна бачыла бацьку. На вялікую недзіцячую галаву Сцёпы, у яе затуманеныя слязамі вочы цяжка было глядзець.

Пятрусь трымаўся мужна, выраз яго твару быў суровы і нават злосны. А маці моўчкі прышывала гузік на сарочцы Ігната Дзянісавіча. Яна, мабыць, выплакала свае слёзы за ноч, і вочы яе былі сухія і страшныя... Я памятаю, як страшна, па-жаночаму, загаласіў Ігнат Дзянісавіч, адрываючы ад сябе Янку, Стасю і Ліду, як кінулася яму на шыю Петрусёва маці, як Пятрусь, не вытрымаўшы, выскачыў з хаты... Нібы цяпер, бачу Петрусёвага бацьку на станцыі, дзе ён, ужо спакойны і разважлівы, развітаўся са старэйшым сынам, які адзін з усёй сям'і праводзіў яго.

— Глядзі дзяцей і маці, сынок,— сказаў Ігнат Дзянісавіч, пацалаваўшы Петруся.— Перарвалася твая вучоба, але вайна, можа, доўга не працягнецца. Ты старэйшы, на цябе ўвесь клопат ляжа...

На станцыю падагналі эшалон, раздалася зычная каманда садзіцца па вагонах.

## III

Петрусёў бацька паехаў ваяваць. У мястэчку арганізаваўся знішчальны батальён, і мы дамагліся, каб у яго залічылі і нас з Петрусём. Грышу Паяльніка ў батальён не залічылі, хоць ён і хадзіў у райкам. Мікола Забалоцкі на нейкі час зусім знік з нашых вачэй. Казармы батальёна размяшчаліся ў школе, дзе мы вучыліся.

Ішоў першы тыдзень вайны. Весткі з фронту былі нярадасныя. Пятрусь быў то задуменны і маўклівы, то раптам на яго нападала нейкая нервовая ўзбуджанасць.

— Не разумею, чаму нашы не затрымаюць гэтых фашыстаў? — гаварыў мой сябар, і па яго твары ў такую хвіліну прабягаў цень пакуты.— Сілы ў нас мала, ці што?

Праз якую-небудзь гадзіну ці дзве Пятрусь раскладваў перада мной карту, вырваную са школьнага атласа, і горача пачынаў даводзіць, што нашы рыхтуюць фашыстам самую звычайную лавушку, што мы іх заціснем паміж Дняпром і Бярэзінай і знішчым нямецкія танкавыя кліны. Вельмі моцна хацелася верыць у Петрусёвы стратэгічныя прагнозы...

Разам з намі ў знішчальным батальёне быў і настаўнік з нашай жа школы, Іван Іванавіч Іванюк, якога хлопцы называлі да вайны «Іванам у кубе». Іванюк выкладаў гісторыю ў сёмым класе, і мяне з Петрусём яму прыйшлося вучыць адзін толькі год. Настаўнік быў старэй за нас усяго гады на чатыры, бо ў двухгадовы інстытут, які ён скончыў, прымалі тады з дзявятага класа. Мы памяталі Іванюка яшчэ вучнем, даўгалыгім чорным хлопцам у латаным пінжаку з кароткімі рукавамі. Таму, яшчэ будучы вучнямі, мы трымалі сябе з Іванам Іванавічам без лішняй афіцыйнасці, за што ён, здаецца, зусім не крыўдзіўся. Цяпер жа, лежачы побач з настаўнікам на саломе, мы пераступілі апошнюю мяжу, якая нас падзяляла, і вялі з ім бясконцыя размовы і спрэчкі. Адносна ходу вайны Іванюк ведаў не болей за нас, а ў спрэчках на гэтую тэму верх заўсёды заставаўся за Петрусём.

Наш знішчальны батальён павінен быў лавіць шпіёнаў, дыверсантаў, ракетчыкаў і пераапранутых у чырвонаармейскую форму нямецкіх парашутыстаў. Узбраенне на першым часе нам выдалі проста смешнае: толькі трое байцоў мелі асаавіяхімаўскія дробнакаліберныя вінтоўкі і двое — міліцэйскія наганы. Астатніх узброілі вучэбнымі вінтоўкамі, у якіх былі пазразаныя ўдарнікі і папракручваны вялікія дзіркі над парахавымі камерамі. Маючы такую вінтоўку, можна было колькі хочаш цэліцца, ляскаць затворам, але толькі не страляць.

Але мы носа не вешалі. У «Івана ў кубе» была такая ж вінтоўка, як і ў нас, і мы ўтраіх бясстрашна патрулявалі

ноччу па трывожных вуліцах мястэчка, па палатне чыгункі, гатовыя аглушыць любага дыверсанта ляскам нашых заржавелых затвораў.

Аднойчы ўночы, калі мы былі вольныя ад каравульнай службы, увесь батальён паднялі па баявой трывозе. Да школы пад'ехала некалькі грузавікоў з патушанымі фарамі. Пакуль нам тлумачылі баявую задачу і рассаджвалі па машынах, на ўсходзе ледзь-ледзь зашарэла. На гэты раз было сапраўднае баявое заданне. Нам сказалі, што над лесам, на захад ад нашага мястэчка, цэлую ноч гулі самалёты і што там, паводле самых дакладных звестак, скінуты нямецкі парашутны дэсант.

Машыны прагрукаталі соннымі вуліцамі мястэчка і ўзялі кірунак у сасновы бор. Мы з Петрусём ехалі лавіць дыверсантаў у той самы бор, дзе зусім нядаўна збіралі грыбы. Таму зусім не верылася, што ў лесе, дзе нам быў знаёмы кожны пяньчук і лагчынка, могуць прытаіцца нямецкія парашутысты.

Але здарылася іменна нечаканае. Ледзь толькі машыны заехалі ў лес, як дарогу, метрах у трыццаці ад пярэдняга грузавіка, перабег чалавек. Раздалася каманда, машыны спыніліся, і ўсе, хто сядзеў у кузавах, рассыпаліся ў ланцуг. Мяне трэсла, як у ліхаманцы, Пятрусь, які ляжаў у кустах побач са мной, быў таксама неспакойны. Ён ляжаў адпаведна з усімі правіламі баявога статута пяхоты, гатовы ў любое імгненне ўзняцца і кінуцца насустрач ворагу.

Нам загадалі падняцца, і пасля таго як мы прабеглі метраў па дваццаць, нас зноў палажылі на зямлю. Так мы падымаліся, беглі і лажыліся разы тры. Фашысты чамусьці не стралялі. Кустоўе скончылася. Цяпер, нават лежачы на зямлі, мы мелі магчымасць праглядваць ладны кавалак лесу. І на дарозе, і ў лесе было ўсё спакойна.

— Батальён! — раптам раздалася зычная каманда.— Падрыхтавацца к бою!

Мы дружна заляскалі затворамі...

Нечаканае пачалося іменна пасля гэтай каманды. З лесу да нас бег чалавек і махаў белай хустачкай.

— Не страляйце! — крычаў ён на чыстай рускай мове.— Мы свае!

Нехта з тых, хто меў дробнакаліберную вінтоўку, аднак, не вытрымаў і стрэліў.

— Не страляй, сволач! — крыкнуў той, што бег насустрач нашаму ланцугу.— Галаву адкручу...

Чалавека, які прыбег да нас, акружылі і павялі ў кусты. Ён быў у новенькай гімнасцёрцы, у новых ботах і выдатна размаўляў па-руску. Іменна такімі і ўяўляліся нам фашысцкія парашутысты, пераапранутыя ў савецкую форму.

— Мы здаёмся,— хвалюючыся, тлумачыў ён.— Памылкова нас скінулі на сваёй жа тэрыторыі... Памыліўся лётчык...

Чалавек свіснуў, і праз хвіліну з таго самага бору, які мы з Петрусём так выдатна ведалі, пачалі выходзіць людзі. Яны, здаецца, вылазілі з-пад зямлі, саскоквалі з дрэваў, падымаліся з-за пнёў. Трое выбраліся з тых самых кустоў, дзе мы ляжалі некалькі хвілін назад. Яны, выходзіць, маглі ўдарыць нам у тыл.

Гледзячы на нас, гэтыя людзі пасмейваліся, але зброю здавалі ахвотна. У іх былі новенькія аўтаматы, ручныя кулямёты, безліч гранат, напакаваныя нечым скрынкі. У палон мы забралі тады чалавек дваццаць...

Палонных везлі на першых дзвюх машынах. Мы з Петрусём трапілі ў ахову, трымалі ў руках новенькія аўтаматы, і нам зусім не хацелася верыць, што злоўленыя парашутысты — нашы. Мы адчувалі сябе пераможцамі і ніколькі гэтага не хавалі.

У мястэчку парашутыстамі заняліся вайскоўцы, якія аднекуль прыехалі, і праз гадзіну стала ясна, што нашы палонныя не немцы. Толькі цяпер мы зразумелі, чаму так лёгка здаўся дэсант, узброены новенькімі аўтаматамі і кулямётамі. Парашутысты, аказваецца, вельмі хутка ўстанавілі самі, што яны знаходзяцца не на варожай тэрыторыі. Яны паспелі выслаць разведку ледзь не ў самае мястэчка, апыталі двух пуцявых абходчыкаў і лесніка і таму не азваліся ніводным стрэлам у той час, калі мы ляскалі затворамі сваіх вінтовак.

Пятрусь не знаходзіў сабе месца ад абурэння і гневу.

— Гэта ж проста здрада,— гарачыўся ён.— Хто гэта паверыць, што лётчык збіўся з курсу. Сёння ж напішу Варашылаву. Няхай ён разбярэцца, хто вінаваты...

Парашутысты ляжалі на мураве каля нашай школы і вясёлымі вачамі глядзелі на Петруся. Ім, відаць, падабаўся яго імпэт і няўрымслівая натура.

— Паберажы сілы, хлопец,— сказаў адзін з дэсантнікаў, пажылы і задуменны.— Вайна, галубок, толькі пачынаецца, і, можа, табе яе прыйдзецца канчаць. А лётчык збіцца мог, не здзіўляйся. Мы пакуль ляцелі да вас, два разы перасякалі лінію фронту. Пяць разоў нас абстрэльвалі... Ты думаеш, што фронт падобны на школьную лінейку? Ён, брат, так цяпер пятляе і матляе, што сам чорт заблудзіць. Дый ад вашага мястэчка фронт усяго за сорак кіламетраў. Зразумеў?

Пра тое, што фронт так блізка ад нас, мы яшчэ не ведалі. Немцы, праўда, занялі ўжо Смаленск, але па нашых палескіх балотах яны не вельмі прасунуліся і стаялі на адным месцы ўжо ледзь не два месяцы. Апошнія два дні мы, праўда, чулі частыя выбухі, але тлумачылі гэта работамі на аэрадроме. У трыццаці кіламетрах ад мястэчка будаваўся аэрадром, і там яшчэ да вайны рвалі дынамітам пні і карчы.

Вечарам гэтага самага дня нас з Петрусём выключылі са спісаў знішчальнага батальёна. Выключылі не адных нас: хлопцам, якія былі старэй на год, а то і на цэлых два таксама загадалі разысціся па дамах і не з’яўляцца болей у школу. Прычын гэтай нечаканай дэмабілізацыі нам ніхто не тлумачыў. Але мы разумелі самі: рыхтуецца нешта сур’ёзнае.

Вучэбныя вінтоўкі ў тых, хто застаўся ў батальёне, пазабіралі і спалілі, а байцоў узброілі дзесяцізарадкамі і аўтаматамі. «Івана ў кубе» мы з Петрусём сустрэлі пасля гэтага праз дзень, ён стаяў на пераездзе з перавешаным праз шыю аўтаматам. На наша пытанне, што робіцца цяпер у батальёне, ён нічога не адказаў, нібыта мы з ім былі зусім не знаёмыя і яшчэ ўчора раніцай не лавілі разам дэсантнікаў.

Мы болей нічога не дапытваліся ў Іванюка. Ясна было адно: насоўваецца нешта сур’ёзнае, страшнае, невядомае. Ноччу праз мястэчка адыходзілі нашы часці. Днём у небе віселі нямецкія «рамы». Два разы фашысты кідалі на станцыю бомбы. Адна нямецкая бомба не ўзарвалася: мы хадзілі глядзець, як яе адкопвалі чырвонаармейцы. Расказвалі, што ў той

бомбе замест толу быў самы звычайны пясок. Пятрусь пасля гэтага выпадку крыху акрыяў.

— Я ж табе гаварыў,— даводзіў ён мне,— што нямецкія рабочыя не будуць ваяваць супраць нас. На фронце адны фашысты. Нашы іх пераб'юць, і тады вайна скончыцца...

Я хацеў верыць Петрусю, але сапраўднасць была больш складанай, заблытанай, чым гэта ўяўлялася нам да вайны. Балюча было чуць нярадасныя франтавыя звесткі. Здараліся хвіліны, калі хацелася забыцца, заснуць на які месяц ці два і прачнуцца, калі ўсё стане ясным і зразумелым.

Той тыдзень, калі, «дэмабілізаваныя» са знішчальнага батальёна, мы блукалі з сябрамі без справы, прайшоў для мяне ў нейкім паўсне. Памятаю, што два ці тры дні я зусім не хадзіў да Петруся. Мне хацелася пабыць аднаму. У кампаніі з сябрам я неяк міжволі падпадаў пад яго ўладу, жыў яго думкамі і настроямі. Сэрцам я, мабыць, адчуваў ужо, што мой сябар мае рацыю не ва ўсім, што ён мысліць залішне катэгарычна, не прымаючы пад увагу вельмі многіх рэчаў, з якіх складаецца жыццё.

Мястэчка, напалоханае налётамі варожай авіяцыі, капала бліндажы. Людзі хавалі свой набытак у зямлю, каб уратаваць яго ад агню і грабяжу. Для жывёлы па лясах рабіліся загарадкі. Вечары былі трывожныя ў сваёй маўклівай зацятасці. Ніхто не спяваў песень, нідзе не рыпаў гармонік. Людзі, якія сядзелі на прызбах і лавачках, размаўлялі напаўголаса. Па вуліцах хадзілі маўклівыя патрулі. Толькі неба, яснае жнівеньскае неба, паранейшаму было засеяна безліччу зорак, на сваім звычайным месцы была Вялікая Мядзведзіца, сузор'е Арыёна, нізка над гарызонтам вісела чырванаватая планета Марс, якая нагадвала ліхтарык, запалены ў небе.

## IV

Нарэшце настаў дзень, калі стала зусім ясна, што ў мястэчка прыйдуць фашысты. Трэба было нешта рабіць. Моцна і ўладна пацягнула мяне да Петруся. Я пайшоў да яго і ўбачыў сябра ў кампаніі з Грышам Паяльнікам і Міколам Забалоцкім.

У Петруся, вядома, быў ужо ясна выпрацаваны план далейшых дзеянняў: гэта мне кінулася ў вочы адразу. Схіліўшыся над картай Савецкага Саюза, дзе такія населеныя пункты, як наша мястэчка, не былі нават адзначаны кропкамі, Пятрусь гаварыў пра неабходнасць адыходу ў глыбінныя раёны краіны. Ён вадзіў пальцам па карце, разасланай на самаробным століку, а хлопцы яго ўважліва слухалі. Мяне ён прывітаў толькі кіўком галавы. Гаворка адбывалася ў садку, і ніхто з дамашніх Петруся не мог яе чуць.

— Пераправімся праз Дняпро,— гаварыў Пятрусь,— і пойдзем праз Украіну. Калі вайна зацягнецца, папрацуем дзе-небудзь у калгасе, а потым возьмуць нас у армію. А тут заставацца нельга. Што нам тут рабіць з фашыстамі?

Мы маўчалі. Пятрусь заўсёды меў перад намі тую перавагу, што ведаў наперад, што рабіць. У кожнага з нас, мабыць, ужо ўзнікала патаемная думка аб тым, якія прыняты захады ў выпадку прыходу немцаў. Аставацца ў мястэчку не выпадала. Нават цяжка было ўявіць, што прыйдзецца жыць пад уладай фашыстаў, адмовіцца ад вучобы, ад тых прывабных, таямнічых даляў, якія абяцала жыццё.

— Пойдзем,— ціха прамовіў Грыша Паяльнік, які заўжды слухаўся Петруся.— Учатырох не прападзём. Толькі трэба трымацца адзін другога...

— А што твая маці скажа,— перабіў Грышу Мікола Забалоцкі.— Можа, яна табе ўжо харчы сабрала?

Гэта было балючае пытанне. Мы ведалі, як нялёгка будзе нашым маткам адпусціць нас у далёкую, ахопленую вайной дарогу, у невядомасць. Мы ведалі пра слёзы, пра ўгаворы, пра той вялікі боль, які аставім ім, калі пойдзем... Але трэба было рабіць выбар.

Рашылі, што пойдзем заўтра раніцай...

— Вось што, хлопцы! — з нейкай дрыготкай у голасе сказаў Пятрусь на развітанне.— Маткі ж такую агітацыю развядуць... Не паддавайцеся. А лепш за ўсё прыходзьце вечарам да мяне. Пераначуем дзе-небудзь на старане.

Мы згадзіліся.

Надвячоркам сабраліся ў Петрусёвым двары. У кожнага за плячамі быў ёмкі клунак, напакаваны харчамі, бялізнай і

іншымі прадметамі, неабходнымі для далёкай дарогі. Ніхто нас не праводзіў, гэтага мы самі не хацелі. Па агульнай дамоўленасці мы захапілі з сабой усе дакументы, якія ў нас былі: пасведчанні за дзявяты клас, камсамольскія білеты, кніжкі значкістаў ГПА, ЮВС, ППХА, ГСА, мандаты Асаавіяхіма і Саюза ваяўнічых бязбожнікаў.

Пятрусь выскачыў з хаты з рашучым, насупленым тварам. Следам за ім выйшла маці. Убачыўшы нас, яна перастала плакаць.

— Хоць перахрышчу вас на дарогу,— сказала яна нерашуча.— Такая дарога...

— Не трэба,— адмовіўся Пятрусь.— Пайшлі!..

І мы пайшлі...

Таемна шасцелі лісцем разгалістыя івы, якіх многа ў родным мястэчку, раз-пораз перабягалі дарогу шэрыя і чорныя каты, някормленыя і рашучыя. Вуліца была бязлюднай. Мястэчка рыхтавалася да сустрэчы з невядомасцю, якая насоўвалася з чужога, страшнага Захаду. Зусім не такім нам некалі ўяўляўся адлёт з родных мясцін у далёкі свет. Не было ні вакзала, ні перона, ні дзяўчат, якія вучыліся разам з намі...

Для начлегу абралі нізенькую хацінку амаль на самай ускраіне мястэчка. Гаспадыня, бабулька, якой мы раней, здаецца, ніколі не бачылі ў твар, ахвотна пусціла нас начаваць.

— Усе смерці баяцца, паўцякалі ў лес,— паведаміла яна.— А я не баюся, я свой век пражыла. Вы адкуль жа ідзяце, хлопчыкі, можа, з Ленінграда? Мой жа ўнучак там на сталяра вучыцца. Можа, сустракалі? Сямён Грэчка яго прозвішча. Божа, Божа, людскія дадому дабіраюцца, а нашага няма...

Мы не сказалі бабульцы аб тым, што ідзём не дадому, а з дому і проста не захацелі начаваць гэтую апошнюю ноч пад родным дахам. Не сказалі пра тое, што ведаем яе ўнука Сямёна Грэчку. Ён вучыўся разам з намі да сёмага класа, а потым паехаў у рамеснае вучылішча.

Куль саломы, раскіданы па падлозе, клункі пад галовамі, раўнадушныя зоркі, якія падміргвалі праз акенца з яснага жнівеньскага неба,— наш першы падарожны начлег. Перад тым як легчы спаць, Мікола Забалоцкі папрасіўся дадому. Ён сказаў, што забыў дома компас, і абяцаў яго прынесці праз гадзіну. Міколава просьба нам не спадабалася.

— Абыдземся,— нездаволена прамовіў Пятрусь.— Язык і без компаса да Кіева давядзе...

Мы сапраўды трымалі кірунак на Кіеў. Ісці праз Гомель было ўжо нельга. Яго занялі немцы.

Перад тым як легчы спаць, мы дамовіліся падняцца на світанні. Да Дняпра трэба было прайсці кіламетраў сто з гакам. Пра велічыню гаку можна было толькі здагадвацца, арыентуючыся па карце Еўрапейскай часткі СССР, якую мы захапілі з сабой.

Леглі мы спаць учатырох, а прачнуліся ўтрох. Міколы Забалоцкага не было. Спачатку мы падумалі, што ён проста раней устаў і выйшаў на двор. Але не было і Міколавага пухлага клунка. Усё стала ясна.

— Збег, як самы апошні здраднік,— пагардліва сказаў Пятрусь.— Ён заўсёды віхляў, быў добры і вашым і нашым. Баба з калёс, каню лягчэй...

Мы зганьбілі Міколу і яго паводзіны і, нават не снедаючы, рушылі ў дарогу. Спачатку краявіды былі знаёмыя: сасновыя пасадкі, дзе дрэвы растуць нібы па шнурку, роўнымі радамі, вясёлыя бярэзнікі, проста лес, у якім дружна і міралюбна суседнічаюць альха і рабіна, ясень і дуб. Тут нам прыходзілася бываць. У апошні год навучання ў школе, ранняй вясной, у гэтых самых лясах і пералесках праводзілася вялікая вайсковая гульня, арганізаваная школьным камітэтам Асаавіяхіма. Мы смела таптала тут верасы, ляскаталі трашчоткамі, якія замянялі кулямёты, пераможна наступалі. Тады мы, вядома, не думалі, што вельмі хутка без ніякага бою нам прыйдзецца пакідаць родныя палі і лясы.

У многіх месцах стаіць нязжатая збажына. На жытнёвым полі каласы пахіліліся долу, асыпаюцца ячмень і пшаніца. А надвор'е — жні, касі, малаці... Свеціць сонца, далячынь заслана лёгкай наміткай смугі, на небе ні хмурынкі. Дажджу не будзе, хлебароб! Але ніхто не косіць і не жне...

Спыніліся на снеданне пад вялікім дубам, адмераўшы кіламетраў дванаццаць. Дзеля гэтага прыйшлося крыху збочыць з прасёлкавай дарогі на ўскраек лесу. У лесе на розныя лады заліваюцца птушкі, якія ўжо вывелі сваіх птушанят. Ім весела, птушкам: дні яшчэ цёплыя і да выраю далёка...

У клунку кожнага з нас пакуль яшчэ ёмкі запас: хопіць самае малае на тыдзень. Ёсць акрамя хлеба і праснакоў сала, вяндліна, яйкі, цыбуля. Грышу маці паклала нават мяшэчак цукру і вялікі кубак — для гарбаты. Ядзім, абагуліўшы прыпас і не саромеючыся адзін другога.

— Колькі ў каго грошай? — падсілкаваўшыся, пытае Пятрусь.

Твар у яго засяроджаны і сур'ёзны: наш камандзір нешта абдумвае.

У мяне чырвоненькая трыццатка, тры рублі срэбрам і на сто рублёў аблігацый. Бацька ўжо з год на пенсіі, вялікіх грошай у доме не было. У Петруся трохі больш, як у мяне,— сорак два рублі, у Грышы — цэлых семдзесят. Але затое ў іх няма аблігацый.

— Хопіць грошай,— гаворыць Пятрусь.— На білеты хопіць. А даедзем да Курска, заробім. Не ўломкі ж...

— У Міколы было аж дзвесце рублёў,— паведамляе Грыша.— Ён сам мне хваліўся...

Мы не хочам слухаць пра Міколу. У яго было грошай болей, чым у нас траіх, і ён усё-такі збег. Хіба немцам трэба яго грошы?

Сонца ўжо досыць высока, цяпер, мабыць, гадзін дванаццаць. Недзе пад самымі аблокамі пачынае нудна гудзець нямецкая «рама». Усе гэтыя дні мы бачылі толькі нямецкія самалёты. Нашых не відаць. Ад гэтага нейк сумна і маркотна. Нашы адступалі пераважна ноччу, мабыць, з-за нямецкіх самалётаў, якія ўладна вартуюць нябесны блакіт. Уперадзе раздаецца некалькі выбухаў. Гэта, напэўна, на шашы. Мы таму і пайшлі прасёлкавай дарогай, каб не трапіць пад бамбёжку.

Мы ідзём, ідзём, ідзём... Уперадзе Пятрусь, за ім — я, апошні Грыша. На нашым шляху трапляюцца вельмі прыгожыя мясціны, але нам некалі імі любавацца: трэба ісці...

Наш другі начлег — проста ў лесе, на сухім грудку. З-пад навісі дрэў блішчаць толькі рэдкія зоркі. Затое вакол нас тысячы маленькіх зорачак-светлячкоў. Мы ніколі не думалі, што іх у лесе так многа. Працягнеш руку — і бяры. Бяскрыўдныя жывыя вугалькі не пякуцца, не кусаюцца, а толькі свецяць. Мы ў чужым, незнаёмым лесе, але засынаем імгненна і спім

мёртвым сном. Колькі адсюль да роднага мястэчка? Мабыць, кіламетраў пяцьдзясят...

Прачынаемся, калі сонца ўжо вісіць над самым лесам. Адзенне крыху макраватае ад расы. Ныюць ногі, плечы, рукі. Гэта толькі першыя пяцьдзясят кіламетраў. Колькі ж іх яшчэ прыйдзецца нам адмераць?..

Снедаем адразу, каб прывал зрабіць у абед. У Грышаў цукар набілася поўна мурашак. Выганяць іх адтуль некалі, няхай ласуюцца. Яшчэ высвятляецца, што Грыша ўзяў з сабой кніжку «Плутонія» акадэміка Обручава вагой з паўкілаграма. Навошта яму «Плутонія»? Сёння мы далёкія ад фантазіі і ведаем, што ў цэнтры Зямлі няма ніякай пустаты. Там самыя цяжкія металы і сплавы. Але раз Грыша ўзяў «Плутонію», няхай нясе...

Лясы, сенажаці, палі, на якіх, як і там, ля роднага мястэчка, асыпаецца збожжа... Арыенцір верны: калі многа поля, то блізка вёска. Яна то вынырне з-за павароткі дарогі, атуленая зелянінай прысад, то рассыплецца хаткамі па беразе невялікай рачулкі, якая спяшаецца да бацькі-Дняпра, то стоіцца пад аховай векавога, шумлівага бору.

Родныя вёскі, лясы, сенажаці і ты, крывая прасёлкавая дарога!.. Калі мы вернемся жывымі з вайны, мы абавязкова пройдзем гэтым самым маршрутам. Пройдзем, як гаспадары, не спяшаючыся, не аглядваючыся. Нап'ёмся вады з кожнага ручайка, пасядзім пад кожнай прыгожай бярозай, якая сама, здаецца, просіць пад свой зваблівы цень. Вашых назваў мы не забудзем, ціхія палескія вёсачкі... Не забудзем хат, ля якіх частаваліся добрым, з хлебнымі скарынкамі, бярозавікам, лавачак пад вішнямі — мясцін кароткага прыпынку, добрых жаночых твараў, на якіх былі адначасна і боль, і спагада...

Вёскі, якімі мы праходзім, амаль бязлюдныя. Сустракаем пераважна жанчын і дзяцей. Калі пытаем, ці займаюць нашы абарону, яны спалохана паглядаюць на нас і паказваюць у бок шашы. У небе гудуць нямецкія самалёты, недзе збоку і спераду разлягаюцца глухія выбухі...

Подых вялікай ракі мы адчулі вечарам, калі сонца схавалася за лес і мяккі жнівеньскі змрок ахутаў зямлю. Лес кончыўся, пайшло кустоўе, вербалозы. У твар патыхнула прыемным вільготным халадком.

Да прыдняпроўскай вёсачкі дабраліся амаль што апоўначы. Яна не спала. З двара ў двор бясшумна, нібы цені, хадзілі людзі, ведучы ціхую, напаўголаса, гаворку. Мы былі стомленыя, знясіленыя дарогай, але трывога вёсачкі перадалася і нам. Хутка мы ведалі прычыну.

— Пераправу немец разбамбіў,— сказала нам немаладая спалоханая кабета.— Восем налётаў было. Народу пагінула, аж страшна. А начаваць, людцы, ідзіце ў царкву, там у нас гэты клуб быў. Там учора і чырвонаармейцы начавалі...

Клуб размяшчаўся якраз пасярэдзіне вёсачкі, у цэнтры невялікай плошчы, і сваім знешнім выглядам сапраўды нагадваў царкву. На ім захаваўся нават круглы, нібы цыбуліна, купал, толькі ўжо без крыжа. Мы неслі ў сваіх кішэнях мандаты Саюза ваяўнічых бязбожнікаў і былі цвёрда перакананыя ў тым, што Бога няма, але начаваць у такім клубе не хацелася. Лепш ужо дзе-небудзь пад кустом або пад чыстым небам. Нават Пятрусь на хвіліну завагаўся. Але адступаць было нельга, адступіць, значыць, спалохацца. Пятрусь першым узышоў на прыступкі вялікай, шэрай у змроку ночы, будыніны.

На падлозе ў клубе саламяная труха, цяжкі, спёрты дух і цемень, хоць выкалі вока. Уражанне такое, нібы мы зайшлі ў цёплы, па-гаспадарску дагледжаны хлеў. Відаць, нямала народу знаходзіла сабе тут начлег і прытулак у гэтыя цяжкія часы. Мы вобмацкам дабраліся да першага ад дзвярэй кутка, награблі саломы і ляглі. Вочы прывыклі ўжо да цемені, і высока на сцяне можна было адрозніць праёмы вузкіх акенцаў. Нам не спалася.

— Заўтра знойдзем лодку і пераправімся на той бераг,— зашаптаў Пятрусь.— Не можа быць, каб не знайшлося лодкі. Ёсць жа ў вёсцы рыбакі.

— Што тут за людзі? — пачуўся раптам хрыпаты, натужны голас.

Мы ўтрох уздрыгнулі і сцішыліся, а на нас насоўвалася высокая чорная постаць. Чалавек спыніўся насупраць кутка, дзе мы стаіліся, і чыркнуў запалкай. На нас пазіраў аднавокі чалавек з шырокім, зарослым чорнай шчацінай тварам.

— Куды гэта вы сабраліся, тэхнікі? — спытаў ён, прымошчваючыся побач з намі ля сцяны.— Дадому прабіваецеся?

— Мы не тэхнікі,— адказаў Пятрусь.— Мы вучыліся ў школе.

— Я-то бачу, што вы яшчэ не інжынеры. А мусіць жа, хацелася імі стаць. Бегалі б з партфельчыкамі, курылі б папяроскі і пісалі б пратакольчыкі. Не паспелі, родненькія, не паспелі...

Чалавек вёў сябе нахабна, і яго размова пачынала нас злаваць.

— Мы ідзём у тыл,— не вельмі дружалюбна прамовіў Пятрусь.— А вы хто такі?

— Дык вось дзе поп закапаў сабаку! — аднавокі зарагатаў.— Можа, вам там булак мамка напякла ў тыле? Цёпленькіх, гарачанькіх, толькі ешце... Вы думаеце, немец да вашага тыла не дабярэцца? Дабярэцца, даражэнькія, не турбуйцеся. Ёнто ведае свой інтарэс, інакш бы і вайны не пачынаў. Канец прыйшоў бальшавічкам, папомніце маё слова...

— Вы гаворыце, як вораг савецкай улады,— усхапіўся Пятрусь.— Вы рады, што фашысты нашу зямлю захопліваюць. Глядзіце, каб за такія словы...

— А дзе ж тая савецкая ўлада? — голас аднавокага стаў едкі і насмешлівы.— На тым беразе Дняпра. Ды там ці доўга ўтрымаецца. Учора такога драла камісары давалі, што толькі гай шумеў. А немцу я не кум і не брат. Але і баяцца мне яго нечага. І вы дарэмна ад матак уцякаеце. Хіба вы дзяўчаты, каб немцаў баяцца. Дзяўчыне трэба сваю чэсць зберагчы, а то яе ніхто замуж не возьме, а вам што? Вы ж камісарамі не былі, партфельчыкамі не махалі... Хто я, пытаеце? Па пашпарту Верабей, а па-сапраўднаму Вішняк. З Чарнігаўшчыны я, і туды цяпер іду. Няхай толькі немец зойме.

— Вы, мабыць, кулак,— жорстка сказаў Пятрусь.— Інакш, чаму б вы не любілі савецкую ўладу?

— Няхай сабе кулак,— згадзіўся аднавокі.— А савецкую ўладу мне і любіць няма за што. Дурная была савецкая ўлада, бо не ведала, на каго апірацца. Ёй бы трэба за гаспадара, за жылістага чалавека трымацца. Гэты б не падвёў. А яна хацела з галечай ды з камісарамі рай на зямлі будаваць. Вось цяпер і кусаюць сябе за локаць на тым беразе таварышы, ды позна...

— А чаму на тым беразе? — нібы здзівіўся Грыша.— Там, ля шашы, мы самі бачылі, можа, цэлая дывізія нашых. Танкаў, гармат — процьма...

Затаіўшы дыханне, чакалі мы, што скажа на гэта кулак, і ў думках дзякавалі Грышу за знаходлівасць.

Аднавокі падхапіўся. Яму нібы заткнулі рот: такі ён стаў адразу маўклівы і ціхі. Ён, відаць, зразумеў, што адкрыўся залішне рана і не перад тымі, перад кім трэба. Праз хвіліну чорная постаць мільганула ў праёме дзвярэй.

— Пайду пакуру,— кінуў нам Вішняк.— Душна тут...

— Контра,— вылаяўся Пятрусь.— Заўтра каму трэба скажам пра гэтага тыпа. Якую агітацыю разводзіць!..

Упершыню ў жыцці мы чулі голас адкрытага ворага. Ён ненавідзеў і пляваў на ўсё тое, што мы лічылі святым і недатыкальным, без чаго не ўяўлялі свайго жыцця. Мы радаваліся, што перахітрылі кулака, і разам з гэтым нас не пакідала трывога. Ніякіх жа нашых гармат і танкаў мы не бачылі... Няўжо мы не перабяромся на той бераг?..

Стома ўзяла сваё, і на нейкую гадзіну мы забыліся пакутлівым, трывожным сном. На світанні ля клуба нешта грымнула, і мы, схапіўшы клункі, ірвануліся да дзвярэй. У ранішнім тумане, які поўз ад ракі, нічога нельга было разгледзець. Разарваўся снарад у адным канцы вёскі, у другім. Загарэлася хата. Білі з таго боку, адкуль мы прыйшлі. Недзе блізка раўлі танкі. Усё стала зразумелым...

Мы пабеглі бульбоўнікам у напрамку да хмызнякоў. Беглі што было сіл, не робячы ніякага перадыху. Вось і кустоўе, пад нагамі хлюпае і чвякае. Не шкадуючы ні рук, ні твараў, мы драліся праз лазу, забіраючыся ўсё глыбей у балота, нібы хацелі паспець на снеданне к самім чарцям. Нарэшце збавіцельная выспачка. А ў вёсцы грыміць, трашчыць, скавыча... Здавалася, з таго кавалачка зямлі, атуленага зялёнымі прысадамі, пачынаецца сканчэнне свету...

Страляніна скончылася гэтак жа раптоўна, як і пачалася. Вёсачка гарэла. За ёй узыходзіла сонца, ахутанае дымам, шэрае... Мы ўпершыню на свае вочы пабачылі, што такое вайна...

— Спазніліся на той бераг,— сумна прамовіў Пятрусь.— Цяпер самае галоўнае — не трапіць у лапы да фашыстаў.

## V

У сваё мястэчка, нібы на смех, мы вярнуліся першага верасня. Па вуліцы не пайшлі. Па-першае, сорамна было людскога вока, па-другое, мы наогул не ведалі, што дзеецца ў мястэчку. Нашы клункі за тыдзень падарожжа значна апусцелі і зменшыліся ў сваіх памерах. Былі з'едзены хлеб, сала, яйкі, ва ўсіх траіх заставалася толькі цыбуля. З выгляду мы мала чым адрозніваліся ад валацуг. Апошнія пяць дзён, баючыся напаткаць немцаў, мы туляліся па лясах, ішлі дамоў наўздагад. Начавалі ў лесе або ў стагах сена. Усе трое парадкам абнасіліся, асабліва хапіла чаравікам і штанам. Дарога да роднай хаты аказалася куды цяжэйшай, чым дарога да Дняпра.

Па ваколіцы, якой мы дабіраліся дамоў, слаўся туман. У маўклівым задуменні стаялі местачковыя прысады. Зялёныя шапкі вербаў, таполяў і клёнаў кранула першая асенняя пазалота. З аколіцы была добра відаць наша школа, размешчаная на ўскраі мястэчка. Хто там цяпер? Дзевяць гадоў першае верасня было нашым вялікім святам. Дзень гэты зваў у школу, у навуку, у новае жыццё. Сёння ён не зваў нікуды...

Грыша хутка аддзяліўся ад нас і пайшоў агародамі. Яму заставалася толькі перашмыгнуць вуліцу, і ён дома. Мы з Петрусём пайшлі ўдвух. Першым з местачкоўцаў, хто ўбачыў нас, быў каваль Вавіла. Ён у гэты ранні час касіў атаву.

— Я казаў адразу, што прыблудзіце дадому,— паведаміў каваль.— Позна выйшлі. Назаўтра і немец прыехаў. Бою ў нас, дзякуй богу, не было. Так што ўсе жывыя і здаровыя...

На нашых тварах, мабыць, не было ніякай радасці ад сустрэчы з роднымі мясцінамі, таму стары каваль адразу перамяніў тон.

— Дурненькія вы яшчэ і зялёныя,— зашаптаў ён, наблізіўшыся да нас.— Шкадуеце, што на вайну не трапілі... Гэтая вайна не на месяц і не на два. Яшчэ ўсяго будзе, яшчэ хопіць і вам. Падавіцца немец, папомніце мае словы. Мае тры сыны недзе там.— Голас старога Вавілы задрыжаў.

Цяпер ад каваля мы чулі тыя самыя словы, якія некалі сказаў дэсантнік. Але ўся іх глыбіня раскрылася перад намі значна пазней.

Так мы вярнуліся дамоў. Бясконца радаваліся нашы маткі, падстаўляючы нам самае лепшае з яды, і сумавалі мы самі.

У мястэчку панавала няпэўнасць. Адтуль, з-за Дняпра, яшчэ нейкі час даносіліся глухія раскаты артылерыйскай кананады. Потым і яны сціхлі. Тыдні два не было наогул ніякай улады. Перадавыя нямецкія часці прайшлі, пакінуўшы пасля сябе расчыненыя магазіны і крамы, у якіх салдаты рэквізавалі ўсё, што можна было есці і піць. Пасля немцаў пачалі цягнуць мясцовыя тарбахваты. Цягнулі ўсё, што траплялася пад руку: соль, газу, канторскія сталы, ліставое жалеза і нават гіпсавыя барэльефы рымскага філосафа Сенекі, вялікая партыя якіх перад вайной была заслана ў культмаг. Для тых, у каго вочы завідушчыя і рукі заграбушчыя, наступіла раздолле. Адзін аматар дармаўшчыны, недалёкі Петрусёў сусед, пераваалок за вечар у сваю клуню ўвесь набытак парфумнага аддзела з раённага магазіна.

— Думаў, што-небудзь людскае ў тых пачках,— скардзіўся ён пазней.— А там гэты самы зубны парашок. Навошта ён мне? Хіба, можа, баба прыспасобіцца ім хату бяліць?.. Розныя там крэмы і памады не прападуць, усё-такі тлушчы: можна і самому нацерціся, і дзверы змазаць, каб не рыпелі, і калёсам, калі трэба, падмазку даць. Дый зноў жа на абутак. Дзе ж ты таго дзёгцю цяпер дастанеш? А што з гэтым парашком рабіць, проста не ведаю...

Уладальнік раённага прыпасу зубнога парашку чухаў патыліцу і ныў, што самае лепшае пахапалі другія. У яго былі вялікія жоўтыя зубы, якія адвеку не бачылі зубной шчоткі, і ненасытная прага ў маленькіх хцівых вачах. Нечым ён нагадваў таго аднавокага кулака, з якім мы сутыкнуліся ў памятную ноч ля Дняпра. На гэтых людзей было агідна глядзець...

Вечарамі мы збіраліся ў Петруся. Гаварыць не было пра што, і мы сядзелі ў садку і наглядалі, як высыпаюць на небе густыя зоркі ранняй восені. Раз-пораз налятаў пасмялелы вецер, накідваўся на яблыню, і яна, баронячыся, скідала на зямлю пераспелы плод. У нашу кампанію вярнуўся Мікола Забалоцкі. Сваё дэзерцірства ён тлумачыў тым, што, прыйшоўшы дамоў за компасам, застаў хворую маці. Мы не прагналі Міколы,

хоць была відавочнай яго хлусня. Самі ж мы таксама нічога не дасягнулі...

Мікола прыходзіў з мандалінай і па вечарах наігрываў мелодыі даваенных песень. Іграў ён хараша, а мы сядзелі, слухалі і маўчалі. Мінулае, школьнае паўставала перад вачамі. Няўжо яно не вернецца, няўжо мы не сядзем за парты апошняга класа, няхай сабе ў сярэдзіне зімы...

Надзея, мабыць, не пакідала нашых сэрцаў, бо ў хуткім часе мы таксама сталі рабаўнікамі і зладзеямі. Праўда, кралі мы не парфуму і не соль, а кнігі. Мікола Забалоцкі, які заўсёды лепш за нас траіх ведаў аб справах у мястэчку, аднойчы расказаў, што ў бібліятэках парасчынены дзверы і што кнігі цягаюць усе каму не лень. Гэта быў сігнал да дзеяння.

— Кнігі трэба ратаваць! — рашуча сказаў Пятрусь.— Парасцягваюць, а пасля паспрабуй збяры. Можа, нашы да зімы вернуцца, то тады што рабіць? Можа, будзем у бібліятэцы ў шашкі гуляць?..

Мы бачылі ранейшага Петруся — дзейнаснага, уладнага, рашучага. Ён гаварыў аўтарытэтна, пераканаўча, і яму нельга было пярэчыць.

Некалькі вечароў мы вазілі кнігі тачкамі. Складвалі іх у Петруся, у Грышы, у мяне і нават у Міколы Забалоцкага. Цяпер у кожнага з нас была ёмістая бібліятэка, сотні кніг, набыць якія да вайны мы нават не марылі. Сядзі і чытай. Але чамусьці не чыталася...

У мястэчку пачаў усталёўвацца акупацыйны рэжым. Аднекуль прыехаў гебітскамісар — сухі, з шалёнымі вачамі і доўгім носам немец, які сваім абліччам быў вельмі падобны на тыя карыкатуры Гітлера, якія змяшчаліся ў нашых газетах. Гебітскамісар заняў памяшканне райвыканкама, дзе атабарылася і яго ахова. Першы загад новай улады быў, мабыць, цалкам разлічаны на тое, каб запалохаць да мурашак на целе мясцовае насельніцтва. За ўсё смерць. Смяротная кара чакала тых, хто хаваў пераапранутых чырвонаармейцаў, хто асмеліўся абразіць салдат вялікай непераможнай Германіі, хто сабатаваў нямецкія мерапрыемствы і загады...

У якасці першага акта сваёй чыннасці немцы разбурылі помнік Леніну, які стаяў на плошчы перад выканкамам. На

гэтай плошчы яшчэ нядаўна шумелі мітынгі, самадзейны аркестр выконваў «Інтэрнацыянал», стаялі местачкоўцы ў сваіх лепшых вопратках. Цяпер тут гаспадарылі немцы ў чужых, зялёна-шэрых шынялях. На ўсё гэта было балюча і крыўдна глядзець.

Канчаўся верасень, першы месяц акупацыі. Пра фронт хадзілі самыя неверагодныя чуткі. Гэтыя чуткі ўшчэнт разбівалі нашу патаемную надзею сесці за школьныя парты хоць у сярэдзіне зімы. Задумлівы парашутыст і каваль Вавіла казалі праўду: вайна толькі разгаралася, і канца яе не было відаць...

Насоўвалася зіма, і трэба было думаць пра тое, як яе перажыць. Нашы бацькі не мелі ні хлеба, ні газы, ні дроў. Становішча Петрусёвай сям'і было самае горшае. Там сем ратоў кожны дзень прасілі есці.

Падзялілі калгасную бульбу, і з паўгектара прыйшлося на долю Цімашэнкаў. Петрусёва дзялянка знаходзілася паблізу ад чыгункі. Мы з Грышам Паяльнікам пайшлі памагаць Петрусю, і нам, траім, у тыя дні было вельмі пакутліва. Па чыгунцы не імчаліся цягнікі, не звінелі рэйкі, не чуваць было далёкіх гудкоў. Толькі зрэдку ўздоўж палатна звілістай сцяжынкай ішлі нейкія людзі ў абшарпанай вопратцы. Па сваёй зямлі яны ішлі, нібы зладзеі, крадучыся і азіраючыся, гатовыя ў любую хвіліну шмыгнуць у кусты. Гледзячы на іх, мы ўспаміналі сваё няўдалае адступленне, і нам было крыўдна да слёз. Хто яны, гэтыя людзі? Куды яны ідуць? Што чакае іх, бяздомных валацуг?

Петрусю было асабліва цяжка. Ён быў старэйшы ў сям'і, і на яго галаву лёг асноўны клопат. Ні Грыша, ні я не неслі на сваіх плячах такога цяжару. Таму мы шчыра імкнуліся дапамагчы сябру і развясельвалі яго, як маглі.

У адзін з тых асенніх дзён насупраць Петрусёвай бульбы спынілася дрызіна, і з яе выйшла некалькі немцаў з вінтоўкамі на плячах. Гэтыя немцы адрозніваліся ад тых, якіх мы ўжо бачылі. Яны былі ў чорных шынялях, у чаравіках, і ў іх абліччы не заўважалася нічога вайсковага. Немцы аглядалі чыгуначны масток. Мы хутка пасмялелі і падышлі да іх.

— Арбайтэр? — нечакана спытаў Пятрусь па-нямецку.

Немцы ўзрадаваліся.

— Я, я, арбайтэр,— ахвотна адказаў адзін з іх, тоўсценькі, з добрым жаночым тварам.— Шпрэхен зі дойч?

Гэты тоўсценькі яўна хацеў завязаць гаворку, але ў Петруся прапала ахвота да яе. Я разумеў сябра...

Немцы хутка паехалі, і мы вярнуліся на бульбу.

— Рабочыя, а служаць Гітлеру! — узбуджана гаварыў Пятрусь.— Вінтоўкі пабралі. У каго ж яны будуць страляць, у сваіх братоў рабочых!..

Сапраўднасць разбурала ранейшыя ўяўленні. Яна блытала ў нейкі супярэчлівы клубок нашы думкі і пачуцці, забівала надзеі і сілу.

І вось здарылася...

У адзін з такіх асенніх дзён я з раніцы прыйшоў да Петруся і па яго твары ўбачыў, што адбылося нешта незвычайнае. Сябар быў узбуджаны, рухавы, яго вочы проста гарэлі.

— Выйдзем на двор,— сказаў ён.

Мы выйшлі, і Пятрусь пацягнуў мяне пад паветку.

— Ты ведаеш, хто прыходзіў?

Я нічога не ведаў, але па голасу сябра, па яго нервовых, рэзкіх рухах адчуў, што ён скажа нешта вельмі важнае. Ён расказаў мне амаль усё, утаіўшы толькі тое, аб чым я пакуль што не павінен быў ведаць. Ноччу да Петруся прыходзіў «Іван у кубе», які цяпер у партызанскім атрадзе. Ён прынёс заданне. Партызаны хочуць ведаць пра ўсё, што дзеецца ў мястэчку.

Быў асенні хмуры дзень, у галінах яблынь і груш шастаў неспакойны вецер, імкліва несліся па небе цяжкія шэрыя воблакі. Была перад вачамі тая ж самая вуліца, тыя ж самыя хаты і дрэвы, але нешта ў іх вобліку адразу перамянілася. Здавалася, што хаты глядзяць на свет сваімі вокнамі з нейкай хітрынкай, што ў шораху асенніх лісцяў ёсць нешта таямнічае і шматзначнае, што за кожным подыхам ветру хаваюцца нейкія асцярожныя, прыглушаныя крокі.

— Можа, і Грышу скажам? — нясмела прапанаваў я.— Ён жа свой...

— Пакуль не трэба,— запярэчыў Пятрусь.— Сказалі прыглядзецца. Там далей пабачым.

На Петруся ўскладалася больш, чым на мяне. Ён камандаваў, ён павінен быў дастаўляць звесткі Іванюку, сустракацца з партызанамі. Я ў яго нічога болей не пытаўся.

Тыя два тыдні, якія нам з Петрусём давялося быць партызанскімі разведчыкамі, праляцелі ў нейкім паўсне. Мы неслі на сабе цяжар тайны і па гэтай прычыне пазбягалі сустрэч нават з Грышам Паяльнікам. Цэлыя дні мы швэндаліся па мястэчку, вывіжоўваючы сакрэты немцаў. Праўда, асаблівых сакрэтаў выведаць не ўдалося. Мы маглі паведаміць партызанам толькі тое, аб чым знала ўсё мястэчка. І гэтыя весткі былі найбольш сумныя. Фашысты расстралялі сям'ю ляснічага нібыта за сувязь з партызанамі. Забілі яго самога, жонку і дваіх дзяцей. Гебітскамісар грозіўся паступіць гэтак жа з кожнай сям'ёй, якая будзе выяўлена як партызанская. Фашысты арганізавалі паліцыю. Туды падаўся ўсялякі зброд, і з вечара паліцаі ходзяць па мястэчку, патрулююць...

Недахоп чыста вайсковых звестак мы кампенсавалі падрабязным апісаннем розных агіднасцей, якія чынілі фашысты і іх паслугачы. У сваіх зводках мы не шкадавалі едкіх слоў, а часам і проста лаянкі, каб закляйміць дзеянні ворага.

Два разы Пятрусь хадзіў на сувязь з «Іванам у кубе». З апошняй сустрэчы ён вярнуўся хмуры і змрочны. Весткі былі нярадасныя. Партызанскі атрад збіраўся перабірацца на зіму ў другі раён. Аб прычыне Іванюк не сказаў Петрусю нічога. Але мы здагадаліся самі. Па мястэчку ўжо хадзілі настойлівыя чуткі, што ў лесе быў з немцамі бой, які для партызан скончыўся не вельмі ўдала. Фашысты пабілі многа нашых.

Менавіта пасля гэтых звестак усё закружылася, нібы ў шалёным танцы. Пятрусь усе тыя дні хадзіў сам не свой. Ім валодаў панылы, чорны настрой. Ён нерваваўся, злаваўся без прычыны, яму цяжка было патрапіць сказаць слова. У той памятны вечар ён якраз выйшаў ад мяне і на вуліцы трапіў у рукі паліцэйскага патруля...

Каб Пятрусь лепш валодаў сабой, магчыма, усё і абышлося б. Але ён завёў з паліцаямі спрэчку, нагаварыў ім не вельмі прыемных слоў, і яго затрымалі.

Назаўтра Петруся білі. Білі шомпаламі. Аб гэтым ведала ўсё мястэчка, бо на тэлеграфных слупах паліцаі расклеілі загад, дзе выхваляліся сваёй экзекуцыяй.

Назаўтра ж вечарам Пятрусь заявіў мне і Грышу, што ідзе ў партызаны. Петрусёва маці бачыла няўрымслівасць сына, і таму не пярэчыла. Пятрусь сказаў нам гэта сам.

Пятрусь пайшоў у лес даганяць нашых партызан, якія перабраліся ў другі раён. Яго сям'я засталася ў мястэчку. У той першы ваенны год яшчэ не было, мабыць, партызанскіх атрадаў, у якія прымалі з сем'ямі.

З месяц сям'ю Цімашэнкаў не чапалі. Фашысты, напэўна, проста не ведалі, што Пятрусь у лесе. Суседзі аб гэтым шапталіся, кідалі спалоханыя позіркі на Петрусёву маці, калі яна выходзіла з двара, але да фашыстаў не дайшло. Вечарамі, асцерагаючыся людскога вока, мы з Грышам іншы раз заходзілі ў Петрусёву хату. Маці, убачыўшы нас, плакала. Мы яе супакойвалі, як маглі. Алёша, якому было ўжо трынаццаць гадоў, усё разумеў і трымаўся мужна. Янка і Стася не разумелі нічога і хваліліся, што хутка вернецца з вайны іх татка і прыедзе Пятрусь, які цяпер у дзядзькі купляе хлеб. Па-ранейшаму стаяла ў прамежку паміж сцяной і грубкай плеценая калыска, у якой нерухома ляжала яснавокая Сцёпа, а на печы, згарнуўшыся абаранкам, спала Ліда. Версію аб тым, што Пятрусь пайшоў у суседні раён да дзядзькі купляць хлеб, мы ахвотна падтрымлівалі і па магчымасці пашыралі самі. Ад Петруся вестак не было...

Тое, што зрабіў Пятрусь, для мяне і Грышы Паяльніка значыла вельмі многае. Першы час мы не маглі нават адкрыта глядзець адзін аднаму ў вочы. Пятрусь быў героем, чалавекам з вялікай літары, а мы — нічым. Ён не паглядзеў на сям'ю, на тую небяспеку, якая ёй пагражала, і пайшоў у лес. Мы не пайшлі, не здолелі пайсці. Бывалі хвіліны, калі мы проста абураліся на сваіх бацькоў за тое, што яны жывуць на свеце, думаюць аб розных дробязных справах і зусім не збіраюцца ў лес, у партызаны. Яны звязвалі нам рукі, гэтыя нашы бацькі...

Пасля хвілін узрушэння прыходзіла цвярозасць і разважлівасць. Гаворачы пра Петруся, мы іншы раз нават крытыкавалі яго за гарачы характар і самалюбства.

Цяпер, на адлегласці, якая нас падзяляла, мы, здаецца, бачылі недахопы Петрусёвай натуры. Ён мысліў залішне катэгарычна, не прымаў пад увагу многіх жыццёвых абставін, не ўмеў цярпець. І ўсё-такі ён, Пятрусь Цімашэнка, быў сапраўдным героем, а мы з Грышам Паяльнікам — толькі звычайнымі людзьмі.

У адсутнасць Петруся мы арганізаваліся. У нашу невялікую групку акрамя Грышы Паяльніка і мяне ўвайшло яшчэ трое местачковых хлопцаў, якія разам з намі вучыліся ў школе. З Міколам Забалоцкім ні я, ні Грыша дружбы не рвалі, але і ў групе ён не быў. Міколу правяралі. Наша група ставіла перад сабой сур'ёзныя задачы, і ў ёй не было месца палахліўцам і розным хісткім элементам.

Мы збіралі боепрыпасы, абмяркоўвалі планы наладжвання сувязі з Петрусём, і ў гэты час здарылася няшчасце з сям'ёй Цімашэнкаў. Легенда аб Петрусёвым дзядзьку аказалася ненадзейнай. Яна дайшла да вушэй немцаў, і фашысты ёй не паверылі. Два ці тры разы яны прыходзілі да Цімашэнкаў, патрабавалі звароту Петруся ў мястэчка, пагражалі. Нарэшце Петрусёву сям'ю арыштавалі.

Мабыць, самі фашысты саромеліся таго, што робяць, бо прыехалі арыштоўваць Цімашэнкаў ноччу. На волі яны не пакінулі нікога, нават хворай Сцёпы. У адну з зімовых начэй Цімашэнкаў расстралялі...

* * *

З Петрусём я пабачыўся, бадай што, праз год. Была ранняя восень другога года вайны. Яшчэ шчодра свяціла сонца, у лесе цінькалі бесклапотныя сініцы, магутныя ў сваёй велічы стаялі старыя дубы. У Сталінградзе фашысты рваліся да Волгі, а ў нашым раёне, болей чым за тысячу кіламетраў ад фронту, налічвалася ўжо цэлых дванаццаць вёсак, куды ні немцы, ні паліцэйскія не патыкалі і носа. Гэта былі партызанскія вёскі. Цвёрдая нямецкая ўлада была толькі ў мястэчку. Туды сплылася ўся збынь, выгнаная з партызанскай зоны.

Мы з Грышам Паяльнікам у гэты час былі таксама ў партызанах, толькі не ў тым атрадзе, дзе Пятрусь. Нашых бацькоў

фашысты не расстралялі, бо яны перабраліся ў партызанскую зону. Мікола Забалоцкі ў лес не пайшоў.

Пра Петруся ўжо грымела слава па ўсім раёне. Ён стаў адменным падрыўніком, на яго рахунку было, здаецца, каля дваццаці варожых эшалонаў. Я сустрэўся з Петрусём і, успамінаючы гэтую стрэчу сёння, праз многа год, не магу сказаць, каб яна была вельмі радаснай. Пятрусь выглядаў значна старэй сваіх год, твар яго быў худы, абветраны і нават злосны, калючыя, жорсткія вочы запалі глыбока і пазіралі на свет насцярожана і недаверліва. Мы пагаварылі і разышліся. Пра сям'ю Пятрусь не пытаў, ён усё ведаў.

Другая сустрэча адбылася восенню таго года, у які скончылася вайна. Абодва мы прыехалі ў водпуск з вайсковых часцей. Мы з сябрам схадзілі на могілкі, пастаялі ля жалезнай агароджы, якую паставіў на магіле Петрусёвай сям'і каваль Вавіла. Ён і сам неўзабаве памёр, стары каваль, але ля яго магілы не было яшчэ ніякай агароджы.

Я бачыў: Петрусю цяжка. Ён у гэты дзень быў нейкі мяккі і расслаблены.

— Ведаеш,— сказаў ён ціха.— Вельмі я баяўся сустрэцца з бацькам. Думаў, што скажу яму?.. А цяпер і бацькі няма, астаўся я адзін...

Пра тое, што Петрусёў бацька загінуў на фронце, я ўжо ведаў, але ў мяне не было ніякіх слоў, каб уцешыць сябра. Праўдзівей кажучы, мне належала сказаць Петрусю многа. Сказаць пра тое, што ён паступіў правільна той памятнай восенню сорак першага года. Загінула шасцёра з Петрусёвай сям'і, але хто палічыць, у сэрцах колькіх людзей гэтая смерць абудзіла ненасытную прагу помсты ворагу... Адно наша мястэчка дало бадай цэлую партызанскую роту. Але ў мяне не павярнуўся язык вымавіць гэтыя словы.

Пятрусь прабыў у родным мястэчку толькі адзін дзень. Вечарам ён паехаў назад, у вайсковую часць.

*1958*

# БУЛЬБА

## ТЫ ДЗІВАК, ШЭКСПІР!..

Веньямін Сыраежка, высокі і тонкі, як жардзіна, пахаджвае па скверы. Ён трымаецца бліжэй да агароджы, раз-пораз акідваючы позіркам процілеглы бок вуліцы, на якім стаіць вялізны будынак інтэрната медыкаў. Калі б хто зацікавіўся цяпер Веньямінам, мог бы адразу сказаць, што ён некага чакае. Гэта выразна відаць па яго неспакойным твары.

На горад апускаецца вераснёвы вечар. Прыгожа ўспыхнулі схаваныя ў яшчэ зялёнай навісі дрэў ліхтары. Дзённы тлум паступова спадае. З лёгкім гулам праносяцца перапоўненыя тралейбусы, ледзь чутна шасцяць па асфальту таксі. Горад пачынае вячэрнюю казку. Прыгожы горад у гэты вячэрні час!

Віцця — дзяўчына, якую чакае Веньямін,— таксама казка. Сфінкс. Веньямін вельмі мала ведае Віццю. Сустракаліся трохі болей за месяц. Плыў цудоўны чэрвень, месяц спатканняў і залікаў, салаўёў і кветак. Чэрвень даў зарадку на ўсе канікулы. Ніколі раней Веньямін так не адчуваў прыгажосці жыцця, яго паўнаты і багацця, як у гэтае лета. У паэта напісана:

Расцвіла чаромха. Мала
Днём мы бачымся з табой.
Ты мяне прычаравала,
Як гавораць, варажбой.
Сам не сплю. У інтэрнаце
Не даю заснуць сябрам...

Лёгкажурботным настроем, якім афарбавана музыка верша, мог бы жыць і Веньямін, каб не трывожнае прадчуванне нядобрага. Яно тоіцца ў Веньямінавай душы і не дае спакою. Дзяўчына з верша шчыра сказала хлопцу, што кахае другога. Віцця нічога не сказала. Яна проста пазбягае сустрэчы. Ад непадзеленага кахання не паміраюць. І ці натрапіш у наш век на Рамэа і Джульету? Рамэа на пасадзе вясковага настаўніка, з месячнай зарплатай семдзесят рублёў. Ты вялікі дзівак, Шэкспір! Але чаму ты і сёння вялікі? Цябе можна не чытаць,

не ведаць, што ты ёсць. Але хто калі скінуў цябе з высокага твайго п'едэстала?..

У пагоні за дзяўчынай ёсць нешта абразлівае, што прыніжае мужчынскі гонар, ідзе ад слабасці натуры і волі, але Веньямін не можа сябе перасіліць. Колькі разоў завітваў ён у інтэрнат?

У бабулі-вахцёршы добры маршчыністы твар і выцвілыя васільковыя вочы. Усё ў яе ў мінулым. Калі ні зойдзеш, вяжа панчоху. «Вы да каго?.. З семдзесят трэцяга пакоя?.. Пакіньце дакумент...» Цяпер дакумента не пытае. Ведае ў твар і, мабыць, здагадваецца. Васільковыя вочы пазіраюць спагадліва. «Здаецца, не прыходзіла. Хоць я старая, сляпая. Схадзіце наверх...»

Сяброўкі Вікці па пакоі гуляюць у маўчанку. Як бы здзіўляюцца з яго прыходу і з таго, што Вікці няма. Кожны раз новая прычына: «Ёй прынеслі перавод. Пайшла на пошту палучаць грошы...»,— «Мабыць, у анатамічным музеі, у іх заўтра калёквіум»,— «Яе запрасілі на імяніны. Вернецца позна». Выходзячы з пакоя, ён чуў за сабой насцярожаную цішыню. Дзяўчаты не распачыналі гаворку да таго часу, пакуль у калідоры не сціхалі яго крокі. Колькі за хвіліну нараджаецца ў галаве думак? Сотня, дзве? Яны змяняюць адна другую, і няма паміж імі ніякай відавочнай сувязі. Тое, што робіцца ў Веньямінавай душы, цяжка назваць пэўным словам. Там пануе пякельны разлад. Веньяміну балюча і цяжка. Вікця была з ім ласкавая, шукала стрэч, а цяпер уцякае. «Чем меньше женщину мы любим, тем больше нравимся мы ей...» Веньяміну хацелася б быць гордым і зацятым. Але трэба, каб нарадзілася пагарда, знявага да Вікці, тады б ён здолеў выкінуць, растаптаць у сваім уяўленні яе вобраз. Настроіў бы супроць яе ўсе сілы душы. Але пагарды няма. Ёсць боль і надзея.

Веньямін садзіцца ў тралейбус. Адзінаццаць гадзін вечара. Падпільноўваць Вікцю і засякаць час, калі яна вернецца ў інтэрнат, брыдка. Вікця нічым яму не абавязана. Як і ён ёй. Магчыма, гэта ўцёкі ад рашучай гаворкі, якая мусіць між імі наступіць. Але ўсё адно сустрэчы ў гадзіну ці дзве гадзіны ночы Веньямін не жадае. Здарыцца абразлівае для іх абоіх, калі такая сустрэча адбудзецца.

У тралейбусе — вясёлы тлум. Ёсць і тут студэнты. Вяртаюцца з паркаў, з загарадных вандровак. Верасень — таксама месяц спатканняў. Спатканні пасля летніх ростаняў тояць у сабе яшчэ большую радасць, бо яны як бы замацоўваюць тое, што толькі намецілася вясной.

Дзяўчына і хлопец, што сядзяць перад Веньямінам, па ўсіх прыкметах студэнты. На каленях у яе — ёмісты падручнік палітэканоміі, у яго аж тры кнігі. Маўчаць. Яна пазірае ў акно, і можна падумаць, што яны незнаёмыя. Але Веньямін адчувае, што гэта не так, і шукае пацвярджэння здагадцы. Яму робіцца весела: у русых валасах дзяўчыны заблыталася травінка. Прадаўгаватая сцяблінка мятліцы. Травінку заўважыў сусед дзяўчыны, і ад Веньяміна не схавалася, што ён хоча яе зняць. Шукае зручнага выпадку. Нарэшце — прыпынак, у праходзе мітусня, тлум, і хлопец як бы незнарок змахвае далоняй травінку...

Каханне... Якая ты магутная, неадольная сіла! Колькі пра цябе прапета сумных і радасных песень, колькі напісана! Трагедыі і драмы, найвялікшыя ўзлёты чалавечага духу і геніяльныя адкрыцці — усюды ты, каханне. Усё, што ёсць жывое на зямлі, пяе табе гімны. І ніколі, ніколі не разгадае чалавек тваёй вялікай і вечна новай тайны...

У інтэрнаце, дзе жыве Веньямін,— танцы. Зрэшты, танцы кожны суботні вечар, але сёння — асаблівыя. Студэнты паедуць на бульбу, гэта вядома дакладна. Таму шуміць-гамоніць суботні інтэрнат, і водгулле гэтага гоману чуваць далёка навокал.

Узмоцненая дынамікам, проста раве радыёла, фокстроты змяняюцца танга і вальсамі. У вестыбюлі, падпёртым масіўнымі калонамі, збіўшыся ў талаку, таўкуцца, можа, дзвесце хлопцаў і дзяўчат. Характар музыкі, здаецца, зусім не ўплывае на малюнак танцаў і на іх рытм. Ці вальс, ці фокстрот — адно і тое ж таптанне на месцы, абыякавыя твары, нібы звернутыя ў небыццё. Калі музыка каму-небудзь і дапамагае, дык толькі парачкам, якія вядуць размовы і, вядома, радуюцца, што ніхто не чуе.

Веньямін не любіць танцаў. Ды і танцаваць ён бадай не ўмее. Таму як бы звысака глядзіць на тых, хто ахвотна

лезе ў гэтае вавілонскае стоўпатварэнне. Веньяміну здаецца, што шчыльная, потная талака прыніжае чалавечы гонар і не спрыяе выяўленню высакародных пачуццяў. Сапраўдныя танцы — гэта прыгажосць, пластыка рухаў, гэта песня, выказаная палётам прыгожага чалавечага цела.

Прабіўшыся праз натоўп хлопцаў і дзяўчат, Веньямін рушыў у свой пакой, на чацвёрты паверх. Гоман і тлум не толькі ў вестыбюлі, але і на лесвіцы, у калідорах, у пакоях. Чатыры гады жыве ў інтэрнаце Веньямін. Тры гады жыў у палатках і ў казармах, калі служыў у арміі. Ён даўно прызвычаіўся да агульнажыцця і можа не зважаць на шум, які трывае ў інтэрнаце ледзь не круглыя суткі. Веньямін ведае другое. Можна быць сумным у моры весялосці і адзінокім сярод соцень таварышаў. «Общежитие, пристань моя путевая...» Ёсць вялікія гарады, многа-многа на свеце людзей, але трэба мець свой куток пад небам і ўсяго толькі аднаго блізкага чалавека. Тут, у інтэрнаце, іх, студэнтаў, семсот, большая палавіна — дзяўчаты, але няма сярод іх ніводнай, якую б Веньямін мог назваць той адзінай, дзеля якой ён не заўважаў бы ўсіх астатніх. «Ты — мая пчолка, з табою не ведаю скрухі...»

Ёсць другое выйсце. Можна цяпер жа выскачыць з інтэрната, купіць у прадуктовым магазіне, які працуе да дванаццаці гадзін, бутэльку партвейна і далучыцца да якой-небудзь кампаніі. Ахвотна прымуць. Пасля дзвюх шклянак закружыцца галава, прыемная цеплыня разальецца па ўсім целе. Згрызоты, сум знікнуць. Тады можна выкрыкваць недарэчныя тосты, чытаць вершы і як бы незнарок пакласці руку на плячо суседкі. Гаварыць тосты і чытаць вершы Веньямін умее. Яго нават лічаць веселуном і завадатарам у кампаніях. Але што будзе заўтра? Веньямін ведае, што будзе. Боль у галаве і муць на душы. Наўрад ці захочацца ўспамінаць вясёлую кампанію і дзяўчыну, якая ўчора здавалася такой прывабнай. П’янкі, оргіі нібы знарок выдуманы, каб глушыць, таптаць тое прыгожае, што ёсць у душы. П’янаму ўсё лёгка. Але цяжкае пахмелле...

## ДЫСКУСІЯ — РУХАВІК ПРАГРЭСУ

Пакой, у якім жыве Веньямін, тыповы для іхняга інтэрната. Пяць жалезных ложкаў, засланых шэрымі коўдрамі, пяць зялёных тумбачак і круглы стол, заціснуты ў куток да акна. Блакітная каробка рэпрадуктара на сцяне — для сувязі з усімі кантынентамі і са светам мастацтва. Вялікі алюмініевы чайнік пад сталом — для сувязі з кубавой. Сем крокаў па вузкім праходзе ад дзвярэй да акна. Акно ў выгадным месцы: пад поўнач з яго відаць зеленаватая зорка Сірыус і ладны кавалак Млечнага Шляху. Пакой не вельмі ўтульны.

Такія самыя пакоі ў дзяўчат маюць куды прыемнейшы выгляд.

Калі Веньямін, набраўшы ў кубавой кіпятку, сеў вячэраць, у пакой увайшлі яшчэ два яго тубыльцы — Змачынскі і Варывончык. У абодвух пад пахамі туга набітыя папкі, а ў руках загорнутыя ў паперу пакункі з правізіяй. Змачынскі і Варывончык — сябры, а калі гаварыць пра іх грамадскае аблічча, дык надзвычай дысцыплінаваныя студэнты. Яны вядуць канспекты па ўсіх прадметах, акуратна рыхтуюцца да практычных і семінарскіх заняткаў, праседжваючы вечары ў бібліятэцы. Вучацца добра, ніколі не ведаюць зрываў, правалаў.

— Зубрылі? — прывітаў Веньямін аднакурснікаў.

— Цябе Бандарэнка пытаўся,— замест адказу паведаміў Варывончык.— З медыцынскага, гэты зямляк твой...

— У бібліятэцы сядзеў?

— Не, зайшоў спецыяльна. Шукаў цябе.

Вестка непрыемная для Веньяміна. Меней за ўсё хацеў бы ён бачыць цяпер Бандарэнку. Тады, у чэрвені, зямляк двойчы спаткаў яго з Вікцяй — адзін раз у парку, другі раз — калі хадзілі ў кіно, і з таго часу напрошваецца на інтымныя размовы. Не вельмі Веньямін перад ім раскрываўся, але той усё адно здагадваецца. Калі шукае, значыць хоча сказаць нешта важнае.

Веньямін лёг на ложак і адвярнуўся тварам да сцяны. На душы горыч і боль. Як бы прадчуваў, што Бандарэнка нічога радаснага не скажа, хутчэй за ўсё пацвердзіць тое, аб чым здагадваецца Веньямін сам. З вестыбюля далятаюць

прыглушаныя, млявыя гукі музыкі, навяваючы яшчэ большы сум. Танцы будуць гадзін да дзвюх ночы, і заснуць наўрад ці ўдасца. Чаму ён не такі, як многія іншыя, з горыччу думае Веньямін. Колькі знаёмых хлопцаў сыходзяцца і разыходзяцца з дзяўчатамі і не бачаць у гэтым ніякай трагедыі. Выхваляюцца перамогамі, не лічаць за сорам, калі дзяўчына пляснула па твары, не ўздыхаюць, калі пайшла з другім. Самаўпэўненыя, нахабныя. Такіх якраз і любяць дзяўчаты. Не ўсе, але многія. Ляцяць, як матылькі на агонь. Абпальваюцца, але ляцяць...

Тое, што адбываецца ў такім выпадку, не закранае глыбінных пачуццяў, думае Веньямін. Не можа быць, каб у чалавека не было жадання бачыць у другім чалавеку свой ідэал, увасабленне сваіх мар, надзей. Адбяры ў чалавека мару, і ён загіне. Дык як жа растлумачыць тое, што многія ўсё-такі вельмі лёгка сыходзяцца і разыходзяцца? Мара — кахаць і быць каханым — ёсць у кожнага. Няўжо за каханне яны прымаюць лёгкае, мімалётнае, што мінае як сон... Жыццё — сон... Недарэчнасць і глупства. «Честь безумцу, который навеет человечеству сон золотой...» Чаму ён увесь час думае цытатамі? Можа, у душы няма нічога ўласнага? Дык чаму ён так пакутуе? Яго дамінуючым настроем з’яўляецца сум. Гэта даўно ведаюць многія. «Ты вялы і рэфлектыўны, як Дон-Кіхот...» Гэта сказала Зіна Бандарчык.

Зіна — слаўная. Найлепшая з дзяўчат, якіх ён ведае. Але ён яе ніколі б не пакахаў. З такімі, як яна, ён можа толькі сябраваць. Чаму так? Чаму адну можна паважаць, а другую кахаць? Павага — ад розуму, а каханне — ад сэрца... Хіба сэрца можа што-небудзь бачыць? Што ён ведае пра Вікцю? У яе задуменна-вясёлыя вочы і надзвычай чысты смех. Нібы звініць ручай у лясной цішы. Але ён пра гэта не думае. Хоча яе бачыць, і ўсё. Можа, каханне — загадка, якая стаіць перад усім чалавецтвам? Якое гэта шчасце штодня, штохвіліны глядзець у любімыя вочы! Бачыць у іх водбліск уласных імкненняў і мар. Што было б, каб усе, хто насяляе планету, сышліся па каханню, знайшлі б тую адзіную і адзінага, без якіх нельга ні жыць, ні дыхаць? Можа, тады б нарадзілася здаровае, гарманічнае пакаленне, якое б пазбавіла чалавецтва ад палавіны яго згрызот...

— Увага! Сыраежка ў трансе! — пачуў Веньямін зычны голас над сабой.— Чарговы сеанс спірытуалізму. Выкліч, Веньямін, цень Напалеона. Хочацца пагаварыць на тэмы сучаснасці...

Голас належыць Мудрыку. Веньямін, захоплены думкамі, не заўважыў, калі той прыйшоў.

Пачынаецца звычайнае. Мудрык не можа пражыць дня, каб не пахваліцца новай ідэяй. Яго ідэі часта не супадаюць з тымі, якіх прытрымліваецца большасць. Нараджаюцца спрэчкі.

— Едзем на бульбу,— паведаміў Мудрык.

Навіну ведаюць — яна не здзівіла. Хлопцы распранаюцца, кладуцца на ложкі. Зайшоў нізенькі, з нервовым вузкім тварам Шохан, пяты жыхар пакоя.

— Без нас не могуць,— даводзіць Мудрык, як бы намацваючы грунт для спрэчкі.— Ёсць жа пастанова — студэнтаў не пасылаць.

— Едзем у падшэфны калгас,— гаворыць Змачынскі.— Там васьмігодка. Залічаць пазакласную практыку.

— Шэфства, практыка... Проста так начальству зручней. З калгаснікамі трэба размаўляць, падымаць плату. А тут дармавая сіла...

— Не вельмі ты рванеш,— Змачынскі і Варывончык рагочуць.

— Што вы разумееце! — Мудрык бадай увайшоў у ролю.— Просты прыклад — разец і калун. Разцом карыстаецца ювелір, гэта тонкая работа. А каб раптам яго паслалі калоць дровы?

— Ты сябе лічыш, вядома, ювелірам.

Веньямін слухае, не ўступаючы ў спрэчку. Ён ніколі не мог да канца зразумець Мудрыка. У яго не адбярэш розуму, дасціпнасці, трапнасці назірання. На курсе няма лепшага, чым ён, прамоўцы. Гаворыць Мудрык заўсёды насуперак агульнай думцы. За гэта многія лічаць яго смелым. Але Веньяміну часам здаецца, што Мудрык — дэмагог. Не такі, як звычайныя, тыя, што паддобрываюцца да дэкана, гавораць на сходах бясспрэчныя ісціны, але ўсё ж дэмагог.

— Пра нас можна не гаварыць! — ужо крычыць Мудрык.— Мы порах не выдумляем. Але я казаў і буду казаць,

што раўняць сапраўднага вучонага і няхай сабе найлепшага рабочага нельга. Уздзеянне ідэй, адкрыццяў на развіццё прагрэсу катэгорыямі палітэканоміі не вымераеш...

— Дык ёсць жа і рабочыя, што робяць адкрыцці,— не вытрымлівае Веньямін.— Напрыклад, Паўзуноў. Ён жа інжынерам не быў.

— Якраз наадварот. Па духу ён адкрывальнік. Няважна, што не ведаў тэорыі. Ён стварыў яе сам. Рабочы не створыць. Ён зробіць толькі тое, што яму загадаюць.

Мудрык спрачаецца заўсёды шчыра. Вось і цяпер ён стаіць пасярод пакоя — высокі, стройны, валасы як у вожыка — і ад узбуджэння размахвае рукамі. Такі ён выклікае ў Веньяміна сімпатыю. А тое, што гаворыць, можна сур'ёзна не прымаць.

— Ты не арыгінальны, Мудрык. У цябе былі папярэднікі.

— Ніякіх папярэднікаў.

— Напрыклад, Ніцшэ. Ды і наогул усе, хто гаварыў пра белую косць і блакітную кроў. Твая тэорыя — звычайны арыстакратызм. Адны могуць, другія не могуць...

— Ён проста не хоча ехаць на бульбу,— Змачынскі смяецца.— Пры чым тут арыстакратызм?

— І ты свой грошык пparticular, таптун!..

Змачынскага Мудрык заве таптуном, Варывончыка — поварам, Шохана — партфелем. Ён любіць даваць мянушкі. Чамусьці на яго не крыўдуюць. З Веньямінам Мудрык лічыцца, бо яму мянушкі не прыклеіў.

— Віктар, не разводзь дэмагогіі,— просіць Веньямін.— Пара спаць, гадзіна ночы. Тое, што скажаш, прыкладна вядома. Атамную энергію вынайшлі тысячы геніяў. Яны на планеце значаць больш, чым мільярд робатаў. Твая тэза?

— Мая, што з гэтага?

— Тое, што тут ні кроплі сацыяльнага падыходу.

— Твой падыход абрыдзеў. Таксама загадзя вядома, што скажаш. Твае думкі з газет.

— Газеты ўсім трэба чытаць.

Варывончык устае — у трусах і майцы ён падобны на тоўстага хлопчыка — і, дацягнуўшыся рукой да выключальніка, гасіць святло. Цяпер усю ноч у пакоі будзе светлы

паўзмрок. Насупраць акна, праз вуліцу, ззяе на высокім металічным слупе электрычны ліхтар, і яго не патушыш.

— Згадзіся са мной,— зноў пачынае Мудрык.— Ролю асобы мы недаацэньваем...

— Згаджаюся. Давай спаць.

— Ты матрац...

Веньямін не адказвае.

Усталёўваецца цішыня. Яна, вядома, адносная, бо ў калідоры чуваць крокі і галасы, а знізу, з вестыбюля, далятаюць гукі музыкі. Стыпендыю атрымалі, праз дзень-два паедуць на бульбу, так што ёсць усе падставы павесяліцца. Толькі пад раніцу ўтаймуецца інтэрнат.

Змачынскі і Варывончык ужо спяць. Як толькі прыткнуцца да падушкі, так і спяць. Варывончык ціха пасвістае носам, сон у Змачынскага як у анёла. Лёгка засынае Мудрык. Крычыць, кіпяціцца, а як залезе пад коўдру, адразу пачынае храпці. Спіць дзіўна — і зімой, і летам накрываецца з галавой. Пакутліва засынаюць Сыраежка і Шохан. Доўга ўздыхаюць, варочаюцца — аж скрыгоча жалезная сетка. Раніцай у абодвух пад вачамі сіняк і.

Веньямін ужо знаходзіўся ў прыемным стане напаўзабыцця, за якім пачынаецца сон, калі ў дзверы нехта моцна загрукаў. Услед за гэтым дзверы расчыніліся (іх не замкнулі), запалілася святло, і сярод пакоя паўстаў чырванатвары, шырачэзны ў плячах пяцікурснік Пятро Уцякай. Вучыцца Пятро не надта, стыпендыі не палучае, таму іншы раз задумваецца, дзе б пазычыць. Цяпер ён нават крыху п’янаваты.

— Спіцё? — на ўсе грудзі грыміць Пятро.— Мне есці хочацца, а вы спіцё! Дайце мне хлеба і каўбасы і тады можаце спаць. Чорт вас бяры...

Не пытаючы, у каго што ёсць, Пятро шарыць па тумбачках. Найбольшыя запасы у Змачынскага і Варывончыка. Пятро не грэбуе нічым і забірае недаедзеную каўбасу, рэшткі сыру, паўбуханкі хлеба. Пра тое, што хлопцам заўтра не будзе чым паснедаць, ён не думае. Згробшы харч і забыўшы выключыць святло, Пятро выходзіць з пакоя.

## ПЕРШАЯ НОЧ БЕЗ СНУ

Веньямін разумее — цяпер не засне. Варта адагнаць першы сон, як чорным мядзведзем наваліцца бяссонніца. Думкі, якія прыходзяць ноччу,— пакутлівыя. Застаешся сам-насам з сабой, няма ні ад каго падтрымкі, а калі на душы неспакой, лёгка апынуцца ў палоне роспачы.

Веньямін ведае лекі ад бяссонніцы. Трэба выклікаць ва ўяўленні малюнкі лесу, поля, рэчкі — усё тое, што надзвычай добра памятаеш з дзяцінства, і тады настае супакаенне. Але ў калідоры мітусня, смех, выгукі, сум і трывогу нясе млявая музыка радыёлы, і няхай ты сам чараўнік, а супакоіцца цяжка...

Вёска, дзе нарадзіўся і правёў дзяцінства Веньямін, невялікая, раскіданая, але надзвычай прыгожая. Яна як бы складаецца з трох пасёлкаў. Адзін пасёлак у полі, жыты, ячмяні падступаюць ледзь не да самых хат. Пыльная вуліца, стромкія калодзежныя жураўлі, старыя раскідзістыя вязы на плошчы ля школы. Веньямін жыў не тут. Сюды ён хадзіў у школу цэлых сем гадоў. Мог бы хадзіць разам з сёстрамі і маці, якая працавала настаўніцай, але хадзіў адзін або з сябрамі. Так яму больш падабалася, а маці не няволіла.

Два астатнія пасёлкі, падзеленыя чыгункай і невялічкай станцыяй, знаходзіліся ў лесе і, мабыць, здаваліся пасажырам дачнымі. Хаты стаялі пад самымі соснамі, а ўпрытык да чыгункі зелянелі агароды з залатымі, звернутымі да сонца шапкамі сланечнікаў. У правым пасёлку, у доміку, пабудаваным для настаўнікаў, жыў Веньямін. Ён аднолькава любіў гудкі імклівых цягнікоў, якія рэдка спыняліся на іхняй станцыі, і бясконцы, таямніча-ўрачысты пошум лесу.

Бацьку Веньямін слаба памятае. Ён быў высокі, вясёлы, насіў белую сарочку. Да вайны быў дырэктарам школы, а ў сорак трэцім годзе, калі Веньяміну было пяць гадоў, яго расстралялі немцы за сувязь з партызанамі. Маці таксама памагала партызанам, нават пасля таго, як расстралялі бацьку.

Дзяцінства было галаднаватае, басаногае, але вясёлае. Ён лёгка і добра вучыўся, спяваў, маляваў, змалку палюбіў кнігу. Яму падабалася быць першым, атрымліваць пахвальныя граматы пры пераходзе з класа ў клас. Ён наведваў усе

гурткі, якія толькі былі ў школе, выступаў у самадзейнасці. Здавалася, ён быў начынены самымі разнастайнымі талентамі і стараўся як мага хутчэй іх выявіць.

Адзіны ў сям'і сын, быў вельмі ўражлівы. Дзве старэйшыя сястры лашчылі яго і пеставалі. Маці іншы раз уздыхала. «Які ты непрыгожы! — аднойчы ўсклікнула яна.— І мужчынскай цвёрдасці ў цябе няма. Як мімоза якая... Цяжка табе будзе жыць».

Тады, у дзяцінстве, ён проста пакрыўдзіўся на маці, не зразумеўшы яе слоў. Але яны запалі ў душу. Цяпер, можна лічыць, прароцтва маці збываецца. У каханні яму не шанцуе. Розумам Веньямін даўно наважыў не дамагацца немагчымага, не заглядвацца на прыгожых, але сэрца не згаджаецца. Падабаюцца толькі прыгожыя. У адным чалавеку жывуць як бы дзве істоты, якія вядуць між сабой зацятую вайну.

Першае каханне ўспыхнула ў школе...

Дзесяцігодку Веньямін канчаў у мястэчку, за дванаццаць вёрст ад роднай вёскі. Кватараваў у знаёмых настаўнікаў. У іх была адзіная прыёмная дачка Ася. Першы год свайго жыцця ў мястэчку, удалечыні ад знаёмых бароў і поля, Веньямін проста не заўважаў дзяўчыны, хоць яны жылі пад адным дахам і вучыліся ў адной школе. Ася ішла на клас вышэй за яго, яна канчала дзясяты.

Тая перадапошняя школьная вясна незвычайна пахла чаромхай. Чаромха расцвіла ў гародчыках і садках, стаяла ў паліраваных гладышыках ледзь не на кожным акне, галінкі белых, пахучых кветак дзяўчаты прыносілі ў клас. Менавіта тады здарылася гэта...

Майскім вечарам Веньямін сядзеў за сталом і чытаў пры лямпе. Гаспадары ўжо спалі. Асі не было, яна часта бавілася ў сяброўак. Акно ў гародчык было расчынена — адтуль даляталі вострыя, церпкія пахі прэлай зямлі, іншы раз у пакой завітваў майскі жук, тыцкаючыся ў лямпавае шкло. Жукоў Веньямін выкідваў назад, у гародчык — шкадаваў іх.

У акне раптам з'явілася Ася. Яна стаяла, назіраючы за Веньямінам. Заняты чытаннем, ён яе не заўважаў.

Ася свіснула па-хлапечаму, у два пальцы. Ад нечаканасці Веньямін уздрыгнуў. Дзяўчына звонка засмяялася.

— Ідзі сюды! — паклікала Ася.

Веньямін хацеў выйсці праз дзверы, але яго намер Асі не спадабаўся.

— Лезь праз акно! — загадала яна.

Ён узлез на падаконнік, саскочыў. Ася схапіла яго за руку і пацягнула з двара на лавачку. Там адразу змоўкла, як бы чакаючы, што Веньямін першы пачне гаварыць. Але ён маўчаў, бо не знаходзіў патрэбных слоў.

— Ты любіш Блока? — нарэшце спытала Ася.

Блока ён чытаў, але без захаплення — многае здавалася незразумелым, няясным.

— Туманны ён, Блок,— сказаў Веньямін.— Вершы харошыя, звонкія, але без сэнсу.

— Сам ты без сэнсу,— пырснула Ася.— Блок вялікі паэт. А ўсе вялікія паэты любяць алегорыю. Гэта якраз добра, што не ўсё адразу зразумееш...

Ася вучылася ў дзясятым, яны праходзілі Блока па праграме, і Веньямін прыкусіў язык. Ася мела права гаварыць так, як гаварыла.

— Ну, а як табе Лермантаў? — зноў спытала дзяўчына.

Лермантаў таксама не належаў да тых паэтаў, якіх Веньямін мог бы назваць любімымі. Яму падабалася проза паэта — «Герой нашага часу», з вершаў — «Сасна», «Ветразь», «Дубовы лісток», «Хмаркі». Большасць жа вершаў і амаль усе паэмы чамусьці вялікага ўражання на Веньяміна не зрабілі.

— Па-мойму, у Лермантава многа надрыву,— сказаў Веньямін.

— Ты проста не дарос да яго,— думаючы аб сваім, прамовіла Ася.

Асіны словы абразілі.

Веньямін сам пісаў вершы і хоць нікому іх не паказваў, але ў душы імі ганарыўся. Ды і кнігі былі яго стыхіяй. Два гады ён жыў у адным доме з Асяй і мог з упэўненасцю сказаць, што чытае намнога больш за яе. Асю рэдка ўбачыш з кнігай — чытае толькі тое, што па праграме. У бібліятэцы, можа, толькі і брала, што Лермантава ды Блока. А фанабэрыцца.

Штосьці ўсё ж утрымала Веньяміна ад спрэчкі. Ён хутчэй адчуў, чым зразумеў, што справа не ў Блоку і не ў Лермантаве.

Проста быў цудоўны вечар, і Ася сумавала. Ёй хацелася з кім-небудзь пагаварыць. І тое, што яна паклікала яго, Веньяміна, уздымала хлопца ва ўласных вачах, напаўняючы душу прадчуваннем новай, нязведанай радасці.

З гэтага вечара Веньямін пачаў думаць пра Асю і напісаў пра яе два вершы. Яму хацелася бачыць Асю штохвіліны, і калі яна затрымлівалася ў сябровак, яму рабілася сумна. Яму прыемна было глядзець на яе тоненькую, зграбную фігурку. Здаецца, сам прыгожы Асін тварык свяціўся радасцю. Употай Веньямін нават прыдумаў для Асі мянушку — Ластаўка. Дзяўчына сапраўды нечым нагадвала ластаўку — гэткая ж чарнявая, рухавая, гэтак жа залівіста шчабятала.

Якія гэта былі цудоўныя дні! Веньямін клаўся спаць і прачынаўся з думкай пра Асю. Думка аб тым, што ён убачыць яе некалькі разоў на дзень, пачуе яе голас, смех, рабіла хлопца шчаслівым. Ён як бы толькі нарадзіўся на свет. Гэты свет быў цудоўны. Сонца, зямля, зоркі, зялёныя дрэвы, каменная, двухпавярховая школа, шэрая, незабрукаваная местачковая вуліца — усяго гэтага не заўважаў без яе. Бо і Ася, як і ён, глядзела на сонца, на зоркі, на дрэвы, той самай, што і ён, вуліцай хадзіла ў школу. Пачуццё ўзнікла раптоўна, як пажар у спякотны летні дзень, і Веньямін не тушыў яго, а як бы і сам памагаў яму яшчэ болей разгарацца.

Было дзіўна, што дзяўчына, якая месяц ці два назад нічога для яго не азначала, не выклікала ніякіх асаблівых думак і пачуццяў, раптам заняла такое вялікае месца ў яго жыцці. Была самай звычайнай і нечакана паднялася на недасяжную вышыню.

У цяжкія экзаменацыйныя дні Веньямін нанава перачытаў Лермантава, Блока, і цяпер яму гэтыя паэты страшэнна спадабаліся. Яны пісалі ці, праўдзівей кажучы, намякалі на няўрымслівыя, дэманічныя сілы, якія бушуюць у чалавечай душы. Такую сілу Веньямін адчуваў і ва ўласных грудзях. Ён, не ведаючы таго сам, быў вялікім рамантыкам. Божа, у якія толькі гераічныя становішчы ён не трапляў дзякуючы сваёй нястрымнай фантазіі!

Ён здзяйсняў шматлікія подзвігі ў гонар сваёй цудоўнай Дамы, сваёй Незнаёмкі. Ася сапраўды здавалася Незнаёмкай.

Што ён пра яе ведае? Яна ходзіць у школу, вечарам бегае да сябровак. Старанна прасуе свае сукенкі, расчэсвае і зноў заплятае доўгую чорную касу. Са сваёй бакоўкі Веньямін прыслухоўваўся да шорахаў, што далятаў з Асінага пакойчыка. Ён нібы бачыў, як Ася гартае кнігу, як, абапёршыся на руку, напаўляжыць на канапцы. Цяпер для Веньяміна мелі значэнне шматлікія дробязі з Асінага побыту. Але дзіўная рэч! Раней, калі дзяўчына была для яго абыякавай, ён заходзіў да яе ў пакойчык, размаўляў, спрабаваў нават жартаваць. Цяпер не тое. Цяпер нібы ўзнікла нейкая нябачная мяжа, якая аддзяліла яго ад Асі. Пераступіць гэтую мяжу не так проста. Кожны Асін крок, кожнае слова, якое ён чуў ад яе, напоўнілася шматзначным сэнсам. Асіна рука, каса, яе твар, усмешка — усё стала тайнай, загадкай.

«Я люблю Асю»,— прызнаўся сам сабе Веньямін. Гэтае адкрыццё і ўзрадавала яго, напоўніўшы ганарлівым пачуццём, і спалохала. Канчалася жыццё зведанае, звычайнае і пачыналася нешта новае. Гэтае новае таіла ў сабе радасць і трывогу адначасова.

Ці заўважыла Ася, што ён перамяніўся да яе, што губляецца, чырванее пры ёй? Ён не ведаў. Ён зусім не шукаў выпадку пабыць з ёй адзін на адзін. Жадаючы бачыць яе, чуць яе голас, ён, тым не менш, пазбягаў яе, надоўга сыходзячы з дому. Усё часцей яму хацелася пабыць аднаму. Куды лепш адчуваў ён сябе, калі размаўляў з Асяй у думках, чым у тыя хвіліны, калі прыходзілася з ёй сутыкацца наяву. Ён мог марыць пра Асю гадзінамі, думкі пра дзяўчыну не пакідалі яго, што б ён ні рабіў. Але ён быў зусім бездапаможны, калі вяртаўся на кватэру і заставаў там Асю.

Ася, занятая сабой, нічога не заўважала. Яна, відаць, думала пра інстытут, пра горад, куды мелася ехаць пасля заканчэння дзесяцігодкі. Настаўнік і жонка яго, гаспадары кватэры і прыёмныя Асіны бацькі, штосьці заўважылі, бо Веньямін часта лавіў на сабе іх дапытлівыя позіркі. Ад гэтага было яшчэ цяжэй, яшчэ болей непрыемна. Хлопец браў падручнікі і на цэлы дзень ішоў на рэчку, пад мелавую гару, якая высілася на правым, стромкім беразе. Чытаў, глядзеў на спакойныя хвалі Вілюйкі, слухаў гагатанне гусей на лузе.

Пачынаючы з далёкіх юнацкіх дзён, ён пачаў задумвацца над тым, што раней нават не прыходзіла ў галаву. Што такое дзяўчаты, жанчыны? Жыццё гэтай другой, цудоўнай палавіны чалавечага роду было як бы адгароджана заслонай ружовай смугі, таямнічасцю. Але гэта таямнічасць якраз і вабіла. Пра што дзяўчаты думаюць, мараць, чаго хочуць ад жыцця? Што падабаецца ім у хлопцах?..

Экзамены скончыліся, Веньямін перайшоў у дзясяты клас. Здарылася так, што менавіта Ася запрасіла яго на выпускны вечар дзесяцікласнікаў, куды такія, як Веньямін, не мелі доступу. Ён не ведаў, сама Ася так рашыла ці ёй падказалі бацькі, але ўсё адно яму было прыемна. Там, у гаманлівым гурце хлопцаў і дзяўчат, якія ўжо больш не лічыліся вучнямі, Веньямін зразумеў, што Асі ён не патрэбен. Усе ілюзіі развеяліся. Яе запрашэнне было проста ветлівасцю. На вечар прыйшоў лейтэнант, нядаўні выпускнік дзесяцігодкі. Ён не адыходзіў ад Асі ні на крок — танцаваў, смяшыў яе сваімі жартамі. Божа, як яна на яго глядзела, як лавіла кожнае яго слова, якой здавалася шчаслівай!..

Так, на гэтым школьным вечары скончылася першае Веньямінава каханне. Праўдзівей кажучы, яно не скончылася, яшчэ доўга — бадай, тры ці чатыры гады — ён насіў у сабе вобраз Асі, і ўспамін аб дзяўчыне навяваў лёгкі, прыемны смутак...

## ДОМІК НА ВУЛІЦЫ ПАПАНІНЦАЎ

Веньямін спаў позна — была нядзеля — і прачнуўся з добрым настроем. Вікця, учарашнія згрызоты здаваліся далёкімі-далёкімі. За гэтую ноч у душы нешта адбылося. Успомніўшы ўчарашняе, ён адчуў, што не хоча ісці да Вікці, не хоча шукаць з ёю стрэчы, каб не ставіць сябе ў смешнае становішча. Ён як бы вызваліўся ад пакутлівага цяжару, што прыгнятаў душу, і ад гэтага было радасна. Недзе ў глыбіні свядомасці усё ж тлела іскарка трывожнага пачуцця, і Веньямін, лежачы ў ложку, стараўся выявіць яе і патушыць. «Шукаў Бандарэнка, штосьці хоча сказаць»,— успомніў ён учарашнія словы Варывончыка і зразумеў, што менавіта яны яго трывожылі. Ён не хацеў

бачыць Бандарэнкі, не хацеў нічога чуць пра Вікцю. У гэтым было заспакаенне.

Хлопцы разышліся, у пакоі адзін ён. Варывончык і Змачынскі, вядома, пайшлі ў бібліятэку, Мудрык блукае па гораду. Дзе Шохан, Веньямін не ведае. У апошні час з Шоханам робіцца нешта незразумелае. Раней быў ценем Мудрыка, хадзіў толькі з ім, ва ўсім яму падтакваючы. Цяпер адасобіўся, стаў неразгаворлівы, змрочны. Накінуўся на гісторыю — чытае пра старажытны Вавілон, пра Парыжскую камуну, пра эпоху Івана Грознага. З хлопцаў, з якімі разам жыве, Веньяміну найболей падабаюцца Варывончык і Змачынскі. Галоўнае — у іх не бывае выпадковасцей, зрываў. Ведаюць, што вучоба ёсць вучоба. Свядома рыхтуюцца стаць настаўнікамі. Страсці, каханне іх як бы абмінаюць. Недзе тут пачынаецца і Веньямінава крытыка залішняй цвярозасці дружбакоў. Іншы раз яму здаецца, што ў хлопцаў пэўны прыцэл, разлік, а разліку Веньямін не любіць. Але такія настроі ненадоўга. Варывончык і Змачынскі — з вёскі, ціхмяныя па натуры, сарамлівыя. Так думае пра сяброў па пакоі Веньямін. Ён старэй за ўсіх, з кім жыве, на тры-чатыры гады, служыў у арміі, таму дазваляе сабе крыху звысака глядзець на паводзіны і ўчынкі хлопцаў. «Мы почитаем всех нулями, а единицами себя...»

Паснедаўшы ў кафэ, Веньямін рушыў у букіністычны магазін. З усіх кніжных магазінаў ён найбольш любіць букіністычны. Там часам знойдзеш кнігу, пра якую і не марыш. І наогул прыемна трымаць у руках том, выдадзены пяцьдзясят, а то і цэлых сто гадоў назад, гартаць пажоўклыя старонкі, адчуваючы, што кнігу чытала многа людзей, якія належалі да зусім іншых часоў. Старая кніга як бы злучае сённяшняе з даўно мінулым, тым, што адляцела ў нябыт, але тым не меней працягвае жыць.

Калі ў Веньяміна што-небудзь і ёсць, дык у першую чаргу кнігі. За тры гады навучання ў інстытуце кніг ён накупляў нямала, патраціўшы на іх добрую палавіну тых грошай, якія ўдалося зарабіць. Там, у вёсцы, дзе жыве маці, у пакойчыку, які займаў ён,— цэлая бібліятэка. Яна збіраецца ўжо шаснаццаць гадоў — усё свядомае Веньямінава жыццё. Веньямін будзе настаўнікам, а настаўніку больш за ўсё патрэбна кніга.

Веньямін часта думае пра вёску і пра настаўніка. Вёску ён любіць да болю ў сэрцы, любоўю чыстай і самаадданай. На бязмежных прасторах, сярод палёў, лясоў і балот загубіліся тысячы вёсак і вёсачак. Не да ўсіх іх вядуць шырокія тракты і шасейныя дарогі, не ўсюды горда крочаць высокія слупы электраліній. Колькі яшчэ ёсць вёсак, дзе і радыё няма, дзе кіно бывае гады ў рады.

Веньямін нібы бачыць закіданую снегам лясную вёсачку з белымі купкамі хат, з санным следам па адзінай вуліцы, з чародкамі хлапчукоў і дзяўчатак, якія шыбуюць у школу. Вечарам над аснежанымі стрэхамі зацяты пошум лесу, на белай вулачцы ланцужок агнёў. Настаўніца правярае сшыкі. Вучні, нахіліўшыся над сталом, рыхтуюць урокі. А што робяць астатнія? Добра, калі ёсць гарманіст, які-небудзь дэмабілізаваны сяржант, якому знайшлі ў калгасе пасаду, і таму ён не паехаў на цаліну ці ў горад. Тады хоць вечарынка, разлівісты рып гармоніка, дзявочы смех і гоман. Кавалераў дзяўчатам не хапае, найлепшыя кавалеры ў арміі ці ў горадзе, і даяркі, цялятніцы танцуюць адна з адной. А калі і гарманіста няма?..

Заняты гэтымі думкамі, Веньямін падышоў да букіністычнага магазіна. Магазін, або, дакладней, не надта вялікая напалавіну падвальная крамка з патрэсканай, мясцінамі аблезлай шыльдай, якая вісіць на ўзроўні ног пешаходаў, знаходзіцца на бакавой, не вельмі людной вуліцы горада. Тут грыміць трамвай, даўно перасялены з цэнтральнага праспекта, равуць маторамі грузавікі, іншы раз нават цокаюць па бруку падковамі вялізныя, махнатыя біцюгі, якія развозяць паклажу па раскіданых у глухіх завулках крамах і ларках.

У букіністычнай крамцы — сталае кола наведвальнікаў. Калі б ні завітаў сюды Веньямін, ён сустракае знаёмыя, многа разоў бачаныя твары. На паліцах, на прылаўку, проста на падлозе ля парудзелай сцяны старыя, пабываўшыя ў сотнях рук кнігі, падклееныя, падрамантаваныя пераплётчыкамі, але ўсё адно з нявытраўленым водарам старадаўнасці, які нібы патыхае ад іх пажаўцелых старонак. Загадчык крамкі — нізенькі, рухавы, з сівой казлінай бародкай — знешнасцю і абыходжаннем з пакупнікамі цалкам пасуе да тавару, якім гандлюе. Ён

страшэнна ветлівы, а сталых кліентаў сустракае з незахаванай радасцю.

Веньямін падышоў да паліцы. Ля суседняй паліцы інстытуцкі выкладчык зарубежнай літаратуры Петрашкевіч. Калі Петрашкевіч корпаецца ў кнігах, ён нікога не бачыць і не чуе. Перабіраючы, гартаючы кнігі, Веньямін і сам на ўсё забыўся. Асаблівых знаходак няма, кнігі найболей прыродазнаўчыя, тэхнічныя, відаць, безнадзейна ўстарэлыя. Усё цікавае адразу расхопліваюць прагныя кнігалюбы, якія прыходзяць, калі крамка толькі адчыняецца. Нарэшце і Веньямін натрапіў на скарб. Квадратная кніжачка з іжыцай і фітой у радках — томік вершаў французскага паэта Бадлера. Пра Бадлера Веньямін ведае не шмат, бадай толькі тое, што чуў на лекцыях — заснавальнік паэзіі «сусветнага смутку». Два яго вершы чытаў у хрэстаматыі па зарубежнай літаратуры. Томік называецца «Кветкі зла» і каштуе не вельмі танна.

Веньямін азірнуўся: хацеў пахваліцца знаходкай Петрашкевічу, але той ужо знік.

Бадлера купіў, выйшаў на вуліцу, смакуючы наперад асалоду, з якой будзе глытаць незнаёмыя, звонкія радкі, няхай сабе поўныя матываў «сусветнага смутку». Бадлер усё-такі паэт, і напісанае ім — паэзія.

Дзень разгортваўся ўдала. Ды і дзень цудоўны — сонечны, цёплы, з ласкавай сінечай неба, усеянага лёгкімі белымі хмурынкамі. Верасень — месяц святла, празрыстасці, асмужаных, аксамітавых даляў, якія гавораць сэрцу пра смутак расстання з зялёным летам. Гарадскія людзі — свядома ці несвядома — у гэты нядзельны дзень імкнуцца на прастор, за межы каменных гмахаў і кварталаў. Трамваі, тралейбусы, прыгарадныя цягнікі перапоўнены. Горад мае цяпер возера — дзякуючы запрудам выйшла з берагоў і разлілася ўшыркі балоцістая рачулка, а далей яшчэ адно, значна большае па памерах возера, якое нават называюць морам. У моры — рыба, над морам — чайкі, па берагах — бярозавыя гаі і сасоннікі. На возера, на мора, у лес па грыбы імкнуцца гарадскія людзі, уцякаючы ад тлуму і мітусні, прагнучы свежага паветра, сонца, цішыні.

Час падбіраўся пад поўдзень, варта было яшчэ паблукаць па кніжных магазінах, перакусіць, а потым зашыцца кудынебудзь у парк і аддацца Бадлеру. На праспекце Веньямін нечакана сустрэўся з Бандарэнкам. Бандарэнка апрануты фацэтна — сарочка размалявана ў чырвона-сінія пакручастыя палосы, блакітнага колеру штаны да таго шчыльна аблягаюць ногі, што нагадваюць споднікі. Вузкі, прадаўгаваты твар зарос шчацінай, кучма цёмных валасоў на галаве як незавершаны стог. Веньямін спахмурнеў: прадчуванне не падвяло.

— Вітанне, стары! — усклікнуў Бандарэнка.— Я шукаю цябе вечнасць.

— Ты як рабінзон,— не тоячы непрыхільнасці, сказаў Веньямін.

— Не прыдзірайся, стары. Калі ты наконт апранахі, то я проста плыву за модай. І не наскакваю на другіх. Ты, як ахламон, прэеш у чорным пінжаку, але ж я маўчу.

— Лепш у пінжаку, чым у адзенні папуасаў.

— Як на чый густ. Давай без шпілек. Маю навіны. Пра знаёмую нам абодвум сіньярыту...

Тое, чаго баяўся Веньямін, ад чаго ўцякаў нават у думках, мусіла здарыцца.

— Пляваў я на сіньярыт,— сказаў Веньямін.

— Ну, не кажы. Ведаем, як ты плюеш.

Яны звярнулі з праспекта і пайшлі па бакавой вуліцы, якая вяла да стадыёна. На футбольны матч шчыльным, шырокім натоўпам плыў народ. У натоўпе лёгка згубіцца, і Бандарэнка ўзяў Веньяміна пад руку. Не даходзячы да стадыёна, яны выбіліся на паралельную праспекту вуліцу і пайшлі ў напрамку інтэрната. Веньямін ні аб чым не пытаўся. Бандарэнка, як бы адчуваючы сваю ўладу над ім, глыбакадумна маўчаў.

— Віцця — дрэнь,— нарэшце нібы стрэліў ён.— Такая, як і ўсе. Забудзь пра яе...

— Чаму ты так гаворыш? — халадзеючы ў душы, ціха спытаў Веньямін.

Ён ведаў, што пытацца пра Віццю ў такога чалавека, як Бандарэнка, нядобра, што той рад бачыць яго панылым, разгубленым. Але іначай не мог. Цяпер ён хацеў усё ведаць пра

Вікцю — няхай самае брыдкае і абразлівае. Калі ведаюць другія, павінен ведаць і ён.

— Дрэнь, і ўсё! — тонам, які не дапускае пярэчання, сказаў Бандарэнка.— Ты ведаеш, чаму яна ад цябе ўцякае?

Цяжка такім, як Веньямін, у жыцці. Іх душа настроена на высокае, ідэальнае, што ёсць у чалавеку, і калі прыходзіцца сутыкацца з нізкім і непрывабным, яны перад ім безабаронныя. Патрэбен час, патрэбна вялікая работа душы, каб пераадолець бездань, якая ўтварылася паміж уяўленнем пра жыццё і тым, што яно ў дадзеным выпадку чалавеку падсунула. Веньямін і раней прадчуваў, што Вікця нездарма ад яго ўцякае, што здарылася дрэннае. Але то была здагадка, ён мог думаць так і гэтак, цяпер няяснае і хісткае ўвасобілася ў канкрэтныя, горкія словы, якія кідаў яму ў твар Бандарэнка. Веньямін маўчаў...

— Круціць хвастом твая Вікця. Знайшла другога, лепшага. Ты хто? Непрыкметны настаўнік. Загоняць у вёску, закапаешся са сваімі ўрокамі, сшыткамі, бацькоўскімі сходамі. А яна хоча прастору, адчуваць жыццё пяццю органамі. Каб святло і ззянне!.. Таму і пабегла за гэтым ардынатарам, як толькі кіўнуў ёй пальцам!

— За якім ардынатарам? — халадзеючы, спытаў Веньямін.

— Ды ёсць такі. Прозвішча Хмялеўскі. Страшэнны бабнік. Але морда нішто, фатагенічная, і гаварун. Каго хочаш звабіць... Дачакаецца — зробяць яму цёмную...

Бандарэнка гаварыў злосна, з надрывам, сціскаючы кулакі, і Веньямін адчуў — не хлусіць...

Праз гадзіну яны сядзелі над брызентавым тэнтам на пероне вакзала, пілі гарэлку і піва, закусвалі памідорамі. Адыходзіў маскоўскі цягнік. Перад прыгожымі спальнымі вагонамі было людна, тлумна. Мужчыны, не саромячыся, абнімалі і цалавалі жанчын, гучна выкрыкваліся развітальныя словы. Потым цягнік паволі крануўся, тыя, што стаялі ў вокнах вагонаў, і тыя, што засталіся на платформе, махалі рукамі. Гэта быў прыгожы і крыху сумны малюнак. Як толькі адышоў маскоўскі цягнік, прыбыў прыгарадны. З зялёных запыленых вагонаў выходзілі дачнікі, грыбнікі, рыбаловы і проста ўсе, хто ў гэты нядзельны дзень выязджаў на ўлонне прыроды. Мужчыны неслі на руках дзяцей, кошыкі з грыбамі,

вуды, спінінгі, жанчыны таксама ішлі з кошыкамі і некаторыя — з познімі, асеннімі кветкамі.

— Вып’ем,— сказаў Бандарэнка, наліваючы з бутэлькі, схаванай пад столікам.— Не вешай носа. Яна не варта таго, каб сумаваць па ёй...

Веньямін маўчаў. Яму было балюча і сумна, і ён не таіў свайго настрою. Думаў пра Віцю. Не ўсё ў тым, як яна з ім абышлася, было яму зразумела, і якраз гэтае незразумелае больш за ўсё прыгнятала. Тады, вясной і летам, яна была шчырая ў сваіх пачуццях да яго. Гэтага нельга забыць, каб ён і захацеў. Шчырасць не выдумаеш, не прымусіш сябе быць шчырым. Гэта ўмеюць адны артысты, ды і то толькі на сцэне. Усё астатняе — найгрыш. Віцця не мела ніякай прычыны прытварацца перад ім. Ён падабаўся ёй. Дык што ж здарылася? Можна пагадзіцца, што ёй яшчэ болей спадабаўся другі, гэты самы Хмялеўскі, які займаецца ў ардынатуры. Але чаму яна ўцякае ад яго, Веньяміна? Няўжо не можа сказаць ці хоць бы намякнуць, што любіць другога? Ён бы тады ад яе адразу адчапіўся, не надакучаў ёй, захаваўшы ў душы да яе павагу. Гэта было б прыгожа. А так брыдка. Ёсць штосьці ганебнае, нізкае ў тым, што Віцця не хоча яго бачыць. Смяялася з яго жартаў, цалавала, пісала лісты, а цяпер уцякае. Ніхто не прымушаў яе гэта рабіць. Калі была шчырай раней, то чаму не можа цяпер? Сумленне не дазваляе? Значыць, адчувае сама, што робіць несумленна...

— Пі,— торгае Веньяміна за рукаў Бандарэнка.— Вып’еш — лягчэй стане. Ты хочаш да ўсяго дайсці розумам. Што-што, а розум, брат, у гэтых справах і не начаваў. Я ведаю, сам абпёкся... Звычайны секс. Мы, медыкі, ведаем. Пагоня за вострымі адчуваннямі. Адным словам, хап за момант...

— Не гавары глупства.

— Не глупства, а сапраўдная рэальнасць, якой трэба глядзець у твар. А ты, як той страус, хаваеш галаву ў пер’е. Глядзіш на сённяшніх дзяўчат праз тургенеўскія раманы. Выплюнь і забудзь. Гэта табе не дзевятнаццатае стагоддзе.

— То чаму Тургеневым захапляюцца і цяпер? — спытаў Веньямін.

— Чытаць адно, а жыць другое. Мы, мужчыны, прывыклі да думкі, што жанчыны глядзяць на нас як на рыцараў. Зрабіў подзвіг, атрымлівай ва ўзнагароду каханне. Дзіцячыя байкі, брат. Не тая сёння жанчына. Яна сама робіць подзвігі. Сама канчае інстытут, ляціць у космас, сама зарплату атрымлівае. І хоча пакаштаваць жыццё ва ўсіх яго аспектах.

Веньямін здзіўлена зірнуў на Бандарэнку. Зямляк суцяшае яго, і не варта блага аб ім думаць. З тым, пра што той гаварыў, Веньямін не пагаджаўся і ніколі не здолеў бы пагадзіцца. Але нельга было адмаўляць, што ў Бандарэнкі адмысловыя погляды, няхай сабе крыўдныя і абразлівыя. Відаць, таксама пакутаваў і думаў.

— Дык што ж, па-твойму, знікне каханне? — спытаў Веньямін.— Гэта ж самае вялікае і прыгожае, што ёсць у чалавека.

— Давай вып’ем,— падняў шклянку Бандарэнка.— Не люблю філасофіі на цвярозую галаву.

Выпілі. На пероне зацішша — ні цягнікоў, ні пасажыраў. Па перакідному масту крочаць рэдкія прахожыя. Сонца вісіць на ўзроўні парэнчаў моста — зыркае і негарачае. На стадыёне гучна крычаць — забілі гол. Стаіць тая асаблівая гадзіна, калі дзень канчаецца, а вечар не надышоў.

— Каханне ёсць,— згаджаецца Бандарэнка.— Толькі яно не такое, як табе хочацца. Ну, не на ўсё жыццё. І ў надзеі напаткаць каханне дзяўчына не баіцца памыліцца. Памылілася раз, другі, а на трэці — знойдзе. Што яна траціць? Прафесія ў яе ёсць, зарплата таксама, а хлопцаў нараджаецца столькі, колькі і дзяўчат. Кожнаму будзе пара. Вынікі эмансіпацыі, з якімі мы, мужчыны, павінны лічыцца.

— Гэта не каханне, а падробка пад яго, сурагат! — злосна выгуквае Веньямін.— Свядомае здрабненне ідэалу. Ад таго, што ты гаворыш, патыхае распустай.

— Не распустай, а ўсемагутным сексам. Паняцці каханне і секс у наш атамны век блытаюцца. Ды і наогул чалавецтва ідзе да палігаміі...

Веньямін п’янее. У душы нарастае, шырыцца хваля злосці невядома на каго. Ён адчувае ў душы пустату, пад нагамі як бы хістаецца глеба, і яму страшна ад гэтага. Рушацца ранейшыя

пазіцыі і ўяўленні. Калі праўда ўсё, што гаворыць Бандарэнка, тады не варта жыць.

— Ты хлусіш,— грукае кулаком па стале Веньямін.— Ты злосна хлусіш! Кожны нясе ў сэрцы песню, і без яе няма чалавека! Бо яна тое запаветнае, што можа адгукнуцца толькі ў адным чалавеку, блізкім і родным табе па духу, па адчуванню прыгажосці!..

— Цішэй ты! — спалохана просіць Бандарэнка.— На нас глядзяць...

— Я пытаюся ў цябе: ты верыш у тое, што сказаў? — злосна настойвае на сваім Веньямін.— Няўжо ты не бачыў чыстых, прыгожых дзяўчат? Якім можна даверыць сэрца, розум, душу? Ніводная табе не сустрэлася?..

— А табе сустрэлася? — павярнуўся Бандарэнка.— Чаго ты да мяне прычапіўся?.. Я табе сказаў праўду: Віцця — дрэнь. За свае словы адказваю. Як земляку хацеў памагчы. Хочаш ведаць, ведай — гэты Хмялеўскі возіць яе за горад. На таксі. Два разы іх бачыў. Ты вазіў яе на таксі за горад? Не дадумаўся. Ну дык маўчы...

Веньямін апусціў галаву на рукі, на стол і цяжка, перарывіста дыхаў. Было пуста, пакутліва і адзінока на душы. У вачах пайшлі чырвоныя і сінія кругі. Хацелася кудысьці бегчы, ехаць, каб не бачыць болей гэтага вакзала, вуліц, інтэрната, разарваць раз назаўсёды пакутлівы, зачараваны круг, у які ён трапіў. Да іх падышла афіцыянтка — яны размаўлялі гучней за ўсіх, хто сядзеў за столікамі пад тэнтам, і на іх пачалі звяртаць увагу.

— Ідзіце адсюль, хлопчыкі,— сказала афіцыянтка.— У нас гарэлку не п’юць, а вы прынеслі. Хочаце ў міліцыю трапіць? Ідзіце зараз жа...

Яны не пярэчылі — усталі і пайшлі.

— Кніжку забылі! — крыкнула наўздагон афіцыянтка.

Веньямін вярнуўся. На краі століка, сярод піўных бутэлек, ляжаў абшарпаны, шэры томік Бадлера. Ён узяў кніжку са стала і засунуў у бакавую кішэнь пінжака.

У прыстанцыйны сквер як бы перамясцілася чакальная зала. Людзі сядзяць на клунках, чамаданах, і хлопцы ледзь знайшлі вольны канец лаўкі, на другім канцы якой сядзеў

пажылы, няголены селянін з хворай белатварай дзяўчынкай, цёпла апранутай.

— Не вешай носа,— зноў сказаў Бандарэнка.— Я не думаў, што ты такі мякіш. Каб ведаў, не гаварыў бы нічога. А пра тое, што гаварыў, забудзь. Мала што можна нагаварыць. Асабліва, калі зальеш за каўнер...

Быў адвячорак. Над іх галовамі ціха шапацелі разложыстыя таполі, на алеі было трохі апалага пажаўцелага лісця. Селянін устаў і, абняўшы за плечы дзяўчынку, відаць, дачку, павёў яе да выхада са сквера.

— Хочаш, я пра сябе раскажу,— прапанаваў Бандарэнка.— Мая гісторыя яшчэ горшая. Ты колькі знаёмы быў з гэтай Віцкяй? Два месяцы — я ведаю. А я, брат, два гады. У госці да яе бацькоў разам з ёй ездзіў. Жыў у іх цэлы тыдзень. І ад варот паварот... На развітанне сказала, што ў мяне ногі пахнуць потам. Ногі можна і памыць.

— Не трэба нічога гаварыць,— папрасіў Веньямін.

Потым Веньямін бачыў сябе нібы ў паўсне. Бандарэнка спытаў, ці ёсць у яго грошы, узяў тры рублі, тры рублі далажыў сваіх і знік, загадаўшы Веньяміну чакаць яго тут, у скверы. Праз паўгадзіны вярнуўся з ёмістым скруткам пад пахай. У магазіне ён купіў што трэба. Праз пярэднія дзверы яны ўскочылі ў трамвай і доўга ехалі, пятляючы па ўскраінах гарадскога прадмесця. Потым яшчэ доўга ішлі, пакуль выбіліся на зялёную, усцяж засаджаную таполямі вуліцу. Домікі тут стаялі, як у якім-небудзь мястэчку,— прысадзістыя, крытыя гонтамі, з бэзавымі гародчыкамі пад вокнамі. Веньямін ведаў, куды ідзе — Бандарэнка вёў яго на вечарынку, якую наладжвалі студэнты-медыкі з выпадку дня нараджэння нейкай Бэлы, якая вучылася на адным курсе з Бандарэнкам. Веньяміну не было ніякай справы ні да Бэлы, ні да дня яе нараджэння. Ён ахвотна згадзіўся ісці на гэтую вечарынку толькі таму, што на ёй меліся быць студэнты-медыкі, з якімі разам вучылася Віцця. Ён не ведаў, чаму яму хочацца быць на гэтай вечарынцы, не хацеў бачыць Віцю, і каб яна раптам аказалася там, ён бы знік. Бандарэнка запэўніў яго, што Віцці не будзе, што ёй не да гэтага, і ўсяляк заспакойваў Веньяміна. «Гульнём»,— гаварыў ён, паляпваючы Веньяміна па плячы, і

Веньямін цалкам з ім пагаджаўся, што менавіта ў гэты вечар і ў гэтай кампаніі ім трэба як след гульнуць.

Яны падышлі да абшаляванага доміка, які нічым асаблівым не вылучаўся сярод іншых такіх на зялёнай вуліцы. Бандарэнка пакінуў Веньяміна ля веснічак. З расчыненага ў гародчык акна даносіліся гукі радыёлы, галасы даляталі і з двара. Хутка вярнуўся Бандарэнка разам з высокай, стройнай дзяўчынай у белай атласнай сукенцы з вялікім выразам на грудзях.

— Бэла,— сказала дзяўчына, працягнуўшы яму руку, і ён паціснуў гэтую руку, не ведаючы, што далей трэба гаварыць.

Бэла акінула Веньяміна цікаўным позіркам, усміхнулася і нічога не сказала.

Двор гарадскі, дагледжаны — дарожка да высокага, мураванага ганка пасыпана жоўтым пяском, невысокі, пафарбаваны ў зялёны колер паркан, на які звісаюць кусты агрэсту і жоўтых асенніх вяргінь.

У прасторнай зале, дзе апрача накрытага стала і вузенькіх кушэтак больш нічога няма, стаіць той шматгалосы тлум, які сведчыць, што весялосць у разгары, што госці даўно перайшлі мяжу ўмоўнасці і не вельмі зважаюць адно на другога. Бандарэнку сустрэлі вясёлымі воклічамі і адразу пакінулі ў спакоі, а на Веньяміна наогул ніхто не звярнуў увагі. Іграе не радыёла, як на вуліцы здалося Веньяміну, а пракручваецца лента магнітафона. Музыка джазавая, прыглушаная, неспакойна-нервовая.

Хмель у Веньяміна прайшоў, і ён адчувае сябе ніякавата. З усіх, хто ў зале, бадай адзін ён парыцца ў чорным пінжаку з вялікімі адвіслымі лацканамі. «Як дзядзька ў Вільні»,— мільгнула думка. Хлопцы, як і Бандарэнка, усе ў пярэстых сарочках і ў вузкіх, у абцяжку, штанах, дзяўчаты ў кароткіх, з недарагога матэрыялу, але таксама пярэстых сукенках з вялікімі выразамі на грудзях і спіне. Дзявочыя ўборы не вызначаюцца складанасцю і, здаецца, маюць на мэце адно — не схаваць ад чужога позірку нічога такога, што ў выгадным святле паказвае ўладальніцу сукенкі.

Веньяміна пасадзілі за стол, побач з ім села маленькая, беленькая, падстрыжаная пад хлопца медычка — Мая. Па правую руку сядзеў Бандарэнка, і гэта надавала Веньяміну

смеласці. Бандарэнка наліў у кілішкі, і яны спачатку выпілі за Бэлу, якая ў патрэбны момант вынырнула з мітуслівай талакі танцораў, потым за знаёмства з Маяй і, каб не было крыўдна Бандарэнкавай суседцы,— за яе.

Круцілася лента магнітафона, плыла млявая, як бы з падвываннем і кваканнем, музыка, нібы ў паўсне, ледзь перастаўляючы ногі, танцавалі парачкі, і Веньяміну зрабілася весела. Хацелася вызначыцца, звярнуць на сябе ўвагу. Ён пачаў жартаваць, гучна расказаў Маі не вельмі прыстойны анекдот. Маю ён зацікавіў. Спачатку яна нездаволена моршчыла маленькі носік, але праз хвіліну глядзела на Веньяміна здзіўлена, як бы не верачы, што гэты, на першы погляд, медзведзяваты, хлопец можа смяшыць і развясельваць. А Веньямін стараўся з усіх сіл. Ён бачыў, што не толькі Мая, але і Бандарэнкава суседка, і нават дзяўчаты, што сядзелі на процілеглым канцы стала, прыслухоўваюцца да яго слоў і смяюцца.

Веньямін, захапіўшыся тым, што расказваў, не заўважыў, як скончылася музыка і як усе, хто танцаваў, паселі за стол. Ён апынуўся ў цэнтры ўвагі. Гэтая акалічнасць, калі і збянтэжыла Веньяміна, дык толькі на адно імгненне. Ён устаў і прапанаваў тост за французскага караля Людовіка I, агаварыўшыся, што ўсе наступныя тосты будуць за астатніх Людовікаў, каб нікому з іх не было крыўдна. Стол выбухнуў рогатам. Веньямін сам не чакаў такога поспеху: для медыкаў заезджаны тост за Людовікаў быў навіной.

Сядаючы, Веньямін злавіў на сабе калючы, насмешлівы позірк. Чалавек, які глядзеў на яго, знаёмы, нават добра знаёмы — аспірант Саша Красуцкі, ён жыве ў тым жа інтэрнаце, што і Веньямін. Дзіўна, чаму ён раней яго не заўважыў?

Нядобрае пачуццё варухнулася ў Веньямінавай душы. «Ад студэнтаў дзевак адбіваюць тлустыя, вучоныя сычы...» Красуцкі — высокага росту, прыгажун, здаравяк, мае спартыўны разрад і піша дысертацыю. Паклоннiц ён мае многа і на літаратурным факультэце, але, відаць, яму іх не хапае, і ён ходзіць яшчэ сюды, да медыкаў.

Веньямін выпівае адзін за адным тры кілішкі. Бандарэнка торгае яго за рукаў, але ён не слухае. Ён хоча быць п’яным і

хоча, каб на яго звярталі ўвагу. Праз хвіліну ён зноў устае і гучна заяўляе, што п’е толькі за сінія вочы. Некалькі дзяўчат пляскаюць у далоні, астатнія гучна пратэстуюць.

Хутка ў Веньяміна з’явіўся канкурэнт, як сказала яму Мая, студэнт тэатральнага інстытута. Гэта быў высачэзны, яшчэ вышэйшы за Веньяміна, дзяціна, з вузкім, прадаўгаватым тварам і чорнай грывай валасоў. Ён быў, бадай, прыроджаны комік, бо ўмеў сур’ёзна гаварыць смешныя рэчы. Яны спаборнічаюць, але лёгка, без жадання прынізіць суперніка, без злосці, прасякнутыя павагай адзін да другога. Ніколі ў жыцці Веньямін не адчуваў сябе такім дасціпным, здольным на выдумку. Сыпаў жартамі, смешнымі выслоўямі, чытаў на памяць Блока і Ясеніна і скончыў тым, што выцягнуў з кішэні томік Бадлера і пачаў нараспеў чытаць сумныя, звонкія радкі. За сталом устанавілася мёртвая цішыня. Бадлер пакарыў усіх. На Веньяміна з павагай глядзелі нават хлопцы ў стракатых сарочках, некаторыя з якіх дагэтуль хмыкалі і пацiскалі плячамі пасля яго жартаў...

Веньямін праводзіў Маю. Узяўшыся за рукі, яны доўга ішлі ціхай начной вуліцай. Было ўжо далёка за поўнач, шапацелі таполі, з неба на сонны, прыціхлы горад глядзелі чыстыя вераснёўскія зоркі. Мая маўчала. Завулкам яны павярнулі налева, каб выйсці на праспект. Прыхінуўшы дзяўчыну да сябе, Веньямін пацалаваў яе ў вусны. Мая не працівілася. Яе кароткія, як у хлопчыка, валасы пахлі мятай. Не згаворваючыся, яны дайшлі да лавачкі ля высокага дашчанага паркана, з-за якога звісала вішнёвая галіна, прыселі. Веньямін прытуліў да сябе дзяўчыну і забыў пра ўсё...

## АПОШНІМ СМЯЯЎСЯ МУДРЫК

Ехалі з песнямі. Спецыяльна закуплены маршрутны аўтобус падкідвала і трэсла на выбоінах прасёлкавай дарогі. Кожны добры штуршок суправаджаўся выбухам смеху. Студэнты заўсёды смяюцца, калі збіраюцца разам. Нават тады, калі для гэтага няма ніякай прычыны. Цяпер жа прычына была, і немалая. У чацвёртага курса філфака, які з клункамі і чамаданамі

набіўся ў ёмістае чэрава міжгародняга аўтобуса, наперадзе на працягу цэлага месяца не прадбачылася нічога, што б нагадвала сумную вучэбную будзённасць: лекцыі, семінары, практычныя заняткі. Ехалі ў вясковую васьмігодку адбываць практыку пазакласнай работы і памагаць падшэфнаму калгасу капаць бульбу. Там, у вёсцы, ніхто не збіраўся асабліва напінацца. А стыпендыя тым часам сэканоміцца. Таму гэты вольны ад заняткаў месяц здаваўся бясцэнным дарам.

Факультэцкае кіраўніцтва, паслаўшы трэція і чацвёртыя курсы ў вёску, лічыла, што знойдзена ідэальнае выйсце. Па-першае, задаволена просьба падшэфных калгасаў, і гэта добра, гэта можна запісаць на актыў факультэта. Па-другое, студэнты, якія самі хутка стануць настаўнікамі пераважна вясковых школ, адбудуць практыку, можна сказаць, у натуральных умовах. Бо што такое практыка пазакласнай работы, як не работа на прышкольным участку, у полі і на ферме? У сэнсе збліжэння школы з вытворчасцю справа выглядае менавіта так.

Дзень ціхі, празрысты. Негарачае асенняе сонца лашчыць пажоўклыя бярозавыя гаі, шырокія загоны зялёнай азіміны, шэрыя, апусцелыя палі, на якіх ужо ўсё зжата, убрана, застагавана і засталася адна толькі бульба. Мільгаюць тэлеграфныя слупы з тоненькай ніткай сельсавецкага провада, старыя купчастыя ліпы, сям-там па ржышчы і на лугавінах пасвяцца статкі. Пейзаж прыгожы. Жанчыны і дзяўчаты, якія капаюць бульбу, а таксама пастухі праводзяць аўтобус доўгімі, здзіўленымі позіркамі. Не часта ўбачыш на крывой прасёлкавай дарозе такі вясёлы аўтобус.

А ў аўтобусе тым часам весялосць у разгары, нягледзячы на тое, што трасе філолагаў ужо болей за гадзіну. Слава Байдакоў — ён у інстытуцкім хоры з першага курса — стаіць у праходзе, спіной да шафёрскай будкі, па чарзе ўзмахваючы то правай, то левай рукой. Слава дырыжыруе адразу двума харамі, бо спяваць агульную песню абедзве групы чацвёртага курса не хочуць. Калі гаварыць пра самога Байдакова, то з яго боку проста подзвіг, што ён, удзельнік мастацкай самадзейнасці, едзе на бульбу. Павялося здаўна, што ўсе, хто спявае, танцуе, дэкламуе або прадстаўляе факультэт на роз-

ных спартыўных спаборніцтвах, якім і ліку няма, ад усялякай фізічнай работы аслабаняюцца. Аб гэтым своечасова клапоцяцца адказныя за культурна-масавы і спартыўны сектары ў камітэце камсамола і прафкаме.

Слава Байдакоў у дадатак яшчэ і гараджанін. Аніколі яшчэ такога не было, каб усе гараджане, што вучацца на курсе, паехалі на бульбу. У гэты час або яны самі захворваюць, або ў іх пільных клопатах маюць патрэбу родныя і блізкія. Вось і цяпер у аўтобусе няма Бэлкі Вато і Віры Базыльчык. Звычайна шустрая, як вавёрка, Віра захварэла, штодня яе возяць на водныя працэдуры, што пацвярджаецца медыцынскай даведкай, якая ляжыць у дэкана на стале. Што датычыць Бэлкі, то ў яе пры смерці цётка, у нядаўнім мінулым вядомая артыстка.

А аўтобус імчыць. Услед за ім курыць лёгкі, шызаваты пыл. Можа, гэта нават не пыл, а выхлапныя газы, якія адразу раствараюцца ў паветры, бо праз хвіліну зноў трымціць над полем і дарогай празрыстая асенняя смуга. Мільгаюць пералескі, адзінокія дрэвы, па правы бок праплыла і знікла за гаем невялікая з саламянымі стрэхамі вёсачка. У вокны аўтобуса ніхто не глядзіць, апрача аспіранта Сашы Красуцкага, які пасланы кіраўніком педпрактыкі і старшым над чацвёртым курсам. Калі гаварыць праўду, дык яшчэ не было выпадку, каб на бульбу пасылалі аспірантаў трэцяга, а значыць і апошняга года навучання. А Сашу вось паслалі. Па-першае, ён актывіст і лічыцца найлепшым з аспірантаў. Дысертацыя ў яго напісана, рыхтуюцца да друку артыкулы. І на работу Сашу збіраюцца пакінуць у пединстытуце, пры якім ён заканчвае аспірантуру. Так што ў аспіранта, хоць ён і апошняга года навучання, не было ніякіх падстаў адмаўляцца ад паездкі на бульбу і ад кіраўніцтва педпрактыкай студэнтаў у вясковай васьмігодцы.

Саша Красуцкі сядзіць на ўзвышэнні, на тым месцы, дзе звычайна знаходзіцца касір, і пазірае ў акно. Месца гэтае ён не выбіраў, проста яно засталося незанятым, але ўсё адно некаторыя з дзяўчат, азірнуўшыся, хіхікаюць у кулак. Сашаў твар строгі. Хлопец не спявае, усю дарогу маўчыць, нешта абдумваючы. Думае, можа, пра тое, як спалучыць практыку

пазакласнай работы з капаннем бульбы? Ён, калі вучыўся ў інстытуце, і на бульбе ні разу не быў, і ў школе не працаваў, таму ў душы пабойваецца сваёй місіі.

Дзяўчаты азіраюцца і хіхікаюць хутчэй за ўсё таму, што сёе-тое пра яго ведаюць. Два гады назад, калі чацвёрты курс быў другім, у Сашы была гісторыя са студэнткай гэтага курса. Яе цяпер няма, перавялася на завочнае, але ўсё адно непрыемна.

На твары Веньяміна Сыраежкі, які сядзіць ззаду, сярод клункаў і чамаданаў, задуменны спакой. Ён рад, што едзе з горада, што сядзіць у аўтобусе, што ў акне мільгаюць палі і пералескі. Месяц у вёсцы — ратунак для Веньяміна. Дарэмна толькі, што з імі гэты аспірант, сведка яго п’янага красамоўства на вечарынцы медыкаў. І трэба ж, каб іменна яго паслалі. А наогул Веньямін не вельмі зважае на Красуцкага. Ён яго не любіць, пагарджае ім.

Саша ўздрыгнуў. Аўтобус так моцна трасянула, што з горкі чамаданаў упаў на падлогу і расчыніўся вялікі фанерны чамадан Варывончыка. Песні сціхлі, патануўшы ў рогаце. Апрача кніг, з чамадана вываліліся пара старых чаравікаў і дзве дзесяцікілаграмовыя гантэлі.

— Увага! — загаманіў Мудрык.— Тайна Варывончыка раскрыта. Ён адкрывае ў Князевым Сяле спартыўны клуб. Запіс пагалоўны. Не выключаючы дзядоў і бабулек. Намахаўшыся гантэлямі, старыя і малыя кінуцца капаць бульбу!..

Каржакаваты, у вайсковым кіцелі, Варывончык, чырвоны як памідор, поўзае па падлозе, збірае манаткі. Варывончыка ведаюць на курсе як чалавека практычнага. Аб гэтым сведчаць і старыя чаравікі, якія ён не забыў прыхапіць. Але ж везці дваццаць кілаграмаў жалеза ў чамадане — недарэчнасць...

Саша Красуцкі ўпершыню засмяяўся разам з усімі. Ён адарваў позірк ад акна, і таму не заўважыў, што дарога пайшла лесам. Прабегшы метраў з сотню, машына спынілася. Студэнты высыпалі на дарогу.

Шафёр ведаў, дзе спыніцца. Мясціна адменная. Да самай дарогі падступаюць два вялікія дубы і стары, разлапісты клён. Яны — нібы вартавыя, пасланыя лесам насустрач падарожным. За палянкай, што зелянее атавай, ідзе суцэльны лес —

бярозы, дубы, асіны. Восень афарбавала кожнае дрэва ў свой колер, і лес, перад тым як скінуць летняе адзенне, зіхаціць дзіўным убраннем. Медна-барвовыя шапкі асін суседнічаюць з сонечна-светлымі, стромкімі макаўкамі бяроз. Нібы вялізныя вогнішчы сярод гэтага, шчодрай рукой разлітага золата, палымнеюць купчастыя кроны клёнаў. Толькі дубы не спяшаюцца мяняць звычайнага летняга адзення на гэтыя, няхай сабе прыгажэйшыя, але няпэўныя, нядоўгія абновы. Дубы стаяць яшчэ зялёныя, толькі зрэдку, нібы сівізна ў валасах, прабіваецца і ў іх шатах жоўтае лісце.

Веньямін, акінуўшы позіркам гэты куток хараства, адчуў прыліў натхнення, хацелася крычаць і дурэць. Ён трасянуў чупрынай, скрыжаваў рукі на грудзях і, задраўшы ўгору галаву, пачаў прамову:

— Слухайце мяне, старыя дубы і ты, шыракалісты клён, таксама слухай! — загукаў ён, застыўшы нібы ў малітве.— Прыміце пад свае шаты дзяцей тлумнага, мітуслівага горада. Дзеці гэтыя, абмачыўшы вусны свае пітвом розных навук, ахмялелі, забылі пра вас, дубы, і пра цябе, асенні лес, таксама забылі. Бо не ведаюць, што робяць. Даруйце ім іхнюю віну, старыя дубы,— яна ад маладой крыві і няспелага розуму...

Дзяўчаты, захіхікаўшы і нават не даслухаўшы да канца Сыраежкавай прамовы, кінуліся ў лес — па левы бок дарогі.

— Пачакайце! — крыкнуў ім услед Веньямін.— Лес вас не прыме. Лес не прымае непасвечаных!..

Сыраежку не слухалі. Нягледзячы на яго перасцярогу, дзяўчаты ўсе, як адна, зніклі між дрэў. Лес, відаць, іх прыняў, бо ніводная не папрасіла дапамогі.

— Збірайце грыбы-ы-ы! — гукнуў напаследак Веньямін і сам шуснуў у лес — па правы бок дарогі, услед за хлопцамі.

Хвілін праз дзесяць усе сышліся да аўтобуса. Дзяўчаты вярнуліся з пустымі рукамі, толькі Зіна Бандарчык, высокая, смуглая, з насмешлівымі вачыма, працягнула Веньяміну два крамяныя, чырвонагаловыя падасінавікі.

— Ты святая, Зіна! — усклікнуў Веньямін, па чарзе пацалаваўшы грыбы ў каптурыкі.— Веру, што ад тваіх рук ніколі не пойдзе пошасць. Яны будуць сеяць толькі вечнае і добрае.

Саша Красуцкі са здзіўленнем зірнуў на Веньяміна: ён не разумеў гэтага доўгага хлапца. Хацелася лічыць яго абмежаваным балбатуном, але штосьці як бы перашкаджала.

Вяртлявы Мудрык сеў у аўтобус поруч з Сыраежкам.

— Ведаеш што, Веньямін. Адзін мой знаёмы служыць на Чукотцы. Дык ён піша...

— Ого, куды загнала!

— Дык ён піша, што ў адным улусе памёр шаман. Патрабуецца новы. Ці не замяніў бы ты яго?

Аўтобус грымнуў рогатам. Даверлівы Веньямін праглынуў горкую пілюлю, а вузкі твар Мудрыка асвяціўся з'едлівай усмешкай.

Праехалі кіламетры два, і лес скончыўся. Вачам адкрылася шырокая, узгоркавая даліна. Наперадзе вынырнулі прысады Князева Сяла.

## БРЫГАДЗІР КІЁК І ІНШЫЯ

Быў пасляпалудзенны час, калі прыехалі ў Князева Сяло. Аўтобус спыніўся каля праўлення калгаса. Будынак праўлення адрозніваецца ад астатніх хат толькі тым, што стаіць на каменным падмурку і мае высокі ганак. Але затое ў вокнах праўлення не хапае трох шыбін. Замест іх жаўцеюць газеты.

Князева Сяло — вёска вялікая і даволі раскіданая. Галоўная вуліца праходзіць па самым грэбні пакатага ўзгорка, схілы якога заняты агародамі. Астатнія вулачкі і завулкі туляцца ўнізе, з узгорка іх нават не ўбачыш. Галоўная вуліца замошчана каменем, ледзь не ў кожным двары садок, перад хатамі старыя ліпы і клёны.

Як толькі аўтобус спыніўся, Саша Красуцкі выскачыў з дзвярэй першы. Ён доўга стаяў і азіраўся, як бы вывучаючы мясцовасць, потым падышоў да студэнтаў.

— Трэба выбраць старшага,— сказаў ён.— Магчыма, я буду адлучацца, ён мяне заменіць.

— Сыраежку! — гукнулі дзяўчаты.— Ён староста групы.

Саша акідвае Веньяміна строгім позіркам:

— Прызначаецеся старшым. Будзеце адказваць за дысцыпліну і парадак.

Усім выглядам сваім Саша паказвае, што лейцы кіраўніцтва ён бярэ ў свае рукі, а Веньямін толькі памагаты.

— Ну, дык я пайшоў дамаўляцца з дырэкцыяй школы,— гаворыць Саша і крочыць уніз па крывой вулачцы, памахваючы туга напакаваным жоўтым партфелем.

Тое, што Саша Красуцкі адразу пайшоў у школу,— памылка, але ні Веньямін, ні студэнты нічога свайму кіраўніку не сказалі. Трэба спачатку дамовіцца з праўленнем калгаса, бо яно, а не хто іншы, будзе размяшчаць студэнтаў па хатах і карміць. Зрэшты, яны прыехалі капаць бульбу. Практыка пазакласнай і піянерскай работы — справа другарадная. У горадзе яе праходзяць без адрыву ад заняткаў.

У праўленне накіраваўся Веньямін. Борзда падняўшыся па прыступках ганка, ён зайшоў у калідорчык і пастукаў у першыя дзверы. Ніхто не адазваўся. Тады Веньямін піхнуў дзверы рукой, яны з рыпам адчыніліся, і ён зайшоў у пакой. У нос дало кіслым, застоеным паветрам. На дубовым канцылярскім стале ў беспарадку ляжалі паперы. Неахайнасць і бруд панавалі ў пакоі. Сцены даўно не белены, падлога заплёвана, закідана акуркамі, агрызкамі яблыкаў. «Справа дрэнь,— падумаў Веньямін.— Наўрад ці дапусціць добры старшыня такі свінушнік у праўленні».

Веньямін выйшаў у калідорчык і ўжо без стуку адчыніў другія дзверы. Тут сталоў стаяла аж тры. За адным сядзела яшчэ даволі маладая круглатварая жанчына з прыплюснутым павекам правага вока і ляскала на лічыльніках. На Веньямінава прывітанне яна адказала ледзь прыкметным кіўком.

— Мы прыехалі,— сказаў Веньямін, стараючыся ўкласці ў свой голас як мага больш далікатнасці.

На аднавокую яго словы, аднак, не зрабілі ніякага ўражання. Яна працягвала ляскаць на лічыльніках.

— Студэнты прыехалі памагаць калгасу капаць бульбу,— паўтарыў Веньямін.

Круглатварая абыякава ляскала на лічыльніках, як бы не чуючы яго слоў.

— Дзе старшыня? — павысіўшы голас, спытаў Веньямін. Ён пачынаў траціць цярпенне.

— Я за старшынёй не хаджу,— адказала жанчына, пацвердзіўшы сваімі словамі толькі тое, што яна не глухая.

— Ёсць у калгасе хто-небудзь з кіраўнікоў? Аграном, брыгадзір?

— Шукайце, калі вам трэба. Яны мне не кажуць, дзе ходзяць.

— Калі гэтак нас прымаюць, то мы зараз сядзем у аўтобус і паедзем назад! — са злосцю выгукнуў Веньямін.— Адрываюць ад вучобы, просяць памагчы, а потым чорт ведае што. Як бы мы самі набіваемся. Што ж нам, начаваць на дварэ?

— Чаго вы да мяне прычапіліся? — палагаднеўшым голасам стала апраўдвацца жанчына.— Хіба я старшыня ці брыгадзір? Я ўчотчыца з фермы. У мяне вунь недастача, судзіць збіраюцца. Старшыня сёння не прыедзе. У раёне жыве... А брыгадзір, можа, спіць дзе-небудзь у катуху. Пахмяляўся з раніцы. Пазаўчора ж была Прачыстая. Павінен аграном падысці...

«Парадачак»,— думае Веньямін і злосць на жанчыну ў яго прападае. Ён ужо дакарае сябе, што пагарачыўся. Паўнамоцтваў крычаць яму ніхто не даваў.

— Скажыце,— зноў пытаецца Веньямін,— пэўна ж было рашэнне сходу ці праўлення, каб запрасіць нас на помач? Можа, мы самі дамовімся з калгаснікамі і размесцімся па хатах? Хіба мы рабіць не ўмеем?

— Не было ніякага рашэння. Праўленцы былі супроць. Старшыня сам рашыў. У раёне пагаварыў і рашыў.

— Хіба вам помач не трэба?

— А і не трэба! — рашуча выгукнула жанчына.— Далі б дзясяты пуд, то і самі выкапалі б. Ну, можа, пакрыўдзілі б сяго-таго. Такіх, як я, напрыклад. Тыя, што на фермах робяць, бульбы не зарабілі б.

— Дык чаму ж не даюць дзясяты пуд?

— Начальнікам так спакайней. Прывязуць такіх, як вы, пакалупаюць зямлю, а яны зводку ў цэнтр пашлюць. Маўляў, справіліся з задачай. А што палавіна бульбы ў зямлі і якіх-небудзь дваццаць авечак не стане, ім галава не баліць.

— А пры чым авечкі?

— Дзівак-чалавек,— жанчына ўсміхнулася, прыязней зірнуўшы на Веньяміна.— Мяса ж вам штодня дай. Вас жа, мусіць, чалавек трыццаць прыехала?

— Трыццаць чатыры са мной,— уздыхнуў Веньямін.

Веньямін выходзіць з памяшкання. Студэнты сядзяць на чамаданах і клунках і глядзяць на яго.

— Нікога няма,— паведамляе ён коратка.— Прыйдзецца пачакаць.

— Ноч пад зоркамі,— удакладняе Мудрык.— Раскладзем агонь. Як вандроўны скіфскі лагер. Абудзяцца старажытныя пачуцці, якія ў душах нашых дагэтуль драмалі.

Бралася на вечар. На вуліцы бляялі авечкі. Аспірант не спяшаўся вяртацца са школы. Шафёр працягнуў Веньяміну дарожны ліст.

— Падпішыце. Мне на базу трэба.

Веньямін падпісаў ліст, і аўтобус крануўся. Мудрык затрэнькаў на мандаліне. Ён іграў «Дунайскія хвалі». Працяжная, крыху сумная мелодыя прымусіла прыціхнуць нават тых, хто яшчэ размаўляў. Веньямін прысеў на ганку і слухаў. Душа поўнілася прыемным смуткам. Маўклівыя палі, якія рассцілаюцца навокал, старыя, пахілыя вербы на ўзбочыне дарогі, шэрыя вясковыя хаты, схаваныя пад навіссю пажаўцелых прысад,— усё гэта як найлепш імпануе характару музыкі. Горад і вёска — якая яшчэ вялікая розніца паміж імі! У горадзе тлум, мітусня, там чалавеку цяжка засяродзіцца на сваіх думках і пачуццях, шматгалосы вір жыцця падхоплівае яго кожную хвіліну, не дае апамятацца, нясе ў сваім няспынным патоку. Тут, у вёсцы, першабытная цішыня, хвалюючы водар зямлі, пах усяго жывога, што расце, цягнецца да сонца, дыхае. Але чаму хвалюе ўсё гэта першабытнае, простае, у чым нават, на першы погляд, няма бачнай гармоніі і парадку? Пра ўсё гэта Веньямін думаў неаднойчы, але не знаходзіў адказу на пытанні, якія ўзнікалі самі сабой.

З канцылярыі выходзіць уčотчыца.

— Можа, я знайду каго-небудзь,— гаворыць яна.— Так у нас і робіцца: падахвоцяць людзей, а потым забудуць.

Сапраўды, не прайшло і дзесяці хвілін, як на вуліцы з'яўляецца чалавек у брызентавым плашчы і высокіх гумовых ботах.

— Аграном Латушка,— называе сябе.— Прабачце, сёння мы вас не чакалі. Заўтра, думалі, прыедзеце.

Шырокі, няголены аграномаў твар выдае чалавека сярэдніх год, стомленага і досыць апатычнага. Зайшоўшы разам з Веньямінам у канцылярыю, ён апускаецца ў крэсла, падпірае далонямі твар.

— Зараз брыгадзір прыйдзе,— гаворыць ён.— Развядзе па хатах. Старшыня будзе заўтра.

— Наш кіраўнік пайшоў у школу,— гаворыць Веньямін.— Мы павінны прайсці практыку.

— Са старшынёй дамовіцеся.

Болей ні аб чым Латушка не хоча размаўляць. Брыгадзір у канцылярыю не завітаў, размаўляў са студэнтамі на двары. Калі Веньямін выйшаў на ганак, студэнты, падхапіўшы клункі і чамаданы, пакрочылі ўслед за брыгадзірам.

Саша Красуцкі ўбачыў студэнтаў на вуліцы, выйшаўшы са школы, дзе ён размаўляў з дырэктарам. Злосць і гнеў ахапілі аспіранта. Ён узначальвае групу, клапоціцца аб усіх, а з ім нават не знайшлі патрэбным параіцца. Галоўнае, студэнты забылі пра яго. Нібы яго тут і няма.

Саша пайшоў за студэнтамі назіркам. Каля першай хаты талака спынілася, і аспірант маўкліва далучыўся да сваіх падначаленых. Брыгадзір — высокі, худы, з пабітым воспаю тварам — вядзе перагаворы з гаспадыняй, мажнай жанчынай, якая загарадзіла сабой увесь праём веснічак.

— Возьмеш трох дзяўчат, Хадося. Сама на поле не ходзіш, дык хоць за людзьмі прыгледзь.

— Хіба ты не ведаеш, Сцяпан. Падумай, што гаворыш. У мяне спіна не гнецца, радыкуліт,— Хадося сыпле словамі, як гарохам.— У мяне ж даведка ад доктара ёсць.

— Ведаем тваю даведку. На сваім агародзе ты як машына.

— Дык калі не выкапаю агарод, то хто мне бульбы дасць? Табе ж галава не баліць.

— Ну, хопіць, Хадося. Людзі здарожыліся. Дай ім павячэраць, а прадукты заўтра выпішам. Працадні будзем табе налічваць. Трэць працадня за кожнага чалавека.

— Вазьмі сабе мае працадні. Проста дзевачак шкада...

Астатнія гаспадыні, да якіх ставілі на пастой студэнтаў, не спрачаліся, як Хадося. Відаць толькі, што дзяўчат яны прымалі ахвотней, чым хлопцаў. Калі развод амаль скончыўся,

брыгадзір нарэшце заўважыў Сашу Красуцкага. Запыніўшы позірк на яго туга напакаваным жоўтым партфелі, ён з павагай падаў аспіранту руку.

— Брыгадзір Кіёк. Кавалер ордэнаў Айчыннай вайны і Чырвонай Зоркі. Малодшы лейтэнант запасу. У мінулым старшыня гэтага калгаса.

Брыгадзір трохі пад хмяльком. Дыхнуўшы ў твар Сашы перагарам, напаўшэптам пытае:

— Вы кім будзеце? Кандыдатам ці дацэнтам?

— Аспірант я.

— А гэта вышэй ці ніжэй за дацэнта?

Саша тлумачыць. Брыгадзір весялее.

— Пазалетась тут быў адзін дацэнт. Як і вы, са студэнтамі. Галавасты, лекцыю пра міжнароднае становішча прачытаў. Без ніякіх паперак. Куды да яго тым, што да нас з раёна прыязджаюць!..

Нарэшце ўсіх студэнтаў размеркавалі па хатах, і застаўся адзін Саша. Патаемна, у думках ён меў намер пасяліцца адзін, лепш будзе рабіць выпіскі для лекцый, якія трэба было пачынаць чытаць з другога семестра. Але штосьці не дазваляе пачаць пра гэта гаворку з брыгадзірам. Кіёк нібы сам разгадаў Сашавы думкі.

— Вам бы латвей прыткнуцца аднаму. Жыве тут адна разводка. У краме працуе. Маладая, без дзяцей. Можа, да яе?

— Мне абы стол, каб пісаць,— паспешліва згадзіўся Саша.— Многа трэба працаваць.

— Будзе вам стол,— запэўніў брыгадзір.

Заняты сабой, Саша не заўважыў, як брыгадзір акінуў яго зняважлівым позіркам.

## ХТО ТАКІ ДЖОНІ ПЭДЛЕР?

У хаце атабарыліся ўчатырох — Веньямін, Варывончык, Змачынскі і Мудрык. Не хапае Шохана, а з ім можна было б лічыць, што інтэрнацкі пакой перавандраваў у вёску, у бакоўку сялянскай хаты, крытай новай саломай. У бакоўцы два акны, вялікі драўляны ложак, спінка якога ўпрыгожана круглымі

дубовымі баўбешкамі, і тры табурэткі. Сцены пабеленыя, чыстыя. Пахне ў пакоі яблыкамі-антонаўкамі, якія, відаць, тут нядаўна ляжалі.

Вячэралі на палавіне гаспадароў.

Гаспадыня паставіла на стол ёмістую міску бульбы і крыху меншую — салёных агуркоў. Елі маўкліва, заўзята — прагаладаліся. Павячэраўшы, Варывончык сціпла, па-сялянску падзякаваў гаспадыні. Хлопцы пайшлі на вуліцу. Веньямін застаўся ў хаце, разгаварыўся з гаспадарамі.

Гаспадар — шчуплаваты, з добрым, прыветлівым тварам мужчына, апрануты ў паношаную выцвілую гімнасцёрку і сінія, нібы міліцэйскія, галіфэ, увесь вечар сядзіць босы, на прыпечку, прытуліўшыся плячамі да ляжанкі, спагадліва пазіраючы на пастаяльцаў.

Гаспадыня — рухавая, буйнейшая целам, завіхалася ля печы, гатуючы вячэру. Есці яна дала перш не пастаяльцам, а свайму сыну, хлапчуку гадоў чатырнаццаці, які, увайшоўшы ў хату і ўбачыўшы чужых людзей, зашыўся ў запечак і цікаваў адтуль неспакойнымі, акругленымі вачамі. Штосьці ў абліччы хлапчука яшчэ з першага погляду здалося Веньяміну ненармальным, і здагадка пацвердзілася, калі ён разгаварыўся з гаспадарамі. Хлопец мае слабы розум, не здолеў закончыць нават першага класа і цяпер разам з бацькам пасвіць калгасны статак. І яму не чатырнаццаць, а дваццаць чатыры гады.

Гаспадары жывуць не бедна — у другой, чыстай палавіне стаіць новы, аздоблены пад колер арэхавага дрэва камод, нікеляваны ложак, нажная швейная машына. Фанерныя палічкі сплеценай з лазовых пруцікаў этажэркі застаўлены кнігамі. Веньяміна гэтая акалічнасць уразіла.

— Дачка прывозіць,— сказаў гаспадар.— Яна ў горадзе працуе.

Гаспадар (яго завуць Іван Піліпавіч Званок) расказвае пра сябе. Тут было прыгранічча, мяжа з Польшчай, і дзясятку вясковых сем’яў было загадана выселіцца. Ці то памылкова, ці па чыёй-небудзь ліхой волі Званкі трапілі ў спіс людзей, чыя добранадзейнасць выклікала сумненне. Іх перавезлі на поўнач, аж пад Котлас.

У вайну Званок быў на фронце. Жонка перабівалася з дзецьмі адна. Вярнуліся ў Князева Сяло гады праз два пасля вайны. Жыць, будавацца нанава было цяжка. Аднак, калі сумленна робіш, не прападзеш. Цяпер грашовая аплата пастуху і падпаску гарантаваная, хоць і не такая вялікая. Старэйшы сын скончыў тэхнікум, ажаніўся і жыве ў Данбасе. Дачка пасля сямігодкі ў горадзе.

Гаспадар палез на печ — заўтра рана ўставаць. Гаспадыня, прыбраўшы са стала, мела яшчэ адзін клопат — памыць сына. Відаць, саромеючыся чужога чалавека, балею яна паставіла ў чыстым пакоі. Дастала з печы два чыгуны гарачай вады, разбавіла халоднай, прынесенай са студні, і, узяўшы за руку сына, вывела яго з запечка.

Не ўпершыню сустракаецца Веньямін з такімі вось простымі, як яго гаспадары, людзьмі, якія патрабуюць ад жыцця вельмі мала. Яны не гоняцца за высокімі заробкамі, не дбаюць аб славе, не прэтэндуюць на ўладу над другімі. Не раз ён задумваўся: што кіруе імі ў жыцці, да чаго яны імкнуцца?..

Веньямін выходзіць на вуліцу. Вечар харошы, напоўнены ласкавай мяккасцю яшчэ не сталай восені. Над полем, за вёскай, вісіць месяц-поўня, у яго таямніча-серабрыстым святле дрэвы, будынкі, парканы набываюць хісткія, няпэўныя абрысы. Блішчаць зоркі, чыстыя, зыркія, нібы вымытыя ў расе. Вулачка жыве вячэрнімі шолахамі і гукамі: скрыпнуў калодзежны журавель, на другім канцы вёскі праляскаталі калёсы, недзе брэша сабака. Ля нечых варот стаіць прыхілены да шула матацыкл. З двара далятае хлапечая гаворка — прыцішаная, але настойлівая — і дзявочы смех. Вуліца ўся ва ўладзе паўтонаў: колеры зліваюцца ў мяккую прывабную шэрань, а гукі як бы трацяць сваю дзённую выразнасць і акрэсленасць. Сам сабе Веньямін не здолеў бы вытлумачыць, чым вабяць яго такія вечары. Няясныя парыванні і надзеі нараджаюцца ў сэрцы, з думак знікае ўсё будзённае, звычайнае, душа поўніцца ціхай лагоднасцю.

Не першы раз Веньямін ловіць сябе на такіх адчуваннях. Жывучы ў інтэрнаце, які нават ноччу не вызначаецца асаблівай цішынёй, бачачы кожны дзень адны і тыя ж кварталы будынкаў, масіўную, жалезную агароджу стадыёна,

прыступкі і калідор бібліятэкі, аднастайны гарадскі пейзаж, які адкрываецца вачам з бібліятэчнага акна, Веньямін неаднойчы адчуваў вострую нездаволенасць жыццём. Гарадскія паркі і скверы залішне правільныя, дагледжаныя, каб, седзячы на лаўцы пад акуратна падстрыжанай ліпай, можна было адчуць прыгажосць і разнастайнае багацце свету.

Не тое ў вёсцы, сярод цішыні палёў, пад купалам зорнага неба, неразгадана-таямнічага і вечна прывабнага. Ёсць, вядома, вялікая паэзія і ў горадзе, яна ў зладжанасці, гарманічнасці форм будынкаў, у пэўным чаргаванні і парадку гэтых форм, якія лашчаць вока. Горад — тытан, ён як бы ўрачысты помнік вечным чалавечым пошукам і здзяйсненням. Бо чалавек па прыродзе — тварэц, шукальнік. Адбяры ў яго магчымасць думаць, даходзіць да кораня з'яў, ствараць прыгожае, і ён загіне. Але горад сабраў, відаць, толькі невялікую частку прыгажосці, разлітай у свеце. Таму на першы погляд знешні беспарадак ляснога або палявога краявіду так вабіць і хвалюе, нараджаючы спакой, раўнавагу душы. Нездарма гараджане, нават самыя заўзятыя, пры кожнай магчымасці імкнуцца вырвацца на прыроду.

Так думае Веньямін, ідучы крывой вясковай вулачкай, чуйна ловячы вячэрнія шолахі і гукі.

На ўзгорку Веньямін напаткаў хлопцаў са сваёй кватэры. Цяпер з імі і Шохан.

— Князева Сяло нечым нагадвае Маскву,— гаворыць Мудрык.— Такое ж вялікае і раскіданае.

Яшчэ не позна, толькі дзесяць гадзін вечара, і хлопцы наважылі завітаць да дзяўчат.

— У Зубрыцкай патэфон,— паведамляе Мудрык.— Паслухаем музыку.

Яны рушылі да трох хат, што стаялі крыху наводшыбе ад вуліцы. У чыстым, утульным пры святле настольнай лямпы пакоі, дзе акрамя Зубрыцкай пасяліліся Зіна Бандарчык і Люся Мохава, тлум, мітусня. Табурэтак на ўсіх не хапае, і прыходзіцца ўнесці з сяней доўгі ўслон. Болей за ўсіх мітусіцца сама гаспадыня, маладжавая, апранутая як на свята.

Зубрыцкая завяла патэфон, паставіла пласцінку. Спачатку ў мембране захрыпела, замяўкала, нябачныя людзі, здаецца,

білі шыбы, таптaлі нагамі шкло — выразна былі чуваць непрыемны для вуха трэск бітага шкла, ляскат жалезных талерак, пісклявыя гукі музычнага інструмента, назвы якога Веньямін не ведаў, а праз увесь гэты хаос шумаў і трэскаў прабіваліся расцягнутыя высокімі жаночымі галасамі два ўрачыста-гуллівыя словы: «Джо-о-оні Пэ-э-э-длер!..» Болей слоў у песні няма, толькі гэтыя два — «Джоні Пэдлер». Хто такі Джоні Пэдлер і чаму яму пяецца слава, зразумець нельга.

— Атамны танец белых лебедзяў,— кажа Мудрык.

— Вальс дваццатага стагоддзя,— дадае Шохан.

Зубрыцкая ставіць новыя пласцінкі — песні і танцавальную музыку, але ўсе на адзін капыл, з тым жа піскам і падываннем. Гэта яшчэ горш, чым на вечары медыкаў. Веньямін зірнуў на гаспадыню. Спачатку яна была вясёлая, узрушаная, нібыта хацела пагрэцца ля агеньчыка маладой весялосці. Цяпер сядзіць маўклівая, збянтэжаная, здзіўлена пазіраючы на студэнтаў. Пачуццё адзіноты і вострага, балючага смутку ахоплівае Веньяміна, і ён, не развітаўшыся з гаспадыняй і дзяўчатамі, выходзіць за дзверы.

## ЦІ РАЗУМНЫ ДОН КІХОТ?

Плыла ціхая вясковая ноч, калі Веньямін выйшаў на двор. Такія ночы, не светлыя, і не цёмныя, з серабрыстым падсветам месяца-поўні, ірдзеннем зорнага неба, бываюць на стыку лета і восені і трывожаць сваёй спакойна-насцярожанай урачыстасцю. Ростані цёплага, звонкага лета заўсёды сеюць у душы трывогу і смутак. Замкнуўся яшчэ адзін круг, прайшоў яшчэ адзін год, якіх не так многа ў чалавечым жыцці. Калі табе васямнаццаць ці нават дваццаць, гэтага не адчуваеш. А калі дваццаць шэсць і яшчэ нічога не зроблена з намечанага, і няма поруч той, пра каго марыў і трызніў, то ўжо трошкі не так. Вядома, дваццаць шэсць — не старасць, але задумвацца чалавек пачынае.

Тры крайнія хаты цяпер, пры месячным святле, відаць выразней, чым гадзіну назад. Яны стаяць на самым грэбені глыбокага яру, дол якога тоне ў змроку.

Веньямін выйшаў па сцяжыне на вуліцу. Вёска спіць. Адзнака вялікага спакою і цішыні ляжыць на ўсім, што трапляе на вочы. Людзі спакойна адпачываюць, каб заўтра ўстаць разам з сонцам.

Мінуўшы апошнюю хату, Веньямін выбраўся ў поле і пакрочыў прасёлкавай дарогай. Узбоч, крокаў за сотню ад дарогі, чарнее могільнік. Такія могільнікі каля кожнай вёскі. Абавязкова засаджаныя дрэвамі. Тоіцца ў гэтым спрадвечная мудрасць: дрэвы на могілках як бы сведчаць пра неўміручасць жыцця.

Наперадзе чарнее масток. Унізе пад ім, прабіваючыся праз кучу камення, булькоча ручай. Над полем полаг сінявата-шэрага змроку. Веньямін сышоў з мастка і, прайшоўшы крокаў з сотню ўздоўж ручая, прысеў на камень. Камень, над самай вадой, пэўна, прыцягнулі рыбакі: у ручаях, якія бяруць пачатак з крыніц, вада нават летам сцюдзёная, і ў ёй водзіцца стронга.

Веньямін ведае, што ноччу не засне. Перамена месца, стрэчы з новымі людзьмі заўсёды ўзрушаюць. Зрэшты, не стрэчы галоўнае. Не ўцячэш ад сябе, ад смутку, які заўсёды з табой. Даўно адчувае Веньямін вострую нездаволенасць жыццём. Можа, ён сапраўды дзівак, шукае таго, чаго на свеце няма? Чаго ён хоча?

Жыццё складаецца як бы з дзвюх часцін, думае Веньямін, з таго, што чалавек аддае людзям, грамадству, і з таго, што належыць толькі яму аднаму, што звычайна называюць асабістым і да чаго нават блізка не падпусціш першага стрэчнага. І калі няма шчасця ў гэтым асабістым, ніякімі іншымі поспехамі яго не заменіш. Веньямін лічыць, што ў грамадскім ён не схібіць. Ёсць, няхай сабе невялікая, загартоўка. Вучыцца як след, можа крукам сядзець у бібліятэцы, чытае да ачмурэння. Галоўнае — падабаецца такое жыццё. Няхай хоць сёння пасылаюць у самую далёкую вёску настаўнікам — паедзе. Не хапае той, якая б асвяціла яго жыццё каханнем, стала б другой палавінай. Ёсць жа на свеце нават вялікае каханне, калі жывуць адзін дзеля другога і калі без гэтага жыць немагчыма! Усё вялікае ў свеце паэзіі і мастацтва народжана такім каханнем. Петрарка пісаў пра Лауру. Шэкспір пра Рамэа і Джульету...

Веньямін думае пра Вікцю. Ён мог бы яе кахаць аддана. У яго былі б крылы. Яна здавалася шчырай, здавалася, прымае душой тое, што ён у захапленні гаварыў ёй у чэрвеньскія вечары. Прыгожая Вікця ці не прыгожая? «Вочы — сінія крыніцы, губы — спелыя суніцы, косы — кужаль залаты...» Пра яе сказаць так можна. З крыніц п'е другі, а ў яго душы абраза, часамі пякучая і вострая, як цвік, і пачуццё гэта прысутнічае ва ўсім, пра што ён думае. З-за Вікці свет пачарнеў для Веньяміна. І хлусіў Бандарэнка — нельга ўсё так хутка забыць і растаптаць. Ранейшыя няўдачы не прыбаўляюць нічога.

Цалуючыся з Маяй, ён хацеў адпомсціць Вікці.

Мая — не Вікця. Там, на лавачцы, калі быў з Маяй, ён хацеў адпомсціць Вікці. Нікому не адпомсціў. Ён успамінае Маю з пяшчотай, але другой стрэчы шукаць не будзе. Гэта не каханне...

Ён, Веньямін, відаць, заскарузлы кніжнік, і дзяўчатам з ім сумна. Начотчык і цытатчык. Дзед-мараліст у дваццаць шэсць гадоў. Дзяўчаты чуюць інстынктам. Ды і тварам, паставай ён не вельмі ўдаўся. Перавага амбіцыі над амуніцыяй. Пастух Раман Варэнік, насмешлівы і языкаты чалавек, якога памятае Веньямін з дзяцінства, пра становішча, у якое ён трапіў, сказаў бы прыкладна так: «Якія самі, такія і сані. Ты, хлопча, на вялікае не замахвайся. Хопіць табе рабенькай, крывенькай...»

Кожная пачвара знойдзе сабе пару... Але ў тым і справа, што Веньямін хоча сустрэць асаблівую дзяўчыну — прыгожую, разумную, якая б ускалыхнула ўсю яго душу. Вікця вось ускалыхнула... А так хіба мала дзяўчат? Веньямін хоча вялікага кахання...

Можа, ён Дон-Кіхот, бледная копія смешнага ламанчскага рыцара, які ваяваў з ветракамі? Можа, таго, чаго ён прагне душой, да чаго імкнецца, няма ў жыцці? У выдатнага паэта, якога Веньямін вельмі любіць, ёсць радкі: «Толькі трэба яго не шукаць, не лавіць, шчасце трэба ў суровым змаганні здабыць». Выкладчык, які чытае сучасную літаратуру, таксама любіць гэтага паэта, і менавіта так, як думае і адчувае Веньямін, вытлумачыў унутраны змест яго лірыкі. Але тады ж, на лекцыі, устаў Мудрык і сказаў: «У паэта рыцарскія адносіны да кахання. Для нашага часу яны не характэрны.

Пакуль лірычны герой будзе змагацца, паедзе на цаліну ці ў Сібір, другі захопіць яго дзяўчыну. І змагацца не будзе, а проста захопіць, і ўсё...» Аўдыторыя грымнула рогатам, а Веньяміну стала сумна. У тым, што як бы на смех сказаў Мудрык, была доля праўды.

Але ўсё адно найвялікшая праўда на баку Дон-Кіхота. Хіба ён толькі дзівак? Хіба ёсць у сусветнай літаратуры лепшае ўвасабленне вернасці ідэалу, адданасці высокай мары? Дон-Кіхот — вялікі рамантык, чалавек, які мерае свае ўчынкі, пачуцці, думкі самай высокай меркай і ніколі не прымірыцца з нізкім і пошлым у жыцці. Арыстакрат духу, захудалы, слабы на розум ламанчскі гідальга.

Было за поўнач, дружна праспявалі першыя, а за імі і другія пеўні, а Веньямін сядзеў на камені і думаў. Нібы заліваючыся мяккім, бесклапотным смехам, булькатаў ручай, свяціў месяц, ахінаючы наваколле таямнічым, серабрыста-сінім святлом. Прыйшоў той настрой, якога даўно чакаў Веньямін: яго душа як бы яднался з гармоніяй і хараством, разлітымі ў наваколлі. Які вялікі і прыгожы свет! Колькі ў ім яшчэ неразгаданых таямніц і колькі яшчэ трэба прайсці чалавеку, каб стаць уладаром сусвету...

Хораша, лагодна стала ў Веньяміна на душы. Нават крыўда, абраза паўставала цяпер як бы крыху згладжанай. Добра, калі чалавеку выпадае такая прывабная ноч, няхай сабе і без сну, і яшчэ лепей, калі чалавек у думках можа прайсці па ходжаных сцежках, гледзячы на самога сябе крыху звысака і як бы нават крыху насміхаючыся...

## ДЗЕНЬ ПЕРШЫ САШЫ КРАСУЦКАГА

Саша Красуцкі, як толькі разам з брыгадзірам Кійком зайшоў у хату да крамніцы Раісы Троські (імя і прозвішча гаспадыні Кіёк паведаміў яму па дарозе), адразу адчуў, што тут яму будзе някепска. На такія рэчы ў Сашы добры нюх. Раіса Троська — чарнявая, вяртлявая, з залатым пярэднім зубам — прыняла іх на першы погляд няветліва. Сваё нежаданне пусціць у хату пастаяльца, якому толькі і трэба, што стол

ды цішыня, яна вытлумачыла тым, што чалавек — не муха, яму і паесці трэба, а не толькі сядзець за сталом і пісаць. Гатаваць жа яна не можа, бо цэлы дзень у краме за прылаўкам. Так гаварыла Раіса, але тым не меней Саша адчуваў, што ён застанецца ў гэтай даволі ўтульнай, з двух пакояў, хаце, бо гаспадыня раз-пораз акідвала яго дапытлівымі і не сказаць каб злоснымі позіркамі.

Саша зрабіў высакародны жэст, і гэта вырашыла справу. Ён паклаў на стол дзясятку і, не гаворачы ні слова пра кватаранцтва, папрасіў прынесці з крамы чаго-небудзь такога, каб замацаваць знаёмства з брыгадзірам Кійком. Раіса зразумела. Вядома, ёй не прыйшлося бегчы ў краму, знайшлося ўсё, што трэба, пад рукой.

Вечар у кампаніі з брыгадзірам і Раісай, якая найболей завіхалася ля стала, прайшоў цудоўна. Раіса добрая гаспадыня. Ёсць у яе і вяндлінка, і марынаваныя грыбкі, і маласольныя агурочкі. Нічога такога ў горадзе не пакаштуеш. Саша ўдзячны лёсу, што ён яго закінуў у гэтую багатую на зямныя дары вёску і да такой гаспадыні як Раіса. Месяц ён сабе дазволіць пажуіраваць, ён заслужыў гэта. Хіба мала зроблена?

Брыгадзір хутка захмялеў (хмяльку ў яго было трохі ў запасе) і пайшоў, наказаўшы Сашу, каб з раніцы быў у праўленні.

А Раіса старалася. Як яна ўзбівала падушкі, пухавікі, каб Сашу было мякка спаць, як, не шкадуючы, выкідвала з камода новыя просціны, коўдру, каб пасцель была свежай і чыстай! Саша ведае, што не нікчэмная дзясятка прычына такіх клопатаў. Асноўная прычына ён сам. Рэдка якая жанчына здольна перад ім устаяць. Гэта праверана вопытам дваццаці дзевяці год жыцця. У сэнсе цікавасці да яго асобы з боку жанчын Саша не наракае на лёс. Грэх было б наракаць.

Але ў дадзеным выпадку спяшацца не варта. Трэба гэтай разводніцы Раісе паказаць інтэлігентнасць і вытрымку. А то яшчэ захоча ўзяць над ім уладу. Жанчыны такое любяць, і трэба быць заўсёды напагатове.

Таму Саша ў гэты першы вечар свайго знаходжання пад дахам сельскай крамніцы Раісы сціплы і абыходлівы. Далікатна распытвае гаспадыню пра яе жыццё, як бы мімаходзь робячы

нязначныя намёкі. Раіса стараецца паказаць сябе культурнай. Расказала, што скончыла сямігодку, што вучылася ў тэхнікуме, што спецыяльнасць агранома (загоняць у такі, як наш, калгас) была ёй не па душы, таму вучобу кінула. Раісе болей як трыццаць, мае добрую хату, патэфон, прыёмнік (пра мужа не сказала), даўно — і, відаць, з поспехам — працуе ў краме. «Мяшчаначка з прэтэнзіямі»,— думае Саша.

Спаць Саша лёг рана, гадзін у адзінаццаць. Ён чуў, як перад самымі вокнамі загуў і заглух матор аўтамашыны, чуў цвёрдыя крокі, прыцішаны, злосны голас Раісы ў пярэднім пакоі. Машына зноў зараўла, кранулася, і ўсё сціхла.

Прачнуўся Саша ў палове восьмай. Раісы не было. На стале, на талерцы, нарэзаная дробнымі скрылькамі вяндліна, стаіць бляшанка кансерваў і ў паўлітровай бутэльцы рэшткі недапітай учора гарэлкі. На падаконніку пад замком запіска: «Ключь сховайте под крильцо». «Памылачак Раіса нарабіла, але вяндліна ў яе добрая»,— са змешаным пачуццём самазадаволенасці і лёгкай пагарды да гаспадыні падумаў Саша.

Паснедаўшы, рушыў у праўленне. Са школай усё ясна, з дырэктарам дамовіліся ўчора. Дырэктар так сабе, вясковы цюхцяй, завочна канчае педінстытут. Сашу сустрэў як бога. Распытваў пра выкладчыкаў, хваліўся, што, як і каму здаваў, нібыта Сашу гэта вельмі цікава. Дзякуючы таму, што Саша дыпламат, у дырэктара ўдалося выведаць, што ўваходзіць у круг абавязкаў студэнтаў у час праходжання практыкі пазакласнай работы. Выявілася — нічога страшнага няма. Выпусціць насценгазету, правесці два-тры піянерскія зборы, праверыць пазакласнае чытанне. Студэнтаў прыйдзецца падзяліць на групы, бо ўсім адразу ў невялікай школе рабіць няма чаго.

Па дарозе ў праўленне Саша напаткаў брыгадзіра Кійка. Ідзе панылы, ссутулены, пра ўчарашні вечар не абмовіўся ні словам. Іх даганяў шэры, з разбітай правай фарай «Масквіч».

— Старшыня едзе,— абыякава сказаў брыгадзір.

Параўняўшыся з брыгадзірам і Сашам, машына спынілася. З кабінкі вылез прысадзісты, чырванатвары чалавек, апрануты ў жоўты, вайсковага фасону фрэнч.

— Адзярыха, старшыня калгаса,— адрэкамендаваўся ён Сашу.— Вас колькі прыехала?

— Са мной трыццаць чатыры.

— Абяцалі сорак.

Цвёрда ступаючы хромавымі ботамі па пяску, старшыня рушыў у праўленне. Усім сваім выглядам ён як бы паказваў, што не мае намеру працягваць сур'ёзную размову тут, пасярод вуліцы.

У кабінеце Адзярыха садзіцца за стол, падсоўвае да сябе паперы.

— Мы вам спуску не дадзім,— голасна гаворыць старшыня, звяртаючыся да аспіранта.— Трэба працаваць не шкадуючы сіл. Дапамога сельскай гаспадарцы — усенародная справа. Людзі пісьменныя, самі павінны разумець.

— У нас яшчэ практыка ў школе,— тлумачыць Саша.— У мяне план — трыццаць чалавек на поле, чатыры ў школу. У школе кожны пабудзе не болей пяці дзён.

— Ніякай практыкі. У калгасе хлеб не дармовы.

— Мяне прыслалі кіраваць практыкай,— стаіць на сваім Саша.— Дні на практыцы студэнты будуць харчавацца за свой кошт.

Адзярыха гарачыцца:

— Я давяду да ведама райкама. Гэта ж не шэфская дапамога, а падрыў дысцыпліны. Гледзячы на вас, і калгаснікі пойдуць з поля. Не, так я гэтага не пакіну!..

— Дзям'ян Іванавіч,— умешваецца Кіёк, які моўчкі слухае спрэчку.— Школа таксама абяцае памагчы. Няхай студэнты падахвоцяць дзяцей. Бульбу хутчэй выкапаем...

— Калі так, то няхай,— адразу згаджаецца Адзярыха.— Толькі каб на поле штодзень па трыццаць.

Высветлілі астатняе. Хлеб студэнтам будуць прывозіць з раёна. У дзень на кожнага па літру малака. Мяса па сто пяцьдзясят грамаў. Бульбы па тры кілаграмы...

Саша здаволены. Усё абышлося як мае быць. І старшыня Адзярыха не такі благі, як здаўся спачатку. Можна і з ім дамовіцца. Ідзе, калі трэба, на кампрамісы.

## БУЛЬБА — СЛОВА ГРЭЧАСКАЕ

На кватэру Веньямін вярнуўся пад раніцу. Мудрык, Варывончык і Змачынскі спалі ў бакоўцы, разаслаўшы на падлозе куль саломы. Веньяміну, як на смех, пакінулі ложак з дубовымі баўбешкамі. Веньямін лёг побач з хлопцамі. Паспаў не болей як дзве гадзіны.

Раніца цудоўная. Узышло сонца. Над палямі, асабліва па лагчынах, курыцца лёгкі, як дымок, туман. Поле няроўнае, узгоркавае, праглядаецца ва ўсе бакі ад вёскі, вабячы сваёй шырокай разлегласцю. У гародчыку, пад вокнамі хаты, яркія жоўтыя вяргіні, познія белыя астры, на пялёстках кветак нібы дыяменты — кропелькі расы. Ядранае, чыстае паветра. Хаты, хлеўчукі раскіданы абы-як, парканы няроўныя, вуліца крывая, але ўсё адно малюнак цешыць вока. Веньямін любіць вёску, і заўсёды вясковы краявід абуджае ў яго душы светлыя, цёплыя пачуцці.

— Апрасцімся, браты! — гукнуў ён, не сыходзячы з ганка, прычэсваючы ўскудлачаныя валасы.— Будзем як дзеці! Дзеці хоць не ўмеюць хлусіць, затое ўмеюць фантазіраваць. Перад намі некранутая першародная прыгажосць. Будзем жа ўбіраць яе вачамі і вушамі, удыхаць грудзямі.

Пайшлі снедаць. Гаспадыня на гэты раз паставіла на стол вялікую міску з бульбай, ёмісты гладыш з кіслым малаком, чатыры кубкі.

— Будзь благаславёна, простая і здаровая ежа! — працягваў Веньямін.— Хто не жыў у вёсцы, той не ведае сапраўднага смаку дароў зямлі. Што можа быць смачней за гэтую бульбу, за гэтую прастаквашу, ад якой патыхае водарам поля і сенажаці?

Бульба з кіслым малаком елася някепска, але нечага як бы не хапала. Варывончык дастаў з чамадана кольца гарадской каўбасы, пачаў рэзаць на кавалкі.

Веньямін працягнуў руку за сваім кавалкам першы. Хлопцы, душачыся бульбай, запырскалі...

Брыгадзір Кіёк зайшоў у хату, калі хлопцы падняліся з-за стала.

— Збор каля праўлення,— паведаміў ён.— Кошыкі бярыце ў гаспадыні.

Як студэнты спалі, як яны паснедалі, ён не цікавіцца.

Ля праўлення вясёлы гармідар. Дзяўчаты ў штанах, цёплых фуфайках, світарах. Ад гэтага здаюцца крыху нязграбнымі. Машына старшыні Адзярыхі стаіць на ўзгорку. Праз некалькі хвілін Адзярыха разам з Сашам Красуцкім выходзіць з праўлення да студэнтаў. Выгляд у старшыні крыху разгублены, відаць, яму не часта прыходзіцца мець справу з такой інтэлігентнай публікай.

— Працаваць трэба сумленна,— адкашляўшыся ў кулак, пачынае Адзярыха.— Каб паміж намі не было непаразуменняў...

«Старшыня жыве не ў калгасе,— думае Веньямін.— Відаць, ездзіць на гэтай самай машыне».

— Летась да нас таксама прыязджалі студэнты,— працягвае старшыня.— З вашага інстытута. Некаторыя працавалі добра, нічога кепскага не скажу. Але была адна групка... І гаварыць брыдка. Думалі, што прыехалі на курорт, а не ў калгас. Вылежваліся, нас, калгаснікаў, зневажалі...

«Гаворыць правільна,— думае Веньямін.— Здаецца, не дурань. Чаму ж занядбаны калгас? Палавіна верасня, а бульба не копана...»

Старшыня гаворыць штосьці яшчэ, але Веньямін не слухае. Ён наогул не любіць прамоў. Яму здаецца, што ў прамовах чалавек рэдка бывае дакладным. Калі нават хоча выказаць тое, што на душы. Перашкаджае ці гіпноз многіх вачэй, звернутых на прамоўцу, ці іншая прычына.

Старшыня адыходзіць, тады ў свае правы ўступае Саша Красуцкі. Ён зачытвае па паперцы, каму і ў якія дні належыць быць у школе на практыцы. Веньяміну ў школу аж праз тры тыдні, пойдзе з апошняй групай. Ён стараста, і ў яго абавязку клопат пра хлеб, малако, мяса. Як сказаў аспірант, палучаць і развозіць харч трэба вечарам, каб не траціць марна час, адведзены для работы.

З чатырма дзяўчатамі — першай групай практыкантаў — Саша Красуцкі накіроўваецца ў школу. Дзяўчаты яшчэ пойдуць пераапранацца, у штанах і світарах да вучняў не з’явішся.

Дарога да бульбянішча пятляе па самай лысіне ўзгорка, потым сыходзіць уніз, у лагчыну. Наперадзе грукаюць коламі

дзве фурманкі з вялікімі скрынямі. Вазакі бульбы — хлапчукі школьнага ўзросту — прарэзліва свішчуць у два пальцы, штохвіліны ўзмахваючы доўгімі раменнымі пугамі. Коні стрыгуць вушамі, бягуць трушком. З гурту вырываецца Сліва — рухавая, смяшлівая, з хлапечай прычоскай. Віхляючы адтапыраным задам, яна даганяе апошнюю фурманку і вось ужо на возе, абняла за плечы разгубленага хлапчука, лямантуе на ўсё поле:

— Наперад, таварышы!.. Да новых перамог!..

Студэнты рагочуць.

Веньямін злуецца — знайшла з кім выскаляцца. Хлапчук, з якім яна дазваляе такія штучкі, можа, вучыцца ў школе. Як жа пасля гэтага Сліва пойдзе на практыку? Поруч з Веньямінам ідзе брыгадзір Кіёк, пакеплівае:

— Вострыя дзяўчаты... Такая падэшвы на ходу адарве. Гэта ж і летась былі вашы ў нас. Траіх было — не дай бог. Толькі харч пераводзілі. Праўда, калгаснага не елі. Дзе там, далікатныя! Мамкі з горада прывозілі. Як толькі сонейка, распрануцца ледзь не дагала і на дах. Маўляў, дзівіся, вёска, якія ў нас фацэтныя фігуры. Хіба з такімі фігурамі бульбу капаюць? Як толькі дождж, яны на печ. Качаргой адтуль не згоніш. Прыйшоў я аднойчы ў хату, саромлю. «Адумайцеся, дзяўчаты, вас жа на работу прыслалі...» А адна мне — чорненькая такая, едкая: «Ідзі сваёй дарогай, чалавек. Натацыі нам і без цябе ёсць каму чытаць...» Бач, якая вострая. Калі ясі булку, то хоць жа павагу май да таго, хто табе гэтую булку паклаў на стол...

Нявыбранай бульбы — цэлы загон. Бульбоўнік — чэзлы, чорны, заглушаны высокім бадыллем пустазелля, і каб не барозны абгонкі, адгадаць было б цяжка, што на гэтым полі расло.

Некалькі жанчын корпаецца ў зямлі. Пры набліжэнні студэнтаў яны разгінаюць спіны і доўга глядзяць ім услед з-пад рукі.

Капаць пачалі ад лесу. Лес — рэдкі, пажоўклы бярэзнік, які нібы падковай акаймляе засаджаную бульбай лагчыну. Пакуль хлапчукі падворваюць плугамі барозны, студэнты ляжаць на лугавіне ўскрай поля, пацвельваюцца.

— Бульба — па-грэчаску больбас,— дае этымалагічную даведку Мудрык.— Па-латыні — вольва. Адно і тое ж слова.

— Па-англійску бульба — патэйтаўн,— гаворыць Варывончык.

— Па-французску — ля пом дэ тэр,— дадае Змачынскі.— Гэта значыць — земляныя яблыкі.

— Па-нямецку так, як і па-руску,— заяўляе брыгадзір Кіёк.— Я быў у Германіі, ведаю. Немцы дужа любяць бульбу. Іх хлебам не кармі, а бульбы дай.

Веньямін даў даведку гістарычную:

— Бульбу пачаў заводзіць Пётр Першы. Былі нават бульбяныя бунты. Сяляне не хацелі садзіць бульбу і бунтавалі.

Мудрык ляжыць на спіне, закінуўшы рукі пад галаву, жуе травінку. Выраз яго твару такі, нібыта ўсё, што сказана, даўно яму вядома і даўно абрыдла.

— Выходзіць, нашы продкі някемлівыя,— гаворыць ён скрозь зубы.— Не любяць бульбы. Нас прывалаклі.

— Ва ўсім вінаваты Калумб! — падхапіўшыся, крычыць Шохан.— Не трэба было яму адкрываць Амерыку! Прывёз адтуль бульбу, тытунь і адну хваробу. За бульбу яму не дзякуе Мудрык, за хваробу — усё чалавецтва...

Дзіўная рэч, Шохан падколвае Мудрыка.

Хлопцы рагочуць. Дзяўчаты апускаюць вочы долу. Толькі Сліва запытальна глядзіць на Шохана.

— А я і не ведала!

— Чаго ты не ведала, Юля?

— Што мы так нядаўна пачалі есці бульбу. Калумб жа адкрыў Амерыку нядаўна...

Цяпер смех агульны. Сліву гэта не бянтэжыць, смяецца разам з усімі.

Брыгадзір падняўся.

— Для калгасніц у нас норма пяць сотак,— гаворыць ён.— Для вас спачатку можна менш. А далей трэба даваць норму. Бульбу ссыпаць у скрыню.

Веньямін устаў услед за брыгадзірам. Ён стараста, і трэба пачынаць работу. Сонца стаіць ужо высока. На полі чарнеюць развораныя баразны. Пад'ехаў хлапчук за возам-скрыняй.

— Кожны бярэ па баразне,— сказаў Веньямін.— Індывідуальная здзельшчына. Будзе відаць работа кожнага.

— Правільна,— ухваліў брыгадзір.

Студэнты падымаюцца без вялікай ахвоты. Веньямін узяў кошык і першы нагнуўся над баразной. Праз некалькі хвілін галасы і перамовы змоўклі. Чуваць было толькі, як стукае аб кошыкі і бляшаныя вёдры бульба. Карціна стала звычайнай і тыповай для асенняга поля.

Веньямін ідзе баразной не разгінаючыся. Бульба ўрадзіла не надта добрая: у карчы два-тры вялікія клубні, астатнія дробныя. Відаць, садзілася па няўгноенай зямлі. Трапляецца шмат каменя. Прайшоўшы амаль палавіну баразны і напоўніўшы кошык, Веньямін нарэшце разагнуўся.

Цяпер можна паглядзець, як хто капае. Наперадзе Зіна Бандарчык і, як ні дзіўна, Сліва. Зіна выбірае бульбу ўпэўнена, па-гаспадарску, не робячы ніводнага лішняга руху. Відаць адразу, што гэтая работа для яе не ў навіну. З ахвотай працуе Сліва — выкрыквае штосьці смешнае і сама ледзь не папалам згінаецца ад смеху. Хлопцы выбіраюць бульбу з яўнымі прыкметамі нездаволенасці — хіба гэта мужчынская работа? Мудрык стаіць у пачатку баразны і курыць, Шохан злавіў палявую мыш і кінуў дзяўчатам у вядро. Дзяўчаты пішчаць, а Шохан, узяўшы рукі ў бокі, стаіць над вядром і рагоча. З хлопцаў толькі Варывончык і Змачынскі ідуць упоравень з дзяўчатамі. На жарты і смех увагі не звяртаюць; сагнуўшыся, старанна разграбаюць рукамі зямлю і ў сваёй дбайнасці падобны на вялікіх шэрых кратоў.

Горш чым ва ўсіх, вядома, у Зубрыцкай з кампаніяй. Гэтага трэба было чакаць. Далікатныя стварэнні. Іх непрыстасаванасць да работы такая відавочная, што не ўбачыць толькі сляпы. Смеху варта — на руках чорныя пальчаткі. Не бульбу выбіраюць, а стараюцца не запэцкаць спартыўных штаноў і джэмпераў.

Веньямін спыніўся позіркам на Зубрыцкай — нават у параўнанні з Валасевіч і Мохавай яна самая бездапаможная. Разграбае зямлю толькі адной рукой, а другой увесь час папраўляе завіўку. Бульбіну бярэ ў пальцы асцярожна, як слізкую жабу, і грэбліва кідае ў кошык. А «Джоні Пэдлера»

любіць!.. «Гатовыя паненкі,— з непрыхільнасцю думае Веньямін.— Не надта нехта ўзрадуецца, калі возьме за жонку. Будзе слухаць «Джоні Пэдлера», а абеду не пытай...»

Другі кошык, трэці... Пачынае балець спіна — няёмка стаяць сагнуўшыся. Сонца, хоць і асенняе, пячэ здорава. Веньямін намячае мяжу, на якой перадыхне, разагнецца. Трэба дайсці да той вунь высокай бадыліны. Цяпер ужо Веньяміну не хочацца глядзець, як спраўляюцца другія. Не адстаць бы самому. Варывончык і Змачынскі, вядома, наперадзе.

Веньямін разгінае спіну. Мудрык усё-такі свіння. Самая звычайная свіння. Усе працуюць, а яму хоць бы што. Стаіць на раллі, стругае дручок. Трэба будзе сказаць. Проста ў вочы, пры ўсіх. Усё-такі тут норма. На кожнага, хто на полі. Не выцягне адзін, другі павінен дацягваць.

Хлапчук-вазак пад'ехаў са скрыняй да Веньяміна. Ён рад, што не трэба праз увесь загон валачыць кошык. Земляныя краты Варывончык і Змачынскі наперадзе, і трэба іх дагнаць.

Да дзясятага Веньямін яшчэ дакладна памятае лік кошыкаў. Потым збіваецца. Дваццаць тры ці проста дваццаць. Хіба не ўсё адно? Усё-такі вельмі аднастайная работа — капанне бульбы. Праца — творчасць... Якая творчасць, калі наступны корч бульбы такі, як і гэты.

Чым вымяраецца работа на бульбяным полі? Вядома, не натхненнем. Проста трэба цярпець і разграбаць рукамі зямлю. Забыць, што баліць спіна і закарэлі рукі. Зубрыцкая надзела пальчаткі. Ёй агідна корпацца ў зямлі. Яна, калі і згодна што-небудзь рабіць, дык толькі такое, што было б новым у кожную новую хвіліну. А як адчуваюць сябе жанчыны-калгасніцы, якія дзень пры дні, тыднямі і месяцамі тут, на полі? Уся палявая работа аднастайная. Праполка, жніво. Ды не толькі палявая. Даенне кароў. Тры разы ў дзень адно і тое ж... Паміж Зубрыцкай і жанчынамі-калгасніцамі — мяжа, прорва. Процілеглыя адносіны да жыцця. Для Зубрыцкай сэнс жыцця ў тым, каб штодня атрымліваць асалоду. Кожны раз — новую, бо аднолькавае прыядаецца. Можа, і ў каханні тое самае. Кожны раз новае... Веньямін робіцца злосным. Зубрыцкая — вылітая панечка. Што яна ўмее рабіць яшчэ, каб грэбаваць чорнай работай? Вучыцца ж не надта. Спытай пра Петрарку — не чула. Умее апранацца. Любіць модную музыку...

Да абеду накапалі пяць скрынь. Ныла паясніца, спіна, і Веньяміну страшна было падумаць, што прыйдзецца прыйсці сюды, на поле, пасля абеду, і заўтра, і паслязаўтра, і ўсе наступныя дні...

## ДЗЕНЬ ДРУГІ САШЫ КРАСУЦКАГА

Саша ведае, што важна не ўпусціць першы дзень, стварыць неабходную атмасферу, якая будзе ўплываць на ўсё далейшае. Ён чалавек дзеяння, таму не стане адкладваць на заўтра тое, што належыць зрабіць сёння.

У школе Саша прабыў да абеду. Тут звычайная мітусня. У настаўніцкай цесна, нават прысесці няма дзе. Мужчын-настаўнікаў трое — дырэктар, які выкладае гісторыю, тоўсты літаратар і зялёненькі, відаць, толькі з педвучылішча, настаўнік, які вядзе трэці клас. Астатнія — немаладыя жанчыны, шэрыя і нецікавыя.

Студэнткі пайшлі на ўрок да літаратара. Саша пахадзіў па калідоры, які скрыпіць масніцамі, пастаяў ля насценгазеты. Зрэшты, рабіць яму ў школе няма чаго. Тое, што трэба студэнтам, падкажуць настаўнікі і піянерважатая.

Саша дачакаўся званка, пагаварыў са студэнткамі. Ім спадабаўся пяты клас — той, дзе былі на ўроку,— і яны папрасілі весці ў ім пазакласную работу. Саша згадзіўся. Якая розніца — пяты ці шосты клас.

У школе — нецікава. Усё тут ардынарнае, някідкае. Настаўнікі, відаць адразу, цягнуць надакучлівае ярэмца вучэбнай нагрузкі. Тоўсты літаратар па прозвішчу Янкоўскі паставіўся да Сашы абыякава. Можа, пакрыўдзіўся, што не наведаўся да яго на ўрок. Саша прымусіў сябе пагаварыць з Янкоўскім ветліва. Усё-такі стары настаўнік, і не варта кідаць цень на яго заслужаную сівізну.

З дырэктарам шчырая размова, якая мела яшчэ цікавейшы працяг у дырэктаравай кватэры. Тут усё загадзя падрыхтавана: засланы белым абрусам стол, заліты воцатам селядзец, нарэзана сала і сухая дамашняя каўбаса. Саша любіць, калі яго

сустракаюць як госця. Тым болей прыемна, калі і дырэктар, і яго жонка, досыць прывабная, маладая смуглянка, бачаць у ім прадстаўніка інстытута і належным чынам абыходзяцца. І кватэра дырэктарава хоць маленькая — два пакойчыкі,— але ўтульная.

Саша выпіў, павесялеў, гаварыў прыемныя словы гаспадарам. Вельмі хацелася пахваліцца сваім поспехам, дысертацыяй, якая будзе хутка абаронена, але стрымаўся. Не пераскочыў — не кажы гоп. Ды і не варта адразу раскрываць карты. Дырэктар жа не проста частуе. Заднюю думку, відаць, мае, можа, хоча дапамогі на экзамене ці што іншае. Не пашкодзіць прыглядзецца...

Адпачываў на канапцы, у другім пакойчыку, дзе спецыяльна завесілі акно.

Нават асенні дзень доўгі. Саша праспаў ледзь не дзве гадзіны, а калі ўстаў, спаласнуў твар вадой і выйшаў на двор — сонца стаяла яшчэ высока. Па вуліцы праехалі, стоячы ў скрынях, хлапчукі-вазакі, а ўслед за імі, па двое-трое ішлі студэнты. Хлопцы, відаць, стаміліся болей, крочылі ззаду, павольна і паважна.

Саша Красуцкі спыніў Веньяміна.

— Усе ў зборы?

— Няма Мудрыка і Варлена Ціхага.

— Дзе яны?

— Загараюць. Хапаюць апошнія сонечныя праменні.

У Сашавай душы ўсё кіпіць, але ён стрымліваецца. Не варта паказваць слабасць. Для яго ясна — староста не бачыць у ім кіраўніка. Няўдачнік, злосны на ўвесь свет. Зрэшты, трэба высветліць, чаму ў першы ж дзень гэты прыкры выпадак. Запытаўшы, дзе Мудрык і Ціхі, Саша шпарка пакрочыў вясковай вуліцай.

Мудрык і Ціхі ляжаць у гародчыку, на разасланай дзяружцы, кураць, пускаючы дым шызымі кольцамі. Яны сапраўды загараюць, бо ляжаць у адных трусах.

— На работу калі? — стараючыся гаварыць спакойна, пытаецца Саша.

Мудрык і Ціхі падхопліваюцца. На тварах іх вялікае здзіўленне. Каб зірнуў на гэтыя твары чалавек, які не ведае,

што перад ім звычайныя лодыры, то падумаў бы, што хлопцы забавіліся і цяпер каюцца.

— Хіба скончыўся абед? — пытае Мудрык.

— У нас няма гадзіннікаў,— адказвае Ціхі.

Саша міжволі весялее. Яму падабаюцца людзі, якія ўмеюць выходзіць сухімі з вады. Тып студэнтаў, да якіх належаць Мудрык і Ціхі, знаёмы. Сам быў студэнтам. З такімі можна згаварыцца. Але ўшчуць хлопцаў не пашкодзіць.

— Мы прыехалі памагаць калгасу,— пачынае Саша.— Перад намі такая задача. Мы яе павінны выканаць...

— Мы не адмаўляемся ад работы,— стаіць на сваім Мудрык.

— Проста трохі спазніліся,— падтаквае Ціхі.

Саша сам захапіўся сваім красамоўствам:

— Вы амаль настаўнікі. Прыехалі на практыку. Трэба паказваць вёсцы прыклад. Каб вучыць другіх, трэба мець маральнае права. Як жа вы будзеце вучыць, калі самі недысцыплінаваныя?..

— Па праграме будзем вучыць,— бадзёра гаворыць Мудрык.— Ёсць праграма.

— Кніжак колькі хочаш,— дадае Ціхі.— Знойдзем, адкуль браць матэрыял.

Мудрык нагнуўся, каб падняць карабок запалак, і нечакана нагой адгарнуў край дзяружкі. На траве ёмісты сшытак у цвёрдай вокладцы. Сшытак залішне акуратны, каб быць канспектам.

— Што гэта?

Хлопцы на момант збянтэжыліся.

— Спеўнік мясцовай прыгажуні,— нарэшце сказаў Мудрык.— Трапіў у якасці трафея.

Саша перагортвае старонкі з яўнай цікавасцю. Мудрык і Ціхі пераморгваюцца. Каб Саша быў болей праніклівы, то заўважыў бы выраз знявагі на тварах хлопцаў. Але аспірант заняты сшыткам. У ім не толькі песні, але і фотакарткі, наклееныя на лісткі. Двое вуснаў, якія зліліся ў прагным пацалунку. Белыя лебедзі на люстранай роўнядзі азярца і на беразе пышнагрудая прыгажуня з голубам на плячы.

Раптам Саша зарагатаў. Песня да таго недарэчная, што нельга не смяяцца:

А по морским по волнам
Женский труп несется,
А он на палубе с другой
Стоит и смеется.

— Тут яшчэ «Кармэн» ёсць,— гаворыць Ціхі і таксама рагоча.

Саша гартае сшытак. Вось і «Кармэн». Цыганка ператварылася ў фігуру мужчынскага роду:

На нее, подбоченясь игриво,
Загляделся проезжий Кармен...

— Пайшлі,— нарэшце гаворыць Саша.— Я яшчэ не быў на полі.

Мудрык і Ціхі бадзёра выдыгаюць побач з Сашам. Настрой у іх вясёлы. «З гэтым аспірантам можна жыць,— думае Мудрык.— Птушка недалёкага палёту. Любіць кісленькае і востранькае. Нездарма пра яго заляцанні трэплюцца...»

Мінулі вёску, пайшлі ў поле. Едуць гружаныя бульбай скрыні.

— Гэты ваш Сыраежка недысцыплінаваны,— гаворыць Саша.— Хоць і стараста.

— Многа аб сабе думае,— ахвотна пацвярджае Мудрык.

— Задавака, якіх не бачыў свет,— падтаквае Ціхі.

Там, за ўзгоркам, бульбянае поле...

## СОН

Баляць ногі, рукі, плечы. Апетыт жудасны. Страшна падумаць, колькі яны ядуць. Па кілаграму хлеба, па вялізнай місе бульбянага супу тры разы на дзень. А яшчэ малако, бульба, агуркі, памідоры, мяса.

Хлопцы пасапваюць насамі. Мудрык храпе. Выводзіць рулады, нібы трактар. Іерыхонская труба. Кажуць, што ў сне храпуць толькі бясклапотныя людзі. Мудрык не здаецца бясклапотным. Хто болей за яго спрачаецца? Усё ставіць пад сумненне.

Колькі Веньямін жыве ў інтэрнатах і слухае, як цяпер, чужы храп? Калі лічыць з арміяй, з казармай — восьмы год. У арміі затрымалі звыш тэрміну. Каб не гэта, быў бы на пятым курсе. У арміі ён спаў добра. Прыткнецца да падушкі, і гатоў. У інстытуце — не. Колькі ў яго было бяссонных начэй? Спачатку палохаўся. Няма нічога страшней за бяссонніцу. У памяці ўсплывае ўсё самае благое, што было ў жыцці. Пакутлівае пачуццё адзіноты. Свет здаецца чорным, нямілым. Раніцай — другі настрой. Дзённае святло дае зусім інакшы паварот думкам і пачуццям. Баліць галава, моташна, але жыць весялей. Відаць, каб чалавек адчуваў сябе ўпэўнена, патрэбна сонца... Ноч — для сну. Дзень — для радасці...

Цяпер Веньямін не баіцца бяссонніцы. Галоўнае — не палохацца, калі не спіш. Сон прыйдзе. Няхай пад самую раніцу, але прыйдзе. І трэба думаць не пра змрочнае, а пра што-небудзь прыемнае. Веньяміну вельмі памагае, калі ён успамінае ваколіцы вёскі, у якой вырас. Блукае ў думках па родных гаях і бярэзніках. Ён там ведае кожнае дрэўца і пяньчук. Слухае спеў птушак. Бачыць грыбы па імшарынах, верасах. Вяртаецца спакой, раўнавага, і ён засынае.

Дзіўна, чаму ён не спіць цяпер. Работа нялёгкая, і на полі яны гадзін па восем. Нормы не даюць. Не такая лёгкая норма. Вечарам стомленыя ўсе. Нават Мудрык, які віляе, як можа. І Ціхі віляе. Зубрыцкая, Валасевіч і Мохава проста не могуць. Шкада глядзець. Поўная непрыстасаванасць. Пасадзі іх, як рабінзонаў, на бязлюдны востраў, на якім шумяць нівы,— загінуць. Зрэшты, што трымае чалавека ў жыцці? Што самае галоўнае? Відаць, усё-такі пачуццё сваёй карысці для другіх. Яно ўсё ў галіне чалавечай дзейнасці. Можна ўявіць, што адчувае машыніст, які вядзе даўжэзны эшалон. Імклівы лёт, вецер у твар. Машына, падпарадкаваная волі чалавека. Ведае, адчувае машыніст, што робіць карыснае. Вязе тысячу тон нафты ці вугалю. Сагрэе, асвеціць цэлы горад. Ён, машыніст, і тысячы людзей, якіх ён сагрэе. Ясна — ён адчувае амаль тое, што і вучоны, які зрабіў найвялікшае адкрыццё. Асалода жыцця — у пачуцці сілы, карысці, уменні зрабіць так, як другія не зробяць.

Даўно, яшчэ на першым годзе вучобы, Веньямін быў на экскурсіі на трактарным заводзе. Убачыў там каваля. Такой

вялікаснай фігуры ён болей ніколі не бачыў. Здаравіла, падобны на Геркулеса, глядзеў на іх, студэнтаў, як бы звысака. Можа, таму, што дзяўчаты папрасілі паказаць молат, якім куе. Паказаў. Грукнуў дваццацітонным паравым молатам па балванцы і задаволена ўсміхнуўся. Усмешка караля...

Ён, Веньямін, не зрабіў нічога, каб усміхацца. Студэнт у дваццаць шэсць гадоў. Піша няўдалыя вершы, якіх не друкуюць. Поўны няўпэўненасці, рэфлексіі...

Да чыгуначнай станцыі, ля якой Веньямін вырас, праз лес ад далёкай рачулкі ідзе прамая як страла ляжнёўка — пясчаны насып, пад якім схавана жалезная труба. Некалі па трубе качалі на станцыю ваду. Цяпер ляжнёўка закінута. Над ёю густая навісь арэшніку, а паабапал ягадны і грыбны бор. Веньяміну прыемна ісці зялёным лясным калідорам. Наперадзе мільгае дзявочая постаць, і ён адразу пазнае дзяўчыну — гэта Віцця. Вельмі радасна, што Віцця тут, у родным бары. Ён прыспешвае крок, бяжыць, але Віцця ідзе вельмі шпарка. Вось ужо і не відаць яе, знікла...

За рачулкай адразу горад. Веньямін не ведаў, што ён так блізка. Не трэба ехаць па чыгунцы, варта толькі перайсці рэчку. Яны з Віццяй ідуць гарадской вуліцай і маўчаць. Веньяміну трэба сказаць Віцці штосьці важнае, але ён не можа ўспомніць што. Проста пасярод вуліцы, на асфальце, растуць сосны. Такія, як у бары. Белыя гарадскія дамы стаяць сярод соснаў, і нікога з людзей няма. Ніводнага чалавека. Толькі яны з Віццяй. Веньяміну страшна. Над горадам, як ноччу, чорнае неба. Белыя дамы, сосны на вуліцы і чорнае неба...

— Была атамная вайна,— гаворыць Віцця.— Горад зарос лесам, а людзей няма. Толькі мы з табою...

Веньямін крычыць, але голасу няма. Ад жаху ў яго прапаў голас. Ён хоча бегчы, уцякаць, але Віцця трымае яго за руку...

Веньямін прачынаецца. Месяц свеціць у самае акно, і ў пакоі сіняваты паўзмрок. Мудрык перастаў храпці, павярнуўся, відаць, на другі бок. Веньяміну і цяпер, калі прачнуўся, страшна. Ён увесь спацеў і адчувае, што баліць сэрца. Ніколі ў жыцці на бачыў ён такога жудаснага сну. Пляліся і раней кашмары, нават страшныя, але ён адразу іх забываў, як толькі прачынаўся. Яны былі хісткія, як цені, тыя сны-кашмары.

Таму не заставаліся ў памяці. Маўклівы белы горад, які зарос лесам, ён бачыць і цяпер. Да болю выразны малюнак. Страшна ўспомніць. Здаецца, не спаў, забыўся на лічаныя хвіліны. Ляжнёўку, па якой ішоў да ракі, ён уяўляў свядома, каб хутчэй заснуць. Сон пачаўся з Вікці. Вікця на ляжнёўцы, а за рачулкай горад, у якім ён вучыцца. Дзе мяжа паміж явай і сном? Славуты Паўлаў тлумачыў, што і ў сне пэўныя нервовыя цэнтры працуюць. Значыць, і ў сне жыве і думае чалавек. Веньямін сур'ёзна пра атамную вайну ніколі не думаў. Не ўяўляў ніякіх малюнкаў. Вайна ў свядомым яго жыцці не займае ніякага месца. Ён не верыць, што яна калі-небудзь будзе. Не такое дурное чалавецтва, каб ісці на смерць. Дык чаму ж такі сон і такі выразны малюнак? Льву Талстому таксама прысніўся некалі страшны сон, ён яго запомніў, адзін з тысячы, і расказаў Горкаму. Веньямін чытаў... Валёнкі без чалавека ідуць па снезе... Сапраўды страшна. Страх прыходзіць, відаць, тады, калі чалавек адчувае сябе бездапаможным, калі пагроза над яго жыццём або калі імгненна ламаюцца ўсе прывычныя ўяўленні аб жыцці. Валёнкі ідуць без чалавека...

Што ж такое сон? У газетах ёсць паведамленні, што некаторыя людзі вывучаюць у сне замежныя мовы. З дапамогай магнітафона, які некалькі разоў паўтарае адно і тое ж слова. Дзівакі! Навошта вучыць мову ў сне, калі можна прачнуўшыся. Веньямін не верыць, што тым начным студэнтам не хапае часу днём. Або звычайныя лодыры, або тупыя як абухі...

Вякамі чалавек шукае тлумачэння відовішчам, якія паўстаюць перад ім у сне. Шукае алегарычнага сэнсу сноў. Ёсць людзі, якія снам вераць. Веньямінава маці, настаўніца, таксама крыху верыць. Да рэвалюцыі друкавалі нават кнігі, соннікі, якія тлумачылі кожны вобраз, што мільгаў у сне. Гэта звычайнае шарлатанства. Заўсёды знойдуцца ахвотнікі зарабіць на невуцтве людзей.

Веньямін, калі і верыць у што-небудзь такое, што называюць падсвядомым жыццём, дык толькі ў прадчуванне. Прадчуванне ў чалавека можа быць. Гэта як бы стан душы на грані думкі і пачуцця, накіраваны ў разведку заўтрашняга дня, будучыні. Відаць, нервовы цэнтр прадчування ў чалавека ёсць, але недастаткова развіты. Зусім магчыма матэрыяльная аснова

прадчування. Аналіз мінулага жыцця як вопыт для будучага. Кажуць, што мозг вылучае радыёхвалі пэўнай даўжыні. Можна паверыць, што чалавечая галава — радыёстанцыя і адначасова прыёмнік. Чалавек — гэта ж цэлы сусвет!.. І як мала чалавек ведае самога сябе... Веньямін верыць, што чалавек як арганізм, як форма жыцця ўвабраў у сябе ўсю мудрасць сусвету, усю яго дасканаласць і прыгажосць... Пад раніцу Веньямін заснуў. Засынаючы, баяўся, каб зноў не ўзнік страшны прывід белага горада пад чорным небам.

## ПРЫБЛУДЫ

Восень харошая, мяккая, лагодная. Цёплыя ночы, сонечныя, з сінімі засмужанымі далямі, дні. Добрае надвор’е — саюзнік студэнтаў.

Учора была нядзеля — першы выхадны, болей палавіны дзяўчат і хлопцаў ездзіла ў горад. Зубрыцкая, як і трэба было чакаць, не вярнулася. Для ўсіх ясна — пайшла здабываць даведку. А Мохава — сапраўды хворая. У яе на правай руцэ страшэнна распух палец. Суседская бабка называе хваробу валасень і лечыць палец, абкладваючы руку параным жытнім калоссем. Па ідэі, калоссе павінна выцягнуць з пальца хваробу. Але не выцягвае. І Мохава паедзе ў горад. Наўрад ці вернецца.

Не відаць таксама Мудрыка і аспіранта. Мудрык прыедзе з горада ў абед і скажа, што спазніўся на цягнік. Аспіранта няма ўжо тры дні. Паехаў, як толькі ўбачыў, што работа ўвайшла ў належныя берагі. Мусіць прыехаць сёння.

Трохі пазней звычайнага ідуць дзяўчаты і хлопцы на бульбянае поле. Ідуць уразвалачку, не спяшаючыся, і тым не меней у іх паходцы, аблічч ёсць штосьці такое, што сведчыць аб пераменах. Размоў і жартаў стала меней, і цяпер не скажаш, што студэнты — тыя ж дураслівыя школьнікі. Дзяўчаты трохі нязграбныя ў сваіх цёплых спартыўных штанах, у шэрых хустках, якімі завязаны іх галовы, і ў разлезлых, аблепленых зямлёй туфлях і ботах. Рукі ў дзяўчат за тыдзень загрубелі, сталі шурпатымі. Такія рукі ў даярак і цялятніц.

Зрэшты, асаблівага нічога не здарылася. Проста работа стала звычайнасцю і да яе збольшага прывыклі. Перасталі стамляцца. Вечарам зноў смяюцца, спяваюць, іграюць на патэфоне ў тых кватэрах, дзе жывуць дзяўчаты. Брыгадзір Кіёк — добры дыпламат. На поле прыходзіць раз у два дні, бо няма патрэбы часцей прыходзіць. Чацвёрты курс філфака добра ведае, што ўсю лагчыну — ад лесу да ўзгорка — трэба выкапаць яму. Калгасніц брыгадзір сюды не пасылае. Лагчына — трыццаць гектараў. Трыццаць дзён — трыццаць гектараў. У дзень — па гектару. Можна — па два. Брыгадзір цвёрда сказаў, што лагчына — заданне студэнтам. Бульбу на другіх участках выберуць самі калгаснікі.

Разворваюць барозны самі хлопцы — Варывончык, Змачынскі і нават Слава Байдакоў. Так хутчэй. Не трэба рабіць перакуры і доўга чакаць, пакуль хлапчукі-вазакі пройдуць з плугамі па полі. Няхай хлапчукі возяць бульбу. Было б хутчэй і лепей, каб яны падносілі да воза кошыкі і ссыпалі ў скрыню. Але хлапчукі падносіць кошыкі не хочуць. Сядзяць на скрынях з выглядам начальнікаў і, узмахваючы пугамі, нокаюць на коней. Палёгка, якую ім зрабілі студэнты, іх як бы не датычыць. Такія ў гэтым калгасе парадкі. Калі чалавек робіць тут якую-небудзь справу, то няхай хоць неба расколваецца, на другое ён ужо не звяртае ўвагі.

Засыпаюць бульбу ў капцы таксама хлопцы. Выкопваюць доўгую прамавугольную яму, засцілаюць дол, берагі саломай і воз за возам насыпаюць высокі конус, які затым зноў накрываецца саломай і засыпаецца зямлёй. Хлопцы ўпэўнены, што бульба не памерзне. Саломы і зямлі яны не шкадуюць. Але было б зноў жа лепей, каб бульба хоць трохі прасушвалася і перабіралася. Яна ідзе ў капцы адразу з зямлі, буйная і дробная разам. Трапляюцца пашкоджаныя, парэзаныя клубні. У капцы яны могуць гнісці і заражаць здаровыя. Вясной будзе страта. Брыгадзір Кіёк запэўнівае, што нічога благога не здарыцца. Каб бульба прасыхала і не гарэла, у капцах паставяць душнікі. А калі трохі і згніе — не бяда. І гнілую з’ядуць свінні. Ніхто бульбу не важыць і не мерае. Яе колькасць у капцы брыгадзір Кіёк вызначае на вока і запісвае лічбы ў зашмальцаваны блакноцік. У адсталым калгасе адсталыя парадкі...

Перад абедам, калі хлопцы канчаюць засыпаць капец, на ўзгорку курэе пылок. Імчыць легкавая машына. Веньяміну здаецца, што старшыня Адзярыха едзе на поле паглядзець, як працуюць студэнты, і ён гаворыць пра гэта хлопцам.

Старшыні на полі яшчэ не было, работы студэнтаў ён не бачыў, і хлопцы ўвішней ходзяць ля капца. Адзярыха здаецца строгім і можа лёгка знайсці непарадак. Але пад'ехала блакітная «Волга», а не шэры, аблезлы «Масквіч». З машыны вылазіць мажная, высокая жанчына ў жоўтым жакеце паверх светлай сукенкі, размаляванай вялікімі кветкамі. Цвёрдай хадою яна ідзе да дзяўчат, якія ўсе паразгіналі спіны і з вялікай цікавасцю глядзяць на госцю. З гурту выскаквае Клара Валасевіч, подбегам шыбуе да жанчыны і кідаецца ёй на грудзі. «Маці прыехала,— здагадваецца Веньямін.— Валасевіч — гараджанка...»

Дзяўчаты абступілі Клару і яе маці, махаюць рукамі ім, хлопцам. Веньямін пачуў, што клічуць яго. Не спяшаючыся, не ведаючы, навошта ён патрэбен, ідзе Веньямін да дзяўчат. Падышоў, прывітаўся. У жанчыны шырокі, нібы вылеплены з белага цеста, твар і густа падведзеныя бровы. Дзяўчаты маўчаць, запытальна, з недаўменнем пазіраючы на Веньяміна.

— Вы старшы? — пытае жанчына з уладнымі ноткамі ў голасе.— Клару кладуць на лячэнне. Вось вызваленне ад дэкана...

Яна працягвае паперку.

— Я студэнт,— стрымліваючыся, каб не крыкнуць, гаворыць Веньямін.— Працую як і ўсе...

Не зірнуўшы на Клару, Веньямін крочыць назад да хлопцаў. Ён не бачыць, як жанчына, колькі хвілін пастаяўшы ў нерашучасці, такой жа цвёрдай, як і прыйшла, хадою падаецца на дарогу, да машыны. Апусціўшы галаву, Клара павольна ідзе ўслед за ёю. Падышоўшы да «Волгі», не адразу лезе ў кабіну да маці. Стаіць нібы ў задуме, як бы не ведаючы, што рабіць. Потым паварочваецца тварам да дзяўчат, махае на развітанне рукой. А дзяўчаты не глядзяць — зноў сагнуліся над барознамі. Хутчэй разграбаюць зямлю шурпатыя, агрубелыя рукі, гучней стукаюць бульбіны, падаючы ў жалезныя вёдры і лазовыя кошыкі. Блакітная «Волга», выпусціўшы воб-

лачка сіняга дыму, рушыла па вузкім глiністым прасёлку на ўзгорак.

У абед — сенсацыя. Мудрык, ідучы са станцыі ў вёску (ад Князева Сяла да чыгункі шэсць кіламетраў), напаткаў па дарозе траіх фізікаў і прывёў з сабой. Фізікі, відаць, і самі не надта працівіліся. Прыехалі з горада — таксама на бульбу і на практыку — яшчэ раніцай, але ў вёсцы, якую ім назвалі ў дэканаце фізмата, курса свайго не знайшлі. У той вёсцы працуюць хімікі. З хімікамі фізікі не засталіся, а да філолагаў пайшлі.

— Трое выехалі, трое прыехалі,— задаволена размахвае рукамі Мудрык, які ўжо ведае навіны.— Поўны баланс. Прадукты на ўсіх выпісаны.

Прыняць фізікаў згодны ўсе. Толькі дзяўчаты выказваюць сумненне:

— А як жа з практыкай? Трэба ж, каб ім практыку залічылі...

— Ну і практыка — пазакласная работа,— гарачыцца Мудрык.— Яна аднолькавая на ўсіх кантынентах і для ўсіх спецыяльнасцей. Залічаць. Абы добра бульбу капалі...

Мудрык — самы гарачы абаронца фізікаў. Можа, таму, што, прывёўшы іх, ён як бы знімае з сябе віну за спазненне, за тое, што паўдня не працаваў.

Фізікі — дзве дзяўчыны і хлопец. Па ўсіх прыкметах, яны з тых, хто ехаць на бульбу не збіраўся. Відаць, прымусілі акалічнасці. Мудрык вядзе фізікаў уладкоўваць на кватэры.

Пасля абеду — хлопцам новае заданне. Да заўтрашняга дня прыйдзецца развітацца з бульбай. Трэба перанесці насеннае зерне на другі паверх збожжасховішча, дзе яно будзе ляжаць да вясны. Збожжасховішча — новы, досыць прасторны будынак, поўны рабочага тлуму. Грукоча трыер, каля яго завіхаюцца маладыя калгасніцы, адграбаючы драўлянымі лапатамі зерне, насыпаючы і завязваючы мяхі. Гэтыя мяхі трэба цягаць па сходах на другі паверх. Экзамен на мужчынскую сталасць, вам, гарадскія хлопчыкі! Любіце есці белыя булкі, пацягайце мяхі!..

Пад зацікаўленымі позіркамі калгасніц Веньямін ускінуў на плечы цяжкі, ледзь не чатырохпудовы мех і паволі панёс.

Калі падымаўся па сходах, падгіналіся ногі, кружылася галава, і было такое адчуванне, што не вытрымае і вось-вось зваліцца са сваёй цяжкай ношай уніз. Але перад яго вачамі на дзветры прыступкі вышэй упэўнена ступалі жоўтыя туфлі Славы Байдакова, які не толькі кіраваў інстытуцкім хорам, але меў і спартыўны разрад, і Веньямін, знемагаючы ад непасільнага цяжару, дрыжучы ўсім целам, ішоў наверх, больш за ўсё баючыся, што не ўтрымае вузел мяшка ў руках і асароміцца перад хлопцамі і калгасніцамі.

Калі сышоў уніз і зірнуў на хлопцаў, супакоіўся. Ва ўсіх — у Варывончыка, Змачынскага, Мудрыка, нават у Славы Байдакова — чырвоныя ад натугі твары, і ніхто з іх не спяшаецца хапацца за наступны мех. На трэцім ці чацвёртым захадзе Веньямін зразумеў, як лепш несці мех. Яго трэба ўскідваць на ўсю даўжыню плячэй, ніжэй згінацца, тады меншая нагрузка прыпадае на рукі. Зрэшты, добра, што яны папрацавалі на полі. Нейкая фізічная загартоўка за тыдзень набыта. Наўрад ці цягалі б яны гэтак мяхі, каб не згіналіся над баразнамі, не капалі капцоў.

Тое, што пачалося потым, можна назваць спаборніцтвам. Веньямін не любіць гэтае слова. Яно вельмі прымільгалася ў газетах. Пішуць дзе трэба і дзе не трэба. Але яно ёсць, жыве — усё тое, што хаваецца пад гэтым словам. Веньямін пераканаsuccessfully цяпер сам. Ускідвае на плечы мяшок Слава Байдакоў, за ім Веньямін, потым Змачынскі, Варывончык і астатнія. Падымаюцца па прыступках у такім жа парадку. За час, пакуль яны падымаюцца і спускаюцца, калгасніцы паспяваюць насыпаць зернем новыя мяхі. Усё падпарадкавана строгаму і прыгожаму рытму.

Хлопцаў ахоплівае рабочы запал. Гул трыера — як музыка. Усё спрытней узбягаюць і спускаюцца па сходах хлопцы. Падпарадкоўваючыся радаснай, бадзёрай хвалі, якая захліснула грудзі, напоўніла ўсяго, Веньямін не адчувае стомленасці. Часу не існуе. Прыемна адчуваць сябе дужым, здольным; як цацку, ускінуць на плечы цяжкі мяшок і несці яго амаль подбегам туды наверх, праз дваццаць ці трыццаць прыступак. Калгасніцы глядзяць на іх з захапленнем. Жанчына заўсёды схіляецца перад сілай мужчыны. У Веньяміна адно жадан-

не — хутчэй. У хлопцаў узбуджаныя, расчырванелыя твары, вясёлыя вочы. Ва ўсіх — і ў Мудрыка, і ў Ціхага, якія нічым не адрозніваюцца ад сваіх таварышаў і гэтак жа імкліва ўзлятаюць па прыступках з чатырохпудовымі мяхамі.

Тэмп работы ўсё нарастае, і невядома, чым скончыўся б гэты малады выбух сілы і дужасці, каб у зернясховішча не зайшоў брыгадзір Кіёк.

— Цішэй, хлопцы! — гукнуў ён на ўвесь голас.— Пупы нарвяце... Вы не думайце, калгас не будзе аплачваць вашы бюлетэні!..

Але радасны запал працягваецца яшчэ з паўгадзіны — да таго часу, пакуль не змаўкае трыер і з падлогі не знікае гара насеннай пшаніцы.

— Малайцы! — хваліць брыгадзір Кіёк.— Сёння працадзень паўнацэнны. Але добры конь не той, што рве, а што доўга цягне... Пагляджу, як вы заўтра выйдзеце на бульбу...

Прыцемкам Веньямін са Змачынскім развозілі па хатах хлеб, памідоры і мяса, атрыманыя ў кладавой. На вуліцы напаткалі аспіранта Сашу Красуцкага, які, відаць, прыехаў вячэрнім цягніком. Веньямін спыніў каня, паведаміў пра дзяўчат, што пакінулі работу, і пра фізікаў, якія прыбіліся.

— Вы зусім тут распусціліся! — не хаваючы раздражнення, закрычаў аспірант.— Ніякай дысцыпліны... Сваіх адпускаеце, чужых прымаеце... Майце на ўвазе, я пра ўсё далажу дэкану...

Веньямін торгае лейцамі. З першага дня ў яго сутычкі з аспірантам...

## ДЗЕНЬ СЁМЫ
## САШЫ КРАСУЦКАГА

Як увіхалася ў гэты вечар ля Сашы крамніца Раіса! Як старалася спадабацца, дагадзіць свайму часоваму пастаяльцу. Стол — раскоша. На ім віно, гарэлка, закуска. Відаць, моцна засумавала, а можа, нават падумала, што болей не прыедзе. Жанчыны ўмеюць гэта рабіць. Ён, Саша, правільна зрабіў, што не дазволіў сабе нічога такога ў першыя дні. Паставіў сябе

мужчынам. Ніколі не трэба зрываць ружу, якая не расцвіла. Каханне, як і віно, патрабуе вытрымкі. Вядома, каханне ўсялякае бывае. Мужчынам найбольш падабаецца тое, калі трэба дамагацца, пераадольваць перашкоды. Гэта называецца перамогай і цешыць самалюбства. А здараецца, сама жанчына прагне свайго абранніка. Як у дадзеным выпадку. Асалода для самалюбства меншая, але ёсць і свае выгоды. Такія жанчыны звычайна пакорлівыя. Можна з іх віць вяроўкі. Галоўнае ва ўсіх выпадках — у час паставіць кропку. Не даць сябе звязаць па руках і нагах. Жанчыны ахвочыя на гэта. У іх магутны арсенал розных сродкаў. Але Саша ўмее своечасова ставіць кропкі. Да апошняга часу ўдавалася. Ды так і будзе...

У пакоі — прыемны паўзмрок. Раіса спецыяльна купіла сіні абажур на лямпу, каб стварыць інтымную абстаноўку, утульнасць. Мыўся на двары — сама выйшла паліць на рукі. Трохі няёмка, могуць з вуліцы ўбачыць студэнты, хоць сцямнела ўжо. Трэба даць зразумець Раісе. Ніякіх праяў інтымнасці на людзях. Яму трэба трымацца на вышыні.

На Раісе белая сукенка з вялікім выразам. Шоўк прыемна шуршыць. Ды і сама Раіса зграбная, прывабная — гнуткі стан, круглы твар, шэрыя вочы як бы зацягнуты павалокай смугі. Прыгожая Раіса. Можа, трошкі вульгарная. Але калі жанчына прагне кахання, яна выстаўляе ўсё лепшае, што ў яе ёсць. Горшае праяўляецца, калі жанчына не кахае або перастае кахаць.

— Выпіце, Саша,— гаворыць Раіса.

Ён дастае з партфеля бутэльку віна і ставіць на стол. Калі хочаш падабацца, пра выдаткі забывай. Смачная цукерка яшчэ смачнейшая ў бліскучай паперцы.

— Якое харошае віно! Я яшчэ ніколі такога не піла.

Ён любіць гэты самы інтымны момант збліжэння. Радасная хваля захліствае грудзі. Сапраўды, калі ў людзях ёсць ідэальнае, то яно праяўляецца менавіта тады, калі яны ідуць адно другому насустрач у сваіх жаданнях. Саша лічыць, што сумнае сямейнае жыццё забівае ідэальнае. Пачынаецца будзённасць. Нездарма нават замужнія жанчыны шукаюць такіх вось сустрэч з чужымі мужчынамі. Хочуць пагрэцца ля агеньчыка кахання. Калі кахання няма, выдумліваюць яго. Кожнаму хочацца салодкага...

— Выпіце, Саша,— просіць Раіса.

Яны чокаюцца, пазіраючы адно другому ў вочы. Віно церпкае, але прыемнае на смак. Раіса не закусвае. Саша есць. Ён з дарогі прагаладаўся.

— Вы ў горад па рабоце ездзілі? — пытаецца Раіса.

— Так, па справе.

— Вы вучыце студэнтаў?

— Пачынаю.

— Які вы разумны!

Пахвала прыемная.

Сашу хочацца расказаць пра дысертацыю, пра тое, як цяжка было яе пісаць, але ён стрымліваецца. Не варта гаварыць такое Раісе.

— Выпіце, Саша!

Злёгку шуміць у галаве. Самы прыемны стан, калі хочацца расказаць пра сябе, раскрыць душу перад другім чалавекам, пачуць ад яго слова спагады і ласкі. Чаму ён, Саша, заўсёды стрымліваецца? Сарамлівасць? Не, не тое. Відаць, проста пачуццё няўпэўненасці. Так, ён не ўпэўнены, што ўсё будзе так, як ён хоча. Дысертацыя напісана, гэта праўда. Тэма важная, таксама праўда. «Матывы калектывізму ў вуснай народнай творчасці». Такую тэму мог знайсці толькі ён, Саша. Што далей? Работа ўхвалена кіраўніком. Але кіраўнік сам не вялікі дока. Тыповы серадняк.

— Вы, Саша, пішаце кнігі?

— Мае кнігі, Раіса, сумныя. Вы іх чытаць не будзеце.

— Выпіце, Саша.

Ён не інтымнічае ад таго, што рана раскрываць свае карты. Нічога яшчэ ён не дамогся. Вядома, ён не геній, звычайны зямны чалавек. «Вучоным можаш ты не быць, а кандыдатам быць павінен...» Бацька не зычыў яму ісці ў вучоныя. Бацька — дзівак. Няўрымслівы дзівак, які не ўмее жыць і не ведае, з якіх часцін складаецца жыццё. Часы рамантыкі прайшлі, беззваротна канулі ў Лету, думае Саша. Бацька разумны, дапытлівы, але не хапае хваткі і ведання людзей. Лезе на ражон, таму на старасці год нават з пасады дырэктара школы знялі. Піша, што адмовіўся сам. Можа і такое быць. Але бясспрэчна і тое, што бацька нічога не разумее. Не ведае,

што такая фігура, як прамавугольнік ці квадрат, не можа каціцца па зямлі. Коціцца шар. Зямля таксама шар. Нехта геніяльны выдумаў кола. Ён, Саша, бачыць сябе геаметрычнай фігурай, якая нагадвае круг, кола. Дзякуючы колу стаў магчымы велізарны прагрэс на планеце. Кола коціцца, а не слізгае. Яно, так сказаць, самастойнае ў дачыненні да тых матэрый, з якімі мае справу. Жыццё рухаюць людзі з такімі характарамі, як у яго, Сашы...

— Вы сумны, Саша. Пра што вы думаеце?

— Давайце вып’ем, Раіса. За вас. Вы маладая і прыгожая...

У яе на шчоках прабілася прыемная чырвань. Вочы свецяцца ўдзячнасцю. Як нямнога трэба, каб усцешыць жанчыну. Пару збітых, банальных фраз і трошкі цеплыні ў голасе. Раіса — бяскрылая птушка. Ёсць і болей крылатыя. Але ключ да жаночага сэрца — адзін. Болей хвалі яе і старайся здавацца таямнічым, неразгаданым.

— Вы доўга будзеце ў нас, Саша?

— Яшчэ тры тыдні. Для мяне гэта шчасце. Я па горла заняты работай.

— А я так хачу ў тэатр. У нас тут сумна...

«Птушачка з кіпцюрамі,— мільгае ў ахмялелай Сашавай галаве.— Робіць задзел. Трэба даць адпор. Неадкладна...»

— У тэатры я не быў два гады. І не хутка пайду. Работа. У мяне якраз вячэрнія гадзіны.

— Давайце вып’ем, Саша. Толькі мне да палавінкі. Кружыцца галава.

«Клюнула,— з радасцю думае Саша.— Усе яны аднолькавыя. Калі нельга залаты пярсцёнак, то хоць сярэбраны». Вялікая перспектыва — з’явіцца ў тэатры з Раісай... Яму наогул цяпер не да жанчын. На першым плане — справа. З дысертацыяй варта пачакаць. Не лезці на ражон. Павыкладаць год ці два, каб заваяваць на факультэце вагу. Каб прывыклі і прызвычаіліся. Тады пойдзе як па масле. У адваротным выпадку можа здарыцца так, як на першым абмеркаванні. «У вашай дысертацыі думак не больш, чым у папулярнай брашуры...» А ў вашай, шаноўны калега, думаеце, больш? Няма нічога новага пад месяцам. Проста вы — дацэнт, а я не, і я не магу вам запярэчыць... Але пачакайце. Будзе і мой верх. Коціцца шар. Прамавугольнік і квадрат не коцяцца...

Раіса маўчыць. Паклала сваю руку на Сашаву. Рука мяккая, гарачая. Ён перабірае яе пальцы. Зусім недарэчы ўспамінаецца песенька, чутая ў Ялце, у доме адпачынку, дзе Саша быў летась. Пустая песенька, але якраз на гэты выпадак:

Ты пришла в малиновом платочке,
Целовал малиновые щечки,
Тучка шла, и дождик шел —
И тибе и мине — хорошо...

Раіса ўстала. Папраўляе перад люстэркам валасы. Ведае, што прыгожая. Разводка. Відаць, не соладка жылося таму, хто яе пакінуў. Саша не хоча болей стрымлівацца. Было ясна з першага дня. Тушыць святло і абнімае жанчыну...

## САЛОН ЖЭНІ ТКАЧЭНКА

Паміж студэнтамі аднаго і таго ж курса каханне бывае рэдка. Можна нават сказаць, што ў парадку выключэння. У дадзеным выпадку пацвярджаецца тая ісціна, што для кахання патрэбен арэол таямнічасці, неразгаданасці, у якім для закаханых паўстае Ён і Яна. Нічога гэтага не можа быць, калі хлопец і дзяўчына на адным курсе. Па-першае, няма ніякай таямнічасці. Тыя, што вучацца разам, адзін пра другога ведаюць усё. Па-другое, Ён і Яна часта трапляюць у становішча, якое нельга назваць гераічным. Героікі мала, калі прыходзіцца дрыжаць перад дзвярамі аўдыторыі, дзе ідзе экзамен. А выдатнікі дрыжаць болей, чым астатнія.

Трое студэнтак з курса ўжо замужам. І ўсе пайшлі за хлопцаў з другіх факультэтаў.

На чацвёртым курсе філфака выключэнне складаюць Сеўрукі. Праўда, ёсць толькі адзін Сяўрук — Міша. З першага курса ён сябруе з Кацяй Чыжык. Яна і ён — невялікія ростам, ціхія і нават тварам падобныя адно на другога. Калектыўная памяць курса запісала ўсе этапы гэтага сяброўства. На першым курсе Міша з Кацяй сталі хадзіць у кіно. Удваіх яшчэ не хадзілі. Міша запрашаў каго-небудзь з хлопцаў, Каця —

сяброўку. Квартэт з цягам часу распаўся і застаўся дуэт — Міша і Каця. Тым, хто запрашаўся дзеля кампаніі, відаць, апрыкрала роля статыстаў. Тым болей што справа не ішла далей прыязных позіркаў, якімі абменьваліся Міша і Каця. Але без статыстаў ледзь не здарылася благое. Быў перыяд, калі закаханыя не выказвалі ніякіх прыкмет узаемнай прыхільнасці. Толькі ў канцы другога курса Міша адважыўся запрасіць Кацю ў кіно адну. З таго часу яны заўсёды разам. Разам сядзяць у бібліятэцы, ходзяць у сталовую. Дзяўчаты, якія жывуць у адным пакоі з Кацяй, расказваюць, што пасля дванаццаці яна выстаўляе Мішу за дзверы, але хусцінкі і наскі яму мые і прасуе. Курс даўно прызвычаіўся, што паміж гэтымі дваімі ўсё вырашана, і называе іх — Сеўрукі.

Сеўрукі разам і на бульбе. Выбіраюць суседнія барозны. Міша не дазваляе Каці насіць цяжкія кошыкі да скрыні. Носіць сам. Так што на чацвёртым курсе ёсць прыклад для пераймання. Але пачын Сеўрукоў не прывіваецца. Якраз наадварот...

З прыходам у Князева Сяло студэнтак-фізікаў дзяўчатыфілолагі ў поўнай адзіноце. Вечары харошыя — цёплыя, зорныя. Можна пахадзіць па вёсцы, паспяваць, прайсці аж да мастка, дзе булькае вясёлы ручай. Дзяўчаты ходзяць і спяваюць. Але адны, без хлопцаў. Хлопцы па вечарах увіваюцца каля «прыблуд» — так называюць студэнтак-фізікаў.

Жэня Ткачэнка з сяброўкай Алай Бірыч ахвотна прымаюць заляцанні філолагаў. Кватэра ў іх прасторная, чыстая палавіна новага — ён нават пахне смалой — дома. Гаспадыня маладая, вясёлая, не меней, чым кватаранткі, любіць, калі ў хату прыходзяць хлопцы.

Кватэра Жэні Ткачэнка — салон. Уздоўж сцен — высокія, ледзь не пад столь, фікусы, падлога заслана палавікамі, на сценах — дываны. У гаспадароў — прыёмнік з радыёлай і нават тэлевізар. Слава Байдакоў з Варленам Ціхім перанеслі сюды ўсе пласцінкі, якія прывезлі з сабой філолагі. Вечарам у Жэні Ткачэнка ёсць усё, што трэба для душы. Слухай музыку, глядзі тэлевізар, можна і патанцаваць. Гаспадыня не скупіцца і штовечар ставіць на стол графін з дамашнім яблычным віном.

Жэня — прыгожая і дасціпная. Чарнявая, стройная, высокая ростам. Яна з тых дзяўчат, якія ніколі і нідзе не губля-

юцца, але робяць гэта з прыроджаным тактам і далікатнасцю. Сяброўка Жэні — бялявая, меншая ростам, але таксама прывабная. Яна гаворыць мала, болей слухае. Мяккая, загадкавая ўсмешка не сыходзіць з яе вуснаў. Можна ўсё, што хочаш, думаць пра гэтую ўсмешку.

Філолагам пашанцавала, што да іх стану прыбіліся такія дзяўчаты. Вечарам у салоне Жэні Ткачэнкі людна, тлумна. Хлопцы апранаюць святочныя касцюмы і прыходзяць сюды. Маглі б прыходзіць і дзяўчаты, Жэня нават запрашае, але яны дэманстратыўна не ідуць. Нібы ў іх ёсць якія-небудзь рахункі да Жэні.

Жэня проста расцвіла. Там, на полі, у вязанай сіняй шапачцы, шэрым світары, спартыўных штанах, яна нічым не адрозніваецца ад астатніх дзяўчат. Пераапрануўшыся ў светлую шаўковую сукенку, расчасаўшы кудзеркі чорных валасоў, робіцца багіняй. Ёй вельмі пасуе роля гаспадыні: умее запрашаць, камандаваць хлопцамі, накіраваць гаворку ў патрэбнае рэчышча.

Штатныя кавалеры — Слава Байдакоў і Варлен Ціхі. Слава — хлопец гарадскі, рухавы, у яго заўсёды запас смешных анекдотаў, для кожнай кампаніі ён — знаходка. Рэфлектыўны Варлен таксама пажвавеў. Маўчыць-маўчыць і выпаліць такое, ад чаго ўсе кладуцца ад смеху. Жэня з сяброўкай прымаюць красамоўства Славы і Варлена як належнае. Але перавагі толькі гэтым двум не аддаюць. Можна сказаць, што дзяўчаты з аднолькавай увагай адносяцца да ўсіх хлопцаў, якія да іх прыходзяць.

Аднойчы ў салон завітаў Міша Сяўрук.

— Што, Міша, абрыдзела сямейнае жыццё? — сустрэў яго Мудрык.

Дзяўчаты — Жэня і Ала — з цікавасцю глядзяць на Мішу. Такі малады, хлапчук, а ўжо жанаты.

Просталінейны Мудрык ахвотна абмалёўвае Мішава становішча. Дзяўчаты весялеюць. Слава ўключае радыёлу, круціць факстроты і танга, Жэня з Алай, тоячы ўсмешкі, наперабой запрашаюць Мішу танцаваць. Ён не адмаўляецца, таптун! Чырванеючы, млеючы ад разгубленасці, шоргае па падлозе вялікімі чаравікамі, камечачы палавікі і дарожкі...

У салоне двое, каму не надта весела. Веньямін глядзіць на Жэню і хмурыцца. Такая ж была Вікця. Зусім інакшая тварам, паставай, але схаваным, унутраным вельмі падобная. Магла быць ласкавай, шчырай. Няўжо ў яе хапае шчырасці на ўсіх? Хапала на яго, цяпер на Хмялеўскага з ардынатуры...

Хмурыцца і фізік — рослы, стрыманы хлопец. Прозвішча яго Плашчынскі. Відаць, Плашчынскаму непрыемна, што тут, у асяроддзі хлопцаў-філолагаў, якія выдыгаюць перад дзяўчатамі наперабой, ён адышоў на задні план. Фізікі наогул трохі звысака глядзяць на філолагаў, як і на ўсіх астатніх, хто не мае справы з канкрэтнымі матэрыямі.

Веньямін з Плашчынскім выходзяць на вуліцу і штовечар спрачаюцца пра кібернетыку.

— Чалавек — машына,— кажа Плашчынскі.— Вельмі складаная, але машына. Таму кібернетыка здольна мадуляваць усе працэсы, якія адбываюцца ў чалавечым арганізме.

— Глупства! — гарачыцца Веньямін.— Акрамя фізічнага чалавек мае і духоўнае жыццё. Што ж, па-твойму, кібернетыка і чалавека створыць?

— Створыць! Яшчэ лепшага, чым ёсць...

— І твой чалавек будзе марыць, любіць жанчыну?

— Будзе. Кожны чалавечы імпульс можна перадаць сігналам. Значыць, магчыма яго мадуляваць.

— Чалавека трэба вывучаць яшчэ мільён гадоў,— даказвае Веньямін.— І за мільён не вывучыш. Бо чалавек — цэлы сусвет... Такі ж велізарны, як космас... Практычна бясконцы...

— Не хвалюйся, пазнаюць твайго чалавека хутчэй. Ён не загадка.

На вуліцы, амаль насупраць дома, дзе жывуць прыблуды, куча сасновых бярвенняў. Вечарам тут збіраюцца мужчыны. Сядзяць, кураць, вядуць размовы. Да студэнтаў прызвычаіліся — як бы і няма іх тут. Ні аб чым не распытваюць. Найболей цікавіць Веньяміна загадчык фермы Мікіцёнак, стары, ссутулены, са злосным маршчыністым тварам. Веньяміну расказаў гаспадар — Мікіцёнак партызан дзвюх войнаў. Партызаніў яшчэ ў белапольскую акупацыю, потым пры немцах. Веньямін глядзіць на Мікіцёнка са стоенай павагай. У першы тыдзень, калі прыблуд яшчэ не было,

у яго з партызанам вынікла непрыемная размова. Мікіцёнак з незнаёмым мужчынам сядзелі на бярвеннях.

— Як, студэнт, хутка да нас на аселасць? — спытаў Мікіцёнак.

— А я нікуды, акрамя вёскі, не паеду. Зраблю такую школу, што загрыміць на рэспубліку.

— Дык ты, значыць, едзеш дырэктарам школы. Табе што — ужо і месца прызначылі?..

Чырвань заліла Веньяміну твар. Стала сорамна. У думках ён сапраўды бачыў сябе толькі дырэктарам школы...

## ДЗІВА

Зноў настала нядзеля. У горад шмат хто не паехаў, бо выйшла на бульбу школа. Школьнікам адвялі два гектары за ўзгоркам, і студэнты там у новай ролі — кіраўнікоў. Як хутка ўваходзяць у ролю настаўніц дзяўчаты! У іх прыроджаны дар. Нават у тых, хто не надта добра вучыцца, не ведае, што такое пяцёрка ў заліковай кніжцы. Веньямін даўно заўважыў: дзяўчаты не любяць пытанняў філасофскіх, адцягненых, як бы поўнасцю перадавяраючы ўсё гэта ім, мужчынам. Затое як яны ўмеюць падысці да школьніка, заваяваць яго давер, паставіць на сваім! Ходзяць па полі, размаўляюць з дзятвой, і не адрозніш іх ад настаўніц, якія ў школе доўгія гады. І прозвішчы вучняў ведаюць, і, галоўнае, вучні іх слухаюцца. З хлопцаў на практыцы пабывалі толькі Шохан і Міша Сяўрук. Не тое ў хлопцаў. Стаяць на полі, як непатрэбныя. Прысутнічаюць. Камандуюць Зіна Бандарчык, Ніна Лагацкая, Каця Чыжык і астатнія.

З дзвюх вельмі не падобных часцін складаецца чалавечы род, думае Веньямін, ідучы з поля, адведзенага школьнікам. Што ёсць такое адметнае ў дзяўчат? Прыехалі і сталі настаўніцамі. У хлопцаў, нават у самых здольных, адразу не выйдзе. Хлопцы маюць большы поспех у старэйшых класах — ад дзявятага да адзінаццатага. Пацвярджаю мінулагодняй педпрактыкай. Лепшых урокаў было болей у хлопцаў. А тут, сярод малодшых школьнікаў, перавага ў дзяўчат.

Канец верасня, а па-ранейшаму цёпла як летам. Лятае павуцінне, трымцяць спавітыя смугой далі, якія адкрываюцца позірку з узгорка. Бярэзнікі як аблітыя золатам. Дзень вольны, і Веньямін наважыў схадзіць па грыбы. У горад не паехаў, хоць мог, і радуецца гэтаму. Няма чаго рабіць у горадзе. На тым, што было з Вікцяй, пастаўлена кропка.

У напарнікі да Веньяміна набіўся Варлен Ціхі. Проста так, ад бяздзейнасці, бо ў горад таксама не паехаў. Выбраўся ў грыбы, а кошыка з сабой не ўзяў. Ідзе ў лес з сукаватым кіем і з нажом.

Ідуць паўз могільнік. На ім старыя, разгалістыя бярозы, клёны і сосны. Маўклівая ўрачыстасць і цішыня.

— Рандэву Мудрыка,— кідае Ціхі.— Сустрэчы пад месяцам...

Веньямін здагадваецца, пра што гаворыць Варлен.

Тут, на могільніку, Мудрык праседжвае вечары і ночы з Нінай Лагацкай. Як бы помсціць дзяўчатам-фізікам, якія не надта добра яго прынялі. Яшчэ адна загадка прыроды. Што агульнага ў разумнай, ціхай Ніны з няўрымслівым Мудрыкам, які сам не ведае, што будзе рабіць заўтра?..

— Мудрык — кар’ерыст,— раптам кажа Ціхі.

— Кінь ты. Кар’ерысты выслужваюцца. Ён проста крытыкан.

— Кар’ерыст.

— Гаворыш глупства.

— Не глупства.

Ціхі ніколі нічога не даказвае. Сцвярджае — і ўсё. Хочаш вер, хочаш не. Спрачацца з ім у Веньяміна няма ахвоты. Хочацца вось так, дыхаючы на ўсе грудзі, ісці прасёлкавай дарогай, глядзець на лес, на ўзгорыстае шэрае поле. Веньямін любіць мяккія, задуменныя краявіды Беларусі. Дзе б ні быў за час службы ў арміі — у Эстоніі ці ў іншых месцах,— а такіх прыгожых мясцін, як тут, нідзе не бачыў. Ёсць нешта агульнае паміж прыродай — вось гэтым сінім небам, пералескамі, што жаўцеюць паблізу, пясчанай палявой дарогай — і музыкай. Найвышэйшая прыгажосць тая, што пазнаецца з дзяцінства, бо яна глыбей западае ў душу. Таму такія любыя родныя мясціны і наяве і ва ўспамінах. Яны як песня, як музыка.

Відаць, сама прырода нараджае музыку роднай зямлі, дакранаючыся да нябачных струн душы.

Веньямін нарадзіўся і вырас на Палессі. Там адметныя, трохі аднастайныя краявіды, якія вабяць разлогамі і шырынёй. Там калі лес, дык ад вёскі да вёскі, на нязлічаныя доўгія вёрсты. Дзень ідзі, а канца не ўбачыш. І вёскі на Палессі не такія, як тут, у сярэдняй Беларусі. Там — сёлы — мнагалюдныя, пыльныя, з вуліцамі, што па даўжыні могуць супернічаць з гарадскімі праспектамі. Ёсць яшчэ дубровы на Палессі. Хто не быў у дуброве, той не бачыў лесу. Спакойныя, велічныя, стаяць разлапістыя дубы, высока, ледзь не пад самыя аблокі, узносяць зялёныя шаты. І там, наверсе, паважна гамоняць з вятрамі.

Сярэдняя Беларусь, да якой належыць Князева Сяло, мае сваё хараство. Лясы тут невялікія, балот мала, найболей — поля. Але краявіды, бадай, прыгажэйшыя, чым там, на Палессі. Узыдзеш на высокі ўзгорак, і перад табой як на далоні шырокая разлегласць: няроўнае, як бы ўздыбленае застыглымі хвалямі, поле, пералескі на схілах узгоркаў, прыгожыя вёсачкі, што туляцца па ярах. І на ўсім адбітак мяккасці, лагоднасці...

Лес пачаўся маладым сасоннікам. Пясчаная дарога вільнула ўлева, і хлопцы рушылі па сцяжынцы, якая ўецца паміж хвойкамі. Сям-там дол зарос вераском, а найчасцей голы, з сівымі пляшынамі лішайнікаў. Цінькаюць сініцы, патыхае лясным грыбным духам.

Веньяміна заўсёды, калі ён толькі ўваходзіць пад шаты лесу, ахоплівае асаблівы настрой. Настрой гэты дзіўны і прыемны. З думак знікае будзённае, звычайнае, і ўсё тое, што яшчэ ўчора хвалявала, засмучала, здаецца дробным і мізэрным. У лесе Веньямін глядзіць толькі пад ногі. Інстынкт грыбніка як бы не дазваляе яму рассейваць увагу. Інакш паводзіць сябе Варлен Ціхі. Ён, відаць, абыякавы да грыбоў, бо ідзе па лесе, задраўшы галаву. Убачыў сойку, падняў камень, шпурнуў у вершаліну сасонкі. Сойка спалохана піснула, пераляцела на другое дрэва.

Першыя грыбы, на якія натрапляе Веньямін,— сямейка маслят. Вытыркнуліся на самай лысіне пясчанага грудка,

зараслага наздраватым лішайнікам. Цёмныя каптурыкі льсняцца тлустым глянцам. Нехта тут ужо меў папаску, але пакінуў і Веньяміну.

Трапляюцца сыраежкі. Іх многа, але Веньямін падбірае цёмна-барвовыя і зеленаватыя. Яны, калі не чарвівыя, моцныя і прыемныя на смак. Веньямін усміхаецца: прозвішча яго паходзіць ад самага распаўсюджанага ў лесе грыба. Відаць, далёкі продак быў грыбнік, але не самы ўдалы.

Пасадкі маладога сасонніку скончыліся, і наперадзе заросшая верасам паляна з рэдкімі бярозкамі. Верас у самым цвеце. Заліты бледна-ліловым полымем дол, і як залатыя ўспышкі па ім — бярозкі.

— Варлен! — паклікаў Веньямін.

— Што? — пачуўся голас ззаду.

Варлен падышоў — выстругвае новую палку.

— Паглядзі, як прыгожа.

— Што тут прыгожага?

— Верас цвіце!

— Што верас? Звычайная трава...

— Абух ты, Варлен.

Варлен не крыўдуе. Гэта тое лепшае, што ёсць у яго характары. Хлопцы рушылі па верасе. Веньяміну хочацца знайсці баравік. Пара баравікоў мінула, але бывае, што і ў гэты час трапляюцца. Днём цёпла, і ночы не халодныя. Але баравікоў у верасе няма. Трэба шукаць у іншых месцах. Хутчэй за ўсё ў імхах, дзе цяплейшы дол. Прыгожая паляна ўзнагародзіла Веньяміна толькі двума дробнымі ababкамі.

Далей ідуць па дарозе, бо наперадзе суцэльнай сцяной яловы лес. Веньямін не любіць ельніку. На Палессі елкі не растуць. Канчаюцца недзе перад Бабруйскам. Елкі прагныя да святла, іх галіны так шчыльна пераплецены, што пад імі заўсёды цёмна і змрочна. Дарога рудая, глiністая, ідзе на ўздым, раўчукі парабілі на ёй глыбокія вымоіны.

— Мудрык свіння,— паведамляе Варлен.

— Ты ж з ім сябруеш.

— Усё адно свіння.

— Чаму ты такі злосны?

— Ён падманвае дзяўчыну.

— Каго? Лагацкую?

— Не, тую, што з ім у школе вучылася. Яна яму грошы прысылае.

Мудрык ветрагон, але пра грошы Веньямін не чуў. Можа, і няпраўда. Чаму ўсё-такі дзяўчаты кідаюцца на ветрагонаў? Тая, што вучылася з Мудрыкам у школе і жыве ў раённым гарадку, няхай сабе не ведае. А Ніна ведае. Разумная дзяўчына. І ходзіць з Мудрыкам на могільнік. Ці паможаш тут масава-растлумачальнай работай?..

— Што ты думаеш пра дзяўчат? — пытаецца Веньямін.

— Нічога не думаю.

— А якую б хацеў пакахаць?

— Кахання няма.

— Ёсць сексуальныя эмоцыі,— падказвае Веньямін.— Жаніцца ўсё адно калі-небудзь трэба. На кім?

— Ажанюся па разліку.

Варлен не хоча скідаць маскі. Даўно напяў на сябе тогу абыякавасці і расчаравання. А самога штосьці ўзрушыла. Чаго б інакш пайшоў з ім, Веньямінам, у лес і стаў такім шчырым наконт Мудрыка.

За ельнікам — лугавіна. Перасякае яе насып-дарога, абсаджаная зялёнымі яшчэ вольхамі, абступаюць купчастыя лазнякі, вясёлыя бярэзнікі, курганы — узгоркі, заросшыя векавымі елкамі і хвоямі. І далей, як кінуць вокам, такія ж узгоркі, па схілах якіх зялёная шчэць хвойнага лесу. Там, дзе дарога губляецца ў зарасніку ляшчыны, праглядвае некалькі хат вёсачкі. Хаты з сінімі аканіцамі.

— Паглядзі, як прыгожа! — ускліквае Веньямін.

— Што тут прыгожага? — абыякава азываецца Варлен.— Балота.

Лугавінай, чвякаючы чаравікамі па мокрым доле, хлопцы дабіраюцца да ручая. Ручай, бадай, той самы, што цячэ каля Князева Сяла. Нават не ручай, а маленькая рачулка. Пятляе і віхляе рачулка між лазнякоў, падтачвае навіслыя тарфяныя берагі. Вада чыстая як сляза: відаць чорнае дно, на ім прэлае жоўтае лісце, рэдкія каменьчыкі. Кладкі праз ручай няма, і хлопцы зноў узбіваюцца на дарогу-насып, каб перайсці яго па мастку, які віднеецца ўдалечыні.

На мастку — новая прыгода. На краі насцілу ляжаць на жыватах два дзецюкі ў блішчастых хромавых ботах, звесіўшы галовы ўніз, да вады, і трымаючы ў руках нацэленыя ў рачулку палкі. На канцы палак замацаваны звычайныя відэльцы. «Рыбакі,— здагадваецца Веньямін.— Ловяць астрогамі...»

— Відэльцам за рыбку ды ў рот,— кідае Веньямін замест прывітання.

Рыбакі маўчаць.

— Злавілі што-небудзь? — пытаецца Варлен, поўны цікавасці да гэтай незвычайнай лоўлі.

Адзін з хлопцаў нецярпліва махае рукой, паказваючы на ўзбочыну насыпу. Там, на траве, плотка-краснапёрка. Адна на дваіх.

Веньямін хацеў выбіцца на парослы соснамі пагорак, але натрапіў на грыбы тут, на лугавіне. За ручаём, як толькі грунт стаў цвярдзейшы, ён спыніўся ўражаны. Па нізкай атаве растуць рыжыкі. Веньямін не паверыў вачам, нагнуўся, падняў грыб. Сумненняў не магло быць — рыжык! Грыб пясчаных узгоркаў перабраўся на лугавіну, на торф!..

— Варлен! — гукнуў Веньямін.— Алюрам сюды. Рыжыкі...

Але Варлена зацікавіла рыба. Ён ляжыць на мосце, поруч з хлопцамі, і нішто на свеце яго болей не цікавіць.

Знаёмая, зведаная стыхія летуценнасці захліствае Веньяміну грудзі. Ён ходзіць па лугавіне, па ўзлеску, збірае ў кошык рыжыкі і думае пра Віцю. Думаць пра Віцю хочацца. З успамінам пра яе, пра стрэчы, што былі між імі, душу агортвае ціхі, прыемны смутак. «Мне грустно и легко, печаль моя светла, печаль моя полна тобою...» Якая яна далёкая, Віця. Далёкая, як недасяжная зорка. Яго не ацаніла, не зразумела...

У жалі да сябе Веньямін знаходзіць уцеху. Ён няўдачнік у каханні. Дзяўчаты не глядзяць на яго. Не ўсе, а толькі такія прыгожыя, як Віця. Яны яго не разумеюць. Пачакайце, прыйдзе час. Ён сябе яшчэ пакажа. Што будзе, калі праз тры ці чатыры гады, пасля таго як надрукуюць кнігу яго вершаў і аб ёй напішуць у газетах, ён спаткае Віцю? Як яна на яго паглядзіць? Цяпер між імі ўсё скончана. А тады?..

Думкі-летуценні не перашкаджаюць Веньяміну шукаць рыжыкі і напаўняць кошык. Дзіўна, чаму не кінуліся сюды вяскоўцы? На лугавіне яшчэ нікога не было...

Здаволены, Веньямін выбіраецца на дарогу-насып. Кошык поўны. За гадзіну часу. Гаспадыня згатуе грыбы — ёй таксама хопіць,— і будзе смачная вячэра.

Варлен па-ранейшаму ляжыць з хлопцамі на мосце. На траве — дзве рыбкі.

— Твая юшка, мае грыбы! — заве Веньямін Варлена.— Пойдзем.

Хлопцы нездаволена махаюць рукамі. Маўляў, ідзіце, не пужайце рыбу. Нібы рыба валіць да іх касякамі.

— Паганак набраў,— падколвае Варлен.

— Рыжыкаў. Пасля баравіка рыжык лепшы грыб.

Хлопцы вяртаюцца ў Князева Сяло дарогай-насыпам. У кошыку няма ніводнага баравіка, але Веньямін шчаслівы. Дзень не прапаў дарма. Сонца хіліцца за лес, але цёпла, светла. Ногі ныюць прыемнай стомай. Усё-такі здорава яны загартаваліся на бульбе. Хопіць зарадкі на ўвесь семестр. Насустрач хлопцам па насыпе ідзе дзяўчына. Параўняўшыся, ківае, як знаёмая, усміхаецца. Веньямін у захапленні. Якая прыгожая!.. Ісці далей ён не можа, стаіць як укапаны, глядзіць услед дзяўчыне. Прайшоўшы крокаў дзесяць, дзяўчына азіраецца. Чарнявы, смуглы твар, белая сукенка, рыдыкюльчык у правай руцэ. Жывая Джыяконда, якая вандруе між алешын і лазнякоў ад вёскі. У Веньяміна выразнае жаданне — спыніць, дагнаць дзяўчыну, пачаць размову, дазнацца: адкуль яна і хто такая. Але ў першую хвіліну ён проста захоплены, здзіўлены, і момант упушчаны. А дзяўчына тым часам далёка. Ідзе лёгка, пружыніста, памахвае рыдыкюльчыкам і болей не азіраецца.

— Прыгожая? — пытаецца Веньямін у Варлена.

— Прыгожая.

Вісіць над лесам сонца, зелянее лугавіна, бруіцца ў навіслых тарфяных берагах празрыстая рачулка. Свет такі самы, як і пяць хвілін назад. І ўжо не такі. Усё навакольнае — задуменныя бярэзнікі, сасновыя, ахутаныя смугой, пагоркі, дарога-насып, па якой прайшла дзяўчына,— усё стала прыгажэйшым, шырэйшым, напоўнілася глыбокім, стоеным сэнсам. Якая ты магутная, неадольная сіла, прыгажосць! Ёсць на свеце розныя формы ўлады, якой падначальваешся ты, чалавек. Падначальваешся абавязку, неабходнасці, абставінам,

перакананню, розуму. Але самая прыемная ўлада, пад якую падпадаеш ты з радасцю,— прыгажосць. І ці не ў гэтым сакрэт і сэнс жыцця — сеяць прыгожае і з радасцю схіляць перад ім галаву...

Ахоплены смутна-радасным настроем, вяртаецца Веньямін у Князева Сяло. Хто яна, гэтая дзяўчына, чый вобраз прамільгнуў на дарозе-насыпе, сярод асенняга лесу? Чаму ўслед за ёй паляцелі думкі-жаданні, чым яна ўзварушыла душу? Упершыню за ўвесь месяц Веньямін не думае пра Вікцю.

Насып толькі на лугавіне, а ў лесе хлопцы зноў крочаць размытай, каляіністай дарогай. Выбіліся да Князева Сяла трохі з другога боку — могільнік цяпер злева. Яны выбраліся на поле, на высокі пагорак, калі да іх слыху данесліся ледзь чутныя сумныя гукі. Як бы ціхі журботны звон ляцеў з паднябесся. Веньямін спыніўся і стаў углядацца. Высока-высока — ледзь заўважыць — дзвюма доўгімі паскамі незамкнутага трохкутнічка ляцелі на поўдзень журавы.

## ЦІ ПАДОБНЫ МУДРЫК НА ГАМЛЕТА?

Прыехалі проста на поле намеснік дэкана Якаў Піліпавіч Вырай, а з ім сакратар інстытуцкай камсамольскай арганізацыі Іван Сыраквашка. Вырай — высокі, з худым, маршчыністым тварам, і хоць яму толькі сорак — зусім лысы. Выкладае мову, прадмет ведае, але страшэнна крыклівы на сходах. Пагражае ўсімі карамі тым, хто ўцякае з лекцый і семінараў. Пагрозы віснуць у паветры. Па натуры Вырай добры і мяккі.

У дзяўчат да намесніка дэкана прэтэнзіі:

— Чаму паблажкі ўдзельнікам хору?..

— Віра Базыльчык ні разу не была на бульбе...

— Экзамен па методыцы перанеслі на другі семестр...

— На заняткі прыйдзем чатырнаццатага. Паедзем дадому па паліто...

Вырай крочыць па баразне, усміхаецца. Пытаецца пра харчаванне, пра здароўе. Дастае з патайной кішэні паліто некалькі пісем, раздае дзяўчатам. Шум, крыкі сціхаюць.

— Усім, хто добра працуе, трохдзённы адгул,— гаворыць Вырай.

— І бульбяныя медалі,— дадае Мудрык.

Іван Сыраквашка — аспірант першага года навучання, гісторык па спецыяльнасці — адзывае ўбок Зіну Бандарчык. Яна сакратар курсавога камсамольскага бюро. Зрэшты, усе чуюць, пра што гавораць два сакратары. Сыраквашка прапануе правесці справаздачна-выбарны сход тут, на бульбе. Тым болей, што выбарная кампанія ў інстытуце канчаецца. Прычын, якія б перашкодзілі правесці сход, Іван не бачыць. Кворум ёсць. У наяўнасці працоўная абстаноўка. Такім чынам, забяспечан высокі ўзровень крытыкі недахопаў. Усіх, хто несумленна ставіцца да сваіх абавязкаў, можна вывесці на чыстую ваду.

Зіна вагаецца. Вельмі нязвычныя ўмовы. Як гэта тут, на полі, праводзіць сход? Такога не было. Як пісаць пратакол, аформіць рашэнне?

— Паможа кіраўнік вашай групы,— заяўляе Сыраквашка.— Ён ведае. А пратакол можна аформіць пазней. Важны сход, а не пратакол.

Саша Красуцкі на полі з самай раніцы. Цэлы тыдзень не было яго, з'явіўся ўчора. Відаць, ведаў, што прыедзе начальства. Цяпер як вартавы на пасту.

Веньямін ловіць сябе на зласлівым пачуцці да аспіранта. Ходзіць як індык надзьмуты. Кантакту са студэнтамі няма, ды ён і не шукае кантакту. Стараецца ўсяляк падкрэсліць сваё становішча. А сам быў на выпіўцы ў медыкаў. Паказная сур'ёзнасць. Няўжо аспірант пазбаўлен пачуцця гумару? Людзі працуюць, а ён, як прыганяты, пахаджвае. Ішоў бы лепш прэч. Веньямін ведае — хлопцы ставяцца да Красуцкага абыякава. Як бы няма яго. Зусім інакш — дзяўчаты. У іх да аспіранта цікавасць. Хіхікаюць, кідаюць дапытлівыя позіркі, задаюць пытанні.

Вырай і Сыраквашка паехалі. Інстытуцкі «Масквіч» памчаў іх у другія вёскі — раздаваць пісьмы і дамаўляцца наконт справаздачных сходаў.

Быў надвячорак, палявая цішыня. Хлапчукі-вазакі, нокаючы на коней, рушылі на ўзгорак, у вёску, а студэнты — да

стажка на ўзлессі, дзе наважылі праводзіць сход. Ёсць штосьці мілае, незабыўнае ў гэтым незвычайным зборышчы. Стажок парадкам абскубаны — стаіць блізка ля дарогі. Дзяўчаты абветрылі твары, паблажэлі,— ад даярак і цялятніц яны адрозніваюцца цяпер толькі тым, што ходзяць у спартыўных штанах. І дзяўчаты, і хлопцы расселіся пад стогам нехаця, з абыякавасцю на тварах. Ведаюць — нічога новага не будзе. Разам яны чацвёрты год, сакрэтаў няма, хто благі, хто добры — вядома. Што дасць ім гэты сход?..

Не садзіцца адзін Саша Красуцкі.

— Адкрывайце,— просіць ён Зіну Бандарчык.

Новае пачынаецца адразу. Прэзідыума няма, пратакола няма, але Зіна ўстае. Голас у яе трохі хрыплаваты.

— Давайце сур'ёзна,— гаворыць Зіна.— Мы настаўнікі. Прыедзем у такія, як гэта, вёскі. Яшчэ не настаўнік той, хто толькі здае экзамены. Настаўнік павінен верыць у тое, што гаворыць. Тым, хто не быў на бульбе, запішам у выпускной характарыстыцы. Без скідак. У мяне ўсё...

Маўчыць курс. Яшчэ ніколі не было такога кароткага справаздачнага даклада. Хоць ад Зіны можна чакаць. Яна заўсёды гаворыць тое, што думае. Яна і наіўная, і просталінейная — усё разам.

Маўчанне не можа быць бясконцым.

— Хто хоча гаварыць? — пытаецца Саша Красуцкі.

— Я.

Мудрык не ўстае. Ён сядзіць на пеньчуку, яшчэ сена падклаў, каб мякчэй было.

— Зіна — загнула,— гаворыць Мудрык.— У падрыхтоўцы настаўніка ўменне выбіраць бульбу не галоўнае. Мы людзі інтэлігентнай прафесіі. Трэба трэніраваць інтэлект, а не паясніцу. Кожны павінен рабіць сваю справу: настаўнік — вучыць, калгаснік — капаць бульбу. Пазакласную практыку можна і ў горадзе прайсці. Дагэтуль праходзілі. Таму неабавязкова бульбу запісваць у характарыстыку...

Бязладна загаманілі дзяўчаты.

— Сам такі...

— Базыльчык ні разу ў калгас не ездзіла!

— Ды не ў бульбе справа... Бэла Вато і ў школу не паедзе...

— Запісаць у характарыстыцы!..

У іх, студэнтаў,— запас маладой бадзёрасці, і яны лёгка ператвараюць драму ў камедыю. Такое лічыцца шыкам. Нормай паводзін. Крычаць на сходах заўсёды. У адносінах да дэкана, выкладчыкаў цвёрдая і непахісная сцяна студэнцкай салідарнасці. Хто ідзе насуперак, наткнецца... Але тут другое. Болей сур'ёзнае...

Пра ўсё гэта падумаў Веньямін, калі рашыў — варта ці не варта выступаць. Падняўшыся з-пад стога, сказаў:

— Зіна мае рацыю. Справа не ў бульбе. Справа ў тым, што мы настаўнікі. І наша права вучыць вынікае не з таго, што мы ведаем свой прадмет. Будзем вучыць жыць. Базыльчык, Вато, Клара Валасевіч, за якой прыехала мамка,— яны ж таксама скажуць вучням (Веньямінаў голас тут узняўся на самую высокую ноту)... яны ж таксама будуць сеяць вечнае і добрае... Якое вечнае?.. Грош цана тваім словам, калі ты гніляк!.. Гаворыш адно, а робіш другое... Нібы той рыжы поп, што вучыў паству: «Рабіце не як я раблю, а як кажу...» Мудрык са сваім выступленнем нагадвае такога папа...

— Сам ты поп! — агрызаецца Мудрык.— Шаман!

Гавораць пасля Веньяміна Байдакоў, Варывончык (запісаць у характарыстыцы), потым зноў Мудрык. На гэты раз устае. Мудрык чытае Пушкіна, і голас яго дрыжыць:

Пока не требует поэта
К священной жертве Апполон,
В заботах суетного света
Он малодушно погружен...

— Аб чым у Пушкіна? — крычыць Мудрык.— Аб уладзе таленту. А работа настаўніка — не прызванне, не талент?.. Настаўнік — чалавек і можа мець чалавечыя слабасці. Але тое, што ён ведае, што ўмее,— вышэй яго слабасцей. І толькі гэта дае яму права вучыць. Калі слухаць Сыраежку, то на настаўніка патрэбна навесіць вярыгі. Так не ступі, так не скажы. Тыповыя культаўскія слоўцы...

Зноў абураная дзявочая рознагалосіца:

— Які талент у Віры Базыльчык? Па атэлье бегае...

— Бэла Вато лічыць сябе артысткай. Трэба было ісці ў тэатральны...

— Валасевіч, як на бульбу, адразу хворая...

Разрадка наступае пасля Мішы Сеўрука.

— Запісаць трэба,— павучальна, спакойна гаворыць Міша.— Але не ўсім. Дзяўчатам, якія замужам, не варта. У Галі Спірыдонавай — дзіця. Куды яна паедзе?..

— Правільна, Міша! — крычаць хлопцы.— Абараняй свае інтарэсы.

— Дзяўчат, якія замужам, называюць жанчыны...

— Бываюць жанчыны і незамужнія...

Саша Красуцкі ўсё-такі дыпламат. Бярэ слова, калі хваля ўзрушанасці спала.

— Недысцыплінаваных трэба пакараць,— гаворыць аспірант.— Гэта не да твару будучым настаўнікам. Але таварыш Сыраежка (аспірант пра астатніх як бы забыў)... таварыш Сыраежка залішне катэгарычны. Характарыстыкі выпускнікам падпісвае дэкан. Яго права даваць характарыстыкі. Мы можам уносіць прапановы. Прапаную абмеркаваць паводзіны Базыльчык і астатніх на наступным сходзе...

Супраць — нікога. Прапанова маўкліва прымаецца. Работа бюро і сакратара Зіны Бандарчык прызнаецца здавальняючай.

Выбары на курсе заўсёды дружныя. Колькі трэба ў бюро, столькі назавуць. Выгукваюцца кандыдатуры:

— Зіна Бандарчык...

— Каця Чыжык...

— Веньямін Сыраежка...

— Віктар Мудрык...

— Павел Змачынскі...

Прозвішча Мудрыка назвала Ніна Лагацкая. Сёй-той хавае ўсмешку. Ночы на могільніку даюць вынік. Але справа не ў могільніку. Усе з вылучаных у бюро адмаўляюцца. Так патрабуе этыкет. Адмовы ніхто не прымае пад увагу (трэба хутчэй канчаць!). Маўчыць адзін Мудрык. Дзіўная рэч — раней камсамольскую работу ставіў ні ў грош, цяпер як бы згодзен.

І галасаванне дружнае. Толькі нечакана спатыкаецца на Мудрыку. За яго падымаюць рукі Ніна Лагацкая, яшчэ трычатыры дзяўчыны і ён сам. Сам за сябе галасуе! Такога на курсе яшчэ не было...

Зіна бязлітасная ў сваёй просталінейнасці:

— Мудрык па большасці галасоў не прайшоў. Прашу назваць другую кандыдатуру...

— Слава Байдакоў...

Байдакоў (адмовіцца не паспеў) праходзіць аднагалосна.

Мудрык сядзіць на пеньчуку, твар белы, неспакойны...

Сыраежка, Варывончык і Змачынскі ідуць полем у вёску. З імі Шохан. Інтэрнацкі пакой у поўным складзе, выключаючы Мудрыка. Шохан узбуджаны — вочы блішчаць, махае рукамі:

— Я думаў, Мудрык — Гамлет. Моцная асоба, магутны інтэлект, але не ведае, з якога боку праўда... Гора ад розуму. А ў яго шкурная праўда. Нават не эгаіст ён. Эгацэнтрыст...

Хлопцы маўчаць. Шохан заўсёды падводзіць пад усё высокія катэгорыі.

## КАНЦЭРТ

Школа стаіць на пясчаным пагорку, трохі ўзбоч ад вуліцы: крытая бляхай, з вялікімі светлымі вокнамі. Будынак, бадай, самы прыгожы ў Князевым Сяле. І ўсё ж малаваты для вясковай дзятвы. Пяці класных пакояў не хапае. Заняткі ў дзве змены. Раніцай шыбуюць у навуку малодшыя шкаляры — ад першага да пятага класа, пасля абеду — старэйшыя. Акалічнасці не вельмі спрыяюць пазакласнай і піянерскай рабоце, дзейнасці гурткоў. Аднак сёе-тое ёсць. Ёсць прышкольны ўчастак, на якім вырашчана найлепшая ў сельсавеце кукуруза. Вялізны сноп — сцябліны ледзь не пад столь — высіцца ў настаўніцкай, у кутку. Побач з геаграфічнымі картамі. Кукуруза — прадмет гонару, і сноп у настаўніцкай пастаўлен нездарма. Кожны, хто прыязджае, можа ўбачыць і пераканацца. Другі такі сноп узяты на раённую выстаўку.

Ёсць у школе літаратурны і краязнаўчы гурткі, хор і танцавальная група. Піянеры як і ўсюды. Збіраюць жалезны лом, паперу. А бібліятэка бедненькая. Няма нават кніг, якія патрэбны для пазакласнага чытання. Не адпускаюцца на кнігі грошы.

Веньямін са Змачынскім і Варывончыкам другі дзень на практыцы. У школе ўсталяваная плынь жыцця, і яны тут не

памагаюць, а хутчэй перашкаджаюць. Тое, што можна было зрабіць,— зроблена. Вісяць у калідоры дзве насценгазеты, з дапамогай студэнтаў шкаляры нарабілі табліц па марфалогіі рускай і беларускай мовы. Састаўлен каталог кніг у бібліятэцы.

Хлопцы ходзяць на ўрокі да Янкоўскага. Лепшага не прыдумаеш. Янкоўскі — мажны, рослы, нетаропкі ў рухах і жэстах. Павольна, нібы смакуючы кожнае слова, гаворыць. З першага позірку можа здацца абыякавым, нават ленаватым. Але гэта ўсё знешняе.

Веньямін у захапленні ад Янкоўскага. Можна сказаць, з першага ўрока. Павольны дзядзька, які і гаворкай і адзеннем мала чым адрозніваецца ад вяскоўцаў, шмат ведае і ўмее. У класе разбіраюць верш Якуба Коласа «Дуб». Пачынае ўрок настаўнік нязвычна:

— Пеця, ты бачыў дуб?

Пеця — рудаваты, стрыжаны, на плячах абшарпаны пінжак, бацькаў ці старэйшага брата. У голасе — поўная абыякавасць.

— Бачыў.

— Можа, і лазіў?

— Лазіў.

— А чаму табе захацелася ўзлезці на дуб?

Адпірацца немагчыма, Пеця прызнаецца:

— Думаў, галубы ёсць. Там дупло...

У класе — рогат. Але настаўнік ведае, чаго хоча.

— Што ты можаш сказаць пра дуб? Ты ж нават лазіў на яго.

— Дуб высокі...

— А яшчэ?

— Відаць далёка-далёка.

— Яшчэ што?

— У мяне закружылася галава.

— Хопіць, Пеця. Малайчына. Правільна ўсё расказаў. Цяпер, дзеці, я вам прачытаю верш Якуба Коласа «Дуб». Якуб Колас нарадзіўся і жыў у хаце лесніка. Бачыў многа дубоў. Вельмі іх любіў. Бо калі зірнеш на дуб — радасна. Радасна, што ён такі велізарны, магутны. Чалавек сам адчувае сябе дужым, калі глядзіць на такое велізарнае дрэва. Пра гэта Якуб Колас напісаў так:

Сілачом стаіць
Дуб разложысты,
І здалёк відаць
Пышны верх яго...

Настаўнік чытае выразна, хоць, можа, крыху аднастайна. Потым чытаюць верш вучні. Дзве дзяўчынкі, потым надзвычай звонка і прыгожа хлапчук у сіняй паркалёвай сарочцы. Апошнім — Пеця.

— Хто раскажа верш на памяць? Можна глядзець у кнігу.

Цуда — мноства паднятых рук. Трое, трохі збіваючыся, заглядаючы ў хрэстаматыю, нараспеў дэкламуюць.

— Закрыйце кнігі. Хто пойдзе да дошкі?

Ідзе хлапчук у паркалёвай сарочцы. Гэтак жа звонка, як чытаў па кнізе, дэкламуе на памяць.

— Малайчына, Загорскі. Стаўлю «пяць». Давай дзённік. Наступны раз ведаць верш усім.

Якое пачуццё часу ў Янкоўскага! Якраз званок. Хвіліна ў хвіліну. Ні разу не зірнуў на гадзіннік, нікога не падганяў. Поўная злітнасць з класам, абсалютная ўпэўненасць у поспеху. Вось што азначае — настаўнік! Веньямін успамінае свае дзесяць урокаў, дадзеных мінулай зімой. На першых уроках ён, не ведаючы, дзе падзець рукі, гаварыў на памяць вывучаны тэкст. Страшэнна хваляваўся. Далей асвоіўся. Навучыўся не баяцца, заходзячы ў клас. Гэта, бадай, і ўсё...

Хлопцы ходзяць на ўрокі і да другіх настаўнікаў. Хочацца зрабіць у школе што-небудзь карыснае. Веньяміну прыйшла думка запрасіць да пяцікласнікаў Мікіцёнка. Няхай раскажа пра партызанскія баі. Але Янкоўскі, класны кіраўнік, адмовіўся.

— Хопіць з Мікіцёнка фермы. Ды і быў ён у нас. І другія былі...

— У вёсцы многа партызан?

— Ёсць. Я і сам партызан.

Вечарам у салоне прыблуд Слава Байдакоў даў канцэрт імправізацыі. У Славы прыроджаны талент пераўвасаблення. Каб пайшоў у тэатральны, быў бы артыстам. Вось сагнуўся, адтапырыў ніжнюю губу, па-старэчаму шоргае падэшвамі па падлозе. Хлопцы замерлі ў чаканні асалоды.

— Водная лекцыя,— загугнявіў Слава, утаропіўшы вочы паверх галоў, у сцяну.— Ліцяратура ёсць сацыяльны прадукт... У творчасці Якуба Коласа праваліруя і прававладая сацыяльная цема. Я падкрэсліваю — праваліруя і прававладая...

Пераапранацца Славе не трэба — на хвіліну мільгнуў жывы дацэнт Зязюля. Менавіта так, шкрэбаючы нагамі па падлозе, ходзіць, так адтапырвае губу, так гаворыць — «праваліруя і прававладая...»

— Сасноўскага! — просяць хлопцы.

Што значыць талент! У адно імгненне Слава пераўвасобіўся. Імклівы, парывісты крок, рашучы позірк вачэй, грамавы голас.

— Су-у-тнасць бальшога юса ў тым,— скандыруе Слава,— што й ён пралівае святло на заканаме-е-ер-насці ў іншых славянскіх мовах. Дзе па-ру-у-скі дуб — па-по-о-льскі домб... Зразумелі?..

Хлопцы смяюцца. Смяюцца прыблуды і нават гаспадыня, рухавая жонка брыгадзіра трактарыстаў, якая ў філалогіі нічога не разумее.

Слава ўвайшоў у азарт. На гэты раз абвязвае галаву ручніком на манер чэпчыка. Садзіцца за стол, падслепавата жмурыць вочы.

— Ты што ж, мілачка...— голас жаночы, скрыпучы, якраз такі, як у выкладчыцы Петэрсон.— Ты што ж, мілачка, расфуфырылася, як на спатканне... Тут табе экзамен, а не спатканне... Па-французскі да дзесяці лічыць не ўмееш, а ногці нафарбавала... А што за прычоска ў цябе?.. Назаві інфінітыў ад дзеяслоўнай формы «траверзе»... Не можаш назваць...

Усё праўда: менавіта так экзаменуе прыгожых дзяўчат пастарэлая, незамужняя Петэрсон.

Назаўтра дзяўчаты загаварылі пра канцэрт. І ясна стала, што не могуць яны, студэнты, проста так выехаць з Князева Сяла...

Вечар цёплы, ціхі, зорны — рэдка бываюць такія вечары ў кастрычніку. Сцэна — школьны ганак. Каб мець хоць мінімальнае асвятленне, на перакладзіне павесілі ліхтар «лятучая мыш».

Вечарам на школьным двары густы, шчыльны натоўп. Найболей моладзі — вучні, дзяўчаты з фермы, але нямала

людзей сталага ўзросту. Слава Байдакоў — ён будзе весці канцэрт — разгублены.

— Не хопіць праграмы,— чамусьці шэпча ён.

«Артысты» стоўпіліся ў настаўніцкай. Пабялелыя, узбуджаныя твары. Вось так, курсам, ніколі не давалі канцэрта. Хто ў факультэцкай самадзейнасці, на бульбу не паехаў. Адзін Слава Байдакоў. Людзей на двары болей за сотню.

Першым выйшаў на ганак Веньямін. Слава аб'явіў, што інстытуцкі паэт будзе чытаць уласныя вершы. Чытаў Веньямін бадзёра, звычна — ніякага страху не было. Пасля кожнага верша — дружныя воплескі. Потым Слава Байдакоў выканаў на акардыёне папуры з вядомых песень. Наступны нумар — хор. Дзяўчаты пад акампанемент Славы доўга і хораша спявалі. Зрэшты, гэта і была тая першапачатковая — хвілін на сорак — праграма, з якой студэнты наважылі выступіць.

Людны школьны двор тоне ў воплесках. Стаіць даверлівая цішыня — ніхто не разыходзіцца. І ў Славы Байдакова не паварочваецца язык аб'явіць, што канцэрт закончан.

Збялелы, убягае ён у настаўніцкую.

— Нельга канчаць!

Нядоўгае замяшанне, і здараецца цуд. На ганак, на імправізаваную сцэну, ідуць тыя, хто ніколі, ні ў якія часы не выступаў у ролі артыста. Юля Сліва спявае народныя песні. Адна, без акампанементу. У яе неадшліфаваны, але грудны, прыемны голас. Варлен Ціхі, падробліваючыся пад пявучую вясковую гаворку, чытае вывучанае яшчэ ў школе гумарыстычнае апавяданне. Варывончык, Змачынскі, Шохан чытаюць вершы. Слава Байдакоў зноў выконвае папуры, цяпер з народных песень. І яшчэ раз выходзіць на ганак Веньямін...

Поспех поўны. Вечар працягнуўся болей як дзве гадзіны. Ніколі не забудуць яго студэнты...

Ужо на выхадзе са школьнага двара Веньяміна крануў за рукаў хлапчук.

— Вы сапраўдны паэт?

— Цяжка, браце, сказаць.

— У вас ёсць кніжка?

— Няма,— прызнаецца Веньямін.— Ды і з вершаў маіх толькі два надрукаваны.

Хлапчук змоўк, задумаўся.

— А можна навучыцца пісаць як Пушкін?

— Мабыць, можна. Толькі мець трэба, брат, вялікі талент.

— Я таксама пішу вершы,— прызнаецца хлапчук.— Івану Піліпавічу паказваў. Кажа, пішы. Хочаце, вам пачытаю?

— Пачытай. Ты ў якім класе вучышся?

— У сёмым.

Апусціўшы галаву і зрабіўшыся ад гэтага як бы меншым, сямікласнік выгуквае глухім ад хвалявання голасам звонкія, меладычныя радкі:

Мчыць дарога за вёску, рвецца ў сінюю даль,
Прысяшае мой поступ між сярэбраных хваль,
Над дарогай, над полем — караваны аблокаў,
Свет прыгожы, раздольны і шырокі-шырокі...

— Рытм ёсць,— гаворыць Веньямін.— І настрой. Толькі словы вельмі квяцістыя. Пішы, брат. Як тваё прорзвішча?

Прозвішча ў сямікласніка паэтычнае — Кудравец. Задаволены пахвалой, ён шмыгае за веснічкі.

Веньямін ідзе па вуліцы азіраючыся. Наўмысна адзін без хлопцаў пайшоў. Учора другі раз бачыў дзяўчыну, якую яны з Ціхім сустрэлі на дарозе-насыпе ў нядзелю. Ведае яе імя — Галя. Галіна Іванаўна Зайчык. Настаўніца трэцяга і чацвёртага класаў у вёсачцы, дзе хаты з сінімі аканіцамі. Там, у вёсачцы, школа. Чатыры класы, два настаўнікі. Учора Галя ішла па вуліцы Князева Сяла. Веньяміну радасна, што вечар удаўся, што яго вершы так хораша прымалі. Не выключана, што на вечары была настаўніца з сіняй вёскі...

## ВУЗЕЛ

Старшыня Адзярыха жыве ў раённым мястэчку. Але сказаць так будзе не зусім дакладна. Ёсць у старшыні кватэра і ў Князевым Сяле. Летам тут збіраецца ўся сям’я. А восенню і зімой нельга, бо дзве дачкі Адзярыхі вучацца — адна ў дзявятым, другая ў адзінаццатым класе.

Старшыня здымае кватэру. Палавіну хаты ва ўдавы. Але гэта часова, бо ўжо гатовы зруб новага дома, які сабе ставіць Адзярыха. Добрая, вялікая пяцісценка стаіць на ўзгорку пад клёнам і радуе вока сваім выглядам і размахам.

Цёплая восень скончылася. Кастрычнік паказвае сваё. Зранку неба зацягнулі калматыя, шэрыя воблакі, і заімжыў нудны дождж. Такі дождж надоўга. У абедзенны час старшыня выклікаў у праўленне Сашу Красуцкага. У праўленні, нягледзячы на хмурны дзень, як бы пасвятлела. Пабелены сцены, вымыта падлога. Старшыня цяпер мала адлучаецца з калгаса і навёў парадак.

— Вы сваю задачу выканалі,— гаворыць Адзярыха, павітаўшыся з Сашам за руку.— Працавалі як трэба. Памаглі калгасу. Культурную работу правялі. Мы вам напішам добрую характарыстыку.

Саша здаволен. Словы старшыні аўтарытэтныя. Наогул пахвала — прыемная, ад каго б ні ішла.

Адзярыха як бы нечым усхваляваны. Ходзіць па пакоі, паглядае ў акно.

— Можа, зойдзем да мяне? — нарэшце гаворыць Адзярыха.— Я цяпер па-халастому. Жонка хворая, дзеці вучацца.

У палавіне хаты, дзе кватаруе старшыня, прыбрана, утульна. Фікусы як лес, на падаконніках гераནькі. Тут нават не адзін, а два пакоі. Невялічкая зала і бакоўка-спальня. Старшыня і спальню паказвае — на сцяне два паляўнічыя ружжы, а падлога ля ложка заслана шкурай звера.

— Воўка зімой забіў,— хваліцца старшыня.— Уласнаручна. Зімой аблажылі цэлы вывадак.

Прыслужвае маўклівая, з маршчыністым тварам кабеціна. На стале нарэзанае буйнымі скрылямі сала, варанае мяса, марынаваныя грыбы. Адзярыха ставіць на стол аж дзве бутэлькі — гарэлкі і пладовага віна. Саша здзіўлены. Вельмі неблагі чалавек гэты Адзярыха. А спачатку такім суровым нелюдзем здаваўся.

— Вы жанаты? — пытаецца Адзярыха, калі яны сядзяць за сталом і закусваюць пасля першай чаркі.

— Не меў шчасця. Вучуся. Васямнаццаць год без перадыху.

— Паспееце,— заспакойвае Адзярыха.— У такіх справах спяшацца не варта.

Прыемна шуміць у галаве. Саша рад, што сядзіць за сталом са старшынёй, што месяц на бульбе канчаецца. Непрыкметна праляцеў гэты месяц. Усюды Сашу так гасцінна прымаюць. Нават сам старшыня...

— Вы з намі сувязі не трацце,— гаворыць старшыня, чокаючыся з Сашам.— У горадзе — культура, а ў нас — сала. Калі што трэба, прыязджайце. Адразу да мяне...

Выпіваюць, закусваюць. Саша амаль не п’янее. Адзярыха расказвае пра сябе. Старшынёй другі год. Да калгаса ў раёне працаваў — загадваў камунгасам, быў дырэктарам цагельнага завода і два гады — мэблевага камбіната. Вопыт работы ёсць. Калгас падцягнуў. Не ўсё, вядома, зроблена, але зрухі бачныя...

Саша згодна ківае. Адзярыха, даверлівая яго гаворка, пакой, застаўлены фікусамі,— усё здаецца Сашу мілым, прыемным.

— Да вас у мяне просьба,— працягвае між тым Адзярыха.— Бульбы мы пасеялі трохі больш, чым у зводцы паказалі. Ствараем рэзервы для ферм. Бывае ў гаспадарцы... Нічога не папішаш... Дык пару гектараў і ў вас аднімем...

«Вось куды гнеш,— мільгае ў Сашавай галаве.— Мякка сцелеш, ды як спаць пакладзеш. Не выйдзе, брат... Дудкі... З крымінальным кодэксам мець знаёмства няма ахвоты...»

— Дык студэнты ж ведаюць, колькі яны бульбы выкапалі,— як бы не разумеючы закіду, кажа Саша.

— Дзівак-чалавек. Колькі выкапалі, столькі пакажам. Дадзім афіцыяльную даведку. З пячаткай. Гэта, так сказаць, для ўнутранага нашага карыстання. Я на праўленні далажу, вы папрысутнічаеце. І ўсё. А даведку вам напішам фактычную...

Саша спакайнее. Такі ход справы яго задавальняе. «Жук гэты Адзярыха,— думае Саша.— Не пра фермы, вядома, клапоціцца. Але ліха з ім». Яго, Сашы, хата з краю. Назад кінь, наперадзе знойдзеш. Можа, і прыйдзецца калі-небудзь заехаць...

Выпіваюць, закусваюць. Адзярыха адкаркоўвае бутэльку ягаднага віна.

Дробны, надакучлівы дождж, імжа. На поле выбраліся позна. Дзяўчаты — у сялянскіх хустках-канаплянках, хлопцы — у ватоўках. Двое зусім не выйшлі — Каця Чыжык і Юля Сліва. Учора на полі прамоклі, у Юлі — ангіна, Каця не можа разагнуць спіны. Міша Сяўрук ідзе адзін, хмуры і маўклівы. Хліпкі, ненадзейны народ — студэнты. Першая нягода — і раскіслі. Ніякая загартоўка не памагае...

Веньямін зайшоў у праўленне. Трэба выпісаць прадукты на апошнія тры дні. За сталом — учотчыца з фермы, тая самая, што гэтак нявэтліва сустрэла Веньяміна ў першы дзень іх прыезду.

— Падаруначак старшыні зрабілі,— гаворыць учотчыца, насмешліва пазіраючы на Веньяміна.— Тры гектары падаравалі.

— Якія тры гектары?

— Звычайныя. Учора праўленне было. Старшыня далажыў, што студэнты выкапалі дваццаць шэсць гектараў. Ваш кіраўнік пацвердзіў.

— А навошта гэта? — не разумее Веньямін.

— Як навошта? За бульбу працэнтоўку даюць. З дзесяці пудоў — пуд. Сотня пудзікаў каму-небудзь набяжыць.

— А брыгадзір Кіёк што?.. Ён жа ведае.

— Што брыгадзір... Пад старшынёй ходзіць...

Куляй вылятае Веньямін з праўлення. Бяжыць па вуліцы, не памятаючы сябе, не чуючы пад сабой ног. Саша Красуцкі мыецца на двары. Нягледзячы на імжу, да пояса голы. Расцірае касматым ручніком чырвонае цела.

— Ты падлюга! — крычыць Веньямін.— Нягоднік... Ты ведаеш, што такое гектар?..

Сашаў твар белы, як мел. Чырвонае, расцёртае ручніком цела і белы твар... Але Веньямін на аспіранта не глядзіць... Сігануўшы за веснічкі, шыбуе на поле...

На полі, пасля таго як Веньямін, задыхаючыся, пераказаў размову з учотчыцай, гамонка, тлум. Дзяўчаты паспелі накапаць толькі па кошыку. Хлапчукі-вазакі запозніваюцца. Яшчэ далёка да абеду, а студэнты чарадой, як гусі, валакуцца ў вёску...

Саша Красуцкі спалохаўся. Упершыню ў жыцці спалохаўся да самазабыцця, да агіднага, ганебнага ляскання зубамі і дрыжыкаў у каленях. На момант уявіў хваравіты, без крывінкі, твар дэкана, калючыя вочы з-пад навіслых брывей. Калегі па кафедры ўзрадуюцца. Толькі такога і чакалі... Красуцкі заблытаўся ў крымінальшчыне... Пайшоў на здзелку з жулікам... Шэпты... Насмешлівыя позіркі...

Зрэшты, Саша ўзяў сябе ў рукі. Добра хоць, што Раісы няма. Нічога такога не здарылася. Старшыня абяцаў даць даведку. Дык няхай дае цяпер...

Саша рушыў у праўленне. Даведаўшыся, што Адзярыха ў раёне, падаўся на гравійку.

## СЛЕДСТВА

Саша ідзе вуліцай да Раісы. Вярнуўся з горада вячэрнім цягніком. Два тыдні назад такой часінай было яшчэ светла. Цяпер хоць вока выкалі. У прамежках між хатамі, дзе не свецяць вокны, цемень як дзёгаць. Панылыя асеннія вечары. Дзень наогул пракляты выдаўся. Зрэшты, Саша зрабіў усё, што мог. Даведка з пячаткай на стале ў дэкана. Усё як мае быць. Пра вершаплёта расказана. Проста нечувана, як ён на Сашу накінуўся. Столькі нянавісці ў голасе, у вачах...

На душы ў Сашы прыкры асадак. І як бы страх. Прадчуванне такое, што не ўсё яшчэ скончана. Трэба добра выспацца. Саша абмінае грузавік. Стаіць, нібы цёмная горка, пасярод вуліцы, і ў кабіне нікога. Саша заходзіць на двор, выцірае на прыступках ганка ногі. І падае, як падкошаны, ад удару ў галаву. У вачах — агонь. Зыркі, чырвоны агонь...

Камлюкаваты шафёр з базы райспажыўсаюза Стах Каляда, які, прытаіўшыся ля вугла, чакаў Сашу, не хацеў біць яго па галаве завадной ручкай. Хацеў пагаварыць па-мужчынску, на кулаках. Так выйшла. Можа, таму, што Стах выпіў. Ды і Раіса вінавата. Завіляла хвастом, як толькі пасяліўся гарадскі хлюст. На парог Стаха не пускае. А гэтак яму абавязана. Шлюндра Раіса, таму адразу здрадзіла. У Стаха жонка, двое дзяцей, але вінаватым сябе не лічыць. Вінавата Раіса...

Шафёр выбег з двара, ускочыў у кабіну.

На другі дзень, надвячоркам, у праўленні — факультэцкае кіраўніцтва. Інстытуцкі «Масквіч» стаіць перад ганкам. Прыехаў дэкан, дацэнт Гус, бледнатвары, з прыпухлай левай шчакой. Калі хто ўпершыню бачыць дэкана, думае, што ў яго баляць зубы. Разам з Гусам прыехаў Іван Сыраквашка і незнаёмы таварыш з райкама.

Дэкан па чарзе выклікае студэнтаў. Гаварыў амаль з усімі хлопцамі. З многімі дзяўчатамі таксама. Веньяміна не выклікае. Нібы загадзя вядома, што вінаваты адзін ён. Мудрык, якога пазвалі ў кабінет старшыні ледзь не першым, не захацеў з Веньямінам гаварыць. Прайшоў міма, нібы Веньяміна няма на свеце, нібы ён мёртвы.

Хлопцы суцяшаюць.

— Разбяруцца,— паведамляе Варывончык.— Пытаўся, ці сказаў ты, што тры гектары ў нас скруцілі. Вядома, усім учотчыца расказала...

— Дзе ты быў вечарам, як Красуцкаму праламілі галаву, таксама пытаўся,— дадае Змачынскі.— У Гуса даведка. Напісана: мы выкапалі дваццаць дзевяць гектараў. Усё як ёсць...

Настрой панылы, змрочны. Веньямін у душы дакарае сябе: паверыў бабе, зняважыў Красуцкага. Было відаць адразу — учотчыца злосная на ўвесь свет. Паддаўся настрою. Дзіўна, чаму няма брыгадзіра Кійка? Знік Кіёк, нібы скрозь зямлю праваліўся. Доўгія, пакутлівыя цягнуцца хвіліны.

Ідзе Мікіцёнак. На студэнтаў не глядзіць. Хвілін праз дзесяць на ганак выходзіць Сыраквашка. Заве Веньяміна. На твары ніякай пагрозы. Усміхаецца.

Веньямін заходзіць у праўленне. Дэкан за сталом. Мікіцёнак на табурэтцы ля стала. Сыраквашка з райкамаўцам стаяць ля акна, глядзяць на вуліцу. Нібы ім зусім не цікава, пра што будзе пытацца дэкан у Веньяміна.

— Што за вершы вы чыталі на вечары ў медыкаў? — пытаецца дэкан.

Веньямін здзіўлены. Зусім не такога пытання ён чакаў.

— Бадлера чытаў,— прызнаецца Веньямін.— Купіў у букіністычным магазіне.

— Бадлера? — перапытвае дэкан.

— Застаецеся за старшага,— гаворыць ён пасля хвіліннага маўчання.— Працавалі добра, яшчэ два дні папрацуйце. Каб такіх эксцэсаў, як учора, не было. Вы ж рабочы дзень сарвалі. Ясна?..

— Ясна,— адказвае Веньямін.

Як гара звалілася з плеч. З удзячнасцю глядзіць Веньямін на Мікіцёнка. Усё перавярнулася, як толькі зайшоў Мікіцёнак у праўленне.

## КАСЦЁР НА ПОЛІ

Студэнты капаюць ямкі пад сад. Аграном Латушка, які замяняе старшыню, на бульбу нікога не паслаў. Дакопваюць бульбу на паляне самі калгаснікі. Старшыня нібыта хворы. Красуцкі таксама ў бальніцы.

Ямкі трэба рабіць своеасабліва. Каб былі роўныя рады крыж-накрыж. З якога боку ні паглядзіш.

Заўтра — у горад. Бывай, прыгожае Князева Сяло, школа-васьмігодка, узгорыстае поле і залатыя бярозавыя пералескі! Веньямін думае пра ад’езд, і штосьці шчыміць у грудзях. Як бы зрадніўся за месяц з навакольнымі мясцінамі, з гэтымі раскіданымі ўзбоч няроўнай вуліцы хатамі, старымі ліпамі, шэрымі платамі і парканамі з навіслым на іх збуцвелым гарбузнікам. За Князевым Сялом — вёсачка, дзе хаты з сінімі аканіцамі. Там Галіна Зайчык, настаўніца...

Ямкі выкапалі, а дрэўцаў няма. Пасля абеду некаторыя рушылі на станцыю. Тыя, што збіраюцца ехаць дамоў на вольныя тры дні.

Як бы развітваючыся з вёскай, ходзяць надвячоркам студэнты па вуліцы. Хлопцы з дзяўчатамі разам.

— Сходзім на поле! — выгуквае Веньямін.— Раскладзем агонь, бульбы напячом. Мы ж печанай бульбы не пакаштавалі...

Шугае на чорным бульбяным полі вялізнае вогнішча, адганяе сінія вячэрнія змрокі. Студэнты сядзяць шырокім колам наўкруг, спяваюць. Хораша, цёпла, светла...

— Веньямін, прачытай верш,— просіць Зіна Бандарчык.— Толькі які-небудзь новы.

Веньямін згаджаецца. Чытае на памяць, і голас ледзь-ледзь дрыжыць:

Мы з табою ля рэчкі
Не страчалі зары,
Не вяло з намі спрэчкі
Рэха ў звонкім бары.

Не хадзілі ў арэхі,
Не збіралі грыбоў,
Не ігралі нам стрэхі
На гуслях капяжоў.

Ў жыце буйным высокім
Не вязалі пражма,
І палацы з аблокаў
Праплывалі дарма.

Не купаліся ў хвалях
Мурагу ў сенакос,
Нас не вабілі далі
Ні зямлі, ні нябёс.

І за ўсё, што згубілі,
Не зрабілі што ў час,
Лёс суровы, нямілы
Пакараў, бедных, нас.

За спеў птушак, не чуты
Намі ў сініх гаях,
Крыж нясу я пакуты —
Ты цяпер не мая.

За той страчаны месяц,
Як цвітуць верасы,
Болей мне не засвецяць
Вочы дзіўнай красы.

І за тое, што росы
Не абмылі нам ног,
Нам прысуджана ростань
На развілцы дарог.

— Верш з настроем,— задуменна гаворыць Зіна.— Ты, Веньямін, некалі будзеш паэтам.

Яркі, зыркі гарыць на полі агонь.

*1964*

## ТРЫМЦЕННЕ ДУБОВАГА ЛІСЦЯ

### I

Каханне прыходзіць і ў трыццаць гадоў, і, як пішуць у кнігах, у сорак, нават пазней, але свайго першага кахання чалавек не забудзе ніколі. Маё першае выбухнула досыць рана, на шаснаццатым годзе жыцця, калі я вучыўся ў дзявятым класе. Мая абранніца Люся Співак — маленькая, прыгожая, маўклівая — сядзела за трэцяй партай ад дзвярэй, я — за трэцяй ад акон, і тое, што мы знаходзіліся прыкладна на адной геаграфічнай шырыні, было вельмі спадручна ў справах кахання. Позіркамі мы з Люсяй абменьваліся штохвілінна, і гэтых нашых узаемных позіркаў ніхто асабліва не заўважаў, бо нам варта было толькі ледзь-ледзь павярнуць галовы — і мы бачылі адно другога.

Я па тым часе займаўся справамі сур’ёзнымі: рэдагаваў класную насценгазету, вёў дзённік, дзе шырока выказваў адносіны да міжнародных падзей, і чытаў тоўстыя кнігі па гісторыі старажытнага Рыма. Я збіраўся стаць гісторыкам, летапісцам падзей і загадзя рыхтаваў сябе да гэтага.

Свой вольны час я планаваў досыць сурова, адводзячы пэўную колькасць гадзін на падрыхтоўку да ўрокаў, на мастацкія кнігі і, зрэшты, на свае навуковыя вышукі. Вядома, каханне ў маёй праграме не было запланавана і выбухнула стыхійна.

Пачалося з Люсі, а праўдзівей кажучы,— з насценгазеты. Газета выходзіла штотыдзень, і выпускалі яе мы ўдваіх з Каробкам Паўлам. Я пісаў заметкі, а флегматычны, насмешлівы Павел маляваў карыкатуры. Тое, што пад заметкамі красаваліся розныя прозвішчы-псеўданімы, было чысцейшым падманам: ніхто ніякіх матэрыялаў нам не даваў. Кожны чацвер мы з Паўлам заставаліся ў класе пасля ўрокаў, і назаўтра на сцяне вісеў свежы нумар насценгазеты. Мы, абодва рэдактары, вучыліся досыць добра, зрываў не ведалі, таму крытыкаваць тых, хто вучыўся горш, не баяліся.

І вось здарылася. На Люсю Співак да гэтага выпадку я не звяртаў ніякай увагі, бо нічым асаблівым яна ў дзявятым класе не вызначалася. Вучылася не надта, ведала тройкі, нават двойкі, у грамадскай рабоце не ўдзельнічала. Якраз у той дзень, як нам трэба было выпускаць чарговы нумар газеты, Люся правінілася. Наш географ, чорны, як турак, і страшэнна насмешлівы чалавек, адабраў у яе на ўроку альбом. Ён расказваў пра эканоміку Канады, а Люся ў гэты час спакойна разглядала фотакарткі сяброўак, наклееныя на старонкі звычайнага сшытка. Я ўжо загадзя, яшчэ на ўроках, смакаваў словы, з якімі накінуся ў насценгазеце на Люсю, а Каробка Павел (ён сядзеў побач са мной) маляваў алоўкам на кавалачку прамакальнай паперы карыкатуру. На гэтай карыкатуры Люся была не вельмі падобнай на сябе: з вялікімі грудзямі і моднай прычоскай, але мы абодва лічылі, што для крытыкі такі малюнак падыходзіць як найлепей.

Наш дзявяты клас займаўся ў другую змену, і дамоў мы вярталіся прыцемкам. Але цяпер быў красавік, ішла апошняя чвэрць навучальнага года, і на дварэ нават пасля шасці ўрокаў панавала сіняватая перадвячэрняя празрыстасць. Зямля падсохла, было цёпла, і хлопцы пасля ўрокаў галёкалі на школьным двары ля турніка. Мы з Каробкам сядзелі ў класе і выпускалі насценгазету.

У гэты вясновы вечар я адзін на адзін спаткаўся з Люсяй. Яна не пайшла дамоў, а стаяла ў нашым доўгім калідоры ля акна і, відаць, чакала мяне. Я выйшаў з класа, і яна амаль падбегла да мяне, узбуджаная, разгубленая.

— Не пішы пра мяне, Сяргей,— ціха сказала яна, апусціўшы вочы.— Я табе потым скажу... Не пішы.

Па яе твары пайшлі чырвоныя плямы, яна ледзь не плакала. Дый наогул ва ўсёй яе нерашучай і як бы вінаватай паставе было штосьці такое, што прымусіла мяне збянтэжыцца. Ніколі са мной вось так, як цяпер Люся, не размаўлялі дзяўчаты.

У той вечар як рэдактар я схібіў. Каробку сказаў, што пра Співак заметку даваць не будзем, адкладзём да наступнага тыдня. Ён нездаволена хмыкаў, бо ў яго прападала амаль гатовая карыкатура, а я тым часам пачаў пісаць перадавіцу пра паўтарэнне пройдзенага матэрыялу і падрыхтоўку да экзаменаў.

Назаўтра, перад пачаткам урокаў, калі палавіна класа, стоўпіўшыся каля насценгазеты, чытала заметкі, лаючы мяне і Каробку, да маёй парты падышла Люся і паклала падручнік трыганаметрыі. Я зірнуў на яе здзіўлена, хацеў аддаць кнігу, бо падручнік па трыганаметрыі ў мяне быў свой, але Люся, пачырванеўшы, памкнула на сваё месца. Я раскрыў кнігу і ўбачыў там запіску...

Запіску я прачытаў на вялікім перапынку, выйшаўшы на школьны двор і стаіўшыся пад старымі, яшчэ голымі пасля зімы таполямі.

На аркушыку паперы, вырваным са сшытка, Люся чырвоным чарнілам напісала, што любіць мяне яшчэ з восьмага класа, з таго часу, калі пасля вясковай сямігодкі паступіла ў нашу школу...

Прыйшоўшы надвячоркам дадому, я толькі нанасіў вады і накалоў дроў, а за кніжкі не сеў. Мне хацелася некуды ісці, бегчы, у грудзях нарастала хваля нястрымнага, хмельнага шчасця. Мяне любіць дзяўчына!.. Пачуццё было падобнае на тое, якое прыходзіць сонечнай летняй раніцай, калі, прачнуўшыся, усім целам адчуваеш, што дзень, які пачынаецца, падорыць многа-многа радасці. Цішком шуснуўшы ў чысты пакой і, каб не ўбачылі меншыя браты, зачыніўшыся, я зняў са сцяны люстэрка і пачаў разглядаць свой твар. Твар мой мне ніколі не падабаўся, а цяпер здаўся асабліва непрыемным. Вушы адтапыраныя, губы тоўстыя, нос як бульбіна. І яшчэ гэтыя вяснушкі на шчоках і на лбе. Валасы стаяць старчаком, як

іголкі ў вожыка, мне іх ніколі не ўдавалася як след прычасаць. І за што толькі Люся мяне палюбіла?.. Я глядзеўся ў люстэрка, стараючыся знайсці на сваім твары што-небудзь прыгожае, адыходзіў на два-тры крокі, каб ацаніць сваю паставу, але прывабнага знаходзіў вельмі мала. Нейкі ўнутраны голас усё ж гаварыў мне, што, відаць, я маю нейкія прывабныя рысы, калі мяне палюбіла такая дзяўчына, як Люся. Я быў повен радасці, шчасця і нібы вырас ва ўласных вачах.

У мяне былі сябры, абодва яны вучыліся ў дзясятым класе, і амаль штодня я хадзіў то да аднаго, то да другога. Але ў гэты вечар мяне да хлопцаў не пацягнула: мне хацелася пабыць аднаму.

Над мястэчкам спускаўся шараваты вясновы змрок, дзесьці рыпаў гармонік, спявалі дзяўчаты, і я выйшаў на вуліцу. З вуліцы рушыў на чыгунку. З дзяцінства любіў я вандраваць каля чыгункі. Па ёй у абодва канцы несліся імклівыя цягнікі, з вокнаў вагонаў выглядалі пасажыры, незнаёмыя і загадкавыя. Мне заўсёды здавалася, што людзі, якія едуць у прыгожых пасажырскіх вагонах, бачылі нешта асаблівае, што не хутка ўбачу я, і ўсім ім я шчыра зайздросціў.

Чыгункай я пакрочыў у напрамку да лесу. Лес быў не блізка. Каб дайсці да яго, трэба было мінуць дзве будкі, прайшоўшы вярсты чатыры. Абапал чыгункі чарнелі кусты, ляжала поле, адтуль даносіліся церпкія, вострыя пахі прэлай вясновай зямлі. Я ішоў, лічачы крокамі шпалы, і думаў пра Люсю. Цяпер яна мне здавалася асаблівай, не падобнай на іншых дзяўчат, якія вучыліся ў нашым класе. Яна заўсёды задуменная, маўклівая, а калі пачынае смяяцца, то неяк раптоўна і нечакана. Яна вучылася не вельмі добра, але і не горш за многіх іншых, і цяпер мне пра гэта зусім не хацелася думаць. Яна ж вельмі прыгожая, Люся... Чаму я не заўважаў гэтага раней? Мне хацелася ўявіць Люсін твар, паставу, голас, і я раптам адчуў, што не магу гэтага зрабіць. Я мог выклікаць ва ўяўленні вобраз кожнай дзяўчыны, якую ведаў, а Люсін не мог. Абрысы яе твару на імгненне паўставалі як хісткія цені і адразу расплываліся, як бы знікаючы ў тумане. Гэта было дзіўна і трывожна.

Калі я дайшоў да першай будкі, пачуўся далёкі гул цягніка. Я ведаў, што гэта хуткі Ленінград — Адэса. Я сышоў на ўзбочыну насыпу, і паўз мяне, абдаўшы мяне хваляй цёплага, пыльнага паветра, пранеслася доўгая чарада вагонаў.

У вокнах прыгожых спальных вагонаў мільгалі незнаёмыя постаці, твары, з некаторых вокнаў білі яркія, зыркія палосы святла, некаторыя былі асветлены ледзь-ледзь як бы серабрыстым ззяннем месяца. Дзіўна, але ў думках цяпер я звязваў гэты здаўна прывабны для мяне цягнік з Люсяй. Я марыў пабыць у абодвух гарадах, якія злучаў цягнік, што спыняўся на нашай невялікай станцыі толькі на адну хвіліну. Адзін апеты паэтамі горад паўстаў на беразе паўночнага мора, другі вырас на берагах сіняга Понта Эўксінскага, хвалі якога перасякалі і старажытныя фінікійцы, і грэкі, і рымляне. Гэта я ведаў з кніг. Я яшчэ ніколі не бачыў мора і марыў пра яго.

Назаўтра я напісаў Люсі запіску. Чырвонага чарніла ў мяне не было, і зранку я схадзіў у кніжную краму, купіў сабе парашок і, маючы на мэце будучае, развёў цэлую бутэлечку чырвонага, як кроў, атраманту. Запіску Люсі я перадаў такім жа парадкам, як і яна мне,— праз падручнік трыганаметрыі. Я напісаў, што люблю яе, Люсю...

З гэтага дня пачалося ў нас вялікае яднанне позіркаў. Я не мог прасядзець і пяці хвілін, каб не павярнуць галавы ўправа і хоць краёчкам вока не зірнуць, што робіць мая Люся. Настаўнікаў я не слухаў, нічога з таго, што тлумачылі яны, не запамінаў, бо ўвесь час думаў пра Люсю. Поўнячыся невыказнай, нястрымнай радасцю ад таго, што мая дзяўчына блізка, што магу яе бачыць кожную хвіліну, я забываў пра ўсё на свеце. Усё, пра што я цяпер думаў, што хацеў зрабіць, было звязана з Люсяй. Я марыў пра інстытут, пра вялікі горад, у якім буду вучыцца, і заўсёды побач з сабой бачыў Люсю. Яна як бы благаслаўляла мяне на ўсе тыя вялікія справы, што чакалі здзяйснення ў маім жыцці.

Люся таксама часта пазірала ў мой бок, і іншы раз нашы позіркі сустракаліся. Люся чырванела. Ад гэтага яна рабілася яшчэ прыгажэйшай, нейкай бездапаможнай і як бы вінаватай. Супярэчлівая хваля пяшчотнасці, ласкі, жалю, адданасці захліствала мяне ўсяго, і я ледзь не задыхаўся ад паўнаты і

разнастайнасці гэтых пачуццяў. Я быў шчаслівы. Я ўвесь быў ва ўладзе няўрымслівых, супярэчлівых сіл, упершыню за свае шаснаццаць год адчуўшы, якое багатае і цудоўнае жыццё.

Запіскамі мы абменьваліся ледзь не штодня. Акрамя таго, што пісалі аб сваіх пачуццях, мы адно другому падрабязна паведамлялі, што зрабілі за мінулы дзень. Мяне цяпер страшэнна цікавілі ўсе акалічнасці Люсінага побыту, усё тое, што яна рабіла, куды хадзіла, што чытала. Яна кватаравала ў сям'і чыгуначнікаў-пенсіянераў, а бацькі яе, сельскія фельчары, жылі ў вёсцы за дванаццаць кіламетраў ад нашага мястэчка. Вёска насіла прыгожую назву — Бараўцы. Я ніколі яе не бачыў, але ўяўляў зялёнай, атуленай стромкімі сіняватымі соснамі. У Бараўцах Люся нарадзілася, закончыла сямігодку і вось ужо хутка два гады вучыцца ў нашай местачковай школе. Яна жыла амаль самастойна: сама гатавала сабе сняданкі і абеды, мыла кофтачкі і блузкі, а я ўсё яшчэ сядзеў на шыі ў бацькоў, і нават тое чарніла, якім пісаў Люсі запіскі, было куплена за бацькавы грошы. Гэта мяне вельмі прыгнятала і як бы не дазваляла ў поўную меру выявіць свае рыцарскія пачуцці. Часамі я як бы стараўся зірнуць на сябе збоку, вачамі старонняга назіральніка, і тады сам сабе здаваўся смешным. Закаханы рыцар, а пяцьдзясят капеек на кіно просіць у маці!

Пра Люсю, пра нашы ўзаемаадносіны, запіскі я ні слова не гаварыў сваім сябрам-дзесяцікласнікам — Васілю Сасноўскаму і Сцяпану Гузу. З хлопцамі я дзяліўся ўсім, не маючы ад іх ніякіх сакрэтаў, але пра Люсю сказаць не мог. Штосьці не дазваляла. Можа, я проста саромеўся. Яны вучыліся ў дзясятым класе, былі кожны ледзь не на два гады старэйшыя за мяне, але дзяўчат, з якімі б яны перапісваліся, у іх не было. Гэта я ведаў дакладна. Хлопцы канчалі дзесяцігодку, рыхтаваліся да выпускных экзаменаў, я ж займаўся чорт ведае чым. Баючыся цікаўных меншых братоў, якія любілі ўсунуць свае насы, куды іх не просяць, я хаваў Люсіны запіскі не ў кнігі, не ў мінулагоднія канспекты, складзеныя ў самаробную драўляную скрынку, якая стаяла пад сталом, а пад страхой адрыны, што дажывала веку на агародзе. Каб хто ў тыя дні мной асабліва зацікавіўся, то змог бы адразу заўважыць, што я залішне часта наведваюся ў адрыну і падоўгу там затрымліваюся. Але

мной ніхто не цікавіўся, і, вярнуўшыся са школы, я шыбаваў у адрыну, даставаў з-пад страхі ўсе Люсіны запіскі і перачытваў іх нанава, пачынаючы ад самай першай. Я ўжо не мог жыць без таго, каб штодня не адчуць слодычы пачуцця, якое дорыць узаемнае каханне.

Лік запісак павялічваўся: мы кожны дзень пісалі адно другому па тры і па чатыры старонкі, вырваныя са сшытка, і ўсё ніяк не маглі нагаварыцца. Сустракаліся мы толькі ў школе.

Як мы з Люсяй ні таіліся ў сваіх пачуццях ад другіх, хутка нашы адносіны перасталі быць тайнай для класа. Першымі адчулі нязвычнае ў маіх і Люсіных узаемаадносінах дзяўчаты. Мала таго, што ўсе яны змаўкалі, загадкава ўсміхаліся, як толькі я ўваходзіў у клас, яны яшчэ пачалі праяўляць незвычайную ўвагу да Люсі. Яны віселі ля яе парты на ўсіх перапынках, і дарэмна я шукаў выпадку незаўважна для другіх перадаць Люсі кнігу. Я падыходзіў да Люсі, а дзяўчаты ў гэты час акружалі яе шчыльным кольцам. Люся пунсавела, як дзікая ружа, і ў гэты час я перадаваў ёй кнігу. Хлопцы былі меней цікаўныя, але здагадаліся і яны. Яны маўчалі, ні аб чым мяне не распытвалі, і я ім быў удзячны за гэта.

Дзіўная рэч, мяне Люсіна каханне акрыляла. Нягледзячы на тое, што я амаль не слухаў настаўнікаў, вучыцца я стаў нават лепш, чым раней. Маё ўкладанне па рускай літаратуры настаўнік, не пашкадаваўшы дваццаці хвілін, зачытаў перад усім класам. Я атрымаў пяцёркі па ўсіх кантрольных, якія былі ў апошняй, чацвёртай чвэрці. Люся стала вучыцца прыкметна горш. Яна часта стаяла каля дошкі, не могучы прамовіць слова, чырванеючы, і ў гэтыя хвіліны маё сэрца сціскалася ад болю. Я адчуваў сябе вельмі вінаватым і нічым не мог дапамагчы Люсі, якую любіў болей за ўсё на свеце...

## II

Наш дзявяты клас стаў дзясятым.

Мы скончылі экзамены трохі раней за дзесяцікласнікаў, і цяпер, пакуль выпускнікі не атрымалі атэстатаў, у школе было як бы два дзясятыя класы. Новы дзясяты клас рашыў наладзіць выпускны вечар. Пра харч і музыку ўзяліся паклапаціцца

дзяўчаты. Нам, хлопцам, яны загадалі прынесці віна. Вечар наладжваўся ў прасторнай хаце адной нашай вучаніцы, якая жыла на Вакзальнай вуліцы. На гэтай жа зялёнай вуліцы, усцяж засаджанай таполямі, кватаравала і Люся.

Я ад вечара чакаў незвычайнага. Мне стукнула шаснаццаць гадоў, я лічыўся дзесяцікласнікам, мяне кахала самая прыгожая ў класе дзяўчына! Упершыню ў жыцці я апрануўся ва ўсё новае. Мае бацькі як бы ў аддзяку за поспехі ў навуках купілі мне шарсцяны касцюм, шаўковую сарочку і бліскучыя туфлі з тупымі насамі. Я адчуваў сябе зусім дарослым, самастойным і ў збытку піў слодыч гэтага цудоўнага пачуцця.

Вечар разгортваўся ўдала. Дзяўчаты прыйшлі ў новых сукенках, з адмысловымі завіўкамі і прычоскамі. Многіх я памятаў з першага класа, прызвычаіўся да іх, не заўважаючы, што яны досыць прыгожыя. Мы, усе хлопцы і дзяўчаты, непрыкметна адно для другога выраслі і пасталелі за дзевяць гадоў навучання і можа ўпершыню на вечары, які наладзілі самі, без удзелу настаўнікаў, гэта адчулі. За сталом панавала вясёлая далікатнасць. Тут было зусім не тое, што на шумных школьных зборышчах. Мы ўступілі ў новае жыццё і як бы адчувалі важнасць моманту.

Мяне пасадзілі побач з Люсяй. Я не надта ўмеў карыстацца відэльцам, саромеўся сваёй нехлямяжнасці і маўчаў. Але так цягнулася нядоўга. Мы, хлопцы, выпілі па паўшклянкі віна, дзяўчаты — па чарачцы, і перш чым падняць другі тост, усе пасмялелі і паждавелі. Віно прыемна кружыла галаву, рухі сталі ўпэўненымі, і цяпер я зусім не зважаў на тое, што не ўмею трымаць відэлец. «Я люблю цябе»,— нахіліўшыся да Люсінага вуха, шапнуў я. Упершыню ў жыцці вымаўляў я гэтыя словы ўслых. Мне хацелася зараз жа пачуць адказ, але Люся маўчала. Я зноў прашаптаў тыя самыя словы і ўбачыў, як пачырванела маленькае Люсіна вуха. Я хацеў, каб Люся што-небудзь сказала, але замест слоў яна знайшла маю руку і ледзь-ледзь яе пацiснула. Хваля пяшчотнасці заліла мяне ўсяго, я сядзеў побач з Люсяй і адчуваў сябе шчаслівейшым на свеце...

Потым мы танцавалі. Дзяўчаты разжыліся патэфонам і пласцінкамі. Усе пласцінкі былі вальсамі, і гэта было добра,

бо такая музыка як найлепш пасавала да гэтага вечара і да нашага настрою. З хлопцаў танцаваць бадай не ўмеў ніхто, але кружыліся ўсе. Я скінуў пінжак, каб лішне яго не камячыць. Прыемна было адчуваць сябе дарослым, дужым, апранутым у новую шаўковую сарочку, якая ціха шасцела ад кожнага дотыку. Я кружыўся з другімі дзяўчатамі, а Люсі не запрасіў ні разу. Штосьці не дазваляла яе запрасіць. Можа, я саромеўся вось гэтак, амаль не ўмеючы, з ёю танцаваць, тоячы надзею стаць калі-небудзь сапраўдным кавалерам і станцаваць так, каб намі захапіліся. Мне было радасна, што Люся побач, у тлумным, вясёлым гурце, і мяне ніколькі не бралі завідкі, што яна кружыцца з другімі. Усё ў нас з ёю было наперадзе...

Натанцаваўшыся, хлопцы з дзяўчатамі праходжваліся па вуліцы. Мы выйшлі з двара разам з Люсяй. Было ўжо не рана, гадзін адзінаццаць вечара. Пясчаная, засаджаная таполямі вуліца танула ў шараватым паўзмроку, і я падумаў, што, калі толькі Люся згодзіцца, мы болей не вернемся ў тлумны гурт. Цяпер, калі мы засталіся з Люсяй удваіх, мне не было ніякай справы ні да вечара, ні да хлопцаў-аднакласнікаў, ні да віна, якое засталося не выпітым.

Вечар быў цёплы, вуліца пустая, таямніча, загадкава шасцелі лісцем таполі. На станцыі пыхкаў манеўровы паравоз, з прыстанцыйнай плошчы, дзе на высокім слупе вісеў рэпрадуктар, даносіліся прыглушаныя гукі музыкі. Я ўзяў Люсю пад руку. Сваім локцем я адчуваў цеплыню яе локця, плячом датыкаўся да яе пляча. Яна была маленькая, Люся, толькі па плячо мне, і мне прыходзілася трошкі драбніць крок, каб ісці з ёй у нагу. Мы маўчалі. Я адчуваў, што трэба штосьці сказаць, завязаць гаворку, але ніякіх слоў не знаходзілася. Так мы дайшлі да доміка, дзе яна кватаравала. Прысадзісты гэты, вясковага тыпу домік адрозніваўся ад астатніх толькі тым, што стаяў у глыбіні двара, а перад дваром, на ўзмежку вуліцы, раслі не таполі, а раскідзістыя вербы. Люся нерашуча спынілася перад веснічкамі і глядзела на мяне. Цяпер мне трэба было штосьці сказаць, прапанаваць, іначай яна магла даць мне «дабранач» і пайсці дамоў. Я ўбачыў лавачку, яна стаяла пад навіссю іў.

— Давай пасядзім,— прамовіў я.— Яшчэ рана...

Люся не пярэчыла, і мы прыселі на лавачцы. Гэтак жа, як і раней, таямніча шасцелі таполі, начная вуліца была ва ўладзе прыглушаных шорахаў і зыкаў. Неба па-летняму густа засеялі зоркі, з ваколіцы, з асушанага балота патыхала вільготнай зябкасцю. Я прытуліў Люсю да сябе, дакрануўся шчакой да яе шчакі. Яна маўчала, як бы нечага ад мяне чакаючы. Тады, набраўшыся адвагі, я пацалаваў яе ў губы. Пацалунак быў кароткі, нясмелы, але і ад яго яна ціхенька, як спалоханая птушка, усклікнула, а ў мяне закружылася галава і перахапіла дыханне...

Прыйшоў адэскі цягнік. Ён заўсёды прыходзіў а палове дванаццатай ночы. На станцыі ўсчалася гамонка, тлум, але адразу ж цягнік рушыў, і было выразна чуваць, як два дыктары — мужчына і жанчына — чытаюць наперабой апошнія паведамленні. Я міжволі прыслухаўся. Перадавалі абвяржэнне ТАСС. Урачыста і важна дыктар кідаў словы аб тым, што Германія не збіраецца нападаць на Савецкі Саюз, што пэўная канцэнтрацыя нямецкіх узброеных сіл тлумачыцца іх перагрупіроўкай. Пазней я многа-многа разоў прыгадваў гэтае абвяржэнне, да дробязей узнаўляючы ў памяці чэрвеньскую ноч, калі яго перадавалі, бо за пяць хвілін да таго, як пачаў гаварыць дыктар, я ўпершыню пацалаваў дзяўчыну...

Рабілася халаднавата, я акрыў Люсіны плечы сваім пінжаком. Слоў у нас па-ранейшаму не знаходзілася, але цяпер гаварыць было і неабавязкова. Я абнімаў, прыхінаў Люсю да сябе — і раз за разам цалаваў. Яна не праціվілася, як бы цалкам аддаючыся пад уладу мне, мужчыну.

Было ўжо далёка за поўнач, калі мы падняліся з лавачкі. Мы стаялі ля веснічак, ніяк не могучы разысціся. Нарэшце Люся прыўзнялася на насках сваіх туфляў-лодачак, абхапіла мяне за шыю сашчэпленымі далонямі рук і сама пацалавала мяне ў губы.

— Чаму я не такая высокая, як ты! — усклікнула яна, і столькі ў яе голасе было непаддзельнай, шчырай горычы, што ў мяне міжволі зашчымела сэрца. Мне хацелася сказаць ёй, што я і люблю яе за тое, што яна маленькая, што здаецца бездапаможнай, што нагадвае кветку лілею, найпрыгажэйшую

кветку нашых лясных сажалак і азёр. Але Люся мяне ўжо не слухала, я чуў, як яна настойліва стукала ў шыбіну акна сваім пенсіянерам, якія, мусіць, даўно спалі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Вядома, я быў дзівак. Назаўтра была нядзеля, і я ведаў, што Люся пойдзе ў свае Бараўцы, да бацькоў, бо рабіць у мястэчку ёй няма чаго. Да Бараўцоў было дванаццаць вёрст, і я мог бы правесці Люсю. І колькі б мы нагаварыліся і нацалаваліся за гэтыя дванаццаць вёрст!.. Але да Люсі я не прыйшоў, і яна пайшла ў Бараўцы адна. Мяне ж так поўнілі пачуцці, што я, як і ў той першы раз, калі атрымаў ад Люсі запіску, падаўся па шпалах да будкі, а потым яшчэ далей — у лес. У кустах перагукваліся птушкі, на лясных палянах весела і шчодра цвілі званочкі, пралескі, анюціны вочкі, медуніца. Я чакаў цуду. Мне чамусьці здавалася, што вось-вось на лясной дарозе паявіцца Люся і мы сустрэнемся з ёю. Ілюзія была настолькі выразная, што я, як бы вырваўшыся з межаў рэальнасці, дзве ці тры гадзіны чакаў Люсю. Потым да мяне ўсё ж дайшло, што ў Люсі ёсць свой лес і свая лясная дарога і ў гэтым маім лесе ёй пакуль што няма чаго рабіць. Я кінуўся па чыгунцы назад у мястэчка, прыбег да Люсіных гаспадароў, але яе ўжо не было. Яна, відаць, чакала мяне, бо пайшла апоўдні...

## III

Эшалоны, эшалоны, эшалоны... Тыдзень, як ідзе вайна, і наша маленькая станцыя нагадвае вялізны чалавечы мурашнік. Доўгімі саставамі запруджаны ўсе станцыйныя пуці, эшалоны стаяць і на падыходзе да станцыі, перад самымі семафорамі. Тлум, мітусня, першыя нямецкія бомбы...

Даруйце нам, нашы дзяўчаты, што мы былі дрэннымі кавалерамі і не ўмелі вас кахаць. Мы, можа, і навучыліся б, але вайна залішне зацягнулася, дый і мала нас вярнулася з вайны.

З дзявятага класа пайшло на фронт шаснаццаць, прыйшло толькі чацвёра. Ляжаць яны, хлопцы дваццаць чацвёртага і дваццаць пятага года нараджэння, у брацкіх магілах ля вё-

сачак і безымянных вышынь ад Дняпра да нямецкай Эльбы. Даруйце ім, дзяўчаты...

Не судзіце строга і тых з нас, хто не вам, каханым, а другім, выпадкова стрэчаным на ваенных дарогах, аддаў першую маладую пяшчотнасць. Мы самі марылі не пра такое каханне, і не кожны з нас хоча яго ўспамінаць...

Ішоў першы тыдзень вайны, і амаль усе мы, хлопцы з дзявятага класа, якім па гадах яшчэ было далёка да арміі, ляжалі на падлозе, на разасланай саломе ў нашай жа школе, якая стала цяпер казармай знішчальнага батальёна. Мы выбралі сабе пакой дзясятага класа. У ім мы не вучыліся, але чамусьці нам хацелася ляжаць у гэтым класе. Пакой размяшчаўся на другім паверсе, быў светлы, сонечны і на дзіва ўтульны. Два акны яго выходзілі на ўсход і поўдзень, два — на захад, так што мы бачылі, калі не былі ў нарадзе, як сонца падымаецца і як хаваецца за далёкі лес. Парты з класа вынеслі, і яны вялізнымі штабелямі стаялі на зарослым муравой школьным двары. Двор гэты заўсёды за лета зарастаў, але ў верасні, калі яго пачыналі таптаць сотні ног, станавіўся пясчаны і голы, як майдан. Дошка ў класе вісела на ранейшым месцы. З яе толькі сцерлі непрывычнае для нас рашэнне задачы па геаметрыі, у якую раптам залезлі сінусы і косінусы.

Школа стала казармай толькі напалавіну. Снедаць і абедаць мы хадзілі дамоў, а астатні час мусілі быць у школе.

Ноччу мы патрулявалі на прыціхлых сонных вуліцах мястэчка. Мы ўпершыню адчулі, якую вялікую ўладу дае вінтоўка, няхай сабе і несапраўдная, малакаліберная. Можна было клацнуць затворам, крыкнуць «стой!», і той, каго аклікалі, станавіўся, іншы раз падымаў рукі ўгору, вінавата апраўдваўся. Ночы былі летнія, зорныя, цёплыя, на лавачках і прызбах адны, без хлопцаў, сумавалі мястэчковыя дзяўчаты. Мы ім загадвалі разысціся, стараліся гаварыць з імі строга і афіцыйна, але дзяўчаты не надта мелі нас за байцоў і падколвалі як маглі. І было сумна і трывожна ў гэтыя летнія ночы. Нашы адступалі. Насоўвалася невядомасць. Вайна аказалася зусім не такой, як пісалі пра яе ў газетах і паказвалі ў кінафільмах.

У адзін з тых дзён мой сусед і напарнік Каробка Павел, з якім мы выпускалі класную насценгазету, вярнуўшыся з абеду, сказаў мне, што бачыў у мястэчку Люсю. Яна нібыта прыходзіла да дырэктара па школьныя дакументы. Я адчуў нядобрае і ўскочыў на ногі. Тое, што Люся прыйшла па дакументы, магло азначаць адно: яе бацькі — сельскія медыкі, як і многія другія, збіраліся эвакуіравацца ў тылавыя раёны. Трэба было абавязкова пабачыцца з Люсяй. Я пабег да ўзводнага камандзіра, участковага міліцыянера, ціхага, памяркоўнага чалавека, які па праву камандзіра ляжаў на саломе ў настаўніцкай, і сказаў яму, што ў мяне захварэла маці. Ён адпусціў мяне да вечара.

Дзень быў сонечны, але халодны, пыльны. Вецер насіў па вуліцах абрыўкі газет і папер, сыпаў пяском у вочы. Я рушыў на кватэру да Люсіных гаспадароў — яна туды не заходзіла, потым бегаў з вуліцы на вуліцу — па хатах дзяўчат, якія вучыліся ў нашым класе і да якіх магла зайсці Люся. Нідзе яна не была. Толькі на вуліцы Камунараў, самай доўгай і пыльнай вуліцы мястэчка, мне нарэшце пашанцавала. Я зайшоў у хату да Парaскі Бастун, дзяўчыны ціхай і прыветлівай, і дазнаўся, што гадзіну назад у яе была Люся, што яна сапраўды ўзяла дакументы, бо яе бацькі збіраюцца эвакуіравацца. Выйшаўшы ад Параскі, я зразумеў, чаму Люся да яе заходзіла. Параска жыла ў самым канцы вуліцы, далей, за чарадой таполяў, вуліца пераходзіла ў пясчаны шлях, які вёў на Бараўцы. Люся, відаць, спяшалася, таму завітала да адной Параскі. Дзень той, да невыноснага сумны, маркотны, запомніўся абрыўкамі папер, якія насіліся па ўсіх вуліцах і завулках, і пылам, які запарушваў вочы, трашчаў на зубах...

Праз месяц сам я ў кампаніі трох дружбакоў прайшоў праз Бараўцы. Са знішчальнага батальёна нас адлічылі як непаўналетніх. Вось-вось мястэчка мусілі заняць немцы, і мы наважылі прабівацца на ўсход. Чыгунка ўжо не дзейнічала, і мы рушылі пешшу. Нам зусім не было патрэбы завітваць у Бараўцы, вёска ляжала ў баку ад чыгункі, але я ўгаварыў хлопцаў, і яны згадзіліся даць круку. Бараўцы аказаліся зусім не такімі, як я ўяўляў. Стаялі яны на пясчанай раўніне, і лес ад вёскі быў далёка, як і ў нашым мястэчку. У адным я не

памыліўся: вёска танула ў зеляніне садоў. Здалёк яна нагадвала зялёны востраў сярод залацістага збожжавага мора.

Мы прайшлі праз вёску надвячоркам, сонца садзілася за цемнаватай сцяной далёкага бору, і яго праменні неяк злосліва-трывожна адбіваліся ў вокнах прыземістых, старых хат. На шырокай, зарослай па ўзбочынах палыном і бур'янам вуліцы ляжалі доўгія цені. Галіны яблынь і груш гнуліся да зямлі ад садавіны, на вуліцы панавала бязлюддзе і было сумна-сумна. Мне зусім не хацелася дапытвацца, дзе Люсін дом — гэта цяпер не мела ніякага значэння. Люся не жыла ў Бараўцах, і не варта было варушыць успаміны. У канцы вёскі мы напіліся вады, зайшоўшы ў двор і выцягнуўшы з бяздоннай калодзежнай глыбіні драўлянае, пакрытае зялёнай сліззю вядро, і рушылі палявой прасёлкавай дарогай, што вілася сярод нязжатага, пераспелага жыта ў бок чыгункі. Прайшоўшы Бараўцамі, я, відаць, у душы лічыў, што развітаўся з Люсяй.

Праз тыдзень мы шыбавалі па чыгунцы дадому. Мы дайшлі да Дняпра, але прабіцца на ўсход не здолелі. На тым беразе ўжо ішлі баі...

Аб тым, што Люся не вырвалася са сваіх Бараўцоў і нікуды не эвакуіравалася, я дазнаўся позняй халоднай восенню. Вестка мяне ніколькі не ўзрадавала, і не ўзнікла ніякага жадання пабачыцца з дзяўчынай. Немцы стаялі пад Масквой, наперадзе была няпэўнасць, думаць пра Люсю зусім не хацелася.

## IV

Я пабачыў яе амаль праз год пасля таго, як пачалася вайна, і ляцеў у Бараўцы, як на крыллях, поўны радасных, салодкіх надзей. У нас у мястэчку была падпольная група. Мы сёе-тое рабілі, але болей спрачаліся пра становішча на фронце і пра тое, калі немцаў нарэшце разгромяць. У гэтую групу ўваходзіў і я. Мы збіралі зброю, ладзілі сувязі з партызанамі, і адзін з хлопцаў, які стаяў блізка да нас, хоць падпольшчыкам і не быў, паведаміў, што ў яго стрыечнага брата, які жыве ў Бараўцах, ёсць вялікі запас патронаў. У Бараўцы належала ісці гэтаму хлопцу, але папрасіўся я, і, вядома, з-за яе, Люсі.

Стрыечны брат нашага местачкоўца аказаўся чалавекам хмурным, недаверлівым, хітрыў і віляў, і ніякіх патронаў

раздабыць у яго не ўдалося. Але я, здаецца, быў не вельмі гэтым засмучаны. Як і тады, калі я першы раз завітаў у Бараўцы, быў надвячорак, пра тое, каб ісці ў мястэчка, нельга было і думаць, і трэба было паклапаціцца пра начлег.

Я пайшоў да Люсі. Яе дом быў, бадай, самы лепшы ў вёсцы — з жоўтымі аканіцамі, вялізнымі вокнамі, з высокім дашчаным парканам. Тое, што выявілася за парканам, яшчэ болей мяне ўразіла. Быў ганак з навесам, абвіты суцэльнай зялянінай дзікага вінаграду, вялікі дагледжаны сад, ацэментаваны калодзеж.

Люся мяне сустрэла, ніколькі не здзівіўшыся, як бы ведала загадзя, што я прыйду. Яна была апранута ў шаўковую белую блузку і чорную шарсцяную спаднічку і, бадай, зусім не змянілася за гэты цяжкі год.

— Гэта Сяргей,— сказала яна маці і працягнула мне руку.

Маці таксама ніколькі не здзівілася, як бы даўно ведала, хто я і чаго прыйшоў да яе дачкі. У Люсі было яшчэ дзве сястры і брат, малодшыя за яе і вельмі на яе падобныя. Я бянтэжыўся, не ведаў, што гаварыць, куды дзець рукі, але ўсе ў хаце трымаліся далікатна, як бы маючы мяне за добрага знаёмага.

Дом у Люсі быў выдатны — чатыры пакоі, пафарбаваныя белай фарбай дзверы, аклееныя прыгожымі сінімі шпалерамі сцены, фіранкі на вокнах, канапы, фабрычныя, з гнутымі спінкамі крэслы. У маіх грудзях варухнулася нядобрае да Люсі пачуццё. Яна належала зусім да другога, не таго, што я, свету. Мой бацька, звычайны чыгуначнік, які цяпер быў, магчыма, на фронце ці на чыгунцы пад бомбамі ў савецкім тыле, не мог даць мне такіх раскошаў.

Калі зусім сцямнела, прыйшоў Люсін бацька. Ён, здаецца, касіў і пакуль там, на кухні, не пераапрануўся ў гарнітур, не выйшаў да мяне ў сталовую і не павітаўся. Ён быў досыць высокі, гаваркі, рухавы, з акулярамі ў залатой аправе і з вялікай лысінай.

— Што чуваць на белым свеце, малады чалавек? — спытаў ён добра пастаўленым голасам, таксама ніколькі не здзівіўшыся з таго, хто я і чаму прыйшоў з мястэчка ў Бараўцы.

Вячэралі за сталом, засланым белым абрусам, пры яркай дванаццацілінейнай лямпе. Былі талеркі, нікеліраваныя бліскучыя відэльцы і лыжкі. Малодшыя вячэралі на кухні. За сталом Люсіны бацькі, Люся і я. Мне, як даросламу госцю, налілі кілішак гарэлкі. Затым другі. Я чокнуўся з Люсіным бацькам і, можа, таму, што з раніцы нічога не еў і прайшоў дванаццаць вёрст, адразу сп'янеў.

Дрэнны я быў у той вечар падпольшчык! Я лаяў на чым свет стаіць немцаў, пераказваў зводкі з фронту, якія мы запісвалі, слухаючы савецкае радыё, досыць выразна намякаў, што бяру ўдзел у іншых, яшчэ больш небяспечных справах. Люсіны бацькі слухалі мяне знешне абыякава, не асуджаючы і не ўхваляючы ўсяго таго, што я гаварыў. Гэта мяне бянтэжыла, нервавала. Мне хацелася, каб яны выказалі свае адносіны да ўсяго таго, што робіцца на свеце, але яны маўчалі.

— Усё яшчэ можа быць,— нарэшце сказаў бацька, устаючы з-за стала.— Позна, спаць пара. Хоць маладыя людзі яшчэ могуць пагуляць...

Гэта быў як бы дазвол на тое, што мы з Люсяй можам выйсці на вуліцу.

Мы выйшлі, селі на лавачцы. Як і год назад, я абнімаў і цалаваў Люсю. Было на свеце зусім не тое, што летась. І тут, у Бараўцах, былі паліцэйскія і быў стараста, але я не хацеў пра гэта думаць. Па летнім небе плыў месяц-поўня, у яго серабрыстым, таямнічым святле хаты, парканы, дрэвы ў садах набывалі хісткія, няпэўныя абрысы. Я адчуваў, што Люся далёкая ад усяго таго, чым займаўся і пра што думаў я. Я не дакараў яе за гэта нават у думках. Тое, што рабілі мы, было мужчынскай справай. Ёй не варта было ў гэта лезці.

Цудоўная, ціхая плыла ноч, і толькі адно мне не падабалася. Увесь час паўз лавачку, на якой мы сядзелі, дэфіліраваў Люсін брат. Думаць, што ён проста прагульваецца, не выпадала: было позна, дый такія падлеткі, як ён, звычайна любілі гуляць талакою. Ясна — ён сачыў за Люсяй, за намі, і паслалі яго, відаць, бацькі.

Няўжо я быў падобны на спакусніка?..

Мне паслалі спаць на канапе, у асобным пакоі. У паласе месячнага святла, якое падала праз акно ў пакой, было добра

відаць белае, як снег, прасцірадла, якім заслалі канапу. Я быў няпэвен наконт сваіх ног: наскі мае хутчэй нагадвалі калошкі, я іх надзеў болей для фасону, бо ў чаравіках ступня была голая. Прайшоў я дванаццаць вёрст па пяску, і можна было лёгка ўявіць, якім заўтра будзе прасцірадла. Я яго ціхенька зняў, згарнуў і паклаў на стол. Каб не забрудзіць нагамі канапы, падушку адсунуў ледзь не на сярэдзіну свайго ложа з тым разлікам, каб ногі віселі ў паветры. Ноччу я амаль не заснуў. За сцяной ляжала Люся, мая Люся... Спала яна ці думала пра мяне? Уражанні мінулага дня, вечара спляліся ў гарачы, супярэчлівы клубок і не давалі мне спакою. Яшчэ я баяўся таго, што калі засну, то раніцай Люсіна маці ці сама Люся зойдуць у пакой і ўбачаць, якія ў мяне брудныя, чорныя ногі…

Раніцай, адмовіўшыся ад снядання і выпіўшы толькі шклянку малака, я рушыў у мястэчка. Люся мяне праводзіла да веснічак...

Болей чым праз год, калі немцаў адагналі за Дняпро, Люся прыйшла ў мястэчка, каб правесці мяне на фронт. Паміж гэтымі двума нашымі спатканнямі ляжала цэлая паласа вялікіх і малых падзей. Летам, скінуўшы месяц пасля наведвання Бараўцоў, немцы мяне арыштавалі. Расстралялі дваіх нашых, маглі расстраляць і мяне. Але тыя, што пайшлі на смерць, аказаліся хлопцамі цвёрдымі і падпольных сакрэтаў не выдалі. Там, у турме, я, здаецца, нават не ўспомніў пра Люсю. Потым я быў у партызанах, хадзіў з вінтоўкай пад мястэчка. Страшэнна хацелася, каб Люся мяне ўбачыла з вінтоўкай, з чырвонай паскай на пілотцы, але наш атрад дзейнічаў па гэты бок чыгункі, і ў Бараўцы я трапіць не мог…

І вось Люся прыйшла ў мястэчка і прыслала да мяне дамоў Параску Бастун з наказам, каб я вечарам прыйшоў на кватэру да Параскі. Была позняя восень, зямлю хапіла першым прымаразкам, і я не ішоў, а ляцеў у канец вуліцы Камунараў, грукаючы разлезлымі чаравікамі па замёрзлай зямлі.

Люся сустрэла мяне ў той самай, што і летась, белай шаўковай блузцы, толькі засціранай і не новай. На цвічку каля грубкі вісела яе парудзелае школьнае паліто.

Мы з Люсяй былі ўжо дарослыя, нам было па васямнаццаць гадоў, але пра што трэба гаварыць, мы не ведалі.

Я, распрануўшыся, глядзеў на яе, яна — на мяне, і мы абое маўчалі. Параска паклапацілася: мы з Люсяй сядзелі ў чыстай, натопленай палавіне хаты, а ў пярэднім пакоі, каб не замінаць нам, лягла спаць Парасчына сям'я. Я нарэшце асмялеў, штосьці расказваў пра сваё партызанства, а Люся па-ранейшаму глядзела на мяне і маўчала.

Параска ведала, што я іду на вайну. З вайны не вярнуўся яе старэйшы брат, які загінуў яшчэ ў сорак першым, і яна, відаць, зусім не падзяляла нашага з Люсяй настрою. Яна з рашучым выглядам, які зусім не пасаваў да яе прывабнага твару, увайшла ў пакой і разаслала нам пасцель. Адну на дваіх...

За акном ляжала месячная асенняя ноч, з крэсла я перасеў на ўслончык да Люсі, і, абняўшыся, прыціснуўшыся спінамі да цёплай грубкі, мы гэтак сядзелі. Пасцель нас чакала... Я думаў пра адносіны, якія існуюць паміж мужчынам і жанчынай, чакаў, што ўсё гэта будзе і ў мяне з Люсяй. І ўсё ж штосьці замінала. Што? Не ведаю сам. Можа, звычайная юнацкая сарамлівасць, якой нялёгка пераступіць высокі парог той спрадвечнай тайны, якая аддзяляе мужчыну ад жанчыны. А можа, і другое, яшчэ болей высокае. Не такой уяўлялася мне наша з Люсяй пасцель. Тое, што мусіла здарыцца, паўставала ва ўяўленні ў зусім інакшым, прывабнейшым, прыгажэйшым святле. Тут жа была звычайная, разасланая Параскай пасцель, сялянская хата, парудзелыя, не надта добра выбеленыя сцены...

З Люсяй я праседзеў усю ноч. К раніцы нашы твары былі стомленыя, з сінякамі пад вачамі, і мы хавалі адзін ад другога позіркі…

— Можа, і я пайду ў армію,— сказала яна мне на развітанне і заплакала.— Сустрэну там цябе...

Люся дала мне сваю фотакартку. Мяркуючы па даце, яна падпісала яе мне яшчэ ў Бараўцах.

## V

Там, у акупацыі, я ўсе-такі мала ўспамінаў Люсю, не шукаў з ёю сустрэч. Яна, яе каханне было для мяне як бы ў запасе. Скончыцца вайна, і тады прыйдзе ўсё, думаў я. У мяне нават

не ўзнікала думкі, што Люся можа знайсці другога, лепшага за мяне. Я ведаў, што яна мяне любіць, яна сама пісала і гаварыла аб гэтым. Гэта было як бы гарантыяй таго, што наша каханне непахіснае.

Скончыцца вайна, тады прыйдзе ўсё...

Два ці тры разы мне перадавалі, што там, у Бараўцах, Люся ходзіць на вечарынкі, бавіць час з хлопцамі на лавачках. Я лічыў гэта глупствам. Няхай гуляе, калі ёй гэта падабаецца. Я думаў пра фронт. Я дакладна памятаў усе даты нашага наступлення, ведаў, у які дзень выбіты фашысты з кожнага, няхай сабе самага маленькага, горада Савецкага Саюза. За два гады вайны я добра вывучыў геаграфію тэатра ваенных дзеянняў. І я лічыў усё гэта куды болей важным і значным, чым маё каханне да Люсі.

Скончыцца вайна, тады прыйдзе ўсё ...

Вайна не скончылася, а яно прыйшло. Хоць я лічыў сябе стратэгам, салдат з мяне выйшаў кепскі. Я дрэнна праціраў ствол аўтамата, і ў ім утварыліся ракавіны, якіх мог не заўважыць хіба толькі сляпы. Мяне лаяў камандзір аддзялення, маленькі, чорны, з прамалінейным, як аршын, характарам узбек. «Ті, Дубравэц, палітычна несазнатэльны...» На другі дзень пасля выдачы я згубіў кацялок, і мне не было ў што браць суп і кашу. Калі начавалі каля вялізнага, раскладзенага з сасновых суччаў кастра, абпаліў сабе крысо шыняля. Так я і хадзіў у падсмаленым шынялі, у абмотках, якія чамусьці заўсёды спаўзалі, з худым, выцягнутым, нібы гарохавы струк, тварам, на якім пачаў расці белы мяккі пух. На Карэльскім перашыйку, сярод вялізных абымшэлых валуноў на брустверы траншэі, пракладзенай сярод камення, у мяне над галавой разарвалася міна. Асколкі пайшлі наўскасяк. Маленькаму ўзбеку, камандзіру аддзялення, які сядзеў ля супрацьлеглай сценкі, распарола жывот, і ён крычаў: «Дубравэц, страляй мінэ, я не хачу мучыт...» Я не хацеў страляць, а каб і наважыў, то не змог бы: з носа і вушэй цякла кроў, а правая пераламаная рука вісела як бізун...

У брызентавай палатцы медсанбата, куды мяне разам з другімі прывезлі на чорным параненым кані, морфію мне не далі — ці не было яго, ці мне не трэба было яго даваць.

Я ляжаў на стале, аброслы буйной рыжай шчэццю, доктар штосьці рабіў з рукой, а чорнавалосая, з сінімі, як васількі, вачыма жанчына стаяла нада мной і выцірала мне марляй з ілба пот...

Дзён праз пяць я ўжо ганарыўся, што паранены: рука вісела на марлевай перавязі, перакінутай праз шыю, і пісаць лісты я не мог. Я прадыктаваў маладой, майго ўзросту, санітарцы два: адно Люсі, другое — маці...

Я ўжо быў паўгода на вайне і яшчэ не атрымаў ад Люсі ніводнага ліста. Я лічыў, што яна, як і я, у арміі, пісаў яе бацькам у Бараўцы, каб дазнацца адрас, але адказу не было. Аднойчы, пасля таго як можна было думаць ужо, што яе лісты проста не даходзяць (за паўгода тры разы мянялася мая палявая пошта), я выйшаў з медсанбата, і мне здалося, што я ўбачыў Люсю. Яна, маленькая, з цёмна-русявымі завіткамі з-пад пілоткі, ішла па роўным схіле камяністага ўзгорка, на ўздым, і я здрыгануўся ад шчасця. Яна была тут, побач са мной!.. Я даганяў яе хвілін дзесяць, задыхаўся, узмакрэў, не дабегшы, аклікнуў яе, і яна азірнулася. Я памыліўся, гэта была не Люся...

Тут, на сапраўднай вайне, Люся была са мной кожную хвіліну. Ад дзяўчат з нашага класа, якія паспелі ўжо скончыць дзесяцігодку, я дазнаўся, што Люся не ў арміі, а вучыцца на настаўніцкіх курсах у бліжэйшым ад нашага мястэчка гарадку. І яшчэ ўведаў я сумную вестку: Люсінага бацьку, хоць ён быў і немалады, мабілізавалі ў армію, і ён, фельчар, памёр там ад тыфу. Цяпер я разумеў, чаму не піша мне Люся.

Восенню, ужо ва Усходняй Прусіі, мяне цюкнула яшчэ раз: маленькі, велічынёй з гарошыну, асколак засеў у патыліцы. Мне зноў пашанцавала: асколак мог быць большы, мог глыбей залезці. Тады ж восенню, амаль праз год пасля таго, як мы правялі ноч у хаце Параскі Бастун, я атрымаў ад Люсі першы ліст. За гэты год я неяк выкараскаўся з нягод, якія так часта выпадалі мне на пачатку вайсковай кар’еры: насіў на пагонах сяржанцкія лычкі, быў камандзірам аддзялення. Цяпер на такіх, якім сам я быў год назад, я глядзеў трошкі з пагардай, трошкі шкадаваў іх. Было ў мяне і франтавое каханне — цягнулася яно болей за месяц. Маю абранніцу звалі Галяй.

Была яна курносенькай, насмешлівай сувязісткай з суседняга батальёна, і здарылася так, што мы разам ахоўвалі маёмасць палка, пакінутую да часу ў нямецкім гарадку.

Хадзіў да Галі, а думаў пра Люсю, якая прыслала два лісты і зноў змоўкла. Хваліўся падоранай фотакарткай, і ўсе, каму паказваў, пацвярджалі, што надзвычай прыгожая. Больш бывалыя, па-салдацку бессаромныя, выскаляліся, што, маўляў такая ў дзеўках не засядзіцца і асабліва ўздыхаць не будзе. Усе ва ўзводзе ведалі, што лісты ад Люсі я атрымліваю надзвычай рэдка...

Быў верш, якога я нікому не паказваў, лічыў несамастойным, бо напісаны ён быў на матыў славутай у часы вайны «Сіняй хусцінкі»:

В левый карман гимнастерки
Карточку я положу,
И на привале с нежной печалью
Я на нее погляжу.
Карточку эту простую,
В школьной тетрадке храня,
Ты подарила и говорила,
Что не забудешь меня...

Потым была Перамога. Былі чысценькія нямецкія гарады, белыя сцягі, якія, на дзіва ўсім нам, вывешваліся амаль з кожнага акна. Былі бясконца доўгія калоны панурых, з апушчанымі галовамі ваеннапалонных. Была ні з чым непараўнаная, бясконцая сваімі пераліваммі радасць: «Мы перамаглі ў такой вайне — і я ў ёй удзельнічаў!..»

## VI

У адпачынак я прыехаў у пачатку зімы, праз два гады пасля таго, як пайшоў у армію. Таварны цягнік, на платформе якога дабіраўся да сваёй станцыі, цягнуўся марудна, падоўгу прастойваючы на ўсіх паўстанках і раз’ездах. Узбоч чыгункі — лес. Дрэвы хапіў прымаразак: яны стаялі голыя і сумныя, і толькі лясны, не ўкрыты яшчэ снегам, дол чырванеў і залаціўся барвамі апалага лісця.

Нарэшце і мая станцыя. Яна знаёмая, ранейшая: прысадзістыя, пафарбаваныя жоўтай фарбай пакгаўзы, выкладзены з чырвонай цэглы гмах вадакачкі, вялізныя, з шырокімі разгалістымі шатамі прыстанцыйныя таполі.

Пасля пацалункаў, абдымкаў з анямелай ад шчасця маці, з разгубленым, бездапаможным, як дзіця, бацькам, з братамі, вырасшымі, тонкімі, якія глядзелі на мяне ў нямым захапленні, пасля суседзяў, якія валам павалілі ў хату, роспытаў, радасных воклічаў віншаванняў, першае маё пытанне — пра Люсю. Бацькі пра яе ведаюць. Пісаў і ім, пытаўся пра яе, калі яшчэ ішла вайна.

Надвячоркам, толькі накінуўшы на плечы шынель, каб усе бачылі мой ордэн і тры медалі, я падаўся на вуліцу. Як радасна пазнаваць знаёмыя твары, якімі роднымі і блізкімі здаюцца нават тыя, на каго раней нават не звяртаў увагі, з кім, можа, і не вітаўся! Сёння ўсе са мной шчырыя, радасна здзіўленыя. Чалавек вярнуўся з вайны, вырас, пасталеў! Мужчыны, як з роўным, вітаюцца са мной за руку. Толькі асцярожна, як бы ненарокам, каб не пакрыўдзіць мяне, той-сёй скажа пра аднагодкаў, якія пайшлі разам са мной, але вось не вярнуліся.

Лёс мне зычыў выпіць у гэты вечар келіх шчасця да дна. Я паспеў толькі дайсці да цэнтральнай плошчы, такой жа пыльнай, неахайнай, з абшарпанай драўлянай трыбунай пасярэдзіне, як напаткаў адну са сваіх аднакласніц, цяпер ужо студэнтку настаўніцкага інстытута, якая прыехала дамоў за харчовым падмацаваннем. Яна мне і сказала, што Люся ў мястэчку, купляе карову і, здаецца, яшчэ не паехала. Пра карову я чамусьці не падумаў, кінуўся на ранейшую Люсіну кватэру, і прадчуванне мяне не падвяло. Люся была там.

Якая сляпая, невідушчая можа быць радасць, калі сама не хоча бачыць таго, што ператворыць яе ў боль і пакуту! Люся сустрэла мяне няласкава. Яна стаяла разгубленая, спалоханая і зусім не таіла сваіх пачуццяў. З выгляду была змізарнелая, бляклая — як бы цяжкая хвароба падтачыла яе і яна толькі-толькі стала на ногі. Але ўсё ж гэта была Люся, і, ахоплены нястрымным, няўрымслівым шчасцем, я не хацеў нічога заўважаць. Штосьці пытаўся пра здароўе, пра бацьку, які памёр, пра тое, ці многа пісала яна мне лістоў на фронт.

Яна збіралася на цягнік — цяпер па чыгунцы, па якой мы некалі дыбалі ў водступ, хадзіў цягнік,— я адгаварваў яе, яна казала, што заўтра ёй трэба пільна быць у Бараўцах. Я згадзіўся зараз жа правесці яе да самых Бараўцоў. І здарыўся цуд. Люся як бы павесялела. Яна ўзяла з сабой маленькі вузельчык, і мы рушылі.

Калі выбіліся за мястэчка, з-за хмар выплыў месяц — поўны, серабрысты,— і на дзіва прыгожым уявілася мне ўзгаркаватае, узаранае поле, шырокі, з раз'езджанымі каляінамі шлях, прыдарожныя, ахутаныя хісткімі ценямі кусты. Здаецца, звінела над усёй гэтай прыгажосцю нячутная песня — яе спявала шэрая ралля, попельна-шызае неба, далёкія серабрыстыя зоркі. Мною авалодаў бес натхнення, і я гаварыў, гаварыў, не даючы Люсі прамовіць слова, ні аб чым яе не распытваючы. Мы ішлі з ёй па шляху ў Бараўцы, па тым самым шляху, па якім болей як чатыры гады назад я не здагадаўся яе правесці, але цяперашні «я» не ішоў ні ў якое параўнанне з тым, даўнейшым, які не быў ні на вайне, не меў ордэна і медалёў, нічога-нічога не бачыў і не ведаў.

Мы ўвайшлі ў лес. Голыя разгалістыя вяршаліны вольхаў і бяроз ледзь чутна шумелі. Тут было змрачней, месячнае святло лілося зверху, вызначаючы сярод цёмнай сцяны дрэў светла-шэрую паласу шляху.

— Каробка Павел загінуў. Ты ведаеш, Люся?

— Ведаю.

— І Барчэўскі, і Петравец, і Аляшкевіч...

— Ведаю.

Мяне пачаў агортваць неспакой: усё-такі Люся гаворыць са мной нехаця, неахвотна. Што я ёй кепскае зрабіў? Але гэта быў толькі хвілінны настрой, ён адразу ж схлынуў з душы, як толькі мы выбіліся з лесу на залітую месячным святлом паляну. На ёй стаялі рэдкія, маладыя яшчэ дрэўцы, і цяпер — мяне ніколькі не падводзіў слых — я пачуў ледзь улоўную, ціхую музыку. Як бы навокал звінелі маленькія сярэбраныя званочкі...

— Ты чуеш, Люся?

— Чую. Падымаецца вецер. Трэба хутчэй дадому.

Я адчуў, што сапраўды вецер узмацніўся, і пад яго павевамі звініць сухое, неапалае лісце на маладых дубках, што стаяць на паляне.

— Давай пасядзім, Люся.

Яна села на ўзбочыне шляху, побач са мной, апусціўшы ў канаву ногі, абутыя ў чаравікі з высокімі халяўкамі. Перад намі ляжала залітая срэбрам паляна, і па-ранейшаму ледзь чутна звінела лісце.

— Я вінаваты перад табой, Люся. У мяне было з адной... Сама ведаеш, што... Але я люблю цябе...

Яна раптам забілася, як птушка, злоўленая ў сіло, і, гучна захлынаючыся рыданнямі, заплакала. Я гладзіў яе па валасах, яна сядзела, уткнуўшы галаву ў калені.

— Ну скажы што-небудзь... Я ж цябе люблю...

— Даруй мне, Сяргей,— прамовіла яна на дзіва спакойным голасам.— Я не твая. Трэба было раней сказаць ці напісаць. Я замужам. Яшчэ не запісаны, але ўсё адно...

Я ўсхапіўся на ногі, праз хвіліну зноў сеў побач з Люсяй, паклаў ёй руку на плячо. Яна асцярожна зняла маю руку. На паляне як бы пацямнела. На круглы серабрысты месяц набягалі шэра-шызыя, як дым, воблачкі, а месяц некуды імкліва ляцеў. Па-ранейшаму ледзь чутна звінела дубовае лісце. На паляне раслі зімовыя дубы, і лісце на іх трымцела праз усю зіму, да сталай, цёплай вясны, пакуль на разгалістых, каструбаватых галінах не праклюнецца новы зялёны лісток...

*1965*

## У БАРЫ НА СВІТАННІ

### I

Насып чыгункі-аднапуткі, бліскучыя рэйкі губляюцца ў сіняватай смузе. Ад месца, дзе я стаю, нічога не ўбачыш, бо наперадзе пагорак. Мясцовы цягнік ледзь адольвае яго. Я чакаю, калі пакажацца з-за пагорка чорна-шызы клуб дыму.

Таварны цягнік з Мікацэвіч на Міхалевічы ідзе ў поўдзень, і ўсе, хто едзе ў Махавец, лёгка саскокваюць у гэтым месцы.

З чыгункі добра відаць Махавецкая школа. Яна таксама на пагорку. Пакрыты ацынкаванай бляхай дах блішчыць. Чымсьці гэта непрыемна. Лепш бы дах пафарбаваць.

Сяло атулена прысадамі. Паўднёвая частка прылягае да колішняга панскага парку, што паступова пераходзіць у звычайны лес. Паўночны край схаваны за цёмным сасоннікам, бярэзнікам — яго насадзіла лясніцтва на сыпучых пясках. У прамежку паміж чыгункай і сялом — поле. Жыта, ячмень зжаты, саўгасныя будынкі амаль закрыты для вока сціртамі саломы. Але яшчэ многа саломы на полі, яна нават не ў копах, а ў валках. Як асталася пасля камбайна, так і ляжыць. Авёс таксама стаіць непрыбраны.

Адсюль, з чыгункі, Махавец прыгожы. Схаванае за пагоркамі, за асмужанымі прысадамі паселішча як бы нясе на сабе выраз таямнічасці. Можа, таму, што праз навісь зеляніны праглядваюцца толькі паасобныя дахі. А так сяло звычайнае. Доўгая пясчаная вуліца, а наабапал хаты. Дайшоўшы да парку, вуліца як бы робіць калена, паварочваючы да чыгункі.

Вакол прастор, шырыня, і я люблю тутэйшыя мясціны. Адразу за Махаўцом прасцяг балота, затым лес. За чыгункай — таксама лес. Сасонікі, беразнякі, дубовыя гаі. Лясы па левую руку цягнуцца да самага Дняпра, правастароннія — да Прыпяці. Адлегласць да дзвюх вялікіх рэк аднолькавая. Але ў самім Махаўцы рэчкі няма. Гэта, вядома, кепска.

Я кіруюся да месца, дзе насып узбягае на пагорак. Дакладна яго ніколі не вызначыш. Проста адчуваеш, што ўзышоў, бо вачам адкрываецца новы далягляд. Там, унізе, таксама трымціць смуга. Лес паабапал чыгункі як бы ахутан вэлюмам празрыстага туману. Зумкаюць зеленаватыя мушкі, імкліва праносяцца ў разагрэтым паветры. Палыны ўзбоч насыпу выпетралі, прывялі. Іх церпкі, горкі пах перабівае астатнія пахі.

Лета адкрасавала. Трава на пясчаных узлобках выгарэла, парудзела, хоць, адчуўшы гарачыню, па-летняму трашчаць у ёй вялікія і малыя конікі. Павольна, як бы з адчуваннем уласнай годнасці плаваюць у паветры жоўтыя стракозы. Над полем узлятае чародка шпакоў. Яны цяпер сама жыруюць.

Лета пераступіла ў пару млявага, лянівага згасання, і я не люблю гэтых апошніх, запоўненых непатрэбнай гарачынёй дзён. Хораша цяпер толькі ў лесе. Лес яшчэ жыве. Хоць адспявалі, адшчабяталі птушкі, але дрэва яшчэ гоніць да лісцяў сок, яшчэ ў самай сіле дуб, вольха, асіна, ясень, не кажучы пра сасну. Не вельмі прыкметная прожаўцень кранула толькі бярозу. Але бяроза ўвогуле пачынае рана старэць.

Даўно не было дажджоў, таму грыбы толькі-толькі праклёўваюцца.

Паказаўся дым цягніка. Я адступаю з насыпу і саджуся на край узбочыны. Стасю адсюль я ўбачу. Калі пракладвалі чыгунку, узлобак узгорка раскапалі, і жоўта-чырвоныя берагі логвішча навісаюць над насыпам. Цягнік ідзе марудна. Ад Мікацэвіч да Міхалевіч менш за пяцьдзясят кіламетраў, але язды паўтары гадзіны. Па той прычыне, што рэйкі тут кароткія і нетрывалыя. Некалі партызаны крамсалі, шкуматалі чыгунку, а калі прыйшлося аднаўляць, то, акрамя пасечаных, пагнутых рэек, другіх не было. Іх рэзалі, сяк-так прышывалі. Так з таго часу і засталося. У Мікацэвічах ветка канчаецца, там тупік, за суткі праходзяць два паязды. Відаць, наверсе думаюць, што для такой чыгункі досыць і кароткіх рэек.

З тармазной пляцоўкі саскокваюць трое. Стасі сярод іх няма. Я падымаюся з узбочыны і зноў спускаюся на насып. Міма праплываюць платформы, гружаныя рудстойкай і бярозавым кругляком. Паравоз не ўперадзе састава, а ў канцы. Перавесіўшыся да палавіны з акна паравознай будкі, выскаляе зубы і махае мне рукой памочнік машыніста Міця. Шапка на яго галаве казыркомназад. Я махаю Міцю ў адказ. Усіх тутэйшых паравознікаў, кандуктараў я ведаю, бо ў Махаўцы таксама бывае пагрузка. У Мікацэвічах леспрамгас, а ў нас — лесаўчастак. Летам ён працуе слаба, таму пагрузка рэдкая.

Я цяпер іду на лесаўчастак. Там крамка, і калі яна не зачынена, я куплю дзве бутэлькі віна, а вечарам пайду ў госці да фельчара Шпака. Адпачынку засталося тыдзень, і свой вольны час належыць праводзіць весела, а не валэндацца як непатрэбнаму.

На пляцоўцы лесасклада кары, трэсак, аскабалкаў нарасло на цэлы метр. Сям-там параскіданы кучы плашак, бярвенняў,

у некалькіх месцах ад доўгага ляжання дубовыя кражы зусім паўязджалі ў грунт. Між імі густа параслі лебяда і быльнёг. На адным бервяне скача сямейка плісак. Недзе тут, мабыць, вывеліся. Птушкі любяць дрэва нават тады, калі яно мёртвае.

Насустрач мне ў тапачках на босую нагу размашыста крочыць высокі і дужы фізік Васіленка. Ён у шырокім саламяным капелюшы, нясе на плячах граблі. Пад сіняй, напушчанай на штаны безрукаўкай пакалыхваецца ладны жывот.

— Прывітанне, Лявонавіч! — бадзёра выгуквае ён.— Куды дзержыш пуць? Даўно не бачыў цябе.

Я адказваю, што ў адпачынку, а ўчора толькі прыехаў.

Фізік прыкметна весялее.

— Слухай,— пераходзіць ён на даверлівы тон.— Тут без цябе твае памочнікі трохі дроў наламалі. Будай на мяне акт саставіў. Парві ты, братка, тую паперыну, каб не мазоліла вачэй.

Я ведаю пра акт. Настаўнікам, у каго ёсць каровы, пакосы выдзелены ў Будным. Трохі далекавата, але нічога не зробіш. На бліжэйшыя дзялянкі ахвотнікаў хапае. Прыходзяць зацверджаныя пячаткамі паперы з райвыканкама, з лясгаса. А Васіленка сваё скарыстаў і яшчэ залез у лесапасадкі.

— Ладна,— гавару я.— Толькі тут справа не ў нас. Ляснік Гаркуша бучу падняў. Гэта яго надзел.

— Ваш Гаркуша гатоў увесь свет заграбастаць! — гарачыцца Васіленка.

Я маўчу. Васіленка не лепшы за Гаркушу. Дзе кепска ляжыць, урве. Некалі быў дырэктарам школы, але знялі, мабыць, за доўгія рукі.

— Заўтра канферэнцыя,— паведамляе фізік.— Трэба ехаць, а тут з гэтым праклятым сенам звязаўся. Хіба прыемна брацца загрудкі з Гаркушам? Прападзі яно пропадам! Але, думаеш, настаўнік дастане шклянку малака, калі не будзе трымаць карову? Хваробы, браток ты мой!..

Напамінак пра настаўніцкую канферэнцыю адразу ўздымае мой дух. Дык вось чаму Стася не прыехала! Канферэнцыя працягнецца два ці тры дні, і ёй трэба быць у Мікацэвічах. А ў школе тым часам ніякай работы.

Я развітваюся з Васіленкам. Леспрамгасаўская крамка якраз адчынена. Дзве бутэлькі яблычнага віна мы вып’ем са Шпаком за мілую душу. Будзем сядзець за сталом пры адчыненым акне, глядзець, як згушчаюцца на дварэ павольныя жнівеньскія змрокі, закусваць свежымі, знятымі з грады памідорамі, маласольнымі гуркамі...

## II

Прагналі статак, у паветры гаркаваты пылок. Спёка ўжо спала, але назапашаным за дзень цяплом яшчэ дыхаюць парканы, сцены хат, дахі. З балацявіны пачынае цягнуць між тым прыемным халадком, там пакрысе наматваецца на вяршаліны нізкіх дрэўцаў туман, і яго хісткая белая лава хутка акрые ўзмежкавыя лазнякі, падпаўзе да самых агародаў.

Да чаго ж харошыя жнівеньскія вечары! Яны як бы нясуць на сабе вобраз вечнага спакою, суладнасці, перад якім нікнуць дзённыя турботы і згрызоты, трацяць значэнне сваркі, звяга, усё тое, чым намазоліць сабе чалавек сэрца за дзень. Жнівеньскае неба — як харам. Здаецца, усё лета зоркі раслі, памнажаліся, набіраліся моцы, каб толькі цяпер высыпаць так густа і ўрачыста.

У Шпака мы выпілі, і ў яго за сталом мне прыйшло ў галаву, што трэба ехаць у Мікацэвічы. І вось полем я іду да чыгункі. Мне здаецца, што калі сёння ці заўтра не пабачу Стасю, то здарыцца штосьці непапраўнае, за што я ўсё жыццё буду сябе дакараць. Можа, вінават зорны вечар. Можа, я проста адчуў, што ў такі вечар нельга блукаць аднаму і трэба, каб побач быў нехта блізкі. Адносіны ў мяне са Стасяй дзіўныя. У Махаўцы я ўжо два гады, яна — год, за гэты час мы многа разоў бачыліся, гаварылі, хадзілі па полі, па чыгунцы, але ні аб чым не дамовіліся. Жывучы побач, мы затым па месяцу, па два пазбягалі сустрэч, а выпадкова сустрэўшыся, перакідваліся словамі як звычайныя знаёмыя.

Станцыі ў Махаўцы няма. Ёсць пуцейская казарма, пафарбаваная ў жоўты колер — у ёй жывуць пуцявыя абходчыкі. Зімой, калі пасажырам ад холаду, ветру нявыкрутна, адзін з абходчыкаў не замыкае калідорчык. Пасажыры там грэюцца.

Лесаўчастак побач з казармаю. Я зноў іду туды. Крамка даўно зачынена, але ў мяне дружба з вартаўніком Кузьмой Кавальчуком, і ён заўсёды выручае.

— Куды едзеш? — пытае Кузьма.

— У Мікацэвічы.

— А ўчора адтуль прыехаў?

— З дому.

— Як там дзед?

— Дзякуй, мацуецца.

— Ты калі-небудзь спытай у свайго дзеда пра мяне,— гаворыць Кузьма.— Ён павінен помніць. Я быў дзясятнікам, дастаўляў у Лоеў клёпку і абручы. Іх потым грузілі на баржу. Гэта было ў трыццатым годзе, цябе яшчэ тады на свеце не было.

Кузьма бярэ грошы, выносіць мне з хаціны-старожкі дзве бутэлькі яблычнага віна. Я хаваю іх у кішэні.

Цягнік трохі спазніўся. У Мікацэвічы едуць некалькі настаўнікаў, але я трымаюся воддаль, бо не хачу, каб мяне бачылі. Саджуся ў апошні вагон. У ім цёмна, і купэ амаль пустыя.

Самы памятны момант у маіх адносінах са Стасяй — наша першая сустрэча. Гэта было год назад, таксама ў жніўні. Я ехаў з канторы саўгаса дамоў у лясніцтва, а Стася — з Мікацэвіч паглядзець Махавецкую школу, куды яе накіравалі. Мы сустрэліся на шашы. Эх, шаша, шаша!.. З таго незабыўнага дня я люблю тваю незаасфальтаваную, з рабрыстага граніту брусчатку, пасадкі выносных сасоннікаў на пясчаных выспах, абсягі неасушаных балот з парудзелай асакой, асіннікі, альшанікі — усё, міма чаго мы ехалі.

Стася дзеля першага наведвання школы апранулася нават залішне сціпла — паркалёвая сукенка ў чырвоную крапінку, просценькія туфлі. На руках — шэры плашчык. Я ўбачыў яе, і мне здалося, што яна — пасланец лёсу. Я ж яе ведаў... Прыгожы твар як бы з выразам яснай журботнасці, зграбная пастава...

У Мінску на вуліцы Свярдлова размяшчаецца хмуры будынак універсітэцкага інтэрната. Стася там жыла. А насупроць гэтага будынка наш тэхналагічны, а праўдзівей, лясны

інстытут, у якім я пяць гадоў вучыўся. Стасю я адразу пазнаў, бо сустракаў не раз на вуліцы, бачыў у тралейбусе, яшчэ тады, у Мінску, выдзеліў яе з гурту другіх студэнтак. Я мог бы дакладна назваць некалькі выпадкаў, дзе, калі і з кім бачыў яе.

Усё гэта там, на шашы, я ёй адразу і выпаліў, не тоячы радасці і ўзбуджэння. Яна ўзрушылася таксама. Не, мяне яна не ведала, хоць сказала, што твар мой ёй знаёмы. Мы стаялі на шашы, размаўлялі, адно аднаму ўсміхаліся, і тут мной авалодаў бес натхнення.

Нашы са Стасяй каардынаты на шашы вызначаліся тым, што мы маглі паехаць у два гарады, якія гэта шаша злучала. Я і прапанаваў рушыць у Гомель ці Мазыр, пакупацца ў Сожы або Прыпяці, схадзіць у тэатр (у Мазыры гастраляваў Станіслаўскі тэатр). Стася згадзілася на Мазыр.

Калі шанцуе, то шанцуе. Як спецыяльна выкліканы, каля нас спыніўся новы самазвал, мы залезлі ў кабіну, і за якія-небудзь лічаныя сорак — пяцьдзясят хвілін чарнявенькі вясёлы шафёр дамчаў нас да Мазыра...

Апошні вагон пагойдвае. Мабыць, ад гэтага ў купэ пыльна. Пыл выбіваецца з розных шчылін. Я адчуваю яго ў сябе на руках, на губах, у роце. Міма акна праплываюць старыя хвайнякі. Праз навісь бліжэйшых дрэў праглядваюць зоркі. У прагалінах, на лясных палянках — копы, вастраверхія стажкі сена. Я закурваю цыгарэту, затым адкаркоўваю бутэльку. Адпіваю з рыльца трохі віна.

У купэ заходзіць праваднік. Крыху памуляўшыся, садзіцца насупроць мяне. Запалены ліхтар ставіць на лаўку.

— Да Мікацэвіч?

— Да Мікацэвіч.

— Свечак няма,— як бы апраўдваецца праваднік.— Выйшлі свечкі. Канец месяца.

— А электрычнасць?

— Ноччу даём. А з вечара — свечкі. Палавіну дарогі едзем завідна...

Бутэлька стаіць на адкідным століку пры акне. Я яе злёгку прытрымліваю. Праваднік глядзіць на бутэльку і маўчыць.

— Пылу многа,— кажу я.— У горле асядае. Можа, хочаце прамачыць горла?

— Стары, халера, вагон. Разбіты. А яшчэ вокны адчыняюць. Не начысцішся.

Вагон сапраўды скрыпіць і рыпіць. Асабліва на стыках.

Праваднік бярэ бутэльку і робіць некалькі асцярожных глыткоў. Потым старанна выцірае рыльца рукой. (Як бы яго рука чысцейшая, чым рот.) Я таксама трохі адпіваю. Рэшту стаўлю на столік.

Заскрыгаталі тармазы, заскрыпеў вагон. Сказаўшы «дзякуй», праваднік знікае. Цягнік спыніўся. Гэта станцыя Качаны. Я гляджу ў акно і бачу ахутаныя шэрым мроівам ночы дамкі, якія стаяць між хвой... У вокнах яшчэ гарыць святло. Я запальваю сярнічку, гляджу на гадзіннік. Адзінаццаць. А палове дванаццатай буду ў Мікацэвічах.

У Качанах невялікі шпаларэзны завод, і вясной я прыязджаў сюды разжыцца круглай пілой для нашай цыркуляркі. Лес на шпалы сюды завозяць здалёку. З Карпат, з Сібіры. У нашым лясніцтве годнага для шпал лесу мала.

Ціха, амаль нячутна цягнік крануўся. Я выпіваю трохі віна.

У Мазыры мы са Стасяй прабылі два дні. Пусціўшы ў ход свае здольнасці, я нават уладкаваў яе ў гасцініцу. Мы паглядзелі два спектаклі і тры кінакарціны. На вуліцы сустрэлі дзяўчыну, з якой Стася разам вучылася, і я заўважыў, што яна яўна ганарыцца тым, што спецыяльна прыехала дзеля тэатра ў горад і не адна прыехала. Стася і яе аднакурсніца здаліся мне тады зялёнымі дзяўчатамі. Я думаў, іх можна зблытаць з дзесяцікласніцамі. Але я памыляўся...

Стася дзень пабыла ў Махаўцы, у школе, наняла кватэру. Да заняткаў заставалася многа часу, і, не вытрымаўшы, я паехаў у Мікацэвічы. Але там чакала мяне расчараванне. Стася сустрэла мяне як звычайнага знаёмага. Ні радасці, ні прыветлівасці на твары. Як бы не было Мазыра, узаемнай узрушанасці, нашага імклівага збліжэння.

Мне завязала язык. Не было аб чым гаварыць. Стася дала мне ў рукі два старыя «Огоньки», я маўкліва іх палістаў, з паўгадзіны пасядзеў і пайшоў з хаты.

Трошкі паразмаўляла са мной Стасіна маці. У яе голасе я пачуў нібы спагаду.

Вагон скрыпіць і рыпіць. Я дапіваю рэшткі віна, а бутэльку стаўлю пад лаўку. Яна адразу падае, качаецца пад нагамі. Тады я выкідваю яе ў акно. Тое, што Стася так абыякава да мяне паставілася, я ўспрыняў балюча. Але пакінуць яе не мог. Яна мне падабалася, і з гэтым нельга было нічога зрабіць. Я мог падоўгу пра яе думаць. Ні да кога, апроч яе, мяне не цягнула...

Нарэшце Мікацэвічы. З вагона я выходжу апошні. На платформе натоўп. Перад дзвярамі некалькі немаладых жанчын з клункамі і чамаданамі. Пасадка яшчэ не хутка, але яны, не чакаючы яе, залезуць у вагон, будуць драмаць або паціху перамаўляцца.

На пясчаным пляцы перад будынкам вакзала гамана і крык. Драўляны гарадок Мікацэвічы ад станцыйнага пасёлка кіламетраў за пяць. К часу, калі прыбывае цягнік, тут збіраюцца паўтаратонкі, службовыя «газікі», калгасныя і саўгасныя машыны. Мікацэвічы — адзіная станцыя на тры раёны, якія чыгункі не маюць, таму ўвесь гэты край сустракае сваіх пасажыраў уласным транспартам.

Я мінаю станцыю і іду па вуліцы, на якой жыве Стася. Вуліца мне падабаецца. Адным сваім канцом яна выходзіць да станцыі, а другім паглыбляецца ў сасоннік. Бадай у кожным двары сад і многа сланечнікаў. Яны падступаюць пад самыя сосны. Ды вось у такім прыгожым месцы Стася жыла да сямнаццаці гадоў, пакуль не паехала ва ўніверсітэт, а цяпер жыве наездам. У яе яшчэ ёсць замужняя сястра, якая мае свой дом недзе на гэтай жа вуліцы. Бацька Стасі быў чыгуначнік; ён памёр, калі ёй было дзесяць гадоў. У гэтых адносінах мы роўныя: мой загінуў, калі мне не споўнілася і васьмі.

Вуліца засыпана жужалем, і ён скрыпіць пад нагамі. Некаторыя вокны яшчэ свецяцца. Пахне яблыкамі і сухім начным лесам. Нізка, над самымі соснамі, вісіць срабрысты паўбоханчык месяца. Акно ў пакойчыку, які займае Стася, свеціцца таксама. Мая трывога знікла, бо стукаць у цёмнае акно я б, можа, і не адважыўся.

Я заходжу ў дворык, пераскокваю нізкі парканчык гародчыка і праз палоску аконнага праёма, не зацягнутую фіранкай, гляджу ў пакой. Стася нешта прасуе. Тады я асцярожна стукаю ў шыбіну.

Яна, нічога не спытаўшы, выходзіць на ганак.

— Ты? Чаму так позна? — Але яе голас даволі прыветлівы.

— Толькі прыехаў.

— Заходзь у хату.

— Позна. Разбуджу маму.

— Дык што будзем рабіць?

— Пасядзім.

— Тады пачакай. Пайду пераапрануся.

Я прысеў на ганку. Адна трухлявая дошка трохі паднялася — яе варта б прыбіць. З левай ад мяне рукі — стары куст бэзу, пасярэдзіне дворыка — груша. Я вымаю з кішэні бутэльку віна і стаўлю на дол, пад бэз.

Стася выходзіць, садзіцца побач са мной. Паверх сукенкі яна апранула шэры шарсцяны джэмперык. Я адразу абнімаю яе, і яна не адхіляецца. Мы сядзім і маўчым, хоць не бачыліся хутка два месяцы.

— Давай вып’ем,— гавару я і бяру з-пад бэзу бутэльку.

Яна прыгожа, з лёгкім, падобным на галубіны, вуркатам смяецца. Смех у яе вынікае аднекуль з глыбіні, і я заўсёды яго люблю.

— За што будзем піць?

— За ноч. За зоры. Бачыш, колькі высыпала...

Я падаю Стасі бутэльку, і яна робіць маленькі глыток. Я выпіваю больш, потым закурваю цыгарэту.

— Заўтра ў вас канферэнцыя?

— Але. У мяне выступленне на секцыі.

— Калі ў школу?

— Прыеду за дзень да заняткаў. Што там рабіць?

Мне няўтульна, і я зноў бяру ў рукі бутэльку. Стася піць не хоча, але я сілай прыстаўляю рыльца бутэлькі да яе вуснаў. Потым мы зноў сядзім і маўчым. Я цалую Стасю. Яна не адхінаецца, аддаючыся мне пад уладу. Але сама ніводным рухам не выказвае да мяне прыхільнасці. Яшчэ не было выпадку, каб яна адказала на пацалунак. Нічога не змянілася за гэтыя

два месяцы. Мной авалодвае абыякавасць. Можна сядзець вось тут, на ганку, глядзець на жнівеньскія зоркі, маўчаць. А можна і не сядзець. Маўчаць яшчэ лепш аднаму.

— Заўтра паеду,— кажу я.— А цяпер пайду начаваць да ляснічага. Табе таксама трэба выспацца. У вас канферэнцыя.

Яна кладзе мне руку на плячо.

— Пасядзі яшчэ. Я ўсё роўна не засну.

Мы сядзім і маўчым яшчэ з паўгадзіны. Апісаўшы на небе срабрыстую паску, згарэла зорка. Сёння яны падаюць адна за адной. У жніўні заўсёды так. Вуліца спіць. Добра відаць застылыя нерухомыя вяршаліны хвой. Там, за агародамі, адразу бор. Я мог бы спытаць у Стасі, ці хадзіла яна па лесе, калі вучылася ў школе, мог бы ўвогуле бясконца распытваць яе аб тым, як ёй паводзілася на гэтай вуліцы. Але яна не пускае мяне ў сваё ранейшае жыццё, маўчаннем або аднаскладовымі адказамі ахоўваючы нават далёкія да яго подступы. Я мог бы шмат расказаць пра сябе, але Стася ні аб чым не пытае.

— Адпачынку засталося тры дні,— кажу я.— А там работа. Адна таксацыя выматае дух.

— А што такое таксацыя? — пытае Стася.

— Калі вызначаюцца запасы, якасць, прырост драўніны і многае іншае.

На станцыі гукнуў паравоз. Яшчэ праз хвіліну пачуўся перастук колаў. Цягнік, якім я прыехаў, рушыў назад на Міхалевічы. Я мог бы смела паехаць ім назад. Нічога не змянілася б.

— Будзеш піць? — пытаю я ў Стасі, беручы бутэльку з віном.

— Не хачу.

У бутэльцы яшчэ амаль палавіна. Я выпіваю ўсё сам. У галаве трохі пашумлівае.

— Пайду,— гавару я.— Табе трэба выспацца. Заўтра ў вас канферэнцыя.

— Сёння канферэнцыя,— адказвае Стася.— Ужо сёння. Гадзіны ў чатыры закончым, а тады прыходзь да мяне.

Мяне ахоплівае радасць. Я спрабую абняць Стасю і пацалаваць, але яна ўхіляецца. Ледзь не сілай вырываецца з абдымкаў.

— Спакойнай ночы,— гаворыць яна зусім спакойна.

## III

Дзень не такі гарачы, як учора. Неба светла-сіняе, глыбокае, з рэдкімі белымі аблачынкамі.

Ляснічы Ганчарык, у якога я начаваў, таксама ў адпачынку. Але, у адрозненне ад мяне, ён не змарнаваў вольны месяц. Да свайго добрага, на чатыры пакоі дома прыбудаваў веранду, зашкліў яе з верху да нізу і нават зрабіў каляровыя вітражы. На гэтай верандзе мы сядзім і снедаем.

Ганчарыку больш чым пяцьдзясят. Сын яго ў арміі, дачка ў Мінску, на хімфаку ўніверсітэта. Яна цяпер дома, на канікулах, гэтая чарнявая, тоненькая, на дзіва падобная да маці дачка-студэнтка. Праходзячы паўз мяне, яна апускае вочы.

Ганчарык налівае па паўшклянкі вішнёвай настойкі.

— Квартальны план выканаеш? — пытае ён.

— Мабыць, выканаю. Трэба дашчэчку падагнаць. З транспартам цяжка.

Нашы лясніцтвы напалову на гаспадарчым разліку. На ахову, добраўпарадкаванне, пасадку лесу грошы нам выдзяляюць, на астатняе — шукаем дадатковых прыбыткаў. Рэжам дашчэчку, робім дранку, будуем разборныя фінскія домікі.

— Як твая рацыяналізацыя?

Ганчарык пытае пра дровы. Продаж насельніцтву дроў я вяду па-свойму. На тэрыторыі лясніцтва шэсць вёсак, і каб выпісаць метр сухастою, трэба ісці ў кантору. Я зрабіў прасцей: даў леснікам квітанцыі, дазволіўшы прадаваць дровы на месцы. Выгода відавочная, бо прыбытак вырас.

— Трэба асцярожна,— гаворыць Ганчарык.— Я сям-там раблю гэтак жа. Але не ўсім можна давяраць. Наломяць дроў.

Довад здаецца смешным, і я пярэчу. Я даўно падлічыў, колькі драўніны ідзе на апал і колькі яе фактычна выпісваецца. Ламачча і сушняку ў лесе — хоць адбаўляй, лясніцтва — не блізка, таму не кожны пойдзе выпісваць ламачча. То хіба пра ўсё гэта не ведаюць леснікі?

Ганчарык згаджаецца. Зрэшты, мы абодва ведаем, што лясныя законы вельмі мяккія. У лесе можна раскладаць вогнішчы, будаваць шалашы, вырэзваць кійкі, і таму, хто гэта робіць, нават слова не скажаш. Тое самае з дрывамі, з сенам.

Усе думаюць, што лесу многа і яму ад такіх дробязяў нічога не зробіцца. Мы ж ведаем, што гэта не так.

Ганчарык просіць пазычыць пяцьдзясят рублёў. Дачка едзе ў Мінск, ёй трэба на дарогу, а з касы ён браць не хоча. Я даю яму грошы. Праз тры дні мой адпачынак канчаецца, а за сталаванне я плачу толькі трыццаць рублёў.

Затым я іду ў Мікацэвічы. Іду сасоннікам, які цягнецца ледзь не да самага паселішча. Мястэчка носіць сваю назву з незапамятных часоў. Яно пераважна драўлянае, але за апошнія гады паднялося нямала двух- і нават трохпавярховых камяніц. У новых будынках магазіны, кінатэатр, Дом культуры. Найбольш відныя трохпавярховыя памяшканні займаюць дзве сярэднія школы. Яны на процілеглых канцах цэнтральнай вуліцы, якая надае Мікацэвічам гарадскі выгляд.

Я люблю вось такія мястэчкі, дзе сельскае, ціхае пачынае спалучацца з імклівым тэмпам сучаснага жыцця. Па забрукаванай буйным каменнем вуліцы праносяцца грузавікі, грукоча трактар, цягнучы нагружаную бочкамі фуру, з адчыненых акон раённых установ даносяцца трэск арыфмометраў, тэлефонныя размовы, якія вядуць галасістыя сакратаркі.

Па дашчаным тратуары, раз-пораз пырскаючы смехам, выдыбаюць даўганогія дзяўчаты ў кароценькіх спаднічках. Падстрыжаныя пад бокс хлопцы ў пярэстых, расквечаных безрукаўках пахаджваюць гуртам, і на кожны такі гурт абавязкова ёсць гітара з доўгай почапкай — каб можна было павесіць інструмент на шыю. На плошчы, а таксама ў многіх іншых мясцінах павешаны рэпрадуктары, якія грымяць з ранку да позняга вечара, так што, знаходзячыся ў любым пункце мястэчка, можна пачуць самае новае з усяго таго, што робіцца на свеце.

Шмат дзе сцены, парканы заклеены афішамі: кіно ў Мікацэвічах ідзе адначасова ў трох месцах: у Доме культуры, у кінатэатры «Буравеснік», а таксама ў клубе спіртзавода. Няма таго дня, каб не было танцаў — яны наладжваюцца там жа, дзе кіно, а ў летні час яшчэ і ў парку.

Па суседству з цэнтральнай вуліцай пралягае другая. Там лавачкі пад вішнёвай навіссю, гародчыкі з кветкамі; ля студні спатыкаюцца і абгаворваюць апошнія навіны суседкі. Што

датычыць ускраінных вуліц, завулкаў, то там парадак, як у звычайнай вёсцы, і ранкам гаспадыні выганяюць на пашу кароў, у дварах рохкаюць свінні, зацята кудахчуць куры.

Перад Домам культуры, у якім праводзіцца настаўніцкая канферэнцыя, пярэсты натоўп. Відаць, скончыўся даклад і аб'явілі перапынак. Там недзе сярод настаўніц, якія дзеля канферэнцыі апранулі лепшыя сукенкі, Стася. Яна запрасіла да сябе. Такое ўпершыню. Мне чамусьці трывожна і радасна.

У глыбіні душы я трохі зайздрошчу настаўнікам. Хоць раз у год яны збіраюцца на канферэнцыю, іх выслухоўваюць раённыя кіраўнікі і ўвогуле сваім трохдзённым знаходжаннем у мястэчку яны як бы заяўляюць аб сабе. Лясных работнікаў на канферэнцыі ніхто не склікае. Лес расце сам — думаюць усе. Адны мы ведаем, што гэта памылка.

Мне трэба сюды-туды забегчы. У міжраённай меліяратыўнай канторы пагаварыць наконт машын, выклянчыць на пару дзён машыну яшчэ дзе-небудзь. Трэба дамовіцца наконт цэглы, цвікоў, напільнікаў, рыдлёвак, шпагату, фарбы, бляхі. Ніхто нам гэтых рэчаў проста так не дае. Ляснічы мусіць выкручвацца...

Вечарам падняўся вецер. Ён дзьмуў з захаду, быў вільготны і моцны. Па ўзмежках, ля парканаў панікла зялёная яшчэ трава, глуха шасцелі кіяшныя бадылі ў агародах. У паветры насіліся шматкі паперы, апалае лісце.

У сасонніку вецер гуляў наверсе, расчэсваючы чубы кашлатым хвоям. Сосны запелі аднастайную песню, якая прадвяшчала, што лета канчаецца, наступае восень.

Я люблю баравы пошум. Можна сесці пад сасну, закрыць вочы: тады здаецца, што ты не ў лесе, а ў моры, і не вецер гуляе ў вяршалінах хвой, а калышуцца, пеняцца, даганяюць адна другую марскія хвалі.

Мора я бачыў...

Калі я падышоў да Стасінага дома, вецер аціх, але стаў накрапваць дождж. Неба зацягнулі калматыя воблакі. Было яшчэ рана, але стаяў паўзмрок, і было такое ўражанне, што на двары позняя восень.

У Стасіным пакойчыку ўсё па-ранейшаму. Сям-там паадставалі ад сценкі, тапырачыся, старыя шпалеры. У кутку ля перагародкі стаіць канапка з прадаўленымі бакамі. Верхняя палічка этажэркі шчыльна застаўлена нумарамі «Иностранной литературы».

Я паставіў на стол бутэльку віна. Стася прынесла чаркі, талерку яблыкаў, нож.

Маці няма. Перш чым сесці за стол, я падышоў да Стасі, памкнуўся яе абняць, але яна ўхілілася. Мне здалося, што чымсьці яна ўзбуджана.

На сцяне такаюць ходзікі. На цыферблаце намаляваны кацяняты, і заўсёды, калі я заходжу ў Стасін пакойчык, то гляджу на іх. Кацяняты мне падабаюцца. Яны простыя і гуллівыя, іх круглыя вочкі, здаецца, выказваюць поўны давер да жыцця.

— Як канферэнцыя? — пытаюся я.

— Звычайна.

— Хвалілі вас?

— Не вельмі.

Мы выпіваем па кілішку. Стася дае мне палавіну яблыка. Рука ў яе дрыжыць. Чаму яна хвалюецца? Твар яе шчыры, адкрыты, і я думаю аб тым, што на фота ён шмат чаго траціць. Залішне многа на ім светаценяў, таго няўлоўнага, што фотаапаратам схапіць немагчыма. Стася заўсёды задуменная, гэта, бадай, галоўны выраз яе твару. Задуменнасць ёй вельмі пасуе.

Пастукалі ў дзверы, Стася падхапілася, пачырванела. У пакой зайшоў сярэдняга росту чарнявы старшы лейтэнант з блакітнымі пятліцамі лётчыка. На мундзіры і фуражцы, якую ён трымае ў руках, дажджавыя кроплі.

— Знаёмцеся,— ужо зусім спакойна гаворыць Стася.

Старшага лейтэнанта завуць Віктарам. Пра сябе ён болей нічога не сказаў. Стася прынесла кілішак, і я наліў лейтэнанту віна. Мы выпілі, але гаворка не клеіцца.

Стася ўключыла святло, і я разгледзеў лейтэнанта ўважлівей. Яму гадоў дваццаць пяць, у яго смуглявы, нават цыганаваты твар, з выразам як бы нейкай жорсткасці. Па тых паасобных словах, якімі ён перакідваецца са Стасяй, я зразумеў, што лейтэнант быў тут учора.

Справа праясняецца.

Мяне, як заўсёды, апаноўвае абыякавасць. Лейтэнант, наадварот, нервуецца. Ён ёрзае па крэсле, падхопліваецца, падыходзіць да акна.

Я наліў яшчэ па кілішку. Віктар выпіў і, сказаўшы, што яго нехта чакае, выскачыў за дзверы. На мяне нават не зірнуў.

— Ты з ім даўно знаёма? — спытаў я ў Стасі.

Яе твар перасмыкнуўся, як ад болю.

— Са школы.

— Дзе ён жыў?

— Тут, на суседняй вуліцы...

Што ж, зразумела. Адразу за агародам бор: гонкія ўрачыстыя сосны. Ён прыгожы, гэты Стасін бор. У ім многа сцяжынак, утульных месц, яны былі і тады, калі Стася хадзіла ў школу. З соснамі, ляснымі сцяжынкамі ў яе, мабыць, шмат звязана, таму яна не пускала мяне ў свой бор. Каханне пачынаецца не ў дваццаць сем, а ў сямнаццаць, яно моцнае, цэльнае, гэтае першае каханне...

Я разумею Стасю, бо ў мяне таксама быў бор. Я паступаў у мараходнае вучылішча ў Калінінградзе, а не паступіўшы, амаль год плаваў матросам на гандлёвым ціхаходзе «Калуга», потым яшчэ два гады служыў у замежных гарнізонах. А калі вярнуўся, сцежкі ў маім бары зараслі. Мая дзяўчына проста забыла пра іх. Тры гады ў маладым жыцці — многа. Звычайная гісторыя...

— Ён столькі мне пакуты прынёс,— гаворыць Стася.— Няхай ідзе. Няма чаго яму тут рабіць.

А ў самой на твары ледзь не роспач. Яна зусім не ўмее таіць пачуццяў. «У цябе яшчэ не кончана, мая дзяўчынка,— думаю я.— Ты проста сама сябе не ведаеш. Таму не расказала сваёй гісторыі. А я б расказаў, толькі ты не спытала. Яна цябе зусім не цікавіла...»

Калі ў сенечках пачуліся цвёрдыя крокі і ў пакойчык зайшоў змакрэлы старшы лейтэнант, я ведаў, што рабіць. Для прыліку пасядзеўшы некалькі хвілін, я развітаўся. Гэтага хацеў цыганаваты лётчык. Ён стаяў, мусіць, на вуліцы і чакаў. А можа, проста не мог саўладаць з пачуццямі...

Рыцары мусяць змагацца за даму сэрца!.. Гэта іх абавязак.

Я таксама змагаўся. А цяпер лічу, што рабіў несур’ёзна. Яшчэ ў школе ў маёй дзяўчыны было шмат кавалераў. Я дамогся таго, што астаўся адзін. А калі паехаў, яны ўсе вярнуліся...

Калі я дабег да станцыйнага буфета, то ўвесь змок. Да поезда яшчэ далёка — ён нават не прыбыў з Міхалевіч. Я сеў за столік і заказаў бутэльку віна. Трэба было абагрэцца...

У мяне была кропля надзеі, што Стася накіне плашчык і прыйдзе ў станцыйны буфет. Яна ведае, што на дажджы, апроч гэтага месца, мне некуды дзецца... Я патрошку піў віно і паглядаў на дзверы. Стася не прыйшла...

Затое зала пакрысе набівалася студэнтамі. Яны вярталіся ў свае інстытуты, бо канікулы канчаліся. Дзяўчат было болей, чым хлопцаў. Хлопцы, іх равеснікі, служаць у арміі, ахоўваюць граніцу — мужчынам у гэтым свеце трошкі болей клопатаў, чым жанчынам. Студэнткі з мокрымі пасмачкамі валасоў весела шчабяталі, смяяліся. Яны куплялі ліманад, цукеркі і амаль усе здаваліся мне прыгожымі. Некаторыя з іх цішком зыркалі на мяне.

Паглядаючы ў сваю чаргу на студэнтак, я думаў аб тым, што магу, зрэшты, пазнаёміцца з якой-небудзь адной, якая мне найбольш спадабаецца. Мы будзем адно аднаму пісаць лісты, тады я паеду да яе ў госці — у Гомель або Мінск, там паходзім па тэатрах, пасядзім у рэстаране, калі-небудзь яна завітае да мяне, у мой лес. Не ўсе ж студэнткі асядуць па гарадах, хоць, магчыма, яны гэтага хочуць. Я яшчэ не стары, мне дваццаць сем, дзяўчатам па дваццаць, і, мабыць, знойдзецца адна, якая не прыкіпела душой да свайго нарачонага, як Стася да лётчыка.

Стасю я наважыў забыць. Усё-такі яна кепска зрабіла. Навошта запрашала, калі ведала, што прыйдзе лётчык? Каб падштурхнуць яго, ці як? А мне, выходзіць, увесь гэты год была наканавана роля запасной пешкі...

Калі прыбыў цягнік з Міхалевіч, я зайшоў у вагон і, каб мяне ніхто не ўбачыў, заняў цёмнае пустое купэ.

## IV

Цягнік рушыў, у суседнім купэ ўспыхнула святло. У маім — паўзмрок, аднак знайшліся ахвотнікі і на яго. Насупроць селі два маладыя, у расхлістаных сарочках хлопцы, паставіўшы на столік каробку партатыўнага магнітафона. Ля супрацьлеглага акна прымасціліся дзве студэнткі. Каб заняць сярэднія полкі, яны загадзя паклалі на іх свае чамаданы. Адна са студэнтак, наколькі я паспеў разгледзець, даволі прывабная.

Я ніколі не любіў сучаснай замежнай музыкі, але цяпер, калі хлопцы сталі пракручваць стужку магнітафона, стаў уважліва ўслухоўвацца. Слоў не разбіраў, але галасы спевакоў, як і самі мелодыі, вабілі задушэўнасцю і непадробным смуткам. Людзі страцілі штосьці дарагое, запаветнае, а цяпер пакутуюць ад гэтага. Песні былі розныя, розныя галасы, але настрой адзін. Аб беззваротна страчаным.

Мне падабаюцца мелодыі, і я думаю аб тым, што варта купіць магнітафон, назапісваць музыкі і вечарамі пракручваць.

Пазіраю ў акно. Калі ехаў у Мікацэвічы, глядзеў на заходні бок, цяпер — на ўсходні. Малюнак другі. У прагалах між сасоннікамі зыркаюць яркія агні. Іншы раз яны сягаюць высока ў неба і відны здалёк. У такіх месцах стаяць буравыя вышкі, а навокал палаткі і вагончыкі буравікоў. З таго часу, як пад Рэчыцай знайшлі нафту, усё палескае Прыдняпроўе ажыло. Нафту шукаюць у многіх іншых мясцінах, таму проста ў лесе вырастаюць часовыя паселішчы.

Хлопцы выйшлі на першым прыпынку. Хутчэй за ўсё яны з буравой, што ў Дуброве. Студэнткі залезлі на полкі. Знаёміцца з імі позна. Тая, што здалася прыгажэйшай, лягла якраз на полку над маёй галавой. Я ўстаю, выходжу курыць, а затым зноў вяртаюся на сваё месца. Каб лепш разгледзець твар студэнткі, падоўгу стаю ля акна. Мая галава на ўзроўні сярэдняй полкі, і нават у паўзмроку я добра бачу гэты твар. Ён спакойны і далікатны. Акрыўшыся лёгкім палітончыкам, студэнтка спіць. У яе, відаць, няма асаблівых клопатаў і турбот.

Так я даехаў да Махаўца.

У мяне ў запасе два дні адпачынку, але я прыступаю да работы. Дождж, які пачаўся ўчора, усё яшчэ церусіць, таму, маючы намер выбрацца ў лес, я апранаю гумавы плашч.

Будынак лясніцтва новы, прасторны, стаіць у прыгожым месцы — там, дзе ліпавая алея, насаджаная некалі тутэйшым панам, пераходзіць у лес. Апроч канторы, у гэтым будынку кватэра памочніка ляснічага і мая. Сваю я саступіў бухгалтару Саўчуку і займаю пакойчык. Сталуюся ў Саўчука. Ён быў тут ляснічым, але выйшаў на пенсію, застаўшыся на пасадзе бухгалтара.

Саўчук ужо ляскае на лічыльніках. Маўкліва падсоўвае мне стосік папер. За час адпачынку я нават па цыркулярах засумаваў. Уважліва іх перачытваю, адкладваю ў асобную папку дзве паперкі, якія патрабуюць хуткіх мер. У адной паведамляецца, што з будучага года павялічваюць план цэха шырпатрэбу, а ў другой — напамінак аб справе лесніка Гаркушы. Яшчэ летам прыязджала камісія, яна пацвердзіла, што Гаркуша самаўпраўна прадае дровы. Справа заблытаная, і я не спяшаўся звальняць лесніка з работы.

У поўдзень саджуся на матацыкл. Дарогу добра прыбіла дажджом. Яна наезджаная і шырокая. Еду спачатку зірнуць на лесапасадкі.

На махавецкім полі густа падняўся лес. Яго насеяў яшчэ Саўчук. Прыняў па акце ад калгаса гектараў сто пясчанай няўдобіцы, на якой нават лубін не рос, і засадзіў бярозай і сасной. Сасонкі яшчэ невысокія, але ўжо ўвабраліся ў сілу. Пасля дажджу адліваюць сівізной. А бярозы высока шуганулі. Паміж дрэўцаў прабіваецца малады верасок. Летась махавецкія жанкі ледзь не панадрываліся, носячы адсюль казлякі і зялёнкі.

Я думаю, што настаў час зрабіць тут прачыстку і асвятленне. Лясок пры дарозе, па ім мяркуе кожны аб парадках у лясніцтве. А безгаспадарчасці яшчэ многа. Не паспяваем рабіць самае неабходнае.

На прачыстку, асвятленне наймаем школьнікаў. Звяно лесакультурнікаў ледзь трывае. Расцэнкі нізкія, дзяўчаты ходзяць на работу толькі таму, што выдзяляем сенакосы і трохі зямлі пад бульбу. У саўгасе супроць нашага можна зарабіць удвая.

Мінуўшы вёску Сівалобы, я памчаў па шашы. Вось тое месца якраз, дзе летась мы спаткаліся са Стасяй. Успамін балюча кальнуў. Стася, відаць, не разумее нават, як мяне

пакрыўдзіла, сутыкнуўшы са сваім Віктарам. Лепш бы не запрашала...

Я зварочваю з шашы і еду зноў пясчанай дарогай. Свежага следу няма. Леспрамгас цяпер з лесу нічога не возіць.

Паабапал дарогі бор. Кавалак лесу, якім яшчэ можна ганарыцца, бо мала ўжо засталося такіх бароў. Магутныя выносныя сосны з купчастымі вяршалінамі, якія сплятаюцца між сабой у самым паднябессі. Бор гэты — як хорам. Ва ўсякае надвор’е, у кожную пару года ў ім урачыста і хораша. Асабліва люблю я бор летам, калі востра пахне смалой, хвояй, а па сінім небе плывуць белыя аблачынкі. Можна легчы на сухі верас, падкласці рукі пад галаву і хвілінамі маўчаць, слухаючы цішыню.

Я пабываў у многіх гарадах у нас і за мяжой, хадзіў па карцінных галерэях. Але нідзе так не апаноўваў мяне святочны настрой, як у гэтым бары. Чалавек, мабыць, не падняўся яшчэ над прыгажосцю, якую стварае прырода.

Пераскочыўшы драўляны, раз’езджаны масток, пад бярвеннямі якога булькае балотная рачулка, мінуўшы некалькі кварталаў чарналесся, маладых саснякоў, я нарэшце заглушыў матор. Сёлетняй вясной мы размясцілі лесакультуры на суцэльных высечках. Дваццаць гектараў сасны вось тут, на гэтай змрочнай, цёмнай паляне, якая нагадвае пажарышча. Злева ад паляны крута ўздымаецца сцяна сасонніку, масіў як па-жывому перасечан папалам. Звычайна лес пачынаецца ніжэйшымі, радзей пасаджанымі дрэвамі, а тут адразу нібы выведзеная пад лінейку стромая сцяна. Таму што тут плошча суцэльнай высечкі. Пні, пні скрозь на паляне. І яшчэ барозны.

Сасонкі ў бараознах ледзь прыкметныя. Мясцінамі ніжнія іголкі саджанцаў пажаўцелі — дрэўцы ўсё яшчэ хварэюць. Лета пякло, як ніколі. Але ў цэлым становішча здавальняючае.

Дождж паціху церусіць. Я саджуся на матацыкл і еду далей. Каля вёсачкі Азярыны быў пажар. Яго патушылі, але гектараў дзесяць лесу спустошана. Абгарэлыя сосны стаяць, як чорныя свечкі. Іх трэба пусціць на дровы, а плошчу раскарчаваць. Але сёлета рукі не дойдуць.

З узгорка як на далоні віднеюцца Азярыны. Строгай забудовы няма — хаткі як статак гусей на лузе. Дый самі па

сабе яны не вабяць — маленькія, з падслепаватымі акенцамі. Немцы, помсцячы партызанам, спалілі вёсачку датла, забудова рабілася на скорую руку, і гэтая спадчына ліхалецця дажыла да сённяшняга дня. Я заўсёды з цяжкай душой праязджаю праз Азярыны. Трэба будаваць новыя хаты, а лесу бракуе. Па законахляснога гаспадарання мы мусім спілоўваць столькі, колькі драўніны прырастае за год. Але ўжо многія гады яе бярэцца ў два, а то і ў тры разы болей прыросту.

Калі я паказваюся ў якой-небудзь вёсцы, мяне пытаюць пра лес і пра сена. У раённага работніка таксама пытаюць пра гэта і яшчэ пра цэглу. У абсягу лясніцтва некалькі вёсак, і ў адной з іх — у Табунах — някепска разгарнулася будаўніцтва з цэглы. Але добры прыклад слаба пашыраецца, бо дастаць цэглу гэтак жа цяжка, як дзерава.

Ля Доўгага Броду спатыкаю свайго памочніка Будая. Сядзіць у кабіне разам з трактарыстам, тралюе цераз балота асіну. З асінавых бярвенняў мы вырабляем дошчачку.

— Не хацеў цябе будзіць,— смяецца Будай.— Ты ж у адпачынку. Чаму адбіраеш мой хлеб?

Трактарыст паласуе балота адзін. Мы закурваем, гаворым аб гаспадарчых справах. З Будаём ладзім. Ён нетаропкі, разважлівы, мае вялікую цікаўнасць да ўсяго, што робіцца па-за межамі лясніцтва.

Расказваю, што патрабуюць зняць Гаркушу.

Будай не любіць дзейнічаць не падумаўшы. Гаркуша — ляснік не надта, але ж не так хутка знойдзеш лепшага.

— Гаркуша Гаркушай, а дырэктар і да цябе прыдзіраецца,— гаворыць Будай.— Што вы там, у інстытуце, не падзялілі?

Я маўчу. З дырэктарам лясгаса Пікулікам мы сапраўды разам вучыліся. Але я яго мала ведаю. Ён канчаў, а я толькі паступіў. У інстытуце ён нічым асаблівым не вызначаўся. Студэнт як студэнт. Прызначылі яго ў лясгас тады, калі я ўжо працаваў ляснічым.

Будай гаворыць праўду — дырэктар на мяне трохі наскаквае. Летась пазбавіў прэміі. За тое, што не дацягнулі нарыхтоўку сасновай лапкі. Але мы перакрылі план па шырпатрэбе. Нават намнога. Другія лясніцтвы не мелі палавіны нашага, а прэмію атрымалі.

Будай пасмейваецца:

— Не ўмееш шыі гнуць. Начальства любіць пакорлівых.

Трактарыст заглушыў трактар, падышоў да нас. Завуць яго Усевалад. Хлопец харошы, працавіты, але непаседлівы. За апошнія пяць гадоў тры разы звальняўся з лясніцтва, але вяртаўся. Быў у Карэліі, на Калыме і ў Казахстане. Нідзе не спадабалася.

— Перакусім, ляснічы,— гаворыць Усевалад, шчэрачы белыя, як часнок, зубы.— Мы з вамі халасцякі, а Мітрафану Іванавічу жонка пончыкаў напякла. Закаштуем...

Я адчуваю, што галодны. Фактычна не снедаў, выпіў шклянку чаю. Будай разгортвае пакункі. Жонка яго, Аліна, клапоціцца пра мужа і наклала ў сумку бутэрбродаў, вяндліны, памідораў, яблыкаў, салёных агуркоў. У маленькім тэрмасе — гарачая кава. Нават пра сурвэтку, якую можна разаслаць на зямлі, жонка памочніка ляснічага не забылася. У карабку ад запалак — соль...

Усевалад разгортвае зашмальцаваную ватоўку, якая ляжыць пад кустом, дастае паўлітэрку. Такія вось неспадзяваныя снеданні, абеды ў кампаніі з падначаленымі або нават малазнаёмымі людзьмі выпадаюць даволі часта. Я ведаю, што раблю кепска, бо штосьці трачу ў вачах людзей. Але супакойваю сябе тым, што другія робяць гэтак жа. Такая служба.

Мы выпіваем па чарзе, наліваючы гарэлку ў накрыўку тэрмаса. Чалавек — тонкая істота, для яго мае значэнне не толькі тое, што п’е, а — і з якога посуду. Я не паважаю пластмасавых стаканчыкаў, чарак. Папярхнуўся і цяпер — гарэлка трапіла не ў тое горла. Лепей ужо проста з рыльца.

Чым добрая служба леснікоў, дык гэта вось такой магчымасцю паляжаць на чыстым паветры, на ўлонні прыроды. Не трэба курорты. Месца мы не выбіралі, дзень хмуры, імжысты, але ўсё адно прыемна глядзець на сіняватую граду далёкіх саснякоў, на вяршаліны асін, у якіх многа жоўта-чырвонага лісця. У кустоўі цінькаюць сініцы. Восень хутка.

Мне здаецца, у характары мужчын застаецца трохі дзіцячага. Як дзеці, любяць збірацца, адзін перад другім выхваляцца, падколваць. Забаву замяняюць чаркай.

Усевалад зноў налівае ў накрыўку, але я адмаўляюся.

— Звальняцца не будзеш? — пытае Будай ва Усевалада.

Той ужо выпіў, закусіў, лёг, падаслаўшы ватоўку, на спіну і пазірае ў неба.

— Не ведаю. Яшчэ не засумаваў.

— А як засумуеш?

— Звольнюся.

— Чаго ты шукаеш у Карэліі, на Калыме? Не магу такіх, як ты, летуноў зразумець! Носіцеся, бадзяецеся па свеце. Для чаго?

Ва Усевалада смуглявы, абветраны твар, трохі жорсткія шэрыя вочы. Жуе былінку. Чаго ён лятае па свеце? Бо на адным месцы сумна. Пакуль малады, можна пабадзяцца. Пабачыш новыя мясціны, людзей. Хоць, зрэшты, усюды аднолькава. Усюды людзі імкнуцца да аселасці. Асабліва жанчыны. Пазнаёмішся з якой-небудзь, а яна на другі дзень намякае пра загс, пра кватэру...

Будай прагна слухае. Я ведаю, што сам ён ніколі не адважыцца сарвацца з наседжанага месца. Хіба толькі калі перавядуць у суседняе лясніцтва. Жыве са сваёй Алінай, у яго ўсё да ладу, усё як трэба. Тым не меней вятры вандравання вабяць і яго.

Будай чакае лясгасаўскай машыны. Ён мусіць пераправіць вытраляваны лес у Махавец. Я заводжу «Іж». Нашуся да вечара, спатыкаюся з леснікамі, тэхнікамі. Усе павінны ведаць, што ляснічы прыступіў да выканання абавязкаў.

## V

Стася не прыехала. Назіркам я прайшоў міма дома, у якім яна кватаруе. Фортачка ў акне зачынена. Да заняткаў застаўся дзень... Затым я падаўся да фельчара Шпака, але дома не застаў. Шпак на паляванні. Сядзіць у лазе, ля балотных азярын, пільнуе атлусцелых чыркоў. Ён заўсёды на паляванні. Рыцыну, розныя парашкі выдае жонка. Гэткім манерам Шпак жыве ў Махаўцы гадоў дваццаць. Ніводнай скаргі за гэты час на яго не было.

Я рушыў дамоў, наважыў пачытаць. Але перад самым лясніцтвам мяне пераняў фізік Васіленка. З ходу загукаў:

— Дзве гадзіны шукаю цябе, Лявонавіч! Пайшлі, брат, пайшлі, а то і так парадкам спазніліся... Куды пайшлі? На вясёлае зборышча, вядома. Хіба ты забыў, што Махавец даў свету шэсцьдзесят настаўнікаў?! Па колькасці інтэлігенцыі, якая выйшла з сяла, Махавец займае першае месца ў раёне. Так, так, першае! Вось табе дакладныя лічбы. Шэсцьдзесят настаўнікаў, трыццаць два аграномы, урачы, інжынеры, дваццаць шэсць афіцэраў, з іх два палкоўнікі і генерал... Лічыш, што на дзве сотні двароў мнагавата? Сам ведаеш, зямля тут кепская, таму людзі шукалі іншага спосабу жыцця...

Зрэшты, я ўсё разумею. З Махаўца сапраўды паходзіць нямала настаўнікаў, якія працуюць у навакольных вёсках. Хто несямейны — праводзілі канікулы ў бацькоў, а цяпер раз'язджаюцца па школах. Такая ж вечарынка была летась, але я тады не пайшоў.

У душы варушыцца кволая надзея, што пабачу Стасю. Можа, яна прыехала, сядзіць там, куды вядзе мяне Васіленка? Чаго б у адваротным выпадку ён так стараўся? Але я адганяю гэтую думку. Стася на вясёлыя зборышчы не ходзіць. Тут, у Махаўцы, паводзіны яе бездакорныя. Адносна Стасі мне ўсё зразумела: ёсць Віктар, ён засланіў ёй свет.

Хутчэй за ўсё, Васіленка дбае пра некага другога. Мяне стараюцца ажаніць, таму ахвотна запрашаюць на імяніны і вечарынкі.

Праводзіны наладжаны ў доме настаўнікаў-пенсіянераў Свірыдзецкіх. Дом гэты проста выдатны і, можа, найлепшы ў Махаўцы. Ён цагляны, прасторны, атынкаваны, пабелены, з мезанінам і чатырохскатным бляшаным дахам. Пры доме вялікі сад з дарожкамі, апавітай плюшчом, дзікім вінаградам крытай альтанкай і самаробным фантанам. Псуе выгляд дома і саду залішне высокі паркан, пацягнуты зверху калючым дротам. Свірыдзецкім, няхай сабе яны на пенсіі, не варта было нацягваць на паркан гэты дрот...

Кампанію засталі ў зборы. За сталом чалавек дваццаць. З добра знаёмых мне — Будай і майстар цэха шырпатрэбу Аніскавец, чорны, напалавіну сівы, з нерухомай правай рукой. Мяне пасадзілі паміж Тарэзай і Вандай, дочкамі Свірыдзецкіх.

Будай, які сядзіць насупраць, падміргвае, пасміхаецца, прыкрыўшы даланёю рот.

Тарэза і Ванда даволі прыгожыя. Падобныя адна на другую мала. Старэйшая Свірыдзецкая болей кідкая тварам і паставай. Усміхаючыся, яна па-кашэчы звужвае вочы і аблізвае чырвоныя сухія вусны. Ванда — сціплейшая, пагляд яе вачэй з доўгімі вейкамі мяккі і даверлівы.

Мы выпіваем за пачатак навучальнага года, затым па чарзе за настаўніц. Запруда няёмкасці прарвана, усчыняецца гамонка, перамовы. Я павёў сябе трохі з выклікам, наліўшы ў шклянку не гарэлкі, а віна. Тарэза памкнулася адабраць віно, і нашы рукі скрыжаваліся. Яна стрэліла ў мяне звужанымі вачамі.

— Хіба вы не мужчына?

— Магу паказаць пашпарт, Тарэза Браніславаўна.

— Але мужчыны п’юць што-небудзь моцнае.

— Грузіны, французы п’юць пераважна віно. Хіба яны кепскія мужчыны?

Нечакана я пачуў імя Стасі. Размаўлялі паміж сабой Аліна і чорненькая, як мушка, жонка майстра Аніскаўца.

— Лётчык жанаты. Болей як два гады. Дзіцё ёсць. А з ёй гуляе, як кот з мышшу...

Не ведаю, гаварылі яны для мяне ці проста так. У Махаўцы нас са Стасяй ніхто не бачыў. За ўвесь год быў у яе толькі два разы. І яшчэ некалькі разоў мы прагульваліся за сялом. Але было цёмна, і, здаецца, ніхто па дарозе не стрэўся...

Мной апаноўвае радасць. У другім святле паўстае Стасіна запрашэнне быць у той вечар з ёю. Яна хацела мяне мець як апору, як абаронцу, а я ганебна збег. Я нягодны і нікчэмны! Чакаў яшчэ, што Стася прыйдзе на станцыю. Чаго ісці? Жанчыны любяць сапраўдных мужчын, нязломных і цвёрдых. А я кісель, ныцік, рэфлектыўны тып, няздольны ні да чаго сур’ёзнага.

Павярнуўшыся да суседкі, я сказаў:

— Вы хочаце, каб я выпіў гарэлкі, Тарэза Браніславаўна? Я магу выпіць. Толькі наліце мне вы. За ваша здароўе!

Прыжмураныя вочы стрэлілі як бы з выклікам. Я чокнуўся з Тарэзай, выпіў. Стаў яе крадком разглядаць. Прывабная

жанчына, а ў жыцці не надта шчаслівая. Была замужам за раённым пракурорам, але ён пакінуў яе. Разам з хлопчыкам. Не паглядзеў, што панізяць па службе. Яна жыла яшчэ з адным. Калі праўда тое, што я чуў, то шлюб быў дзіўны: ён, яна паасобна клалі грошы на ашчадную кніжку, а на сталаванне ўносілі роўныя долі.

— Колькі вы ловіце рыб? — спытала Тарэза.

— Якіх рыб?

— Ну, самых звычайных, якія жывуць у рацэ. Вы ж ляснічы, у вас ёсць ружжо і гэтыя, як іх называюць, спінінгі.

Навошта ёй ведаць? Ёсць інтарэс, яна хоча разгадаць мой характар. Колькі я лаўлю рыб? Магу сказаць, тут няма сакрэту. Я вырас на Дняпры, у дзяцінстве, юнацтве трохі лавіў. Чырванапёрак, язёў, ляшчоў. Аднойчы злавіў сома. А цяпер не лаўлю зусім. Тут няма ракі. І на паляванне не хаджу. Толькі аднойчы забіў лісіцу. Яе шкурка цяпер у мяне. Нават пачала псавацца.

— А вы б маглі зняць боты з забітага чалавека?

Што адказаць? На вайне я не быў. Нарадзіўся ў той год, калі вайна пачалася. У арміі служыў з шасцідзясятага па шэсцьдзесят другі. У час манеўраў у нашым палку загінуў сяржант. Яго пахавалі ў ботах.

— Чаму вы так дзіўна пытаецеся?

Тарэза смяецца. Вочы яе павільгатнелі і яшчэ больш звузіліся. Мяне агортвае сум. Здаецца, яшчэ ніколі не было так сумна ў застоллі. Нічога нельга з сабой зрабіць, і не трэба ад сябе хавацца...

У тостах, выгуках, не цікавых для мяне размовах прайшла яшчэ гадзіна. Я ўжо не мог болей трываць.

Тарэза ўключыла радыёлу. Пачаліся танцы. Я выняў з пачкі цыгарэту, паціху выбраўся на двор. Каб ніхто не затрымаў, выйшаў за веснічкі. Неба патроху праясняецца. У прагалах між воблакамі блішчаць зоркі. Яшчэ рана, толькі адзінаццаць гадзін, а поезд з Мікацэвіч прыходзіць у дзве. Стася мусіць прыехаць, бо да заняткаў застаўся адзін дзень. Яна сама гаварыла, што прыедзе за дзень.

Я не магу без Стасі. Цяпер зусім не думаю пра лётчыка. Ён знік, растаў у тумане. Стася звала мяне, і ў той вечар мне трэба было быць з ёю. Што з таго, што Віктар вярнуўся? Яна ж

прасіла прыйсці, адчуваючы, што ён з'явіцца. Я не ведаў толькі, што лётчык жанаты. А гэта мяняе справу.

На чыгунку яшчэ рана, і я паварочваю да пасадак. Крочу па дарозе ўперад-назад, уперад-назад. Гудуць стомай ногі. За дзень я парадкам нахадзіўся. Расхінаючы мокрыя галіны, я лезу ўглыб сасонніку. За каўнер капае. Я знімаю пінжак, кладу сподні́м бокам на дол і лажуся. Цішыня. Чуваць, як падаюць з галін важкія кроплі. Я закурваю цыгарэту, затым непрыкметна для сябе засынаю.

Прахопліваюся ад таго, што замёрз. Праз навісь галін відаць густа засеянае зоркамі неба. Запальваю сярнічку і падношу да гадзінніка. Яшчэ толькі палавіна першай. Выбіраюся з пасадак на дарогу і іду да чыгункі. Цяпер я па-другому ацэньваю вечар, калі ў Стасіным пакойчыку нас было трое. Тры нябесныя целы з перакрыжаванымі арбітамі. Ясна, у тых дваіх сіла прыцягнення роўная адштурхоўванню. Таму не сышліся. Але і разысціся не могуць. Што сваім з'яўленнем прынёс я? Нічога. Нябесныя целы імкнуцца адарвацца адно ад другога, але прывязаны сілай прыцягнення. Мая арбіта істотнага ўплыву не мае. Значыць, свабоды волі няма. Усё ўзаемаабумоўлена. Што ведаем мы пра каханне? Што ведаеце вы, паважаныя суддзі, члены мясцовых камітэтаў, камісій, калі разглядаеце справы пра тое, што ён пайшоў ад яе ці яна ад яго?

Што, напрыклад, скажаце пра мой выпадак? Калі я канчаў дзесяцігодку, у мяне была дзяўчына. Я за яе змагаўся. Вандруючы па-за домам, служачы ў арміі, думаў толькі пра яе. А яна не думала. Калі вярнуўся, яна не мела нічога супроць, каб працягваць добрыя адносіны. Нават магла выйсці за мяне замуж. Але я не мог. Таму цяпер не хачу змагацца нават за Стасю.

Што значыць — змагацца? Чаго можна дамагчыся ў такой барацьбе? Жыць так, як жыла Тарэза са сваім другім мужам, уносячы з ім роўную долю за сталаванне?..

Мая прамова пад зоркамі адраса не мае. Я адчуваю, што магу любіць Стасю да самазабыцця. Я ведаю — яна той чалавек, які можа мяне разумець, і, калі карыстацца высокімі словамі,— натхняць, даваць крылы, напоўніць навакольны

свет радасцю. Але хвалі разбіваюцца аб каменную скалу. Вось зараз я яе сустрэну і магу да дробязей прадказаць, якая гэта будзе сустрэча. Яна выйдзе з вагона, я падыду, павітаюся. Ноч позняя, дзве гадзіны ночы, у яе голасе будзе трошачкі цеплыні. Яе ўсё-такі кране мая самаахвярнасць. Не кожны сустракае сваю, няхай сабе добрую знаёмую, у дзве гадзіны ночы. Потым мы пойдзем па дарозе, я буду падтрымліваць яе пад руку. Што-небудзь спытаю, яна адкажа. Ветліва, уважліва. Але не спадзявайцеся, што яна пацікавіцца, што я рабіў два дні, як сябе адчуваў. Не, гэтага не будзе. Ні слова не скажа, чаму прыехала ў апошні дзень, не растлумачыць наконт Віктара. Думай, што хочаш. Я магу нават пацалаваць яе, яна не адхінецца, але гэта будзе толькі мой пацалунак. Перад сваёй кватэрай скажа «дабранач». Пойдзе спаць. У яе не ўзнікне жаданне трохі павандраваць перад хатай, патрымацца са мной за рукі. Вы адчулі, што я пры гэтай сустрэчы прысутнічаю і ў той жа час мяне як бы няма? На маім месцы мог быць другі, выпадковы спадарожнік, і ўсё было б такім самым, хіба што без пацалунка...

Цікава, а як было з Віктарам? Не ведаю, не ведаю. Гэта справа не мая. Толькі хваляванне на Стасіным твары я бачыў. І перад тым, як ён прыйшоў, і тады, калі вярнуўся другі раз, яна страшэнна хвалявалася...

Поезд спазніўся. Рашучыя словы, едкую, толькі што выдуманую прамову я адразу забыў. Я баяўся, што Стася не прыедзе. Нарэшце бліснула светлае вока цягніка. Колькі я памятаю, не было выпадку, каб наперадзе поезда свяціліся два электрычныя ліхтары...

Стася выйшла з апошняга вагона. Яе стройную постаць я ўбачыў адразу. Я падышоў і павітаўся. Па яе голасу адчуў, што яна нават як бы здзівілася, убачыўшы мяне. Я ўзяў яе саквояж, і мы пайшлі па дарозе. Наперадзе нас, гучна размаўляючы і смеючыся, ішлі трое. Двое мужчын і жанчына. Па голасу я пазнаў фельчара Шпака. Дзіўна, чаго ён ездзіў у Мікацэвічы? Жонка сказала, што ён на паляванні.

— Заўтра будзе добрае надвор'е,— кажу я.— Бачыш, колькі высыпала зорак.

Стася ідзе моўчкі. Але я на яе не злуюся. Злуюся, калі яе няма. Усё, што я нядаўна думаў, дакляраваў сам сабе, глупства. Мне радасна, што я іду побач са Стасяй, магу дакрануцца да яе рукі, адчуваць яе каля сябе. Добра, што яна ў Махаўцы. За гэты месяц, што ад'ехаўся адсюль, я проста спакутаваўся.

— Слухай, давай пераменім жыццё. Ну, як мы гэты год пражылі? Ты ў сваёй каморцы, я ў сваёй. Хочаш, я куплю магнітафон? Паставім у цябе, і я буду прыходзіць слухаць.

— Не гавары так, Саша.

— Чаму не гаварыць?

— Не трэба.

Цяпер мы ідзём моўчкі. Сцежка няроўная, і я злёгку падтрымліваю Стасю. Нарэшце выйшлі на дарогу. Я адпусціў яе руку і закурыў.

— Дай і мне,— просіць яна.

— Ты ж не курыш.

— Цяпер хачу закурыць.

Я даў цыгарэту і запаліў запалку. Твар яе трохі бледны. Але нават прыгажэйшы, чым раней. Курыць няўмела. Раз-пораз цягне дым і адразу выпускае.

Калі мы выйшлі на вуліцу, дзе стаіць яе дом, гучна заспявалі пеўні. На другім канцы сяла ляніва брахнуў сабака. Зоркі свяцілі ярка і роўна. Было цёпла.

Мы спыніліся ля веснічак.

— Сёння я пайду да цябе,— сказаў я.— Ты ведаеш, што я цябе люблю. Больш не магу...

Яна стаяла і маўчала. Абедзвюма рукамі я прыхінуў яе да сябе, стаў цалаваць яе вусны, твар, шыю. Яна не працівілася. Я задыхаўся, прыціскаў яе да сябе цясней і цясней. Я чуў, як часта б'ецца яе сэрца і як часта яна дыхае. Я быў вышэй за яе, абдымаючы, прыціскаючы да сябе, непрыкметна адарваў яе ад зямлі. Яна абхапіла мяне за шыю рукамі і павісла на мне, як на дрэве. На імгненне я адчуў дотык яе вуснаў, але на адно толькі імгненне. Яна расчапіла рукі і груба, з незнанай раней у ёй сілай мяне адштурхнула. Гэты жорсткі, грубы жэст зняважыў і ў адзін момант ацвярозіў.

— Скажы,— стараючыся схаваць задыханасць, прамовіў я,— у цябе было гэта з Віктарам? Скажы сумленна, больш я ніколі не спытаю!..

— Не твая справа! — з выклікам прамовіла яна.

— Тады скажы, чаму два дні таму прасіла, каб я прыйшоў да цябе.

— Ты мог не прыходзіць.

— Нас ніхто не чуе, Стася. У другім месцы я б табе не сказаў. Хіба сумленна год вадзіць за нос? Ты ведала, што я цябе люблю...

— Мог зразумець сам.

— Што зразумець?

— Што я цябе не люблю.

— Што ж, дзякуй за шчырасць. Болей я не прыйду, Стася...

Я павярнуўся і пайшоў прэч. Яна стаяла і глядзела мне ўслед. Мне нават здалося, што яна плакала...

## VI

Стасі бачыць не хачу.

На душы востры, няўтольны смутак. Сінеча неба спакойная, улагоджаная. Цвітуць верасы, на балотных імшарынах шчодра высыпалі журавіны. Як чырвоныя занізкі, апаясваюць яны купіны, струхлелыя пенчукі. Усе дні праводжу ў лесе. У шмат якіх кварталах вядзецца высечка догляду — там я паказваюся, каб зірнуць на работу, а тады да вечара вандрую, падбіраючы плошчы пад будучыя пасадкі. Капаю ямкі, даследую грунты, падлічваю колькасць лічынак хрушча.

У лясных кварталах, аддаленых ад дарог, вёсак,— стоенадрымотная цішыня.

Птушкі адспявалі, кветкі адцвілі, жыццё свой круг заканчвае... У развітальных праменнях надвячоркавага сонца паблісквуюць на сетачках павуціны, нацягнутай між дрэў, шматколерныя кропелькі. Востра пахнуць багуны.

У адзін з тых цёплых, па-летняму сонечных дзён я ляжаў на паляне і, каб перабіць голад, еў насабіраныя ў шапку журавіны. Паляна — месца былога хутара. З левага боку відзён рад здзічэлага, нізкарослага вішанніку, трохі правей —

купка раскарачаных, пакрыўленых яблынь. Перад месцам, дзе я ляжу, некалі стаяла хата. Ад яе засталася куча абымшэлай цэглы. Але яшчэ і цяпер на месцы двара расце не жорсткая лясная трава, а свойская зялёная мураўка.

Мясціна глухая, вёрст дзевяць ад Махаўца, і я стараюся ўявіць сабе, як і чым жылі тут людзі. Летам можа нават някепска: штодня завітваў нехта з вяскоўцаў, навакол багата ягад, грыбоў. А зімой? Дарогі няма, сцежкі замяце, закідае снегам. Па начах жудаснае воўчае выццё.

Заняты развагамі, я трохі запознена пачуў ціхі, журботны звон, які нёсся з паднябесся. Нарэшце ўбачыў у блакіце неба два жураўліныя трохкутнічкі. Боль кальнуў сэрца. Няўжо і я пакіну тут след не большы, чым гэты лясны хутар? З'еду, нічога не зрабіўшы, і ніхто пра мяне не ўспомніць...

Вечарамі чытаю. Нікуды не хаджу. Ніколі я столькі не чытаў, як у гэтым верасні. Ёсць штосьці прывабнае ў тым па-свойму строгім рытме, у якім цяпер праходзяць мае дні. Днём да знямогі нашуся па лесе, а вечарам — з кнігай. Два папярэднія гады я пражыў у Махаўцы, па сутнасці, расхлябана. Пускаў вольны час на ўзвей-вецер. А можна многа зрабіць. Падрыхтавацца, напрыклад, і здаць кандыдацкі мінімум. Ці вывучыць замежную мову...

Мінуў верасень.

Сяджу ў лясніцтве, праглядваю паперы, што сабраліся за апошнія дні. Лесніка Гаркушу, якога мы з Будаем колькі маглі ашчаджалі, уласным загадам звольніў дырэктар лясгаса. Трохі дзіўна...

Пытаю, што думае аб гэтым Саўчук. Ён моршчыць лоб, доўга маўчыць.

— Нешта ёсць,— нарэшце гаворыць ён.— Час пакажа. Не трэба спяшацца.

Саўчук мудры. Некалі сам быў дырэктарам лясгаса, гадоў дваццаць адпрацаваў ляснічым, а цяпер перасеў у бухгалтарскае крэсла і не наракае на лёс.

Нібы спецыяльна пакліканы, у пакой заходзіць Гаркуша. Нізкі, прыгорблены, з-пад навіслага лба паблiскваюць малыя шэрыя вочкі.

— Садзіцеся, Гаркуша,— кажу я.— Справы ў нас з вамі няважныя.

— Пакрыўдзілі вы мяне, начальнікі. Абняславілі. А я душой Богу не вінават.

Я доўга тлумачыў Гаркушу як і што. Ён усё-такі вінаваты. Леснікам дальніх кардонаў мы дазваляем прадаваць дровы на месцы, даём бланкі квітанцый. У інтарэсах справы. А яго абход пад бокам. Жыхары Махаўца самі могуць прыйсці ў лясніцтва, выпісаць, што трэба. Таму ён не мог сваёй уладай даваць дазвол няхай сабе на гнілое ламачча.

— Без дазволу бяруць, таварыш ляснічы. Хіба вы не ведаеце? Так заведзена. Хто пойдзе выпісваць ламачча?

Я абяцаю даць Гаркушу месца ў лесакультурным звяне. Як быў, так і астанецца ў лясніцтве. Заработак, прывілеі тыя ж. Звягі не будзе. Толькі няхай зойдзе пазней, калі шум трохі аціхне...

— Дарэмна ты з ім разводзіў анцімоніі,— нездаволена гаворыць Саўчук.— Яшчэ дасца ён нам у знакі. Нехарошы чалавек...

Прыехаў з лесу Будай, мы заняліся з ім квартальнымі справаздачамі.

Пад вечар таго ж дня на дарозе насупроць будынка лясніцтва спыніўся «казёл» дырэктара лясгаса. Сам дырэктар, малады, танклявы, у кароткай скураной куртачцы, выйшаў з машыны, але ў кантору не рушыў — прахаджваецца па дарозе, пазіраючы на нашы вокны. Чакае, што выскачыць нехта з нас. Няцяжка здагадацца — едзе на паляванне.

Я абурыўся да шаленства. Многа на сябе берыцё, шаноўны таварыш Пікулік! Хочаце, каб ляснічы выбег насустрач, сеў у машыну, дагаджаў, прыслужваў. Як некалі леснікі ў Коласавай «Новай зямлі». А дулю з макам не хацелі? Калі трэба дапамога, то мейце ласку завітаць да нас, папрасіць, пагаварыць...

Збянтэжаны Будай кінуўся да дзвярэй, але я спыніў яго. Дырэктар паехаў адзін...

Праз хвіліну Будай, рагочучы, выдыбваў па пакоі.

— Будзе грому. Памянеш маё слова. Толькі не ведаю, калі і з якога боку грымне...

## VII

У бары, на світанні, трубяць ласі. Танканогі гарбаносы прыгажун самец выходзіць з выгараў на мяжу бору і ўзболатку, зарослага нізкім, чэзлым хвойнікам, кліча сваю бязрогую сяброўку. Трубныя, поўныя палымянай прызыўнасці гукі стогалосым рэхам разлягаюцца ў лясным наваколлі. З балотнага зарасніку вынырне статак ласіх, якая-небудзь з іх наблізіцца да гарбаносага прыгажуна, будзе лашчыцца, церціся аб яго шыю, але ён не кранецца з месца. Ён па-ранейшаму трубіць, пасылаючы прызыўную песню толькі адной, якая забавілася, заблудзілася або падбілася ў дарозе. А калі яна не з'явіцца, лось паныла пакіруе ў чашчобу, каб зноў выйсці на світанні заўтра і паслязаўтра...

Вёрст за дваццаць ад ласінага бору здабываюць нафту, яшчэ бліжэй, ужо ў абсягу лясніцтва, стаіць буравая ўстаноўка. Буравікі ласёў не чапаюць, і яны не рушылі з лесу. Лось даверлівы, яго можна нават прыручыць...

Днём праз месца, дзе досвіткам трубяць ласі, блазнаваты Ільюша праганяе статак. Каровы пасуцца на ўзболатку, а ён, стары, дзіўны чалавек, што даўно выгадаваў сына, садзіцца пад бярозу, вымае з-за пазухі жалейку. Мяккія, чароўныя гукі поўняць лес. Пражыў Ільюша вясковае аднастайнае жыццё, з маленства да старасці пасе скаціну, але калі паслухаць, як і што іграе, можна падумаць, што аб'ездзіў свет, усё пабачыў, перажыў. Жалейкі, акрамя як у Ільюшы, я нідзе болей не чуў...

Мінуў амаль і кастрычнік.

Будай напрарочыў: пайшлі непрыемнасці. У адзін з тых дзён у лясніцтва прыехала камісія. Трое лясгасаўскіх служачых перакапалі дакументацыю, апытвалі леснікоў, гойсалі па лесе, абмерваючы штабялі дроў.

Аб тым, што леснікі дальніх кардонаў самі афармляюць квітанцыі на дровы, у лясгасе ведалі. Была відавочная выгода. Я нават лічыў, што такім манерам ажыццяўляю эканамічную рэформу. Ляснік жа не толькі вартаўнік, а фактычны гаспадар у лесе. Але цяпер усё павярнулася супроць мяне. Устанавіўшы факт з дрывамі, лясгасаўскія служачыя настойліва дапытваліся, з кім і як часта я выпіваю...

Камісія паехала. Услед за ёй паехаў у райкам Саўчук. Абараняць мяне. Праверку, як ён высветліў, лясгас распачаў не сваёй ахвотай. Прыслалі паперу з міністэрства, а ў ёй наварочана бог ведае што...

Саўчук лічыць, што заварыў кашу Гаркуша. Выгароджваючы сябе, топіць другіх... Вечарам упершыню за ўсю восень блукаю каля Стасінай кватэры. Учора бачыў яе здалёк. Ішла задуменная, невясёлая. Мне цяпер хочацца сустрэць Стасю на дарозе і развітацца.

Я некалькі разоў прайшоў ад школы да дома, у якім яна кватаруе. Вокны пакойчыка цёмныя. Я доўга стаю пад школьнымі вокнамі.

Не, я падманваю сябе, што хачу развітацца са Стасяй. Я не магу без яе. Мінула амаль два месяцы, і не было дня, не было, можа, хвіліны, каб Стася так або іначай не прысутнічала ў думках, адчуваннях, ва ўсім, што я гаварыў ці рабіў. Першыя дні ў душы жыла вострая абраза. Гонар мой быў зняважаны, абражаны, утоптаны ў зямлю. Паступова гэта сплыло. Я стаў вінаваціць сябе. Хто так размаўляе з дзяўчынай, як я ў тую ноч? Хто я для Стасі? Чаму яна павінна да мяне хінуцца?

Быў Віктар, яна любіла яго. Можа, нават любіць. Але ён жанаты. Хіба Стася не клікала мяне, ведаючы, што Віктар прыйдзе? А я ганебна ўцёк, потым яе зняважыў...

Зрэшты, усё гэта глупства. Я люблю Стасю. І нічога не магу з сабой зрабіць. Калі з ёю — мне радасна, калі іду, сяджу, размаўляю з ёй, то ўвесь ва ўладзе ўзбуджанасці, прыўзнятасці. Ні з якой другой дзяўчынай чаго-небудзь падобнага не было нават блізка. Дык чаму ўцякаю ад Стасі?..

Нягледзячы на згрызотлівыя, супярэчлівыя думкі, да Стасі я не пайшоў. Што ёй скажу? Што мяне звальняюць з работы. Падасць на развітанне руку, пажадае шчаслівай дарогі. Не, развітвацца не трэба...

Назаўтра я быў у лясгасе. Пікулік нават здзівіў: ласкавы, абыходлівы. Даў прачытаць матэрыял, падрыхтаваны камісіяй. Паперына, паводле якой гэтая камісія стваралася, спаласавана рэзалюцыямі міністра, начальніка аддзела міністэрства, начальніка абласнога ўпраўлення. Закруціў Гаркуша машыну...

— Падай заяву аб звальненні,— сказаў Пікулік.— Не крыўдуй, дэмакратыю з леснікамі выдумаў ты сам.

З Мікацэвіч да станцыі, як і тады, у канцы лета, я прайшоў борам. Зірнуў на Стасін дамок. Свеціцца завешанае фіранкай акно. Да ганка прынік куст бэзу, шастае голымі цёмнымі галінамі груша.

Дома я склаў некаторыя рэчы ў чамадан, напісаў заяву ва ўпраўленне. Даводзіў, што ад адказнасці не ўхіляюся, але практыку з павышэннем ролі лесніка лічу правільнай. Вывады камісіі наконт выпівак, панібрацтва з падначаленымі абвяргаць не хацелася...

Што ж, бывай, Махавец! Праз тыдзень ці раней прышлюць загад па ўпраўленні, і я паеду. Я магу рушыць, куды захачу. Нават у тайгу...

Быў выхадны дзень, я слухаў радыё, трохі чытаў. Пад вечар прыйшоў фельчар Шпак.

— Дзе ты бадзяешся? — спытаў ён.— Прыходзіў учора, пазаўчора...

Пра мае справы Шпак збольшага ведае. У Махаўцы ўсе ведаюць адзін пра другога.

— Паеду,— сказаў я.— Мяне, відаць, звольняць.

— А на каго настаўніцу пакінеш?

— Якую настаўніцу?

— Тую, што прыходзіў да цягніка сустракаць. Яна ўчора праходжвалася ў цябе пад вокнамі. Пазаўчора таксама. Мне ўжо няёмка яе адзінокую сустракаць.

У мяне перахапіла дыханне. Але я не хацеў паказваць Шпаку ўзрушанасць. Таму закурыў цыгарэтку.

— Ты таксама не шчыры,— сказаў я.— Я да цябе неяк прыходзіў. Жонка сказала — на паляванні, а тым часам ты вылез з вагона. Прыехаў з Мікацэвіч.

— Было дзела. Калі яго разблытаюць, то цябе, можа, не звольняць...

...У бары на світанні трубіць лось. Танканогі, гарбаносы прыгажун выходзіць на край бору і ўзболатку, прызыўна кліча сяброўку. Выходзіць дзень, другі, тыдзень. Яе няма. Яе забіў дырэктар лясгаса Пікулік. Ляснік Гаркуша памагаў яму. Іх «засеклі». У Пікуліка ёсць ліцэнзія, але на тыдзень раней, у другім лясніцтве, ён забіў яшчэ аднаго лася. На адну ліцэнзію двух...

— Ты быў, значыць, тады ў следчага? — пытаю я.

— Але. Пасля таго яшчэ два разы.

— Чаму дырэктар звольніў Гаркушу?

— Каб перакласці віну на саўдзельніка.

— А я тут пры чым?

— Пры тым, што ў лясніцтве няма парадку. Самаўпраўна прадаюць дровы, забіваюць ласёў.

— Думаеш, не Гаркуша пісаў у міністэрства?

— Думаю, Гаркушу было не да гэтага.

Потым мне цюкнула. Я ўспомніў дзіўныя пытанні, якія задавала мне Тарэза на настаўніцкай вечарынцы: «Колькі вы ловіце рыб? А вы б маглі зняць боты з забітага чалавека?..»

— Следчы той самы, што раней быў пракурорам?

— Той самы. А што?

— Нічога. Думаю, што ўсе, хто працуе ў лесе, не могуць забіваць ласёў нават па ліцэнзіі...

У бары трубяць ласі, і калі гарбаносы не даклічацца сваёй сяброўкі, ён месяц-два пакутуе, а потым шукае сабе другую спадарожніцу. Але можа і не знайсці...

Я выйшаў на двор. Было цёмна. Імжыў дробны дождж. На засаджанай старымі ліпамі алеі напаткаў Стасю.

— Не крыўдуй на мяне,— сказала яна, спыніўшыся.— За тую ноч...

— Я не крыўдую. Я цябе люблю, Стася.

— А я не магла так проста да цябе прыйсці. Я яго любіла. Ты ж таксама каго-небудзь любіў?..

— А цяпер не любіш?

— Яго няма. Ён загінуў. Паўтара месяца назад. Адразу, як адсюль паехаў...

Мне здалося, што яна прамовіла гэтыя словы залішне спакойна. Як бы трэба было, каб іменна так здарылася. У голасе яе мне пачуліся нават ганарлівыя ноткі...

Пра таго, другога, я падумаў упершыню.

— Ён выпрабоўваў самалёты, Стася?

— Выпрабоўваў...

Я прыхіліў яе да сябе, цалаваў у вусны, у твар. Яе рукі былі халодныя. Мне хацелася хутчэй іх сагрэць...

*1971*

# РАЗВІТАННЕ Ў КАВАЛЬЦАХ

## I

Ціхмяны хлапчук, чый бацька не вярнуўся з вайны, а ў маці на руках было яшчэ двое, ганяў на пашу скаціну, прывык сустракаць сонца, калі яно толькі ўздымаецца з-за лесу, зведаў цану доўгаму дню, нуднаму, надакучліваму дажджу, ад якога не схаваешся пад самай кашлатай ялінай і прамокнеш да ніткі. Але хлапчук шмат чаму навучыўся, з лета ў лета пасучы кароў. Маючы добра навостраны складанчык, мог зрабіць свісцёлку, з вяршалінкі маладой сасонкі змайстраваць мушкет, які страляе вадой, з пакручастага карэньчыка выштукаваць адмысловую фігурку. Вясною ён знаходзіў безліч птушыных гнёздаў, ведаў, дзе і калі распускаюцца белыя гарлачыкі, лясныя лілеі, дзе, якія першымі пачынаюць расці грыбы.

Была за гэта павага хлапчуку ад местачковай басоты.

Калі хлапчук канчаў сямігодку, у суседнім з іх хатай дамку з жоўтымі аканіцамі пасяліўся раённы начальнік — высокі вясёлы дзядзька, які раніцай, калі толькі выганялі на пашу кароў, садзіўся ў «газік» і вяртаўся познім вечарам, а то і ноччу. У начальніка была дачка — пушыстае, круглае, нібы мячык, стварэнне з вялікімі сінімі вачамі. Апранутая як лялька, перавальваючыся на тоўстых ножках, дзяўчынка хадзіла ў трэці клас, але, нягледзячы на малы ўзрост, здзіўляла самастойнасцю, выказваючы схільнасць загадваць і камандаваць.

— Злаві мне сінюю птушку! — кожнага дня патрабавала яна ад хлапчука.

У навакольных лясах сіняй птушкай магла быць толькі сіваваронка, і ён, каб вельмі захацеў, мог бы яе злавіць, але шкадаваў птушак і ніколі іх не нішчыў.

У апошняе лета, калі хлапчук атрымаў пасведчанне за сёмы клас і ведаў, што восенню паедзе ў рамеснае вучылішча, бо канчаць дзесяцігодку не выпадала, на земляны вал да яго прыйшла пушыстая дзяўчынка з вялікімі сінімі вачамі.

Насыпаны людзьмі вал, нібы падкова, агінаў драўляны гарадок, які некалі, у даўнія часы, лічыўся крэпасцю. Адсюль

добра было назіраць за каровамі — яны пасвіліся ўнізе, на лугавіне. Хлапчук гартаў кніжку, калі побач з ім прысела дзяўчынка.

— Колькі ты прачытаў кніжак? — спытала яна.

— Я не лічыў,— адказаў хлапчук.— Але, мабыць, болей як сто.

— Так многа? Я толькі дзве прачытала. Пра Алі-Бабу і сорак разбойнікаў і яшчэ пра Сіндбада-марахода.

— Ты яшчэ малая. Прачытаеш болей.

— Але я люблю цікавыя гісторыі. Раскажы якую-небудзь.

Ён расказаў ёй вычытанае паданне, якое датычыла іх гарадка. У старасветчыну ноўгарадскі князь напаў на ўладанні полацкага князя, забіў яго, яго жонку, сыноў, а з дачкой Рагнедай ажаніўся. І хоць у іх нарадзіўся сын, паланянка ненавідзела мужа і аднойчы паспрабавала яго атруціць. Разгневаны князь хацеў пакараць Рагнеду, але за маці заступіўся сын. Тады князь саслаў яе ў далёкі лясны ўдзел. Вось тут, у гэтым гарадку, Рагнеда жыла да самай смерці...

— Я выйду замуж толькі за цябе,— выслухаўшы незвычайную гісторыю, заявіла дзяўчынка.— Ты смелы і не баішся хадзіць па лесе.

— Ты яшчэ малая.

— Я ўсё адно люблю гуляць з хлопцамі. Толькі мне ніхто не падабаецца. Адзін ты...

Хлапчук паехаў у рамеснае вучылішча, працаваў на заводзе, служыў у арміі. Тым часам след дзяўчынкі згубіўся — яе бацьку перакінулі ў другі раён.

Ён напаткаў яе праз дзесяць гадоў. Яна была на трэцім, ён — на першым курсе ўніверсітэта. Яна вывучала літаратуру, ён паступіў на матэматычны факультэт. І быў не звычайным студэнтам, а так званым вячэрнікам, бо і пасля службы ў арміі зноў працаваў на заводзе.

Яшчэ праз тры гады, калі трэба было станавіцца бліжэй да прафесіі, якую давала навука ва ўніверсітэце, ён кінуў горад, завод і, пераевёўшыся на завочнае аддзяленне, перабраўся ў Кавальцы. Ён як бы рушыў на спатканне з тымі далёкімі адышоўшымі днямі.

Ён ведаў, што ў Кавальцах жыве быцька дзяўчыны. Дый па суседству з Кавальцамі размяшчаўся гарадок, у якім сіняю птушкай праляцела яго дзяцінства.

Я выходжу на двор у густую дзягцярную цемень. Днём церусіў дождж, але на змярканні супыніўся, нават імжы няма, і толькі чуваць, як цяжкія вадзяныя кроплі падаюць з даху на ганак. Нават да такой цемені прызвычайваецца зрок: бачу вялізны, як хмара, абрыс старой ліпы за прыгрэбнікам, з правага боку — сцяну маладога сасонніку, які падступае ледзь не да самай хаты.

Адчыніўшы веснічкі, кірую з двара да шасейкі. Сцежка падымаецца ўгору, праз сотню крокаў відаць мігатлівы разліў агнёў. Прамой роўнай лініяй яны блішчаць толькі ўзбоч шасейкі. На ферме на спецыяльна зробленай арцы вылучаецца чырвоная зорка. Яе заўсёды запальваюць у святочныя дні. У цёмныя вечары здаецца, што зорка, якая вісіць залішне нізка над зямлёй, спусцілася з неба.

На шасейцы ціха. Аўтобус з Мінска мусіў прыйсці, але яго няма. Аўтобусы часта позняцца, асабліва вячэрнія. Я кідаю позірк на вокны ляснічага Разуменкі — яго вялікая, як стадола, хата стаіць на ўскраіне раскіданых, забудаваных як папала Кавальцоў.

Я зноў крочу ўніз, у цемру. Рачулка, якая цячэ пад вокнамі ляснічага, абвівае і сядзібу майго гаспадара, аддзяляючыся ад яе нешырокай лугавінай. Каля сасонніку спускаецца да рэчкі дарога, па якой гоняць на пашу скаціну, і я іду туды. Пачынае імжэць. У соснах — ціхае шасценне.

Масток праз рачулку зрабіў трактарыст Мікола — у яго я кватарую. Перакінуў з аднаго берага на другі некалькі бярвенняў, зверху абшыў іх дошкамі і нават поручні прыладзіў — каб ненарокам не ўтапіўся неабачлівы падарожнік. Хоць утапіцца ў рэчцы цяжка — скаціна пераходзіць яе ўброд, і нават жанчыны, якія раніцай збіраюць у сасонніку маслякі, зачуўшы, што на другім беразе іх болей, падаткнуўшы падолы, перабіраюцца туды.

А ўвогуле рачулка жвавая. Яна весела булькае ўнізе, аблізваючы карэнні алешын, лазнякоў, якія навісаюць над ёй на

ўсім прасцягу, дно яе ўслана жвірам, дробнымі каменьчыкамі, вада сцюдзёная і чыстая. Некалі рачулка ведала лепшыя часы, бо ўся багністая тарфяная лугавіна паміж двума сасновымі пагоркамі была, відаць, яе рэчышчам. Цяпер ля падножжа правага пагорка густа падняўся арэшнік, нават дубы выраслі — рэчка пачала занепадаць даўно.

Я стаю на мастку, прыхінуўшыся да поручняў, слухаю булькатанне вады, якое зліваецца з дрыготкім шэптам дажджу. Цяпер, восенню, вада ў рэчцы густая, цёмная — яна адбівае колеры невясёлага шэрага неба і скупыя бляскі дня.

Адсюль, знізу, агнёў вёскі не відаць, але, уважліва прыгледзеўшыся, можна ўбачыць іх слабыя водбліскі паўзверх цёмнай лавы дрэў. Калі праязджае па шасейцы машына, пісягі яе фар выразна паласуюць неба над лесам. Я думаю пра тое, як цякло жыццё ў Кавальцах гадоў дзесяць — пятнаццаць назад. Такой вось позняй восенню не было ні заработкаў, ні электрычнага святла, ні тэлевізараў — нічога, толькі ноч ды цемра. Нездарма моладзь — ды не толькі яна — так адчайна рынула ў гарады.

Да майго слыху даносіцца прыглушаны шум галасоў. Прыбыў нарэшце аўтобус з Мінска. Ён рушыць далей, да мястэчка Асавец, якое ад Кавальцоў вёрст за пятнаццаць. Аўтобусаў тут ходзіць многа, але вячэрняй парой усяго два ці тры. Антаніна, магчыма, прыехала. Магчыма, і не. Ніякіх дакладных звестак пра яе намеры я не маю. Яна працуе ў Мінску, у навукова-даследчым інстытуце, і дамоў наведваецца калі-нікалі. Так ці іначай, да лясніччага Разуменкі я не пайду. Няма патрэбы пастаянна вісець у яго хаце.

З мастка зноў падымаюся на пагорак. Каб не слата, не цемень можна было б павандраваць па шасейцы, дабрацца да Воронняй гары. Мільгае думка заваліцца да саўгаснага інжынера Івана і прагуляць вечар у шахматы. Але не хочацца. Не той настрой, каб ісці да Івана. Я брыду да шасейкі, гляджу на Разуменкавы вокны і паныла шыбую дамоў.

На кватэры тым часам кампанія. У пярэднім пакоі на нізкіх табурэціках сядзяць гісторык Хімчанка, настаўніца белмовы Ганна Андрэеўна і мой гаспадар. Гуляюць у падкіднога. Адным вокам яны глядзяць у карты, другім праз расчыненыя

дзверы косяцца на тэлевізар, які стаіць у бакавушцы. Прыемнае з карысным.

— Садзіся, Раманавіч,— запрашае Ганна Андрэеўна.— Зорак на небе не відаць, няма па чым гадаць пра лёс. Лепей я табе на картах паваражу.

Яна залівіста смяецца. Ведаюць у Кавальцах пра мае вячэрнія вандроўкі.

Я прысаджваюся да гульцоў. Чытаць усё адно не дадуць. Я ў пары з Ганнай Андрэеўнай, і цяпер наша задача не паддацца Хімчанку і Міколу, які, гуляючы ў карты, адчайна круціць.

Карта, як назло, трапляецца кепская, і два разы ўзапар мы з Ганнай Андрэеўнай праігрываем.

Напарніца суцяшае:

— У каханні павязе, Раманавіч. Мабыць жа, прыехала Разуменкава. Ці не выгледзеў?

Я нават брывом не вяду. Як бы яе словы мяне не датычаць. Па тэлевізары ідзе нудны, доўгі фільм. Дзіўна, чаму нават у святочныя вечары не пакажуць добрага фільма?

Між тым нашы з Ганнай Андрэеўнай справы пакрысе паляпшаюцца. Мы адыграліся і насядаем на супернікаў. Мікола замест казырнога б’е карту бубновым валетам, а непатрэбную шасцёрку стараецца неўпрыкмет спіхнуць у адбой. Але я сачу за ім. Мікола рагоча і здаецца.

Міколава хата, хоць стаіць наводшыбе, штосьці накшталт зборні. Нехта заўсёды тут кватаруе, прыезджыя застаюцца начаваць. Цяпер хата наогул пустуе, бо ў чатырох пакоях толькі гаспадары ды я. Дачка працуе і вучыцца ў Мінску, сын, які вясной скончыў дзесяцігодку, у школе механізатараў пад Магілёвам.

Гаспадыня засцілае настольнікам стол. Не ў прыклад хударляваму, шчуплаватаму мужу, яна поўная, мажная. Постаць яе трохі няскладная, рухі вуглаватыя. Але гэта не замінае ёй з ранку да вечара насіцца па двары, па хаце, даіць карову, карміць свінней, гусей, курэй. Вясной і летам яна яшчэ і на саўгасную работу бегае.

Мае гаспадары ў дастатку жывуць. Яны ўвішныя, цягнуць у хату, як пчолы ў вулей, але не жмінды.

Мікола прыносіць з сенечак дзве ладныя, з-пад кубінскага рому, бутэлькі, заткнутыя пакуллем. Цяпер, асенняй парой, гаспадыня гоніць віно з яблыкаў. У сваім майстэрстве яна дасягнула высокага класа. Трунак прыемны на смак, а па градусах нават вышэйшы за пакупны.

Калі мы толькі пачынаем банкетаванне, адчыняюцца дзверы, і ў пакой уваходзіць расчырванелая чарнявая дзяўчына гадоў дваццаці ў зялёным модным палітончыку, пашытым па таліі, з напакаванай сеткай у руках. Гэта Алеся, дачка гаспадароў. Я міжволі ўздрыгваю. Значыць, яшчэ адзін вячэрні аўтобус прыбыў.

Праз хвіліну Алеся сядзіць за сталом і ўсміхаецца. Маці ставіць перад ёй талерку, кладзе відэлец.

— Мой Саша не прыехаў? — пытае Хімчанка.

— Не бачыла.

— Яны астануцца на дэманстрацыі. Прыедуць заўтра.

— Памяшаліся на Мінску,— гаворыць Ганна Андрэеўна.— З кожнай сям'і па чалавеку, па два. Ёсць па тры нават. Мяне каб азалацілі, то не жыла б там ні дня. Як успомню свае курсы...

Пра курсы мы даўно ведаем. Ганну Андрэеўну пасылалі ў Мінск удасканальваць кваліфікацыю. Прабыла яна там месяц, але размовы пра навучанне на курсах трэці год вядзе. Найбольш у адмоўным плане.

— Вы і Гарбысю здавалі? — пытае Алеся.

— Здавала, а як жа. Сыты такі вяпрук. Як лекцыі пачынаў чытаць, дык нават канспекта не ўзяў. Маўляў, для такой цемнаты, як мы, не трэба і канспект. Першую гадзіну яшчэ складна плёў, а далей — няма пра што гаварыць...

Алеся, прыкрыўшы далонню рот, ціхенька хіхікае.

Гаспадар налівае ў шклянкі. На Ганну Андрэеўну глядзіць недаверліва. Сам ён скончыў пяць ці шэсць класаў і, відаць, працівіцца думцы, што ў сталічным горадзе могуць дрэнна вучыць.

— Не дагодзіш вам,— гаворыць Мікола.— Прафесароў крыцікуеце.

— Які ён прафесар? Нудота. Кажуць, узяў за жонку маладую студэнтку і віжуе за ёй.

Хімчанка трымае бок гаспадара:

— Навука вясёлай быць не можа. Гэта не ў тэатры сядзець...

— Тэатры, тэатры,— перадражнівае Ганна Андрэеўна.— Хіба ў горадзе няма пустазвонаў? Хапае. У нас такога б Гарбыся за пастуха не ўзялі, а там ён другіх вучыць.

Хімчанка з'едліва крывіць тонкія губы.

— Харошая філасофія. Далёка з ёй можна заехаць...

— Далей некуды. Пастуха, калі не напасе кароў, даяркі прагоняць. А хто зачэпіць такога Гарбыся? Паставіў мне чацвёрку, і абы ціха. Вось хіба з вамі толькі языком памянташу.

Ганна Андрэеўна па слова ў кішэню не лезе і адбрыць можа кожнага. Дый грунт пад нагамі адчувае кабета — як-ніяк жонка дырэктара школы.

## II

Святочныя раніцы ціхія. Ніхто не спяшаецца на работу — можа, даяркі ды даглядчыцы. Але яны ўстаюць зацемна.

Я іду ў лес. Восень няўстойлівая: у канцы верасня выпадаў снег, у кастрычніку былі прымаразкі. Дажджы сталі церусіць перад самымі святамі. Жыццё ў лесе ўсё ж не замерла. У сасонніках па жаўтапёсах, імхах там-сям пракідаюцца зялёнкі, вялікімі сем'ямі растуць кволыя, някідкія на выгляд грыбы — цёмныя каптурыкі на тоненькай ножцы — у нашай мясцовасці іх называюць куркамі. Яшчэ нават познюю кветку можна напаткаць: свеціцца сіняе ці жоўтае вочка, і — цяжка растлумачыць, як гэтая далікатная раслінка вытрымала замаразкі.

Між соснамі і ў лагчынах туман. Ён шчыльны, густы, але на вачах рассейваецца. Можа быць сонечны дзень.

Добра ў лесе — нават у такім вось асеннім. Будзённы клопат, надакучлівыя думкі сплываюць, дыхаецца, думаецца лёгка. Уся істота як бы яднаецца са святочнай урачыстасцю і спакоем, які тут пануе. Прыемна бачыць усё, што трапляе на вока: ядлоўцавыя кусты — яны амаль заўсёды суседнічаюць з мурашнікамі, пясчаныя пляшыны прагалін, камяні-валуны, парослыя па баках зялёным мохам.

Вялікага парадку ў лесе няма: сосны растуць як папала, хоць і былі некалі пасаджаны пад шнур, валяецца ламачча, там-сям параскіданы спарахнелыя лаўжы, тырчаць пні, але гэты бачны, адчувальны беспарадак усё адно лашчыць позірк, як бы ў ім стоены нейкая найвышэйшая суладнасць і прыгажосць.

Настойліва цінькаюць сініцы. Яны адны аздабляюць тоненькім перазвонам анямелы лес. Зімой, калі надараюцца вялікія маразы, а палявыя былкі, насеннем якіх птушачкі кормяцца, занесены снегам, шмат іх гіне. Але ўсё адно кволыя птушачкі, не ў прыклад іншаму дробнаму птаству, родны лес не пакідаюць. Недзе, падпёршыся хвастом, зацята дзяўбе старадрэвіну дзяцел. Апярэнне ў птаха незвычайнае, як бы прыляцеў з далёкіх заморскіх краін, і нораў зацяты. Толькі два ці тры разы я чуў дзятлаў голас. «Крэк, крэк»,— гук непрыемны, прарэзлівы, як па блясе хто дзярэ.

Паміж дзвюма хвойкамі працягнулася павучыная сетачка. На ёй павіслі кропелькі расы. Мух, мошак у лесе даўно няма, сам павук схаваўся недзе ў шчыліну, а яго кросны трываюць. Нарэшце заўважаю пад хвойкай прысыпаныя пяском каптурыкі зялёнак. Грыбы моцныя, тугія, быццам не было ні снегу, ні прымаразкаў. Зямля сваё аддае. Трошкі цяпла, вільгаці, і назапашаныя за лета жыватворныя сілы робяць сваё. Познія асеннія грыбы прабіваюцца наверх да маразоў.

Бывае, што зіма рана ляжа, холад скуе зямлю дачасна, і тады недасведчаныя гараджане нават у газетах пішуць, што ў майскіх сасонніках паявіліся маслякі. А гэта яшчэ мінулагоднія грыбы. Яны не паспелі вырасці ў кастрычніку, таму вынырнулі ў маі.

Па грыбах нехта ўправіўся пахадзіць. Учора ці пазаўчора. Зрэзы карэньчыкаў, якія тырчаць з зямлі, яшчэ свежыя, не паспелі пацямнець. Хутчэй за ўсё па сасонніку блукаў нехта з гараджан. Не з тых галасістых, якія восенню прыязджаюць у лес спецыяльна заказанымі аўтобусамі, талакой брындаюць па верасах, не ўмеючы адрозніць паганку ад таўстушкі. У горадзе ёсць другія людзі, якія не могуць жыць без лесу, дасканала ведаюць грыбныя мясціны і кожнай вольнай хвіліны вырываюцца сюды. Такіх я нават у твар пазнаю. У гэты лес

двое прыязджаюць на матацыклах, адзін — на старэнькім «Масквічы».

Я думаю аб тым, што гараджане за трыццаць вёрст прыязджаюць сюды, знаходзяць для сябе асалоду. Антаніна ж ні разу ў лес не прыйшла. Мне вельмі хочацца напаткаць яе між соснаў.

Грыбы між тым патроху напаўняюць кошык. Але яшчэ ёсць і запаветная мясціна. Макраватымі сасоннікамі я кірую да яе. Некалі тут пралягала граніца з Польшчай: мястэчка Асавец, дзе гаворка, будынкі, вопратка жыхароў такія ж, як у Кавальцах, ляжала на другім баку мяжы. Як памяць пра тыя далёкія часы па лесе засталіся напаўразбураныя доты.

Дот, да якога я іду, стаіўся ў сасновым барку. Гэта азначае, што дрэвы выраслі пазней за яго. Я іншы раз доўга блукаю, пакуль убачу між хвойнай глушэчы парослы мохам жалезабетонны каптур.

Дот на месцы: падышоўшы да яго з правага боку, я пачынаю вытупваць па імшыстым доле. Ёсць! Запаветны барок, мох цёплы, мяккі. Адну за другой я падымаю, ашчадна абразаючы тоўстае карэнне, цвёрдыя, як капыты, цёмна-барвовыя сыраежкі. Калі грыбоў у лесе мала, мяне заўсёды выручае барок. Сыраежак у такі позні час не знойдзеш, а тут, па густым імху, яны растуць да снегу.

Больш за гадзіну я блукаю вакол дота, але затое і кошык поўны. Гаспадары здзівяцца: прынёс зімніх грыбоў. Тым часам сонца з-за хмар выбілася: у сасонніку светла, весела. Калі я вяртаюся дамоў, на шашы чуецца матацыклетны трэск. Грыбнікі з горада такі прыехалі.

## III

Гаспадары з дачкой падаліся ў госці. Хоць я кватарант, але займаю ў доме найлепшы пакой. У ім радыёпрыёмнік, засланы чыстым абрусам стол, кніжная паліца, нікеляваны ложак, мяккая канапа, прыстаўленая да тыльнага боку грубкі. У пакоі два акны. З аднаго відаць старая купчастая ліпа, якая навісае над дваром, з другога — зубчастая сцяна зарэчнага лесу.

Мне па душы такія вось хвіліны адзіноты. Тыдзень назад ездзіў у Мінск, купіў дзве кніжкі, патрэбныя для дыпломнай работы. У пачатку лета я мушу закончыць універсітэт.

Зрэшты, гэты пакой шчаслівы. Да мяне яго займаў мой калега, які таксама вучыўся ва ўніверсітэце, абараніў дыплом, а цяпер служыць у арміі. Мае гаспадары аб ім высокай думкі, і, здаецца, нездарма. Алеся, якая служыць сакратаркай і вучыцца на вячэрнім аддзяленні педінстытута, са сваім настаўнікам перапісваецца. Можа здарыцца, што летам, закончыўшы службу ў арміі, мой калега захоча вярнуцца на ранейшае месца. Хоць наўрад: у такіх закутках, як Кавальцы, затрымліваюцца або аброслыя гаспадаркай, пажылыя настаўнікі, або такія, як я, перакаці-поле, якім трэба часовы прытулак.

Рана пачынае цямнець у лістападзе. Уключыўшы святло, я чытаю. Я не дакараю сябе, што паступіў на матэматычны факультэт. У наш век трэба мець акрэсленую спецыяльнасць. З дыпломам матэматыка мяне прымуць, калі захачу, на любы завод, дзе ёсць вылічальныя машыны, дадуць гарадскую прапіску. З другога боку, я не маю нічога супроць, каб працаваць настаўнікам. У такой, напрыклад, школе, як у Самсонаўскім саўгасе.

Думкі перапыняе стук у дзверы. Я падхопліваюся. У пярэднім пакоі стаіць Разуменка, пасміхаецца:

— Думаў, без пасыльных здагадаешся. Ты хіба забыў, які сёння дзень? Апранайся — і да мяне. Каб праз пяць хвілін быў.

Я, вядома, чакаў запрашэння. Сэрца тахкае часта і моцна, настрой падымаецца. Я апранаю чыстую адпрасаваную сарочку, завязваю новы гальштук, шмарую бархоткай туфлі. Хвалююся. У верасні адбылося штосьці такое, што давала надзею на зближэнне з Антанінай. Яна прыехала ў адпачынак, я бачыў яе амаль штодня. Адзін раз мы вярталіся з цэнтральнай сядзібы, з кінасеанса, і так атрымалася, што праблукалі да паўночы. На галінах яблынь у месячным святле матавай белізной адлівалі налітыя сокам антонаўкі, іх мядовы пах перамешваўся з пахамі скошанай на прырэчнай лугавіне атавы. Антаніна была ціхмяная, задуменная, і я лёгка ўявіў, што не здарыцца нічога асаблівага, калі яна будзе хадзіць па

гэтай вуліцы. У школу і назад, да бацькоўскага дома, бо мае дыплом настаўніцы і можа астацца ў нашай школе працаваць. Але назаўтра Антаніна нечакана знікла. Праз некаторы час яна завітала з Мінска на дзень і зноў паехала. Большую палавіну адпачынку правяла ў горадзе.

Дзіўныя ў нас адносіны. Хутка два гады, як я аднавіў знаёмства з Антанінай, але, сустрэўшыся, мы толькі жартуем, пацвельваемся, падколваем адно другога. Гэта тая мяжа, якой мы абое ні разу не пераступілі. Калі не лічыць вераснёвай ночы. Але і пасля яе пачалося тое самае. Зрэшты, гэта добра. Мы з Антанінай адно другому нічым не абавязаны.

Я падыходжу да Разуменкавага дома. Ён вялікі, новы, адмыслова пабудаваны — паўзверх трохскатнага, пакрытага шыферам даху выступае пафарбаваны ў сіні колер мезанінчык, вокны не па-вясковаму шырокія, светлыя, збоку, аздобленая вітражамі, летняя веранда. Тое, што дом стаіць на пагорку над рачулкай, у вячэрнюю часіну як бы надае яму выгляд нейкага палаца.

У Разуменкі мнагалюдна. Яшчэ ў пярэднім пакоі я чую пералівы галасоў. Разуменка ў навакольных мясцінах вядомы чалавек: быў сакратаром райкама, старшынёй райвыканкама, дырэктарам мясцовага саўгаса, і толькі калі надышла пенсійная пара, вярнуўся на пасаду, якую займаў на пачатку жыццёвай кар’еры. Стаў ляснічым. Ён любіць шумныя зборышчы, кампаніі, дый людзі цягнуцца да яго, бо ёсць у яго характары штосьці шырокае, адкрытае.

Застолле шуміць, і я ў нерашучасці знімаю паліто, не знайшоўшы, дзе павесіць, кладу паўзверх стуса другіх, наваленых на канапцы. У гэты момант адчыняюцца дзверы і выходзіць гаспадар.

— Добра, што прыйшоў,— гаворыць ён.— Тут, брат, дзеўкі без цябе засохлі.

У зале доўгі стол, за якім госці, і я адразу ніякавею перад мноствам накіраваных на мяне позіркаў. Разуменка вядзе і садзіць мяне на самым краі, паміж Антанінай і незнаёмай бялявенькай дзяўчынай, якая мне ветліва ўсміхаецца.

— Штрафную яму! — крычаць за сталом.— Каб не пазніўся.

Антаніна толькі крадком зірнула на мяне і адразу адвярнулася. У яе такі выраз твару, нібы мы толькі ўчора развіталіся і нам няма чаго адно другому сказаць.

На стале перада мной вырастае поўная, як вока, шклянка.

— Давай, брат матэматык,— запрашае Разуменка.— Народ чакае. Дакажы, што інтэлігенцыя не есць дармавога хлеба.

Бялявенькая падкладвае мне на талерку. Інжынер Іван, якога пасадзілі асобна ад жонкі, хітра мне падміргвае, падбадзёрвае асалавелымі вачамі чырванашчокі старшыня сельсавета Міхейчык.

Я выпіваю сваю шклянку. Цяпер ад кампаніі адкупіўся, і мяне пакінуць у спакоі. Па жылах разліваецца прыемная цеплыня.

— Рад цябе бачыць,— гавару Антаніне.— Учора чакаў аўтобуса.

Антаніна ўсё ж артыстка. Хвіліну назад яе твар быў насмешліва-зацяты, цяпер ён ветлівы, добразычлівы. Цераз стол яна заводзіць гаворку з Іванам. Размова пустая, нікчэмная, але Антаніна смяецца, на яе шчоках вызначаюцца ямачкі. Хацеў бы я быць на Іванавым месцы. Ён зусім не думае пра тое, што гаворыць, але яго слухаюць, словы яго здольны выклікаць смех. У мяне з Антанінай такое не атрымліваецца.

— Пазнаёмцеся,— павярнуўшыся да мяне, гаворыць Антаніна.— Гэта Валя, мы з ёй разам жывём.

Я называю сябе, мы паціскаем адно другому рукі. У Валі прыемны, з адзнакамі спакою і ціхамірнасці твар з ледзь прыкметнымі кружочкамі сінечы пад вачамі.

— Я вас ведаю,— гаворыць Валя.— Хоць першы раз бачу. Антаніна пра вас столькі расказвае.

Збіты з панталыку, я ў першую хвіліну не ведаю, што адказаць.

— Мабыць, вам боязна са мной сядзець? Яна намалявала мяне такім страшыдлам.

— Зусім наадварот. Каб вы ведалі, як яна вас хваліць...

Антаніна чуе гэтыя словы, але маўчыць. Як бы яе тут няма.

Гэта штосьці новае. Але я баюся памыліцца.

— Мы з Антанінай даўнія знаёмыя,— гавару суседцы.— Толькі яна забыла.

У Валі здзіўлена ўздымаюцца стрэлкі броваў.

— А я і не ведала.

Антаніна паварочваецца да мяне. Яе вочы звузіліся, у іх, здаецца, скачуць злосныя іскаркі.

— Гэта ты забыў. Кавалер, называецца. Хоць бы ліст напісаў.

Суседка як бы пачынае пра нешта здагадвацца.

— Разбірайцеся самі,— гаворыць яна.— Толькі не сварыцеся.

Мне робіцца весела.

— Антаніна,— шапчу я, лёгенька крануўшы дзяўчыну за плячо.— Хочаш, прызнаюся, чаму прыехаў у Кавальцы? Я мог быць у другім месцы...

Антаніна слухаць, аднак, не хоча — зноў зачынае гаворку з Іванам.

Але сёння я настойлівы. Можа, таму, што выпіў.

— Я дзеля цябе прыехаў,— гавару Антаніне.— І ўсе дзесяць гадоў, калі не ведаў, дзе ты, думаў пра цябе. Не забываў ніколі. Можа, я проста дзівак?

Яна робіцца засяроджанай, заклапочанай — як у той вечар, калі мы да паўночы хадзілі па вёсцы.

— Няўжо не мог ліст напісаць? — пытае яна са шчырым спачуваннем у голасе.

— Нашто табе ліст?

— І я пра цябе думала б. На першым курсе я зайздросціла дзяўчатам, якія атрымлівалі пісьмы. Тады мне было васямнаццаць, цяпер — дваццаць чатыры. Разумееш, што ты страціў?

— У цябе хто-небудзь ёсць?

— Генерал ёсць.— Антаніна зноў робіцца насмешлівай і калючай.— Хоча кінуць сваю старую каргу і ажаніцца са мной...

— У такім выпадку віншую. Генералам я не буду.

— Перастаньце сварыцца,— шыпіць суседка.— Антаніна, як табе не сорамна?

— Ты не ўмешвайся. Можа, мне падабаецца яго дражніць. Хачу характар праверыць...

Цяпер Антаніна здаецца вясёлай і бесклапотнай.

Вось такая яна. Кожнай хвіліны новая, не падобная на ранейшую. Нібы імклівая рэчка, якая змяніцца, пакуль наважыш ступіць у яе другі раз.

Мне не застаецца нічога іншага, як прыняць выклік на гульню.

— Хачу выпіць за вас, Валя,— гавару я, наліваючы патрошку сабе і дзяўчатам.— Дрэнна, што не пазнаёміўся раней. Але можна паправіць. Давайце калі-небудзь сходзім у кіно.

— І цукерак ёй купіш? — пытае Антаніна.

— Табе мы пра гэта не скажам.

— Я ўсё адно дазнаюся.

Размову разумнай не назавеш. Але лепшай у мяне з Антанінай не было. Увесь гэты год я спадзяваўся на цуд, на тое, што між намі працягнецца нітачка ўзаемаразумення. Вынік сумны — увесь час я нібы завязваю знаёмства з Антанінай, выломліваючыся, раблюся не падобным на самога сябе.

Застолле шуміць. Людзі адарваліся ад працы, будзёншчыны і рады павесяліцца. Няўжо Антаніна хоча, каб свята было кожны дзень? Антанініна маці, маленькая, ціхмяная, завіхаецца ля гасцей. Дачка на яе зусім не падобная, болей на бацьку — толькі рысы круглаватага твару па-дзявочаму тонкія, далікатныя.

Сярод гасцей ёсць жанчына, чымсьці падобная на Антаніну. Гэта дырэктар саўгаса Таццяна Фёдараўна. Калі я сустракаю яе на вуліцы, міжволі ўздрыгваю. Некалі яна была прыгожая, відная, хоць і цяпер, калі ёй пад пяцьдзясят, штосьці ад павабнай маладосці засталося. Дзіўны, аднак, лёс: пра Таццяну Фёдараўну ўпотай гавораць, што ніколі не была замужам, хоць мае сына студэнта, чарнявенькага, шчуплаватага, някідкага з выгляду.

Гадоў пяць назад дырэктарам саўгаса быў Разуменка, яго змяніла Таццяна Фёдараўна. Аднак яны сябруюць. Ніводнае застолле ў ляснічага не абыходзіцца без яе. Яны, каб ім зычыў лёс, былі б добрай парай: рослыя, відныя, з хітрынкай у характары.

Я выходжу ў пярэдні пакой пакурыць. І адразу за мной вылузваецца з тлуму Іван. Круцячы ў каструбаватых пальцах цыгарэту, пасміхаецца:

— Неаб'езджаная кабылка. Не хоча ў аглоблі. Аднак не вешай носа.

Іван ідзе на двор, я, карыстаючыся тым, што ніхто не бачыць, накідаю на плечы паліто, хапаю шапку і вышмыгваю ўслед. Харошы вечар, хоць асенні; здаецца, бярэцца на халады: неба зорнае, светлае. У садзе выразна відаць цёмныя сукі і галіны.

Цераз вуліцу матлянулася постаць: гэта дзікаватая Ванда робіць звычайны вячэрні абход.

## IV

Антаніна, Антаніна...

Для людзей — жыву спакойна, ураўнаважана, а ў душы — разлад. Няма дня, нават гадзіны няма, каб не думаў пра Антаніну. Яна як насланнё, ад якога нельга пазбавіцца. Нібы свет сышоўся толькі на ёй.

Вуліца гудзе галасамі. Армада хлопцаў, дзяўчат, якія прывандравалі з горада, сама частуецца. Спевы, выгукі будуць цягнуцца да вечара, нават ноччу не ўгамоняцца Кавальцы, і толькі заўтрашнія ранішнія аўтобусы развязуць гарластую талаку.

З раніцы баліць галава — ад учарашняй выпіўкі. Я трохі пахадзіў, пастаяў на мастку над рачулкай, паслухаў булькатанне вады. За ноч падшэрхла. На калюжынах тонкія шкельцы льду. Неба шэрае, хмурнае, усцяж ахутанае калматымі нерухомымі воблакамі. На лугавіне яшчэ зялёная, не кранутая прымаразкамі атава; сумна ад думкі, што яна хутка звяне, пачарнее і доўгія месяцы, да самай вясны, не ўбачыш зялёнай травіны.

Прыйшоўшы дамоў, саджуся за кнігі. Сшыткі праверыў, школа на кароткіх канікулах, ёсць магчымасць прысвяціць дзень навуковым вышукам. Хоць яны, можа, і невялікія — дыпломная работа.

Схіліўшыся над сталом, чытаю, раблю выпіскі, і паступова сыходзіць, развейваецца прыкрае пачуццё ад недарэчнай размовы з Антанінай. Добра, што людзі выдумалі матэматыку,— усе гэтыя мноствы, функцыі, бясконца вялікія і малыя

велічыні. Тут усё ясна, акрэслена. Калі паглыбішся ў формулы, схопіш схаваную ў іх думку, знікаюць непатрэбныя ўспаміны, робячыся дробязнымі, не вартымі ўвагі.

Мне падабаецца мой пакой за тое, што дае магчымасць астацца сам-насам з матэматыкай, якую я лічу самай патрэбнай з навук. Заўсёды прыемна дабавіць што-небудзь да таго, што ведаеш, зрабіць параўнанне і нават здагадацца пра схаваны сэнс новай, яшчэ невядомай формулы. Чалавек хоча ахапіць думкай бязмежжа Сусвету. І пакуль што адзіная падпора ў такой справе — матэматыка.

Можна адарвацца ад кнігі, расчыніўшы фортку, пакурыць, паглядзець на старую ліпу, якая цёмнай хмарай навісае над дваром. Я існую ў такі час як бы ў двух светах — жывым і кніжным, па чарзе зазіраючы то ў адзін, то ў другі.

У жывым свеце цяжэй. Супярэчлівыя пачуцці, якія тояцца ва мне самім, ні на хвіліну не даюць спакою. А ў формулах, матэматычных высновах — парадак і суладнасць. Мабыць, ніколі людзі не знойдуць формулы, якая б ахапіла каханне. Вытлумачэнню яно не паддаецца...

У другой палове дня, калі за акном пачынае шарэць і я ўжо збіраюся апрануцца, каб зрабіць праходку, у пярэднім пакоі чуюцца галасы, сярод іх я пазнаю Антанінін. Я дранцвею ў нямым чаканні, не ведаючы, што рабіць. Нарэшце чуецца стук у дзверы, я іх адчыняю. У пакой заходзяць Антаніна з Валяй. Гаспадыня, выціраючы рукі аб фартух, стаіць ззаду іх, разгублена ўсміхаецца.

— Вось тут ён жыве! — наўмысна гучным, робленым голасам гаворыць Антаніна, крытычна аглядаючы ўбранне пакоя.— Учора я збіралася патанцаваць з ім, а ён уцёк. Які добры кавалер уцякае ад дзяўчыны?

— Ён у нас спакойны,— гаворыць гаспадыня.— Толькі на ўрокі ходзіць і з кніжкамі сядзіць.

Я гэтак разгубіўся, што нават сесці дзяўчатам не прапанаваў.

— Пайшлі, Валя. Нам тут не рады.

— Пасядзіце,— нарэшце гавару я, уключаю святло, выстаўляю на сярэдзіну пакоя два крэслы.— Я проста не думаў, што вы зойдзеце.

Ладную Антаніну постаць ахінае пашытае па модзе прасторнае паліто, на галаве пушысты шаль. Валя больш сціпла апранута — выцертае футрачка, чорная пад яго колер шапачка. Дзяўчаты, расшпіліўшы гузікі верхняй вопраткі, прыселі. Гаспадыня тым часам прынесла талерку з яблыкамі, паставіла на стол.

— Можа, распраняцеся, дзевачкі. Мы і лепшае знойдзем пачаставаць.

— Дзякуй, цёця,— Антаніна смачна надкусіла яблык.— Мы паабедалі. Я не хацела ісці. Валя зацягнула. Яна ў вашага кватаранта закахалася.

— Яго ўсе любяць,— падтаквае гаспадыня.— Калі не паедзе, то мы тут ажэнім. А што — настаўніц і маладых аграномак колькі хочаш.

Зноў пустая размова. Я ўключыў радыёлу, паставіў пласцінку. Пакой запоўніў задуменны голас Зыкінай.

— Я не змагла б тут жыць,— гаворыць Антаніна.— Кожны дзень адно і тое ж.

— Як каму,— пярэчу я.— Жыць можна ўсюды. Было б жаданне.

— Ты прыехаў сюды, каб універсітэт скончыць. Скончыш — вернешся ў горад.

— Можа быць. Але мне і тут добра. Асабліва летам.

— Летам усе едуць на дачу. У горадзе ад дыму задыхаешся.

Я паставіў яшчэ адну пласцінку. На гэты раз болей сучасную — пра каштаны, апалае лісце, няскладнае каханне. Антаніна прыціхла, яе твар зрабіўся засяроджаны.

— Антаніна! — раптам устрапянулася Валя.— Ты ж любіш гэтую песню. Ты сказала ці ён сам угадаў?

— Пайшлі,— Антаніна рашуча паднялася.— Паедзем вячэрнім аўтобусам. Каб за ноч выспацца. Заўтра — на работу.

Мне робіцца сумна. Я ўжо ні ў чым не дакараю Антаніну. На адно імгненне я ўбачыў яе строгай, задуменнай, і гэтага было дастаткова, каб грудзі захліснула хваля шчымліваўдзячнага пачуцця. Я хуценька апрануў паліто і рушыў услед за дзяўчатамі.

На дварэ цёмна ўжо. Будзе шастаць пад зімовымі вятрамі голле старой яліны, глуха шумець сасоннік, але ўсё гэта мне прыйдзецца слухаць без Антаніны. Музыка адзіноты. Замерзне рачулка, якая цячэ пад вокнамі яе дома, зімой, між аснежаных берагоў і цёмных сосен, зробіцца зусім непрыкметнай, але на мастку я буду стаяць адзін. Затое на пачатку вясны я паеду ў горад. Завочнікам на дыпломную работу даюць чатыры месяцы. Калі што вырашыцца, то толькі там і тады...

Валя падалася наперад адна, мы з Антанінай адсталі. На момант яна прыпынілася, узяўшы за штрыфлі, паправіла на мне паліто.

— У кіно з ёю не ідзі,— прыблізіўшы да мяне свой круглы, павабны твар, ледзь чутна гаворыць яна.— Я не хачу, каб ты з чужымі хадзіў.— У Антанініным голасе звініць нават нейкая жорсткасць.

Я памыкаюся яе абняць, але яна рашуча ўхіляецца.

— Я правяду цябе да аўтобуса,— прашу я.

— Не трэба,— на міг яна абхоплівае мяне за шыю рукамі, абпальвае пацалункам і борзда кідаецца прэч, даганяючы Валю...

## V

Мікола возіць на трактары перамешаны з торфам гной, выконвае і іншую работу. Ён усёй душой аддадзены гаспадарцы, крыўдуе, калі бачыць непарадак. Учора сагнаў з азіміны кароў, сказаў пра гэта начальніку аддзялення, але той у адказ толькі махнуў рукой.

Штовечар у хаце размовы пра тое, што і як робіцца ў саўгасе. Дзякуючы ім я ў курсе гаспадарчых спраў. Саўгас — сярэдненькі. Ураджай, надоі — ніштаватыя, але недаробак шмат. Яшчэ кармавыя буракі не выкапаны і не звезены пад дах, у полі гніе незасціртаваная салома. Не хапае рабочых рук.

Зіма толькі злёгку пагразіла, адразу адступіўшыся. Зноў дажджы, слота, густыя туманы. Я хаджу на ўрокі, правяраю сшыткі, заглядваю вечарамі да Івана, жыву, падпарадкоўваючыся звычайнай плыні, дастаткова зведанай за два гады.

Сваім апошнім прыездам Антаніна як бы стварыла нейкае незвычайнае, яснае адчуванне паўнаты і зладжанасці жыцця. Ніколі раней з такой ахвотай я не хадзіў у школу, не лез у спрэчкі з дзесяцікласнікамі, не прабачаў калегам-настаўнікам з’едлівых слоўцаў.

Са школьнага акна відаць голае поле, за якім шэрая падкова лесу. Калі ідзе дождж, да шыбін прыліпаюць буйныя серабрыстыя кроплі, зліваючыся затым у тоненькія струменьчыкі. На вярбу, якая расце пад акном, прылятае варона, задзіраючы раз-пораз галаву, чысціць сваю няўклюдную дзюбу.

Дзясяты клас маленькі — усяго восем вучняў. Схіліўшыся над партамі, тры дзяўчыны і пяць хлопцаў пішуць у сшытках. Той-сёй падыме галаву, зірне на дошку і зноў піша.

Горад ужо кліча дзесяцікласнікаў у свае абсягі. У інстытуты, калі меркаваць па поспехах, паступяць двое, сама больш трое, але ўсё адно ў Кавальцах ніхто не застанецца. Такі цяпер у вёсцы клімат. Можа б, хто і застаўся, каб свяціла такая, як у горадзе, работа, надзея атрымаць кватэру, магчымасць дыхаць усім тым, што дзеецца ў вялікім свеце. Але да гэтага далёка яшчэ.

Дзесяцікласнікі — амаль грамадзяне. У хлопцаў — прычоскі, у дзяўчат — доўгія заплеценыя косы. Кажушка, паліто чыка амаль не ўбачыш, носяць дзеці вёскі рознакаляровыя курткі з сінтэтычнага матэрыялу. Жэня Сініцкая, дачка Ганны Андрэеўны, яшчэ з дзявятага класа прыходзіць на ўрокі ў штанах.

Школа наша някідкая — стары драўляны будынак на пясчаным пагорку. Парных класаў няма. Заняткі ў адну змену — месца хапае. На цэнтральнай сядзібе нібыта збіраюцца будаваць новую школу. Але тое яшчэ за гарамі. А вось два новыя трохпавярховыя дамы сапраўды выраслі. У адным з іх інжынеру Івану даюць кватэру.

Вечарам мы з ім абмяркоўваем навіну. Іван трохпалай рукой чухае патыліцу.

— Прыйдзецца перабірацца. Хоць жонка не вельмі хоча. Што ж, зажыву па-гарадскому: будзе вада, ноччу на двор не трэба бегаць.

У Іванавым доме — поўны дастатак. Ёсць агарод, карова, свіння, куры. На адным сялянскім набытку можна жыць прыпяваючы, а ён разам з жонкай, якая працуе медсястрой у бальніцы, мае і ладную капейку. Машыну купляць збіраюцца. На цэнтральнай сядзібе карову і свінню не пратрымаеш. Хлявоў там яшчэ не пабудавалі.

— Карова можа тут пастаяць,— спрабую суцешыць Івана.— Пусці кватарантаў, няхай даглядаюць.

Іван здзіўлена на мяне пазірае:

— Забыў вёску ці прыкідваешся? Карова ж не проста так малако дае. Гаспадарка — чортаў клопат. Нездарма ад яе ўцякаюць. Я думаю, тут звычайны перагіб...

— Пра што ты гаворыш?

— Пра тое, што чуеш. Набудавалі гарадскіх дамоў, а сяло сялом застаецца. Сяду ў новай кватэры — малака купі, сала купі. Навошта мне купляць, калі магу мець сваё. Дый не вельмі дакупішся.

— Я вот жыву.

— Ты сябе не раўняй. Вольная птушка. Возьмеш Разуменкаву кралю, тады запяеш Лазара. Магу наперад сказаць — карову даіць не будзе.

Я чырванею, гаварыць пра Антаніну з Іванам не хочацца.

...Нават лістапад дорыць прывабныя дні. Я блукаю па голым, мокрым лесе, збіраю зялёнкі, якія ўсё яшчэ растуць па цёплых імхах, думаю пра Антаніну. За гэтыя два тыдні я мог бы з’ездзіць у Мінск, пабачыцца з ёй, але нібы баюся сурочыць шчасце. Яно такое нечаканае, што мне не хочацца выпускаць яго з рук. Няхай яно будзе са мной. Так надзейней. Можа, я дзівак, рамантык, у наш імклівы дзелавы век, можа, смешна быць донкіхотам, выдумваць дульцынеей табоскіх, але другім быць не ўмею. І не хачу быць. Антаніна сама прыйшла да мяне, першая мяне пацалавала. Нешта гэта ды значыць?

Я быў на ўроках, калі здарылася няшчасце з рачулкай. Меліяратары прыгналі экскаватар і за нейкую гадзіну ўздоўж па лугавіне, побач з рэчкай, пракапалі глыбокую прамую канаву. Яна запоўнілася вадой, а рэчка на вачах абмялела. Цяпер пад мастком ледзь цурчыць кволы ручай, рачулка адразу страціла прывабнасць: на агаленых карчах, дзеравяках вісіць

ціна, сіратліва, як непатрэбныя, стаяць ля гразкага рэчышча вольхі і лозы.

Я спытаў у Івана, навошта пракапалі канаву.

— Торф будуць здабываць,— адказаў ён.— Саўгасу патрэбна паліва.

Я раззлаваўся, даказваў, што можна было зрабіць прасцей, лепей, выгадней: пачысціць дно, паглыбіць рэчышча, тады б захавалася рэчка і не змарнавалі б зямлі, якую заняла канава.

Іван амаль не слухае. Довадаў у яго не шмат, дый непераканаўчыя яны.

— Некалі было валэндацца. Дый не маё гэта дзела. Гавары з дырэктарам.

На новую кватэру Іван яшчэ не перабіраецца. Нечага чакае.

Назаўтра я напісаў заметку ў газету. Пра знішчаную рачулку і ўвогуле пра нядбайныя адносіны да прыроды. Калі будавалі шашу, то застыглы, непрыгодны гудрон вывалаквалі ў сасоннік, ён і цяпер ляжыць там мёртвымі кучамі. Саўгасныя шафёры вывозяць у лес бітае шкло, цэглу, кавалкі толю — адкіды будоўлі. Безгалоўе поўнае, даказваю я ў заметцы, бо нават бляшанку з-пад кансерваў рана ці позна з'есць іржа, а шкло, цэгла тысячу гадоў праляжаць, прыносячы зямлі вялікую шкоду.

## VI

Жорсткія паўночныя вятры нарэшце прынеслі зіму. Дзіўна бачыць некалькі пажаўцелых лісткоў, якія яшчэ трапечуцца на ліпе. Мы жывём у паўночным краі, і вясна да нас прыйдзе не хутка. Пяць доўгіх месяцаў, ледзь не да самага мая, будуць чакаць яе людзі, птушкі і дрэвы.

Зямля як бубен. Далёка чутно, як тарахцяць калёсы, як грукоча трактар, як грыміць на шасейцы аўтобус. У марозным паветры выразным робіцца кожны гук, лес прыціхлы, амярцвелы. Зашуміць ён і застогне, калі зноў наляцяць вятры, і гэтай музыкі за доўгую зіму можна наслухацца ўдосталь.

Пахне дымам, кастрыцай, мёрзлай бульбай. Неба нізкае, наваколле шэрае, аднастайнае.

Настаўніцкая — утульнае памяшканне. Пасярэдзіне — доўгі стол, праўдзівей — тры сталы, састаўленыя ў адзін рад. Каля іх крэслы. Крэслы таксама ля сценак. Ёсць у настаўніцкай круглая, абшытая чорнай бляхай грубка, якую тэхнічка паліць разы тры на дзень. Калі каму хочацца пагрэцца, калі ласка, прыхініся спіной да чорнай бляхі — яна заўсёды гарачая.

На сцяне паміж грубкай і акном — палітычная карта свету. Каля яе, калі ў яго «фортка», пахаджвае з указкай у руках Іван Васільевіч Хімчанка, выкладчык гісторыі і геаграфіі. Хімчанка ўважліва чытае газеты, можа ў любую хвіліну даць тлумачэнне падзеям, якія адбыліся ў свеце.

Мужчын у школе няшмат: дырэктар Станіслаў Людвігавіч Сініцкі, гісторык і географ Хімчанка, настаўнік малодшых класаў — ён жа пастаянны старшыня мясцкама Пятро Пятровіч Шпак, яшчэ адзін гісторык, матэматык, нарэшце фізкультурнік і я. Астатнія — жанчыны. З жанчын, апрача Ганны Андрэеўны, жонкі дырэктара, вылучаецца Ніна Аркадзьеўна — наш завуч.

Пра Ніну Аркадзьеўну варта сказаць падрабязней, бо яна сапраўды відная жанчына і некалі была замужам за палкоўнікам. Палкоўнік выйшаў у адстаўку, паблізу Кавальцоў выбудаваў дачу — каменную, двухпавярховую — участкі пад такія дачы давалі акадэмікам, генералам і іншым заслужаным людзям. Але палкоўнік памёр, дачу прыйшлося прадаць. Паколькі ў Ніны Аркадзьеўны не было дыплома, яна стала працаваць у нашай школе. Як завуч Ніна Аркадзьеўна строгая, энергічная, мае сувязі ў райана, аблана, нават у міністэрстве, і дзякуючы ёй нашу школу не ліквідавалі як некамплектную.

Калі Ніна Аркадзьеўна добра прадстаўляе школу ў вярхах, у раёне і вобласці, то тут, на месцы, яе найлепшым паўпрэдам з'яўляецца Ганна Андрэеўна. Яны ва ўсім процілеглыя, гэтыя дзве жанчыны, адна другую, мабыць, недалюбліваюць, але навучыліся трымацца ў межах прыстойнасці. Ніна Аркадзьеўна і цяпер ездзіць заказваць сукенкі ў Вільнюс, Рыгу, Ганна Андрэеўна шые іх сама, модных матэрыялаў не шукае і ў пашытых уласнымі рукамі ўборах, з нязменнымі жартамі, вострымі слоўцамі, хутчэй падобна на вясковую цётку, чым на настаўніцу.

Я атрымаў новы томік Купалы і ўвесь вечар гартаў старонкі, якія яшчэ пахлі свежай друкарскай фарбай, чытаў вершы. Купала нарадзіўся ў нашых мясцінах, тут прайшло яго дзяцінства, маладосць. Ён бачыў вось гэтае неба, лес, поле. Прыемна пазнаваць у звонкіх радках родныя малюнкі, краявіды, поўніцца іх настроем.

Толькі вельмі перамянілася жыццё. Няма цяпер селяніна, які хацеў бы, каб пабольшаў яго вузенькі надзел, дый наогул стары сялянскі звычай на вачах нішчыцца. Ці добра гэта? Мне хочацца, каб нешта ад старога засталося. Што — я і сам не ведаю. У вёсцы вырастуць гарадскія гмахі, малыя, непрадукцыйныя фермы зліюцца ў комплексы, прыйдзе навейшая, больш дасканалая тэхніка — няхай, гэта добра, патрэбна, бо робіць лягчэйшым, прывабнейшым аднастайны сялянскі занятак.

Але на зямлі павінен расці хлеб, і гэта — вечнае. Дый наогул людзей ніколі не перастане вабіць зялёны лес, цень пад дрэвам, птушыны шчэбет, ціхая рачулка, накшталт нашай, якую нядаўна знішчылі меліяратары.

Учора і сёння я хадзіў да аўтобуса. Антаніна не прыязджае трэці тыдзень. Затое гаспадарова Алеся прыскаквае ледзь не праз кожныя два дні. Яна цяпер вельмі ўзбуджаная, нейкая вогненна-мітуслівая, гэтая Алеся. Зачыняецца з маці ў бакоўцы і падоўгу шэпчацца. Здаецца, справа тут у былым кватаранце, маім калегу, які прыслаў Алесі незвычайны ліст.

Алеся і сёння дома.

У хаце я лішні, трэба сысці. Рашыў адразу: паеду ў мястэчка Асавец на кірмаш. Пра тое, што ён там наладжваецца, вельмі настойліва аб'яўлялі раённая і абласная газеты.

Калі жыў у Мінску, мне здавалася, што невялікія мястэчкі — гарадкі, накшталт таго, у якім сам я нарадзіўся і рос, валодаюць нейкімі адмысловымі сакрэтамі. Жыццё там ціхае, утульнае, ва ўсіх навідавоку. Вельмі любіў я кірмашы, іх малюнак да гэтага часу стаіць у вачах.

Яшчэ на світанні па ўсіх дарогах, з усіх навакольных вёсак цягнуцца ў наш гарадок фурманкі; едуць са сваімі будамі цыганы, ідуць пешшу дзядзькі, цёткі, па-святочнаму апранутыя дзяўчаты; падсвістваючы, галёкаючы, рагочучы, выдыбаюць вясковыя хлопцы. Калі добра вывіднее, пясчаная базарная

плошча наўсцяж застаўлена калгаснымі паўтаратонкамі, вазамі, завалена мяхамі яблык, ігруш, забіта гаманлівым людскім натоўпам. На вазах, рохкаючы, ляжаць звязаныя за ногі парсюкі, маўклівыя, тлустыя, з сумнымі вачамі авечкі, паблізу фурманак стаяць з вяроўкамі на шыі каровы, бычкі, цялушкі.

Кожны прасцяг базарнай плошчы мае сталае прызначэнне: у адным месцы вырабы навакольных майстроў, умельцаў — кадушкі, цабэркі, даёнкі, маслабойкі, цэлае мора гладышыкаў, гаршкоў, макітраў; побач ідзе гандаль садавінай, агароднінай, там далей мясныя рады з састаўленымі ў доўгі шэраг дубовымі калодкамі.

Не надта заможныя былі гады, калі я жыў у гарадку, але кірмашы былі багатыя. Навакольны край прывозіў усё, што выраблялі земляробы, прамысловыя арцелі, майстры-саматужнікі.

Кабеты выстуквалі ў ганчарных радах варэйкі, міскі, тоўстыя местачковыя яўрэйкі мацалі курэй, дзьмулі ім пад пяро, спрабуючы разгадаць, наколькі тлустыя; дзядзька таргаваў карову, падыходзіў і адыходзіў, узбуджана раячыся з суседам; адзін вясковец прадаў другому бычка на мяса, на нарыхтоўку, і похапкам запіваў з ім ля ларка барыш; гахалі па дубовых калодках тапары, рассякаючы свіныя тушы; бульба прадавалася мяшкамі; антонаўкі, слуцкія бэры, ігрушы-дзічкі — драўлянымі меркамі; на кілаграмы ішоў больш дарагі тавар — сала, мяса, вяндліна, мёд; масла, ражкі сыру вясковыя жанкі прадавалі загорнутымі ў ільняныя анучкі; ля радоў з цабэркамі, кадоўбчыкамі, плеценымі кашалямі, карзінамі пахаджвалі хітраватыя дзядкі-ўмельцы.

Кірмашы былі цікавыя духам добразычлівасці, ціхмянай, нязлоснай насмешлівасці, панавалі тут ядраны жарт, ёмістае слова, пявучая вясковая гаворка.

У аўтобусе, які ідзе ў Асавец з Мінска, яблыку няма дзе ўпасці. Відаць, і гараджане прачулі, што ў мястэчку кірмаш. Прабягаюць паўз акно задуменныя сасоннікі, голыя бярэзнікі, мільгне ў прагале вёсачка.

Язды трохі больш, чым паўгадзіны, і на першым жа прыпынку пры ўездзе ў мястэчка я высаджваюся. Аўтобус шыбуе далей, у самы канец вуліцы.

Асавец — мястэчка старадаўняе. Некалі, гадоў трыста назад, тут нават кнігі друкавалі. Цяпер жа ўзбоч забрукаванай вуліцы стаяць шэрыя дамкі, яны калі і адрозніваюцца ад вясковых вуліц, то толькі наяўнасцю аканіц, выштукаваных франтончыкаў і такімі-сякімі іншымі аздобамі, якія ўказваюць, што жыхары места больш пільна, чым вяскоўцы, дбаюць пра знешнюю прыгажосць жытла.

Збоку ад паселішча вялікі, агароджаны мураванай сцяной могільнік, на якім узвышаюцца старыя панурыя хвоі, між іх праглядаюць жалезныя надмагільныя крыжы і каменныя пліты. Закасцянелы спакой мястэчка нібы вартуюць дзве ўзнёслыя касцельныя вежы. Адзін касцёл дзейнічае, мае шырокую браму з лацінскім надпісам наверсе, шырокі, абнесены мурам двор, прысады, другіператвораны ў нейкі склад.

Ёсць у Асаўцы чайная, аддзяленне сувязі, аўтобусная станцыя, такая ж някідкая, як і ў Кавальцах, школа, і болей нічога. Падман зроку: яшчэ нядаўна родны гарадок, падобныя да яго паселішчы здаваліся асяродкам мудрай цішыні, спакою, я лічыў, што іх жыхары ведаюць штосьці такое, што і не снілася мітуслівым, вечна заклапочаным гараджанам. Два гады жыцця ў Кавальцах паступова развейваюць ружовыя трызненні. Цяжка ўявіць, каб пад дахамі вось гэтых сонных пахілых дамкоў адбывалася што-небудзь асаблівае. Цяжка нават апраўдаць існаванне мястэчка, якое нічога не вытварае, не мае прамысловасці, жыве з агародаў ды пенсій, што атрымліваюць жыхары. Тут, як і ў Кавальцах, саўгас, і я ведаю, што ўрабляюць поле лічаныя людзі, дзясятак-два механізатараў. Астатнія проста жывуць: трымаюць кароў, кормяць свіней, летам стараюцца як-небудзь накасіць сена. Асавец валодае сваім тытулам толькі за тое, што тут кірмашы.

Базарная плошча — з правага боку. Да яе трэба дабірацца вузкім правулкам. Замёрзлы груд згладзілі, шчыльна ўтрамбавалі колы машын, якіх, відаць, процьма тут праехала. Але і шкоды нарабілі машыны: расквасілі скаваныя льдом лужыны, і цяпер у многіх мясцінах гразь. Гараджане, якія вяртаюцца да аўтобуснага прыпынку, ціснуцца да парканаў, каб не запэцкаць туфляў і чаравікаў. На першым часе я не звяртаў увагу, што сумкі ва ўсіх, хто паспеў павандраваць па кірмашы, лішне рук не абцяжарваюць.

Бліжняя старана шырокага базарнага майдана наўсцяж застаўлена «Волгамі», «Масквічамі», «Жыгулямі», «Запарожцамі» розных выпускаў і колераў. Паміж імі там-сям прыткнуліся матацыклы і каляскі. Мабыць, сотні тры гараджан прыехалі на кірмаш на ўласных колах.

Але далей таксама машыны. Вялікія і малыя грузавікі з апушчанымі заднімі бартамі, аўтобусы з расчыненымі дзверцамі, ларкі, палаткі. Усюды развешаны нейлонавыя, капронавыя курткі, жакеткі, світары, шалі, хусткі, навалам ляжаць горы матэрыялу, ватовак, валёнак, даволі няўклюдных ботаў, якія і ў вёсцы даўно ніхто не носіць, чаравікаў, галёшаў і іншага фабрычнага дабра.

Гандаль, аднак, вяла ідзе. Ля машын, палатак па адной-дзве кабеціны, якія, падцяўшы губы, неахвотна мацаюць крамніну.

Сяло свайго амаль нічога не прадае. Наводдаль ад машын стаяць прывязаныя да вазоў тры ці чатыры каровы, хрумстаючы сена, яны сумнымі вачамі пазіраюць на чалавечы тлум; вольна пахаджвае бычок з доўгай вяроўкай на шыі; закураны, замшэлы дзядок, не знайшоўшы пакупнікоў, ускінуў на плячо драўляную маслабойку, панёс дадому.

Нечакана сутыкаюся з Антанінай. Яна ў тым жа паліто, у якім прыязджала на святы, з-пад вязанага шаля выглядвае ўзбуджаны твар. Разгубіўшыся, я слова не паспеў сказаць.

— Ты чаго тут? — здзіўлена і як бы трохі збянтэжана пытае яна.

— Проста так. Хацеў кірмаш паглядзець.

— Мне туфлі трэба. Толькі тут не кірмаш, а падман. Прывезлі тое, што ў горадзе не купляюць.

У мяне ўзнікла думка, што сустрэча — на шчасце. Мы з Антанінай можам зараз пайсці з кірмаша, пасядзець у чайной, павандраваць па мястэчку, дзе нас ніхто не ведае. Я кажу ёй пра гэта, але яна адмаўляецца:

— Не магу. Прыехала са знаёмым на машыне. Бывай.

Праз хвіліну яна знікае ў натоўпе. Я не гляджу ў той бок, куды яна пайшла. Навошта мне глядзець.

## VII

Некалькі дзён не знаходжу месца. Начамі не сплю. Не ведаў раней, што рэўнасць можа прычыніць столькі пакут. Антанінінага спадарожніка, які прывёз яе на машыне ў Асавец, уяўляю танклявым, нахабным хлюстам, ён носіць расквечаныя гальштукі, адрасціў вусікі, купляе модныя пласцінкі, а вечарам стараецца залучыць дзяўчыну. О, я навылёт бачу гэтых тыпаў! Сумлення ў іх няма, але яны артысты, у іх добра прывешаны язык, і яны могуць абвараджыць каго хочаш. Такія стылягі заводзяць знаёмствы адразу з некалькімі дзяўчатамі. Сёння да адной ідзе, заўтра — да другой. У каго-небудзь з выжлятнікаў ёсць кватэра, там збіраюцца вясёлыя кампаніі. Няўжо Антаніна трапіла на гэтую прынаду?

Потым думкі ідуць у другім кірунку. Антаніна прыязджала ў Асавец, каб купіць туфлі. Калі той невядомы кавалер прывозіў Антаніну на кірмаш для такой звычайнай справы, то ў яе з ім адносіны, блізкія да сямейных. Ён, мабыць, усё ж сталы чалавек, Антанінін спадарожнік, бо стыляга дзяўчыну на кірмаш не павязе...

У адзін з такіх вечароў я не вытрымліваю. У скрыні сярод markdown рознага начыння валяецца наган. Некалі Мікола быў партызанам, і, можа, з таго далёкага часу ў доме засталася зброя. З нагана не стрэліш: на месцы барабана прыладжана ўтулачка ад шарыкападшыпніка, але з выгляду ён як сапраўдны. Відаць, ім забаўляўся Міколаў сын.

Мне падалося, што Антаніна прыехала дамоў разам з кавалерам. Паклаўшы ў кішэню цацачны наган, я цэлы вечар блукаю пад Разуменкавымі вокнамі. Навошта? Не ведаю. Звычайнае вар'яцтва.

У доме ляснічага нікога няма, і я супакойваюся.

У гэты час у Міколавым доме начуе прыезджы з Мінска. Ён працуе ў высокай установе — у міністэрстве, а ў саўгас прыехаў па службовай справе. Госць салідны з выгляду, ладная постаць: буйная сівая галава, па манеры трымацца, размаўляць ён нагадвае чалавека, які доўгі час займаў кіруючыя пасады.

Госць чымсьці ўзрушаны, ён варочаецца на канапе, дзе яму паслана пасцель, раз за разам уздыхае. Я, лежачы на сваім

нікеляваным ложку, таксама не сплю, і між намі неўпрыкмет распачынаецца размова.

Таварыш з міністэрства вельмі здзіўляецца, калі дазнаецца, што я жыў у Мінску, працаваў на заводзе, меў пяты разрад слесара-наладчыка і раптам, кінуўшы ўсё, пераехаў у Кавальцы. Ён нават не бярэ пад увагу, што я заканчваю ўніверсітэт.

— Вы што — не прыжыліся ў горадзе? Я, сказаць папраўдзе, з такімі выпадкамі не сустракаўся.

— Прыжыўся,— адказваю я.— Хоць напачатку думаў, што не вытрымаю. Але гэта было даўно, калі яшчэ вучыўся ў рамесным вучылішчы.

— Да вёскі з цяжкасцю прывыкалі?

— Цяжка было першы год. І то толькі таму, што не было блізкіх людзей.

— Пытанне, якое трэба рашыць,— разважае госць.— Лічыцца, што ў вёсцы не хапае культуры і таму моладзь бяжыць у горад. Але я ведаю многа прыкладаў, калі ў калгасах, саўгасах добрыя клубы, у кожнай хаце тэлевізар, але моладзь усё адно не затрымліваецца. Ёсць, мабыць, глыбейшыя прычыны, звязаныя з самімі адносінамі да жыцця.

— У горадзе лягчэй, весялей жыць,— пацвярджаю я.— З якога боку ні вазьмі...

Пра тое, што прывяло мяне ў Кавальцы, госцю не раскажаш.

Калі служыў у арміі, неадступна, уладна паўставаў перада мной вобраз Антаніны. Па разліках, яна канчала дзясяты клас. Але ў гарадку яе не было. І маці маёй не было. Калі яна памерла, на пахаванне я спазніўся — служыў за граніцай. Дэмабілізаваўшыся, вярнуўшыся на завод, я пастараўся дазнацца пра Антанінінага бацьку. Ён яшчэ грымеў. Працаваў старшынёй райвыканкама ў раёне, размешчаным на поўдні ад Мінска, затым дырэктарам саўгаса ў Кавальцах. Маючы атэстат сталасці — вячэрняя школа была скончана яшчэ да арміі,— я нават залішне лёгка, на льготных умовах паступіў ва ўніверсітэт. У той самы, дзе вучылася Антаніна. Я некалькі разоў сустракаў яе, але яна мяне не пазнавала. Я чакаў свайго часу.

...Бялявая пушыстая дзяўчынка, перавальваючыся на тоўстых ножках, прыходзіла на земляны вал, насыпаны вакол крэпасці, дзе сядзеў і плёў з лыка лапці ціхмяны хлапчук.

— Што ты робіш? — пыталася яна.

— Абутак сабе.

— Зрабі мне.

— Табе нельга насіць лапці.

— Чаму нельга?

— Ты ў іх прамочыш ногі і захварэеш.

— Чаму ты сам не хварэеш?

— Я прывык.

— Люблю дужых,— гаварыла дзяўчынка.— Калі вырасту, выйду замуж за цябе. Бо ты сільны і ўсё ўмееш. Толькі нікому не гавары. Нават маёй маме не гавары. Я, калі іду да цябе, не кажу ёй нічога. Гэта наша тайна...

Унізе, на лугавіне, пасвіліся каровы, наўзбоч ад ручая жоўтымі астраўкамі цвіла лотаць.

— Якія кветкі цвітуць першыя? — пыталася дзяўчынка.

— Жоўтыя.

— А потым?

— Чырвоныя.

— За чырвонымі якія цвітуць?

— Блакітныя.

— Ты мне прынось блакітныя кветкі,— гаварыла дзяўчынка.— Я іх больш за другія люблю. У мяне ёсць гарлачык, я налью ў яго вады, і кветкі будуць расці ў мяне заўсёды.

— Не будуць расці,— адказваў хлапчук.— Кветкам трэба карэнне.

— Хіба ў іх другія карэнні не могуць вырасці?

— Не могуць.

Выходзіць, для мяне настаў час блакітных кветак. Мабыць, трохі запозна, бо першая маладосць даўно мінула. Калі я паступіў ва ўніверсітэт і пасля вячэрніх лекцый, канспектаў доўга не засынаў, мне мроіліся лес, родны гарадок і далёкая маленькая Антаніна. Мне здавалася, што ў Кавальцах, дзе жыве яе бацька, ля сасоннікаў, так падобных на нашы, мы лягчэй, хутчэй адновім тое, што тоненькай нітачкай намецілася ў

дзяцінстве. Можа, я дзівак, але дзеля гэтага махнуў рукой на дасягнутае: саступіў аднапакаёвую кватэру з ваннай, газавай плітой сястры. У яе дзіця, хворы муж, а кватэра прыватная.

Зрэшты, позна каяцца. Магло выйсці так і без Антаніны. Гэта ж праўда, што мне хацелася зноў адчуць, як дыхае ў твар золкі ранішні вецер, як звіняць, падаючы са стрэх, капяжы, як пахне дым, калі паляць восенню бульбоўнік. З усім гэтым трэба было нешта рабіць.

З сустрэчы на кірмашы мінуў тыдзень. Антаніна прыехала на дзень Канстытуцыі. Свяціла сонца, але дзьмуў калючы вецер, сек у твар пяском, і круглы цьмяна-жоўты шар сонца, які вісеў нізка над дахамі, здаваўся ў такі дзень зусім недарэчным. Я брыў да Івана, мы сутыкнуліся з Антанінай ля крамы і, толькі кіўнуўшы адно другому, як звычайныя знаёмыя, разышліся. Мне хацелася азірнуцца, але я стрымаў сябе. Машыны ў мяне няма, невядома, ці будзе, і няма сэнсу лавіць вецер у полі. Я прыехаў да Антаніны без дасягненняў, якія б мелі вартасць у яе вачах. У гэтым прычына таго, што мы бясконца гуляем у кошкі-мышкі...

Трэба займацца справай. Праз месяц сесія, яшчэ два экзамены на носе, а там і дыпломная работа набяжыць. Завочнікам для напісання дыпломнай даюць чатырохмесячны адпачынак, выклікаюць у Мінск.

Мы з Іванам гуляем у шахматы, абмяркоўваем навіны. Адна з іх мяне проста ўражвае. Аказваецца, дырэктар саўгаса Таццяна Фёдараўна выходзіць замуж. За чалавека з міністэрства, які нядаўна прыязджаў і начаваў у Міколы. У саўгасе могуць быць буйныя перамены: начальнік з Мінска, які нечакана аўдавеў, наўрад ці згодзіцца жыць у вёсцы.

— Ужо ёсць нездаволеныя.— Іван пасміхаецца.— У першую чаргу твой Разуменка.

Я пацiскаю плячамі. Чаму Разуменка мой, чаму ён нездаволены?

— Ладна, цесць Разуменка добры, ды не для нас з табой. А наконт жанчын, калі хочаш ведаць, ён промахам не быў. Таццянка — яго апошняе каханне. Гадоў дзесяць прайшло, як узяў яе пад крыльца. З участковых аграномаў вывеў у дырэктары.

Мне непрыемна слухаць Івана.

— Распуста,— прамаўляю я, каб што-небудзь сказаць.

— Не спрашчай. Разуменка быў кіраўніком што трэба. Сам жыў і другім жыць казаў. Бабы — дзела дзясятае. Хітры быў мужык. Вядома, кіраваў валявымі метадамі. Тады ўсе так кіравалі.

— Але ж ваша Таццяна Фёдараўна ў госці да Разуменкі ходзіць, з яго жонкай бачыцца. Як яна можа глядзець ёй у вочы?

— Ты дзівак. Ну і што, што ходзіць? Баба самога чорта абдурыць. Абы мужык падабаўся.

— То чаму цяпер ідзе замуж за другога? Чаму не магла раней?

— За каго ёй было ісці? За Разуменку? Ды ён жа стары, сямейны. А цяпер у самой пенсійны ўзрост хутка. Дырэктар, скажу табе, яна не надта. Дзірак у саўгасе хоць адбаўляй. Вось і шукае ціхае месца.

— Ты ўсё агрубляеш, Іван.

— Нічога не агрубляю. Сэ ля ві, як гавораць французы.

У саўгасе запахла пераменамі, таму Іван свядома адцягвае пераезд на цэнтральную сядзібу. Усе адцягваюць. У новым доме выяўлены недаробкі, і насупроць зімы з цёплых дамкоў у каменную аграмадзіну проста страшна перабірацца.

У мяне ў патайной кішэні пляскатая пляшачка, і рэшту кароткага дня мы праводзім, патрохі частуючыся. Добра, што ў Кавальцах жыве Іван. Толькі з адным ім я сышоўся, зблізіўся, баўлю час, калі гняце адзінота. Доўга буду помніць мінулую зіму. Бляскі аўтобусных фар, якія ліжуць вяршаліны сосен, калі машыны, кіруючыся на Асавец, уз'язджаюць на пагорак, здаваліся агнямі Мінска, агні гэтыя вабілі, клікалі назад у горад.

Цяпер лягчэй. Мяне чакае дыплом, чатыры месяцы ў Мінску. А там відаць будзе...

Заметка ў газеце не змешчана, і мне карціць спытаць у Івана, ці было ўвогуле якое-небудзь рэагаванне на дасланы мной у рэдакцыю ліст. Тры тыдні прайшло — ні гуку. Але я развітваюся, нічога не спытаўшы. Калі будзе які-небудзь знак, Іван мне сам скажа.

Ля Разуменкавага дома я спыняюся. Яркае святло з яго акон як бы заклікае падарожнага завітаць да добразычлівага гаспадара, пасядзець, адвесці душу. Можа, таму, што я выпіў, узнікае жаданне забыць на кірмаш, зайсці да Антаніны, зрабіўшы выгляд, што нічога не здарылася. Яна, мабыць, дома. Але я зараз жа адганяю гэтае жаданне.

Я доўга вандрую па вуліцы. Ад Разуменкі ніхто не выходзіць. Нарэшце ў доме пачынае гаснуць святло — спачатку ў адным акне, затым — у другім.

На мастку спатыкаюся з Вандай. Дзіўна, яна выходзіць на шпацыр толькі па вечарах. Нібы баіцца людзей. Я даўно збіраюся падрабязней распытаць гаспадароў, як, чаму страціла розум няшчасная дзяўчына, прыкметная, відная нават у сваіх лахманах. Ды ўсё не збяруся. Ведаю толькі — тут прымешана нейкая любоўная гісторыя.

## VIII

Пайшоў снег. Ён валіў сырым мокрым хлоп'ем дзень і ноч, а назаўтра ціскануў марозік, узышло нізкае зімовае сонца, і ўсё навокал перамянілася, як у казцы — заблішчала, заіскрылася, заззяла. Прыгожая наша Беларусь! Асабліва яе сярэдняя частка, уключаючы Міншчыну. Прырода стварыла тут мноства пагоркаў, вялікіх і малых, наслала раўнін, далін, укрыла іх лесам. Зімой, як і летам, навакольныя ляскі і пагоркі — павабнае месца для гараджан. Мінску, які на маіх вачах зрабіўся вялікім горадам, робіцца цесна ў каменных мурах. Яшчэ не душаць мінчаніна горкія дымы, бо заводы паўсталі пераважна на ўскраінах, яшчэ можна выкупацца ў летнюю гарачыню ў межах самога горада, даехаўшы трамваем да Камсамольскага возера, можна знайсці зацішак, спакой у скверах і парках, а ўсё адно гараджане рванулiся на прыроду. Сведчаннем гэтаму — мурашнікі садова-агародных пасёлкаў, якія, нібы грыбы пасля дажджу, выраслі на пустэчах, лысых пагорках, закіданых балацявінах у бліжнім і далёкім гарадскім наваколлі.

Два такія пасёлкі за Варонняй гарой, недалёка ад Кавальцоў. Лыжнікі таксама аблюбавалі Варонную гару. Зімой іх тут нават больш, чым грыбнікоў летам.

Снежань — месяц цяжкі. Канчаецца другая чвэрць, трэба падводзіць вынікі. Спакойна-памяркоўны, ветлівы Станіслаў Людвігавіч, дырэктар, ходзіць на ўрокі, штотыдня наладжвае педсаветы, нарады, выклікае ў кабінет настаўнікаў, каб двойкі, якія пагражаюць абрынуцца на школу, асабліва на старэйшыя класы, ператварыць у ціхамірныя тройкі, і такім чынам падрыхтаваць прыстойную справаздачнасць.

У нядзелю настаўнікам трэба ісці на фермы. Блізіцца Новы год, трэба выпускаць насценгазеты, «баявыя лісткі». Мне ўдалося сабраць матэрыял для лістка загадзя, таму адчуваю сябе вольным казаком.

З раніцы на лыжах кірую на Воронную гару. Настрой у мяне спакойна-журботны. Можа, таму, што Антаніна ў Кавальцах. Але я не хаджу да яе, вытрымліваю характар.

На Варонняй гары вялікі тлум. Дзяўчат, хлопцаў у рознакаляровых лыжных касцюмах, куртках, шапачках болей за паўсотню, яны слізгаюць з гары, падаюць, адно другога падымаюць, абтрасаюць ад снегу, а найбольш перагукваюцца і смяюцца.

Лезці ў талаку я не асмельваюся. Узабраўшыся на суседні прыгорак, спускаюся, затым падымаюся зноў, патрошкі назіраючы за лыжнікамі. Так некалькі разоў. Бясконцы смех, выгукі нарэшце перастаюць цікавіць, і праз гадзіну я бяру кірунак на сасоннік.

Лыжню нехта праклаў, ісці лёгка. Снег яшчэ неглыбокі, паўзверх тырчаць шэрыя былкі living рознага палявога зелля. Некаторыя сцяблінны абдзёўбаны, абскублены — насеннем ласаваліся снегіры. У такіх мясцінах на снезе засталіся цёмныя кропачкі шалупіння.

У сасонніку — стоеная цішыня. Час нібы спыніўся. Снегу між дрэвамі мала, з-пад тоненькага насту вытыркаюцца кусцікі барвенку, пад густой навіссю галін трапляюць наогул рудыя голыя пляшыны засыпанага ігліцай долу, цёмназялёнымі плямінамі выдзяляюцца купы ядлоўцу.

Лыжня вядзе па просецы. Пагоркі чаргуюцца з нізінамі, сасоннік змяняецца густым ельнікам, зараснікамі чарналесся. Дзіўна бачыць знаёмыя мясціны, дзе яшчэ нядаўна я блукаў, вышукваючы грыбы, пад снежным покрывам, у зацятым

зімовым сне. Яны так змянілі воблік, што іх ледзь пазнаеш. І неяк сумна ад гэтага, тужліва.

Наперадзе дзве постаці ў лыжных касцюмах, міжволі я замаруджваю крок. Зварочваць з прасекі некуды, лыжнікі тым часам стаяць, аб нечым перамаўляюцца. Цяпер я добра бачу высокага перахлябістага хлопца — у яго шырокія плечы і вельмі вузкая паясніца, так што здалёк хлопец падобны на клічнік, і дзяўчыну — яна ніжэйшая за напарніка, пухленькая, тоўсценькая, у чырвонай шапачцы. Калі я параўняўся з парачкай, дзяўчына похапкам сіняй рукавічкай выцірала слёзы...

Відаць, яшчэ адна не надта шчаслівая гісторыя. Мне чамусьці здаецца, што падобны на клічнік хлопец вадзіў па вуліцах сяброўку, паклаўшы ёй руку на плячо, прылюдна дэманструючы сваю прыхільнасць да яе. Мне такія парачкі ніколі не падабаліся. Добра, калі ў іх добра. А калі нязгода, разлад? Няўжо дзяўчына можа дазволіць, каб праз паўгода ці год другі хлопец павёў яе па вуліцы, гэтак жа абшчаперыўшы рукамі?

Зачапіўшы лыжай за корань, лячу потырч у снег. Хуценька падымаюся: могуць убачыць тыя двое, якіх пакінуў на просецы.

Паблукаўшы па лесе, зноў выбіраюся на поле. Дзень хмурны, сонца не паказалася, але ўкрытая белай снежнай пасцеллю зямля ўсё адно здаецца святочнай. Добра, лёгка дыхаецца, калі павандруеш па першым снезе. Адчуваеш сябе бадзёрым, дужым, знікаюць клопат і згрызота.

На Воронняй гары тым часам ціха. Лыжнікі ўгаманіліся. Мабыць, налётаўшыся, згаладаўшыся, паселі ў аўтобусы і падаліся ў горад.

Падбіраючыся да шашы, заўважаю постаць, яна рухаецца насустрач. Яшчэ бліжэй падышоўшы, бачу дзяўчыну: сіні лыжны касцюм шчыльна аблягае паўнаватую зграбную паставу, лыжы чырвонага колеру, кіі металёвыя, алюмініевыя, але трымаецца дзяўчына на сваіх чырвоных лыжах не вельмі ўпэўнена. Ды гэта ж Антаніна! Цяпер, калі я зусім блізка, яна трошкі збочвае, робячы выгляд, што не мела намеру са мной сутыкнуцца.

Лыжнага касцюма ў мяне няма; збіраючыся прагуляцца, я надзеў старыя штаны, тоўсты вязаны світар і толькі цяпер адчуваю, што сподняя сарочка, каўнер верхняй — мокрыя. Падціснуты марозікам снег трохі зашэрх, але па цаліку, без лыжні, наст не трымае, я раз-пораз правальваюся і, зрэзаўшы вугал, адчайна кірую на збліжэнне з лыжніцай.

Я не ведаю, што скажу Антаніне, але мне прыемна, што яна выйшла на лыжах. Першы раз я сустракаю яе паблізу сасоннікаў, на адзіноце. Гэта прыдае адвагі.

— Ты добра на лыжах ходзіш,— гаворыць Антаніна, калі я нарэшце раўняюся з ёю.— Думала, не дагоніш...

Твар яе расчырванеўся, коратка падстрыжаныя валасы ў беспарадку раскіданы, узмакрэлая русявая пасмачка прыліпла да лба. Ніколі не бачыў я Антаніну такой прыгожай, падамашняму блізкай.

Дакоры, злосць, рашэнне трымацца ад яе наводдаль, не шукаць сустрэч — усё гэта адразу знікае, і толькі радасна і трывожна б'ецца сэрца. Я зноў апантаны, узрушаны, не знаходжу слоў, каб адказаць ёй, а тыя, што знахожду,— не да месца.

Мы ідзём поруч, лыжы правальваюцца ў снег, але ісці прыемна, я ўдзячны лёсу, што выпала гэтая шчаслівая хвіліна.

— Я хацеў цябе ў лесе сустрэць,— нарэшце гавару я.— Часта хадзіў тут. Летам, вядома.

— Што было б, каб ты сустрэў мяне ў лесе? — злёгку прыплюшчаныя знаёмыя вочы як бы зіркаюць на мяне з насмешкай.

— Нічога. Ты ўсё забыла.

— Што я забыла?

— Тое, што мы з табой жылі на адной вуліцы. Вучыліся ў адной школе... Я пасвіў кароў... Ты прыходзіла кожны дзень. Помніш, у нашым гарадку ёсць земляны вал. Насыпаны вакол старажытнай крэпасці. Мы там сядзелі...

Яна спынілася. Здзіўлена, як бы нават трохі недаверліва, спалохана — і глядзіць на мяне.

— Слухай, Жэня... Ты гаворыш каторы раз. Нічога я не помню. Бацьку перакідвалі з месца на месца. Я пазабывала нават, дзе жыла. Ледзь не кожны год — новая школа, другія настаўнікі. Хоць цябе запомніла. Ты прыязджаў з рамеснага

вучылішча. Акуратненькі такі фабзайчык у чорнай шапцы. Я ў той школе вучылася да пятага класа...

Яна нарэшце сказала тое, аб чым я даўно здагадваюся. Пушыстая дзяўчынка з тоўстымі ножкамі, заплеценай касой, вялікімі, нібы здзіўленымі вачамі і Антаніна — дзве розныя істоты. Гэта — відная, рослая, прыгожая — за тую даўнюю ні ў якой меры адказваць не можа.

— Ты калі едзеш у Мінск?

— Трэба вечарам.

Я здзіўляюся, адкуль бярэцца красамоўства.

Чаму нам, кажу Антаніне, не пабыць у гарадку, дзе я нарадзіўся, рос і дзе доўга жыла ты? Гэта недалёка, мы сыдзем з аўтобуса, павандруем па вуліцах. У мяне ў тым гарадку таксама нікога няма, браты, сёстры паразляталіся, але там, на самым беразе штучнага возера, якое заліло лугавіны, лес, дзе я пасвіў кароў, стаіць белакаменны будынак — ні то гасцініца, ні то турысцкі кемпінг. Мы можам туды завітаць, потым я пасаджу цябе на электрычку...

## IX

Вечар — як у дзіўным сне. Сінія зімовыя змрокі, прыціхлыя вулачкі, голыя чорныя дрэвы, ледзь не ў кожным двары прысадзістыя, з аснежанымі дахамі драўляныя дамкі. Аканіцы ў некаторых з іх прычынены, праз шчыліны прабіваюцца тоненькія пасмачкі святла, у некаторых наогул няма аканіц, вокны завешаны фіранкамі, але дамкі паўрасталі ў зямлю, і калі глядзець з рыпучага абледзянелага тратуара паўзверх фіранак, можна ўбачыць, што робіцца ў кожнай кватэры.

Хто жыве ў нашым гарадку? Найбольш сталыя людзі, пенсіянеры, якім даўно не хочацца рвацца ў дальнія далі. Моладзь працуе пераважна ў Мінску, раніцай ад'язджае, вечарам прыязджае. У гарадку ёсць саўгас, некалькі майстэрань, паблізу кар'еры, адкуль возяць на мінскія будоўлі жвір і высеяны з пяску гравій.

Хмурна чарнеюць у цёмным зімовым небе мураваныя касцельныя вежы. Рэшткі крэпасці, земляны вал — трохі наўзбоч. Усё закідана снегам, ахутана змрокам — нічога не разгледзіш.

Я паказваю Антаніне дом, дзе яна жыла. Звычайны драўляны асабнячок з чатырохскатным дахам, невялікім дворыкам, у якім растуць дзве старыя разгалістыя ліпы. У гэтым дамку заўсёды кватаравалі раённыя кіраўнікі; цяпер, відаць, жыльцы звычайныя, бо раён скасаваны.

— Я помню наш дом,— гаворыць Антаніна.— Іншы раз еду электрычкай, а тут перасаджваюся на аўтобус.

Антаніна маўклівая, задуменная. Такой яна была толькі ў вераснёвы вечар, калі мы вандравалі па Кавальцах.

Мы ўжо з гадзіну блукаем па вуліцах і нарэшце выбіраемся на плошчу. Час не позні, яшчэ адчынены магазіны, крамы, вяртаюцца дамоў, несучы ў руках сумкі, гаспадыні. Ад крэпасці даносяцца дзіцячыя галасы. Відаць, дзеці катаюцца з горкі, якой служыць земляны вал. Нават у нашым гарадку ёсць таксі. Дзве машыны з зялёнымі агеньчыкамі якраз чакаюць на плошчы. Мы садзімся ў першую, я прашу падвезці да рэстарана, размешчанага на беразе вадасховішча. Пяць — дзесяць хвілін, і мы на месцы.

Мы распранаемся, падымаемся на ліфце аж на пяты паверх. Тут ёсць утульная зала, з акна якой адкрываецца прыгожы краявід. Дзеля гэтага краявіду я і прывёў Антаніну ў рэстаран. Снег, якім укрыта замёрзлае вадасховішча, здаецца сіняватым, у заазёрнай далі чарнеюць прысады навакольных вёсачак, зарослыя сасняком пагоркі.

Людзей у рэстаране пакуль што мала, нам вельмі хутка прыносяць пітво і закуску. Я заказаў сабе трохі гарэлкі, Антаніне — кагору. Пасля першых жа чарачак прыемна шуміць у галаве. Я расказваю пра сябе — як жыў, вучыўся, як, служачы ў арміі, успамінаў яе.

— Мог пісьмо напісаць,— гаворыць Антаніна.— Дзіўны ты чалавек.

— Куды б я напісаў?

— Па старым адрасе. Нам бы пераслалі.

Ніколі Антаніна так уважліва мяне не слухала. Яна ўвогуле сёння расслабленая, мяккая. Нібы плыве ўслед за хваляй. У тым месцы, дзе я расказваю пра ўніверсітэт, пра тое, як сустрэўся з ёю і яна мяне не пазнала, Антаніна зноў перабівае:

— Дзівак, не мог падысці і сказаць.

Зала пакрысе напаўняецца. Афіцыянтка запальвае люстры ў самых далёкіх кутках. У зале робіцца святлей, але затое горш відаць з акна. Цемень за акном згусцілася, і, мабыць, трэба прыліпнуць да самай шыбіны, каб што-небудзь убачыць. Прыходзяць парачкі. Яны, відаць, спецыяльна прыехалі за горад, каб пабыць на адзіноце.

— У цябе была кватэра і ты яе пакінуў? — перапытвае Антаніна, і на яе твар як бы набягае цень нездавальнення.— Нічога не разумею.

— Каб быць бліжэй да цябе.

— Дык я ж у горадзе жыву. Мне свая кватэра пакуль што і не снілася.

— Затое прыязджаеш у Кавальцы. Мне трэба было ў школу. У горадзе не так проста знайсці месца.

— Абавязкова трэба было ў школу?

— Не абавязкова. Але я думаў...

Прываліла шумная кампанія. Услед за расчырванелымі з холаду хлопцамі, дзяўчатамі, якія занялі тры суседнія столікі, на ўзвышэнне ля процілеглай сцяны падняліся два акардэаністы, расчахлілі інструменты. Музыканты таксама, відаць, прывандравалі з горада.

Кампанія, якая размясцілася па суседству, самая што ні на ёсць сучасная. З выгляду хлопцы адчайна-рашучыя, сыплюць словамі, жартамі — здаецца, ім мора па калена. У дзяўчат падфарбаваныя павекі, яны смяюцца трошкі гучней, чым трэба, закладваюць нага за нагу, кураць. Стыль мне трошкі вядомы — пусціць пыл у вочы. На самай справе нашы суседзі не прайшлі ніякіх медных труб, нічога асаблівага не бачылі, працуюць у канторах, канструктарскіх бюро, а то і за станкамі стаяць. Зрэдку збіраюцца, каб вось так правесці час.

Цяпер, калі рэстаран стаў людны, тлумны, Антаніна як бы пажвавела. Яна прыкметная, на яе кідаюць позіркі з суседніх столікаў. І яна не тоіць, што ўвага ёй падабаецца.

— Дзе будзеш сустракаць Новы год?

— Не ведаю.

— Хочаш прыеду? Сходзім у кіно, знойдзем такое месца, як тут.

Яна глядзіць на мяне і пасміхаецца.

— Давай...

Зайгралі акардэаністы, нашы суседзі, якія нават заказ не зрабілі, пайшлі танцаваць. Я запрашаю Антаніну, яна ахвотна падымаецца з месца. Яшчэ ніколі Антаніна не была такой блізкай, я адчуваю яе дыханне, гляджу ёй у вочы, злёгку затуманеныя, павільгатнелыя. Ад нацятасці я іншы раз парушаю такт, але тут, у крузе, ніхто не заўважае: парачкі танцуюць шчыльна прыхінуўшыся, абняўшыся, паклаўшы адно другому рукі на плечы. Я думаю, што быў вялікі дурань, мог вось гэтак танцаваць з Антанінай год назад, і не было б між намі адчужанасці, непатрэбных згрызот.

Калі скончыўся факстрот, мы выпіваем па кілішку і маўчым. Глядзім адно на другога. Антаніна здаецца задаволенай. Зноў зайгралі акардэаністы, да нашага століка падлятае высокі, з адпушчанымі на шчоках бачкамі хлапчына. Антаніна, нават не зірнуўшы на мяне, ідзе з ім у круг.

Няма нічога дзіўнага. У танцах такое — звычайнасць. Але мне непрыемна. Мог бы і я якую-небудзь дзяўчыну запрасіць. Але я не хачу ні з кім танцаваць, нават насуперак Антаніне.

Каб не глядзець у залу, пазіраю ў акно. На месцы, дзе стаіць турысцкі кемпінг, і далей, дзе вадасховішча, былі кусты, лугавіна, лес. Тут я пасвіў кароў. Усё перамянілася. Нават дзве ці тры вёсачкі знеслі. Мінск — вялікі горад, яму трэба вада...

Антаніна села на месца, я не падаю выгляду, што чым-небудзь нездаволены. Мы размаўляем, як раней, потым зноў ідзём танцаваць.

Акардэаністы сумленна зарабляюць хлеб. Перадых сабе і другім даюць самы кароткі. Тым часам хлопцы з-за суседніх столікаў нібы згаварыліся. Па чарзе падыходзяць да Антаніны, запрашаюць у круг. Яна проста расцвіла: расчырванелася, папрыгажэла, вочы ззяюць. Адчувае сябе каралевай вечара.

Яшчэ не позна, дзевяць гадзін. Але мне не трэба забываць, што заўтра ўрокі.

— Пойдзем,— прашу Антаніну.— Пакуль да электрычкі, пакуль сядзеш...

— Пачакай. Няўжо табе не весела?

Найбольш завіхаецца ля Антаніны высокі з бачкамі. Танцуе выдатна, і твар у яго прыемны. Умее хадзіць ля дзяўчат.

Прыводзіць Антаніну да століка, ветліва ўсміхаецца. Па-мойму, ён наогул не супроць, каб перасесці да нас. На дзяўчыну, з якой прыйшоў, не зважае. Я крадком назіраю за гэтай дзяўчынай. Чарнявенькая, шчупленькая, з падфарбаванымі вуснамі, падведзенымі павекамі. Была шустрая, як змейка, а цяпер самотная. З-за няўвагі свайго кавалера. Ад Антаніны лішняй увагі я таксама не маю, і самы час мне аб'яднацца з чарнявенькай...

Ужо дзесяць гадзін, весялосць у разгары. Апошні аўтобус на Кавальцы адыходзіць а палове адзінаццатай, і калі я на яго не траплю, трэба думаць пра начлег. Я іду да буфета. Там, у зашклёнай шафе, стаяць пляскатыя пляшачкі з белавежскай гарэлкай, якія прыдатна насіць у кішэні. Адну такую пляшачку бяру сабе. Калі заначую ў гарадку, то прыйду да знаёмых не з пустымі рукамі.

Яшчэ іграюць акардэоны, не скончыўся танец, але Антаніна раптам выходзіць з круга. Адна, без кавалера.

— Пойдзем. Я не хачу тут быць.

— Пачакай. Што здарылася?

— Нічога,— не чакаючы мяне, яна кіруе да выхада.

Похапкам разлічваюся з афіцыянткай, сігаючы па лесвіцы, даганяю Антаніну ў вестыбюлі. Мы апранаемся, выходзім на двор.

— Што ўсё-такі здарылася, Антаніна?

— Ён сказаў мне гадасць...

— Хочаш, наб'ю яму морду?

Яна бярэ мяне за штрыфлі паліто, злёгку прыхінае да сябе.

— Не трэба біць морду. Ён проста дурань. Прызначаў мне спатканне... Але з кім папала я на спатканні не хаджу. І не пайду. Ведай гэта...

Цудоўны вечар. Над галавой вісіць круглявы месяц, хісткім мроівам ахінута наваколле. Снег на возеры адлівае густой сінню, цёмнымі выступамі ўзвышаюцца далёкія сасоннікі, у вёсачках на тым беразе ледзь прыкметна мільгаюць агеньчыкі.

Ля гасцініцы дзяжурыць таксі.

— Хочаш, паедзем адразу ў Мінск?

— Багач знайшоўся. Яшчэ ходзяць электрычкі.

— Я праўду кажу. Давай хоць раз.

— Не выдумляй. Трэба на станцыю. Ад машыны ў мяне баліць галава.

Таксі імчыць паўз возера, мінуўшы гарадок, зварочвае на шашу. Можна было прасцей паехаць, але таксіст нездарма дзяжурыў. Цяпер, каб трапіць на станцыю, яшчэ раз праскочым вуліцамі гарадка.

Мінаем могілкі. Самае прыкметнае ў гарадку месца — вось гэты шырокі, пад выноснымі соснамі абсяг могілак. На Радаўніцу тут збіраецца народ з усёй акругі. Маці мая тут пахавана. Калі і славіцца чым гарадок, то рэшткамі старой крэпасці, замчышчам, дзе вядуцца раскопкі, і гэтымі вялізнымі могілкамі, якім, відаць, не менш тысячы гадоў.

Памяшканне чакальнай залы маленькае, няўтульнае. Са столі звісае на электрычным шнуры закапаная пабелкай лямпачка, на сценах два плакаты: адзін першамайскі, на другім намаляваны неабачлівы ў плашчы, з чамаданчыкам грамадзянін, які імкне проста пад колы цягніка. Мы з Антанінай сядзім на дубовай лаўцы, наўсцяж здратаванай подпісамі, ініцыяламі пасажыраў — некаторыя з іх нават нажом выразаны. Пахне мазутам, тытунём, кіслым спёртым духам.

На аўтобус не траплю. Побач Антаніна, і я зусім не думаю, як дабяруся да Кавальцоў.

У палавіне дванаццатай прыбывае наша электрычка. Яна далей не ідзе, адправіцца на Мінск і ў дзве гадзіны ночы вернецца сюды. З вагонаў выходзяць запозненыя пасажыры. Не садзіцца ніхто. Электрычак хапае. Асабліва часта ходзяць раніцай і вечарам.

Наш вагон пусты. І ўвесь цягнік пусты. Дзіўна ад думкі, што электрычка павязе толькі мяне і Антаніну. Ва ўсякім выпадку да бліжэйшай станцыі будзем раскашаваць адны.

— Вылазь,— гаворыць Антаніна.— На аўтобус спазніўся?

— Спазніўся.

— Што будзеш рабіць?

— Паеду з табой.

Яна ціхенька, гулліва смяецца.

— У Мінску да сястры пойдзеш?

— Вярнуся назад гэтай электрычкай.

— Не ведала, што ты такі рыцар.

— Цяпер ведай...

У вагоне паўзмрок. Калі электрычка кранаецца, вымаю з кішэні пляскатую пляшачку. Антаніна ўсклікае, як спалоханая птушка:

— Ты наперад абдумаў. Намеціў план.

— Намеціў.

— Не спадзявайся. Думаеш напаіць мяне, будзеш гаварыць пяшчотныя словы, палезеш абнімацца, цалавацца. Нічога не выйдзе...

— Выпі трошкі. Не буду гаварыць пяшчотных слоў...

Яна, аднак, рашуча адмаўляецца, і я хаваю пляшачку.

Паўз акно праплываюць аснежаныя сасоннікі, цёмныя лозы, край насыпу, і зараз жа цягнік затармоўвае. Пятля замёрзлай рачулкі пад навіслымі голымі алешынамі, казырок навеса прыгараднай станцыі, сонныя дамкі ля сцяны лесу здаюцца дзіўнымі, незвычайнымі. У вагон і тут ніхто не заходзіць.

— Я тут ведаю ўсё,— хвалюся Антаніне.— Кожны лясок, сцежку.

Яна глядзіць на мяне недаўменна.

— Навошта табе?

Як ёй сказаць? Калі вярнуўся з арміі, летам, восенню тыдня не мог вытрываць, не завітаўшы ў лес. Пасля змены ці ў выхадны — на аўтобус — і ў бярэзнікі паабапал Слуцкай шашы, у Лагойскім бары. Збіраў грыбы. Ды не адны грыбы вабілі. Жыла ў душы патрэба дакрануцца да звычайнага, адчуць, як пахне зямля, убачыць вясковыя хаты, панадворкі...

— Вырас на прыродзе,— гавару Антаніне.— Ты, можа, памятаеш — пасвіў кароў.

Спіць засыпаная снегам зямля, дрэмлюць прыгарадныя пасёлкі. Электрычка спыняецца праз кожныя пяць-шэсць хвілін. У наш вагон па-ранейшаму ніхто не садзіцца. Светлы месячны полаг, якім ахінуты пералескі, дрэвы, кусты, будынкі, змякчае іх абрысы, надаючы ўсяму бачнаму хісткасць, расплывістасць. Прыгажосць незвычайная. І Антаніна прыгожая.

— Ты любіла каго-небудзь? — пытаю, больш ахмялелы ад наплыву пачуццяў, чым ад гарэлкі.

— Так, як у кнігах пішуць,— не.

— З кім ты прыязджала ў Асавец?

— Звычайны знаёмы. Мы разам працуем.

— Антаніна, пяць гадоў, як я зноў убачыў цябе. І ніяк не магу пазнаёміцца...

— Зрабі так, каб дзень і ноч пра цябе думала.

— Што я павінен зрабіць?

— Не ведаю.

Недзе ў глыбіні душы збіраецца сум. Не пяць гадоў нашаму знаёмству, а амаль у тры разы болей. Колькі марыў я пра сустрэчу, калі застануся з Антанінай адзін на адзін, выкажу дарагое, запаветнае. Сустрэча адбылася, і што? Нічога. Усё тое самае...

— У цябе нехта ёсць, Антаніна. Скажы шчыра.

— Ты ж бачыў у рэстаране. Такіх кавалераў хоць адбаўляй.

— Няўжо ніхто не падабаецца?

— Адзін ты. Можаш радавацца. Слухай, Жэня, я хачу спаць.

На нейкі міг мне здаецца, што Антаніна такая ж, як у маленстве. Гаворыць, што думае, і робіць, як гаворыць.

Схіліўшы галаву мне на плячо, Антаніна засынае. Хораша яна спіць. Твар спакойны, ціхамірны — як у дзіцяці.

Тым часам прыехалі ў Мінск. Электрычка спыняецца. Я не кранаюся з месца. Нават пальцам баюся варухнуць. Няхай спіць Антаніна. Нічога кепскага не здарыцца. Электрычка рушыць да гарадка і раніцай вернецца ў Мінск. Я буду вартаваць Антанінін сон...

Праз паўгадзіны ў вагон заходзіць праваднік. Здзіўлена на нас пазірае.

— Маладыя людзі, вам куды?

Антаніна прачынаецца.

— Ой, я, здаецца, праспала!.. Бывай!.. Перадавай дома прывет!..

Падхапіўшы саквояжык, яна выскаквае з вагона.

## X

Нарэшце я дазнаюся пра гісторыю, што здарылася з Вандай, з той самай жанчынай, якая вечарамі блукае па Кавальцах. Яе мне расказвае Мікола. Страшная гісторыя. У Ванды

быў хлопец, які вайной пайшоў у партызаны. Ваяваў у навакольных лясах, іншы раз ноччу прыходзіў да дзяўчыны. Паліцаі яго падпільнавалі, расстралялі на вачах у Ванды...

Мікола таксама быў у партызанах. Пайшоў у лес шаснаццацігадовым хлопцам. Пасля вайны служыў у арміі, працаваў на металургічным заводзе аж у Чалябінску.

— Потым дадому вярнуўся,— гаспадар пра свае вандроўкі па жыцці расказвае пасміхаючыся.— Як успомніў пра Насцю, дык як магнітам пацягнула. У Чалябінску такой Насці не было...

— Ідзі ты,— адмахваецца, чырванеючы, гаспадыня.— У адной кухвайцы прыехаў. Скура ды косці...

Краем вуха я чуў, што ў Міколы з жонкай адносіны былі не такія простыя. Яна выхоўвалася ў суседняй вёсцы ў чужых людзей — маці памерла рана. І ці то ў знак удзячнасці да сваіх апекуноў, ці таму, што Міколы дома не было, выйшла замуж за старэйшага сына прыёмнай маці. Міколу пра гэта напісалі, і ён зараз жа прыехаў. Насця кінула ўсё: мужа, дом, набытак, прыбегла да Міколы...

Мне падабаецца гаспадар. Яго чорная непакорлівая чупрына напалавіну сівая, але ў ім як бы засталося штосьці дзіцячае. Калі і сумуе Мікола, то толькі на адзіноце. На людзях без жарту не жыве.

Але зноў жа не просты ён, як здаецца з першага позірку. Ён руплівы, працавіты, але хоча, каб яго за ягоную работу адзначалі і хвалілі. Гэта я ведаю дакладна. Мікола жыве добра, і некаторыя саўгасаўцы яму зайздросцяць, называюць кулаком. Было некалькі выпадкаў, калі на ворыве, жніве ён дамагаўся найбольшай выпрацоўкі, але сцяжкі падымалі ў гонар другіх, ім аддавалі прэмію. Хоць і прэмія невялікая — пяць рублёў. Мабыць, з гэтай прычыны Мікола пакідаў саўгас, два гады хадзіў у лесніках. Але вярнуўся і зноў стаў працаваць трактарыстам.

Прыехаў гаспадароў сын — яго завуць Віця — высокі, паконачаму няскладны хлопец з доўгай тонкай шыяй і вялікімі жылаватымі рукамі. Дзесяцігодку Віця скончыў збольшага на тройкі, у інстытут не рваўся, і бацькі з лёгкім сэрцам адпусцілі яго ў вучылішча механізацыі.

Мне здаецца, у Віцевым выбары ёсць нешта спадчыннае. З маладых год сеў на трактар Мікола, заработкі яго, асабліва ў апошні час, высокія, і Віця ахвотна ўзяў прыклад з бацькі.

Пра тое, што Мікола механізатар, можна здагадацца, нават не распытваючы, чым ён займаецца. На бліжніх і далёкіх подступах да панадворка валяюцца зношаныя гумавыя скаты, паржавелыя бочкі, спрацаваныя каробкі акумулятараў і безліч іншага, пераважна жалезнага лому, які сведчыць, што чалавек знаецца з тэхнікай. Па даўнім звычаі механізатары ў летні прыпар прыганяюць свае машыны на двор, бывае, што тут і рамантуюць.

Механізатар цяпер галоўная сіла на сяле. Трыццаць ці сорак такіх, як Мікола, трымаюць на сваіх плячах саўгас.

Маці стараецца дагадзіць сыну, падкладае лепшыя кавалкі, распытвае, як кормяць у вучылішчы, ці часта водзяць у лазню, ці не сумуе ён па доме, і на ўсё гэта адказ адзін:

— Нармальна!

Хоць голас у Віці яшчэ па-дзіцячаму тонкі, пісклявы, але аптымізму хлопцу пазычаць не трэба. У Міколы ёсць матацыкл з каляскай; сын, прадчуваючы, што хутка выйдзе на самастойную дарогу, ладзіць і сабе матацыкл. З Магілёва прывёз колы, астатняе збірае на месцы, корпаючыся, нягледзячы на зіму, пад паветкай.

Антаніна ўвесь тыдзень дома. Прастудзілася, таму прыехала да бацькі. Кожны дзень я бываю ў яе. Пасля вечара ў рэстаране, ночы ў электрычцы мы ўсё-такі зблізіліся. Усе гэтыя дні я лаўлю сябе на смутна-радасным пачуцці перамогі. Антаніна мной не захапляецца, дзіцячую казку ў разлік браць не варта, але хопіць таго, што люблю яе я. Ад гэтага не ўцячэш, не схаваешся. Такі мой лёс.

Зіма набірае сілу. Гудзе сасоннік за панадворкам, мятуць снягі. Хаты ў Кавальцах закідала па самыя вокны. Вуліцу, дарогі на ферму, у школу расчышчаюць грэйдары.

Ноччу гаспадары раз-пораз падымаюцца, выходзяць на двор. Мусіць ацяліцца карова, і Мікола з жонкай, запаліўшы «лятучую мыш», па чарзе наведваюцца ў хлеў. Я нават трохі недасыпаю ад пастаяннага рыпання дзвярэй, асцярожных крокаў. Затое праз тры дні, збіраючыся на ўрокі, бачу ў

пярэднім пакоі новага жыльца. Пярэсценькае, з зорачкай на лбе цялё выдыбае непаслухмянымі нагамі па падлозе, тыцкаецца мордачкай у кажух, які вісіць ля дзвярэй. Гаспадыня вучыць цялушку піць малако з соскі.

На Новы год чакаюцца госці. Мусіць прыехаць мой калега, які служыць у арміі. Падрыхтаванне да яго прыезду вядзецца шырокае: гаспадыня зняла з гарышча, павесіла дасушвацца ў кладоўцы два вэнджаныя кумпякі. Мікола заставіў бутлямі з самагонкай усё падполле. Хутка я ад Кавальцоў адарвуся надоўга. У студзені — канікулы, у лютым паеду на сесію, з пачаткам вясны зноў адпраўлюся ў Мінск — пісаць, абараняць дыпломную. Навучальны год тым часам кончыцца.

## XI

Горад зазваніў жалезнымі ключамі ад сваіх шырокіх варот, і моладзь, вырай за выраем, імкнецца туды. Школа — стартавая пляцоўка для гэтага вылету. За дзесяць гадоў навучання чалавек вырастае як асоба. Корпацца ў гнаі, цягнуць звычайнае, надакучлівае ярэмца хлебароба не хоча. Нават трактары іншы раз прастойваюць — не хапае трактарыстаў.

Да Новага года засталося некалькі дзён. Педагогі і вучні за чатыры месяцы вельмі стаміліся. У чаканні блізкага зімовага адпачынку настаўнікі палагаднелі. Мы выстаўляем адзнакі за другую чвэрць, выклікаючы толькі тых, у каго двойкі.

Слава Пятроўскі, віхрасты, танклявы дзесяцікласнік, ля дошкі рашае задачу. У Славы разумны твар, дапытлівыя шэрыя вочы, і ў той жа час ён цяжкі вучань. З пяцёркі можа спаўзці на двойку, на яго іншы раз нападае абыякавасць да ўсяго, што я тлумачу. У школе веюць новыя вятры, яны кранаюць часам нават здольных вучняў. «Мы ўсё адно нікуды не паступім»,— думаюць і гавораць такія.

Выводзячы лічбы і знакі, Слава гучна стукае крэйдай. Ікс, ігрэк, сінус, косінус, тангенс... Дзесяцікласнікам я даю некаторыя задачы з раздзелаў вышэйшай матэматыкі. Каб падняць дух, веру ва ўласныя сілы. Не святыя гаршкі лепяць. Я сам паехаў у ФЗН з сямігодкай і вось, бачыце, выкладаю матэма-

тыку, фізіку, а калі абараню дыплом, знайду месца, дзе захачу. Самае галоўнае — паставіць мэту.

— Яўгеній Раманавіч, чаму вы прыехалі ў Кавальцы? — пытае Жэня Сініцкая.

Пахаджваючы ля дошкі, Слава чамусьці пасміхаецца. Задачу ён рашыў, але я яго не адпускаю. Хачу яшчэ спытаць. А Жэня часта заганяе ў кут. Можа, таму, што дачка настаўнікаў і нічога не баіцца. Бацька — дырэктар, біёлаг, маці, Ганна Андрэеўна, выкладае мову і літаратуру.

— Адкажу на пытанне ў канцы ўрока, Жэня. Не перашкаджайце нам з Пятроўскім высвятляць адносіны.

Чацвёртую тэарэму няроўнасці Саша ведае. Зазірнуў, значыць, у падручнік вышэйшай матэматыкі. У Славы наступіў перыяд уздыму, і гэта добра. Толькі ці надоўга? Так ці іначай, але стаўлю адзнаку са спакойнай душой.

— Я малады педагог, выхваляцца нечым; і чым, зрэшты, адрозніваюся ад вас, мае сябры? Я сам не знайшоў усіх адказаў, але магу сказаць пэўна, што веды ў сённяшнім жыцці патрэбны. Дзе б вы ні працавалі. Я вярнуўся ў школу з завода і магу пацвердзіць, што нават сямікласнік асвойваецца ля станка хутчэй, чым той, у каго тры класы і чацвёрты калідор. Чаму іменна прыехаў у Кавальцы? Педагагічная практыка трэба. Я ж канчаю ўніверсітэт, які і настаўнікаў выпускае...

Так з улікам выхаваўчага моманту адказваю Жэні Сініцкай.

Дзесяцікласнікі сядзяць апусціўшы вочы. Самі яны рвуцца ў горад, ім цяжка зразумець, чаму я прыехаў у Кавальцы. А можа, ведаюць пра мае адносіны з Антанінай? У вёсцы немагчыма што-небудзь схаваць...

Сыпле рэдкі сняжок. Там-сям на панадворках курацца дымкі. Пахне паленым шчаціннем — смаляць свінней. На Новы год, як на Кастрычнік, на Май, у Кавальцы нямала гасцей сплываецца. Будуць піць гарэлку, есці кілбасу і сёе-тое з дому з сабой прыхопяць. Некаторыя гараджане жывуць не толькі з зарплаты.

Ганна Андрэеўна збірае грошы на навагодні пачастунак. Настаўнікі будуць сустракаць Новы год сумесна. У нас з Антанінай дамоўленасць спаткацца на Новы год у Мінску, але

калі да мяне падыходзіць Ганна Андрэеўна, я ўношу свой пай. Каб не было лішняй звягі.

За тры дні да Новага года — нечаканасць. Мяне запрашае на ўласную кватэру Таццяна Фёдараўна, дырэктар саўгаса. Я нічога не разумею, не хачу ісці, але пасыльная — дзяўчынка з бухгалтэрыі,— таямніча пасміхаючыся, просіць быць у Таццяны Фёдараўны зараз жа. Вось толькі апрануцца і бегчы...

Задыханы ад шпаркай хады, пераступаю парог мураванага дамка, у якім жыве дырэктар. У Таццяны Фёдараўны застолле. Кампанія не вельмі вялікая: Разуменка, побач з ім таўставаты, з панылым тварам галоўны аграном, які часова прызначаны на дырэктарскую пасаду, заатэхнік, дзве бухгалтаркі і, галоўнае, Антаніна, якая сядзіць паміж Іванам і незнаёмым мне хлопцам у светла-шэрым касцюме.

Убачыўшы Антаніну, я зусім ніякавею. Але Іван падміргвае мне, Антаніна ўсміхаецца, і я супакойваюся. Таццяна Фёдараўна выйшла замуж, здае справы, едзе ў Мінск, таму паклікала на развітанне блізкіх людзей. Я, аднак, не блізкі, чаму апынуўся сярод гасцей, невядома.

Праз хвіліну ўсё высвятляецца. Да мяне падсаджваецца незнаёмы хлопец, які да гэтага сядзеў з Антанінай.

— Прабачце,— гаворыць ён,— я да вас першага мусіў зайсці. Я з газеты, прыехаў па вашым пісьме. Перад Новым годам мы хочам ліквідаваць запазычанасць па аўтарскіх пісьмах.

— Вы правяралі факты? — пытаюся ў плячыстага карэспандэнта, на круглым, выпешчаным твары якога блукае паблажлівая ўсмешка.

— Ды якія там факты? Адна дробязь. Вы што — з месяца зваліліся? Я дам вам разумную параду: напішыце ў часопіс. Называецца «Родная прырода». У вас бойкае пяро і паасобныя думкі ёсць.

— Не вучыце, куды мне пісаць...

Таццяна Фёдараўна чуйна разгадвае пачатак спрэчкі. Выходзячы ў пярэдні пакой, кранае мяне за плячо. Я іду за ёй услед.

— Яўгеній Раманавіч, не псуйце мне свята. Вінавата, недагледзела з гэтай рэчкай. Вясной яе пачысцяць. Я нават Разуменку сказала...

Дзіўная яна жанчына. Я ж у сваёй заметцы нават яе прозвішча не назваў. Проста хацеў паставіць пытанне.

Настрой, аднак, сапсаваны.

Іван перасеў да мяне, а карэспандэнт зноў з Антанінай.

— З домам я вырашыў,— паведамляе Іван.— Іду на новую кватэру. У жонкі двое братоў, адзін зойме нашу хату. Ён на станцыі жыве, цяпер будзе ездзіць адсюль на работу.

Мне не да Івана. Ніколі я не бачыў Антаніну такой вясёлай. Яна нешта даказвае суседу, узмахвае рукой, твар расчырванеўся, на шчоках ямачкі. Калі дзяўчына хоча спадабацца, яна ўмее быць прыгожай.

— Толькі жончын брат нежанаты,— расказвае Іван далей.— Дажыў да сарака гадоў, але бабыль. Рэдкі экзэмпляр. Усё робіць сам. Нават карову ўмее даіць...

Карэспандэнт не адзін прыехаў — з шафёрам. Смуглявы хлапчына стаіць у дзвярах, камячыць летнюю шапку з бліскучым казырком, паказваючы карэспандэнту на мігах, што пара ехаць. Яго нарэшце садзяць за стол — піць не можа, то няхай хоць перакусіць.

Непрыкметна пацiснуўшы Івану руку, выбіраюся ў пярэдні пакой, апранаю паліто, выходжу на двор. Што мне ў кампаніі рабіць? Каля дырэктарскага дома стаіць «Волга» старой маркі. Сыпле сняжок, пачынае змяркацца. У канцы снежня самыя кароткія дні. Пачнуць прыбаўляць пасля Новага года.

З гадзіну блукаю па дарозе. На кватэру ісці не хочацца. Калі зноў падыходжу да мураванага катэджыка, у якім жыве Таццяна Фёдараўна, «Волга» якраз ад'язджае. Але карэспандэнта ў ёй няма. Адзін шафёр. Гэта я добра бачу.

Відаць, я вельмі мізэрны чалавек. Ні гонару, ні характару. Уцёкшы з непажаданай кампаніі, зноў да яе ліпну. У доме музыка, і я проста не магу не зайсці ў дом да Таццяны Фёдараўны.

Як ні ў чым не бывала распранаюся ў пярэднім пакоі, іду ў залу. Сталы ссунуты да сценкі, на вольным прамежку танцы. На акардэоне іграе заатэхнік. Антаніна, як мне і падалося, танцуе з карэспандэнтам. Цяпер я хоць разгледзець яго магу. Ён прысадзісты, таўставаты, ростам ледзь-ледзь ніжэй за Антаніну. У танцы — рухавы, імклівы, толькі ў канцы такта

вельмі гучна прытупвае нагой. Аж звіняць пустыя бутэлькі на стале.

Кампанія між тым паменшала. Няма Івана, Разуменкі, галоўнага агранома. Нават самой Таццяны Фёдараўны няма...

Два астатнія перад Новым годам дні я пражыў вельмі пакутліва. Ехаць ці не ехаць да Антаніны ў Мінск? Рашыў ехаць.

Сыпле сняжок. Нерухомай сінечай ахутаны лес. Грузавікі, адзін за адным, вязуць у горад елкі. Якраз цяпер лясніцтва вядзе санітарныя высечкі — грошы зарабляе. Але сякуць елкі і без лясніцтва.

У Мінск прыязджаю надвячоркам. Сыпле сняжок, але горад ёсць горад: вуліцы чыстыя, нават на асфальце наледзі няма. На плошчах вялізныя ўпрыгожаныя ёлкі. У магазінах чэргі, у тралейбусах — цесната. Кожны другі трымае каробку, скрутак, напакаваную сумку ці авоську. Горад ладзіцца сустракаць Новы год.

Антаніна жыве на Акадэмічнай вуліцы. Паблізу і кінатэатр ёсць. Паказваюць «Беларускі вакзал». Білеты купляю нават залішне лёгка. Ні чаргі, ні стаяння. Аддаю ў акенечка грошы і бяру білеты.

Калі пасля кіно пойдзем у рэстаран, то ў «Юбілейны». Ён па суседству з заводам халадзільнікаў, дзе я працаваў, вярнуўшыся з арміі. Там мне ўсё да дробязей знаёма.

Антаніна сядзіць перад люстэркам, расчэсвае валасы. На століку бутэлечкі, флакончыкі. Пакойчык вузкі, мізэрны. Два жалезныя ложкі, дзве тумбачкі, дзве ўробленыя ў сцяну шафкі. Інтэрнат. Хоць у ім, здаецца, і сямейныя жывуць.

— Валя паехала да бацькоў,— гаворыць Антаніна.

Сяджу, не распрануўшыся, на ложку, чакаю, пакуль Антаніна збярэцца. За акном пачынае сінець.

Нарэшце выходзім на двор. Цярусіць сняжок, у адным месцы сушыцца на вяроўцы бялізна. Пялёнкі, дзіцячыя штонікі, кашулькі.

На праспекце тым часам запальваюцца агні. Ззяюць на працягнутых упоперак вуліц шнурах жоўтыя, сінія, чырвоныя лямпачкі, ахутаныя мярэжай рознакаляровых стужак. Мігцяць сняжынкі. Малюнак хісткі, няўстойлівы.

Антаніна маўчыць. Ідзе і маўчыць. Я таксама не знаходжу слоў. Усё, што трэба было сказаць, даўно сказана. Шасцяць шынамі па асфальце таксі, з гулам праносяцца перапоўненыя тралейбусы, мільгаюць постаці прахожых. Пераліваецца агнямі аснежаны горад, пачынаючы навагоднюю казку.

Мы трохі спазніліся, на экране ўжо мільгаюць цітры. Білецёрша, падсвечваючы сабе ліхтарыкам, вядзе нас на месца. Вось наш рад. Але ён увесь запоўнены. Жаночыя, дзявочыя завіткі, цёмныя, светлыя мужчынскія галовы, прычасаныя і ўскудлачаныя — ніводнага вольнага месца.

Пры святле ліхтарыка білецёрша разглядвае нашы білеты. Шэптам паведамляе:

— У вас на апошні сеанс.

Апошні сеанс скончыцца за паўгадзіны да Новага года. У такім выпадку нікуды не паспеем. Чаму я не зірнуў на білеты?

— Я вас па адным пасаджу,— зноў шэпча білецёрша.

Антаніну вядзе ў пярэднія рады. Я знаходжу месца сам — на праходзе, ля бакавога выхада.

Думкі мітусяцца, але паступова супакойваюся. Што асаблівага здарылася? Пераблытаў сеансы, сядзім на розных месцах. Хіба гэта галоўнае?

Калі скончыўся сеанс, доўга чакаю Антаніну. Мы зноў маўкліва ідзём па вуліцы. Антаніна гоніць перад сабой абледзянелы снежны камячок. Паддасць наском туфля, пройдзе некалькі метраў і зноў паддасць.

Стараючыся гаварыць спакойна, пытаю:

— Цябе на сённяшні вечар куды-небудзь запрашалі?

— Запрашалі.

— Не трэба падводзіць сяброў. Мяне таксама запрашалі.

Яна на некалькі імгненняў спынілася, запытальна на мяне зірнула.

— Пабачымся ў Кавальцах,— сказала на развітанне.

— Я хутка прыеду ў Мінск,— адказваю ёй.— Пісаць дыпломную. Як-небудзь сустрэнемся.

Я саджуся ў тралейбус, еду да аўтавакзала. Яшчэ можна паспець на аўтобус, які прыходзіць у Кавальцы ў адзінаццаць вечара.

## XII

Мінула зіма, вясна, вось і лета наступіла. Даехаўшы да гарадка электрычкай, далей у Кавальцы іду пешшу, сцежкай нацянькі. Пагоркі змяняюцца лагчынамі, сасоннікамі, ельнікі бярэзнікамі. Дзень гарачы, у высокай траве трашчаць конікі, у разамлелым паветры звіняць розныя мушкі. Правей ад сцежкі па палявым абсягу крочаць высозныя жалезабетонныя слупы лініі высакавольтнай электраперадачы.

Жыта ў колас выходзіць, лапушыцца бульба. Але найбольш на полі лубіну. Жоўтыя азяркі мяжуюць з блакітна-сінімі. Я не ведаю, чаму так многа цяпер сеюць лубіну. Можа, на корм жывёле, на сянаж, бо лугі не добраўпарадкаваны. Як і тады, калі я пасвіў скаціну, яны завалены вялікім і малым каменнем, а кустоў, купін нарасло яшчэ больш.

Гадзіны праз дзве падбіраюся да Кавальцоў. Захацелася ўзысці на Воронюю гару. Прыгожы адсюль адкрываецца краявід. Навакол, куды ні зірні, відаць зялёныя выспы сасоннікаў і бярэзнікаў, якія цягнуцца аж да небакраю. Там-сям па лесе ўзвышаюцца цемнаватыя крыжы елачных вяршалін, разложыстыя купы дубоў. Высокае, блакітнае, з рэдкімі аблачынкамі неба нібы яднаецца з зялёнай зямлёй.

Спусціўшыся з Воронняй гары, іду сасоннікам да сядзібы майго гаспадара. На шасейцы нечакана сутыкаюся з Антанінай. Яна толькі што выйшла з аўтобуса, нясе ў руках напакаваную сінюю сумачку.

Мы абое так разгубіліся, што ў першую хвіліну слова не можам прамовіць. Глядзім адно на аднаго.

— Абараніў дыплом? — нарэшце пытае Антаніна.

— Абараніў.

— Дзе будзеш працаваць?

— Дзе і працаваў. На заводзе. Там адкрылі вылічальны цэнтр.

— А я што гаварыла. Ты жыў тут, каб скончыць універсітэт. Усе так робяць.

Яшчэ некалькі нязначных слоў, і мы развіталіся.

Пра Антаніну я ведаю ўсё. Яна выйшла замуж за карэспандэнта, з якім была знаёмая толькі тры месяцы. Здараецца і так у жыцці.

Месяц назад былі заручыны Алесі з яе настаўнікам, які адслужыў у арміі. Вакансія выкладчыка матэматыкі і фізікі ў Кавальцах, аднак, свабодная, бо мой калега таксама падшукаў месца ў горадзе.

Ля Міколавага панадворка стаіць чырвоны трактарык «Беларусь» з прычэпленай да яго машынай, над якой узвышаецца выгнуты на манер гусінай шыі хобат. Такімі машынамі цяпер нарыхтоўваюць зялёную травяную масу на сянаж.

*1974*

## АПОШНЯЯ ВОСЕНЬ

### I

Васіль пакінуў рамонтную брыгаду за тыдзень да пачатку заняткаў. Ён, відаць, сам не здолеў бы растлумачыць, чаму так зрабіў: грошы трэба, у сям'і шэсць чалавек, і бацька, які служыць на станцыі стрэлачнікам, сваёй зарплатай усіх не абагрэе. А тут яшчэ чуткі: у школе будуць браць плату за навучанне. Нібыта ад восьмага да дзясятага класа.

Васіль якраз і перайшоў у восьмы. Яму шаснаццаты год, з выгляду ён рослы, шыракаплечы і пачынае ўбірацца ў сілу. Чацвёртае лета падчас канікул ён ходзіць на чыгунку: спачатку ссякаў між шпалаў траву, зносіў са станцыйных пуцей жужаль, а з мінулага года яго ўзялі ў брыгаду. Тут ён рабіў як усе: мяняў шпалы ці падбіваў пад іх баласт, напінаючыся з усіх сіл, цягнуў за канат лябёдкі, калі разгонкай — пастаўленай на кольцы рэйкай — звужалі стыкі рэек.

Летась Васіль канчаў работу на гадзіну раней — дзейнічаў закон аб рабоце непаўналетніх. Пуцейцы сама паглядвалі на сонца, чакаючы канца змены, а ён кідаў рыдлёўку або кірку і з незалежным выглядам шыбаваў дадому. Сёлета закон адмянілі: Васіль разам з усімі працаваў па восем гадзін. Парадкі сталі больш жорсткія: за спазненне на пятнаццаць хвілін судзяць, вылічваюць з зарплаты, і наогул шмат чаго на свеце перамянілася за апошні год.

Раніца яшчэ дыхае начной прахалодай, на полі — асабліва па лагчынках — шызыя астраўкі туману. Сонца толькі-толькі падымаецца. Дзень абяцае быць ясным, сонечным, і Васіль загадзя радуецца, што ў такі прыгожы дзень будзе блукаць па верасах. Яны цяпер пачынаюць цвісці.

Да лесу Васіль ідзе па чыгунцы. Лес далекавата — вярсты тры. Мястэчка — немалое паселішча: галоўная Савецкая вуліца па даўжыні, мабыць, не саступіць вуліцы Горкага ў Маскве, якую Васіль бачыў, калі летась ездзілі з бацькам купляць крам. А ёсць жа ў мястэчку яшчэ некалькі другіх вуліц і завулкаў. Вядома, раўняць іх з маскоўскімі можна толькі па даўжыні, бо нішто астатняе параўнацца не можа.

Некалі лес, відаць, падступаў да самага мястэчка, але яго высеклі, каб было болей поля, бо іначай нельга было пракарміцца.

На чыгунцы і ўзбоч яе кожны шматок вядомы, чымсьці нават прылучаны да Васілёвага жыцця. Па кустах, што густа растуць на паласе адчужэння, ён лазіў, вышукваючы птушыныя гнёзды, у лагчыне пасвіў карову, у дубовым гайку, які віднеецца сярод поля, вырэзваў кійкі; на ўсім працягу ад Раманавай да Барсуковай будкі — яна стаіць ужо сярод лесу — няма на чыгунцы мясціны, дзе б ён з пуцейцамі не раскідаў баласт, не мяняў шпалы, не бавіў перакураў, лежачы на шорсткай траве, на адхоне насыпу, слухаючы размовы пуцейцаў.

Лес ужо ў перадасеннім задуменні. Можа, сум па лесе і ёсць прычына, што Васіль трохі паспешліва кінуў брыгаду. Васіль адчувае: па меры сталення прыбаўляецца абавязкаў і звужаюцца абсягі свабоды. А лес — прастор для духу, вандруючы між соснаў па ружовых верасах, можна як бы зусім адлучыцца ад звычайнай плыні жыцця, аддаўшыся пад уладу лятункаў і мар.

Васіль — летуценнік. Куды толькі не заносілі яго развагі і трызненні, у якія нязвычныя становішчы не трапляў ён дзякуючы сваёй нястрымнай фантазіі! Найлепш думаецца на адзіноце, у лесе, калі ніхто не перашкодзіць, не саб'е хісткую, ценькую ніць, што сама сабой снуецца ў душы. Не ў прыклад мінулым гадам за ўсё лета Васіль толькі два разы быў у лесе. Брыгада замінала. Дый грыбоў малавата. Нешта сёлета слаба растуць.

Удалечыні віднееецца складзеная з гладкай чырвонай цэглы Барсукова будка. На тым месцы, дзе поле канчаецца і пачынаецца лес, Васіль збочвае з насыпу. Учора брыгада збівала тут стыкі, яна і сёння прыедзе на гэтае месца, і Васіль ловіць сябе на адчуванні, што не хоча спатыкацца з пуцейцамі. Калі ён выйдзе з лесу, яны яшчэ будуць гахаць рэйкай па жалезнаму кліну, загнанаму ў зазор стыка, і каб не бачыць іх, ён вернецца дадому пясчаным шляхам.

На гэта таксама ёсць прычына. Васілю не хочацца трапляць на вочы брыгадзіру пуцейцаў Скарынкіну. Брыгадзір з выгляду хмуры, суровы, з-пад яго навіслага лба жорстка пазіраюць чорныя вочы, але Васіль ведае — чалавек ён мяккі і абыходлівы. І ўсё адно няёмка з ім сустракацца. Вінават крываногі Сашка, сын Скарынкіна, якога Васіль узяўся падцягваць па рускай мове.

Васілёва рэпетытарства пачалося шчэ мінулым летам. Тады ён вучыў другога хлопца. Яму нават прыемна ўспамінаць, як, вярнуўшыся з работы, паабедаўшы, ён запрашаў Мішку Бычка, свайго недалёкага суседа, у хлеў, на сенавал, і там дыктаваў яму бясконцыя дыктоўкі. Праз шчыліны між бярвеннямі прабіваліся праменні ўжо нізкаватага сонца, было відаць, як у светлых пасачках плаваюць розныя парушынкі. Яны абодва ляжалі на сене, розніца была ў тым, што, трымаючы ў руках рускую граматыку, Васіль дыктаваў, а Мішка пісаў у спецыяльна заведзеным тоўстым сшытку, а пасля Васіль чырвоным алоўкам выпраўляў памылкі.

Памылак напачатку было многа, бадай, у кожным слове, дзе трэба пісаць «о», Бычок крамзоліў «а», і Васіль доўга вучыў яго ставіць слова пад націск, каб даведацца, як яго пісаць правільна.

На гэтае і іншыя правілы Васіль даў Бычку, можа, сотню дыктовак, цешачыся ад думкі, што яшчэ год назад яны разам насілі здаваць у краму бутэлькі, куплялі за іх цукеркі-падушачкі, елі, па чарзе выцягваючы з папяровага мяшэчка, а цяпер Бычок вучань, а ён, Васіль, настаўнік.

Бычок вытрымаў пераэкзаменоўку, а Васіль атрымаў першую настаўніцкую плату — трыццаць рублёў. Пра яго па іх канцы вуліцы пайшла слава як пра адменнага рэпетытара, і

калі сёлета падрыхтоўку на восень далі Сашу Скарынкіну, брыгадзір пуцейцаў папрасіў Васіля пазаймацца з сынам, не пашкадаваўшы заплаціць наперад пяцьдзясят рублёў.

Васіль стараўся яшчэ болей, чым летась, але крываногі Саша — не Міша Бычок. Ён не прачытаў ніводнай кнігі, і тое, што яму ў адно вуха ўваходзіла, з другога зараз жа вылятала. Нягледзячы на Васілёва старанне, экзамен па рускай мове ён, як і вясной, праваліў, астаўшыся ў сваім пятым класе. А Васілю сорамна. Таму ён не хоча сустракацца ні з брыгадзірам, ні з пуцейцамі.

Лес пачынаецца пяццю вялізнымі дубамі. Пазалетась Васіль проста так звярнуў пад гэтыя дубы і вачам не паверыў: на чыстым, пакрытым травяністым дзёрнам доле расло некалькі крамяных, як капыты, моцных баравікоў. Яны вытыркнуліся на самым відавоку, раслі, можа, цэлы тыдзень, іх мог зрэзаць кожны, хто б зазірнуў пад дубы, але шчасце як бы чакала аднаго Васіля.

З таго часу Васіль заўсёды завітвае пад дубы. Баравікі тут болей не паказваюцца, але надзея падштурхоўвае: Васіль увогуле не абмінае ніводнай мясціны, дзе калі-небудзь яго напаткала ўдача. Гэта адбірае шмат часу, другія грыбнікі з ходу рвуцца падалей, паглыбей у лес, а ён ніяк не можа здрадзіць прывычцы.

Лес, у які Васіль увайшоў, называецца Палякоў Рог. З левага боку, ад чыгункі ён пачынаецца мокрым алешнікам, з правага — ад шляху, цягнецца палоска грабняку, за якім вачам адкрываецца працяг бору. Бор не зусім чысты: побач з купчастымі соснамі дзе-нідзе трапляецца бяроза; у адным месцы стаіць нават высокі спарахнелы ліпавы пень. Многа дзівос у лесе. Па другі бок пясчанага шляху, які вядзе ў пабудаваную ўкраінцамі-перасяленцамі вёску Макаў, зусім іншае царства: дубовы гай, зарослае рудой асакой балотца, імшысты, з багуном, кусцікамі буячніку сасоннік.

У Палякоў Рог, заціснуты паміж Макаўскім шляхам і чыгункай, Васіль ходзіць з дзяцінства. Тут усё знаёма да дробязей. У бары дол заслан густым чарнічнікам, вечназялёным барвенкам, местачковая басота вандравала сюды па ягады. Падвязаныя да паясоў гладышыкі, перагукі праз кожную

хвіліну, хлопцы ўперамешку з дзяўчаткамі — тое было даўно і адышлося.

Цяпер Васіль не любіць талакі. Лес існуе для таго, каб быць з ім адзін на адзін. З кожным годам Васіль пашыраў абсягі сваіх вандровак. І цяпер, не баючыся заблудзіцца, адыходзіць ад мястэчка вёрст на дзесяць — пятнаццаць, пад макаўскія ваколіцы і нават далей.

Прабегшы бор, пакруціўшыся па мясцінах, дзе пашэнціла падняць пару баравічкоў, ён нарэшце пераскоквае пясчаны Макаўскі шлях, паглыбляючыся ва ўладанні, якія адкрыў сам: у бясконцыя маладыя сасоннікі, беразнякі з разлівам ружовых верасоў на доле. Тут можна гадзінамі блукаць, не сустрэўшы ніводнай жывой душы.

Сонца тым часам вісіць над лесам, неба сіняе, чыстае, па ім плывуць рэдкія белыя аблачынкі. Такія ясныя, не надта спякотныя дні толькі і бываюць на схіле лета, калі прырода як бы выстаўляе напаказ сваю бязмежнасць і шырыню, безліч сваіх фарбаў, красак, прыкметней, чым калі-небудзь у другую пару, змякчаючы іх, змешваючы ў адну непадзельную гаму. Васіль любіць верасы і сасоннікі за пачуццё прастору, якое яны нараджаюць у душы, за ціхую музыку, што нібы ўзнікае сама сабой і нячутна звініць у глыбіні істоты.

Тут, на верасах, адразу пачынае гучаць даўно зведаная музыка. У вяршалінах стройных бярэзінак праглядвае пазалота, пад кожнай з іх кружок апалага лісця, верасы цвітуць далікатным сіне-барвовым полымем, трапляюць дзе-нідзе ўкрытыя шызым мохам-лішайнікам пляшыны жаўтаплёсаў, маўкліва, як бы прыслухоўваючыся да саміх сябе, стаяць па верасе рэдкія хвоі.

Над галавой бязмежная сінеча неба, і наступае поўная суладнасць душы з усім гэтым бачным прасторам, з яго колерамі і адценнямі, пахам і цішынёй. Можа, адсюль і нячутная музыка, якую нараджае зямля і неба.

У Васіля іншы раз узнікае пачуццё, што даўно-даўно, як бы ў нейкім другім жыцці, за межамі знаёмага верасовага абсягу, ён ужо штосьці падобнае адчуваў, перажываў і яно зноў нахлынула смутным напаўзабытым успамінам. Што гэта? Няясныя зовы крыві продкаў, якая струменіць у яго жылах і

нагадвае, што далёкія сваякі таксама вандравалі па верасовых абсягах і адчувалі тое самае, што цяпер адчувае ён. Ці, можа, проста падман пачуццяў?

А краявід прыгожы. То ў адным, то ў другім месцы вынікае бярозавы гаёк, высокая, з купчастым верхам, пакінутая на насеннік сасна, затым зноў цягнецца сасновае рэдкалессе, зарослыя нізкаватым вераском выгары, лясныя паломы. Прастор бязмежны. Тым часам зямля, хоць прыгожая, але пустая — суцэльны пясок, і, акрамя верасу, хвайняку ды рэдкіх бярэзнічкаў, нішто другое тут не расце.

Грыбы ўсё ж зрэдку трапляюцца. Баравікі старыя, вялікія, з чорнымі ці белавата-жаўтлявымі шапкамі, яны надзейна прыкрыты пасмамі ружовага верасу. Толькі пяць ці шэсць такіх падняў Васіль, і ўжо амаль палавіна кошыка.

На прасторы верасоў лёгка, хораша думаецца. Можа, нават не ў думках, не ў развагах справа, а ў нязвычна вострым адчуванні жыцця, імклівая плынь якога проста мільгаціць уваччу. Колькі за адзін толькі год усяго адбылося! Заключан дагавор з Германіяй, вызвалены заходнія беларусы і ўкраінцы, зведзены на нішто прошукі белафінаў — цяпер Ленінград можа ўздыхнуць спакойна. Не менш важныя падзеі выніклі ў апошнія месяцы. Літва, Латвія, Эстонія, Бесарабія, што на школьных геаграфічных картах былі заўсёды заштрыхаваны жоўтымі паскамі як незаконна захопленая тэрыторыя — усе гэтыя краіны зноў сталі савецкімі. Дух захоплівае ад велічы, грандыёзнасці падзей. Гісторыя творыцца на вачах, і Васіль нібы адчувае асабістую адказнасць, прылучанасць да спраў сваёй вялікай краіны.

А на свеце палыхае ўжо вогнішча ваеннага пажару. Добра быць савецкім грамадзянінам магутнай, неабсяжнай дзяржавы, на якую ніхто ніколі не адважыцца напасці. Нават Гітлер, што шчэрыў зубы на Савецкі Саюз, як толькі дарваўся да ўлады, быў вымушан у апошні год павярнуць аглоблі.

Можа, таму, што Васіль уступае ў паласу юнацтва, маладосці, ён горача, зацікаўлена думае пра ўсё, што робіцца на свеце. Ён цяпер у восьмым класе, не такі далёкі час, калі прыйдзецца развітацца з мястэчкам, з гэтым вось ружовым верасам, хвайнякамі, грыбамі. Недзе тут, падчас трызненняў

пра вырай з родных аселіц, Васіля ахоплівае смутная трывога. Ён не адзін, у яго два найлепшыя, найбліжэйшыя сябры, якіх толькі можа падараваць раніца жыцця, а яны вучацца ў дзясятым класе. Для іх час вылету блізка, і Васіль нават уявіць сабе не можа, як будзе жыць без іх. Ён спрабуе забегчы думкай наперад, пабачыць сябе аднаго на працягу тых двух гадоў, калі астанецца без Івана Скварчэўскага і Сцяпана Бронькі, даўніх сваіх сяброў-таварышаў, але нічога не атрымліваецца. Уяўленне буксуе, малюнак расплываецца, наперадзе мігцяць нейкія белыя пісягі.

Многа разоў спрабаваў Васіль, вось як зараз, прыкінуць у думках сваё бытаванне ў абсягу бліжэйшай будучыні, заканчэнне школы, і вынік заўсёды аднолькавы — пустата. Яму аж страшна робіцца. Няўжо чалавеку дадзена адчуваць сябе ў мінулых пакаленнях і нават зазіраць у свой наступны дзень? На чым такая здольнасць грунтуецца? Для мінулага яшчэ можна знайсці вытлумачэнне: кожны чалавек неяк паўтарае дзядоў, прадзедаў, а для будучага?..

Зрэшты, самотныя ці вось такія няпэўна-трывожныя развагі, адчуванні — толькі хваля ў імклівай рацэ ўсеўладнага прыняцця жыцця, якое толькі пачынае разгортваць перад Васілём свае прывабныя, хвалюючыя далі. Свеціць сонца, паветра напоена незвычайнай чысцінёй, празрыстасцю, шасціць пад нагамі верас, і няма ніякай патрэбы вярэдзіць душу рознымі здагадкамі.

Яшчэ здалёк бачыць Васіль тры чорнагаловыя баравікі: яны сядзяць разам, невялікім трохвугольнікам на зарослым жорсткім ціпцам лапіку. Карэнні тугія, цвёрдыя, і шапкі спадыспаду ў грыбоў белыя, не паспелі пазелянець. Гэтыя тры баравікі яго лепшая сённяшняя здабыча. Будзе чым пахваліцца дома.

Васіль далёка зайшоў, аж пад Салахоў хутар. Вёрст дзесяць ад мястэчка ці нават болей. Ніякага тут хутара цяпер няма, стаіць на зарослым пустазеллем полі некалькі ігруш-дзічак, на былым дворышчы зруб закінутага калодзежа, друз, цэгла ад былой сядзібы.

Тым часам есці хочацца, дый сонца вісіць над самай галавой. Васіль паварочвае назад. Кошык у палавіне, але па дарозе

яшчэ што-небудзь трапіцца. Калі ён не знойдзе баравікоў, падасінавікаў, то дасць трохі круку і каля Галістравай лужы набярэ таваранкаў. У такую пару яны сама растуць на нізкіх балацявінах. Таваранкі — грыбы не надта, смажыць іх нельга, можна толькі сушыць, але лепш імі дапоўніць кошык, чым прыйсці дадому з напалавіну пустым.

Васіль выцягвае з кішэні загорнуты ў паперу пакуначак. Калі набегаешся па лесе, адчуваеш лёгкую стому ў нагах, то няма лепшай насалоды, чым дастаць зашэрхлы, зачарсцвелы акрайчык куплёнага магазіннага хлеба і пакрысе, не спяшаючыся, адкусваць па невялікім кавалачку. Не трэба ніякія прысмакі, хлеб замяняе іх усе: ён трошкі пахне дымам, алеем, кіславаты на смак, і яго як раз хопіць, каб зноў адчуць у нагах пругкую сілу.

У светлым, як бы па-святочнаму апранутым бярэзніку напалавіну абваленыя, абымшэлыя акопы. Яны засталіся яшчэ з часу польскай вайны. Калі белапалякаў выганялі, два ці тры тыдні фронт стаяў тут, белапольская артылерыя біла па мястэчку, спаліўшы паўднёвую палавіну цяперашняй Савецкай вуліцы разам са старажытнай царквой. Пра гэта Васіль ведае з апавяданняў бывалых местачкоўцаў.

Пашастаўшы па акопах, Васіль выхапвае з-пад моху белы, на доўгай пакручанай назе баравік, некалькі падасінавікаў. Зварочваць на Галістраву лужу, мабыць, не прыйдзецца.

Напоены сонечным святлом бярэзнік — асаблівая мясціна. Калі Васіль завітвае ў яго, ва ўяўленні, выклікаючы ціхую радасць, нязменна выплывае вобраз Надзі Мядзёлкі. Можа, таму, што з Надзяй у Васіля даўно пачаліся нейкія адносіны, а яго вандроўкі ў лес адыгралі ў гэтых адносінах не апошнюю ролю.

Яшчэ нават гэтай вясной Надзя жыла пры лесе. Паміж Раманавай і Барсуковай будкамі ў шчыльным акружэнні разлапістых дубоў стаяў хутарэц — звычайная хата, хляўчук, гумно. З Надзяй Васіль ніколі разам не вучыўся, яна ідзе на клас вышэй, хоць яны аднагодкі. Але тое, што Васіль любіць вандраваць па лесе, спрыяла іхняму знаёмству. Калі ён вяртаўся з лесу, то часта сустракаў Надзю — яна то корпалася на агародзе, то пасвіла карову — і, убачыўшы

Васіля, абавязкова зачэплівала яго якім-небудзь словам. Часцей насмешлівым, хоць вочы праменіліся прыязню.

Мінулым летам, напаткаўшы Васіля ў Мульменкавым садзе, яна ўпершыню сказала штосьці сур’ёзнае: «Чаму ты ходзіш босы? — нездаволена спытала тады яна.— Ты ж працуеш у брыгадзе, то хіба на чаравікі не заробіш? І кепку скінь, яна табе не ідзе. Летам трэба хадзіць без шапкі...»

Надзя гаварыла так, нібы ён, Васіль, быў яе братам ці якім-небудзь блізкім чалавекам. Было прыемна ад яе слоў.

Сёлетнім летам, калі Васіль першы раз выбраўся ў лес, пад тымі вунь ракітавымі кусцікамі ён знайшоў кавалак парыжэлай раённай газеты з фотаздымкам Надзі і маленькай заметачкай пад ім: «Яна ездзіла ў “Артэк”». Газета пад дажджамі, снегам праляжала цэлы год, малюнак быў бляклы, невыразны, але ў ім усё ж можна было пазнаць танклявую Надзіну постаць.

Васіль тады міжволі здрыгануўся ад смутнай радасці. Надзя, як і ён, дачка чыгуначніка, яе бацька — высокі маўклівы чалавек — працуе на вугальным складзе. У Надзі ёсць старэйшая сястра — яна стаіць за прылаўкам станцыйнага буфета — і вельмі падобная на Надзю: такі ж круглаваты прыгожы твар, гэтак жа, як яна, бывае то задуменна-самотнай, то нейкай вогненна-вясёлай. Можа, таму, што ў буфеце працуе Надзіна сястра, Васіль любіць туды заходзіць. Ён увогуле любіць пакрыты бляхай, пафарбаваны ў жоўты колер станцыйны дом, у якім пад адным дахам размешчаны пакой дзяжурнага, білетная каса, чакальная зала і буфет.

Дзіўна тое, што перш чым знайсці газету, Васіль якраз думаў пра Надзю, думаў, што пуцёўку Надзі далі хутчэй за ўсё таму, што ў яе памерла маці, бо вучыцца яна не лепш за другіх і выдатніцай ніколі не была. Можа, таму і знаходка мінулагодняй газеты паўстала ў Васілёвай свядомасці як значная падзея, нейкі таямнічы знак лёсу.

Так ці інакш, а Надзяй запоўнены многія хвіліны Васілёвага жыцця. Тым болей што яна цяпер амаль суседка. Хутарэц вясной знеслі, хата Мядзёлкаў стаіць адразу за пераездам, дзе ўтварылася новая вуліца. Ідучы ў школу або са школы, Надзя будзе праходзіць паўз Васілёву хату.

Вядома, год назад Васіль яшчэ не здагадваўся, што Надзя зойме ў яго жыцці такое вялікае месца. Ён і пра другіх дзяўчат думаў, яны спачатку падабаліся, потым гаварылі ці ўчынялі што-небудзь недарэчнае, з-за чаго мізарнелі ў яго вачах, і ён пераставаў імі цікавіцца. З Надзяй сталася па-іншаму.

Яны аднагодкі, але яна тым часам будзе вучыцца ў дзявятым класе, а ён толькі ў восьмым. Проста здолела раней за Васіля паступіць у школу. І калі ён прадчувае, што не зможа жыць без Івана Скварчэўскага, Сцяпана Броньки, то гэта палавіна праўды. Не зможа ён і без Надзі. Нічога асаблівага між імі не адбылося, хоць ён ведае, што трохі ёй падабаецца. «У цябе прыгожая шыя і грудзі,— сказала яна, убачыўшы яго на сёлетняй першамайскай дэманстрацыі ў новай, з расшпіленым каўняром саколцы.— А я думала...»

Што яна думала, можа, нават што-небудзь кепскае, Надзя не сказала. Але ў Васіля ўсё адно заняло дыханне. Ён і раней спатыкаў на сабе яе прыязныя позіркі, памятаў мінулагоднюю размову, калі яна сказала, каб ён не хадзіў болей босы. Ён удзячны ёй, што яна заўсёды паводзіла сябе з ім як роўная з роўным.

Васіль марыць сустрэць Надзю ў лесе. Яму здаецца, што ён тады знойдзе асаблівыя словы, скажа ёй іх, і ў іх адносінах усё стане ясным і простым. Але Надзя да грыбоў абыякавая і ў лес не ходзіць. Васіль аднак спадзяецца. Здараюцца ж на свеце цуды.

## II

Станцыя — адметнае месца ў мястэчку. Яна не надта вялікая — тры прысадзістыя, пафарбаваныя ў жоўты колер дамкі, у якіх размяшчаецца чыгуначнае начальства, станцыйныя службы. Ёсць яшчэ асобныя будынкі пакгаўза, пагрузачнай канторы.

Але і не такая малая станцыя: з мястэчка пракладзена ветка-аднапутка да суседняга гарадка, а значыць, станцыя нейкім чынам нават вузлавая. Што гэта іменна так, сведчыць паравознае дэпо. Памяшканне яго не кідкае, закуранае, прыпісаны да дэпо толькі дзве старыя «авечкі», але калі станцыя фармуе

ўласныя саставы, то ёсць на яе службе машыністы, качагары, кандуктары, саставіцелі.

Цягнікі тут часта набіраюць ваду. Складзеная з чырвонай цэглы вежа вадакачкі стаіць болей для прыліку, бо вада падаецца з другой, скляпанай з жалеза вежы, размешчанай на падыходзе да станцыі.

Перад прыбыццём вячэрняга цягніка на пероне заўсёды людна. Нехта з мястэчка ад’язджае, нехта прыязджае, але найболей такіх, хто проста прыйшоў пастаяць, паглядзець, пачуць нейкія навіны, а то і выпіць у буфеце кухаль цеплаватага піва.

Васіль любіць станцыю. І не толькі таму, што тут можна сустрэць каго-небудзь з хлопцаў, патаўчыся ў натоўпе, выслухаць жарт, дасціпную гісторыю, а і таму яшчэ, што станцыя — прыгожае месца. Над нізкаватымі дамкамі як хмары навісаюць вялізныя срабрыстыя таполі, надаючы станцыі выгляд зялёнага вострава. Яны, мабыць, пасаджаны тады, калі толькі пракладвалі чыгунку.

Перад уваходам у чакальную залу невялікі скверык. Тут таксама таполі, але маладзейшыя і не срабрыстыя, яны стаяць шчыльным кружком, пад імі драўляныя лавачкі, а ў праёме круга, пад навіссю дрэў, воданапорная калонка.

Чары наступаюць, калі адыдзе цягнік, схлыне натоўп, а на апусцелы перон, на будынкі, рэйкі кладзецца полаг вячэрняга сутоння. Ціха, таямніча шасцяць сваёй лістотай таполі, як бы нашэптваючы казку, дзівосную і павабную. Пра што гэтая казка? Пра тое, можа, што не за гарамі вырай. Васіль і такія, як ён, сеўшы ў цягнік, адсюль, са станцыі, паедуць у невядомыя далі. І што падораць маладым падарожнікам тыя новыя жыццёвыя прасцягі?

Васіль прыйшоў на станцыю, калі ахутаны клубамі пылу пасажырскі цягнік з Масквы на Брэст якраз, нібы ўкопаны, супыніўся насупраць перона. Ударыў першы званок, пачалася звычайная мітусяніна — да вагонаў з клумкамі, чамаданамі рынулі пасажыры, з вагонаў паспешліва вылазілі прыезджыя.

На станцыі тым часам штосьці асаблівае. Натоўп намнога большы, чым звычайна, людзі прыйшлі са сцягамі, транспарантамі, некаторыя трымаюць у руках кветкі. А галоўнае — проста на пероне размясціўся аркестр — з

меднымі трубамі, вялікім турэцкім барабанам — ён іграе нешта вясёлае, бравурнае.

Нарэшце ў тамбуры вагона, каля якога асабліва згрудзіліся людзі, паказаўся шыракатвары, прысадзісты хлапчына ў сінім шавіётавым касцюме. На штрыфелі яго пінжака блішчыць медаль. Аркестр адразу грымнуў марш. Не паспеў хлапчына ступіць на зямлю, як яго падхапіў на рукі дружны гурт такіх жа маладых хлопцаў і, рашуча пракладваючы дарогу ў натоўпе, панёс да выхада, на станцыйную плошчу. Хлапчына, якога нясуць на руках, адчувае сябе няёмка, разгублена моргае вачамі, вінавата ўсміхаецца.

На плошчы тым часам і наспех збітая з дошак трыбуна паўстала, абцягнутая чырвонай матэрыяй. На ёй высокі чарнявы сакратар райкама з застыглым, нерухомым тварам, старшыня райвыканкама — стары, сівы, кругленькі, іншыя раённыя актывісты — яны заўсёды стаяць на трыбуне, размешчанай перад новай, двухпавярховай школай, дзе адбываюцца першамайскі і кастрычніцкі мітынгі.

Першымі гавораць сакратар райкама, старшыня райвыканкама, затым другі прамоўца, і Васілю робіцца ясна, чаму сабраўся святочны натоўп на станцыі. Прысадзісты хлапчына ў сінім шавіётавым касцюме не хто іншы, як брыгадзір трактарнай брыгады Рыбак, узнагароджаны медалём «За працоўную доблесць». Учора ў Крамлі Міхаіл Іванавіч Калінін уласнаручна ўручыў яму высокую ўзнагароду, а сёння трактарыст вярнуўся ў мястэчка, дзе працуе ў МТС.

Васілю прыемна, што ў мястэчку будзе жыць такі заслужаны чалавек. Гэта ўжо другі па ліку ўзнагароджаны. Першай была Людміла Збароўская, дзяжурная па станцыі. Яна ездзіла на з’езд стаханаўцаў і адтуль вярнулася з ордэнам «Знак Пашаны». Але яе так урачыста не сустракалі. Можа, таму, што мястэчка тады яшчэ цэнтрам раёна не было, думае Васіль.

Пра людзей, акружаных усеагульнай хвалой, Васіль стараецца думаць высока, гэтак жа, як пішуць пра іх у газетах і вось цяпер гавораць прамоўцы. Хоць некаторыя супярэчнасці, вядома, ёсць. Збароўскія жывуць амаль што па суседству з Васілём, наўскасяк праз вуліцу. Ён добра ведае іхнюю сям’ю і асаблівых прыкмет выключнасці ў маладой Збароўскай не

бачыць. Яна, худая, касцістая, з жоўтым — нібы перахварэла на малярыю — тварам, і хоць мае гадоў дваццаць пяць, ніхто нават замуж не ўзяў. Бацька, які працаваў у адной змене са Збароўскай, не хваліў яе — злосная, прыдзірлівая, людзям у бядзе не паспагадае. Нават добра, што яе ўзялі ў Гомель. Пайшла на павышэнне.

Васілю больш падабаюцца бацькі Збароўскай — яны сапраўды добрыя людзі. Стары век праездзіў кандуктарам, цяпер на пенсіі, жонка яго, ужо амаль зусім глухая, шые на швейнай машыне. У Збароўскіх прыгожы дом з белымі аканіцамі, бляшаным дахам — такіх дамоў няшмат у мястэчку — вялікі яблыневы сад, жывуць яны ў дастатку, але ад суседзяў не адгароджваюцца. У іх можна пазычыць грошай, пашыць штаны ці кашулю напавер, параіцца, калі надарыцца непрыемнасць. Стары Збароўскі любіць хадзіць у гурт, калі мужчыны — стрэлачнікі, сцэпшчыкі, пуцейцы ці тыя, хто працуе ў калгасе,— збяруцца вечарам на лавачцы і вядуць бясконцыя размовы.

Мітынг паміж тым скончыўся.

Ля кіёска, дзе прадаюць газеты, Васіль спатыкае Івана Скварчэўскага. Іван заўсёды прыходзіць на станцыю вечарам, бо іменна ў гэты час, пасля адпраўкі цягніка, можна купіць маскоўскія газеты за ўчарашні дзень. Тым, хто выпісвае газеты, паштальён прынясе іх толькі заўтра.

Іван трымае пад пахай «Правду», «Красную звезду», часопіс «Огонек». Сябруе Васіль з Іванам даўно, з чацвёртага класа, і сяброўства іхняе зарадзілася на аснове агульных кніжных інтарэсаў. Усе апошнія гады Іван, Сцяпан Бронька, а ўслед за імі Васіль глытаюць кнігу за кнігай з нейкім самазабыццём, неўтаймаваным імпэтам, які ніяк не могуць задаволіць. Такім манерам яны прачыталі не толькі многіх рускіх, зарубежных класікаў, а і шэраг кніг рэдкіх, якія ходзяць па руках і ў бібліятэцы якіх не возьмеш. Дружба — выдатная рэч: калі кнігу раздабыў Іван, то яе абавязкова прачытаюць і Сцяпан, і Васіль.

Іван жыве на Варашылаўскай вуліцы, якая цягнецца ўзбоч чыгункі. Бацька яго працуе таварным касірам на станцыі, але з сям'ёй не жыве, сышоўся з другой жанчынай. Івану

прыходзіцца нялёгка, бо на пяцьдзясят рублёў, якія вылічваюць на аліменты з бацькавага заробку, не надта разгонішся. Памагае трохі дзед, матчын бацька, а ў час канікул Іван ходзіць грузіць торф і на іншыя заработкі.

Ужо шараваты змрок спускаецца на зямлю, на небе адна за другой выбліскваюць зоркі. Цёпла, пахне пылам, які вісіць у паветры пасля таго, як па вуліцах прагналі статкі, яблыкамі, разрэзанымі палавінкамі гарбузоў. Самы прыемны час, каб павандраваць па мястэчку, абгаварыць бягучыя падзеі.

— Куды пойдзем? — пытае Іван.

— Можа, у гарадок.

Гарадком называюць засаджаны таполямі двор лясной школы, размешчаны якраз насупраць станцыі, аддзелены ад яе кар'ерам-катлаванам, дзе местачкоўцы капаюць гліну. Лясная школа — фактычна тэхнікум, некалі і такая ўстанова была ў мястэчку. Тэхнікум перавялі ў горад, тым часам памяшканні не пустуюць, у іх жывуць і вучацца курсанты аўташколы. Яна, як і тэхнікум, належыць лясному наркамату.

Курсанты — людзі маладога веку, хлопцы, а там, дзе хлопцы, там дзяўчаты, і, можа, па гэтай прычыне Іван з Васілём любяць пашастаць па цёмных алеях гарадка. Там цэлы свет у таполевым парку, таямнічы, павабны — ён з нейкага часу пачаў хваляваць дружбакоў. На лавачках пад цёмнымі купамі дрэў сядзяць парачкі, у вячэрнім змроку мільгне то белая блузка дзяўчыны, то запаленая папяроса прафшкольца, чуваць прыглушаны смех, прыцішаная размова; з другога месца, дзе сабралася некалькі курсантаў і іх сяброўак, наадварот, даносяцца выбухі маладога рогату, гучныя перамовы, а іншы раз і песня пад гітарны пераразвон пачуецца. Неба ў зорным засеве, лапоча дынамік кінаўстаноўкі — у клубе прафтэхшколы паказваюць кіно,— пасля станцыі, люднага перона вячэрняе жыццё мястэчка як бы перамяшчаецца сюды, у таполевы гарадок.

Увогуле прафтэхшкола, якая некалі рыхтавала лесаводаў, а цяпер зрабілася асяродкам, куды сцякаюцца хлопцы з навакольных раёнаў вучыцца на шафёраў, адыграла ў Іванавым, Васілёвым жыцці немалую ролю. Яшчэ тады, калі на месцы цяперашняй двухпавярховай школы стаяла царква з зялёнымі

макаўкамі купалоў і залатымі крыжамі, калі пра кіно, радыё расказвалі як пра цуд, усё гэта ў прафшкольцаў ужо было.

Царкву разбурылі, калі Васіль хадзіў у другі клас. З бярвення, якое засталося, пабудавалі доўгі, як стадола, клуб — ён цяпер называецца раённым Домам культуры.

У раённым доме стацыянарная кінаўстаноўка, амаль штодня паказваюць гукавое кіно, а тры-чатыры гады назад ніхто нават блізка не чуў пра такія дзівосы, і местачковая басота, у якой грошай на білеты ніколі не было, па вечарах штурмам брала вокны і дзверы клуба прафтэхшкольцаў. Там круцілі ўручную — памочнікаў хапала — нямыя кіналенты з надпісамі на чатырох мовах — рускай, беларускай, яўрэйскай і польскай. Кінакарціны, што запалі ў душу назаўсёды, такія, як «Лясная быль», «Абрэк-Заур», «Двойчы народжаны», «Чырвоныя д'ябаляты», Васіль з Іванам паглядзелі ў цесным клубе гарадка, і нельга без удзячнасці пра гэта ўспамінаць.

І кнігі выдатныя мела прафтэхшкола. На некаторых з іх стаялі пячаткі Томскага ўніверсітэта — відаць, аж адтуль іх прывезлі ў палескае мястэчка, каб прасвятляць мясцовых лесаводаў. Лесаводы лесаводамі, у іх не надта хапала часу, каб чытаць Жуля Верна, Луі Бусенара, Віктора Гюго. Затое з прагнасцю глыталі такія кнігі Іван, Васіль і астатнія шкаляры, што ўваходзілі ў спулку па набыццю рэдкіх кніг.

Кніжная маёмасць прафтэхшколы паступова рабілася набыткам спулкі, якая не прызнавала ніякіх правіл, законаў, калі гаворка заходзіла пра цікавую кнігу. З гэтай крыніцы шчодра чэрпаў і Васіль, не адчуваючы асаблівых дакораў сумлення ад таго, што кніга кімсьці ўкрадзена ў бібліятэцы.

— У мяне ідэя,— пачаў Іван, пасля таго як хлопцы маўкліва прашнуравалі па дзвюх-трох алеях таполевага парку.— Я яе не прыдумаў, вычытаў. «Комсомольская правда» заклікае вывучаць замежныя мовы. Ты думаеш, чаму?

Васіль насцярожыўся. У Івана заўсёды нараджаюцца ідэі, і слоў на вецер ён не кідае. Ён у школе найлепшы матэматык, шахматыст, наогул выдатна вучыцца, але пры чым тут замежныя мовы?

— Не разумею цябе,— гаворыць Васіль.

— Тут нечага разумець,— Іван, відаць, абдумаў тое, што гаворыць.— Як Вольга Уладзіміраўна выкладае нямецкую мову? Задасць вершык, мы, як папугаі, вывучым, яна паставіць адзнаку. Пра што гаворыцца ў вершыку, ты ведаеш? Можа, адно ці два словы ведаеш. Навошта такая навука?

— Усё адно не разумею. Нашто здалася табе нямецкая мова?

— А нашто алгебра, геаметрыя, хімія? З хлебам іх будзеш есці? Агарод можна і без алгебры абмераць. А яна ў старшых класах лічыцца асноўным прадметам. Паспрабуй не рашы кантрольную па алгебры!.. З нямецкай мовы зрабілі пасмешышча. Ідзе нараўне з фізкультурай і маляваннем,— Іван зарагатаў.

— Няхай ідзе.

— Дзівак. Давай сходзім да майго дзядзькі. Ён раскажа, як вучылі замежныя мовы ў гімназіі. Чатыры мовы — дзве старыя і дзве новыя. Дзядзька і цяпер чытае нямецкія і французскія кніжкі.

Іванавага дзядзьку Васіль ведае. Ён дырэктар сямігадовай школы — апрача дзесяцігодкі ёсць і такая ў мястэчку. Ходзіць задуменны, маўклівы, носіць акуляры, і жонка яго — яна выкладае хімію ў дзесяцігодцы — таксама зацятая, нават суровая з выгляду. Праўда, тлумачыць хімію талкова.

— Ну, добра,— нарэшце пагаджаецца Васіль.— Толькі як ты будзеш вывучаць нямецкую мову? Вольгу Уладзіміраўну не пераменіш. Задасць вершык, якое-небудзь правіла, і ўсё.

— Я думаў пра гэта,— у Іванавым голасе радасць.— Школа тут не паможа. Трэба самім брацца. Са Сцяпанам дамовімся. Ён згодзіцца. Нікому нічога не трэба гаварыць. Будзем вывучаць мову самастойна.

Вечар харошы плыве. Вісіць над галавой зорнае жнівеньскае неба, ледзь чутна шапочуць лісцем таполі, з лавачак, цёмных алей даносяцца прыглушаныя галасы, сцішаны смех. Стракоча дынамік у клубе прафшколы, нехта ў пакоі завёў патэфон, расчыніў акно, і прыгожы жаночы голас пад млявую мелодыю гавайскай гітары просіць, дакарае нявернага зламысніка, які прычыніў нябачнай спявачцы столькі пакут і болю.

Цяпер Васіль таксама ўзбуджаны. Яны, тры таварышы, зоймуцца справай, пра якую ніхто не будзе ведаць, нават не

здагадаецца. Васіль поўніцца гордасцю, бо хіба знойдзеш у мястэчку другіх хлопцаў, якія дадумаюцца да такога?

— Я проста разважыў,— тлумачыць Іван.— Адзін раз паспрабаваў палічыць па-нямецку да дзесяці і аж спалохаўся: не ўмею. За пяць гадоў не навучыўся! Прыйдзецца пасля школы здаваць экзамен па нямецкай мове, то як здасі? Вольгі Уладзіміраўны там не будзе.

Пры напамінку, што наступным летам, у такі, як цяпер час, Івана і Сцяпана Бронькі ў мястэчку не будзе, Васілю робіцца сумна. Але ён стараецца не думаць пра гэта. Яшчэ цэлы год наперадзе. Іван між тым пацвельваецца з таго, як вучаць у школе нямецкую мову.

— Да дзесяці палічыць не ўмеем! Сорам! Ганьба! Ты ведаеш, як па-нямецку «хлеб»?

— Брот,— нясмела адказвае Васіль.

— «Хлеб», дапусцім, ведаеш. Кожны дзень ясі. А як «мяса»?

Васіль не ведае. Іван тым часам насядае:

— Скажы, як па-нямецку «сарочка», «штаны», «нага», «рука»? Не можаш сказаць. Бо плыў па цячэнню. Ніхто не ведае, і я не ведаю. Біць нас трэба за такую навуку! — Іван увайшоў у ролю завадатара.— Мне хутка васямнаццаць, табе шаснаццаць, а мы як дзеці. Дзяцінства даўно кончылася. Пара зразумець.

Іван і навіну прыемную мае. «Комсомольская правда» не проста заклікае вывучаць замежныя мовы, а і практычнае выйсце падказвае. Можна выпісаць нямецкую бібліятэчку: каштуе не дорага, а кніжкі цікавыя, у іх побач з тэкстам змешчан пераклад.

Калі Іван чым-небудзь запальваецца, то ўсур'ёз. І завадатарам быць яму не ўпершыню. Па характару ён таварыскі, абыходлівы, але калі Васіль яшчэ толькі пайшоў у школу, Іван ужо камандаваў хлопцамі з Варашылаўкі. Сярод тых хлопцаў былі хваты — адрывалі падэшвы на хаду. Пад Іванавым кіраўніцтвам, аднак, задзірыстыя хлопцы з Варашылаўскай вуліцы выкапалі копанку — у ёй і цяпер купаецца басота, потым ён арганізаваў валейбольную каманду, і яна нават перамагала прафтэхшкольцаў, кніжная спулка — гэта таксама яго

ідэя. Росту Іван сярэдняга, зграбная постаць, светлыя валасы, шэрыя вочы. Самы звычайны хлопец, але нешта ў ім ёсць, калі другія ахвотна яму падначальваюцца.

— Трэба пачынаць спачатку — з пятага класа. Возьмем падручнік, самі зададзім сабе ўрокі, будзем адзін у аднаго пытаць. Бібліятэчку выпішам...

Васіль пад поўнай Іванавай уладай, і яму цяпер самому смешна, як праходзяць урокі нямецкай мовы. Слабахарактарная Вольга Уладзіміраўна, вядома, разумее, што прадметам яе ніхто не цікавіцца, дысцыпліну трымаць не ўмее і, каб стварыць хоць бачнасць парадку, дазваляе рабіць што хочаш — абы не бегалі па калідоры. Некаторыя на яе ўроках рыхтуюць дамашнія заданні, чытаюць кнігі. Яна і сама іншы раз, каб сцішыць гамонку, чытае ў класе якія-небудзь гісторыі, перакладаючы іх на хаду з нямецкай хрэстаматыі.

Нагаварыўшыся, аб усім дамовіўшыся — Сцяпана будуць угаворваць удвух,— сябры з гарадка зноў вяртаюцца на станцыю. Цэлы дзень Васіль блукаў па лесе, гадзіны дзве з Іванам вандраваў па парку, а ногі не баляць. Васіль нібы ўбіраецца ў мужчынскую сілу, і ад гэтага прыемна. Ён сам адчувае ў сабе крамяную сілу: можа лёгка ўскінуць на плячо і панесці поўны мяшок бульбы, а калі выбіраецца з чаргі ў краме, то варта толькі варухнуць плячамі, і падатліва расступаюцца перад ім узмакрэлыя жанкі.

На станцыі цішыня. На пероне бязлюдна. Пройдзе змазчык з маслёнкай у руках, і доўга чуваць грук яго чаравікаў па ацэментаваным доле.

Хлопцы і ў буфет заскокваюць. Васілю цікава кінуць позірк на буфетчыцу, так падобную на малодшую сястру.

У абшарпаным, густа застаўленым сталамі пакойчыку некалькі позніх наведвальнікаў п’юць піва. Надзіна сястра ляскае на лічыльніках, выгляд у яе нездаволены. Васіль можа расказаць Івану ўсё, выкласці перад ім самыя патаемныя думкі, а пра Надзю не скажа. Тайна належыць яму аднаму.

Выйшаўшы з буфета, сябры развітваюцца. Іван трымае пад пахай згорнутыя трубачкай газеты, часопіс «Огонек». Ён пільна сочыць за ваеннымі падзеямі, хоць вайна, як здаецца

Васілю, прыціхла. Германія летась праглынула Польшчу, сёлета — Францыю, іншыя краіны і, відаць, наелася.

Назаўтра і ў наступныя дні Васіль ходзіць у лес. З раніцы яму заўсёды страшнавата: нічога не знойдзе. Але страх трэба пераадольваць. Гэта толькі здаецца, што знаёмыя мясціны абходжаны, агледжаны, грыбы павызбіраны і вернешся дамоў з пустымі рукамі. Калі шукаеш, то знаходзіш грыбы ў самым нечаканым месцы.

У дні, якія асталіся да заняткаў, Васіль нібы развітваецца з лесам, з ружовымі верасамі. Яны будуць сніцца потым да наступнага лета. У лесе ідзе сваё адметнае жыццё, яго асабліва не заўважаеш, не думаеш пра яго. Але яно ёсць, кранае істоту, выклікаючы ў ёй ціхую радасць, і без гэтага нельга жыць.

Вандруючы ў адзіноце па верасах, колькі перадумаеш, у якіх становішчах сябе ні пабачыш. Мары хісткія, няпэўныя, яны наплываюць, разбягаюцца, як хмурынкі ў блакіце летняга неба, але нейкі след у душы пакідаюць. Без гэтага таксама нельга жыць. Чалавек, мабыць, проста не вытрымаў бы, каб у яго адабралі магчымасць пагадаць пра будучае.

Васілёва сям'я жыве цяжкавата. З-за нястач, клопатаў вынікаюць частыя сваркі паміж бацькам і маці. Васіль ад іх адварочваецца, стараецца не ўмешвацца, не думаць, але зрэшты ўсё чуе і бачыць. Калатня ў хаце атручвае жыццё.

Гэтым летам пасля адной асабліва непрывабнай стычкі Васіль нават рашыў паступаць у тэхнікум. Не мела значэння ў які — абы з'ехаць з дому. Але ў хаце трохі пацішэла, і верх узяла развага. Дый ехаць не было як: ні грошай, ні вопраткі, і з сябрамі шкада развітвацца.

Цяпер новыя згрызоты: чуткі пра плату за навучанне ў старэйшых класах паўзуць настойліва, і як быць далей? Тыя грошы, якія Васіль зарабіў, разышліся, а за жніўеньскую палучку трэба купіць касцюм. Пінжак парваўся ў локцях, штаны на каленях, і ў латанай вопратцы паяўляцца ў восьмым класе сорамна.

Васіль і бацьку трохі вінаваціць. Характар у яго не надта: бацька заўсёды хмуры, часта раздражняецца з-за дробязі. У сем'ях некаторых местачкоўцаў, якіх Васіль ведае, справы ідуць не лепей, перабіваюцца сяк-так людзі, аднак добрага

настрою не трацяць, умеюць развесяліць сябе і другіх. Бацька не ўмее.

Зрэшты, усё гэта не самае галоўнае. Жыць можна, хоць у крамах, пасля таго як на свеце пачалася вайна, стала тугавата з некаторымі прадуктамі і нават з хлебам. Але ўраджай сёлета добры, і справы могуць палепшыцца.

## III

Васілёвы паходы ў лес апрача радасці яднання з прыродай маюць і чыста практычнае значэнне. Рудога кабанчыка, худога, нібы верацяно, які маланкай носіцца па выгане, падгадаваўшы бульбай, заколюць толькі к Калядам, і восень, як заўсёды, будзе поснай парой. То трэба яе хоць грыбамі аскароміць. Пара сушаных баравічкоў, кінутых у бульбяны, забелены малаком суп, прыдае яму зусім іншы смак, робячы ў канечным выніку весялейшым жыццё.

Як памятае сябе Васіль, у большай палавіне іхняй хаты заўсёды жылі кватаранты, а ў апошнія гады бацькі здаюць яе пад кантору. Спачатку ў хаце размяшчалася кантора «Заготлён». Цяпер — «Плодагародніна». Там канцылярскія сталы, шафы, днём за сталамі сядзяць бухгалтары, рахункаводы, шчоўкаюць на лічыльніках і трашчаць арыфмометрамі.

Хату бацькі не за так здаюць у арэнду. Сям'і трэба падмога. А кантора плаціць не толькі за памяшканне, а яшчэ маці як прыбіральшчыцы прыплачвае. Восенню і зімой Васіль спіць у канторы на падлозе каля грубкі, а як толькі стане цёпла — у хляве. У хляве нават лепей спаць: нікому не замінаеш і паветра чыстае, карыснае для здароўя.

Пярэдняя палавіна хаты, дзе жыве Васілёва сям'я, яшчэ і дашчанай сценкай адгароджана, каб лішне не зырыліся кліенты, якія валам валяць у кантору, на тое, што робіцца ў хаце. Кліенты, дзякуючы перагародцы, бачаць толькі рудаватую печ, ля якой завіхаецца маці. Ад пакоя застаўся фактычна невялікі закутак, але так лепей. Зрэшты, і наведвальнікі густа плывуць у кантору з сярэдзіны лета, і асабліва цяпер, калі калгасы пачынаюць вазіць на базу агуркі, памідоры, бульбу, капусту. Іх візіты заканчваюцца з першымі замаразкамі, калі

бульба, морква або пагружаны ў вагоны, адпраўлены ў гарады, або забуртаваны ці прыхаваны ў сховішчах на месцы. У астатні час бухгалтары мірна падбіваюць балансы, і ніхто асабліва не трывожыць Васілёву сям'ю.

У апошні перад заняткамі дзень Васіль у лес не рушыў. Пакідаючы рамонтную брыгаду, папрасіў бухгалтара выпісаць грошы да канца месяца, і цяпер трэба іх палучыць. Бухгалтар слова спраўдзіў. Грошы Васіль аддаў маці, пакінуўшы сабе пяцёрку.

Вандруючы па мястэчку, Васіль зазірнуў у кніжную краму і аж здрыгануўся: на відным месцы стаіць «Ціхі Дон» Шолахава. Шэра-сіні каленкоравы пераплёт, і па памеру томік таўставаты. Доўга чакаў Васіль гэтай кнігі. Тры папярэднія прачытаў даўно. Яны ўсе былі перакладзены на беларускую мову, меліся ў бібліятэках. Потым перачытаў яшчэ раз, хвалюючыся, робячы здагадкі наконт далейшага лёсу герояў.

Нарэшце чацвёртая кніга «Ціхага Дона» напісана і нават прадаецца. Толькі каштуе дарагавата. Калі Васіль купіць «Ціхі Дон», не хопіць грошай на нямецкую бібліятэчку, пра якую гаварыў Іван. Але спакуса такая вялікая, што Васіль не вытрымлівае. Цяпер будзе мець уласны «Ціхі Дон», няхай апошнюю частку. А бібліятэчку як-небудзь выпіша.

Другая палавіна дня прайшла ў захопленым паглынанні кнігі. Васіль прымасціўся ў хляве, на сене, дзверы адчыніў, каб было светла, пасмачкі святла і праз шчыліны ў сценах цэдзяцца, так што можна чытаць да самага вечара. А вечарам ён у кантору пяройдзе. Пахне сухімі зёлкамі, разнатраўем, і гэтак жа, здаецца Васілю, пахне бяскрайні, заліты крывёю стэп.

Чым далей чытае Васіль, тым яму робіцца трывожней. Ён чакаў, што лёс нарэшце выкіруе на шчаслівую пуцявіну Грыгорыя Мелехава, Аксінню, але ідзе як быццам не да гэтага. Кроў, новыя бойкі, хоць грамадзянская вайна фактычна скончылася. Такой глыбокай нянавісцю набрынялі чалавечыя сэрцы, што і прасветліны не відаць.

Васіль пачуў таропкія крокі. У хлеў увайшла маці. Выгляд у яе вясёлы.

— Паспі, сынок,— сказала маці.— Пойдзеш займаць вочарадзь. Заўтра, Кузьма сказаў, будуць даваць касцюмы. Як бытта не дарагія...

Кузьма — вартаўнік на базе, размешчанай за агародамі.

Васілю шкада маці. Пра сябе не думае — толькі пра дзяцей. Хоча, каб старэйшы сын пайшоў у школу ў новай вопратцы.

Спаць Васілю не хочацца. Адклаў кнігу ўбок, задумаўся. Чамусьці не ляжыць душа ісці сярод ночы да ўнівермага. Хоць іншага выйсця няма: чаргу трэба заняць з ночы. З крамнінай асабліва цяжка. Каб раздабыць колькі метраў матэрыялу (у мястэчку яго называюць мацерыяй) ці што-небудзь з вопраткі, трэба вытрымаць сапраўдны бой. Чэргі за хлебам, цукрам не йдуць ні ў якое параўнанне з тымі, якія выстрайваюцца ля ўнівермага. Раніцай там заўсёды збіраецца вялізны, разнагалосы натоўп, а калі магазін адчыняюць, пачынаецца такая мітрэнга, мітусяніна, што сорамна глядзець.

Васілёвы бацькі таксама не любяць чэргаў. І вопратку дзецям куплялі не тут, у мястэчку, а ў Маскве. Па суседству з Васілёвай хатай стаіць звернутая да вуліцы глухой сцяной старасвецкая хаціна, у якой жыве стары Паўлёнак. А ў двары харошы, сучасны дамок. Ён не так даўно належаў зяцю Паўлёнка Макару Мятлушку.

Макар быў абыходлівы чалавек, як гаварылі тады — «культурны» гаспадар. Выпісваў агранамічныя кнігі, купіў трыер, малатарню з прывадам, пад шнур пасадзіў сад. Зямлі меў няшмат, але добра ўрабляў яе і меў ураджай.

Макар і ў калгас хацеў уступіць, але не прынялі. Хадзілі чуткі, што яго збіраюцца раскулачыць. Так гэта было ці не так, Васіль не ведае. Макар, аднак, чакаць не стаў. Пасадзіў у цягнік жонку, сына, забраў, што можна павезці ў чамаданах, паехаў у Маскву. Там паступіў на службу дворнікам, а ў хуткім часе ў Катуарах — дачнай мясцовасці пад Масквой — выбудаваў уласны дамок.

З таго часу, як Макар асталяваўся ў Маскве, увесь канец Чыгуначнай вуліцы, на якой жыве Васіль, стаў да яго ездзіць. Свой чалавек у вялікім мнагалюдным горадзе — вялікая справа. З восені Васілёва маці збірала масла, яечкі, а напрадвесні бацькі кіравалі ў Маскву. Тым болей што бацьку, як чыгуначніку білет выдавалі бясплатны. Макар заўсёды пазычаў грошы, і бацькі за іх куплялі крам. Іншы раз і но-

шаную вопратку прывозілі, з пляча Макаровага сына Валодзі, але чыстую, вымытую, акуратна адпрасаваную.

Два гады назад, скончыўшы пяты клас, Васіль з бацькам таксама ездзіў у Маскву. Бачыў дамок, які Макар выштукаваў,— звычайная, абшаляваная дошкамі хацінка, пафарбаваная ў зялёны колер, толькі што з бляшаным дахам. Стаіць хацінка пад кашлатымі елкамі, і тут жа ў двары, наўзбоч вытаптанай сцежкі растуць баравікі. Вось гэта было дзіва!

Было лета, і дамок Макар аддаў пад летнюю кватэру дачнікам. Сам з сям'ёй туліўся ў хлеўчуку. У тым хлеўчуку мясціліся і Васіль з бацькам. Але ім трэба было толькі переначаваць. Раніцай садзіліся ў імклівы электрычны цягнік, ехалі ў Маскву і да вечара вандравалі па магазінах.

Макар Васілю спадабаўся. Сярэдняга росту, плячысты, лысы, з шырокім разумным тварам, ён як бы нагадваў старадаўняга мудраца, і ў тым, аб чым гаварыў, сапраўды было што слухаць. За вымушаныя ўцёкі з мястэчка, страчаны набытак Макар ні на каго не крыўдаваў, наадварот, паблажліва ўсміхаўся:

— Лес сякуць, трэскі ляцяць. Перагібы, канешне. У новым дзеле бываюць перагібы.

Галоўнае, Васіль адчуў гэта, Макар ухваляў напрамак жыцця. Недахоп абутку, вопраткі, іншых патрэбных чалавеку рэчаў тлумачыў тым, што будуюцца гарады, заводы, фабрыкі,— калі ўзнімецца індустрыя, прыйдзе ўсё астатняе. Пра тое, што два разы бачыў Сталіна, Макар расказваў з гордасцю.

Масква Васілю таксама спадабалася. Толькі дзіўна: вялізны, густанаселены горад, у якім столькі цудаў,— старажытны Крэмль, палацы, саборы, стадыёны, канал Волга-Масква, новыя рэканструяваныя вуліцы — каб расшырыць іх, дамы перавозілі проста на колах — метро, выстаўкі — усё гэта Васіля як бы і не надта ўразіла. Можа, таму, што пра ўсё гэта ён чытаў, зрэшты ведаў, а цяпер толькі ўбачыў.

Бацька павёў Васіля ў заалагічны сад, там у клетках, вальерах заморскія, ніколі не бачаныя звяры, птушкі, але і тут Васіль не спасаваў. Нават не чытаючы таблічак, адразу пазнаваў пумаў, гіен, шакалаў, страусаў, маленькіх, нібы цацачных, птушачак калібры. Бацька нават абразіўся. Ён хацеў здзівіць сына, а сын не здзіўляўся.

Макар, які ішоў ззаду, таргануў бацьку за плячо, і Васіль чуў іхнюю размову.

— Не крыўдуй, Цімох. Дзеці, мабыць, разумнейшыя за нас. Хіба мы ў іх гады столькі чыталі? Мой таксама са мной чуць загрудкі не бярэцца. Хоча даказаць, што я адсталы...

Як цяпер Васіль разумее, там, у Маскве, ён сапраўды хацеў выхваліцца. Пазнаваў розных звяроў, бо бачыў іх раней на малюнках. Але можна было не крычаць пра гэта, трохі прытрымаць язык. Макар праўду сказаў. Васіль адчувае сябе дасціпнейшым за бацьку, маці, бо яны зусім не чыталі кніг, не могуць рашыць самай простай задачы і нават уяўлення не маюць пра заалогію, алгебру, хімію. Бацька вучыўся ў царкоўнапрыходскай школе, але ісці на экзамены не адважыўся. Цяпер піша, робячы процьму памылак, і чамусьці пасля кожнага слова ставіць кропку. Маці толькі паўгода пабыла ў школе, па складах сяк-так чытае, а пісаць не ўмее зусім.

Але бацькі кормяць сваіх дзяцей, даглядаюць, клапоцяцца, і трэба іх за гэта паважаць.

Васіль усё ж трохі паспаў. Скрозь сон чуў, як, цяжка ўздыхаючы, зайшла ў хлеў карова, як маці даіла яе, напаўголасу стрымліваючы: «Стой, рабая, стой...», як звінелі струменьчыкі малака, б'ючыся аб бляшаныя сценкі вядра, як сонна перагукваліся на седале куры. Праз роўныя прамежкі часу чуў гул цягнікоў, чыгунка побач, а цягнікі, нават таварныя, таксама ідуць па графіку, хоць ён нідзе не вывешваецца.

Прачнуўся Васіль са смутным пачуццём трывогі — ці не праспаў? Але, здаецца, не, яшчэ нават першыя пеўні не спявалі. Неба ў густым зорным засеве. Цяпер, на схіле лета, зоркі асабліва яркія, нібы вымытыя ў расе.

Ціха зайшоў у хату. Маці спецыяльна не зашчапіла дзверы, ведаючы, што ён зойдзе. Спіць Васілёва сям'я. Пасапваюць насамі, нават злёгку пахрапваюць, браты, якія кладуцца на дашчаным палку, прыладжаным паміж ложкам і печчу. Маці з маленькай сястрой на ложку. Бацька на дзяжурстве, у начной змене.

— Выпі малака,— напаўголасу азываецца маці з ложка.— Я гладышак на паліцу паставіла. Грошы ў прыскрынку ў платочак загорнуты.

Маці заўсёды так — спіць і не спіць. Заўсёды яна на варце — самы нязначны шорах, і яна чуе.

Нарэшце Васіль выбіраецца з хаты. Ціхая жнівеньская ноч вісіць над мястэчкам. Людзі спяць. Кампаніі, якія звычайна збіраюцца на лавачках, сядзяць, перамаўляюцца да позняга вечара, разышліся. Нават запозненую парачку не сустрэнеш.

У начную пару і Чыгуначная вуліца, на якой жыве Васіль, і галоўная Савецкая здаюцца прыгожымі, нават нейкімі таямнічымі. Днём прыгажосць і таямнічасць знікаюць. Стаяць звычайныя, вясковага выгляду хаціны, дамкоў, у якіх пафарбаваны аканіцы, зроблены франтончыкі і іншыя аздобы, у мястэчку мала, калі не лічыць гарадка, а двухпавярховых цагляных будынін толькі тры — школа, дзе вучыцца Васіль, памяшканне райвыканкама і яшчэ дом на станцыі.

Бадай, толькі зелень ратуе мястэчка. Садоў не густа, але дрэвы ёсць у шмат якіх дварах і нават на вуліцы — бярозы, клёны, і асабліва многа таполяў.

Добра думаецца ноччу, калі ў адзіноце брыдзеш па вуліцы. Чаму людзі спяць? Сэрца ж не спыняецца і ў сне, б’ецца, няхай сабе і марудней. І ўвогуле, што такое сон?

Васілю здаецца, што людзі проста прызвычаіліся да з’явішчаў, прадметаў, якімі поўніцца жыццё, таму прымаюць усё, як ёсць. А задаць пытанняў можна колькі хочаш. Чаму дрэва расце — можна спытаць, і, мабыць, самы вялікі мудрэц на гэта не адкажа. У падручніку батанікі напісана: дзеляцца клеткі, ёсць узыходзячыя, нізыходзячыя токі, лісцем дрэва асвойвае сонечнае святло, вуглякіслы газ, карэннямі — вільгаць, спажыўныя рэчывы. А скажыце, калі ласка, дзе сіла, якая ўсім гэтым кіруе? Якая прыводзіць у суладнасць усе працэсы? Павінна ж быць штосьці такое, што яднае ў адно чыннасць ліста, галін, карэнняў, гоніць дрэва ў рост?..

Тым часам Васіль падышоў да ўнівермага. Так і ёсць, ён не першы. Ля ганка ўжо варушацца постаці. У купцы трое: дзве незнаёмыя кабеты і дзядзька. Васіль чацвёрты. Зрэшты, гэта не так кепска.

Васіль павітаўся, спытаў, за кім яго чарга. Дзесьці ў суседнім двары праспявалі пеўні. На зыходзе лета ночы не надта цёплыя. Калі Васіль ішоў, холаду не адчуваў, а стаяць

зябкавата. Цёткі з дзядзькам разумнейшыя: прыхапілі апранаху.

Васіль сюды-туды прахаджваецца, прыслухоўваецца да гаворкі. Адна з цётак расказвае пра нейкага кладаўшчыка, якому далі год прымусоўкі, і вельмі лае яго жонку. З яе апавядання вынікае, што кладаўшчык вельмі любіў жонку, не даваў ёй прыткнуцца ні да якой работы, а жонка, пасля таго, як мужа павезлі, прывяла другога...

Васіль любіць такія размовы. Непаспешлівыя, спакойныя, яны вабяць акрэсленасцю ў асуджэнні зла, у чым бы яно ні праявілася. На адну гісторыю нанізваецца другая, упамінаюцца іншыя падобныя выпадкі вядомыя і невядомыя тым, хто гаворыць і слухае,— цячэ гаворка, нібы звілісты, пакручасты ручаёк. Васілю іншы раз здаецца, што бывалыя, старэйшыя за яго людзі ведаюць нешта такое, чаго ніколі не будзе ведаць ён. Яны асабліва не здзіўляюцца з самых неверагодных гісторый, нібы наперад пагаджаючыся, што ўсё на свеце можа быць.

Прыйшлі яшчэ двое, і Васілю робіцца весялей: ён не апошні.

Ён так і бавіць час: слухае размовы, патрошку прахаджваецца, думаючы аб сваім, успамінае.

Калі на ўсходзе прабілася ледзь прыкметная, светлая палоска зары, людзей сабралася дзясяткі тры, і ўсе пасталі ў ланцужок ля сценкі магазіна. Васілю яшчэ хапіла месца на ганку, ён у ліку першых. Творыцца звычайнае: некаторыя прыходзяць, займаюць чаргу і зараз жа адыходзяць. Яшчэ можна паспаць гадзіны дзве-тры, неабавязкова тырчаць ля магазіна. Ужо і знаёмыя паявіліся: дзве дзяўчыны з дзявятага класа, якія вучацца разам з Надзяй Мядзёлкай, і бялявы, плячысты дзесяцікласнік Мікола Райдун. Мікола іншы раз прыходзіць да Сцяпана Броньکі, таму і з Васілём запанібрата.

Зоркі між тым пачынаюць бляднець. Па дварах яшчэ пануе паўзмрок, а ўжо ўсчынаюць безупынную гаворку вераб'і. Але вось рыпнуў недзе калаўрот калодзежа, замычала карова, нехта, гучна гахаючы, сячэ дровы — мястэчка, хоць і паволі, пачынае прачынацца. А людзей у чарзе прыбаўляецца. Чарга ўжо выцягнулася як змяя, і хвост яе мінуў межы магазіна.

Прайшоў статак. Нізкаь рослы, шустры пастух, забегшы наперад, гучна ляснуўшы пугай, адразу завярнуў яго ў бакавую вуліцу. На ваколіцу пагнаў.

Яшчэ праз нейкі час Васіль убачыў першакласнікаў. Ідуць гаманлівай купкай, у каго за плячамі самаробная сумка, хто кнігі, чарнільніцы нясе ў руках. Васілю аж горка стала. Некалі — здаецца, цэлая вечнасць мінула — сам ён вось так ішоў у школу. Але яго першы паход скончыўся няўдала. Васіль падахвоціўся запісацца ў школу разам з суседскім хлопцам Адамам, бо ўмеў чытаць, лічыць да тысячы, а Адам ледзьледзь бэкаў па складах. Адама між тым у школу прынялі, Васіля — не. Не хапіла трох месяцаў да васьмі гадоў. Васіль яшчэ тыдні два проста так наведваў школу, сядзеў за партай, але настаўніца яго не выклікала, не давала ніякіх заданняў, і ён перастаў хадзіць.

Тое, як пайшоў у школу на наступны год, Васіль не запомніў.

Перад магазінам ужо вялізны, шматгалосы натоўп. Прадчуванне не падвяло: не пашэнціла Васілю. Бяда здарылася тады, калі магазін сталі адчыняць. Васіль стаяў на ганку ля дзвярэй, прыйшлося пастараніцца, тым часам на ганак ірванулі тыя, хто наогул не стаяў у чарзе, і Васіля адціснулі. Ён штосілы стараўся пралезці праз натоўп, каб праскочыць у магазін, не шкадаваў локцяў, але ў гэты момант яго схапіў за каўнер міліцыянер. Схапіў груба — аж гузікі з сарочкі паляцелі — вывалак з натоўпу і, не слухаючы ніякіх довадаў, не адпускаў да таго часу, пакуль палавіна чаргі не праскочыла ў магазін. Як жуліка трымаў. Лічыць, што навёў парадак...

Крыўда душыла Васіля. Прастаяў усю ноч, і такі канец. Тым болей што яго ганьбу бачылі дзевяцікласніцы, якія вучацца разам з Надзяй Мядзёлкай. Разнясуць на ўсю губерню. Васіль, дрыжучы ад гневу і ўзбуджэння, пабрыў дамоў.

Хоць быў першы дзень заняткаў, Васіль у школу не пайшоў.

Вечарам да Васіля завітаў Мікола Райдун. Ніколі не хадзіў, а цяпер наважыў.

— Прозвішча таго міліцыянера Сідорык,— паведаміў Васілю.— Я спецыяльна дазнаўся. Ты так дзела не астаўляй. Напішы ў газету. Я магу таксама падпісацца.

Што ж, у Міколы добрае сэрца. Але Васіль сам напіша. Не трэба ніякіх сведак.

У той жа вечар Васіль напісаў ліст у рэдакцыю абласной газеты, аднёс на станцыю і кінуў у паштовую скрынку.

І адразу як бы лягчэй стала дыхаць...

## IV

Іван Скварчэўскі — таварыш нажыты, са Сцяпанам Бронькам Васіль сябруе з незапамятнага часу. Дом Бронькаў прыкметны, крыты чарапіцай, стаіць павернуты да вуліцы бакавымі вокнамі. Цёмнай чарапіцай на даху нават лічбіна пракладзена — 1929. У гэтым годзе дом пабудаваны.

І сям'я Бронькаў вялікая — васьмёра дзяцей. Адна дзяўчынка нарадзілася хворай — у яе галава большая за астатняе цела. Дзяўчынка ляжыць не ўстаючы, у ложку, пазірае глыбокімі, сумнымі вачамі на ўсіх, хто падыходзіць. Астатнія Броні — хлопцы і дзяўчаты — незвычайна шустрыя, крыклівыя, лямант у доме стаіць з раніцы да позняга вечара.

Але Васілю, відаць, і падабаецца лямант. З таго часу, як трохі падрос, яго як магнітам цягне да Бронькаў. Тым болей што жывуць яны блізка — праз пяць хат. Не вельмі Васілёвым наведванням радуюцца меншыя Сцяпанавы браты і сёстры, бывае, падкалваюць, дражняць, крыўдзяць — яны ўсе, як на падбор, языкатыя, але ён не зважае. Ды ён і не з імі сябруе, а са Сцяпанам.

Сцяпан у сям'і старэйшы, разумнейшы. Ад першага да дзясятага класа вучыцца на пяцёркі, у той час як браты і сёстры звычайным тройкам рады.

Стары Бронька — чалавек не гаманкі, хмуры. На яго падлобістым, татарскага выгляду абліччы рэдка цвіце ўсмешка. У свой час Якім Бронька — так завуць Сцяпанавага бацьку — арганізоўваў калгас, хадзілі чуткі — запускаў руку ў грамадскае дабро. Так гэта ці не, Васіль не ведае, але ў калгасе Якім Бронька доўга не ўтрымаўся. Гандляваў у краме, быў на іншых невысокіх пасадах, цяпер адпускае на нафтабазе гаручае трактарыстам і шафёрам. У апошні час нават выпіваць стаў.

А Сцяпан Бронька — таварыш харошы. Усе тыя кнігі, якія меў сам, даваў Васілю, нават падручнікі па рускай і беларускай літаратуры даваў, і матэрыял, які праходзяць у сёмым класе, Васіль ведаў у пятым. Дзякуючы Бронькам ён увогуле прылучаўся да шырокага свету.

У апошнія гады Бронькавай сям'і за мнагадзетнасць даюць па дзве тысячы рублёў дзяржаўнай дапамогі. Грошы ідуць не толькі на яду і вопратку. У Броньki раней, чым у каго іншага, паявілася радыё, і патэфон яны купілі, да якога ёсць шмат пласцінак. Патэфон не сціхае ад ранку да вечара, іголкі прытупіліся — іх спецыяльна войстраць аб брусок — дый пласцінкі, папяровыя мяшочкі ад якіх даўно зніклі, тручыся адна аб другую, абшарпаліся. Круцячыся на дыску патэфона, яны моцна шыпяць. Але ўсё адно дзякуючы Броньkаваму патэфону Васіль ведае нямала песень, мелодый з опер.

Вядома, вывучаць нямецкую мову Сцяпан згадзіўся з ахвотай. Нават упрошваць не прыйшлося. Сам прапанаваў збірацца ў яго хаце па тры разы на тыдзень.

Сцяпан наогул вельмі практычны. Дзейсны, рухавы, ён нават знешне, на сваіх трохі крываватых нагах не проста ідзе, а як бы ляціць, размахваючы рукамі, нібы вятрак крыллем. Сёлета збіваў скрынкі пад памідоры, яблыкі. За скрынку плоцяць па трыццаць капеек, так што Сцяпан выганяў у дзень амаль па дзясятцы.

Вучыцца Сцяпан таксама адмыслова: вядзе канспекты па кожнаму прадмету, няхай гэта батаніка, заалогія ці геаграфія. Калі настаўнік робіць малюнак на дошцы, то такі ж малюнак будзе і ў Сцяпанавым сшытку. Змест прачытаных кніг Сцяпан занатоўвае ў тоўсты, агульны сшытак, дадаючы ўласныя заўвагі.

Такіх сшыткаў набралася з дзясятак, Сцяпан іх звязаў шпагатам і хавае ў сундучку.

У школе — свае, школьныя правадыры, і Сцяпан адзін з іх. Ён старшыня савета Асаавіяхіма, кіруе здачай норм на абаронныя значкі ППХА, ГСА, ГПА, ЮВС і ВС. Атрымаць такія значкі — вялікі гонар, таму Сцяпана ў школе ведаюць.

Васіль нават думкі не дапускаў, што нямецкая мова — прадмет, якім усе пагарджаюць,— можа так захапіць. Аказваецца, захапіла. Ён раней увагі не звяртаў на нямецкі падручнік,

тым болей на той, па якім пяцікласнікі толькі вучацца чытаць. Цяпер проста глытае параграфы, якія яны, трое дружбакоў, умовіліся вывучыць, стараючыся запомніць усе словы,— назоўнікі, дзеясловы, прыметнікі.

Хлопцы цяпер і са школы разам ідуць, каб праэкзаменаваць адзін другога. Заданне цвёрдае — ведаць усе словы, якія трапляюцца ў пройдзеным матэрыяле.

— Як будзе лес? — пытае Бронька.

— Wald,— адказвае Іван. На артыклі сябры пакуль не звяртаюць увагі.

— Рэчка?

— Fluss.

— Поле?

— Feld.

— Можна сказаць і «Flur»,— умешваецца Васіль.— Яно азначае — ніва.

— Не лезь наперад бацькі! — абсякае Сцяпан.— У тэкстах такога слова няма.

Хлопцы шпыняюць адзін другога пытаннямі, патрабуючы назваць слова па-нямецку ці, наадварот, вызначыць сэнс нямецкага. І ёсць цікавасць, захапленне, нават палымяны запал у такіх вось занятках. Тым болей што ніхто пра іх не ведае.

Сябры выпісалі з Масквы нямецкія бібліятэчкі, якія мусяць прыйсці на пошту наложным плацяжом. Але і без бібліятэчак, па падручніку пятага класа дзела спорыцца. Словы нямецкія зрэшты ва ўсіх кнігах аднолькавыя.

Да Сцяпана часцяком, асабліва ў нядзелю, калі ўрокаў няма, прыходзяць хлопцы-дзесяцікласнікі. Выдыбаючы па хаце, расказваюць розныя гісторыі, залівіста рагочуць. Здаецца, усё іх жыццё складаецца з таго, каб сабрацца гуртам, павандраваць па вуліцах, вось гэтак парагатаць. Дзясяты клас, ведаючы пра хуткае расстанне з мястэчкам, незвычайна з'яднаўся. Дзесяцікласнікі — хлопцы і дзяўчаты — не дапускаючы ў свой круг нікога староннягa, нават у лес разам ходзяць. Прыносяць адтуль і садзяць каля школы дрэўцы, розныя кусты.

У Васіля — вострая цікавасць да дзесяцікласнікаў. Іхні клас не толькі вельмі дружны, ён адметны яшчэ і другім. У

мястэчку нямала прыезджых людзей — некаторыя займаюць даволі высокае службовае становішча. Іх дзеці лепей апранаюцца, у іх інакшая гаворка, і наогул неяк выдзяляюцца яны ў школьным гурце. Дзясяты клас напалавіну ствараецца іменна з такіх.

Калі, прыходзячы да Сцяпана, Васіль застае кампанію дзесяцікласнікаў, той трохі моршчыцца. Яму, відаць, не даспадобы, што дружбу с васьмікласнікам бачаць старэйшыя хлопцы. Васілёў гонар зневажаецца, але нічога не зробіш. Васіль не можа не хадзіць да Бронькі.

У школе тым часам навіны, перамены і нават вялікія. Вясной і ў пачатку верасня забралі ў армію некалькі настаўнікаў. Цяпер на іх месца прыслалі новых.

Васілю асабліва шкада настаўніка геаграфіі. Антон Антонавіч Грак быў выдатны выкладчык, хоць з выгляду не надта кідкі — маленькі, чорны, з вузкім, нібы гарохавы струк, тварам. Знешнасцю, голасам ён нібы апраўдваў прозвішча — гаварыў скрыпуча, нібы каркаў.

Але гэтым сваім непрыемным голасам Антон Антонавіч тварыў цуды. Здаецца, ведаў зямны шар, як уласную кватэру,— так маляўніча расказваў пра кожны куток зямлі, горны масіў, раку.

Антон Антонавіч разы два з'явіўся на ўроках — стрыжаны, мізэрны без свае чорнай чупрыны — і знік. Адтэрміноўкі ваенкамат не даў.

Эканамічную геаграфію ў восьмым класе цяпер вядзе новы настаўнік — прылізаны, прычэсаны, у модным касцюме, з пярэстым гальштукам. Але на ўроках мухі дохнуць. Новы географ сыпле лічбамі, нудна пералічвае, што ў якім горадзе выпрабляюць,— дзе крухмал і патаку, дзе тэкстыль, сельскагаспадарчыя машыны. Фантазіі не мае ні на грош.

Васілю не хапае і Георгія Канстанцінавіча Сакаловіча, які, калі Васіль вучыўся ў пятым класе, выкладаў рускую мову і літаратуру, а ў сёмым — беларускую. Але ён пераехаў у другое месца, пакінуўшы школу па іншай прычыне.

Сакаловіча Васіль памятае яшчэ з дзяцінства. Калі арганізоўвалі калгасы, ён быў старшынёй сельсавета, ездзіў на прыгожай кабыле Ластаўцы, вогненна-гнядой, з белымі

падпалінамі на нагах і на лбе. Ведаў па прозвішчу кожнага местачкоўца, кожнага жыхара з суседняй вёскі Алешкі, саўгаса і торфазавода — яны ўваходзілі ў сельсавет.

З сельсавета Георгій Канстанцінавіч перайшоў у школу. Васіля дый, бадай, увесь пяты клас навучыў граматна пісаць па-руску за год. Сакаловіча ў школе баяліся, пра жорсткасць ягоную хадзілі легенды. Але Васіль якіх-небудзь праяў жорсткасці з боку настаўніка не бачыў. Высокі, падцягнуты, з чарнявым строгім тварам, Сакаловіч заходзіў у клас, і вучні застывалі ў нямым маўчанні. Настаўнік не наводзіў ніякай дысцыпліны, цішыні, яна ўсталёўвалася сама сабой.

Тлумачыў Сакаловіч так, што самае складанае, заблытанае станавілася да празрыстасці ясным.

«Фальклор — гэта вусная народная творчасць,— паведаміў настаўнік пятаму класу, прыйшоўшы на першы свой урок.— Вы чулі песні, якія маці спявала, думаю, казкі слухалі — дзед расказваў ці бацька. Вось гэта і ёсць фальклор. Зразумелі?»

Не зразумець было проста немагчыма. За пісьменнасць Сакаловіч змагаўся дыктоўкамі. Можа, сотню дыктовак правёў ён у той год у пятым класе.

Летам, калі Васіль перайшоў у шосты клас, здарылася незразумелае. У раённай газеце — цэнтр раёна знаходзіўся тады ў суседнім гарадку — паявіўся артыкул пад гучнай назвай — «Банда шкоднікаў у школе».

Прачытаўшы артыкул, Васіль вачам не паверыў. Аказваецца, ледзь не палавіна настаўнікаў не столькі вучылі, колькі ўсялякімі захадамі, хітрыкамі зрывалі навучальны працэс. Інакш не маглі паступаць, бо вельмі ж цёмнае іх мінулае: дырэктар школы Зыль — царскі афіцэр, настаўнік Сакаловіч — сын жандара, і ў такім тоне яшчэ пра некалькіх настаўнікаў. «У школе арудуе памешчыца Ясінская»,— было напісана пра выкладчыцу нямецкай мовы Вольгу Уладзіміраўну. Як магла арудаваць ціхмяная, пакорлівая настаўніца, якой ніхто не слухаў, не баяўся, што зламыснае здолела ўчыніць, Васіль не ведаў.

Пасля артыкула Зыля і Сакаловіча арыштавалі. Месяцаў праз колькі іх выпусцілі, бо абвінавачанні не пацвердзіліся. Зыль, аказваецца, быў ваенным лётчыкам, а ўсе лётчыкі ў царскай арміі мелі афіцэрскія званні, у грамадзянскую вайну

ваяваў на баку чырвоных. Сакаловіч жа з бацькам не меў нічога агульнага — вельмі рана пайшоў на ўласны хлеб.

Зыль са школы з'ехаў адразу, Сакаловіч яшчэ год працаваў.

Васіль наогул не любіць успамінаць той час, бо многае не ўкладваецца ў свядомасці. Тварылася нешта незразумелае, цёмнае,— прыходзілі на ўрок настаўнікі, загадвалі заклеіць у падручніках партрэты вядомых пісьменнікаў, маршалаў або нават вырваць старонкі, дзе ішла пра іх гаворка. Добра, што тое незразумелае мінулася.

Восень адметная стаіць. Цёпла, хораша, днём — негарачае сонца, незвычайная празрыстасць паветра, у якім на дзіва выразна праглядваюць абрысы будынкаў, купы дрэў — з вышыні другога школьнага паверха вельмі добра відаць ваколіцы мястэчка.

У Васіля на душы пачуццё ціхмянасці, зладжанасці, спакою. Думкай ён спрабуе перакінуцца ў наступны верасень, калі Іван са Сцяпанам з мястэчка паедуць, ён астанецца адзін, будзе адзін хадзіць у школу, глядзець на школьны двор, на маладыя таполі, акацыі, якія толькі-толькі падымаюцца, і ловіць сябе на адчуванні, што не можа ўявіць такі малюнак. Думка, уяўленне як бы блукаюць у беспаветранай прасторы, наперадзе — белая пляма, пустата...

Бяруць навабранцаў у армію, і з гэтай прычыны нават апошні ўрок адмянілі. Справа ў тым, што ў школе ёсць два добраахвотнікі. Ёська Шнэйдэрман з дзявятага класа падаў заяву аб жаданні датэрмінова прайсці воінскую службу, Мікалай Сянчук з дзясятага — ідзе ў лётнае вучылішча.

Навабранцаў праводзяць урачыста. У раённым Доме культуры — ён размяшчаецца якраз насупраць школы — наладжана ўрачыстае пасяджэнне, выступаюць прамоўцы, паказваецца мастацкая самадзейнасць. А каля клуба аж заліваюцца гармонікі. Як танцаваў у той дзень Ёська Шнэйдэрман! Ніхто нават не здагадваўся, што ён тоіць у сабе такія таленты. Школьнікі спецыяльна ўтварылі вялікі круг, і Ёська хадзіў па ім чортам, пускаўся ўпрысядкі, нават на руках танцаваў, капаючы носам зямлю.

Мікалай Сянчук — наадварот, ціхмяны, прыгожы хлопец з завіткамі светла-русявых валасоў на ладнай галаве,

блакітнымі, як летняе неба, вачамі. Ніхто ніколі не думаў, што ён адважыцца паступаць у лётнае вучылішча. Аднак адважыўся. Летам патаемна ад таварышаў ездзіў здаваць экзамены, прайшоў паспяхова і вось цяпер атрымаў выклік у вучылішча.

Васіль гэтым выпадкам проста ўражаны. Мікалай прыходзіў да Сцяпана, маўчаў, пасміхаўся, ніколі ў спрэчкі не ўступаў. Думаў, здаецца, толькі пра ўрокі. Яму цяжка давалася руская мова, і ён любіў услых паўтараць выключэнні з правіл: «яблонька, кухонька, деревенька...». Вось вам і «деревенька». Многа ёсць таямніц у юнацкіх душах!

У восьмым класе матэматыку праходзяць, пачынаючы з шостага класа. Вядзе яе цяпер Антаніна Хвядосаўна Білецкая, настаўніца талковая, уладная, вострая на язык. Яна жонка дырэктара дзесяцігодкі Мікалая Карлавіча, не ў прыклад ёй задуменнага, засяроджанага, у душы, здаецца, мякчэйшага за жонку. Дырэктар ва ўсіх класах выкладае біялогію, трошкі прыцмокваючы языком, дакладна даводзіць пра жыццё туфелек, інфузорый, членістаногіх, а цяпер, на ўроках па анатоміі і фізіялогіі чалавека,— пра ролю ўнутраных органаў.

Антаніна Хвядосаўна таксама прыхільніца дакладнасці. Дробязей не прапускае. Не памятаеш элементарнага правіла, формулы — садзіся, двойка. Яна навылёт бачыць кожнага школьніка: дзякуючы сваёй жаночай цікаўнасці, ведае ўсё пра ўмовы яго жыцця, нават бацькоў вельмі добра ведае.

Зрэшты, добра, што прыйшла Антаніна Хвядосаўна. За алгебру, геаметрыю восьмы клас цяпер возьмецца!..

У шостым, сёмым з гэтымі прадметамі была проста камедыя. Прыйшоў выкладаць іх настаўнік Мялешка — высокі, хударлявы, з доўгім, кручкаватым носам на жоўтым насмешлівым твары. І з першай хвіліны клас зразумеў, што ён за птушка.

Замест таго, каб праверыць, хто ёсць у класе, каго няма, Мялешка чамусьці выцягнуў з кішэні ключ, ушчаміўшы яго між зубоў, стаў пахаджваць па пакоі.

— Хто ведае формулу квадрата сумы, няхай ідзе да дошкі! — сказаў ён.

Ахвотнікаў не знайшлося, тады настаўнік напісаў формулу на дошцы сам.

— Перапішыце ў сшыткі, і каб як рэпу грызлі!

На першай парце сядзіць другагоднік Мірон Мацко. Ён ніколі нічога не ведае.

— Ідзі да дошкі, напішы формулу.

Мірон, прыхапіўшы сшытак, ідзе да дошкі, выводзіць формулу. Мялешка ставіць яму «выдатна». Клас нямее ад здзіўлення. Ніхто ніколі не ставіў Мірону нават «добра».

З гэтага пайшло. Тыя, хто хоча атрымаць адзнаку, падрыхтаваўшы наперад шпаргалку, падымаюць руку, выходзяць да дошкі і тыдні два, а то і месяц за алгебру не бяруцца.

Калі матэрыял цяжкі, дзяўчаты наогул уцягваюць Мялешку ў якую-небудзь размову, і ён у яе ахвотна ўступае. Здаецца, з настаўнікам здарылася ў жыцці нешта надта благое, на ўсё ён глядзіць насмешліва, скептычна, думкамі лунае ў паднябессі, да класа, алгебры яму няма ніякай справы.

Зрэшты, скончылася ўсё горш не прыдумаеш: выпускны сёмы клас, за выключэннем двух-трох чалавек, кантрольную па алгебры праваліў.

Чуткі пацвердзіліся: за навучанне ў старэйшых класах трэба плаціць. Грашам, якія Васіль зарабіў на касцюм, ёсць месца. І не толькі ў школе такія парадкі, а і ў вышэйшых навучальных установах, дзе плата яшчэ большая, а стыпендыю будуць атрымліваць толькі выдатнікі.

Новы парадак адразу дае вынікі. З інстытутаў Мінска, Масквы вяртаецца некалькі местачкоўцаў, якія паспелі скончыць па два, нават па тры курсы. Адзін у школе ўжо выкладае фізіку, астатнія прыткнуліся хто дзе.

## V

Вечары цёплыя, нейкія лагодна задуменныя. Перш чым пасля ўрокаў разысціся па хатах, сябры блукаюць па прыцемненых вуліцах, зазіраюць у гарадок, на станцыю. Хлопцы нават самі не спадзяваліся, што вывучэнне нямецкай мовы пойдзе так імкліва. Канчаюць падручнік за пяты клас, а гэта пяцьсот слоў, якіх яны раней не ведалі, не збіраліся запамінаць.

Цяпер, калі сябры назапасілі слоў, вывучэнне мовы ідзе па іншаму спосабу.

— Як па-нямецку зямля? — пытае Іван.

— Der Boden,— Сцяпан, як руплівы гаспадар, і артыклі запамінае.

— Можна сказаць «Land»,— дабаўляе Васіль.

— Land — краіна,— пярэчыць Сцяпан.

— Паглядзі ў слоўнік! — Васіль ведае, што верх за ім будзе, бо загадзя ў слоўнік зазірнуў.— Толькі не ў той, што ў пятым класе.— Land азначае краіна, зямля і нават вёска.

— Выхваліцца хочаш. Давай спачатку лікбез пройдзем.

— Як вада? — дапытвае Іван.

— Wasser,— слова яшчэ ў пятым класе запомнілі.

— Неба?

— Himmel,— таксама дружны адказ.

— Паветра?

Слова не ведае ніхто. У тэкстах для пятага класа яго няма. Але гэта не страшна — вывучаць. Галоўнае — прага на словы прыйшла. Цяпер проста хочацца ведаць, як будзе па-нямецку рука, нага, галава, вочы і наогул як называюцца рэчы, якія акружаюць цябе кожны дзень.

Вандроўкі па вячэрнім мястэчку робяцца, мабыць, не толькі дзеля вывучэння мовы. Жыццё ідзе сваім парадкам: на лавачках сядзяць, перашэптваюцца парачкі, у расчыненым акне відаць постаць маладой жанчыны. Яна перад люстэркам расчэсвае валасы, у наступнай хаце вясёлае застолле. Песня пра харобрага атамана Сценьку Разіна і персідскую княжну, якую ён кінуў у рачную хвалю, разлягаецца далёка за межамі панадворка.

Васілю прыемна-неспакойна ў такія вечары. Душа поўніцца ўдзячнасцю да сяброў, якія ідуць побач, пасвячаюць у свае тайны, не грэбуюць ім, васьмікласнікам. Смутак і радасць жывуць у глыбіні істоты адначасна, хочацца зрабіць нешта адметнае, незвычайнае, што здзівіць усіх, кудысьці пайсці, нешта некаму расказаць.

У правулку, які выходзіць на Чыгуначную вуліцу, кватаруе новая біялагічка, якой Білецкі — дырэктару цяжка весці ўсе

класы — саступіў батаніку і заалогію. Яна таксама пакінула інстытут, бо аднялі стыпендыю, не было як вучыцца. Аднойчы біялагічка пайшла дамоў разам з хлопцамі. Нямецкіх слоў пры ёй, вядома, не паўтаралі.

— У Мінску хораша цяпер,— даверліва сказала настаўніца.— У парках музыка, песні. Успомню і плакаць хочацца.

Васіля ўразілі яе словы. Настаўніца — і так шчыра размаўляе з імі, вучнямі. Зрэшты, біялагічка на настаўніцу мала падобна. Чарнявенькая, кругленькая, маленькая ростам. У восьмым класе ёсць дзяўчаты, большыя за яе.

На развілку вуліцы стаіць слуп з падвешаным электрычным ліхтаром. Пад ліхтаром дружбакі якраз развітваюцца з настаўніцай.

— Вы на Ясеніна падобны,— раптам сказала біялагічка, злёгку даторкнуўшыся да Васілёвай рукі.— Ведаеце, быў такі паэт. Прыходзьце да мяне,— цяпер яна ўжо звярталася да ўсіх траіх.— Я новыя пласцінкі прывезла. Ясеніна пачытаем. Ясеніна ж у школе не праходзяць...

— Вярціхвостка! — зняважліва буркнуў Сцяпан, як толькі біялагічка схавалася за веснічкамі.

А Васіля як электрычным токам працяло. Настаўніца, якая вучылася ў Мінску, ва ўніверсітэце, выдзеліла не дзесяцікласнікаў — Сцяпана, Івана,— а яго, васьмікласніка. Пра Ясеніна Васіль чуў, але нічога з яго твораў не чытаў і партрэта не бачыў. Трэба як-небудзь знайсці і пaглядзець. І чаму яна так сказала?

Васіль заўсёды любіў Чыгуначны правулак — дамкі фацэтныя, адмыслова пабудаваныя. Наўсцяж стаяць пад дрэвамі, у кожным двары сад. Цяпер, калі ў правулку пасялілася маленькая настаўніца, якая чытае Ясеніна, ён стаў яшчэ больш прывабным, якімсьці загадкава-таямнічым.

А ў школе ладзіцца вялікая ваенная гульня. Сцяпан па некалькі разоў на дзень бегае ў раённы савет Асаавіяхіма. Ён размяшчаецца побач са школай, у двухпавярховым будынку — нават некаторыя ўрокі прапускае. У піянерскім пакоі ляжыць, можа, сотня процівагазаў, некалькі санітарных сумак з індывідуальнымі пакетамі, а таксама драўляныя трашчоткі — яны заменяць кулямёты.

Наступленне, абарона — усё гэта хутчэй для блізіру. Проста асаавіяхімаўскае кіраўніцтва — сам начальнік на гульні будзе прысутнічаць — хоча праверыць, ці ўмеюць школьнікі карыстацца процівагазамі, індывідуальнымі пакетамі. Пасля гэтага выдадуць значкі.

Гульня намечана начная. Вечарам калона — у ёй старшыя класы ад восьмага да дзясятага, хлопцы, дзяўчаты разам — выстраілася роўненька на школьным двары.

Васіль любіць хадзіць у калонах. Калі вучыўся ў малодшых класах, першамайскі, кастрычніцкі мітынгі заўсёды заканчваліся дэманстрацыямі па вуліцах мястэчка. Трашчалі барабаны, звінелі гармонікі, шасцелі на ветры сцягі, палотнішчы лозунгаў, узнятыя на двух дрэўках; людзі неслі транспаранты, партрэты правадыроў, многія апранулі святочныя вопраткі, прышпілілі чырвоныя банты. Усё гэта ўздымала дух, бунтавала кроў. Пачуцці, імкненні абвастраліся. Здавалася, не будзе ў жыцці ніякіх перашкод для бясконцых шарэнгаў. Але ў апошнія гады дэманстрацыі не праводзяцца. Толькі мітынгі.

Тым часам калона рушыла са школьнага двара. У галаве яе асаавіяхімаўскі кіраўнік — яшчэ маладжавы, вайсковага выгляду мужчына, некалькі настаўнікаў.

Большая палавіна хлопцаў з процівагазамі цераз плячо, у некаторых дзяўчат — санітарныя сумкі. Барабаны дзесяцікласнікам не падыходзяць, духавога аркестра ў школе няма — толькі струнны. Але ж пад балалайку і мандаліну калоны не маршыруюць.

Настрой і без музыкі прыўзняты. Ноч у лесе, кастры, вогнішчы — без іх не абыдзешся — такога яшчэ не было. Хлопцы навыперадкі сыплюць жартамі, падколваюць адзін другога, дзяўчаты пасміхаюцца.

Калона кіруе да лесу бакавымі вуліцамі, якія ўтварыліся нядаўна, са сселеных хутароў. Трохі раней звычайнага стала шарэць, бо неба — не ў прыклад папярэднім вечарам — зацягнута воблакамі.

Застаюцца ззаду млын — яго выдзяляе высокая з адводамі дратоў труба,— нізкія, нібы хлявы, памяшканні абоднай майстэрні, зарослы купчастымі хвоямі курган могільніка. Тыя,

хто здае нормы на «Варашылаўскага стралка», ходзяць на могілкі страляць з дробнакалібернай вінтоўкі.

Капаюць бульбу, пахне паленым бульбоўнікам. Вогнішчы сям-там дымяць на агародах. Насустрач трапляюцца фурманкі-мажы, паўтаратонкі з даверху засыпанымі бульбай кузавамі. Дзядзькі-калгаснікі са здзіўленнем пазіраюць на шматгалосую калону, якая насупраць ночы бярэцца ў лес.

У гэтым канцы мястэчка садоў нават менш, чым там, дзе жыве Васіль. Па агародах, дварах разгалістыя, высокія, як дубы, ігрушы-дзічкі. Дзічкі цяпер сама даспяваюць, і іх востры церпка-мядзвяны пах змешваецца з пахам бульбы, ускапанай зямлі, сухой пажоўклай травы.

Васіль крочыць побач з Давыдам Лемяшонкам і Андрэем Зубком, сваімі аднакласнікамі, увесь час прыслухоўваючыся да голасу Надзі Мядзёлкі. Яна ідзе ў групе дзяўчат-санітарак дзявятага класа, трымаючы на руцэ лёгкі палітончык. З таго часу, як пачаліся заняткі ў школе, нічога новага ў Васілёвых адносінах з Надзяй не адбылося. Яму хочацца пабачыць яе на перапынку, зрэдку яны перакідваюцца некалькімі словамі — вось такія ў іх адносіны.

У сваім восьмым класе Васіль займае віднае становішча. Ён добра вучыцца, яго нязменна выбіраюць старастай, у апошнія гады ён яшчэ і старшыня савета атрада. Зрэшты, гэта толькі форма, ні на адной з пасад Васіль надта не перарываецца: каму, калі дзяжурыць, вымыць анучку, выцерці дошку, васьмікласнікі самі ведаюць.

А вось насценгазету — рэдактар насценгазеты — трэцяя пасада — Васіль са сваімі памочнікамі Давыдам і Андрэем выпускаюць ахвотна. Гэтай справай яны загарэліся яшчэ ў сёмым класе, і газету зрабілі прыстойную. Вучні — і не толькі васьмікласнікі — чытаюць яе з большай прыемнасцю, чым сумнаватую агульнашкольную.

Як староста і як рэдактар Васіль нікога асабліва не крыўдзіць. Проста яны з Давыдам і Андрэем — болей у насценгазету ніхто, вядома, не піша — звычайныя, вядомыя ўсім факты стараюцца перадаць як можна смяшней. Калі хто ўрок прапусціў, прыдумваюць, дзе такі хлопец ці дзяўчына маглі гуляць, якія сны бачылі; не саромеюцца выдумляць розныя

гісторыі, што нібыта здарыліся з двоечнікамі, падрабязна апісваюць іх надзеі, перажыванні. Іншы раз нават у вершаванай форме.

Давыд добра малюе, насценгазета аж стракаціць ад яго карыкатур. Год назад газета вісела на калідоры, каля яе заўсёды стаяў натоўп.

Цяпер дзяўчаты запратэставалі: калі насценгазета класная, то няхай у класе і вісіць. Васіль згадзіўся. Сапраўды, навошта выносіць з хаты смецце?

Давыд між тым павучае Андрэя:

— Калі ў лесе натрапіш на шпіёна, які будзе выведваць нашы ваенныя тайны, бі каробкай процівагаза па галаве. Абы аглушыць. Мы яго потым звяжам, заткнём кляп у рот...

Андрэй рагоча. Абодва яны, Давыд і Андрэй, вялікія насмешнікі, хвіліны без кепікаў не пражывуць. А па характарах розныя. Давыд сухарлявы, павольны ў рухах, гаворцы, хваравіты ад прыроды — шпількі падпускае спадцішка, захоўваючы на драбнаватым тварыку поўную сур'ёзнасць. Каржакаваты, мітуслівы Андрэй, наадварот,— агонь. Аж кіпіць ад узбуджэння, калі сам гаворыць ці калі слухае каго. Яго галава заўсёды поўніцца фантазіямі, планамі, хоць назаўтра ён пра іх забывае.

Давыдаў, Андрэеў бацькі — чыгуначнікі, і Васілю лёгка з хлопцамі. Андрэеваму бацьку нават адрэзала цягніком нагу, і ён цяпер, хоць і не стары, на пенсіі.

Наперадзе поле. З правага боку пакаты пагорак. На ім калісьці стаяў высокі драўляны маяк. З левага — парослая кустамі, сям-там перабітая асаковымі балацявінкамі лагчына. Дарога віецца лагчынай. За полем чыгуначны пераезд праз ветку-аднапутку на гарадок Хвойнае, за пераездам лес — парослае беразнякамі пнёўе, сасновыя пасадкі, дубовыя гаі. Пачынае цямнець па-сапраўднаму.

— Надзець процівагазы! — чуецца зычная каманда.

Справа не новая, процівагаз Васіль ужо надзяваў. Трэба толькі адпусціць клапан, а то, нацягнуўшы на твар маску, аблііешся потам, задыхнешся. Дыхаць у процівагазе цяжэй, але трываць можна. Хлопцы паўзверх масак яшчэ і шапкі надзелі, і відовішча нязвыклае. Нібы пляцецца зборышча зданяў.

У процівагазах брыдуць нядоўга, хвілін пятнаццаць. Якраз перад пераездам каманда — зняць!.. І адразу свет становіцца другім. Можна дыхаць на поўныя грудзі. Твар абвявае напоены вячэрняй прахалодай вецер, носам чуеш разнастайныя пахі зямлі. Як збавенне, як шчасце!..

Неба паласуюць бліскаўкі. Не надта выбралі прыдатную ноч, каб разгортваць ваенную гульню. Але, можа, і добра, што так. Болей будзе прыгод.

Дальнейшае адбываецца па загадзя намечанаму плану. Калону дзеляць на дзве роўныя часткі — чырвоных і сініх. Сінія мусяць замацавацца ў лесе, трымаць абарону, чырвоныя рушаць на іх у наступ. Падчас наступлення будуць запалены дымавыя шашкі, у гэты момант абодва бакі павінны надзець процівагазы, а ў каго ёсць — нацягнуць супрацьіпрытныя накідкі. Санітары тым часам акажуць першую дапамогу пацярпеўшым. У гэтым сэнс гульні.

Васіль трапіў у сінія. І Надзя — у сініх — палавіна дзявятага класа прылучана да іх. Васіль увесь час сочыць за Надзяй, непаседлівай, імклівай. Болей па голасе, бо ўжо зусім цёмна. Там, дзе Надзя паяўляецца, чутны смех і выгукі.

Пра сапраўдную вайну Васіль не думае. Савецкая краіна такая магутная, што ніхто ніколі не адважыцца на яе напасці. Толькі за апошнія два-тры гады разбілі яцонцаў ля возера Хасан і ля ракі Халхін-Гол, падалі руку дапамогі заходнім беларусам, украінцам, прыбалтыйскія рэспублікі сталі савецкімі. Няма больш на карце заштрыхаванай у жоўтыя пасачкі Бесарабіі як незаконна захопленай тэрыторыі, далі па зубах за злосныя прошукі белафінам, Ленінград цяпер у бяспецы. Гэта што-небудзь ды значыць!..

А ў лесе цёмна. Так цёмна, як рэдка калі бывае, бо неба абложана воблакамі. Пачынае церусіць дождж.

Дзяўчаты трымаюцца бліжэй да хлопцаў. Прызнаюць мужчынскі аўтарытэт. Дзесьці побач звініць голас Надзі Мядзёлкі, і Васілю прыемна.

Камандзірам васьмікласнікаў, паколькі з’яўляецца старастам, прызначан Васіль. Хлопцы выбралі сасновы ўскраек, дзе прыхавацца ад дажджу можна і дзе чырвоных не прапусціш,

калі затрашчаць трашчоткамі і паплыве паласа дыму. Васіль, Давыд і Андрэй прыляглі пад хвояй.

Васіль торгае Давыда за плячо.

— Ты быў у гэтым лесе?

— Быў. А што?

— Нічога. Проста так. Тут блізка наша поле было. Па гэты бок маяка.

— Ну і што? — без падкавыркі Давыд не можа.

— Тое самае. Ты ж у лес не ходзіш. Абабка ад баравіка не адрозніш.

— У супе адрозніваю.

— Тыя, што бацька прыносіць?

— Важны вынік.

— Балбочаце, як цецерукі,— нездаволена кідае Андрэй.— Наглытаемся дыму.

— Думаеш, хлор пусцяць? Ён дорага каштуе.

Дзяўчаты перасмейваюцца побач.

Нарэшце ў бярэзніку ўсчынаецца рух. І адначасна чуваць гул на чыгунцы — прыбліжаецца цягнік, ідзе на Хвойнае. Значыць, толькі палавіна адзінаццатай. Васілю здавалася, што ўжо глыбокая ноч. Рэха ўсё гусцей разлягаецца па лесе.

— Надзеньце процівагазы! — крычыць Васіль, уваходзячы ў ролю камандзіра.— Пад шумок набягуць і засякуць. Скажуць — ляжалі без процівагазаў. Будзе звону!..

— Не буду надзяваць! — даносіцца голас Надзі Мядзёлкі. Яна дзесьці блізка, пад суседнімі соснамі.— Наступленне не пачалося...

— Не надзявай, ты не наша!

Гул цягніка аддаліўся, і цяпер выразна чуваць, як трашчаць трашчоткі. Яны ўжо блізка. Нарэшце ўзвіваецца ў неба зялёная ракета. На імгненне яна застывае, затым, рассыпаючыся на бліскучыя асколкі, асвятляе наваколле. Між кустоў мільгаюць цёмныя постаці — дзясяты клас пайшоў у наступленне. У адказ затрашчалі дзевяцікласнікі. Васіль адчуў, як затахкала сэрца, нацяліся мускулы, забунтавала кроў. Відаць, так вось бывае на сапраўднай вайне.

— Надзець процівагазы! — гучна, па-вайсковаму крычыць Васіль.

Перасунуўшы каробку на жывот, нацягнуўшы на твар гумавую маску процівагаза, ён падхопліваецца. Ён усё-такі камандзір і павінен далажыць вышэйшым камандзірам, што восьмы клас сустрэў праціўніка ва ўсеўзбраенні, у поўнай гатоўнасці адбіў хімічную атаку.

Праходзіць хвілін некалькі. Дзевяцікласнікі безупынна трашчаць. Нарэшце праскаквае ланцуг наступаючых, чуваць вясёлыя галасы, выгукі. Услед, пабліскваючы кішэннымі ліхтарыкамі, ідуць інструктары: правяраюць вынікі. Васьмікласнікі тым часам ляжаць пад соснамі, чакаюць.

Васіль з інструктарам — маладым яшчэ хлопцам — абходзіць пазіцыю.

Восьмы клас не схібіў. Усе, каму выдадзены процівагазы, надзелі іх правільна, карыстацца ўмеюць. Так сказаў асаавіяхімаўскі інструктар. Падсвечваючы сабе кішэнным ліхтарыкам, ён запісвае прозвішчы ў блакнот.

Вось і скончылася вайсковая гульня. Васілю аж сумна стала. Варта было перціся за пяць кіламетраў у начны лес, каб толькі надзець і зняць процівагазы.

Раптам Васіль чуе каля сябе звонкі голас Надзі Мядзёлкі:

— Ты паранены! Расшпілі каўнер!..

— Не паранены я,— Васіль нават збянтэжыўся.— Мы адбілі атаку...

— Будзе санітарная праверка,— Надзя проста дыхае яму ў твар, шчакой ён чуе дотык яе валасоў.— Я хачу табе шыю забінтаваць...

Яна з хрустам разрывае індывідуальны пакет, дакранаючыся цёплымі пальцамі да скіўіцы, падбароддзя, лоўка і спрытна бінтуе. Васіля аж дрыжыкі б'юць.

«Дзіўна,— думае ён, адчуваючы незвычайнае ўзрушэнне,— яна сказала, што ў мяне прыгожая шыя, а цяпер яе бінтуе. Хоча, каб у шыю паранілі? Самае небяспечнае месца. Калі трапіць куля, не здолею дыхаць...»

Яму сапраўды нібы зацінае дыханне. Але не ад павязкі. Яна амаль не ціснe. Ноч, сосны, лес і побач Надзя. Ён і ў сне такога не бачыў. Ён чуе пах яе валасоў, усю яе, таксама нацятую, напружаную. Нарэшце яна завязала вузельчык, прыціснулася ўшчыльную, каб абарваць канцы яго зубамі.

Сваімі грудзьмі ён адчувае яе тугія грудзі, чуе, як часта, трывожна б’ецца яе сэрца. Нарэшце — гэта яму зусім не здалося — яна нібы знянацку кранаецца губамі яго вуснаў. Дотык нясмелы, палахлівы, імгненны, але ён быў, і Васіль нібы камянее ў здранцвенні.

— Пайшлі! — Яна вядзе яго за руку ў напрамку да вогнішча, якое нехта паспеў раскласці.

У Васіля кружыцца галава, і ўсё, што бачыць, здаецца хісткім, казачным. Школьная фельчарка (яна адначасна і справавод), таўставатая, абыякавая жанчына, стоячы ля кастра, правярае якасць павязак. Шмат «параненых», але найбольш такіх, у каго рана на руцэ. У аднаго павязка на лбе — нават вочы закрыла. Забінтавана шыя ў аднаго Васіля.

А ў лесе ўжо многа вогнішчаў. Крыкам, гоманам, смехам поўніцца лес. Фельчарка, як і асаавіяхімаўскі інструктар, запісвае прозвішчы ў блакноцік. Як толькі запісала Надзю, яна, скочыўшы як каза, пабегла да другога кастра.

Васіль адзін і не ведае, што рабіць. Развязаў вузельчык, зняў павязку, чамусьці схаваўшы бінт у кішэню. Дождж толькі пакрапаў і перастаў. Хмары разагнала. Калі адысці ад вогнішча, нават зоркі на небе відаць. Усё-такі добра, што не было дажджу.

Нарэшце Васіль падышоў да кастра, ля якога Надзя штосьці ўзбуджана расказвае сяброўкам. Але яна цяпер яго не заўважае, не бачыць. Нават у яго бок не глядзіць. Пастаяўшы хвілін колькі, паглядзеўшы, як завіхаюцца хлопцы, цягнучы да кастра хворост, Васіль адышоўся.

Яшчэ праз нейкі час ён узбудзіўся сам, насіўся па лесе, збіраючы сукі, галіны, кідаючы ў зыркае, гарачае вогнішча.

Выдатная, незабыўная ноч!.. Хадзілі на поле, навыбіралі бульбы, а потым пяклі ў прыску. Да таго часу, пакуль на ўсходзе не пасвятлеў край неба, спявалі песні...

Дамоў вярталіся купкамі, без строю. Васіль нават не заўважыў, калі і з кім шуснула з лесу Надзя.

Шчаслівы, перапоўнены незвычайна вострым адчуваннем паўнаты жыцця, яго радасцей, зіхатлівых даляглядаў, якія нібы прыадчыняе будучыня, Васіль ляжыць у хляве на сене. Ён

спіць і не спіць, як бы баючыся ненарокам спудзіць шчасце, якое так нечакана прыйшло, запоўніла істоту. Надзя яго пацалавала, ён і цяпер нібы адчувае дотык яе гарачых губ, пах валасоў, трапяткое біццё сэрца.

Васіль чуе, як маці доіць карову, як выганяе са двара, як прыносіць тоўчанку кабанчыку — усе зыкі, гукі раніцы зліваюцца для яго ў бясконца прыгожы напеў, які звініць у вушах.

Ён нарэшце засынае, як бы і ў сне чуючы працяг песні без слоў. У сне бачыць бясконца залітыя сонцам разліў жытняга поля. Жыта хістаецца пад ветрам. Прачынаецца Васіль ад таго, што маці тармошыць яго за плячо.

— Устань, сынок. Там міліцыянер прыехаў...

У першую хвіліну Васіль у недаўменні: які міліцыянер, што яму трэба?

Але на вуліцы, прывязаны да штыкетніку, стаіць сівы конь пад сядлом, ля паркана пахаджвае высокі, плячысты, з грубаватым тварам чалавек у міліцэйскім шынялі, са шпалай у пятліцах.

— Давайце прысядзем, малады чалавек! — гаворыць капітан.— Вы пісалі ў рэдакцыю?

Дык вось яно што!

Васілёва пісьмо рэдакцыя, відаць, пераслала ў міліцыю, і гэты чалавек прыехаў яго правяраць. Васілю аж крыўдна стала — варта было пісаць... Капітан між тым вымае з раменнай сумкі аркушык паперы, на ім вялікімі чырвонымі літарамі выдрукавана назва газеты, у якую Васіль пісаў, і далей на аркушыку толькі машынапісны тэкст. Ад сэрца адлягло.

— Раскажыце, як была справа,— просіць капітан.— Маё прозвішча Дабрынін, я начальнік раённага аддзялення НКВД.

Васіль — цяпер ён зусім спакойны — падрабязна расказвае.

— Што ж, прымем меры,— Дабрынін устае, працягвае Васілю руку.— Міліцыянер Сідорык атрымае па заслугах.

Увесь месяц Васіль насіў крыўду ў душы, не могучы забыць, як перад местачковым натоўпам васпаваты Сідорык трымаў яго за каўнер. Цяпер яму нават шкада міліцыянера.

І яшчэ адно ўзрушэнне ў гэты цёплы, сонечны — нібы зноў вярнулася лета — дзень. Крываногі, шустры паштальён Якімчык прынёс паведамленне на бандэроль з Масквы. Васіль здагадаўся: нямецкая бібліятэчка! Не марудзячы, кінуўся да Сцяпана — той ужо меў такое паведамленне, яму нават раней, чым Васілю, прынеслі. Дзіва няма: паштальён Якімчык даводзіцца Сцяпану родным дзедам.

Перад пачаткам урокаў — старшакласнікі займаюцца ў другую змену — сябры рушылі на пошту. Заплацілі па тры рублі трыццаць капеек, атрымаўшы па пакуначку. Зараз жа разарвалі жорсткую абгортачную паперу, вынялі кніжкі. Іх некалькі: светлы, у прыгожай ледэрынавай вокладцы томік вершаў Гётэ, некалькі меншых кніжачак — казкі братоў Грым, розныя апавяданні.

Васіль нават здзівіўся: пад кожным апавяданнем тут жа, унізе, даецца пераклад, прычым перакладаецца кожнае слова, выраз, незалежна ад таго, траплялася слова раней ці не. Нібы для першага класа прыслалі кніжачкі.

Сцяпан спахмурнеў.

— Па падручніку шостага класа будзем займацца,— сказаў ён.— Кніжачкі можна проста чытаць.

На пошце дзед Якімчык пакручваецца. Дзед цікаўны, дасціпны. Адразу ўбачыў, што кніжкі нямецкія. Нямецкую мову дзед трохі ведае. У мінулую вайну быў у Германіі, у палоне, цяпер, калі дзе збяруцца яўрэі, спыніцца, наставіць вуха, робячы выгляд, што разумее гаворку. Цікава будзе, калі хлопцы падвучацца, паразмаўляць з дзедам па-нямецку.

— Навошта вам нямецкія кніжкі, хлопцы? — спытаў паштальён.

— Па праграме трэба,— суха адказаў Сцяпан.

## VI

Заняткі нямецкай мовай ледзь не перапыніліся.

З раніцы да Васіля прыбег узбуджаны Сцяпан, працягнуў газету, на апошняй старонцы якой — аб’ява.

— Чытай!

Аб’ява сапраўды незвычайная. У Мінску адкрываюцца спецыяльныя сярэднія школы ад восьмага да дзясятага класа, выпускнікі іх у далейшым змогуць паступіць у артылерыйскае ці авіяцыйнае вучылішчы. У школу бяруць толькі выдатнікаў. Вучоба — бясплатная, утрыманне — за дзяржаўны кошт. Дакументы афармляюцца ў ваенкаматах.

Васіль таксама ўзбудзіўся: вучыцца ў Мінску на ўсім гатовым, не плаціць за вучобу — хіба прыдумаеш што-небудзь лепшае?

— Пайшлі да Івана!

Іван прыняў навіну з меншым захапленнем. Адразу прыкінуў: спецыяльныя школы адкрыюць у Мінску дзве ці тры? А выдатнікаў па ўсёй Беларусі колькі набярэцца?

Сталі падлічваць — у іхняй школе на «выдатна» вучыцца чалавек дзесяць. Але не ўсе пойдуць. Ізя Цукерман — бацька яго загадвае аптэкай — не пойдзе, бо калі нават стыпендыі ў інстытуце не атрымае, усё адно будзе вучыцца. Віцю Левашову, бацька якога дырэктар леспрамгаса, спецыяльная школа таксама не трэба. А яшчэ ж дзяўчаты ёсць, якіх у такія школы наогул не бяруць.

Заявы рашылі напісаць. Сцяпан з Іванам — у артылерыйскую школу, Васіль — у авіяцыйную. Ён нават сам здзівіўся — чаму ў авіяцыйную? Пра ваенны лёс не згадваў, лётчыкам сябе не ўяўляў. У гэтым, мабыць, выявілася яго імкненне да вышыні. Жыве ў юнацкіх душах такое імкненне. Калі ўжо выбіраць вайсковую школу, то лепей — авіяцыйную. Тры гады вучобы, а там відна будзе.

Ваенкам — падцягнуты, стройны, хоць зусім сівы,— пра спецыяльныя школы нічога не ведае.

— Прыйдзіце дні праз тры, рабяты. Зраблю запрос.

Праз тры дні ваенкам разводзіць рукамі:

— Разнарадкі не прыслалі. Думаю — гарадскіх хапае для такіх школ. Вучыцеся тут.

Можа, і добра, што так здарылася. Усё-такі знянацку ўсё гэта — спецыяльная школа, ад’езд. Да такіх рэчаў трэба загадзя рыхтавацца.

Пра тое, што Васіль збіраўся ад’язджаць у Мінск, нават Надзя не ведае. Але іменна яна, пра каго ён найбольш цяпер

думае, наносіць балючы ўдар, пасля якога ён адчувае сябе лішнім на свеце.

Яны ідуць разам са школы — не толькі Васіль і Надзя — яшчэ некалькі хлопцаў, дзяўчат. Васіль жартуе, смяецца — у яго добры настрой.

Раптам Надзя спыняецца, ляпае яго па спіне:

— Ты чаму горбішся? Бач, як лапаткі выперлі. Ходзіш, сагнуўшыся, як стары дзед...

Весялосць як рукой здымае. Ніхто на Надзіны словы, можа, і ўвагі не звярнуў, а для Васіля яны гучаць як прысуд. Ён адразу адчувае сябе непатрэбным, мізэрным. Надзя раней проста гуляла з ім у кошкі-мышкі. Смяецца з яго. Ён ёй зусім не падабаецца. Наадварот...

Прыйшоўшы дамоў, Васіль непрыкметна зняў са сцяны люстэрка, шуснуў у пакой, які займае кантора, і, умацаваўшы люстэрка на стале, стаў разглядваць сябе як бы староннімі вачамі. Так, фігура ў яго нязграбная. Лапаткі здорава выступаюць, таму ён здаецца сагнутым. Гэтага не ўбачыць хіба што сляпы...

Ноччу Васіль не спіць. Варочаецца на мулкай падлозе пад грубкай. Цяпер ён начуе ў канторы, бо спаць у хляве нават пад коўдрай зябкавата.

Вядома, дзяўчатам падабаюцца шустрыя, увішныя, але прылучыць сябе да ліку такіх Васіль не можа. Як ён жыў? З другога ці трэцяга класа накінуўся на кнігі, глытаў іх адну за другой, аддаючы чытанню ўвесь вольны час. Другія ў гэты час галёкалі, каталіся на каньках, гулялі ў валейбол, круціліся на турніку, а ён чытаў. Ён таксама трохі насіўся на дзеравяшках — іншых канькоў у Васіля не было — і катанне захапляла, узбуджала кроў, прыемна было адчуваць сябе імклівым, лоўкім. Але ўсё-такі ён шкадаваў часу. Нават у валейбол гуляць не навучыўся. Васіль трохі вінаваціць сябе. Іван са Сцяпанам падсякаюць мяч як мае быць, і гэта не перашкаджае ім чытаць кнігі...

Змрочныя думкі аднак пакрысе развейваюцца. У чым ён, Васіль, адстаў? У валейбол гуляць не ўмее? Не навучыўся ў свой час, а цяпер проста сорамна лезці ў гурт. Гонар не дазваляе. Не так адаб'еш мяч, пасыплюцца насмешкі. Знявагі ж

Васіль не пераносіць. У астатнім ён, здаецца, на ўзроўні. Калі здавалі нормы — стаметроўку, бег на тры кіламетры — прыйшоў адным з першых. Васіль ведае, дзе загартаваўся,— у лесе. Збіраючы грыбы, кіламетраў дваццаць, а то і трыццаць прабегаеш, і ногі не баляць. І яшчэ ў рамонтнай брыгадзе набраўся ён сілы. Восем гадзін памахаць кайлом, пацягаць за канат рэйку, калі робяць разгонку,— не на турніку пакруціцца. За хлебам цяпер чэргі, але Васіль лёгка вылазіць з натоўпу — варта варухнуць плячамі...

Васіль нарэшце засынае. Назаўтра дзень пачынае па новаму распарадку. Зняўшы сарочку, ідзе да калодзежа. Абліваецца да пояса халоднай вадой, выціраецца ручніком да таго часу, пакуль цела не робіцца чырвоным.

У Васіля і турнік ёсць. Стаіць, праўда, на суседнім агародзе, у зацішным месцы, за хлявом. Турнік Васіль змайстраваў разам са стрыечным братам Адамам, хата якога побач. Васіль прывалок слуп, жалезны прэнт — адзін канец яго яны ўсадзілі ў сцяну, другі прымацавалі да ўкапанага ў зямлю слупа.

З Адамам Васіль сябраваў. Затым Адам адстаў у вучобе — ён цяпер вучыцца ў сёмым класе, хоць у школу пайшоў на год раней,— ніці дружбацкіх сувязей аслаблі, але не настолькі, каб Васіль супольна са стрыечным братам не карыстаўся адным турнікам.

Перамахнуўшы цераз складзены з бярвення плот, Васіль узбіраецца на турнік. Няшмат умее ён вырабляць фігур. Падцягваецца шэсць разоў, можа, ушчаміўшыся за прэнт сагнутымі нагамі, павісець уніз галавой, сяк-так зрабіць стойку. Вось, бадай, і ўсё. Але ён будзе займацца на турніку. На зіму трэба лыжы дастаць. Усе тыя мясціны, дзе летам збіраў грыбы, абыдзе на лыжах.

Пры самым плоце, якія падзяляе Адамаў і Васілёў агароды, Васіль пасадзіў бераст. Можа, таму, што дрэва рэдкае ў іхнім лесе. Летам прынёс дубчык, уваткнуў у зямлю, часта паліваў. Дрэўца доўга хварэла, але прынялося. Добра пайшло ў рост. За тры-чатыры гады абагнала старыя яблыні ў Адамавым садзе.

Ёсць у Васіля і паўднёвыя расліны. На станцыю прывезлі саджанцы акацыі, у іх кучу трапілі абрыкосавыя дрэўцы. Тры

кусцікі Васіль выпрасіў сабе. На зіму ён абгорне іх паперай, саломай, каб не прапалі ў халады.

У школе паявіўся яшчэ адзін настаўнік Рыгор Іванавіч Басалыга — высокі, чорны, як цыган, хлапчына. У пятых — сёмых класах ён вядзе Канстытуцыю і гісторыю. Рыгор Іванавіч да нядаўняга часу быў проста Грыша, бегаў на ўрокі ў куцым, залатаным, з кароткімі рукавамі пінжачку, блізка знаўся з цяперашнімі дзесяцікласнікамі.

У двухгадовыя настаўніцкія інстытуты атэстат аб сканчэнні дзесяцігодкі не трэба — прымаюць з дзевяццю класамі. Грыша праскочыў нават з васьмю — быў недабор студэнтаў. Пакуль яго сябры праседжвалі за партамі штаны, асвойваючы школьныя прадметы, Басалыга займеў настаўніцкі дыплом. Няхай не аб вышэйшай адукацыі, але ўсё ж дыплом.

Зрэшты, Басалыга хлапчына кампанейскі. З былымі сябрамі размаўляе як з роўнымі, нос лішне не дзярэ. І настаўнік з яго, як быццам, атрымаўся — тлумачыць матэрыял някепска.

З першай жа палучкі Рыгор Іванавіч, паехаўшы ў горад, купляе касцюм, сарочку, туфлі. І дама сэрца ў яго паяўляецца — смяшлівая, мітуслівая школьная піянерважатая Паліна Сініца.

З-за Паліны ў дзесяцікласнікаў вынік з Басалыгам канфлікт. Дзяўчына яшчэ летась вучылася ў дзясятым, нязменна ўдзельнічала ў самадзейнасці, увогуле была завадатаркай, актывісткай. Васіль і цяпер памятае паэму Пушкіна «Цыганы», пастаўленую ў ролях на мінулагоднія кастрычніцкія святы. На сцэне стаяла дзіравая брызентавая палатка — замяняла цыганскі шацёр. На кавалку радніны школьныя мастакі вельмі добра вымалявалі раскідзістае дрэва і над ім сярпок месяца.

Усё дзеянне інсцэніроўкі адбывалася пад дрэвам. Спачатку выходзіў Ізя Цукерман — чытаў на памяць тэкст, што растлумачвае падзеі:

Цыгане шумною толпой
По Бессарабии кочуют.
Они сегодня над рекой
В шатрах изодранных ночуют...

Чарнявая Паліна — пад цыганку Земфіру ёй нават не трэба было грыміравацца — выводзіла на сцэну Алека. Яго іграў высокі, прыгожы дзесяцікласнік Ігар Гадлеўскі. Летась ён паступіў у ваеннае вучылішча.

Хараша ігралі дзесяцікласнікі. Але і цяперашнія, якія тады вучыліся ў дзявятым, стараліся не ўдарыць тварам у гразь. Маладога цыгана, у якога закахалася Земфіра, прадстаўляў Валодзя Бажок. У яго рассечана верхняя губа, і, каб схаваць прыродны недахоп, ён прырабіў сабе вусікі.

Васіль нібы наяве бачыць сцэну, як Алека забівае каханка Земфіры, яе самую, як Паліна, звонка выгукнуўшы: «Умру любя...» — падае на падлогу.

А цяпер Паліна ў пары з Басалыгам выдыбае па цёмных завулках.

Дзесяцікласнікам, відаць, таму не падабаюцца вандроўкі піянерважатай, што самі яны парачкамі па кутках не затульваюцца.

Хлопцы ў дзясятым рослыя, як дубы, некаторыя атрымалі пашпарты, даўно завялі прычоскі, галасуюць на выбарах, але з дзяўчатамі не знаюцца. Праўдзівей, сябруюць з дзяўчатамі, але адкрыта, навідавоку, разы два нават у лес гуртам хадзілі.

Выключэнне складае Сяргей Лізюк — Васілю ён даводзіцца далёкай раднёй. Сяргей піша запіскі дзяўчатам, прызначае спатканні, але расказвае пра іх толькі брыдкае.

За Басалыгам Сяргей і віжуе. Аднойчы ўбачыў штосьці незвычайнае: Басалыга залез на дрэва, дэкламаваў, седзячы на суку, вершы, а Паліна, стоячы ўнізе, слухала.

Другі выпадак Лізюк не прапусціў. Басалыга павёў Паліну на дрывяны склад, парачка доўга вандравала між штабялёў, нарэшце настаўнік падсадзіў дзяўчыну ў недагружаны вагон з дрывамі, узлез туды сам. Лізюк падкраўся, зачыніў вагон.

Настаўнік не разгубіўся аднак: з паўгадзіны выкідваў праз адтуліну пад дахам плашкі, вылез праз дзірку сам, адчыніў дзверы і, як галантны кавалер, высадзіў даму.

Учынак Лізюка пахне не надта прыемна, але грунт для смеху ёсць, і дзесяцікласнікі рагочуць.

Стаіць кастрычнік, імжаць дажджы, раніцамі, наплываючы з балота, віснуць над мястэчкам туманы. Мястэчка ўвогуле

staіць на нізкім месцы. З левага, паўночна-ўсходняга боку да яго падступае вялізнае балота, цяпер ужо асушанае — на вольным тарфяным масіве гадоў восем назад вырас пасёлак лугаса Мятліца. Лугасаўцы сеюць траву, гадуюць жывёлу. Іншы раз і местачкоўцам перападае сеянкі — на сезонную работу ў лугас, каб зарабіць на зіму сена, яны ходзяць ахвотна.

На балотным абшары, што ляжыць у паўднёва-ўсходнім напрамку, узнік торфазавод «Рагулінскі Мох». Там капаюць, сушаць, затым адпраўляюць па чыгунцы торф. Рагулінскі Мох таксама паселішча: з вуліцамі, дамамі, доўгімі баракамі — летам у іх жывуць сезоннікі.

У кар’ерах, з якіх выбралі торф, завялася рыба — карасі, ліні, мянтузы, шчукі, і местачкоўцы ахвотна шастаюць на торфазавод з рыбалавецкімі прыладамі.

Ракі мястэчка не мае, калі не лічыць канаўкі, якая пятляе каля суседняй вёсачкі Алешкі, і звілістай балотнай рачулкі Мятліцы, што дала імя лугасу. Але па ўсіх прыкметах праз мястэчка працякалі рэчкі, і нават не адна. Сведчанне гэтаму — вузкія пакручастыя палоскі ручайкоў, балацявін, якія ў некалькіх месцах перасякаюць агароды, вуліцы, чыгунку. Вясной яны запаўняюцца вадой, летам перасыхаюць. На вуліцах, на палатне чыгункі ў такіх месцах пабудаваны масты.

Прамысловасць у самім мястэчку небагатая — ёсць паравы млын, абодная майстэрня, мылаварня, цагельня, шавецкая, кравецкая арцелі. Галоўны промысел — чыгунка. Дзве яе каляіны, якія вядуць з захаду на ўсход — з Брэста на Гомель,— праляглі гадоў шэсцьдзесят назад, выклікаўшы ў мястэчку, навакольным краі вялікія перамены. Мястэчка з-за чыгункі нават кірунак забудовы зыначыла. Там, дзе жыве цяпер Васіль, было поле, паблізу размяшчаліся могілкі. Іх, пасля таго як праклалі чыгунку, перанеслі на другі, паўднёвы, канец мястэчка, а паўночны, цягнучыся да чыгункі, пачаў разрастацца, перасягнуў старыя могілкі — на тым месцы цяпер прагал, і ніхто там не хоча сяліцца.

У Івана Скварчэўскага Васіль натрапіў на кнігу па лесаводству — на яе старонках густа стаялі авальныя пячаткі лясной школы — і аж скалануўся ад узрушэння. У кнізе напісана, што дубровы, размешчаныя вакол мястэчка, лепшыя ў Беларусі.

Але няма тых дуброў. На бліжнім і дальнім лядзе, ва ўрочышчы, якое называецца Ключэеў, бясконцае пнёўе. Туды цяпер гоняць пасвіць скаціну. Яшчэ на Васілёвай памяці зімой па гладкай саннай дарозе дубовыя камлі вазілі на станцыю. Чацвёра коней цягнулі аграмадныя з палазамі-бярвеннямі кары. Была арганізацыя «Лесбел», добра плаціла, нават немцы-прыёмшчыкі, як расказвае бацька, прыплачвалі возчыкам, і дубровы зніклі. Ад іх засталіся паасобныя астраўкі: дзе-нідзе па полі вялізныя, разложыстыя, як вежы, дубы.

Чыгунка дала мястэчку шмат прафесій: стрэлачнікаў, сцэпшчыкаў, саставіцелей, пуцейскіх рабочых, грузчыкаў. Пазней праклалі ветку-аднапутку на Хвойнае, пабудавалі дэпо, паваротны круг, вадакачку — з’явіліся машыністы, качагары, кандуктары.

Васілёў бацька з маладых гадоў падаўся на чыгунку — быў дрывакладам, вартаўніком на станцыі, ездзіў малодшым кандуктарам. Дзед Піліп — сівы, выпетраны, нібы цявіна — ён памёр, калі Васіль вучыўся ў другім класе,— вельмі за гэта Васілёвага бацьку не любіў. Не мог дараваць, што сын кінуў зямлю, пайшоў на лёгкі хлеб. Чыгунка для дзеда была лёгкім хлебам: працуюць па гадзінніку, дзень дзяжураць, дзень адпачываюць.

Сам дзед Піліп адпачынку не ведаў, кешкаўся на полі, балоце, у лесе ад цямна да цямна.

Васіль падрастаў на вятрах вялікіх перамен: асушалі балота, будаваліся лугас, торфазавод, арганізоўваўся калгас, па вуліцы прагрукатаў першы трактар. Потым трактар, аўтамабіль, безліч іншых машын, нават самалёты ў небе сталі звычайнасцю.

Школа рыхтуе да іншага жыцця, чым тое, якім жылі дзяды, жывуць бацькі, і ўсе, хто скончыў школу, няхай сабе толькі сямігодку, пакідаюць родны кут вырай за выраем. Хутка чарга Васілёвых сяброў і яго самога. Васіль нават думкі не дапускае, што астанецца ў мястэчку. Што яму тут рабіць? І хоць ён з малых гадоў прывучан да звычайнай, паўсядзённай работы, на якой трымаецца сямейны побыт, яна яго не хіліць да сябе, не вабіць. Так усе думаюць, і ўсе так робяць.

У інстытут ці тэхнікум, пасля таго як увялі плату за навучанне, прабіцца будзе нялёгка, але ў мястэчку не застанецца ніхто — нават тыя, хто вучыцца на тройкі. У інстытут, тэхнікум не паступяць, дык у ваенную школу або на якія-небудзь курсы.

Васіль нарэшце атрымлівае адказ з рэдакцыі. Зверху на аркушыку паперы выдрукавана назва газеты — такімі ж па форме, толькі меншымі літарамі, унізе некалькі машынапісных радкоў. Рэдакцыя паведамляе, што на міліцыянера Сідорыка за ганебны ўчынак накладзена адміністрацыйнае спагнанне.

Адчувае сябе Васіль на сёмым небе. Лісток паказаў Сцяпану, Івану, Міколе Райдуну — усім, хто хоць трохі ведае пра выпадак ля магазіна. Добрая рэч газета! Прыйшла Васілю на дапамогу ў цяжкую часіну, падняла веру ў сябе, у тое, што жыццё заснавана на справядлівых пачатках.

Школа мае і больш дзейсных селькараў, чым Васіль. Найпершы з іх Дзямід Салавей, чарнявы рухавы дзесяцікласнік, які жыве ў суседняй вёсцы Алешкі, штодзень адмерваючы ў школу і са школы не менш дзесяці вёрст. Дзямід трохі звысака глядзіць на таварышаў, бо яго заметкі друкуюць амаль усе газеты, а ў раённай, якая выпускаецца ў мястэчку, яго прозвішча мільгае бадай у кожным нумары.

У Алешкаўскім калгасе добрая трусагадоўчая ферма, і Дзямід пра яе піша. Ухваляе і іншыя калгасныя дасягненні, але найбольш — гадоўлю трусоў. Відаць, справа даволі рэдкая, таму газеты ахвотна друкуюць Салаўёвы заметкі. Асечка выйшла толькі з «Праўдой». Колькі ні пісаў туды Салавей, але цэнтральная газета нязменна шле ў адказ ветлівыя парады дасылаць матэрыял у мясцовы друк.

Мікола Райдун таксама зрабіўся селькарам, і з гэтага выйшла смешная гісторыя, аб якой ведае ўся школа. Адзін з матэрыялаў Мікола падпісаў прозвішчам «Мірабо» — ён утварыў яго з пачатковых складоў свайго імя, прозвішча і бацькавага імя — Міколавага бацьку завуць Барысам. Газета надрукавала заметку — у ёй ішла гаворка пра дасягненні цагельнага завода,— і ў хуткім часе на імя дзевяцікласніка Мірабо прыслала ганарар — дзесяць рублёў. Але ганарару

Мікола не атрымаў: паштовыя работнікі ніяк не хацелі верыць, што Мірабо ёсць скарочанае ад Мікола Райдун, Барысаў сын.

У школе — пераважна ў дзявятым, дзясятым класах — ёсць яшчэ селькары, але паслаць у газету што-небудзь сваё падахвоцілі Васіля Сцяпан з Іванам.

Сцяпан патаемна ад таварышаў напісаў артыкул пра Чэхава — у гонар васьмідзесяцігоддзя з дня нараджэння пісьменніка. І раённая газета — яна выходзіць на адной вузкай палосцы — яго надрукавала. Ёмісты падвальчык на другой старонцы з подпісам «С. Бронька, вучань дзясятага класа» радуе вока, нараджаючы ў Васіля вострае, неадольнае жаданне здзейсніць што-небудзь падобнае.

Яшчэ больш здзівіўся Васіль, калі даведаўся, што Іван таксама піша. Корпаючыся ў яго кнігах, бязладнай грудай наваленых у куце за сталом, Васіль наткнуўся на тоўсты агульны сшытак, ледзь не напалавіну спісаны дробным Іванавым почыркам. «Вялікі выгнаннік. Паэма»,— напісана на тытульнай старонцы. «Таварышы, Шаўчэнка быў паэт!» — такім радком пачынаецца Іванава паэма. Далейшага зместу Васіль не ведае, бо Іван са злосцю вырваў сшытак з рук.

Іван найбольш здольны да матэматыкі, а вось піша паэму. Чаму? І чаму пра Шаўчэнку?

Васіль здагадваецца: Іван абраў Шаўчэнку, бо сам, як некалі ўкраінскі паэт, рос без бацькі. Ёсць падабенства лёсаў. Дый стагадовы юбілей вялікага Кабзара святкаваўся.

У насценнай газеце Васіль змясціў безліч вершаў, пераважна гумарыстычнага зместу, бо яны прысвячаліся розным школьным гісторыям. Ён стварае іх лёгка, на адным дыханні, не прыдаючы асаблівага значэння сваёй пісаніне. Цяпер паспрабуе напісаць для сапраўднай газеты. Пра што? Пра тое, што дзеецца навокал, што хвалюе, радуе, чым перапоўнены Васілёвы грудзі.

Над Прыбалтыкай савецкай
Алы сцяг лунае.
Нават восенню здаецца,
Што запахла маем...

Верш Васіль лішне не расцягваў, напісаў дзесяць чатырохрадкоўеў. Падпісаўся поўным прозвішчам, паслаў у раённую газету і стаў чакаць.

Адказ прыйшоў хутка — дні праз тры. Дзіўны адказ — сам рэдактар запрашае Васіля наведаць рэдакцыю.

Васіль адважыўся. Рэдакцыя разам з друкарняй размяшчаецца ў новым, падобным на склад будынку — некалькі такіх вырасла ў мястэчку за апошнія два гады і займаюць іх раённыя ўстановы: суд, міліцыя, пракуратура.

Рэдактар — прозвішча яго Левін — нізенькі, лысаваты чалавек, прыняў Васіля ветліва. Бліснуўшы з-пад шкельцаў акуляраў блізарукімі вачамі, запрасіў сесці, распытаў пра жыццё, вучобу.

— Верш не надрукуем,— сказаў рэдактар.— Але здольнасці ў цябе ёсць, і ты павінен пісаць. Дасылай нам свае творы...

Апошнія словы асабліва ўразілі Васіля. Сам рэдактар назваў яго верш творам!

Вяртаючыся з рэдакцыі, Васіль, па прыкладу Сцяпана, наважыў напісаць пра Льва Талстога. Хутка споўніцца трыццаць гадоў з дня смерці вялікага пісьменніка, і хіба Талстой меншы за Чэхава, пра якога змешчан артыкул Сцяпана Броні?

Льва Талстога Васіль прачытаў ледзь не ўсяго, захапляўся ім, толькі апошні раман «Уваскрасенне» здаўся яму сумнаватым. Для артыкула пра творчасць Талстога Васіль выкарыстаў дзве прадмовы да твораў пісьменніка і стары падручнік для сёмага класа. Ён нічога не спісваў — напісаў сам. Вывучыў матэрыял і напісаў. Гэтак ён выконваў усе школьныя сачыненні па літаратуры, і яго нават часта ў прыклад ставілі.

На гэты раз адказ рэдакцыі быў сухі, афіцыйны: «Артыкул не будзе змешчан, бо ёсць тасаўскі матэрыял». І сапраўды, юбілей Талстога газета адзначыла артыкулам прафесара, унізе стаяла: «ТАСС». Васьмікласніку спаборнічаць з прафесарам не выпадала.

У далейшым Васіль не мудрагеліў. Напісаў пра школьны піянерскі пакой, у якім ёсць радыёпрыёмнік, падшыўкі газет, дзе можна пагуляць у шашкі, шахматы.

Раённая газета адразу надрукавала заметку. «Культурны адпачынак» — называлася яна, а ўнізе прыкметнымі літарамі подпіс: «В. Скачок, вучань восьмага класа». Так увайшоў Васіль у сям'ю селькараў, якіх у школе шмат і якія аб мясцовых справах апавяшчаюць шырокі свет.

## VII

Сцяпанаў агарод пачынаецца балацявінай, на якой узвышаецца разгалістая іва. Вясной тут стаіць вада, летам аж буяе разнатраўе. Агарод далей, на ўзгорку. Яго мяжа адзначана старой ігрушай-дзічкай. Ігрушы растуць на ёй цвёрдыя, кіслыя, але прыхопленыя першым марозцам робяцца прыемнымі на смак.

Хлопцы — Сцяпан, Іван і Васіль — тым і займаюцца, што вышукваюць у траве апалыя грушкі. Якраз выхадны дзень, нядзеля, сябры ласуюцца апошнімі дарамі лета, экзаменуючы адзін другога па нямецкай мове.

Падручнік для шостага класа таксама адолелі. Кожны з дружбакоў ведае цяпер болей за тысячу слоў. Фактычна ўсяму, што ляжыць навокал — агароду, чорнай асенняй зямлі, нізкаму шэраму небу, мокрым будынкам хлявоў, парканам, дахам, каляі чыгункі, па якой, грукочучы на стыках рэек, праносяцца таварныя цягнікі,— усім гэтым прадметам хлопцы могуць даць іх нямецкія назвы. Але мова — не толькі словы, і словы не толькі прадметы. Словы ўступаюць між сабой у разнастайныя, складаныя сувязі, а сувязь слоў вывучае граматыка. Не ведаеш граматыкі — не ведаеш мовы.

— Як будзе па-нямецку «я іду»? — пытае Сцяпан.

— Ich gehe,— адказвае Васіль.

— Я пайшоў?

— У імперфекце «ich ging».

— У перфекце?

— Ich habe gegangen.

Сцяпан з Іванам пераглядваюцца, і Васілю здаецца, што яны прытоена перасміхваюцца.

— Падумай,— гаворыць Іван.— Дапаможны дзеяслоў у якіх выпадках ужываецца?

— Ва ўсіх,— Васіль збянтэжаны. Калі прызнавацца шчыра, ён ніколі пра гэта не думаў.

— Навошта тады «sein»? — У Іванавым голасе гучаць памяркоўныя ноткі. Іван хоча дапамагчы, падцягнуць таварыша.

— Трэба сказаць: «Ich bin gegangen»,— безапеляцыйна заяўляе Сцяпан.— Вось што, хлопцы: збірацца болей не трэба. Нямецкую мову падагналі, цяпер, калі хто хоча, няхай займаецца сам. Дарэмна час трацім.

Тое, што імпэт да вывучэння нямецкай мовы прапаў, Васіль адчуў яшчэ раніцай. Калі, сабраўшыся ў Сцяпана, дружбакі адкрылі падручнік для сёмага класа, адразу выявілася — тэкст могуць чытаць амаль без слоўніка.

На лугавіне пад івай галёкаюць меншыя Сцяпанавы браты з такімі, як самі, падшыванцамі. Запускаюць папяровага змея. Высока над івай трапеча квадрацік паперы, абклееены садранымі з фанеры тонкімі паскамі. Нарэшце адарваўся ад ніткі, шугануў вышэй, пад воблакі. Праз хвіліну яго і ўбачыць нельга.

Васілю стала сумна. На вачах ірвуцца дружбацкія сувязі. Вось тут, на агародах, чыгунцы, бліжнім і дальнім полі, прайшло Васілёва дзяцінства. Пасвілі разам са Сцяпанам свіней, вілі канапляныя пугі, палілі вогнішчы, пяклі бульбу, гулялі ў розныя гульні. Папяровых змеяў таксама запускалі.

У падстрэшшы Сцяпанавай хаты, пад чарапіцай добра масціліся вераб'і. Быў час, калі Сцяпан з Васілём моцна захапляліся птушкамі: вышукваючы іх гнёзды, вандравалі па лесе, балоце, полі. Тады розніца ва ўзросце не адчувалася. Цяпер адчуваецца. Два лішнія класы, якія мае за плячамі Сцяпан, азначаюць многае. Як ні дрэнна выкладае Вольга Уладзіміраўна, але нямецкую граматыку Бронька ведае лепей за Васіля.

— Будзем збірацца,— Іван хоча прымірыць пазіцыі.— Можа, не так часта. Раз у тыдзень.

Сцяпан не здаецца:

— За тыдзень забудзеш, што ведаеш. Трэба граматыку зубрыць. Яе хіба гуртам вызубрыш?

Броньку не пахіснеш.

Сцяпан спяшаецца на рэпетыцыю. Аказваецца, дзясяты клас збіраецца паставіць на навагоднім вечары п’есу «Паўлінка» Янкі Купалы. Васіль прымае навіну абыякава. Яму няма справы ні да «Паўлінкі», ні да таго, што Сцяпан іграе ў п’есе. Нешта ў дружбе з сябрамі рвецца, і толькі пра гэта Васіль думае.

Палякоў рог — не толькі ягадны, грыбны лес. Васілю здавалася: ведае кожны лапік у гэтым лесе, заціснутым паміж Макаўскім шляхам і чыгункай. Не ведае аднак! У мокрым алешніку, які прылягае да самай чыгункі, ён ніколі не быў, не зазіраў сюды. А тут цэлае царства: гонкія вольхі абвіты дзікім хмелем, у шмат якіх мясцінах натрапіш на непралазныя зараслі малінніку, ажынніку, крушыны, лазы.

Лес ужо голы. Пад нагамі шасцяць густыя пласты апалага лісця. Васіль з бацькам нарыхтоўваюць у Паляковым розе дровы на зіму. Бацька аплаціў білет у лясніцтве, і цяпер яны ў алешніку поўныя гаспадары.

З Васілём меншы брат Мікіта. Сусед, пуцявы абходчык Яўхім Каваль з унукам Яраславам таксама пілуюць алешыны на дровы. Бацька з Яўхімам аб’ядналіся, бо трэба не толькі знайсці сухастоіну, а і падпілаваць, паваліць дрэва, сцягнуць камлі ў адно месца.

Трэці дзень Васіль не ходзіць у школу і працуе з радасцю, з нейкім нават натхненнем, выкладваючыся даастатку. Нарыхтаваць дзесяць метраў дроў — не жарты. Намахаешся сякерай, пацягаеш да звону ў вушах добра наточаную, з разведзеным зуб’ем пілу, затое адчуваеш сябе чалавекам. Ногі пруткія, дыхаеш на поўныя грудзі, а які апетыт прыходзіць! Звычайны хлеб з агурком здаюцца царскімі прысмакамі.

Прыемна глядзець, як спачатку павольна, нібы жывое, уздрыгнуўшы, хіліцца да зямлі падпілаванае дрэва, як яно затым з кожным імгненнем разганяецца, з трэскам і гулам падае на дол. Самае цяжкае — валачы па лесе, правальваючыся ў тонкі, тарфяны грунт, камлі. Іх, каб лягчэй было насіць, распілоўваюць на дзве, тры часткі, але ўсё адно цяжка.

Намулянае плячо аж смыліць. Мікіта з Яраславам — ім па дванаццаць гадоў — носяць толькі верхавінкі, але і ад такой работы адвільваюць. Зашыюцца ў лазняк, не падаючы аб сабе ніякага знаку. Тады па лесе разлягаецца магутны Яўхімаў бас:

— Я-р-р-р-а!

Гэтак некалькі разоў на дзень.

Васіля ў гэтыя дні не пакідае думка, што ён, як зрэшты і малалетнія напарнікі Мікіта, Яраслаў, іначай глядзяць на жыццё, чым бацька і Яўхім. Для Васіля такая, як цяпер, работа — заўсёды часовая. Ён з ёй спраўляецца горш або лепш, ведаючы, што заўтра пойдзе ў школу, сядзе за кніжку — яго паглыне зусім іншы свет. У тым свеце спіна, паясніца ад натугі не ныюць, плячо не смыліць. І для іншага жыцця, чым валіць дрэвы, пілаваць дровы, Васіль, як і яго сябры-таварышы, сябе рыхтуе. Але ўсё адно нехта павінен араць зямлю, сеяць хлеб, выконваць процьму цяжкай, чорнай работы. Хто такую работу будзе рабіць? Бацька, Яўхім? Яны — немаладыя. Мікіта, Яраслаў, як і сам Васіль, не збіраюцца есці хлеб з сялянскага занятку...

Кончылі пілаваць дровы, і развагі пра чорную работу прапалі. Як і не было іх. Ладны штабель двухметровых бярвенняў стаіць у алешніку. Дровы засталося перавезці. Васіль задаволен. Раней апальваліся як прыйдзецца. Колькі згрызот, непрыемнасцей меў Васіль з-за дроў! Прыйшоўшы са школы, з нецярпеннем чакаў вечара, каб шуснуць на станцыю, прывалачы плашку. Цяпер зіма будзе вольная ад клопатаў.

Дамоў варочаюцца прыцемкам. Ужо зоркі высыпалі на небе, і сярпок месяца вісіць. Маўклівы, нерухома стаіць лес. Доўга будзе ён так стаяць. У чорных раскідзістых галінах ёсць штосьці таямнічае, загадкавае. Цёмны лес пад хмурным зімнім небам выклікае іншыя пачуцці, чым лес зялёны, летні.

Лес як бы стаіўся, анямеў. Ён абсыплецца снегам, загамоніць з вятрамі, нібы будзе скардзіцца на лёс за часовы прыпынак бурлівага, хмельнага жыцця. Лес чакае.

«Нельга чакаць. Трэба дагнаць хлопцаў! — нарадзілася радасная, трапяткая думка.— Рыхтавацца самастойна, здаць разам экзамены за дзясяты клас...»

Думка яшчэ не мае канкрэтных абрысаў, абсягаў, а ўжо завалодала Васілёвай істотай. Калі два асеннія месяцы замянілі ім, дружбакам, некалькі гадоў у сэнсе вывучэння нямецкай мовы, то чаму Васіль не можа такім жа манерам вывучыць астатнія прадметы? Хіба алгебра, хімія цяжэй за нямецкую мову? Самі хлопцы гавораць: дзясяты клас — фактычна паўтарэнне...

Васіль настолькі ўзбудзіўся, што ноччу не спіць. Прыкідвае, дзе дастаць падручнікі, як распланаваць час. Матэматыку — алгебру, геаметрыю, трыганаметрыю — без Іванавай дапамогі не адолее. Галоўнае — матэматыка. Нават Іван б'ецца над задачамі...

Васіль заснуў толькі пад раніцу. Назаўтра бяжыць да Івана поўны надзей, узбуджанага чакання. Галоўнае для яго цяпер — падтрымка таварышаў.

Іван Васілёвы намеры ўспрыняў спакойна.

— Экзамены за дзясяты могуць не дазволіць,— сказаў разважліва.— Усё-такі выпускны клас. Каб хоць вячэрняя дзесяцігодка была. А то ж няма...

Праз некалькі хвілін Іван узбуджаецца сам.

— Давай! — захоплена размахвае рукамі.— Не дазволяць — год павучышся. Вучыцца лёгка будзе. Матэматыку — памагу. Возьмеш мае канспекты. Задачы будзем разам рашаць. Трэба хутчэй праскочыць дзявяты...

З Іванам зараз жа рушылі да Сцяпана. Ён трохі спахмурнеў, але таксама згадзіўся — паспрабаваць можна. Хлопцы тут жа ўмовіліся не выдаваць Васілёвай тайны. Ні другім хлопцам, ні настаўнікам — нікому ні слова. Пра Васілёвы заняткі будуць ведаць толькі яны трое. Як з нямецкай мовай.

І паляцелі для Васіля нязвычныя, поўныя дзіўнай красы, захопленасці дні. Свет перамяніўся. Цяпер Васіль толькі аднаго баіцца — не хопіць часу. З радасцю, з трапятаннем бяжыць ён кожнай раніцы да Івана. Нічога выключнага, асаблівага няма ў прагрэсіях, лагарыфмах — звычайны матэрыял. Страшна тады, калі не ведаеш, што гэта такое. Думаць, вядома, трэба. Але тое, што Васіль некаторыя раздзелы праходзіць самастойна, нават без Іванавай дапамогі, напаўняе яго радасцю, гордасцю. Адна справа, калі слухаеш тлумачэнне

настаўніка, калі табе разжаванае кладуць у рот, і зусім другая — уласным розумам дайсці да складанага, заблытанага, разабрацца ў стоеным сэнсе нямой формулы і, прымяніўшы яе, рашыць задачу.

Васіль настолькі захапіўся, што на памяць вывучае мантысы лагарыфмаў. Атрымліваецца эканомія часу, у табліцы Брадзіса ці Пржавальскага не трэба заглядваць.

З трыганаметрыяй ды і з геаметрыяй за дзявяты клас, якая вывучае прасторавыя велічыні, цяжэй. Але тут памагаюць Іван і яго канспекты.

Іван — добры настаўнік. Пахаджваючы па хаце, талкова, даходліва тлумачыць новыя раздзелы, некаторыя задачы спецыяльна рашае, каб лепей давесці сэнс формулы Васілю. Нібы сапраўдны настаўнік рыхтуецца Іван да ўрокаў, якія дае Васілю.

Дома Васіль паглыбляецца ў Іванавы канспекты, сочыць за ходам сябравай думкі, якая заўсёды ясная, выразная. Іван мае звычку рашаць некаторыя задачы некалькімі спосабамі, як бы да канца вычэрпваючы сэнс той ці іншай формулы. Гэта добра, такі метад памагае і Васілю.

Дзякуючы заняткам па трыганаметрыі, Васіль і сам прыйшоў да цікавай здагадкі. Сінусы, косінусы, тангенсы, катангенсы не проста выдумка. Гэта велічыні, якія ўтвараюцца ад суадносін вуглоў, старон трохвугольніка. Дык вось як людзі вымералі адлегласць да іншых планет, зёркаў! Два вуглы, старану трохвугольніка можна змясціць на зямлі, астатняе працягнуць у прастору і такім шляхам вылічыць адлегласць ад Зямлі да другіх далёкіх планет.

Васілёвы грудзі распірае радасць ад таго, што ніхто, акрамя блізкіх сяброў, не ведае пра яго заняткі. Прыйдзе час, даведаюцца!..

З Надзяй Мядзёлкай — адносіны звычайныя. Васіль бачыць яе кожнага дня, наўмысна выходзіць на калідор, прахаджваецца каля дзявятага класа, каб пачуць Надзін голас, смех. Яна з ім вітаецца, акідвае хуткім, як бы дапытлівым позіркам, ціснецца, абдымае другіх дзяўчат. Нічога, хутка і Надзя зірне на яго па-другому!

Лістападаўскі вечар быў цёмны, халодны, з непралазнай гразёю на вуліцы. Ідучы ад Івана, Васіль завярнуў на станцыю.

Вялізныя таполі голыя зусім, у іх раскідзістых галінах шастае вецер, мігатліва гойдаецца на высокім слупе электрычная лямпачка, па мокрым апалым лісці шасціць дробны дождж.

У буфет Васіль заскочыў, каб зірнуць на старэйшую Надзіну сястру. Але і Надзя тут. Забегла, відаць, нядаўна, з дажджу, похапам перавязвае касынку, з-пад якой выбіваюцца русявыя завіткі макраватых валасоў.

За сталамі некалькі запозненых пасажыраў. Адзін — стары, з худым, маршчыністым тварам, у паношаным шынялі — іграе на гармоніку.

Мелодыя знаёмая. Песню ўжо год ці два спяваюць. Васілю больш астатніх падабаецца песня — пра юнака, які пакідае любімы горад, і дзяўчыну, якая ў родным горадзе будзе яго чакаць.

На гэты раз песня асабліва ўразіла. І нават не песня, а ўсё разам узятае — асенні вечар, засыпаная мокрым лісцем станцыя, напаўпусты буфет. Стары іграў, Надзя, убачыўшы Васіля, раптам зніякавела, збянтэжылася, як бы хацела штосьці сказаць, але, мабыць, засаромелася сястры і толькі пачырванела. А Васіль перапоўнены радасцю, замілаванасцю да дзяўчыны, збянтэжаны не меней, чым яна, паспешліва выскачыў з буфета.

Ён нават дамоў не пайшоў — блукаў пад дажджом па станцыі. У палосках святла, якое падала ад ліхтароў, блішчалі мокрыя рэйкі, кучы жужалю, бляшаныя дахі памяшканняў.

Васіль ведае ўжо — Надзя будзе іграць у п’есе, якую на Новы год збіраюцца паставіць дзесяцікласнікі. Адну яе з дзявятага класа запрасілі — на ролю Паўлінкі. Надзя, мабыць, вярталася з рэпетыцыі і забегла ў буфет, да сястры.

Тое, што Надзя ўдзельнічае ў пастаноўцы, хвалюе, непакоіць Васіля. Дзяўчына як бы адкрыта сягнула ў той свет, куды Васіль толькі збіраецца ступіць. Дзесяцікласнікі яе заўважылі, вылучылі.

Са станцыі Васіль рушыў да Сцяпана — папрасіць кніжку Янкі Купалы, у якой змешчана «Паўлінка».

Яму востра захацелася перачытаць п’есу. Ведаць словы, якія Надзя будзе гаварыць па ходу дзеяння, зразумець яе ролю ў пастаноўцы.

Зачыніўшыся ў апусцелай канторы, перачытваючы камедыю, Васіль поўніцца супярэчлівымі пачуццямі. Роля Паўлінкі адказная, можа, галоўная нават. Надзю выбралі правільна, яна сыграе, але астатнія акторы Васілю не падабаюцца. Нават Сцяпан узяў не сваю ролю. Будзе іграць шляхціча Адольфа Быкоўскага, фанабэрыстага і дурнаватага. Трэба смешна сыграць шляхціча, а Сцяпан залішне сур'ёзны для такой справы і наўрад ці справіцца з роляй. Так думае Васіль.

Не, нікому з хлопцаў, занятых у п'есе, ён не зайздросціць. Але ж ён ведае іх здольнасці.

Найбольш абурае Васіля, што ролю настаўніка, якога любіць Паўлінка, даручылі Сяргею Лізюку. Які з яго настаўнік? Слізняк з мокрымі губамі. Мінулагодняй восенню, перад кастрычніцкімі святамі, калі школа хадзіла ў лес па дзеразу, Лізюка выкрылі. Ён і яшчэ двое такіх, як ён, адлучыўшыся з дзяўчатамі, зрабіўшы выгляд, што заблудзіліся, займаліся зусім не дзеразой. Быў вялікі скандал. А цяпер Лізюк, няхай нават па ходу дзеяння п'есы, будзе цалавацца з Надзяй. Няўжо яна так лёгка згадзілася цалавацца з Лізюком?..

## VIII

Іван Скварчэўскі па-ранейшаму купляе газеты, «Огоньки», пільна сочачы за тэатрам ваенных падзей. Хоць вайна фактычна адшумела — Італія ў Грэцыі завязла, ваенныя дзеянні вядуцца толькі ў Афрыцы, у лівійскай пустыні, дзе Ромель наступае на англічан, ды немцы бамбардзіруюць Лондан і некаторыя іншыя англійскія гарады.

— Гітлер захапіў палавіну Еўропы. Куды кінецца цяпер? — заклапочана пытае Іван.

Васіль наконт вайны спакойны.

— Германія нас баіцца,— адказвае Івану.— Гітлер ведае: паломіць зубы, калі адважыцца напасці.

— Германія моцная. Самая моцная дзяржава ў Еўропе...

Выйшла кніжка пра Першую сусветную вайну, пра ўдзел у ёй Расіі — са схемамі, картамі. Убачыўшы кніжку ў бібліятэцы, Васіль выпрасіў яе. Вырываючы час паміж заняткамі алгебрай, трыганаметрыяй, з незразумелым хваляваннем чытае пра на-

ступленне рускіх армій пад Аўгустовам, пра іх акружэнне ля Мазурскіх азёр, пра «цуд» на Марне.

І яшчэ адну кніжку праглытвае Васіль — «Гитлер против СССР», напісаную, відаць, чужаземцам — Эрнстам Генры. Аўтар даказвае, што Гітлер, у выпадку нападу на савецкую краіну, абавязкова вайну прайграе, бо сустрэне не толькі магутнае супраціўленне савецкіх людзей, а падымуцца супраць фашызму наогул усе зняволеныя народы Еўропы.

Ніколі Васіль не меў цягі да гістарычных, палітычных кніг. Цяпер такая цяга паявілася.

У часопісе «Полымя рэвалюцыі» — ён выдаецца ў Мінску, і Васіль бярэ ў бібліятэцы паасобныя нумары — надрукавалі раман Н. Шпанава «Дванаццаць гадзін вайны». Там гаворыцца, што калі Германія і рыне на СССР, то толькі праз Паўночны полюс і толькі авіяцыяй, бо сухапутныя, танкавыя нямецкія арміі ўмацаваную савецкую граніцу нізашто прарваць не здолеюць. Але і армады фашысцкіх самалётаў роўна за дванаццаць гадзін знойдуць на Паўночным полюсе ледзяную магілу.

Вайна, значыць, калі ненарокам і пачнецца, цягнуцца будзе вельмі нядоўга. У кнігах так пішуць, у раманах і ў песнях спяваюць.

Рэпетыцыі «Паўлінкі» ідуць поўным ходам. Не, Васіль не заглядвае на гэтыя рэпетыцыі, яму няма да іх справы. Але іншы раз, калі выпускаюць насценгазету, прыходзіцца заставацца пасля ўрокаў. У школе ў такую часіну наступае нязвычная цішыня. У паасобных пакоях займаюцца гурткі, гулка раздаюцца крокі па пустых, напаўасветленых калідорах. Васілю хочацца зазірнуць у пакой дзясятага класа, дзе развучваюць ролі самадзейныя артысты, але ён стрымлівае сябе.

Васіль любіць школу. І старую, у якой вучыўся да пятага класа, і новую, каменную, двухпавярховую — яна вырасла якраз у цэнтры мястэчка. У старой школе таямнічасці было нават больш, чым у новай. У доўгай будыніне пад пафарбаваным бляшаным дахам размяшчаліся толькі тры класныя пакоі і настаўніцкая. Асобна стаяў дамок, дзе жылі настаўнікі. На пясчаным школьным двары паспелі вырасці купчастыя таполі, шумелі на вятрах лісцем, галінамі.

У кожным пакоі старой школы можна было натрапіць на цуд — у адным, у зашклёнай шафе, стаяла заспіртаваная ў сасудзе гадзюка, у другім — шкілет чалавека, абгорнуты, каб штохвілінна не глядзелі, паперай, у трэцім — наклееныя на лісты кардону гербарыі, мінералы ў скрыначках.

Пазней пабудавалі яшчэ тры будынкі, замкнуўшы школьны пляц на манер падковы. Але калі заснавалася дзесяцігодка, месца ёй усё адно не хапіла.

У новай школе толькі ў першую зіму было холадна і няўтульна. Цяпер парадак навялі: дроў хапае, у класах цёпла, падлога, сцены, рамы акон пафарбаваны, усюды на сценах — партрэты, карты, розныя дыяграмы.

Прыгожы від адкрываецца з акна другога паверха. Летам відаць дальні асмужаны лес, зялёнае поле, узімку белая снежная посцілка нібы ахінае наваколле.

Васіль настолькі аддадзены школьнаму, кніжнаму, што, апрача алгебры, геаметрыі, трыганаметрыі, для яго нічога не існуе. Свет як бы сышоўся на матэматыцы, якую Васіль хоча падагнаць, каб параўняцца з дзесяцікласнікамі, з тым матэрыялам, які яны праходзяць па праграме, і разам з Іванам рашаць задачы. Задачы ў дзясятым класе цяжкія.

За астатнія прадметы Васіль не баіцца. Дзясяты клас — у многім паўтарэнне пройдзенага, толькі ў шырэйшым, больш глыбокім аб’ёме. Электрычнасць праходзілі ў сёмым класе, геаграфіі, біялогіі ў дзясятым наогул няма, няма новага ў выкладанні рускай, беларускай мовы. Паўтараюць падручнік за шосты і сёмы клас дый па гісторыі СССР падручнік нядаўна выпусцілі — матэрыял напалавіну знаёмы. Літаратуру — рускую, беларускую — Васіль у разлік не бярэ. Даўно прачытаў тое, што дзесяцікласнікі вывучаюць.

Астаецца хімія, геалогія з мінералогіяй і астраномія. Над хіміяй — у дзясятым праходзяць арганічную — прыйдзецца таксама пасядзець.

Граніт матэматыкі, калі прыналегчы, напору паддаецца. Добрую паслугу Васілю зрабіла Антаніна Хвядосаўна, ахапіўшы паўтарэннем па алгебры, геаметрыі матэрыял папярэдніх класаў. У рашэнні ўраўненняў з адным, двума, нават трыма

невядомымі Васіль плавае, як рыба ў вадзе, а гэта прыдалося для далейшага.

Час свой Васіль плануе жорстка. Ёсць жа яшчэ дзявяты клас, і прадметы, якія там праходзяць, адкладваць нельга. Ён, бадай, найцяжэйшы — дзявяты клас, бо матэрыял, за выключэннем эканамічнай геаграфіі і капіталістычных краін, увесь новы.

Бацька заняты на дзяжурстве, а якраз нанялі каня, трэба прывезці сена. Па сена Васіль едзе разам з гаспадарамі каня — аднаасобнікамі Міронччыкамі — сынам і бацькам. Стары Міронччык маўклівы, хітраваты, сын — у яго на дзіва прыгожы дзявочы твар — прасцейшы. Размаўляе з Васілём, смяецца.

У Міронччыка два сыны, ёсць яшчэ старэйшы, але абодва непісьменныя. Нават чытаць не ўмеюць. Жылі на дальнім хутары, бацька ў школу не пускаў. Тым часам разважае малады Міронччык — яго завуць Коля — разумна расказвае дасціпныя гісторыі. Васіль дзівіцца.

Наогул Васіль здзіўляецца ўвесь гэты хмуры зімовы дзень. Добрай саннай дарогі няма, каня запраглі ў калёсы. Грукочучы па мёрзлым грудзе, едуць павольна. Навокал алешнікі, лазнякі, рудая балотная трава. Васілю быццам у навіну ўсё гэта. Седзячы над кніжкамі, рашаючы задачы, ён нібы забыў, што ёсць лес, поле, замёрзлае балота — шырокі, мнагалучны свет, які ад кніжак не залежыць і жыве па сваіх законах.

На бярозе стракоча сарока, а Васіль узрушаны: як бы бачыць птушку ўпершыню. З такім жа захопленым здзіўленнем праводзіць вачамі зайца, што перабег дарогу; прабівае падэшвай чаравіка скарынку лёду на лужыне і некалькі хвілін стаіць як укопаны — назірае, як, пульсуючы, рыўкамі вырываецца з лёдавага палону вада.

Міронччыкі перамігваюцца: Васіль здаецца няцямным дзіваком.

Пазней, калі прывезлі сена, стары Міронччык выгаварыў бацьку:

— Думаў, твой як мой. Здаецца, аднагодкі. Але ў твайго палавіны няма таго спрыту, што ў майго Колі. Уталопіцца ў пень і глядзіць. Як бытта першы раз бачыць.

Бацька зразумеў Міронічыкаву заўвагу ў тым сэнсе, што Васіль кепска накідваў сена. Васілю трохі крыўдна — віламі, граблямі навучыўся карыстацца даўно, але пераконваць бацьку не стаў. Бацька таксама не ведае пра дзявяты, дзясяты класы.

Была яшчэ адна справа, якая парадкам непакоіла Васіля — прыём у камсамол. На школьным сходзе прынялі аднагалосна. Але як у райкаме, галоўная інстанцыя — там!

Статут Васіль вывучыў, грамадскія нагрузкі нясе. І са сваякамі, здаецца, у парадку. Праўда, мужык бабінай сястры раскулачаны, і хоць радня гэта далёкая і Васіль ніколі не бачыў таго чалавека, аднак трохі трывожыўся.

Райкам камсамола ў адным з будынкаў старой школы. Хмурным снежаньскім ранкам некалькі школьнікаў — і Васіль у іх ліку — выклікалі на бюро.

Страхі, згрызоты аказаліся дарэмнымі. У Васіля спыталі толькі, як вучыцца, і калі ён расказаў, узнагароджаны ў канцы лета медалём «За трудовую доблесть», брыгадзір трактарнай брыгады Рыбак — ён разам з іншымі актывістамі засядаў у райкаме — унёс прапанову — прыняць!

За гэтую прапанову прагаласавалі астатнія райкамаўцы.

Дамоў Васіль вяртаўся радасны і горды.

Між тым наступіў Новы год.

Дзень звычайны, хмурнаваты. Сыпле сняжок, вялікага марозу няма.

«Паўлінку» ставяць у школьным клубе — яго абсталявалі ў выступе будынка, які па фасаду навісае над уваходнымі дзвярамі. Знялі сцяну паміж класам і настаўніцкай, і атрымалася досыць прасторнае памяшканне. Выступ абвяваецца вятрамі, памяшканне халаднаватае — Васіль зіму прадрыжаў у ім, калі вучыўся ў пятым класе. Для клуба яно падыходзіць. Нават сцэна ёсць — невялікае ўзвышэнне, аддзеленае ад залы паркалёвай заслонай.

П’еса ідзе нядрэнна. Дзесяцікласнікі папрыклейвалі вусы, бароды, але ўсё адно артысты знаёмыя: Мікола Райдун, Ізя Цукерман, Сцяпан Бронька, Валодзя Бажок і яшчэ некалькі хлопцаў і дзяўчат.

Васілю трохі лягчэй стала, калі па ходу дзеяння ў тых месцах, дзе трэба цалавацца, Надзя толькі выгляд рабіла, што цалуецца. Нават не датыкалася да мокрых Лізюковых губ.

І Сцяпан ніштавата іграе — не горш астатніх. Трымаецца смела. А калі пісклявым голасам заспяваў: «Плаваён галэмбі, лётаён лабэндзі, з нашэго кохання пэўне ніц не бэндзе»,— зал надарыў Сцяпана гучнымі апладысментамі.

На сцэну ўвесь струнны аркестр пасадзілі. Скокі, спевы, прадугледжаныя ў п'есе, найбольш удаліся. Гэта ў школе ўмеюць.

Пасля пастаноўкі — навагодні бал. Крэслы вынеслі ў калідор, у клубе пачаліся танцы.

Яшчэ калі ішла п'еса, Васіль заўважыў у зале чарнявага лейтэнанта. Цяпер, прыгледзеўшыся, пазнаў яго. Гэта Іван Дмухавец — адзін з тых, хто першы закончыў местачковую дзесяцігодку. Два з палавінай гады назад адбыўся першы выпуск, і вось Дмухавец ужо лейтэнант. Яго шырокія плечы шчыльна аблягае зялёная перацягнутая партупеяй гімнасцёрка з двума кубікамі ў пятліцах. На лейтэнанце, здаецца, усё блішчыць: рамяні, гузікі, наглянцаваныя боты і нават радасныя, павільгатнелыя ад узбуджанасці вочы лейтэнанта таксама блішчаць.

Надзя адчувае сябе каралевай вечара. Адразу пераапранулася: на ёй цяпер цёмная сукенка з белым каўнерыкам, на нагах — бліскучыя туфлі-лодачкі, валасы павязаны сіняй хусцінкай.

На Васіля Надзя нават не зірнула. Яе раз за разам запрашае танцаваць лейтэнант, і яна ахвотна ідзе. Васіль раптам успомніў: Іван Дмухавец таксама ўдзельнічаў у п'есе. Першы выпуск дзесяцігодкі ставіў «Любоў Яравую» — пра грамадзянскую вайну — і Іван іграў у ёй ролю паручніка Яравога.

Гэтак жа ахвотна танцуе лейтэнант з маладой настаўніцай-біялагічкай, той, якая сказала, што Васіль падобен на Ясеніна і на кватэру запрашала. Біялагічка проста есць вачамі лейтэнанта. Адразу расцвіла, пажвавела, носіцца ў чарадзе дзесяцікласніц, і яе ад іх нават не адрозніш.

Настрой у Васіля сапсаваўся. У п'есах ён не ўдзельнічае, не валодае такімі талентамі. І лейтэнантам не хутка будзе. Няхай! Ён сваё яшчэ пакажа...

Васіль непрыкметна выбраўся з клуба, у вестыбюлі хуценька апрануўся, выскачыў на вуліцу. Жанчыны здрадлівыя, думае ён, поўнячыся зласлівымі, помслівымі пачуццямі да Надзі і настаўніцы-біялагічкі. Зрэшты, да настаўніцы яму справы няма, няхай скача з кім хоча. Крыўдна за Надзю. Яна першая яго пацалавала, калі ноччу праводзілі ў лесе ваенную гульню. Цяпер робіць выгляд, што нічога не было.

Што ж, Надзя яго яшчэ не ведае. Ён таксама ўмее быць зацятым. Не кіне ў яе бок ніводнага прыязнага позірку. Не загаворыць, не падыдзе на перапынку. Яна лічыць сябе вышэйшай — вучыцца ў дзявятым класе, іграе ў п'есах. Няхай лічыць!..

Па мястэчку не відаць, што яно святкуе Новы год. У вокнах блішчаць звычайныя агеньчыкі, у некаторых наогул цёмна — гаспадары ляглі спаць.

Старэйшыя людзі, у тым ліку Васілёвы бацькі, адзначаюць Новы год па царкоўнаму звычаю. Іхні Новы год наступіць праз два тыдні. Заколюць кабанчыка, будзе кілбаса, крывянка. На куццю — посную і скаромную — прыйдзе ў хату вялікая раскоша: маці нарыхтуе безліч страў.

## IX

Дні бягуць — напружаныя, чымсьці падобныя адзін на другі, але радасныя. З радасцю Васіль перагортвае старонкі падручнікаў, рашае задачы, паглыбляецца ў новы, незнаёмы матэрыял. У параўнанні з аднакласнікамі ён узваліў на сябе ў тры разы цяжэйшую ношку, але стомленасці не адчувае. Ён сам бачыць, як імкліва прасоўваецца наперад, і можа, таму з радасцю сустракае кожны новы дзень.

Да Івана Васіль ходзіць штодня. Мінае базы, дрывяны склад, ідзе чыгуначнымі пуцямі, зварочваючы затым на Варашылаўскую вуліцу. Гуляюць вятры, заносячы снежнымі гурбамі рэйкі, стрэлкі — іх чысцяць рамонтнікі і сезоннікі. Адзін раз нават спецыяльны поезд прысылалі вызваліць ад

снежных заносаў каляю. Дыхнуў на дзень-два паўднёвы вецер — снягі аселі; зноў цісакануў марозік — дарогі пакрыліся слізкаю наледдзю.

На станцыі як заўсёды: прыбываюць, адбываюць цягнікі, на пуцях дымяць кучы жужалю, іх рамонтнікі зносяць і скідаюць у адхон. Вялікія завалы ўтварыліся за той час, пакуль Васіль вандруе да Івана. Узбоч станцыі цэлыя шлакавыя горы. Летам жужаль вывезуць.

У раскідзістых галінах станцыйных таполяў спяваюць вятры. Васілю здаецца, што таполі журацца, чакаючы вясны і сонца.

Калі Васіль ідзе чыгуначнымі пуцямі, яму заўсёды добра думаецца. Гэтак жа як у лесе. Лес калыша, пястуе мары, хісткія і няпэўныя, чыгунка як бы выкіроўвае іх у больш канкрэтную каляіну. Наперад, наперад, за асмужаны лес, дзе ляжаць новыя далі, шумныя гарады! Там Васілёва месца... Але ўсё адно ён не можа ўявіць, што ўжо гэтым летам пакіне роднае мястэчка, паехаўшы разам з хлопцамі ў той зваблівы край, які завецца горадам, інстытутам, ваенным вучылішчам.

Цягнікі фактычна прымае і адпраўляе бацька. На заходнім і ўсходнім ускраі станцыі стаяць на высокіх драўляных палях будкі, у якіх дзяжураць стрэлачнікі. Бацькава будка — усходняя. З незапамятных часоў Васіль хадзіў туды, носячы бацьку абед, бо стрэлачнікі заступаюць на дзяжурства на дванаццаць гадзін і адлучацца са службы ім нельга. Цяпер абед бацьку носяць меншыя браты.

На станцыі ўведзена аўтаблакіроўка. У бацькавай будцы стаіць вялікі апарат з некалькімі рычагамі. Зазвініць тэлефон, бацька падыме трубку: «Слухаю, таварыш дзяжурны...» Дзяжурны па станцыі аддасць каманду. Затрашчыць вочка, размешчанае над рычагом, ад яго адваліцца, павісне на пружынцы накрыўка. Бацька, падымаючы рычаг, адкрывае семафор ці пераводзіць стрэлку.

Зноў дакладвае дзяжурнаму...

Няўжо сапраўды праз колькі там месяцаў настане часіна, калі бацька перавядзе стрэлку, і цягнік памчыць Васіля ў таямнічы нязведаны край?.. Карціны такой Васіль ніяк не

можа ўявіць. Штосьці замінае. Што — ён не ведае сам, і ад гэтага трывожна.

Васілю шанцуе: за школьным хлявом, сярод выкінутых з кладоўкі расплюшчаных палавінак глобусаў, абломкаў лыж, розных скрынак, бутэлек, знаходзіць дзве прыстойныя лыжы. Абедзве на правую нагу, але бяда невялікая.

Васіль трохі падрамантаваў лыжы, прыбіў раменьчыкі, нацёр воскам, выразаў палкі. На палкі трэба кружочкі, але можна і без іх абысціся.

Пададзеўшы пад пінжачок цяплейшую сарочку, Васіль выязджае на поле. Калі разгонішся, набегаешся, лішняй вопраткі не трэба. Цела аж гарыць.

Добра ў полі. Снежны покрыў трымае надзейна, лыжы самі бягуць. Наперадзе — аж да лесу — сінявата-белая роўнядзь, на якой сям-там цямнеюць кусты.

Васіль кіруе да лесу. Хоча наведаць мясціны, дзе летам збіраў грыбы. Можа, не прыйдзецца болей павандраваць па верасах.

Хвілін дваццаць бегу, і ён у лесе. Маўклівыя, засяроджаныя стаяць хвоі, бярозы, асіны. Пануе зацятая цішыня. Між дрэў ісці цяжэй, лыжы правальваюцца, і Васіль выбірае прагаліны.

Вось нарэшце маладыя сасннякі, схаваныя пад снежнай пасцеллю верасы, па якіх ён блукаў летам. Воблік, настрой мясцін настолькі змяніўся, што Васіль не пазнае іх.

Ён доўга блукае па занесеных снегам палянах. Далекавата ад'ехаў ад мястэчка — кіламетраў за шэсць. Уражанне такое, што, акрамя маўклівых хваін, бярэзін, якія нібы журацца ў снезе, белай роўнядзі, хмурнага неба, нічога больш на свеце няма.

Настрой зямлі, лесу залежыць ад колеру. Летам лес быў зялёны, восенню залацістымі барвамі свяціліся бярозы, асіны, клёны, ружова-сінім полымем цвілі верасы. Усё гэта колеры жыцця. Але і ў зімнім лесе яны не згаслі канчаткова: зелянее хвоя, сінечай адлівае снег, сінія паўтоны пануюць у наваколлі. Сігналы недалёкай вясны.

Перад тым як легчы спаць, Васіль з гадзіну чытае «Жана Крыстофа». Іменна гэтую кнігу захацелася перачытаць — пра музыку, уражлівую чалавечую душу і пра тое яшчэ, як зацята,

настойліва можа дамагацца чалавек мэты. Мэта, адна яна, надае сэнс жыццю. Іначай і жыць не варта...

Вяртаючыся ад Івана, сінім зімовым прыцемкам Васіль твар у твар сутыкаецца з Надзяй. Яна якраз вынырнула з буфета — трымае пад пахай боханчык хлеба, штосьці загорнутае ў паперу — і адразу — не паспеў вывернуцца — зачэплівае Васіля.

— Чаму ты такі?

— Які?

— Не вітаешся, адварочваешся.

— Проста я цябе не бачу.

— З твару цёмны стаў, толькі нос тырчыць. Можа, захварэў?

— Не захварэў...

Яны ідуць пуцямі, мільгаюць бляклыя агенькі стрэлак, цёмнай сцяной цягнуцца на дрывяным складзе штабялі дроў.

— Лізюк — проста агідны,— Надзя рашуча мяняе кірунак гаворкі.— Мне білет у кіно купіў. На апошні сеанс...

Васіль узрадаваны, узрушаны, але стараецца вытрымліваць характар.

— Чаму не пайшла?

— Пайду я з ім! Усім білеты купляе. З Верай Машчынскай круціць.

— Вы любіце такіх, хто ўмее круціць.

Надзя нават спынілася, абражаная.

— Не гавары глупства! Нічога ты не разумееш. Асабліва ў дзяўчатах. Зашыўся ў свае кніжкі.

— Зашыўся! — Васіль гаворыць як бы нават з выклікам.— Думаеш, так проста сяджу? Хутка пачуеш...

— Што пачую? — Надзя аж гарыць ад цікаўнасці.— Ты стаў у газеты пісаць. Можа, сваю кніжку пішаш?

Васіль спахапіўся. Лішне язык развязваць не варта. Нават перад Надзяй.

— Ёсць розныя справы,— няпэўна адказвае ён.— У газету напісаць не проста.

— Вы ўсе наперагонкі пішаце. Рады, што прозвішча надрукавана.

Развіталіся па-таварыску. Надзя ўсё-такі малайчына. У Васіля прыемна ные ў грудзях. Нічога асаблівага не сказала ні Надзя, ні ён, але жыць стала весялей.

Пахваляцца аднак нельга. Нядаўна на ўроку Васіль таксама ледзь не прагаварыўся. Рашалі цяжкую задачу па геаметрыі, яна не выходзіла. Прымяніўшы трыганаметрычную формулу, Васіль задачу рашыў, зверыў вынік з адказам, змешчаным у канцы падручніка. Рашэнне правільнае! Ён ледзь не падняў руку, але своечасова стрымаўся. Цікаўны Давыд і так зазіраў у сшытак, у якім раптам замільгалі невядомыя знакі — тангенсы, катангенсы. Трыганаметрыі ў восьмым класе не вучаць, і Давыд нічога не зразумеў. Антаніна Хвядосаўна зразумела б, яе не абвядзеш...

У «Плодагародніне» непрыемнасць. Загадчык базы Хурсік — чорны, негаваркі, нелюдзімы — карыстаючыся тым, што цана на бульбу вырасла да трыццаці рублёў за пуд, нагрузіў паўтаратонку, павёз у горад на базар. Міліцыя хапіла за руку — накладной на бульбу не было. Хурсіка арыштавалі, ідзе следства.

Прыціхшыя, як бы прыніжаныя, шчоўкаюць на лічыльніках бухгалтары і рахункаводы. Дрэнна, выходзіць, падбівалі балансы, калі бульбу з базы можна вывозіць машынамі.

Васіль стараецца не зварачаць увагі на цёмныя, нават незразумелыя праявы жыцця. У хаце паміж бацькам і маці часта ўсчынаюцца сваркі — на грунце няхваткі, дарагавізны. Васіль не ўмешваецца, прапускае міма вушэй, наўмысна адварочваецца.

Захварэла меншая сястрычка, якая ледзь-ледзь навучылася хадзіць. Бацька з маці возяць яе ў горад у чыгуначную бальніцу. Кожнага тыдня возяць. Васіль застаецца за старшага ў хаце. Варыць меншым братам бульбу, доіць карову. Шкада сястрычкі. Каб хоць папраўлілася.

А дні бягуць. Сакавік на дварэ. Сама гуляюць вятры, мяцеліцы. На вуліцы, пад парканамі, хлявамі вялізныя гурбы.

Нарэшце сталася тое, за што Васіль так зацята змагаўся. Па матэматыцы, а таксама па фізіцы, хіміі дагнаў дзесяцікласнікаў. Будзе цяпер рашаць задачы, вучыць урокі разам з Іванам.

Іван і цяпер скептычна глядзіць на Васілёвы заняткі.

— За дзясяты экзамены не прымуць. Можа, за дзявяты. Але нічога, карысць будзе.

Дапамагае Іван шчыра. Матэматыкай Васіль авалодаў дзякуючы яму.

Цяпер трэба падагнаць астатнія прадметы. Кніжкі ёсць. Прыслаў Грыша Лапата — ён пасля сёмага класа паехаў у Мінск, вучыцца ў гандлёвым тэхнікуме. У Грышы ў Мінску бацька — жыве з другой сям'ёй. Харошы таварыш Грыша — паклапаціўся, знайшоў падручнікі, якія ў мястэчку проста немагчыма дастаць.

У пачатку апошняй чвэрці трэба падаваць заяву дырэктару. Кожны новы дзень набліжае гэты тэрмін.

## X

На свеце неспакойна. З восені вайну супраць Грэцыі вяла Італія, перамогі не дамаглася, Мусаліні нават уцякаць стаў. Цяпер на грэкаў рынуў з танкамі Гітлер. І не толькі на грэкаў. Праз дзень пасля таго, як Савецкі Саюз падпісаў дагавор аб дружбе і ненападзе з Югаславіяй, фашысты на Югаславію напалі. Творыцца штосьці незразумелае.

— Гітлер з намі не лічыцца,— заяўляе Іван.

— Чаму не лічыцца?

— У нас з Югаславіяй дагавор аб дружбе, а ён нападае. Хіба не зразумела?

— У Югаславіі рэвалюцыя. Ранейшы ўрад далучыўся да Берлінскага пакта. Гітлер душыць рэвалюцыю.

— Нам хіба ўсё роўна, каго ён душыць? Югаславы — славянскі народ.

— Пачакай, дадуць па зубах Гітлеру.

Па чыгунцы, у напрамку на Брэст, імчаць цягнікі з танкамі, артылерыяй, баявой тэхнікай. З пачаткам вясны такіх цягнікоў стала нават больш. Умацоўваюць нашу граніцу.

Гісторыю, асновы дарвінізму, іншыя прадметы Васіль падагнаў. Сярэдняя школа нібы ляжыць на далонях. Хоць і страшнавата ад гэтага. Процьма матэрыялу. Некаторыя раздзелы, асабліва па гісторыі, геалогіі і мінералогіі, астраноміі Васіль толькі прачытаў, замацаваць як след не паспеў. Галоўнае — як

будуць прымаць экзамены? Калі дадуць на прадмет хоць па два дні, то экзамены ён вытрымае.

З нерашучасцю, трывогай, якая не сціхае ў душы, аднёс Васіль заяву дырэктару.

У настаўніцкай — перапалох. Дырэктар адразу стаў званіць па тэлефоне. Настаўнікі, якія прыходзяць на ўрокі, глядзяць на Васіля здзіўленымі вачамі.

Дні праз два пасля ўрокаў — яшчэ светла, ужо красавік наступіў — дырэктар выклікае Васіля да сябе ў кабінет.

— Вось што, малады чалавек. Вы ўвогуле малайчына. Але спяшацца не трэба. Навука не любіць паспешлівасці. Ды вам жа толькі шаснаццаць гадоў. У інстытут усё адно не прымуць.

Васіль зніякавеў.

— Значыць, дарэмна рыхтаваўся?

— Чаму дарэмна? Усялякая работа, асабліва старанная, павінна заахвочвацца. Думаю, абласны аддзел народнай асветы дазволіць прыняць экзамены за дзявяты клас. Мы туды напісалі афіцыйны запрос. Райана такое пытанне вырашыць не можа.

У Васіля адлягло ад сэрца. Можа, і добра, што выходзіць іменна так. Іван папярэджваў.

— Яшчэ хачу паведаміць.— Дырэктар размаўляе ветліва, шчыра — нібы ўгаворвае.— Мы вас хочам выпусціць з атэстатам выдатніка. Паступіце ў інстытут без экзаменаў, палучыце стыпендыю. Цяпер такога атэстата не атрымаеце. Па некаторых прадметах вы, мабыць, зусім не рыхтаваліся. Напрыклад, па чарчэнню?

— Не рыхтаваўся,— прызнаецца Васіль.

— Вось бачыце. Навошта спяшацца? У дзясятым агледзіцеся, лепш усвоіце матэрыял. Грунт ёсць. Не раю і гаварыць, што рыхтаваліся за дзясяты. Будуць лічыць другагоднікам.

Васіль згодзен. З удзячнасцю глядзіць на дырэктара. Довады яго разумныя, пераканаўчыя. Толькі дзіўнае адчуванне: Васіль не можа ўявіць сябе дзесяцікласнікам. Здаецца, усё проста: хлопцы паедуць, ён астанецца ў мястэчку, але ўявіць такога не можа.

Экзамены прымаюць праз тры дні.

Фактычна экзаменаў няма. Настаўнікі, якія выкладаюць у дзявятым класе, выклікаюць Васіля і вядуць гаворку кожны па сваім прадмеце. Першымі экзаменуюць Антаніна Хвядосаўна — па матэматыцы — і дырэктар — па асновах дарвінізму. Васілёвы веды дырэктарам, яго жонкай прызнаны, відаць, грунтоўнымі, бо астатнія настаўнікі наогул доўга не апытваюць. Прыкрасць выйшла толькі з фізікам, з тым самым маладым настаўнікам, які з-за стыпендыі пакінуў інстытут. Не, матэрыял па фізіцы за дзявяты клас Васіль ведае, адказваў як трэба. А за восьмы законы Кеплера недавучыў, заблытаўся. Непрыемна.

Праз тыдзень Васіля пераводзяць у дзявяты. Наперадзе яшчэ больш месяца заняткаў. Затым экзамены....

Дні радасныя, як бы напоўненыя зіхатлівым бляскам.

У дзявяты клас Антаніна Хвядосаўна прывяла Васіля, ідучы на першы ўрок. Усе ўсталі. Выходзіць, і Васілю аддалі чэсць.

— Сядай,— Антаніна Хвядосаўна паказала на вольнае месца.— Зараз будзе кантрольная работа.

Васіль садзіцца побач з Петраўцом, сынам загадчыка райана, таксама актыўным селькарам. На новага дзевяцікласніка ўсе азіраюцца. Глядзяць з дапытлівай цікаўнасцю. Адна Надзя Мядзёлка не глядзіць. Васіль заўважыў, як густа яна пачырванела, як толькі ён зайшоў у клас.

Задачы Антаніна Хвядосаўна дала да смешнага лёгкія. Васіль адразу парашаў іх, перапісаў на чысты лісток. Сусед Петравец тым часам пасапвае, торкае Васіля ў бок. Кожнаму раду дадзены свае задачы, і сусед зашыўся. У яго не выходзіць нават першы прыклад. Васіль рашыў Петраўцовы задачы, непрыкметна перадаўшы яму лісток.

Празвінеў званок на перапынак — на кантрольную адведзена два ўрокі,— ніхто не падымае галавы ад парты, а Васіль ужо кладзе лісткі на стол перад настаўніцай. Яна прабягае вачамі рашэнне, усміхаецца, кіўком галавы паказвае — Васіль можа быць вольны.

Выходзячы з класа, Васіль зноў заўважае, як зноў густа пачырванела Надзя Мядзёлка.

У гэты дзень было яшчэ сачыненне па рускай літаратуры, Васіля выклікала настаўніца нямецкай мовы. Поспех быў поўны — па ўсіх трох прадметах «выдатна». Васіль пажынаў славу.

Славы яшчэ прыбавілася, калі ў раённай газеце за подпісам Петраўца — ён малайчына, Васілёвай паслугі па кантрольнай алгебры не забыў — паявілася заметка «За адзін год — два класы». Нават дзядзька Сымон, матчын брат і хросны Васілёў бацька — ён жыве ў вёсцы Бабуры, за дванаццаць вёрст — спецыяльна прыехаў павіншаваць пляменніка і прывёз мех бульбы.

Хлопцы — Іван, Сцяпан — таксама задаволены. Усе ведаюць: яны памагалі Васілю, надзейна трымалі тайну — і частка Васілёвага поспеху як бы прыпадае на іх.

Васіля нават карэспандэнт мінскай газеты сфатаграфаваў. Сягнуць вышэй, чым сягнуў Васіль, заслужыць большую славу было проста немагчыма!..

Пачыналі зелянець кволым далікатным лісцем разложыстыя станцыйныя таполі, расцвіталі сады, жыватворнымі сокамі поўнілася, востра пахла зямля. Першая трава, першы цёплы дождж, які змыў з зямлі непатрэбны зімовы друз, белыя воблакі на бязмежным сінім небе, птушкі, што вярнуліся з далёкага выраю і зноў шчабяталі і спявалі — усё-ўсё, здаецца, абяцала спакой, задавальненне, здзяйсненне самых высокіх надзей. Дамагайся, не шкадуй сілы, ідзі наперад — твае сяганні будуць заўважаны, ацэнены. Свет такі шырокі, бязмежны, жыццё дае столькі магчымасцей паказаць здольнасці, быць карысным людзям!

І ўсё-такі нейкая трывога не-не дый закрадваецца ў Васілёву душу. Адкуль яна, у чым прычына?

З далёкага волжскага горада, з лётнага вучылішча прыслаў ліст Мікалай Сянчук: пачаў лятаць з інструктарам. Мікалай ужо ўбачыў сваё неба. Васілю чакаць яшчэ цэлы год.

Штосьці дзіўнае творыцца з Надзяй Мядзёлкай. Калі яе выклікаюць да дошкі, чырванее, запінаецца, адказвае няўпэўнена. Звычайна шустрая, гаваркая, вогненна-вясёлая, з таго часу, як Васіль прыйшоў у дзявяты клас, стала маўклівай, задуменнай.

Зрэшты, адносіны з Надзяй Васіль высветліў. Пасля ўрокаў дагнаў яе — ішла адна — пайшоў поруч.

— Не злуйся,— прымірэнча сказаў ён.— Я нікому пра дзявяты клас не гаварыў. Табе адной намякнуў.

— Калі намякнуў?

— Помніш, ішлі са станцыі. Яшчэ зімой.

— Ты эгаіст,— Надзін голас трохі пацяплеў.— Думаеш толькі пра сябе.

— Я хацеў цябе дагнаць,— сказаў Васіль.— Табе ж столькі гадоў, як мне.

— Не віляй хвастом. Хацеў здаваць і за дзясяты. Не пусцілі. Правільна зрабілі. Нахапаў бы троек. Выскачка...

Экзамены наступілі. Здае іх Васіль у лагодным, ціхамірным настроі. Не рвецца, не напінаецца. Час штурмаў для яго ззаду. Зусім нечакана атрымлівае «добра» па прадметах, якія ведае найлепш — па рускай, нямецкай мовах. Няхай! Будзе яшчэ дзясяты клас. Павінен быць.

Зелянінай наўсцяж убралася зямля, ідуць дажджы, веюць цёплыя вятры. Сцяпан з Іванам атрымаюць атэстаты выдатнікаў. Могуць без экзаменаў паступаць у інстытуты. Аднак пойдуць у артылерыйскае вучылішча. Так рашылі.

Васіль яшчэ не ведае, куды паступіць. У яго наперадзе цэлы год.

Школа платы за дзявяты клас не ўзяла. Бацька пастараўся — выстаяў ноч у чарзе і купіў Васілю касцюм. Тое, што сарвалася восенню, Васіль атрымаў вясной. Касцюм выдатны: шарсцяны, светла-шэры і якраз па фігуры.

Дырэктар не забыў, што Васіль разам з сябрамі мог закончыць дзесяцігодку. Заклікаўшы ў кабінет, прапанаваў яму выступіць на выпускным вечары, пажадаць дзесяцікласнікам шчаслівай дарогі.

Васіль выступіў і пажадаў. Яго прамова — урачыстая, звонкая — заслужыла дружныя воплескі.

І на другой, неафіцыйнай частцы вечара Васіль мог астацца. Аднак не згадзіўся. У дзевяцікласнікаў таксама складчына. На Варашылаўскай вуліцы, у суседнім з Іванавай хатай доме намечана баляванне, і Васілёва месца там.

Вечар цудоўны. На складчыне настаўнікаў няма — вольная воля — і весялосць, можа, нават большая, чым у дзесяцікласнікаў. Зрэшты, дзевяцікласнікі таксама дарослыя.

Захмялеўшы, Васіль і танцаваць адважыўся. Запрашае ў круг адну дзяўчыну, другую. Надзя Мядзёлка сядзіць нахмураная. Забыла Надзя, як на навагоднім вечары танцавала з лейтэнантам і ў Васілёў бок нават не паглядала. Крыўдзіць дзяўчыну Васіль аднак не хоча. Падыходзіць да яе.

— Выйдзем,— напаўголасу гаворыць Надзя.— Тут горача...

Ужо ноч плыве над зямлёю. Ціхая, зорная, цёплая. Толькі чуваць, як на станцыі пыхкае манеўровы паравоз. Васіль прыхінае Надзю да сябе, і яна не бароніцца. Ён адчувае сваімі грудзьмі яе падатлівыя грудзі, усю яе гнуткую, гарачую, моцную.

— Давай сядзем,— просіць Васіль, не могучы саўладаць з пачуццямі.

Яны знаходзяць лавачку і садзяцца. Над іх галовамі навісь галін, ледзь чутны шэпт лісця.

Васіль зноў прыхінае Надзю да сябе і цалуе ў губы. Губы ў яе салёныя, сухія.

— Што будзем рабіць у дзясятым? — нібы птушка, усклікнуўшы, пытае Надзя.

— Цалавацца.

— Нельга ж...

— Маўчы...

— Зноў нешта выдумаеш. Паедзеш...

— Не паеду...

Праз хвіліну допыт вядзе Васіль.

— У лесе мяне наўмысна пацалавала?

— Не цалавала я цябе.

— Дык што то было?

— Табе здалося...

Надзя ціхенька — нібы ручэй звініць — смяецца.

Ад пацалункаў у Васіля апухлі губы, кружыцца галава. Ніколі не было такой дзіўнай ночы.

— Я люблю цябе,— гаворыць ён Надзі.— Толькі баюся — вельмі ты свавольная. Помніш, як танцавала з лейтэнантам?

— Не трэба мне лейтэнант. Няўжо нічога не бачыў?

— Бачыў...

— Я цябе з шостага класа прыкмеціла. Ходзіць цыбаты хлапчучок, твар харошы, у лесе нічога не баіцца...

Шчасце поўнае. Што болей трэба для поўнага шчасця?

Разышліся з Надзяй на світанні.

Васіль мог паспаць, але хіба пасля ўсяго, што здарылася, заснеш? Нядзеля, можна пагуляць, потым пачытаць. Першы дзень, вольны ад заняткаў, клопатаў. Зняўшы новы касцюм, паснедаўшы, Васіль ідзе ў лес. Чамусьці яму здаецца, што за Раманавай будкай, дзе стаяла Надзіна хата, ён стрэне яе самую.

Жыта высокае стаіць, сама красуе. Каласкі бухматыя, ахутаныя кволай пушыстай мярэжай. Перагукваюцца ў жыце перапёлкі. Вунь — ідуць, вунь — ідуць... Па пыльным шляху, які ляжыць па той бок чыгункі, цягнуцца фурманкі.

Лета ўбіраецца ў сілу. У лагчынах трава аж буяе. Сонца высока паднялося, у траве скачуць, трашчаць на тысячу ладоў конікі.

Вось і дубы. Надзі аднак няма. Не здагадалася прыйсці. У Васілёву душу паціху закрадваецца трывога. Яна часта ў апошні год закрадваецца.

Лісце на дубах далікатнае, яго празрыстая зелень нібы прасвечвае наскрозь. Ціха, цёпла, добра.

Васіль паволі крочыць дамоў. Ахутаны пылам, праносіцца па чыгунцы брэсцкі цягнік. Апошні вагон моцна пагойдваецца. Дванаццаць гадзін, думае Васіль. Брэсцкі заўсёды прыходзіць у дванаццаць...

Па вулачцы, што выходзіць у поле, скача коннік. Выгляд у яго незвычайны: твар узмакрэлы, валасы распатланыя, сарочка расхрыстаная.

Васіль нарэшце пазнае ў ім брыгадзіра трактарнай брыгады Рыбака, якога летась узнагародзілі медалём і ўрачыста сустракалі на станцыі.

— Вайна! — крычыць брыгадзір Васілю.— Гітлер напаў. Трактарыстаў трэба сабраць...

*1975*

# ЗАМЯЦЬ ЖАЎТАЛІСЦЯ

Едучы ў педінстытут, у надпрыпяцкі горад, дзе жыў і працаваў, калі быў малады, Высоцкі лічыў, што адпачне. Прачытаць за месяц спецкурс на трыццаць гадзін — не надта вялікая цяжкасць для яго, спакушанага ў такім чытанні за доўгія гады выкладчыцкай работы.

Зрэшты, ён мог дазволіць сабе адпачыць пасля корпання ў бібліятэках, архівах, праўкі карэктур, розных патрэбных і непатрэбных пасяджэнняў, нарад, вучоных і рэдакцыйных саветаў, што аднімалі тыдзень за тыднем і месяц за месяцам. Ён любіў ездзіць, але паездкі ў яго жыцці былі не частыя — адна, дзве на год,— і ён мог іх пералічыць на пальцах. Найбольш было будзённай аднастайнасці: на факультэт ці ў бібліятэку хадзіў адной і той жа вуліцай, бачыў знаёмыя будынкі, дрэвы, сустракаў добра знаёмых людзей, і пачынаючы з позняй восені, калі ў лесе канчаюцца грыбы, настройваўся на хвалю трызненняў пра новае лета, калі хоць на дзень можна выскачыць з горада ў лес і павандраваць з кошыкам на прыволлі.

У чалавеку жыве патрэба сутыкнуцца з простым, першародным, што ідзе ад зямлі, вады, травы, хмар на небе, ветру, які абвявае твар, дажджу, які да ніткі прамочыць вопратку. Такімі вось вандроўкамі Высоцкі лячыўся ад аднастайнасці сваіх заняткаў.

Ён ехаў у горад, дзе прайшла маладосць, і ціха шчымела пад сэрцам. З тых далёкіх дзён, калі ён выбраўся адтуль назаўсёды, ён быў там два ці тры разы, але похапкам, нават не пераначаваўшы, дый было тое даўно, гадоў дзесяць ці дванаццаць назад.

Цягнік імчыць з поўначы на поўдзень, з краю ўзгоркаў, курганоў, асмужаных пералескаў на вялікую раўніну, дзе лясы большыя, дзе цячэ спакойная Прыпяць, хмурай елкі амаль не ўбачыш, затое натрапіш яшчэ на дубовыя гаі, што стаяць у дваццатым веку нібы сведкі сівой мінуўшчыны.

Вераснёвы час, паспелі яблыкі, грушы, слівы, іх мядзвяны пах пранікае, здаецца, нават у вагон, які праносіцца міма станцыйных пасёлкаў, наўсцяж засаджаных садамі. На полі

камбайны дакошваюць апошнія палеглыя аўсы, лубін. Ужо і бульбу жанчыны ў многіх мясцінах капаюць.

Сонца вісіць даволі нізка, яго перадвячэрняе святло часам кранае макушы таполяў, клёнаў, і тады ў іх зеляніне на імгненне ўспыхваюць залатыя бляскі. Іржышча амаль усюды пераарана, над полем, прабуючы моц крылляў перад адлётам у вырай, носяцца чародкі шпакоў. На станцыях, дзе ёсць прыпынак цягніка, кабеты ў доўгіх вясковых спадніцах прадаюць буйныя антонаўкі і чырванабокія штрыфелі, выдыбаюць абыякавыя аглядчыкі вагонаў у зашмальцаваных вопратках з малаткамі ў руках, зморана крочаць на спачын пуцейцы ў вогненна-жоўтых жылетках, на пероне мітусяцца дзяўчаткі ў штанах, басаножках на тоўстых абцасіках — мода з гарадоў рушыла ў правінцыю.

То ў адным, то ў другім месцы выныраюць, напорна сягаючы праз палі і лясы, выстраеныя ў прамую лінію чароды вялізных цэментавых слупоў, што трымаюць на сабе драты высакавольтных перадач.

Высоцкі не адыходзячы глядзіць у акно. Калі не часта ездзіш, то нават звычайныя, не раз бачаныя малюнкі хвалююць і ўражваюць. Пакрысе пачынае цямнець, у вокнах далёкіх вясковых хат замільгалі агеньчыкі. Сям-там на полі гараць кастры, вакол іх відаць цёмныя фігуркі. Свецячы фарамі, калдыбаюцца па прасёлкавых дарогах аўтамашыны, грузавікі з поўнымі кузавамі бульбы стаяць перад шлагбаумамі.

Калі Высоцкі нарэшце адарваўся ад акна, намерваючыся пасядзець у купэ, то адразу спаткаўся позіркам з сівавалосым, модна апранутым чалавекам, што стаіць пры суседнім акне. Чалавек уважліва, нават неяк бесцырымонна яго разглядае, і праз хвіліну, моцна накульгваючы, падыходзіць.

— Высоцкі,— пытае ён,— ты мяне не пазнаў? Я цябе спачатку таксама не пазнаў. Думаў — ты ці не ты?

Гэта быў Вайнштэйн, з якім Высоцкі пяць пасляваенных гадоў працаваў у газеце. Як толькі Вайнштэйн загаварыў, ён яго адразу пазнаў — нельга было не пазнаць мітуслівага ў рухах і такога ж трапяткога ў гаворцы Мішу Вайнштэйна, нягледзячы на тое, што ён парадкам здаў і пастарэў. На правах

старых дружбакоў яны абняліся і доўга трэслі адзін другога за плечы.

— Я пра цябе чуў,— сказаў Вайнштэйн, калі першае ўзрушэнне прайшло.— Ты ўсё там жа?

— Там жа.

— Мяне, між іншым, таксама запрашалі ў інстытут. Не пайшоў. Газетчык, мабыць, памрэ газетчыкам. Хоць газета цяпер, сам ведаеш, маленькая. У абласную не хапіла сіл перабірацца. Кідаць добрую кватэру, Прыпяць... З нашых цяпер там Маляўка і Капуста. Лейбман пайшоў на пенсію, Катляроў памёр...

— Памёр? — перапытаў Высоцкі.

— Гадоў пяць назад. Ад грудной жабы. Ты ж помніш, які ён быў тоўсты. Працаваў у маім аддзеле...

— Хто з нашых у рэдакцыі?

— Я ды Карчны. Ты яго павінен ведаць. Мільгае ва ўсіх газетах. Мы цяпер на вышыні — такая будоўля. Пісаць ёсць пра што. Вот і піша... Дубовік таксама не паехаў у абласную, той, што загадваў сельгасаддзелам. З рэдактарам не ладзіў, пайшоў на пенсію па хваробе. Цяпер даглядае сваіх пчол...

Вайнштэйн сыпаў навінамі, імёнамі, прозвішчамі, а ў вачах Высоцкага нібы паўставалі знаёмыя твары, постаці, выраз вачэй, усмешкі, манера гаварыць або які-небудзь іншы жэст, звязаны з тымі, каго Міша называў. І ён нават здзіўляўся, што гэтак добра, трывала памятае сваіх былых таварышаў па газеце, пра якіх амаль не думаў, не ўспамінаў і з якімі доўгія гады не бачыўся.

— Ведаеш, што,— Вайнштэйн нечакана загаварыў пра другое.— Мая жонка цябе хваліць. Яна чытае ў інстытуце зарубежную літаратуру. Кажа — ты свяціла. Не крыўдуй — я гартаў твае кнігі, але не дабраў смаку. Легкадумны газетчык, што ты хочаш, не магу чытаць пра рэалізмы, тыповыя характары. Агоркла, яшчэ калі вучыўся...

— І мне агоркла,— сказаў Высоцкі.

Вайнштэйн пранікліва на яго зірнуў.

— Слухай, мне здавалася, што ты напішаш другую кнігу. Ведаеш, пра што гавару. Не напісаў?

— Не напісаў.

— Гэта і ёсць няспраўджаныя мары. Я таксама думаў пра сваю кнігу. Гадоў пяць трызніў, спрабаваў нешта крамзоліць, ды дзе ты возьмешся? Пра хлеб насушчны трэба думаць. А цяпер махнуў рукой. Напішу нарыс ці фельетончык — і рад. Мясцовая славутасць. Запрашаюць на сходы, пасяджэнні, нават на банкеты. Што хочаш магу дастаць. Не ўсміхайся, я не жартую...

Стоячы і захоплена размаўляючы ў вузкім калідоры купэйнага вагона, ля акна, за якім праносіліся цёмныя лясы, палі, мільгалі вячэрнія вёскі, яны гадзіны праз тры прыехалі на станцыю прызначэння. Ад вялікай вузлавой станцыі да горада на Прыпяці, куды дабіраюцца Высоцкі і Вайнштэйн, яшчэ кіламетраў дзесяць, туды трэба ехаць аўтобусам, які звычайна курсіруе ад раніцы да позняга вечара.

Вайнштэйн адразу і рынуў да аўтобуса, што стаяў, чакаючы пасажыраў, на прывакзальнай плошчы. А Высоцкі так паспешліва мінуць станцыю, драўляны гарадок, які ляжаў пры ёй, не мог, шмат чаго было звязана з гэтай станцыяй і гарадком. Пры першым жа спатканні з мясцінамі, у якіх прайшла маладосць, яго пачалі біць дрыжыкі ўзрушэння.

— Абяцай, што зойдзеш да мяне,— між тым тарапліва гаварыў Вайнштэйн, які паспеў купіць білет, пакласці на сядзенне партфель і выскачыць з аўтобуса, каб развітацца з Высоцкім.— Хоць я лухту вярзу — заўтра ад'язджаю. Я ж быў у БРК, выбіў пуцёўку — на поўдзень, на сіняе мора. Без мяне заходзіць да жонкі забараняю. Ты не зусім стары, а яна — прыгожая. Ты Клару Сінельнікаву не забыў? — нечакана спытаў ён, прыцішыўшы голас.— Заслужаны ўрач рэспублікі і ўсё такое іншае. Хочаш, я ёй пазваню, што ты прыехаў?..

— Не трэба,— Высоцкі стараўся гаварыць спакойна.— Я лепей з жонкай тваёй пазнаёмлюся. Буду бачыць яе кожны дзень. Я ж у інстытут еду, на цэлы месяц.

Завурчаў матор. Вайнштэйн сігануў у аўтобус, маўкліва пагразіўшы з дзвярэй кулаком.

## II

Не было ранейшай станцыі, драўлянага гарадка, як бы Высоцкі трапіў у зусім іншую дзяржаву. З былога, з таго, што ён цвёрда памятаў, асталіся толькі разложыстыя станцыйныя таполі. Пад імі незнаёмыя каменныя будынкі, новы, не падобны на ранейшы абрыс забудовы і — галоўнае — новы дух самога месца, які нібы сведчыў, што над ім пранесліся вятры вялікіх перамен.

Ранейшае памяшканне вакзала было драўлянае, доўгае, як адрына, размяшчалася ў глыбіні двара, выйшаўшы на яго ганак, агароджаны балясамі, можна было бачыць увесь абсяг пуцей, назіраць, адкуль ці куды прыбывае і ад'язджае таварны эшалон, бо другіх будынін, якія б засланялі кругагляд, паблізу не было.

Новыя станцыйныя муры, розныя чыгуначныя службы, як у вялікім горадзе, стаялі цяпер упрытык да перона, пуці застаўлены пасажырскімі вагонамі, гул таварных цягнікоў, іх гудкі,ляскат буфераў, свісткі сцэпшчыкаў, недзе збоку, за межамі пасажырскага вакзала.

Прайшоўшыся па вуліцы, Высоцкі як бы нават спалохаўся: ён быў у чужым, незнаёмым горадзе. Ад станцыі раней вяла забрукаваная буйным каменем шасейка, якая адначасна служыла вуліцай: стаялі з правага боку прысадзістыя, абшаляваныя дамкі, а то і вясковага выгляду хаціны з дварамі, палісаднікамі, агародамі, і толькі на зломе шасейкі, у тым месцы, дзе яна рабіла круты паварот, узвышалася некалькі трохпавярховых будынін, у якіх жыў чыгуначны люд. Цяпер замест шасейкі асфальт і ўсюды шматпавярховыя дамы.

Недзе на другім ці трэцім кіламетры вандравання Высоцкі заблудзіў. Узвышаліся незнаёмыя шматпавярховыя блокі, з іх акон лілося святло, яшчэ хадзілі людзі, з кінатэатра вываліла вясёлая талака, а ён не ведаў, у якім месцы горада знаходзіцца і як трапіць на прыпынак аўтобуса, які адвязе яго за Прыпяць, у суседні горад.

Распытваць дарогі ён, аднак, не стаў. Гэтага як бы не дазваляў гонар. Гарадок, які так непазнавальна змяніў свой твар, трэба было аглядаць днём, а не ноччу. Тым жа шляхам, перакладваючы з рукі ў руку чамаданчык, ён вярнуўся на

станцыю. Час быў не ранні, і ў вакзальным рэстаранчыку Высоцкі лёгка знайшоў вольны столік, заказаў трохі гарэлкі, кухаль піва, сёе-тое закусіць. Варта было адзначыць прыезд у родныя мясціны, няхай сабе і ў адзіноце.

Праз паўгадзіны, калі ў галаве злёгку зашумела, ён ужо з пэўнай доляй паблажлівай насмешлівасці глядзеў на сваю нядаўнюю ўзрушанасць. Ён думаў аб тым, што кожнаму чалавеку ўласцівы кансерватызм мыслення, і сам ён, як і ўсе людзі, мае схільнасць бачыць рэчы такімі, якімі яны запалі ў душу ў лепшыя часіны жыцця. Яму любы станцыя, гарадок, бо колькі ўсяго з імі звязана! Маладосць прайшла тут; тут на станцыі ён выскачыў з дрызіны, калі ўцякаў з ахопленага полымем Брэста, адсюль паехаў на вайну, тут злазіў з цягніка, дэмабілізаваўшыся. Ён бываў на гэтай станцыі, праводзячы Клару, калі пасля пабыўкі яна ад'язджала ў інстытут, і колькі разоў на працягу трох ці чатырох пасляваенных гадоў асочваў таварныя цягнікі, каб, кіруючыся ў дальнюю камандзіроўку, залезці ў тармазную будку.

Так думаў ён, стараючыся адагнаць непатрэбныя сантыменты, а памяць між тым падсоўвала жывыя малюнкі былога, пахі, колеры, пачутыя ці сказаныя ім самім словы. Ён да дробязей памятаў, як пасля ўцёкаў з Брэста, дапяўшы на шосты дзень вайны да гэтай станцыі, ён першым дзелам кінуўся шукаць цырульню — на верхняй губе ўжо выразна прабіваўся пушок, і ён не хацеў, каб Клара ўбачыла яго няголенага. Станцыйная цырульня і другая, што знаходзілася ў гарадку, побач з мураваным дамком банка, былі забіты чырвонаармейцамі, і ён, галодны, гадзіны тры прастаяў у чарзе дзеля таго толькі, каб насмешлівы яўрэй-цырульнік, нават не намыльваючы твару, разы са тры вэзгануў брытвай па шчоках і губе.

Праводзячы Клару вясной сорак сёмага ў інстытут, фактычна на апошнюю сесію — летам інстытут яна скончыла,— ён дзякуючы рэдакцыйнаму пасведчанню дастаў ёй білет, уладкаваў у гасцініцу — цягнік адыходзіў раніцай,— але сам уладкавацца не здолеў — мужчынскіх месц у гасцініцы не было. Ён тады схлусіў ёй, што начаваў у знаёмага, а на самай справе спаў, зашыўшыся ў стажок,— ён стаяў паблізу на нейчым панадворку, і раніцай чорнабароды дзядзька,

гаспадар стажка, біў граблямі па ялавых кавалерыйскіх ботах Высоцкага, якія высоўваліся з сена,— выганяў такім манерам няпрошанага госця са сваіх уладанняў.

Дзе тая гасцініца? Тады стаяла якраз насупроць вакзальнага памяшкання, праз шасейку, цяпер там вялікі магазін, драўлянай забудовы наогул не відаць...

Апошнім аўтобусам, які адыходзіў у гадзіну ночы, Высоцкі паехаў у суседні горад, дзе разам з даваеннай і пасляваеннай парой ён пражыў больш як шэсць гадоў, дзе размяшчаўся інстытут і дзе гэтым самым інстытутам прыезджаму выкладчыку быў забраніраваны нумар у гасцініцы.

Дзіўна: ён спаў і сніў, што ляжыць на сене, у хляве, з дзірачак у страсе прабіваюцца пасмачкі святла, да яго слыху выразна даносіўся меладычны звон — гаспадыня даіла карову. Ціха звінючы струменьчыкамі, малако білася аб бляшаныя сценкі вядра.

Яшчэ ён бачыў гняздзечка, вылепленае ластаўкамі ў падстрэшшы хлява, чуў шчэбет маладых ластавянят, ім ужо было цесна ў бацькоўскім гняздзе, але яшчэ не хапала сіл, каб адважыцца на самастойны вылет, і яны толькі раз-пораз высоўвалі цікаўныя галоўкі.

У ластавак быў абед. Іх бацькі праз кароткія, амаль роўныя прамежкі часу залятаюць у хлеў, прыносяць у дзюбках мошак, і якраз у гэты час ластавяняты пачынаюць то весела, то абурана шчабятаць.

Ён нарэшце прачнуўся, убачыў светлы, заліты сонцам пакой з двума вокнамі. У адным акне, забіўшыся між падвойных рам, торкаючыся аб шкло і не знаходзячы выйсця, гудзе чмель, праз адчыненую фортку другога даносіцца ціліўканне вераб'ёў. Высоцкі яшчэ ўчора разглядзеў, калі дабіраўся ў гасцініцу, што размешчана яна ў нечаканым месцы — адразу за новым мастом праз Прыпяць, на гарбатай вулачцы, застаўленай некалі драўлянымі, местачковага выгляду, дамкамі, што карабкаліся ўверх па касагоры. У яго нічога асаблівага з ускраіннай вулачкай не было звязана, тут, у прадмесці, ён бываў рэдка, але ўсё адно, памятаючы начную вандроўку па суседнім чыгуначным гарадку, ён баяўся, што не пазнае навакольных мясцін, таму не адразу падышоў да акна.

Пакой вуглавы, з левага акна відаць асфальт новай вуліцы, якая спускаецца да ракі, некалькі шматпавярховых будынін — яны амаль засланяюць від на Прыпяць,— а бліжэй, амаль упрытык да гасцініцы, пад самымі вокнамі,— прасторны двор нейкай пладагароднінай базы. Жанчыны на двары вышароўваюць жмакамі марской травы дубовыя бочкі, мыюць у доўгім дашчаным жолабе жаўтлявыя агуркі. На дно бочак і наверх, на агуркі, кладуць укроп, вішнёвы ліст, нейкія іншыя спецыі, якія ён не можа разглядзець. Зарослы шчэццю кульгавы дзядзька тут жа ўстаўляе вечкі, нацягвае на бочкі жалезныя абручы. Хлапчукі ладкуюць у драўляныя скрынкі яблыкі.

Высоцкі доўга стаяў пры акне, уражаны гэтым звычайным малюнкам. Яшчэ раз ён зрабіў памылку. Ён ехаў сюды з нацятымі, святочнымі пачуццямі, як бы на спатканне з маладосцю і, відаць, міжволі лічыў, што святкаваць, жыць прыўзнятымі пачуццямі павінны ўсе, хто жыве ў прырэчным, за апошнія гады, дзякуючы новабудоўлям, нават славутым горадзе. А людзі жылі звычайна. Усе доўгія гады, калі тут яго не было, салілі агуркі, ладкавалі ў скрыні яблыкі, памідоры, па цаглінцы, па блоку ўзводзілі будыніны, што засланілі цяпер ад позірку Прыпяць. Здзіўляецца ён, бо даўно тут не быў.

З другога акна від больш багаты і разнастайны, бо яно звернута на асноўную частку горада, які, нібы старажытны Рым, стаіць на сямі пагорках. Новых будынкаў шмат на ўсім бачным прасцягу, і яны робяць уражанне, бо акрамя ўласнай вышыні іх яшчэ падпірае вышыня пакатых надпрыпяцкіх гор, на седлавінах якіх яны размешчаны. Але яшчэ больш такога, што можна пазнаць, што Высоцкі добра памятае. Воблік даўняга гарадка ўсё-такі захаваўся, ён вось у гэтых яблыневых садах — яны, як і раней, займаюць усю катлавіну паміж пагоркам з белакаменнымі гмахамі і гэтым, на якім пабудавалі гасцініцу. Сады і сады, налітае густым, цемнаватым зялянівам лісце, мясцінамі кранутае асенняй чырванню і прозалаццю, шчыльнае спляценне сукаватых галін — ніжнія хіляцца долу пад цяжарам жаўтаватых антонавак і трымаюцца на рагульках-падпорах.

Высоцкі нібы чуе мядзвяны яблычны пах. Між садоў памятныя дамкі з гонтавымі ці бляшанымі дахамі, пафарбаванымі аканіцамі, маленькімі вузкімі дворыкамі.

Чмель між тым усё гудзе і б’ецца між рамамі. Высоцкі расчыняе аконныя створкі, вызваляе з палону чмяля, упусціўшы ў пакой разам з подыхам свежага паветра размаіты гул прадмесця. Дзесьці натужна раве маторам, падымаючыся ўгору па вуліцы, аўтобус, ад ракі даносяцца глухія ўдары паравога молата.

Высоцкі пагаліўся, апрануўся, прайшоўся па горадзе.

Інстытут стаіць на гары, яго белы пяціпавярховы гмах вызначаецца сярод іншых будынкаў, яго можна было ўбачыць і з акна гасцініцы. Толькі Высоцкі не ведаў, што ў ім размяшчаецца інстытут. Набярэжная вуліца, што прылягае да Прыпяці, змянілася непазнавальна. Цагляных дамкоў — на іх вышэйшыя паверхі вялі знадворныя драўляныя лесвічкі — няма зусім, знесены, ля ракі фактычна ўтварыліся дзве паралельныя вуліцы, застаўленыя сучаснымі аднастайнымі каробкамі.

Не пазнаць і цэнтральнай плошчы, і Высоцкі нават пашкадаваў, што нічога ад яе не захавалася. Раней цэнтральная плошча надавала гарадку выгляд утульнасці, спакою, правінцыяльнай непаспешлівасці. Даволі шырокая, забрукаваная буйным каменем, атуленая мураванымі дамкамі, прысадзістымі складскімі памяшканнямі, у якіх размяшчаліся магазіны і крамы, яна выходзіла да Прыпяці, нібы зліваючыся з зарэчным прасторам. Сама забудова плошчы, як і ўсяго гарадка, як бы сведчыла, што людзі, якія тут пасяліліся, высокіх сяганняў не маюць, жывуць з таго, што дае Прыпяць, лясы, палі, сенажаці — іх абсягі відаць адразу за ракой. У гарадку была металаапрацоўчая арцель — яе пазней сталі называць заводам, сапраўды старадаўні, з добрай славай піваварны завод; невялікая фанерная фабрыка, а найбольш шавецкіх і кравецкіх арцеляў, у якія аб’ядналіся яўрэі-рамеснікі.

Былі яшчэ прамысловыя рыбныя арцелі, але адразу пасля вайны рыбны промысел і гандаль заняпалі.

Цяпер горад, які акружыў цэнтральную плошчу высознымі — як і ў буйных гарадах — будынінамі, нібы даваў заяўку на новае жыццё. З-за гэтых будынін плошча нібы паменшала ў памерах, хоць абсягі яе засталіся ранейшыя.

## III

У інстытуце Высоцкі пагаварыў з дэканам філалагічнага факультэта Іванам Каралём, чарнявым, прысадзістым, з глыбока пасаджанымі ў падлоб'і вачамі. Кароль даўно ведаў Высоцкага і яшчэ тады, калі ён толькі закончыў універсітэт, прыслаў ліст, запрашаючы на работу ў інстытут. Назад у горад Высоцкі не паехаў, яго ўзялі ў аспірантуру, але добрае пачуцце да мясцовага літаратара засталося, і не так даўно ён нават трохі яму дапамог. У інстытуце Кароль працуе з пачатку яго заснавання, увесь час выступае ў друку з аглядамі творчасці мясцовых паэтаў, празаікаў, але з уласнай дысертацыяй затрымаўся. Гадоў праз дваццаць выкладчыцкай працы ён нарэшце напісаў дысертацыю, паслаў у Мінск, але там яе, нібы футбольны мяч, перакідвалі з кафедры на кафедру.

Высоцкі тым часам займеў нейкую вагу, і калі дысертацыя трапіла яму ў рукі, ён, даўшы Каралю некалькі слушных парад, пусціў яе ў ход на ўласнай кафедры. Кароль стаў кандыдатам, дацэнтам і цяпер, калі яны абодва пераступілі парог маладосці, відаць, таксама ўспомніў, што Высоцкаму не лішне будзе наведаць горад, адкуль пачаўся ўзлёт яго вучонай кар'еры.

Пра спецкурс дамовіліся лёгка. Расклад лекцый Кароль склаў з разлікам, каб у Высоцкага заставалася пабольш вольнага часу. Два дні ў тыдзень па чатыры гадзіны. Такому раскладу мог пазайздросціць кожны выкладчык.

На першыя заняткі да незнаёмых студэнтаў нават спрактыкаваны выкладчык ідзе з халадком трывогі. Валодаць матэрыялам яшчэ не значыць добра прачытаць лекцыю. Тым болей, што першай лекцыяй заваёўваецца крэпасць, якую непасвечаныя называюць аўдыторыяй. Нялёгкая справа — аўдыторыя. Ведае гэта толькі той, хто сам есць хлеб з выкладчыцкай работы.

У вузкім зальчыку за радамі сталоў паляшуцкія хлопцы, дзяўчаты — найбольш дзяўчат — светлавалосыя, русявыя, чарнявыя; з дапытлівай цікавасцю яны кідаюць позіркі на прыезджага выкладчыка, якога толькі што прадставіў дэкан. Іх пакаленне нарадзілася якраз пасярэдзіне веку, не ведала

вайны, голаду, холаду. Але і ў гэтых хлопцаў, дзяўчат ёсць заваёва — паступленне ў інстытут. Паступіць у інстытут па цяперашнім часе няпроста. Жадаючых многа, трэба мець трывалыя веды, моцныя нервы, бо які-небудзь выпадковы бал часта рашае зыход справы. Ёсць, вядома, і ўвішныя студэнты — яны трапляюць у інстытуты дзякуючы сувязям, знаёмству з выкладчыкамі, службовай вазе бацькоў і іншым немалаважным рэчам. Але большасць такіх, падсаджаных чужымі рукамі, у каго веды ў адну столку, на першым-другім курсе звычайна адсейваюцца.

Высоцкі напісаў некалькі літаратуразнаўчых кніг, іх, магчыма, чытаюць некаторыя студэнты, і нават самі па сабе гэтыя кнігі ствараюць яму нейкі аўтарытэт. Але ўсё адно чытаць лекцыі не лёгка.

Выкладчыку пасля таго, як ён зайшоў у незнаёмую аўдыторыю, з мноства звернутых да яго твараў лепей за ўсё выбраць адзін, злавіць позірк вачэй, якія на яго прыхільна, прыязна пазіраюць, і не выпускаць гэтага твару, даверлівых вачэй увесь час, пакуль ён чытае лекцыю.

У Высоцкага ёсць канспект, але ён у яго не заглядвае. Даўно не мае ў гэтым патрэбы.

Цікаўныя вочы знайшліся — чарнявенькай дзяўчыны, якая сядзіць у першым ад дзвярэй радзе. Ён яшчэ і гаварыць не пачаў, а яна так на яго пазірае, нібы чакае цуда.

Акрылены першай увагай, якая свеціцца ў вачах, на тварах, выкладчык загараецца сам, пачынае жыць на лекцыі, як жыве акцёр на сцэне. Не выпускаючы ніць разважанняў, раз-пораз кідаючы позірк на абраны твар, выкладчык пляце новыя і новыя завіткі, не баіцца паўтарыць думку і толькі падшуквае ёй другія словы. У музыцы гэта, здаецца, называюць мадуляцыяй.

Праз паўгадзіны, калі яго слухаюць, ён гаспадар становішча. Ён ужо як бы намацаў аўдыторыю і зробіць з ёю, што захоча. Ён звяртаецца да таго, што добра ведаюць самі хлопцы, дзяўчаткі, робіць іх субяседнікамі, саўдзельнікамі размовы, адлегласць паміж кафедрай, за якой ён стаіць, і сталамі, за якімі сядзяць яны, скарачаецца да нязначнасці.

З вышыні адцягненых разважанняў ён спускаецца на зямлю — ён жа выкладае літаратуру, а яна патрабуе жывых прыкладаў,— і да таго, аб чым гаворыць, не могуць быць абыякавымі яго маладыя слухачы, бо яны самі думаюць пра жыццё, пра каханне, пра свае правы і абавязкі.

Завалодаўшы ўвагай студэнтаў, выкладчык патрошку за імі сочыць. Асабліва за цёмнымі, пад колер абмытай смародзіны вачанятамі, якія выдзеліў з самага пачатку. Напружанне, першыя прыкметы стомленасці ён гасіць жартам, вясёлым словам, смешнай гісторыяй. Літаратура — само жыццё, няхай сабе і ва ўмоўнай форме, а хіба пра жыццё можна расказаць толькі наморшчыўшы лоб і ўзняўшы вочы ў неба?

Гадзіна — вялікі час для выкладчыка. За адну гадзіну можна прыблізіць да сябе слухачоў, заслужыць іх давер, павагу, а можна і адштурхнуць.

Калі празвінеў званок на перапынак, па настрою студэнтаў Высоцкі адчуў, што пачатак пакладзен. І сарочка на спіне яшчэ сухая. Яна намокне, набрыняе потам пад канец чацвёртай гадзіны. Нібы ў грузчыка, які цягае стакілаграмовыя мяхі. Але мокрай сарочкі ніхто не ўбачыць, бо кожны выкладчык, які сам сябе паважае, прыходзіць на лекцыю ў касцюме, пры гальштуку, белым каўнерыку і гэтак далей...

У першы ж дзень заняткаў Высоцкі пазнаёміўся з жонкай Вайнштэйна. Малога росту, худзенькая, чарнявенькая, яна здаецца сціплай, ціхмянай, і каб не срэбраныя павуцінкі сівізны ў чорных, як смоль, валасах, можна было б прыняць яе за студэнтку. Але Луіза Абрамаўна — так завуць Вайнштэйнаву жонку — скончыла Маскоўскі ўніверсітэт, аспірантуру пры ім, слухала выдатных лектараў. І ў Маскву дапяў Вайнштэйн, прывёз адтуль, мяркуючы па ўсім, не толькі адукаваную, але і харошую, душэўную жанчыну.

## IV

У Высоцкага вольны час да канца тыдня, і ён можа ім распараджацца як захоча.

Дзень сонечны, спякотны, нібы ў гарачым жніўні. Ля ларкоў з газіраванай вадой доўгія чэргі. Увогуле горад пярана-

селены. Высоцкі гэта заўважыў яшчэ па гасцініцы. Калідоры, нават вестыбюль ноччу застаўлены раскладушкамі. Раніцай, гадзін у шэсць раскладушкі знікаюць, бо на іх спіць рабочы люд, які спяшаецца на змену, на аўтобусы — Нафтахімбуд кіламетраў за дваццаць ад горада.

Быт неўладкаваны. У сталовых, крамах, магазінах — усюды чэргі. Каб даступіцца да кухля піва, трэба добра пастаяць. Гарадок, які здабывае будучыню індустрыяльнага горада, мусіць расплачвацца за высокія сяганні.

Зрэшты гарадок заўсёды быў перанаселены. Але тады, у пасляваенны час, зусім па іншай прычыне. Яго зрабілі абласным цэнтрам, і вузкія вулачкі, прысадзістыя дамкі з цяжкасцю размяшчалі мноства абласных установ, арганізацый, якім трэба былі памяшканні, кабінеты, транспарт. На цэнтральнай вуліцы, што паката спускалася да Прыпяці, шыльды віселі, бадай, на кожнай будыніне. Вясной, калі на схілах пагоркаў пачынаў раставаць снег, мутны паток імчаў па галоўнай магістралі, нібы па горнай цясніне,— міма дамкоў з шыльдамі, людзей з абшарпанымі партфелямі, якія снавалі ўперад-назад па вузкай панэлі, міма куцых, нібы абрубкі, таполяў з абрэзанымі вярхушкамі. Ледаход на Прыпяці ў трэскі разносіў часовы драўляны мост, якім гарадок звязваўся з астатнім светам, машыны, падарожнікі да самага лета, пакуль не наводзілі новы мост, перапраўляліся на процілеглы бераг на пароме і лодках. І цяжка было ўявіць, каб адасоблены, нібы востраў, гарадок, які нічога асаблівага не вытвараў, не мог пасладь у навакольныя раёны, вёскі ні машын з уласнай маркай, ні ўгнаенняў, ні чаго-небудзь іншага рэчыўнага, важкага, а спускаў толькі цыркуляры, пастановы, загады, мог сур'ёзна ўплываць на ход гаспадарчага жыцця. Было адчуванне несапраўднасці, прыдуманасці абласнога тытула, прысвоенага заштатнаму гарадку.

Цяперашняя перанаселенасць — іншая справа. У раёне, дзе Высоцкі нарадзіўся і які фактычна прылягае да горада, у другіх мясцінах, што знаходзяцца ў міжрэччы Дняпра, Беразіны і Прыпяці, з зямных нетраў цячэ нафта, і будаўніцтва ў суседстве з горадам нафтаперапрацоўчага гіганта, хімічных заводаў азначае адно: горад сапраўды ўзвысіцца, павдзе за

сабой эканоміку прылеглага краю, яго імя з павагай будуць называць не толькі ў краіне, а і за мяжой. А між тым парадкам прайшло часу, як гарадок перастаў быць абласным цэнтрам.

Высоцкі да вечара вандруе па вуліцах, адзначаючы перамены, пазнаючы былое, ранейшае, чаго ўсё-такі больш і што выплывае ў памяці прыемным, сумна-радасным успамінам.

Бацьку перавялі ў гарадок восенню трыццаць дзявятага. Высоцкі тады вучыўся ў дзявятым класе. Увогуле бацьку кідалі з раёна ў раён: быў спачатку на партыйнай рабоце, потым на савецкай — старшынёй райвыканкама,— а ў гарадок прыехаў загадваць гаргандлем.

У бацькі былі свае рахункі з жыццём. Маці Высоцкага памерла, калі сыну ішоў чатырнаццаты год, два гады яны жылі толькі ўдваіх з бацькам, які дома не стыкаўся, ездзіў па раёне, узначальваў розныя кампаніі, але цыганскае бадзянне, адзінота, відаць, абрыдлі, і ён ажаніўся. Можа, таму папрасіўся на новую работу, захацеў перамяніць месца.

Маладосць не надта задумваецца над складанасцю, драмамі жыцця, ёй кіруе крыху наіўны эгаізм: пасля бацькавай жаніцьбы, новай жанчыны, якая прыйшла ў дом, ён, Высоцкі, запатрабаваў аднаго: каб яму далі асобны пакой і не торкалі нос у яго асабістыя справы. Ён многа чытаў, хутка заводзіў знаёмствы — да гэтага, мабыць, прывучылі частыя пераезды сям'і,— здаў нормы на ўсе абаронныя значкі, рыхтуючы сябе, як і большасць падлеткаў даваеннай пары, да вайсковай кар'еры. Вучыўся ён лёгка і добра, і пасля пераезду ў гарадок, які сваім побытам мала адрозніваўся ад раённых мястэчак, працягвалася зрэшты тое самае.

Новае было ва ўзросце. У гарадку ён стаў дзесяцікласнікам, а гэта азначала, што хутка адлёт у вырай і трэба самому рашаць, чым ён будзе займацца; і як ні падабалася яму лейтэнанцкая форма, кубікі на пятліцах, скрыпучыя рамяні, прачытаныя кнігі рабілі сваё: ён наважыўся паступаць ва ўніверсітэт.

У гарадку выходзіла абласная газета, такая ж вялікая, як маскоўскія, мінскія газеты, іншы раз яна друкавала падборкі вершаў мясцовых аўтараў, і Высоцкі запаліўся.

Час трубіў у гераічныя трубы: савецкімі сталі Заходняя Беларусь і Украіна, прыбалтыйскія рэспублікі, Бесарабія,

пераможна адгрымелі баі з японцамі на возеры Хасан і ля ракі Халхін-Гол. Усё гэта хвалявала, выклікала высокія думкі і парыванні.

Высоцкі за месяц напісаў цэлы жмут вершаў і аднойчы адважыўся — занёс у рэдакцыю. Яго прыняў рудаваты ветлівы сакратар рэдакцыі — ён сам пісаў вершы, а пазней, пасля вайны, Высоцкаму разам з ім прыйшлося працаваць — далікатна, шануючы самалюбства аўтара, большасць скараспелых тварэнняў адхіліў, назваўшы іх рытарычнымі, мастацкі слабымі, але тры вершы пакінуў, тут жа, пры Высоцкім паправіўшы паасобныя радкі.

Вершы былі надрукаваны, аб гэтым ведалі ў школе, і Высоцкі адчуваў сябе героем.

Тая апошняя восень назаўсёды запала ў памяць ружовымі ўсходамі і захадамі сонца, якія дзівосна адбіваліся на люстраной роўнядзі шырокай Прыпяці. Раніцай праменні спярша залоцяць вяршыні пясчаных з плямінамі бурага гліназёму пагоркаў, спускаючыся ніжэй і ніжэй, пакуль не крануць плыні самой ракі, якая ў адно імгненне адзываецца тысячамі зіхатлівых бляскаў. Вячэрняя часіна настройвала больш на разважлівы, філасофскі лад. Сонца ідзе на схіл павольна, не спяшаючыся, як бы шкадуючы развітвацца з бязмежнасцю зямлі і неба. Яшчэ гарыць густой пазалотай стромы правы бераг, яшчэ неба над ракой ірдзее то асветленымі прагалінамі, то чырванавата-меднай барвовасцю, а ўнізе, у прыбярэжных пясках, цёмных лазняках ужо валадарыць змрок.

Выпускны клас, прадчуваючы расстанне, незвычайна з’яднаўся. Былі дыспуты, сумесныя паходы ў кіно, у тэатр, які пераехаў з другога горада і для якога спецыяльна выбудавалі памяшканне з мармуровымі антычнымі калонамі бадай, найлепшае з чатырох ці пяці новых, што выраслі ў новым абласным цэнтры.

Прыемна было ісці па прыціхлым начным гарадку, слухаць ціхае шасценне таполяў, гулкія крокі, зычныя галасы сяброў і сябровак выпускнога класа. Узыходзіў месяц, ліў на ахутаныя змрокам дамкі, вуліцы, правулкі таямнічае сваё святло, і гарадок у такія часіны здаваўся незвычайна прывабным, казачным. Дамкі, хаціны карабкаліся па касагоры да самай седлавіны,

зыркалі аганькамі акон,— у хісткім месячным святле пагоркі разам з небагатым чалавечым жытлом, рассыпаным па схілах, паўставалі нібы магутныя збудаванні, небаскробы, што ледзь не кранаюць сваімі вяршынямі неба і зорак.

У тыя ахмеленыя няпэўным юнацкім парываннем дні якраз і захапіла маладую душу ў палон дзявочых чар Клара Сінельнікава, высокая даўганогая дзесяцікласніца, прыгожая і незвычайна маўклівая. Высоцкі не памятае, з чаго пачалося. Хутчэй за ўсё з таго, што Клара хадзіла па класе, сядзела за партай, адказвала на ўроках, ён чуў яе голас — грудны, глухаваты і адначасна па-дзявочаму звонкі. Клара ўвесь час як бы нешта ў сабе таіла. Яна не набівалася на кампаніі, не была сярод дзяўчат завадатарам, хоць яе нельга было назваць адзінокай і самотнай. Прыгажосць яе была дасканалая, самай высокай пробы: прадаўгаваты твар, які вабіў сваёй выкштальцаванасцю, далікатнасцю, задуменна-спакойным выразам, зграбная пастава, плаўнасць паходкі, рухаў, жэстаў, за якімі як бы таілася схаваная сіла.

Вучылася Клара добра, на ўзроўні лепшых вучняў у класе. Сяброўкі ёй зайздросцілі, але яна паводзіла сябе так, што да яе нельга было прычапіцца. На кепікі адказвала бяскрыўднай усмешкай, хлапечыя заляцанні тактоўна адхіляла, наперад не выскаквала.

Выпадак зблізіў Клару з Высоцкім. У класе збіралі па рублю на дапамогу іспанскім дзецям, у яе грошай не было, і ён ахвотна заклаў свой рубель. Назаўтра Клара прынесла пазыку срэбранымі манеткамі, і калі перасыпала іх у яго далонь, адна манетка ўпала, пакацілася па падлозе і нарэшце правалілася ў шчыліну між маснічын.

Клара густа пачырванела, хоць невядома, хто быў вінаваты: яна, паспешліва аддаючы грошы, ці ён, нязграбна падставіўшы далонь.

Бацьку той восенню перавялі ў Брэст, прызначыўшы старшынёй аблспажыўсаюза, а ўслед за бацькам паехаў Высоцкі. Болей чым за што-небудзь другое, ён дакараў сябе пазней за гэты пераезд, бо шукаючы самастойнасці, адначасова з вучобай наняўся ў новым горадзе на працу. Яго ўзялі начным

карэктарам у газету, відаць, маглі ўзяць і ў надпрыпяцкім гарадку, і не трэба было б развітвацца з Кларай і, тады, магчыма, зусім па-іншаму склаўся б яго ваенны лёс.

Ён часта пісаў Клары лісты, яна адказвала — стрымана, не выяўляючы асаблівых пачуццяў, паведамляючы небагатыя школьныя навіны. А ён зразумеў, што любіць яе па-юнацку самаахвярна, да самазабыцця — мноства прачытаных кніг абудзілі яго фантазію, адзінота, няпэўныя адносіны з бацькам, што пачаліся пасля прыходу ў сям'ю чужой жанчыны, нібы патрабавалі блізкасці з жывой душой, якая б замяніла не толькі сяброўку, а і маці.

За вершы ён болей не браўся: пяць начэй у тыдзень, якія праседжваў у рэдакцыі, урокі, падрыхтоўка да выпускных экзаменаў выматвалі дашчэнту. Аб адным шчыра дамовіліся з Кларай: пасля школы паедуць у Мінск. Яна збіралася ў медыцынскі інстытут, ён — ва ўніверсітэт.

А ў Брэсце, асабліва пад вясну, было ўжо трывожна. Жыхары адкрыта гаварылі, што немцы нападуць, з магазінаў, крам знікалі соль, запалкі, у горад прыбывалі новыя воінскія часці, тэхніка. Было некалькі выпадкаў, калі з-за Буга і Мухаўца перабіраліся на савецкі бераг людзі, якія не хацелі жыць пад немцам: яны таксама гаварылі, што фашысты рыхтуюцца да вайны.

Але ён працаваў у рэдакцыі, адным з першых вычытваў тасаўскія матэрыялы, у якіх нават намёку не было пра якія-небудзь ускладненні. З Германіяй існаваў дагавор аб ненападзенні і нават аб дружбе, у газеце найбольш пісалася пра мірныя справы — уводзіліся ў строй заводы, калгасы рапартавалі аб выкананні гаспадарчых кампаній, а ён прывык верыць газетам і кнігам. Так яго выхавалі.

Тады, на світанні, калі на Брэст — спачатку на крэпасць, а затым на горад — абрынуліся нямецкія снарады, бомбы, ён быў дома — толькі-толькі вярнуўся з рэдакцыі, прынёсшы з сабой яшчэ трохі волглы нумар нядзельнай газеты. Два дні назад быў выпускны вечар, на ім дзесяцікласнікам урачыста аддалі атэстаты аб сканчэнні школы, была музыка, танцы, у яго вушах і цяпер звінелі мелодыі развітальных школьных вальсаў.

Бацька адразу зразумеў, што пачалася вайна. Мачыхі дома не было — паехала да сваякоў у раён, дзе яны жылі да пераезду ў надпрыпяцкі гарадок.

— Дабірайся да Олі,— сказаў бацька. (Оляй звалі мачыху).— Пабудзь пакуль там. Калі што якое, я цябе там знайду...

Гэта была апошняя размова з бацькам. Па звестках, якія пасля вайны па крупінцы збіраў Высоцкі, бацька з горада выбраўся, прыбіўся да воінскай часці, але і яна трапіла ў акружэнне, і ён партызаніў паміж Брэстам і Баранавічамі. У сакавіку сорак другога года загінуў.

А сам Высоцкі мачыхі шукаць не стаў, дапяў да надпрыпяцкага гарадка, дзве ночы начаваў у маці школьнага таварыша — дзесяцікласнікаў ваенкамат тым часам паспеў мабілізаваць.

Наступную, трэцюю ноч ён правёў з Кларай. Яны сядзелі ў яблыневым садзе — ён прылягаў да вялікага, драўлянага Кларынага дома — у старой, абвітай дзікім вінаградам бяседцы. Ноч была месячная, светлая, то ў адным, то ў другім канцы горада стралялі патрулі — відаць, ад няпэўнасці — з-за Прыпяці нават пошчак кулямётных чэргаў даносіўся. Яны абнімаліся, цалаваліся і зрэшты прызналіся адно другому ў каханні. Наперадзе было расстанне, яны сталі дарослымі, і словы ўзаемнага прызнання ў пачуццях былі проста патрэбны для дальняй дарогі. Высоцкі мусіў ісці ў армію — дзесяцікласнікаў бралі нават з няпоўнымі васямнаццаццю гадамі. Адносна Клары прынялі рашэнне, што яна паедзе ў эвакуацыю, спыніцца ў гарадку Цім на Куршчыне, дзе ў яе ёсць родзічы, а Высоцкі будзе пісаць ёй у Цім лісты.

Яны цвёрда наважылі не губляць адно другога ў віхурным полымі вайны.

З Кларай яны пабачыліся праз пяць гадоў. Яна заканчвала медыцынскі інстытут, ён пасля ваеннага вучылішча, фронту, уцёкаў з палону, новага фронту і дэмабілізацыі працаваў у газеце, дзе некалі надрукаваў першыя вершы. І яшчэ амаль пяць гадоў цягнуліся няпэўныя, пакутлівыя для абодвух адносіны, пакуль іх з Кларай дарогі не разышліся назаўсёды.

## V

На ўскраіннай вулачцы, у недалёкім суседстве з гасцініцай Высоцкі падшукаў чайную, не сказаць, каб утульную: з завэзганай падлогай, абадранымі шпалерамі на сценках, непаспешлівымі афіцыянткамі. Затое тут можна заняць асобны столік, а піва пампуе прыгожая, з распушчанымі валасамі буфетчыца.

Піва трошкі горшае, чым раней. Але ўсё адно ад двух кухляў злёгку туманіць у галаве, і свет здаецца весялейшым.

Высоцкі прыходзіць у чайную трэці вечар і трохі асвоіўся з публікай, якая яе запаўняе. За горадам узводзяцца карпусы нафтаперапрацоўчага завода, пасля змены будаўнікі прыязджаюць у горад — мабыць, дзе-небудзь паблізу размяшчаецца інтэрнат.

Завальваюць будаўнікі ў чайную шумна, ссоўваюць у адзін рад столікі, заказваюць вячэру, навыперадкі адзін перад другім выхваляючыся. З размоў Высоцкі зразумеў — мантажнікі. Зялёная моладзь гэтыя мантажнікі, гадоў па васямнаццаць — дваццаць кожнаму, выключаючы прыкметна старэйшага белабрысага хлапчыну — брыгадзіра ці майстра,— які верхаводзіць за сталом.

Хлапчына, не чакаючы закускі, налівае таварышам па паўшклянкі.

— Узялі!

Брыгадзір з жарсткаватымі бялеса-сінімі вачамі стараецца звярнуць на сябе увагу. Але каго? Хлопцы і без таго глядзяць на яго як на Бога.

Заходзіць гаманлівы гурт цыганоў, займае два столікі: цыганы цяпер аселыя, прылучаныя да індустрыі, хоць коней як быццам не кінулі — нешта возяць на будоўлю.

Некалькі маляроў-яўрэяў у запэцканых вапнай спяцоўках п’юць піва, наперабой спрачаюцца пра нарады, тарыфы, расцэнкі, лаюць начальніка.

Як і ў два папярэднія вечары, стаіць ля буфета, абапёршыся на стойку, нізкарослы, нахмураны дзяцюк у сінім шафёрскім камбінезоне.

Мантажнікі тым часам зачынаюць песню. Брыгадзір і тут камандуе — узмахвае рукой, і голас у яго прыемны: выдзяля-

ецца сярод астатніх. Афіцыянтка ставіць на столік мантажнікаў цэлы тузін піва, і буфетчыца ў іх бок прыхільна пазірае.

Цяпер ясна, чаму стараецца брыгадзір. Буфетчыца прыгожая, і ён са сваім хорам аддае ёй даніну ўвагі. А нахмураны дзяцюк, відаць, муж буфетчыцы. Не знайшоў нічога лепшага, як пільнаваць жонку. Але пільнуй не пільнуй, а ўвага брыгадзіра ёй падабаецца, тым болей што ў яе гонар нават песні спяваюць. Жыццё, жыццё...

Вечарам Высоцкі блукае па прыціхлых вуліцах. Узыходзіць, як у даўнія былыя гады, месяц, цямнеюць зарэчныя сасоннікі, над лугавінай сінімі астраўкамі вісіць туман. Доўга не засынае горад, які ў начным змроку з-за сваіх пагоркаў, катлавін, здаецца магутным і шматпавярховым. У драўляным асабнячку, дзе раней размяшчалася рэдакцыя, цяпер жывуць: занавескі на вокнах, сінія абажурчыкі. Пошта там жа, тэатральнай трупы горад не мае, у будынку тэатра з антычнымі калонамі звычайныя кінасеансы, і хіба, можа, выступленні народнага тэатра; у жылым раёне, які прылягае да цэнтра, наўсцяж аднатыпныя каробкі. З гарадской даўніны адна царква захавалася — барока, сямнаццаты век. А гарадку тысяча гадоў, ён упамінаецца ў старажытных летапісах, і наогул гісторыкі, лінгвісты, археолагі адзін час звязвалі тутэйшыя мясціны з прарадзімай усяго ўсходняга славянства.

Праз тры дні была яшчэ адна лекцыя — напружаныя, натхнёныя гадзіны, калі ён цалкам увайшоў у давер да студэнтаў. З інстытута Высоцкі адразу пакіраваў у парк. Ён наўмысна не заходзіў сюды, як бы прыберагаючы парк для часіны, калі спадзе цяжар, звязаны з яго прыездам у надпрыпяцкі горад. Цяжар спаў, студэнты яго прынялі, і цяпер стомлены, яшчэ ўзрушаны лекцыяй, задаволены ад пачуцця выкананага абавязку, ён ідзе ў запаветную мясціну.

У парку над Прыпяццю некалькі клёнікаў ён пасадзіў памятнай восенню саракавога года — быў аб'яўлен месячнік азелянення горада, і дзесяцікласнікі прымалі ў ім удзел. Пасля вайны ён таксама садзіў дрэвы — рэдакцыя выязджала на суботнік у прылеглую да горада, так званую зялёную зону. Высоцкі, мабыць, трохі прымхлівы, бо ў апошнія гады ў яго не раз узнікала жаданне паглядзець на свае дрэвы.

Мінуўшы арку — сімвалічны ўваход у парк,— Высоцкі нічога не пазнаў. З ім здарылася тое, што і ў чыгуначным гарадку, калі, выйшаўшы з вакзала, ён ледзь не заблудзіўся. Цяпер дзень, сярод дрэў ён не заблудзіць, але мясціна стала чужой і як бы незнаёмай.

З хвіліну Высоцкі стаяў, прыглядваючыся да перамен, пакуль зразумеў, што здарылася. Парк відавочна зменшыўся, бадай палавіну яго займаюць незнаёмыя будынкі. Пад імі тое месца, дзе раслі пасаджаныя ім клёны. Высоцкаму стала маркотна да адчувальнага болю ў сэрцы. Нібы парвалася залатая ніць, якая звязвала яго з юнацтвам. Дрэвы, мабыць, высеклі, і на іх месцы ўзвялі недарэчныя каробкі.

Ён супакоіўся толькі тады, калі выйшаў на Прыпяць. Яна бліснула шырокім сінім плёсам, бязлюдным пясчаным берагам, відаць, ператвораным у пляж. Ва ўцалелай частцы парку клёны, таполі, акацыі разрасліся, спляліся кронамі, на алеях пад імі паўзмрок, зацішак, апалае лісце шчодра засцілае дарожкі.

Ён знайшоў лавачку на ўскраіне парку, адкуль найлепей глядзець на раку, прысеў, паклаў побач партфель. Купчастыя вяршаліны клёнаў нібы полымем ахоплены. Месяц жаўталісця. Дрэў, якія ён пасадзіў, няма. Што ж, маладосць даўно скончылася і сумаваць аб ёй не варта. Цякла Прыпяць, ішлі гады, раслі другія дрэвы. Усё натуральна. А што сталася з ім? Нічога асаблівага. Вучыўся, вучыў другіх, парадкам пастарэў. У яго ўзросце чалавека маладым не назавеш, таму ён трохі сентыментальна глядзіць на мінулае. Для яго, як і для дрэў, настала пара жаўталісця...

Па-летняму свеціць сонца. У блакітнай высі плывуць белыя аблачынкі, сінее зарэчны сасоннік, відная позірку лугавіна застаўлена рэдкімі стажкамі. З левага боку лёгкія, ажурныя, нібы цацачныя, вісяць над ракой аркі шасейнага і чыгуначнага мастоў. Пры шашы, там, дзе яна хаваецца ў сасонніку, стаяла калісьці вёсачка — некалькі хатак з цёмнымі абветранымі сценамі. Хаткі відаць і цяпер, шарэюць шыфернымі дахамі, а самі жоўтыя, сінія, зялёныя. Кранулася і вёсачкі дыханне перамен.

Пасярэдзіне ракі прамчаў, уздымаючы пеністую баразну, кацер, пачуўся далёкі гудок парахода.

З-за дрэў выйшла стройная, па-летняму апранутая дзяўчына ці маладая жанчына. Убачыўшы, што ўскраінная лавачка занята, з хвіліну павагалася, затым рашуча накіравалася да яе і села з другога канца, не зважаючы на Высоцкага.

Ён таксама не глядзеў на яе — сядзеў, курыў, ні аб чым не думаў, расслаблены пасля нядаўняга напружання, ахоплены лагодным, ціхамірным настроем. Гэты ягоны настрой як бы міжволі выклікала спакойная рака, пясчаны бераг, яшчэ зялёная трава на процілеглым нізкім беразе, цішыня, якая тут панавала.

Ён нават прыдрамнуў — не прыдрамнуў, а так, злёгку пагойдваўся ў стане бязважкасці, паміж сном і явай, бачачы і не бачачы раку і пясок. Схамянуўся ад нейкага ўнутранага штуршка, і, калі зірнуў на суседку, позіркі іх сустрэліся. Яна першая адвяла позірк. Ён цяпер увесь час крадком цікаваў за дзяўчынай — відная з твару,— сустрэнеш і запомніш: можа, з-за прамых, чыстых ліній высокага лба, арлінага носа, прыгожага, нібы вытачанага, профілю, па-сапраўднаму гнуткай паставы.

Суседка трымае ў руках ручку-самапіску і падручнік англійскай мовы — той, па якім навучаюцца студэнты ад першага да трэцяга курса,— на сцятых каленях ляжыць тоўсты сшытак з цыратавымі вокладкамі і маленькі кішэнны слоўнічак. Напаткаўшы ў тэксце незнаёмае слова, жанчына спачатку запісвае яго ў сшытак, затым зноў паглыбляецца ў падручнік. У маленькім слоўнічку ўсіх патрэбных слоў не знаходзіцца, і тады жанчына нездаволена моршчыць лоб, штосьці адзначаючы ў сшытку. Мабыць, ставіць супроць такіх слоў пытальнікі.

Дзяўчына ўпартая: мінула дзесяць хвілін, дваццаць, паўгадзіны, а яна па-ранейшаму перагортвае лісткі слоўніка, не паварочваючы галавы да суседа.

Высоцкі падсеў бліжэй. Суседка зрабіла выгляд, што не заўважыла ці, можа, сапраўды не заўважыла. Пальцы правай яе рукі ў чарніле, маленькая чарнільная пляма на прамым высокім ілбе — пасадзіла, калі папраўляла валасы. Узнікла добрае пачуцце да жанчыны, жаданне ёй дапамагчы. А можа,

і другое было ў нечаканым парыве — імкненне адплаціць за няўвагу, узвысіцца ў яе вачах.

— Дайце падручнік,— папрасіў ён.

Яна недаўменна на яго зірнула.

— Дайце падручнік.

Яна з асцярогай аддала кнігу.

— Так вы мовы не вывучыце. Трэба зразумець сказ, тады запісваць словы. Можна наогул не запісваць. Лепей два-тры разы паўтарыць тэкст.

Ён прачытаў некалькі сказаў, адразу іх пераклаўшы.

Яна, відаць, адчула, што перад ёй выкладчык — па інтанацыі чытання, непаспешлівай упэўненасці, павучальным тоне. Сядзела прыцішаная, паслухмяная.

А ён адчуў, што перабраў лішку.

— Я ў гэтым горадзе жыў,— сказаў з даверлівай усмешкай.— Да вайны і пасля вайны. Можна было купацца ў Прыпяці, а я зубрыў латынь.

— Навошта вам была латынь?

— Ва ўніверсітэце яе выкладалі. Я вучыўся завочна.

— На якім факультэце?

— На філалагічным.

Яна ўстрапянулася, на твары прабілася ружовасць.

— Я таксама любіла літаратуру, а пайшла на геалогію,— сказала з засмучэннем.— Кірую тут студэнцкай практыкай.

— Нафту разведваеце?

— Соль,— жанчына ажывілася.— Пад горадам запасы спажыўнай солі. Вялікія, на сто гадоў хопіць.

— Здаецца, дзе нафта, там соль? — нясмела спытаў Высоцкі.

— Тут нафта асаблівая. У адкладаннях паміж салявымі пластамі. Таму доўга не маглі знайсці.

— У вас вельмі сучасная спецыяльнасць. Каб скончылі філфак, сталі б настаўніцай, хадзілі на ўрокі, правяралі сшыткі...

— А так сяджу ў кабінеце. Пасля ўніверсітэта пакінулі лабаранткай на кафедры. Рашыла хоць англійскую мову вывучыць.

— Вы Гомельскі ўніверсітэт канчалі?

— Гомельскі. Паступіла туды, як толькі адкрыўся.

— Дзіўная вы,— сказаў Высоцкі, з цікавасцю разглядаючы маладую жанчыну.— Геолаг — прафесія веку. Маглі ў пошукавую партыю пайсці.

— Было б тое самае. Тырчала б у канторы, апісвала керн, складала зводкі...

— Гэта, відаць, зімой. Летам — зноў у экспедыцыю.

— Хачу ў газету! — раптам заявіла дзяўчына.— Трохі папрацую і папрашуся. Думаю — возьмуць...

Высоцкі ад нечаканасці прыйшоў у замяшанне.

— Вы любіце пісаць? — спытаў ён.

— Люблю быць з людзьмі. Пасля школы працавала ў камсамоле. Пяць гадоў. Таму скончыла ўніверсітэт са спазненнем.

Толькі цяпер Высоцкі заўважыў, што для дзяўчыны яго суседка залішне сталая. Ёй, відаць, за трыццаць, у характары штосьці рашучае, уладнае.

— Я тут у газеце быў,— сказаў ён.— Адразу пасля вайны. Трошкі ведаю, што такое газета.

Яна як бы схамянулася.

— Вы ў інстытут прыехалі?

— У інстытут. Запрасілі прачытаць спецкурс.

— Я вас у гасцініцы бачыла,— раптам прызналася жанчына.— У вас асобны пакой. А нашы дацэнт і выкладчык у пакоі ўдваіх. Таксама кіруюць практыкай.

— Вы з імі?

— З імі. Але жыву са студэнтамі ў палатках. Лабарантаў у гасцініцу не пускаюць.

Далей — поўная нечаканасць. Яны пазнаёміліся, жанчыну завуць Галя, і — галоўнае — яна з мястэчка, дзе ён сам нарадзіўся, бегаў хлапчуком, вучыўся да шостага класа.

У яго нават мільганула думка, што Галя — пасланец лёсу. Прыехаць у горад, дзе прайшла маладосць, і ў дадатак сустрэць асобу, якая хадзіла тымі ж, што і ён, сцежкамі, памятае бярэзнікі, дубнякі, сасновыя бары на пясчаных пагорках — ён нядаўна пабачыў іх зноў, і яны ўсё часцей паўстаюць перад вачамі. Высоцкі, не зважаючы на тое, што наступіў вечар, распытваў пра местачкоўцаў, настаўнікаў, якія яго вучылі,

расказваў, што ведаў, пра мястэчка, успамінаў розныя смешныя гісторыі, якія здараліся з яго жыхарамі. Успаміны ўзвіхрылі пачуцці, ён гаварыў красамоўна і натхнёна, жартаваў, сыпаў дасціпнымі слоўцамі — хацеў ёй спадабацца. Яна таксама ажывілася, па нейкіх нітачках устанавіла яго радаслоўную — некалькі яго дальніх родзічаў і цяпер жывуць у мястэчку. Ён яшчэ расказаў ёй, што нядаўна там быў — даўно ведае, што ў местачковых ваколіцах адкрылі нафту і хацелася паглядзець, як яна цячэ. Яны развіталіся як сябры, умовіўшыся спаткацца назаўтра, на гэтым самым месцы. Галя прыйдзе з падручнікам, і яны пазаймаюцца англійскай мовай.

Вечарам, калі Высоцкі вандраваў па вуліцах гарадка, натыкаючыся на гаманлівыя купкі моладзі, студэнтаў, што хадзілі з транзістарамі, партатыўнымі радыёпрыёмнікамі ці магнітафонамі, нібы сведчачы гэтым, што хвіліны не могуць пражыць без музыкі, ён не дакараў іх, не пасміхаўся, як раней; яго самога як бы падхапіла хваля, што звінела ў душы нячутнай музыкай. Ён нібы адчуваў сябе маладым, дужым, бесклапотным, як вось гэтыя студэнты, у якіх усё наперадзе.

Яму хацелася пабыць аднаму, і дабрыўшы да маста праз Прыпяць, ён перайшоў яго, спусціўся з высокага шасейнага насыпу, лугавінай пабрыў уздоўж ракі. Па шашы імчалі машыны з запаленымі фарамі, зіхацеў агнямі горад, які адсюль, з левага берага, здаваўся вялізным і шматпавярховым.

Высоцкі злавіў сябе на адчуванні, нібы даўно-даўно знаёмы з маладой жанчынай, якую напаткаў у парку і давер якой з такой зацікаўленасцю імкнуўся заваяваць. Нічога яшчэ не здарылася, няма ніякіх асаблівых прыкмет блізкасці, а ў душы нібы спяваюць салаўі. Можа, ён і ехаў сюды, прадчуваючы гэту сустрэчу, спадзеючыся на яе, таму з такой лёгкасцю кінуўся ў вір неўсвядомленых, але моцных прывабных жаданняў.

Ён блукаў да паўночы. Ад ракі рушыў у напрамку сасонніку, які ў паўзмроку выдаваўся цёмнымі купамі хвой, і, прайшоўшы лугавінай вярсту ці дзве, зноў павярнуў да шашы. Было цёпла, ціха, пахла атавай, аерам, іншымі пахамі крануиай восеньскім завяданнем зямлі; няскошаная трава, на грыўкі

якой ён часам набрыдаў, была сухая, без расы, мякка шасцела пад нагамі; пад зорным верасеньскім небам дзівоснымі здаваліся прысадзістыя стажкі сена і копы нядаўна скошанай атавы, якія да іх туліліся.

Ён зноў злавіў сябе на адчуванні, нібыта ў нейкім іншым жыцці вось гэтак жа блукаў па лугавіне, пад восеньскімі зоркамі ўбіраў у сябе пахі прывялых траў, слухаў прыціхлы, змякчаны адлегласцю гул машын, якія праносіліся па шашы, здаляка глядзеў на бляскі вячэрняга горада. Ён ведаў, што не забудзе гэтага вечара. Штосьці з ім адбывалася — яно нібы вынікала з глыбіні істоты, з патаемных куточкаў душы, яднаючыся з зямлёю, зорным верасеньскім небам, агнямі зарэчнага горада.

Вярнуўшыся на шашу, Высоцкі дайшоў да вёсачкі, на прыпынку дачакаўся аўтобуса, якім вярнуўся ў горад.

Ён, нібы юнак, ішоў насустрач незвычайным прыгодам. Чакаў гэтых прыгод.

## VI

Назаўтра свята пачуццяў працягвалася.

Высоцкі ледзь дачакаўся чатырох гадзін — на гэты час было прызначана спатканне з Галяй,— хадзіў з кута ў кут па пакоі, браў кнігу, зараз жа адкладаючы яе ўбок, курыў, назіраў за дворыкам пладагародніннай базы.

І вось ён зноў з Галяй, на той самай лавачцы, сядзіць і глядзіць на парк, на Прыпяць, на буксіры, белыя параходы, на яшчэ па-летняму асмужаныя зарэчныя далі.

Даўно, мабыць, з таго далёкага часу, як выехаў з гарадка, Высоцкі сябе так не адчуваў. Нібы вярнулася маладосць: ім валодае прыўзняты, радасна-напружаны настрой, узвіхранасць пачуццяў. Галя з’явілася як пасланец напаўзабытай маладосці, уладна кліча ў прывабна-трывожную невядомасць.

Голас цвярозасці, аднак, як бы папярэджвае: губляць галаву не варта, тое, што было, не вернецца. Жанчыне ён цікавы тым, што яна рвецца ў далі, якія ён парадкам зведаў.

Што ж, ён пастараецца не губляць галаву.

— Адкрыйце падручнік і чытайце тэкст,— нібы загадвае Высоцкі.— Там, дзе ўчора спыніліся.

У яе прыстойнае вымаўленне, учэпістая памяць. Запомніла шмат слоў і зусім вольна адчувае сябе на старонцы, якая яшчэ ўчора была кітайскай граматай.

Высоцкі глядзіць на зямлячку, не тоячы здзіўлення.

— З вашымі здольнасцямі англійскую мову можна вывучыць за год,— гаворыць ён.

— Я так хачу вывучыць хоць адну мову! — выгуквае яна.— Але няма часу.

— Мовай можна авалодаць лёгка, калі ёсць унутраная патрэба.

— У вас яна была?

— У час вайны. Да нямецкай мовы. Хацелася ведаць, хто такія немцы і чаму так пагардліва глядзяць на нас.

— Вы і нямецкую ведаеце?

Высоцкі ўсміхнуўся.

— Найлепш за астатнія. Чытаю без слоўніка.

Пра мову Высоцкі заўсёды гаворыць з запалам. У кожнага чалавека ёсць захапленне, або як цяпер гавораць, хобі. У яго такое захапленне — мова. Каб не было больш моцнай схільнасці да другога, да таго, што стала заняткам, прафесіяй, можа б, стаў паліглотам. Але мова і літаратура — два бакі чагосьці невымернага, агромністага, што разам з песняй, музыкай вызначае народную душу; цяжка ўявіць сур'ёзнага, які сам сябе паважае, літаратара, які б не цікавіўся мовай, і не толькі сваёй, а і другіх народаў.

Высоцкі гаворыць, мабыць, не зусім усведамляючы, што яму хочацца захапіць, зачараваць жанчыну, паўстаць у яе вачах незвычайным. У ім ужо абудзіўся педагог, выкладчык, а выкладчык заўсёды хоча падпарадкаваць сваёй уладзе тых, хто яго слухае. Гэта не толькі задача. Настаўнік павінен верыць у тое, пра што гаворыць. А значыць, жыць у слове, бо яго зброя — слова ды яшчэ ўласнае жыццё.

Няхай слухае даўганогі, русявы геолаг, што марыць стаць журналістам. Вы сягаеце да зямных нетраў, мая дзяўчынка, сягаеце да парод, пластоў, якім многія мільёны год, а калі звернемся да чалавека, да карэнняў яго сівой, нікім не напісанай

гісторыі, то яна ў мове. Так, так — у мове. Пры дапамозе мовы можна даказаць, што народы, якія насяляюць старую Еўропу, блізкая радня, няма сярод іх вышэйшых, якія верхаводзілі, і ніжэйшых, што падпарадкоўваліся. Возьмем слова зямля, глеба. Па-нямецку яно гучыць — Boden. Der Boden. А ці няма паралеляў у рускай, беларускай мовах, хоць, як вядома, кожны народ сеяў хлеб на сваёй зямлі і не меў звычаю пераймаць першародныя словы. Хіба што самую зямлю аднімаў. Дык вось у рускай мове ёсць слова «под», у беларускай — «спадыспаду». Адценне іншае, а глыбінны сэнс той самы. Спадыспаду — значыць з-пад зямлі. Ці не чуеце вы гукавой блізкасці з Boden, хоць прайшлі тысячагоддзі, як плямёны, народы падзяліліся.

Возьмем другое слова — вада. Па-нямецку Wasser, па-англійску — water. Гукавая абалонка перайначылася, але корань намацаць можна, ён аднакі.

Я наўмысна бяру словы, якія немагчыма аднаму народу пазычыць у другога. Такія словы, як маці, бацька, сын, дачка, як і іншыя першародныя паняцці, не пазычаюцца, а ў індаеўрапейскіх мовах яны, бадай, аднаго кораня.

Прыгадаем слова вецер — Wind — па-нямецку, Wind — па-англійску, Went — па-французску. Адчуваеце, як вам дыхае ў твар знаёмай прахалодай нашых раўнін і лясоў.

А яшчэ сонца. Sonne — па-нямецку, Sun — па-англійску, Soleil — па-французску. Усе мы нарадзіліся пад адным сонцам і, як бачыце, нават назву яго захавалі...

Сонца тым часам хаваецца за гарамі. Галя глядзіць на Высоцкага з несхаванай цікавасцю.

— Я і не ведала. Вы мяне проста зачаравалі...

Ён рад, што зачараваў зямлячку. Толькі хутчэй яна яго зачаравала, бо вельмі хочацца зноў яе пабачыць. Прысутнасць яе тут, у родным горадзе, уносіць шчымліва-радасную ноту ў яго адчуванні.

— Прыйдзіце заўтра,— просіць Высоцкі.— З падручнікам. Мне прыемна з вамі бавіць час.

— Паедзем на скважыну, але вечарам я вярнуся. Прыйду абавязкова.— У Галіным голасе, здаецца, гучыць непрыхаваная радасць...

Яны сустрэліся заўтра, паслязаўтра, яшчэ праз дзень. Хадзілі каля Прыпяці, глядзелі на вячэрнія хвалі ракі, на дальнія зарэчныя сасоннікі, на сенажаці — з наступленнем шэрані яны паступова ахутваліся хісткім туманам. Гаварыў найбольш Высоцкі, яго субяседніца ўдзячна слухала. У яго нібы застаўкі душы прарваліся. Гадзінамі расказваў, як жыў тут, у горадзе, што бачыў, ездзячы па камандзіроўках. Найбольш пра газету расказваў, пра парадкі ў рэдакцыі. Галя збіраецца стаць журналісткай, і ёй гэта не лішне ведаць.

## VII

Вечарам у чайной знаёмая кампанія. Вузкаплечы брыгадзір пасадзіў мантажнікаў упрытык да буфета, але гарэлкі не п'юць, толькі піва, і ўвесь час спяваюць.

Штосьці новае ў аблiччы буфетчыцы. Спачатку Высоцкі не мог разгадаць што. Нарэшце ўбачыў — прычоска. Пазаўчора валасы былі распушчаны, цяпер укладзены акуратнымі пасмачкамі.

Хмуры шафёр стаіць ля стойкі з куфлем піва.

Высоцкі за вячэрай не затрымаўся — выбраўся на вуліцу. За той час, пакуль быў у чайной, па-летняму хвасянуў імклівы цёплы дождж, у святле ліхтароў блішчаць каменні бруку, бляшаныя дахі, лісце дрэў. Неба ўхутана воблакамі, вада ў Прыпяці здаецца цёмнай і густой.

Даўно-даўно, быццам за парогам свядомай памяці, быў у гэтым горадзе вечар, не, не такі — дождж тады толькі пакапаў, а край цёмнага, зацягнутага хмарамі неба паласавалі бязгучныя пісягі маланак. Зямля засмягла, прасіла дажджу, і ўсюды пахла пылам. Тады, у сярэдзіне жніўня, зямля на сцежках патрэскалася, трава на схілах пагоркаў ляжала сухая, шорсткая. Але вялікая надзея поўніла людзей — першы ўраджайны год пасля вайны. Высоцкі сам ездзіў па калгасах, раёнах, бачыў, якое адбуяла жыта, ячмень, авёс. Ішло на тое, што адменяць картачкі, знікне дзесяцірублёвая пайка на крытым рынку, талоны на сарочку, туфлі.

Ён тады прыехаў з Мінска.

— Здаў,— сказаў Клары.— Цяпер рашай ты: так або не так.

Было ім па дваццаць чатыры, зусім дарослыя людзі, толькі ў Клары дыплом, а ў яго вытрыманыя на чацвёркі ўступныя экзамены. Калі чакаць, пакуль ён скончыць універсітэт, ім будзе па дваццаць дзевяць. Глупства, недарэчнасць. Але вучыцца ва ўніверсітэце можна завочна.

— Што рашаць? — спытала яна.

— Ведаеш...

— Што змянілася ад таго, што ты здаў экзамены?

— Усё...

Сапраўды, усё змянілася. Калі ён паедзе ў Мінск, то назад у гарадок не вернецца. Не будзе ж Клара на сціплым заробку трымаць мужа-студэнта. Але, як і раней, ён можа працаваць у рэдакцыі, і пляваць на тое, што Кларына маці, старэйшая сястра супраць таго, каб яны пажаніліся. Яны знойдуць пакойчык і як-небудзь пражывуць. Ён будзе два разы на год ездзіць на завочныя сесіі, і Клары не трэба ехаць на раён, куды яе размеркавалі пасля інстытута...

Яны сядзелі ў яе садзе, ён моцна парадзеў за вайну, крытай бяседкі не было, затое ўсюды буйна разросся маліннік — проста непралазная недагледжаная гушчэча. Дыхаць было цяжка, і ўвогуле расло адчуванне, што ў іх адносінах дасягнута мяжа, ззаду зведанае, нават абрыдлае — рэдкія, стрыманыя, пазбаўленыя радасці сустрэчы, наперадзе — няпэўнасць.

— Не ўсё так проста,— абхапіўшы скроні рукамі, сказала Клара.

Ён ведаў сам — не проста. Палюбіць яго Клара не паспела: пяць гадоў ростаняў, нельга лічыць каханнем асцярожныя ўзаемныя позіркі, якімі ён з ёй абменьваўся ў дзясятым класе, і адказы на яго лісты з Брэста — іх пісала добра выхаваная, прыкладная вучаніца. Было шчырае, сапраўднае толькі аднойчы — калі ён ішоў на вайну. У садзе, у старой абымшэлай бяседцы былі гарачыя абдымкі, пацалункі, і там былі нарэшце сказаны словы, што маглі разгарэцца пазней у полымя, каб не другія людзі, што акружалі Клару доўгія гады. Ён не здолеў абудзіць яе полымя. А яно было. Асабліва востра ён адчувае

гэта цяпер, калі яго сонца пайшло на схіл, а горыч страты развеяна часам. Але шчыміць іншы раз у сэрцы...

Маці, старэйшая сястра, якія не хацелі, каб Клара ішла за яго замуж, гэта другое. Гэта палон — ён, дзевятнаццацігадовы лейтэнант, быў у нямецкім палоне болей за год і хоць уцёк, партызаніў, разам з арміяй фарсіраваў Днепр, быў цяжка паранены, прайшоў па Польшчы, Германіі, Чэхаславакіі, вярнуўся з ордэнам і медалямі, усё адно палон вісеў над ім як праклянцце. Такі ў той пасляваенны час быў клімат. Цяпер, калі вастрыня абразы знікла, ён не асабліва вінаваціць Кларыну маці, сястру, разумеючы, што імі кіравала. Маці мела асабісты вопыт і баялася, каб не паўтарылася з дачкой.

А ў ім зняважаная гордасць, абраза проста палілі душу. Кларыну нерашучасць звязваў іменна з палонам. Хоць, як цяпер разумее, Клара была далёкая ад гэтага. У ёй проста не разгарэлася полымя. На стацыянар у той год ён не паехаў. На нешта спадзяваўся. І яшчэ тры гады цягнуліся няпэўныя, цяжкія для абодвух адносіны, якія нарэшце прывялі да расстання.

Быў, вядома, трэці, без трохкутніка ў такіх рэчах не абыходзіцца — маладжавы, стройны, ахайна апрануты завуч сярэдняй школы — інстытут паспеў скончыць да вайны, падаваў надзеі. Чым не пара: будучы дырэктар школы іціхмяная, з бездакорнай рэпутацыяй прыгажуня з дыпломам урача?

За завуча Клара выйшла замуж праз год пасля таго, як Высоцкі паехаў з гарадка, дамогся пераводу на перадапошні курс стацыянара, хоць такое і не дазвалялася правіламі. І пасля прыстойных рэдакцыйных заробкаў, ганарараў ліпеў на стыпендыі, ашчаджаючы кожную капейку. Рэцэнзіі, артыкулы ён стаў пісаць пазней, калі ўжо вучыўся ў аспірантуры.

Вярнуўшыся ў гасцінічны пакой, Высоцкі доўга выдыбае з кута ў кут. З акна відаць дворык пладагароднінная базы — бочкі, штабялі скрынак, рознае начынне,— асветлены электрычнасцю, абмыты дажджом бульбяны бурт адлівае залатымі бляскамі. Бульбу пагрузяць на баржы, павязуць уніз па Прыпяці, па Дняпру. Бульбяны край...

У мястэчку, дзе нарадзіўся Высоцкі, таксама добра расце бульба. Але цяпер там і нафта. Два гады назад ён наведаў роднае мястэчка, тры ночы начаваў у гасцініцы, блукаў па вуліцах, дзівячыся на някідкія перамены. Завод ці фабрыка ў мястэчку не ўзніклі і, відаць, не ўзнікнуць у бліжэйшым абсягу часу — няма ракі. А нафта цячэ. Тры шчыліны дзейнічаюць, фантануюць, і ў тым якраз месцы, якое з дзяцінства памятае Высоцкі.

Месца называлася лядам, там было дубовае пнёўе, і ён вадзіў туды пасвіць дзедавага каня, а пасля ўрокаў бегаў за апенькамі. Скважыны ўяўляюць сабой невялікія, нават не агароджаныя пляцоўкі, з зямлі вытыркаюцца каленчатыя трубы, на адной з іх прымацаваны прыбор накшталт манометра. Нічога асаблівага не ўбачыш, нафта цячэ па трубах, толькі зямля вакол, як на станцыі ці на заводзе, нібы заліта мазутам. Але яго тое відовішча ўзрушыла...

Галю, маладую зямлячку, з якой ён нечакана пазнаёміўся і, мабыць, сустрэнецца, вядома ж, падхапіў вецер перамен. Нафта ў ваколіцах роднага мястэчка, на палескай зямлі! Тады, калі вучыўся ён, шырокі свет вабіў тым самым — ужо шумелі Днепрагэсы, Магнітагорскі, Хібінагорскі, экспедыцыі Шміта і папанінцаў. Толькі тыя здзяйсненні былі далёка, паўставалі ахутаныя смугой невядомасці, цяпер перамены — побач, і ў сённяшніх парываннях моладзі, відаць, больш будзённасці.

Ён адчуваў, што не засне. Дастаў з чамаданчыка тры сцягнутыя шнуркамі папкі з рукапісам. Калі ён гаварыў Вайнштэйну, што не напісаў кнігі, якой ад яго чакалі, то проста не хацеў пахваляцца: кніга ёсць, напісана і перапісана даўно, ён і прыехаў сюды дзеля таго, каб даць ёй штосьці такое, што можна адчуць толькі ў гэтым горадзе.

Больш чвэрці века прайшло, як скончылася вайна, а ўсё прыходзяць пісьменнікі, якія пра яе расказваюць. Магчыма, ён сам стане адным з такіх позніх баталістаў. Шмат чаго ў жыцці пераплялося, што не дало яму магчымасці выказацца адразу пасля пераможных салютаў.

Высоцкі ледзь не на памяць ведае, што ў кожнай папцы — столькі пісаў, перапісваў. Рамана, які столькі гадоў грэў душу

салодкай надзеяй, аднак, не будзе, добра, калі з трох папак, у якіх амаль дзевяцьсот старонак, атрымаецца аповесць.

Ён даўно вынашвае ідэю. Яна зрэшты простая: трэба напачатку расказаць, што і як адчуваў ён сам у першы год вайны, калі пасля дзевяцімесячных камандзірскіх курсаў трапіў на фронт, пасля нядоўгіх баёў пад Харкавам апынуўся ў палоне і як пасля неаднаразовых пакутлівых спроб здолеў адтуль выбрацца.

Рукапіс непамерна распух.

Доўгая сентыментальная пуга пра перажыванні юнака, які, вучачыся ў вайсковым вучылішчы сувязі, што было размешчана ў невялікім гарадку пасярод казахстанскага стэпу, сумаваў па родных мясцінах, слухаў па вечарах трывожныя весткі з франтоў, пісаў у розныя адрасы лісты, каб знайсці каханую дзяўчыну, якая — ён гэта ведаў — эвакуіравалася ў савецкі тыл.

Амаль палавіна першай папкі пра эшалон, які вёз навасфармаваны полк на фронт, пра марш па непралазнай гразі да перадавой, пра няўдалы трохдзённы бой і, нарэшце, пра палон — пра голад, знявагу, нечуваныя здзекі.

Нічога гэтага не трэба. Трэба толькі пра тое, як дваццацігадовы лейтэнант, трапіўшы на дрэваапрацоўчы завод ва ўкраінскай частцы Палесся, дзе працавалі адны палонныя і дзе можна было неяк трываць, бо іх, няхай сабе кепска, пачалі карміць, дамаўляецца з такімі, як сам, рызыкуе жыццём, робіць тры няўдалыя спробы і, нарэшце, з палону вырываецца.

Усё астатняе павінна вынікаць з успамінаў, размоў, кароткіх рэплік. Пісанне — тое ж даследаванне. Галоўнае — самому сабе адказаць, як маглі канваіры, накормленыя, сытыя немцы, спакойна глядзець на смерць ад голаду, хвароб, ран, чаму стралялі ў безабаронных палонных, травілі сабакамі, білі за ўсялякую дробязь. Іменна на гэта трэба адказаць, бо сярод канваіраў хоць зрэдку трапляліся інакшыя немцы, якія не страцілі здольнасці спачуваць чалавеку ў яго горкім становішчы.

І ў час вайны, і пасля яе Высоцкі нязменна думаў пра гэта.

За вайну нямецкай мовай ён авалодаў ніштавата: навучыўся без слоўніка чытаць газету, кнігу. У палку сувязі, дзе прыйшлося служыць пасля шпіталю, пазнаёміўся з лейтэнантам-перакладчыкам, маскоўскім хлопцам, які гэтак жа, як ён, скончыў перад вайной дзесяцігодку. Віктар Мілаванаў — так звалі перакладчыка — быў з інтэлігентнай сям’і. Пасля школы шэсць месяцаў вучыўся на курсах і ўжо ў сорак першым годзе трапіў на фронт. Лёс яго быў шчаслівейшы: акружэння, палону не ведаў, ні разу нават не быў паранены.

З Мілаванавым яны моцна здружыліся, асабліва калі вайна скончылася і полк нёс у Германіі гарнізонную службу. Лазілі па бібліятэках, кнігасховішчах, падоўгу размаўлялі, кранаючы пераважна высокія матэрыі. Мілаванаў быў трохі «не от мира сего»: тонкі, далікатны твар, незласлівы, мяккі характар, дапытлівы розум. Яшчэ ў час вайны насіў у сваёй камандзірскай сумцы томік Канта з «Крытыкай чыстага розуму» і «Пралегаменамі». Ён, Высоцкі, такіх кніг тады не чытаў, але цікавасць брала сваё, і ён не раз дапытваўся ў сябра:

— У чым соль філасофіі Канта? Можаш ты мне папулярна расказаць?

Мілаванаў браў трэсачку, выводзіў на зямлі дзве паралельныя рыскі.

— Першая лінія,— тлумачыў ён,— матэрыя, ну, тое, што ўсіх нас акружае. Горы, рэкі, зямля, неба, планеты, зоркі. Другая лінія — свядомасць. Мы з табой, адным словам. Можна прылучыць астатняе чалавецтва. Розніца будзе невялікая. Гаворка ідзе пра суб’ект. Такім чынам, аб’ект, гэта значыць, матэрыя, з суб’ектам, гэта значыць з намі, з усімі, хто здольны мысліць, ніколі не сальецца. Яны існуюць паралельна...

Высоцкі нічога не разумеў. Аб’ект, суб’ект? Навошта гэта? Няўжо за такія развважанні Канта лічаць вялікім філосафам? Мілаванаў, бачачы няцямнасць сябра, вінавата ўсміхаўся. Усмешка ў яго добрая, далікатная. У такія хвіліны ён нагадваў дзяўчыну...

Пазней, у студэнцкія, аспіранцкія гады, Высоцкі чытаў Канта, як і астатніх філосафаў,— Арыстоцеля, Гегеля, нават самых навейшых — экзістэнцыялістаў. У моры абстракцый ён пачаў плаваць даволі лёгка, разумеючы, што яго першы

настаўнік сам не надта пераварыў Канта. Можа, таму, што адольваў яго па арыгіналу?

А Кант — сапраўды адметны філосаф. Ад яго пазнейшая філасофія пацягнула нітачку нявер'я, сумнення, суб'ектывізму. Кант лічыў, што чалавечы розум не ў стане ахапіць, зразумець тое, што адбываецца ў акаляючым чалавека свеце рэчаў, бо ён, розум, мае справу не з самімі рэчамі, а толькі з іх адбіткамі ў свядомасці. Матэматыку, геаметрыю, трыганаметрыю Кант лічыць чыстым розумам, бо навукі гэтыя нібыта ўзніклі не з вопыту і практыкі, а прыўнесены свядомасцю: яны вывучаюць асаблівасці прасторы, часу — катэгорый, якія аб'ектыўна не існуюць і дадзены чалавеку апрыёрна, гэта значыць, без удзелу вопыту і практыкі.

Калі свет нельга пазнаць, то яго можна стварыць — воляй, сілай навязаць людзям, грамадству якія хочаш уяўленні — такую выснову зрабілі пазнейшыя філосафы Шапенгаўэр, Ніцшэ? Фашысты якраз і ўхапіліся за Ніцшэ, узвёўшы яго ў ранг свайго ідэолага.

Высоцкі памятае: у Германіі, у кожнай бібліятэцы — дамашняй ці грамадскай — яму трапляліся на вочы кнігі Канта, Ніцшэ, Гегеля, Маркса, Леніна, вядома, не было. Толькі аднойчы ён знайшоў томік, выдадзены ў пачатку трыццатых гадоў, з партрэтам правадыра, якім малявалі яго, калі Высоцкі толькі пачаў хадзіць у школу. Той немец, які ў сваёй шафе хаваў Леніна, відаць, быў смелы чалавек. Добра, што ён усё-такі быў. Бо найчасцей бадай у кожнай сямейнай шафе Высоцкі знаходзіў «Майн кампф» Адольфа Гітлера і «Міф дваццатага стагоддзя» Альфрэда Розенберга.

Дык вось так, у дваццатым стагоддзі — міфы. Фашысты не бачылі ў гэтым нічога кепскага. З Ніцшэ ўзялі ідэю звышчалавека, паняцце волі. «Свет як воля і ўяўленне» — называецца адна з кніг Шапенгаўэра. Менавіта такі свет збіраліся пабудаваць фашысты. Праз кроў, трупы, знішчэнне цэлых народаў пракласці дарогу тысячагадоваму рэйху. Калі ісціны няма, немагчыма да яе дабрацца, то можна ісціну прыдумаць, прымусіць у наваяўлены міф паверыць. Трэба толькі воля, сіла. На ёй трымаецца свет.

Гэта, вядома, тэорыя. Ён, Высоцкі, як нявопытны пісьменнік зрабіў памылку, адвёўшы ў сваім рукапісе залішне вялікае месца тэарэтычным развагам. Нічога гэтага не трэба. Радавыя немцы, з якімі ён сутыкаўся, калі трапіў у палон, і пазней, калі бачыў іх у якасці палонных, і яшчэ пазней, калі знаходзіўся ў Германіі, размаўляў, з кім хацеў,— дык вось усе гэтыя немцы ні Ніцшэ, ні Альфрэда Розенберга не чыталі, некаторыя нават не ведалі, што ёсць такія кнігі. Але чаму ж тады многія з іх былі такія жорсткія, бязлітасныя да сваіх ахвяр, палілі жывымі ў захопленых вёсках старых жанчын і дзяцей, знішчалі палонных?

Усю ноч Высоцкі пісаў. Перш за ўсё трэба пакінуць і нават пашырыць карціны, прысвечаныя палону. Ён нічога не будзе выдумваць, пакажа толькі тое, што пабачыў, пeражыў.

Ён пачаў з аркі. Да дробязей бачыў цяпер гэтую арку над уваходнымі варотамі ў лагер, якім стала аплеценая калючым дротам тэрыторыя невялікага дрэваапрацоўчага завода з цыркуляркамі, піларамай, стусамі бярвенняў, двума прысадзістымі баракамі, у якіх размяшчаліся палонныя, і акуратна дагледжаным з бляшчаным дахам дамком, дзе жыла ахова. Некалі заводзік быў часткай невялікага пасёлка, што ляжаў пры чыгуначнай ветцы-аднапутцы. Ад склада, які цяпер быў за дротам, да сінеючага ўдалечыні лесу вяла вузкакалейка, па якой прывозілі бярвенне. У лес палонных не пускалі. Там працавалі пасялкоўцы: валілі сосны, грузілі на вузенькія платформы, паравозікам падганялі да самай аркі. Раз у тры дні ўваходныя вароты расчыняліся, і машыніст, падаўшы прарэзлівы гудок, заганяў цуг платформаў у лагер. Іншых цывільных сюды не пускалі.

І яшчэ раз у тыдзень, пастроіўшы калону, прыхапіўшы ўсіх лагерных аўчарак, канвой выводзіў палонных на станцыю — грузіць у эшалон шпалы, дэталі ад бункераў — прадукцыю заводзіка. Гэта было адзінай прасветлінай у лагернай аднастайнасці: віску піл, цыркулярак, груку піларамы, чухканні паравозіка.

Высоцкі глядзіць цяпер на папярэдняе жыццё свайго героя толькі праз калючы дрот лагернай агароджы. Старонкі,

напісаныя раней — пра даваенныя сяганні юнака, вучылішча сувязі, баі пад Харкавам — трэба перайначыць і падаць праз адчуванні вязня, які дзень і ноч трызніць пра лес і пра волю. І ўвесь час хоча есці. Думае толькі пра хлеб. На гэтым ён пабудуе першую частку аповесці.

Высоцкі больш выкрэслівае, чым піша. Здымае абзацы, абсякае мярэжу лішніх слоў, сказаў, падпарадкоўваючы рытм, мелодыю апавядання настрою, які цяпер уладна авалодаў ім. Зусім не шкода выкідваць, перакрэсліваць цэлыя старонкі дзеля аднаго толькі сказа ці якой-небудзь дэталі.

Штосьці надзвычай важнае ў жыцці яго герой спазнаў там, у лагеры, і як доўга Высоцкі, вельмі няўдалы пісьменнік, ішоў да гэтай высновы. За ўцёкі з лагера кара была адна — смерць,— аднак яго лейтэнант тры разы паўтарыў спробу. Пра тое — будзе ці не будзе жыць — не думаў. Наогул на вайне ніхто пра такія рэчы не думае, нават стараецца адагнаць думкі пра гэта, калі яны прыходзяць. Вайна — асобы стан духу. Можа, таму адзін чалавек так лёгка забівае другога, не адчуваючы асаблівых дакораў сумлення.

Час ад часу Высоцкі ўстае, закурвае, падыходзіць да расчыненага акна. У горадзе рэдкія агні, прыціхлыя начныя зыкі: прамчыць па набярэжнай таксі, азавецца ўнізе, у якім-небудзь дворыку, певень. Горад спіць. Тут, здаецца, нават і прадпрыемстваў такіх няма, якія б працавалі ў начную змену. Хіба толькі электрастанцыя ды тэлеграф.

У гэтую ноч Высоцкі як бы жыве ў двух вымярэннях — у мінулым і сённяшнім. Пераход ад аднаго стану да другога адбываецца вокамгненна. Калі ён стаіць ля акна, глядзіць на горад — адчувае сябе сённяшнім, сталым чалавекам, сядзе да стала — і адразу пераўвасабляецца ў далёкага, дваццацігадовага лейтэнанта, у якога сэнс жыцця — вырвацца з палону. Ёсць, значыць, тое, што называецца сувяззю часоў.

Добра, што ён згадзіўся чытаць лекцыі і прыехаў сюды. Як бы прадчуваў, што толькі тут, у горадзе маладосці, можа з’явіцца настрой, які дазволіць са святым трапятаннем перапісваць, перайначваць парудзелыя ад доўгага ляжання лісткі.

Калі пачало світаць, перад Высоцкім ляжаў стусік паперы. Ён перачытаў напісанае ноччу, а таксама ўшчэнт пакрэмсаныя папраўкамі-ўстаўкамі старыя аркушыкі, і застаўся задаволены. Нешта атрымліваецца. Ён гэта нутром выразна адчувае. Што, нават ён, які столькі гадоў тлуміць студэнтам галовы, раскрываючы сутнасць літаратуры, дакладна не скажа. Ёсць адчуванне праўды, суладнасці. Літаратура, відаць, трымаецца на вымярэнні жыцця па найвышэйшых законах чалавечага духу. Увогуле, дзіўная рэч — літаратура. У многіх адносінах — загадка, тайна. Не на сваім месцы слова ў сказе, і ад усяго сказа патыхае фальшу. У матэматыцы ад перастаноўкі складаных сума не мяняецца, у літаратуры — мяняецца.

Высоцкі зачыніў вокны, распрануўся і, дацягнуўшыся да ложка, адразу заснуў. Зусім не чуў, як абудзілася гасцініца, як ляскаталі дзверы, алюмініевыя спінкі раскладушак — іх зноў складвалі, прыбіраючы з вестыбюля.

## VIII

Ён прачнуўся апаўдня і, паснедаўшы, рашыў завітаць у рэдакцыю. З былых супрацоўнікаў там толькі Вайнштэйн ды Карчны. Але Вайнштэйн ужо, мабыць, плёскаецца ў цёплым моры, а з Карчным ён блізкім не быў. «Добры дзень», «Як жывеш?», «Бывай здароў» — толькі і было гаворкі. Трэба ўсё ж пазнаёміцца з машыністкай, перадрукоўваць пакрысе напісанае.

Рэдакцыя ў адміністрацыйным будынку разам з гаркамам, гарсаветам і іншымі ўстановамі. Будынак звернуты фасадам на Цэнтральную плошчу. Доўгі калідор, наўзбоч пакоі. Пакой на двух супрацоўнікаў. Раскоша. І новае племя газетчыкаў.

На аддзяленні журналістыкі Высоцкі таксама чытае курс літаратуры, таму знаёмыя ёсць. Нават сам рэдактар знаёмы — чарнявы таварыскі хлапчына гадоў трыццаці. Сустрэўшы Высоцкага ў калідоры, адразу вядзе да сябе ў кабінет.

— З’ездзім на Нафтабуд, Алесь Іванавіч,— запрашае рэдактар.— У нас «газік», паедзем, куды захочаце. Я ж ведаю, журналісцкая жылка ў вас трымціць.

Высоцкі ахвотна згаджаецца.

— Паедзем. Калі можна, па калгасах павазіце. Я тут у кожнай вёсцы быў.

— Павозім. Мабыць, забылі, як прымалі ў мяне экзамен?

— Не забыў. Вы падрыхтаваліся як трэба. Проста бліскуча адказвалі.

— Вас баяўся. Ведаў, што тут працавалі. Каб паставілі тройку, мяне б у рэдакцыі засмяялі. Я ж універсітэт завочна заканчваў, працаваў загадчыкам аддзела.

На стусік спярэшчаных праўкай старонак рэдактар глядзіць з павагай.

— Артыкул.

— Падымайце вышэй.

— Пакіньце. Машыністка перадрукуе.

— Хачу сам пазнаёміцца з машыністкай. Буду яшчэ прыносіць.

Праз паўгадзіны Высоцкі пакідае рэдакцыю, не спяшаючыся, ідзе ў канец вуліцы, дзе ў суседстве з абкамам размяшчалася рэдакцыя ранейшай абласной газеты. Хутка ён даходзіць да знаёмага драўлянага дамка, які нагадвае пастаўлены на тарэц вялікі карабок запалак. Па ўсіх прыкметах, тут цяпер камунальныя кватэры — занавескі, шторы на вокнах, замест аднаго высокага ганка — цэлых тры. Высоцкаму аж сумна стала.

Праз вуліцу наўскасяк мураваны будынак пошты, якая адраса не мяняла, і Высоцкі кіруе туды, купляе ў кіёску газету і, прымасціўшыся на скамейцы са спінкай і масіўнымі чыгуннымі ножкамі, доўга сядзіць.

Двухпавярховы драўляны, зрублены на прамы вугал дамок, падобны на карабок запалак, шмат у яго жыцці значыў. Ранейшай рэдакцыі газеты — большай па ўдзельнай вазе і па штату — месца ў ім хапала. Высоцкі нібы зрокава бачыць рыпучую крутую лесвічку, якая вяла на другі паверх, абшарпаныя шпалеры на сценах, соты пакойчыкаў, кабінетаў.

На першым паверсе ў цесных каморках валадарылі аддзелы пісем, культуры, сельскагаспадарчы і машынапіснае бюро. Два старыя «Ундэрвуды» пад спрактыкаванымі пальцамі рэ-

дакцыйных машыністак трашчалі нібы кулямёты, так што чалавек, які праходзіў міма дамка, нават не зірнуўшы на шыльду, мог здагадацца, якая тут установа.

Прымала Высоцкага ў рэдакцыю Вольга Самсонаўна Бакуноўская, маленькая, рухавая, з заплеценымі ў старамодны клубок валасамі, з сінімі, па-дзіцячаму даверлівымі вачамі.

— Вы друкавалі што-небудзь?

— Вершы. У вашай газеце.

— Ведаеце рэдакцыйную работу?

— Паўгода працаваў карэктарам.

— Ай, як добра! Аформім раз’язным карэспандэнтам. Кватэры не дадзім, картачку — з новага месяца. Заданні палучыце ў аддзелах.— Пaглядзеўшы на шынель, які Высоцкі не паспеў нават расшпіліць, на чамадан, пастаўлены ля дзвярэй, яна вінавата ўсміхнулася: — З кватэрамі цяжка. Пакуль знойдзеце, начуйце ў рэдакцыі.

Размова аб уладкаванні на працу ў такую паважаную ўстанову, як рэдакцыя, заняла не болей пяці хвілін. Вольга Самсонаўна на вайсковы шынель глядзела з павагай.

Ён начаваў у рэдакцыі месяцы тры, пакуль не знайшоў уласны куток.

Дзіўны быў пасляваенны час. Па-свойму вялікі і непаўторны. Настрой, нягледзячы на руіны, зямлянкі, голад, холад, панаваў высокі і ўзнёслы. Сам Высоцкі быў у яго ўладным палоне. Скончылася агромністая, нечуваная ў гісторыі вайна, думаў ён, і цяпер пачнецца эпоха міру і шчасця. Хіба мільёны жыццяў, прынесеныя ў ахвяру, не зарука такога шчасця?

Ахоплены радасцю ад сустрэчы з роднымі мясцінамі, Высоцкі даволі хутка, нешта праз месяц пасля паступлення ў рэдакцыю, напісаў першы нарыс. З’ездзіў у калгас, ва ўцалелую вёску, пагаварыў з брыгадзірам, учарашнім франтавіком, і напісаў.

Ён чакаў трыумфа, прызнання сябе як газетчыка.

Дубовік, загадчык сельгасаддзела, высокі, шыракаплечы, моцна складзены і ў той жа час з туберкулёзам у грудзях, парадкам глухаваты, выбуховы, як дынаміт, доўга падкрэсліваў сінім алоўкам паасобныя словы.

— Слухай, карэспандэнт. На шасці старонках я налічыў трыццаць два словы «ўрачыста». Хачу ўрачыста заявіць, што кідаю твой нарыс у карзіну...

Што ж, Высоцкаму трэба было патрошкі спускацца на зямлю.

Высоцкі ў асноўным працаваў на сельгасаддзел, і пісаць вучыў Дубовік. Загадчык аддзела якраз перажываў паласу ўзлёту. Бадай у кожным нумары не толькі абласной, а і рэспубліканскай газеты паяўляліся заметкі, карэспандэнцыі, нарысы, падпісаныя псеўданімам «Ал. Баравы». Ён быў проста нястомны — гэты Баравы — нікуды не ездзіў, не вытыркаў носа з рэдакцыі, але ведаў пра справы кожнага больш-менш віднага калгаса, МТС. Мог даць характарыстыку старшыням, брыгадзірам, звеннявым, якія па тым часе пачыналі грымець.

Высоцкі лічыў, што ніколі не стане такім дасведчаным, як Дубовік. І не навучыцца так лёгка пісаць. Той клаў на стол стусік акуратна нарэзанай газетнай паперы, падсоўваў бліжэй чарнільніцу, выганяў з кабінета курыльшчыкаў і, не зважаючы на размовы, тэлефонныя званкі — можа, таму, што быў глухаваты,— пісаў. Адразу прыдумваў назву, адзначаў абзацы, дыялогі, амаль нічога не выкрэсліваў. Яго стыль, манера здаваліся Высоцкаму ўзорам. Ён і цяпер памятае пачатак аднаго нарыса, напісанага Баравым: «Ехалі трактарысты. Ехалі на рамонт...»

Свой час Высоцкі праводзіў пераважна ў камандзіроўках і за год шмат чаго дасягнуў. Ведаў структуру партыйных, савецкіх, сельскагаспадарчых органаў, дазнаўся, хто каму падначальваецца, ад каго што залежыць, памятаў нормы высеву, глыбіню ворыва, тэрміны сяўбы, сенакосу, уборкі. Зрэшты, амаль да паўналецця ён жыў сярод поля, лесу, і вялікай навукі не трэба было. Вобласць тым часам адставала па ўсіх паказчыках — трактарны парк зношаны, коней мала, ды і тыя хварэлі, большая палавіна пагарэльцаў не вылезла з зямлянак, ураджаі, надоі мізэрныя. А ў райза стракаталі арыфмометры, у калгасы спускаліся паперы: пасеяць столькі, угнаення ўнесці столькі, ураджай сабраць такі. Рэгламентацыя поўная.

Ён памятае, як першай мірнай вясной начаваў у маленькай размешчанай сярод пяскоў вёсачцы. Старшыня даў пасне-

даць, павёў паказаць набытак. З часу, калі адсюль прагналі немцаў, прайшло два з палавінай гады, мужчыны толькі-толькі вярнуліся з фронту, і Высоцкі не разлічваў убачыць што-небудзь асаблівае. Але нават узрадаваўся, калі старшыня падвёў да новенькага, як лялька, кароўніка. Белыя, адгабляваныя сцены яшчэ пахлі смалой, пазы закладзены мохам — нібы не кароўнік, а хату будавалі — усё прыгнана, дагледжана, прыладжана. А цесляры — дзясятка паўтара моцных, у самай сіле дзядзькоў — часалі склюдамі бярвенне, за вёскай, на полі дружна зелянела маладая рунь. Як было не захапіцца малюнкам зладжанай, дзе ніхто нікога не падганяе, працы, яе вынікам, даляглядам, які адкрываўся вачам у недалёкім будучым!

Між тым цесляры прыпынілі работу, закурылі. Адзін з іх — высокі, з няголеным тварам — загаварыў:

— Таварыш, калі ты з газеты, то напішы вот пра што. Да вайны ў нас быў чарапічны заводзік. Немцы спалілі. Трэба адбудаваць. Няхай дадуць крэдыты, мы самі адбудуем. А то якія ў нас заработкі? Жыта вырасце, дык забяруць на пастаўку. Зноў будзе па дзвесце грамаў. А мы жыць хочам, зямлю любім. Калі так не зробяць, разыдуцца людзі. Тут чыгунка блізка, а заработкі там большыя...

Усюды, дзе ў першыя пасля вайны гады бываў Высоцкі, паказвалі новыя кароўнікі, цялятнікі, канюшні, свінарнікі. Гэта былі нібы першыя ластаўкі мірнага жыцця. Другім хваліцца не выпадала — ні ўраджаямі, ні надоямі. Але пра адыходніцтва яшчэ не гаварылі. Цесляры з пясчанай вёсачкі нібы глядзелі наперад.

Ужо ў той час упаўнаважаныя аргнабора насіліся па сельсаветах, калгасах, прываблівалі высокімі заработкамі, праязнымі, сутачнымі, прагрэсіўкай; давалі грошы наперад — падпішы толькі ўмову. Вербавалі ў Карэлію, у Данбас, у Мінск, на будоўлі заводаў, гарадоў. Але нават моладзь калі і падавалася ў адыход, то не вельмі ахвотна.

Высоцкі пісаў і пісаў. Пра людзей, на якіх натрапіў у час камандзіровак, і пра іхнія справы. У яго ставала слоў напісаць шэсць старонак — падвал у газетнай паласе — пра каваля, які з сям'ёй сядзеў у зямлянцы, не будаваў уласнай

хаты, затое накаваў на ўвесь калгас сякер, крукоў, назубіў сярпоў, адрамантаваў плугі, бароны. Наступныя нарысы былі пра даглядчыцу, якая гатавала для зняможаных ад бяскорміцы калгасных цялят пойла з уласнай бульбы, пра аднаногага паштальёна, які, разносячы лісты, штодзень абходзіў на дзеравяшцы вялікае, на некалькі вуліц сяло. Ва ўсіх гэтых матэрыялах Высоцкі дадаваў сёе-тое ад сябе, дадумваў, прыдумваў.

Дубовік быў бязлітасны.

— Адкуль ты ведаеш, што адчуваў каваль? Даведку з пячаткай ён табе даў? Мякіна, сентыментальшчына. Газетчыку трэба толькі факты. Чым ты дакажаш, што ў тую раніцу свяціла сонца? А можа, дождж ішоў. Лірыка гэта. А ў газеце лірыцы не месца.

З нарыса пасля такой пераніцоўкі выходзіла куцая заметка.

Дыялогаў, якія не насілі дзелавога характару, розных пейзажаў, а тым больш паглыблення ў думкі, пачуцці людзей, пра якіх ішла гаворка, Дубовік не цярпеў.

Нарыс пра пясчаную вёсачку, пра размову з цеслярамі наконт чарапічнага завода, крэдыту загадчык аддзела забракаваў па другой прычыне.

— Ты дырэктывы не давай. Ёсць каму даваць. Наша задача — весці правільную лінію. Стратэгі ў тым тваім калгасе знайшліся. У вобласці лепей ведаюць...

На нарадах, сходах актыву вяліся заклікальныя размовы — выселіць з зямлянак народ, рашуча падняць ураджайнасць, выканаць, перавыканаць абавязацельствы, заданні, планы. А іх было многа. Аб'яўляліся месячнікі па ўдарнай вывазцы драўніны, угнаення на палі, рамонту дарог, нарыхтоўцы кармоў. Пра самае галоўнае — як жывуць выканаўцы планаў, які іхні заробак — прамоўцы ўмоўчвалі, як бы гэта было штосьці дробязнае і нявартае ўвагі.

Высоцкі ведаў аднаго намесніка старшыні райвыканкама, па-вайсковаму падцягнутага і нават апранутага на вайсковы манер — тады любілі так апранацца: гімнасцёрка з сіняга шавіёту, галіфэ, хромавыя боты. Ён выступаў на ўсіх сходах, нарадах, але ніколі спецыяльна не рыхтаваўся да прамоў. Нёс на трыбуну жмут графікаў, заданняў, зводак. Тон яго выступленняў быў да празрыстасці ясны, нават па-дзіцячаму

наіўны. Намеснік старшыні райвыканкама называў па парадку адстаючыя калгасы і, звяртаючыся да старшынь, пытаўся:

— Табе план па яйцу даведзен? Даведзен. Чаму не здаеш яйцо?

І гэтак аб ходзе выканання кожнай кампаніі.

Сам між іншым быў не такім ужо бяссрэбранікам. Калі дзялілі прысланыя ў раён бэбахі — дапамогу пацярпеўшым ад вайны, то, расказвалі, ледзь не з кулакамі кідаўся, стараючыся ўрваць сабе паболей, з навейшага, лепшага матэрыялу.

А ўвогуле райкамаўцы, райвыканкамаўцы былі вялікія трудзягі, гарапашнікі, раскошы не бачылі, у паношаных шынельках, распоўзлых ботах мясілі прасёлачную гразь, падштурхоўваючы ўласным плячом непадатлівы воз рэзруху, нягод, нястачы — спадчыну агромністай спусташальнай вайны.

У вокнах абкама — ён размяшчаўся побач з рэдакцыяй — усю ноч блішчала святло. Стыль быў такі — працаваць ноччу. І, відаць, не ад адных абкамаўцаў залежыў. Расказвалі, што першаму сакратару, аграному па спецыяльнасці, праслаўленаму камандзіру партызанскага злучэння, якое дзейнічала ў паўночных раёнах рэспублікі, у тры гадзіны ночы пазваніў Вярхоўны — прачытаў натацыю, наківаў пальцам за марудныя тэмпы хлебаздачы.

І яшчэ смылела ў грудзях ад горычы: пачуццё, мабыць, вядомае ўсім, хто на пераможным этапе вайны дайшоў да Германіі, бачыў апранутыя ў мур, камень вёскі, дабротныя, агароджаныя ад усяго свету двары баўэраў, іх вастраверхія, крытыя чарапіцай дамы. А нашы вёскі, нібы статак авечак, што збіліся ў летнюю спякоту, дый тыя папаленыя, зруйнаваныя; пагарэльцы, якія вылазілі з зямлянак, ставілі хаткі на жывую нітку — абы хутчэй улезці пад дах.

Другая сусветная адгрымела, эпоха міру, шчасця, аднак, не спяшалася наступаць. Наадварот, як бы паўставаў яшчэ болей страшны прывід трэцяй сусветнай: Бізонія, Трызонія, заакіянская Амерыка размахвала атамнай бомбай. Што ж, трэба падцягваць, тужэй зацiскаць рэмень, мы, пакаленне, нібы закліканае стварыць умовы для новых, сапраўды шчаслівых пакаленняў. Так думаў Высоцкі.

Ён ездзіў і ездзіў. Начаваў у вёсках — большая палавіна іх жыхарства маладыя ўдовы, дзяўчаты, якім не суджана дачакацца жаніхоў. Апранутыя як прыйдзецца, яны віламі выкідвалі з хлявоў гной, сеялі, палолі, жалі, малацілі, вазілі на нарыхтоўчыя пункты збожжа. Першы мірны хлеб краіны. Дый на рыштаваннях у Мінску стаялі дзяўчаты — сярод першых будаўнікоў іх было там не меней палавіны.

І яшчэ кок-сагыз быў — паўнаўладнае жаночае царства. Вёска яшчэ не наелася хлеба, а ўжо мусіла напінацца, каб апрануць у гуму колы аўтамашын, самалётаў. І поўзалі жанкі, дзяўчаты наўколенцах па балотным тарфяніку, перамерваючы яго за лета па некалькі разоў.

А газеты спявалі. Матэрыялы, якія ў іх змяшчаліся, дыхалі бадзёрасцю, дух, які іх нарадзіў, Высоцкі нібы адчуваў у самім сабе. Скончылася агромністая вайна, і мы ў ёй перамаглі. То чаму ж не пераможам цяпер, калі не свішчуць кулі, а над галавой мірнае неба і сонца?

Аднойчы выпадак сутыкнуў Высоцкага з пісьменнікам, які прыехаў з Мінска па спецыяльнай камандзіроўцы. Яны начавалі ў гасцініцы ў тым самым чыгуначным гарадку, адкуль трэба дабірацца ў надпрыпяцкі горад, харчаваліся ў буфеце — там давалі шчаўе з апенькамі і маленькі кавалачак хлеба. Пісьменнік адну за другой разменьваў соценныя: яны мелі не надта высокую вагу — віп'еш пару кухляў піва, купіш дзве пачкі папярос.

Пісьменнік разам з Высоцкім пакіраваў у больш-менш перадавы калгас, ішлі лясной дарогай, заблудзіліся; затое пабывалі ў вёсках, куды не думалі завітваць, начавалі ў лесніка, у брыгадзіра трактарнай брыгады. Пісьменнік нічога асаблівага не запісваў — так, прозвішча, якую-небудзь лічбіну. Размаўляў, як размаўляў бы на яго месцы кожны, хто трапіў да незнаёмых людзей.

Тыдні праз два ў рэспубліканскай газеце пачалі друкавацца нарысы. Божа ты мой! Аказваецца, усё заўважыў пісьменнік, усё занатаваў у памяці: лужынкі талай вады, якія, нібы люстэркі, адсвечвалі на вясновым сонцы, рудую мінулагоднюю асаку — праз яе на балотных купінах прабіваліся тоненькія сцяблінкі чорнагалова; як бы ў нейкім вокамгненным здым-

ку паказаў лесніка, брыгадзіра, старшыню калгаса, наогул усіх людзей, з якімі прыйшлося сутыкнуцца і размаўляць. І нічога не выдумліваў: быў калгас, што толькі-толькі пачынаў станавіцца на ногі, людзі, якія хацелі жыць, працаваць, верылі, што заўтра будзе лепей.

Ён толькі адну дэталь абмінуў: на станцыі, дзе ў буфеце харчаваліся з Высоцкім, было поўна мяшочнікаў: на адкрытых платформах, на тармазных пляцоўках, у тамбурах вагонаў вязлі хлеб мужчыны і жанчыны: хто мяшок, хто два, і нават чыгуначнае начальства не забараняла яго такім манерам перавозіць.

У тоўстых літаратурных часопісах сталі друкавацца аповесці і раманы пра нядаўнюю вайну, і Высоцкі з прагнасцю на іх накідваўся. Ён ужо меў кватэру: адгароджаны фанернай перагародкай закутачак, дзе памясціўся жалезны ложак і тумбачка. Пра вайну таксама пісалася праўда, толькі як бы ўсечаная: пра адступленні, акружэнні гаворкі не было, а калі дзе-небудзь мімаходзь упамінаўся палон, то герой трапляў туды толькі паранены — іначай не было яму апраўдання.

І замільгаў у газетах крылаты выраз: салдат-пераможац, што прайшоў ад Сталінграда да Берліна. Вобраз такі можна было прыняць толькі як збіральны, бо Высоцкі добра ведаў, як нялёгка прайсці салдату не то што ад горада да горада, а ў час наступлення нават да бліжэйшай вёскі. Ці, можа, тое, што ведаў, бачыў ён, нічога не значыла?

Суровы, вялікі быў час, дыхаў аскетызмам, мераў чалавечыя справы надта высокімі меркамі. Але раз назаўсёды дадзеных мерак быць не можа, разважаў Высоцкі, інакш — няхай сабе няпісаныя — паявяцца графачкі, рубрычкі, якія падзеляць тых, хто мае аднакае права на зямлю, ваду, паветра, сонца, на беленькіх, чорненькіх, паласаценькіх...

Пісаў Высоцкі найчасцей ноччу, у рэдакцыі, там жа, паклаўшы пад галаву камплект мінулагодняй падшыўкі, заставаўся начаваць нават і тады, калі ўжо меў кватэру. Добра ў рэдакцыі: можна адчыніць фортку, курыць, крочачы па пакоі з кута ў кут, абдумваць чарговы абзац. Субяседнікі, каб пагаварыць, адвясці душу, таксама былі: вартаўнік Залман Перац і начальнік абліта Рудэрман.

У Залмана сын карэспандэнт рэспубліканскай газеты, на яе палосах амаль штодзень мільгае яго імя, і бацька кожны раз пахваляецца:

— О, мой Міша... Такая галава!..

Высоцкі сынам-карэспандэнтам не захапляўся, хоць праўды бацьку ў вочы не гаварыў. Малады Перац пісаў неахайна, ніколі не задумваўся над словам, яго нават у абласной газеце нельга было без карэннай праўкі друкаваць. Затое ён быў учэпісты ў другім: паедзе пісаць пра леспрамгас і вернецца ў фуфайцы, ватніку, валёнках — апранулі як лесаруба.

Стары Залман, даведаўшыся, што Высоцкі пабываў у якім-небудзь раёне, доўга распытвае пра цэны на бульбу, мяса, яйкі. Пачуўшы адказ, нездаволена крэкча, шморгае тоўстым носам:

— Пражыві на маёй зарплаце. На кілаграм каўбасы зарабляю...

Рудэрман — ціхі, задуменны, мяккі. Любіць літаратуру, размаўляе з Высоцкім пра Чэхава, Гогаля, Купрына. Немалады — на галаве пралегла прыкметная лысіна — вастратвары, з глыбокімі западзінамі ў падлоб'і, аднак не пакідае мару паступіць ва ўніверсітэт. Хоць завочна, бо мае дваіх дзяцей, а іх трэба карміць.

Тое, што ў гарадку шмат яўрэйскага насельніцтва, мае непасрэднае адбіццё на складзе рэдакцыі: палавіна яе супрацоўнікаў — яўрэі. Найбольш здольны Блюменталь — адказны сакратар, той самы, што некалі надрукаваў першыя вершы Высоцкага. Прайшоў вайну — працаваў у ваеннай газеце — інтэлігентны, абыходлівы, начытаны, сам піша вершы. Блюменталь ніколі ні на кога не крычыць, але аўтарытэт яго бездакорны.

Яўрэі жывуць у гарадку з незапамятных часоў, на могілках пад высечанымі з каменю прамавугольнымі слупкамі ляжаць косці прадзедаў, прашчураў, аднак тое, што ў іх жылах цячэ кроў спякотнага Усходу, сказваецца моцна. Кожную навіну, асабліва, калі яна датычыць аднапляменніка, паспяховага яго прасоўвання па службе, абмяркоўваюць горача, тэмпераментна.

Можа, гэта ад таго ў іх, думае Высоцкі, што ў старым дарэвалюцыйным жыцці былі прыніжаны, фашысты іх знішчалі, і яны рады кожнаму выпадку выставіць свае здольнасці.

Блюменталь між іншым ніколі ў такіх гаворках не ўдзельнічае, а калі чуе, то паблажліва ўсміхаецца.

Уласным карэспандэнтам у газеце працуе Ціхон Бобла, тоўсты, мажны, з шырокім безбародым тварам і вузкай прораззю жорсткіх татарскіх вачэй. Раёны, што ўваходзяць у куст, запрыпяцкія, найбольш багатыя. Але ў Боблы і дзяцей багата, здаецца, васьмёра, і розных дапамог, якія яму дабаўляюць да заробкаў, не хапае. Атрымаўшы ганарар, ён подбегам валюхае на пошту і перасылае жонцы грошы не звычайным, а тэлеграфным пераводам — каб атрымала ў той жа дзень.

З Боблам Высоцкі найчасцей падарожнічае. Ціхон — карэспандэнт бывалы і хітры. Пачынаў работу яшчэ ў саюзнай асаавіяхімаўскай газеце аж у пачатку трыццатых гадоў. У ватовай паддзёўцы, вялізных распоўзлых ботах ён транспартам не карыстаецца — ад калгаса да калгаса, з раёна ў раён вандруе пеша. Такім манерам і харчуецца — хто пусціць пераначаваць, той і павячэраць дасць.

У Боблы насмешлівы, іранічны розум, ён умее размаўляць з кожным, каго ні сустрэне, ведае становішча спраў не толькі ў раёнах і калгасах, а ў брыгадах і на фермах. Фактаў у яго галаве — безліч. Але ў той жа час Бобла абыякавы і нават страшэнна лянівы — кніг не чытае, узровень яго адукацыі нізкі — ён, як быў, так і застаўся селькарам трыццатых гадоў.

Заметак, карэспандэнцый, а тым больш нарысаў Бобла не піша, ён проста падпіхвае пад шкло, якое ляжыць на стале загадчыка сельгасаддзела Дубовіка, матэрыялы, складзеныя па вельмі няхітраму прынцыпу — назва калгаса, прозвішча старшыні калгаса, станоўчы ці адмоўны факт, які меў месца. Але ў рэдакцыі пастаянна ўзнікае патрэба распачаць якуюнебудзь кампанію, і, атрымаўшы ад рэдактара дырэктыву, Дубовік пачынае корпацца ў стусе Боблавых папер, заўсёды знаходзячы факт, які адпавядае новым запатрабаванням. Нюх на факты ў Боблы востры — стары газетны воўк.

Так вось працавалася. Праз год прыйшоў новы рэдактар — яшчэ ў вайсковым шынялі, з маёрскімі пагонамі. Вольга Самсонаўна з гэтага часу стала лічыцца звычайнай загадчыцай аддзела.

Не хто іншы як Дубовік — суровы настаўнік і найбольшы ў рэдакцыі аўтарытэт — прадставіў Высоцкага новаму рэдактару.

— Наш спецкар. За паўгода дайшоў да нарыса і нават фельетон надрукаваў. Падае надзеі.

Гэта была, а тым больш з вуснаў Дубовіка, найвышэйшая пахвала.

Жыццё тым часам мералася на пуды, цэнтнеры, гектары. Ідэі, якія вынікалі з таго, што пісаў Высоцкі, дый усе астатнія супрацоўнікі рэдакцыі, былі не вельмі складаныя: арганізаваць справу, падняць людзей, дабіцца большых гаспадарчых поспехаў. Трэба было верыць у тое, да чаго заклікаеш. Высоцкі верыў. Ды і нельга было не верыць. Людзі хочуць жыць, будаваць хаты, заводзіць сем'і, дамагацца большага дастатку. То чаму яны павінны дрэнна працаваць?

Ён ездзіў, чытаў, пісаў, харчаваўся дрэнна, першы год прахадзіў у шынялі, ботах, якія прынёс з вайны,— тады многія так хадзілі. Жыў на ўздыме, жыццё, здаецца, толькі-толькі пачыналася, хоць і за плячамі было шмат чаго перажытага. Пра вайну — нядаўнюю, многа ў чым незразумелую — думаць, аднак, не хацелася. Як бы мір і вайна былі зусім розныя рэчы.

## IX

Завядзёнка ўсюды аднакая: студэнты едуць на бульбу. Курс, на якім чытае Высоцкі, дэкан спецыяльна затрымаў на чатыры дні, каб даць магчымасць прыезджаму, спецыяльна запрошанаму выкладчыку вычытаць свае гадзіны. Дзеля гэтага яму аддадзены гадзіны астатніх выкладчыкаў.

Малюнак студэнцкіх збораў таксама аднакі. З клумкамі, рукзакамі за плячамі гаманлівая талака рассаджваецца па аўтобусах, грузавіках, у якіх замест кузаваў драўляныя буды. Шафёры стаяць купкамі, кураць, перамаўляюцца, чакаючы, пакуль студэнты рассядуцца.

З мясцовага інстытута, калі Высоцкі жыў у горадзе, студэнтаў на бульбу не пасылалі. Цяпер пасылаюць. Дзеці вёскі, яны на два, тры тыдні, а то і на цэлы месяц, зноў вернуцца туды, дзе раслі, распрамлялі крылле, каб паляцець

у новыя далі. Хоць далі для выпускнікоў педінстытута вядомыя — тая ж вёска, васьмігодка ці дзесяцігодка. Але не ўсе туды паедуць, а паехаўшы, не ўсе застануцца. Дзеці вёскі ўжо прылучыліся да горада, яго даброт, даляглядаў і, колькі ёсць змогі, імкнуцца вярнуцца на асфальт. Дыпламаваных настаўнікаў у вёсцы не хапае. Затое ў горадзе, нават самым маленькім — іх цераз край.

Студэнты, што едуць на бульбу, яшчэ не вельмі задумваюцца над лёсам. Шчаслівая маладая пара. Хлопцы ў штанах і дзяўчаты ў штанах. Смяюцца, жартуюць, пацвельваюцца. Бульба — прасветліна сярод будзённасці заняткаў. Вечарам на вясковай вуліцы, пад яснымі асеннімі зоркамі зазвініць гітара, да глыбокай ночы не сціхнуць песні, малады смех. Высоцкі ведае, як студэнты капаюць бульбу.

Затое ў аўдыторыях, на калідорах — нязвыклая цішыня. Ні званкоў, ні гамонкі. З бульбай вобласць, відаць, адстае, бо нават першыя і пятыя курсы накіраваны ў калгасы.

Кожны дзень Высоцкі чытае па шэсць гадзін. Прадмет спецкурса — паэзія Купалы, і ўсе чатыры дні студэнты будуць слухаць, думаць толькі пра Купалу.

У аўдыторыі цяпер — інтымная абстаноўка.

Высоцкі гаворыць, чытае на памяць вершы, пакуль не заўважыць на тварах слухачоў першыя прыкметы стомленасці. Робіць перапынак, прахаджваецца па доўгім калідоры, затым — зноў у аўдыторыю. Увесь дзень перад студэнткамі адзін ён. Не, не адзін — разам з Купалам. Так будзе заўтра, паслязаўтра. Трэба, каб маладыя калегі зразумелі, які магутны талент Купала, лёгка і вольна ўвайшлі ў створаны ім паэтычны свет.

Дык вось Купала, дарагія сябры, жыў краем, які называецца Беларусь, трызніў яго мінулым, будучым, з палымянай зацікаўленасцю імкнуўся зразумець, чым жыве, чым хоча жыць селянін — насельнік краю, яго працаўнік, хавальнік духоўных скарбаў.

З дзвюх часцін складаецца свет Купалы — з таго, што ў цягу стагоддзяў стварылі продкі і адкуль поўнымі прыгаршнямі паэт чэрпаў — з казак, легенд, песень,— і яшчэ з таго, што прынесла рэвалюцыя, якая напісала на сцягах словы, што клікалі на барацьбу за лепшую долю.

Так, так, сябры, рэвалюцыя — і першая руская, якая ўзнесла на сваёй хвалі песню Купалы, і Кастрычніцкая, якую паэт прыняў усёй душой, паставіўшы ёй на службу ўвесь свой агромністы талент,— складае самую істотную часціну таго свету, які мы называем купалаўскім. Давайце паглядзім, як праецыруецца свет гэты на сённяшняе жыццё, на яго абсягі, далягляды. Памятаеце Алесю, мэтаімкнёную дзяўчыну, якая з сялянскай хаты, ад матчынай прасніцы перасела на самалёт і назад, пад саламяную страху, ніколі не вернецца. Празорлівым вокам Купала ўгадаў працэс, які пачаўся даўно, з часу першых пяцігодак, і працягваецца да нашых дзён. Свабода — гэта перш за ўсё магчымасць выбіраць жыццёвыя дарогі. Вёска адмовіцца ад патрыярхальшчыны, прыме калектыўныя, індустрыяльныя формы жыцця, моладзь рыне з вёсак у гарады, стане авалодваць новымі прафесіямі — народ, рэспубліка, краіна пераменяць змест жыцця, будуць дамагацца новых рубяжоў у вялікім паходзе за будучыню — Купала ўсё гэта прадбачыў...

Назаўтра з раніцы пачаўся дождж, ён ліў безупынна два наступныя дні, і пад гэты спрыяльны акампанемент Высоцкі вучыў сваіх удзячных слухачоў разумець паэзію, мову вобразнасці, музыку радкоў і строф, за маштабна-ўзнёслымі паэтычнымі катэгорыямі бачыць іх чыста зямныя вытокі.

Ён, здаецца, свой намер здзейсніў. Вылажыўся да астатку. Закончыўшы лекцыі, нават заслужыў апладысменты, чаго ва ўніверсітэце, дзе чытае даўно, ніколі не было. Прыехаўшы з бульбы, студэнты здадуць залік. У Высоцкага тым часам больш як два вольныя тыдні.

Дождж працягваецца, і на спатканне Галя не прыйшла. Высоцкі павандраваў па парку, забраў у рэдакцыі — машыністка застаецца пасля работы — перадрукаваны тэкст — набраўся ладны стусік — і, вярнуўшыся ў гасцініцу, перачытваючы, злёгку папраўляючы машынапісныя старонкі, зноў узбудзіўся да пісання. Ён адчуваў нязнаны раней прыліў сілы.

Больш як два вольныя тыдні! Ніколі ён не меў такога часу, каб з ранку не вярэдзіў душу клопат, нават якая-небудзь дробязь, якой трэба заняцца, бо ціснe яна, давіць на свядомасць.

І горад відаць з гасцінічнага акна, той горад, у якім ён бачыць сябе юнаком, маладым чалавекам з тымі даўнімі марамі і летуценнямі.

Некалькі дзён і начэй запар Высоцкі выкрэслівае, дапісвае, адкладаючы ў новы стусік старонку за старонкай. Нарэшце скончана апавяданне пра палон, ён як бы вырваўся на аператыўны прастор. Вымалявалася карціна прыходу героя ў партызанскі атрад, далучэнне партызан да рэгулярных часцей Чырвонай Арміі, якая імкліва рвалася да Дняпра.

Над гэтымі старонкамі ён пакутуе менш. Ён ужо знайшоў патрэбны тон, рытм апавядання і хоць па-ранейшаму бязлітасна выкідвае з рукапісу абзацы і старонкі, праца прасоўваецца барзджэй. Часта аднаго-двух сказаў дастаткова, каб ажывіць малюнак, даць яму патрэбны настрой. А карціна фарсіравання Дняпра ўвогуле някепска напісана. У ёй Высоцкі паправіў толькі паасобныя словы.

Вялікі то быў час — верасень сорак трэцяга года! Нават цяпер Высоцкі нібы зрокава бачыць лясы ў першай асенняй пазалоце, іх лагодную мяккасць, спакой,— і гул гарматнай кананады, вывернутыя, пасечаныя снарадамі, мінамі, бомбамі дрэвы, чорныя варонкі адна на адной. Дрэвы, што ўцалелі, нагадвалі голыя хлысты — так густа іх абцерабілі асколкі. Год і тры месяцы не быў Высоцкі ў арміі, і за гэты час яна непазнавальна змянілася. І справа была не толькі ў пагонах, не надта ахайна прышытых да салдацкіх гімнасцёрак, адтапыраных на афіцэрскіх кіцелях, не ў аўтаматах, якія насілі за плячамі нават ездавыя, не ў тэхніцы, якой стала відавочна больш, а ў чымсьці другім, больш істотным і важным. Армія навучылася ўтрымліваць рубяжы, не паддавацца паніцы, ісці наперад. Салдат, не міргаючы, пачаў глядзець у вочы смерці — гэтыя перамены Высоцкі адчуў выразна і востра. Крыві лілося, можа, нават больш, чым у маі сорак другога года, калі падыходзілі да Харкава, але гэта была кроў пераможцаў, якія вызвалялі родную зямлю ад ненавіснага ворага. Адставалі кухні, салдаты па два і тры дні не бачылі варыва, елі накапаную ў агародах, звараную ў кацялках бульбу з хлебам, але не скардзіліся, не шукалі вінаватых, не наракалі на лёс.

У бой Высоцкі пайшоў радавым. Адносна яго знаходжання ў палоне ніхто не ўчыняў яму асаблівых допытаў: можа, таму, што ён два месяцы знаходзіўся ў партызанскім атрадзе і меў на руках адпаведную даведку, пацверджаную подпісамі камандзіра, камісара і начальніка штаба атрада і завераную пячаткай яшчэ даваеннай МТС. Але і астатніх акружэнцаў, якія сядзелі па сёлах, у прымаках, вызваленых з лагераў ваеннапалонных, што трапляліся на шляху арміі, ахвотна залічалі ў яе рады, як бы загадзя ведаючы, што праверка боем — самая надзейная.

Перагортваючы старонкі рукапісу, Высоцкі раптам злавіў сябе на нечаканай думцы. Тады, у верасні сорак трэцяга года, калі ён зноў стаў салдатам, ён адчуваў сябе прыкладна так, як адчувае цяпер — праз чвэрць веку пасля вайны. Тады палон не прыніжаў яго і цяпер не прыніжае. У арміі пералом у адносінах палонных, акружэнцаў адбыўся надзвычай хутка, як толькі яна навучылася наступаць, перамагаць, а ў мірным жыцці, якое наступіла пасля вайны, пасля перамогі, хвароба недаверу як бы дала новую ўспышку, і спатрэбілася амаль два дзесяцігоддзі, каб усё стала на належнае месца. Ён пакутліва перажываў, што быў у палоне, меў праз гэту акалічнасць немалыя згрызоты, непрыемнасці, ужо ва ўніверсітэце па ананімным допісе яго справай займалася камісія, выносіла рашэнне. Такі быў час, і тое ўсё мінула. Але чаму яно было? У гэтым трэба як след разабрацца.

Калі скончылася вайна і ён вярнуўся ў гарадок, паступіў у рэдакцыю, жыццё так шмат абяцала. Прывід сталасці, старасці нават у думках не маячыў. Здавалася тады, што маладосць будзе цягнуцца бясконца. Было, відаць, асабліва вострым адчуванне радасці жыцця ў людзей, якія ўдзельнічалі ў вайне. Але яно даволі хутка прытухла.

Яшчэ на вайне Высоцкі адчуў, што чалавеку ў зменлівым, жорсткім свеце трэба другі чалавек, да якога можна прыйсці з радасцю, горам, мець падтрымку ва ўсім. На шляху яго кахання з Кларай стаў палон. Так, палон, бо, каб яго не было, ён не меў бы той унутранай няўпэўненасці, хістання, якія не дазволілі з усім імпэтам прылучыць да сябе Клару.

Не адрываючыся ад стала, выходзячы толькі перакусіць, сплючы не больш пяці гадзін у суткі, Высоцкі за тыдзень упартай, знясільваючай, але і радаснай працы дайшоў нарэшце да раздзела, у якім яго герой праз месяц пасля бою за Днепр ляжыць цяжкапаранены ва ўкраінскім сяле. Бадай тое ж сталася з самім Высоцкім.

Ён быў паранены ў жывот, вязці ў шпіталь не было як, і яго пакінулі ў глухім, наўсцяж засаджаным вішнямі сяле ўкраінскага Палесся. Побач з ім у цёмным сырым пакойчыку былога старостава ляжаў паранены венгр-фельчар, якога ўзялі ў палон. Лячыў іх абодвух мясцовы ветэрынар, спагадлівы, добры дзядзька. Ён яшчэ ў першую вайну, служачы ў войску, сяк-так авалодаў новай прафесіяй. Ветэрынар, калі не вылечыў, то падлячыў — настоямі траў, прымочкамі з самагонкі. Ён меў тоўсты зашмальцаваны даведнік лекавых траў на польскай мове, і па гэтым даведніку венгр-фельчар — ён быў паранены ў абедзве нагі — вышукваў патрэбныя для лячэння сябе і Высоцкага травы — па малюнку і іх лацінскай назве. Там, ва ўкраінскім сяле, Высоцкі даў сабе слова, калі не памрэ, вывучыць латынь...

Паправіўшы раздзел, Высоцкі зразумеў, што ім павінна закончыцца першая частка аповесці. Пісаць пра далейшае — пра шпіталі, аперацыі, якія прывялі Высоцкага аж у вялікі ўральскі горад,— не мела сэнсу. У армію ён вярнуўся толькі праз год — дывізія, у якую трапіў, стаяла ў Польшчы, замацаваўшыся на Сандамірскім плацдарме. На гэты раз у армію ён зноў прыйшоў лейтэнантам.

## X

Дзяжурная ў вестыбюлі, чарнявая жанчына з прыемным тварам, калі Высоцкі здае ключ, заўсёды зачынае з ім гаворку:

— Вы ўсё адзін седзіцё. Цэлы тыдзень нікуды не выходзіце.

— Выходжу,— жартуе ён.— Толькі выбіраю час, калі вы не бачыце.

— А то прыйшлі б. Мой дом тут блізка. Дзесяць гадоў без мужа жыву. Дачка вучыцца ў інстытуце. Цяпер яе дома няма — паехала ў калгас бульбу капаць...

Жанчына неяк вінавата ўсміхаецца, і размаўляць з ёй Высоцкаму ніякавата.

У гэты дзень ён рашыў адпачыць, схадзіць да Дубовіка, а вечарам спаткацца з Галяй.

Дубовікаў дом на пакатай гары і нават выдаецца прыгажэйшым, чым у тыя гады, калі Высоцкі жыў у горадзе. Можа, таму, што абшаляваны, пафарбаваны ў сіні колер, мае шыферны дах і іншыя прыкметы клапатлівага гаспадарчага догляду. Пры доме вялікі яблыневы сад, у якім дзясяткі два рамачных вулляў.

Сам Дубовік моцна здаў — галава сівая, плечы ссутулены, твар змізарнеў, завастрыўся.

Ён хваліць Высоцкага за тое, што вучыўся, асталяваўся ў Мінску, піша кнігі і гэтай пахвалой як бы прыніжае самога сябе.

— Я б яшчэ папрацаваў у газеце, каб не гэты выскачка,— так ён атэстуе рэдактара Іваньковіча.— Нарыса прыстойнага ні разу не напісаў, а ўзяўся камандаваць. Паглядзі на цяперашнюю газету — суцэльныя рэпартажы. Старшыню мэблевай арцелі баяцца пакрытыкаваць. Хіба ў наш час так было?..

У Дубовіка госці — пляменнік, які дэмабілізаваўся з арміі, і яго таварыш. Абодва ладныя, шыракаплечыя хлопцы з загарэлымі, абветранымі тварамі. Выпіўшы за сталом па чарцы, хлопцы разгаварыліся.

— Не астанёмся на Нафтабудзе! — заяўляе расчырванелы пляменнік.— Чаму я павінен зарабляць сто ці сто пяцьдзясят рублёў, калі хачу зарабіць за год на машыну. Хіба не маю права? Я магу даваць па дзве і па тры нормы, але заплаціце мне за маю працу. Канстытуцыяй дазволена. Паедзем на БАМ...

Ад Дубовіка Высоцкі выбраўся прыцемкам. Павандраваў па парку, але Галі не напаткаў.

Пачынаўся новы дзень.

У стусіку каля сотні старонак, і Высоцкі адчувае, што ў іх яго перамога і ўзлёт. Ніколі ён так добра і эканомна не пісаў. Зноў і зноў ён перагортвае, перачытвае скрэмзаныя праўкамі лісткі, поўнячыся ціхай радасцю. У тым, што ён на гэты раз напісаў, угадваюцца характары, іх адметнасць, непадобнасць, дый адчуванне ваеннага часу, здаецца, прысутнічае.

У вайну ў якой-небудзь роце ці нават узводзе сыходзілася апранутая ў салдацкія шынялі неабсяжная Расія, і былі гэта пераважна простыя людзі, блізкія норавамі, звычаямі. Армія ваеннага часу, як бачыць яе цяпер Высоцкі, была ўзорам вялікага яднання, узаемаразумення, самаахвярнай таварыскасці. Ён пра гэта яшчэ пастараецца напісаць у другой частцы, дзе трэба расказаць, як ішлі яны, салдаты, па Польшчы, Германіі, Чэхаславакіі, што там бачылі і адчувалі, як уяўлялі сабе абсягі мірнага жыцця, у якое хутка мусілі вярнуцца.

Высоцкі раптам ловіць сябе на думцы, што сваім поспехам, вось гэтай першай сотні старонак, абавязан Галі, сустрэчы з ёй. Яго істоту, як электрычным токам, працінае імгненная радасць. Навошта хлусіць сабе: ён думае пра Галю ўвесь час, жаданне новай з ёй сустрэчы жыве ў ім нязгасна, кліча да жыццядзейнасці; тое, што за лічаныя дні і ночы ён справіўся з большай палавінай рукапісу, адбылося дзякуючы Галі і гораду, які так уладна нагадаў пра маладосць.

Высоцкі прыкладна ведае, дзе размяшчаюцца палаткі, у якіх жывуць студэнты-геолагі і разам з імі Галя. Гэта ў самым канцы вуліцы, на якой стаіць гасцініца. За дамкамі прадмесця, яблыневымі садамі пачынаецца вялікая, вымытая дажджамі і паводкамі катлавіна, зарослая дубовымі кустамі, і толькі там могуць размяшчацца студэнцкія палаткі.

Ён апранаецца і выходзіць з гасцініцы.

Вуліца спачатку крута бярэ ўверх, затым пахіла спускаецца да катлавіны. Бруку тут няма, звычайная вясковая вуліца, і толькі агароджаныя штыкетнікам дворыкі, акуратныя з пафарбаванымі аканіцамі дамкі сведчаць пра гарадскі побыт іх тубыльцаў.

У самым канцы вуліцы Высоцкі бачыць Галю. Яна падымаецца ўверх і, заўважыўшы Высоцкага, яшчэ больш прыбаўляе кроку. Задыханая, не тоячы радасці, нарэшце падыходзіць. Яе твар проста выпраменьвае гэтую радасць. На ёй белая з карункавым каўнерыкам блузка, сіні, у дробныя клетачкі сарафанчык, белыя туфлі, штосьці новае з прычоскай — светла-русявыя валасы суцэльнай хваляй спускаюцца на плечы. Высоцкі ніколі не разбіраўся ў жаночых уборах, не ўмеў іх адрозніваць у розных жанчын, але бачыць цяпер, што Галя

ўмее апранацца з густам. Яна, як маладая таполя,— высокая, стройная, з адкрытым трошкі прадаўгаватым тварам, вельмі выразным сваімі правільнымі вытанчанымі лініямі.

— Студэнты паехалі на бульбу,— з замяшаннем гаворыць Высоцкі.— Увесь час ішоў дождж. Я хадзіў у парк, але вас не было.

— Дажджу няма тры дні.

— Я трошкі працаваў. Прывёз з сабой рукапіс. Я не хлушу — хадзіў учора ў парк, але вас не сустрэў.

Твар у Галі зноў засвяціўся.

— Я два разы была ў парку. І да выкладчыкаў у гасцініцу прыходзіла.

— Чаму не зайшлі да мяне?

Яна маўчыць. На смуглявым твары загадкавая і як бы прызыўная ўсмешка — нібы ў славутай Джаконды. Як хочаш разумей гэтую ўсмешку.

— Вы хутка перастанеце мяне дакараць! — робленым, не ўласцівым яму голасам раптам выпальвае Высоцкі.— Цяпер тры гадзіны, і з учарашняга вечара я нічога не еў. І ўсе гэтыя ночы амаль не спаў...

— Бедны, няшчасны чалавек! Навошта ж так сябе марнаваць? Пашкадавалі б сябе хоць для мяне — я вам удзячна за англійскую мову.

Яна, аказваецца, і жартаваць умее. У шэрых з зелянінкай вачах прыкметна скачуць іскрынкі смеху.

Не згаварваючыся, яны падымаюцца на грэбень, адкуль вуліца зноў пачынае спуск, цяпер ужо да ракі.

— Можа, зойдзем да мяне? — прапануе Высоцкі.— Пакажу вам апраўдальныя дакументы. Што рабіў, чым займаўся.

— Не трэба цяпер. Калі-небудзь другі раз. Лепей сходзім да Прыпяці.

— Тады на самую Прыпяць. Паабедаем. Уважце — амаль цэлыя суткі я, праўда, нічога не еў.

— У рачны рэстаранчык! — Галя не тоіць захаплення.— Туды я згодна, там цудоўна. У такі час і людзей бывае мала. Я адзін раз там была.

Дзіўны ўсё-такі народ жанчыны. На тое якраз, што Галя згодзіцца з ім паабедаць, пасядзець на палубе старога

рачнога параходзіка, пераабсталяванага пад летні рэстаранчык і намёртва прышвартаванага да берага, Высоцкі менш за ўсё разлічваў. Гэты рэстаранчык ён прыкмеціў у першы дзень, як прыехаў у горад, і, вядома, збіраўся ў яго завітаць. Цяпер выпадак надарыўся.

І ўсё ж нешта яго непакоіць. З папярэдніх сустрэч думка пра Галю склалася як пра асобу цнатлівую, упартую, нават у чымсьці надзвычай цвёрдую. Няўжо першае ўражанне было зманлівым? Зрэшты, ён мала ведае жанчын і ў глыбіні душы нават пабойваецца іх. У маладыя гады яго прывязвала пачуццё да Клары, пазней, ажаніўшыся, ён проста паспакайнеў, ашчаджаючы выгоды і даброты, якія давала сямейнае жыццё. Бярог час для сваіх вышукаў і заняткаў. Гэта не азначала, што ён зусім не цікавіўся жанчынамі. Спадыспаду душы, у самым патаемным яе куточку ніколі не згасала надзея, што ён яшчэ напаткае незвычайнае каханне, сустрэне жанчыну, якая зразумее яго так, як не разумеў ніхто. Надзеі былі цьмяныя, хісткія дый для іх ажыццяўлення ён не рабіў ніякіх практычных захадаў. А можа, незвычайных жанчын не сустракаў? Тыя, якіх ён ведаў, адмецін незвычайнасці не неслі, некаторыя падабаліся, і ён на вечарынках, пагулянках ці тады, калі бываў на курорце, трошкі з імі фліртаваў, але на гэтым усё і канчалася.

Ён, вядома, не анёл з крылцамі. У час вайны і пасля таго як разышоўся з Кларай, ён блізка сыходзіўся з жанчынамі, але да кахання гэта не прывяло. А на сувязь без кахання ён глядзеў абыякава з самых маладых год.

Тым часам, перайшоўшы набярэжную вуліцу, Высоцкі з Галяй забрылі ў парк. Пасля дажджу верасень зноў дорыць ціхія сонечныя дні. Па алейках пад нагамі шасціць апалае лісце, але на таполях, дубках, акацыях зялёны ўбор яшчэ трывае, і толькі зрэдку ўбачыш кранутую дыханнем восені жоўтую пасмачку лістоты. Бабулі возяць у калясках малых дзяцей, вяжуць, седзячы на лавачках, панчохі, трапіла на вока вясёлая кампанія. А так ціха ў парку. Працоўны дзень яшчэ не скончыўся, вучні на занятках, студэнты — на бульбе. Няма каму парушаць цішыню ў пакуль яшчэ нешматлюдным горадзе.

Прышвартаваны да берага параходзік у тым месцы, дзе парк найбольш вынішчан дзеля будаўніцтва і дзе цяпер

узвышаюцца недарэчныя чатырохпавярховыя каробкі, якія засланяюць цэнтральную плошчу ад ракі.

З берага да параходзіка пракладзен дашчаны насціл, а на палубу трэба ўзбірацца па крутой драўлянай лесвічцы. Над палубай нацягнут брызентавы тэнт, пад ім танканогія столікі, крэселкі на жалезных ножках. Тэнту на ўсю палубу не хапае, і некалькі столікаў стаяць пад грыбамі-парасончыкамі. За адзін з такіх, адкуль добра відаць зарэчныя лугі, сасоннік, селі Высоцкі з Галяй.

Людзей у рэстаранчыку няшмат. Тым не меней Галя на вачах перамянілася. Рашучасць, з якой згадзілася пайсці пабедаць, тут яе адразу пакідае. З нейкім як бы страхам глядзіць на Высоцкага, маўклівая, збянтэжаная. На смуглых шчоках выразна прабіваецца чырвань.

Парадкі ў рэстаранчыку такія ж, як і ў астатніх мясцінах грамадскага харчавання. Таўставатыя афіцыянткі ў ільняных расшытых узорамі сукенках, з наколкамі на валасах, што чымсьці нагадваюць царскія кароны, згрудзіліся за асобным столікам, вядуць нетаропкую размову. Ім як бы і справы няма, што кліенты чакаюць.

Галя нерашуча глядзіць на меню, не адважваючыся штонебудзь выбраць, і Высоцкі ўсміхаецца — не часта хадзіла па рэстаранах. Калі нарэшце падышла афіцыянтка, ён заказаў самае адметнае, што было ў раскладзе закусак, а з трункаў — найдаражэйшы каньяк.

У Галі заружавелі шчокі.

— Так мяне яшчэ ніхто не частаваў.

На яе раптам нападае смех. Яна хоча ўтаймаваць яго і не можа — захліпаецца, выняўшы з сумачкі насоўку, выцірае слёзы, якія выступілі на вачах, прыгінае да стала галаву,— не хоча, каб хто-небудзь убачыў яе ў такім стане. Смяецца хораша — усёй істотай, да самазабыцця. А Высоцкаму няёмка. Імгненна ў памяці ўсплыў малюнак, які нагадаў штосьці падобнае. Калі ён уцёк з лагера, трапіў у партызаны, то найчасцей завітваў у адно вялікае лясное сяло, праўдзівей, у аблюбаваную, выбраную ім самім хату ў гэтым сяле, дзе жыла маці з дачкой. Дачцэ было гадоў васямнаццаць, звалі

яе Параска, і, здаецца, яна прыхільна ставілася да маладога і не сказаць, каб брыдкага з выгляду партызана, якім тады ён быў. Ва ўсякім выпадку з пустымі рукамі з хаты не выпускала, а калі аставаўся начаваць, частавала як магла. Пра Клару ён нічога не ведаў, не ведаў, дзе яна, ці жывая, і былі ўсе падставы думаць, што ёсць на свеце другая жаночая душа, якая шчыра ім зацікаўлена.

Так сталася, што ў гэтым сяле партызаны злучыліся з рэгулярнымі часцямі Чырвонай Арміі. Высоцкі быў залічан у пяхотны полк, атрымаў амуніцыю, у новенькім салдацкім абмундзіраванні прыйшоў развітацца з Параскай. Яна таксама дзеля выключнага выпадку прыфранцілася — апранула светлую, у пасачкі паркалёвую сукенку, якая вельмі пасавала да яе паўнаватай паставы. Быў цёплы зорны вечар, і ўдваіх з Параскай яны выйшлі пасядзець на лавачку.

Карыстаючыся тым, што за дачкой не сочыць пільнае матчына вока, Высоцкі зрабіў нясмелую спробу прыхінуць да сябе Параску, і гэтак жа, як цяпер Галя, яна пачала захліпацца смехам. Сумнае вынікла развітанне. Калі гэта было? Трыццаць гадоў назад, у такі ж верасеньскі дзень, але тады яму было толькі дваццаць, цяпер без некалькіх месяцаў паўвека, з пункту гледжання Галі, якая, відаць, толькі нарадзілася, калі ён пайшоў ваяваць, ён стары, страшэнна стары чалавек. Таму яна, шчырая душа, і смяецца над яго запозненымі, недарэчнымі заляцаннямі.

— Чаму вы сумны? — спытала Галя.

— Успомніў Параску.

— Якую Параску? — На яе твары непадробнае здзіўленне.

— Была такая. Умела гэтак жа, як вы, смяяцца.

Яна адразу спахмурнела. Выгляд вінаваты, збянтэжаны, і яна яго зусім не тоіць.

Высоцкаму робіцца шкада маладой жанчыны, і, каб усцешыць яе, ён збольшага расказвае пра адносіны з Параскай. Але выгляд яе па-ранейшаму невясёлы.

— Вы ёй не пісалі з фронту?

— Не.

— Ніколі ў тое сяло не наведаліся?

— Не.

— Нічога вы ў жанчынах не разумееце. Нічагусенькі! — апошняе слова яна прамаўляе гучна, працяжна, як бы з нейкім выклікам.

Тым часам афіцыянтка прынесла першыя закускі і каньяк. Высоцкі наліў па кілішку, і яны выпілі.

— У вас тут была дзяўчына? — зноў спытала Галя.

Высоцкі здзіўлена на яе зірнуў: яна закранала тое, аб чым яму не хацелася гаварыць.

— Была,— адказаў ён.— Я гаварыў вам: пяць гадоў працаваў тут у газеце. Яна і цяпер тут жыве. Калі вельмі захочаце, я раскажу. Толькі не цяпер, пазней.

— Вы з ёй сустракаліся?

— Не.

— Не хочаце яе бачыць?

— Не хачу.

Каньяк патрошкі робіць сваю справу. Адсюль, з палубы нерухомага параходзіка надзвычай прыгожымі здаюцца дрэвы ў парку, выгіб шырокай сіняй Прыпяці, які адсвечвае сонечнымі бляскамі, зарэчны луг і далёкія сасоннікі. Сам кірунак гаворкі ўсё больш зближае Высоцкага з маладой зямлячкай, у якой аблічча грэчаскай багіні, прыемны грудны голас і такі непадзельны смех. Што б там ні было далей, а яна скрасіла яго дні, надала сэнс знаходжанню ў горадзе цяпер ужо далёкай маладосці.

— Хочаце, пакажу фокус? — нечакана для сябе пытае Высоцкі.

Галя пазірае на яго з недаўменнем. Ён тым часам бярэ адзін з фужэраў, выліўшы на палец кропельку вады, што заставалася на дне, пачынае вадзіць пальцам па шкляным абадку. Праз хвіліну чуецца ціхі меладычны звон, гук узрастае, узмацняецца, робячыся пранізлівым, трывожным — як бы завывае сірэна. Вось ужо і з-за суседніх столікаў сталі азірацца і прыслухоўвацца.

— Які чысты гук! — усклікае Галя.— Я не ведала, што шкло можа так спяваць.

— Не ўсякае. Толькі крышталь. Калі я быў студэнтам, мы палохалі такімі гукамі тых, хто піў каньяк.

Высоцкі зноў наліў у кілішкі.

— Давайце вып’ем за мястэчка. Дзяцінства я правёў там, толькі шкада, вас тады зусім не было. Некалькі разоў прыязджаў пасля вайны, але вы, мабыць, яшчэ і ў школу не хадзілі. Не суджана было пазнаёміцца...

— Вы ў двухпавярховай школе вучыліся?

— У двухпавярховай.

— Я — у трохпавярховай.— Галя прыкметна ажывілася.— Зірнеш з акна, і далёка відаць. Лес, поле. Асабліва зімой прыгожа. Белы снег і цёмны лес. Перад вясной, калі глядзець вечарам, лес і снег робяцца сінімі...

— Вы, Галя, у душы паэт.

— Скажыце лепей — няўдалы геолаг. Цяпер нават часопісы не чытаю. Толькі дэтэктывы.

— Давайце вып’ем.

Выпіў Высоцкі, Галя толькі дакранулася губамі да кілішка. Але і ад кроплі, якую ўзяла першы раз, запунсавела, зачырванелася, не тоячыся, з удзячнасцю глядзіць на Высоцкага. Не сказала ні аднаго прыязнага слова, нічым не выдала сваёй да яго прыхільнасці, і што азначае гэты павільгатнелы, з вясёлымі бляскамі прызыўны позірк даверлівых шэрых з зялянінкай вачэй? У душы Высоцкага як бы ў адказ нарастае хваля ўдзячнасці да маладой жанчыны. Ён не ведае, ці замужам яна — з выгляду ёй за трыццаць,— як жыла, што ў жыцці бачыла,— усё асабістае як бы наглуха замыкае ад яго на замок.

— У двухпавярховай школе цяпер інтэрнат для слабаразвітых дзяцей,— раптам паведамляе Галя.— Іх туды звозяць з усёй рэспублікі.

— Навошта вы гэта сказалі? Хацелі мяне пакрыўдзіць?

— Не хацела. Там сапраўды такі інтэрнат.

Афіцыянтка прынесла гарачае. Галя есць гэтак жа, як і п’е — на талерцы ў яе мешаніна закусак, да якіх яна амаль не дакранулася.

— Прашу вас выпіць, Галя. Хоць адзін кілішак. І закусіце, калі ласка. Я рад, што вас сустрэў. Вы як напамінак, што некалі і я быў малады. Жыў, складаў розныя планы ў гэтым горадзе...

— Вы і цяпер не стары.

— Мне сорак дзевяць.

— Для мужчыны такі ўзрост не страшны.

— Кожны ўзрост мае перавагі. Мая ў тым, што магу азірнуцца назад.

— Не прыбядняйцеся. Вамі яшчэ студэнткі захапляюцца. Вы мне такую прыгожую лекцыю на лавачцы прачыталі. Пра блізкасць індаеўрапейскіх моў. Я і цяпер усё памятаю. Калі хочаце ведаць, дзяўчатам падабаецца першая сівізна.

— У кіно,— сказаў Высоцкі.— Асабліва калі акцёры прыгожыя.

— І ў жыцці. Наша выпускніца выйшла замуж за выкладчыка. Ён старэй за яе на шаснаццаць гадоў. Ну і што?

— Для мяне такое выключана...

Неяк паспешліва яна ўзяла кілішак, выпіла. Адвярнуўшыся ад яго, глядзіць на раку. А яго нібы электрычным токам працяло: вось так, у профіль чымсьці няўлоўным нагадвае яна даўнюю, напаўзабытую, што стрэлася ў маладосці і столькі прынесла пакут і трывог. Проста дзіўнае падабенства: такі ж, як у той, прамы нос, высокі лоб, выразна акрэслены падбародак — абрыс арлінага профілю. І смутна-трывожна заныла ў грудзях: як бы ён дакрануўся да запаветнага, дарагога, страчанага назаўсёды, што выбліснула зноў няпэўнай надзеяй. Падаўляючы гэту нечакана ўзнікшую пачуццёвую хвалю, Высоцкі спытаў:

— Вас не цягне ў мястэчка?

— Не.

— Я яго часта ўспамінаю. Радуюся, калі натраплю на якія-небудзь гістарычныя звесткі. Толькі іх пра мястэчка мала.

— Навошта вам?

— Дзівачка вы. Я ж усё-такі пішу. І не толькі пра другіх пісьменнікаў. У прыгожым пісьменстве запазніўся, ды не трачу надзеі...

Яна прыкметна ажывілася.

— Кнігу пішаце. Раман?

— Яшчэ рана гаварыць.

— Я зайздрошчу тым, што пішуць. Бывае, столькі наплыве на душу, так хочацца расказаць, падзяліцца з кім-небудзь...

— Таму і журналісткай хочаце стаць?

— Відаць, таму.

— Газета можа і не даць таго, што шукаеце,— задумліва сказаў Высоцкі.— Я працаваў, ведаю. Хоць многія пісьменнікі прыйшлі ў літаратуру праз газету. Яна прывучае цаніць факт, глядзець праз яго на свет, а літаратура трошкі другое.

— Я хачу выпіць за вас! — раптам усклікнула Галя.— Думаеце, тады, як з вамі пазнаёмілася, проста так прыйшла ў парк? Вас сустрэць хацела. Я ведаю вас два гады.

Высоцкі разгубіўся. Такой шчырасці не чакаў.

— Адкуль ведаеце? — толькі і спытаў.

— Вы прыязджалі з пісьменнікамі. Выступалі ва ўніверсітэце і па тэлебачанні. Я тады яшчэ хацела пазнаёміцца. Нават кнігу купіла. Хацела атрымаць аўтограф.

— Чаму не падышлі?

— Смеласці не хапіла. Была студэнткай. А цяпер я з вамі — роўная. Працую ў вышэйшай навучальнай установе.

Гумар — вялікая рэч. За яго заслонай можна схаваць замяшанне, няёмкасць і безліч іншых адценняў узрушанай душы. Калі размова падсвечана гумарам, можна гаварыць пра самыя сур’ёзныя рэчы, не баючыся паказацца смешным.

Галя першая прапанавала гульню, і Высоцкі яе працягвае.

— Я вып’ю за сябе толькі пры адной умове.

— Пры якой?

— Калі надалей будзеце такой жа шчырай.

— Пастараюся.

— Вы думалі пра мяне хоць трошкі?

— Нісколечкі.

Высоцкі паказаў мізінец.

— Хоць на столькі?

— Ні на паўстолькі.

А ў самой шчокі запунсавелі, вочы праменяцца радасцю і, здаецца, выказваюць штосьці зусім адваротнае таму, пра што яна гаворыць.

— Мая справа ў такім выпадку табак,— пахмура заяўляе Высоцкі.

— Не трэба адчайвацца.

— Так і будзе. Не суцяшайце. Немалады мужчына прыехаў у горад, дзе некалі быў малады, і яго апанавалі ўсякія там пачуцці. Але каму да іх справа?

— Там далей відаць будзе...

Рэстаранчык між тым напаўняецца. Наведвальнікі, бадай, тыя ж, што і ў чайной, дзе сталуецца Высоцкі, толькі ахайней апранутыя. Магчыма, яны і па службоваму становішчу вышэй — тэхнікі, інжынеры, якія днём працуюць на будоўлі, а вечарам, ратуючыся ад неўладкаванасці інтэрнацкага побыту, прыходзяць бавіць час.

У кампаніі, што размясцілася за суседнімі столікамі, Высоцкі заўважае белабрысага хлапчыну, які верхаводзіць мантажнікамі ў чайнай. Толькі брыгадзір апранут цяпер у модны клетчаты касцюм — ён таксама, мабыць, тэхнік, ці нават інжынер. З тэхнікамі і іх сяброўкі — бойкія дзяўчаты ў штанах, а адна ў доўгай спадніцы, якая нагадвае сцяг замежнай імперыі. Галя тым часам занепакоілася:

— Пойдзем.

— Пасядзім трошкі. Самы цікавы час.

— У мяне галава забалела. Пойдзем...

Яна паднялася, ні на кога не гледзячы, рушыла да выйсця.

А ён яшчэ хвілін дзесяць чакаў афіцыянтку, каб разлічыцца. Ужо агні пачалі запальвацца ў горадзе.

Галю знайшоў на знаёмай лавачцы. Сядзела засмучаная, прыціхлая. Рачнога рэстаранчыка адсюль не відаць.

— Дзесяць дзён засталося,— сказаў Высоцкі.— Прыедуць студэнты з бульбы, прыму залік і назад у Мінск.

— Я тут буду болей, чым вы.

— Будзеце па мне сумаваць?

Зноў яна ажывілася, зірнула на Высоцкага з удзячнасцю.

— Нісколечкі.

— Навошта мы сустракаліся?

— Каб бавіць час.

— Значыць, туман?

— Туман.

— Прасветліны не відаць.

— І не будзе.

Раптам яна прыблізіла свой твар да твару Высоцкага, амаль шэптам спытала:

— Тая жанчына, што тут жыве, прыгожая?

— Была прыгожая.

— Вы не пойдзеце да яе?

— Не.

— З таго часу, як паехалі з горада, ніколі з ёй не сустракаліся?

— Адзін раз. Зусім выпадкова.

— Прыходзьце кожны вечар. Вы ўмееце лічыць?

— Умею.

— Будзе яшчэ дзесяць вечароў. Цэлая вечнасць.

— А калі дождж?

— Схаваемся пад дрэва.

— Ведаеце, што,— сказаў Высоцкі.— У мяне ёсць просьба. Вялікая. Паслухайце.

Узрушаная тонам, якім ён пачаў гаворку, яна маўчала, дапытліва на яго пазіраючы.

— Тут, у парку, некалькі дрэў пасадзіў я. Яшчэ як у школу хадзіў, да вайны. Але іх высеклі. Раслі на тым месцы, дзе цяпер будынкі. Але мы яшчэ лес садзілі. Дубы, бярозы, клёны. Два гектары. У сорак шостым годзе. Гай Перамогі. Гэта адсюль недалёка, кіламетраў восем. Давайце з'ездзім туды.

— Дваццаць сем гадоў вашаму гаю,— задумліва прамовіла Галя.

— Мірная эпоха,— сказаў Высоцкі.— Новае пакаленне вырасла. І вы ў тым ліку.

— Я — ваеннае пакаленне. Нарадзілася ў першы год вайны.

— Я так і думаў,— сказаў Высоцкі.

— Што думалі?

— Што вы нарадзіліся ў вайну.

— Бацькі свайго я ніколі не бачыла.

— Кім быў ваш бацька?

— Нікім. Працаваў у леспрамгасе. Загінуў у вайну пад Масквой.

З хвіліну яны памаўчалі. Каб перамяніць размову, Высоцкі загаварыў аб другім:

— Харошая пара — восень. Ці ёсць у вас такое адчуванне: адзін круг жыцця замыкаецца, пачынаецца новы і ад гэтага трывожна і сумна на душы.

— Ёсць! — Галя ўстрапянулася.— Я думала, што толькі адна так адчуваю.

— Па гэтай прычыне мы любім паэтаў.

— Пры чым тут паэты?

— Пры тым, што выяўляюць пачуцці. Тое самае адчуваем мы з вамі, але яны вастрэй. І яны першыя даюць назву таму, што мы толькі няясна прадчуваем.

— Як вы ўзнёсла гаворыце! Я ведаю, вы таксама паэт.

— Ніякі я не паэт. Выкладчык літаратуры.

— Вы многіх жанчын любілі? — раптам спытала яна.

Ад нечаканасці Высоцкі замяшаўся.

— Чаму вы пра гэта спыталі?

— Таму што вы прыгожы. Уяўляю, якім вы былі мalады. Дзяўчаты за вамі цугам хадзілі. Дзеля прыгожага мужчыны жанчына ідзе на ўсё. Нічога не баіцца, ні аб чым не думае. Кідаецца як у вір галавой...

— У маладосці я быў худы і тонкі,— сказаў Высоцкі.— Як смык. І ўвогуле справы мае дрэнныя. Калі жанчына хваліць услых, гэта вельмі кепска.

— Навошта вы так сказалі?

У яе голасе ён як бы пачуў трывогу.

— Мне здалося, вы сябе з ліку жанчын выключаеце. Кампенсуеце маю страту кампліментам.

Яна прымоўкла, задумалася. Нават у шэрані вечара ён заўважыў, як густа запунсавеў яе твар.

— Жанчына, якую я любіў, жыве ў гэтым горадзе,— сказаў Высоцкі.— Сапраўднае каханне бывае не часта. Не кожнаму ўдаецца злавіць такую рэдкую птушку. Ніхто не ведае, чаму каханне прыходзіць і чаму канчаецца. Няма агульных паказчыкаў. Відаць, у кожнага па-свойму. Мяне дзяўчына, пра якую расказваю, проста не паспела палюбіць. Была вайна і ўсё такое іншае. Звычайных любоўных прыгод я не хацеў. І, ведаеце, ніколі не шкадую. Можаце ў гэта паверыць?

— Магу,— ледзь чутна, аднымі губамі, прамовіла яна.

— Не крыўдуйце на мяне,— працягваў Высоцкі.— Сёння я зрабіў адкрыццё. Вы падобны на тую жанчыну. І не толькі тварам, але чымсьці іншым, чаго я найбольш баюся...

— Чаго вы баіцеся? — зноў як бы з нейкім страхам спытала яна.

— Дазвольце цяпер мне сказаць камплімент.

— Не трэба,— ён бачыў, як стала ёй няёмка, няўтульна, нібы яна баялася, што ён скажа несусветнае глупства.

— Вы такая прыгожая. І разумная. Вас я ніколі не забуду. Дзякуючы вам хораша пісаў. Дазвольце мне сяды-тады пасылаць вам паштоўку. А можа, і прыехаць?

Яна маўчала.

Ён зрабіў нясмелую спробу прыхінуць яе да сябе, і яна рашуча падхапілася.

— Не трэба, Аляксандр Іванавіч.

І лёгка, ледзь чутна шоргаючы туфлямі аб жарству, насыпаную па алеях, знікла ў шэрані вечара.

## XI

Увесь вечар Высоцкі пахаджваў з кута ў кут па пакоі. На душы было кепска. Болей прыкрае становішча, у якое ён паставіў сябе сам, цяжка прыдумаць. Палез з абдымкамі, пачаў разводзіць пра пачуцці. У яго амаль дарослыя дзеці і позна гаварыць пра пачуцці. Першы раз за дваццаць гадоў яму па-сапраўднаму спадабалася жанчына, і ён груба яе адштурхнуў. І ўсё ж яму здавалася, што адносіны з Галяй не скончаны. Жанчыны не павінны доўга крыўдаваць за такое.

Апоўначы ён узяўся за другую папку, і на дзіва лёгка, добра пайшло пісанне. Ён нібы наяве бачыў вялікае польскае сяло. У ім на адваяванай плошчы плацдарма за ракой Сан размяшчаўся полк — бачыў сябе, дваццацігадовага лейтэнанта, што вярнуўся з пагонамі пасля цяжкага ранення і мог лічыць сябе ветэранам, як лічылі сябе ўсе, хто год ці болей пабыў на вайне. Яму тады здавалася, што не было ні акружэння пад Харкавам, ні палона, а толькі вось гэтае прадчуванне канчатковай перамогі, якім жыла армія, што пераваліла айчынныя

рубяжы на агромністым прасцягу фронту: на поўдні — у Румыніі, Венгрыі, Чэхаславакіі, на поўначы — у Польшчы, Усходняй Прусіі, Фінляндыі, стаяла на чужой тэрыторыі, рыхтуючыся да апошняй, як тады пісалі газеты, схваткі ў логвішчы фашысцкага звера.

У пачатку сорак другога ён скончыў вучылішча сувязі і ўпершыню трапіў на фронт па прамому прызначэнню — у полк сувязі.

Ён дастаткова ведаў службы палка, іх функцыі, ролю, адчуваў сябе ў сваёй талерцы, і ад гэтага было таксама прыемна і хараша.

Снежань сорак чацвёртага года ў Польшчы быў доўга бясснежны. Па замёрзлым грудзе ў цемені вуліц грукалі салдацкія боты. На заходнім ускраі неба мільгацелі барвовыя сполахі, выбухі глуха разлягаліся ў наваколлі. Фашысцкі звер быў моцны яшчэ: менавіта тады распачалося нямецкае наступленне супроць саюзнікаў у Ардэнах.

Надараліся і ціхія вечары: артылерыя змаўкала, водбліскі пажараў не паласавалі неба, і тады на дзіва падобным было польскае сяло на роднае, беларускае: такія ж драўляныя хаты, парканы, купкі цёмных дрэў на агародзе.

Там, у Польшчы, Высоцкі ўпершыню атрымаў ліст ад Клары. Адрас ён меў яшчэ ў шпіталі, атрымаўшы яго ад Кларынай маці: надпрыпяцкі гарадок быў вызвалены ў самым пачатку сорак чацвёртага. Клара чамусьці доўга не адказвала. Ужо калі ён бадзёра выдыбваў па палаце выздараўліваючых, чакаючы адпраўкі ў перасыльны пункт, яму сказалі, што на яго імя, у ранейшую палату прыходзіў ліст. Ён доўга шукаў яго, але так і не знайшоў. Распытваў пра почырк на канверце, і па сведчаннях нянечак, якія палату абслугоўвалі, ён быў падобен на Кларын.

З Кларынага ліста, які цяпер ён насіў у нагруднай кішэньцы гімнасцёркі, раз-пораз вынімаючы і перачытваючы, не вынікала, аднак, што яна пісала яму раней. І ўвогуле ліст быў скупаваты. Але і кароценькага шматка паперы, згорнутага ў трохвугольнічак, яму было дастаткова. Ён ведаў, што Клара жывая, служыць у шпіталі, у вялікім горадзе, вучыцца адначасова ў інстытуце, і яму мроілася, што яе раптам пашлюць у

вайсковы шпіталь ці медсанбат, на той якраз участак фронту, дзе служыць ён, і яны сустрэнуцца.

Агромністы фронт меў тысячы шпіталяў, медсанбатаў, і, калі кіравацца цвярозым разлікам, верагоднасць сустрэчы была мізэрнай. Але ён не хацеў слухаць довадаў розуму. Ён марыў. Гэта давала магчымасць маляваць ва ўяўленні безліч варыянтаў іх магчымага з Кларай спаткання. Ён бачыў сябе яшчэ раз параненым, накіраваным у той самы горад, шпіталь, дзе яна працуе. Ён здзейсніў подзвіг, пра яго напісалі ў газеце, генерал прыходзіць у шпіталь, каб яго павіншаваць, прыносіць ордэн, і аб усім гэтым ведае Клара...

Трызненні, мары ішлі побач з усім цвярозым армейскім побытам, як бы дапаўняючы яго, акрэсліваючы няхай сабе няпэўныя і хісткія контуры будучага мірнага жыцця. Лісты ад блізкіх і родных тут, на фронце, мелі велізарнае значэнне. Дзе бацька, што з ім, ён не ведаў, і не было куды напісаць, каб дазнацца пра яго. Лёс таварышаў-дзесяцікласнікаў, якія на тыдзень раней за яго пайшлі ў армію, быў таксама невядомы. Для ўсіх, хто служыў у палку, самы радасны час наступаў, калі прыходзіла пошта. Але ён рэдка атрымліваў лісты.

Ён напісаў у гарадок па адрасах, якія памятаў, некалькі лістоў бацькам знаёмых хлопцаў, дзяўчатам-аднакласніцам, але адказы атрымаў несуцяшальныя. Тыя хлопцы, з якімі яму хацелася наладзіць перапіску, знаку аб сабе не падавалі. Яны, як ён сам, паспелі скончыць розныя вучылішчы, курсы і ўжо ў сорак другім трапілі на фронт. Магло стацца, што іх лёс яшчэ горшы, чым яго. Двое ці трое з іх класа, трапіўшы ў акружэнне, прыбрылі яшчэ ў сорак першым дамоў, жылі пад акупацыяй і цяпер зноў на фронце.

Аставалася адна Клара. Дзіўна, прайшоўшы праз пекла акружэння, палону, добра ведаючы, якія адносіны бываюць паміж мужчынамі і жанчынамі ў шпіталі і тут, на фронце, ён Клару з усяго гэтага знаёмага яму жыцця выключаў, нават думкі не дапускаючы, што яна можа з кім-небудзь сысціся, каго-небудзь палюбіць. Па-ранейшаму ён думаў пра дзяўчыну высока і ўзнёсла.

У сяле, дзе яны стаялі, пакуль не пачалося зімовае, студзеньскае наступленне, ён наогул быў на ўзлёце надзей.

Палякі да савецкіх салдат ставіліся прыхільна, але Высоцкаму асабліва пашанцавала. У хатцы, дзе ён кватараваў, яе гаспадыня, бабулька, якая пякла аплаткі для касцёла, па прозвішчы, абліччы прызнала Высоцкага палякам, давала яму вялізны кажух, і ён выбіраўся начаваць з перапоўненай хаткі на гарышча, акрываўся гэтым цёплым, утульным кажухом, адчуваючы сябе пад ім як у бога за пазухай.

Бабульцы ён аддзячыў тым, што навучыўся па-польску чытаць, вывучыў польскі гімн і яшчэ некалькі песень і цешыў ім яе добрае сэрца.

У тым польскім сяле, карыстаючыся зацішшам, якое наступіла на фронце, Высоцкі зноў пачаў пісаць вершы. Пісаў парускy. Урачыстасць часу як бы патрабавала нейкіх асаблівых, высокіх і гучных слоў. Пачатковыя радкі верша, пасланага Клары, Высоцкі і цяпер памятае:

Ночь над Польшей тиха,
И звезды как там мерцают,
И старая сводня луна
С улыбкой на небо вползает...

Верш канчаўся напамінкам, што месяц, які столькі вякоў ахоўваў закаханых, прыбераджэ гэтае шчасце і для іх з Кларай, і нікому не раскрые іх тайны...

Потым пачалося наступленне, паўставалі адзін за другім польскія гарадкі, з якіх толькі што прагналі фашыстаў, былі дымы, пажарышчы, вуліцы, забітыя друзам, паленай цэглай, руінамі будынкаў. У кожным з паселішчаў, якія мільгалі як на экране, узвод Высоцкага праводзіў не больш адной ночы. Тэмп наступлення быў настолькі імклівы, што полк не паспяваў забяспечыць сувязь паміж штабамі.

У белым, чыстым, акуратным Глейвіцы — з гэтага горада пачыналася Германія і менавіта тут фашысты справакавалі напад палякаў на радыёстанцыю, каб развязаць вайну супраць Польшчы — узвод Высоцкага затрымаўся на тыдзень, ахоўваў маёмасць палка, якую транспарт не паспеў перакінуць на правы бераг Одэра.

Насельніцтва фашысты прымушалі эвакуіравацца, іх спецыяльныя каманды гналі яго перад сабой, большасць гарадоў,

паселішчаў былі пустыя, але ў Глейвіцы частка жыхароў засталася. Тут Высоцкі ўпершыню ўбачыў мірных немцаў. Узвод размясціўся ў доме, у адной з кватэр якога жыла звычайная нямецкая сям'я — бабка, маці, дзве даўганогія дочкі і яшчэ нейкая родзічка. Абедзве дочкі, як і родзічка, аказаліся прыгожымі дзяўчатамі, трохі асвоіўшыся, сувязісты пачалі да іх заляцацца. Дні праз тры байцы пераканаліся, што ў немак і немачак няма хлеба і сяк-так памагалі ім з уласных прыпасаў. Не было да гэтых людзей ніякай пагарды, нянавісці, а толькі жаль і нават спагада. Пра помсту, варожасць да немак, бацькі, браты якіх, магчыма, нішчылі, руйнавалі родную зямлю, нават думкі не было.

Высоцкі добра памятае гэтае пачуццё, бо было яшчэ многа іншых нямецкіх гарадоў, у якіх яму як камандзіру ўзвода прыйшлося ўступаць у адносіны з мясцовым насельніцтвам. У адным гарадку — ён называўся, здаецца, Фрыдлянд — яны дагналі табар бежанцаў — з крытымі фурамі, сінімі, нібы ў цыганоў, будамі,— там жа па суседству размяшчаўся лагер нявольнікаў: аплецёнае калючым дротам поле з вышкамі, акуратнымі прамавугольнікамі баракаў, апельпляцам. Высоцкаму кальнула ў сэрца: у такім жа лагеры, толькі значна меншых памераў, амаль год пражыў ён сам.

Лагер быў рабочы, змяшчаўся ў ім розны еўрапейскі люд: палякі, чэхі, французы, бельгійцы, італьянцы і, вядома, нашы, савецкія, якіх было найбольш.

Вызваленыя з-за дроту людзі адразу пачалі трэсці бежанцаў, і ўзводу Высоцкага — хоць ніхто не даваў такога загаду — прыйшлося першую ноч нават ахоўваць напакаваныя розным дабром нямецкія фуры і буды.

Не, ён нічога не забыў: пачуцця помсты да немцаў не было, наадварот, распірала грудзі нястрымная радасць ад таго, што вайна канчаецца, што іменна яны, савецкія, пераадолелі нягоды, адступленні, прыйшлі сюды, у Еўропу, і тут таксама, ахвяруючы жыццямі, нясуць мір, спакой нядаўнім ворагам. Як цяпер разумее Высоцкі, гэта была радасць высакароднасці, радасць людзей, якія даюць, а не бяруць. У шпіталі ён быў ва ўральскім горадзе і на ўласныя вочы бачыў, як жыве індустрыяльны тыл. Кавалям перамогі хлеба давалі амаль

удвая менш, чым цяперашнім нямецкім палонным. А самі фашысты замардавалі голадам мільёны нашых палонных, і тых нават, каго ўзялі на працу, кармілі так, каб у людзей ледзь-ледзь трымаўся дух у целе. Як было не поўніцца радасцю, бачачы, разумеючы ўсё гэта?

Салдаты сорак пятага года, каму пашанцавала прыйсці за Дунай, Віслу, Одэр, адчувалі сябе сцяганосцамі міру, дабра, справядлівасці. У Высоцкага няма другога вопыту, акрамя ўласнага, і ён пастараецца расказаць пра тое, што пабачыў, адчуў, што стала часцінкай яго самога. Пра гэта будзе другая палавіна аповесці. Ён мусіць супроцьпаставіць перажытае ім самім у палоне з тым, што прыняслі савецкія салдаты, гэтак далёка сягнуўшы за родныя рубяжы.

Там, у Польшчы, Германіі, а ў канцы вайны ў Чэхаславакіі, дзе ён пабыў мала, трошкі болей за тыдзень, ён адчуваў сябе на ўзлёце надзей, смерці не баяўся, чамусьці лічачы, нават верачы, што не павінен загінуць у самым канцы вайны.

З акружанага Брэслаў вырвалася тысяча ці болей немцаў, яны былі проста шалёныя, гэтыя нядаўнія акружэнцы, нішчылі, змяталі ўшчэнт слабыя тылавыя падраздзяленні, штабы. Асабліва жорсткі бой завязаўся каля лініі фронту, які на ўчастку, дзе ваяваў Высоцкі, стабілізаваўся яшчэ ў сакавіку. Тое паселішча, якое яны, сувязісты, узброеныя аўтаматамі ды гранатамі абаранялі, якраз прыкрывала дзірку, у якую фашысты маглі нырнуць. Бой ішоў ноч, дзень і яшчэ ноч. Дзве роты сувязістаў разграмілі шалёных акружэнцаў фаўстпатронамі. Навучыліся імі карыстацца.

У тым баі Высоцкага параніла дробным асколкам у шыю, але ўзвод ён не пакінуў. І пазней не пакінуў, калі можна было рушыць у медсанбат. Ён не хацеў, каб вайна скончылася без яго. Шыя адубянела, тыдзень ці два ён не мог павярнуць галаву, пакуль загноеную пухліну не прарвала. Магло здарыцца кепска, і добра, што натрапіўся фельчар, які здагадаўся зрабіць супроцьсталбняковую прывіўку.

Высоцкі ўсю «сваю» вайну думаў пра Клару. Будучыні, якая мусіла наступіць пасля вайны, без Клары не ўяўляў. Марамі аб шчасці спаткання з каханай дзяўчынай было прасякнута ўсё яго тагачаснае жыццё.

Ён цвёрда ведае — без кахання на вайне нельга. Сілу салдату дае думка пра родны кут і пра самых блізкіх людзей.

Таму і пра гэта ён напіша ў сваёй аповесці.

Пад канец ночы Высоцкі выйшаў з пакоя і ўбачыў незвычайную карціну. Увесь доўгі гасцінічны калідор наўсцяж застаўлены раскладушкамі. Пад дзвярамі нумара, у якім ён жыве, таксама раскладушка, на ёй, нават не акрыўшыся прасціраллам, ляжыць загарэлы да чарнаты хлопец. Пры бледным святле лямпачкі, падвешанай да столі, чытае кнігу. Вось так адпачываюць будаўнікі нафтаперапрацоўчага гіганта. Месца не хапіла, і гэтых паклалі спаць у калідоры.

На дворыку пладагароднiннай базы, якая відаць з акна, нягледзячы на начны час, вялікі рух. Знаёмы дзядзька ўстаўляе ў бочкі, запоўненыя квашанымі агуркамі, вечкі, нацягвае абручы. У кузаў аўтамашыны мужчыны грузяць скрынкі. Відаць, падышла баржа, і да раніцы яе трэба загрузіць.

Гледзячы з другога акна на прыціхлы, начны горад, Высоцкі думае пра Галю. Калі не хлусіць самому сабе, то з таго дня, як ён з ёй пазнаёміўся, толькі пра яе думае. Яна цалкам завалодала яго істотай. Прыйшла як насланнё. За нейкія два тыдні ён закахаўся як хлапчук, з вучонага сухара ператварыўся ў паэта. У пяцьдзясят гадоў гэта, аказваецца, таксама прыходзіць. З такой жа сілай як у маладосці. Ён ведае пазыўныя кахання. Кожнай хвіліны будзе думаць пра Галю, прагнуць новага спаткання, каб толькі пабачыць яе, пачуць голас. Падсвядома ён ужо спрабаваў уцячы ў кусты. Тое, што тыдзень не хадзіў на спатканне, было ўцёкамі. Толькі нікуды ён не ўцёк...

А яна як, Галя? Дзіўная жанчына. Яна шчырэйшая, чым ён. Усё, што магла, сказала. Сама, першая. Заўтра ён знойдзе яе. Дзесяць вечароў павінны быць іхнімі. Як хораша яна пра вечары сказала...

Высоцкі зноў бярэцца за рукапіс. На парудзелых, аддрукаваных на машынцы старонках мільгае імя Клары, але гэта былое, ён яго ўваскрашае толькі таму, што ёсць Галя. Яна цяпер валодае яго парываннямі, водзіць пяром, таму так лёгка нараджаюцца новыя старонкі. Ён раней не ведаў, што ёсць натхненне. Цяпер ведае.

Натхненне — як бы звышнатуральная сіла, яно нібы ў казцы невымерна абвастрае зрок, пачуцці, дазваляе з пранізлівай яснасцю бачыць тое, што праглядвала раней толькі ў няпэўных, агульных абрысах. І яшчэ музыку нараджае натхненне, а яна яднае ў патрэбны рад словы, дакладныя, важкія, якія ў адваротным выпадку стаялі б як салдаты ў вольным страі.

Высоцкі нібы знаходзіцца на высокай гары, адкуль позірку адкрываецца незвычайны кругагляд. І ўсё-такі добра, што ёсць рукапіс. Работа — зарука натхнення. У Высоцкага, нібы ў будаўніка, пад рукамі камень, гравій, цэмент, і з гэтых матэрыялаў ён узводзіць свой мур. Толькі яго матэрыял — слова.

Калі пачало світаць, ён, як звычайна, распрануўся і лёг. Трох ці чатырох гадзін сну цяпер хапае, каб, прачнуўшыся, зноў сесці за рукапіс.

Спаў ён гадзін да дзесяці.

Пагаліўшыся, памыўшыся, выйшаў на калідор і адразу ўбачыў Галю. Яна стаяла ля падаконніка і, як толькі ён зашоргаў ключом, адчыняючы пакой, матлянулася да яго.

— Аляксандр Іванавіч, я не магла інакш. Не думайце дрэнна пра мяне...

За адну ноч яе твар пашарэў, зблажэў. Ён нібы ахутан нябачным ценем. Мабыць, зусім не спала. У яго нібы адняло мову. Чуў толькі, як тахкае ўласнае сэрца.

— Сёння едзем у Дуброву. Браць пробу на соль. Хацела папярэдзіць.

— Надоўга едзеце?

— Не ведаю.

— Прабачце мяне, Галя. Таго, што нахлынула, не адчуваў гадоў дваццаць. Прызнаюся, як на споведзі...

Сумна ўсміхнуўшыся, ён паспрабаваў пажартаваць:

— Трапіў у вашы сілкі, і цяпер рабіце са мной, што хочаце...

Яе твар імгненна засвяціўся радасцю. Як бы не было на ім шэрай павалокі засмучэння.

— Нічога я з вамі не зраблю! — не сказала, а ўсклікнула.

— Вы паедзеце, і дзесяці вечароў не будзе.

— Будуць,— ціха адказала.

— Дзе вас знайду?

— Знойдзеце.

Яна раз-пораз азіраецца, як бы памыкаючыся зараз жа выскачыць з калідора.

— Зірніце, як жыву,— сказаў Высоцкі, паказваючы вачамі на дзверы свайго пакоя.— Зойдзем на хвіліну.

— Цяпер няма часу.

— Калі будзе час?

— Нічога вы не разумееце! — Яна проста абпаліла яго сваім позіркам. У гэтую хвіліну здавалася надзвычай прыгожай. Бляск вачэй, лёгкая чырвань, што праступіла на шчоках, радасная ўзбуджанасць, прызыўныя ноткі ў голасе — усё як бы недвухсэнсоўна сведчыла аб яе да яго прыхільнасці, аб пачуццях, якіх не тоіць...

Лёгка, грацыёзна яна пабегла па калідоры і перад лесвіцай азірнулася...

А ён, узрушаны, узбуджаны, не ведаючы, што думаць, прайшоўся па доўгім калідоры, вярнуўся назад, пастаяў ля акна, дзе нядаўна яна яго чакала, затым рушыў у свой пакой. У суседнім пакоі шчоўкнуў замок, зазвінела вядром прыбіральшчыца. На дворыку пладагароднінnай базы не відаць ніякага руху — начная змена, мабыць, адпачывала. Ён склаў у стусік паперы, папкі, схаваў у шуфляду стала.

Адчуваў — пісаць сёння не зможа.

Нікога і нічога не заўважаючы, ён выйшаў з гасцініцы, пабрыў па вуліцы. Трэба было разабрацца ў тым, што здарылася. Душа нібы спявала. Яго любіць жанчына, маладая, прыгожая, разумная. Тая якраз, пра якую ён марыў усё жыццё. Ён сказаў ёй аб пачуццях, і яна прыняла іх з радасцю...

Дзень прайшоў як у ружовым тумане. Ён да дробязей перабіраў у памяці яе словы, жэсты, адценні голасу, яшчэ і яшчэ раз умацоўваючыся ў думцы, што яна ў хованкі не гуляла, пра сваю да яго прыхільнасць сказала з дзіўнай непасрэднасцю, дамагалася інтымнасці, як бы імкнучыся пачуць ад яго словы, якія сёння пачула. Ён адчуваў прыліў сіл, бадзёрасці, яго захлістала ўсеўладная хваля незвычайнага вострага адчування паўнаты і радасці жыцця. Ён сказаў ёй праўду: дваццаць

гадоў пасля таго, як разлучыўся з Кларай, нічога падобнага не адчуваў. Родны горад як бы прыносіў яму запозненую аддзяку.

Ён не снедаў і не абедаў: берагам Прыпяці павандраваў у паўднёвае прадмесце горада, дзе раней ніколі не быў. Ён нават не заўважыў, як абмінуў гарадскую мяжу, дабрыў да вёсачкі, размешчанай як бы ў катлавіне, вымытай паміж узгоркамі. Тулячыся да пагоркаў, стаялі сонныя дамкі з сінімі аканіцамі, галіны яблынь прыгіналіся да зямлі ад цяжару жаўтабокіх антонавак, і ўсюды было мноства дубоў. Яго нават здзівіла, дубы і дубы. Не надта высокія, разгалістыя, яны раслі ў кожным двары, надаючы вёсачцы выгляд незвычайнай задуменнасці. Паблізу горад, які робіцца шумным, мітуслівым, а тут жыццё па-ранейшаму цячэ спрадвечнай нетаропкай каляінай.

У горад ён вярнуўся на аўтобусе і адразу рушыў у знаёмую чайную. Там, як звычайна, цесна, тлумна, брудноватую залу поўніць шматгалосая гамонка і густы тытунёвы дым.

Ён доўга чакаў, пакуль вызваліцца столік, а заняўшы яго, не спяшаўся есці, хоць падганяў голад. Яму было добра сядзець і слухаць, падабаўся тлум, што не змаўкае ў сценах гэтай не надта высокай установы, у якую пасля змены завітваюць муляры, тынкоўшчыкі, шафёры, грузчыкі — звычайны рабочы люд. За столікам п'юць піва, віно, гарэлку, гучна размаўляюць, даводзяць штосьці важнае, неадкладнае, без чаго, калі не выказацца, нельга жыць; ва ўсіх гаворках, абрыўкі якой Высоцкі чуе, ёсць правая і вінаватая старана, правая сядзіць тут, вінаватая хутчэй за ўсё адсутнічае; за кожным столікам свой завадатар, які паўней, выдатней, чым іншыя, выказвае тое, што ва ўсіх набалела. Свет, як заўсёды, поўніцца страсцямі, нявырашанымі пытаннямі, вострыя грані якіх, мабыць, сутыкаюцца тут мацней, чым у якім-небудзь іншым месцы.

Раптам Высоцкі ўздрыгнуў, адчуўшы, што яго нехта разглядвае. Павярнуўшы галаву, ён злавіў на сабе пранізлівы позірк вузкаплечага брыгадзіра, якога не раз заставаў у чайной раней, а ўчора, калі абедаў з Галяй, бачыў у рэстаранчыку. Бялясыя вочы хлапчыны глядзяць нядобра, жорстка, ён зараз жа адвёў іх, як толькі сустрэўся позіркам з Высоцкім.

Кампанія, якой верхаводзіць хлапчына, тая ж, толькі ахайней, лепей апранутая. Можа, у мантажнікаў выхадны, падумаў Высоцкі, шукаючы поглядам буфетчыцу. Яна таксама на месцы, налівае піва, і таксама штосьці святочнае праглядвае ў яе ўбранні: праз прорэзь халата відаць пярэстая шаўковая сукенка, вымытыя валасы распушчаны, як у русалкі. Шафёра, які цікаваў за жонкай, прыхінуўшыся да стойкі буфета, чамусьці няма.

Расплаціўшыся з афіцыянткай, Высоцкі выйшаў з чайной. Пачынала цямнець, і яго раптам агарнуў сум. Душэўны ўздым, выкліканы нечаканым спатканнем з Галяй, словамі, якія ён ёй сказаў, той відавочнай радасцю, з якой яна прыняла яго прызнанне, як бы пачынаў спадаць. Галі няма, ён не можа з ёй спаткацца, як учора, як у папярэднія дні, і ад гэтага невыносна пакутліва. Ён бачыць цяпер сябе ў смешным становішчы: за два тыдні закахаўся ў прыгожую незнаёмку, прызнаўся ў каханні, закружыў ёй галаву, а пра далейшае не падумаў. Ён ужо адчувае, што знаёмства з Галяй — не лёгкія курортныя заляцанні, якія ён сабе дазваляў, калі быў маладзейшы. Тыя заляцанні як бы загадзя былі разлічаны на тэрмін, калі ён плёскаўся ў моры, прымаў розныя лячэбныя працэдуры, і, як толькі канчалася пуцёўка, канчаліся і яны. Прыкметнага следу ў душы тыя заляцанні не пакідалі. Тут другое. Тут як бы пачынаецца вар'яцтва, такое ж, як у далёкія гады маладосці, бо ўжо колькі дзён няма хвіліны, каб у яго думках, пачуццях, адчуваннях не прысутнічала Галя. Каханне, мабыць, і ёсць вар'яцтва, бо пазбавіцца ад таго, каб не думаць пра Галю, не прагнуць нават сустрэчы, не прыдумваць словы, якія ёй скажа, ён не можа. Ён увесь націнаецца, робіцца сам не свой, і яна, відаць, гэта адчула. І хто яна, чаму так адважна кінулася насустрач? Ён толькі цяпер спахапіўся, што сваё жыццё яна як бы трымала перад ім на моцным замку. Ёй трыццаць два гады, і акрамя таго, што яна нарадзілася ў тым, што і ён, мястэчку, працавала ў райкаме, запознена скончыла ўніверсітэт, а цяпер працуе лабаранткай на кафедры, збіраючыся калі-небудзь перайсці ў газету, ён нічога болей аб ёй не ведае. Не ведае нават, ці замужняя яна, ці ёсць у яе сям'я?

Ён сам не свабодны, звязаны па руках і нагах, таму і ў яе ні аб чым не пытаў, як бы прапаноўваючы тыя ж курортныя правілы гульні. Але тут не гульня. Праз лічаныя дні ён паедзе, і што будзе далей?

Яму не дваццаць, не трыццаць, ён ведае, што так проста пераступіць праз тое, што пачалося, не здолее. Інакш будзе дакараць сябе да смерці. Ён сам прагнуў, чакаў такой жанчыны, і яна прыйшла. Няхай будзе, што будзе...

Зрэшты, ён супакоіўся. Прафесійная прывычка ўзяла верх. За доўгія гады выкладчыцкай работы ён прызвычаіўся да яснасці, як бы навучыўся раскладаць па палічках думкі, не церпячы, адмятаючы супярэчнасці. Будучы шчырым па натуры, стараўся, каб слова не разыходзілася з учынкам. Рабіў, як лічыў справядлівым, і верыў, што з гэтага складаюцца асновы дабрачыннасці. Вядома, жыццё — складаная рэч, іншы раз прыходзілася адступаць ад правіл, якіх стараўся трымацца, і заўсёды ў такіх выпадках ён пакутаваў ад дакораў сумлення.

У гасцініцу Высоцкі вяртаецца позна, ціхай вулачкай, абышоўшы паўгорада. Ногі гудуць ад доўгай хады. Зрэшты, сённяшнія вандроўкі не пашкодзяць, бо жыве ён дні і ночы ў родным горадзе выключна напружана.

Наперадзе масток, пад ім булькае ручэй, які, выбіваючыся з крынічкі, сцякае ў Прыпяць. У гэтым месцы прагал між будынкаў, межы агародаў, садоў, лагчынка, зарослая ляшчынай, дзікім малiннікам, ажынай. З даўніх дзён выплывае ўспамін: у зарасніку ляжыць абымшэлы камень-валун, сеўшы на яго, спусціўшы босыя ногі ў сцюдзёную ваду, ён колькі разоў, калі працаваў у рэдакцыі, ратаваўся такім манерам ад стомы.

Ноч месячная, на дзіва цёплая. Высоцкі спускаецца з насыпу вулачкі, расхінае кусты, каб знайсці знаёмы камень. Ён дзівак, вядома, столькі жыве ля ракі і ні разу не выкупаўся. Цяпер вада, мабыць, халодная.

Нечакана ён ледзь не ўскрыквае ад здзіўлення. На камені, на які нарэшце натрапіў, сядзяць двое, на траве ляжаць іх вопраткі, у месячным святле загарэлае цела мужчыны выдаецца цёмным, малапрыкметным, затое матавай белізной адлівае цела жанчыны, у якой распушчаныя валасы закрываюць пле-

чы. Ён адразу пазнаў іх, кінуўся прэч і, пакуль узбіраўся на насып, думаў пра тое, што вузкаплечы брыгадзір мантажнікаў стараўся нездарма, арганізоўваючы харавы спеў у гонар прыгожай буфетчыцы, і нездарма пільнаваў жонку хмуры шафёр. Толькі таго, што расцякаецца як жывое срэбра, ніколі не ўпільнуеш. Закон жыцця. З кахання вынікае столькі радасці, паэзіі, узлётаў чалавечага духу, і столькі драм і трагедый...

## XII

Высоцкі прачнуўся рана, дастаў папкі, паспрабаваў пісаць, але пісанне не пайшло. Ён пакутваў гадзіну ці болей, але не здолеў паправіць ніводнай старонкі. Творчы імпэт рашуча пакінуў яго. Можа, ён проста стаміўся?

У вестыбюлі за столікам, адгароджаным балясамі, знаёмая дзяжурная.

— Вас мала відаць,— сказала Высоцкаму.

— Учора да ночы хадзіў па горадзе.

— Можа, у тэатры былі?

— Хіба ў вас ёсць тэатр?

— Наезджы. Артысты жывуць у гасцініцы каля рынку. Хутка паедуць.

— Добра іграюць? — спытаў Высоцкі.

— Не ведаю,— сумна ўсміхнуўшыся, яна ахінула яго як бы спалоханым позіркам.— Хоць бы ў кіно хто пазваў. Дзвесце чалавек у гасцініцы, і ніхто не пазаве.

Ён не ведаў, што адказаць.

— Дачка яшчэ на бульбе? — нарэшце спытаў.

— На бульбе. Праз тыдзень прыедуць.

— На другім курсе?

— На другім.

Зноў не знаходзіў слоў, каб як-небудзь падтрымаць гаворку.

— Муж, як паміраў, казаў, выходзь замуж,— раптам прызналася жанчына.— Гаварыў: адна нагаруешся. Ён быў добры, разумны.— Срабрыстая кропелька слязы раптам папаўзла па шчацэ, і яна хуценька яе змахнула.— Пападаліся людзі, але я не хацела. Думала: няхай дачка падрасце. Хіба хто заменіць бацьку?

Падышоў новы прыезджы, похапкам дастаў пашпарт, камандзіроўку. Дзяжурная ў вокамгненне перамянілася.

— Месц няма! — ледзь не крыкнула строгім, казённа-адчужаным голасам.— Толькі па броні.

Высоцкі выйшаў з вестыбюля, перш чым рушыць у чайную, купіў на рагу вуліцы ў кіёску газеты.

У такі час людзей у чайной няшмат, можна сядзець, думаць, чытаць. Буфетчыца на месцы — яна проста ззяе сёння. Вясёлая, рухавая, рэжа хлеб, шчоўкае на лічыльніках і як з мяшка сыпле дасціпнымі слоўцамі. Хмурага шафёра няма — мабыць, з'ехаў небарака ў дальні рэйс.

З дня прыезду ў горад Высоцкі з асаблівай цікаўнасцю праглядвае мясцовую газету. Ад яе старонак як бы патыхае родным, блізкім, не-не дый мільгне знаёмая назва вёскі, прозвішча, пашыранае ў тым ці іншым месцы. Ён можа зрокава ўявіць сабе ўсе шэсць дзясяткаў вёсак, што ўваходзяць у склад раёна, краявіды, якія іх акружаюць, малюнак забудовы, твары тых даўніх старшынь, брыгадзіраў, бо з кожным была звязана якая-небудзь падзея. Бадай у палавіне вёсак ён начаваў, харчаваўся, пісаў пра іх людзей карэспандэнцыі і нарысы, другія вёскі, якія нічым не вызначаліся, проста праходзіў ці праязджаў.

Дзіва няма: за чатыры з палавінай гады ён шмат паездзіў. Раён сярэдні, але такіх у вобласці большасць, моцных калгасаў налічвалася два ці тры. За час, праведзены ў газеце, на яго вачах нібы прайшла пасляваенная гісторыя раёна. Дзве трэці вёсак было спалена: у тыя гады людзі перасяляліся з зямлянак у новыя хаты, і не ўсе хаты радавалі вока, бо некаторыя, асабліва тыя, што належалі ўдовам, будаваліся на жывую нітку: абы хутчэй вылезці з сырой зямлянкі. Сорак сёмы і сорак восьмы гады парадавалі добрым ураджаем, але і ўраджай істотна не палепшыў справы навакольных вёсак: адбудоўваліся гарады, павялічваліся памеры збожжанарыхтовак, і кілаграм на працадзень — такую аплату рэдка перавышаў які калгас.

Дзіўна ў той ужо далёкі час праводзіліся хлебанарыхтоўкі. Лозунг быў адзін: «Як мага хутчэй выканаць першую запаведзь!» Яшчэ жанкі з сярпамі толькі выходзілі ў поле, ля

кузні стаялі неадрамантаваныя жняяркі, нешматлікія камбайны намалочвалі першыя цэнтнеры, а лозунг ужо займаў сталае месца на першай старонцы газеты і не сыходзіў да таго часу, пакуль вобласць не рапартавала аб выкананні плана.

Лічылася найважнейшым дасягненнем падаць рапарт да першага жніўня. З такой задачай спраўляліся толькі два паўднёва-прыпяцкія раёны, дзе землі лепшыя і ўраджаі большыя. У гонар раёна-пераможцы абласная газета заўсёды давала паласу або нават разварот. Разы два ездзіў арганізоўваць такія матэрыялы Высоцкі. Пісаў аб тым, як сушылі зерне на таках, дзяружках, мабілізоўвалі ўвесь наяўны транспарт, каб даставіць яго ў дзяржаўныя сховішчы.

Пераможцаў прадстаўлялі як багоў. Працэнт выканання як бы засланяў усё астатняе. Ён памятае, што сам пачынаў адзін свой нарыс пра хлебаздачу словамі, як хлебаробы з надзеяй пазіраюць на неба, чакаючы, калі скончыцца непагадзь і можна будзе хутчэй адвезці збожжа на станцыю, на дзяржаўны склад.

Стыль цяперашняй газеты, якая выдаецца ў родным горадзе, прыкметна перамяніўся. Не знойдзеш такіх, як раней, гарачых, катэгарычных заклікаў. Аўтары карэспандэнцый дазваляюць сабе весці размову ад уласнай асобы: я прыехаў, пабачыў тое або іншае, спытаў у брыгадзіра, ён мне адказаў... Тады, калі працаваў Высоцкі, падобны стыль не прайшоў бы ў газеце нізавошта. Можа, толькі ў фельетоне. Ды і там замест «я» стараліся пісаць «мы». «Вам не прыходзілася пашыць шапку ў мясцовай арцелі «Індпашыў»? — пачынаў адзін фельетон Высоцкі.— А нам прыйшлося...»

Дзіўны быў пасляваенны час, у чымсьці вялікі, пафасна-ўзнёслы, а ў чымсьці, калі кіравацца сённяшнімі меркамі, нават смешны. Зрэшты, і тады цвярозая развага брала верх, і далёка не ўсе сакратары райкамаў навыперадкі стараліся скончыць хлебаздачу да першага жніўня. Выканаць план у такі тэрмін азначала вывезці з калгаса ўсё жыта, пшаніцу, на працадзень выдаць ячмень, авёс і грэчку — яны паспяваюць пазней і іх у жніўні толькі пачынаюць жаць і касіць,— а потым зноў везці ў калгас з таго ж дзяржаўнага склада жыта, пшаніцу, бо нечым было сеяць.

Як пазней высветлілася, нават сакратар паўднёвага Запрыпяцкага раёна толькі рапартаваў пераможна, а ўвогуле хітраваў: прымушаў нарыхтоўчыя арганізацыі браць з калгасаў гарантыйныя распіскі — маўляў, дазваляем дзяржаўны хлеб хаваць ва ўласных засеках, бо ў нас не хапае складскіх плошчаў...

Заняты развагамі, Высоцкі не заўважыў, як перад яго столікам паўстаў паўнаваты, сівы, але з маладымі вачамі чалавек.

— Вам з рэдакцыі звоняць,— паведаміў.— Рэдактар просіць да тэлефона. Зойдзем у мой кабінет.

Гэта дырэктар чайной, і ў яго словах гучыць пашана да рэдакцыі.

У трубцы вясёлы голас Іваньковіча, рэдактара.

— Алесь Іванавіч, шукаю вас гадзіну. Зараз пад’еду. Памятаеце, прасілі павазіць па раёне...

На лаўца і звер бяжыць. Высоцкі, як і ўчора, месца не знаходзіў, не ведаў, чым зойме дзень.

Рэдактар хлапчына свойскі, абыходлівы. Ён, здаецца, з тых ураўнаважаных людзей, якія ніколі не хвалююцца, не выходзяць з сябе і на ўсё — добрае і дрэннае ў жыцці — глядзяць паблажліва. Ён высокі, шыракаплечы, непаспешлівы ў рухах, да яго ладнай паставы пасуе прыгожа пасаджаная галава, цёмныя, зачэсаныя назад валасы, у якіх прабіваецца першая сівізна, круглаваты чарнявы твар.

Рэдактарская «Волга» старога ўзору, але блішчыць лакам і здаецца новай, шафёр чымсьці падобен да самога рэдактара.

— Сёння пачатак заняткаў у сістэме палітасветы,— паведамляе Іваньковіч.— Таму ўдалося вырвацца.

Верасень, значыць, скончыўся, пачынаецца кастрычнік. Не так многа часу засталося Высоцкаму дыхаць паветрам родных мясцін. Тры дні возьмуць залікі.

Выбраўшыся за межы прадмесця, машына імчыць па асфальце, і ў Высоцкага такое пачуццё, якое нахлынула тады, калі ён толькі злез з цягніка і блукаў па вуліцах чыгуначнага гарадка. Да шчымлівай болі ў грудзях ён пазнае навакольнае і ў той жа час не пазнае, бо перамены значныя на кожным кроку. Пейзаж індустрыяльны: уздоўж асфальту лінія высакавольтнай перадачы, купкі прысадзістых мураваных будынкаў, што

раз-пораз вынікаюць на даляглядзе — тады, калі ён вандраваў па гэтай дарозе, іх і ў паміне не было, як не было і самога асфальту. Шмат на дарозе машын. Знаёмыя вёсачкі, якія наўзбоч мільгаюць, здаюцца маўклівымі, прыціхлымі, малюнак пабудовы змяніўся мала, тыя самыя абрысы, краявіды, толькі глядзяцца па-іншаму, бо перш за ўсё ўражваюць парадкам і ахайнасцю. Цяпер не дзіва ўбачыць у сельскай мясцовасці мураваныя, цагляныя дамкі — так на Міншчыне, так і тут, на Палессі — і хоць не надта многа такіх дамкоў, аднак успрымаюцца яны як бы прадвеснікі таго накірунку, які ўсё больш пашырае абсягі.

У пасляваенныя гады, калі Высоцкі блукаў ад вёскі да вёскі па раёнах, сэрца балела ад выгляду родных паселішчаў. Ён бачыў дагледжаную, упарадкаваную ў кожным самым аддаленым кутку нямецкую вёску, і, параўноўваючы дабротныя дамы, каменную гаспадарчую забудову, прасторныя двары, стадолы з нашай сельшчынай — з пакрыўленымі хаткамі, хлеўчукамі, на саламяных дахах якіх зелянеў мох,— часам прыходзіў у адчай. Думалася — сто гадоў спатрэбіцца, каб усё гэта перайначыць, перабудаваць, бо быт — штосьці надзвычай устойлівае, ён пераходзіць ад дзядоў да ўнукаў, ад пакалення да пакалення.

Мінула дваццаць з лішнім гадоў, і можна пускаць па знаёмай дарозе самых прыдзірлівых турыстаў — пейзаж перамяніўся дазвання. Шмат новых, няхай сабе драўляных хат, дамоў, у старых, якія ацалелі, пафарбаваныя аканіцы, франтончыкі, на кожным, бадай, даху высіцца тэлевізійная антэна, двары атулены садамі, палісаднікамі, і таму паселішчы нагадваюць зялёныя астравы. Калгасная забудова — новая цалкам, акуратна расплanаваная, цагляныя будынкі ўсюды пабелены, лашчаць позірк і зусім не відаць пасляваенных кароўнікаў, цялятнікаў, свінарнікаў, якімі так ганарыліся старшыні калгасаў, калі ў вёску завітваў карэспандэнт. Усюды на полі купкі студэнтаў, якія выбіраюць бульбу, ідучы ўслед за капалкамі.

— Едзем каля нафтапровада,— тлумачыць Іваньковіч.— Агледзім Нафтахімбуд і на Дуброву. Паабедаем, пераначуем. Я на занятках папрысутнічаю.

Высоцкі ўздрыгнуў: два гады — у сорак сёмым і сорак восьмым — у Дуброве працавала ўчастковым урачом Клара, цяпер ля буравой вышкі бярэ пробы Галя. Дзіўна сыходзяцца яго жыццёвыя кругі. Нібы адзін накладваецца на другі і ў тых якраз мясцінах, што самі па сабе нараджаюць незвычайны ўздым у душы.

А можа, ён таму і Дуброву любіў, што там, у трох цесных пакойчыках звычайнай хаціны, у якой размяшчалася бальніца, расхаджвала Клара, прымала хворых, выпісвала рэцэпты, непрыступная і строгая ў белым халаце. Фактычна яна жыла ў горадзе, два-тры разы на тыдзень прыязджала да маці, пакуль, адбыўшы патрэбны тэрмін, канчаткова туды не перабралася.

Так ці іначай, але ён ахвотна ездзіў у Дуброву і тады, калі Клара там не працавала, бываў у «Чырвоным трактары» — так называўся мясцовы калгас — часцей, чым у другіх вёсках, і надрукаваў пра яго людзей найбольшую колькасць матэрыялаў. Было некалькі нарысаў, а ў сорак сёмым годзе — ён добра гэта памятае — арганізаваў паласу ў гонар таго, што «Чырвоны трактар» скончыў сяўбу ранніх збожжавых да першамайскіх свят.

Клара яго матэрыялы не высока ставіла. Хутчэй за ўсё ніколі іх не чытала. Яго прозвішча часта мільгала ў абласной газеце, акрамя звычайных матэрыялаў ён пісаў фельетоны, вершы, і за гэта меў вялікую пашану ад раённых газетчыкаў, і ў які б раён ні прыехаў, рэдакцыйныя супрацоўнікі яго ведалі. Нічога гэтага Клара як бы не хацела заўважаць.

Тым часам паехалі ўздоўж пляцоўкі Нафтахімбуда. Плошча, якую займае будаўніцтва, агромністая — цэлы гарадок,— і ўсюды рыштаванні, жалезныя каркасы, перапляценне труб, якія вядуць да вялізных чанаў рознай формы і аб'ёму.

У многіх месцах падняліся блокі будынкаў з бетону і шкла, у якіх, відаць, размесцяцца цэхі нафтаперапрацоўчага завода. Зямля паўсюдна раскопана, катлаван на катлаване, на іх схілах поўзаюць бульдозеры, грымяць, угрызаючыся жалезнымі зубамі ў зямлю, экскаватары — вакол гліна, жалезабетонныя блокі і зноў рыштаванні.

Ля будаўнічай пляцоўкі сыходзіцца некалькі дарог, такіх жа шырокіх, заасфальтаваных, падобных на тую, па якой

праехалі, і ўсе забіты бясконцым цугам аўтамашын з доўгімі прычэпамі — на іх новыя бетонныя блокі, цэгла, камень, трубы, жалезныя канструкцыі і фермы.

З ланцугом машын цяжка размінуцца, і шафёр звярнуў на дарогу, якая ўпоперак перасякае плошчу Нафтахімбуда. Можна з блізкай адлегласці зірнуць на аб'екты, якія ўзводзяцца. Высоцкі мала разумее ў будаўнічай справе, не ведае нават, як пераапрацоўваецца нафта ў бензін, у іншыя гаручыя, змазачныя матэрыялы, але яму даўно хацелася пабыць на будоўлі. З таго часу, як у родных мясцінах адкрылі нафту, у душы разпораз успыхвае прыемнае трапятанне. Можа, ідзе ад таго яно, што родны куток як бы параўняўся цяпер з самымі славутымі мясцінамі. Калі пры новым знаёмстве ў Высоцкага пытаюць, дзе ён нарадзіўся, то, называючы мястэчка, найбліжэйшы горад, ён абавязкова дадае, што ў гэтых мясцінах здабываюць нафту.

Іванькові таксама ўзбуджаны. Шафёр вядзе машыну на малой хуткасці, час ад часу яе запыняе, а Іванькові, павярнуўшы да Высоцкага свой прыемны твар, тлумачыць пра крэкінгі, працэнт серы ў мясцовай нафце, пра яе высокую якасць. Адукаваўся рэдактар, пішучы пра нафту і будоўлю. Яна між тым сапраўды славутая і большая па размаху, па ўдзельнай вазе, чым думаў раней Высоцкі. Па магутнасці завод пераўзыдзе наваполацкі, але з пускам яго запазніліся. Новы сакратар гаркама, даверліва расказвае Іванькові, будоўляй толькі і жыве, бывае тут штодня, лятае ў Мінск, у Маскву і, мабыць, даб'ецца, што ў пачатку будучага года першая чарга завода ўступіць у строй...

Цяпер Высоцкі як бы і сам бачыць, што большая частка работы зроблена. Праз шкляныя сценкі доўгай анфілады цэхаў, якія цягнуцца паралельна адзін другому і замыкаюцца ў правільны чатырохвугольнік, праглядвае іх унутранае абсталяванне — зноў трубы, чаны, рэзервуары. З правага боку будынкі інтэрнатаў, і яшчэ правей вымалёўваюцца абрысы жылога гарадка.

Калі ехалі па асфальце, Высоцкі лёгка арыентаваўся на мясцовасці, пазнаваў мясціны, краявіды, цяпер нічога не пазнае, і адчуванне такое, нібы трапіў у зусім незнаёмы свет.

Ён ведае: завод размяшчаецца паміж Казлякамі і Крапіўніцай, вёскамі нічым не славутымі, у якіх ён ніколі надоўга не запыняўся, бо не было аб чым пісаць. Паміж вёскамі быў лес — дубнякі, бярэзнікі. Цяпер лесу не відаць, не відаць нават слядоў раскарчоўкі, і ад гэтага, мабыць, поўная страта арыентацыі. Зрэшты, пачуццё знаёмае. На вачах Высоцкага адбудоўваўся Мінск, ён памятае абрысы старых плошчаў, сквераў, выгляд будынкаў, якіх даўно няма, бо на іх месцы паўсталі новыя плошчы і будынкі. Але і ранейшыя час ад часу ўсплываюць у памяці, і, закрыўшы вочы, ён да дробязей можа ўзнавіць іх воблік, і, значыць, яны неяк жывуць у свядомасці.

— Прыпяці завод не пашкодзіць? — пытае Высоцкі.

— Не павінен,— задумліва адказвае рэдактар.— Плануецца адводны канал.

## XIII

Ён прыехаў у Дуброву з такім жа высокім настроем унутранай нацятасці, як прыязджаў у даўнія гады, калі тут працавала Клара. Яшчэ здаляка ўбачыў буравую вышку — яна на полі, там дзе ўзвышаюцца дубы, пад імі віднеюцца буданчыкі, абрысы нейкіх баракаў — мабыць, пачынаецца будоўля.

Ён не ведаў, што скажа Галі, калі яе сустрэне, думкі блыталіся, разбягаліся, ён адчуваў толькі радасць, якая ўладна ахапіла істоту. За два дні, калі не бачыў Галю, ён як бы дасягнуў найвышэйшага пункту гарэння: каб не надарыўся Іванькові, ён знайшоў бы іншы спосаб прыехаць у Дуброву, бо не сустрэцца з Галяй не мог.

Гэта было, вядома, вар’яцтва, куточкам цвярозай свядомасці ён гэта разумеў, але не было ніякай сілы адолець усеўладнае імкненне, якое падпарадкавала сабе астатнія думкі і адчуванні. Рашучая размова адбылася пазаўчора ў гасцініцы. Галя сама прыйшла да яго, бо, відаць, таксама баялася, што парвецца тугая ніць імклівага збліжэння, якое намецілася між імі з першай сустрэчы. Так павінна было здарыцца, бо ён сам прагнуў гэтага. Ён ёй сказаў усё, і яна сказала. Няхай не

словамі. Ён бачыў, адчуваў яе парыванне да яго, і праз сваё пачуццё пераступіць не можа. Іначай будзе дакараць сябе рэшту дзён, якія засталося пражыць. За дваццаць гадоў усеўладнае пачуццё прыйшло ўпершыню, ні адна жанчына за гэты час не здолела яго ўзрушыць так, як Галя, яна нібы абудзіла сілы душы, якія дагэтуль былі прыспаны, драмалі.

Дуброву пазнаць можна, хоць перамены вялікія. Тры, як раней, пасёлкі; паўднёвы і паўночны і раней былі ніштаватыя, але старая вёска, што займала сярэдзіну між імі, выгляд мела надзвычай убогі. Псавала ўражанне. Абымшэлыя, з маленькімі вокнамі хаты ціснуліся адна да адной — іх, мабыць, пабудавалі яшчэ дзяды і прадзеды.

Дык вось старой вуліцы няма, засталася толькі яе ніжняя частка, што спускалася да балота. У цэнтры сваім Дуброва — зусім сучасны пасёлак. Як і ў другіх паселішчах, міма якіх праязджаў Высоцкі, паўсталі тут новыя дамы, сярод якіх некалькі камяніц. І дзіва дзіўнае — ёсць у Дуброве некалькі магазінаў, пашывачная майстэрня, атэлье па рамонту прыёмнікаў і тэлевізараў, сталовая, гасцініца — вы чулі пра такое, панове?

Толькі машына, праязджаючы дарогамі, вуліцамі, па-ранейшаму тоне ў зыбкім палескім пяску. Асфальт да Дубровы яшчэ не пракладзен.

І старшыня ў Дуброве знаёмы — Майсей Гарох. Пры Высоцкім ён быў інструктарам гаркама і загадчыкам райана. Але Гароха няма, паехаў у горад, дзе пастаянна жыве сям’я.

Яшчэ не позна, адвячорак. Усталяваўшыся ў гасцініцы, Высоцкі з Іваньковічам рушылі ў сталовую. Тут Высоцкага падпільноўвала галоўная нечаканасць.

Зала ў сталовай даволі пrasторная, столікі, крэселкі гарадскога ўзору, парадкі заснаваны на самаабслугоўванні. Некалькі столікаў ссунута, за імі гаманлівы гурт маладых людзей з загарэлымі да чарнаты тварамі, бронзавымі грудзьмі, якія праглядваюць з расхліснутых куртак. Не адразу Высоцкі заўважыў сярод застолля Галю, а заўважыўшы, так разгубіўся, што нават забыўся павітацца. Яна таксама разгубілася, пачырванела, кіўнула яму галавой і зараз жа адвяла позірк.

Іваньковіч тым часам запыніўся ля вясёлай кампаніі, падышоў да Галі, павітаўся як са знаёмай з ёй за руку, нешта ў яе спытаў. Яна яму штосьці адказала — з-за тлуму, гармідару нельга было пачуць што.

Высоцкі сеў за столік у другім канцы залы. Ён доўга не мог справіцца з сабой — чырванеў, бляднеў, як выкінутая на бераг рыба дыхаў.

Галя сядзіць паміж двума шыракаплечымі хлапцамі. У аднаго на прадаўгаватым твары прыкметны сінявата пісяг — нібы след ад раны, другі з раскошнай чорнай шавялюрай здаецца самаўпэўненым і ганарыстым. У застоллі другіх жанчын няма, і ўся ўвага кампаніі звернута на Галю. На студэнтаў Галіны субяседнікі не падобны — зусім сталыя людзі.

— Геолагі,— сказаў Іваньковіч, падышоўшы.— Грошай хапае, гуляюць як арыстакраты.

— Вы знаёмы з Хмялеўскай? — стараючыся гаварыць спакойна, спытаў Высоцкі.

— Вы яе таксама ведаеце? — рэдактар, здаецца, зусім не здзівіўся.— Мы ў камсамоле разам працавалі. Хачу яе ў газету ўзяць. Харошая дзяўчына. Толькі скруціў жыццё адзін баламут. Ён адсюль, з горада...

Высоцкі раптам успомніў, як падхапілася Галя, калі ў рачны рэстаранчык зайшоў брыгадзір мантажнікаў. Можа, ён яе муж?

Галя раз-пораз кідае на Высоцкага позіркі, выгляд у яе трохі разгублены — відаць, не чакала, што ён застане яе ў кампаніі. Зрэшты, нічога не здарылася. Хіба геолагі не могуць запрасіць да сябе прыгожую жанчыну, з якой працуюць, і хіба яна павінна адмаўляцца ад запрашэнняў? Высоцкаму да болю шкада Галі. У зусім новым святле паўстае іх імклівае збліжэнне. Маладая жанчына — нібы птушка з перабітым крылом — імкнецца ў новую даль і шукае апоры...

Неяк нечакана шумлівы гурт падымаецца, выбіраецца са сталовай. На парозе Галя запынілася, сустрэлася позіркам з Высоцкім.

Ён усміхнуўся, кіўнуў галавой — нібы падаў знак, што застанецца ў вёсцы.

— Гарох збіраецца на пенсію,— гаворыць Іваньковіч.— Старшыня быў харошы. Дваццаць гадоў на адным месцы.

— Дзе Гавака? — пытае Высоцкі пра ранейшага старшыню, якога добра ведаў.

— Мабыць, на пенсіі. Як выпусцілі з турмы, быў загадчыкам сельпо.

— Ад Гавакі моладзь не ішла, як ад Гароха?

— Час другі,— Іваньковіч раптам зрабіўся задумлівым.— Цяпер, калі хочаш, каб чалавек астаўся ў сяле, дай умовы лепшыя, як у горадзе. Толькі далёка яшчэ да такога...

Вечарам Іваньковіч ідзе на заняткі, а Высоцкі, чакаючы сустрэчы з Галяй, блукае па Дуброве. Ім валодае дзіўны, як бы ў нечым нават трывожна-ўзвышаны настрой. Былое, даўняе пераплятаецца з сённяшнім, ён пазнае двары, прысады, будынкі, і ў той жа час не пазнае, бо на ўсё лягла адзнака перамены. На ўскрайку Дубровы быў белы мысок чыстага бярэзніку, ён і цяпер там, але дрэвы разрасліся, як бы парадзелі, іх пажаўцелыя кроны неяк трывожна залоцяць апошнія промні сонца, якое ўжо напалавіну схавалася за лесам. Ён ніколі не думаў, навошта насаджан на грудку бярэзнік і толькі цяпер здагадваецца, што там, мабыць, могілкі, бо ў другім месцы іх няма.

Болей за дваццаць гадоў ідзе ў Дубраве штодзённая, непрыкметная для таго, хто жыве тут, работа, але ён, Высоцкі, фактычна госць, ён нават не пазнае чалавека, які за гэты час нарадзіўся і вырас. І каго ён тут ведаў? Гаваку, двух-трох брыгадзіраў, калгаснікаў, некаторых настаўнікаў. Дзе яны, што з імі? Хутчэй за ўсё, як Гавака, на пенсіі, бо былі людзьмі немаладога веку.

Калі зусім схавалася сонца, у розных канцах вёскі ўспыхнулі ланцужкі агнёў. Іх прыкметна больш, чым у пасляваенны час, калі Высоцкі быў малады і не раз тут начаваў. Увесь у агнях прамежак паміж паўднёвым і паўночным пасёлкамі — з расказа Іваньковіча Высоцкі ведае, што там цяпер комплекс з некалькіх кароўнікаў і цялятнікаў; буравая за ваколіцай нагадвае карабель з мачтай — так высока над ёй blішчаць агні.

Палітзаняткі, на якія пайшоў Іваньковіч, у школе.

Школа двухпавярховая, у вокнах, за выключэннем двух-трох пакояў, цёмна. Стаіць школа на касагоры, на тым месцы,

дзе некалі быў вятрак. Млын і пасля вайны бяздзейнічаў, стаяў з нерухомымі крыламі, абадранымі сценкамі — бярвенні асновы ўнізе праглядвалі, як голыя рэбры. Гавака пабудаваў у Дуброве электрастанцыю, першы ў раёне прывёз спісаны на заводзе лакамабіль, дынама-машыну, даў святло ў хаты. Размяшчалася электрастанцыя ў доўгім хляве, там, дзе цяпер гарадок комплекса, і ля яе заўсёды ўзвышалася гара выкарчаваных пнёў. Пні спальваліся ў печцы лакамабіля — дроў ці не было, ці іх проста Гавака шкадаваў, дый святло падавалася да адзінаццаці гадзін вечара. Пасля адзінаццаці — Гавака ў гэтым быў перакананы цвёрда — трэба спаць, і святло — залішняя раскоша. Дынама-машына часта псавалася, і тады над Дубровай павісала дзягцярная цемень.

У Высоцкага нацятыя пачуцці: ён ва ўладным палоне адчування, што лёс нібы выпрабоўвае яго: сустрэча з Галяй зноў на сцежках маладосці, дзе ён столькі хадзіў, марыў, думаў. Як бы вяртаюцца вятры на ранейшыя кругі. Ён зусім не ведае, што скажа цяпер Галі: там, у горадзе, ён адчуваў, што яна вабіць яго, як не вабіла ніякая іншая жанчына, бачыў, што і яна цягнецца да яго. Цяпер адчуў другое, аб чым раней нават не здагадваўся: яна прыгожая, і не адзін ён заўважыў гэта, паклоннікаў, прыхільнікаў у яе заўсёды хапала. Яна, вядома, ведае сабе цану. Ён нібы наяве бачыць загарэлыя твары, моцна збітыя постаці геолагаў — яны людзі яе веку, смелыя, самаўпэўненыя, і ад гэтага яму трывожна.

Ужо з гадзіну Высоцкі вандруе па вуліцы.

Як і ў другіх вёсках, у Дуброве студэнты выбіраюць бульбу. Вярнуўшыся з поля, купка іх сядзіць на ганку клуба, спявае пад гітару, астатнія, разбіўшыся на парачкі, выдыбаюць па вуліцы. Хлопцы блукаюць у абдымку з дзяўчатамі, перамаўляюцца, смяюцца, дзяўчаты ўсе без выключэння ў штанах. Новыя вятры даляцелі і да Дубровы.

Тады, адразу пасля вайны, вечарам у вёсцы панавала цішыня. Клуба не было, ды і хлопцаў не было — не вярнуліся з вайны, і дзяўчаты, напрацаваўшыся на полі, на фермах, рана клаліся спаць. Якраз як хацеў Гавака. Дзіўна паводзіла сябе тое дзявочае пакаленне. З дзяўчат, равесніц Высоцкага, добра калі дасталіся мужы хоць палавіне. Пяць гадоў ён ездзіў па

вёсках, начаваў, дзе прыйдзецца, але ні разу не было выпадку, каб якая-небудзь з дзяўчат, што не выйшлі замуж і ведалі, што не выйдуць, набівалася на кароткую сувязь. Здаецца, ведалі незамужнія ўдовы толькі цяжкую мужчынскую працу ды сумныя песні на полі. Ціха, без слова пратэсту сышлі ў свой жаночы нябыт.

Тут, у Дуброве, у даўнія пасляваенныя гады цялятніцай працавала адна з такіх — Анастасія Хвядосаўна Бурак. Высоцкі некалькі разоў пісаў пра яе ў газеце. Маленькая, рухавая, з густым засевам вяснушак на вузкім някідкім тварыку, яна была незвычайна самаахвярнай. Калгасныя цяляты падалі ад бяскорміцы, і яна гатавала ім пойла з уласнай бульбы.

Гэта было яшчэ да таго, як у Дуброву прывязлі старшынёй Гаваку. Аднойчы зімовай ноччу праз Дуброву праязджаў сакратар абкама, заўважыў святло ў калгасным хляве і зазірнуў на агеньчык. Насця Бурак якраз адпойвала знямоглых цялят. У хуткім часе яе вылучылі дэпутатам Вярхоўнага Савета.

Яна і ў часы дэпутацтва ферму не пакінула, даглядала цялят, але мужык знайшоўся — хітраваты рахункавод, які да сарака гадоў прахадзіў бабылём. Калі Насця зацяжарыла і надышоў час, яе як дэпутата адвязлі ў горад, у раддом, там яна нарадзіла двойню — хлопчыка і дзяўчынку, але каб прывезці парадзіху назад, у Дуброву, Гавака каня пашкадаваў. Насця з блізнятамі на руках прайшла пятнаццаць вёрст — ад горада да вёскі — і яшчэ лазовую калыску прынесла на плячах — купіла на базары.

Гаваку за яго ўчынак пакаралі — райкам вынес вымову.

Палітзаняткі, мабыць, скончыліся, бо святло пагасла ва ўсіх школьных вокнах. Галі няма — Высоцкі не ведае, што думаць. Парачкі разбрыліся, цяпер на вуліцы гуртам выдыбаюць тыя студэнты, што сядзелі на ганку клуба, па-ранейшаму пад перазвон гітары яны спяваюць. Наводдаль ад студэнтаў, каб асабліва не кідацца ў вочы, блукае Высоцкі.

Яго агортваюць невясёлыя думкі: стары, пасівелы дзядзька, а раўняецца з моладдзю. Калі толькі пачынаў выкладаць, розніца ў гадах паміж ім і студэнткамі, якія заўсёды складалі большасць філфака, была невялікая. Але ішоў час, студэнткі,

атрымаўшы дыпломы, разляталіся, на іх месца прыходзілі новыя, а ён заставаўся ў ранейшай ролі. Перад вачамі нібы ілюзія вечнай маладосці. Можа, ён і паддаўся гэтай ілюзіі? Але чаму Галі няма? Можа, ёй сорамна хадзіць з ім па вуліцы, таму і ўхілілася ад сустрэчы...

Пры думцы, што ён не пабачыць Галю, нічога ёй не скажа, яму робіцца да адчаю сумна і пуста. Ён цяцер дакарае сябе за тое, што не падышоў да геолагаў, не павітаўся з Галяй: не прапанаваў прагуляцца. Няшчасны закаханы антрапас, чалавек у футляры. Дайшоў да таго, што на мігах прызначыў прыгожай жанчыне спатканне. Пляваць яна хацела на яго мігі. Яна над ім проста смяецца. Жанчына любіць, калі перад ёй схіляюцца. Няхай сабе і немаладыя. Любіць настойлівасць. Перамагаюць настойлівыя...

Ён між тым блукае і блукае.

Позна ўжо, студэнтаў не чуваць — мабыць, разышліся па хатах. Агнёў стала менш — Дуброва спіць. Думкі ў Высоцкага мітусяцца, набягаюць адна на другую, ён як бы дайшоў да ўтрапення, гатовы цяпер на самы безразважлівы крок. Зараз ён у каго-небудзь спытае, дзе начуюць геолагі, пойдзе туды і выкліча Галю. Лепш за ўсё ў дзяжурнай спытаць. У гасцініцы ёсць дзяжурная...

Ён паварочвае, крочыць да гасцініцы і на ганку бачыць Галю. На ёй лёгкі плашчык, яна стаіць на ніжняй прыступцы, і як бы злёгку пацепвае плячамі. Заўважыўшы Высоцкага, здаецца, нікольки не здзіўляецца.

— Дзе вы былі? — задыхаючыся, не могучы ўтаймаваць хвалявання, пытае ён.— Я вас увесь вечар шукаю.

— На буравой баракі. Там мы начуем.

— І геолагі там? — зусім недарэчы вырываецца ў Высоцкага.

— Там. Дзе ім быць? — Яна адказвае як бы з выклікам.

— Галя!.. Вы ўсё ведаеце. Я яшчэ ў горадзе сказаў.

— Правядзіце мяне. Я ўжо лягла спаць, ды галава разбалелася. Рашыла прайсціся.

Яны ідуць у напрамку буравой. Дарога падымаецца на ўзгорак. Узышоў месяц, і ланцужок агнёў, што блішчаць у

вёсцы, як бы змізарнеў. Светла і хараша пры месячным ззянні. Наваколле як бы ахутана хісткім туманам.

— Я не хацеў падыходзіць да вас у сталовай,— гаворыць Высоцкі.— Незнаёмая кампанія.

— Правільна зрабілі.

— Чаму вы не пачакалі мяне?

Галя маўчыць. Дзіўная зброя ў жанчын — маўчаць, калі не хочацца адказваць. Гэтак жа рабіла Клара. Ніколі не адказвала на вострыя пытанні. На вуліцы з ім не паказвалася, нават тут, у Дуброве. Берагла аўтарытэт. Строгі доктар у белым халаце. Цікава, як у яе было з завучам? Няўжо паводзіла сябе такой жа зацятай манашкай?

Ноч ціхая плыве. Дзесьці кукарэкнуў певень, забрахаў сабака. І зноў цішыня.

— Ведаеце, пра што думаю? — пытае Высоцкі.

— Пра што?

— Пра тое, што не можа ўся зямля зрабіцца горадам і не трэба, каб рабілася.

— Не разумею, пры чым тут горад?

— Вы ж паэт у душы, Галя, і павінны мяне зразумець. Вось гэтую зямлю, неба, месячнае святло, зоркі, дрэвы, траву па-сапраўднаму можна адчуць толькі ў вёсцы. Калі я бачу ўсё гэта тут, ды яшчэ ўвосень, на мяне патыхае вечнасцю. Восеннюю жыццё як бы замыкае круг, каб вясной распачаць новы. Пахне прывялая трава, і падае з дрэў жоўтае лісце. Так было і так будзе. І перад тварам вечнасці пагаджаешся з тым, што ў жыцці не ўдалося, што страціў назаўсёды і ніколі не вернеш. Верне нехта другі. Асоба як бы яднаецца з сусветам і з усімі астатнімі людзьмі...

— Вы мяне закалыхваеце. Як тады ў парку,— яна прыкметна ажывілася.

— Я выкладчык, і гэта мая прафесія.

— Вы цікава гаворыце.

— Дзякуй за пахвалу.

Не даходзячы да дубоў, яны павярнулі і рушылі назад да вёскі.

— Праз тыдзень я паеду,— сказаў Высоцкі.

— Праз тыдзень? — у голасе яе пачуўся несхаваны страх, і яна спынілася. Пры святле месяца ён бачыў яе твар — разгублены, спалоханы, у вачах блішчалі слёзы. Як там, у парку, яго захліснула хваля пяшчотнасці, удзячнасці, жалю, ён зрабіў спробу прыхінуць яе да грудзей. Але яна рашуча, нават груба вырвалася з абдымкаў.

— Аляксандр Іванавіч, я немаладая. Мне трыццаць два гады. Ведайце, я думаю пра вас. Ноч не спала, калі ўбачыла вас ва ўніверсітэце. Пайду за вамі, толькі пазавіце. Проста так — не магу... Ніколі не магла. Я ўжо была замужам...

— Позна, Галя,— сказаў Высоцкі.— Нікуды вас не пазаву.

— Ведаю. Я ўсё пра вас ведаю,— яна выгукнула апошнія словы з адчаем, праз слёзы і адразу, зніціўшыся, сагнуўшыся, кінулася прэч.

Анямелы, знішчаны, з гарачым камяком, які падступіў пад грудзі, ён стаяў на дарозе і пазіраў ёй услед...

## XIV

Ціха балела душа...

Настрой самаахвярнасці — салодка-шчымлівы, пакутлівы — не пакідае Высоцкага з тае начной хвіліны, як на ўзгорку за Дубровай ён разышоўся з Галяй. У вачах стаіць яе вобраз, ён чуе яе адчайны голас, адчувае ўсю яе шчырую, даверлівую, і ў той жа час непакорную і гордую. Ён яшчэ не сустракаў такой жанчыны.

Думкі, пачуцці мітусяцца, блытаюцца. Раніцай, калі ён устаў з ложка, не звёўшы пасля начнога спаткання вачэй, першым яго жаданнем было пабегчы на буравую, знайсці Галю і шчыра, прыязна ёй усё растлумачыць. Ён жа нічога ад яе не патрабуе, згодны, каб толькі зрэдку напісаць ліст, атрымаць адказ, а калі надарыцца магчымасць — сустрэцца. Навошта рашуча, бязлітасна рваць тое, што толькі так прыгожа намецілася?

На буравую ён, аднак, не пайшоў. Нейкі ўнутраны голас як бы падказвае, што Галя зрабіла правільна. Выбіраць трэба адразу. Пазней яшчэ цяжэй будзе выбіраць...

Дзіўна, ён разважае нейкімі маштабнымі катэгорыямі: малады газетчык, які прыязджаў у Дуброву, пісаў заметкі, нарысы, няўдала заляцаўся да Клары, і сённяшні выкладчык са сталічнага ўніверсітэта ў яго ўяўленні зліваюцца ў адну асобу, як бы пазбаўленую прыкмет узросту. Асобу гэтую абмінула інтымнае, асабістае шчасце, таму яна трымаецца на пачуцці супраціўлення і можа выстаўляць да жыцця рахункі. Ён адчуваў сябе пакрыўджаным і абыдзеным. Няхай!..

Хвілінамі наплывае няўрымслівая злосць на Галю. Яму тады ўяўляецца, што яна цнатлівая, непрыступная толькі з ім, бо адчула, што ён усёй душой пацягнуўся да яе, жанчыны ў такіх справах вострыя: сама падагравала яго пачуцці і, давёўшы іх да найвышэйшага накалу, адышлася ўбок. Сваю маладосць выстаўляе як надзейную гарантыю. Хіба не ведала, не ўяўляла яго становішча? Але ён жабраком не быў і ніколі не будзе. Кахання не просяць!..

Раніцай на «Волзе» з горада прыехаў Гарох — раздабрэлы, мажны, але з зусім сівой галавой. Высоцкага пазнаў адразу, прыязна павітаўся.

— Ты, я чуў, стаў прафесарам,— сказаў са сваёй заўсёднай, някрыўдлівай насмешлівасцю.— А я хто? Калі быў не стары, мог таксама пайсці ў інстытут, нават звалі.

— Не прыбядняйцеся,— абараніў Высоцкага Іванькові́ч.— У яго няма вашых ордэнаў і да героя не прадставяць. У сэнсе дабрабыту цяперашні старшыня перадавога калгаса — ого!..

— Вазьмі сабе мой дабрабыт,— без злосці адрэзаў Гарох.— Я магу нормы па комплексу ГТО здаць. Бо дваццаць гадоў бегаю. Як ганчак...

Гарох павёў паказваць комплекс: цагляныя будынкі, каровы ў станках, поўная механізацыя. Некалі так вадзіў Высоцкага Гавака. Толькі якія тады былі фермы — звычайныя хлявы. Сустракаючыся з даяркамі, даглядчыцамі, Гарох жартуе, у размовах яго, загадах, якія аддае людзям, няма і ценю ўладнага тону, а толькі развага, упэўненасць, што толькі так і трэба зрабіць; ён усміхаецца, і яму ўсміхаюцца, няма нацягнутасці, няшчырасці, паддобрывання, якое адразу кідаецца ў вочы новаму чалавеку. Гавака нікому не ўсміхаўся, носячы на твары

хмурую зацятасць. Мала хто ведае: асабіста Гавака быў сумленны, арцельнага дабра не браў ні каліва, не меў звычаю вадзіць упаўнаважаных з раёна ў чыю-небудзь хату. Калі паважаў каго, клікаў да сябе. Аднак яго не любілі ў Дуброве, не цярпелі, нават помсцілі. Два разы палілі хату. Пасля першага пажару — хата стаяла наводшыбе — ён пабудаваў новы дом на старой вуліцы, дзе будыніны ціснуліся ўпрытык адна да адной. Але і вуліцы не пашкадаваў нехта: у час другога пажару змяло агнём ледзь не палавіну. Гавака і трэці дом пабудаваў, на людзях аб'явіў, што застрахаваў на вялікія грошы. Тады супакоіліся.

Але сам Гавака сарваўся: меў звычай абходзіць ноччу гаспадарку і застаў вартаўніка, калі той на дзяжурстве спаў. Ударыў яго колам і перабіў нагу. Можа, ён падазраваў вартаўніка як падпальшчыка? Так ці іначай завялі судовую справу, вартаўнік быў інвалідам вайны, і Гавака сеў на пяць гадоў.

Жыццё нейкім бокам павярнулася да Гавакі несправядліва: Дуброву, няхай сабе суровымі, дэспатычнымі мерамі, ён падняў, даваў па тры кілаграмы на працадзень, калі другія не давалі нічога, і гэтакі бясслаўны канец...

Дзень не ў прыклад учарашняму хмурнаваты, паўзуць па небе шэрыя, калматыя воблакі, і нават вецер усчаўся. Восень. У горад Высоцкі з Іваньковічам вяртаюцца бліжэйшай дарогай — учора наўмысна далі кругу, каб паглядзець раён, Нафтабуд. Іваньковіч раптам прамовіў:

— У вас стомлены выгляд, Аляксандр Іванавіч. Кідайце к чорту гасцініцу. Хіба там выспішся? «Міжкалгасбуд» мае прафілакторый — асобныя пакоі, лес, цішыня. Хочаце, пазваню начальніку?

— Дзе прафілакторый?

— Ля Прыпяці. За Валокамі. Восем кіламетраў ад горада. Аўтобус ходзіць.

Дзіўныя справы бываюць на свеце. За Валокамі рэдакцыя садзіла гай Перамогі, тыя дрэвы даўно выраслі, і Высоцкі вельмі хацеў там пабываць. Нават Галю запрашаў. Цяпер пабудзе адзін. Дзякуй табе, добры чалавек Іваньковіч!..

# XV

Дні хмурыя, асеннія, час ад часу накрапвае дождж, у вяршалінах сосен аднастайна шуміць вецер. Лес, які некалі садзіла рэдакцыя, вырас: высока падняліся бярозы, сосны і нават дубы. Сосен найболей — найлепш прыжыліся на пясчаным касагоры. Бярозы нібы аблітыя золатам стаяць, а рэдкія дубы яшчэ зялёныя, жоўтага лісця няшмат.

Вырас лес, і, мабыць, мала хто памятае, чые рукі яго садзілі, і не знойдзеш дрэва, якое ты пасадзіў. Ад гэтага ў Высоцкага шчымлівы сум на душы. Бывае, вецер дыхне мацней звычайнага, і тады з бяроз зрываецца мітуслівая пасма жоўтага лісця. Залатая замець з хвіліну трымаецца ў паветры, круціцца нібы ў нябачным віры, затым асядае на верасковы дол. Пад кожнай бярозай — круг жоўтага лісця. Гэта тое, якое само падае. Тое, якое зрывае вецер, прыкметнымі палоскамі разаслана на верасе і наводдаль ад дрэў.

Гектары, пасаджаныя гараджанамі, прылягаюць да бору, які суцэльнай паласой цягнецца ўздоўж Прыпяці. Зялёная ахоўная зона.

Соснам тут гадоў па сто, растуць на прыволлі, гамоняць з вятрамі. Пад соснамі катэджыкі прафілакторыя, які належыць «Міжкалгасбуду».

У апошнія дні з раніцы Высоцкі едзе маршрутным аўтобусам у горад, у інстытут, прымае залік, вярнуўшыся, да прыцемкаў блукае па лесе. Іншы раз ён выбіраецца на бераг Прыпяці, даходзіць да вёсачкі Валокі — яна размешчана на схілах глыбокага яра — ціхія хаткі пад дубамі, мычанне кароў, бляянне коз, на вяроўках, нацягнутых між дрэў, сушыцца бялізна.

На процілеглым ускраі равуць экскаватары, гусенічныя трактары стальнымі тросамі вырываюць з зямлі пні — ладная дзялянка лесу раскарчавана, распачынаецца новая будоўля.

Людзей па асеннім часе ў прафілакторыі мала. Тыя, што тут адпачываюць, збіраюцца ў холе, да паўночы глядзяць тэлевізар.

У Высоцкага ўтульны пакойчык, а ў ім пісьмовы стол, мяккае крэсла, перад акном гойдае веццем сасна. Сядзі па

вечарах і пішы. Але з таго дня, як ён перабраўся з гасцініцы, не напісаў ні радка. Нават рукапіс не вымаў з чамадана.

На стале тэлефон, тэлефонная кніга, надрукаваная ў мясцовай друкарні. Ладны сшытачак у дэрмацінавай вокладцы, назва адціснута залатымі літарамі. Можна пазваніць, бадай, у кожную вёску, пагаварыць са старшынёй калгаса, брыгадзірам, дырэктарам школы і многімі іншымі людзьмі, прозвішчы якіх змешчаны ў тэлефоннай кнізе. Шмат знаёмых прозвішчаў, па даўняй завядзёнцы ў кожнай вёсцы свае — але што за людзі за імі, Высоцкі не ведае. Тых, каго ён памятаў, няма, сышлі са сцэны, пенсіянерам у сельскай мясцовасці тэлефоны не ставяць.

У Дуброву, на буравую таксама можна пазваніць: ёсць два тэлефоны. Жаданне пачуць Галін голас было настолькі моцным, што Высоцкі не вытрымаў і пазваніў. У заклапочаным мужчынскім голасе, калі ён папрасіў пазваць да тэлефона Хмялеўскую, не пачулася здзіўлення, але праз хвіліну — у пакоі наперабой размаўлялі, спрачаліся — той жа голас паведаміў, што Хмялеўская ў горадзе.

Ён тут жа пазваніў у гасцініцу, пагаварыў з дзяжурнай. Не, ніхто да яго не прыходзіў, не пытаўся, не цікавіўся...

Настаў дзень развітання. Прыехаўшы ў горад, Высоцкі зайшоў у інстытут, пакінуў у пакойчыку дэкана чамадан і адразу рушыў на вуліцу, на якой размешчана новая гасцініца, і якая, як ён ведаў, за апошнімі дамкамі прадмесця пераходзіць у глыбокі яр. Ён спусціўся на дно гэтага пароспага рабінай і дубовымі кустамі яра, спадзеючыся знайсці палаткі геолагаў. Іх не было. Нарэшце немаладая, апранутая ў ватоўку і валёнкі з галошамі жанчына, якая пасвіла карову, сказала Высоцкаму, што палаткі знялі яшчэ тыдзень назад.

Вярнуўшыся ў горад, ён зайшоў у гасцініцу — выкладчыкі, з якімі Галя прыехала, жылі ў ранейшым пакоі. Студэнты, мабыць, проста перабраліся куды-небудзь пад дах, бо стала холадна.

Да вечара, да балючай стомы ў нагах блукаў ён па парку, па вуліцах, спадзеючыся на цуд, на тое, што Галя, магчыма, таксама яго шукае.

Галі ён не сустрэў, затое на вуліцы нос у нос сутыкнуўся з Вайнштэйнам. У таго загарэлы бронзавы твар, вясёлыя іскрынкі ў вачах, рухавасці яшчэ болей прыбавілася.

— Адпачыў, брат, што трэба. Сіняе мора, сонца, бесклапотнасць. Хоць раз у год трэба вырывацца з прывычнага асяроддзя. Само сабой, адну цікавую асобу сустрэў. Спачатку не надта хінулася — сівы, кульгавы — а потым нічога. Яшчэ ёсць порах у парахаўніцах...

Вайнштэйн таварыства не забыў, зваў у госці, але Высоцкаму было не да гэтага. Вечарам ён паехаў з горада. На душы было такое ж пакутлівае адчуванне страты, як і ў далёкія маладыя гады, калі ў трохі ранейшую асеннюю пару ён развітваўся з горадам, з Кларай, едучы на вучобу ва ўніверсітэт.

## XVI

Мінуў год. Зноў ахуталіся жаўталісцем лясы. Педінстытут, размешчаны ў надпрыпяцкім горадзе, адзначаў трыццацігадовы юбілей — столькі часу прайшло з той, яшчэ вогненнай ваеннай пары, калі ён упершыню расчыніў дзверы для дзяцей палешукоў.

Уручыць інстытуту прывітальны адрас, сказаць юбілейную прамову паслалі Высоцкага.

Ён ехаў у горад юнацтва з зусім іншым настроем, чым у мінулую восень. Душа, абпаленая нечакана выніклым пачуццём, моцным, салодкім і горкім адначасова, падабрэла і палагаднела.

Яго каханне было падобнае на летнюю навальніцу — кароткую, але бурлівую, магутную, пасля якой ярчэй зелянее трава, лісце на дрэвах, абнаўляецца зямля.

Ён, здаецца, цяпер ведае пра каханне нават болей, чым у свае маладыя гады. Тое, на якое спадзяваўся ён, немалады, не вельмі рашучы мужчына, здзейсніцца не магло. Ва ўсякім выпадку, так, як ён аб ім марыў і з такой маладой жанчынай, якая трапілася на ягоным шляху. Няроўныя былі сілы, якія змагаліся ў вірлівай плыні пачуцця…

Ён хацеў песціць сваё каханне, нібы далікатную кветку, у патайных схованках, не паказваць яго людзям, лагодна,

асцярожна грэцца каля яго цяпельца. Яна так не магла. Ёй, яе абражанай душы трэба была адкрытая ўзаемнасць, гатоўнасць яго, мужчыны, не азіраючыся, спаліць масты да былога, нават паступіцца, у выпадку патрэбы, сваім становішчам…

Задуменныя стаяць у асенняй пазалоце лясы. Яшчэ адзін год скончыўся, вясёлая зеляніна мая стала жаўталісцем, праз тыдзень-два, самае большае праз месяц, яна ўпадзе на дол і, зрэшты, знікне назаўсёды. Што значыць лісце на дрэвах у вечным кругавароце жыцця, у тым, што кожную вясну дрэва апранае зялёныя шаты, каб восенню, калі яны стануць залатымі, асабліва прыгожымі, скінуць іх, застацца з голымі, чорнымі галінамі, сукамі да наступнай вясны? Дзякуючы лісцю дрэва расце. Але праходзіць час, старэе само дрэва. На тым месцы, дзе былі дуб, сасна, могуць падняцца бяроза і асіна…

Так ці іначай, але ён, Высоцкі, добра пражыў апошні год. Нібы ў магнітным полі высокага напружання. Шмат пісаў, працаваў, не ведаючы стомы. Паездка ў горад юнацтва, сустрэча з маладой жанчынай нібы ўзвіхрыла прыспаныя сілы, вызваліла іх з палону.

Зноў, як і мінулай восенню, ён жыў у той самай гасцініцы, хадзіў па знаёмых вуліцах. Ён ведаў — уступіла ў строй першая чарга нафтахімкамбіната, які перапрацоўваў мясцовую нафту, але ў самім горадзе асаблівых перамен не адбылося. На набярэжнай узводзіліся два ці тры новыя будынкі, гула, пераязджаючы жалезны мост над ракой, бясконцая чарада грузавікоў і самазвалаў.

Прыпяць цякла гэтак жа спакойна, павольна, як год назад, як і тады, калі Высоцкі жыў у родным горадзе.

Урачысты вечар прайшоў як належыць — віншавалі юбіляра, на стале прэзідыума вырасла горка папак з прывітальнымі адрасамі, стаяла шмат падарункаў.

Другая, неафіцыйная частка здзівіла Высоцкага: ніколі ён не бачыў такога раскошнага банкета, які здолеў наладзіць правінцыйны інстытут. У актавым зале былі накрыты сталы чалавек на трыста, трункі, закускі маглі выклікаць захапленне нават у сталічнага жыхара.

Карціну незвычайнага інстытуцкага багацця растлумачыў Вайнштэйн — і ён, і рэдактар газеты Іванькoвіч, які мільгнуў у натоўпе, таксама запрошаны на банкет:

— Ведай нашых. Край падымаецца, заяўляе пра сябе, а яго мазгавы трэст — інстытут. Усе прадпрыемствы, якія ёсць у горадзе і за горадам, унеслі на банкет свой пай. Галоўнае — расцём і хочам паказаць, што не лыкам шыты. А цябе віншую. Навошта таіўся, што напісаў кнігу?..

Галоўная нечаканасць была, аднак, наперадзе. Калі былі сказаны першыя тосты, выпіты першыя чаркі, а бясконца доўгае застолле наперабой загаманіла, Высоцкі павярнуўся да суседа і не паверыў вачам: на месцы незнаёмага хлопца сядзела Галя. На ёй строгая, цёмная, аздобленая белым каўнерыкам сукенка, валасы, як у дзесяцікласніцы, спушчаны на плечы, але выраз профілю той жа арліны, твар як бы трохі гуллівы, і неяк весялей свецяць шэрыя з зелянінкай вочы.

Ён глядзеў на яе, не могучы слова прамовіць.

— Хачу выпіць з вамі,— сказала Галя.— За мінулую восень і вашу аповесць. Вы сталі пісьменнікам. А я заняла ваша месца...

— Якое месца? — недаўменна спытаў ён.

— Перайшла ў газету. Цяпер жыву тут. Толькі не ведаю, ці даганю вас. Пісаць так цяжка...

На гэтым вечары ўсё мела нейкі рэзон: шматлюдны банкет, якім горад як бы заяўляў аб сваім узрослым значэнні, маладая жанчына-геолаг, што стала журналісткай, бо нетры края нясуць яму дабрабыт, славу, і пра гэта трэба пісаць чалавеку дасведчанаму.

Яны выпілі па кілішку.

Высоцкі і да гэтага трохі сп’янеў, цяпер зусім узрушыўся, гледзячы Галі ў вочы, шчыра прызнаўся:

— Летась я паверыў, што вярнулася маладосць. Таго, што з вамі, не адчуваў даўно. Закахаўся, як хлапчук. Аповесць дзякуючы вам напісана...

Яна нічога не адказала, толькі ледзь прыкметна ўздрыгнулі вусны.

— Чаму вы летась болей не паказаліся? — ціха спытаў ён.— Я вельмі пакутаваў.

— І я пакутавала. Вы не свабодны, і я звязаная...

У куточках яе вачэй навярнуліся слёзы, і яму стала да болю шкада яе. Было такое адчуванне, што ён з ёй не развітваўся, і не было нічога таго, што пралягло між імі за гэты год.

— Вы нешта новае пішаце? — спытала яна.

— Пішу.

— Цяпер без мяне?

— Без вас.

Ён увогуле быў трохі бесклапотны ў гэты вечар, як бы адчуваў сябе пераможцам і за гэта жорстка заплаціў. Падышоў з налітай да краёў чаркай дэкан, затым Іванькові, зноў Вайнштэйн, віншавалі з літаратурным поспехам, ён загаварыўся з імі і не заўважыў, што Галі побач няма. Яна знікла гэтак жа непрыкметна, як і з'явілася.

Востра і балюча адчуў ён Галіну адсутнасць, калі пачаліся танцы. Дзеля танцаў вызвален вялізны фізкультурны зал — ён знаходзіцца на другім паверсе, там грыміць меднымі трубамі аркестр, і туды спускаюцца падвыпіўшыя выкладчыкі і госці.

Як выдыбаюць у вальсах і танга інстытуцкія кандыдаты навук, дацэнты, якія ў іх узбуджаныя, прасветленыя твары! Высоцкі іхнюю радасць разумее, бо гэта іх свята, той рэдкі Юр'еў дзень, які выпадае гады ў рады, і ў які яны могуць дазволіць сабе раскошу танцаваць, весяліцца, бо заўтра, паслязаўтра пацягнуцца бясконцыя лекцыі, семінары, пасяджэнні.

Мог і Высоцкі з Галяй вось гэтак танцаваць, кружыцца, усміхацца і размаўляць. Увесь год ён думаў пра яе, і яму было ёй пра што расказаць. Але ён не знайшоў патрэбных слоў, каб Галя з ім на гэты вечар засталася.

Банкет, танцы працягваліся ледзь не да самай раніцы. Да канца Высоцкі не вытрымаў — пайшоў у гасцініцу.

Назаўтра была нядзеля — выхадны дзень — і Высоцкі зноў ад'язджаў з горада. Нечакана падзьмуў халодны пранізлівы вецер, цэлымі ахапкамі абрываючы з дрэў і носячы ў паветры жоўтае лісце пасаджаных наўзбоч вуліцы ліп і таполяў.

Калі аўтобус уз'язджаў на мост цераз Прыпяць, Высоцкі раптам убачыў Галю. Яна расхаджвае па беразе з тым самым белявым брыгадзірам мантажнікаў, якога Высоцкі мінулай во-

сенню часта бачыў у чайной. Галя размахвае рукамі, штосьці даказвае. Здагадка не падвяла, значыць, той хлапчына яе муж. Жанчына апранута ў белы світар, яе шыя абвязана шарфам, канцы якога развяваюцца ў паветры. Рукі, якія Галя раз-пораз выцягвае, і гэтыя трапяткія канцы шарфа робяць яе падобнай на птушку, якая збіраецца ўзляцець.

*1976*

# ІНТЭРНАТ НА НЯМІЗЕ

## I

Вуліцы Нямігі, той самай Нямігі, якая пад назвай ракі ўпамінаецца ў «Слове аб палку Ігаравым», цяпер няма. Замест яе пралёг прамы, нібы аршын, праспект, наўзбоч не захавалася ніводнага прыземістага дамка, якія тады, адразу пасля вайны, у разбураным, спаленым Мінску былі прытулкам і прыстанішчам студэнтаў.

Мікалай Іванавіч, рэдактар газеты, калі выбіраецца на рэдкую ў яго побыце вячэрнюю праходку (газета не выходзіць толькі па панядзелках) ці нават днём, калі надараецца магчымасць пашастаць па кніжных магазінах, крамах, заварочвае на Нямігу, кіруючы на месца, дзе некалі размяшчаўся інтэрнат. Паблізу таго месца ўзвышаецца высозны дом з бетону і шкла, асяродак нейкай тэхнічнай канторы. Астатняя прастора капітальна яшчэ не забудавана. На самой плошчы інтэрнацкага двара — доўгі, аднапавярховы, відаць, часова ўзведзены гандлёвы павільён, за ім, таксама часовая, піўная.

У піўной, як цяпер заведзена, амаль заўсёды ёсць піва, таўчэцца народ, прыкупляючы да пеністых кухляў кавалачкі скумбрыі, другіх марскіх і нават акіянскіх рыб, закліканых замяніць воблу, якой даўно няма ў паміне.

Мікалай Іванавіч стаіць у чарзе, выпівае кухаль піва, хоць рабіць гэта не варта: для сваіх пяцідзесяці з хвосцікам гадоў ён залішне мажны, даўно нажыў прыкметны жывоцік, які выпірае з-пад пінжака, нібы гуз.

Зрэшты, ёсць рэчы, на якія трэба глядзець паблажліва. Едзем, так сказаць, з кірмашу.

У гадзіны бяссонніцы, якая апошнія гады наведвае Мікалая Іванавіча ўсё часцей, перад вачамі паўстаюць малюнкі мінулага. Нібы на экране, выплываюць ваколіцы роднага мястэчка, пыльная дарога ў лес, разлівы верасоў сярод рэдкіх сасоннікаў. Іншы раз ён бачыць вуліцы, плошчы Мінска, прычым тыя, якія даўно знесены, перабудаваны і існуюць толькі на старых здымках і ў памяці.

Мікалай Іванавіч іншы раз сустракае таварышаў па ўніверсітэту. Яго цёзка, фізік, сягнуў высока — акадэмік, дырэктар праслаўленага інстытута, лаўрэат розных прэмій. Другі, таксама фізік, хмуры, заўсёды прыгнечаны, партызан, даўно памёр, дажыўшы да сарака гадоў, так і не здолеўшы закончыць кандыдацкую дысертацыю.

Ва ўсіх, хто жыў у інтэрнатах на Нямізе, жыццё, як кажуць, зроблена. Асаблівых успышак яно ўжо не дасць. Федзя Бакуновіч — самы вясёлы насельнік іхняга пакоя — дацэнт, штогод выдае кніжачкі, якія расказваюць абітурыентам пра матэматычны факультэт. Міша Зільберштэйн — цяпер Міхаіл Аронавіч — заслужаны дырэктар дзесяцігодкі на Палессі. З тых пасляваенных даўніх студэнтаў з двума-трыма Мікалай Іванавіч выпадкова сустракаўся: адзін раённы партыйны работнік, другі перайшоў на гаспадарчую работу, загадваў сталовай.

Дзіўна — з дваццаці сямі гадаванцаў журналісцкага курса, на якім вучыўся Мікалай Іванавіч, з вясёлых, трохі самаўпэўненых, трохі бесклапотных юнакоў і дзяўчат, якія, здаецца, усё на свеце ведалі, не засвяцілася хоць зорачкай ні адно імя. Выключэнне, бадай, можна зрабіць для аднаго Задарожнага, рэпартажы якога час ад часу з’яўляюцца ў вячэрняй газеце. Між тым дэкан, іншае факультэцкае начальства менш за ўсё бачылі ў асобе Задарожнага журналіста.

Ніякага знаку не падалі аб сабе многія з тых, з кім у далёкія студэнцкія гады сыходзіліся ў Мікалая Іванавіча сцежкі-дарожкі. Ні разу не пабачыў ён Асі Ляшчынскай, нават ніколі нічога пра яе не пачуў...

# II

У Мінск Мікола Кавалюк прыехаў у самым канцы пераможнага сорак пятага года. Вопратку меў пярэстую: салдацкі шынель, пашыты з зялёнага англійскага сукна, ялавыя кавалерыйскія боты з высокімі, да каленяў, халявамі — раздабыў іх у якасці трафея ў Нямеччыне — і ў шапцы-кубанцы, якой узнагародзіў бацька-чыгуначнік.

Кавалюк нарадзіўся на Палессі, яго мясцовасць была вызвалена ад акупацыі раней, чым астатняя Беларусь,— у канцы сорак трэцяга года, таму на фронце ён пабыў болей за хлопцаў, якія жылі на Міншчыне ці пад Слуцкам. Ён пабачыў шмат разбітых, спаленых гарадоў, быў за вайну пад Ленінградам, у Эстоніі, Літве, Польшчы, Германіі, Чэхаславакіі, але такіх страшных руін, як у Мінску, нідзе не бачыў. Сталіца яго рэспублікі нібы Богам выклята: адразу, са станцыі, горад праглядваецца на многія кіламетры ва ўсе чатыры бакі, бо горада, уласна, няма, ляжыць узгоркаватае, зацярушанае снегам поле, на якім, нібы адзінокія дрэвы пасля суцэльнай высечкі, стаяць паасобныя шкілеты абгарэлых, закураных будынін з пустымі, цёмнымі праёмамі вокнаў. Тым не меней горад жыве: у розных кірунках бягуць заклапочаныя людзі, пад падэшвамі іх чаравікаў, бурак, бахіл, звычайных, падвязаных вяроўкай атопкаў парыпвае падмерзлы снег, і можна толькі здзіўляцца, дзе знаходзяць сабе харч, жытло, занятак людзі-мурашкі.

Кавалюка асабліва не здзіўляюць, не ўражваюць руіны, пажарышчы, нават смерць, бо мноства людзей, якіх ён ведаў, да якіх меў дачыненне, загінулі. З самага пачатку вайны гінулі яго школьныя таварышы: у акупіраваным мястэчку, у партызанах, на фронце.

Нешта ў душы, мабыць, зламалася, і, можа, ад гэтага Кавалюка часта апаноўвае абыякавасць. Але маладосць бярэ сваё, гоіць раны. Галоўнае пачуццё, якое валодае Кавалюком,— здзіўленне, радасць, што жывы. Нібы нанава на свет нарадзіўся. Мог загінуць, а жывы. Нібы яго асобе быў прадвызначаны нейкі адметны шчаслівы лёс.

На апошнім годзе вайны Кавалюк скончыў месячныя курсы «Выстрал» — з іх выходзілі малодшымі лейтэнантамі, займаў

пасаду камандзіра ўзвода. З грашовага забеспячэння, якое клалася на вайсковую ашчадную кніжку, трохі назбіралася. Тым не меней у Мінск ва ўніверсітэт ён прыехаў з вельмі абмежаванымі сродкамі. Грошы расталі, як першы снег, за час двухтыднёвага яднання Кавалюка з сябрамі, якія таксама асталіся жывыя. Дзіва няма: надзвычай малая, проста мізэрная вага першых мірных грошай.

Універсітэт размяшчаецца ў двух абпаленых, са слядамі копаці на сценах будынках, на скорую руку адрамантаваных, і яшчэ ў адным, складзеным з чырвонай цэглы асабнячку, які, здаецца, застаўся мала пашкоджаным сярод суцэльных руін і разбурэння. Побач з закуранымі карпусамі стаяць прысадзістыя драўляныя баракі. У іх маюць прывілею жыць толькі выкладчыкі.

Яшчэ адно пачуццё валодае Кавалюком: ён хоча спакою. У калонах нахадзіўся, прагне аднаасобнага жыцця ў тым сэнсе, каб сам, а не хто-небудзь за яго прымаў рашэнні. Мабыць, ён трохі стаміўся. Калі лічыць разам з партызанствам, то ў паходах правёў тры гады. Дзе толькі не начаваў, не жыў. Здаралася — самыя нечаканыя, незвычайныя мясціны давалі прытулак. Таму і ў Мінск прыехаў з лёгкай душой, зусім не клапоцячыся аб тым, дзе знойдзе прыстанак. Вайна навучыла гэта рабіць хутка і бяздумна. Можна нават сказаць, што ў душы Кавалюка яшчэ не выветрыўся авантурны дух, які таксама спарадзіла вайна, навучыўшы знаходзіць выйсце з цяжкіх і самых заблытаных становішчаў. Кавалюк лёгка заводзіць знаёмства з кім бы ні захацеў, умее распытаць, дазнацца пра тое, што яго цікавіць.

Упрытык да абсмаленых універсітэцкіх карпусоў прытуліўся двухпавярховы катэдж, які фасадам выходзіць на вуліцу. Дзве бярозы развесілі шацёр галін над катэджам, вокны завешаны фіранкамі, жытло дыхае ўтульнасцю, спакоем. Цяжка нават паверыць, што такое магчыма ў нашчэнт вынішчаным горадзе.

Кавалюк дазнаўся — катэдж займае рэктар універсітэта. Слова высокае, недасягальнае, з дамешкам незразумелай урачыстасці.

Кавалюк хоча паступіць ва ўніверсітэт, на факультэт журналістыкі. Чаму журналістыкі? Даўно-даўно, калі яшчэ не

было вайны, а Кавалюк падбіраўся да той вяршыні, якая называецца дзесяцігодкай, звернутае ў асмужаную далеч будучыні, час ад часу трывожным аганьком успыхвала пытанне: куды паступаць? Адказ ужо быў: у КІЖ.

Дзесьці Кавалюк вычытаў, што ў Мінску ёсць Камуністычны інстытут журналістыкі, скарочана КІЖ. Гэта гучала ўрачыста, тым больш што Мікола любіў друкаванае слова, літаратуру. Школьнага сачынення чакаў, як свята, укладваў у яго душу, і не раз здаралася, што яго ўкладанне настаўнік зачытваў перад класам.

Даваенны КІЖ знік, яго не аднавілі, затое, па чутках, адкрыўся факультэт журналістыкі ў славутым БДУ. Хто з юнакоў, дзяўчат даваеннай пары не марыў паступіць у БДУ?..

Разгляд напаўразбураных універсітэцкіх будынін заняў не шмат часу. У той жа дзень у вестыбюлі ўцалелага цаглянага корпуса Кавалюк пазнаёміўся з чарнявай, шустрай, як змейка, жанчынай, якая — страшна падумаць — была прафесарам. Яна сама, нячутна выслізнуўшы з нейкага пакоя, першая падышла да Кавалюка:

— Мяне завуць Марыя Андрыянаўна Пятроўская-Элентух. Я прафесар філалогіі. Вы чаго хочаце, малады чалавек?

— Паступіць ва ўніверсітэт,— пры гэтым Кавалюк расхінуў шынель, каб прафесару льга было заўважыць ордэн і медалі на яго гімнасцёрцы.

— На які факультэт?

— На журналістыку.

Адказ, здаецца, узмацніў цікавасць, увагу прафесаршы да асобы Кавалюка.

— Любіце літаратуру?

— Вельмі.

— Я іду на заняткі. Пойдземце са мной. Я прадстаўлю вас дэкану Ліхтаровічу.

Кавалюк ужо ведаў: ідуць у школу, дзе займаюцца студэнты.

Вісела над горадам нізкае чырвонае сонца. Было холадна, рыпеў пад нагамі прамерзлы снег.

Марыя Андрыянаўна шчыра распытвала, дзе, на якіх франтах ваяваў Кавалюк, што чытаў, якіх пісьменнікаў любіць, і, уражаны гэтай цікавасцю, яўнай яе прыхільнасцю да яго, ён

адказваў з натхненнем, выкладваў запаветныя думкі, такія нават, якія б перад кім-небудзь другім не раскрыў.

— Вы развіты,— сказала прафесарша Кавалюку.— Вам можна паступаць адразу на другі курс.

Ён быў на сёмым небе.

Твар у Марыі Андрыянаўны някідкі: вузкі, зморшчаны, тонкія вусны неяк грэбліва стулены, з-пад шэрай вязанай хусткі выбіваецца пасмачка пасівелых валасоў. Уся постаць здаецца сухой, выпетранай. Між тым відавочна: жыве ў немаладой, з выгляду мізэрнай жанчыне нязгасны дух і імпэт.

Незразумелыя справы пачалі тварыцца, як толькі Кавалюк з прафесаршай прыйшлі ў школу, дзе ў другую змену пасля вучняў займаліся студэнты. Ліхтаровіча на месцы не аказалася, Марыя Андрыянаўна пайшла на лекцыю, папрасіўшы Кавалюка пачакаць у калідоры. Ён гадзіну прастаяў ля акна, назіраючы, як згушчаюцца сінія зімовыя змрокі і запальваюцца сярод руін і пустых каробак рэдкія агні, і быў балюча расчараваны, калі прафесарша, выйшаўшы з класа, мінула Кавалюка, не пазнаўшы яго. Яна не толькі яго не пазнала, але нават забыла пра яго. І калі ён, падышоўшы, нагадаў пра сябе, наморшчыўшы лоб, хвіліну ўспамінала, хто ён такі, нарэшце злосна загадала:

— Ідзіце да дэкана і скажыце, што я вас рэкамендую.

Было ўжо цёмна, кароткі зімовы дзень скончыўся, шукаць дэкана Кавалюк не пайшоў. Трэба было падумаць аб прыстанішчы.

Ён, як і спадзяваўся, лёгка ўладкаваўся на вольным ложку ў студэнцкім інтэрнаце, знайшоў новых сяброў.

Размова з дэканам адбылася назаўтра. Ліхтаровіч — малога росту, з інтэлігентным тварам, на якім вызначаюцца наўмысна запушчаныя вусы і бародка. Замежны мундзір колеру хакі з шырачэзнымі плячамі, жоўтыя юнраўскія чаравікі з гетрамі не зусім пасуюць да шчуплай дэканавай фігуры. Але вопраткай, вусамі, наогул усім выглядам дэкан, здаецца, хоча падкрэсліць значнасць сваёй асобы.

— Марыя Андрыянаўна рэкамендуе мяне на другі курс,— прамовіў Кавалюк.

— Вы першы скончылі?

— Яна лічыць — мая падрыхтоўка дастатковая.

— Калі яна так лічыць, міласці просім,— дэкан гаворыць відавочна з'едлівым, нават здзеклівым тонам.— Здайце прадметы за першы курс, за першы семестр другога курса. Накіраванні да экзаменатараў выпішу хоць зараз...

Кавалюк адчуў: авантурны франтавы дух трэба з сябе выганяць.

— На першы курс прымеце?

— Пры ўмове здачы залікаў за першы семестр. Не забывайце, малады чалавек, прайшла палавіна навучальнага года.

— Як будзе са стыпендыяй?

— Прызначым. Як толькі здасцё залікі...

Вось так. Трэба спускацца на зямлю.

З франтавых грошай засталіся дзве пакамечаныя сторублёўкі. Па цэнах, якія навакол пануюць, па размаху, з якім прывык жыць Кавалюк, іх самае большае хопіць на тыдзень.

Выйсце падказаў той жа Ліхтаровіч. Нечым яму ўсё-такі спадабаўся самаўпэўнены франтавік.

— Можаце паступіць на падрыхтоўчае аддзяленне,— параіў.— Стыпендыю там дадуць адразу. Або на завочнае...

Наконт падрыхтоўчага аддзялення Кавалюк трохі ведае. Начуючы ў інтэрнаце, адразу займеў двух сяброў — чарнявага, з прыгожым, як у дзяўчыны, тварам, Жэню Пупко і добразычлівага, цікаўнага студэнта фізіка-матэматычнага факультэта Мікалая Барычэўскага. Жэня якраз з падрыхтоўчага аддзялення. Ціхенька прызнаўся Кавалюку, што да вайны скончыў толькі шэсць класаў. Цяпер за адзін год мусіць адолець астатнія стромкія вяршыні сярэдняй школы.

У Кавалюку загаварыў абражаны гонар. Не, падрыхтоўчае аддзяленне не для яго!.. За чатыры гады ён шмат чаго забыў, але за плячамі ў яго ўсё-такі дзесяцігодка. Што яму рабіць разам з падшывальцамі, як Жэня Пупко?

Завочнае аддзяленне ў цагляным уцалелым асабняку, які знешнім і ўнутраным выглядам Кавалюку падабаецца.

Зайдзі ў вестыбюль і па правую руку адразу ўбачыш пакоік з вялікімі зашклёнымі дзвярамі, закладзенымі фанерай, каб не зыркалі цікаўныя. Незвычайная цішыня пануе ў асабняку. У

вестыбюлі на парудзелай сцяне мерна такае гадзіннік у старамоднай драўлянай скрынцы. Пад гадзіннікам столік, крэсла. Сядзіць бабуля-вахцёрка, вяжа панчоху, пранікліва аглядаючы з-пад акуляраў кожнага новага наведвальніка.

Прарэктар па завочнаму аддзяленню, высокі, з кучаравай галавой і прыемным тварам, прыняў Кавалюка ветліва. Адразу выняў з шуфляды папку, каб завесці справу на новага завочніка. На папцы напісана іншае прозвішча, але прарэктар яго акуратна закрэсліў, зверху надпісаў Кавалюкова і толькі тады пачаў разглядаць дакументы.

З дакументаў у Кавалюка толькі даведка сярэдняй школы, якая замяняе атэстат. Але тым не меней яна цалкам задавальняе прарэктара.

— Вы, мабыць, вучыліся на «выдатна»? — асцярожна пытае ён.

— Было дзве чацвёркі.

— Не істотна. Ёсць падставы прыняць вас без экзаменаў. Напішыце заяву.

Чвэрці гадзіны не прайшло, а Мікола Кавалюк ужо студэнт-завочнік першага курса БДУ. Таго самага БДУ, які да вайны не ўдалося скончыць не толькі нікому з местачкоўцаў, а нават ніводнаму з настаўнікаў, якія вучылі Кавалюка. Няўжо ён будзе першы, хто прабіўся ва ўніверсітэт?

— Сесія праз месяц,— паведамляе прарэктар завочнага факультэта.

## III

Уладкаваўшыся з вучобай, Кавалюк адразу ўладкаваўся на працу. Можна лічыць — знайшоў месца ў мірным жыцці. Паступіў на пасаду ўласнага карэспандэнта абласной газеты. Ён атрымаў «куст» — тры суседнія раёны. Жыць меўся ў сваім раённым мястэчку, у бацькавай хаце, а ў астатнія мясціны час ад часу наязджаць.

Ён праявіў патрэбную актыўнасць: завёў знаёмства і нават дружбу з супрацоўнікамі раённай газеты, якая выдавалася ў мястэчку, каб сёе-тое ад іх пераняць, пачаў наведваць райвы-

канкам, райза, іншыя арганізацыі, пра работу якіх раней амаль нічога не ведаў.

Жыў, аднак, вайной. Найлепшымі часінамі былі вячэрнія, калі, зачыніўшыся ў другой палавіне бацькавай хаты, паставіўшы на табурэтку лямпу, чытаў да позняй ночы часопісы, у якіх пачыналі друкавацца першыя творы аб мінулай вайне.

Бацькава хата мае непасрэднае дачыненне да вайны. Тут, як і яшчэ ў некалькіх мястэчковых хацінах, па акупацыйным часе збіраліся школьныя хлопцы. Адны прыдыбалі з палону, акружэння, другіх па маладых гадах у армію не бралі, але тыя і другія вельмі хутка аб'ядналіся, бо інакш нельга было жыць. Да Кавалюка найчасцей прыходзілі Іван Скварчэўскі, Мікалай Банэдык, Саша Плоткін — найбольш блізкія дружбакі. Вечарам, затапіўшы ў грубцы і не запальваючы святла, сядзелі перад ёй, пазіралі ў зыркі агонь і гаварылі пра вайну.

Пазней бацькава хата бачыла больш небяспечныя рэчы. На брыжы грубкі, у тым месцы, дзе між ёй і ўнутранай сцяной утвараецца цёмны прамежак, Кавалюк хаваў лістоўкі, газеты, якія на пачатку акупацыі скідваліся з самалётаў. Адзін час — цяпер падумаць страшна — у гэтым ненадзейным тайніку ляжаў наган, дэтанатары.

Было дзіўна чытаць пра вайну, бачыць яе рэальнай, блізкай — колькі ў бацькавай хаце адбылося патаемных размоў пра падзеі на фронце — і адначасна ведаць, што вайна пераможна скончылася.

Вайна мінула. Хто чым дыхае, у вайну добра праявілася, але водгаласы недаверу, насцярожанай падазронасці засталіся. Паступіўшы на працу ў газету, Кавалюк зрабіў спробу афіцыйна пацвердзіць дзейнасць мястэчковых падпольшчыкаў. Сведкаў, удзельнікаў нядаўняй патайной работы ў мястэчку шмат. Апытай іх усіх — і карціна стане яснай. Тым болей што ў маскоўскім часопісе пачалі друкавацца першыя раздзелы рамана А. Фадзеева «Маладая гвардыя». Чытаючы часопіс, Кавалюк бачыў: патрыятычная чыннасць моладзі ў далёкім Данбасе нічым не адрозніваецца ад іхняй, мясцовай.

Сакратар райкама партыі, у кабінет да якога прыйшоў Кавалюк, хмуры, з хваравітым жоўтым тварам чалавек, выслухаў яго ўважліва.

— Прыйдзіце праз тыдзень. Трэба параіцца з некаторымі таварышамі.

Праз тыдзень сказаў:

— У вашай групе былі розныя людзі. Да вас асабіста прэтэнзій няма. Працуйце, вучыцеся.

Стала ясна: не толькі ўзвышаць маладых барацьбітоў, як гэта робіць Фадзееў, а нават пацвердзіць ці адмовіць іх чыннасць ніхто ў раёне не збіраецца.

Нягледзячы на гэта, прывабна свецяць мірныя дні. Дымяць каміны, у вячэрнім змроку цямнеюць хаты, парканы, голыя галіны дрэў. Ялавымі кавалерыйскімі ботамі Кавалюк грукае па замерзлым грудзе местачковых вуліц, дыхае паветрам, у якім спалучаюцца даўнія знаёмыя пахі — паленага бульбоўніку, кастрыцы, прымёрзлых яблык — і, бадай, штохвіліны яго пранізвае радаснае адчуванне: хадзі як хочаш, патруль не спыніць.

За тыя два гады, калі Кавалюк быў у арміі, амаль усе знаёмыя дзяўчаты раз’ехаліся па інстытутах. Яны раней за яго прылучыліся да мірнага жыцця.

Пра Марыну Севярнёву Кавалюк стараецца не ўспамінаць. Яна першая растаптала тое, у што ён верыў, знаходзячыся на фронце. Іх сяброўства пачалося ў школе, з фронту ён слаў Марыне лісты, яна адказвала. Там, на вайне, Кавалюк лічыў, што Марына мусіць яго чакаць, бо ён глядзеў смерці ў вочы і не раз мог загінуць і адным гэтым заслужыў яе вернасць. Марына, аднак, па-другому думала: адказвала на лісты і пагульвала з вайскоўцамі, якія лячыліся ў местачковым шпіталі. Цяпер у горадзе, дзе выходзіць абласная газета, вучыцца ў настаўніцкім інстытуце.

Два разы Кавалюк, спецыяльна прыязджаючы ў абласны горад, спатыкаўся з Марынай. Хадзілі ў кіно, па дарозе ён расказваў пра фронт, баі, сваё раненне, узнагароды. У трэці прыход у яе пакойчыку застаў маёра. Гэта быў таксама местачковец, які паступіў у ваеннае вучылішча яшчэ да вайны і цяпер служыць у кадравай арміі. Марына пачырванела, разгубілася. Кавалюк развітаўся і пайшоў, не паспеўшы пахваліцца, што ён не толькі студэнт-завочнік універсітэта, а яшчэ і карэспандэнт абласной газеты.

Крыўда пячэ Кавалюка. Марына нанесла першы ўдар ружовым ілюзіям, якія ён быў выпеставаў на вайне.

Праз месяц ён зноў прыехаў у зімовы, зацярушаны снегам Мінск. Як карэспандэнт паспеў няшмат: надрукаваў у газеце дзве-тры дробныя заметкі. У тагачасным ягоным жыцці першая завочная сесія стала найбольш важнай падзеяй.

Як раўнапраўны студэнт, няхай сабе завочнік, Кавалюк у першы дзень прыезду атрымаў ад гаспадарлівага каменданта-ўкраінца коўдру, падушку, два прасцірадлы, ложак у інтэрнаце. У дадатак яго прымацавалі да сталоўкі. Што болей трэба?

Лекцыі вядуцца ў строгай, з высокай столлю, зале на другім паверсе ўцалелага цаглянага корпуса, дзе размяшчаецца і пакойчык завочнага аддзялення. Як даведаўся Кавалюк, тут да рэвалюцыі была гімназія.

Лектары зусім не падобныя да школьных настаўнікаў, якіх памятае Кавалюк. Не, яны не зніжаюцца да сваіх слухачоў, з галоў якіх за доўгія гады вайны выветрылася нават школьная навука, не разжоўваюць, не імкнуцца пакласці гатовае ў рот, яны кідаюць у залу высокія, часта незразумелыя словы, здаецца, зусім не цікавячыся, даходзіць іх сэнс да студэнтаў ці не.

Гэта выдатна. Дэкан факультэта журналістыкі Ліхтаровіч у тым жа, што месяц назад, замежным мундзіры з накладнымі кішэнямі, шырокімі плячамі, з той жа інтэлігенцкай бародкай, вусамі, з дня ў дзень два тыдні ўзапар гаворыць пра Эсхіла, Сафокла, Эўрыпіда і іншых старажытнагрэчаскіх пісьменнікаў, якія жылі, тварылі амаль тры тысячы гадоў назад. Тры тысячы гадоў! А ў іхніх творах героі гавораць зусім зразумелымі словамі, жывуць клопатамі, турботамі, пачуццямі, якія таксама не цяжка зразумець.

Высокі, марудлівы ў жэстах і словах дацэнт Мігай расказвае пра старажытную Індыю. Перш чым пачаць лекцыю, ён падрабязна апавядае пра сябе, заяўляе студэнтам, што напісаў кнігу па гісторыі Індыі, якая, на жаль, не друкуецца, бо няма паперы.

На наступнай лекцыі Мігай бязлітасна разбівае надрукаваную кнігу на гэтую тэму другога аўтара, у якой знаходзіць пераважна адны памылкі, скажэнне гістарычнай праўды.

Вывад недвухсэнсоўны: кнігу суперніка Мігая, падышоўшы крытычна, чытаць можна, але лепей не чытаць.

Студэнты лёгка з гэтым пагаджаюцца: навошта чытаць няўдалую кнігу? Яны старанна запісваюць лекцыю, маючы на ўвазе, што Мігаю, а не каму-небудзь другому прыйдзецца здаваць экзамен.

Кавалюк заўважыў: Марыя Андрыянаўна, тая самая прафесарша, што раіла яму адразу паступіць на другі курс, спадабалася ўсім. Шустрая, рухавая, як мышка, з неахайна прычэсанымі завіткамі сівых валасоў, яна чытае лекцыю на дзіва маладым голасам. Можна нават сказаць свяшчэннадзейнічае на лекцыі, выказваючы найвышэйшую замілаванасць да свайго прадмета — сучаснай рускай мовы, а таксама да паэта Ігара Севяраніна, які, па яе словах, яўна недаацэнены цяперашнім дый і папярэднім пакаленнямі. Марыя Андрыянаўна чытае на памяць вершы Севяраніна: яны гучныя, звонкія, прыгожыя. Кавалюка, аднак, асабліва не кранаюць.

Курс асноў марксізма-ленінізма выкладае сляпы дацэнт. На лекцыю яго прыводзіць жонка, а можа, сястра, кволая, бледнатварая жанчына, апранутая ва ўсё чорнае. Страшнавата глядзець у твар выкладчыка. Пазіраючы невідушчымі вачамі некуды ў столь, ён тлумачыць прадмет талкова, даходліва, цікава.

Штосьці прывабнае і адначасна сумнае ў выглядзе студэнцкай аўдыторыі. Такіх, як Кавалюк, прыкметная меншасць, большую частку залы займаюць людзі не першай маладосці, дэмабілізаваныя капітаны, нават маёры, настаўнікі, настаўніцы, якія адпрацавалі ў школе шмат гадоў, не пакаштаваўшы вышэйшай адукацыі, а таксама выпускнікі сярэдніх школ, якія з-за вайны, ды і не толькі з-за вайны, прыпазніліся з навукай.

Дысцыпліну сярод студэнтаў наводзіць не трэба. Як толькі заходзіць выкладчык, наступае мёртвая цішыня. Выкладчык сярод такіх слухачоў сапраўды можа адчуваць сябе богам. Кожнае яго слова ловіцца на ляту. Такіх, хто проста сядзіць, абыякава слухае, няма. На кожны прадмет заведзен тоўсты сшытак, канспекты вядуць усе.

У зімовую сесію адзін экзамен — па асновах марксізма-ленінізма. Кавалюк, хоць спецыяльна не рыхтаваўся, здаў яго

бліскуча. Ужо вечарам, калі зусім згусціўся вячэрні змрок, ён пачуў, што сляпы выкладчык прымае экзамен, і рынуў у аўдыторыю. Яна была амаль пустая — адказваў апошні студэнт. Білетаў не было, кожнаму экзаменатар задаваў пытанне. Ён неяк адчуў, што яшчэ адзін студэнт сядзіць, чакае, і павярнуў твар у бок Кавалюка. Жанчына яму штосьці шапнула. Пытанне здалося нават залішне лёгкім: «Перамога ў Айчыннай вайне». Усім, хто ў шынялі, як пазней высветлілася, выкладчык ставіў такое пытанне.

— Можаце падумаць,— сказаў ён.

Думаць асабліва не трэба. Кавалюк ледзь не на памяць ведае брашуру Сталіна «Аб Вялікай Айчыннай вайне» — больш года па ёй праводзіліся заняткі ў арміі. Але пачаў не з брашуры. За час вайны ён пабыў ва Усходняй Прусіі, самой Германіі, шмат разоў бачыў кнігу Гітлера «Майн кампф», як і кнігу другога фашысцкага прарока Альфрэда Розенберга «Міф дваццатага стагоддзя». Яны траплялiся ледзь не ў кожнай нямецкай кватэры. Не, ён не чытаў гэтых кніг, хоць нямецкую мову збольшага вывучыў яшчэ ў даваенную пару, а за час вайны ўдасканаліў. Але месца тое, дзе Гітлер гаворыць пра заваёву новых зямель на ўсходзе, на памяць ведае.

Расказваючы пра агрэсіўную палітыку фашызму, Кавалюк і цытату да месца ўспомніў, прывёўшы яе, зразумела, на нямецкай мове. Гэта канчаткова пакарыла выкладчыка.

— Выдатна! — гучна вымавіў ён.

У аўдыторыю тым часам зайшло яшчэ некалькі студэнтаў.

## IV

На Кавалюка як на студэнта ўніверсітэта ў рэдакцыі з павагай паглядаюць. Вядома, не за адно толькі тое, што ён студэнт. За паўгода працы ў газеце ён дасягнуў многага. Стаў друкаваць не толькі заметкі, карэспандэнцыі, а да нарыса і фельетона ўзняўся. Не кожнаму гэта ўдаецца.

Аднак часцей і часцей ён задумваецца над тым, каб перабрацца ў Мінск на сталую вучобу.

З радасцю едзе на летнюю сесію, якая мусіць цягнуцца паўтара месяца. Завочнікаў на яе з'явілася, бадай, удвая менш,

чым было зімой. Жыццёвыя клопаты мацней за імкненне вучыцца. Тыя, хто жанаты, мае сям'ю, так і абмежаваліся той першай зімовай сесіяй.

Папрацаваўшы наканаваныя два тыдні на разборцы руін, студэнты-стацыянарнікі раз'ехаліся, і цяпер завочнікі паўнаўладныя гаспадары нешматлікіх аўдыторый, інтэрнатаў, якія размяшчаюцца непасрэдна на тэрыторыі Універсітэцкага гарадка.

Мінск патроху ажывае. Жыццё, як і раней, найбольш кіпіць на ўскраінных вуліцах: цэнтр у руінах. Затое на галоўных, цэнтральных вуліцах кідаецца ў вочы будаўнічы рух. Зруйнаваны горад-пераможца прыцэльваецца пры гэтым нават на нешта лепшае, што меў да вайны: уцалелыя закураныя каробкі будынін, якія можна адрамантаваць, хутчэй пасяліць у іх бяздомных людзей, нішчаць нашчэнт, збіраючыся, відаць, узводзіць на іх месцы хароміны-палацы.

На шматлюдным, гаманкім базары ржавы, сярэдніх памераў селядзец каштуе дваццаць пяць рублёў, буханка фармавога хлеба — сто.

Грошай, якія бухгалтэрыя рэдакцыі налічыла Кавалюку за чарговы адпачынак, пры такіх цэнах можа не хапіць. Але дапамог выпадак.

На завочнае аддзяленне ўніверсітэта падахвоціўся паступаць Міша Шнеерсон, загадчык прамысловага аддзела газеты, зусім сівы ў свае дваццаць тры гады і кульгавы ад нараджэння. У рэдакцыі Міша атрымліваў літэр «Б», Кавалюк жа ў раённым мястэчку — толькі хлебную картку і вельмі нерэгулярна партактываўскі паёк, памеры якога не мелі акрэсленасці і залежалі ад настрою старшыні райспажыўсаюза. Да намесніка міністра гандлю Гольдберга Кавалюк са Шнеерсонам разам пайшлі прасіць літэры.

У намесніка міністра добрае сэрца. Стараючыся не пазіраць на шырачэзны, з чужога пляча замежны пінжак у шахматную клетку, які вісіць на худым Кавалюку, як на палцы, нават не цікавячыся даведкамі, ён выпісвае літэр «Б» абодвум студэнтам.

Раптоўнае шчасце на тым і канчаецца. У магазін, куды Кавалюк са Шнеерсонам з'явіліся атаварваць карткі, уладальнікаў

літэраў ацанілі па іх фактычнай вазе. Па картках належыць атрымаць тлушч, цукар, мяса, але колькі яны ў магазін ні завітваюць, нічога гэтага для іх няма. Месяц тым часам канчаецца, прыходзіцца высокакаларыйныя прадукты замяніць арэхавым маслам, якога ніхто не бярэ. Хітрыя гандляры абвялітакі вакол пальца студэнтаў. Але зрэшты можна есці і арэхавае масла, хоць наліпае яно на зубы і проста сцягвае сківіцы.

Літэр «Б» дае права на палепшанага тыпу сталоўку. Тут Кавалюк мае непрыемнасць па другой прычыне. Падобны на генерала дзяжурны дзед у ліўрэі, штанах з залатымі лампасамі, які стаіць пры ўваходзе, штодня правярае ў яго пропуск, не могучы паверыць, што чалавек у вялізным, нібы крадзеным, касцюме-балахоне мае доступ да лепшай у горадзе сталоўкі. Сівога, кульгавага Шнеерсона прапускае без затрымкі — вось што значыць акуратна прыгнаны пінжачок і акуляры на загнутым, як у ругана, носе таварыша.

Між тым сесія выкіроўваецца някепска. Разбураны горад млее ад гарачыні. Трымціць над застыглымі абпаленымі каробкамі разагрэтае паветра. Раздолле вераб'ям: у руінах колькі месца для гнёздаў. Яны кладуць яйкі другі раз за лета.

Універсітэцкі гарадок — зялёны востраў у разбураным горадзе. У скверы спляліся разлапістымі шатамі таполі, акацыі, ліпы. Калі збрыдзее ляжаць у прасторным, як стадола, інтэрнацкім пакоі, дзе адначасова размяшчаецца дваццаць ці трыццаць чалавек, выйдзі ў сквер, сядзь на лаўку пад дрэвы, грызі граніт навукі там. Можаш на хвіліну адарваць вочы ад кнігі, паслухаць, як ціліўкаюць вераб'і, і зноў чытаць. Праца, адпачынак у адной нераздзельнай гаме. Што можна прыдумаць лепшае?

Гарачыня між тым не спадае, і ў душу Кавалюка час ад часу закрадваецца трывога. Газета, у якой ён працуе, пераважна займаецца пытаннямі сельскай гаспадаркі. Дый без газеты Кавалюк ведае, што такое лета без дажджу. Першы мірны год, жанчыны ў некаторых калгасах вясной на сабе аралі, капалі зямлю рыдлёўкамі, а колас на тым палітым потам, слязьмі полі высахне, не паспеўшы наліцца.

Сярод завочнікаў вылучаецца ядро, якое шчыра прагне за паўтара месяца авалодаць тым, чаго стацыянарнікі

дамагаюцца за паўгода. Кавалюк не паверыў бы, каб сказалі, што можна шэсць ці восем гадзін слухаць лекцыі, весці канспекты, а тады яшчэ столькі ці нават больш сядзець, нібы прывязанаму, над кнігай. Да ліку найбольш зацятых зубрыльшчыкаў належаць два лабатыя браты Бірулі — адзін гісторык, другі філолаг; шчарбаты, з чырвоным, нібы дуля, носам настаўнік з-пад Баранавіч Дземідзюк-Астапчык — сваім выглядам, гаворкай ён падобен на вясковага дзядзьку; шыракатвары, дабрадушны лётчык-капітан з шырокай лентачкай ордэнскіх калодак на гімнасцёрцы, які, пабачыўшы сваё неба, хоча спусціцца на зямлю, стаць журналістам. Іх усіх пераседжвае настаўнік геаграфіі з-пад Клецка Клявец. Невядома, калі ён спіць,— засынаеш, ён яшчэ сядзіць над кнігай, закрыўшы рукамі вушы, каб нічога не чуць; устаеш гадзін у шэсць-сем раніцы — ён ужо сядзіць. Клявец два гады завочна навучаецца ва ўніверсітэце, і ў яго заліковай кніжцы адны пяцёркі.

Ёсць сярод завочнікаў, акрамя Кавалюка, супрацоўнікі газеты. Адзін працуе ў мінскай маладзёжнай газеце, другі — у піянерскай. Першы, з круглай, нібы цыбуліна, галавой, малады, а ўжо лысы, повен гонару і пыхі. Ходзіць — ног пад сабой не чуе, нікога з таварышаў не пазнае, ні з кім не вітаецца. Пра яго вядома, што вучыцца адначасова ў партыйнай школе, адны і тыя ж прадметы здае тут і там, часта адным і тым жа выкладчыкам.

Другі журналіст, па прозвішчу Астахоўскі,— той, што ездзіць па раёнах і абласцях з мандатам піянерскай газеты,— вялікі жартаўнік. І твар у яго адметны: з насмешлівымі шэрымі вачамі і вялікім, загнутым на левы бок носам. З часу заканчэння вайны мінуў толькі год, але Астахоўскі за гэты час паспеў перамяніць дзве газеты, ажаніцца, нават жонка паспела надакучыць яму, і, паехаўшы ў дальні раён, ён даў ёй адтуль тэлеграму, што памёр. Ахопленая роспаччу, на спадарожных машынах жонка кінулася ў раён, куды ён паехаў, а муж-«нябожчык» тым часам сядзіць у чайной і піва п’е.

Людзі, якія паступілі завочна вучыцца,— пераважна партызаны, франтавікі. Часта і тое і другое разам. Прыйшлі пасля вызвалення з лесу і трапілі ў армію. Розніца ва ўзросце адчувальная: каму дваццаць гадоў, каму — трыццаць. Аднак

тое і другое пакаленне выхавана школай, кнігай, тым своеасаблівым грамадскім кліматам, які панаваў у краіне да вайны. Хлопцы, дзяўчаты гэтага пакалення здавалі нормы на розныя абаронныя значкі, ішлі ў аэраклубы, скакалі з парашутных вышак. Яны як бы свядома рыхтавалі сябе да цяжкіх выпрабаванняў, і мала іх вярнулася з вайны.

У Кавалюка вострая цікавасць да аднакурснікаў, да іншых студэнтаў, з якімі прыходзіцца сутыкацца. У кожнага чалавека свая ідэя жыцця, кожны валодае чымсьці такім, чаго не ведаюць другія і чым, ходзячы каля яго, можна ўзбагаціцца. Аднак пра вайну завочнікі не гавораць. Зацята маўчаць, нібы наўмысна пазбягаючы гаворкі, хоць кожнага яна кранула сваім чорным крылом. Чаму так?

Пра другіх Кавалюк не ведае, пра сябе можа сказаць. Не такая атрымалася вайна, як думалі. Песня «Любімы горад» харошая, але ў вайну ўсё складаней было. Цяпер цяжар перажытага, неасэнсаванага прыгнятае ўсіх. Салдат-пераможца прайшоў ад Волгі да Берліна. Нібы так і трэба было.

Ледзь не ў кожным нумары газеты партрэт Вярхоўнага Галоўнакамандуючага. Вайна скончылася, а Вярхоўны ў мундзіры з шырокімі пагонамі, вялізнай зоркай на іх.

Першы прадмет, які трэба здаць,— гісторыя старажытнага свету. Кавалюк акуратна ходзіць на лекцыі, вядзе канспекты, кожную вольную хвіліну выкарыстоўвае на чытанне падручнікаў. Прадмет адзін, кнігі тры — па гісторыі Грэцыі, Рыма, Усходу. Усе іх трэба прачытаць. Цары, эпохі, бясконцыя войны, паходы, магутныя імперыі, якія ўзвышаліся, падалі,— усё гэта перамяшалася ў галаве, і Кавалюк не ўяўляе нават, як будзе здаваць экзамен. Тым больш што амаль няма школьных ведаў.

У школе да вайны гісторыю выкладалі дрэнна. Па гісторыі СССР усё-такі былі выдадзены падручнікі — спачатку для трэцяга-чацвёртага класаў, затым — для старэйшых. Рым, Грэцыя, Усход — пра гэта настаўнікі гаварылі, зазіраючы ва ўласныя канспекты, якія вялі, мабыць, калі самі былі студэнтамі, і з гэтых канспектаў патроху дыктавалі для запісу ў сшыткі пяцікласнікам і шасцікласнікам.

Сямнаццаць дзён, не зважаючы на другія прадметы, чытае Кавалюк падручнікі па гісторыі. Прыйшоў нарэшце дзень здачы экзамену. Прымае Мігай. Глядзіць на Кавалюка паблажліва, пасля таго, як адказаў на асноўныя пытанні, задае дадатковае — аб рэлігіі старажытнай Індыі. У падручніку матэрыял пра рэлігію выдрукаваны дробнымі літарамі, як другарадны, і Кавалюк яго не чытаў. Таму, адказваючы, блытаецца, не ведае нават, як называюцца індыйскія жрацы. Мігай, аднак, ставіць «выдатна»: адчувае, мабыць, што тры тоўстыя кнігі па яго прадмету завочнік не толькі ў руках трымаў, а і чытаў.

З першага экзамену Кавалюк робіць вывад: не лезці ў бездань. Дый магчымасці ўжо няма лезці: наперадзе яшчэ восем экзаменаў. На падрыхтоўку да кожнага — дзень-два. Тут хоць бы канспект паспець прачытаць.

Кавалюк так і робіць. Канспект перад падручнікам мае тую перавагу, што ён кароткі. Яго можна прачытаць за вечар, больш таго, ён дае арыентацыю адносна навуковых сімпатый і антыпатый выкладчыка. Пры выпадку студэнты гэта ахвотна выкарыстоўваюць, ганьбячы таго, каму не сімпатызуе экзаменатар.

Ліхтаровічу Кавалюк адказвае пра аўтарства «Іліяды», «Адысеі» — яшчэ дома падчытаў матэрыял, адчувае сябе ў ім болей-меней упэўнена. Чамусьці асабліва хацелася не ўдарыць тварам у гразь перад Ліхтаровічам.

— Што ж,— гаворыць ён Кавалюку, ставячы «пяцёрку» ў заліковую кніжку.— Можа, вам сапраўды трэба было паступіць адразу на другі курс. Літаратуру ведаеце. Але не позна і цяпер...

Не забыў, значыць, дэкан даўняй зімовай размовы. «Пяцёрка» Ліхтаровіча штосьці значыць. Ва ўніверсітэце вядома: такімі адзнакамі ён не раскідваецца.

Экзамены па-рознаму прымаюцца. У некаторых выкладчыкаў загадзя падрыхтаваны білеты, другія проста задаюць пытанні, адны — прыдзірлівыя, корпаюцца ў дробязях, другія — велікадушныя, як багі, і задавальняюцца самым агульным, прыблізным адказам.

Дацэнт Арон Абрамавіч Шпільман, які чытае гісторыю сярэдніх вякоў, на лекцыі крычыць, як на мітынгу, размахвае

рукамі, пырскае слінай — з-за гэтага ніхто не садзіцца на першыя парты, перад якімі ён прахаджваецца,— на экзаменах, аднак, не праяўляе ніякай агрэсіўнасці. Ён нібы загадзя ведае, што з завочнікаў, як іх ні прыціскай, многа не выціснеш, і прымае экзамен, калі карыстацца тэрмінам педагогікі, брыгадна-лабараторным метадам. У аўдыторыі сядзіць адразу ўвесь курс, і Арон Абрамавіч, з магутнай паставай, з вялікай лысаватай галавой — не чалавек — манумент, кідае ў аўдыторыю адно за другім пытанні. Шкала наступная: хто адкажа на два пытанні, атрымае «выдатна», на адно — «добра», усе астатнія, у тым ліку і тыя, хто нават рукі не падымаў, мусяць задаволіцца «тройкамі».

Як ні дзіўна, Кавалюк ледзь не праваліўся ў Марыі Андрыянаўны, якая ўсім сыпала «пяцёркі» як з мяшка. Яна, вядома, не пазнала яго. Пытаючы пра вымаўленне рэдуцыраваных гукаў, папрасіла паказаць гэта па прыкладзе якога-небудзь верша Ігара Северяніна.

Прадбачлівыя студэнты спецыяльна хадзілі ў фундаментальную бібліятэку, дзе толькі і можна знайсці Северяніна, па некалькі строф паэта выпісалі на лісткі.

Кавалюк не пайшоў і мусіў за гэта заплаціць.

— Выганю,— зласліва папярэдзіла Марыя Андрыянаўна.

Усё ж пашкадавала: дазволіла падумаць.

Хвілін праз пяць ён сабраўся з духам і на прыкладзе блокаўскай «Незнаёмкі» назваў рэдуцыраваныя гукі. Але выдатнай адзнакі не атрымаў.

Сярод завочнікаў некалькі дзяўчат, якія з-за вайны гэтак жа, як хлопцы, запазніліся з вучобай. Большасць іх — настаўніцы вясковых школ з шэрымі, стомленымі тварамі, сяк-так апранутыя. Яны галавы не падымаюць ад канспектаў, падручнікаў.

Ёсць, аднак, сярод жаночай часткі арыстакраткі — на лекцыі спазняюцца, штодня мяняюць сукенкі, кідаючы на капітанаў, лейтэнантаў, якія сядзяць у зале, прызыўныя позіркі.

Асабліва выдзяляюцца дзве чарнявенькія, ладненькія сёстры — блізняты, пра якіх гавораць, што яны дочкі папа. Папоўны носяць аднолькавыя сукенкі, завіўкі, у іх вельмі

падобныя — не адрозніш адзін ад другога — смуглыя тварыкі і круглыя, адтапыраныя задкі.

Прызыўныя позіркі не застаюцца без увагі. Ваенныя людзі ў прамежках між лекцыямі ўспамінаюць пра свае рыцарскія абавязкі. Праз тыдзень з папоўнамі пахаджваюць два старшыя лейтэнанты. Пад выглядам сумеснай падрыхтоўкі да экзаменаў дзве парачкі іншы раз нават у аўдыторыі зачыняюцца.

Але, відаць, выбіраць трэба што-небудзь адно: навуку ці каханне. Сталася так, што ні папоўны, ні старшыя лейтэнанты ніводнага экзамену так і не здалі. Папоўны зніклі, і Кавалюк іх больш ніколі не бачыў.

Ёсць адна сапраўдная прыгажуня сярод завочніц. Бялявая, невысокая, паўнацелая, яна ні на кога не глядзіць, староніцца размоў, знаёмстваў. Заўсёды выбірае не занятую нікім лаўку — каб не перашкаджалі запісваць лекцыі. Але ёй не даюць спакою яшчэ больш, чым папоўнам. І не адны студэнты.

Кавалюк здаваў экзамен па гісторыі СССР, але выкладчык, з пабітым воспай тварам малады кандыдат навук, слухаў няўважліва. Нарэшце перабіў:

— Як прозвішча беленькай? Той, што асобна садзіцца?..

Гэтак жа няўважліва выкладчык ставіць у заліковую кніжку «чацвёрку», просіць:

— Знайдзі яе і скажы, няхай ідзе здаваць. Скажы — няхай не баіцца.

Лепш, чым на «чацвёрку», Кавалюк гісторыі СССР не ведае, але ўсё адно абражаны ў сваіх пачуццях. Шукаць прыгожай студэнткі не стаў — яна яму самому падабаецца. Хвілін праз колькі з аўдыторыі выскаквае выкладчык. Носіцца па калідоры, заглядае ў аўдыторыі. Але прыгожая студэнтка як скрозь зямлю правалілася.

## V

Першае мірнае лета...

Калі Кавалюк вярнуўся з сесіі, зноў пачаўшы вандраваць з карэспандэнцкім пасведчаннем па калгасах, была ўжо сярэдзіна жніўня. Засуха нашчэнт выпаліла зямлю. Ураджай мізэрны. Дні па-ранейшаму сухія, гарачыя. Пасля машын,

грузавікоў над дарогай падоўгу вісяць цёмныя воблакі пылу. Сям-там калгаснікі дакошваюць познія аўсы. Зерня няма — на салому. Старшыні калгасаў, брыгадзіры, размаўляючы з карэспандэнтам, адводзяць убок сумныя вочы.

На вайне, на фронце, зусім не такім бачылася мірнае жыццё...

Зерне, закінутае ў душу Кавалюка Ліхтаровічам, прарасло. Усё павабней вымалёўваецца перад ім магчымасць перабрацца ў Мінск на стацыянарную вучобу. Яго павінны прыняць — у заліковай кніжцы амаль адны «пяцёркі». Толькі з пустымі рукамі не паедзеш. Трэба хоць якія-небудзь капіталы.

Кавалюк стараецца часцей друкавацца. За месяц два нарысы, тры фельетоны напісаў. Не ўсё, аднак, ідзе ў друк.

У Мінск ён паехаў патаемна, не сказаўшы ў рэдакцыі пра свой намер.

Ехаць трэба праз Гомель, там чакаць увесь дзень, бо мінскі цягнік адпраўляецца вечарам. Гомель, як і Мінск, у руінах, развалінах. Немцы спалілі горад налётамі бамбардзіроўшчыкаў яшчэ летам сорак першага года. Нашы самалёты падчас акупацыі таксама бамбілі чыгуначны вузел.

Цяпер панылыя палонныя ў казыркастых шапках, заляпаных вапнай, зялёных шынялях аднаўляюць будынак вакзала. Стараюцца не надта, паднёсшы мулярам колькі цаглін, падоўгу адпачываюць, кураць, перамаўляюцца.

На высокім слупе ля вакзала вісіць рэпрадуктар. Ён грыміць увесь дзень, чаргуючы музыку, песні з рознай інфармацыяй. З рэпрадуктара Кавалюк пачуў навіну, да якой на першым часе не ведаў, як паставіцца. Побач з дзяржаўнымі цэнамі на хлеб і іншыя прадукты, што выдаюцца па картках, уводзяцца цэны камерцыйныя.

Тут, у Гомелі, ён адчуў, што такое камерцыйныя цэны. Хлеб ёсць, бяры колькі хочаш, але не вельмі возьмеш, бо за буханку трэба аддаць ледзь не сто рублёў.

У Мінск Кавалюк прыехаў раніцай, і яму надзвычай пашанцавала. За дзве-тры гадзіны сустрэў патрэбных людзей, уладкаваў справу з пераходам на стацыянар і нават ложак у інтэрнаце паспеў атрымаць.

На факультэце журналістыкі новы дэкан, але і ён прыняў Кавалюка лепей не трэба. Іосіф Маркавіч Штэйнман сам да

нядаўняга часу рэдагаваў гарадскую газету, таму ў асобе Кавалюка ўбачыў вельмі пажаданага на курсе чалавека з вопытам практычнай работы.

Затое ўпарціўся, нават раззлаваўся рэдактар абласной газеты, калі Кавалюк, вярнуўшыся з Мінска, прынёс заяву аб звальненні. Ды нечакана змяніў гнеў на міласць, здзівіўшы Кавалюка незвычайнай шчодрасцю: за дзве мізэрныя заметкі выпісаў ганарар, які дагэтуль карэспандэнту абласной газеты нават не сніўся.

І вось інтэрнат на Нямізе. На гэтай вуліцы два ўніверсітэцкія інтэрнаты: адзін размешчаны ў старамодным двухпавярховым дамку з рыпучай драўлянай лесвічкай, якая вядзе наверх; другі — ён метраў за трыста ад першага — займае пляскатае паўпадвальнае памяшканне, якое сваім знешнім выглядам нагадвае склад.

У Мінску ўцалелі толькі ўскраінныя вуліцы са старадаўнімі, такімі, як тут, на Нямізе, камяніцамі ці з драўлянымі дамкамі мястэчковага выгляду. Цэнтр жыцця як бы перамясціўся сюды: у любую пару дня тут людна і шумна.

Два Кавалюковы таварышы таксама ў Мінску, у лесатэхнічным інстытуце, які нядаўна перавялі з Гомеля. Іван Скварчэўскі — таварыш вельмі блізкі. Кавалюку цяпер дваццаць два гады, і гадоў дзесяць ён сябруе з Іванам. Іх дружба вайной праверана: калі Кавалюку трэба было знікаць з мястэчка, ён прыйшоў да Івана, сказаў, што трэба ісці ў лес, у партызаны, і Іван без ніякіх ваганняў рушыў з ім разам.

З другім мястэчкоўцам, Мікалаем Банэдыкам, Кавалюка зблізіла школа. У акупацыю Мікалай таксама належаў да падпольнай групы. Да самага вызвалення быў сувязным: з ім, прыходзячы з атрада, сустракаліся Іван Скварчэўскі і Кавалюк.

Лёс так скіраваў пуцявіны, што Банэдыку наогул прыйшлося ваяваць паблізу роднага дома. Двухтыднёвую вайсковую падрыхтоўку праходзіў у вялікім сяле, размешчаным вёрст за дваццаць на поўдзень ад мястэчка, на фронт трапіў у суседні раён.

У пачатку зімы сорак чацвёртага года Мікалая цяжка параніла ў жывот, і, праляжаўшы паўгода ў шпіталі, на фронт ён болей не вярнуўся — камісавалі.

Калі Кавалюк дэмабілізаваўся, сябры як на крылах прыляцелі ў мястэчка — інстытут тады знаходзіўся ў Гомелі. Збіраліся, частаваліся, успаміналі таварышаў, якія з вайны не вярнуліся. З дзявятага, дзясятага класаў з кожных пяці хлопцаў загінула чатыры. Найбольш жалкавалі па Грышку Плоткіну і Базылю Малендзе: разам з імі пачыналі падпольную работу. Плоткін загінуў ва Усходняй Прусіі, Базыля Маленду вывезлі ў Германію, там ён прапаў.

— Вып’ем за Ваську! — падымаў чарку расчулены Іван.

Базыль Маленда быў вялікім выдумшчыкам, леваком, ён, калі гаварыць шчыра, прынёс нямала згрызот групе, але цяпер, калі вайна скончылася, яго ўсё адно было шкада.

Сабраўшыся разам у Мінску, сябры сфатаграфаваліся, затым, зайшоўшы ў інтэрнат лесатэхнікаў, адзначылі сустрэчу невялікім пачастункам.

З таго часу мінула два тыдні, і ні разу Кавалюк да хлопцаў не завітаў. І яны да яго не ідуць. Чаму так? У мястэчку па акупацыйным часе яны дня не маглі пражыць, каб не наведаць адзін аднаго. Відаць, мірны час мае новыя колеры і настроі ў параўнанні з ваенным.

У інтэрнаце лесатэхнікаў — камуна. Гатуюць сняданне, абед, вячэру па чарзе, стыпендыю аддаюць выбранаму казначэю, ездзяць у Брэст, Баранавічы, у іншыя заходнія гарады і мястэчкі, дзе танней, чым у Мінску, можна купіць бульбы і сала.

У пакоі, дзе пасяліўся Кавалюк, нават думаць не выпадае пра камуну. Жыве ў ім шэсць чалавек, але ўсе з розных курсаў, факультэтаў — агульнага інтарэсу мала.

З насельнікаў пакоя найбольш прыкметны пяцікурснік Федзя Бакуновіч — вясёлы, смяшлівы ды і з твару смешнаваты. Завостраны, як птушыная дзюба, нос, цёмныя пукаценькія вочкі, жвавасць, непаседлівасць, пісклявы голас робяць яго падобным да шпака. Федзю дваццаць сем ці нават дваццаць восем гадоў, яшчэ да вайны скончыў чатыры курсы фізмата, з першага да апошняга дня быў у арміі, два разы паранены, але ў чынах асабліва не прасунуўся: дэмабалізаваўся яфрэйтарам.

Кавалюк, які, скончыўшы месячныя курсы «Выстрал», даслужыўся да лейтэнанта, пакеплівае з яго:

— Яфрэйтар Бакуновіч, парушаеце дысцыпліну. Без даклада ў дзверы ломіцеся. З гулянкі ў дзве гадзіны ночы вяртаецеся...

Жарты Бакуновіч разумее:

— Спраўлюся, таварыш лейтэнант. Больш не паўтарыцца. Прыйшоў бы ў час, ды якраз трамвай зламаўся.

Трамвай ломіцца бадай кожнай ночы: Бакуновіч заляцаецца да многіх дзяўчат адначасова. Прытым да самых маладзенькіх, якія яшчэ ў школе вучацца. Але хоць кожны вечар аддае заляцанням (сёння да адной ідзе, заўтра — да другой), дзяўчаты ў яго жыцці займаюць невялікае месца. Жаніцца Бакуновіч не збіраецца нават па заканчэнню ўніверсітэта.

Бакуновіч бяскрыўдны, дабрадушны. Займаецца сваімі справамі і ў чужыя нос не торкае. Дух такі наогул пануе ў пакоі. Раніцай, гадзін у сем, студэнты старэйшых курсаў — іх, акрамя Бакуновіча, яшчэ двое: Федзя Пракопчык і біёлаг Пятро Пташынскі — похапкам збіраюцца на лекцыі; пасля лекцый сядзяць у бібліятэцы і ў інтэрнат вяртаюцца познім вечарам.

У Кавалюка і ў двух першакурснікаў, з якіх адзін матэматык, а другі гісторык, заняткі пачынаюцца ў другой палове дня, і ў інтэрнаце яны праводзяць значна больш часу. Гэта, зрэшты, дрэнна. Час проста марнуецца. Яны ўтрох пазней спяць, а прачнуўшыся, устаўшы, доўга кешкаюцца, пакуль пабрыюцца, памыюцца, набяруць з тытана кіпню, паснедаюць.

З першага дня стацыянарнай вучобы Кавалюк адчуў, што харчу, які яму дастаецца па картцы, не хапае. Па картцы ён штодня атрымлівае паўкілаграма хлеба і абед, які складаецца з поснага баршчу ці супу і лыжкі запраўленай маргарынам кашы. Пасля такога абеду адразу зноў хочацца есці.

Інтэрнат размешчаны блізка ад хлебнага магазіна, дзе можна атаварыць картку, ды і ад фабрыкі-кухні, у якой абедае ўвесь студэнцкі Мінск, хадзьбы хвілін пятнаццаць. Але гэта па-свойму дрэнна.

Перад снеданнем Кавалюк ідзе ў хлебны магазін і забірае хлеб. Ён выкупляе яго на два-тры дні наперад, прыносіць у пакой паўбулкі, прыкідваючы на вока, колькі прыпадзе з’есці

на кожны дзень. Але з гэтым раскладам ніяк не хоча мірыцца малады, дваццацігадовы жывот.

З’еўшы на сняданне грамаў трыста хлеба, запіўшы яго слаба засалоджаным чаем, Кавалюк праз гадзіну ловіць сябе на прыкрым адчуванні, што зноў страшэнна хоча есці. Каб сядзеў на занятках, як старшакурснікі, есці, мабыць, гэтак бы не хацелася. Снеданне ў іх не лепшае, чым у яго, хіба толькі Федзя-фізік тоненька намазвае шмальцам скібку, але яны стойка трымаюцца да абеду. Кавалюк вытрымаць не можа. Бадай кожнага дня ён ставіць перад сабой задачу трэніраваць, загартоўваць волю, не паддавацца спакусе, але нічога не атрымліваецца. Думка аб тым, што ў тумбачцы ляжыць паўбулкі хлеба, ад якой ён можа адрэзаць і з’есці кавалачак, успыхвае ў свядомасці штохвілінна, якой бы справай ён ні займаўся. Кавалюк трывае паўгадзіны, гадзіну, і зрэшты барацьба з самім сабой заканчваецца поўным паражэннем. Ён устае з-за стала, адкладвае ўбок канспект ці кнігу і адразае ад паўбулкі кавалак грамаў на сто. Якім смачным, ні з чым не параўнаным здаецца гэты хлеб.

Студэнты-першакурснікі, якія, як і Кавалюк, разбрыдаюцца на лекцыі толькі ў дзве гадзіны дня, таксама часта заглядваюць у тумбачкі.

Найбольш адметны з першакурснікаў Мікалай Бухмач, шыракаплечы, бялявы, з трохі азызлым тварам хлапчына родам са Смаленска. Мікалай не надта прагне хадзіць на заняткі, часта іх прапускае, застаючыся на ўвесь дзень у інтэрнаце. Кнігамі, канспектамі таксама лішне на захапляецца. Можна зазірнуць у пакой у любы час і ўбачыць карціну прыкладна аднолькавую: Мікалай альбо корпаецца ў сваім драўляным сундучку, перакладваючы нейкія рэчы, або рыпае на вузкім, падобным на дзіцячы, гармоніку. Гармонік, аднак, не дзіцячы, хоць мае толькі палавіну ладоў. Расцягваючы мяхі падобнага на скрынку гармоніка, Мікалай нядрэнна выціскае з яго нешматлікіх ладоў усе вядомыя мелодыі песень. Іншы раз ён іграе што-небудзь жаласлівае, пераняўшы, мабыць, такую музыку ад старцаў-лірнікаў, якія перад вайной вандравалі ад сяла да сяла.

Несціханы рып гармоніка, які даносіцца з пакоя, зрабіў сваю справу. У пакой па рознай патрэбе — папрасіць запалак, солі, прас — заскоквае падобная на школьніцу, худзенькая, з вострымі плячамі студэнтка Зіна Перапёлка, якая, як і сам гарманіст, вучыцца на першым курсе фізіка-матэматычнага факультэта.

Другі першакурснік Мішка Зільберштэйн — гісторык. Ён нейкім чынам нават знаёмы Кавалюку. Праўдзівей, знаёмы яго бацька, які ў Кавалюковым абласным горадзе працуе карэспандэнтам рэспубліканскай газеты. Пра творчыя магчымасці Арона Зільберштэйна, бацькі студэнта, Кавалюк вельмі невысокай думкі. Піша той пасрэдныя заметкі, карэспандэнцыі, пахваляючыся перад кожным, каго ні сустрэне.

Сын — поўная процілегласць бацьку. Высокі, танклявы, з далікатным тварам і сінімі задуменнымі вачамі, Мішка надзвычай таварыскі, даверлівы. Ён толькі пачынае вучыцца ва ўніверсітэце, а ўжо здзіўляе самастойнасцю думак.

Відная ў пакоі асоба — біёлаг Пятро Пташынскі, тым болей што ён старшакурснік. Высокую, стройную фігуру Пятра трохі псуе чарнявы драбнаваты твар. Пятро адметны ў пакоі тым, што вышэй за ўсіх па воінскаму чыну — старшы лейтэнант. Афіцэрам ён стаў дзякуючы таму, што скончыў да вайны ветэрынарны тэхнікум і ў арміі пачынаў службу ветфельчарам. Дасягнуў прыкметнай пасады: у канцы вайны быў начальнікам конскага лазарэта.

На гэтай пасадзе з Пташынскім здарыўся дзіўны выпадак, пра які ён ахвотна расказвае. Па словах Пятра, у яго закахалася графіня.

Здарылася ўсё так. Конскі лазарэт звычайна займаў удаленыя ад шасейных дарог, чыгунак сядзібы, куды звычайна мала торкалі нос другія вайскоўцы. Вясной сорак пятага года, калі ўжо скончыліся баі за Будапешт, лазарэт размясціўся ў родавым маёнтку венгерскага графа. Граф, які меў таксама ваенны чын — ні то маёра, ні то нават палкоўніка,— уцёк з немцамі, а жонка засталася ахоўваць дабро. У той вечар, калі ў прасторных каменных хлявах, аборах графскага маёнтка размясціўся конскі лазарэт, яна запрасіла начальніка лазарэта на шклянку

кавы. Убачыўшы, што гаспадыня маёнтка — жанчына незвычайнай красы, Пятро Пташынскі тварам у гразь не ўдарыў.

Ад запрашэння адмовіўся, паабяцаўшы нанесці графіні візіт у бліжэйшы час. За суткі вайсковыя краўцы пашылі яму новы мундзір, а шаўцы змайстравалі выдатныя хромавыя боты з незвычайным рыпам і звонам сярэбраных шпораў. Перад графіняй старшы лейтэнант Пташынскі паўстаў у бляску начышчаных спецыяльнай анучкай медалёў і сваёй маладосці. Яна была ім зачаравана і з замілаваннем кінулася ў абдымкі прыгожага маладога бальшавіка ў першы вечар іхняй сустрэчы.

Два тыдні раскашаваў Пятро ў пухавіках графскай спальні. Ап’янелы любоўным хмелем, не заўважаў, што кожнай ночы ад маёнтка ад’язджаюць цяжка гружаныя розным дабром фуры. На пятнаццаты дзень у Аўстрыю, у амерыканскую зону, уцякла сама графіня...

Федзя Бакуновіч пацвельваецца:

— Тыповы піжон без класавага пачуцця. Развесіў губы. Графіні колькі было? Сама мала гадоў трыццаць. А табе колькі? Дваццаць тры. Са старой бабай звязаўся, ды яшчэ і народнае дабро прасвістаў...

Кавалюк, улічваючы сувязі Пташынскага з радавітымі асобамі, перайначыў яго прозвішча на нямецкі лад — Петэр Фогель. Магчыма, стараватая графіня, якая ўцякла ў Аўстрыю, пад такім імем успамінае свайго каханка. Не будзе ж яна ў сваіх марах, трызненнях называць яго Пятро...

Студэнты займаюцца ў школе каля Юбілейнага базару. Асенні дзень кароткі: пасля першай лекцыі пачынае цямнець. Другая, трэцяя лекцыі праходзяць пры бляклым электрычным асвятленні. Але электрычнасць ледзь не штодня псуецца, і студэнты, з якімі займаецца Кавалюк, неймаверна гэтаму радуюцца. Не чакаючы, пакуль прыйдзе манцёр уставіць новыя пробкі, яны, штурхаючыся, таўхаючыся ў цемені, на злом галавы кідаюцца з класа ў калідор, на лесвіцу.

Увогуле аднакурснікі не падабаюцца Кавалюку. У большасці яны гарадскія, толькі што закончылі дзесяцігодкі, вайны не бачылі, бо былі ў эвакуацыі. Хоць вучыліся ў вайну,

але прынеслі ва ўніверсітэт дух школьнай бесклапотнасці, гарэзлівасці.

На другіх факультэтах учарашнія салдаты, партызаны, а тут мамчыны сынкі, дочкі — зялёная моладзь. Кавалюку здаецца, што ўчарашнія шкаляры, якія паступілі на журналістыку, аб газетнай рабоце маюць уяўленне цьмянае. Ім здаецца — будуць удзельнічаць у прэс-канферэнцыях, браць інтэрв'ю ў высокіх асоб, а таго не ведаюць, што нават карэспандэнту абласной газеты, не гаворачы пра раённую, прыходзіцца мець справу з брыгадзірамі, даяркамі, свінаркамі.

Гонар другога курса журналістыкі Міша Глушкоў — чарнявы, хударлявы, някідкі з выгляду хлапчук, якому ледзь-ледзь споўнілася васямнаццаць. Да Мішы звяртаюцца як да хадзячай энцыклапедыі. Ён усё ведае: гістарычныя даты, артыстаў кіно, славутых футбалістаў. І ў той жа час нейкі цвілы, абыякавы да жыцця. Кавалюк чытаў артыкул, змешчаны Мішам у насценнай газеце. Не, такой суконнай, бясколернай мовай не можа пісаць журналіст.

Мікалай Барычэўскі, студэнт-фізік, з якім Кавалюк пазнаёміўся ў час першай завочнай сесіі, цяпер жыве таксама на Нямізе, у першым, лепшым інтэрнаце. Напаткаўшы Кавалюка, здзівіўся:

— Ты на стацыянары? Хіба, робячы ў рэдакцыі, нельга вучыцца завочна?

Барычэўскі гасцінны па-ранейшаму — запрасіў да сябе.

Кавалюк завітаў да яго праз тыдзень.

Стаіць з першым прымаразкам вечар перад пачаткам Кастрычніцкіх свят. Гулка раздаюцца крокі па бруку апусцелай вячэрняй Нямігі. З кожнага акна прысадзістых, з метровай таўшчынёй сцен дамкоў ліецца святло, цёмнымі дзіркамі навісаюць скляпенні праходаў у вузкія дворыкі.

Інтэрнат апусцеў. Большасць студэнтаў паехала дадому. Дыхнула ў твар зіма, і варта падбаць пра цёплую вопратку дый харчоў прыхапіць.

Калі Кавалюк падыходзіў да інтэрната, у якім жыве Барычэўскі, убачыў нязвычную карціну. Цьмяна свецяць ліхтары, і ў іх няпэўным святле яму падаецца, што ідзе бойка. На бруку нешта грукае, мітусяцца тры постаці. Ён, аднак,

памыліўся: гэта не бойка. Два высокія, апранутыя ў салдацкія шынялі інваліды, стукаючы мыліцамі аб камень, выкідваючы, як пры маршыроўцы, ногі, коцяць бочку. Адзін без нагі, другі вісне на мыліцах — відаць, яму цяжка хадзіць. Трэці да бочкі ўсутык не падступае, ідзе ззаду, назіркам, але няма сумнення, што і ён належыць да кампаніі. У гэтым трэцім Кавалюк пазнае Барычэўскага.

Не паспелі інваліды дакаціць бочку да праёма скляпення, як з інтэрнацкага двара высыпала цэлая гурма студэнтаў. Бочка пакацілася весялей, нырнула ў інтэрнацкі дворык, у адзін момант апынуўшыся каля вузкай знадворнай лесвіцы, што вядзе на другі паверх інтэрната. Па лесвіцы наверх яе падымаюць, куляючы то дном, то верхам са сходкі на сходку. Завіхаецца сапучы, лямантуючы на ўвесь двор, чалавек дзесяць.

У гэтую хвіліну Барычэўскі ўбачыў Кавалюка:

— Добра, што прыйшоў, будзем піва піць. Трэба Кастрычнік адзначыць.

Бочку студэнты-інваліды здабылі законна. Ім выдаюць дадатковыя картачкі на піва, гарэлку — і яны цяпер гэтыя картачкі абагулілі, з нагоды свята атаварыўшы півам.

З голымі рукамі прылучацца да пачастунку нячэсна, і Кавалюк кінуўся назад у інтэрнат. У яго ёсць доўгая, як шабля, сухая рыбіна — купіў на базары.

Заскочыўшы ў пакой, Кавалюк падумаў, што забыў яго замкнуць. Шчоўкнуўшы ўключальнікам, адразу зніякавеў: з ложка падхапіліся Мікалай Бухмач і бялявая матэматычка. Твары ў абодвух расчырванелыя. Гармонік ляжыць на табурэтцы.

Праз чвэрць гадзіны Кавалюк з загорнутай у газету рыбінай вярнуўся да Барычэўскага. Пір сама разгараецца. У невялікім пакоіку стаўклося чалавек дваццаць. Стаяць, сядзяць на ложках, тумбачках, на падаконніку. Шуміць, рагоча інтэрнат. Тытунёвы дым вісіць шчыльным сінім полагам. Каб было чым дыхаць, дзверы на калідор расчынены. Вечка з бочкі выбіта, піва студэнты чэрпаюць чым могуць: шклянкамі, бляшанкамі, слоікамі, нават кацялкамі. Адзін руды, з доўгімі патламі, п’е піва са сподка, дзьмухаючы на яго, як на чай.

Рыбіну, якую паклаў на стол Кавалюк, тут жа пачалі крэмзаць, ірваць, дзяліць на прысутных.

Адзін з інвалідаў, які каціў бочку, паціснуўшыся на ложку, даў Кавалюку месца побач з сабой.

У яго доўгі, нібы клін, твар, русявыя валасы, позірк шэрых, як бы налітых свінцом вачэй, цяжкі, няветлівы.

— У партызанах быў? — спытаў Кавалюка.

— Быў.

— На фронце?

— Быў.

— Будзем знаёмы,— сунуў Кавалюку шурпатую далонь.— Іван Паўлоўскі. Фізік.

Паўлоўскі махнуў рукой, і тады адкрыўся яшчэ адзін цуд. Па суседству з бочкай, захінутая прасціradлам, стаіць вялікая — літраў на дваццаць — бутля з мутнай белаватай вадкасцю. Руды, даўно не стрыжаны студэнт з такімі ж рудымі канапацінамі на пляскатым твары, нахіліўшы бутлю, нацадзіў кацялок вадкасці, з кацялка наліў у алюмініевую конаўку, паднёс Кавалюку.

— Пі! — загадаў Паўлоўскі.— Калі быў на вайне, павінен піць.

Затаіўшы дыханне, Кавалюк выцягнуў самагонку з прыемнасцю. Даўно не піў, дый па такому, як тут, таварыству засумаваў. Як толькі выпіў, нечыя паслужлівыя рукі працягнулі яму кавалачак рыбіны.

Хвілін праз некалькі стала прыемна, цёпла.

Нахіліўшыся да Кавалюка, дышучы ў твар перагарам, Паўлоўскі спытаў:

— Гадаў расстрэльваў?

Твар фізіка як бы знерухомеў, бялеса-сінія вочы глядзяць калюча, пранізліва.

— Якіх гадаў? — Кавалюк збянтэжыўся.

— Ну, паліцэйскіх, уласаўцаў...

— У баі з імі быў...

— Я не пра бой пытаю. Асабіста расстрэльваў?

— Не.

— Тады ты вайны не ведаеш.— Паўлоўскі адвярнуўся ад Кавалюка, страціўшы да яго ўсялякую цікавасць.

Больш ні з кім за ўвесь вечар Паўлоўскі не загаварыў. Сядзеў, насупіўшы востры, клінападобны твар, апусціўшы крывы, як у кругана, нос.

Аднекуль з’явіліся тры ці чатыры дзяўчыны, ім самагонкі не далі — напаілі півам. Пасля гэтага пачаліся танцы.

Дзіва: хмуры груган Паўлоўскі — якраз гарманіст. Ажыў у час танцаў. Паклаўшы галаву з рэдкімі русявымі валасамі на мяхі гармоніка, прыгожа выціскае вальсы, танга, факстроты. На таварышаў, якія па чарзе таўкуцца ў цесным закутку, не глядзіць...

Толькі пад раніцу вяртаецца Кавалюк у свой інтэрнат. Гулка раздаюцца крокі па бруку бязлюднай Нямігі. Халодны вецер разагнаў воблакі: на небе выблісківаюць і гаснуць зоркі. Пад брукам, пад вуліцай, цячэ заціснутая ў цэментавыя трубы Няміга. Старадаўні паэт, які ўспамінае Нямігу, пісаў пра яе ў сувязі з вайной. Колькі з таго часу было іншых войнаў, разбураўся, гінуў у пажарах шматпакутны Менэск — Мінск.

На фронце Кавалюк думаў, што вайна, у якой ён удзельнічае, апошняя. З таго часу мінуў толькі год, а ў газетах пішуць пра новую вайну — атамную. Чалавек стварыў магутную тэхніку і сам перад ёй нібы безабаронная пясчынка. Цёмныя сілы на свеце не звяліся.

## VI

Кавалюку да зімовай сесіі трэба здаць экзамен па псіхалогіі — аднакурснікі яго даўно здалі. Падручнік па псіхалогіі ёмісты — старонак на пяцьсот,— і больш месяца Кавалюк чытае яго, выкарыстоўваючы час паміж снеданнем, беганнем па крамах, базары і заняткамі. Задарма марнуецца час.

Вечарам, калі перад сном збіраюцца разам насельнікі пакоя, Кавалюк, лежачы ў ложку, працягвае чытаць падручнік. Бурчыць, ные ў жываце, хочацца есці. Але харчу няма. Кавалак хлеба, які застаўся ад учарашняй, купленай па камерцыйнай цане буханкі, Кавалюк з’еў, як толькі прыскочыў з заняткаў. Выпіў дзве конаўкі злёгку падсалоджанага кіпятку, але жаданне есці засталося.

Каб прыглушыць жаданне есці, ён часта курыць. Пачуццё голаду знікае, выбухаючы затым з новай сілай.

У падручніку, які выпушчан маскоўскім выдавецтвам, раздзел пра тэмперамент напісала выкладчыца Бераст, якая

працуе ва ўніверсітэце. На гэты раздзел Кавалюк асабліва налягае, прыкідваючы, што сівая, з непрыгожым, падобным на мужчынскі, тварам выкладчыца можа якраз пра тэмперамент спытаць.

Чатыры тыпы тэмпераментаў назіраецца між людзей: сангвінічны, халерычны, меланхалічны і флегматычны. Да якога тыпу адносіцца ён, Кавалюк? Хутчэй за ўсё да халерычнага. Хоць ёсць у ім, калі прыкінуць, штосьці ад сангвініка і нават ад меланхоліка.

Псіхалогія — навука, якая, па сутнасці, выяўляе ўсё тое, што звычайна называюць душой: адчуванні, успрыманні, пачуцці, нарэшце, здольнасць чалавека мысліць, бачыць сваё месца ў агромністым свеце. Але сто разоў мае рацыю Карл Маркс, які зазначыў, што, перш чым займацца навукай, мастацтвам, трэба есці, піць, апранацца. Кавалюк гэта адчувае па сабе. Самая цікавая навука не ідзе ў галаву, калі хочацца есці.

— Хлеба і вайны! — лежачы на вузкім жалезным ложку, выгуквае Кавалюк.

Недарэчныя словы ён выкрыквае некалькі вечароў. Іх сэнс у тым, што ў жорсткія дні вайны ён, Кавалюк, быў сыты, накормлены, а цяпер, калі настала мірная эпоха, ляскае ад голаду зубамі. Зрэшты, і жартамі трэба з голадам змагацца, не адным курэннем.

Матэматычка — Зіна Перапёлка — штовечар прыходзіць да Мікалая Бухмача. Ён звычайна ляжыць на ложку, чытае кнігу. Зіна прымошчваецца на ўскрайку ложка, услухоўваецца ў размовы, неўпрыкмет пагладжваючы Мікалая па светлых, як салома, валасах.

Пакой паўпадвальны. Вокны завешаны фіранкамі, але праз невялікі праём усё адно відаць ногі прахожых. Забыўшыся, Кавалюк іншы раз па некалькі хвілін наўсцяж сочыць за нагамі, што мільгаюць у акне. Рэдка ўбачыш добрыя боты, ахайныя жаночыя туфелькі. Найбольш трапляе розных апоркаў, бахіл, самаробных бурак, чуняў. Вось такі народ ходзіць па Нямізе. Дый не толькі па Нямізе.

Надышоў нарэшце дзень здачы экзамену па псіхалогіі. Кнігу Кавалюк вывучыў, але страх у душы ёсць. Пасля выпадку з Марыяй Андрыянаўнай, якая раіла паступаць адразу на

другі курс, а на экзамене ледзь не заваліла, Кавалюк увогуле пабойваецца адзінокіх немаладых выкладчыц. Бераст — таксама адзінокая. Ходзіць з падцятымі губамі, прычоска неахайная, попельна-шэрыя касмылі валасоў навісаюць на лоб, на вушы. Дрэнна жанчынам у эпохі рэвалюцый і сусветных войнаў: мужчын забіваюць, а яны на ўсё жыццё астаюцца ўдовамі.

Усё, аднак, абышлося найлепшым чынам. Узяўшы з рук Кавалюка накіраванне дэканата, вузенькую са штампам паперку, Бераст завяла яго ў бібліятэку, пасадзіла за столік у ціхім закутку між агромністых, да столі застаўленых кнігамі стэлажоў.

— Раскажыце пра тэмперамент. Можаце падумаць,— выкладчыца зірнула на наручны гадзіннік.— Трыццаці хвілін хопіць?

Яна нікуды не пайшла, сядзела пры століку з другога канца, унурыўшыся ў нейкую кнігу. Кавалюк адразу акрыяў. Ён разлічваў, што такое пытанне Бераст задасць. Толькі не думаў, што на ім адным спыніцца. Так ці інакш, але раздзел пра тэмперамент ён ведае цвёрда, вывучыў ледзь не на памяць.

Для бачнасці хвілін некалькі счакаўшы, Кавалюк папрасіў дазволу адказваць. Выкладчыца насцярожылася — не любіла, відаць, выскачак. Але па меры таго як Кавалюк, пазіраючы ў цёмны праём між стэлажамі, паглыбляўся ў пастаўленае пытанне, яе суровы непрыгожы твар пакрысе лагаднеў.

Каб пазбавіцца ад уражання, што студэнт проста вызубрыў напісаны ёю раздзел, Бераст пачала задаваць яму пытанні па ўсяму курсу, і ён, акрылены першым поспехам, адказваў талкова і нешматслоўна. Паўтара месяца ляжання на ложку сам-насам з падручнікам не прапалі дарэмна.

Бераст, не цікавячыся ранейшымі адзнакамі Кавалюка, паставіла спачатку «пяцёрку» на паперцы-накіраванні і потым ужо ў заліковую кніжку.

«Пяцёрка», якую Кавалюк заслужыў у Бераст, адразу падняла яго вагу ў вачах насельнікаў пакоя. Пра суровую, неприступную Бераст ходзяць легенды па ўніверсітэту: экзамен па свайму прадмету прымае з трэцяга, у лепшым выпадку

другога заходу, вышэй «тройкі» мала каму ставіць. А Кавалюк «выдатна» з першага спаткання выхапіў.

Нават недаверлівы Федзя Пракопчык, які, здаецца, наогул невысока ставіць былога завочніка, што пасяліўся ў пакоі, пачынае глядзець на яго ласкавейшым вокам.

Пачынаецца паласа справаздачна-выбарчых сходаў. Вялікая, месц на трыста зала ледзь умяшчае студэнтаў, якія прыйшлі на агульнаўніверсітэцкі камсамольскі сход. Некаторыя сядзяць на падаконніках, а то і проста стаяць у праходах. Прамоўцы гавораць па паперцы, часта неўласцівымі ім словамі, бо са сваімі аднакурснікамі ў аўдыторыях, калідорах зусім па-іншаму гавораць. Але ўсе, хто выступае, так сябе паводзяць, і ніхто іх за гэта не асуджае.

Аляксея Рабца — ён, як і Кавалюк, першы курс скончыў завочна і перавёўся на стацыянар, толькі не на журналістыку, а на аддзяленне мовы і літаратуры — сход мусіць зацвердзіць у якасці члена рэдкалегіі агульнаўніверсітэцкай насценгазеты.

Нехта з залы, назваўшы імя Рабца, запатрабаваў:

— Няхай біяграфію раскажа!..

Зала насцярожана прымоўкла. Кавалюк ведае Рабца, разам сядзелі ў аўдыторыі, здавалі экзамены: вучыцца ён добра, шустры, увішны, водзіць пад ручку модна апранутых дзяўчат і наогул навідавоку — маці Аляксея ва ўніверсітэце выкладае французскую мову.

Рабец між тым падняўся на сцэну, расказвае пра сябе: родам з Мінска, да вайны скончыў восем класаў, у акупацыю — ён гэта спакойна падкрэслівае,— каб не трапіць на фашысцкую катаргу ў Германію, зарабіць кавалак хлеба, некаторы час працаваў на таварнай станцыі грузчыкам. Пасля вызвалення Мінска пайшоў на фронт. Відаць, някепска ваяваў: на лацкане пінжака блішчыць баявы ордэн.

Зала злавесна маўчыць. Падхопліваецца старшыня сходу, танклявы, увішны гісторык-пяцікурснік, таропка заяўляе, што абраны камітэт камсамола вывучыць пытанне наконт вылучэння Рабца ў рэдкалегію насценгазеты...

Яшчэ больш бурлівы прафсаюзны сход.

Федзя Пракопчык належыць да ліку прафсаюзных актывістаў. Для самога Федзі гэта нямала значыць: дастае картку

СП-2, якую выдаюць толькі хворым студэнтам, атрымаў ордэр на сарочку, чаравікі. Пашану таксама мае: да яго з просьбай забягаюць студэнты розных факультэтаў.

У апошнія дні найчасцей наведвае Федзю журналіст-трэцякурснік Зыс, цыганаваты, з ускудлачанай галавой, доўгім тулавам і кароткімі нагамі хлапчына. Невядома, ці будзе з Зыса журналіст, але спявацкія здольнасці яго бясспрэчныя. Ён выступае ў самадзейнасці і, нягледзячы на някідкую паставу, твар, сваімі спевамі заваёўвае прыхільнасць многіх дзяўчат. Паслухаць сапраўды ёсць што: калі раніцай Зыс ідзе па калідоры ўмывацца, сваім пераліўчатым тэнарам выдае такія трэлі, што імгненна сціхаюць у інтэрнаце астатнія галасы.

Дык вось Зыс у апошні час захапіўся прафсаюзнымі справамі. Заскочыўшы вечарам у пакой, Зыс выводзіць Федзю Пракопчыка на калідор, і там яны доўга шушукаюцца.

Федзя Бакуновіч пакеплівае:

— Артыст ірвецца ў лідары. Лішнюю прадуктовую картку хоча адхапіць.

Сход пачынаецца ў суботу, у другой палове дня. Пасля нуднаватага даклада, які ў многім паўтарае тое, што гаварылася на камсамольскім сходзе, пачынаецца самае цікавае: вылучэнне кандыдатаў у студкам. Курс стараецца перад курсам. Мець свайго чалавека ў студкаме многа значыць. Дэбаты зацягваюцца да позняй ночы, найбольш актыўныя прамоўцы асіплі ад крыку, але галасы раздзяліліся, і галасаванне не дало патрэбных вынікаў.

Выбары пераносяцца на нядзелю. Яшчэ паўдня крычаць прамоўцы, і нездарма — студкам нарэшце абраны. Зыс у яго склад не ўвайшоў.

Але ён не апускае крылляў. Знайшоў адхіленне ад інструкцый пры правядзенні галасавання, напісаў пісьмо-пратэст у рэспубліканскі камітэт прафсаюза і тры дні бегаў па інтэрнату, збіраючы подпісы студэнтаў пад гэтым пісьмом.

Сход адменены, прызначаны новы. Кавалюк на ім не быў — не хацелася траціць час на слуханне бясконцых спрэчак. Зыс на другім сходзе дамогся свайго — увайшоў у склад студкама. Цэлы месяц, пакуль ішла мітрэнга са сходамі,

выбарамі, Зысавых песень не чулі на калідоры. Цяпер зноў запеў, і ў яго голасе загучалі новыя, пераможныя ноткі.

Зіма доўга стаіць бясснежная.

Прыходзячы з заняткаў, Кавалюк часта застае ў пакоі бялявую, з тонкімі, далікатнымі рысамі твару біялагічку, якую завуць Ася. Ён не памятае, калі Ася завітала ўпершыню. Дзіва няма: дзяўчаты жывуць праз два пакоі. Заскокваюць да хлопцаў пазычаць запалкі, патэльню, шклянкі.

Зусім непрыкметна Ася, як і матэматычка Зіна, што з восені сябруе з Мікалаем Бухмачом, стала сваёй у пакоі. Кавалюк пры ёй выгуквае недарэчны лозунг «Хлеба і вайны!», чытае, лежачы на ложку, размаўляе пра што хоча. Ён не ведае, дый не цікавіцца, да каго прыходзіць Ася. Можа, да Федзі Бакуновіча, а можа, да Пятра Пташынскага.

Чымсьці Ася прываблівае Кавалюка, бо, як толькі паяўляецца ў пакоі, ён як з мяшка пачынае сыпаць жартамі, расказвае вясёлыя гісторыі, анекдоты, стараючыся рассмяшыць хлопцаў. Доля вострых слоўцаў прызначаецца і дзяўчыне.

У Асі зусім белыя пушыстыя валасы, худаваты твар з прыгожым, правільнай формы носам, з-пад блузкі ледзь вытыркаюцца маленькія, амаль непрыкметныя грудзі. Яна гадзіну, дзве маўкліва сядзіць на табурэтцы ці чым-небудзь ложку, слухае размовы, усміхаючыся пасля кожнага трапнага жарту.

Аднойчы здарылася незвычайнае. Кавалюк вярнуўся ў інтэрнат пасля першай лекцыі, адамкнуў пакой, узяўшы ў дзяжурнай ключы, і зараз жа ўслед за ім у пакой зайшла Ася. Яны былі толькі ўдваіх.

— Нікога няма,— чамусьці сказаў Кавалюк.

— Мне ніхто не трэба,— патупіўшы позірк, адказала дзяўчына.

Яна села на табурэтку, і прыкметная чырвань заліла яе твар. У Кавалюка мову адняло. Памятаючы Марыну Севярнёву і тое, як яна з ім паступіла, ён лішне не навязваўся да дзяўчат. Лічыў сябе няўдачнікам у каханні, зацяўся, свядома адкладваў любоўныя справы на той час, калі скончыць вучобу і зойме якое-небудзь месца ў жыцці.

Тое, што Кавалюк адчуў цяпер, было поўнай для яго нечаканасцю. Думкі блыталіся, мітусіліся, і ён не знайшоў нічога лепшага, як прапанаваць Асі прайсціся па вуліцы.

Яна ахвотна згадзілася, пабегла ў свой пакой, які знаходзіўся ў канцы цемнаватага калідора, і бавілася там даволі доўга. Кавалюк разоў з дзесяць перамераў змрочны інтэрнацкі двор, пакуль у праёме дзвярэй паказалася танклявая постаць Асі ў рудаватым, без каўняра палітончыку.

У той вечар яны гадзіны тры блукалі па вуліцах разбуранага горада, сягаючы аж на ўскраіны. Замерзлы груд незамошчаных вуліц, цёмныя вершаліны дрэў, што ўзвышаліся над дамкамі прадмесця, вежы касцёлаў над руінамі, ціхі Асін голас, халодная рука, да якой як бы ненарокам адважыўся дакрануцца Кавалюк,— усё, усё ў гэты вечар мела асаблівае значэнне.

Яны пераважна маўчалі ў час сваёй доўгай бязладнай вандроўкі. Кавалюк некалькі разоў спрабаваў завязаць размову, пра штосьці пытаўся, Ася, як на допыце, адказвала двума-трыма словамі, і гаворка зараз жа занепадала, нібы безыменная рачулка ў пясках гарачай пустыні. Яны нібы баяліся, саромеліся адно аднаго.

Палавіну ночы Кавалюк не спаў. У свае дваццаць два гады ён мала знаўся з дзяўчатамі, у глыбіні душы нават пабойваўся іх. Яго маладосць супала з вайной, ды не ў адной вайне справа. Дзяўчаты любяць шустрых, заліхвацкіх кавалераў, у якіх лёгка прывязан язык. Кавалюк умее жартаваць, кідацца вострымі слоўцамі, у той жа час залішне сур'ёзна глядзіць на жыццё. Да пустых, нікчэмных гаворак няздатны. Ася, відаць, звярнула на яго ўвагу, бо ён балбатаў, выгукваў недарэчныя лозунгі, і прыняла яго не за таго, хто ён на самой справе.

Супакоены гэтай думкай, Кавалюк заснуў.

Ён памыліўся: Ася забегла ў пакой з раніцы. Вечарам таксама села на сваё звычайнае месца, на ложак другога Федзі, якога выбралі ў прафкам і які, вырашаючы неадкладныя студэнцкія справы, з'яўляўся ў інтэрнат пазней за ўсіх. Штосьці новае было ў яе вобліку, Кавалюк не адразу здагадаўся што. Толькі калі Ася, пасядзеўшы з гадзіну, рушыла, ён успомніў, што была апранута ў новую, у сінія кветкі, сукенку і валасы сталі яшчэ больш пушыстыя — зрабіла завіўку.

Пачынаецца зімовая сесія. Да Новага года трэба здаць залікі, да экзаменаў патроху рыхтавацца. Ася прыходзіць у

пакой да хлопцаў з кніжкай. Кавалюк не можа ўжо, як раней, жартаваць, выкідваць конікі. Нешта як бы звязвае язык. Ляжаць на ложку ў прысутнасці Асі таксама не можа. З Асяй яны адчуваюць сябе нібы змоўшчыкі, абменьваюцца позіркамі, і Кавалюк з кожным днём усё больш думае пра яе.

Яшчэ часцей, чым Ася, у пакой забягае Зіна. Іншы раз яны сядзяць удзвюх. Зіна не хавае прыхільнасці да Мікалая Бухмача. Тым часам Ася не выдае сваёй сімпатыі ніводным жэстам. Ні разу не села на ложак да Кавалюка, і калі хлопцы кладуцца ў ложак, каб гадзінку перад сном пачытаць, адразу знікае.

Зіна астаецца, сядзіць і тады, калі Бухмач у ложку, нахіляючыся, нешта ледзь чутна шэпча яму ў вуха.

Нават калі святло выключаюць, яна ўсё яшчэ побач з Мікалаем сядзіць.

Думаючы пра Асю, Кавалюк вялікія надзеі ўскладвае на навагодні вечар. Ён не ведае, што канкрэтна зробіць. Пасядзяць з Асяй у кампаніі, пагавораць, паходзяць па вуліцы. Студкам ужо вядзе шырокую падрыхтоўку да вечара. У прасторнай чытальнай зале нібыта нават будзе наладжаны баль-маскарад.

Салодкія надзеі Ася развеяла ў адзін момант.

— Паеду ў Слуцк,— паведаміла.— Ёсць справы.

Якія неадкладныя справы гоняць яе з Мінска, тлумачыць не стала.

Кавалюк надзьмуўся. Усе вечары, якія аставаліся да Новага года, хадзіў да таварышаў у лесатэхнічны інстытут.

Ася, аднак, падпільнавала яго.

— Давай сходзім у рэстаран,— прапанавала, сутыкнуўшыся з Кавалюком у калідоры.— Не бойся, у мяне грошы ёсць...

— Не трэба твае грошы,— выбухнуў ён, апанаваны рыцарскімі пачуццямі.

Праз хвіліну пахаладзеў: мае толькі сто рублёў. Як ісці з такімі грашыма ў рэстаран, калі кухаль піва каштуе пятнаццаць рублёў?

Рэстаран размяшчаецца ў абшарпанай жоўтай будыніне на ўскрайку пляца Волі. Днём тут звычайная сталовая, дзе харчуюцца студэнты, якія маюць дадатковыя картачкі СП-2. Вечарам паверх цыраты столікі засцілаюцца белымі настольнікамі і за імі сядзяць другія, з большым дастаткам людзі.

На шчасце, у гэты вечар у рэстаране даюць толькі піва. Кавалюк заказаў чатыры кухлі і па бутэрброду сабе і Асі, з жахам пазіраючы ў меню: ці хопіць грошай, каб разлічыцца.

Ася п’е піва ахвотна. Сярод тытунёвага дыму, вясёлых выгукаў, тлуму яны сядзяць гадзіны тры. Ася, аказваецца, з Мінска, але ў акупацыю ў Беларусі не жыла, правяла вайну ў пыльным, акружаным стэпам казахстанскім гарадку. Там яе бацька быў начальнікам ваеннага вучылішча.

Яшчэ ў вайну, калі немцаў толькі выгналі, сям’я вярнулася ў Мінск, атрымала кватэру. Маці і цяпер жыве ў той кватэры, але з другім чалавекам, вось чаму Ася дамагалася месца ў інтэрнаце. Бацька, відаць, служыць у другім месцы, і ці не да яго Ася збіраецца паехаць на Новы год?..

Яны выходзяць з рэстарана. Яшчэ не позна — гадзін дзесяць вечара. На цёмным снежаньскім небе блішчаць рэдкія зоркі.

Інтэрнат на Нямізе мае тую перавагу, што кіно — галоўнае месца студэнцкай уцехі — пад бокам. З трох кінатэатраў у горадзе да двух — «Радзімы» і «Беларусі» — рукой падаць. Цёмнай, неасветленай вуліцай Астроўскага яны кіруюць да кінатэатра «Беларусь» і трапляюць на апошні сеанс.

Фільм нецікавы. У напаўпустой зале страшэнна холадна. Пасядзеўшы з паўгадзіны, яны выскачылі з кінатэатра. Кавалюка б’юць дрыжыкі: адубянеў, як цюцька. Тым часам Ася яшчэ і па горадзе пахадзіць пажадала. Па дарозе шмыганула пад цёмную арку ў двор.

— Забягу да сяброўкі. На адну хвілінанчку.

Выскачыла з двара шустрая, павесялелая:

— Спіць сяброўка. Ці, можа, гуляць пайшла. Не дастукалася.

На ачышчанай ад руін плошчы перад Домам урада стаіць аздобленая рознакаляровымі лямпачкамі вялікая ёлка. Нават размаляваныя церамкі-будыначкі вакол яе паўсталі.

Ледзь перастаўляючы ногі, Кавалюк яшчэ гадзіну ці болей вандруе з Асяй па горадзе.

Назаўтра на яго нахлынула падазрэнне і ён спецыяльна схадзіў у той двор, куды Ася забягала наведаць сяброўку. Ніякага дома ў двары няма. Ляжаць зацярушаныя снегам

руіны, груды абпаленай цэглы. Па другой справе забягала сюды Ася.

У навагодні вечар Кавалюк пакіраваў у лесатэхнічны інстытут да Івана Скварчэўскага і Мікалая Банэдыка. Разбураны горад адзначае наступленне другога мірнага года: больш ззяе агнёў, людней, галасней, чым звычайна, на вуліцах, праз асветленыя вокны ў некаторых кватэрах відаць аздобленыя ёлкі.

У інтэрнаце, дзе жывуць сябры,— ён тут жа, побач з вучэбнымі карпусамі інстытута — Кавалюка чакае неспадзяванка. Няма хлопцаў: паехалі дамоў. Кавалюку аж горка стала, маглі яго папярэдзіць, і ён бы ахвотна з'ездзіў у мястэчка, хоць грошай на білет няма. Будзе блукаць цяпер як непатрэбны.

Ісці Кавалюку нікуды не хочацца, нават на ўніверсітэцкі баль-маскарад. Што яго там чакае? Хто, схаваўшыся пад маскай, наваражыць яму шчасце?

Цярусіць дробны сняжок, Кавалюк не спяшаючыся, у адзіноце брыдзе па вуліцы, каб прабавіць час і пазней з'явіцца ў інтэрнат. Многа свеціцца вокнаў, але ні за адным з іх Кавалюка ніхто не чакае. Можа, упершыню ў гэты вечар ён для сябе самога зрабіў адкрыццё: ваенны і мірны час маюць розныя колеры і па-рознаму ўздзейнічаюць на чалавека. У вайну, у акупацыю, Кавалюк пра сябе не думаў, а толькі пра зыход вайны, востра, з пакутлівым болем успрымаў паражэнні, адступленні, акружэнні, здачу ворагу гарадоў. Тады здавалася: не будзе лепшага, прыгажэйшага часу, чым разгром ворага, вызваленне роднай зямлі. Якой далёкай, нават немагчымай здавалася перамога ў цяжкія сорак першы, сорак другі гады...

У партызанах, затым на фронце трывога прыціхла, развеялася, саступіўшы месца прагнаму чаканню мірнага дня. Мірныя будні ўяўляліся азоранымі такім шчасцем, такім неабсяжным размахам усеагульнай радасці, што ім цяжка было вызначыць межы.

Цяпер Кавалюку часам здаецца, што калі і быў ён шчаслівы, то ў вайну. Ён тады ведаў, чаго хоча, дня не мог пражыць, не схадзіўшы да Івана Скварчэўскага, да іншых сяброў-таварышаў, звязаных небяспечнымі падпольнымі, партызанскімі справамі. Тады яго асоба нібы растваралася ў

агромністым, усеагульным, чым жыла краіна, і ад гэтага ён адчуваў сябе моцным і цэльным.

Цяпер пераважна думае пра сябе, ад гэтага слабасць. Вядома, ён і цяпер хоча, каб сталі на ногі зруйнаваныя калгасы, каб адбудаваўся Мінск. Але хіба параўнаеш гэта з тым вострым — нібы ўсадзілі ў сэрца цвік — болем, які не пакідаў яго многія месяцы вайны?

Час мяняецца, разам з ім мяняецца чалавек. Кавалюк цяпер штохвіліны думае пра Асю, якая за месяц займела над ім такую вялікую ўладу. Можа, таму ён так імкліва кінуўся насустрач новаму пачуццю, што ў глыбіні душы лічыў сябе абылзеным у каханні, зняважаным. Што ж, самому сабе і другім ён пакажа, што не апошні на гэтым свеце чалавек.

Марына Севярнёва дрэнна з ім паступіла. Па чутках, нічога ў яе з маёрам не атрымалася. Але Кавалюк да яе ўсё адно не вернецца. Яна ніколі яго не разумела і не здолее зразумець.

Кавалюк памыляўся, калі разлічваў, вярнуўшыся ў інтэрнат, удосталь выспацца. У такія ночы, як навагодняя, студэнцкі інтэрнат не спіць. Не адзін Кавалюк не пайшоў на бальмаскарад, дый знайшліся і такія, хто, пабыўшы там, паспеў вярнуцца.

Яшчэ на панадворку інтэрната ён пачуў зычныя галасы, якія нясуцца з пакоя «арыстакратаў» — у ім падабраліся пераважна старшакурснікі — выпускнікі. Пакой, бадай, сапраўды лепшы ў доўгім, як стадола, аднапавярховым інтэрнаце: размяшчаецца з усходняга, сонечнага боку, адгароджаны калідорам ад шумнай вуліцы.

Узяўшы ў дзяжурнай ключ, Кавалюк хацеў непрыкметна прашмыгнуць у свой пакой, замкнуцца знутры. Аднак ля самых дзвярэй яго затрымаў журналіст-трэцякурснік Валодзя Гораў.

— Не трэба хавацца,— сказаў, нібы дакараючы.— Зразумей: толькі год без вайны пражылі. Уступаем у другі. Прынось, калі што ёсць. Калі няма — усё адно прыходзь...

Валодзя Гораў — прыкметны ва ўніверсітэце чалавек. Сярод тых, хто вучыцца на факультэце журналістыкі, нават славуты. Яго мужны, цёмны твар, кучаравыя завіткі жорсткіх, чорных як смоль валасоў, чорныя вочы, трохі раздутыя крыллі

прамога арлінага носа робяць Валодзю падобным да цыгана. Ён і ёсць напалавіну цыган. Разам з выразам мужнасці на прыгожым Валодзевым твары ляжыць адбітак пакуты. Кавалюк ведае: Гораў да вайны вучыўся ў КІЖы, друкаваўся ў газетах. Ён і цяпер друкуецца, нядаўна ў часопісе змясціў апавяданне пад назваю «Дзік». У апавяданні расказваецца, як загнаны ў Нямеччыну юнак-нявольнік жыве ў кануры-будцы разам з сабакам і па начах са сваім чатырохногім таварышам размаўляе.

Прачытаўшы апавяданне, Кавалюк апісаныя ў ім падзеі звязаў з асобай самога аўтара. Гораў сапраўды — як ваеннапалонны ці насільна мабілізаваны — быў у Германіі. Нагаладаўся там, намёрзся, напакутаваўся.

Прыхапіўшы пляшку гарэлкі, трохі што з закускі, Кавалюк рушыў у пакой «арыстакратаў». Дарэмна ён баяўся: ёсць і ў гэтай кампаніі знаёмыя. За сталом Жэня Пупко, падобны да дзяўчыны студэнт, які мінулай зімой даваў Кавалюку прытулак на ўласным ложку. Нават двое аднакурснікаў ёсць: Кавалюку, як толькі зайшоў у пакой, усміхнулася Ала Траяноўская — яна сядзіць побач з вялізным, маўклівым Сяргеем Задарожным.

Наогул журналістаў за сталом большасць — пераважна старэйшых курсаў.

На Алу Траяноўскую Кавалюк баіцца пазіраць: яна здаецца асляпляльна прыгожай. Распушчаныя валасы, смуглявы, надзвычай прывабны твар, на якім выдзяляюцца густа пафарбаваныя пухлыя губы і чорныя, нібы ластаўчына крыло, бровы, шэрыя вочы, якія быццам выпраменьваюць асабліва прыцягальнае святло, аблічча, пастава, манера гаварыць, смяяцца — усё гэта выклікае захапленне многіх студэнтаў. Кавалераў у Алы хоць адбаўляй, яна робіць з імі што хоча.

Адзін з найменш удачлівых, але найбольш адданых, самаахвярных яе паклоннікаў — Сяргей Задарожны. Як у журналіста перспектыў у Сяргея нібыта няма. Піша кепска, можна сказаць — пісаць не ўмее. На думку дэкана, не можа заняць і кіруючай пасады ў газеце: вайну сустрэў васямнаццацігадовым хлопцам, але ў партызанах не быў — прасядзеў каля маці, а калі фронт вярнуўся, і ў армію не пайшоў: уладкаваўся працаваць на чыгунку. З такой біяграфіяй рэдактарамі не ставяць.

Паходзіць Сяргей з беднай вёскі, хлеба з дому не прывозіць. Адзін раз Кавалюк бачыў, як ён, прыехаўшы ад маці, вывалак з мяшка вялізны закураны чыгун з грэцкай кашай. Тыдзень еў кашу, выцягваючы прыкрыты фанеркай чыгун з-пад ложка.

Возячы чыгуны, Сяргей тым часам увіваецца каля Алы, служыць ёй як маўклівы, пакорлівы паж. І ад журналістыкі не збіраецца адмаўляцца. Цягавіты, упарты хлопец. Толькі што атрымаецца з ягонай упартасці? Ала згадзілася сустракаць Новы год з Сяргеем, пасварыўшыся, мабыць, з якім-небудзь больш блізкім сваім прыхільнікам.

Застолле не вельмі ўдалае. Кампанія склалася на жывую нітку — адшчапенец на адшчапенцы — і добрага тамады няма. Вясёлы тамада, які ўмее сеяць жарты, весялосць, можа з’яднаць любую кампанію.

Гадзіны праз дзве, калі ў галаве зашумела, Кавалюк з Горавым выбраліся на вуліцу. Снег, які па-ранейшаму цярусіць, прыкрыў чарнату, шэрасць вуліц, наваколле нібы павесялела. То ў адным, то ў другім месцы чуюцца вясёлыя галасы. Разбураны горад жыве, чалавечае жытло вынікае ў самым нечаканым месцы. Вясёлая палоска святла раптам выб’ецца з-пад ног: значыць, падвал спаленай каробкі заселены: наадварот, светлае акенца часам блісне на самым версе цёмнай мёртвай сцяны: і там жывуць людзі, невядома толькі, як яны туды ўзбіраюцца.

Зіма, холадна. У Горава шаліка няма, грудзіна расхлістана. Кавалюк, памарудзіўшы, спытаў:

— Я чытаў тваё апавяданне. Ты ў палоне быў?

— Не,— журналіст адказаў паспешліва, нібы папярхнуўшыся.— Мяне ў Германію вывезлі адсюль, з Мінска...

Некалькі хвілін ідуць моўчкі. Зазвінеў трамвай. Яго адзіны вагон ярка асветлены. Узмацняецца вецер. У палосках святла ліхтароў відаць, як мігцяць, коса падаючы на зямлю, сняжынкі.

— Фашызм — звер,— гаворыць Гораў.— Горш звера. Але то вораг. З ворагам адна размова.

Наўсцяж разбуранай Савецкай вуліцы — адны абгарэлыя каробкі з цёмнымі праёмамі вокнаў — студэнты ідуць у напрамку Універсітэцкага гарадка. Людзей на цэнтральнай вуліцы больш і больш. Гадзіну назад наступіў новы, сорак

сёмы год, і людзі, выбіраючыся на вуліцу, мабыць, хочуць у ім адзначыцца.

Гораў раптам запаляецца, пачынае гаварыць горача, узбуджана:

— Топчам пад ногі вялікае, святое. Ты можаш уявіць, што рабілася ў Мінску пры немцах? Дзясяткі тысяч, чуеш, дзясяткі тысяч фашысты расстралялі, павесілі, спалілі ў Трасцянцы — вёска такая ёсць пад горадам. Пра іх ні радка не напісана. Ніхто ўспамінаць не хоча. Нібы здраднікі яны. Чаму так? Каму такое выгадна?..

— Трэба разабрацца,— няпэўна запярэчыў Кавалюк.— Былі здраднікі, паліцэйскія, уласаўцы.

— Тыя, каго павесілі, не здраднікі. Наогул, не трэба забываць ні добрага, ні дрэннага. Каб не паўтарыўся сорак першы год. Вось гэтая Савецкая вуліца ў снежні сорак першага ўся наўсцяж была заслана трупамі нашых палонных. Тых, хто жывы застаўся, мы перапраўлялі ў лес, у партызанскія атрады. За гэта нас, падпольшчыкаў, вешалі. У скверы каля тэатра на дрэвах, слупах віселі нашы людзі. Я не хлушу — на слупах і дрэвах. Бачыў сам: хадзіў, глытаў слёзы бяссілля,— Гораў ударыў кулаком у расхлістаную грудзіну.— Там мае таварышы віселі... Тры разы правальвалася падполле, кожны раз хапалі тысячы людзей... Мяне ўзялі пры трэцім правале. У верасні сорак другога. Быў малой сошкай: рэзаў у друкарні паперу. Частку перадаваў на газеты, лістоўкі. Ты, можа, ведаеш: у Мінску ў сорак другім годзе «Звязда» выходзіла?.. Ёсць тут адзін таварыш. Дык, думаеш, героямі супраціўлення цікавіцца? Сярод тых, хто ўцалеў, прайшоў лагеры, турмы, катаванні, ворагаў шукае. Год цэлы дапытваўся, чаму мяне не расстралялі...

Кавалюк перакінуўся думкай на местачковыя справы, і яму аж млосна стала: тое самае. Выйграна самая вялікая, крывавая вайна, а некаторым з тых, хто рызыкаваў і сваім жыццём, і жыццём блізкіх, нясоладка прыходзіцца.

— Фашысты атрымлівалі асалоду ад людскіх пакут. Катавалі з радасцю, смакам, задавальненнем. Майго таварыша — жыў на Чэрвеньскім тракце,— павесілі на слупе насупроць

уласнага дома. Тыдзень труп не давалі здымаць. Каб маці бачыла...

У цемнаватае неба ўзвілася ракета, асвяціўшы бледнаватым мярцвяным святлом пачатак Савецкай вуліцы. На самым рагу стаіць абгарэлая каробка з цёмнымі праёмамі вокнаў, некалькі меншых будынін, з якіх крайні драўляны дамок уцалеў. У ім цяпер крама — прадаюць папяросы, цыгарэты.

— Жанчын на допытах распраналі. Дапытвалі, гледзячы на іх цела. З нашай групы за лістоўкі арыштавалі маці і дачку. Абедзве прыгожыя. Дачцэ сямнаццаць гадоў, маці — не больш за трыццаць пяць. Іх цягалі кожную ноч. Гвалцілі, затым білі...

Студэнты дабрылі да Універсітэцкага гарадка. Абсыпаныя лёгкім снегам, знаёмыя, дамашнія стаяць таполі, акацыі ў скверыку. З чытальнай залы даносяцца гукі духавога аркестра. Пры ўваходзе ў корпус вясёлая мітусня: разгарачаныя парачкі выскокваюць на двор асвяжыцца ў адных касцюмах і сукенках...

## VII

Ася прыехала праз тыдзень, якраз у дзень здачы першага экзамену. Кавалюк душой збалеўся, пакуль яе дачакаўся. Ніколі не думаў, што да дзяўчыны, якой амаль не ведае, можна так моцна прывязацца. З раніцы да адзінаццаці вечара Кавалюк, рыхтуючыся да экзаменаў, праседжваў у чытальнай зале, лавіў сябе на адчуванні, што пастаянна сочыць за дзвярыма: ці не ўвойдзе Ася. Увесь тыдзень, вяртаючыся ў інтэрнат, цешыў сябе надзеяй, што прыйдзе і ўбачыць Асю ў пакоі.

Так і сталася. Сядзела на ложку Мішы Зільберштэйна, калі ён увайшоў. Мікалай Бухмач дурэў з Зінай: бегалі па пакоі, нешта адно ў другога адбіраючы. Нешта жаваў, выбіраючыся на начны праменад, Федзя Бакуновіч. Пятро Пташынскі з задуменным выглядам корпаўся ў кашальку: лічыў медзякі.

Пры такой колькасці сведак Кавалюк не мог распачаць з Асяй размовы. Крутнуўшыся ў пакоі, не распранаючыся, выскачыў у калідор. Ася зразумела манеўр: хвілін праз некалькі выйшла ўслед.

— Давай сходзім у кіно,— сказала замест прывітання.— Сёння здала экзамен.

Заўтра здаваць яму, але ён ёй не сказаў. Быў рад, што яна побач, што ён можа бачыць яе, чуць яе голас.

Кавалюк выйшаў на двор, чакаў Асю хвілін дваццаць. Паспеў заўважыць: заўсёды любіць бавіцца.

— Чаму так доўга не прыязджала? — спытаў, як толькі Ася паявілася на ганку.

— Пазней скажу.

— Чаму не цяпер?

— Не хачу псаваць настрой. Табе і сабе.

— Тады я скажу. Ездзіла да бацькі. Ён што — у Слуцку працуе?

Яна спалохана зірнула на яго.

— Не да бацькі,— прамовіла ціхім, як бы вінаватым голасам: — Да мужа. Хоць даўно не жыву з ім. Хачу развесціся...

Ён адчуў — сэрца як бы ўпала ў халодную бездань.

— Дзеці ёсць? — нарэшце ціха спытаў.

— Няма.

Ідучы побач з Асяй, думаў пра Марыну Севярнёву. Ён ёй, відаць, ніколі асабліва не падабаўся. Тое, што было ў школе,— дзяцінства. Па-свойму была шчырая Марына: першая сустрэч з ім, Кавалюком, не шукала. Зрэшты, няпраўда і тое, што яна пагульвала з другімі, а яму на фронт слала лісты. Два ці тры лісты прыслала ў адказ на яго дзесяць ці пятнаццаць. Гуляла і ні ў кога дазволу не пыталася...

Сыра, няўтульна. Паўднёвы вецер прынёс адлігу. Капае з дахаў, снежная каша пад нагамі. У левым чаравіку адстае падэшва, назе ў дзіравай панчосе зябка.

На вуліцы Ася такая ж, як у інтэрнаце. Можа ісці і маўчаць хоць да сканчэння свету.

— Хто твой муж?

— Лейтэнант. З арміі дэмабілізавалі. За п’янку...

— Дзе жыве?

— У Слуцку. Там наша кватэра.

— Не разумею. У Мінску — кватэра, у Слуцку — кватэра.

— У Мінску — кватэра маці. У Слуцку муж жыве.

— Бацька таксама мае кватэру?

— Бацька далёка...

Калі Ася бавілася ў Слуцку тыдзень, то, відаць, мела інтарэс. Інакш не сядзела б так доўга. Але якая яму, Кавалюку, да гэтага справа? Што яго з Асяй звязвае?..

Месцы Кавалюка і Асі ў трэцім радзе, перад самым экранам. Яны селі, некалькі хвілін адчужана маўчалі, сочачы за дзеяннем на экране.

— Я глядзела карціну,— напаўголаса сказала Ася.

— Дзе?

— У Слуцку...

Зноў яна са сваім Слуцкам. Няўжо не адчувае, што яму непрыемна пра гэта слухаць?

— Што ты там тыдзень рабіла? — не вытрымлівае Кавалюк.— У Слуцку...

— Біяхімію вучыла, хадзіла ў кіно...

— Не магла ў Мінску хадзіць?

— Разводзіць будзе слуцкі суд. Па месцу жыхарства. Пісала заявы...

Кавалюку робіцца шкада Асі. Узяў яе за руку. Рука маленькая, халодная, далікатная.

— Чаму не сказала, што глядзела карціну?

— Хацела, каб ты паглядзеў.

— Ісці на такую дрэнь два разы?

— Я хаджу на кожную карціну.

— Любіш кіно?

— Люблю,— адказала ціха.— Мне нічога іншага не застаецца...

Яна — гордая і таму няшчасная, думае Кавалюк. Жыве ў выдуманым свеце. Чакае прынца, які павінен з'явіцца, узяць яе за руку, павесці ў цудоўнае, казачнае жыццё. Здагадка такая мільганула і адразу знікла. Мала яшчэ ён ведае Асю...

Калі вярталіся ў інтэрнат, Кавалюк зрабіў спробу прыхінуць да сябе Асю. Яна вывернулася, груба яго адштурхнуўшы.

Зняважаны, ён злосна выгукнуў:

— Чаму ходзіш са мной?

Нічога не адказаўшы, яна прыспешыла крок... Пайшла, а ён яшчэ доўга стаяў.

Ноччу Кавалюк доўга не спіць. Адразу, як толькі ціхенька шуснула за дзверы Зіна, засоп, заплямкаў у сне губамі ўдачлівы каханак Мікалай Бухмач. Прыйшоўшы з пагулянкі, высвіствае вялікім, загнутым носам Федзя Бакуновіч. Пахрапваюць астатнія жыхары пакоя, а Кавалюк варочаецца і ніяк не можа заснуць. Злосць паліць яго, у думках ён бэсціць, зневажае Асю. Ясна — любіць свайго п'яніцу. Можа, нават сабе самой не прызнаючыся. Паехаць на Новы год, тыдзень тырчаць у Слуцку, каб толькі напісаць заяву ў суд?.. Дзіцячыя байкі. А ён вушы развесіў... Хопіць з яго. Заўтра экзамен. Не патрэбны зусім яму ні Марына, ні Ася...

У думках пра маладую жанчыну ёсць, аднак, супярэчнасць, і Кавалюк ніяк не можа з ёй зладзіць. Ася, каб захацела, кавалераў знойдзе. Тым часам ходзіць сама ў пакой, хінецца да Кавалюка.

Думка, што ён падабаецца Асі, супакойвае, закалыхвае. Ухапіўшыся за яе, Кавалюк засынае.

Назаўтра Кавалюк здаў экзамен, атрымаў «пяцёрку» і вечарам прагна чакаў Асю. Яна, аднак, не прыходзіла. Тады ён сам выйшаў у калідор, з гадзіну блукаў, курыў, разлічваючы, што перад сном Ася на калідоры пакажацца. Яна сапраўды з'явілася з ручніком на плячы, прайшла міма Кавалюка, нават не зірнуўшы ў той бок, дзе ён стаяў.

Ён дачакаўся, пакуль яна памыецца і выйдзе.

— Ася,— паклікаў ціха.— Даруй, калі пакрыўдзіў. Не хацеў цябе крыўдзіць...

Яна ўсміхнулася, акінула Кавалюка прыязным позіркам, казой скочыла ў свой пакой...

Зноў пайшло, як раней...

Вечарам Ася прыходзіць у пакой, садзіцца на ложак, услухоўваючыся ў размовы студэнтаў. Сама ў іх удзелу не прымае. Можа сядзець гадзіну, дзве, кідаючы прыязныя позіркі на Кавалюка, неўзаметку яму ўсміхаючыся.

Кавалюк і раніцай бачыць Асю. Выходзіць умывацца ў той, што і яна, час, крадком любуецца яе стройнай танклявай фігурай, малымі выспачкамі грудзей, якія ледзь прыкметна вытыркаюцца з-пад старога злінялага халаціка, па-жаночы зграбнымі, нечакана шырокімі, круглымі клубамі.

Цяпер Кавалюк увесь час думае пра Асю. Яна нібы забрала яго ў палон, прылучыла да сябе ўладна, моцна.

Яшчэ раз схадзілі ў кіно. На гэты раз ён не спрабуе абняць Асю. Баіцца, што яна адштурхне яго і яшчэ раз абразіць.

Зімовая сесія скончылася. Грошай у Кавалюка няма. Даўно мінулі дні, калі ён мог дазволіць сабе купіць буханку камерцыйнага хлеба ці сялёдку на Юбілейным базары.

Няма грошай і няма за што купіць білет, каб з'ездзіць дамоў на канікулы. Ніколі Кавалюк не быў у такім адчайным становішчы.

Пакой пусты: хто дадому паехаў, хто, карыстаючыся свабодай, блукае па горадзе. Ключ Кавалюк трымае ў кішэні: на выпадак, калі зойдзе Ася. Ён тады — замкне пакой знутры, яны з Асяй пасядзяць, пагавораць...

Ася лёгкая на паміне — забягае ў пакой.

— Паеду ў Слуцк,— паведамляе.— Давай яшчэ раз сходзім у рэстаран. Куды першы раз хадзілі...

Кавалюк нямее. Не можа прызнацца, што ў яго ні капейкі грошай. Нічога не сказаўшы Асі, выскаквае з пакоя. Думка працуе ліхаманкава. Толькі ў Горава можна пазычыць грошай. Ён працуе ў рэдакцыі. Каб толькі на месцы застаць.

На шчасце, Гораў у інтэрнаце: ляжыць на ложку, чытае кнігу.

Журналіст запрашае сесці, настройваецца на гаворку. Але Кавалюку некалі.

— Пазыч дзве сотні,— просіць.— Калі можаш, пачакай. Хутка аддам.

На якія прыбыткі Кавалюк спадзяецца, не ведае сам.

Гораў без вагання дастае з кашалька грошы. Шэсць чырвоных трыццацірублёвых паперак і дзве дзясяткі.

— Аддасі, як будуць...

У рэстаране не так шматлюдна, як мінулы раз. Можа, таму, што ў дзвярах швейцар — у самай яшчэ сіле дзядзька, які раз-пораз пакідае свой пост, заглядаючы ў залу.

Кавалюк, як галантны кавалер — чытаў жа ў кнігах, як трэба частаваць дам,— падае меню Асі.

Яна сама выбіраць не хоча.

— Вазьмі што-небудзь. Пасядзім, музыку паслухаем.

Музыка — два акардэаністы. Сядзяць наўзбоч ад буфета, перад імі нават ноты пастаўлены.

Зрэшты, што будзе, тое будзе. Дзвюх соцень хопіць, каб добра пад'есці і трохі выпіць. Кавалюк заказвае талерку бутэрбродаў з каўбасой і малы — толькі на трыста грамаў — графінчык гарэлкі.

Ася здаецца шчаслівай. Глядзіць на Кавалюка павільгатнелымі вачамі, усміхаецца. Кавалюк гаваркі, як ніколі: расказвае пра фронт, пра баі, у якіх удзельнічаў.

— Мой лейтэнант на фронце не быў,— раптам паведамляе Ася.— Ваяваў у вучылішчы. Пад крыльцам у бацькі...

Кавалюк адчувае сябе смелым, дужым, спрытным. Танцаваць фактычна не ўмее, але, падпіўшы, адважыўся.

З рэстарана выйшлі перад самым закрыццём. У інтэрнацкім двары ён прыблізіў свой твар да Асінага, крануўся шчакой яе шчакі, абняў за плечы:

— Пойдзем да мяне...

Як і першы раз, яна вырвалася з абдымкаў. Ні слова не сказаўшы, рушыла на ганак, скочыла ў інтэрнат...

Цяпер ён успрымаў гэта больш спакойна. Ведаў — заўтра Ася прыйдзе.

Кавалюк пачынае адчуваць, што адносіны з Асяй прыносяць болей смутку, чым радасці. Яны не ўзвышаюць душу, істоту, а наадварот, прыгнятаюць. Бадай, тое самае было з Марынай Севярнёвай.

На фронце мірнае жыццё ў марах, трызненнях паўставала інакшым. Каханне таксама не такім бачылася. Адносіны з любімай дзяўчынай Кавалюк уяўляў заснаванымі на поўным узаемным давер'і. Ён бы мог усё пра сябе расказаць Марыне, Асі. Толькі ні тая, ні другая не пацікавіліся. Пра сябе таксама не любяць расказваць.

Марыну Кавалюк мала ведае. Вучыліся ў розных класах, пазнаёміліся на выпускным вечары і яшчэ некалькі вечароў пахадзілі па пясчаных местачковых вуліцах, пасядзелі на лавачцы. У Марыне ён любіў сваю мару, якая склалася не без уздзеяння кніг, якія да таго часу паспеў праглынуць. Але мара — адно, жыццё — другое...

Ад пазычаных у Горава двухсот рублёў засталіся дзве скамечаныя траячкі. І яшчэ сто рублёў трэба аддаць Федзю Бакуновічу. Толькі з якіх капіталаў аддаваць?..

Кавалюк цвёрда наважыў болей не траціцца на Асю. Няхай едзе ў Слуцк. Мабыць, яшчэ любіць свайго п'яніцу. Разводам хоча яго толькі прыстрашыць. Няхай любіць... Ёсць жанчыны, якія цягнуцца да сваіх тыранаў. Ніцшэ — фашысты аб'явілі яго прарокам — пісаў, што ў абыходжанні з жанчынай найважней бізун...

Грошай няма, і трэба дзейнічаць.

Раніцай, нават не паснедаўшы, Кавалюк рушыў у рэдакцыю рэспубліканскага радыёкамітэта. Не, студэнта, нават з вопытам журналісцкай работы, браць на радыё не хочуць. У іх васьмігадзінны рабочы дзень...

Ён ткнуўся яшчэ ў дзве рэдакцыі газет. Той самы адказ. Між слоў вынікае: будзеш хадзіць на заняткі, на работу з'яўляцца па вольнаму графіку. Такі супрацоўнік нам не патрэбен...

Прыйшлося пазычаць: трыццатку, яшчэ трыццатку...

За канікулы Кавалюк заняпаў: абыходзіўся абедам, які давалі ў сталовай, і хлебам, атрыманым па картачцы. Валяўся на ложку, сёе-тое чытаў, але найболей спаў. Нават галіцца стаў раз у два дні.

Па разліках Кавалюка, сябры з лесатэхнічнага інстытута мусілі вярнуцца з канікул, і ў адзін з лютаўскіх вечароў ён рушыў да іх.

Іван Скварчэўскі, Мікалай Банэдык на месцы. І зусім нечакана — разам з імі Базыль Маленда. Той самы Базыль, які належаў да падпольнай групы, асцярогі не ведаў і ледзь групу не праваліў. Кавалюк вачам не хацеў верыць: адкуль узяўся Базыль? Усе лічылі, што загінуў. Нават чаркі падымалі за яго памяць. Чаму не падаў аб сабе знаку? Вайна калі кончылася?..

Базыль такі, як раней. Белыя валасы, рымскі нос, мужны профіль. Можа, нават зграбней, чым раней, выглядае: на ім камсастаўская форма, бліскучыя хромавыя боты.

— Дзе быў? — пасля кароткіх, нялоўкіх абдымкаў пытае Кавалюк.— Чаму пісьма не напісаў?

— У Данбасе,— Базыль гаворыць рэзка, адрывіста,— ударнай работай у шахце ачышчаў сябе ад недаверу некаторых асоб. Увесь сорак шосты год...

Дык вось як: летам сорак другога года немцы звезлі Базыля ў Германію. А цяпер ён тут. Колькі яны не бачыліся?.. Чатыры гады. Дзіўныя рэчы бываюць на свеце.

Іван, Мікалай і Базыль толькі што прыехалі з мястэчка. З-за Базыля нават два дні заняткаў прапусцілі — не ведалі, што рабіць. Цяпер задача — уладкаваць Маленду на вучобу ў лесатэхнічны інстытут. Нялёгкая задача: скончыўся першы семестр, Базыль усё забыў. Але Іван бярэцца гэтую задачу вырашыць. Спадзяецца на дапамогу прафесара Капыткова, дэкана, у якога — ведае сам — карыстаецца аўтарытэтам.

Маленда нібы ўчора толькі развітаўся з сябрамі. Стройны, падцягнуты, расхаджвае па пакоі, размахвае рукамі...

З нагоды нечаканай сустрэчы сябры рашылі пачаставацца. Кавалюк хутка захмялеў — сказваецца скупы студэнцкі харч. Якімі добрымі, мілымі здаюцца Іван, Мікалай і нават няўрымслівы Базыль, абвеяны чужымі, далёкімі вятрамі. Кавалюк, вядома, дрэнна робіць, што рэдка ходзіць да хлопцаў. Ася нібы адцясніла сяброў. Але навошта яму Ася? Яна скрытная, няшчырая, і ад яе толькі пакуты. Не, з Асяй ён развяжацца. Кожнага вечара будзе прыходзіць да хлопцаў...

— З Кёльна я падаўся ў Саарбрукен,— пахваляецца Базыль.— Хацеў перабрацца ў Францыю. Там макі, партызаны. Прозвішча, вядома, змяніў. Яшчэ як ад баўэра ўцёк...

Не падабаецца Кавалюку Базылёва пахвальба. Нібы здзейсніў бог ведае які подзвіг. Фактычна толькі нашкодзіў групе, звязаўся з цёмнымі асобамі, язык не ўмеў трымаць за зубамі.

— Скажы,— пытаецца Кавалюк,— навошта прозвішча мяняў?

— Маглі мяне шукаць?..

— Лічыў — нас пахапалі, як куранят, і цябе, вялікага рэвалюцыянера, шукаюць...

— Ганкоўскі мог выдаць.

— Ганкоўскі выдаў Дзіму і яго сястру. У тым, што немцы іх расстралялі, ёсць і твая віна.

— Хіба я ведаў, хто такі Ганкоўскі? Віну прызнаю... Не прыставай болей да мяне — я правераны. Год Данбаса. Думаеш, грошай не маю? У Данбасе плоцяць што трэба...

Базыль тым і харошы, што не адпіраецца ад памылак. Заўсёды так было. Таму сябры ад яго не адцураліся, лічаць сваім.

Зноў на сваім кані Маленда і расказвае, як бамбілі саюзнікі Германію, як асцярожна, калі іх ужо не абараняў ніводны салдат, займалі нямецкія гарады, як пілі, елі, забаўляліся.

— Вып'ем яшчэ. Я дастану...

Базылёў камандзірскі шынель матлянуўся ў праёме дзвярэй, і не прайшло дзесяці хвілін, як кандыдат у студэнты паставіў на стол паўлітру...

Харошы вечар. Патыхнула даўнім, дружбацкім. На развітанне Кавалюк прызнаўся:

— Цяжка. Перайду на завочнае. На журналістыцы можна завочна вучыцца...

Нялёгка яму было зрабіць такое прызнанне. Верхаводзіў у падпольнай групе, быў камандзірам аддзялення ў партызанах, у арміі да лейтэнанта даслужыўся, а да мірнага жыцця прыстасавацца не можа...

Іван Скварчэўскі яго зразумеў.

— Прыходзь,— запрасіў.— Кожны вечар. Мы купляем у салдат талоны, вячэраем у ваеннай сталовай. Будзеш з намі вячэраць. Талон — рубель. Шынель, фуражку Базыль пазычыць...

Жыццё мяняецца ў лепшым кірунку. Той самы разбураны, закіданы снегам горад, але, шчыльней прылучыўшыся да сяброў, Кавалюк як бы адаграваe душу, паўней пачынае адчуваць даброты і радасці жыцця. Штовечар пасля заняткаў, а іншы раз збегшы з іх, шыбуе ў інтэрнат лесатэхнічнага інстытута, на вуліцу Свярдлова. Месяц люты сыпле ў твар калючым снегам, дзьме халоднымі вятрамі, завывае ў развалінах.

Свайго шыняля з зялёнага англійскага сукна Кавалюк цяпер не мае. Цяплей было ў шынялі. Вінаваты сам: збіраючыся на стацыянарную вучобу ў Мінск, шынель пакінуў маці, з сабой узяў моднае ў клетку паліто з шырачэннымі плячамі —

прывёз яго з Германіі. Паліто-хламіда зусім не грэе, вецер яго пранізвае наскрозь. Тым часам нічога нельга перамяніць: зялёны шынель маці распарола, нашыла братам і сёстрам бурак.

Клопаты наваліліся на Кавалюка і не даюць спакою: просяць рамонту чаравікі, і няма ў што пераабуцца, каб занесці іх у майстэрню. Няма шаліка, рукавіц, ніводнай пары цэлых шкарпэтак. Як ні круці, работу шукаць трэба. Дзе яе знайсці?..

Прыйшоўшы ў інтэрнат да сяброў-местачкоўцаў, Кавалюк весялее. Тут пануе дух жывога прадпрымальніцтва. Цяпер галоўная дзейная асоба ў пакоі — Базыль Маленда. Ён ужо студэнт. Дзякуючы хадатайніцтву Івана Скварчэўскага, Базыля не толькі прынялі ў інстытут, а нават прызначылі стыпендыю. Вось што значыць сапраўдная падтрымка і падмога! Ліхтаровіч мінулай зімой у такой самай просьбе Кавалюку адмовіў.

Некаторыя абставіны бянтэжаць Кавалюка: Базыль на вучобу не налягае. Калі ён ні зойдзе ў інтэрнат, Маленда там. Іван, Мікалай Банэдык на занятках ці ў бібліятэцы, а ў Базыля вольны час. Ён нават па тры-чатыры дні адсутнічае: ездзіць у Брэст, Баранавічы.

— Хочаш мець два кускі? — пытае Базыль.— Паедзем са мной. На два дні. Трэба сёе-тое з Клецка прывезці.

На жаргоне, які стаў ужываць Базыль, кусок азначае тысячу рублёў. Няўжо ў Маленды ёсць такія грошы? Кавалюк верыць і не верыць. Базыль — хвалько, манюка.

Прыходзяць Іван, Мікалай, Базыль аддае шынель і шапку Кавалюку. Шынель добры, на цёплай падкладцы. Кавалюк, хоць быў лейтэнантам, такога не меў.

Іван апранае шынель Мікалая Банэдыка, і яны шыбуюць у вайсковую сталовую. Для таго каб пайсці ў сталовую ўсім разам, шынялёў не хапае.

Сталовая трохі наўзбоч ад зруйнаваных муроў станцыі. Сярод руін ацалела падвальнае памяшканне, і яго абсталявалі пад сталовую.

Вечарам, гадзін у дзевяць-дзесяць, вайскоўцаў тут няшмат. Відаць, у цемені ў лабірынце развалін не кожны знойдзе да сталовай дарогу. З-пад столі на доўгім шнуры спускаецца элек-

трычная лямпачка — адна на агромністую, як стадола, залу. Каб афіцыянткі не ўбачылі, што яны асобы цывільныя, сябры шынялёў не расхінаюць, шапак не здымаюць. Але афіцыянткі, відаць, здагадваюцца, што яны за птушкі, алюміневыя міскі з кашай — на вячэру заўсёды пшонная ці ячменная каша — не ставяць, а кідаюць на стол.

Вячэрнія паходы Кавалюка ў лесатэхнічны інстытут — ратунак не толькі ад голаду, які пасля нікчэмнага абеду даймае асабліва моцна, але і ад Асі. Вярнуўшыся са Слуцка, дзе правяла канікулы, яна адразу прыйшла ў пакой. На Кавалюка пазірае прыязна, загадкава ўсміхаецца, як бы між імі не было ніякай нязгоды. Але ён, наважыўшы парваць з ёй, на прыманку не паддаецца. Апранае хламіду, насоўвае шапку-кубанку, нікому нічога не тлумачачы, выходзіць з пакоя. Ад усведамлення, што можа зрабіць, як захоча, Кавалюк нават мерзне меней па дарозе да сяброў.

Івану Скварчэўскаму, Мікалаю Банэдыку нічога пра Асю не расказвае. Сумленне не дазваляе распачаць гаворку. Іван, між іншым, малайчына. Старэйшы за Кавалюка на два гады, але з дзяўчатамі не знаецца. Глядзіць вучобы.

Мікалай Банэдык — поўная яму процілегласць. За спадніцамі бегаў яшчэ ў школе. Да дзяўчат шастае, круціць амуры, але ўдачы, няўдачы яго глыбока не кранаюць. Нечым ён падобны да Федзі Бакуновіча.

Кавалюк ловіць сябе на адчуванні, што яму прыемныя Асіны наведванні. Ён думае пра маладую жанчыну пастаянна, то выстаўляючы супроць яе розныя абвінавачванні, то нечакана іх здымаючы. У гэтай унутранай барацьбе довады розуму часта саступаюць месца пачуццю. Нейкай часткай свядомасці Кавалюк пачынае разумець, што, нягледзячы на ціхмянасць, Ася ўладная, эгаістычная. Думае толькі пра сябе, адной сабой захоплена.

У адзін з вечароў Ася не прыйшла. Збіраючыся ў ваенную сталоўку, Кавалюк зніякавеў, засумаваў. Не было каму відавочна паказаць няўвагу, і злосць імгненна развеялася. Таму ён узрадаваўся, калі, выйшаўшы з інтэрната, твар у твар сутыкнуўся з Асяй. Яна памкнулася абысці яго, абмінуць, але ён затрымаў. Узяў у свае далоні яе халодную руку:

— Не спяшайся. Трэба пагаварыць...

— Няма пра што гаварыць. Ты ўцякаеш ад мяне...

— Не ўцякаю. Справа ёсць...

— У бібліятэку ходзіш? — Асін голас прыкметна палагоднеў.

— У рэдакцыю,— чамусьці схлусіў Кавалюк.— Пішам з таварышам адну рэч.

У няпэўным святле вулічнага ліхтара Асін твар здаецца бледным, змарнелым. Яна пацепвае плячамі, як бы стараючыся схаваць галаву ў каўнерык паліто.

— Можам зайсці ў дом,— сказала.— Тут блізка...

У Кавалюка забілася сэрца. Штосьці новае пачынаецца. Можа, тое, чаго чакаў?..

Абагнуўшы напаўразбураны кафедральны сабор, яны пайшлі ўверх па вуліцы Астроўскага. Не прайшлі і сотні крокаў, як Ася ўзяла яго пад руку, перавяла праз заснежаную вуліцу, і яны нырнулі ў пад'езд старамоднага, складзенага з чырвонай цэглы дома. Сталі падымацца па сходках шырокай лесвіцы, на пляцоўцы трэцяга паверха спыніліся. Ася выняла з сумачкі ключ, уставіла ў шчыліну, шчоўкнула. У твар дыхнула цеплынёй, і яны зайшлі ў кватэру.

— Распранайся,— шапнула Ася.— Давай паліто. Святло не хачу ўключаць. Чаравікі таксама знімі. Каб не грукаць...

— Хіба мы красці прыйшлі? спрабуе жартаваць Кавалюк.

— Будуць языкі часаць...

— Чыя кватэра?

— Маці жыве. Цяпер яе няма. Паехала...

З калідора прайшлі ў пярэдні пакой. Насупраць шырокага акна, завешанага гардзінай, вісіць паўбоханчык усечанага месяца, і ў пакоі даволі светла. Кавалюк трохі асвоіўся: пакой прасторны, на падлозе мяккі дыван, на ім, як па мху ў лесе, ступаеш. Стол, канапа, крэслы, карціны на сценах, у вялікай драўлянай каробцы тахкае гадзіннік.

Вось так, аказваецца, могуць жыць людзі.

Ася ўзяла яго за руку, правёўшы па калідорчыку і шчоўкнуўшы ўключальнікам, піхнула ў невялікі пакойчык.

— Можаш у ванне памыцца. Я бялізну прынясу, халат. Не бойся — рэчы бацькавы.

Калі займалі нямецкія гарады, Кавалюк бачыў у некалькіх кватэрах такія вось умывальныя пакойчыкі з вялізнымі жалезнымі начоўкамі — ваннамі. Але ў ванне не мыўся. Ён і цяпер рашыў абысціся без гэтага, і, каб Ася болей не ўмешвалася, узяў дзверы на зашчапку.

Ася праз колькі хвілін пастукала ў дзверы.

— Бялізну возьмеш. Я на крэсла пакладу.

Кавалюк не адазваўся. Не трэба чужая бялізна. Яго трусы, майка зусім яшчэ чыстыя. Наогул у тым, што Ася піхнула яго ў ванную, прымушае мыцца, ёсць штосьці абразлівае. Хіба ён у лесе жыве — закарэў, закажанеў?..

Вымыўшы рукі, спаласнуўшы твар, ён ціха выйшаў з ванны. У калідорчыку, першым пакоі Асі няма. Ён сеў на канапу, стаў чакаць. У наступную хвіліну знямеў ад здзіўлення. Ася паявілася голая і нібы застыла сярод пакоя. У месячным святле матавай беллю адлівае яе цела.

— Ты хацеў мяне бачыць такую? — усклікнула.

Павярнулася да яго, падняўшы рукі, пачала выцягваць заколкі з валасоў. Яна намнога прыгажэйшая, чым у вопратцы: гордая пасадка галавы, рукі, як белыя крыллі, малыя грудзі, тонкая талія і шырокія бёдры, доўгія ногі...

У яго адняло мову. Яна стаіць, гарэзліва пацепвае плячамі.

— Распранiся,— нарэшце сказала незадаволена і пайшла за штору, у спальню.

Калі ўсё між імі здарылася і ён, бездыханны, ляжаў побач з ёю, кранаючыся яе халоднага пляча, сказала:

— Ты мне адразу спадабаўся. З твару. Але фігура ў цябе няважная...

Яе словы непрыемна ўразілі, але ён прамаўчаў. У спальні на вокнах шторы, цёмна, як у паграбе. Ён устаў, адхінуў штору. Спальня невялікая, палавіну яе займае шырокі драўляны ложак. У кутку стаіць люстра, з правага боку ад увахода — шафа.

Толькі цяпер да Кавалюка дайшло, што Асіна кватэра побач з інтэрнатам. Можна дабегчы не апранаючыся.

— Чаму тут не жывеш? — спытаў.

— Не хачу.

— З маці не ладзіш?

— Маці маладая яшчэ,— адказала незадаволена.— Можа ў яе быць сваё жыццё?

Яму зноў стала непрыемна. Маці — маладая, дачка яшчэ маладзейшая, з мужамі тым часам не жывуць. Усе паасобку. У наступную хвіліну прыйшла думка, што маці вось-вось можа заявіцца, застаць някліканага госця ва ўласнай спальні. Ён зрабіў спробу ўстаць, але Ася, нібы ўгадаўшы яго намер, абняла за плечы:

— Ляжы. Раніцой пойдзеш. Хіба ў інтэрнаце лепш?

— Маці?..

— Паехала. Перад Новым годам. Хутка прыедзе.

Значыць, кватэра была свабоднай месяц назад, калі яны з Асяй хадзілі ў рэстаран.

— Суд быў? — спытаў.

— Не было.

— Не хочаш разводзіцца?

— Нарачоны не хоча. Не з'явіўся.

Яму стала шкада яе, і ён стаў яе няўмела лашчыць.

— Ліса,— шапнуў у самае вуха.— Ліса з пушыстым хвастом. Магла сюды прывесці раней.

Яна прамаўчала.

— Ведаю, чаму не прывяла.

— Нічога не ведаеш...

— Чакала — прыедзе нарачоны. Стане на калені і будзе ўпрошваць. А ён не прыехаў.

Яна ўздрыгнула, у наступнае імгненне ён адчуў, цела яе абвяла, расслабілася.

— Ты яшчэ любіш яго,— горка прамовіў Кавалюк, адчуваючы жаль да самога сябе.

— Ён столькі мне гора прынёс.— Ася ляжала на спіне, заклаўшы рукі пад галаву.— Нічога да яго не адчуваю: ні добрага, ні дрэннага...

— Дзе ён працуе?

— Ваенруком у школе.

— Між іншым, я таксама лейтэнант. Узводам камандаваў...

На яго словы Ася нічога не адказала. А ён раптам адчуў, што вельмі хоча есці. Порцыі кашы, як усе гэтыя вечары, ён не з'еў.

— Магла б папярэдзіць, што прыйдзем сюды,— нясмела сказаў Кавалюк.— Я б што-небудзь прынёс.

— Хочаш выпіць?

— Есці...

Яна ўсклікнула, як спуджаная птушка, і зараз жа скочыла з ложка, патупала босымі нагамі па падлозе. Вярнулася праз некалькі хвілін.

— На,— сказала вінаватым голасам і, знайшоўшы яго руку, паклала ў яе яблык.— Я не падумала. Болей нічога няма.

Ён, ні аб чым не думаючы, еў яблык. Яна лягла поруч, прыхінуўшыся да яго. Была ласкавейшая, чым калі-небудзь: правяла рукой па жорсткіх яго валасах, па шчацэ, на якой паспела адскочыць шчэць.

— Табе прысылаюць грошы? — спытала.— Мне папа дае семсот рублёў. Са стыпендыяй тысяча...

— Сам працаваў. У газеце. Хіба не гаварыў?

— Журналісты многа зарабляюць?

— Больш за стыпендыю.

— Ты якое ваеннае вучылішча канчаў?

Яму стала весела. Прыгарнуў яе да сябе, шапнуў у вуха:

— Ваенная тайна. Курсы «Выстрал». Займаўся на іх роўна месяц...

— Я ў стэпе вайну правяла. Наша вучылішча спачатку за два гады выпускала лейтэнантаў, потым за год. З сорак трэцяга — за паўгода. Быў адзін хлопец, на цябе падобны. Нават вельмі падобны. Звалі Віктарам. Год вучыўся. Калі паехаў, я ўслед за ім на фронт ірвалася. Каб быць бліжэй. Бацька не пусціў. Прыслаў мне Віктар толькі два пісьмы. Забілі пад Сталінградам...

Ён успомніў свае франтавыя курсы. Размяшчаліся ў вызваленым, амаль бязлюдным гарадку пад Ленінградам. Ён цяпер з прыемнасцю ўспамінаў курсы: заняткі па дванаццаць гадзін у суткі, размернасць, грунтоўнасць. За месяц шмат чаго вывучыў. Было галаднавата і весела: ішоў па зямлі сорак чацвёрты год. На жаль, дзяўчыны, падобнай на Асю, блізка ў той час не было.

— За месяц стаў лейтэнантам,— сказала Ася.— Цяпер зразумела, чаму цябе з арміі адпусцілі.

Ён усміхнуўся. Калі ведаеш фізіку, матэматыку, наогул пісьменны, авалодаць ваеннай справай не так цяжка. У іх палку камандавалі пераважна цывільныя людзі, якія камандзірамі сталі на вайне. Сам камандзір палка да вайны быў настаўнікам.

— Як ты за свайго лейтэнанта выскачыла? — спытаў.

— Пад рукамі быў. Усю вайну. Ты не думай, ён смелы, рашучы. Я любіла яго, пакуль не стаў піць. У стэпе пажар быў, кашары гарэлі, дык ён у агонь на кані скакаў. Шабляй рассякаў сценкі хлявоў, агароджу, каб авечак выпусціць.

Кавалюк на курсах не атрымаў ад Марыны Севярнёвай ніводнага ліста. Пісаў ён, пахваляўся, што вучыцца на афіцэра, марыў паслаць фотакартачку з лейтэнанцкімі пагонамі. Не прыйшлося паслаць. У дзень выпуску ў бязлюдным гарадку не знайшлі фатографа. І наогул малодшых лейтэнантаў апранулі ў салдацкае абмундзіраванне (афіцэрскага не было), выдалі палявыя пагоны. У хуткім часе ён сфатаграфаваўся, але на картачцы зусім не відаць было, што зняты афіцэр, малодшы лейтэнант.

Ён усё адно з радасцю ўспамінае курсы. Казармы, класы размяшчаліся ў наспех адрамантаваным каменным будынку школы. Вяртаючыся стомлены, знясілены з заняткаў, ён ведаў, што яго чакае пайка хлеба, рэдзенькі, але цёплы суп. У падвальчыку была курылка. Там яны збіраліся перад адбоем. Таропка курылі лайковую махорку, успаміналі дамоўку, гаварылі пра дзяўчат. Найбольш пра дзяўчат. Заўсёды рагаталі, пакеплівалі адзін з другога. Як бы не было ні вайны, ні блізкай перспектывы весці ў атаку ўзвод, у якім палавіна малакасосаў дваццаць шостага года нараджэння і палавіна хітрых, немаладога веку дзядзькоў, што былі мабілізаваны яшчэ ў сорак першым, шчасліва выкараскаліся з акружэння, палону, перажылі акупацыю і ў другі раз, ужо на схіле вайны, зноў трапілі на фронт.

Мала засталося тых Ванькаў-узводных, з якімі Кавалюк разам вучыўся. Пасля вайны напаткаў толькі аднаго.

У зале, дзе дыван і канапа, ціха тахкае насценны гадзіннік. Суседзі не спяць — над галавой парыпваюць маснічыны, нехта ходзіць. Ася заснула і дыхае амаль нячутна. Кавалюк баіцца

паварушыцца: яе галава ляжыць у яго на руцэ. Дзіўная Ася: зусім не цікавіцца, як ён жыў, дзе быў, што бачыў. І ў той жа час кожны дзень імкнецца яго пабачыць.

## VIII

У ваеннай сталовай правяраюць дакументы. Кашы болей не з’ясі. Не дапамагае ні шынель, ні афіцэрская шапка.

У Мінску акрамя пасажырскай ёсць таварная станцыя. Цяпер, калі горад пачынае адбудоўвацца, латае дзіркі, вагонаў на таварную станцыю прыбывае многа. Грузчыкаў тым часам не хапае. Падрадчыкі, каб хутчэй разгрузіць вагон, не плаціць штрафу, за цаной не стаяць. Базыль Маленда, улічыўшы абстаноўку, арганізаваў брыгаду грузчыкаў. Кавалюк з радасцю ў яе ўступіў — на стыпендыю не пражывеш. Праўда, сам Маленда на работу ходзіць не часта. Некуды знікае і не паяўляецца па два-тры дні.

На дварэ сакавік. Шумяць вясновыя вятры, з дахаў звісаюць празрыстыя ледзяныя капяжы. За палавіну стыпендыі Кавалюк купіў дзіравую ватоўку, штаны. Не пойдзеш разгружаць вагоны ў тым, у чым ходзіш на лекцыі. Чаравікі тым часам можна не ашчаджаць. Новыя трэба купляць.

Разгрузка вагонаў бывае і днём, і ноччу. Звечара Кавалюк ідзе да таварышаў у інтэрнат лесатэхнічнага інстытута. Там пераапранаецца ў рызманы, якія ляжаць пад ложкам Маленды. З інтэрната — на станцыю. Ні Іван Скварчэўскі, ні Мікалай Банэдык у разгрузцы не ўдзельнічаюць. Не маюць патрэбы — у іх камуна, на харч стыпендыі хапае.

Брыгада Базыля пераважна з першакурснікаў лесатэхнічнага інстытута.

Таварная станцыя займае вялізную плошчу. Мноства пуцей, крыжавін, стрэлак, вагонаў — асобных і счэпленых па два, па тры, па пяць — яны стаяць па ўсім прасцягу; як грыбы, выраслі збітыя з аполкаў, бляхі буданчыкі складаў; уздоўж пуцей відаць штабялі цэглы, дроў, бярвенняў, піламатэрыялаў; узвышаюцца горкі цэменту, азбесту, мінеральных угнаенняў, выгружаных проста на зямлю. Усё гэта ляжыць побач з руінамі, развалінамі будынкаў і ўражвае беспарадкам.

На пуцях снег растаў. Толькі сям-там засталіся лапіны пачарнелай наледзі. Між рэек густа навалены кучы жужалю, смецця.

Да таварнай станцыі прымыкаюць ускраінныя, застаўленыя пераважна драўлянымі дамкамі вуліцы. Віхура вайны менш закранула прадмесце. Фацэтныя ўцалелыя дамкі ўскраін як бы кідаюць выклік сваім каменным сабраццям, якія ляжаць у руінах, стаяць з цёмнымі, закапцелымі праёмамі вокнаў.

Гаспадары драўляных харомчыкаў, амаль паўсюдна атуленых садамі, можна сказаць, перажываюць паласу поспеху. Кожны мае кватарантаў, бо палавіна жыхароў горада перамясцілася сюды. Растуць прыбыткі гаспадароў-аднаасобнікаў, вакол садоў вырастаюць новыя парканы. Каб не паквапілася чужое вока на жаўтабокія антонаўкі, слуцкія бэры, чорныя парэчкі.

Першую ноч і дзень студэнцкая брыгада выгружае дровы. Ад пульманаўскага вагона да кузава «студэбекера», у які адразу перакідаюць дровы, метраў дзесяць. Стаяць хлопцы жывым канвеерам, ад вагона да машыны, перадаючы адзін другому плашкі. Кавалюку здаецца, што пасля такой работы рук не падыме. Ные спіна, паясніца, рукі як волавам наліты. Але ідзе і на наступную ноч. Дровы перавозіць ваенізаваная арганізацыя і за цаной не стаіць.

Суткі Кавалюк адпачывае, нават на лекцыі ходзіць, на наступныя — на таварнай станцыі. Пагрузка, выгрузка — цяжкая работа, каб трымацца на нагах, трэба добра харчавацца. На харч Кавалюк цяпер грошай не шкадуе. Купіў у Базыля кілаграм сала — ён аднекуль прывозіць, камерцыйны, дарагі хлеб зноў стаў купляць.

Выгружаюць што прыйдзецца — цэглу, цэмент, вялізныя скрынкі з рознымі жалезнымі дэталямі да станкоў і самі станкі — на скрынках надпіс «Не кантаваць»,— каб спусціць такую скрыню на зямлю, трэба спецыяльныя падстаўкі, легары, вяроўкі і не менш васьмі — дзесяці грузчыкаў.

Найлепшы фарт — калі натрапіцца выгружаць прадукты. У горад прыбываюць пульманы-леднікі з замарожанымі каравячымі, свінымі тушамі, вагоны з мукой, макаронамі, крупамі, гарэлкай, рознымі кансервамі. У такіх выпадках грузчыкам апрача грошай часта перападае нешта з прадуктаў.

Добрыя гаспадарнікі дробязнымі не бываюць, могуць сёе-тое спісаць на бой, на ўтруску.

Кавалюк, папрацаваўшы два тыдні, разлічыўся з пазыкамі, купіў на таўкучцы, з рук, ваенныя англійскія чаравікі з жоўтай скуры і трохі паношаны, але яшчэ прыстойны шарсцяны касцюм у светла-шэрую палоску. Чаравікі, хоць і новыя, прапускаюць ваду, касцюм пашыты на гіганта, на худым Кавалюку матляецца, як на палцы. Але на такія дробязі можна не зважаць.

Ася з'яўляецца ў пакой штовечар. Не лічачы, як раней, пятакоў, Кавалюк ходзіць з ёй у кіно. Ён і да яе ў пакой завітвае. Іх часта цяпер бачаць разам, гавораць пра іх дружбу.

Зарабіўшы, колькі грошай паклаў на зберкніжку. Сёння, вярнуўшыся з ашчаднай касы з пачкам новенькіх хрусткіх крэдытак, адразу шуснуў да Асі. Меў намер на пачастунак яе запрасіць. Пераступіўшы парог, знямеў ад здзіўлення.

Ася сядзіць за сталом з незнаёмым мужчынам. На стале да палавіны выпітая бутэлька гарэлкі, закуска. «Муж прыехаў»,— мільганула ў Кавалюка думка. Ася збянтэжана, вінавата ўсміхнулася Кавалюку, але ў наступную хвіліну твар яе насупіўся. Зрабіла выгляд, што не ведае яго...

Кавалюк, крутнуўшыся на абцасах, выскачыў з пакоя. У апошнюю хвіліну паспеў заўважыць: у Асінага мужа шырокі азызлы твар, ускудлачаныя чорныя валасы, дзіўна растапыраныя ногі. На выгляд яму гадоў трыццаць.

Да гэтай хвіліны Асінага мужа, хоць ён пра яго ведаў, чуў, што ён ёсць, для Кавалюка не існавала. Ніколі не думаў пра яго.

Ён быў зданню, прывідам — далёкі і нерэальны. Цяпер нібы паўстаў з небыцця, прад'явіў на Асю правы.

Кавалюк некалькі разоў прайшоўся па калідоры, разлічваючы, што Ася выйдзе, растлумачыць. Яна, аднак, з пакоя не паказалася.

Ён гадзіны тры блукаў па горадзе, зайшоў у краму, дзе гандлююць уцэненымі рэчамі. Убачыўшы срэбраны пярсцёнак, не вагаючыся, купіў яго. Нёс яго, загарнуўшы ў паперку, схаваўшы ва ўнутраную кішэньку пінжака, радуючыся ад

думкі, што падорыць пярсцёнак Асі. Ён ёй яшчэ ніколі нічога не дарыў. Усё гэта надзвычай хвалявала.

Ася знікла. Ён праз кожныя пятнаццаць — дваццаць хвілін заглядваў у яе пакой. Яна не прыходзіла. Нават а палове дзясятай вечара, калі сіняе вясновае сутонне ахінула вуліцу, яе ўсё яшчэ не было. І ў адзінаццаць яе яшчэ не было.

Ён не ведаў, што думаць. Ушчэнт збянтэжаны, утрапёны, прыходзіў у пакой, клаўся на ложак, затым ускокваў, бег на калідор.

Калі з пакоя ўсе выйшлі, Кавалюк кінуўся да тумбачкі Мікалая Бухмача. Ведаў: ёсць у таго паляўнічы нож. Поркаўся ў тумбачцы, пакуль той нож не знайшоў.

Праз хвіліну ён шыбаваў па вуліцы Астроўскага. Уяўляў — Ася з мужам у кватэры маці. У яго, аднак, хапіла цвярозай развагі не падымацца па лесвіцы і не стукаць у дзверы гэтай кватэры.

Калі, гадзіну праблукаўшы між развалін, Кавалюк вярнуўся ў інтэрнат, Ася сядзела ў іхнім пакоі. Ад радасці ён забыў на ўсе пакуты, якія хвіліну назад разрывалі яго сэрца. Ён бачыў Асю, яна сама прыйшла да яго ў пакой, і гэтага было дастаткова, каб вылечыцца ад вар'яцтва.

Назаўтра ён спытаў пра мужа, але яна ў адказ толькі махнула рукой:

— Ну яго! Швэндаецца і душу ад'ядае...

Пярсцёнку Ася не вельмі ўзрадавалася: прымерала на палец і зараз жа зняла.

Яны з Асяй нібы ў змове супроць яе мужа, непатрэбнага ні ёй, ні яму. Ні пагарды, ні нянавісці не адчувае да гэтага чалавека Кавалюк.

Вясна наступае імклівa. У сярэдзіне красавіка на вуліцы па-летняму цёпла — можна хадзіць без паліто. У дварах, між руін да позняга вечара звіняць дзіцячыя галасы: настае пара гульняў.

— Пойдзем у рэстаран,— прапанавала Ася.— Паслухаем музыку, патанцуем.

Ён марыў пра другое — трапіць на кватэру па вуліцы Астроўскага. Рабіў недвухсэнсоўныя намёкі, раз ці два адкрыта сказаў, але Ася, спасылаючыся на розныя прычыны,

адмаўляецца. Між тым кватэра часта вольная — Асіна маці не сядзіць на месцы, прыязджае і ад’язджае.

Кавалюк паспеў заўважыць: Ася стрыманая ў выяўленні пачуццяў. Тое, што сама прыходзіць у пакой, нічога не значыць. Яна з усімі ласкавая, усім усміхаецца, з прыемнасцю прымае знакі ўвагі. З Кавалюком любіць хадзіць па вуліцы, бываць у кіно і наогул у людных мясцінах. Відаць, ёй падабаецца, што ён высокі і ў яго шырокія плечы. Калі астаюцца адзін на адзін, ні аб чым яго не распытвае, нічым асабліва не цікавіцца.

У рэстаране людзей, як сялёдак у бочцы. Дымна, тлумна. Не знайшоўшы вольнага месца, яны зараз жа выходзяць. Яшчэ светла на вуліцы. Дзень прыкметна прыбавіўся. На праспекце звініць трамвай. На ўскрайку плошчы сіні вагончык на драўляных падпорках. У ім — цір. Чуваць рэзкія шчаўчкі — нехта страляе з «паветранай» дробнакаліберкі.

— Зойдзем у цір,— гаворыць Ася.

Зайшлі. Белагаловы, без шапкі хлапчук, аддаўшы апошні рубель загадчыку ціра, з сумам глядзіць на малакаліберку, якую той ставіць у кут. Шкада хлапчука, відаць, не пашанцавала.

Таўставаты, у цёплым паліто загадчык, які збіраўся замыкаць сваю ўстанову, дзеля Асі затрымліваецца. Спадабалася яму. Ён нават дзве свечкі запальвае — каб лепей было Асі цэліцца.

На рубель — дзве свінцовыя кулькі. Ася стрэлаў не лічыць. Раз за разам пераломвае дробнакаліберку, устаўляе новую кульку, цэліцца. Цэлі — сава, заяц, воўк. Трэба трапіць у маленькае вочка на высунутай планачцы, і толькі тады намаляваныя на кружку бляхі звяры, птушкі падаюць, гайдаючыся на цвічку ўніз галавой.

Найчасцей Ася цэліцца ў ваўка. Некалькі разоў збівае яго.

Белагаловы хлапчук знямеў ад захаплення: дзяўчына, а так добра страляе.

— Вы сапраўдны снайпер,— гаворыць зачараваны загадчык, узнагароджваючы Асю плюшавым зайцам. Пра тое, ці хоча пастраляць Кавалюк, нават не пытае. А ён таксама някепска страляе: у спаленым нямецкім горадзе, калі тыдзень

сядзелі без мяса, адзіночнымі аўтаматнымі стрэламі збіваў на харч адзічэлых галубоў.

Прыціскаючы плюшавага зайца да грудзей, Ася выскачыла з ціра ўзбуджаная, радасная:

— Аскому сагнала. Эх, Коля-Мікалай!.. Не ведаеш ты, што такое стэп. Стэп — гэта воля. Я, бацька, Андрэй сядзем на коней і ляцім, ляцім, толькі вецер у вушах свішча. На сто кіламетраў ад вучылішча ад’язджалі.

— Андрэй — хто?

— Муж мой,— адказала нездаволена.

— Гаварыла — у цябе хлопец быў. Падобны на мяне. Загінуў пад Сталінградам.

— Віцьку забілі ў сорак другім. На паляванне ў сорак трэцім ездзілі.

Кавалюку зрабілася прыкра. Яна нібы ўгадала яго пачуцці:

— Не задзірай нос, што сама да цябе хаджу. Хлопцаў у мяне хапала. Ведаеш, колькі сваталася? — яе голас дзіўна зазвінеў.— Мільён... Выбрала п’яніцу. Другі раз сама не ведаю, чаго хачу. Надыдзе сум, хоць аб сценку галавой. Тады стэп успамінаю... І вельмі ж горка на душы.

На другі дзень Кавалюк меў нечаканую размову з супрацоўнікам органаў. Той паявіўся ў пакоі інтэрната, калі ў ім, акрамя Кавалюка, нікога не было, паказаў, выцягнуўшы з нагруднай кішэні звычайнага шэрага пінжачка, пасведчанне, назваў нумар пакоя ў доме на пляцы Волі, куды трэба з’явіцца.

Калі Кавалюк праз гадзіну з’явіўся па адрасе, сярэдняга веку, хударлявы супрацоўнік сустрэў яго добразычліва. Прапанаваў закурыць, пацікавіўся ўмовамі жыцця, вучобай. Але першым жа пытаннем, зададзеным афіцыйна, паставіў у тупік:

— Раскажыце, што ведаеце пра Маленду?

Кавалюк расказаў. Між сабой яны, змоўшчыкі, нічога не таілі. У свой час нават справаздачы аб падпольнай дзейнасці пісалі. Пра ўдзел Маленды ў гэтай дзейнасці Кавалюк і расказаў, не ўтойваючы некаторых хібаў таварыша — яго гарачнасці, а больш легкадумнасці.

Супрацоўнік дзяржбяспекі не выяўляе ніякіх эмоцый. Слухае, сёе-тое запісвае.

Наступнае пытанне яшчэ больш нечаканае:

— Што ведаеце пра Гвазда?

Кавалюк нават зніякавеў. Прозвішча Гвазда нічога добрага ў памяці не выклікае. Быў найбольшым ворагам местачковых падпольшчыкаў, віжаваў за кожным іх крокам. У адрозненне ад немцаў-жандараў, якія нічога ў мясцовых справах не разумелі, Гвозд здрадніцкім нутром чуў, хто чым дыша. Дый людзей, абставіны местачковага жыцця ведаў: да вайны быў начальнікам пашпартнага стала. З першых дзён акупацыі ўступіў у паліцыю. Праз два-тры месяцы немцы расшалопалі, што такую рэдкую птушку, як Гвозд, затанна трымаць у паліцыі. Дэманстратыўна выгналі яго адтуль, абвінаваціўшы, што нядбайна нясе службу, адабралі перад строем вінтоўку. Зрабілі шпіком.

Бадай, большасць местачковых правалаў, арыштаў, расстрэлаў звязана з Гваздом.

Апошнім пытаннем следчы зусім збівае Кавалюка з тропу:

— Дапускаеце магчымасць сувязі Маленды з Гваздом?

Гвозд — сволач, правакатар, уцёк з немцамі. Якая можа быць сувязь? Але настрой у Кавалюка сапсуты. Цёмным прывідам паўстаюць дні акупацыі, якія ўспамінаць не хочацца.

У той жа дзень Кавалюк расказаў Івану Скварчэўскаму пра размову наконт Маленды. Той чэша патыліцу:

— З жулікамі Базыль звязаўся, гэта ясна. Спекуляцыяй займаецца. Трэба асадзіць...

Май. Мір, цішыня. Зеляніна дрэў, трава прыкрывае раны разбуранага горада. Цяпер, у разгары вясны, Мінск выглядае шмат прывабней, чым восенню і нават зімой.

Другі курс журналістыкі едзе на маёўку ў вёсачку, дзе нарадзіўся Янка Купала. Прыгожыя мясціны. Пагоркавая раўніна, на якой сям-там вынікаюць бярозавыя, дубовыя гаі, блішчыць стужка рачулкі, люстэркі сажалкі.

З акна вагона відаць палі густой маладой руні. Можа, будзе добры ўраджай, кончацца карткі, камерцыйныя цэны?

У сусветных справах ладу няма. У газетах усё часцей напамінак пра новую вайну — тэрмаядзерную. Часцей непаразуменні з былымі саюзнікамі. Ён, Кавалюк, проста непрадбачлівы чалавек і палітык ніякі. Калі канчалася вайна,

думаў: запануе спакой, згода між людзьмі, краінамі. Жонкі, нявесты, якія дачакаліся мужоў і жаніхоў, будуць жыць, радавацца сонцу, цішыні. Намнога складаней усё, заблытаней. Часіна ўсеагульнага шчасця яшчэ не наступіла. Дый ці наступіць наогул?

Здарылася нарэшце тое, чаго Кавалюк баяўся. Ася ўбачыла яго ў рызманах, калі варочаўся з пагрузкі. Чорт ведае, чаму так здарылася. Як звычайна, гадзін у сем раніцы ён ішоў у інтэрнат лесатэхнікаў пераапранацца. Ася была на вакзале: чакала цягніка. Убачыўшы Кавалюка ў дзіравай ватоўцы, заляпаных вапнай брызентавых штанах, збянтэжылася. Адвярнулася, зрабіўшы выгляд, што не пазнала. Пазнала, вядома...

Вечарам у пакой не прыйшла. Ён таксама зацяўся. Нават раззлаваўся. Падумаеш, чыстаплюйка... Бацька ваенны, палкоўнік ці, можа, генерал. Ну і што?.. Бегаць за ёй ён не будзе...

У наступныя дні ён пабачыўся з Асяй: нельга, ходзячы па адным калідоры, не пабачыцца. Яны пагаварылі, нават умовіліся схадзіць у кіно... Была прычына абрадавацца.

Кавалюком валодае журблівы, развітальны настрой. Чагосьці ў іх адносінах з Асяй не хапае. Чаго?.. Ён сам не ведае. Яна ўвесь час маўклівая, задуменная, нібы рашае і не можа рашыць цяжкую задачу. Нешта ў яе душы адбываецца.

Зіна таксама рэдка прыходзіць да Мікалая Бухмача. У пакоі пасля таго, як выключаюць святло, не застаецца. Адзін раз, пашаптаўшыся з Мікалаем, выскачыла плачучы...

Кавалюк штодня наведвае местачковых сяброў. Сесія ў лесатэхнічным інстытуце на тыдзень раней, чым ва ўніверсітэце. Хлопцы ўбіліся ў кнігі, нават Базыль сядзіць у бібліятэцы. Збіраючыся штодзённыя наведванні прыпыніць, бо ў самога пачынаюцца залікі, Кавалюк прыйшоў у інтэрнат лесатэхнікаў і застаў Івана Скварчэўскага ў трывозе.

— Базыля Маленду міліцыя арыштавала. Дажыўся.

— За што?

— Звязаўся з барыгамі. Спекуляцыяй займаліся.

Івану ёсць падстава трывожыцца: Маленду па яго пратэкцыі прынялі ў інстытут, стыпендыю давалі. Ён жа не толькі не здаў ніводнага экзамену, але і свой курс абняславіў.

Праз дзень Маленду з міліцыі выпусцілі. Хлопцы на яго насядаюць.

— Абібок. Ніводнага экзамену не здаў. Няўжо, думаеш, у інстытуце пакінуць?

— Інстытут не галоўнае.

— Што тады галоўнае?

— Трэба праўду даказаць...

— Вось як...

У чарадзе непрыемных падзей, якія завалаклі ў свой вір Кавалюка, адна прыемная: сустрэча з рэдактарам абласной газеты. Рэдактар, як і раней, у афіцэрскай гімнасцёрцы, брыджах, ботах, але на руцэ трымае цывільны плашчык, на паголенай галаве замест вайсковай фуражкі звычайная кепка. Прыехаў у Мінск на нараду, напаткаўшы на вуліцы былога карэспандэнта, жвава аглядае чорнымі вочкамі-свярдзёлкамі яго касцюм-балахон, жоўтыя ваенныя чаравікі, не першай свежасці сарочку.

— Можа, матэрыял нам прышлеш?

— Пра што?

— Як Мінск адбудоўваецца. Знайдзі прараба — франтавіка ці партызана. Пагавары з ім... Цікавы матэрыял можа атрымацца.

Прараба Кавалюку шукаць не трэба. На таварнай станцыі сутыкаўся з імі часта. Нават прозвішчы некаторых помніць.

Чатыры дні, нібы прывязаны да стала, сядзіць Кавалюк. Піша нарыс пра аднаўленне Мінска. Ужо нават ад пісаніны рука разбалелася.

Залікі, экзамены... Зялёны месяц чэрвень канчаецца. Цвітуць ліпы, таполі, носіцца па вуліцах белы пух. Асталося здаць апошні экзамен, два тыдні адпрацаваць на разборцы руін.

З абласной газеты Кавалюк атрымлівае ганарар — дзве стыпендыі адразу. Апошні экзамен здае. Усеабдымнае пачуццё свабоды...

Ідзе ў пакой да Асі. Сходзяць у кіно. Можа, яшчэ кудынебудзь. Асі няма. Ён другі і трэці раз заглядвае ў пакой. Дзяўчаты-таварышкі, кідаючы адна на другую пранiклівыя позіркі, нічога пэўнага не гавораць. Што тут думаць?

Вечарам у інтэрнат завітвае местачковец Ігнат Пшанічнік, маларослы, шырокі, як кадобчык, з круглым тварам і светлымі вусамі. Прыехаў у Мінск да доктара (выразаць ці не выразаць грыжу), начаваць няма дзе. На начлег у інтэрнаце Ігнат разлічваў яшчэ ў мястэчку, бо прадбачліва ўзяў адрас Кавалюка і пасылку ад маці — крышанчык сала, некалькі яек.

Ігнат даводзіцца далёкай раднёй, у галодны трыццаць трэці год, калі ў сям'і Кавалюка запусцілася карова, адрываючы ад сябе, штодзень даваў ім збанок малака. Кавалюк помніць тыя збанкі...

Прымае ён дзядзьку як належыць. За паўлітрай збегаў, закуссю стол уставіў, на ўласным ложку спаць палажыў.

Ігнат выкладвае местачковыя навіны. Ад адной Кавалюк уздрыгвае: знайшлі і судзілі былога шпіка Гвазда. Прыткнуўся ў шавецкай арцелі ў Баранавічах, прозвішча змяніў, бараду адрасціў. Іскрай у свядомасці здагадка: Базыль ездзіў у Баранавічы, вось чаму следчы выклікаў. Няма нічога тайнага, што б не стала яўным.

Вечарам наступнага дня вырашаецца яшчэ адна загадка. На вуліцы, перад інтэрнатам, Кавалюк твар у твар сутыкаецца з Асяй. Яна ідзе поруч са сваім мужам, плячыстым, шыракатварым, апранутым у пакамечаны цывільны касцюм. Ася робіць выгляд, што не пазнае Кавалюка. Хаваецца за вуглом, не азірнуўшыся. Ён сам не ведаў, што гэта яго так моцна ўзрушыць. Як і мінулы раз, калі муж прыязджаў да Асі, ён не знаходзіць сабе месца, некалькі разоў бегае ў пакой да Асі. Начаваць яна не прыйшла. Ён забыўся кароткім нервовым сном пад раніцу. Прачнуўшыся, зноў кінуўся ў Асін пакой. Дзяўчаты, пазіраючы ў дол, паведамілі — забрала рэчы, паехала дамоў на канікулы... Ён адчуў: у інтэрнаце на Нямізе жыць болей не зможа. Тут усё нагадвае Асю: яго, яе пакой, доўгі паўцёмны калідор, умывальнік, вузкі дворык, дзе столькі вечароў ён яе чакаў.

Зараз жа ён рушыў на паштамт, заказаў па тэлефоне горад, дзе выходзіць абласная газета. Рэдактар згадзіўся зноў прыняць яго на сталую работу.

На сесію Кавалюк прыехаў толькі зімой. Ні ў гэты свой прыезд, ні ў наступны Асю не сустрэў. Яна, відаць, пакінула

ўніверсітэт. Пакінулі яго матэматыкі-першакурснікі Мікалай Бухмач і Зіна, раз’ехаўшыся ў розныя бакі. Зіна, па чутках, нарадзіла дзіця. Пашанцавала Мікалаю на сына, але ж...

Па-рознаму ў інтэрнаце на Нямізе сыходзіліся дзве чалавечыя пары, а вынік аднакі. Песня не спелася.

У яго студэнцкім жыцці было яшчэ некалькі інтэрнатаў на вуліцах Віцебскай, Маскоўскай, Свярдлова. Шчаслівым было лета, праведзенае ў невялікай драўлянай школцы на стыку вуліцы Астроўскага і другой, якая ідзе ўніз, у драўлянае прадмесце, і назвы якой ён дасюль не ведае.

У сваіх вандроўках Мікалай Іванавіч найчасцей завітвае на Нямігу. Аднойчы вычытаў у паэта: «Общежитие, пристань моя путевая...» і адразу выбліснула — і любоў у яго тая самая, што і ў паэта.

*1978*

## ЛЮБІМЫ ГОРАД

Когда товарищ мой домой вернется,
Родные ветры вместе прилетят,
Любимый город другу улыбнется,
Знакомый дом, зеленый сад и
нежный взгляд...

*З даваеннай песні*

### ЧАСТКА ПЕРШАЯ

#### I

Вось і скончылася твая вайна, Васіль Войцік. Ты прайшоў дарогі, якія было суджана табе прайсці, пабачыў чужыя краіны, вярнуўся ў родны дом. Радуйся. Бо многія твае сябры-таварышы з вайны не вярнуліся...

Васіль дэмабілізаваўся ў Харкаве. У шматпакутным Харкаве, які пераходзіў з рук у рукі, за лёсам якога Васіль сачыў, то поўнячыся трывогай і смуткам, то адчайна радуючыся.

Ён жыў вайной, памятае дні, месяцы, калі які-небудзь горад нашы здалі або нарэшце вярнулі назад.

У Харкаве Васіля, выпісваючы са шпіталя, камісавалі. Памог доктар Мітрафанаў, шпітальны неўрапатолаг. Ён лепей за іншых разумеў: у арміі Васіль не служака. Кантузія і два, няхай сабе не вельмі цяжкія, раненні ў галаву дабра не зычаць.

З Германіі Васіль вёз стус нямецкіх кніг. Узяць іх дамоў пабаяўся. Адчуў: «клімат» не той. Выпісаны са шпіталя, ён тыдні два кватараваў на ўскраіне горада, у дамку, размешчаным побач з паўлаўскімі казармамі.

Цяжка дабіраецца Васіль дадому. Дэмабілізацыя з арміі нагадвае вялікае перасяленне народаў. Станцыі, прыстанцыйныя плошчы шчыльна забіты людзьмі ў шэрых шынялях. Цягнікі, нават таварныя, бяруцца штурмам. Салдаты едуць на тармазах, на дахах вагонаў, вісяць на падножках.

Васілю собіла ўзбіцца на паравозны тэндар. Але, трымаючы цяжкі чамадан, ён вывіхнуў руку. Правую. У чамадане сёе-тое ёсць: некалькі адрэзаў матэрыі, якія параненым выдалі яшчэ ў шпіталі, радыёпрыёмнік «Філіпс», падараваны сяржантам-тэхнікам Паповым, паліто з шырачэннымі плячамі, у бурую клетку, пашытае ці не з таго самага матэрыялу, з якога робяць крапіўныя мяхі. Паліто, заняўшыся камерцыяй, Васіль выменяў за прадукты.

Васіль не ведаў, як бы давёз чамадан да мястэчковай станцыі, каб не натрапіў на добрага чалавека, у якога матляўся за спіной амаль пусты рэчавы мяшок. Ён насіў Васілёў чамадан на ўсіх станцыях, узбіраўся з ім на тармазы, у перапоўненыя цяплушкі і яшчэ Васілю памагаў узлезці. Бывалі выпадкі, калі Васіль адставаў, і салдат чакаў яго ці нават расшукваў у натоўпе.

У Гомелі Васіль раскрыў чамадан, выняў штуку штучнага шоўку, падараваў збавіцелю. Салдат кінуўся да яго цалавацца і нават заплакаў.

І вось родная станцыя. Тыя самыя стагадовыя разгалістыя таполі, будынкі, пафарбаваныя ў жоўты колер, вышчарблены перон, стрэлкі, пад невялікім навесам, побач з кабінетам дзяжурнага медны звон, у які звоняць перад адыходам цягнікоў.

Такой жа зімовай парой Васіль ехаў на вайну. Ад'язджаў у заходнім напрамку, а вярнуўся з усходняга. Зямля сапраўды круглая. Ён пабываў пад Ленінградам, на Карэльскім перашыйку, у Эстоніі, Літве, ва Усходняй Прусіі, у Польшчы, Германіі, Чэхаславакіі. Хадзіў, ездзіў па розных дарогах, пабачыў многа вёсак, паселішчаў, гарадоў. Начаваў у казармах, хатах, зямлянках, а то і проста ў лесе ці ў полі пад адкрытым небам.

Добры дзень, роднае мястэчка! На вайне Васіль нават думаць баяўся, што жывы, здаровы вернецца дамоў. І вось вярнуўся. Дзень хмурны, змрочны, зямля яшчэ не пакрыта снегам, але Васіль на гэта не зважае. Ён поўны радасці і ўтрапення.

Радасць нават залішне доўга зацягваецца. У першы ж дзень Васіля наведваюць сябры-таварышы з ліку тых, хто застаўся жывы. Іван Гарошык, Кузьма-Дзям'ян, Мікола Пішчык. Яны ўсе ў інстытутах. Якраз прыехалі на канікулы.

Іван Гарошык і Мікола Пішчык вучацца ў Гомелі, у лесатэхнічным інстытуце, Кузьма-Дзям'ян у Мазыры, у настаўніцкім. З нагоды вяртання таварыша хлопцы вырашылі прадоўжыць канікулы. Кожны дзень прыходзяць да Васіля. Ён бясконца расказвае пра баявыя прыгоды, ставіць, вядома, гарэлку.

Не знаходзіцца чалавека, хто б штурхнуў яго пад руку. Бо Васілю таксама трэба вучыцца. Гарэлка дарагая, і за тыдзень гасцявання ад сямі тысяч, што назбіраліся на ашчаднай кніжцы, засталася толькі адна.

Страчанае не вернеш. Такі валодаў Васілём настрой. Ён не мог стрымаць радасці, што застаўся жывы. Нібы нанава нарадзіўся на свет.

Паўстае пытанне: дзе вучыцца? На стацыянары Васіль, відаць, не ўтрымаецца. Патрэбна дапамога. А якую Васіль можа мець дапамогу, калі бацька па-ранейшаму працуе стрэлачнікам, мае мізэрны заробак, а па хаце выдыбаюць два школьнікі — Сяргей і Люся,— якія за час Васілёвай адсутнасці прыкметна падраслі і, несучы за плячамі сумкі з кнігамі, а ў руках чарніліцы-невылівайкі, важна кіруюць у школу.

Петрык працуе ў Гомелі: малатком з доўгай ручкай абстуквае колы, бандажы, восі вагонаў. За свой заробак Петрык

у горадзе пракарміцца не можа і прагне перавесціся на мястэчковую станцыю.

Да вайны, калі Васіль, выбіраючыся ў грыбы, блукаў па сасновых пералесках, верасах, у ягонай душы нарадзілася блакітная мара: паступіць у КІЖ — Камуністычны інстытут журналістыкі. А цяпер КІЖа няма — ён нібыта стаў факультэтам БДУ — Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Як дабрацца да таго БДУ, тым болей што паўгода ўжо ідуць заняткі.

З ціхім смуткам успамінае Васіль Інгеборг. Ён, мабыць, ніколі яе не пабачыць і ліста не напіша. Па ўсіх прыкметах палякі збіраюцца выселіць немцаў з Сілезіі, з горада, у якім жыла Інгеборг. Дзе цяпер чарнявая, падобная на грузінку дзяўчына?

Калі шпіталь размясціўся пад Луцкам, адтуль пасылалі машыну ў сілезскі горад, з якога Васіль выехаў. Ён пра гэта не ведаў. Інакш — чаго б гэта ні каштавала — ён быў бы ў той машыне, а значыць, яшчэ раз пабачыў бы Інгеборг. Цэлы месяц ён дакараў доктара Мітрафанава за тое, што не сказаў яму пра машыну.

Мястэчка шэрае, панылае. Большая частка галоўнай, Савецкай вуліцы застаўлена вясковага выгляду хацінамі. У Еўропе такіх хацін не пабачыш. Хіба што ў Польшчы. І то не ўсюды. У Васіля баліць душа ад выгляду роднай сельшчыны. Бо ў краінах, дзе ён быў, іншы лад і парадак. Камень, мур, прыгожая забудова. У сэнсе быту доўга нам трэба даганяць Еўропу.

Васіля не пакідае думка аб вучобе. Ён едзе ў Мазыр. На ім вайсковы шынель з жоўта-зялёнага англійскага сукна, вялізныя кавалерыйскія боты з доўгімі бліскучымі халявамі (раздабыў у нямецкай казарме), чыгуначная шапка-кубанка. Шапку падараваў бацька.

Васіль узбіраецца на тармазную пляцоўку таварнага вагона. На пасажырскі цягнік разлічваць не прыходзіцца: захопліваюць дэмабілізаваныя.

Навокал мірная зямля. Яна ўжо болей як два гады мірная. Але асаблівых перамен не відаць. Так, сёе-тое падлатана, падфарбавана. Немцы, марудна, жорстка агрызаючыся, адступалі

ад мястэчка. Нават вызваленае, яно абстрэльвалася два тыдні. Адлегласць ад мястэчка да наступнага чыгуначнага гарадка — сорак кіламетраў. Нямецкую абарону нашы дывізіі літаральна прагрызалі на кожным кіламетры. Нарэшце каля станцыі Гулявіца фронт застыў.

Нарасціўшы сілы, па гэтай станцыі, чыгуначным гарадку, па самім Мазыры нашы наносяць у пачатку зімы моцны ўдар. Заваёўваюць плацдарм на поўдні, у падбрушшы Беларусі. Каб з балоцістага Палесся ўдарыць летам пад самы дых нямецкай арміі...

Снег злёгку пакрыў зямлю. Малюнкі навокал шэрыя, някідкія. Нішто не паказвае, што, выйграўшы вайну народ радуецца, працуе з незвычайным імпэтам. З комінаў пахілых хат цягнуцца ў неба шызыя дымы. Пуцейцы, якія працуюць на чыгунцы, у паношаных, нават парваных вопратках. Яны абыякавымі позіркамі праводзяць цягнік. Навокал будні, звычайныя будні...

Малюнак лесу і цяпер паказвае, што ў гэтых мясцінах ішла зацятая барацьба. На ўсім працягу дубы-волаты. Лес багоў. На Палессі многа такіх лясоў. Толькі ад Гулявіцкай дубровы мала што засталося. Асколкі снарадаў, бомбаў паадсякалі ад дубоў галіны, і дрэвы нагадваюць высокія завостраныя вежы.

У настаўніцкі інстытут Васіль паступіў на дзіва лёгка. Дэкан завочнага аддзялення бярэ ягоную заяву, даведку аб адукацыі, для прыліку задае некалькі пытанняў з матэматыкі, фізікі за дзявяты, дзясяты класы.

На развітанне худаваты, чарнявы, хмуры з выгляду дэкан гаворыць:

— Калі ведаеце матэматыку і фізіку, то па гісторыі, літаратуры як-небудзь выплывеце...

Смяшлівая дзяўчына-сакратарка паставілася да Васіля яўна прыхільна, тут жа выпісала даведку, што ён студэнт-завочнік першага курса гісторыка-філалагічнага факультэта. Пячаткі на даведцы няма. Толькі штамп.

Васіль высвятляе: Гэля Машчынская ў інстытуце не вучыцца. Значыць, яшчэ не дэмабілізавалася. Дадому да яе ісці не варта: там, відаць, жывуць чужыя людзі.

Будынак інстытута нагадвае местачковую дзесяцігодку. Такі самы план пабудовы.

Мазыр не вельмі разбураны. Маленькі, з аблупленымі двухпавярховымі будынкамі горад. На гары відаць руіны. Там, здаецца, стаяў вялікі белакаменны будынак. Абкам партыі ці аблвыканкам.

У Васіля раптам узнікае жаданне наведаць рэдакцыю абласной газеты. Да вайны яна змясціла некалькі ягоных заметак.

Драўляны двухпавярховы дамок рэдакцыі нагадвае вялікі карабок запалак. Васіль адчыняе дзверы і па крутой вузенькай лесвічцы падымаецца на другі паверх. Разважае так: начальства павінна знаходзіцца на вышэйшым паверсе.

Васіля спатыкае худзенькая чарнявая дзяўчына. Дазнаўшыся пра мэту ягонага візіту, радасна ўсклікае:

— Я памятаю ваша прозвішча. Вы, здаецца, і вершы пісалі...

Дзяўчына зараз жа вядзе Васіля па калідоры і стукае ў дзверы апошняга з левага боку пакойчыка. За сталом маленькая, са зморшчаным задумлівым тварам жанчына.

— Наш селькар,— прадстаўляе Васіля дзяўчына.— Пісаў да вайны. Хоча паступіць да нас на работу.

Жанчына з хвіліну разглядвае Васіля. Вочы ў яе добрыя, сінія, нібы васількі.

— У горадзе ў вас кватэры няма?

— Няма.

— Мы вас прымаем куставым карэспандэнтам. Будзеце абслугоўваць ваш і яшчэ два раёны.

На сцяне, за спіной маленькай рэдактаршы, карта вобласці, і яна паказвае Васілю ягоныя раёны. Цэнтр аднаго — чыгуначны гарадок, які прылягае да Мазыра (гэта добра, якраз па дарозе), другі раён трохі збоку. Васіль адразу згаджаецца.

— Вось і добра. Зараз вас аформім. Зіна, паклічце Федзю...

Праз хвіліну ў пакойчык неяк медзведзявата, бокам увальваецца паўнаваты бялявы хлапчына, рослы і шыракаплечы.

— Слухаю, Вольга Міхайлаўна...

— Федзя, наш новы карэспандэнт. Аформіце на яго дакументы, раскажыце пра абавязкі...

Лёгкасць, з якой Васіль уладкоўваецца ў такую паважаную ўстанову як рэдакцыя абласной газеты, як бы прыдае яму смеласці.

— Вольга Міхайлаўна,— звяртаецца да рэдактаршы,— ці нельга атрымаць аванс?

— Вы толькі што дэмабілізаваліся?

— Два тыдні назад.

— Федзя, зрабіце што трэба. Дадзім тысячу рублёў пад'ёмных і аванс. У размеры вашага акладу. Грошы будуць заўтра...

Заўважыўшы збянтэжанасць новага карэспандэнта, рэдактарша ўгадвае яе прычыну.

— Можаце пераначаваць у рэдакцыі. Наогул, прыязджаючы, будзеце тут начаваць. У гасцініцы месца не знойдзеце...

І вось Васіль адзін на адзін з Федзем Істоміным, адказным сакратаром газеты. Вольга Міхайлаўна — намеснік рэдактара, бо рэдактар газеты яшчэ не прызначаны. Чарнявая дзяўчына, якая сустрэла Васіля на калідоры, завуць яе Зіна Карамзіна,— загадчыца аддзела пісем. Яна і да вайны займала гэтую пасаду, і не выключана, што сапраўды запомніла Васілёва прозвішча.

— Вершы пішаш? — нечакана пытае Федзя Істомін.

Пытанне Васіля збянтэжыла. Федзя гаворыць па-руску. І вымаўленне ў яго адметнае, не такое, як у тутэйшых жыхароў.

— Трохі балуюся,— прызнаецца Васіль.— Толькі маіх вершаў не друкавалі.

Твар адказнага сакратара святлее.

— Будзеш маім напарнікам. Бо толькі адзін я друкую вершы. Ды і пішу па-руску. Так што, дружа, твары. Пра ўгнаенні пісаць прымусяць, а вершы няхай нараджаюцца па натхненні. Прысылай мне...

Федзя Істомін сапраўды адметны чалавек. Ні пра якія абавязкі карэспандэнта не гаворыць, паблажліва пасміхаецца, выпытвае, якія кнігі Васіль чытаў, хто з пісьменнікаў яму падабаецца.

У пакой да адказнага сакратара (ён большы, прастарнейшы, чым у намесніка рэдактара) заходзяць загадчыкі аддзелаў, літсупрацоўнікі, і Васіля з імі знаёмяць.

Мазыр размешчаны на пагорках, і прыгожа глядзець, як карабкаюцца па іх схілах драўляныя і мураваныя дамкі. Некаторыя з іх размешчаны на самай седлавіне. Вуліца, на якой размешчаны будынак рэдакцыі, нагадвае цяснінку між пакатых пагоркаў.

Загадчык сельскагаспадарчага аддзела Алесь Гарватоўскі, рослы, з хваравітым тварам і трохі глухаваты дзяціна гадоў пад трыццаць, учэпліваецца за Васіля, як клешч. Вядзе ў свой кабінецік, размешчаны на першым паверсе.

— Ты ведаеш, пра што трэба пісаць?

— Пра жыццё,— адказвае Васіль, відаць, пад уплывам размовы з паблажлівым адказным сакратаром-паэтам.

— Пра якое жыццё? — ледзь не лямантуе загадчык сельскагаспадарчага аддзела.— Няма ніякага абстрактнага жыцця. Ёсць рамонт трактароў, вывазка ўгнаенняў, падрыхтоўка да веснавой сяўбы. Ідзі ў калгасы, саўгасы, МТС і давай нам факты з першых рук. Твой куст (толькі цяпер Васіль разумее, што куст — гэта група раёнаў) сельскагаспадарчы, і працаваць будзеш на мой аддзел. Пераважна. Твой месячны план: шэсць сваіх матэрыялаў і шэсць арганізаваных. Свае будзеш пісаць сам і арганізаваныя таксама. За свае палучыш ганарар, за арганізаваныя — дулю на талерцы. Зразумеў?..

Дванаццаць матэрыялаў на месяц! Выгляд карэспандэнта, відаць, выдае ягоную збянтэжанасць. Гарватоўскі гэта заўважае і тут жа як бы мякчэе:

— Не вешай нос на квінту. Не такі страшны чорт, як малююць. Асвоішся — нават болей будзеш пісаць...

Гарватоўскі, які прачытаў суровую лекцыю пра абавязкі карэспандэнта, тут жа Васілю дапамагае. Звоніць у друкарню, і карэспандэнту прыносяць ёмісты рулон газетнай паперы. У пакоіку Зіны Карамзіной Васіль бачыць шафу з кнігамі, часопісамі. Бярэ што хоча. Зіна не пярэчыць. Нават перавязвае шпагатам пакунак.

Вечарам прыходзіць вартаўнік рэдакцыі, стары бурклівы яўрэй па прозвішчы Чарнагуз.

— Выбірай які хочаш пакой,— дазваляе.— Спі на стале або на падлозе. Пад галаву кладзі падшыўку газет, шынялём акрыешся. У цябе харошы шынель. Амаль што новы.

Назаўтра Васіль атрымлівае пасведчанне, аддрукаванае на звычайным газетным бланку, грошы, бярэ пад паху рулон з паперай, у руку вязанку з кнігамі і кіруе на пераправу праз Прыпяць.

У ягонай галаве нараджаецца грандыёзны план.

## II

Тое, што Васіль — студэнт-завочнік настаўніцкага інстытута, асабліва не радуе. Да вайны жыла ў душы другая блакітная мара — КІЖ. Што з таго, што КІЖа няма і ён стаў факультэтам журналістыкі БДУ. Значыць, трэба ехаць у Мінск. Калі ўжо вучыцца завочна, то лепей у БДУ.

Збіраючыся ў Мінск, Васіль не думае, дзе будзе жыць, як харчавацца. Армія, фронт як бы прывучылі да авантурызму.

Да Гомеля Васіль едзе таварняком. Выбраў платформу, гружаную сасновымі бярвеннямі, знайшоў зацішны куток. Нягледзячы на холад, нават прыдрамнуў па дарозе.

Ад таварнай станцыі, куды прыбыў цягнік, да станцыі пасажырскай не так блізка. Пачынае згушчацца вячэрні змрок. Праз Гомель Васіль і дадому дабіраўся, але толькі цяпер разгледзеў, што горад нашчэнт вынішчаны. Руіны і пустыя абпаленыя каробкі будынкаў.

Васіль своечасова прыдыбвае на вакзал. Стаіць пасажырскі цягнік на Мінск, каля вагонаў ніякага натоўпу. Нават праваднікоў не відаць. Проста нейкае шчасце.

Вагоны паўнюткія, у іх нашчэнт забіты купэ, полкі, закуткі. Васіль забіраецца ў вагон, чакае, пакуль цягнік кранецца, потым пакрысе праціскаецца наперад. Чалавека ў шынялі з вагона не выганяць. Білета ў Васіля няма, але пры дэмабілізацыі яму выдалі вайсковае патрабаванне на білет.

Хутка Васіль нават на лаўку прымошчваецца. Седзячы дрэмле, прачынаецца, затым яго зноў захліствае хваля ці то сну, ці то трызнення. Так ён даязджае да Мінска. Пачынае днець. Світанне попельна-шэрае, невыразнае.

Божа літасцівы, ніякага Мінска няма!.. Стаіць Дом урада (быў Васіль у Мінску пасля пятага класа, школа пасылала на

экскурсію), некалькі абсмаленых, пакрытых налётам чорнай копаці наспех адрамантаваных будынкаў, а далей, як кінуць вокам,— абгарэлыя шкілеты дамоў і руіны, руіны... І вось у такім горадзе працуюць БДУ, медыцынскі інстытут, Інстытут народнай гаспадаркі (у ім вучацца дзве дзяўчыны з мястэчка), іншыя вышэйшыя навучальныя ўстановы.

Купка абгарэлых будынкаў, якія відаць з вакзала, і ёсць БДУ. З'еўшы кавалак хлеба, намазаны шмальцам (маці дала на дарогу), Васіль ідзе шукаць факультэт журналістыкі.

Ва ўніверсітэцкім гарадку — так называецца купка ў канструктывісцкім стылі ўзведзеных будынкаў, наспех адрамантаваных — займаюцца фізікі, матэматыкі, хімікі, размешчаны інтэрнаты. Тым часам у журналістаў сталага прытулку няма. Займаюцца ў школах, размешчаных у розных частках горада, у другую змену.

Цэлы дзень вандруе Васіль па горадзе, шукаючы дэкана факультэта журналістыкі Ліхтаровіча. Знаходзіць яго адвячоркам у адной са школ. Дэкан маўкліва разглядае Васілёву даведку.

— Прыняць вас, малады чалавек, не магу. Нават на завочнае аддзяленне. У вас не атэстат, а звычайная паперка. У нас ёсць падрыхтоўчае аддзяленне. Там можна здаць экзамены за сярэднюю школу.

Васіль ідзе ў інтэрнат падрыхтоўчага аддзялення. У прасторным пакоі ложкаў сорак. Абшарпаныя сцены, на якіх, аднак, наклеены рэпрадукцыі карцін розных мастакоў, выразаныя з часопіса «Огонёк».

На бліжэйшым ложку сядзіць хлапчына, запіхваючы ў чамадан нейкія транты. Ён сярэдняга росту, з прыемным чарнявым тварам. Васіль знаёміцца з хлопцам. Ён з падрыхтоўчага аддзялення. Завуць Жэня Міхнюк. Ягоная вёска недалёка ад Мінска, ля Стоўбцаў, і Жэня едзе дамоў, каб прывезці харчу.

— Якая ў цябе адукацыя? — цішком распытвае Васіль Жэню.

Жэня азіраецца па баках.

— Сем класаў. Але я дастаў даведку за восем. Тут ёсць нават такія, у каго і сямігодкі няма. Нічога пакуль не кемяць. Тыя, у каго дзевяць, дзесяць класаў, вучацца ва ўніверсітэце.

Васіль весялее. Пры такіх умовах ён здасць экзамены. Не ўсё ён забыў, і наўрад ці будуць лішне прыдзірацца выкладчыкі, што ўбіваюць веды за сярэднюю школу ў галовы сямікласнікаў.

Жэня дае Васілю на дзве ночы свой ложак, кружку, каб браць з тытана кіпень. Нават ладны кавалак хлеба ахвяруе.

І пачынаецца трыумфальнае Васілёва шэсце. Вялікая група падрыхтоўчага аддзялення піша рускую дыктоўку. Сівая, з грубаватым, але добрым маршчыністым тварам выкладчыца садзіць Васіля сярод сваіх гадаванцаў. Дыктоўку пішуць чалавек семдзесят. Першы экзамен — і бліскучая перамога. Пяцёрку атрымлівае адзін Васіль. Не зрабіў ніводнай памылкі. Не забыў, значыць, рускую граматыку.

Пяцёрка ў заліковым лістку як бы робіць магічнае ўздзеянне на астатніх выкладчыкаў. Васіль іх ловіць, дзе можа. У аўдыторыях, на калідорах, да матэматыка ідзе нават на кватэру, у барак, размешчаны тут жа, за ўніверсітэцкім гарадком. Задаўшы два-тры таропкія пытанні, адны выкладчыкі ставяць пяцёрку, другія — чацвёрку. Пяцёрак нават больш, чым чацвёрак. Сямікласнікі з падрыхтоўчага аддзялення толькі дабіраюцца да сэнсу сінусаў, косінусаў, прагрэсій, лагарыфмаў. Васіль іх збольшага ведае. Хоць і парадкам забыў за вайну.

Прыгожая выкладчыца нямецкай мовы, кабета насмешлівая, недаверлівая, дае Васілю нейкі падручнік, слоўнік, акрэслівае алоўкам два абзацы.

— Паўгадзіны на падрыхтоўку.

— Можна адказаць адразу? — пытае Васіль.

Не зазіраючы ў слоўнік, ён з ходу перакладае тэкст (гаворка ў ім пра «страчанае пакаленне» Першай сусветнай вайны, апісанае Рэмаркам).

Выкладчыца шчыра здзіўляецца:

— У вас добрае вымаўленне. Дзе вучыліся?

— Вярнуўся з Германіі. Слухаў нямецкую гаворку, кнігі, газеты чытаў.

Васіль здае ўсе экзамены, прадугледжаныя падрыхтоўчым аддзяленнем.

Зрэшты, высвятляецца: дэкан Ліхтаровіч быў залішне патрабавальны. Ветлівы, далікатны прарэктар завочнага аддзялення Мацвей Мацвеевіч Руманец тлумачыць: Васіля прынялі б без экзаменаў. Бо даведка з сярэдняй школы ёсць і ў дадатак ён залічаны ў настаўніцкі інстытут, а значыць, ужо здаваў экзамены.

Добры дзень, БДУ! Такі спраўдзілася Васілёва мара. Хоць не зусім так, як некалі ўяўлялася. Дзякуй табе, добры чалавек Жэня Міхнюк. За ложак, хлеб і за добрую параду. І табе дзякуй, строгі дэкан Ліхтаровіч. Цяпер ёсць у Васіля штосьці накшталт атэстата.

У руінах, развалінах ляжаць гарады. У зямлянках пакутуюць вяскоўцы. Тым часам такія, як Васіль, імкнуцца ў тэхнікумы, інстытуты. Іх туды прымаюць, не асабліва прыглядаючыся да дакументаў. Відаць, гэта правільна. Вайна нібы касой выкасіла адукаваных людзей. Інжынераў, аграномаў, настаўнікаў. Без іх як абыдзешся?

Васіль вяртаецца з Мінска. У разгары падрыхтоўка да выбараў у Вярхоўны Савет СССР. Абласная газета, якая з невялікай чатырохпалоснай перайшла на большы, але двухпалосны фармат, друкуе пераважна выбарчыя матэрыялы.

Куды пойдзе ў першую чаргу нявопытны карэспандэнт абласной газеты, які не ведае, пра што пісаць і як пісаць? Вядома, у рэдакцыю раённай газеты.

Яна размяшчаецца ў доўгім, як адрына, памяшканні, пабудаваным да вайны. Тут жа і друкарня.

У акупацыю разам з сябрамі-змоўшчыкамі Васіль поўзаў па падлозе друкарні, збіраючы шрыфт. Яны намерваліся надрукаваць лістоўку. І такі надрукавалі: някідкую, нязграбную, літары ў якой скакалі, нібы ў танцы.

Рэдактара Лабанчука, сур’ёзнага, задуменнага чалавека, Васіль трохі ведае. Ён падпісваў маленькую, на чвэрць звычайнай паласы, партызанскую газетку «Шлях да сацыялізма» (загаловак меў тую форму, абрысы, што і даваенная раённая газета). А вось адказнага сакратара Сяргея Шугая, рухавага, з шырокім чырвоным тварам хлапчыну з пустым правым рукавом, Васіль не памятае. Хоць яны былі ў адной партызанскай брыгадзе.

Цяпер Васіль разумее, чаму не пазнаёміўся з Шугаём. Бо ён фактычна адзін рабіў партызанскую газетку-васьмушку, збіраў матэрыял, правіў набор, а галоўны рэдактар Лабанчук толькі газетку падпісваў. Дзень і ноч сядзеў крукам у хаце ці ў зямлянцы Сяргей Шугай, налаўчыўшыся левай рукой няблага, выразна пісаць, таму асабліва ў вочы не кідаўся.

Шугай як бы бярэ над Васілём апеку. Ён трохі самаўпэўнены, насмешлівы, адчувае сябе ў рэдакцыі поўным гаспадаром. Бо газету, як і раней, фактычна робіць ён. Рэдактара райкам бясконца пасылае ўпаўнаважаным па розных гаспадарчых пытаннях. Так што Шугай не толькі піша ўсе матэрыялы (за выключэннем тасаўскіх і белтаўскіх), але вычытвае, правіць карэктуру, часам і газету падпісвае: і ў друк, і ў свет.

Шугай сапраўды дае Васілю першыя ўрокі карэспандэнцкай дзейнасці. Раён трымаецца на сельскай гаспадарцы. А цяпер зіма, хутка прадвесне. Значыць, пісаць трэба пра падрыхтоўку да сяўбы, рамонт трактароў, пра стан цяглавай сілы.

Доўга збірае Васіль факты пра калгасную конегадоўлю. Дае прачытаць артыкул галоўнаму заатэхніку райза Сапегу (прозвішча як у славутага князя). Заатэхнік дробненькі, нявідны, смяшлівы, але галаву на плячах мае. Раіць выкінуць з артыкула некалькі небяспечных мясцін (Васіль напісаў, што палавіна коней загінула ад бяскорміцы, бо лугі засталіся нявкошаныя).

Газета артыкул друкуе.

Васіля выклікае да сябе трэці сакратар райкама партыі Трошчанка. Перад ім ляжыць абласная газета. Васілёў артыкул увесь спярэшчаны ягоным чырвоным алоўкам.

У Трошчанкі досыць прыемны чарнявы твар, але глядзіць на Васіля сакратар райкама варожа, адчужана.

— Чаму не паказалі матэрыял райкаму партыі? — сурова пытае.

— Абласная газета райкаму не падпарадкоўваецца.

— Мы абвяржэнне напішам. Факты пададзены неправераныя.

— Пішыце. Толькі матэрыял я ўзгадняў з райза.

— Тон артыкула фальшывы. Нібыта мы зусім не рыхтуемся да вясны.

— Я так не пісаў.

Васіль стараецца ўспомніць, што і дзе чуў пра Трошчанку. Нарэшце ўспамінае: ён быў разам з Сымонам Баравіком у партызанскім атрадзе, які разышоўся, здаў немцам зброю, паказаў лясныя склады. Трошчанка зброю не здаваў, але першую ваенную зіму, а можа, і лета прасядзеў у прыдняпроўскай вёсцы на сховах у цешчы.

Тое, што Трошчанка сам не надта чысценькі, прыдае Васілю смеласці.

— Наступіў першы мірны год,— адказвае.— Летась быў неўраджай. Я наведаў некалькі калгасаў. Карціна нярадасная. Таму і артыкул невясёлы.

— Не трэба абражаць раённых кіраўнікоў. Мы робім, што можам...

Васіль паціскае плячамі. Не можа ён сказаць Трошчанку, што апошні абзац дапісалі ў рэдакцыі. Загадчык аддзела Гарватоўскі пастараўся. Ён любіць кідкія загалоўкі і злосныя канцоўкі карэспандэнцый. Гэтым самым падстаўляе карэспандэнтаў. Не пытаючы аўтараў, дапісвае, што хоча.

Васіль разумее: трэба завітваць у райкам. Каб яго ведалі. Праз некалькі дзён ён ідзе да першага сакратара райкама Нупрэева, хмурага, хваравітага чалавека ў цёмна-сіняй гімнасцёрцы, брыджах. Прыносіць матэрыял пра месгачковую падпольную групу, якая дзейнічала ў акупацыю.

Сакратар пагартаў матэрыял, папрасіў прыйсці праз два тыдні.

Пры наступнай сустрэчы сказаў:

— У вашай арганізацыі былі розныя людзі. Да вас, моладзі, прэтэнзій не маем. Вучыцеся, працуйце...

На пленуме, які ў хуткім часе адбываецца, у склад райкама не выбіраюць ні Трошчанку, ні першага сакратара Нупрэева, які каротка, але прыязна пагаварыў з Войцікам...

Да хмурага, хваравітага сакратара ў Васіля застаецца добрае пачуццё. Трошчанку ён нават успамінаць не хоча. Ён знік, як бы і не было яго...

Да Алесі Малейкі Васіль не ідзе. Хоць не развеялася да яе пачуццё. Сама Алеся сустрэч не шукае, у абдымкі не кідаецца. На фронт пісала рэдка, па месяцах не падаючы пра сябе вестак. Увогуле — дзіўная яна, незразумелая. Была настаўніцай, вучылася на другім курсе тэхнікума. Цяпер сядзіць у дзявятым класе.

Кватаруе Алеся ў Шахраёў, людзей для Войціка непрыемных. Шахраі ўсе: ад бацькі, маці да дзяцей — двух сыноў і дачкі, старэйшай у сям'і — чорныя, як цыгане, з доўгімі кручкаватымі насамі. Старыя Шахраі — надзвычай прагавітыя, сквапныя людзі. Да вайны мелі кватарантамі багатых яўрэяў. Тыя падаліся ў эвакуацыю і не вярнуліся, пакінуўшы набытак Шахраям.

Шахраёвы хлопцы — абодва прызыўнога ўзросту — на вайне не былі. Уладкаваліся ахоўваць вайсковы кабель. Відаць, пазалацілі бацькі руку высокаму вайсковаму чыну.

Хата Шахраёў у глыбіні двара, адгароджанага ад вуліцы палісаднікам. На вуліцы перад хатай старая вербалозіна. Увогуле цікавае месца. Бо насупраць Шахраёў сядзіба старога Лейбы Граховіча. Двор яго засаджаны ліпамі, дубамі. Ліпы скінулі летні ўбор, зімовыя дубы і цяпер звіняць-трымцяць сухім выпетраным лісцем. Аканіцы ў Лейбавым доме заўсёды зачыненыя: сюды на малітву сыходзяцца местачковыя яўрэі.

Здараецца так, што Васіль спатыкае Алесю на вуліцы. Яна пасталела, папрыгажэла. Выразней акрэсліваюцца яе развітыя жаночыя формы.

— Чаму не прыходзіш? — пытае Алеся, і яе хітрыя шэрыя вочы блішчаць.

— Прыйду,— абяцае Васіль, адчуваючы, як таххае, калоціцца сэрца.

Не, не забыў ён Алесю.

Аднак іх першае спатканне халоднае, адчужанае. Яно і адбываецца на холадзе, на лавачцы каля двара Шахраёў. Васіль вярнуўся з вайны, мог, як многія сябры-таварышы, не вярнуцца. Ён спрабуе расказаць, дзе, у якіх краінах быў, што пабачыў. Алеся слухае няўважліва. Такое ўражанне, нібы яна кагосьці чакае. Васіль абураны. Ён развітваецца, ідзе дамоў.

Ён хоча вытрымаць характар. Сіл, аднак, не хапае. Наступны раз ён як бы выбіраецца ў госці да аднакласніка Мішы Шахрая. Той канчае тэхнікум сувязі. Прыехаў на канікулы.

У Васіля ў кішэні бутэлька. Мішава маці, высокая худая кабеціна з калючымі чорнымі вачамі, ставіць на стол сякуютакую закуску. Хлопцы і Алесю запрашаюць. Яна садзіцца, выпівае кілішак гарэлкі, пунсавее з твару і нарэшце падаецца ў сваю бакоўку.

Васіль цвёрда наважвае: болей да Алесі не пойдзе.

## III

І вось першая завочная сесія.

Руіны разбуранага, спаленага Мінска зацярушаны снегам. Ад вакзала да пачарнелых, са слядамі пажару каробак універсітэцкага гарадка — дзве сотні метраў. Дарога пралягае праз прыстанцыйную таўкучку, гаманлівую, мітуслівую. Гандлююць усім, што толькі ёсць на свеце. Відаць, каб былі грошы, то і птушынага малака дастанеш.

У першы дзень у самай вялікай аўдыторыі, якая належыць фізіка-матэматычнаму факультэту, збіраюць сход завочнікаў. Божа, колькі з’ехалася народу! Зала на трыста чалавек, а тут удвая ці нават утрая больш. Відаць, гэтыя хлопцы, дзяўчаты, як і Васіль, марылі вучыцца стацыянарна, ды гора не пускае.

На першым курсе факультэта журналістыкі вучыцца яшчэ адзін Войцік Васіль Іванавіч. Поўны цёзка. Прафесію мае: у Гомелі на станцыі працуе дыспетчарам. Аднак прагне стаць журналістам. Мужчыну гадоў трыццаць — рослы, плячысты, з прыемным тварам.

Як паўнапраўны студэнт, няхай сабе завочнік, Васіль атрымлівае ад рупнага каменданта-ўкраінца коўдру, падушку, два прасціradлы і ложак у інтэрнаце. Мае талоны на абед у сталоўцы і картку на пяцьсот грамаў хлеба ў дзень. Што болей трэба?

Лекцыі ідуць у строгай з высокай столлю зале на другім паверсе цаглянага корпуса. Васіль дазнаецца: у будынку да рэвалюцыі была гімназія.

Дэкан Ліхтаровіч, па волі якога Васіль здаў экзамены за сярэднюю школу, чытае літаратуру Старажытнай Грэцыі. Шчуплаваты, досыць малады, ён адпусціў вусы, на вузкія плечы надзеў шырачэзны пінжак у клетку, на нагах жоўтыя крагі з гетрамі. Пры сваёй някідкай знешнасці Ліхтаровіч мае на дзіва зычны, артыстычна пастаўлены голас. «По древней Элладе бродили аэды...» З дня ў дзень, два тыдні запар гаворыць дацэнт пра Эсхіла, Сафокла, Эўрыпіда, іншых старажытных пісьменнікаў, якія жылі, тварылі дзве і нават тры тысячы гадоў назад. Тры тысячы гадоў! А ў іхніх творах героі гавораць зусім зразумелымі словамі, жывуць клопатамі, турботамі, пачуццямі, якія таксама няцяжка зразумець.

Наогул лектары зусім не падобныя да школьных настаўнікаў, якіх Васіль памятае. Не, яны не зніжаюцца да сваіх слухачоў, якія забылі нават тое, чаму вучаць у школе, не разжоўваюць, не імкнуцца пакласці гатовае ў рот. Яны кідаюць у залу высокія, часта незразумелыя словы, здаецца, зусім не цікавячыся, даходзіць іх сэнс да студэнтаў ці не.

Курс асноў марксізму-ленінізму выкладае сляпы дацэнт. На лекцыю яго прыводзіць жонка ці сястра, кволая, бледнатварая жанчына, апранутая ва ўсё чорнае. Страшнавата глядзець у твар выкладчыка. Пазіраючы невідушчымі вачамі некуды ў столь, ён тлумачыць прадмет талкова, даходліва, цікава.

Дысцыпліну сярод студэнтаў наводзіць не трэба. Як толькі заходзіць выкладчык, наступае мёртвая цішыня. Выкладчык сярод такіх слухачоў сапраўды можа адчуваць сябе богам. Кожнае яго слова ловіцца на ляту.

Штосьці прывабнае і адначасна сумнае ў выглядзе студэнцкай аўдыторыі. Такіх, як Васіль, прыкметная меншасць, большую частку залы займаюць людзі не першай маладосці: дэмабілізаваныя капітаны, нават маёры, настаўнікі, настаўніцы, якія адпрацавалі ў школе многа гадоў, не маючы вышэйшай адукацыі, а таксама выпускнікі сярэдніх школ, якія з-за вайны, а можа, не толькі з-за вайны прыпазніліся з вучобай.

У зімовую сесію адзін экзамен — па асновах марксізму-ленінізму. Ужо вечарам, калі зусім згусціўся вячэрні змрок, Васіль пачуў, што сляпы выкладчык прымае экзамен, і рынуўся

ў аўдыторыю. Яна амаль пустая — адказвае апошні студэнт. Білетаў няма. Кожнаму экзаменатар задае пытанне. Ён неяк адчуў, што яшчэ адзін студэнт сядзіць, чакае, і паварочвае твар у ягоны бок. Жанчына яму нешта шэпча. Дацэнт задае пытанне, якое здаецца Васілю залішне лёгкім: «Перамога ў Вялікай Айчыннай вайне». Усім, хто ў шынялі, як пазней высвятляецца, выкладчык задае такое пытанне.

— Можаце падумаць,— гаворыць ён.

Думаць Васілю асабліва не трэба. Ён ледзь не на памяць ведае брашуру Сталіна «Аб Айчыннай вайне»: сам праводзіў па ёй заняткі з байцамі. Але пачынае не з брашуры. Ён жа вярнуўся з Германіі, чытае амаль без слоўніка па-нямецку, сёе-тое пабачыў за вайну.

Расказваючы пра агрэсіўную палітыку фашызму, Васіль і цытату з «Майн кампф» успомніў (усёй кнігі, вядома, не чытаў), дзе гаворыцца пра неабходнасць заваёвы Расіі і падначаленых ёй зямель.

— Выдатна! — гучна прамаўляе сляпы дацэнт...

А Мінск ад краю да краю ляжыць у развалінах. Пустэля, мёртвы горад. Толькі не мёртвы Мінск. На ачышчанай ад развалін шырокай пляцоўцы, размешчанай якраз насупраць універсітэцкага гарадка, мноства ларкоў. Яны досыць фацэтныя, пафарбаваныя пераважна ў сіні колер. У іх прадаюць гарэлку, піва, папяросы. Ад гарэлкі Васіль устрымліваецца, тым часам кухаль піва выпівае і яшчэ пачак «Беламору» купляе. Тое і другое каштуе па пятнаццаць рублёў. Не так дарага, калі ўлічыць, што з часу сканчэння вайны яшчэ года не мінула.

Сям'я жыве цяжка. Наперадзе яшчэ палавіна зімы, а ўжо бульба на зыходзе. Хлебны паёк куцы (кілаграм атрымлівае бацька, які па-ранейшаму працуе стрэлачнікам, і паўкілаграма Васіль). Васіль бачыць: матэрыю, якую падаравалі яму ў шпіталі, маці пацiху прадае за бульбу. У яго душа баліць: падрастае Люся, ёй у хуткім часе вельмі прыдасца гэтая матэрыя.

Васіль едзе ў Мазыр, атрымлівае зарплату, ганарар (карэспандэнтам плацяць адзін раз у месяц), прывозіць грошы

дамоў. Дае маці запячатаны ў банку пачак — тысячу рублёў. Яна радасна, нібы спалоханая птушка, ускліквае:

— Столькі грошай!

Грошы, аднак, невялікія. Пуд збожжа каштуе семсот рублёў. Проста ў доме і такіх грошай няма. Бацькава зарплата невялікая.

Маці аддае грошы бацьку. Ён за іх збіраецца купляць хлеб. Паедзе ў Заходнюю Беларусь: адтуль многія прывозяць жыта. Па чутках па трыста і нават па дзвесце рублёў за пуд. Бацька і сваіх грошай трохі прыкладае і яшчэ пазычае ў суседзяў.

Праз тры ці чатыры дні бацька прывозіць два мяхі збожжа. Жыць можна. Ён нават на тормазе таварняка не дрыжэў, прывёз мяшкі ў тамбуры пасажырскага вагона. Чыгуначнік чыгуначніку спагадае, спрыяе.

Вось так: аднаасобныя сяляне навырошчвалі хлеба больш, чым калгасныя. Дый і ў мястэчку ў акупацыю так было. Як ні выбівалі немцы пастаўкі, а кожны гаспадар хлеб неяк прыхоўваў. У Літве было тое самае. Васіль на ўласныя вочы бачыў: сяляне-хутаранцы жывуць там нават вельмі някепска.

Усе тры Васілёвы раёны не сказаць каб выдатныя. Палі то пясчаныя, зарослыя дробным хмызам, то паныла балотныя, жураўліныя. У вёсках, якіх немцы не спалілі (толькі трэцяя частка вёсак уцалела), густа прыткнуліся адна да другой старасвецкія хаты з маленькімі падслепаватымі акенцамі, здранцвелымі, пакрытымі зялёным мохам дахамі, вузкімі дварамі і гразкімі вуліцамі. Агульны іх малюнак не радуе.

Цяжка ўявіць, што ў гэтых спарахнелых хатках, якія засталіся ад дзядоў, прадзедаў, можна зведаць шчаслівае, светлае жыццё. А ў такіх вось хатках жывуць і настаўнікі, і аграномы, і іншая інтэлігенцыя, якую лёс загнаў на сяло.

У мястэчку весялей. Бо ёсць чыгунка, станцыя, каменная двухпавярховая школа, бальніца, Дом культуры, ды і рух жыцця зусім іншы.

Васіль амаль кожны дзень завітвае ў рэдакцыю раённай газеты. Весела, зычна гамоніць смяшлівы, рухавы адказны сакратар Сяргей Шугай. Правай рукі ў яго няма, але і левай ён

спраўляецца пісаць заметкі, правіць карэктуру і, прыціснуўшы правым плячом тэлефонную трубку да вуха, занатоўваць розныя лічбы і факты, якія вывуджвае ў сельсавецкіх сакратароў і калгасных рахункаводаў. Гучны, зычны голас, рогат Шугая пануе ў сценах рэдакцыі ад ранку да вечара.

Рэдактар раённай газеты Лабанчук, высокі, трохі ссутулены, з худым аскетычным тварам, піша для газеты толькі перадавыя артыкулы: «Падрыхтавацца да сяўбы», «Вывезці гной на палі», «Усю ўвагу конскаму пагалоўю», «Выканаць план нарыхтоўкі драўніны»... Дзеля гэтых артыкулаў рэдактар як бы адгароджваецца ад усяго свету. Замыкаецца ў кабінеце, нікога да сябе не пускае. Ды і як пусціць? Лабанчук абкладваецца падшыўкамі газет, якія ляжаць не толькі на стале, а і на падлозе, і з кожнай бярэ па сказу або па абзацу. Відаць, пісанне для яго немалая пакута. Найчасцей рэдактар прападае на раёне, у калгасах, куды райкам накіроўвае яго ў якасці ўпаўнаважанага.

Жыве Лабанчук тут жа, у рэдакцыі. Мае два пакойчыкі, размешчаныя насупраць свайго кабінета і пакоя адказнага сакратара. У доўгім змрачнаватым калідоры стаяць мяхі з бульбай, на старым табурэце — закапцелы керагаз. Тут жа гаспадарыць вясёлая, смяшлівая жонка рэдактара. Гатуючы сняданкі, абеды, яна праводзіць прыязным позіркам усіх болей-меней маладых мужчын, якія завітваюць у рэдакцыю. Таму ў рэдакцыйным калідоры заўсёды пахне цыбуляй, часнаком. І пахі гэтыя змешваюцца з пахамі карасінавай гары, друкарскай фарбы, мокрай паперы. Доўгі калідор упіраецца ў дзверы друкарні, дзе стукаюць і грукаюць тыпаграфскія машыны, выдрукоўваючы раённую газету і бясконцую колькасць бланкаў для розных раённых кантор, устаноў, а таксама для калгасаў і саўгасаў.

Жонка рэдактара — ладная, са зграбнай постаццю, добра развітымі жаночымі формамі, адчувае сябе ў тлуме і грукаце, як рыба ў вадзе. Не толькі весела ўсміхаецца наведвальнікам рэдакцыі і друкарні, а часам уступае з імі ў размовы. Васіля таксама не абмінае ўвагай.

Вайна разлучыла рэдактара і ягоную шуструю жонку. Лабанчука паслалі ў тыл, да партызан, а яго чырванашчокая, з

жывымі гарэзлівымі вачамі сяброўка працавала вольнанаёмнай у ваенным гарадку, размешчаным у далёкіх казахстанскіх стэпах.

З Гомеля, з лесатэхнічнага інстытута прыязджае Іван Гарошык. Экзамены за першы семестр ён паздаваў і мае некалькі дзён вольнага часу. Мікола Пішчык, які таксама з'явіўся ў мястэчку, выскаляецца:

— Іван атрымаў адну чацвёрку, то хадзіў пераздаваць. Выкладчык аж вочы вытрашчыў. Такіх студэнтаў у інстытуце яшчэ не было.

Мікола Пішчык і чацвёрцы рад. Бо ў ягонай заліковай кніжцы яны напалавіну з тройкамі.

Разам з Іванам і Міколам вучыцца на лесатэхнічным факультэце дзевяцікласнік Сцяпан Чуклай, шыракаплечы, лупаты, крэпкі, нібы корч, хлапчына. Вялікіх поспехаў у школе ён не паказваў, нават дзясяты клас не канчаў, а вось навуку ў інстытуце неяк цягне.

Іван расказвае пра Міколу Пішчыка дзіўныя рэчы:

— Ён напісаў у анкеце, што не быў у акупацыі. Маўляў, усю вайну правёў на фронце.

— Могуць жа дазнацца...

— Не баіцца ён чамусьці. Штосьці ёсць...

У адзін з тых дзён Васіль з Іванам ідуць да ягонага дзеда Антона, дом якога стаіць за чыгункай, трохі наўзбоч Першамайскай вуліцы, якая вырасла са сселеных хутароў.

Зіма ўсярэдзіне. Наўзбоч парканаў, плятнёў намяло вялізныя гурбы снегу. Бярвенне хат цёмнае, нібы абвугленае: хутары стаялі на адзіноце, на стыку ўсіх вятроў, а на вятрах дрэва чарнее.

Ладная, з дзвюх палавін хата дзеда Антона глядзіць вокнамі на чыгунку, на мястэчка. Адразу за агародам узвышаюцца тры ці чатыры магутныя дубы. У іх разгалістых цёмных шатах заўсёды шуміць вецер. Мала такіх дубоў засталося ў ваколіцах мястэчка. Можна нават прыйсці да думкі, што людзі не любяць нічога вялікага, высокага. Бо ў час Васілёвага дзяцінства тут, на Блізкім Лядзе, дубоў было намнога больш. Нішчылі іх леспрамгас, калгас, а то і проста местачкоўцы.

Дзед Антон, рухавы, шчуплы, з сівой казлінай барадой, ставіцца да Васіля прыхільна. З гэтай самай хаты яны з Іванам і рушылі ў партызаны. Цяпер вось Васіль з фронту вярнуўся. Дзед ведае, што такое фронт. Сам быў на імперыялістычнай вайне. Чатыры гады. Нават у рэвалюцыі ўдзельнічаў: выбіралі дзеда ў палкавы камітэт, затым, вярнуўшыся з вайны, ён наладжваў у мястэчку спажывецкую кааперацыю. Толькі не спадабалася дзеду Антону начальніцкая пасада. Кінуў яе і стаў хадзіць каля гаспадаркі. Уступіў у калгас, дзень у дзень рабіў тое, што загадваў брыгадзір. І ў самыя цяжкія гады, калі на працадзень давалі мізэрныя грамы, не жыў дзед Антон без хлеба.

Шанцуе Івану. Пры жывым бацьку (ён ажаніўся з другой жанчынай) латаецца каля дзеда. Без ёмкага кавалка сала і сялянскага бохана хлеба ў Гомель не едзе. У Васіля такога дзеда няма. Бацька тым часам сам ледзь канцы з канцамі зводзіць.

Сябры разжыліся бутэлькай самагонкі. Наважылі наладзіць пір і пагаманіць на адзіноце. Бо такога спакою, цішыні, як у дзеда Антона, нідзе не знойдзеш. Іванава бабка — ветлівая, гаваркая — шкварыць хлопцам яешню, ставіць міску капусты, агуркоў. Панскае баляванне.

Сябры выпіваюць па паўшклянкі моцнай гарэлкі. У галаве прыемна шуміць. Праз акно відаць далёкая станцыя з навіслымі над ёй цёмнымі шатамі таполяў. Нібы заслана белым абрусам асушанае балота Гарадзінка. Тут прайшло Іванава і Васілёва дзяцінства. Іванава хата, размешчаная на ўскрайку балота, на вуліцы Чангарскай дывізіі, вокнамі таксама глядзіць на станцыю. Вокны Васілёвага дома, які стаіць побач з чыгункай, насупраць семафора, звернуты туды ж. Але з Васілёвага дома станцыю не ўбачыш, бо ля тупіковых пуцей набудавана шмат нарыхтоўчых баз, складоў, якія засланяюць краявід.

Вось і дачакаліся Васіль з Іванам вызвалення, канца вайны, засталіся жывыя. Але чамусьці не надта весела. Да вайны, падлеткамі ў вайну, на пачатку горкага юнацтва сябры-таварышы не здагадваліся, якое наступіць пасля вызвалення жыццё. Думалі: пачнецца суцэльнае свята.

Свята не адбылося. Справа нават не ў тым, што вайна была страшэнна спусташальная, на дзесяцігоддзе ці нават на два адкінула краіну назад. І ў бядзе можна жыць весела.

Весялосці мала. Няма ўзаемнага прымірэння, згоды, усёдаравання, якое толькі і можа наступіць пасля такой агромністай, з рэкамі крыві вайны. Працягваецца тое, што было да вайны і чаго хлопцы па малалецтве проста не разумелі: пошукі ворагаў, падколванне, пад'яданне, падзел людзей на чыстых і нячыстых.

Чысты той, хто не быў у акупацыі. Нібы народ вінаваты ў тым, што ў краіну прыйшоў вораг, што людзі, каб мець кавалак хлеба, дзе-небудзь працавалі.

Актыўных паліцаяў, наогул тых, хто душой прыліп да немцаў, пабралі ў першыя месяцы пасля вызвалення. Аднак пошукі ворагаў працягваюцца. Да моладзі асабліва ніхто не чапляецца. Улада ўсім дае магчымасць вучыцца, паступаць у інстытуты, тэхнікумы, нават тым, хто дзе-небудзь працаваў або быў загнаны ў Германію.

Сябры глядзяць у акно. Гоней за некалькі ад хаты дзеда Антона стаяў шырокі двор старога Язэпа Гучкі. Цяпер няма двара: відаць, знеслі як хутаранскі. Хлопцы нават не ведаюць, ці жывы дзед Язэп. Згубіўся ягоны след. І чалавек быў харошы, цікавы. Высокі, плячысты, з белай барадой, ён з выгляду нагадваў Льва Талстога. Да рэвалюцыі з Рэчыцы, Гомеля патаемна прыязджалі да Язэпа розныя крамольнікі: эсэры, сацыял-дэмакраты, бальшавікі, бундаўцы. Дзед усіх прымаў. Хаваў іхнюю літаратуру, аддаючы яе тым, хто па яе прыходзіў.

Пасля рэвалюцыі Язэп хавае другіх людзей. Найбольш аднаасобнікаў, якія малоцяць збажыну ў ягоным гумне, падалей ад сельсавецкага вока. Васілёў бацька таксама звозіў снапы ў Язэпава гумно: чыгуначнікам не дазвалялі лішне сеяць.

Нечакана ўсчынаецца завіруха. За акном суцэльная белая каламуць. Кружаць, завіваюцца снежныя пасмы: за тры крокі нічога не ўбачыш. Нават у хаце чуваць, як шуміць, гудзе вецер у голых шатах дубоў.

— Памятаеш, як застаў нас Каральчук,— гаворыць Іван.— Вось тут, у хаце. Дзед затрымаў яго ў пярэднім пакоі. Спецыяльна бутэльку паставіў...

Васіль памятае той выпадак. Паліцыі ў мястэчку ўжо не было: збегла. Бо на Дняпры грымела. Хлопцы прыйшлі з атрада. Ноч правялі ў хляве, днём перабраліся ў хату. Забылі, што на Першамайскай вуліцы атабарыліся нямецкія прыслужнікі, якія паўцякалі з партызанскіх вёсак. Каральчук быў бургамістрам воласці.

У хаце робіцца цямней. Убранне яе досыць старасвецкае. Драўляны ложак з гарой падушак, над ім, пад столлю, прыбіта жэрдка, на якой вісяць перавяслы цыбулі, святочныя дзедавы боты. Печ у пярэднім пакоі. Тут грубка з шырокай ляжанкаю. Каля сцяны лава, якая цягнецца праз усю хату.

Дзеда Антона няма. Некуды яго паклікалі. Выпіваць не хочацца. Няхай дзед пагрэецца з холаду.

Іван прыносіць бярэмак дроў, запальвае ў грубцы. Сябры бяруць табурэткі, прымошчваюцца каля грубкі, глядзяць на агонь. Яны так рабілі ў вайну. Толькі ў Васілёвай хаце. Здавалася тады: жыццё наперадзе яркае, прамяністае. Цяпер няма тых святочных надзей. Многае ў душах змяніла вайна. Вельмі яна была жорсткая, крывавая. Большасць местачковых хлопцаў з вайны не вярнулася. Можна гадзіну ці дзве хадзіць па мястэчку і не сустрэць ніводнага знаёмага даваеннага хлопца.

Пасля вызвалення мястэчка Іван на фронце не быў. Ліха пабачыў яшчэ ў сорак першым годзе. Іх, не абвучаных, не падрыхтаваных да ваеннай справы школьнікаў, кінулі ў бой пасля прарыву немцаў пад Бранскам. Іван быў першым нумарам ротнага мінамётнага разліку. Ягоным камандзірам быў Цімох Стрыж. Міны яны выдаткавалі ўсе. Цімох пабег на камандны пункт. Паказаліся нямецкія танкі. Болей свайго таварыша і аднакласніка Іван не пабачыў. Сярод палонных яго не было.

Сам Іван на другі ці трэці дзень з палону вырваўся. Немцы іх не надта ахоўвалі.

У грубцы трашчаць дровы. За вокнамі гуляе мяцеліца-завіруха... Іван расказвае аб прыгодах. Спачатку паступіў у

політэхнічны інстытут у Мінску. Гумарам сябар не абдзелены і, апавядаючы, часам сам захліпаецца смехам. Пад аўдыторыю першакурснікам адвялі гараж. Сядзелі хто на чым, бо скамеек не хапала. Адзін, чарнамазы, прывалок жалезную бочку. Нібы цар на троне, уссядаў, узвышаючыся над астатнімі студэнтамі. Але забыўшыся, бухаў чаравікамі па пустой бочцы, і тады звон разносіўся на ўвесь гараж. Па «аўдыторыі» свабодна лёталі вераб'і. Ціліўкалі, біліся, часам іхні памёт падаў на канспекты студэнтаў. Адзін раз вераб'іны памёт трапіў на нос старому прафесару, які пісаў формулу на дошцы...

Справа, вядома, не толькі ў вераб'ях. Далекавата Мінск ад мястэчка. Не мог Іван, як цяпер, раз на тыдзень-два зазірнуць да дзеда, узяць бохан хлеба, крышан сала. Ды і спецыяльнасць — машынабудаванне — не надта, відаць, вабіла. Лес — іншая справа. У лесе хлопцы выраслі. Васіль таксама не супраць лесатэхнічнага інстытута. Толькі такога, як у Івана, дзеда няма.

За вокнамі пачынае згушчацца сіні змрок. Завіруха не сціхае. Васіль просіць Івана наведваць гомельскіх букіністаў. Даставаць яму кнігі. Букіністы ёсць у Гомелі. Брат Петрык сплавіў ім палавіну Васілёвых кніг.

Увальваецца ў хату абсыпаны снегам дзед Антон. На парозе ў пярэднім пакоі абтрасаецца ад снегу, здымае шапку-кучомку, кажушок.

— Пагрэйся, дзед,— гаворыць Іван, паказваючы на бутэльку, выпітую толькі да палавіны.

Дзед, паціраючы рукі, падыходзіць да стала, налівае сабе шклянку.

— Малайцы, хлопцы. Не забылі пра дзеда. Ведаеце, дзе я быў? У энкавэдэ вызывалі. Памятаеце, быў такі бургамістр Каральчук. З тых сёл. Дык злавілі яго. Дзесьці ў Польшчы. Мяне пра яго дапытваліся. Толькі што я магу сказаць?..

Мог сёе-тое пра бургамістра сказаць дзед Антон. Толькі не хоча. Такі ён чалавек.

Васіль збіраецца дамоў. Ужо цёмна. Апранае шынель, надзявае шапку-кубанку.

— Кніг пашукаю,— абяцае Іван.

Вецер у вершалінах дубоў проста гудзе. Дубы нібы працяжную, з перарывамі песню спяваюць. Не проста скончыўся дзень. Злавілі Каральчука, зацятага ваўка. Калі б ён застаў той восенню ў дзедавай хаце хлопцаў, то наўрад ці частаваліся б яны сёння.

## IV

У вёсцы Дуброва кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР вылучана Брыль Ганна Апанасаўна, незамужняя жанчынка гадоў трыццаці, даглядчыца цялят.

Васіль ведае яе: быў на перадвыбарчым сходзе, прадыктаваў па тэлефоне (за кошт рэдакцыі) матэрыял, які заняў чвэрць газетнай паласы.

Ганна Апанасаўна сабой не кідкая, з густа засеяным вяснушкамі вузкім тварыкам, малагаваркая, сарамлівая. У яе нават фотакарткі няма, і прыходзіцца тэрмінова выклікаць рэдакцыйнага фатографа, каб даць здымак у газеце.

Чаму іменна Ганну Апанасаўну вылучылі кандыдатам у дэпутаты? Ніхто не ведае. Ходзяць розныя чуткі. Нібыта познім вечарам па Дуброве праязджаў першы сакратар абкама, у мінулым партызанскі кіраўнік, убачыў святло ў калгасным хляве-стадоле і звярнуў на агеньчык. Ганна Апанасаўна нібыта адпойвала ў гэты час калгасных цялят, худых, знямоглых. Пойла рабіла з уласнай мукі: у калгасе нічога не было.

У такі ход справы можна паверыць. Ганна Апанасаўна вельмі працавітая. Гутарачы з ёй, Васіль высветліў, што яна нават даводзіцца далёкай раднёй, у трэцім ці чацвёртым калене. У Дуброве жыве стрыечная сястра маці, прыгожая і ўладная Варка, муж якой, трапяткі балбатун, проста на руках яе носіць. Дык вось гэтая Варка і Ганна Апанасаўна між сабой радня.

Напісаныя Васілём матэрыялы не друкуюцца. Газета малая, двухпалосная, змяшчае толькі тое, што датычыць выбараў.

Васіль дзеля асвятлення выбараў некалькі разоў завітвае ў Дуброву. Дзіўна, ён ні разу не ўспамінае, не цікавіцца Параскай, сваёй аднакласніцай, ладнай, паўнаватай дзяўчынай,

якая трохі падабалася, і на прыязныя адносіны з ёй ён меў некаторую надзею.

Ідучы на фронт, Васіль у душы, відаць, не вельмі спадзяваўся на Алесю Малейку, не верыў, што яна будзе чакаць, пісаць на фронт пісьмы. Бо хоць і прыходзіла Алеся да Васіля з Сівалобаў, каб развітацца, і яны прасядзелі ўсю ноч у яе сяброўкі, душу гэта не сагрэла, бо назаўтра Алеся пахаджвала па мястэчку з маладымі лейтэнантамі і, напаткаўшы Васіля, толькі махнула рукой.

У час свайго кароткага партызанства Васіль некалькі разоў начаваў у Парасчынай хаце. Яны абое ў такія ночы доўга не спалі, варочаліся (яна на ложку, Васіль на лаве наўзбоч сцяны), і Васілю здавалася, што дзяўчына да яго неабыякавая.

Як ён памыляўся! Параска аказалася нават горшай, чым Алеся. У апошні дзень перад адпраўкай у армію Васіль прыбег у Дуброву, але Параска сустрэла яго холадна, няветліва. У яе, відаць, быў свой хлопец.

І вось Параска для Васіля знікла назаўсёды. Крыўдлівае і поўнае гонару маладое сэрца.

Справы Война ідуць угору, як толькі выбары канчаюцца. Газета друкуе падвал, прысвечаны лейтэнанту, Герою Савецкага Саюза. Лейтэнант прыехаў у родную вёску Кукуеўка, а Васіль даведаўся пра гэта. Ён схадзіў у вёску героя, пагаварыў з ім, патраціўшы на запіс ягонага апавядання вялікі стус паперы.

Героя лейтэнант атрымаў за фарсіраванне Дняпра. Пераплыў шырокую раку, учапіўшыся за бервяно. Ягоны ўзвод, палавіна якога загінула, перабіраўся на правы бераг таксама, як пішацца ў ваенных газетах, на падручных сродках. На прамым стромым беразе пехацінцы замацаваліся і абараняліся да таго часу, пакуль праз Дняпро не быў наведзены пантонны мост і не пераправіліся асноўныя сілы.

Герой і фотакартку знаходзіць.

Падвал у невялікай газеце ўсім кідаецца ў вочы. Васіль як бы пажынае славу.

Блізіцца першая без вайны вясна. Дні даўжэюць — пад дахамі хат, стрэхамі хлявоў віснуць празрыста-сінія капяжы.

Яны часта падаюць на зямлю, разбіваюцца, звіняць, як шкляныя. Прыгравае сонца, і нібы на цымбалах вызвоньваюць прыемную мелодыю кроплі. Паветра нібы напоена празрыстасцю, якую толькі і можна пабачыць вясной.

Першая мірная вясна. Што прынясе яна змораным, напаўгалодным, сяк-так апранутым людзям? Палавіна вяскоўцаў яшчэ ў зямлянках. Добра, калі ў ваенных пагарэльцаў ёсць хоць бульба...

Васіль хоча прайсці партызанскімі дарогамі. Яны нават больш памятныя, чым франтавыя. Асабліва хочацца пабачыць вёску Гогалі. Бо там Васіля прымалі ў партызаны. Доўга стаяў там атрад. Перад набліжэннем фронту партызан выкурылі з вёскі ўласаўцы.

Вёску Гогалі ў мястэчку мала ведаюць. Хоць яна пад бокам — за якіх-небудзь дзесяць кіламетраў. Але размешчаны Гогалі за непралазным балотам, па якім — пакуль не асушылі, ніхто, асабліва летам, не хадзіў. Дабіраліся да Гогаляў кружным шляхам, мінуўшы некалькі іншых паселішчаў. Таму вёска здавалася далёкай, як бы на іншай планеце.

Васіль баіцца: яшчэ не сышоў снег і на асушаным балоце, наўзбоч канала-калектара, раптам дарогі не будзе. Аднак памыляецца. Дарога ёсць, яна ўкатана санямі, нагамі шматлікіх падарожнікаў. Трапляюцца касмылі, нават ахапкі сена, конскія яблыкі, нават згубленыя securityвознікамі плашкі дроў, камлі-сухастоіны.

З-пад снегу тырчаць чубы чаратоў, розных перасохлых дудак, сцябліны з шышачкамі ваўчкоў, якія — толькі даткніся — адразу чапляюцца за вопратку.

Васіль парадкам ужо прайшоў. Балотны алешнік канчаецца, пачынаецца змешаны лес. Хутка павінны вынырнуць Гогалі. На дарозе ляжыць невялікі кавалачак паперы. Васіль раптам загадвае: калі гэта абрывак абласной газеты, то яго чакае поспех. Ён падыходзіць, падымае газетны кавалачак. І не верыць вачам: газета не толькі знаёмая, абласная, але на маленькай папяровай пасцы стаіць ягонае прозвішча. Што гэта: таямнічы знак лёсу? Бо здарэнне сапраўды выключнае.

У містыку Васіль не верыць. Што рабіць з кавалачкам паперы? Не насіць жа яго, як талісман. Васіль насыпае на яе махоркі, робіць самакрутку, пыхкае, пускае кольцамі дым.

Лес расступаецца, відаць вёска. Гэта Гогалі. Але няма высозных, як вежы, дубоў, якія ўпрытык падступілі да паселішча. Засталіся хмызы ды дробнае чарналессе. Вайна вынішчае людзей, людзі губяць лясы.

Заходняя старана вуліцы шчыльна туліцца да цёмнай сцяны лесу. Хаты, хоць пачарнелі ад вятроў, дажджоў, на выгляд добрыя. Вось і хата, дзе размяшчаўся штаб. У ёй разам з сябрамі-таварышамі начаваў Васіль. Бо хлопцы выконвалі заданні штаба: хадзілі ў мястэчка, прыносілі соль, бінты, цыгарэты. Гэта ім перадавалі местачковыя падпольшчыкі.

Вёска з засыпанымі снегам дахамі нібы спіць. Ні певень не кукарэкне, ні нават сабака не брахне.

Той памятнай восенню над высокімі дубамі быў чуцен гул матораў. Гэта ляцелі ў нямецкі тыл самалёты. Савецкая авіяцыя панавала ў паветры. Шчаслівыя, незабыўныя вечары!..

Дзень хіліцца на спад. Васіль адмераў вёрст пятнаццаць. Варта было б адпачыць. Толькі дзе? Можна завітаць у штабную хату, якая вокнамі, ганкам звернута на вуліцу. Гаспадыня яго пазнае. Толькі заходзіць у гэтую хату Васіль не хоча.

У той час, калі яны, партызаны, стаялі ў Гогалях, сын гаспадыні, паліцай, збег у мястэчка. Партызаны на гэта не зважалі. Жылі ў паліцэйскай хаце, нікога і нічога не баючыся.

Паліцая, магчыма, засудзілі. Таму Васіль і не хоча завітваць у ягоную хату.

Гогалі — вёска не занядбаная. Хаты, хлявы яшчэ ў добрым стане, плятнямі агароджаны двары. Дровы, сена тут ёсць. Ацалелі Гогалі, хоць і стаялі ў іх партызаны. Увогуле ўвесь гэты кут ацалеў.

Васіль ужо вёску мінае, раздумваючы, дзе спыніцца. Бо памяшкання калгаснага праўлення не заўважыў. Раптам чуе: яго аклікаюць. Да Васіля шпарка крочыць невысокі, апрануты ў ватоўку хлапчына.

— Не пазнаеш? — гучна пытае.— А я цябе здаля прыкмеціў.

Васіль углядаецца ў круглы няголены твар вяскоўца, ягоныя шэрыя вясёлыя вочы і нарэшце пазнае партызана з іхняй брыгады. Толькі прозвішча ягонага не памятае.

— Забыў? — як бы крыўдзіцца партызан.— Успомні: з кім мяняў вінтоўку на пінжак. Харошы быў пінжак, маланошаны...

Васіль успамінае: гэта ягоны цёзка. Па прозвішчы Яўтушык. У атрадзе было два Яўтушыкі: гэты адзін вечна няголены, з ускудлачанымі валасамі і апоркамі на босую нагу.

Васіль з'явіўся ў атрад з неважнецкай вінтоўкай (хаваў яе ў балоце, ствол праржавеў, прыклад падгніў). Таму ахвотна памяняўся зброяй з Яўтушыкам, даўшы ў прыдачу пінжачок ад касцюма, які бацька купіў перад самай вайной.

— Жывы,— між тым трасе Васілёву руку Яўтушык.— Я тожа жывы. На фронце быў тры дні. Параніла. У жывот. Год праляжаў у шпіталі. Цяпер вот тут жыву. Загадчык фермы. Хоць якая там ферма...

Пачуўшы, што Васіль працуе карэспандэнтам, Яўтушык безнадзейна махае рукой:

— Нічога добрага не пабачыш. Пустыня. Летась быў неўраджай. Рабіць няма каму. У нашых Гогалях пяць мужчын.

Вечарэе. Цямнейшым робіцца лес. На закіданую снегам вёсачку насоўваюцца сінія цені. Сярпок месяца павісае над лесам, некалькі зорак у небе загараецца. Яўтушык угаворвае Васіля насупраць ночы нікуды не ісці. Пераначаваць у яго. Праўдзівей, у сястры. Ён тут жыве. Хоць родам з Лутава. Але ягоную хату спалілі...

Хата ў Яўтушыка, як большасць хат лясной вёскі, прасторная. Да пярэдняй палавіны дабудаваны трохсценак, сені. Другая палавіна хаты чыста прыбрана. Гара падушак на ложку, засланым самабранай коўдрай, з вытканымі на ёй чырвона-зялёнымі клеткамі. У кутку іконы, ахінутыя белымі з вышыўкай ручнікамі, на падваконніках геранькі, на падлозе фікусы ў драўляных кадках.

Звяртаючыся да сястры, Яўтушык паведамляе:

— Вот чалавека прывёў. Ты, Маня, можа, яго бачыла? Ён з нашай брыгады.

— Бачыла,— Маня ўсміхаецца.— Быў такі маладзенькі, далікатны. Ён і цяпер нестары. Ты ж у яго пінжачок выменяў. Успомні, як я цябе лаяла...

Маня выцірае руку аб фартух, падае Васілю. Яе шыракаваты адкрыты твар як бы выпраменьвае спакой, добразычлівасць. Жанчыне гадоў трыццаць. Яна, у адрозненне ад дробненькага брата, высокая, паўнаватая станам.

— Ты яе павінен памятаць,— гаворыць Яўтушык.— Яна ў санчасці рабіла. Да вайны курсы медсясцёр скончыла. У Рэчыцы. Далей Рэчыцы нікуды не ездзіла...

— Ты паездзіў. Схадзіў за балота і вярнуўся з прабітым жыватом...

Напаўзабыты, як далёкі сон, успамін. Вяртаючыся з мястэчка, яны, сувязныя, прыносілі ў атрад бінты, ёд, іншыя, якія маглі раздабыць, медыкаменты. Васіль аддаваў іх ахайнай, у белым халаце маладой жанчыне. Яна заўсёды прыязна, прыхільна на яго глядзела. Дык вось, значыць, сустрэча.

— Былі дзялы,— гаворыць Яўтушык.— Твой пінжачок пад Жэрдзю застаўся. Ёсць такая вёсачка ў Парыцкім раёне. Пагналі нас туды на нямецкія кулямёты. Нават не абмундзіравалі. Хто ў чым ішоў у бой. Некаторым толькі патронаў і гранат далі. Там палёг амаль увесь наш атрад...

Каля печы пакручваецца дзяўчынка гадоў васьмі, шустрая, з чорненькімі, вострымі, як іголкі, вочкамі. Васіль вымае з ваеннай дэрмацінавай сумкі драбок цукру, дае ёй.

Вячэраюць сціпла. Гаспадыня ставіць на стол гліняную міску гарачай бульбы, талерку салёных агуркоў, збан кіслага малака.

Пасля вячэры Яўтушык раптам пачынае мітусіцца: дастае з кута пад абразамі гармонь, апранае палітончык.

— Гайда на вячоркі! Ёсць трохі дзяўчат. Хлопцаў мала. Выбераш любую...

Васіль адмаўляецца. У вайну ў мястэчку ладзіліся вячоркі. Хлопцы, ягоныя сябры-таварышы, на іх хадзілі. А ён ні разу. Не ведаў, што будзе там рабіць.

— Толькі не напіся, як мінулы раз,— папярэджвае сястра.— Госця не пачаставаў, а сам набярэшся...

Ад Васіля не хаваецца, што Мані да душы ягоная адмова ад вячорак.

Васіль расказвае: начаваў, калі здаралася быць у атрадзе, у штабной хаце. Хацеў пабыць у ёй. Але не адважыўся. Сын гаспадыні быў у паліцыі. Відаць, засудзілі яго.

— Той паліцай да партызан перабег,— тлумачыць Маня.— З-пад Пінска сюды вярнуўся. Загінуў пад той самай Жэрдзю, дзе брата параніла.

У хаце чуваць, як глуха, нібы са стогнам, шуміць лес. Цёмная сцяна лесу пачынаецца адразу за агародам. Толькі тут Васіль здагадваецца, чаму яго пацягнула ў Гогалі. Відаць, не толькі жаданне пабачыць штабную хату. Яго, местачкоўца, заўсёды прагна цікавіла, як жывуць людзі на адзіноце, сярод лесу, як сябе адчуваюць. Бо тут дзіч, глуш, часам выюць ваўкі і лісы прабіраюцца ў хлявы да курэй.

Маня з дачкой спяць на печы. Васілю паслана пасцель на вялікім двухспальным ложку. Яўтушык з'явіўся ў другой палавіне ночы, лёг у пярэднім пакоі і адразу засоп носам, захроп. Відаць, напіўся. Прачнуўшыся, Васіль болей заснуць не можа. Ён чуе, што не спіць і Маня. Дзіўныя рэчы бываюць на свеце. Ён зусім забыў Маню. А цяпер успомніў. Смяшлівая, з шырокім мілавідным тварам, яна і ў атрадзе прыхільна ставілася да яго. Запыняла, дзе ні сустрэне, распытвала аб жыцці. І яшчэ былі дзяўчаты-наборшчыцы, якія цікавіліся імі, местачковымі хлопцамі. Адна бяляvenькая была вельмі прыгожая. Васіль сустрэў яе нядаўна ў мястэчку. У ахайным шынельку, кірзавых ботах. Яна, аказваецца, пасля партызан служыла ў арміі і толькі што дэмабілізавалася.

Як толькі пачынае світаць, Васіль падхопліваецца. Ад снедання адмаўляецца. Але Маня так проста з хаты яго не выпускае. Дае кубак малака, піхае ў кішэню перапечку.

Васіль ідзе балотам. Чарнее на аснежаным прасцягу невялікая вёсачка. Ні парканаў каля хат, ні плятнёў. Пры паглядзе на ўбогае сельскае жытло ў Васіля баліць душа. Бо нядаўна ён вандраваў па Германіі, бачыў дабротную, каменную забудову, жыццё сытых, чырванатварых баўэраў. І палі не такія, і дарогі. Відаць, немцы глядзелі на тутэйшых жыхароў як на непаўнацэнных людзей.

Васіль ведае вёсачку. Завецца яна Хамовічы. Калі ўласаўцы выгналі партызан з Гогаляў, яны ноч праляжалі ў балоце каля гэтых Хамовічаў. Уласаўцы зусім не маскіраваліся. У вокнах хат зыркалі агні, на панадворках палалі вогнішчы. Відаць, курэй, парасят ваякі смажылі. Пасля пілі гарэлку, гарланілі песні. Што партызаны маглі ім зрабіць? Нічога. Мелі па вінтоўцы, па пяць-шэсць патронаў.

Васіль крочыць далей. Вось яшчэ адна голая, някідкая вёсачка. Завецца яна Восетаў. Шэрыя, прыземленыя хаткі, двары не агароджаны, на адзінай вуліцы не відаць ніякага руху.

Наступным паселішчам павінен быць Лутаў. Месца знакамітае. Да рэвалюцыі тут жыў памешчык. Потым у ягоным маёнтку збудавалі саўгас.

Васіль аднойчы быў у Лутаве. Якраз у той час, калі савецкія войскі вызвалялі гэтую мясцовасць. Партызаны ім дапамагалі, былі праваднікамі. Але разгледзець як след Лутаў Васіль тады не паспеў: паспяшаў у мястэчка. Бо спецыяльныя групы вайскоўцаў затрымлівалі грамадзянскіх асоб, правяраючы, ці не з’яўляюцца яны дэзерцірамі. А ў Васіля ніякіх папер не было.

Мясціны і тут не радуюць вока. Вёскі — хоць гэта быў суцэльны партызанскі край — немцы не папалілі. І балоты тут не асушаны. Можа, па гэтай прычыне карнікі сюды не дапялі: баяліся бездаражы.

Чараты на бязлюдным балоце, трыснягі. Шасцяць, ціха шумяць. Хоць ветру няма. Сям-там пракідваюцца чорныя галоўкі катоў. Мясціны сумныя, жураўліныя. Відаць, па вясне тут многа качак, чыркоў, іншай балотнай дзічы.

Сям-там віднеюцца стажкі сена. Далей суцэльныя зараслі лазнякоў. Варона праляціць, адчайна шырока разводзячы крылы, каркаючы, ды з абымшэлых купін чуецца папіскванне. Можа, мышы пачынаюць ажываць пасля зімовай спячкі.

Насустрач Васілю сунецца постаць. Чымсьці яна знаёмая. Рукамі чалавек размахвае, нібы вятрак крыллем, шырока раскідваючы трохі крываватыя ногі. Прыблізіўшыся, Васіль пазнае Мікалая Пішчыка. Іван Гарошык паехаў у Гомель на заняткі. Што робіць тут Пішчык?

Таварышы сыходзяцца. Пасінелы ад холаду Міколаў нос нагадвае вялікую сінюю сліву. Але вочы вясёлыя, і наогул Мікалай не губляе гумару.

— Ту-у-у! — шчэрачы белыя, як часнок, зубы, сустракае Васіля.— Чаго па нетры швэндаешся? Ваўкоў хочаш перапісаць. То я палічыў. Сто дваццаць восем штук...

Васіль вытрымлівае тон.

— Я па рабоце, а ты чаму ад заняткаў туляешся? Зноў будзе троек, як бобу...

— Тройка — дзяржаўная адзнака. За яе дыплом даюць. Большага не трэба.

Тут, аказваецца, радзіма Пішчыка. Вось гэтыя журавуліныя мясціны. З вёскі Убараць ён перабраўся ў мястэчка. Гады за два да вайны.

— Цётка тут жыве. Хацеў каля яе пагрэцца.

— Ну і як?

— Бедны народ. Пад Вялікдзень прыеду. Кабанчыка заколе. Ведаеш што,— Мікалай мяняе напрамак гаворкі,— давай сходзім у Гарохавічы. Там я канчаў сямігодку, знаёмых маю.

— Іду ў Лутаў. У саўгас...

— Што там знойдзеш? Папялішчы, зямлянкі.— Мікалай паніжае голас: — У Гарохавічах жыве цікавы чалавек. Памочнік Мазурэнкі, камандзіра дэсантнікаў, якому мы дапамагалі. Цяпер ён дырэктар школы. Мне нічога не гаворыць. Можа, табе скажа. Усё ж карэспандэнт...

— Пайду ў Лутаў,— стаіць на сваім Васіль.— Калі твой дырэктар не хоча нічога гаварыць, то цягнуць за язык не варта.

Вось і Лутаў на даляглядзе. Шырокая пясчаная выспа сярод балотнага абшару, пакрытая сасновым лесам. Лес харошы, які ёсць, бадай, толькі вакол мястэчка. Мясціна Васілю падабаецца.

Позняй восенню сорак другога года, калі ішлі зацятыя баі за Сталінград, партызаны навакольных раёнаў, аб'яднаўшыся, напалі на Лутаў. Артылерыі не мелі, таму каменнымі будынкамі, пабудаванымі некалі гаспадаром маёнтка, памешчыкам, авалодаць не змаглі. Але паліцаяў, немцаў з так званага дзяржаўнага маёнтка выкурылі. У прамым сэнсе. Падпіхвалі вазы з сенам,

саломай да камяніц і падпальвалі. Паліцаі ўцякалі з мястэчка. З таго часу паўночная частка раёна цалкам перайшла ў партызанскія рукі.

Васіль вандруе па саўгасе, аглядвае паселішча. Яно не такое вялікае. Пасёлак, дзе жывуць рабочыя, эсэсаўская дывізія спаліла ў сорак трэцім годзе. Ён пакрысе аднаўляецца. Адрамантаваны два-тры каменныя саўгасныя хлявы. Яшчэ некалькі будынін. Панскі палац — досыць раскошны, з калонамі, бельведэрамі, стаіць закураны, зруйнаваны.

Васіль завітвае ў кантору, знаёміцца з дырэктарам саўгаса, нешматслоўным, з паўнаватай паставай і круглым тварам чалавекам гадоў сарака.

— Пакуль што добрага пра нас не напішаце,— прамаўляе дырэктар.— Прыязджайце гады праз два. Можа, тады будзе што-небудзь добрае.

Васіль, аднак, думае інакш. Мясціна, людзі яму падабаюцца. Гэта галоўнае. Пішацца добра тады, калі шчыра выказваеш пачуцці.

І ў Лутаве знаходзіцца знаёмы чалавек. Галоўны аграном Латушка. З выгляду ён абыякавы да ўсяго, кіславаты, з адутлаватым, нібы распухлым тварам. Ён і ў партызанах быў такі: нічым не цікавіўся, не меў добрай вопраткі, абутку, вінтоўку насіў руляй уніз.

Латушка запрашае карэспандэнта да сябе. Хутка ў ягоны небагаты пакойчык — жонкі дома няма, паехала да радні — завітвае дырэктар, і не з пустымі рукамі: прыносіць бутэльку гарэлкі, крышанчык сала.

Дырэктар быў на фронце. Латушкава вайна скончылася пад станцыяй Жэрдзь. Яго, як і Яўтушыка з Гогаляў, параніла, і ён на гэтым адваяваўся.

Добрае застолле, і гаворка харошая. Васіль дазнаецца пра Азарыцкі лагер, які стварылі немцы. Праўдзівей, ён трохі чытаў пра гэты лагер. Але Латушка расказвае як сведка, ён бачыў лагер. Немцы хацелі адгарадзіцца ад савецкага наступлення мірнымі жыхарамі. Не якія-небудзь СС, СД, а звычайныя воінскія часці, вермахт зганялі на балота людзей. Са Жлобіна, Бабруйска, навакольных вёсак. Лагераў было

аж тры, і ў кожным пераважна былі старыя дзяды, жанчыны і дзеці. Трымалі вязняў у агароджаным калючым дротам балотным сасняку, кастроў паліць не дазвалялі і амаль не кармілі. Найбольш загінула дзяцей. Тыфозных спецыяльна прывозілі ў лагер. Каб заразіць хваробай наступаючыя савецкія войскі.

Не, яны, савецкія салдаты, гэтак не рабілі. Нават нельга ўявіць, каб адважыліся на такое.

Ранічкай, выходзячы з Лутава, Васіль выбірае маршрут. Ён пройдзе мясцінамі, якіх яшчэ не бачыў. Тут, у гэтым кутку, безліч вёсак з назвамі, якія гавораць пра вытворчасць жалеза: Рудня, Рудніца, Рудзенька.

Адышоўшы кіламетраў пяць ад Лутава, карэспандэнт бачыць невялікае паселішча. Якая Рудня перад ім, не ведае.

Чуецца жалезны звон. Даносіцца ён з невялікага хлеўчука, размешчанага на ўзбалотку, трохі наводдаль вёсачкі.

Васіль заходзіць у кузню. Хлапчак гадоў дванаццаці ў доўгай жаночай адзежыне, налягаючы на драўляную білу, раздзімае горан. Каваль, худы, шчуплы, з няголеным тварам, выкоўвае на кавадле яшчэ чырвоны, толькі што выцягнуты з агню круг.

Каваль ахвотна адказвае на пытанні карэспандэнта. Вёска завецца не Рудня, не Рудніца, а Рудзец. Каваль яшчэ не мае хаты, бо нядаўна вярнуўся з вайны. Памагае яму сын, які — што зробіш — па некалькі ўрокаў прапускае. Выкоўвае каваль — прозвішча ягонае Дзенісенка — лемяхі для плугоў, зуб’е для барон, розныя крукі, шкворні. Бо хутка сяўба.

Дзенісенка закурвае, дае закурыць Васілю. Ён памяркоўны, таварыскі. Расказвае: летам, як управяцца з сяўбой, возьмецца за ўласную хату. Лесу сельсавет выпісаў. Хоць не хопіць яшчэ лесу.

Васіля ўражвае каваль. Добра, што ёсць на свеце такія людзі. Самаадданыя, самаахвярныя. Яны і вайну выцягнулі. Равеснікі ці трохі старэйшыя за Васіля лейтэнанты, капітаны камандавалі ўзводамі, ротамі, а такія, як каваль, выконвалі іх каманды.

Тыдні праз два-тры ў абласной газеце паяўляюцца карэспандэнцыя «Саўгас на балоце» і верш «Каваль». Вершы карэспандэнту пісаць неабавязкова, але вельмі ўжо ўразіў кавальфрантавік.

Шукаць яго не трэба,
За дзелам вечна ён,
Нясецца аж да неба
Сталёвы з кузні звон...

Пра звон, які нясецца да неба, вядома, перабольшанне. Ён гасне ў бліжэйшых лазняках. Каваль, аднак, сапраўды выдатная асоба.

Прайшоўшы яшчэ некалькі вёрст, Васіль пачынае пазнаваць навакольны лес. Тут ён вандраваў, калі быў у партызанах. А яшчэ праз гадзіну выдыбае на прагал, адкуль відаць чародка аснежаных хат вёскі Макаў.

Гэта лес дзяцінства, ранняга юнацтва. Грыбныя мясціны. Не баяўся Васіль зблудзіць і сягаў аж сюды, пад вёску Макаў. Толькі зыначыўся лес. Маладыя, пасаджаныя пад шнур сасонкі парадкам падраслі. Бярэзіны, асіны вымахалі яшчэ вышэй.

Тут, на верасах, нараджаліся Васілёвы мары пра будучыню. У душы звінела мелодыя песні «Любімы горад». Васіль марыў падацца ў шырокі свет, а потым вярнуцца ў роднае мястэчка. Цяпер вось вярнуўся...

Наўзбоч сасоннікаў ляжыць сыпаны пясчаны шлях. Па ім да мястэчка першым ваенным летам брылі немцы — успацелыя, з закасанымі рукавамі, з пілоткамі, засунутымі за рэмень. Армія заваёўнікаў. Яны ўжо тады лічылі, што Расію заваявалі. А праз два з лішкам гады па гэтым самым пясчаным шляху адступалі. Не сказаць, каб беглі на злом галавы. Агрызаліся, з тыдзень абстрэльвалі мястэчка, пакуль армія разам з добраахвотнікамі-партызанамі не выкурыла іх з роднага лесу.

## V

Вялікія перамены ў рэдакцыі. З арміі вяртаюцца старшыя афіцэры, ім шукаюць адпаведныя пасады. Рэдактарам абласной газеты прызначаны Мікалай Рыгоравіч Тужык, маёр ці падпалкоўнік, вяртлявы, шустры трыццацігадовы мужчына сярэдняга росту з чорнымі, вострымі, як свярдзёлкі, вачамі.

Прадстаўляе Васіля новаму рэдактару загадчык сельскагаспадарчага аддзела Гарватоўскі:

— Наш куставы карэспандэнт. Лепшы...

Апошняга слова можна было не гаварыць. Бо ў газеце толькі два карэспандэнты. Месяц ці два назад на работу ў рэдакцыю прынялі Захара Бобчанку, тоўстага, з безвалосым татарскім тварам мужчыну, які жыве ў паўднёва-прыпяцкім раённым гарадку. У Захара шасцёра дзяцей. Вайну ён праслужыў у пантоннай часці. Бобчанка еў карэспандэнцкі хлеб яшчэ да вайны, хоць адукацыя ў яго пачатковая. Працаваў у саюзнай асаавіяхімаўскай газеце.

Вясновыя месяцы прыносяць Васілю поспех. Новы рэдактар пасылае яго на Тураўшчыну арганізоўваць паласу. Пра сяўбу ранніх збожжавых культур. Тураўшчына, як і некаторыя іншыя паўднёва-прыпяцкія раёны,— жытніца Палесся.

Канец красавіка. Прыпяць разлілася гэтак шырока, што ад прырэчнай вёскі ў Жыткавіцкім раёне да Турава трэба дабірацца па вадзе. Насустрач лодцы, у якой сядзіць Васіль, плыве сустрэчная лодка, на бартах якой гараць свечкі. Вязуць забітага бандытамі-«бульбаўцамі» міліцыянера. І ва ўсходняе Палессе, значыць, пранікаюць банды, што дзейнічаюць у Заходняй Беларусі і на Украіне.

Тураў, а найбольш ягонае наваколле Васіля трохі здзіўляе. Сталіца былога Турава-Пінскага княства — звычайная вёска. Нават старасвецкая з выгляду. Карэспандэнт нават знаходзіць у былой сталіцы хаціну, у якой замест печы вісіць цагляны ачаг. Ён прымацаваны жалезным ланцугом да бэлькі, а ў столі прадоўблена дзірка, каб выходзіў дым.

Васіль арганізоўвае паласу. Размаўляе з калгаснікамі, якія, як ён сам, пабывалі на вайне, сёе-тое пабачылі. Разважлівы,

памяркоўны народ. Сёй-той з калгаснікаў і пажартаваць любіць. На долю ніхто не скардзіцца.

Вярнуўшыся з камандзіроўкі, у местачковай арцелі Васіль шые шапку. Бо купіць няма дзе. Хадзіць у зімовай кубанцы сорамна. Тым часам за звычайную кепку з карэспандэнта здзіраюць сто рублёў. Васіль лічыць: добры матэрыял для фельетона.

Тыдні праз два газета друкуе першы ягоны «маленькі фельетон». Поспех поўны. Усе, хто выпісвае ці проста чытае абласную газету, з фельетона рагочуць.

У адзін з тых дзён Васіль прачынаецца, пачуўшы знаёмыя вершаваныя радкі.

Убраліся ў зелень
Лясы і палеткі,
Ківаюць галоўкамі
Весела кветкі.

Адвечную казку
Лес шэпча маўклівы,
Калышацца рунню
Калгасная ніва...

На сцяне вісіць талерка рэпрадуктара.

У першую хвіліну Васіль нічога не разумее. Чаму па радыё перадаюць яго верш, які ён даслаў у газету? Нарэшце здагадваецца: у восем гадзін раніцы абласное радыё робіць агляд абласной газеты. Значыць, змясціла газета верш.

Фельетон Васіль друкуе ўпершыню.

З Мазыра да мястэчка Васіль звычайна дабіраецца па чыгунцы. А тут раптам здараецца, што паўтаратонка, у кузаве якой ён сядзіць, кіруе па шашы да Рэчыцы. Васіль рашае даехаць да Сівалобаў. Адтуль да мястэчка сем кіламетраў. Пройдзе вясновым лесам, паглядзіць, як кветкі расцвітаюць, птушак паслухае.

Субота, заўтра выхадны дзень. Ля павароткі на мястэчка Васіль нечакана твар у твар спатыкаецца з Алесяй. Яна вя-

сёлая, смяецца, шчабеча. І не адна Алеся, побач выдыбае не зусім малады мужчына ў шынялі з капітанскімі пагонамі.

Заўважыўшы Васіля, Алеся палохаецца, імгненна змаўкае. Нават не вітаецца з ім. А Васіля як электрычным токам працінае. У Сівалобах у лясной казарме жывуць Алесіны бацькі. Значыць, туды вядзе свайго капітана. З ім, Васілём, нават на вуліцы не паказалася. Маўляў, нельга, яна школьніца.

Іскрай у памяці: два апошнія разы Васіль Алесю на кватэры не заставаў. Чорная, сухая, як палка, гаспадыня здзекліва пасміхалася:

Казала, на гурток пайшла. Вернецца позна...

Вось, значыць, які гурток.

Васіль разгублены. Што яму ў гэтым выпадку рабіць? Нічога. Алеся ніколі да яго не хінулася. Адно: пасля настаўніцкіх курсаў першая напісала пісьмо. Але потым і сустрэч пазбягала, і на фронт пісала рэдка.

Васіль ведае: шукаць сустрэч з Алесяй не будзе. Гэта канец. Сумны, абразлівы, але канец. Нараджаецца думка: трэба вучыцца на стацыянары. Здабываць веды, пакуль малады. Трэба падрыхтавацца, добра здаць экзамены і пераводзіцца на вочную вучобу. Вучыцца, як Іван Гарошык, Мікола Пішчык, Кузьма-Дзям’ян.

За апошні месяц Васіль атрымоўвае, як ніколі, вялікі ганарар. Так новы рэдактар аддзяквае за паласу з Турава, іншыя матэрыялы, якія Войцік надрукаваў.

У нядзелю на ажыўленым местачковым базары Васіль купляе за тысячу рублёў касцюм. Касцюм не новы, трохі паношаны і пашыты для волата. Але выбіраць не прыходзіцца: у магазіне касцюмаў не прадаюць, а другой вопраткі, акрамя гімнасцёркі, у Васіля няма. Рэшту грошай Васіль аддае маці і трохі нават прыхоўвае: трэба думаць пра стацыянарную вучобу.

Толькі паўгода працуе Васіль у газеце. Стараецца выконваць заданні як найлепш. Аднак поўнага задавальнення няма. Можа, не столькі ад працы, колькі наогул ад жыцця. Васіль адзінокі. Раз у тыдзень-два прыязджаюць з Гомеля Іван Гаро-

шык, Мікола Пішчык. За харчовым падмацаваннем заяўляецца з Мазыра Кузьма-Дзям'ян. Іншы раз хлопцы збіраюцца на кватэры ў Васіля, купляюць у складчыну паўбутэльку. Васілёва маці выстаўляе сякую-такую закуску. Закуску амаль начыста змятае Кузьма-Дзям'ян. Ён так прагна есць, што на лобе аж пот выступае.

Невясёлыя зборы. Была ў мястэчку баявая група, рабіла адчайна небяспечную справу, памагала партызанам, разведчыкам Чырвонай Арміі, прагна чакаючы яе прыходу. А цяпер пра падпольныя справы нават слухаць ніхто не хоча. Камсамольскія, партыйныя работнікі адбіваюцца ад заяў падпольшчыкаў як толькі могуць. Відаць, моцна сядзіць у іхніх душах прывід трыццаць сёмага года.

На фронце Васіль марыў: калі не загіне, то вернецца ў жыццё, падобнае на даваеннае. Толькі няма таго жыцця і не будзе. Бо вельмі многа не вярнулася з вайны людзей. Васілёвых таварышаў, якія прыйшлі з вайны, на пальцах пералічыць можна. Стаяць іхнія хаты, буяюць у палісадніках вяргіні, флёксы, выходзяць на панадворак, іншы раз на вуліцу мацяркі. Сумна, балюча з імі становіцца. «Ты вось прыйшоў, ходзіш, радуешся жыццю, а мой ляжыць у сырой зямлі»,— здаецца, думае кожная з іх. І хоць няма ў гэтым віны Васіля, іншых хлопцаў, але сустрэча з мацяркамі палеглых хлопцаў заўсёды балючая.

У Гарасіма Дзікуна, агромністага, магутнага, як дуб, мужчыны, на фронт пайшлі два сыны — Павел і Пеця. Старэйшы, Павел, быў засуджаны, на фронт папрасіўся з заключэння; Пецю ўзялі пасля вызвалення мястэчка. Абодва хлопцы загінулі. Пеця служыў у адным палку з Васілём, загінуў на Карэльскім перашыйку бадай што ў першым баі. Ён залішне ў той дзень мітусіўся, перабягаў з акопа ў акоп, злавіўшы нарэшце выпадковую кулю. Не адзін ён так рабіў. Хлопцы былі нявопытныя, неабстрэленыя. Але хіба скажаш гэта бацьку, які, напаткаўшы Васіля, пытае пра сына, пра тое, як ён загінуў.

Гарасім мізарнее на вачах: сохне, глыбей западаюць вочы, горбіцца спіна.

Не, не атрымалася вяртання ў маладосць. Не толькі ў зіхатлівую перадваенную пару, але нават у звычайнае жыццё. Бо вакол галеча, нэндза, часам голад. Нават у Васілёвай хаце, дзе працуе бацька, ён і малодшы брат (Петрык вярнуўся з Гомеля з малатком на доўгім тронку. Пахаджвае па мясцовай станцыі, абстукваючы колы і восі вагонаў), не кожны дзень ляжыць на стале хлеб.

Вайна нібы скончылася. Але нейкім чынам працягваецца. У анкетах трэба пісаць, ці быў у палоне, акружэнні, акупацыі, чым займаўся. Оперупаўнаважаныя адпаведных службаў востра цікавяцца гэтымі пытаннямі.

З раніцы ў Васіля баліць галава. Ён нейкі млявы, расслаблены. Можа, таму, што па начах чытае, многа курыць, не займаецца фізічнай работай. Ніколі так не было. Да вайны летам ён хадзіў у рамонтную брыгаду, цягаў са станцыйнага склада плашкі, касіў сена. На вайне тым больш не было адпачынку. Ён тады радаваўся жыццю, сёрбаў усмак суп з пярловай сечкі, жыў радаснымі надзеямі. Цяпер нічога гэтага няма.

Пакутліва памірае каханне да Алесі. Пачуццё да яе ўсё-такі глыбока запала ў Васілёву душу. Ён памятае лавачку пад вербамі на вуліцы Чангарскай дывізіі, дзе аднойчы сядзеў з Алесяй, пясчаны, атулены таполямі двор старой школы: у адной са старых будынін гэтага двара размяшчаліся настаўніцкія курсы, памятае іншыя мясціны, дзе ён стаяў з Алесяй, размаўляў ці проста бачыў, як яна тымі мясцінамі праходзіла.

Калі ён хадзіў да Алесі, то як бы загадзя рыхтаваўся да размовы, прыкідваў, што і як ёй скажа. Але заўсёды намечанае зрывалася. Ён хваляваўся, напружваўся і гаварыў зусім не тое, што хацеў сказаць.

Васілём валодае салодка-шчымлівы развітальны настрой. Ён не дакарае Алесю. Калі знайшла чалавека, які падабаецца, то што тут скажаш. Не трэба было толькі гуляць у хованкі.

Мяняецца раённае кіраўніцтва. Новы сакратар райкама, новы старшыня райвыканкама. Наогул у раёне многа новых асоб. Дэмабілізаваныя з арміі робяцца старшынямі калгасаў,

загадчыкамі розных кантор. На дзелавыя якасці новых кіраўнікоў ніхто не глядзіць. Абы не былі ў акупацыі.

Надвор'е, аднак, не радуе. Калгасы сяк-так адсеяліся. Але за ўсю вясну не было ніводнага дажджу. Сухмень выпальвае палі. Жыта, не паспеўшы адкрасаваць, жаўцее. Ячмень, авёс сядзяць пры зямлі. Толькі свірэпка буяе: усё поле жоўтае.

Перасохла нават балота. З нізкіх балотных мясцін вужы перапаўзаюць у мястэчка, хаваюцца па хлявах, цёмных кутках. Адчуваючы побач з сабой гадаў, каровы трывожацца, змяншаюць малако.

Значыць, зноў неўраджай, бясхлебіца, галеча. Завошта Бог карае знявечаную вайной зямлю, аўдавелых жанок, асірацелых дзяцей?

Вецер гоніць па вуліцы клубы пылу. Ён асядае на лісцях дрэў, на лапушыстым гарбузніку, што віецца па плятнях, парканах, трашчыць на зубах. Гараць, курэюць сухія тарфяныя балоты, і едкі дым дасягае крайніх местачковых хат. Вада ў студнях толькі на самым дне: мутная, з пяском. Вечарам сонца садзіцца за вогненна-барвовай паласой небасхілу. Значыць, і заўтра будзе суш, спякота, сухмень. Нішчацца пасевы, высыхае трава, а ўжо ледзь не сярэдзіна лета, і жыты, аўсы, ячмені не паправяцца, не набяруць сілы. Калі нават пойдзе дождж.

У газетах пішуць пра лесапасадкі, якія ўзнікаюць на бязлесных паўднёвых прасторах. Відаць, не варта было так бязлітасна знішчаць уласныя лясы, якія тут, на Беларусі, былі добрым заслонам на шляху спякотных азіяцкіх сухавеяў.

Іван Гарошык купляе ў гомельскага букініста «Сравнительную грамматику индоевропейских языков» А. Мее. І яшчэ адну кнігу прывозіць Іван — «Историю английской литературы» — новенькую, на якой нават бібліятэчных пячатак няма. Кнігу Іван знайшоў у памяшканні кніжнага склада, які перамясціўся ў другое месца.

Васіль загараецца. Трэба працягваць тое, што зацікавіла яго яшчэ ў вайну. Высветліць, што такое нясуць арыйцы і якая розніца між імі і індаеўрапейцамі.

Мовазнаўства, аказваецца, можа адказаць на такія пытанні. Немцы называлі сябе нардычнай, арыйскай расай, высока неслі галовы, лічачы сябе звышчалавекамі. Але, здаецца, не было такой асобнай арыйскай расы, якая ўзвышалася б над другімі народамі. Немцы проста яе выдумалі. Тым часам гэта трэба даказваць.

У Васіля ёсць тоўсты том (хоць без вокладак і першых старонак) акадэмічнай гісторыі СССР. Ён прачытаў пра грэчаскія калоніі на беразе Чорнага мора — Ольвію, Херсанес, пра бясконцы рух народаў, якія рваліся з азіяцкіх пустынь на стэпавыя і лесастэпавыя еўрапейскія прасторы. Нават напамінку няма ў гэтай кнізе пра арыйцаў. Германскія плямёны вандравалі па Еўропе, нават у Афрыцы былі. Але ж блукалі па Еўропе і славяне. У раннія вякі балтыйскае ўзбярэжжа да самага Гамбурга, Любека было славянскім...

Дзень як бы раскладзены па гадзінах. Да абеду Васіль вандруе па раённых установах, арганізацыях, завітвае ў рэдакцыю раённай газеты. Трэба збіраць інфармацыю. Калі трапляе пад руку якая-небудзь машына, едзе ў калгас. Раён таксама трэба вывучыць. І не толькі свой, а і суседнія.

Пасля абеду Васіль піша. Аператыўную інфармацыю перадае па тэлефоне са змрочнага памяшкання пошты. Можна лічыць, за свой кошт. Аплачваць квіткі за тэлефонныя перамовы тоўстая рэдакцыйная бухгалтарка Цыля адмаўляецца. Яна нават камандзіровачныя выдаткі аплачвае з вялікай неахвотай. Кожны раз прыходзіцца прыніжацца перад адказным сакратаром або нават перад рэдактарам.

Вечарам Васіль шыбуе на станцыю. Хто-небудзь з местачковых службоўцаў абавязкова едзе ў Мазыр, і Васіль просіць такога чалавека занесці самаробны канверт-трохвугольнік у рэдакцыю. Адмоў няма: у невялікім абласным горадзе ледзь не ўсе ўстановы размяшчаюцца на цэнтральнай Ленінскай вуліцы.

Вечарам Васіль вольны ад службовых абавязкаў. Ходзіць па пероне, размаўляе са знаёмымі. Чымсьці прывабная прыгожая станцыя ў вячэрнія гадзіны. Вайна яе не закранула. Задуменна шэпчуць срабрыстым лісцем разложыстыя, з

падобнымі на хмары шатамі, таполі, пасвіствае які-небудзь манеўровы паравозік. Абсаджаны па крузе таполямі і агароджаны жалезнымі рашоткамі скверык таксама даваенны. Пры ім воданапорная калонка. Вада з яе б’е пругкім празрыстым струменем.

Васіль заўсёды п’е ваду з калонкі. Яна сцюдзёная, зубы зводзіць. Калонка нібы яднае даваенны ўзнёсла-рамантычны час з днём сённяшнім, шэрым, будзённа-панылым, які не выклікае ў Васіля ніякіх высокіх парыванняў.

Да поўначы і нават пазней Васіль чытае. Ён уважліва сочыць за творамі, якія друкуюцца ў рускіх, беларускіх часопісах. Асабліва калі творы прысвечаны вайне.

Сярод кніг, якія ацалелі ў шафе для вопраткі, Васіль нечакана адшуквае чацвёрты том Збору твораў Кнута Гамсуна, выдадзены як дадатак да дарэвалюцыйнага часопіса «Ніва».

Раманы «Пад асенняй зоркай» і «Вандроўнік, які іграе пад сурдзінку» Васіль прачытаў у Германіі, калі, падслухоўваючы немцаў, выбіўся са сну і трэба было чым-небудзь заняць час. Тым больш прыемна будзе прачытаць кнігі цяпер, калі не трэба заглядваць у слоўнік, можна задумацца, вярнуцца назад. Хоць смакаваць мову, яе вобразны лад не прыходзіцца: пераклад вельмі пасрэдны.

Кнут Гамсун піша пра тайны кахання. Шмат такіх тайнаў. Каханне — штосьці невымернае, агромністае, што вырастае да касмічных памераў. Яно можа шчаслівага чалавека зрабіць нешчаслівым і, наадварот, зіхатлівым бляскам, радасцю напоўніць звычайнае жыццё.

Васіль думае пра Алесю. Яму заўсёды здавалася, што яе твар як бы выпраменьвае штосьці няўлоўна-прывабнае, нават таямнічае. Што? Так проста не адкажаш. Душа ў Алесі пераменлівая, дзяўчына заўсёды некуды рвецца. Можа, гэта і прываблівае. А можа, Васіль проста выдумаў Алесю, бясконца чытаючы розныя кнігі.

Сум па Алесі Васіль разганяе частымі паездкамі ці проста паходамі па вёсках, калгасах. У школах ёсць маладыя настаўніцы. З якой-небудзь Васіль мог бы пазнаёміцца, і весялей прабягалі б ягоныя дні. Аднак не знаёміцца. Штосьці не дазваляе.

Баліць душа пры паглядзе на родную сельшчыну. Васіль міжволі параўноўвае тое, што бачыў у Германіі, Чэхаславакіі, з тым, што ёсць тут, на роднай зямлі. Там апранутыя ў мур, камень вёскі, дабротныя, агароджаныя грунтоўнымі сценамі панадворкі баўэраў, вастраверхія, крытыя чарапіцай будынкі. А нашы вёскі нібы статак авечак, што збіліся ў гурт у летнюю спякоту, ды і тыя папаленыя, зруйнаваныя. Пагарэльцы толькі-толькі вылазяць з зямлянак, хаткі ставяць на жывую нітку. Абы хоць якія-небудзь сцены ды дах над галавой.

Васіль, аднак, піша бадзёрыя заметкі, карэспандэнцыі. Не, ён не хлусіць. Ён шчыра верыць, што заўтра будзе лепей. Вайна таксама пачыналася страшэнна няўдала. Краіна страціла агромністую тэрыторыю, самыя ўрадлівыя землі, Данбас, большасць прамысловых гарадоў. І выйграла вайну. Гэта як цуд.

Цяпер перш за ўсё трэба адбудавацца.

Сухмень, сухмень. Збожжа на полі выгарае нашчэнт. Не радасна ездзіць па вёсках, калгасах.

Пленум райкама выбірае другім сакратаром (ён адказвае за сельскую гаспадарку) Рыгора Шурко, высокага, трохі сутулага мужчыну з добрым маршчыністым тварам. Шурко — вылучэнец дваццатых гадоў. Ён займаў усе пасады, якія толькі ёсць у сельсавеце і раёне. Быў загадчыкам хаты-чытальні, сакратаром партячэйкі, старшынёй калгаса, сельсавета, інструктарам райкама партыі і вось, нарэшце, робіцца сакратаром райкама. Вецер перамен, які падхапіў Шурко ў далёкія дваццатыя гады, асаблівымі жыццёвымі дабротамі не адорваў, затое грамадскім клопатам надзяляў аж занадта.

Васіль завітвае ў вузенькі, нібы пенал, кабінет другога сакратара, і неяк імкліва яны збліжаюцца. Можа, па той прычыне, што Рыгор Іванавіч горача верыць у сілу друкаванага слова. Адукацыя ў яго не надта высокая: пачатковая школа, затым усялякія курсы і нават камвуз. Ён надзелены вострым прыродным розумам, і гэта як бы прыкрывае хібы несістэматычнай адукацыі.

Выступае Шурко бліскуча. Яго прамовы, поўныя гумару, дасціпнасці, заўсёды выклікаюць рогат залы і гучныя

воплескі. На сходах партыйнага, савецкага актыву, пленумах райкама Шурко абавязкова бярэ слова. Крытыкуе аднаго за другім старшынь калгасаў, раённых чыноўнікаў. Не шкадуе нікога, і тады здаецца, што раён не мае ніводнага прыстойнага работніка.

Войцік часта ездзіць з Шурко па калгасах. З прагнасцю завітвае ў незнаёмыя вёскі. Яму здаецца: кожнае паселішча нібы асобны свет. Маленькая дзяржава. Чаму іменна людзі выбралі гэтае, а не другое месца, каб пасяліцца, што іх прывабіла або нават прымусіла пусціць на тутэйшай зямлі карані.

У спаленых вёсках малюнак аднакі. Людзі толькі-толькі аднаўляюць жыццё. Старшыні калгасаў водзяць сакратара райкама па палях, паказваюць пасевы, першыя нанава пабудаваныя кароўнікі, цялятнікі.

Сонца паліць нясцерпна. Пасевы ў многіх мясцінах мізэрныя. Жыта рэдкае, з малым каласком. Перасыхае бульба. Праўда, на нізкіх мясцінах і балацянках выгляд пасеваў трохі лепшы. Які-небудзь ураджай людзі тут збяруць.

Малюнак агульнай нягоды выціскае з Васілёвай душы думкі пра Алесю, яе здраду. Розныя бываюць жанчыны, дзяўчаты, і Васілю проста не шанцуе.

Так, вёска жыве блага, дрэнна, не мае чаго есці, у што апрануцца, але пакуль што не разбягаецца. Мужчыны, якія вярнуліся з вайны, маладыя хлопцы, хоць плату атрымліваюць мізэрную, за сядзібу, родную хату ці нават зямлянку трымаюцца моцна.

Здзіўляюць паводзіны дзяўчат. Многія замуж не выйдуць — мала вярнулася з вайны жаніхоў,— але не кідаюцца дзяўчаты-перарасткі на шыю кожнаму стрэчнаму.

Упаўнаважаныя па аргнаборы, якія носяцца па вёсках, вярбуючы рабочую сілу ў Карэлію на лесараспрацоўкі, у Данбас — на шахты і проста ў гарады, нават у той самы Мінск, вялікага поспеху не маюць. Мала знаходзяць ахвотнікаў ехаць у далёкі свет і там зарабляць няхай сабе доўгі рубель.

Гэта нейкі вышэйшы пункт адданасці селяніна зямлі, прыкмета нейкай патрыярхальнасці. Чалавек яшчэ не рве

сваіх вясковых карэнняў. На вялікі жаль, раёншчыкі ды і вышэйшае начальства момант гэты прапускаюць міма ўвагі. Яны, як тыя дзятлы, што тукаюць дзюбамі па мёртвым дрэве. Нягледзячы ні на што, на кожным кроку балбочуць аб вядучай ролі рабочага класа.

Яшчэ ў лютым першага мірнага года прынята пастанова Пленума ЦК ВКП(б) аб развіцці сельскай гаспадаркі. Васілю здаецца: ніхто сур'ёзна аб зямлі не думае ў стратэгічным плане. Райкам, абкам займаюцца бягучымі, практычнымі справамі: хлебанарыхтоўкамі, здачай малака, яек, шэрсці. «Давай, давай!» — такі заклік гучыць на ўсіх сходах, пасяджэннях, пленумах. За працу, дбайнасць, самаадданасць і самаахвярнасць начальства селяніну нічога не абяцае.

Дні ідуць. Сёе-тое мяняецца. Хоць марудна, але пагарэльцы вылазяць з зямлянак, вёска адбудоўваецца. Набываюць нейкі воблік спаленыя, зруйнаваныя гарады.

Войцік найбольш хіліцца да Шурко. Адчувае: гэта ідэаліст. Жыве тым, што ездзіць па калгасах, дае ўказанні, выступае з прамовамі. Асабістага жыцця не мае. Васіль бачыў ягоную жонку, маўклівую, трохі прыгнутую, з мучніста-белым нездаровым тварам. І дачка ёсць у Шурка — вучаніца сёмага ці восьмага класа, вельмі падобная на маці.

Ведаючы востры язык Шурко, старшыні калгасаў яго пабойваюцца. Павадзіўшы па палях, фермах, наладжваюць пачастунак. Шурко п'е, колькі наліваюць. Не п'янее. Толькі ў ягоных вачах у такі час пачынае свяціцца невыносны сум. Ён насупліваецца, змаўкае і нарэшце вылазіць з-за стала.

Войцік адчувае: душа сакратара райкама як бы надломлена. Чым? Дакладнага адказу няма. Можа, тым, што поспехі калгасаў не надта вялікія. Многа гадоў ездзіць Шурко па калгасах, вучыць старшынь, як кіраваць гаспадаркай, але зрухі да лепшага пакуль невялікія.

Войцік піша і піша. Пра цагельныя заводы, якія чамусьці не ўсюды аднаўляюцца, работу звенняў, параўноўвае суседнія калгасы, вышукваючы прычыну, чаму ў адным справы больш-менш прыстойныя, а другі — яўна адстае.

Газета адлюстроўвае бягучыя, будзённыя справы, і калі хочаш мець матэрыял, трэба гэтай будзёншчынай жыць.

Менавіта ў гэты час Войцік атрымлівае першую ўзнагароду як аўтар. У прыёмнай райкама партыі цюкае на машынцы на дзіва прыгожая дзяўчына Волька Сіўчыкава. Па школе Васіль яе не памятае: падрасла за апошнія гады. Гнуткая постаць, доўгая каса, тонкі, далікатны тварык.

— Мне падабаецца, як вы пішаце,— гаворыць аднойчы Волька, і густая чырвань залівае яе шчокі.— Я ў газеце толькі вашы заметкі чытаю...

Васіль адчувае: калі запросіць Вольку ў кіно, яна пойдзе. Пасядзяць пасля сеанса на лавачцы ці на плятні, пагавораць. Толькі Васіль чамусьці нікуды не запрашае Вольку. Душа баліць па другой...

У гарачыні, сухмені коціцца першае мірнае лета. Хутка пачнецца жніво. Нават у лес, на знаёмыя верасовыя выгары не сходзіў Васіль. Можа, і няма болей тых выгараў — зараслі маладымі сасонкамі. Лес мяняецца хутка. Верасовыя прасторы як бы калыхалі Васілёвы мары, летуценні. Толькі пакуль што нічога не спраўдзілася з тых, сёння ўжо далёкіх, ружова-блакітных юнацкіх мараў.

## VI

Завочнікі мусяць вучыцца на свой страх і рызыку. Бяры чарговы адпачынак і едзь, грызі граніт навукі. Васіля гэта не палохае. Ён нават падумаць не можа, што не будзе вучыцца.

Маці збірае Васілю трохі масла ў шкляную пасудзінку, кладзе ў торбачку маладых агуркоў. Больш нічога даць не можа. Сям’я сама ледзь-ледзь ліпіць.

Яшчэ шые маці малую, пад адно толькі вуха падушачку, якую Васіль бярэ з сабой. Даўно гэта пачалося, што ён не можа спаць на высокіх падушках. Нават на тых, якія выдаваў ротны старшына ў арміі ці камендант у інтэрнатах. Васіль не ведае прычыны. Маці гаворыць, што малым хлопчыкам ён падлез пад каня і конь ударыў яго капытом па галаве. І ў вайну гэтай галаве дасталося. Кантузія і два, няхай сабе дробныя, раненні.

Мінск сустракае Васіля гарачынёй, дымам, задухай, хоць дзень яшчэ толькі пачынаецца. З вакзала відаць

напаўразбураныя карпусы ўніверсітэцкага гарадка. Толькі паспрабуй дабярыся да гэтых карпусоў.

Ад вакзала ледзь не да самых сцен універсітэцкіх памяшканняў шуміць-калышацца шматлюдны базар. Публіка вядомая: інваліды на кастылях і без кастылёў з медалямі на гімнасцёрках, галасістыя гарадскія бабы-гандляркі, а найбольш цёмны незразумелы люд, які носіць шынялі, гімнасцёркі, відаць, болей для прыліку. На базары прадаюць што хочаш: юнраўскія кансервы ў бліскучых бляшанках, featureрознае шкумаццё, армейскія чаравікі, боты.

Васіль валачэ цяжкі чамадан (палавіну займаюць кнігі) праз густы, шчыльны натоўп. Некаму падаецца, што ў чамадане добры тавар. Няголены, з мігатлівымі вочкамі суб’ект у завэдзганай гімнасцёрцы перагароджвае Васілю дарогу.

— Браток, дзе я цябе бачыў? Ты часам на Першым Прыбалтыйскім не быў?

— Быў. Толькі на Другім Прыбалтыйскім. Так што мы з табой размінуліся.

— Свой у дошку. Я адразу пазнаў. З табой згаворымся. Ёсць цыгарэты «Кэмэл», што азначае вярблюд, ігральныя карты, сахарын. А гэтага не хочаш?

Зарослы чорнай шчацінай суб’ект веерам разгортвае, ледзь не тыцкае ў твар набор парнаграфічных картак. Васіль б’е па бруднай руцэ, і карткі ляцяць на дол. «Браток» кідаецца іх збіраць.

— Асцярожна. Можаш наткнуцца на вострае...

У вестыбюлі хімічнага корпуса ідзе рэгістрацыя завочнікаў. Стаяць такія, як Васіль, нават старэйшыя хлопцы, дзяўчаты. Ёсць ваенныя людзі маладога ўзросту, якія дэмабілізаваліся, але гімнасцёрак, пагонаў не знялі. Сярод іх два капітаны-лётчыкі і нават адзін маладжавы маёр...

Залаты чалавек камендант інтэрната, вусаты, з хударлявым цемнаватым тварам украінец. Горад у суцэльных руінах, а ён, як у багаты мірны час, раздае чыстыя, добра адпрасаваныя прасцірадлы, навалачкі, коўдры, акуратна запісваючы завочнікаў у тоўстую кнігу.

Гадзіны не прайшло, а Васіль у агромністым, чалавек на пяцьдзясят пакоі, мае засланы коўдрай ложак, тумбачку, куды

хавае небагаты, прывезены з дому прыпас, кнігі, канспекты. Дбайны чалавек не адзін камендант. Два інтэлігентныя, ветлівыя яўрэі — прарэктар па завочным навучанні і яго памочнік — таксама ведаюць справу. Дзякуючы ім Васіль атрымлівае рабочую картачку, па якой выдаюць паўкілаграма хлеба на дзень і абед на фабрыцы-кухні, размешчанай непадалёк ад універсітэцкага гарадка. Што болей трэба?..

Сетка заняткаў густая, шчыльная. Па восем і нават дзесяць гадзін лекцый у дзень будуць слухаць завочнікі. І яшчэ экзамены здаваць. Восем экзаменаў вынесена на летнюю саракадзённую сесію.

Заняткі ў розных мінскіх школах. Прыйдзецца павандраваць па разбураным, зруйнаваным горадзе.

Вывучыўшы расклад заняткаў, Васіль трохі супакойваецца. Ёсць прадметы, экзамены па якіх ён здасць лёгка. Яшчэ не забыў школьнай навукі. Ды і пры паступленні ва ўніверсітэт сёе-тое падчытаў. Не патрэбны яму лекцыі па геаграфіі, практычнай рускай, беларускай мовах. Ён вывучаў працу А. Мее «Сравнительная грамматика индоевропейских языков», і гэта, відаць, прыдасца на экзаменах па мовазнаўчых прадметах.

Брыдуць завочнікі з адной мінскай школы ў другую. З вуліцы Энгельса на вуліцу Чырвонаармейскую, адтуль на Юбілейную плошчу ці яшчэ куды-небудзь далей. Горад у руінах, але школы адрамантаваны. Нясцерпна паліць ліпеньскае сонца. На вуліцах дым. Укладваюць асфальт.

Сярод развалін корпаюцца напаўголыя студэнты-стацыянарнікі. Іх на вакацыі пакуль што не адпусцілі. Разбіраюць студэнты завалы, непашкоджаныя цагліны складваюць у асобныя штабялі. Нават небяспечна пакручвацца ў дамах-шкілетах. Аднойчы на вачах у Васіля без бачнай прычыны грымнуў на зямлю другі ці трэці паверх.

Разваліны густа зараслі быльнягом, палыном, шыракалістым лапухом. Горад разбураны бамбёжкамі, пажарамі яшчэ ў сорак першым годзе. З таго часу прайшло пяць гадоў. Выпетраныя ад гарачыні сцябліны вытыркаюцца на другім, нават трэцім паверхах. Раслінам, якія буйна разрасліся на пустэчах, гэтак

жа, як птушкам, што месцяць гнёзды сярод развалін у разбураным горадзе, вялікая раскоша.

Вечарам вусаты камендант-украінец выдае старэйшаму капітану-лётчыку акардэон. У вестыбюлі пачынаюцца танцы. Дзяўчаты — не толькі завочніцы, а і тыя, што працуюць на разборцы развалін,— кладуць на плечы хлопцаў, большасць якіх апрануты ў гімнасцёркі, белыя рукі і задуменна, нібы ў паўсне, кружацца ў вальсах і танга. З цёмнай, закопчанай столі звісае электрычная лямпачка на доўгім шнуры, без абажура, і ў вестыбюлі пануе паўзмрок.

Іграе акардэон. Шаркаюць па вышчарбленым паркеце падэшвы ботаў, чаравікаў, яшчэ даваенных туфель-лодачак. На закопчанай сцяне калышуцца мітуслівыя цені. Васіль не танцуе, іншы раз выходзіць з пакоя, стаіць, прыхінуўшыся да пярыльцаў лесвіцы.

Дзяўчаты, хлопцы — ягоныя равеснікі ці трохі старэйшыя. Нічога добрага ў вайну яны не бачылі. Кроў, смерць. Вайна ва ўсіх адабрала маладыя гады, развеяла ружовыя мары, спадзяванні. Каб не вайна, хлопцы, дзяўчаты, што задуменна, як бы не належачы самім сабе, танцуюць, скончылі б універсітэты, інстытуты. Цяпер яны толькі першакурснікі.

Хлопцаў менш, чым дзяўчат. Яны нібы асколкі вайны. Адступалі, наступалі, паляглі на неабсяжных прасторах ад Волгі да Эльбы.

На фабрыцы-кухні кормяць кепскавата. Боршч з апенькамі, якая-небудзь каша, дня бачнасці запраўленая алеем. За лыжку, відэлку, нож у залог бяруць пашпарт. Калі пашпарта няма — шапку. Відаць, знікаюць з фабрыкі-кухні прылады яды, таму такія строгія меры.

Пасля абеду адразу хочацца есці. Васіль не вытрымлівае, купляе на базары двухсотграмовую пайку хлеба. Яна, як і ў Мазыры, каштуе дзесяць рублёў.

Тут, каля высознага Чырвонага касцёла, што ля Дома ўрада, захаваўся кавалачак старога Мінска. Фацэтныя двухпавярховыя дамкі з жалезнымі, аздобленымі завітушкамі карнізамі, з чыстымі дворыкамі, жоўтымі аканіцамі, што зачыняюцца нанач. Старыя разгалістыя таполі. Кусты бэзу, што вытырка-

юцца з-за парканаў, плятнёў. Белыя занавескі на вокнах. Ціхая, мяшчанская ўтульнасць, якой тут, у цэнтры горада, побач з людным вакзалам захаваўся невялікі астравок.

На расчышчаным ад развалін пляцы перад медыцынскім інстытутам чарада ларкоў, размаляваных у сіні колер. Нібы хаткі на курыных ножках. За пятнаццаць рублёў можна выпіць кухаль піва, за такую самую цану купіць пачак «Беламорканала».

Вечарам, калі няма танцаў, за фанернай перагародкай спяваюць студэнткі-старшакурсніцы, што разбіраюць завалы. Дзяўчаты таксама адсталі ў вучобе на пяць ці на шэсць гадоў і, відаць, рады, што за сцяной маладога веку хлопцы і мужчыны. Студэнткі заўсёды пачынаюць з песні пра салдат, што вярнуліся з вайны.

Давно ты не видел подружку,
Дорогу к родимым местам.
Налей же в железную кружку
Свои боевые сто грамм...

Калі дзяўчаты спяваюць, завочнікі спыняюць размовы, адкладваюць убок падручнікі, кнігі. У вялікай зале з мноствам ложкаў, з сяк-так пабеленымі сценамі, вялікімі запыленымі вокнамі наступае цішыня. Студэнткі спяваюць хораша. Мякка, зладжана. Можа, нават лепей за які-небудзь хор, што выступае са сцэны. Хлопцы слухаюць, маўчаць, раз-пораз уздыхаюць.

Іншы раз у такі час у пакой завітвае камендант.

— Сумуюць,— гаворыць пра дзяўчат вусаты ўкраінец.— Замуж хочуць. Вы ж, можа, яшчэ не ўсе пажаніліся. Хоць бы якой-небудзь надзею далі...

Так, вайна не толькі нашчэнт зруйнавала горад, яна парушыла чалавечыя сувязі. Любоўныя таксама. Колькі не вярнулася з вайны хлопцаў, якім дзяўчаты, што спяваюць за сцяной, дарылі фотакарткі, вышывалі насоўкі, з якімі цалаваліся, абдымаліся дзе-небудзь на лавачках пад бэзавай замецццю.

Васілём валодае журботна-салодкі настрой, выкліканы разрывам з Алесяй. Алеся прысутнічае ў яго думках, пачуццях,

бадай, кожнай хвіліны. Але яе вобраз, які ўзнікае ў душы, не выклікае ні гневу, ні абурэння. Ягонае каханне заканчваецца на ціхай мінорнай ноце. Горыч і ціхі смутак. Так, відаць, павінна быць.

У вольныя ад лекцыі гадзіны Васіль чытае тоўсты падручнік па гісторыі Старажытнай Грэцыі. Ён і ночы прыхоплівае: ідзе ў кубавую і там пры бляклым святле электрычнай лямпачкі чытае кнігу.

У кубавую з раскрытай кнігай завітвае студэнтка-стацыянарніца, зграбная, мілавідная, з засмучаным далікатным тварам. У поўнач праз напаўраскрытае акно даносяцца з двара шорахі ад крокаў па жарстве, прыцішаныя галасы, смех. Студэнтка часам падымае галаву ад кнігі, задуменна глядзіць на Васіля. Але ён маўчыць. Ён нічога не можа ёй сказаць.

Выкладчыкі як бы навыперадкі стараюцца вышэй узняць прэстыж сваіх навук. Зычны, у юнраўскіх чаравіках з крагамі, у жоўтым з накладнымі кішэнямі, шырокім для ягонай шчуплаватай фігуры замежным фрэнчы выдыбае дацэнт Ліхтаровіч. Літаратуру Старажытнага Рыма чытае трохі горш, чым зімой чытаў літаратуру Грэцыі. Для Апулея, Сенекі, Авідзія, Гарацыя знаходзіць менш уражлівых слоў, чым знаходзіў для Гамера, Эсхіла, Сафокла, Эўрыпіда.

Другі дацэнт, па прозвішчы Буры, высозны, у кароткіх штанах, цесным пінжачку, з рукавоў якога высоўваюцца густа зарослыя чорнымі валасамі рукі, чытае фальклор. Голас ягоны грыміць, нібы з дынаміка. Студэнты бяруць ва ўніверсітэцкай бібліятэцы па адной-дзве кнігі, а ён цэлы стус, штук пятнаццаць, на наступны дзень прыходзіць за новай порцыяй.

Буры абедае на фабрыцы-кухні разам са студэнтамі. Пасярбаўшы пустога баршчу, з’еўшы кавалак траскі, якая ідзе на другое блюда, да двухсотграмовай пайкі хлеба не дакранаецца. Хавае ў кішэнь вузкіх, у абцяжку штаноў. Студэнты прапануюць Бураму кавалак газеты, каб загарнуць хлеб, але ён, махнуўшы рукой — маўляў, не варта клопатаў,— велікадушна адмаўляецца.

Васіль усё-такі не ўмее разлічваць час. На тоўсты падручнік прафесара Сяргеева па Старажытнай Грэцыі тра-

ціць шаснаццаць дзён. А трэба ж яшчэ прачытаць кнігі па гісторыі Рыма, старажытнага Усходу, на іх застаецца толькі па адным дні. Пытанне тым часам пападаецца па Індыі, яе рэлігіі. Раздзелы гэтыя, надрукаваныя дробным шрыфтам, Васіль зусім прапусціў. І заваліў бы Васіль экзамен, каб дома не начытаўся пра арыйцаў. Сказаўшы колькі слоў пра будызм, перасяленне душ, карму, брахманаў (у канспекце вычытаў), ён пачынае гаворку пра зараастрыйцаў-вогнепаклоннікаў, якія разам з індаеўрапейскімі плямёнамі ўварваліся ў Індыю яшчэ ў сярэдзіне другога тысячагоддзя да нашай эры. Тут ён і багоў ведае, у прыватнасці Варуну, які ці не з’яўляецца раднёй славянскага Перуна, і ў міфах трохі разбіраецца.

Дацэнт Мігай, даўгатвары, павольна-марудлівы, глядзіць на Васіля з добразычлівай усмешкай.

— Індуізм, будызм вы, дапусцім, ведаеце слаба. Чаму цікавіцеся арыйцамі?

— З вайны пачалося,— шчыра прызнаецца Васіль.— Арыйцамі называлі сябе немцы. Яшчэ нардычнай расай. А я высветліў, што ўсе індаеўрапейскія плямёны, якія ў той час яшчэ не падзяляліся, можна лічыць арыйскімі...

— Пытанне не настолькі высветлена, як вы думаеце. Але за дапытлівасць стаўлю вам пяцёрку.

Сумленна заслужаная адзнака ў дацэнта, які пяцёркамі не надта раскідваецца (завочнікам яшчэ ніводнай не паставіў), падымае Васілёў дух, прыбаўляе сіл.

Некалькі экзаменаў Васіль здае з ходу, як бы жартуючы. Напрыклад, эканамічную геаграфію. Сярэдняя школа — грунт адукацыі. Таму няма патрэбы траціць час на школьныя прадметы. Васіль, дзякуй богу, нават дыктоўкі піша амаль без памылак.

А вось на экзамене па ўводзінах у мовазнаўства, які прымае выпетраная, сухая, як цявіна, прафесар Чарнеева-Дамарант, Васіль ледзь не правальваецца. Ён прачытаў «Сравнительную грамматику индоевропейских языков» А. Мее, лічыў, што гэтага зусім дастаткова, каб здаць такі экзамен. Тым болей што зімой шустрая прафесарша так яго ўпадабала, што

прапаноўвала паступаць адразу на другі курс. Гэта і падвяло. Васіль думаў, што Чарнеева-Дамарант яго памятае.

— Прачытайце што-небудзь з Ігара Севяраніна і скажыце пра асаблівасці яго стылістыкі.

Васіль шчыра здзіўляецца.

— Я не чытаў Севяраніна. Па школьнай праграме не праходзяць.

— Тут не школа. Тут універсітэт.

У Васілёвым горле застрае горкі камяк.

— Успомніце хоць два радкі Гумілёва.

Гумілёва Васіль чытаў. Цэлы зборнік. Як і зборнік Ясеніна, які ён выхапіў з агню, калі Выбарг толькі занялі і гарэла гарадская бібліятэка. На памяць з Гумілёва Васіль, аднак, нічога не памятае.

Калючыя, чорныя вочкі прафесаршы свецяцца злосным агнём.

— Выганю!..

У грудзях Васіля закіпае злосць.

— Мар’я Іванаўна,— прамаўляе ён, ледзь не задыхаючыся,— я вывучыў кнігу Мее, славутага мовазнаўцы. Лічыў, што гэта аснова вашага прадмета. Калі я памыляюся, дазвольце здаць экзамен другому выкладчыку.

Выпетраная прафесарша кідае на Васіля яўна спалоханы позірк. Гледзячы на ягоную камандзірскую дыяганалевую гімнасцёрку, пытае:

— Вы што — у арміі былі палітруком?

— Не палітруком. Разведчыкам. Ведаю трохі нямецкую мову. Газету чытаю без слоўніка.

Задаўшы Васілю пытанне пра класіфікацыю моў, амаль не слухаючы адказу, Мар’я Іванаўна таропка ставіць у ягоную заліковую кніжку чацвёрку. Аб’явіўшы перапынак, тут жа выскоквае за дзверы.

Васіль яшчэ здолеў вытрымаць характар. Маладых, прыгожых дзяўчат прафесарша наогул не церпіць. Яны часта выскокваюць з аўдыторыі, дзе яна прымае экзамен, з двойкамі і слязамі на вачах.

Васіль заводзіць знаёмствы. Найперш з Пашковым, рэдактарам газеты, якая выходзіць у суседнім раёне. Пашкоў былы

партызан, але не звычайны, просты партызан, а прысланы з-за лініі фронту. Зімой сорак трэцяга яго параніла ў жывот. Партызаны вынеслі Пашкова з самага пекла. Васіль нават ведае аднаго з тых, хто выносіў цяперашняга рэдактара-завочніка. Гэта Іван Дзівасіл, дырэктар друкарні ў Васілёвым мястэчку.

Пашкоў нічым асаблівым не выдзяляецца. Высокі, худы, кучаравы. Чорнымі пранізлівымі вачамі, абліччам трохі падобны да татарына. Яшчэ да вайны скончыў двухгадовую газетную школу. Васіль бачыць: веды ў яго нетрывалыя, негрунтоўныя. Няма за плячамі дзесяцігодкі. Таму не ўсё разумее з таго, што гавораць выкладчыкі, і ледзь цягнецца на экзаменах.

Ёсць яшчэ адзін знаёмы — поўны Васілёў цёзка. Мае гадоў трыццаць і працуе на станцыі Гомель дыспетчарам. Гэта відны мужчына. Статная фігура, прыгожы твар. Прызнаўся Васілю: марыў пра ўніверсітэт, яшчэ калі вучыўся ў школе. Ды не собіла паступіць. Цяпер вось паступіў, але дома сям'я, двое малых дзяцей.

Цёзка мільгнуў на памятнай першай і летняй сесіях, і болей Васіль ні разу яго не сустрэў.

Горад разбураны, спалены, вынішчаны. Што трымае завочнікаў на свеце? Відаць, тое, што вераць у лепшыя часы. Вайна выйграна, але гарады ляжаць у руінах, развалінах, вёскі ў папялішчах.

У пакоі пяцьдзясят чалавек. Не пакой, а казарма. Кіпеню прыносіцца два вядры. Дамашні прыпас скончыўся, і Васіль п'е чай са скібачкай хлеба. Галаднаватая вучоба. Ад недаядання часам галава кружыцца. Але трэба трымацца, глядзець наперад...

Завочнікаў з заходніх раёнаў Беларусі болей, чым з усходняй. І багацейшыя яны. Схіліўшыся над чамаданамі, каб і крошкі туды падалі, яны ядуць хлеб з салам, з дамашняй каўбасой. Факт відавочны: у вайну індывідуальная, прыватная гаспадарка аказвалася больш устойлівай, чым калектыўная.

Сярод завочнікаў ёсць студэнт, які, здаецца, нічога не есць. Распрануўшыся да трусоў, выцягнуўшы ногі з вялізнымі чырвонымі ступнямі, ляжыць на матрацы з раніцы да вечара

і чытае англійскага паэта Шэлі. Ні на заняткі не ходзіць, ні залікаў не здае. Нібы прыехаў на сесію дзеля аднаго толькі паэта Шэлі.

У наяўнасці яшчэ адзін дзівак. Кожны вечар ён спыняецца каля ложка, на якім спіць дырэктар школы, немалады ўжо, таўставаты чалавек.

— Го-го-го! Паглядзіце, таварышы, на гэтага пузана. Жывот як начоўкі. У буржуяў былі такія жываты, а цяпер жа пралетарская ўлада...

Завочнік гэты, між іншым, не дурань. Толькі ў паводзінах дзівакаваты. Здае ўсе прадметы толькі на выдатныя адзнакі. Калі выкладчык збіраецца паставіць чацвёрку, просіць яго ледзь не са слязамі:

— Я падчытаю і яшчэ раз прыйду. Не стаўце пакуль адзнаку.

Ліпень пераходзіць у жнівень, і сесія блізіцца да канца. На левым лістку заліковай кніжкі студэнта Войціка безымянныя залікі, на правым — экзамены. Псуе выгляд і настрой чацвёрка Чарнеевай-Дамарант. Ёсць яшчэ адна чацвёрка — па гісторыі сярэдніх. Але за яе Васіль не крыўдзіцца. Ведае гісторыю сярэдніх вякоў з пятага на дзясятае...

Васіль здае залік па французскай мове. Хоць мог бы лёгка здаць экзамен па мове нямецкай. Але хочацца хоць трохі патрымаць у роце французскія словы. Столькі іх у творах рускіх класікаў...

## VII

Лета ўступае ў млявую, перадасеннюю пару. Не так горача свеціць сонца, нават раса на траве раніцай блішчыць. Хоць не было ніводнага дажджу. Ні ў Мінску, ні тут, на Палессі.

Васіль вяртаецца з Мінска, калі жніво амаль скончылася. Ураджай сабраны, хоць які там ураджай. Яшчэ стаяць няскошаныя сівыя рэдзенькія аўсы. Ды бульба лапушыцца.

Па-ранейшаму над дарогамі, шляхамі вісіць шэры полаг пылу. І ўсё яшчэ гараць балоты: сіні дым абвалаквае агароды і нават самую вуліцу Чангарскай дывізіі.

Да Васіля завітвае Кузьма-Дзям'ян. Бялявы яго твар з чорнымі пранізлівымі вачамі хмуры. Кузьма-Дзям'ян павінен быў скончыць першы курс настаўніцкага інстытута. Але чамусьці пра гэта не гаворыць.

— Чаму надзьмуўся? — пытае Васіль.

— Праваліў гісторыю СССР. На другі курс пераведзены ўмоўна.

Кузьма-Дзям'ян вучыцца на гісторыка-філалагічным факультэце. Значыць, хвост мае па тым прадмеце, які будзе выкладаць. Справа — швах. Стыпендыю, вядома, не дадуць.

Васіль ведае: Мікола Цябут (Кузьма-Дзям'ян ягоная клічка) па здольнасцях серадняк. Па літаратуры слабавата начытаны. Наогул не надта цягнецца да кнігі. Але гісторыю мог бы вывучыць. Акрамя вучобы нічым болей не займаецца.

— Біць цябе некаму,— гаворыць Васіль.— Гісторыя хіба цяжэй за матэматыку? У школе вучыў, лекцыі слухаў. Такія ўжо прафесары ў вашым інстытуце.

— Прафесар якраз і праваліў.

— Які прафесар?

— Дырэктар інстытута Шарафан. Яму адно слова не так скажаш — і выганіць. Шалёны нейкі. У той дзень ён чалавек дваццаць пагнаў...

Васіль успамінае прафесаршу Чарнееву-Дамарант. Ёсць прыдуркі і сярод вучоных. Пра Шарафана ходзяць наогул нядобрыя чуткі. Люты, злосны, няўрымслівы. Мазырскія абывацелі здзіўлены яго непамерна высокай зарплатай. Нібыта палучае Шарафан аж пятнаццаць тысяч рублёў штомесяц.

Кузьма-Дзям'ян перадае прывітанне ад Алесі. Але Васіль нібыта не чуе яго. Здрабнела, змізарнела Алеся, і воблік яе нібы растаў у прасторы.

У адзін з тых дзён Васіль спатыкае Маню, фельчарку з Гогаляў, у хаце якой зімой начаваў. Маня перабралася ў мястэчка, працуе ў раённай амбулаторыі. Бо брат яе, Іван, ажаніўся, прывёў у хату жонку. Цяпер жыве Маня ў доме цёткі, роднай сястры маці.

Круглатварая, паўнаватая ў стане фельчарка глядзіць на Васіля прыхільна, называе адрас, просіць прыйсці ў госці, прынесці якую-небудзь кнігу.

Мястэчка вялікае: галоўная Савецкая вуліца цягнецца вярсты на чатыры-пяць. Так што Васіль нават не ведае, дзе жыве фельчарка. Знаходзіць, аднак.

Двор яе і хата — звычайныя, сялянскія, як і большасць будынкаў у гэтым пясчаным, не вельмі багатым канцы. Маня сустракае госця зычліва. У яе і памідоры паспелі, і добрае вэнджанае сала ёсць, і бутэлька моцнай гарэлкі стаіць на засланым белым абрусам стале.

Маня сама п’е мала, болей падлівае госцю. Яны адны сядзяць у прасторным з фікусамі, іншымі вазонамі пакоі. У хаце паўзмрок. Адвячорак. Апошнія праменні сонца ліжуць верхнія шыбіны вакна.

Пасля некалькіх чарак Васіль толькі бачыць прагныя Маніны вусны, вясёлыя вочы, якія час ад часу то затуманьваюцца, то ўспыхваюць гарэзлівым бляскам.

Ён нічога не пытае. Устае, абхоплівае жанчыну рукамі, кладзе ў ложак. Знаходзіць губамі яе гарачыя вусны. Ладнае паўнаватае цела жанчыны як у агні гарыць.

Калі ўсё між імі адбываецца, Маня прызнаецца:

— Я даўно прыкмеціла цябе. Яшчэ ў партызанах. Баялася, каб на фронце не загінуў. Ты быў вельмі сарамлівы. Дзяўчатам у вочы баяўся глядзець...

Назаўтра на душы ў Васіля нядобра. Навошта яму Маня? Ён хутка паедзе ў Мінск на вучобу. Якую можа даць жанчыне надзею? Ніякай. А так проста сустракацца не варта.

Васіль хоча сабраць трохі грошай. Новы рэдактар болей не адорвае карэспандэнта высокім ганарарам. Хоць пяць матэрыялаў надрукуй, хоць дзесяць — плата адна. Устанавіў новы рэдактар табель аб рангах. Ганарар цяпер ніколі не перавышае Васілёву зарплату, не вельмі высокую. Васіль цяпер аддае маці не ўсе грошы, трохі адкладвае. Ён піша артыкулы для абласнога радыё: абы загнаць капейку.

У рэдакцыю, прыехаўшы з Мінска, завітвае пісьменнік Барыс Мінковіч. Ён нарадзіўся ў блізкай ад горада вёсцы. Поўненькі, чорненькі, шустры, Барыс, здаецца, задаволены жыццём. Да вайны пісаў дзіцячыя прыгодніцкія аповесці. Цяпер і для дарослых піша.

Федзі Істоміна ў рэдакцыі няма: не паладзіў паэтычны, задуменны, не вельмі рухавы адказны сакратар з прагматычным рэдактарам. У выніку паехаў у другую абласную газету. Здаецца, у маладзечанскую. Яго месца займае Аркадзь Глінкін, рудаваты, з прыемным інтэлігентным тварам журналіст, які нядаўна таксама дэмабілізаваўся. З Аркадзем Глінкіным, часам узбуджана, часам напаўшэптам, вядзе размовы-перамовы Барыс Мінковіч.

— Што будзе, што будзе?! — у роспачы ўсклікае Барыс, маючы на ўвазе надрукаваную ў газетах пастанову ЦК ВКП(б) аб часопісах «Звезда» і «Ленинград».

Васілю нават смешна робіцца. Нядаўна ў часопісе «Полымя» надрукавана аповесць Мінковіча «Адраджэнне». Паказаны росквіт калгаснага сяла. За нейкі год калгаснікі адбудавалі спаленую фашыстамі вёску, узвялі новыя канюшні, кароўнікі, ды і хаты вяскоўцаў цяпер лепшыя, чым былі да вайны. Жывуць арцельцы, паводле аўтара, весела, заможна. Хіба што птушынага малака не хапае.

Дык што будзе з пісьменнікам Мінковічам? Нічога не будзе. Няхай спіць спакойна. Толькі ў ягонай аповесці праўды ні на грош. За пахвальбу, лакіроўку жыцця пакуль што не караюць.

Васіль як бы развітваецца з мястэчкам. Ёсць для яго мясціны, асабліва памятныя і дарагія. Адна з іх — пляц старой школы. Тут Васіль вучыўся да сярэдзіны пятага класа. Некалі пясчаны гак школьнага двара засадзілі маладымі дубчыкамі таполяў, агарадзілі.

Цяпер таполі высока ўзмахнулі галінамі, прыкрылі зялёнымі шатамі хаты хутаранцаў, якія некалі перацягнулі на школьны двор, зрабіўшы класнымі памяшканнямі. Васіль, бадай, у гэтых хатах і правучыўся. Бо трапіў у «Б» клас. Тым часам «А» класы займаліся ў акуратным, пад жалезным дахам, з пафарбаванай падлогай, вялікімі светлымі вокнамі памяшканні.

У памяшканні старой школы размяшчаліся настаўніцкія курсы. Тут Васіль пазнаёміўся з Алесяй. Сядзеў з ёй на высокім школьным ганку, стаяў ля акна ў школьным калідоры, прахаджваўся па пясчанай вуліцы.

Толькі як бы прысеў, змізарнеў галоўны школьны будынак. Ён цяпер тоне ў бэзавых зараслях, густых, непралазных, што атулілі будынак з усіх бакоў.

Не быў гэтым летам Васіль у родным лесе. Не бачыў знаёмых з дзяцінства разліваў верасоў. Лета гарачае, спякотнае. Наўрад ці пракідваліся ў лесе грыбы.

Васілёвы сябры-таварышы Іван Гарошык і Мікалай Пішчык таксама паедуць у Мінск. Туды пераводзіцца лесатэхнічны інстытут, які дагэтуль размяшчаўся ў Гомелі. Хлопцы не спяшаюцца. Яны на другім курсе, інтэрнат ім забяспечаны. Васілю гэта якраз на руку.

Васіль любіць схіл лета і пачатак восені. Няма спякоты, гарачыні, задухі. Дні прыкметна ўкарачаюцца, як бы набываючы ціхую задуменнасць. Сіняватая намітка смугі апаясвае далёкі лес, балотныя пагоркі, далёкае і блізкае наваколле. Лёгка, хораша дыхаецца ў пачатку восені.

Васіль свабодны, вольны духам. З Маняй спатканняў не шукае: што здарылася, тое здарылася. Алеся сама адвінулася. Па чутках — з капітанам, бацькі якога перабраліся з вёскі ў мястэчка, нічога ў яе не атрымалася. Пахадзіў капітан з Алесяй месяц ці два, папіў у яе бацькоў гарэлкі і паехаў служыць у сваю часць. Алеся адна. Васіля гэта мала абыходзіць. Няхай жыве як хоча. Яна сама пажадала такога жыцця.

Толькі дарэмна Васіль так думае. У адзін з вераснёўскіх дзён ён прыходзіць да вячэрняга цягніка, каб папрасіць каго-небудзь, хто едзе ў Мазыр, занесці ў рэдакцыю згорнуты ў канверт-трохвугольнік матэрыял.

На станцыі ў чарзе ля білетнай касы стаіць Алеся. Бярэ, відаць, білет у свае Сівалобы. Васіль робіць выгляд, што не заўважае Алесю. На пероне знаходзіць знаёмага, які едзе ў Мазыр, перадае яму канверт-трохвугольнік на Вакзальную вуліцу. Каля сквера яго перапыняе Алеся.

— Вітацца не хочаш. Не пазнаеш знаёмых,— у голасе Алесі як бы насмешка.

Васіль маўчыць.

Алеся мала змянілася. Загар яе не бярэ. Васіль проста чорны ад загару, а для яе нібы не было ні гарачага невыноснага сонца, ні лета.

Яны стаяць, перакідваючыся нязначнымі словамі. У наваколлі як бы расце напружанасць. Сонечны адвячорак нечакана хмурнее. Неба пачынаюць завалакваць воблакі. Робіцца цямней.

— Табе трэба на цягнік,— гаворыць Васіль.

— Не пайду на цягнік.

— Прападзе білет.

— Няхай прападае...

Алеся марудна ідзе на Вакзальную вуліцу. У руках у яе невялікі вузельчык. Васіль хоча не хоча, але выдыбае побач з ёю. Ён думае пра тое, што нічога гэтая нечаканая сустрэча змяніць не можа.

Хмары гусцей зацягваюць неба. Іх пачынаюць паласаваць маланкі. Уздымаецца вецер. Вось-вось хлыне дождж. Першы за ўсё лета. Зямля высахла нашчэнт, мясцінамі нават патрэскалася. Так што нічога не зменіць гэты позні дождж. Ураджай прапаў. Цяжкая будзе зіма.

Абмінаючы кар’ер, у якім мястэчка капае гліну, Васіль з Алесяй кіруюць у Гарадок. Так называецца засаджаны таполямі, застаўлены на манер чатырохвугольніка акуратнымі будынкамі прасторны пляц. Некалі тут была лясная школа. Фактычна тэхнікум. Перад вайной у прасторных памяшканнях размяшчаліся курсы шафёраў лясной прамысловасці. Цяпер, здаецца, ніхто не размяшчаецца. Проста ў камунальных будынках жывуць людзі.

Васіль з Алесяй прысаджваюцца на лавачку. Першыя кроплі дажджу падаюць на дол, адразу ператвараючыся ў мокрыя камячкі пылу. Парачка перабіраецца на ганак — над ім гонтавая шапка-навес.

Удар грому такі магутны, што Васіль скаланаецца. На імгненне наваколле робіцца сіне-белым, злавесным. Удар за ўдарам нібы бомбы агромністай сілы скаланаюць зямлю. Ужо цёмна зусім. Алесі, відаць, страшна, і яна цясней туліцца да Васіля.

Маланкі паласуюць неба, зямля аж дрыжыць ад безупынных грымот. Не, Васіль яшчэ не бачыў такой навальніцы. Ён не баіцца буры, хоць двойчы быў блізка ад бяды. У іхні

двор і нават хату ў час навальніцы ўдарыла шаравая маланка. Першы раз сіні слуп спусціўся з неба ў агарод, нічога не пашкодзіўшы. Другі раз сіне-белы круглы шар трапіў у хату, знікшы невядома як і куды. Ён толькі спаліў тэлефон канторы «Плодагародніна», якая тады мясцілася ў Васілёвай хаце.

Алеся грому баіцца. Яна ўсё болей прыціскаецца да Васіля, уздрыгваючы пры кожным удары.

Нарэшце нібы ўтвараецца на небе вялізная прорва. Лівень хлынуў такі, што сядзець нават пад навесам немагчыма. Прамокнуць абое да ніткі. Васіль кратае за ручку дзверы ў калідор будынка. Яны не замкнуты. Васіль з Алесяй шмыгаюць у напаўцёмны калідор, у якім прыстаўлены да сцяны мяхі з бульбай. Васіль зусім не чакаў таго, што адбудзецца. Яны з Алесяй садзяцца на мяхі і адразу пачынаюць цалавацца. Грыміць гром, праз нейкія шчыліны відаць бясконцыя бліскаўкі, а яны, двое, седзячы на мяхах з бульбай, абдымаюцца і цалуюцца.

Дзіўныя штукі выкідвае жыццё. У гэты самы будынак, калі была прафтэхшкола, Васіль лазіў праз акно на кінасеансы. Калі пачалася вайна, прыйшлі немцы, цягаў адсюль кнігі з багатай бібліятэкі прафшкольцаў. На кнігах стаялі пячаткі Томскага ўніверсітэта.

У першую акупацыйную зіму стэлажы нехта выцягнуў, кнігі валяліся на падлозе, і яны, хлопцы-школьнікі, выбраўшыся павандраваць па мястэчку, ніколі не міналі бібліятэкі прафшкольцаў. Васіль кожны раз падымаў якую-небудзь кнігу, атрасаў ад пылу, запіхваў за пазуху.

Цяпер вось сядзіць у гэтым будынку з дзяўчынай, з якой надумаў развітвацца, цалуецца.

Грымоты, лівень не спыняюцца. Тое, што неба не аддавала зямлі вясну і лета, аддае цяпер. У сярэдзіне ночы гаспадар кватэры ў адной бялізне выходзіць на ганак, спраўляе малую патрэбу. І, толькі вяртаючыся назад, заўважае няпрошаных гасцей. Аднак ні слова не гаворыць.

Навальніца бушуе да раніцы. Нарэшце гэтак жа раптоўна, як усчалася, спыняецца. Каханкі выходзяць на ганак. У Алесі цёмныя кругі пад вачамі, але вочы блішчаць весела. Відаць,

лічыць Алеся, што памірылася з Васілём. Не каялася, не спавядалася, не прасіла прабачэння і вярнула мінулае. Толькі памыляецца Алеся. Васіль нічога не забыў. Нават не сказаў Алесі, што едзе ў Мінск, на сталую вучобу.

Алеся кіруе пешкі ў свае Сівалобы. Каля ганка распластаныя, прыбітыя трупікі вераб'ёў. Дастала іх навальніца з-пад застрэшка. Вераб'і, відаць, маладыя, толькі што вывеліся, таму не здолелі зашыцца глыбей пад дах.

Настае дзень, калі сябры-таварышы едуць у Мінск. Іван Гарошык, Мікалай Пішчык і ён, Васіль. У лесатэхнічным інстытуце вучыцца яшчэ адзін хлапчына, які паступіў туды з дзевяццю класамі. Кузьма-Дзям'ян праходзіць навуку ў Мазыры. Гэта, бадай, усё, што засталося ад гаманлівай, няўрымслівай талакі старшакласнікаў, што рагаталі, падколвалі адзін аднаго на перапынках у доўгім школьным калідоры. Ёсць яшчэ дватры васьмікласнікі, якія пакуль што нікуды не паступаюць. Бо вячэрняй дзесяцігодкі ў мястэчку няма.

Дзяўчат болей: яны вучацца ў самых розных інстытутах, тэхнікумах. Ад Мазыра і да Мінска. У Мінску іх трое ці нават чацвёра. Усе ў інстытуце народнай гаспадаркі.

Да Гомеля сябры даязджаюць на таварняку. На Мінск адыходзіць толькі вячэрні цягнік Гомель — Рыга. Васіль прыхапіў шынель. Канец верасня, раніцай і вечарам не так цёпла. Васіль ужо студэнт стацыянара. Бо з'ездзіў у Мінск, аформіў патрэбныя паперы. Нават месца атрымаў у інтэрнаце. Вядома, дзякуючы таму, што ў заліковай кніжцы амаль адны пяцёркі. Ды і франтавік, у газеце працаваў, практыку мае.

У Гомелі хлопцы чуюць першую нядобрую вестку. На прывакзальнай плошчы, якая ўпіраецца ў змрочны, спалены Дом чыгуначнікаў, вісіць на высокім слупе рэпрадуктар. Ён агаломшвае прылеглае да вакзала наваколле гучнай музыкай, рознымі песнямі, мелодыямі, а таксама палітычнымі бяседамі, навінамі.

Дык вось рэпрадуктар паведамляе, што ўводзяцца камерцыйныя цэны на хлеб, кілаграм якога будзе каштаваць сто рублёў. Не разгонішся. Асабліва калі мець на ўвазе вельмі

невялікую студэнцкую стыпендыю і зноў жа невялікія грошы, якія паспеў сабраць Васіль.

Настрой у Васіля падае. Хлопцы некуды падаліся, ён адзін блукае па прывакзальнай таўкучцы, і, можа, па гэтай прычыне здараецца няшчасце. У адным месцы гуляюць у тры лісткі. Васіль назірае за гульнёй, не збіраючыся ў яе ўступаць. Зарослы шчацінай, яшчэ досыць малады хлапчына, які — Васіль бачыць выразна — трымае пад пальцам туза, раптам просіць Васіля:

— Браток, патрымай!..

Хлапчына поркаецца ва ўнутранай кішэні, дастае грошы. Васіль пільна сочыць за картай, якую трымае пад пальцам. Ігрок, які вядзе рэй, даверу не выклікае, жулікаваты, хітры, ненадзейны. Ён увесь час падымае цану на карту, нарэшце здаецца:

— Ваша ўзяла!

Хлапчына зграбае цэлы ворах пакамечаных сторублёвак. Адну дае Васілю.

— Дзякуй, браток. Выбавіў з бяды...

Пачынаецца новы круг гульні. Васілёў сусед, які толькі што атрымаў вялікі барыш, шэпча на вуха:

— Бяры карту. У выпадку чаго памагу...

Васіль наважвае паставіць на кон сторублёўку, якая нечакана нібы з неба звалілася. Калі нават прайграе яе, то лішне бедаваць не будзе. Чужыя грошы.

Тым часам завадатар гульні падымае стаўку:

— Карта каштуе дзвесце рублёў.

Няголены сусед просіць:

— Давай патрымаю.

Але Васіль нікому не давярае. Прыціскае туза да стала пальцам правай рукі, левай дастае з кішэні пінжака грошы. Паўтары тысячы. Усе, якія сабраў, збіраючыся на вучобу ў Мінск.

— Карта каштуе семсот рублёў.

Васіль раз за разам кідае сторублёўкі на стол. Пад пальцам жа туз. Яго чакае выйгрыш.

— Карта каштуе тысячу шэсцьсот рублёў.

Грошы ў Васіля кончыліся. Што будзе далей, ён не ведае. Хлапчына, які даў сто рублёў, падбадзёрваў, уцягнуў у гульню, таямніча знік.

— Карта каштуе дзве тысячы рублёў.

— Болей гуляць не буду,— гаворыць Васіль.— Пра дзве тысячы не дамаўляліся.

— Апошняя стаўка. Карту не саступлю. Здымай, калі хочаш, шынель.

Васіль вымае з кішэнькі штаноў срэбны гадзіннік, які прывёз з Германіі. Кладзе на стол.

— На колькі яго ацэньваеш?

Васілю абы да дзвюх тысяч дацягнуць.

— Чатырыста рублёў.

— Раскрывай карту.

Васіль пераварочвае карту і вачам не верыць. Пад пальцам туза няма, звычайная тройка.

Васіль настолькі збянтэжаны, разгублены, збіты з тропу, што ні да якога пратэсту не здольны. Быў у турме, на фронце, не раз глядзеў у вочы смерці, і ягоны дух ніхто і нішто не зламала. А тут бяздзейны. Нават скардзіцца не збіраецца.

Галоўны карцёжнік, што абабраў Васіля да ніткі, дае яму жменю скамечаных трохрублёвак.

— Даедзеш да месца. Ведай маю дабрату...

Панылы брыдзе Васіль з вакзальнай плошчы. Над ім нібы закляцце вісіць. Як бы нехта нябачны, але магутны і злавесны, не хоча, каб ён вучыўся на стацыянары. Дэмабілізаваўшыся з арміі, ён фактычна прапіў сем тысяч рублёў, на якія здолеў бы год ці болей пражыць у Мінску. Дык тады была радасць: вярнуўся жывы, здаровы. А цяпер якая прычына?

Васіль сам не ведае, чаму нічога не гаворыць пра бяду Івану Гарошыку і Міколу Пішчыку. Можа, гонар ці сорам не дазваляюць. Самі хлопцы заўважаюць толькі, што ваенны рэчавы мяшок Васіля разрэзаны на некалькі сантыметраў, відаць, лязом брытвы. З дзіркі праглядвае бялізна. Злодзей на яе не паквапіўся.

Пазней Васіль не раз назіраў, як жулікі аблапошваюць такіх дзівакоў, як ён сам. Дзейнічаюць кампаніяй. Адзін

заахвочвае, заманьвае чалавека ў гульню, другія адцягваюць ягоную ўвагу ад махінацый. У той час, калі ён дастае грошы, банкір лёгка, спрытным рухам падмяняе карту. Усе бачаць і маўчаць. Нічога не заўважае толькі ўсхваляваны чалавек, які трапіў у нерат.

Васілю варта было як найхутчэй адшукаць міліцыянера. А ў яго нават думка такая не ўзнікла: настолькі быў прыбіты, прыгнечаны.

Ціха плыве па разбураным горадзе задумлівая восень. Месяц кастрычнік, а цёпла. У руінах ціліўкаюць вераб'і. Нават совы, кажаны там водзяцца. Мышэй — процьма. За імі палююць адзічэлыя, з узлахмачанай бруднай поўсцю каты.

Васіль пасяляецца ў інтэрнаце на вуліцы Нямізе. Ён павінен дзякаваць Богу і новаму дэкану факультэта журналістыкі Марку Карпіцкаму, які ад душы паспрыяў Васілю пры пераводзе на стацыянар. Марк Саламонавіч паважае франтавікоў, памагае ім, як толькі можа.

З-за страты грошай, гадзінніка Васіль зусім вешае нос. Аднак хутка падбадзёрваецца. Рэдактар Тужык робіць рыцарскі жэст. Прысылае Васілю за верасень такі ганарар, які ледзь не раўняецца суме, якую выманілі жулікі.

Інтэрнат на вуліцы Нямізе, адной з нямногіх, што ўцалела ў разбураным горадзе. У пакоі сем чалавек. Ягоныя ветэраны — два матэматыкі-пяцікурснікі. Васіль на другім курсе, астатнія хлопцы толькі паступілі ва ўніверсітэт. Сярод іх аднаногі, з пратэзам гісторык і яшчэ адзін гісторык, чарнявы, шустры, разумны хлапчак з Мазыра — Міша Друкнер.

Пяцікурснікі прыходзяць у інтэрнат толькі начаваць. Раніцай падхопліваюцца, бяруць з тытана кіпяток, пахапкам снедаюць. Бягуць ці на заняткі, ці ў бібліятэку. Пра сябе не гавораць. Дзіва няма: рыхтуюцца матэматыкі (абодвух завуць Федзямі) да дыпломнай работы і праз лічаныя месяцы скончаць універсітэт.

Засмучае Васіля ягоны другі курс, а калі глядзець шырэй — спецыяльнасць. Калісьці ён марыў пра журналістыку. Відаць, гэтак жа высока думаюць пра будучую работу дваццаць пяць студэнтаў другога курса. Разлічваюць браць інтэрв'ю ў

міністраў, пісаць серыі нарысаў, раз'язджаць па заграніцах. Не ведаюць таго, што трапяць — напачатку — у раённыя газеты, будуць пісаць пра свінарак, даярак, вандраваць па пыльных вясковых дарогах.

Зялёная, кволая моладзь будучыя журналісты. За душой нічога няма: ні вопыту, ні асаблівых здольнасцей. Ёсць толькі тое, што не былі гэтыя хлопцы, дзяўчаты ў акупацыі.

Значыць, і тут, ва ўніверсітэце, дзейнічае той жа, што і ўсюды, не надта разумны закон. Як агню, баяцца партыйцы, кадравікі чалавека, які быў пад акупацыяй. Вопытных людзей, якія шмат пабачылі, зведалі, з кіруючых пасад спіхваюць. Замяняюць кадрамі, якія — галоўнае — не былі пад акупацыяй. Не мае значэння, што дзе-небудзь у абозе быў чалавек або, прыдумаўшы хваробу, аціраўся па тылах. Такога кіраўніком паставяць, не думаючы пра ягоную хватку, здольнасці. Ідэалагічны, палітычны падыход. То куды ж мы ідзем? Няўжо гегемон-пралетарый, які стаіць ва ўладзе, як некалі цары, князі, мусіць думаць пра паходжанне, пра сваю радаслоўную. Тады, значыць, нараджаецца новы клас.

Сярод аднакурснікаў у Васіля няма сяброў. І не можа быць. Хлапчукі, дзяўчаты, якім нават не споўнілася па дваццаць гадоў, яму не таварышы. У іх яшчэ гарэзлівае, дзіцячае ў галаве. Стацыянарнікі таксама займаюцца па школах. У другую змену. Выкруцяць пробкі, пагасяць электрычнае святло і рады, што зрываюцца заняткі.

Праўда, заняткі нікчэмныя. Выкладаюцца практычныя руская, беларуская мовы, геаграфія (нават семінары вядуцца). Экзамены па гэтых прадметах Васіль здаў. Пры паступленні ва ўніверсітэт. Ёсць яшчэ стэнаграфія, але і яна не вабіць. Васіль без стэнаграфіі навучыўся запісваць прамовы, бяседы са старшынямі калгасаў, брыгадзірамі. Нічога цяжкага і складанага.

Дацэнт Ліхтаровіч чытае літаратуру Старажытнага Рыма. Толькі дзеля гэтага прадмета Васіль наведвае заняткі. Вядзе канспект, іншы раз у бібліятэку заглядвае. Чытае па хрэстаматыі (асобных выданняў няма ці студэнтам не даюць) Авідзія, Гарацыя, Сенеку, Апулея «Залаты асёл» Васіль чытаў, «Дэкамерона» таксама.

Грошы між тым растайваюць. Дзіва няма, паўкілаграма хлеба, які даюць па картачцы, Васілю не хапае. Ды і хлебная крама вельмі блізка. На рагу наступнай вуліцы. Кожны дзень шастае туды Васіль. Бярэ хлеб на два дні наперад і да дзвюх гадзін, да пачатку заняткаў, з'ядае. Прыходзіцца прыкупляць хлеб камерцыйны. А гэта сотня за кілаграм. А яшчэ сялёдку на снеданне і вячэру трэба купіць.

Цякуць грошы як вада...

У сяброў, Івана Гарошыка, Міколы Пішчыка, становішча лепшае. Лесатэхнічны інстытут размяшчаецца не так далёка, на вуліцы Свярдлова. Васіль шастае туды часта. Дык вось у пакоі, дзе жывуць Іван з Міколам,— камуна. Хлопцы складваюць стыпендыі, ездзяць у Баранавічы, Стоўбцы, купляюць бульбу, сала, крупы.

Сем чалавек у пакоі, і па чарзе кожны гатуе абед. Івану ад дзеда перападае крышан сала, добрая булка хлеба. Грошай дзед не дае. І Мікалай Пішчык сёе-тое вывуджвае ў радні. Радня ў яго нават у Мінску ёсць. Васілю такія крыніцы не струменяць...

Дэкан Карпіцкі, прыгладжаны, акуратненькі, прыводзіць новага выкладчыка. Высокі, з высокай, нібы стаўбун, галавой, вялікімі чорнымі самотнымі вачамі супрацоўнік рэспубліканскай газеты Зомерфельд будзе выкладаць тэорыю і практыку савецкага друку. Васіль ведае прозвішча выкладчыка. І матэрыялы ягоныя чытаў. Сухія, сумныя матэрыялы і словы, як выпетранае бадылле.

Чытае лекцыю Зомерфельд гэтак жа сумна, як піша артыкулы.

Рабін, думае Васіль. Каб не было рэвалюцыі, савецкай улады, Зомерфельд, відаць, вывучыўся б на рабіна. Бо гугнявіць лекцыю, як пропаведзь.

Першы і апошні раз наведвае Васіль заняткі Зомерфельда. У глыбіні свядомасці, усё болей акрэсліваючыся, нараджаецца думка: «Ён няправільна выбраў спецыяльнасць. Журналістыка, журналістыка. Слова зачаравала. А навукі такой няма... Няўдачнік ён. І дзяўчыну не тую, што трэба, выбраў. І на навуцы паслізнуўся...»

Ва ўніверсітэце эпідэмія сходаў, канферэнцый. Спачатку камсамольская канферэнцыя, затым прафсаюзная. Два матэматыкі-пяцікурснікі, сеўшы на ложак, некалькі вечароў між сабой перашэптваюцца. Гутарка, здаецца, ідзе пра тое, каб адзін з іх трапіў у прафсаюзны камітэт. Васіль не разумее, чаму яны туды лезуць? Навошта? Праз паўгода канчаюць універсітэт...

Хутка справа прасвятляецца. У камітэт праходзіць Федзя. Той, што Васіля як бы нават не заўважае. Дні праз тры прыносіць старэйшаму цёзку картачку СП-2 (яе ў дадатак да рабочай даюць толькі хворым на туберкулёз). І яшчэ талон на чаравікі атрымаў вясёлы, як шпак, абыходлівы Федзя, які памог хмурнаму, нелюдзімаму аднакурсніку пралезці ў прафсаюзны камітэт.

Прафсаюзны камітэт, аказваецца, не пусты гук...

На камсамольскай канферэнцыі ў ліку кандыдатаў у камітэт называецца знаёмы хлапчына па прозвішчы Рубашоў. Ён сын выкладчыцы французскай мовы, якой Васіль здаваў залік. Быў журналістам-завочнікам, перавёўся на стацыянар, але ўжо на філалагічны факультэт.

Дык вось. Рубашову даюць адвод. Прымушаюць расказаць біяграфію. Ён не тоіцца: працаваў у час акупацыі грузчыкам на таварнай станцыі. У гэтым бачаць віну. Якая нядобрасумленнасць, хцівасць! Усе, каму было шаснаццаць ці болей гадоў, дзе-небудзь працавалі. Інакш апынуліся б у Германіі, бо з тымі, хто не мае работы, немцы не цацкаліся.

Рубашова ў камітэт не выбіраюць. Значыць, месца ягонае некаму патрэбна. Хоць камітэт камсамола, здаецца, не выдае дадатковых картак і талонаў на чаравікі.

Зусім дрэнна робіцца Васілю. Цёплая, мяккая восень скончылася. Некалькі дзён ідзе дробны, надаедлівы дождж. Раптам усчынаецца жорсткі паўночны вецер — ён прыносіць халады. Трэба паліто, зімовая шапка, ды і падэшва ад правага бота зусім адвальваецца. Ні вопраткі, ні абутку ў Васіля няма.

Іван і Мікалай едуць на свята Кастрычніка ў мястэчка. Васіль не едзе. Грошай няма. Ды справа не толькі ў грашах.

Сябры могуць пазычыць. Васіль адчувае: трапіў у нерат. З журналістыкі трэба выбірацца. Зрабіць, як Рубашоў. Але ж на стацыянар філалагічнага факультэта так проста не перавядзешся. Вялікая запазычанасць і не дадуць стыпендыю.

Трэба шукаць работу.

Як летам гісторыю Старажытнай Грэцыі, так цяпер штудзіруе Васіль тоўсты падручнік па псіхалогіі. Адзін з яе аўтараў, дацэнт Горась, якая працуе ва ўніверсітэце. Яна напісала раздзел пра тэмперамент. На гэты раздзел Васіль асабліва налягае. Нібы прадчувае: не абыдзе дацэнт на экзамене раздзел, які сама напісала. Чуткі пра строгасць Горась адзінадушныя: па два-тры разы ходзяць да яе здаваць псіхалогію студэнты.

У бібліятэцы Васіль чытае кнігі пісьменнікаў Адраджэння і матэрыялы пра іхнюю творчасць. Трэба здаць Ліхтаровічу экзамен па літаратуры Старажытнага Рыма і эпохі Адраджэння. «Залатога асла» Апулея, «Дэкамерона» Бакачыа Васіль чытаў яшчэ да вайны. Ведае Сервантэса. У ягоны раман «Дон-Кіхот» проста закаханы.

Цяпер зацята займаецца Васіль Шэкспірам. Па рэкамендацыі Ліхтаровіча нават у тэатр схадзіў, паглядзеў «Гамлета», якога паказваў Віцебскі тэатр імя Якуба Коласа.

Два гэтыя экзамены і філолагі здаюць. Так што Васіль працуе на сябе. Тэорыю і практыку савецкага друку, іншую балбатню здаваць не збіраецца.

Прыехалі Іван Гарошык і Мікола Пішчык. Прывезлі з дому трохі харчу. Але галоўнае пытанне для Васіля не вырашана. У шынялі холадна, а паліто няма. Дый не можа ён, як раней, купіць кілаграм камерцыйнага хлеба. Проста не хапае грошай.

З аднакурснікаў Васіль найбольш сыходзіцца з Валодзем Абрамкіным, рудаватым, трохі насмешлівым, але разумным і спагадлівым хлопцам. Абрамкін вучыцца і адначасна працуе ў газеце «Літаратура і мастацтва». Вось бы Васілю так!..

Абрамкін першы набіваецца на знаёмства. Падыходзіць да Васіля, пытае:

— Чаму лічыш Пестрака маладым пісьменнікам? У яго лысая, як калена, галава.

Васіль нават чырванее. Не ведаў гэтага. Пестрак надрукаваў у «Полымі» аповесць «Пачатак» — пра першыя асяродкі партызанскага руху на Палессі. Васіль адгукнуўся рэцэнзіяй у абласной газеце.

— Дапамажы ўладкавацца ў якую-небудзь рэдакцыю,— просіць Васіль.— Хоць начным карэктарам.

— Цяжка, брат. Такіх, як мы з табой, многа. Схадзі ў «Чырвоную змену». Там знаёмы ёсць. Пагавару з ім...

У «Чырвонай змене» працуюць трохі старэйшыя за Васіля газетчыкі. Спачуваюць, але дапамагчы не могуць.

— У нас ужо ёсць студэнт. Дазваляем прыходзіць на паўдня. Больш узяць не можам...

Васіль настолькі губляецца, што не гаворыць нават, што ў «Чырвонай змене» дзве заметкі яшчэ да вайны надрукаваў, а нядаўна газета верш змясціла. І, здаецца, не зусім благі...

Васіль патроху галадае. Як некалі ў запасным палку, што стаяў у глухім сасновым лесе. Пасля толькі на фронце, на Карэльскім перашыйку, ад'еўся. Перастаў адчуваць голад праз тры ці чатыры месяцы.

Ён часта ходзіць да сяброў у лесатэхнічны інстытут, бо там збавенне. Іван Гарошык нейкім чынам раздабывае талоны на салдацкія вячэры. На вакзале, у цёмным, з закопчанымі сценамі зальчыку, па такім талоне даюць талерку пшоннай кашы.

Афіцыянткі, хоць Іван і Васіль у шынялях, вайсковых фуражках (Івану прыходзіцца пазычаць шынель і фуражку, Васілю — толькі фуражку), добра бачаць, што ніякія яны не вайскоўцы. Таму шыбаюць ім алюмініевую талерку з кашай, нібы сабаку костку.

Зябка, няўтульна Васілю на пустых мінскіх вуліцах, у разбітым, зруйнаваным горадзе. Адна толькі радасць: месяц назад, знайшоўшы наспех збітую з лістоў бляхі будачку, хлопцы сфатаграфаваліся. Іван, Мікола Пішчык і Васіль. Картачку Васіль атрымаў толькі цяпер. Атрымалася вельмі харошая.

Калі хлопцы здымаліся, была сталая, але яшчэ цёплая восень. Будачка размяшчалася ў так званай ніжняй частцы горада, дзе шмат дамкоў уцалела, але яна стаяла сярод суцэльных

руін. Можа, фатограф спецыяльна выбраў такое месца, каб прыцягнуць да сябе ўвагу.

Васіль сядзіць, заклаўшы нагу за нагу, выставіўшы наглянцаваныя боты з доўгімі нямецкімі халявамі. Іван і Мікола стаяць. Аказалі чэсць Васілю.

Васіль любуецца фатаграфіяй. Восень мінула, насталі халады, Васілёвы боты выглядаюць зусім не так, як на здымку. Трэба даць ім нейкай рады.

Васіль здае экзамены па псіхалогіі і зарубежнай літаратуры. Дацэнт Горась дапытліва ўглядаецца ў Васілёў твар. Нарэшце задае пытанне пра тэмперамент. Васіль гэты раздзел ледзь не на памяць ведае. Яна і збіць яго спрабуе. Але месяц, які Васіль затраціў на псіхалогію, лежачы на ложку і чытаючы кнігу, не прападае дарэмна. Горась ставіць вышэйшы бал.

У Ліхтаровіча справа пракручваецца гладка. Дацэнт, відаць, памятае Васіля. Пра Сервантэса, «Дон Кіхота» Васіль гаворыць нават узнёсла. Толькі адно дадатковае пытанне задае дацэнт: пра п'есу Сервантэса. П'есу Васіль не чытаў, але назву памятае і трохі змест.

Тое, што Васіль здае экзамены выкладчыкам, якія лічацца непрыступнымі, пяцёркамі не раскідваюцца, уздымае яго ў вачах насельнікаў пакоя. Нават малодшы Федзя, маўклівы і зацяты, глядзіць на яго ласкавейшым вокам.

Што з гэтага Васілю? Абодва Федзі добра ўладкаваліся. Ядуць у дзвюх сталовых, маюць прамтаварныя талоны. Васіль кожныя два-тры дні самаробнымі цвікамі прыбівае падэшву да бота.

Дрэнна, што заняткі ў другую змену. На лекцыях не гэтак хочацца есці.

Яшчэ аднаногі гісторык псуе настрой. Ён таксама кіруе на заняткі ў другую змену. Да абеду ляжыць у ложку і спявае «Перапёлачку»: «А ў перапёлачкі грудкі баляць», «А ў перапёлачкі крылцы баляць…»

Гэтак чорны, цыганаваты калека, які страціў нагу на фронце, высмейвае беларускую мову. Не прымае яе. Хоць сам беларус. Васіля сваім спевам проста выводзіць з сябе, бо ведае: Васіль захапляецца ўсім беларускім.

Выбаўляе Васіля з бяды Іван Гарошык. Добры ён сябар і таварыш. У лесатэхнічным інстытуце таксама ёсць студэнты, якім ніхто не памагае. То яны арганізаваліся ў арцель, ходзяць на таварную станцыю выгружаць вагоны. Добра зарабляюць.

Іван угаворвае хлопцаў узяць у гурт Васіля. Тыя згаджаюцца. Васіль высокі, плячысты, мае сілу. Нават транты Васілю даюць лесатэхнікі. У першую ноч выгружаюць агромністыя рулоны паперы, на другую — цюкі сена. Васіль зняможаны да бяссілля, але затое прыварак што трэба. За дзве ночы — тысяча рублёў.

Васіль бласлаўляе ў душы сяброў-лесатэхнікаў. Выйсце знойдзена, і цяпер ён можа пераводзіцца на філалагічны факультэт. Няхай нават не даюць стыпендыю.

Падэшва ад правага бота зусім адвальваецца. Васіль прывязвае яе дротам. Не бяда. Некалькі начэй паробіць на таварнай станцыі і купіць новыя чаравікі. Без ніякіх прафсаюзных талонаў.

Па горадзе вырастаюць будачкі, у якіх шаўцы-адзіночкі рамантуюць абутак. На галоўным праспекце горада Васіль знаходзіць шаўца, круглатварага, няголенага, які ў чаканні кліентаў сядзіць на драўлянай скрынцы і курыць тоўстую цыгарэту-самакрутку. Ён вельмі неахвотна бярэцца за Васілёў разлезлы бот. Нарэшце дамаўляецца аб цане. Марудна прышывае да дзіркі латку, нарэшце, паставіўшы бот на лапу, пачынае падбіваць падэшву. Увесь гэты час, можа, болей за гадзіну Васіль стаіць з абкручанай анучынай нагой, чакаючы канца рамонту.

І радасная нечаканасць! Выходзячы з шавецкай будкі, Васіль твар у твар сутыкаецца з Гэляй Машчынскай. Гэля ў шынялі, пашытым па паставе, у хромавых камандзірскіх ботах, але ў цывільнай сіняй шапачцы, з-пад якой выбіваецца пасмачка русявых валасоў.

Ён яе адразу пазнае. Радасна б'ецца сэрца. Колькі яны не бачыліся? Калі лічыць з той апошняй сустрэчы каля местачковага зернясховішча ў жніўні сорак першага года, то болей як пяць гадоў. Гэля не паблажэла. Той жа паўнаваты стан, адкрыты чысты твар, толькі шэрыя вочы задуменна-сумнаватыя.

Гэля не адразу пазнае Васіля. Пазнаўшы, чамусьці не радуецца. Як бы нейкі цень кладзецца на яе твар. Васіль гэтага не заўважае. Праўдзівей, не хоча заўважаць. Блытаючыся, расказвае пра сябе, дапытваецца, калі Гэля дэмабілізавалася, дзе вучыцца.

Аказваецца, Гэля дэмабілізавалася гэтак жа, як Васіль: год назад. Не вучыцца нідзе. Жыве ў Мазыры. Вядома, не ў тым доме, дзе жыла з бацькамі. Яна працуе ў аблвыканкаме, і ёй далі асобны пакойчык. У Мінск прыехала па камандзіроўцы.

Над горадам спускаецца вячэрні змрок. Васіль хоча праводзіць Гэлю, але яна адмаўляецца. У яе яшчэ справы ёсць. Вечарам яна ад'язджае ў Мазыр.

Васіль похапкам запісвае Гэлін адрас. Ведае вуліцу, на якой жыве дзяўчына. Радасць працінае ўсю ягоную істоту. Гэля ў Мазыры, зусім іншая карціна вымалёўваецца. Трэба аб гэтым падумаць.

Ноччу Васіль доўга не спіць. Адчувае: трэба рашыцца на нешта новае. Амаль семестр ён правучыўся на стацыянары. Які вынік? Не надта выдатны. Летам за месяц ён здаў больш экзаменаў, чым цяпер за семестр. Ён цяпер менш чытае, губляе ўзровень. Дзеля чаго?..

Думка прыходзіць выразная і нечаканая: Васіль больш і лепш адукуе сябе, чытаючы па начах кнігі, чым тут, седзячы на пустых лекцыях і разгружаючы вагоны. Калі рэдактар возьме, трэба вяртацца ў газету. Сапраўднае жыццё — якое б ні было — там, у нізінцы...

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

### I

Вясна дружная.

Зімой было многа снегу. Гурбы намяло вышэй парканаў. Вільгаць зямля набрала. І цяпер, вясной, прашумелі два добрыя дажджы. Віды на ўраджай нібыта ёсць.

Васіль прахаджваецца па пероне. Ён зноў карэспандэнт абласной газеты. Рэдактар згадзіўся на ягоны прыезд.

Два дні Васіль сядзеў у Дуброве. Там паспелі пасеяць раннія збожжавыя. Толькі праз чатыры дні будзе Першае мая, вялікае свята. Калгас тым часам адсеяўся. Вось такія на свеце справы.

Васіль зрабіў паласу. Выступленне старшыні, брыгадзіра, звеннявога. Свой невялікі нарысок.

На пероне паяўляецца Красоўскі. Чарнявы, прыгожы, статны сакратар райкама камсамола. Тое, што трэба. Едзе, вядома, у камсамольскі абкам. Ён недалёка ад рэдакцыі.

— Вазьмі мой матэрыял, Станіслаў. Не згубі. Тут чатыры дні работы.

— Што буду мець?

— Піва.

— То пойдзем у буфет.

— Пойдзем.

Сябры-таварышы нікуды не ідуць. Звычайнае падколванне. Піва яны як-небудзь вып’юць. Толькі не тут, не ў мнагалюдным буфеце. Васілю можна і тут, а Красоўскі сакратар райкама. Няхай сабе камсамольскага.

Прыходзіць цягнік. Красоўскі садзіцца ў вагон. Харошы чалавек. Мяккі, абаяльны, разумны. Год ці болей быў у партызанах. Калі Васіль кіраваў у армію, Красоўскі даў яму даведку. Як удзельніку камсамольскага падполля. На свой страх і рызыку. Вядома, даведка не мела юрыдычнай сілы. Васіль усё адно ўдзячны сумленнаму хлопцу, які, відаць, сам ведае, што такое падполле.

Пасля адыходу пасажырскага цягніка на Брэст адпраўляецца мясцовы. Да мястэчка Хвойнага. У ім пяць ці шэсць абшарпаных вагонаў з запыленымі шэрымі вокнамі. Ідзе цягнік павольна, асцярожна: пашкамутаная партызанамі каляя фактычна не аднаўлена, толькі так-сяк падлаплена.

На дрэвах набухаюць пукаўкі, але лісця яшчэ няма. Толькі на кустах бэзу, якім густа засаджаны палісаднік, праклёўваецца першая зяляніна. І на доле зелянее трава.

Нечакана Васіль бачыць Алесю. Прыехаўшы з Мінска, ён сустрэч з ёй не шукаў. У Мазыры жыве Гэля, і ён пра яе думае. З Гэляй усё ясна, проста. Васіль ніколі, як раней з

Алесяй, не рыхтуецца да гаворкі. Бо адносіны з Гэляй роўныя, таварыскія.

Дзіўна, але чаму і цяпер б'ецца сэрца, калі Васіль бачыць Алесю? Ён пра яе не думае. Лічыць: адносіны між імі скончаны.

Пазбегнуць сустрэчы немагчыма, Васіль падыходзіць да Алесі. Нібы лёс наканаваў яму сустракацца з ёй іменна тут, на станцыі.

Алеся апранута ў жоўтага колеру выцвілы палітончык.

— На майскія святы едзеш? — пытае Васіль.— У Сівалобы...

— Еду,— Алесін голас сумны.

— Куды будзеш паступаць?

— Не ведаю. Можа, у Гомель. У педагагічны.

— Я факультэт памяняў. Цяпер зноў на завочным...

Дзе вучыцца Васіль і ці вучыцца наогул, Алесю не цікавіць. Вось такія ў іх адносіны. Гэта злуе, нервуе.

Васіль, можа, пагэтаму пахваляецца:

— Летам скончу другі курс філалагічнага факультэта. Толькі падручнікаў няма. Трэба дастаць падручнік па палітэканоміі.

Настрой у Васіля пасля спаткання з Алесяй пагаршаецца. Не думае яна пра яго. Мінулы раз, у страшную навальнічную ноч, Алеся не паехала ў Сівалобы. Як бы зрабіла крок на прымірэнне. Цяпер не робіць. Васілю сумна, маркотна. Бо і з Гэляй адносіны не вельмі выдатныя. Яна ўважлівая, добразычлівая, але блізка да сябе не падпускае. Толькі адзін раз і схадзіў Васіль з ёй у кіно. У тэатр — прыехалі якраз украінскія артысты — існі адмовілася. Мазыр горад невялікі, і Гэля, відаць, не хоча, каб знаёмыя бачылі яе з кімнебудзь.

Васіль спакойна думае пра Гэлю. Яму вельмі хочацца выпытаць, як адчувала яна сябе, жывучы па той бок лініі фронту, наогул якое было жыццё на зямлі, не захопленай немцамі.

Але Гэля на такія пытанні адказвае неахвотна. Былі карткі, вучылася на курсах медсясцёр.

Пра шпіталь Васіль не распытвае. Як бы забароненая тэма.

Зноў ночы напралёт чытае Васіль. Глытае кнігу за кнігай. У навуках дома прасоўваецца лепей, чым у Мінску. Хоць сям'я жыве цяжка. Васіль дае грошы, і бацька зноў едзе ў Пінск ці Лунінец. Прывозіць у тармазной будцы два мяхі жыта. Нядаўна на станцыі бацька яшчэ трохі і сечкі купіў. Сечку згружалі для саўгаса. Відаць, на корм жывёле. З дробненькіх круп маці пячэ аладкі.

Цяпер сям'я ў поўным зборы. Вярнуўся з Гомеля Петрык. Пахадзіў там з доўгім малатком каля вагонаў, пастукаў па восях, бандажах, і захацелася дадому. Не цаніў Петрык кнігу. Каб мець лішнюю пайку хлеба, разбазарыў Васілёву бібліятэку. Цяпер сам зацята ўзяўся за вучобу. Пайшоў у шосты вячэрні клас, хоча скончыць сямігодку і паступіць у тэхнікум.

Сям'я туліцца ў пярэднім пакоі. Меншы брат Сяргей часам спіць пад грубкай, а першакласніца Люся — на канапе. Але толькі ў выхадныя дні. Бо ім трэба выспацца, а Васіль не тушыць лямпу да дзвюх-трох гадзін ночы.

Харчовае забеспячэнне карэспандэнта абласной газеты кепскае. Загадчыкі аддзелаў і нават найбольш відныя літработнікі атрымліваюць у Мазыры літэр «Б». Маючы такую картачку, можна жыць. У раёне літэраў няма. Затое ёсць партактываўскі паёк. Але толькі адзін раз Васіль яго атрымаў. Маці нават рукамі ўспляснула, убачыўшы ці не дзясятак малых і большых амерыканскіх бляшанак, у якіх сасіскі, мяса, розныя фаршы і паштэты.

Невядома, чаму раптам расшчодрыўся загадчык райхарчгандлю Хаім Хаскін, адарыўшы абласнога карэспандэнта замежным багаццем. А так Войцік палучае толькі буханку хлеба на тры-чатыры дні.

Васіль марыць падкалоць Хаскіна. Надрукаваць фельетон пра майстра махінацый. Толькі хітры ліс Хаскін. Умее хаваць канцы. Не так лёгка пад яго падкапацца.

Першага сакратара райкама партыі Сымона Бандарэнку выбіраюць дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. Войцік змясціў пра яго нарыс у абласной газеце. Гэтым самым як бы прыблізіўся да райкама.

Сымон Раманавіч — так завуць сакратара — усё яшчэ носіць армейскую гімнасцёрку, брыджы. Быў зампалітам у палку. А ўвогуле ён, як і Шурко, падымаўся па ўсіх ступеньках службовай раённай лесвіцы. Так што жыццё ведае.

Прысадзісты, з круглым, як месяц-поўня, тварам, ураўнаважаны, сакратар райкама ладзіць з людзьмі. Ходзіць імкліва, вітаецца са знаёмымі, не запыняючыся, звонку здаецца ганарыстым, непрыступным. Але гэта толькі звонку. На самай справе ён просты, абыходлівы.

Жонка першага сакратара райкама нейкая радня Хаскіну. Вось чаму махінатар адчувае сябе, як у Бога за пазухай.

Часта збіраецца ў прасторным зальчыку парткабінета раённы актыў: старшыні калгасаў, сельсаветаў, загадчыкі розных устаноў, кантор, працаўнікі райкама партыі, райвыканкама. Такі сход партыйна-савецкага актыву перад кожнай больш-менш адказнай кампаніяй: сяўбой, жнівом, падрыхтоўкай жывёлы да зімы. Заклікі, задачы сходаў як бы загадзя вядомыя. Выканаць, не ўпусціць тэмпаў, арганізавана правесці работу.

Пасля кожнага сходу зачытваецца прывітальнае пісьмо Сталіну. Яго, вядома, нікуды не пасылаюць. Пісьмо захоўваецца ў аддзеле прапаганды і агітацыі райкама, рухавага з хітрынкай у вачах Майсея Гароха, у мінулым настаўніка. Гарох уносіць толькі сякія-такія папраўкі перад кожным новым сходам.

У раённым мястэчку некалькі разнаколерна пафарбаваных ларкоў, якія называюць зялёнымі змеямі. Гарэлка ў ларках ёсць заўсёды, часам прадаецца піва. Закуска вядомая — смажаная траска. Пасля раённых сходаў старшыні калгасаў, сельсаветаў, іншы вясковы люд ахвотна заскокваюць у «змей», выпіваюць па сто пяцьдзясят грамаў гарэлкі «з прычэпам» — гэта значыць з кухлем піва, паспешліва закусваюць траской, нарэшце сядаюць у кабіну ці ў кузаў паўтаратонкі. Машыны калгасы патрохі набываюць.

Як ставіцца да сходаў, гаманы, мітусні карэспандэнт Войцік? Сядзець на іх не любіць. Але лічыць справай непазбежнай. На сходах жа гутарка ідзе пра работу, парадак, адказнасць ва ўсіх звеннях раённай гаспадаркі.

Першы сакратар райкама Бандарэнка амаль штодзень прымошчваецца ў абцягнуты брызентам «віліс», аб'язджае калгасы. Хоча на ўласныя вочы бачыць, як ідуць справы. Вандруе па палях, аглядвае новыя свінарнікі, кароўнікі, цялятнікі. Яны не вельмі кідкія на выгляд, але добра і тое, што будуюцца.

Найбольш цікавіцца сакратар выкананнем плана нарыхтовак. Па гэтым паказчыку ацэньваецца работа райкама. Нарыхтовак шмат: збожжа, бульба, малако, мяса, яйкі, шэрсць. Іншы раз Войцік думае: раёншчыкі — зборшчыкі падацей. На гэта накіравана іхняя дзейнасць. Як жывуць людзі, што атрымліваюць на працадзень калгаснікі — іх цікавіць мала.

З другога боку: адкуль узяць? Васіль бачыць, як паўстае з развалін Мінск, другія гарады, аднаўляюцца навучальныя і розныя культурныя ўстановы. Ды і прамысловасць расце: у Мінску ўзводзяцца трактарны і аўтамабільны заводы.

Вёска жыве блага. Вельмі блага. Больш палавіны мужчын не вярнулася з вайны. Невыносны цяжар лёг на жанчын. Апрача таго, што калгаснікі — мужчыны і жанчыны — працуюць на палях, фермах, нічога амаль не атрымліваючы, яны ж мусяць здаваць дзяржаве малако, мяса, яйкі, вялікі грашовы падатак.

Васіль вандруе па пыльных прасёлкавых дарогах ад вёскі да вёскі. Мэту паставіў даўно: хоча наведаць усе паселішчы, паглядзець, як размешчаны, чым адрозніваюцца адно ад другога. Бо кожная вёска нібы асобная дзяржава. У кожнай свае звычкі, норавы і прозвішчы жыхароў непадобныя.

Сарцавіна паўночнай часткі раёна — асушаныя балоты. Тут малюнкі не надта прыгожыя. Тарфянікі, можна лічыць, не апраўдалі высокіх надзей, якія на іх ускладвалі. Ураджаі на іх не большыя, чым на звычайнай глебе. Жыта высокае, на моцных сцяблінах. Але палягае. Балотную бульбу — клубні вялікія, але трохі вадзяністыя — псуе нейкі малавядомы чарвяк-провалачнік. Ёсць яшчэ даўганосік і шкоднік з прыгожай назвай — мядзведзік. Яны моцна шкодзяць пасевам на балотах.

Бедныя, убогія вёскі. Нават у вялікіх, дзе сотні двароў, няма дзе запыніцца вандроўнаму падарожніку. Няма гасцініц ці хоць бы асобных пакояў для прыезджых. Хочаш пераначаваць, шукай старшыню калгаса ці хоць брыгадзіра. Прадстаўляйся, прасі начлегу, прыніжай уласную годнасць.

Дзе балоты, там пяскі. Даляглядны не радуюць вока. Навокал хмызы, шматкі рэдкалесся. Некалі шумелі лясы, горда высіліся дубовыя гаі. Але іх вынішчылі яшчэ да рэвалюцыі. Нейкія надзвычай прадпрымальныя купцы — браты Равіковічы. Куплялі лес у заняпалых панкоў, высякалі, вывозілі па дзвюх чыгунках, пракладзеных па раёне.

Карэспандэнту трэба мець апорныя пункты, адкуль ён мог бы чэрпаць інфармацыю. Адзін пункт Васіль знаходзіць. Гэта вёска Дуброва, з якой мінулагодняй зімой дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР выбралі цялятніцу Брыль Ганну Апанасаўну.

Дэпутатка такая ж ціхая, сарамлівая, як і раней. Але ўжо замужам. Калгасны рахункавод, хітры бабыль-пераростак Даніла Бокуць мігам разгадаў свой інтарэс і пудла не даў. Ажаніўся з Ганнай Апанасаўнай. Паспеў паставіць новую хату, і ўжо малая дачушка ў хаце расце.

З дачушкай была гісторыя. Ганна Апанасаўна нарадзіла яе ў раённай бальніцы. Калі прыйшлося з бальніцы выпісвацца, выявілася: няма на чым ехаць у Дуброву. Старшыня калгаса Арцём Курака саннага вазка ў мястэчка не прыслаў.

Ганну Апанасаўну прывозяць на райкамаўскім «газіку». На гэтай жа машыне Арцёма Кураку вязуць у райкам. Лепяць там яму суровую вымову з занясеннем ва ўліковую картку. Каб ведаў сваё месца і не замахваўся на саюзнага дэпутата.

Васіль толькі са слоў калгаснікаў ведае, як выбіралі ў Дуброве старшынёй Арцёма Кураку. Бо на той час быў у Мінску, здаваў экзамены.

Прывёз Кураку ў Дуброву другі сакратар райкама Шурко. Гаварыць умее, расхвальвае будучага старшыню, як толькі можа. Тым болей што да вайны быў за старшыню ў Дуброве родны брат Куракі — Дзяніс.

Пасля палкай прамовы другога сакратара ўстае з лаўкі зарослы да вушэй сівой шчэццю яшчэ моцны, шырокі ў плячах дзед Хвядос. Бацька дэпутаткі.

— Давайце нашага Кураку, Дзяніса. Етага ж не хочам. Етага вязіце ў Глушаўку. Там мужчын няма. Ён яшчэ крэпкі. Будзе бабам на расплод...

Сход выбухае гучным рогатам. Нават красамоўны Шурко нічога не можа зрабіць. Ніводная рука не падымецца за Кураку.

Куракаў у раёне тры — родныя браты, і ўсе старшыні калгасаў. Адзін з іх, Дзяніс, быў старшынёй тут, у Дуброве.

Райкам не адступае. Наступны сход праводзіць першы сакратар Бандарэнка. Ён прывозіць старэйшага Кураку. Нават з выгляду мяккага, паблажлівага, які на меншага брата нават тварам не падобны. Але толькі для ўгавораў прывозіць. Бо старэйшы брат добра кіруе калгасам «Абарона Саветаў», ва ўсходняй частцы раёна, на мяжы з суседнім прыдняпроўскім раёнам.

Сход угамоньваецца. Некаторыя рукі падымаюць. Некаторыя, прыгнуўшы галовы, хаваючы твары, ад галасавання ўстрымліваюцца. Ніхто галасоў не лічыць. Арцём Курака аб'яўляецца старшынёй.

Курака — грубы, дэспатычны. Гэта відаць з першага позірку. Але добра завяршае сяўбу, выконвае нарыхтоўкі. Войцік лічыць, што менавіта такі кіраўнік цяпер патрэбны. Можа, хоць парадак навядзе, дысцыпліну. А рогі яму паступова абломяць.

Пры раённым судзе ёсць адвакат Меер. Маленькі, рухавы, з рэдзенькімі ўзлахмачанымі валасамі чалавек. Нечым ён падобен да зняможанага, з абскубаным пер'ем вераб'я.

Зімой райкам пасылае Меера ў Дуброву як упаўнаважанага. Курака, вядома, на адваката ніякай увагі не звяртае. Ён наогул ні на кога не зважае, выключаючы хіба Бандарэнку ці Шурко.

Праскакаўшы ноч у халодным, няпаленым памяшканні сельсавета, адвакат пад раніцу не вытрымлівае, прыбягае на кватэру да старшыні.

Пра астатняе расказвае сам Меер. З яго мог бы, відаць, атрымацца неблагі артыст.

— Заходжу, а войт каўбасу пхае ў рот. Поўная скавародка смажанай каўбасы на стале. Барада ў сале, аж блішчыць. І бутэлька гарэлкі стаіць...

— Ну, калі прыйшоў, то садзіся,— не вельмі ветліва старшыня запрашае раённага адваката.

— Дзякуй, я сыты. Мне б толькі камандзіроўку адзначыць.

Войт выцягвае з кішэні пячатку, хукае, ляпае па камандзіроўцы...

У вобласці, нават у рэспубліцы грыміць местачковы калгас імя Леніна. Сюды часта завітваюць карэспандэнты з Мінска, нават з Масквы, праслаўляюць дасягненні калгаса. А іх не шмат, бо калгас, калі гаварыць шчыра, сярэдні. Добра і тое, што ён наогул не тоне. У мястэчку чыгуначная станцыя, нават вузлавая, ёсць шэраг прадпрыемстваў. Там людзі зарабляюць жывую капейку.

Трымае калгас на паверхні добрая ўрадлівая зямля. Пасеянае нават на не надта ўгноенай зямлі расце. Хітры, вынаходлівы старшыня Хаім Рубінчык на аванс дае па тры кілаграмы збожжа. У бедным пасляваенным жыцці гэта нешта значыць. Вось і ляцяць у мястэчка карэспандэнты як восы на мёд. А таго не ведаюць, што аванс будзе і канчатковым разлікам.

Рубінчык кожны дзень прыбягае ў райкам партыі. Уважліва выслухоўвае сакратароў, нават загадчыкаў аддзелаў — усе даюць яму слушныя парады. Толькі ён — яўрэйская галава — слухаць слухае, а робіць па-свойму. Па нізкай ільготнай цане купляе насенне канюшыны. Сее, восенню тое ж насенне прадае ў пяць разоў даражэй.

І яшчэ многія падобныя рэчы робіць Рубінчык, не пераступаючы закону. У тых вузкіх рамках, у якія пастаўлены калгасы, робіць камерцыю, выкручваецца, як можа.

Ён ніякі не тарбахват. Жыве ў доўгай, нібы пасажырскі вагон, хаціне, бегае ў шэрым, з самаробнага сукна лапсярдаку.

Лета харошае, з частымі дажджамі. Нібы злітаваўся Бог над гаротным краем. Нават на пясках азіміна рве зямлю. Вецер перакочвае па полі жытнёвыя хвалі. Будзе ўраджай!

Васіль тым часам збіраецца на летнюю сесію. Зімовую прапусціў. Рыхтаваўся старанна, вёў канспекты. Толькі са старажытнай рускай літаратурай бяда. У школе яе вывучалі мала, а падручнік для філфакаў Васіль не здолеў раздабыць.

Некаторыя рэдакцыйныя работнікі бяруць прыклад з Васіля. Кідаюцца ў навуку. Заканчваюць вячэрнюю сярэднюю школу, паступаюць у мясцовы настаўніцкі інстытут. Ганарлівыя газетчыкі пашылі сабе модныя касцюмы з карычневай шэрсці (якраз такі матэрыял завезлі ў атэлье «Індпашыў»), выдыбаюць па вуліцах невялікага гарадка.

Гэля таксама аднаўляецца ў інстытуце. Якраз перад летняй сесіяй. Калі Гэля з ахвотай возьмецца за вучобу, на будучы год скончыць інстытут.

Разам з Васілём збіраецца ў Мінск супрацоўнік партыйнага аддзела рэдакцыі Міша Грынблат. Таксама паступіў у БДУ на філфак.

Запрашае Грынблат Васіля на кватэру, частуе кавай. Міша кульгае, правая нага ў яго трохі меншая за левую. Ён таварыскі, любіць пасмяяцца, трохі картавіць і шапялявіць.

Дзіва дзіўнае: Алеся ніколі не шукала з Васілём спатканняў. Тут раптам сама прыходзіць да Васіля дамоў. Прыносіць дзве кнігі па палітэканоміі. Аддае маці, бо Васіля дома не застае.

Васіль разглядае кнігі. Яны даваеннага выдання. Адну напісаў Сегаль, другую Леонцьеў. Раптам на падлогу падае тоненькі аўтобусны білет. Ён да Мазыра.

Здагадка прыходзіць адразу. Алеся скончыла дзесяцігодку. Ездзіла, відаць, паступаць у Гомель.

У педінстытуце, па чутках, не прымаюць дакументаў, калі ў атэстаце ёсць тройкі. А ў Алесі тройкі ёсць. Вось чаму яна павярнула на Мазыр. Значыць, будуць вучыцца ў Мазыры Алеся і Гэля Машчынская.

У Мінску, як мінулым летам, смаліць сонца, плавіцца асфальт. Але раз-пораз неба завалакваюць хмары, пырскае дождж. Горад паволі падымаецца з руін. Толькі два гады мінула, як скончылася вайна, а ўжо і абрысы некаторых вуліц вымалёўваюцца, і новыя будынкі паўстаюць.

На галоўным праспекце вырастае гмах, які займае цэлы квартал. Гэта будынак унутраных службаў і бяспекі, трохі ніжэй размяшчаецца аплецены калючым дротам лагер асуджаных.

І ўніверсітэт прыгажэе. Галоўны корпус адрамантаваны капітальна. Падлога выкладзена пліткай, сцены пабеленыя, пафарбаваныя. Доўгія калідоры, вялікія аўдыторыі як бы выклікаюць пачуццё гонару.

Лекцыі пачынаюцца з латыні. Працяглым зычным голасам старамодны, беленькі ад старасці выкладчык кідае ў аўдыторыю словы, сказы, «Silva umbram parat»[1]. Старажытныя рымляне выдатна адчувалі музычную, рытмічную прыгажосць слова. Васіля проста чаруе музыка лацінскай мовы. Добра было б гэтай мовай авалодаць. Толькі як? Падручнікаў няма, і студэнту-завочніку даюць іх толькі на час сесіі.

Ці то ад адчування прыгажосці, выразнасці, арганізаванасці лацінскай мовы раздзелы, якія прапанаваны студэнтам у якасці чытання і перакладання, Васіль вывучвае на памяць.

— Войцікава,— выклікае белы, як голуб, выкладчык, зрабіўшы Васілёва прозвішча жаночым.

Залік прымаецца ў прысутнасці студэнтаў. Зала ўзрываецца рогатам.

Выкладчык дае Васілю кнігу, вызначае кавалачак тэксту, які ён мусіць чытаць і перакладаць.

Не зазіраючы ў кнігу, Васіль выпальвае адну фразу за другой і тут жа іх перакладае.

Выкладчык нават здзіўлены.

— Вы з Заходняй Беларусі? — пытае лацініст.— Вучыліся ў гімназіі?

— Не вучыўся,— адказвае Васіль.— Проста мне падабаецца латынь...

Экзамен па старажытнай рускай літаратуры прымае маладая прыгожая выкладчыца, якая канчае аспірантуру. Матэрыял аспірантка ведае. У Васіля на падрыхтоўку да экзамену тры дні. Ён прыбаўляе да іх тры ночы. Спіць, каб толькі не

[1] Лес дае цень *(лац.)*.

зваліцца з ног. Чытаючы ёмісты, талковы падручнік прафесара Гудзія, Васіль раз-пораз зазірае ў праграму. Каб зверыць матэрыял кнігі з параграфамі праграмы.

Такі спосаб дае плён. Аспірантка, як здаецца Васілю, хоча яго праваліць. Штосьці яна адчула. Але Васіль спакойны. Толькі галава звініць, хіліцца ад бяссоння набок. Матэрыял перад ім як на далоні. Нельга Васіля праваліць. Выкладчыца сыпле пытанні, як з мяшка, але ён не дае сябе збіць з тропу.

Прыгожая аспірантка нарэшце здаецца. Ставіць пяцёрку. Васіль, аднак, не радуецца. Як хутка вывучыў Васіль старажытную літаратуру, так хутка і забудзе. Трэба дастаць хоць хрэстаматыю і дома прачытаць тэксты.

Зачароўвае Васіля таксама стараславянская мова. Экзамен ён здае добра, набывае ва ўласнасць невялікі падручнік. Дома папрактыкуецца.

Ён чытае гэты падручнік і ў Гомелі, на станцыі, дзе спатыкае бацьку. Бацька хоць чын невялікі — стрэлачнік — часта завітвае ў Гомель. Дзеля здачы розных іспытаў. Вучыцца сын, вучыцца бацька.

Васіль чытае бацьку некалькі абзацаў на стараславянскай мове. З Астрамірава Евангелля.

— Як у царкве,— здзіўляецца бацька.— Нас некалі вучылі малітвам. І вас цяпер вучаць?..

Васіль тлумачыць: стараславянскай мовай, якую па яго спецыяльнасці трэба ведаць, напісаны царкоўныя кнігі. Таму трэба іх чытаць.

Васіль цвёрда наважвае штодзень хоць па невялікім кавалачку чытаць стараславянскія тэксты. Але ўжо назаўтра едзе ў калгас. Заканчваецца ўборка збожжавых культур, і трэба даць у газету карэспандэнцыю. Навука — адно, работа зусім другое. Так і не знаходзіць Васіль часу зазірнуць у стараславянскі падручнік.

У мястэчку нечакана з’яўляецца Гэля. Яна некалькі дзён жыве на кватэры ў былой гаспадыні, і Васіль не ведае пра гэта. Нарэшце ён твар у твар спатыкаецца з Гэляй у будынку райвыканкама.

Васіль такі разгублены, што слова не можа прамовіць. Адносіны з Гэляй халаднаватыя, нікуды не вядуць, і Васіль змірыўся з такім становішчам. У яго раз-пораз мільгае думка не сустракацца з Гэляй. Няўжо на ягоным шляху не трапіцца дзяўчына, якая спадабаецца і адкажа яму ўзаемнасцю?

— З сесіі вярнуўся,— сабраўшыся з духам, паведамляе Васіль.

Гэля ўсміхаецца.

— І я была на сесіі. Аднавілася ў інстытуце. На будучы год, можа, скончу...

Вось так. Ён угаворваў Гэлю працягваць вучобу, і яна яго паслухала. Аднавілася ў інстытуце.

— Ты папрыгажэў,— нечакана гаворыць Гэля.— Загарэў, памужнеў. Можа, знайшоў сабе сяброўку?

Доўга чакаў Васіль гэтых слоў. Ніводная дзяўчына ніколі іх яму не сказала. Гэля прыехала ў мястэчка. Відаць, нездарма. Хоча з ім зблізіцца.

Добра, што Гэля прыехала.

Вечарам яны сустракаюцца. Не, Васіль не вядзе Гэлю ў кіно. Новыя карціны найперш ідуць у Мазыры, а ўжо затым трапляюць у раённыя цэнтры.

Васіль з Гэляй брыдуць да старой школы. Гэта прыгожае, утульнае і — галоўнае — спакойнае месца. Таполі разрасліся, навісаюць над будынкамі, як хмары, галоўны корпус тоне ў бэзавых зараслях.

Вуліца Паштовая толькі да палавіны прыстойная, нават трохі затравелая. Далей сыпучы пясок, у які правальваюцца ногі.

Трохі наводдаль школы калгасная кузня, не надта прывабнае з выгляду памяшканне калгаснага праўлення. Далей млын, мэблевы камбінат, курган могільніка.

Месяц жнівень. Перадасенняя пара, калі ўсё адцвіло, адбуяла. Шэры паўзмрок, густа засеянае бліскучымі зоркамі неба.

Якая ўстанова размяшчаецца ў старым, пакрытым бляхай школьным будынку, Васіль не ведае. Два ганкі да самага даху спавіты дзікім вінаградам. Двор затравелы, людзей па ім ходзіць, відаць, мала.

Васіль з Гэляй садзяцца на ганку. З садоў нясе пахі саспелых яблык, груш, прыжоўклай, яшчэ свежай лістоты. Са станцыі, якая адсюль далекавата, даносяцца прыглушаныя паравозныя гудкі. На местачковай плошчы перад райкамам гучна балбоча радыё.

А тут, на пляцы старой школы, толькі ціхі шэпат лісцяў, таямнічыя гукі, шорахі. Начная птушка ўсклікне, кажан праляціць.

У станцыйным буфеце Васіль купіў пляскатую пляшачку з незнаёмым трункам. Ён маўкліва адкаркоўвае яе, прапаноўвае Гэлі выпіць.

— Я не п’ю! — усклікае яна, як спалоханая птушка.— Я сп’янею і да гаспадыні не дайду.

— Дойдзеш. Я давяду. Тут пітва на мезенец.

— Калі так, давай нап’емся.

Гэля робіць глыток. Адразу папярхаецца.

— Моцны твой спірт.

— Не спірт. Закусі цукеркай...

Васіль адпівае з бутэлечкі. Праз хвіліну пачынае прыемна шумець у галаве. Ён прыхінае да сябе Гэлю. Яна не праціўіцца. Як многа ў ёй жаноцкасці: гнуткая, танклявая ў стане, яна як бы нечакана раздаецца ў бёдрах, шырокіх і пругкіх. Прыемны, усмешлівы твар, звонкі, вясёлы голас.

У Васіля як бы вочы адкрываюцца на такую жаданую, прывабную Гэлю. Другой дзяўчыны яму не трэба. За гэтую ён цяпер будзе змагацца.

— Выпі яшчэ.

— Не хачу. Спірт у шпіталі быў. Я не піла.

— Тут не спірт. Мабыць, каньяк.

У голасе Гэлі насмешка.

— Які багаты! Каньяк п’е... Я каньяк яшчэ не каштавала.

Гэля бярэ пляшачку, адпівае глыток ці два. Яна таксама трохі сп’янела.

— Вершы пішаш,— раптам заяўляе.— З тваіх вершаў мне падабаюцца толькі два. Пра каваля і яшчэ адзін. Дзе агітатар ходзіць ад вёскі да вёскі...

Яна раптам смяецца.

— Чаму падпісваешся рознымі псеўданімамі? Яўхім, Сідар. У цябе харошае імя...

— Нельга, каб адно прозвішча часта мільгала ў газеце. Ды і не паэт я. Не хачу, каб прозвішча прыляпілася...

Яны раз-пораз цалуюцца, абдымаюцца. Слоў ніякіх не трэба. Вісіць на ўскрайку зорнага жнівеньскага неба сярпок месяца. Ціха шастаюць цёмным лісцем таполі. У кустах бэзу свае прыглушаныя гукі. Можа, шукае спажывы вожык, можа, мышы выйшлі на шпацыр.

Мястэчка спіць. Нават гудкоў з чыгункі не чуваць. Ад пацалункаў у Васіля распухлі губы. Але ўсякія іншыя ягоныя праяўленні актыўнасці Гэля рашуча адхіляе. Васілю нават крыўдна. Была замужам, а тут такая непрыступная.

Ужо світанак наступае. Васіль праводзіць Гэлю да гаспадыні. Гэта недалёка. Трэба прайсці глухі завулак, якім Васіль некалі шыбаваў у школу, і выбрацца на доўгую пясчаную вуліцу.

## II

Алеся як бы штосьці прадчувае. Часта падпільноўвае Васіля на станцыі.

— Заўтра еду ў Мазыр,— заяўляе.— Паступіла на фізіка-матэматычны факультэт. Але ў інтэрнат не трапіла. Трэба шукаць кватэру...

— Падай заяву ў прафкам,— раіць Васіль.— У Мінску так робяць. Там, дзе ў пакоі чацвёра дзяўчат, памесціцца пятая...

Васілю чамусьці не хочацца, каб Алеся жыла на асобнай кватэры.

Калгасы здаюць збожжа. За Васілёвым агародам, наўзбоч тупіковых, зарослых палыном, быльнягом пуцей, размяшчаюцца нарыхтоўчыя базы. Адна з іх — збудаваная з новага сасновага цёсу — належыць «Заготзбожжу». Шэсць гадоў назад Васіль каля гэтай базы развітваўся з Гэляй. Яна прыязджала ў мястэчка забіраць манаткі, і менавіта тут яны сустрэліся. Тады Гэля была танклявым даўганогім дзеўчанём у пярэстай сукенцы. Цяпер — паўнацелая, раздабрэлая. З усімі прыкметамі жаноцкасці.

Ураджай вырас добры. Каля базы «Заготзбожжа» доўгі цуг паўтаратонак з поўнымі кузавамі зерня. Лабараторыя, якая працуе пры базе, прыдзірліва правярае якасць збожжа. Асабліва на вільготнасць. Залішне вільготнае зерне калгасныя дзяўчаты высыпаюць з кузаваў на брызент, пералапачваюць, часам дасушваюць. Вечарам спяваюць. Хораша спяваюць вясковыя дзяўчаты, сумуючы па хлопцах, якія не вярнуліся з вайны.

Васіль, як і раней, днём працуе для газеты. Ездзіць па калгасах, часта ў суседнія раёны. Амаль у кожным нумары газеты змяшчаюцца яго матэрыялы.

Мала мае радасці Васіль. Ён адзінокі. Баявых таварышаў няма. Не вярнуліся з вайны. Бывае, прыязджаюць з інстытутаў сябры. Іван Гарошык, Мікола Пішчык, Кузьма-Дзям’ян. Збіраюцца ў Васіля. Рогат стаіць на ўсю хату. Канчаецца тым, што складваюцца на бутэльку, а то і на дзве. Пра закуску клапоціцца Васілёва маці.

Хлопцы іншы раз успамінаюць дні акупацыі, свае справы, але гэта нікчэмная размова. Ніхто падпольнай групай не цікавіцца. Яе не толькі не збіраюцца зацвярджаць — нават слухаць пра гэта не хочуць. Што ж, пражывуць сябры і без прызнання іх небяспечнай патрыятычнай дзейнасці.

Ціхая, ласкавая стаіць восень. Узыходзіць, ярка свеціць не вельмі гарачае сонца. На падваконніках — чырвань памідораў. На стрэхах хлявоў даспяваюць гарбузы. Старадаўні сялянскі звычай не мінае мястэчка.

Носіцца ў празрыстым, чыстым, як шкло, паветры лёгкая павуціна. Раніцы з расой, прахалодай. Васіль нарэшце выбіраецца ў лес. Яму непрыемна ісці знаёмай дарогай. Бо на падыходзе да лесу, наўскрай невялікага балота высіцца невысокі пясчаны гарбок. На ім паспелі вырасці маладыя дрэўцы.

Тут брацкая магіла расстраляных фашыстамі местачкоўцаў. Васіль таксама мог ляжаць у гэтай магіле. Няма яго віны, што застаўся жывы. Аднак штосьці непрыемна-балючае ў душы варушыцца.

Зялёны абшар парадкам змяніўся. Хоць яшчэ пазнае Васіль лясныя мясціны. Але лес не той. На месцы прыгожага, са

стромымі меднастволымі соснамі бору, які немцы вынішчалі дзеля аховы чыгункі, падымаецца чарналессе. Альха, ляшчына, бяроза. Лес дзяцінства, юнацтва знікае.

Мала грыбоў у лесе. Ды і не шукае іх Васіль. Ён хоча дабрацца да пясчанай дарогі, якая вядзе з вёскі Макаў у мястэчка. Там ёсць мясціна, асабліва Васілю памятная.

Ён нарэшце выходзіць на пясчаны пагорак, атулены купчастымі соснамі. Калона немцаў, якая ў канцы жніўня сорак першага года рухалася з Макава на мястэчка, пад гэтымі соснамі адпачывала. Салдаты елі кансервы, пілі шнапс, нават газеты чыталі. Вось гэтыя газеты, праўдзівей, абрыўкі, падабраў Васіль позняй восенню сорак першага года. Спачатку ён не мог іх чытаць: мала ведаў слоў. Месяцы праз тры-чатыры, штудыруючы слоўнікі, граматыку, прачытаў пакінутыя салдатамі абрыўкі газет. Страшнае пісалася ў тых газетах...

Позняй восенню сорак трэцяга года, калі Чырвоная Армія разам з партызанамі (апошнія месяцы Васіль з Іванам Гарошыкам быў у атрадзе) вызваліла мястэчка, немцы ў Макаўскім лесе акапаліся. Абстрэльвалі мястэчка з гармат.

Нарэшце вайскоўцы і партызаны згаварыліся. Стварылі разведвальную групу па выяўленні пунктаў нямецкага супраціўлення. Васіль быў у той групе. Свой лес ён ведаў няблага. Патайнымі сцежкамі праводзілі мястэчкоўцы разведчыкаў да нямецкіх артылерыйскіх пазіцый. Пяць ці шэсць такіх мясцін яны разведалі, нанеслі на карту. Наша артылерыя іх накрыла. Парадзелая, змарнелая за час наступлення пяхота нарэшце захапіла вёску Макаў.

Наступны раз Васіль сустракаецца з Гэляй у Мазыры. Ён запрашае яе ў рэстаран, але яна адмаўляецца. Па людных вуліцах Гэля таксама хадзіць не хоча. Яны брыдуць на Кімбараўку, доўгую ўскраінную вуліцу, якая цягнецца ўздоўж Прыпяці.

На агародах узвышаюцца каржакаватыя дубы, іншыя дрэвы. Іх вершаліны ў першай асенняй пазалоце. Выгляд прыгожы. Асеннія малюнкі заўсёды кранаюць Васіля. Васіль ведае на Кімбараўцы чайную, у якой прадаюць не звычайнае піва,

а зялёнае. Мазыр славіцца півам: заводу, які яго вырабляе, здаецца, ці не сто гадоў. Васіль нават нарыс хацеў напісаць пра піўны завод.

Перад чайной невялікі натоўп. Няголеныя, з расхлістанымі каўнярамі мужчыны, корпаючыся ў кішэнях, дастаюць скамечаныя рублі і траячкі.

На здзіўленне Васіля, Гэля ад чайной не адмаўляецца. Яны заходзяць, знаходзяць у цёмным кутку трохногі столік, каля якога адна табурэтка. Афіцыянт — шустры хлапчына з адной рукой. Васіль сёе-тое шэпча яму на вуха. Афіцыянт імгненна выцірае стол, знаходзіць другі стул і нарэшце, лоўка віхляючы між сталоў, прыносіць на падносе два кухлі зялёнага піва, па паўшклянкі гарэлкі, селядца і хлеба на закуску.

Тыя, што сядзяць за сталамі, дымяць самакруткамі, нягучна размаўляюць.

— Мне тут добра,— гаворыць Гэля.— Я працавала ў шпіталі тры гады. З такім вось народам.

Ад гарэлкі Гэля адмаўляецца. Зялёнае піва, аднак, ахвотна п’е.

А ў Васіля ад выпітай гарэлкі кружыцца галава, хочацца, каб Гэля расказала пра сябе, пра сваю вайну, цяперашняе жыццё.

Нарэшце Васіль асмельваецца, пытае пра тое, як яна жыла, па-нямецку. Гэля здзіўлена да ўзрушэння. Нават шчокі румяняцца.

— Прабач,— гаворыць яна.— Па-нямецку не здолею адказаць. Хоць цябе разумею. Гэтыя гады не мела ніякай практыкі. Ты, здаецца, толькі пачынаў вучыць нямецкую мову перад вайной.

— Але была вайна,— Васіль працягвае гаворку па-нямецку.— У акупацыі хацеў ведаць, што робіцца на фронце. Навучыўся чытаць газету. На фронце трапіў у разведку. Хоць гаварыць па-нямецку не ўмеў. У двух палках ваяваў. У апошнім мы сядзелі на нейтральнай лініі і падслухоўвалі тэлефонныя размовы немцаў. Неяк прызвычаіўся да гаворкі. Кнігі чытаў, з немцамі размаўляў, калі вайна скончылася.

— У цябе была дзяўчына?

Васіль губляецца: пытанне нечаканае.

— Была немка. Падобная на цябе. Толькі чарнявая. Ты напісала: выйшла замуж...

— Не было замужжа. Звычайны ваенны раман. Ён — лейтэнант, тры месяцы ляжаў у шпіталі. Пазнаёміліся, ён паехаў на фронт. Праз месяц яго забілі...

Васіль не хоча слухаць пра незнаёмага лейтэнанта.

— Памятаеш: дала мне кнігу Гамсуна «Вікторыя»? У чырвонай вокладцы. Такую кнігу я знайшоў у Сілезіі. Нават у такой вокладцы.

— У мяне, здаецца, ёсць Гамсун. На нямецкай мове.

— Як называецца?

— Не памятаю.

— Дай мне. Хоць на час.

— Падарую табе. Чытай, калі падабаецца.

Хлебанарыхтоўкі ў разгары.

Абласная газета піша пра гэта на першай старонцы, друкуючы буйныя загалоўкі. Карэспандэнт Войцік здзіўляецца: на полі яшчэ стаяць аўсы, ячмені, грэчка, тым часам з вобласці ў раёны ляціць адна каманда:

— Давай, давай!.. Завяршым нарыхтоўкі да пятнаццатага жніўня!..

У засеках падмятаюць нават пасяўны матэрыял. Прыходзіцца здаваць нарыхтоўкі адным жытам. Навошта паспешлівасць? Хіба калгасы павязуць жыта і авёс у якуюнебудзь іншую дзяржаву?

Аднак каманду трэба выконваць. Як заўважае Войцік, сакратар райкама Бандарэнка на загады з вобласці рэагуе не надта. Не збіраецца здаваць у нарыхтоўкі адно жыта.

Паласу са свайго раёна: «Выканаем хлебанарыхтоўкі датэрмінова» Войцік арганізаваць не можа. Няма такога матэрыялу.

Яго пасылаюць у суседні раён, у Хвойнае. Там хлебанарыхтоўкі нібыта блізкія да завяршэння.

Раён своеасаблівы. Прылеглая да Прыпяці зямля лясістабалотная, пясчаная. Асаблівай урадлівасцю не вызначаецца. Затое астатняя, большая частка раёна амаль што стэп. Тут

сеюць пшаніцу, садзяць тытунь. Сюды нібы перавандравала суседняя Украіна (яна ляжыць за Прыпяццю) з яе тлустай урадлівай зямлёй. І вёскі тут вялікія: двароў па трыста-чатырыста, і пірамідальныя таполі-ясакары ёсць. Карацей, гэты ды яшчэ Брагінскі, Тураўскі раёны — жытніца Палесся.

Сам гарадскі пасёлак Хвойнае выглядае трохі ахайней, чым мястэчка, у якім жыве Войцік. Але гэта датычыць толькі цэнтра, бо ўскраіны пасёлка — звычайныя вёскі з саламянымі стрэхамі хат. Дый фактычна чыгуначнай станцыі няма ў Хвойным. Вёрст за пяць ад гарадскога пасёлка канчаецца чыгуначная ветка, якая вядзе з Васілёвага мястэчка, адгаліноўваючыся ад лініі Брэст — Гомель.

Маленькі пакойчык, які замяняе чакальную залу, буфет, білетную касу,— такая тут станцыя.

Куды пойдзе карэспандэнт, калі прыязджае ў раённы цэнтр? Перш за ўсё ў рэдакцыю раённай газеты, бо там можна не толькі сякія-такія навіны сабраць, але часам і пераначаваць.

Але ў гэтую рэдакцыю Войцік не ідзе. Бо абставіны неспрыяльныя. Рэдагуе газету нізенькі, нібы карлік, чалавечак, з тоненькім пісклявым галаскам, малымі дзіцячымі ручкамі і старэчым зморшчаным тварам. Пра сябе рэдактар, аднак, высокай думкі, хоць піша звычайныя шэрыя матэрыялы, густа перасыпаныя казёнными словамі.

Жанаты рэдактар-недаростак на дзябёлай, грудастай жанчыне, якая яго ў грош не ставіць. Залішне пільна заглядваецца рэдактарава палавіна на мужчын, што завітваюць у рэдакцыю, і, па чутках, амаль адкрыта жыве з участковым міліцыянерам, які кватаруе непадалёк. Недарослы пісака нібыта нават страляў у міліцыянера (кабуру з рэвальверам той забыў у рэдактарскай спальні).

Войцік кіруе ў раённую гасцініцу — драўляную, трохі скасабочаную хавіру з клетачкамі каморак-пакояў. Мажная, з залатымі зубамі загадчыца знаёмаму карэспандэнту адразу выдзяляе месца.

Далейшы клопат карэспандэнта: райкам. Менавіта ў райкаме скажуць, пра які калгас пісаць.

Войціку шанцуе. Не трэба далёка ехаць. Калгас, які найлепш здае хлебанарыхтоўкі, размешчаны побач з гарадскім пасёлкам.

Праз тыдзень у газеце паяўляецца паласа. Яна завяршаецца невялікім нарысам, падпісаным прозвішчам карэспандэнта. Для нарыса Войцік нават сюжэт прыдумаў. Ліў як з вядра дождж, а калгаснікі з незвычайнай стараннасцю выконвалі хлебанарыхтоўкі. Зерне сушылі на посцілках. Час ад часу паглядвалі на неба: калі ўжо спыніцца непагадзь.

Усе так пішуць, і Войцік піша. Ён шчыра спадзяецца, што справа пойдзе на лад. Вайна пачалася з паражэнняў, але яе ўсё-такі выйгралі. Краіна разбурана, вынішчана.

Войцік сам бачыць, як адбудоўваецца Мінск. Там вучацца і дзеці калгаснікаў. Хлеб краіне патрэбен, як паветра.

На другі дзень газета друкуе тэлеграму з Хвойнага: раён поўнасцю выканаў план хлебанарыхтовак. Так што Войцікава паласа якраз да месца.

У рэдакцыі пасмейваюцца.

— Думаеш, Бубчанка выканаў план? Ён яшчэ паўгода будзе выконваць. Паклікаў на дыван старшынь калгасаў, дырэктара «Заготзбожжа». Загад дырэктару: садзіся, пішы дакладную, што прыняў ад калгаса планавую колькасць збожжа. Загад і старшыням калгасаў: давайце распіскі, што ўзялі ў дзяржавы хлеб на захаванне.

Раён — нібы маленькая дзяржава. Тут ёсць пракурор, суддзя, міліцыя. Нават штосьці падобнае на турму ёсць. Над усім стаіць сакратар райкама. Што загадвае, падначаленыя выконваюць. Ніхто не запярэчыць. Бубчанка — бурбон. Высокага росту, касцісты, твар нібы з каменю высечаны. Ходзіць у напаўваеннай форме: гімнасцёрка, сінія галіфэ, наглянцаваныя да бляску боты. Да трох не лічыць.

За час газетнай работы Войцік пачаў сёе-тое заўважаць. Вобласць, раён, абкам, райкам — адно, калгасы, саўгасы, асабліва людзі, якія ў іх працуюць,— зусім другое. Ні адна самая звычайная пастанова вышэйшых улад ніколі дакладна не выконваецца. Яна, калі можна так сказаць, праходзіць праз народны фільтр, змяняецца, змяншаецца, а іншы раз настолькі зычачваецца, што яе нельга пазнаць.

Хіба толькі трапіцца дурань або ёлуп на пасадзе старшыні калгаса, які будзе са скуры вылузвацца, каб дакладна выканаць пастанову. І вышэйшае начальства тыя самыя сакратары райкамаў, на многае закрывае вочы. Абы толькі справа як-небудзь рухалася.

Так і з першай запаведдзю: выканай план хлебанарыхтовак і толькі тады раздавай хлеб на працадні. Але ў такім выпадку людзі з голаду папухнуць. Таму выкручваюцца старшыні калгасаў. Хто як можа. То авансы даюць, то нібыта размяркоўваюць ураджай мінулага года. Разумныя старшыні паціху калгаснікам сенакосы выдзяляюць, дазваляюць пожні касіць, а калі зерне сушыцца ў хатах на посцілках, не вельмі лічаць кілаграмы.

Бяда балотных раёнаў — кок-сагыз. Яшчэ людзі хлеба не наеліся, а ўжо поўзаюць па балоце жанчыны па два-тры разы за лета, праполваючы далікатную, падобную на малачай раслінку, кок-сагыз — каўчуканос. Каўчук патрэбен аўтамабільным, трактарным заводам, каб адзець колы машын у гуму. І поўзаюць калгасныя жанчыны па мокрым балоце, рэжучы рукі аб асаку, абпальваючы крапівой. Ніякай тэхнікі для пасеву, праполкі, уборкі каўчуканоса няма.

Хітраватыя старшыні калгасаў сітуацыю выкарыстоўваюць для сваёй карысці. Калгас не можа атрымаць прыбытак ні ад здачы збожжа, малака, мяса. Кок-сагыз, аднак, прыбытак дае. Такім шляхам калгасы, якія сеюць каўчуканос, выплочваюць зняможаным жанкам хоць нейкія грошы.

Упершыню за пасляваенны час па раёнах наладжваюцца сельскагаспадарчыя выстаўкі.

Арганізоўваецца такая і ў мястэчку, дзе жыве Войцік.

Год выдаўся харошы: лілі дажджы, нідзе нішто не высахла і не вымакла. Нават на пясках жыта, ячмень далі добры ўраджай.

Сельскагаспадарчая выстаўка ў агромністым — нібы хлеў пажарнай каманды — раённым Доме культуры, перабудаваным з царквы. Чаго толькі не прывезлі ў раён вакольныя калгасы, саўгасы. Асобныя экспанаты проста выдатныя. Снапы жыта вышэй чалавечага росту, пшаніца з надзвычай буйным — нібы

свечка — коласам, залацісты — з галоўкамі-званочкамі лён, налітыя салодкім сокам чырванабокія яблыкі, слуцкія бэры, кожная з якіх велічынёй з кулак, і нават такія агромністыя гарбузы, якіх аднаму чалавеку, мабыць, не падняць.

Агледзеўшы выстаўку, можна падумаць: багата жывуць калгасы. Толькі Войцік ведае: не так гэта. Проста ў кожным калгасе, якім бы бедным ён ні быў, што-небудзь адметнае ёсць. Так што з кожнага па нітцы — і голы будзе ў світцы.

Абласным кіраўнікам, сярод якіх ёсць і рэдактар абласной газеты Тужык, раённае начальства, пыл у вочы пускаюць добра.

У другой палавіне дня раённае кіраўніцтва наладжвае ў сталовай таварыскі абед. На абед запрашаюць і Войціка. Вось тады да свайго карэспандэнта і падыходзіць рэдактар Тужык.

— Ведаеш,— гаворыць неяк сарамліва, ніякавата,— са мной жыве цешча. Яна вельмі любіць аўсяны кісель. Але ў горадзе — сам ведаеш — аўса не купіш.

— Аўсяны кісель называецца жур,— чамусьці тлумачыць карэспандэнт, які паспеў трохі выпіць і ў якога кружыцца галава. Ён не зусім упэўнены, што купіць дзе-небудзь авёс, і ў той жа час яму прыемна, што з ім размаўляе абласны рэдактар і ўсе гэта бачаць.

— Куплю,— гаворыць Войцік.— Пастараюся...

— Толькі, калі ласка, не залазь у калгаснае. З якой-небудзь звеннявой пагавары. Каб прадала з асабістых запасаў.

— Авёс на прысядзібных участках не сеюць. Бульбу садзяць,— пярэчыць Войцік, адваёўваючы сабе права на свабоду дзеяння.

— Глядзі сам,— нарэшце здаецца рэдактар.— Толькі каб было чыста.— Пры гэтым ён непрыкметна дае Войціку дзве сторублёвыя паперкі.

Размову падслухоўвае або проста здагадваецца аб яе змесце старшыня балотнага калгаса «Прамень камунізму» Мігай, высокі, перахлябісты, са зладзеяватымі мільгатлівымі вачамі.

— Можа, што трэба? — Мігай нібы з-пад зямлі вырастае.— Я маю на ўвазе твайго рэдактара.

Войцік стаіць у замяшанні. Тое, што Мігай жулік, прайдзісвет, яму вядома. Але ж сам набіваецца. Як яму не верыць?

Войцік напаўголаса гаворыць Мігаю пра авёс.

— Браток ты мой! Зраблю. Прыходзь паслязаўтра да пункта «Заготзбожжа». У дванаццаць гадзін. З калгаса прывязём нарыхтоўку і твой авёс прыхопім.

Войцік вымае з кішэні грошы. Мігай проста выхоплівае іх з рук і кідаецца за дзверы. Баль выдыхаецца, бо начальства выдзеліла толькі па сто пяцьдзясят грамаў гарэлкі на чалавека. Мігай хутчэй за ўсё і пабег за гарэлкай.

Праз дзень у вызначаны час Войцік вандруе каля базы «Заготзбожжа». З калгаса «Прамень камунізму» ёсць аўтамашына, некалькі фурманак, але ніякага аўса яны не прывезлі.

Так паўтараецца на трэці, чацвёрты, пяты дзень... Войціку абрыдла бryндаць ля разложыстай, пабудаванай з сасновага цёсу базы «Заготзбожжа».

Мінае другі, затым трэці тыдзень. Мігай яўна забыў пра абяцанне. Ці хутчэй за ўсё не збіраецца яго выконваць.

Судзяць раённага бургамістра Шонкуса, фольксдойча. Судзіць у Мазыры ваенны трубунал, бо хоць Шонкус і не мае ваенных чыноў, але ён быў бургамістрам у час акупацыі, гэта значыць, у ваенны час.

Выклікаюць толькі сведкаў. Але ў Мазыр едзе многа людзей, якіх ніхто не выклікаў. Яны хочуць абараніць былога бургамістра. Бо ён добры чалавек, многіх выбаўляў з бяды.

Ён і Васіля Войціка выбавіў. Цэлы год Васіль нідзе не працаваў, і толькі на другім годзе акупацыі прыйшлося падумаць пра работу. Бо пачаўся набор моладзі ў Германію. У іх сям’і тры хлопцы, Васіль старэйшы, і яму шапнулі, што воласць запісала яго ў спіскі.

Трэба было падумаць пра выратаванне. Васіль належаў да падпольнай групы і без яе дазволу не мог паступіць ні на якую работу. Двойчы ён упрошваў Сымона Баравіка, кіраўніка іх групы, каржакаватага хлопца, няўдалага партызана, які вярнуўся з лесу, дазволіць паступіць на работу. Два разы Сымон адмаўляў. Згадзіўся толькі на трэці раз. Нават параду даў.

— Паступ ў пашпартны стол ці ў воласць. Каб дакументы падрабляць.

Ні ў пашпартны стол, ні ў воласць Васіль не трапляе. Ён падае заяву бургамістру Шонкусу. У апошнім сказе, напісаным па-нямецку (каб не нарабіць памылак, ён спісаў гэты сказ з самавучыцеля), нават выказвае павагу да высокай пасады бургамістра.

Шонкус накіроўвае Войціка ў фінансавы аддзел страхавым агентам. Што ж, страхоўка — рэч не палітычная, шкоды Васіль не наробіць.

У той дзень, калі Васіль паступае на работу, ён адвозіць на веласіпедзе на ўскраек лесу самаробную міну (кілаграмы тры аманалу, зашытыя ў рукаў жаночай кофты). Хлопцызмоўшчыкі маюць намер узарваць масток, размешчаны якраз у тым месцы.

Праз месяц Васіля арыштоўваюць. Яго прозвішча назваў Сымон Баравік, арыштаваны раней. Сымон не сказаў ні пра зброю, ні пра міну, а толькі пра прыёмнік, месцазнаходжанне якога нібыта ведае Васіль.

Радыёпрыёмнік знаходзяць у настаўніка, Сымонавага суседа. Васіль апраўдваецца тым, што чытае нямецкія газеты і пераказвае навіны сябрам. Але памаглі, відаць, не столькі Васілёвы апраўданні, колькі бургамістр Шонкус. Бо ў Васіля нават вобыску не рабілі. Каб зрабілі — знайшлі б вінтоўку. Тады б і Шонкус не памог.

Войцік дачуваецца: ваенны трыбунал прысуджае Шонкуса да васьмі гадоў зняволення. Паліцэйскім, іншым нямецкім памагатым даюць па дваццаць пяць гадоў, а бургамістру раёна — толькі восем. Значыць, нездарма ездзілі ў трыбунал людзі з многіх вёсак раёна ў якасці добраахвотных сведак.

Суд над Шонкусам як бы адкрывае Войціку вочы на некаторыя рэчы. На свеце ёсць самыя жорсткія рэжымы, якія падаўляюць, прынявольваюць чалавека, яго правы, свабоды. Тым часам законы, пастановы пішуцца на самым версе, а выконваюцца шэрагам вялікіх, меншых і самых малых начальнікаў, ад кожнага з якіх штосьці залежыць.

Шонкус, як мог, шанаваў людзей. Сакратар райкама Бандарэнка таксама шануе. Не імкнецца выканаць хлебанарыхтоўкі

адным жытам, не загадвае ў калгасах падчышчаць засекі, карацей кажучы, неяк спрыяе простым людзям, жыць якім вельмі нялёгка. Хоць адкрыта пра гэта не гаворыць.

У раёне няма судоў за невыкананне плана лесанарыхтовак, здачы льну, за зрыў розных кампаній. Бо ёсць Бандарэнка.

Бандарэнка не выпінаецца, не імкнецца да славы, не прыніжае людзей. Яго хваляць. Лаюць жонку, якая прыкрывае загадчыка спажыўсаюза Хаскіна.

Бандарэнка не адзін. Ёсць і другія кіраўнікі, у іх ліку старшыні калгасаў, сельсаветаў, якія не кідаюцца на злом галавы выконваць любое рашэнне, прысланае зверху. Бо пастаноў многа. Скажам, пачынаецца кампанія па ўздыме жывёлагадоўлі. Аб ёй крычаць на пленумах, сходах актыву, пішуць рэспубліканская, абласная, раённая газеты. Затым кампанія заглухае, бо паспявае новая. Так ідзе жыццё.

Войцік ведае: раён ніколі не выконвае план па ўсіх паказчыках. Па тых самых яйках, шэрсці, вывазцы лесу, рамонту дарог. І нічога — сходзіць.

Паездзіўшы па другіх раёнах, Войцік як бы пачынае адчуваць душу Палесся. Магутны край з адметнай прыродай, своеасаблівымі малюнкамі мясцовасці, характарамі людзей, мовай.

Цяпер Войцік студэнт трэцяга курса філфака. Ён лёгка ловіць старажытныя, якія ў астатняй Беларусі адышлі ў нябыт, граматычныя формы, а на Палессі яшчэ бытуюць. «Чым жа я дзяцей карміцьму»,— скажа паляшук, і гэты выраз, што абазначае складаны будучы час («маю карміць»), гучыць зусім натуральна.

На Палессі кароў называюць таварам: выраз гэты вядзе да старажытных часоў, калі менавай адзінкай была карова («Гаспадару, гаспадару, ці падаваў тавару? Я тавару падаваў ды ўжо і вілы пахаваў» ).

Няма на Палессі «гэта» і «гэна», ёсць «ета», замест «есць» гавораць «іе», балотны лес называюць жары, што блізка да літоўскага «гірыс». Ёсць дыфтонгі, украінізмы, русізмы, але ў аснове палеская гаворка беларуская, толькі з большымі адмецінамі старажытнасці.

Мазырска-Рэчыцкае Палессе мае нямала рысаў, якія яднаюць яго з астатняй Беларуссю. Гэта не суцэльная, як некаторыя думаюць, нізіна, прорва. Бо нямала тут узгоркаў, узвышшаў, добрых лесавых або суглінкавых глеб.

Сам Мазыр стаіць на правым высокім беразе Прыпяці, узнятым над узроўнем мора на 129 метраў. Васілёва мястэчка яшчэ вышэй уздымаецца — на 140 метраў. Вось вам і нізіна!..

Васіль для выканання курсавой работы па дыялекталогіі выбірае вялікую з сагнутай, нібы падкова, вуліцай вёску Пясчаная Слабада. Дзіўная гэта Слабада. Ляжыць на гліністым касагоры, атуленая балотамі, ніцымі хмызамі. Хлеба пясчаная зямля дае мала, затое асакі, што расце на вялізным балоце,— бясконцае мора. Вяскоўцы косяць асаку, кормяць маленькіх, нібы козы,— кароў і сяк-так жывуць.

Вёска ляжыць пры шашы, і тут любяць запыняцца шафёры. Вячэрай Пясчаная Слабада не накорміць, затое кахання дасць колькі хочаш. Калі ў шафёра ёсць паўлітэрка і сякая-такая закусь, то пераначуе ён добра. На ложак побач з ім ляжа шустрая ўдоўка або нават маладая дзеўка.

Першы дзень Васіль апытвае пастуха, які выгнаў статак на пашу. Пастух трохі прыдуркаваты. Ад Васілёвых пытанняў (размаўляюць яны гадзін шэсць) проста чмурэе. Не рад быў сотні, якую дае Васіль ва ўзнагароду.

Васіль змяняе тактыку. Начуе ў знаёмага лесніка, днём ходзіць па хатах, размаўляе.

Дзіўная мова ў Пясчанай Слабадзе. Чуецца выразнае оканне, не ўласцівае беларускай мове. («Товарыш старшыно, вокы ж я работнік, штоны порваліса, і постолы стоптоў...»)

Вяскоўцы называюць сябе «старымі людзьмі». Васіль дапускае: жыхары — стараверы, яны за некалькі пакаленняў забылі рэлігію, а ў гаворцы дзіўна спалучылі асаблівасці рускай, беларускай і ўкраінскай моў. Канчатковага вываду студэнт-завочнік не робіць: не хапае ведаў.

Побач з Пясчанай Слабадой Вялікія, Малыя Лемцюгі. Сядзяць на такой жа, як Пясчаная Слабада, няўдобіцы, і гаворка іх падобная. Над жыхарамі гэтых сёл пацяшаецца ўся навакольная акруга. Вельмі адмыслова глядзяць на свет

і гавораць. Проста лемцюговец ніколі не адкажа. Абавязкова з закавыркамі, хітрыкамі, часам нават дурнем прыкінецца. Пытае ў яго, напрыклад, які-небудзь чужы чалавек: «Як жывеш?» — «Жыву, браце, як і ты: роўна дваццаць чатыры гадзіны ў суткі».

На тым, хто пытае, можа быць добрае паліто, боты або туфлі, тым часам лемцюговец у падбітай ветрам світцы, лапцях, шапцы-аблавушцы. Аднак гонару не губляе.

Вёска — нібы асобная дзяржава. Таму Васіль любіць вандраваць па вёсках. Нават начаваць у іх. Штосьці адметнае пабачыш, адчуеш у кожнай: як хаты стаяць, як размаўляюць людзі, малюнак, настрой самой мясцовасці.

Мястэчка, у якім жыве Васіль, не зусім мястэчка. Вялікае сяло, якое лічылася казённым, не ведала прыгону. У канцы мінулага стагоддзя праз паселішча пралягла чыгунка. Ды яшчэ пяхотны генерал Жылінскі асушыў тысячы дзесяцін прылеглых дрыгвяністых балот. Лепей стаў расці лес, балотныя лугавіны давалі добрае сена.

Чыгуначная станцыя адразу робіцца важным перавалачным пунктам. У сваім росце казённае сяло абганяе бліжэйшыя мястэчкі. Бо што ёсць у мястэчку? Кірмаш, царква, валасная ўправа, школа, некалькі яўрэйскіх крамаў.

Усё гэта вельмі хутка паяўляецца ў казённым сяле. І нават нешта большае: гасцініца, гідраметэастанцыя, іншыя ўстановы. Ганчары на нядзельныя базары прывозяць фуры глінянага посуду. Бондары выстаўляюць бочкі, дзежкі, ражкі, маслабойкі.

Усё можна купіць на местачковым нядзельным базары: карову, каня, свінчо, якога хочаш мяса, сала, сушаных грыбоў, ягад, садавіны, агародніны, лыкавыя лапці, боты і шмат што іншае.

Цяпер базар трохі змізарнеў, бо занепадаюць рамёствы. Хоць яшчэ па нядзелях шуміць базарная плошча. Рубшчыкі на шырокіх калодах сякуць мяса. Сала прадаецца доўгімі шматамі. Ёсць яшчэ ягады, сушаныя грыбы, розныя лекавыя зёлкі.

Васіль нават касцюм купляе на базары. Другі ў жыцці. Першы купіў да вайны бацька.

Касцюм трохі падношаны і пашыты на волата. Але выбіраць не прыходзіцца: у магазінах такіх рэчаў яшчэ не прадаюць. Касцюм шэры, у клетку, матэрыял выдатны: называецца «метро».

## III

Гэля зноў прыязджае ў мястэчка. Завітвае ў райана, паколькі працуе ў абласным аддзеле народнай асветы. Гэля нейкая ўзрушаная, знерваваная. Пастаялі хвіліну каля будынка райвыканкама, трохі пагаварылі, і Гэля паспешліва развіталася. Штосьці ў гэтай паспешлівасці Васілю не падабаецца.

Вечарам Васіль чакае Гэлю на станцыі.

Вечар асенні, з дажджом, пранізлівым ветрам. Вецер зрывае жоўтае лісце таполяў, сцеле пад ногі. Увесь сквер засланы дыванам жоўтай лістоты.

У чакальнай зале Гэлі няма. Васіль зазірае ў буфет, заказвае сто пяцьдзясят грамаў гарэлкі, кухаль піва. Нібы прадчувае, што размова з Гэляй будзе нялёгкая.

Нарэшце Васіль выходзіць з буфета. Гэлі ў зале і цяпер няма. Ён знаходзіць яе пад казырком бляшанага навеса над ганкам чакальнай залы. У няпэўным святле электрычнай лямпачкі Гэлін твар здаецца спакутаваным, пад вачамі цёмныя кругі.

— Гэля, што здарылася?

— Нічога не здарылася. Цэлы месяц не паказваешся ў горадзе. Не забывай: мне цяжка. Я зусім адзінокая...

— Вінават, Гэля. Даруй. Буду званіць. Прыеду...

— Калі прыедзеш?

— Праз тыдзень. Я ж не проста прыязджаю: выклікаюць.

Прыбывае цягнік, і Гэля ідзе да вагона. Развітваюцца моўчкі, нібы адчужана. Гэля махае рукой з тамбура, ідзе ў вагон...

Васілю раптам робіцца сорамна. Год як яны аднавілі знаёмства. Зрэдку сустракаюцца, размаўляюць. І ўсё. Васіль заняты работай, вучобай. Што Гэлі застаецца? Выпадковыя, рэдкія сустрэчы. Васілю Гэля падабаецца па-сапраўднаму. Ён згодзен з ёй ажаніцца. Трэба сказаць ёй аб гэтым.

Праз тыдзень Васіль у Мазыры. Сустрэча з Гэляй такая ж бязрадасная, як і ў мястэчку. Не хоча Гэля ісці з Васілём ні ў тэатр, ні ў кіно. Нават адмаўляецца наведаць шалман на Кімбараўцы, дзе яны пілі зялёнае піва.

Васіль памкнуўся пагаварыць пра жаніцьбу. Гэля і слухаць не хоча. Васіль пачынае злавацца. Што ёй трэба? Мела ж раман, няхай ваенны. Дык чаго тут ламаецца?..

Не паспеў Васіль зблізіцца з Гэляй, а ўжо разлад. Трэба набрацца цярпення, чакаць.

Васіль просіць рэдактара, каб яго тыдзень не турбавалі. Хоча паехаць у суражскія лясы, аж пад Беразіну. Можа, панылы настрой развее і сякі-такі матэрыял збярэ.

Васіль любіў Алесю. Ён і цяпер не можа думаць пра яе спакойна. Можа, гэта адчувае Гэля? Але да Алесі Васіль не вернецца. Ніколі. Ні пры якіх абставінах. Ёсць адзіная жанчына, з якой ён адчувае сябе добра і роўна. Гэля. З ёй тым часам робіцца нешта незразумелае. Васіль адчувае: ёсць нейкая пабочная прычына, пра якую ён не ведае. Застаецца толькі чакаць...

Васіль надрукаваў у газеце некалькі крытычных заметак аб рабоце мясцовага леспрамгаса. Тым не меней за дапамогай ідзе ў леспрамгас. Бо хто іншы падкіне яго ў суражскія лясы?

Дырэктар леспрамгаса, прыветлівы, сярэдняга веку чалавек, у мінулым партызан, пасміхаецца:

— Завязі цябе ў лес, а ты зноў навядзеш на нас крытыку.

— На гэты раз пашукаю добрага матэрыялу. Хачу напісаць пра лесарубаў.

І вось Васіль сядзіць у кабіне магутнага лесавоза, пазіраючы з яе на навакольныя мясціны. Панылы шэры зазімак. Асабліва непрыглядны малюнак у балотных вёсак. Ніцыя лозы, алешнік. Чорны тарфянік з зялёнымі плямамі азіміны.

Калісьці і тут былі лясы. Меднаствольныя сасновыя бары на пясчаных выспах, па больш нізкіх мясцінах — дубовыя гаі. Даўно няма тых бароў і гаёў. Пры выпадку Войцік распытвае старэйшых людзей пра мінуўшчыну. Ён памятае прозвішчы навакольных, не надта багатых памешчыкаў, якія пасля адмены прыгону разараліся, прадавалі лясы. Купцы-

браты Равіковічы гэта выкарысталі. Лясы вынішчылі. Самі сталі нібыта мільянерамі, куплялі ў гарадах шматпавярховыя камяніцы.

Пасля знікнення ляснога покрыва рушылі ў наступленне пяскі. Некалькі вёсак — Залукі, Уюны, Хатнікі — засталіся амаль што без ворнай зямлі.

Васіль ведае гэтыя вёскі з партызанскіх часоў. Дзве першыя, хоць немцы іх не спалілі, выгляд маюць убогі. Пахілыя, струхлелыя хаткі, такая ж някідка-жабрацкая астатняя забудова.

Перад вайной пачалося наступленне на балоты. Нават героі балотнай эпапеі з’явіліся, іх прозвішчы, партрэты друкаваліся ў газетах.

Асушаныя балоты асабліва не палепшылі дабрабыт жыхароў. Трэба мінеральныя ўгнаенні, а іх мала. Дый апрацоўка тарфянікаў не на належным узроўні.

Панылыя тарфянікі скончыліся. Падмерзлая дарога прама вядзе ў суражскія лясы. Бары выдатныя. Гладкія медностволыя сосны сягаюць вершалінамі ледзь не да аблокаў. Адзін лясны масіў змяняецца другім. Толькі новая бяда. Скора лягуць пад бензапіламі лясныя прыгажуні. Бо ў астатніх мясцінах яны ўжо ляглі. Лес ідзе ў Данбас на рудстойку, на аднаўленне беларускіх гарадоў і ў тым ліку Мінска. Не надта відныя, прыземістыя хаткі на месцы спаленых вёсак таксама выбудаваны з мясцовага лесу.

На развілцы дарог, адна з якіх вядзе ў Сураж, другая — на пляцоўкі лесараспрацовак, Васіль просіць шафёра спыніцца. Ён маніў пра лесарубаў. На самай справе не хоча глядзець, як яны пілуюць, кладуць на зямлю гонкія, стромкія сосны. Да Суража кіламетраў дзесяць. Дойдзе да Суража пешкі.

Неба шэрае, і дзень шэры. Краявід тым часам прыгожы. Стаяць нечапаныя сякерай бары. Мясцінамі перабіваюцца чарналессем, лазовымі зараслямі. Але ўзгоркаў болей, чым балацянак. Чуваць, як стукаюць па струхлелых суках дзятлы, як шчоўкаюць, разбіваючы крывымі дзюбамі шышкі, клясты, што не толькі не вылятаюць у вырай, у цёплыя краіны, а ў тутэйшых лясах нават у траскучыя маразы выводзяць птушанят.

На слупе вісіць указальнік — «Шчолкавічы. 2 км». У Васіля іскрай у памяці: да вайны ў Шчолкавіцкім лясніцтве працаваў ляснічым бацька Алесі Малейкі. Ісці не ісці? Васіль доўга не вагаецца: трэба ведаць вёскі. Тым болей што Шчолкавічы — шляхецкі засценак. Як і суседняя з ёй вёсачка Асавец.

Можа, і Алеся шляхцянка? Васіль чамусьці аб гэтым не думаў.

Два кіламетры — гэта толькі напісана так. Васіль адбіў добрыя чатыры, а вёскі не відаць. Нарэшце лес расступаецца, і ён бачыць рэдзенькі ланцужок хат, шэрых, някідкіх. Шчолкавічы былі спалены, і гэта ўжо не тая вёска, у якой нарадзілася, жыла Алеся.

Пасярод размешчанага сярод лесу паселішча тоўсты, са зламаным верхам дуб з буслянкай на камлі. Каля яго вялізная гара наколатых дроў. Не плашак, не стоек, а іменна дроў, якія можна адразу закідваць у печ. Відаць, лясніцтва прадае дровы і такім шляхам паляпшае бюджэт.

Шчолкавічы — вёска, у якой жыве шляхта. Над шляхтай пасмейваюцца: маўляў, спіць на саломе, затое пярынай накрываецца.

Васіль завітвае ў першую хатку. Просіць напіцца. Старая, маршчыністая бабулька зачэрпвае меднай конаўкай ваду з драўлянага вядра, падае Васілю.

Ні пярыны, ні саломы не відаць. Вялікая печ, за печчу палок, засланы дзяружкай. Стол, дзве самаробныя табурэткі, на покуці абразы пад белай наміткай. Звычайная хатка.

Наступная вёска, якую завуць шляхецкай, Асавец. Таксама стаіць сярод лесу і таксама спалена. Хаткі тут, аднак, выглядаюць лепш: на вокнах белыя фіранкі. У адным месцы на плоце нават пярына сушыцца. Усё як трэба.

Васіль з сумам адзначае: не ведае ён гісторыі роднага краю. Яе ў школе зусім не вывучалі. Ва ўніверсітэце чорны, высокі, надзвычай баявіты выкладчык з дзіўным прозвішчам Абэвэгэдэцкі гадзін дзесяць чытаў «Гісторыю Беларусі». Выкладаў на манер катэхізіса. Сам сабе задаваў пытанне і на яго адказваў. Напрыклад, «Што сабой уяўляла Люблінская

унія 1569 года? Унія 1569 года азначала поўнае закабаленне літоўскага і беларускага народаў польскай шляхтай».

Ніякіх падручнікаў ці матэрыялаў па гісторыі Беларусі няма. Студэнты слова ў слова запісваюць тое, што дыктуе Абэвэгэдэцкі, і гэтак жа адказваюць.

Каго прыгнятала бедная шляхта ў засценках Шчолкавічы і Асавец? І як яна наогул тут апынулася? На гэтыя пытанні студэнт і карэспандэнт Войцік адказаць не можа. І пачытаць няма дзе.

Увогуле мінуўшчынай Беларусі Васіль цікавіцца. Калі бывае на сесіях і надараецца магчымасць, то не праміне выпадку завітаць у Ленінскую бібліятэку. Ён трымаў у руках «Живописную Россию» Адама Кіркора, а таксама том Сямёнава-Цяншанскага. Прачытаў раздзелы пра Палессе. Толькі вельмі мала пра родныя мясціны напісана.

Снежаньскі дзень кароткі. У вялікае, з некалькімі вуліцамі сяло Сураж Васіль прыходзіць прыцемкам. Сяло таксама атулена лесам і таксама спалена, толькі завулак, у якім размяшчаецца школа, нейкім цудам ацалеў.

У Суражы не звычайная сямігодка — сярэдняя школа. Растучая. Сёлета, здаецца, і дзясяты клас ёсць.

Будынак школы цёмнай гарой узвышаецца на ўскрайку лесу. На фоне засланага хмарамі неба чарнеюць шаты хвой. У пакоях гарыць святло. Значыць, ідуць заняткі.

З дырэктарам школы Мікалаем Карлавічам Сакалоўскім Войцік знаёмы. Арганізоўваў яго артыкул як сакратара тэрытарыяльнай партарганізацыі. Ён не так даўно быў змешчаны ў абласной газеце. Вядома, артыкул напісаў Войцік. Сакалоўскі толькі сёе-тое расказаў, ды і то спехам, похапкам, у перапынку паміж паседжаннямі партыйнага актыву. Запрашаў прыехаць у школу.

— Вось і карэспандэнт завітаў у нашу глуш,— гэткімі словамі дырэктар школы вітае Войціка і моцна цісне яму руку.— А я толькі з раёна прыехаў. Ты хоць ведаеш, што грашовая рэформа аб’яўлена?

— Не ведаю.

— Твой аклад які?

Войцік называе.

— Здаецца, табе трохі прыбавяць. Хлебныя грошы. Наяўнасць ёсць?

Войцік пасміхаецца. Ёсць наяўнасць. Васямнаццаць рублёў.

— Слабыя мы з табой буржуі. Будзем вячэраць.

Кватэрка ў Сакалоўскага пры школе. Два невялікія пакойчыкі. У пярэднім пакоі печ, кухня, палок. У другім, дзе яны стаяць, стол, паліца з кнігамі, кушэтка, два крэслы. Сакалоўскі сам завіхаецца каля стала.

— Прабачай, зробім па-халасцяцку. Жонка да дачкі паехала. У Гомель.

Дырэктар стукае кулаком у сцяну. Праз некалькі хвілін у пакой заходзіць высокі чарнявы хлапчына. Твар нібы знаёмы, але пазнаць хлопца Войцік не можа.

— Сакалоўскі,— падаючы руку, называе сябе хлапчына.— Сяргей Іванавіч. Ні брат, ні сват дырэктару. Аднафамільцы...

Сакалоўскі-дырэктар ставіць на стол паўлітэрку, раскладвае нажы, відэльцы.

— Ты мяне не пазнаў,— Сакалоўскі-малодшы глядзіць у твар Войціку.— Помніш, вясной сорак другога года да цябе ў мястэчка прыходзілі два хлопцы. Адзін твой родзіч. Другім быў я... Я цябе і ў партызанах бачыў...

Васіль імгненна ўспамінае. Так, былі ў яго два хлопцы. Ягоны родзіч і гэты чарнявы. Ён і родзіча тады пабачыў упершыню, нават у хату не заходзілі. Пагаварылі, стоячы на двары, і пайшлі. Прасілі батарэй да радыёпрыёмніка. Батарэй яны, местачковыя змоўшчыкі, тады самі не мелі.

— Дзе Данчук? — з цяжкасцю ўспамінаючы прозвішча сваяка з Дубровы, пытае Войцік.

— Быў у партызанах. Паехаў у Бранскую вобласць. Там нейкая радня засталася. Бо тут ён быў адзін як палец...

— Давайце, хлопцы, возьмем па чарцы,— заклікае дырэктар.— Сядайце, дзе хто хоча. На тым тыдні прыязджала з аблана дзяўчына. Дарэчы, добрая знаёмая... Яна яшчэ тады сказала пра змены, якія я сёння пачуў...

Пры апошніх словах дырэктара сэрца ў Войціка калоціцца, нібы птушка, што трапіла ў сіло.

Сакалоўскі-старэйшы паведамляе навіны. Настаўнікам павысяць зарплату. Пайкі мукой адмяняюцца. Пасля грашовай рэформы продаж хлеба свабодны. Толькі цана на хлеб павышаецца. Залішне высокай камерцыйнай цаны на хлеб не будзе.

— Напакутуемся,— гаворыць маладзейшы Сакалоўскі.— Дзе ў нас тут пякарня. У Рэчыцу прыйдзецца ездзіць.

— Не прыйдзецца. Быў у райкаме. У Западах адкрыецца пякарня. МТС аддае будынак. Абяцае печ пабудаваць. Хлеб патрэбен усёй акрузе. Ну, месяц-два павозім хлеб з Рэчыцы.

Войцік хоча запытаць пра Гэлю Машчынскую. Бо менавіта яна нядаўна прыязджала ў раён. Ды на лаўца і звер бяжыць.

— Машчынскую я зноў запрашаў у школу,— паведамляе дырэктар, звяртаючыся да маладзейшага Сакалоўскага.— Цяжка ёй у Мазыры. Бацька, маці загінулі. Выкладала б у нас. Абяцала падумаць. Хоча скончыць настаўніцкі інстытут...

Войцік, не таячыся, заяўляе:

— Я ведаю Машчынскую. Працавала ў мястэчку бібліятэкаркай. Мяне вучыла. Бо, канчаючы школу, я працаваў культработнікам у леспрамгасе. Там бібліятэка была.

— Тут, браце, доўгая гісторыя. За вечар не раскажаш. Ды не ўсё трэба расказваць. Карацей, у канцы вайны я трапіў у шпіталь. У Польшчы, на мяжы з Германіяй. Там старшай медсястрой служыла Гэля. Вось там мы пазнаёміліся. Я ў тым шпіталі вайну скончыў. Зрашацілі мяне за вайну парадкам. Тры раненні. На фронт болей не пусцілі.

— Гэля замуж выходзіла?

Дырэктар запытальна глядзіць на Войціка.

— Ты і гэта ведаеш. Можа, я дарэмна язык развязаў. Ты ж, здаецца, быў на фронце. Загсаў там не было. Бывала: камандзіры часцей ці начальнікі штаба сваёй уладай выдавалі шлюбныя пасведчанні. Да Гэлі падкаціўся, па-мойму, звычайны прайдзісвет. Бабнік. Пажыў з ёй, пакуль выпісалі са шпіталя. Потым з яго часці прыйшло пісьмо: загінуў. А ён у тылавой часці служыў. Як мог загінуць?

У Войціка нібы крыллі вырастаюць. Робяцца зразумелымі паводзіны Гэлі. Баіцца зноў трапіць у рукі ветрагона. Але які з яго, Войціка, ветрагон?

Начуе карэспандэнт у настаўніцкай. Так ён сам захацеў. Ён рады, што адчувае пах школы. Вее чымсьці родным, блізкім, што ён патроху пачаў забываць. На сценках табліца Мендзялеева, расклад урокаў, графікі заняткаў гурткоў.

Кушэтку падсунулі да цёплай грубкі. За акном махае разлапістай галінай сасна. У грубцы трохі падвывае вецер. Даўно Войцік так добра не начаваў.

Упершыню да Войціка прыходзіць сумненне. Ці правільна ён зрабіў, што стаў карэспандэнтам. Носіцца па калгасах, саўгасах і бачыць, чуе толькі водгаласы падзей. Бо сур'ёзна такім шляхам жыццё не вывучыш. Мог бы стаць настаўнікам, як вось гэты малодшы Сакалоўскі. Жыў бы ў лясной вёсцы, вывучаў характары, норавы людзей. Як Лабановіч з «Палескіх аповесцяў» Якуба Коласа. Потым што-небудзь, можа, напісаў бы.

У Войціка, калі вярнуўся з арміі, была нават думка пайсці ў рамонтную брыгаду, у якой ён працаваў на канікулах да вайны. Але ён адкінуў гэтую думку. Праца рамонтніка цяжкая дый плацяць не надта. Наўрад ці здолеў бы ездзіць з брыгады на завочныя сесіі.

Хоць і настаўніку нялёгка. Сама мала тры-чатыры ўрокі на дзень. А яшчэ сшыткі, гурткі, работа агітатарам.

Дзень павандраваў Войцік па вёсцы, завітаў-такі на лесапрацоўкі, сёе-тое запісаў у блакнот.

Начаваў ён на гэты раз у настаўніка Сакалоўскага. Той жанаты, мае малых хлопчыка і дзяўчынку і вясёлую, жвавую, падобную на ластаўку жонку. Пабудаваў невялікую, на два пакойчыкі, хатку. Мясцовы жыхар.

За вячэрай выпіваюць па шклянцы добрай хлебнай самагонкі.

— Дзе цяпер Алеся Малейка? — нечакана пытае Сакалоўскі.— Я з ёй вучыўся. Тут, у Суражы, і на настаўніцкіх курсах у Мазыры.

— І я вучыўся,— паведамляе Войцік.— Да вайны. У мястэчку. Разам заканчвалі аднамесячныя настаўніцкія курсы.

— Разумею. Алеся засталася на другі год у сёмым класе. Таму пайшла на курсы.

Васіль пра гэта не ведаў. Значыць, Алеся старэй за яго.

— Яна цяпер у Мазыры вучыцца. У настаўніцкім інстытуце.

— Яна ўвесь час толькі і вучыцца. Была ніштаватая дзяўчына. Толькі баюся: па руках пойдзе. Ёсць у ёй штосьці такое...

Апошнія словы Сакалоўскі вымаўляе з невымерным сумам. А Войціку цюкнула: «Здаецца, і ты, браце, быў на гэтай вудачцы...»

Назаўтра, развітваючыся, Сакалоўскі пытае:

— Ты дзе вучышся?

— У БДУ. На трэцім курсе.

— Пра БДУ, брат, я доўга марыў. Ды нявыкрутка. Цяпер мне да ўніверсітэта ўжо не дабрацца. Скончу Бабруйскі настаўніцкі. І аман. Трэба дзяцей гадаваць.

## IV

Набліжаецца Новы год. Трэці пасля вайны. Надвор'е адпаведнае: у канцы лістапада мёрзлым грудам лягла зямля, затым прыцерушыў яе лёгкі сняжок.

У Васіля сумна, нават трывожна на душы. Мог бы паехаць у Мазыр, сустрэць Новы год разам з Гэляй. Але не да гэтага ідзе. Васіль пазваніў Гэлі па тэлефоне, трохі пагаварыў, даведаўшыся, што Новы год яна сустракае разам з супрацоўнікамі аблвыканкама.

Мазыр як бы страчвае для Васіля прывабнасць. Гэля аддаляецца.

Сакратар раённай газеты Шугай ідзе на павышэнне. Яго абіраюць першым сакратаром райкама камсамола. Шустры, мітуслівы Шугай як найлепш падыходзіць да гэтай пасады. Журналіст ён не надта выдатны, піша зацвярдзелымі штампамі заметкі, у якіх вельмі мала праўды.

Шугай з першага дня абрання як апантаны носіцца па раёне. Стварае пярвічныя арганізацыі, камсамольска-маладзёжныя звенні.

Дзякуючы Шугаю, і Войцік угору пайшоў. Ён не толькі член пленума райкама камсамола, а нават і член бюро.

Толькі не па душы Войціку парадкі, якія пануюць у камсамольскім райкаме. Ён не любіць людных зборышчаў, тлуму, гучных слоў, за якімі нічога не стаіць. Паперы з рознымі прамовамі, пастановамі складваюцца ў папкі, падшываюцца, складваюцца ў шафу... Паколькі шафа ў райкаме адна, а месца трэба для новых пастаноў, то папкі за мінулыя гады спальваюцца ў грубцы.

Ратуе Войціка ўніверсітэт. Ды яшчэ вячэрняе і начное чытанне.

Трэці курс — вяршыня філфака. На ім трэба здаць экзамены па рускай літаратуры XIX стагоддзя, гісторыі мовы, палітэканоміі, дыялектычным матэрыялізме.

Войцік адолеў тоўсты том па дыялектычным матэрыялізме. Ён баіцца каму-небудзь прызнацца, але кніга яго не задаволіла. Нельга з філасофіі матэрыялізму зразумець, што такое жыццё, як, чаму яно ўтварылася, якія мэты чалавечага жыцця. Гэта той самы чацвёрты раздзел «Кароткага курса БКП(б)». Толькі распухлы, раздзьмуты. Ніякіх высокіх парыванняў душы ён не выклікае.

Палітэканомія — іншая справа. Ёсць у ёй штосьці жывое, грунтоўнае. Найбольш навуковы прадмет у сістэме навук грамадскіх.

Васіль зацята чытае. Не мінае ніводнага твора, надрукаванага ў беларускіх і рускіх «тоўстых» часопісах. Нарэшце асмельваецца друкаваць рэцэнзіі на кнігі. Яны з адказным сакратаром Глінкіным нібы падзялілі абавязкі. Глінкін піша рэцэнзіі на тэатральныя пастаноўкі, кінафільмы. Войцік — на літаратурныя творы. Вядома, газета друкуе рэцэнзіі не часта. Адну ў месяц-два.

Сяргей Шугай на ўзлёце кіпучай дзейнасці. Гаварыць прамовы, відаць, лягчэй, чым з дня ў дзень пісаць заметкі, карэспандэнцыі. І кабінет Шугая выгадна адрозніваецца ад катушка, які ён займаў у рэдакцыі.

Аднойчы, затрымаўшы Васіля, ён гаворыць:

— Не вешай носа. Памагу тваім падпольшчыкам. Заслухаем вашу справаздачу, перададзім справу ў райкам партыі...

Волька Сіўчыкава, якая працуе сакратаром-машыністкай у райкаме партыі, аддае Васілю кніжкі, якія прысылаюць у райкам: аднатомнікі Броўкі, Глебкі, Лынькова.

На Новы год Волька наладжвае вечарынку. Жыве яна каля старой школы, на пясчаным, але прыгожым пагорку. Яна не хлусіць: нарадзілася на Новы год і ёй якраз спаўняецца васямнаццаць гадоў.

Запрошаны не толькі Васіль, але і першы сакратар райкама камсамола Сяргей Шугай.

— Будзе мая Волька! — пахваляецца Шугай.— Яна толькі дзеля форсу задзірае нос.

Вечарынка ў Вольчынай хаце. Хата прасторная, на дзве палавіны і добра прыбраная. Адчуваецца: у хаце жыве маладая дзяўчына, якая дбае пра прыгажосць і чысціню.

Войцік дорыць Вольцы вялікую ляльку, у якой адплюшчваюцца і заплюшчваюцца вочы. Купіў у Мінску, калі быў на сесіі. Дзяўчына так узрадавалася, што на яе прыгожых вачах аж слёзы выступілі.

На вечарынцы танцы пад патэфон. Васіль толькі і танцуе з Волькай. А дванаццатай гадзіне выбіраецца дамоў. Хоць на душы трывожна: ведае пра намер Шугая.

На Новы год прыязджае з Мінска Іван Гарошык. Зноў сябры сустракаюцца ў дзеда Антона. Васіль узрадаваны: Іван зноў прывёз дзве рэдкія кнігі па мовазнаўстве, выдадзеныя ў мінулым стагоддзі.

Шумяць зімовыя вятры ў разгалістых шатах дубоў. Васіль любіць дубы. Бадай, толькі на сядзібе дзеда Антона яны і засталіся. Дубы як бы памятка ваенных гадоў, пярэдадня вызвалення мястэчка. Адсюль рушылі Іван з Васілём у партызаны і шмыгалі сюды да дзеда цёмнымі асеннімі начамі, нават днявалі, седзячы ў хляве на вышках. Бо дзедава сядзіба — фактычна хутар. Яна размешчана наўскрай вуліцы і — галоўнае — каля лесу, за чыгункай.

У гонар Новага года Васіль з Іванам бяруць па чарцы, закусваюць добрым, трохі падмарожаным салам і дамашняга вырабу кілбасой. Дзед Антон жыве ніштавата. Хоць ніякіх прыбыткаў, апрача як з калгаса, не мае. Вядома, трымае карову, гадуе вепрука, засявае прысядзібны ўчастак.

На калгасную работу дзед выбіраецца дзень у дзень, не ведаючы адпачынкаў і выхадных.

У дзеда і пагаварыць можна: ніхто не пачуе. Бо сябрам не ўсё падабаецца ў жыцці пасля вызвалення. Пішацца адно, робіцца другое. Асабліва недарэчным здаецца хлопцам залішняе ўсхваленне Сталіна.

Са сходаў, на якіх прыходзіцца бываць Васілю ды часам Івану таксама, можна вынесці нямала смешнага.

— Ёсць прапанова,— імітуе Іван словы старшыні сходу,— паслаць прывітальнае пісьмо таварышу Сталіну.

— Лясь, лясь, лясь! — працягвае Васіль.— Воплескі пераходзяць у суцэльную авацыю.

Іван працягвае ўзятую ролю:

— Дазвольце, таварышы, вашы воплескі лічыць аднадушным адабрэннем пісьма таварышу Сталіну.

— Лясь, лясь, лясь...

Навошта гэта? Адказу хлопцы не маюць. Ніводнага пісьма Сталіну ніхто нікуды не пасылае. І яшчэ ёсць шэраг недарэчнасцей. У многіх калгасах на працадні нічога не даюць. Цягаюць па допытах ваеннапалонных. Ніхто не хоча прызнаваць падпольшчыкаў...

Вайна паказала: хто свой, хто вораг. Дык навошта зноў ламаць камедыю?

Васіль дазваляе сабе такія размовы толькі з Іванам. З Кузьмой-Дзям'янам, Мікалаем Пішчыкам пра палітыку не гаворыць. Як бы пралягла нябачная мяжа між нядаўнімі сябрамі, і мяжу гэтую няпроста пераступіць.

Васіль спадзяецца: жыццё пераменіцца да лепшага. Вайна таксама няўдала пачалася. Немцы дайшлі да Масквы, Сталінграда. Але іх разбілі. І Еўропу вызвалілі.

Можна лічыць, зрухі да лепшага ёсць. Калгаснікам, вядома, плацяць мала. Але ж аднаўляюцца разбураныя гарады, адбудоўваюцца вёскі. Жыхары спаленых вёсак (у раёне іх большая палавіна) пераселены з зямлянак у хаты. Не такія выдатныя гэта хаты, але дах над галавой у людзей ёсць. Нядаўна грошы памянялі, картачкі адмянілі. Ёсць хлеб у крамах. А яшчэ нават тры гады з канца вайны не мінула...

Тое, што Васіль піша ў газету, піша шчыра. Лічыць, што справы пойдуць угару.

Васіль едзе ў Мазыр. Перасаджваючыся ў чыгуначным гарадку з цягніка ў стары грымучы аўтобусік, ён прыязджае ў горад дзесьці а палове дванаццатай.

Спіць невялікі горад, якому нададзены тытул абласнога. Гулка раздаюцца Васілёвы крокі на пустыннай вуліцы. Падрамантаваўшы, ён даношвае кавалерыйскія, з высокімі халявамі, жалезнымі падкоўкамі боты, якія здабыў у Германіі. Другі ці трэці раз рамантуе іх, бо абутку не купіш. У рэдакцыю паступае юнраўская дапамога. Войцік просіць выдзеліць яму туфлі ці черавікі. Доўга да яго чарга не даходзіць. Месяц назад туфлі нарэшце выдзелілі. Абодва на правую нагу і рознага колеру.

Узабраўшыся на высокі ганак, Войцік доўга грукае ў дзверы, пакуль глухаваты рэдакцыйны вартаўнік Хаім пачуе яго і адчыніць.

Хаім, вахлакаваты, у старой фуфайцы, у падшытых лямцам валёнках, шапцы з выцвілай зайцавай шкуры, да Войціка ставіцца прыхільна. Дазваляе начаваць нават у рэдактарскім кабінеце, дзе стаіць мяккая канапа. Зрэшты, гэтага права дабіўся Войцік сам.

Хаім распытвае толькі пра цэны ў Васілёвым мястэчку, астатніх раёнах, якія карэспандэнт наведвае. Больш Хаіма нішто не цікавіць.

У рэдактарскім кабінеце мерна тахкае медным маятнікам вялікі, у драўлянай каробцы гадзіннік, павешаны над канапай. Першай справай Войцік спыняе гадзіннік, бо ён звоніць кожныя пятнаццаць мінут і не дасць заснуць. Раніцай ён зноў яго пусціць, пераставіўшы стрэлкі.

Насупраць рэдактарскага кабінета электрычны ліхтар. На высокім слупе. І хоць пакой на другім паверсе, у ім даволі светла. Святла Войцік не любіць, але прыходзіцца мірыцца.

З рэдактарам Тужыкам, вёрткім, рухавым, з чорнымі пранізлівымі вачамі і паголенай галавой, у Войціка добрыя адносіны. У нейкай меры яны грунтуюцца на тым, што Войцік вучыцца ва ўніверсітэце. Бо і сам рэдактар паступіў у Вышэйшую партыйную школу.

Рэдактар любіць распытваць пра раённых кіраўнікоў, якіх ён бачыць толькі на пленумах, нарадах. Войцік ахвотна расказвае.

Дружба рэдактара з падначаленым мае свае межы. Хоць Войцік піша больш за астатніх супрацоўнікаў газеты, ганарару атрымлівае менш. Цяпер ягоны ганарар заўсёды на сотню-дзве меншы за зарплату. Галоўнае: ганарар зусім не залежыць ні ад колькасці, ні ад якасці надрукаваных матэрыялаў.

У Мазыры ў Войціка інтарэс невялікі. Ён запісаўся ў абласную бібліятэку, бярэ там патрэбныя кнігі, а ў рэдакцыйнай бібліятэцы — новыя часопісы.

З Гэляй Машчынскай сустрэч няма. Таму Васіль доўга ў горадзе не затрымліваецца.

Горшага, каб нават хацеў, не прыдумаеш. Каля настаўніцкага інстытута, які размешчаны на той жа, што рэдакцыя, Ленінскай вуліцы, Васіль нос у нос сутыкаецца з Алесяй Малейкай. Яна даўно яго не бачыла і адразу прыліпла: распытвае пра мястэчка, знаёмых.

Нечакана насустрач ідзе Гэля. У новым палітончыку, белай вязанай шапачцы, прыгожая, расчырванелая ад лёгкага марозу.

Васіль дарэшты губляецца. Не ведае, што рабіць. Ківае Гэлі ў знак прывітання і крочыць далей з Алесяй. Хвілін праз некалькі ён спахопліваецца, спаслаўшыся на справы, падае Алесі руку, кідаецца ўслед за Гэляй. Але не даганяе. Яна, відаць, завярнула ў правулак.

Праз гадзіну ён звоніць Гэлі на работу. Яна на месцы.

— З кім ішоў? — пытае.

— Знаёмая. На настаўніцкіх курсах разам вучыліся...

Гэля маўчыць. Толькі дыхае ў трубку.

— Ты ў гасцініцы начуеш?

— Мяне туды на парог не пускаюць. Гасцініца для вялікага начальства. Сплю ў рэдакцыі на стале...

Адчуваючы важнасць моманту, Васіль наўмысна не гаворыць, што ў апошні час адваяваў канапу ў рэдактарскім кабінеце. Не ведае, з якой нагоды Гэля цікавіцца начлегам.

— Прыходзь у парк,— нечакана гаворыць Гэля.— Туды, дзе прышвартаваны параходзік. У шэсць гадзін можаш прыйсці?

— Прыйду,— радасна адказвае Васіль.

У шэсць гадзін цёмна. У вершалінах ліп пасвіствае вецер. Горад у гэты час здаецца прыгожым, вялікім. Бо ў дамках, размешчаных на гарах, пакатых пагорках, запальваюцца агні. Ствараецца ўражанне: будынкі высокія, шматпавярховыя. А ў горадзе, здаецца, толькі два ці тры трохпавярховыя дамы.

З цемені вынырвае Гэля.

— Параходзік — гасцініца,— заяўляе.— Сюды мы выпісваем накіраванні настаўнікам, якія прыязджаюць у аблана. Я і табе буду выпісваць. Але сёння позна. Сёння пойдзем начаваць да мяне. У майго суседа пераначуеш,—похапкам дабаўляе Гэля.— Ён якраз паехаў у камандзіроўку.

Адносіны аднаўлены...

Васіль мае бутэлечку. Называецца «кафейны напітак». І пакуначак шакаладных цукерак, каб было чым прыкусіць.

Яны прыходзяць да Прыпяці. Цёмная пад лёдам цячэ рака. Над ёй цёмнае, без зорак неба. Такія ж цёмныя зарэчныя далі.

Гэля пытае:

— Чым займаешся ў выхадныя дні?

— Чытаю. Чытаць трэба многа...

— А ў буднія дні?

— Магу ўзяцца за кнігу толькі вечарам і ноччу. Днём пішу выступленні старшынь калгасаў, брыгадзіраў, даярак...

— Чаму яны самі не пішуць?

Васіль смяецца:

— Не ўмеюць. Ды і навошта ім? Нават начальнікі не пішуць. Сакратары райкамаў, абкамаў. За іх робім мы, газетчыкі... Чыноўнікі дрэнна пішуць. Прыходзіцца перарабляць...

Усчынаецца вецер. Халодны, калючы. Ён проста свішча ў голых шатах цёмных дрэў. З Прыпяці даносіцца грукат. Нібы гарматы страляюць. Відаць, рака глыбей замярзае. Напаверх з-пад скарынкі лёду вырываецца сціснутае паветра.

— Пойдзем,— гаворыць Гэля.— Холадна...

Яны ідуць па цёмнай, зусім не разбуранай вуліцы. Васіль ведае гэтую вуліцу. Яна вядзе да рынку. Летась ён хадзіў на рынак купляць пайкі хлеба.

Ёсць штосьці шчымліва-самотнае ў вобліку невялікага гарадка, які носіць высокі тытул абласнога. У такіх гарадках пануючае становішча займаюць рамеснікі, што працуюць у розных арцелях, майстэрнях, цэхах. І цяпер у гарадку ёсць фабрыка індывідуальнага пашыву вопраткі, майстэрня па рамонце гадзіннікаў, добрая рыбалоўчая арцель. Цяпер гэта гарадок чыноўнікаў. На цэнтральнай вуліцы трапляюцца будынкі, на якіх вісіць па некалькі шыльдаў.

Ад рынку Гэля паварочвае ў змрочны, засаджаны старымі разгалістымі дрэвамі завулак, над якімі ўзвышаецца круглы без крыжоў купал царквы.

Васіль ведае: у сутарэннях, лёхах царквы сядзелі ў апошнія перадваенныя гады арыштаваныя настаўнікі іхняй школы Гудовіч і Гель, хросны Васілёў бацька, матчын брат Іван і Гэлін бацька, відаць, сядзеў таксама. Добра, што іх выпусцілі. А што з тымі, каго не выпусцілі, пагналі ў Сібір? Гэтак няўмела, нялюдскі рэвалюцыя змагалася з контррэвалюцыяй. Няўжо правадыры не прадбачылі, што да такой барацьбы прыліпнуць, прымажуцца прыстасаванцы, прайдзісветы, якія будуць шукаць толькі асабістай выгады? У акупацыю Васіль нямала бачыў такіх пярэваратняў.

Дамок, у якім жыве Гэля, звычайны, двухпавярховы. Кватэра на другім паверсе. Гэля займае пакойчык, размешчаны побач з кухняй. Два астатнія займае інструктар абкама партыі, які жыве разам з маці. Вось што значыць працаваць у высокіх установах! Рэдакцыйныя работнікі, нават загадчыкі аддзелаў і думкі не дапускаюць, што ім дадуць казённыя кватэры. Хто мае ўласны дамок, як загадчык сельгасаддзела Гарватоўскі, той раскашуе. Астатнія наймаюць пакойчыкі за неймаверна вялікія грошы.

Маці інструктара абкама падобна на звычайную местачковую кабетку. Чарнявая, рухавая, як мышка, яна адразу добразычліва, гасцінна ставіцца да Васіля. Бярэ ад яго паліто, шапку, вешае ў прыхожай.

Гэлін пакойчык малы, але ўтульны, ахайна дагледжаны. Вузкі жалезны ложак, засланы светла-сінім з узорамі пакрывалам, канапка, столік, на якім пафарбаваны ў шэры колер рэпрадуктар. І яшчэ невялікі стэлаж з кнігамі.

Васіль падыходзіць да стэлажа. Кнігі пераважна новага, пасляваеннага выдання. І ў яго ёсць такія. Аднатомнікі Гогаля, Салтыкова-Шчадрына, Пушкіна. Але ёсць некалькі старых томікаў і сярод іх кнігі, выпушчаныя да рэвалюцыі. Ён шукае Гамсуна, пра якога гаварыла Гэля. Але не знаходзіць.

Гэля завіхаецца на кухні. Прыносіць талерку з хлебам, масла ў невялікім шкляным слоіку, на сподачках дзве шклянкі чаю. Не надта багата жыве Гэля.

Васіль сігае ў калідорчык. Вымае з кішэні «кафейны напітак», цукеркі, загорнутыя ў шэрую паперу. На акуратным стале кулёк з цукеркамі зусім не глядзіцца, і Васіль высыпае цукеркі на стол.

— Не будзем піць,— неяк бездапаможна просіць Гэля.

— Патрошкі. Будзе лепшая гаворка.

Гэля прыносіць дзве гранёныя шклянкі. Васіль налівае Гэлі паўшклянкі, сабе трохі болей.

— Давай вып’ем за тое, што мы амаль землякі,— гаворыць Васіль.— Ты не толькі працавала ў местачковай бібліятэцы. Ты жыла і ў маім раёне. У Разводах. Там стварылі нямецкі калгас і твой бацька быў старшыня. Мне ў Разводах расказвалі...

Гэлін твар пунсавее.

— Я мала памятаю. Бацьку перакідвалі з калгаса ў калгас... У трэці клас я пайшла ў Мазыры.

«Кафейны напітак» штосьці накшталт лікёру. Прыемны на смак і мае градусы. Хмель адразу кружыць галаву.

— Памятаеш, як мы развіталіся на пачатку вайны. Каля базы «Заготзбожжа»...

Гэля ніякавата глядзіць на Васіля.

— Не памятаю. Столькі ўсялякага адбылося...

— Хто мяне падбіў паступаць у завочную школу? Таксама забыла? Мы збіраліся вучыцца разам у настаўніцкім

інстытуце. Я за дзявяты клас тут экзамены здаваў. Здаў бы і за дзясяты. Толькі для мяне гэта ўжо не мела сэнсу. Бо ты паехала ў Маскву. Паступаць у інстытут замежных моў.

Пітво развязвае Васілю язык. Другім разам ён, можа, не сказаў бы таго, што гаворыць цяпер.

— Мы былі амаль што дзеці. Жылі ў ружовым тумане.

Гэля адстаўляе бутэльку ў бок.

— Заўтра вып’ем. Ты мяне вінаваціш, а сам не лепшы. Думаеш пра вучобу, газету, пра мяне — не вельмі. Уяві, як мне сумна адной. Асабліва ў выхадныя. Хоць у Прыпяці ўтапіся. Ты ж ні разу на выхадны дзень у горадзе не застаўся...

Васіль устае, прыхінае Гэлю да сябе. Яе гнуткае, тонкае ў таліі і шырокае ў бёдрах цела вабіць як магнітам. Але Гэля адштурхоўвае яго ад сябе.

— Ідзі спаць. Я правяду цябе...

І вось Васіль у пакоіку, размешчаным насупраць Гэлінага. Хоць выпіў, але не можа заснуць. Чаму Гэля, сустрэўшы Васіля з другой дзяўчынай, не пакрыўдзілася, не адштурхнула, а наадварот, заклікала да сябе? Загадка жаночай душы. І наогул чаму ў іх адносінах быў перапынак?

Назаўтра развітанне. Васіль абяцае прыехаць на выхадны дзень. І званіць на работу абяцае. Калі здарыцца што-небудзь важнае, ён напіша Гэлі ліст. На дамашні адрас.

Важнае здараецца. Толькі не тое, аб чым Васіль думаў.

На спадарожнай паўтаратонцы Васіль даязджае да чыгуначнага гарадка. Шэрае, нецікавае наваколле. І сам чыгуначны гарадок нецікавы. Выкладзеная круглым каменем шасейка вядзе да станцыі. Пасярэдзіне гарадка шэрая пясчаная пустэча з рэдкімі кусцікамі лазы, абгрызенай козамі. І толькі каля самай станцыі некалькі двухпавярховых каменных дамоў, у якіх жывуць чыгуначнікі.

Сама чыгуначная станцыя разлеглая. Тут скрыжоўваюцца магістралі з Брэста на Гомель, з украінскага Оўруча на Жлобін.

На станцыю Васіль прыязджае апаўдня.

Станцыйнае памяшканне, занова пабудаванае, трохі наводдаль ад пуцей. Гэта добра. Відаць абсяг станцыі: які цягнік прыбывае, які адбывае.

Васіль не абедаў. У станцыйным буфеце заказвае сто пяцьдзясят грамаў гарэлкі, кухаль піва, селядца, шніцаль.

На першым пуці пыхкае паравоз. Таварняк, відаць, хутка рушыць. Такімі экспрэсамі Васіль пераважна ездзіць. Бо пасажырскі цягнік пойдзе толькі ў тры гадзіны ночы.

Васіль узбіраецца на тормаз. У хуткім часе таварняк сапраўды кранаецца. Як толькі мінаюць апошнія будынкі станцыі, Васіль разумее: зрабіў памылку. Зімой пры ветры нельга садзіцца на тормаз. А вецер узмацняецца, прадзімае наскрозь. Нямецкае паліто-балахон, пашытае з грубага матэрыялу, ніколькі не грэе. Адчувае Васіль: трапіў у бяду. На тормазе можна проста адубянець.

Каб сагрэцца, ён пачынае падскокваць, біцца плячамі аб сценку вагона.

Ён чуе, як залівіста рагочуць, бачачы ягоныя скокі, жанчыны-рамонтніцы. Але цягнік не спыняецца, нясецца, як шалёны. Ужо і скокі не памагаюць. Васіль аднаго баіцца: не зваліцца пад адхон.

На сваю станцыю Васіль прыязджае нашчэнт адубянелы. Ног не чуе, ледзь іх перастаўляе. Сяк-так дабіраецца да буфета, выпівае шклянку гарэлкі. Дома лезе на печ, акрываецца кажухом. Спадзяецца: бяду пранясе.

Аднак не праносіць. Запаленння лёгкіх ён пазбег, але ў правым баку штосьці шоргае.

Здаравенны рыжы доктар Мілер дыягназ ставіць імгненна: сухі плеўрыт.

Доктар суцяшае: сухі плеўрыт лепей, чым мокры.

Як лячыць хваробу? Добра харчавацца (масла, мёд), дастаць пуцёўку ў санаторый, пахадзіць на УВЧ. З прызначанага лячэння Васіль выконвае толькі апошні пункт. У бальніцы на працягу тыдня-двух праграваюць яго сінім кварцавым промнем.

Гэлі пра хваробу Васіль не паведамляе. Навошта? Хоць ён часта пра яе думае.

Праз два-тры тыдні шорганне ў правым баку сцішваецца. Васіль наогул мала думае пра хваробу. Нават курыць не кідае. Не верыць, што можа сур’ёзна захварэць. Нарэшце звоніць Гэлі, прызнаецца, што прастудзіўся.

У Гэліным голасе непрыхаваная трывога. Яна нават пытаецца, якія яму патрэбны лекі. Ад лекаў ён рашуча адмаўляецца.

## V

Штосьці новае намячаецца ў адносінах з Гэляй. Васілю вучыцца яшчэ тры гады, і ці будзе Гэля чакаць? Ён ужо гаварыў Гэлі пра жаніцьбу. Калі ажаніцца з ёй цяпер, то як жыць? Галоўнае — дзе? Васіль нават думкі не дапускае, што перабярэцца ў Мазыр, будзе ціснуцца ў Гэліным пакойчыку, ходзячы адтуль у рэдакцыю. Тады трэба паставіць крыж на вучобе, універсітэце. Гэтага ён не можа зрабіць. Хвароба як бы выбівае Васіля з прызвычаенай каляіны. Ён здольны выседзець у мястэчку тыдзень, самае большае два, а потым абавязкова выбіраецца ў падарожжа.

Цяпер, пасля хваробы, Васілю хочацца наведаць вёскі, якіх ніколі не бачыў. Настае чарга прайсціся па паўночна-ўсходнім кутку раёна з яго някідкімі, зусім не славутымі паселішчамі. Сапраўды, там няма ніводнага прыстойнага калгаса. Цяпер гэта Васіля не палохае. Добрыя, цікавыя людзі, пра якіх можна напісаць, ёсць усюды.

Асушаным балотам Васіль кіруе ў бок саўгаса «Ведрыца». Саўгас (да вайны ён называўся лугас, г. зн. лугавая гаспадарка) добры. Карэспандэнт некалькі разоў пра яго пісаў. Цікавы чалавек дырэктар саўгаса Махавік. Вялізны, маўклівы, на першы погляд, маларухомы, але вельмі гаспадарлівы.

У саўгас Васіль не пойдзе. Ён абмінае непрыглядны ў гэтую пару пасёлак, дзе нізкія хаткі, шэрыя апоўзлыя дашчаныя баракі густа лепяцца наўзбоч пясчанай вуліцы. Наводдаль саўгаснай канторы ёсць прамая дарога на хутар Валошын, і туды Васіль пакіруе.

Васіль проста жыць не можа, не нырнуўшы ў плынь звычайнага жыцця, не пабачыўшы новыя мясціны, краявіды, не пагаварыўшы з вясковымі людзьмі. Без гэтага няма адчування жыцця, яго сапраўднага грунту. Праўда, дрэннае пакуль што жыццё. Беднае, нецікавае. Але трэба верыць у лепшае. Бо сляды вайны відаць яшчэ на кожным кроку.

На дварэ месяц люты, і лес ахутаны перадвясенняй сінегай. Дні прыкметна пабольшалі, частыя адлігі з’ядаюць снег, і снежны покрыў асядае. Дарога чорная: зашэрхлы снег, перамешаны з торфам. Недзе паблізу саўгаснага пасёлка ёсць урочышча Зарэцкае. Васіль ведае пра яго яшчэ з дзяцінства: дзед з бабкай хадзілі на Зарэцкае па грыбы. Прыносілі па поўнай лубянцы. Васіль любіў перабіраць грыбы, адклейваць ад старых шапак баравікоў, абабкаў, падасінавікаў прыліплыя лісцікі, хвойныя іголкі, розны друз. Бабка ніколі не бракавала грыбоў, хоць траплялiся сярод іх чарвівыя, струхлелыя. «Што ўлетку нагою, то ўзімку рукою»,— звычайна гаварыла бабка Аўгіння.

Васіль ніколі не быў на Зарэцкім. Наогул за два пасляваенныя гады ён фактычна толькі раз пабываў у лесе, размешчаным на захад ад мястэчка.

Лета забірае ўніверсітэт. Астатні час газета. Бо на службе як прывязаны, хоць рэдакцыя не вельмі кантралюе карэспандэнта.

Саўгас Васіль мінае. Наперадзе чарнеюць хаткі хутара Валошын. Але і на хутар ён не пойдзе. Яшчэ толькі тры гадзіны дня, і да вечара ён, відаць, дабрыдзе да лясной вёсачкі Глушаўка. Васіль часта бывае, як вось цяпер, сам-насам са сваімі думкамі. Ён прывык да адзіноты. Бо і ў мястэчку сяброў-таварышаў няма. Большасць не вярнулася з вайны, астатнія вучацца ў інстытутах. Перад адным толькі Іванам Гарошыкам, калі той прыязджае дамоў, Васіль можа раскрыць душу. Ды яшчэ з Гэляй штосьці падобнае пачынаецца.

Лес густы, змешаны, з нізкім балотным долам. Яшчэ ляжаць між дрэў ледзь-ледзь пачарнелыя, заледзянелыя зверху гурбы снегу. Такога лесу Васіль не любіць. Але ў раёне пераважае іменна такі нізінна-балотны лес. Выключаючы мястэчка. Яго ўсходні і заходні прасцягі ўяўляюць сабой пясчаныя, відаць, ледавіковыя выспы, на якіх вымахалі разложыстыя сасновыя бары.

Васіль ідзе па лесе болей гадзіны. Не трапляецца яму па дарозе ні фурманка, ні чалавек. Машыны па такой нетры

не ходзяць. Толькі сена ды дровы, відаць, возяць людзі. Па зімніку.

Пра Глушаўку Васіль сёе-тое ведае. Спалілі яе як і суседнія Пахомавічы, вясной сорак трэцяга года. Палілі немцы-вермахтаўцы з ахоўных часцей і местачковыя паліцаі: іх узялі ў атачэнне. Вынішчылі чамусьці толькі мужчын. Жанчын пакінулі жывымі.

Яшчэ вясной сорак другога года тут высадзіліся парашутысты-дэсантнікі. А яшчэ праз год у гэтых самых мясцінах савецкі самалёт скідаў груз для ваенных разведчыкаў, якім дапамагалі яны, местачковыя хлопцы.

Глушаўка вынырае нечакана. Яна размешчана на шырокай паляне, якую шчыльна атачае лес. Хаткі ўбогія, мізэрныя, туляцца паабапал шырокай вуліцы і нібы дрэмлюць пад шэрым невясёлым небам.

Трэці год працуе карэспандэнтам Васіль, а яшчэ не выдзеліў з масы кіраўнікоў гаспадарак, якіх збіраюць у раёне на розныя сходы, нарады, старшыню з глушкаўскага калгаса. Бо той ніколі не выступае і ў раёне не затрымліваецца.

Вечар наступае. Першым пачынае цямнець лес. Перадвясенні празрыста-сіні змрок ахутвае прыземленыя хаткі, двары, край лесу — зусім ужо цёмны,— які падступае да самых агародаў.

Васіль заўважае фурманку, якая павольна рухаецца пасярэдзіне вуліцы, спыняючыся ледзь не перад кожнай хатай. Да яе падыходзяць людзі, бяруць з воза нейкія пакункі, кіруючы кожны ў свой двор.

Тут карэспандэнт і старшыню калгаса спатыкае. І радуецца сустрэчы, бо ў шустрым, апранутым у паўкажушок дзядку пазнае партызана іхняй брыгады. З ім не сутыкаўся, не размаўляў, але ў твар ведае.

І вось яны ў хаце старшыні — прозвішча яго Шульга — п’юць чай. Старшыня жыве адзінока. Год назад памерла жонка. І хоць вёска поўная адзінокіх жанчын, ніводную з іх немалады ўжо, шчупленькі Шульга ў сваю хату не прывёў.

Карэспандэнт узрушаны. Тое, што, можа, не зусім свядома, хацеў адчуць, убачыць, знайшоў іменна ў спаленай Глушаўцы.

Нядаўна была грашовая рэформа, адмянілі карткі. Фурманка, якая едзе, спыняючыся перад дварамі, возіць у горад, у Рэчыцу на малаказавод бітоны з малаком (калгас маленькі, але ферму мае), з горада ў вёсачку таксама сёе-тое дастаўляе. Фурманшчык з хлапчуком-памагатым прывозяць хто што заказваў: булку хлеба, кілаграм камсы, рыбіну-траску. Не ўсё яшчэ ёсць у гарадскіх крамах, але сёе-тое на прылаўкі выкідваюць. Няма яшчэ трох гадоў, як скончылася вайна, а ўжо можна сёе-тое купіць. Галоўнае: спустошаная, разбураная, амаль знішчаная краіна знайшла сілы адмяніць карткі, прадаваць па не надта высокіх цэнах хлеб, муку, крупы.

З крамнінай — проста рэвалюцыя! Да вайны ля прамысловага местачковага магазіна, каб урваць метр-два міткалю, іншых баваўняных, шарсцяных тканін, збіраліся агромністыя чэргі. Штурхаліся, біліся людзі, каб уварвацца ў магазін. Цяпер здарыўся цуд: бяры што хочаш. Ніякіх чэргаў.

Збіраўся Васіль напісаць фельетончык пра жуліка і махляра Хаскіна, старшыню райспажыўсаюза. Толькі цяпер не напіша. Бо не размяркоўвае Хаскін юнраўскія пайкі. Праўда, і цяпер у начны час нібыта раздае Хаскін раённым начальнікам розныя дэфіцыты: танныя паліто, шавіётавыя касцюмы, розны абутак. Але тут за руку не ўхопіш...

Памятаючы пра няўдалы пачатак вайны, якая скончылася перамогай, Васіль не губляе надзеі на лепшы ход мірнага жыцця. Яго надзеі пакрысе спраўджваюцца. Летась пуд збожжа каштаваў семсот рублёў, ледзь не месячную зарплату карэспандэнта. Цяпер пуд печанага хлеба купіш за паўсотні.

Шустры старшыня Шульга не надта разгаворлівы. Дае карэспандэнту прытулак, частуе чаем, падагрэўшы ў вайсковым кацялку. Хатка ў яго аднапакаёвая з шэрымі нябеленымі сценамі, вялікай печчу. Лямпа маленькая — васьмярык, з заклееным паперкай шклом. Летась памерла жонка Шульгі, і, відаць, ад гэтага ў хаце запусценне. І хоць у вёсачцы жывуць пераважна адзінокія жанчыны, ні адна з іх да старшыні не завітвае. Хоць бы падлогу памыць і павуціну па кутках зняць.

Назаўтра нядзельны дзень. Васіль выбіраецца ў дарогу.

— Куды пойдзеш? — дакарае старшыня Шульга.— Што знойдзеш? Няма чаго пра нас пісаць. Бедныя, спаленыя людзі...

Карэспандэнт, аднак, ведае, што матэрыял ужо знайшоў. Ён напіша пра фурманку, якая лютаўскім надвячоркам прывезла ў спаленую Глушаўку сякія-такія прадукты з горада. Яшчэ летась не магла прывезці, а сёлета прывезла. Мяняецца нешта ў жыцці.

Васіль кіруе ў вёску Дуброва. У гэтую Дуброву даўно запрашаў старшыня сельсавета, якога перакінулі сюды з паўднёва-ўсходняга, намнога багацейшага кутка раёна. У раёне тры Дубровы: адна называецца Чырвоная, другая Вялікая, а гэтая проста Дуброва.

Тым часам мяняецца выгляд мясцовасці. Лес саступае месца зарослым кустоўем прагалінам, кавалачкам палёў, сенажацям. Снежная пасцель ахінае белую з сіняватымі шарамі лазнякоў, чорнымі зараслямі нізкага алешніку зямлю. Калі прыгледзецца ўважлівей, то пакрываюцца кустоўем, дробным чарналессем палі, сенажаці. Не даходзяць значыць, людскія рукі да зямлі, якая зарастае.

Дуброва відна здалёк. Дробнае кустоўе, якое перарываецца кавалачкамі палёў, сенажацяў, шчыльна атуляе вёску. Сям-там уздымаюцца высокія, з разлеглымі купамі адзінокія дубы. На даляглядзе сіняя стужка лесу.

Дуброва большая за Глушаўку. Мае лепшы выгляд, хоць яе палілі таксама.

Карэспандэнт лёгка знаходзіць хату старшыні сельсавета Краўца. Год назад Кравец узначальваў сельсавет у Каравайках, вялізным, хат на чатырыста, даволі багатым сяле. Войцік разам з сакратаром райкама Шурко нават начаваў у яго. Тады ж арганізаваў выступленне для абласной газеты. З таго часу Кравец, дзе ні напаткае карэспандэнта, запрашае да сябе.

Дома Краўца няма. Ён, відаць, яшчэ не перавёз у Дуброву сям'ю. Бо па хаце пахаджвае незнаёмая жанчына з нахмураным чарнявым тварам.

Войцік наважвае павандраваць па вёсцы. На вуліцы і Краўца спатыкае. Ідзе старшыня сельсавета засяроджаны, сур'ёзны, аб чымсьці раздумвае і па баках не глядзіць.

Нарэшце старшыня і карэспандэнт спатыкаюцца.

— Добра, што прыехаў,— гаворыць Кравец.— Я табе новую школу пакажу. І будынак сельсавета. Толькі што скончылі. Яшчэ стружкай і смалой будынкі пахнуць...

Да школы Кравец і Войцік не даходзяць. Ля адной, новай, досыць прывабнай на выгляд хаты-пяцісценкі шумна і тлумна. Заўважыўшы старшыню сельсавета, з двара выскокваюць некалькі жанок і, пабраўшыся за рукі, як бы перагароджваюць вуліцу.

— Не пусцім, старшыня. Зайдзіце. Хоць на пяць мінутак...

У хаце вяселле. І ніяк не могуць адмовіцца Кравец і карэспандэнт, каб не завітаць у гэтую вясёлую хату. Госці сядзяць у двух пакоях. Яны на добрым падпітку. Гудуць, размаўляюць так гучна, што нічога нельга разабраць. Кажух Краўца і еўрапейскае, з шырокімі плячамі, у буйную клетку паліто карэспандэнта ляцяць у агульную кучу.

Карэспандэнта садзяць на самы покут, ледзь не пад іконы, паблізу маладых. Кравец лепіцца ў канцы стала. Баляванне багатае: такога не магло быць ні ў першы пасля вайны год, ні нават летась. З напіткаў — батарэі бутэлек з самагонкай, чыстай і падфарбаванай, самаробныя квасы, сокі. Уражвае закуска: варанае, смажанае, прыкопчанае мяса, сала, шынкі, кілбасы. А таксама коржыкі з макам, са смятанай, розныя халадцы, кісялі. Стол ад пітва і яды ломіцца.

Васіль наважвае трымацца сябе на ўзроўні. Ён усё-такі карэспандэнт абласной газеты.

— Гарэлкі не п’ю,— рашуча заяўляе, як толькі перад ім паяўляецца поўная, як вока, шклянка з празрыстай вадкасцю.

Ад Васіля не хаваецца, што двое ці трое мужчын, што сядзяць насупраць яго, перамігваюцца.

— Браток, хіба мы прымушаем? Не пі етай гары. Мы табе салодзенькай нальем...

Кравец, які сядзіць на другім канцы стала, падае Васілю нейкія знакі, але карэспандэнт іх не разумее. Пакаштаваўшы салодкі, прыемны на смак напітак, ён умомант асушае шклянку. Яму другую наліваюць. Трохі закусіўшы, ён і гэтую выпівае.

Далей як у сне. Васілю наліваюць салодкі трунак, ён п'е, раз-пораз падымаецца, выгуквае тосты, хваліць маладую, маладога, гаспадароў хаты, яшчэ нешта прамаўляе. Першы раз у жыцці ён так напіваецца, што не можа ўспомніць, аб чым гаварыў...

Ён не памятае, як апранаўся, выходзіў з хаты, развітваўся з гаспадарамі.

Прыйшоўшы болей-меней да памяці, ён бачыць сябе ў прасторным памяшканні з белымі сасновымі, якія пахнуць смалой, сценамі. Ён за сталом, поруч з ім старшыня сельсавета Кравец, на лаўках, пастаўленых наўзбоч сцен, сядзяць яшчэ тры ці чатыры чалавекі.

Васіль хоча штосьці спытаць у Краўца, але язык не слухаецца. У горле, роце перасохла; ніколі такога з Васілём не здаралася. Ён нават палохаецца. Нарэшце нейкім хрыплым чужым голасам выгуквае:

— Вады!..

Адзін з тых, што сядзяць каля сцяны, похапкам зрываецца з лаўкі, кідаецца ў пярэдні пакой. Вяртаецца подбегам, распырскваючы ваду з меднай конаўкі.

— Я табе знакі даваў, толькі ты не зразумеў,— гаворыць Кравец.— Медавухай спаілі. Страшная рэч. Болей шклянкі нельга піць...

Відаць, Кравец хацеў правесці ў новым будынку сельсавета нараду. Не атрымалася...

Пераначаваўшы ў старшыні сельсавета, нават не паснедаўшы, карэспандэнт выбіраецца ў дарогу. Яму сорамна. Не ўмее трымацца на людзях. Трэба ў далейшым асцярожна весці сябе за святочным сталом.

Сыпле сняжок. У галаве пакрысе свяжэе. Паволі спадае панылы настрой. Калі строга разбірацца, нічога асабліва страшнага не адбылося. Падпіў на вяселлі. Дык там не было ніводнага цвярозага. Проста трэба памятаць на будучае. Каб такі выпадак не паўтарыўся.

Васіль завітвае ў Залукі, бедную пясчаную вёску, размешчаную на ўскрайку балота. Залукі ўцалелі, хоць выгляд маюць нават горшы, чым спаленыя вёскі. Бо хаткі старасвецкія,

струхлелыя, з малымі падслепаватымі аконцамі. Яшчэ дзяды, прадзеды жылі ў гэтых хатках.

У Залуках жывуць два знаёмыя браты-настаўнікі, і карэспандэнт да іх накіроўваецца.

Прозвішча настаўнікаў — Хітруны. Старэйшы брат Лявон, невысокі, надзвычай жвавы, выкладае гісторыю, малодшы Антон — літаратуру і мову. Можа, Хітруны сапраўды трохі хітрыя, але да Войціка яны ставяцца прыхільна. Лявонава жонка прывячае Васіля, чым толькі можа.

На Васіля абрынаецца цэлая плынь навін. Па-першае, Антона ў Залуках няма. Ён цяпер загадчык райана, перабраўся ў мястэчка. Галоўная навіна, аднак, не гэтая. Зняты з пасады другога сакратара райкама партыі Шурко. Яго выклікалі ў Мінск, у ЦК КПБ, і, прыехаўшы адтуль, ён сам падаў заяву.

Нарэшце яшчэ адна горкая навіна. Дом старшыні калгаса Куракі ў суседняй Вялікай Дуброве мінулай ноччу згарэў. Нехта падпаліў. Сам Курака выскачыў у чым стаіць. Нават адзенне згарэла.

Войціку пстрычка па носе. Бо ён непамерна ўзвялічваў Кураку. Пісаў як ні пра каго другога ў раёне, лічыў: строгія, патрабавальныя кіраўнікі якраз найбольш патрэбныя. Закрываў вочы на тое, што Курака грубы, дэспатычны, фактычна самадур.

Войцік не застаецца начаваць у Залуках. Дні пабольшалі, дарога добрая. Пакуль сцямнее, ён дойдзе да мястэчка.

У Вялікай Дуброве на пятачку, размешчаным трохі наводшыбе ад дарогі, стаяла хата старшыні Куракі. Цяпер тут зеўрае адкрытым жаралом чорная абпаленая печ, валяецца розны друз; нават груша, якая стаяла пры самай хаце, згарэла. Войцік трохі сілы не разлічыў. За Кавенькамі пачынае згушчацца перадвячэрні змрок. Аднак няма страху: мястэчка блізка.

Наперадзе Васіль бачыць цёмную постаць. Чалавек ідзе ўпэўнена, бадзёра, шырока размахваючы рукамі. Пад ягонымі ботамі пахруствае малады зашэрхлы лядок.

Васіль даганяе чалавека і адразу пазнае ў ім райвыканкамаўскага сакратара Піліпа Дашука, хлапца, з якім да

вайны вучыўся ў школе. Піліп жыве ў Кавеньках, а дабіраецца пешкі на работу і з работы, як некалі дабіраўся ў школу.

Высвятляецца, чаму Піліп насупраць ночы кіруе ў мястэчка. Некалькі дзён ён прахварэў, у райвыканкаме тым часам накапілася шмат папер. Трэба іх давесці да ладу.

Піліп сярэдняга росту, каржакаваты, з уласцівай усім, хто жыве ў Кавеньках, напеўнай гаворкай. На вайне Піліп не быў. Пайшоўшы разам з дзесяцікласнікамі на прызыў, нейкім чынам аказаўся белабілетнікам. Усю вайну лавіў рыбу ў Енісеі.

Піліп не паступае ў інстытут. Збіраецца вучыцца ў партыйнай школе. Там і стыпендыя вышэйшая, і перспектывы шырэйшыя.

Піліп здзіўляе Васіля нечаканай гаворкай.

— Пра поспехі калгасаў будзеш пісаць. Глупства, брат. Я даўно перахварэў на тваю хваробу. Ніякіх поспехаў няма. Калгасніка абдзіралі і абдзіраюць, як ліпку. Здай малако, мяса, шэрсць, падатку заплаці дзве ці тры тысячы. Горш чым пры цару зацуглялі селяніна...

Васілю нібы зацінае дыханне. Ніколі не думаў, што пачуе такія словы ад Дашука, які яшчэ ў школе лічыўся актывістам, пісаў у многія газеты пра поспехі калгаса.

— Цяжкасцей многа, але жыццё патроху паляпшаецца,— дыпламатычна адказвае Васіль.— Вось карткі адмянілі, ёсць вольны хлеб. Вайна толькі два гады як скончылася...

— У калгасніка няма хлеба. Нішчымнай бульбай душыцца. Бо мяса, малако трэба здаць.

— У Глушаўцы фурманка прывезла з Рэчыцы хлеб, крупы, камсу. Сам бачыў...

— Раз у месяц-два, мажа, прывязе. Бо адкуль у калгасніка грошы? Трэба пеўня прадаць ці курыцу, каб купіць камсы...

— За кок-сагыз трохі плацяць.

— Слёзы, не грошы. Дый то старшыня са сваёй лапы іх не выпусціць. Бо ў калгасе столькі дзірак. Не дуры, Васіль, сам ведаеш. Толькі не напішаш. Бо жывем мы, браце, у паліцэйскай дзяржаве. Інакш не назавеш...

— А сацыялізм, камунізм? — міжволі вырываецца ў Васіля.

— Аб'явяць, што жывем пры камунізме, і будзеш пісаць. Нідзе не дзенешся. У такі, брат, свет мы трапілі...

Яны ўжо ўваходзяць у мястэчка. Піліп змаўкае. Чаму ён такі смелы? Можа, з ліку тых, што спецыяльна заводзяць падобныя размовы. Толькі, здаецца, не. Не хітруе Піліп. Бо калі наспеюць у душы тыя або іншыя думкі, то хавайся не хавайся, а каму-небудзь іх выкажаш...

Дзіўна: Піліп нядобразычліва ставіцца да існуючых парадкаў, а вучыцца збіраецца ў партыйнай школе. Васіль так бы не рабіў. Піліпа, відаць, прываблівае высокая стыпендыя, разы ў чатыры большая, чым у звычайных студэнтаў.

## VI

Вясна пачынаецца з разліву святла. Яшчэ са стрэх звісаюць ледзяныя зеленавата-сінія суслы, на дарогах хрупасткі лядок, мярэжай сінечы ахутаны далёкі лес, а ў паветры пануе ўжо незвычайная празрыстасць. Яшчэ па-зімоваму мароз можа ціскануць, нават дзівосныя ўзоры намаляваць на шыбах, але подых вясны спыніць нельга. Выглядае з-за калматых, шматслойных воблакаў сонца, балбочуць раўчукі, весела цілíўкаюць, вылезшы з застрэшшаў, вераб'і. Вечарам зашэрхлая скарынка хрупасткага лёду зноў пакрывае дарогі, з поўдня лёд падтайвае, па агародах, ля плятнёў асядаюць, чарнеючы, гурбы снегу.

Два месяцы не быў Васіль у Мазыры. Засумаваў па рэдакцыі, па Гэлі.

Работа яму пачынае прыядацца. Наступіць вясна, і будзе тое самае, што летась і пазалетась. Будзе пісаць пра ворыва, вывазку ўгнаенняў, сяўбу, касавіцу. Каб хоць сам вазіў гной ці араў. Васіль працаваў у рамонтнай брыгадзе і ведае адчуванне рабочага чалавека. Пасля змены прыемная стома і адчуванне выкананага абавязку.

Цяпер не тое. Часам баліць галава. Не хіліць да сябе аднастайнае пісанне артыкулаў за брыгадзіраў і старшынь

калгасаў. Бо ёсць тут штосьці ад хлусні. Ніводзін нармальны чалавек (выключэнне складаюць рыбакі і паляўнічыя) не будзе пахваляцца, як ён выканаў тую або іншую работу.

Васіль друкуе цяпер патроху вершы, фельетоны, рэцэнзіі на новыя кнігі. Але, можна сказаць, робіць гэта праз сілу. Бо местачковая рэчаіснасць не дае ніякага грунту для ўзлёту духу. Усё вельмі звычайна, празаічна. Відаць, нават вялікі пісьменнік Шолахаў, які жыве ў станіцы Вёшанскай, не можа ўзляцець над шэрасцю, аднастайнасцю жыцця. Таму мала піша і не падымаецца вышэй напісанага раней.

Каб не Мінск, не ўніверсітэт, Васіль проста не вытрымаў бы. Пайшоў бы на чыгунку ў рамонтную брыгаду або ў леснікі. Каб адчуваць сваю годнасць, патрэбнасць існавання.

Нядобра ўражвае Васіля зняцце з пасады сакратара райкама Шурко. Ён цяпер ведае прычыну: выклікалі сакратара райкама ў Мінск, у ЦК КПБ, доўга корпаліся ў анкеце. Нарэшце сакратар па кадрах Жылянін заяўляе: не мае Шурко маральнага права працаваць у райкаме. Бо позна пайшоў у партызаны. Вясной сорак трэцяга года.

А чаму не падумалі ў ЦК, што Шурко самая яркая асоба ў раёне? Ды і вядома дакладна: партызаны ў Паўднёва-Прыпяцкай зоне, дзе жыў Шурко, толькі ў сорак трэцім годзе пачалі арганізоўвацца. Не мог адзін Шурко стварыць партызанскую брыгаду.

Войцік бачыў Жыляніна. Яшчэ ў партызанах. Тады сённяшні партыйны чын быў яшчэ камсамольскім важаком. Праязджаў па атрадах і брыгадах. Чарнявы, з тонкімі злымі губамі і нахмураным тварам. У іхняй брыгадзе нават не запыніўся. Сядзеў на кані, у добрым рыпучым сядле, з перавешаным праз шыю аўтаматам. Акружалі яго чалавек трыццаць такіх, як сам, малайцоў з новенькімі аўтаматамі. А ў іх брыгадзе аўтамата не мелі нават камандзір і камісар.

Запытаць бы ў Жыляніна, які распараджаецца людскімі лёсамі, пра сёе-тое. Напрыклад, пра тое, чаму адступала армія да Волгі і Каўказа. І як мусілі паводзіць сябе нават не мільёны, дзясяткі мільёнаў людзей, што апынуліся пад уладай ворага.

Дзе і як мусілі здабываць харч, вопратку, дах над галавой? Бо гэта элементарныя рэчы, без якіх не можа жыць чалавек. Але іх або не заўважаюць, або свядома замоўчваюць. У тым ліку высокі партыйны чын Жылянін.

Васіль чытае новыя творы пра вайну, якія друкуюцца ў «тоўстых» часопісах. Часам аж непрыемна робіцца, як прыгладжваюць, прылізваюць трагічныя падзеі вайны пісьменнікі, рэдактары. Нібыта не было адступленняў, акружэнняў, соцень тысяч нашых ваеннапалонных, гібелі мільёнаў людзей. Некаторыя пісакі нават спрабуюць сцвярджаць, што вайна вялася па строга прадуманым плане...

Збіраючыся ў Мазыр, сесці на тормаз таварняка Васіль больш не адважваецца. Хопіць, сухі плеўрыт нажыў. Тым часам пасажырскі цягнік Гомель — Брэст прыходзіць у чыгуначны гарадок у вельмі непрыдатны час. У адзінаццаць вечара. Калі ўбіцца ў мазырскі аўтобусік, які звычайна чакае на вакзале, то ў Мазыр прыедзеш у дванаццаць. Яшчэ з паўгадзіны трэба брысці па начным горадзе да рэдакцыі.

У чыгуначным гарадку аўтобусіка на гэты раз няма. Карэспандэнт ідзе у гасцініцу. Яна насупраць вакзала праз вуліцу-шасейку. Змрочны драўляны дом з зачыненымі аканіцамі. Але — на шчасце — ёсць вольныя месцы.

Назаўтра, перш чым рушыць у Мазыр, Васіль снедае ў вакзальным рэстаране. Можа, залішне гучнае слова «рэстаран» для адгароджанага ад чакальнай залы не надта вялікага зальчыка. Затое тут можна паснедаць, паабедаць і павячэраць.

У Мазыры імкліва цячэ пасярэдзіне вуліцы жоўтая рака. На пагорках, што ўзвышаюцца паабапал вуліцы, растае снег, і вада імкліва сцякае ўніз, захопліваючы пясок і гліну. Пагоркі прыкметна палыселі, свецячы праплешынамі рудой леташняй травы.

Наўзбоч тратуара стаяць да непрыемнасці абрэзаныя таполі. Проста псуюць выгляд. Не дрэвы, а нейкія абрубкі, бо галін на іх няма.

Ніхто не заўважыў, што Войцік не быў у рэдакцыі два месяцы. Таму ніхто нічога не пытае.

Па калідоры пахаджвае Войцікаў калега (карэспандэнт па паўднёва-прыпяцкіх раёнах) Захар Бобчанка. На яго безвалосым татарскім твары свеціцца ўсмешка.

— Бяжы ў бухгалтэрыю. Ганарар даюць...

Войцік сябруе з Бобчанкам. Яго сусед іранічна-насмешлівы, на кожным кроку каго-небудзь падколвае, падпускае шпількі. Гэта ўсё знешняе. Бо Захар зусім бяскрыўдны.

Ганарар Войцік палучае. Затым разносіць па аддзелах напісаныя матэрыялы. На вузкай вітой лесвіцы нос у нос сутыкаецца з аднарукім Жэнем Брахалкам, літсупрацоўнікам. На вайне Жэня не быў: руку страціў па дурасці, развінчваючы гранату.

Брахалка — хлопец нечыстаплотны. Амаль адкрыта жыве з жонкай карэспандэнта рэспубліканскай газеты Тронькі. Тронька — заняпалы, падслепаваты, хоць як журналіст выдатны. Калі Тронька завітвае ў рэдакцыю абласной газеты, Брахалка бяжыць да ягонай жонкі.

— Добра, што цябе ўбачыў! — гудзе Брахалка.— Нашы на флюараграфіі. Я не пайду. Руку мне не прышыюць, лёгкія маю як кавальскія мяхі. Можа, ты сходзіш?..

Войцік бярэ ў Брахалкі папяровы квадрацік накіравання ў клініку. Пасля плеўрыту варта праверыцца.

У пакойчыку перад кабінетам рэнтгенолага супрацоўнікаў рэдакцыі няма. Паспелі праверыцца. Доктар у белым халаце з белай шапачкай на сівой галаве круціць Войціка перад рэнтгенаўскім апаратам, паварочваючы да яго то грудзьмі, то спіной, то бокам. Адчуванне непрыемнае.

Нарэшце доктар дазваляе пацыенту апрануцца, штосьці доўга малюе на паперцы-квадраціку накіравання.

— Вось што, малады чалавек. Вам трэба паказацца ўрачу. Неадкладна.

Першы, каго сустракае на вуліцы Васіль, аднарукі Брахалка.

— Го! — усклікае ён, зірнуўшы на паперку-квадрацік.— У цябе справа горшая, чым у Гарватоўскага. Суцэльныя плямы...

Дзіўна: Васіль не адчувае ніякага страху.

— Ты ў рэдакцыі нікому нічога не кажы,— просіць ён Брахалку.— Пачнуць мянціць языкамі.

— Мая справа цялячая. Толькі табе ў дыспансер прыйдзецца лажыцца.

— Прыкусі язык! — ужо злосна адзываецца Войцік.— Паберажы сілы для бабы, да якой бегаеш...

Брахалка проста палохаецца.

— Ніхто ад мяне нічога не пачуе. Будзь спок...

Васіль углядаецца ў паперку. Ягоныя лёгкія ў буйных і дробных плямках. Правае больш за левае. У правым баку быў плеўрыт.

Калі думаць пра туберкулёз, то Васіль сапраўды не адчувае прыступу грознай хваробы. Не пацее, не кашляе. І крывёю ні разу не харкаў.

Васіль тут жа рве папяровы квадрацік на дробныя кавалачкі. Нікуды ён не пойдзе. Медыкі страх наганяюць. Пакуль не паваліць хвароба, носа нікуды не пакажа...

Над галавой хмурае неба, засланае густымі, шматслойнымі воблакамі. Воблакі паўзуць, рухаюцца, і час ад часу між імі вынікае прагал сіняга вясновага неба. Няўжо праз год ці два Васіль не ўбачыць неба, зяляніны, не пачуе птушак, што весела шчабечуць у прадчуванні цёплых дзён. Халодная вужака непакою, трывогі час ад часу ўсё ж падымае галаву ў Васілёвай душы.

З пошты, грукаючы кірзавымі ботамі па бруку, выдыбвае Захар Бобчанка. Васіль ведае: Захар адаслаў ганарар жонцы. Тэлеграфным пераводам. У яго сямёра дзяцей, якія патрабуюць харчу, таму карэспандэнт грошы ніколі пры сабе не трымае.

— Пойдзем піва вып’ем,— гаворыць Захар.

У ларках піва халоднае, таму карэспандэнты кіруюць у харчэўню, размешчаную на беразе Прыпяці. Там можна і паабедаць.

Піва ў Мазыры харошае. Заводу, які яго вырабляе, ці не сто гадоў. Ёсць традыцыя, вопыт.

Баляваць дык баляваць. Дружбакі бяруць па сто пяцьдзясят грамаў гарэлкі і па два куфлі піва. Варта адзначыць сустрэчу пасля адмены картачнай сістэмы. Тым болей што карэспандэнтам трохі зарплаты прыбавілі.

— Паглядзі мае матэрыялы,— просіць Бобчанка.

Бобчанка, хоць карэспандэнт даваенны, піша кепска. Кожны ягоны матэрыял трэба правіць. Васіль у час такіх вось сустрэч памагае таварышу. Але цяпер у яго другі клопат.

— Заўтра пагляджу. Сёння ты мне памажы, Захар. Кладзіся спаць у аддзеле пісем. Гадзін у дзесяць я пастукаю ў шыбу. Адчыніш дзверы. Трэба, каб вартаўнік не чуў і не бачыў. І наогул пабудзеш на варце...

— Ясна,— гаворыць Бобчанка.— Будзе зроблена. Толькі за гэта трэба яшчэ трохі выпіць...

Пасля візіту ў кабінет рэнтгенолага да Васіля прыходзіць простая і ясная, як дзень, думка. Два гады ён ходзіць з Гэляй, яна сама прызналася, што была замужам, а ён да яе падступіцца баіцца. Што яна пра яго думае?..

Гэля самотная, маўклівая. Ён заходзіць да яе на кватэру, запрашае павандраваць па горадзе. Яна згаджаецца. Ідуць да падобнага на карабок запалак будынка рэдакцыі. Васіль ціха стукае ў апошняе з краю акно, Захар на месцы. Дзверы праз хвіліну адчыняюцца. Чуваць, як у бакоўцы пад лесвіцай храпе глухаваты вартаўнік.

Падымаюцца на другі паверх. Падтрымліваючы за руку, Васіль вядзе па вузкай вінтавой лесвіцы Гэлю.

Ён сам не думаў, што ўсё будзе так звычайна і проста. У рэдактарскім кабінеце Васіль святло не запальвае.

Насупраць пакоя ўзвышаецца слуп з электрычным ліхтаром. У пакоі светлы паўзмрок. Тахкае гадзіннік у драўлянай карobцы. Цяпер Васіль яго не спыняе.

Усё здараецца імгненна. Гэля пакорлівая, як дзіця. Дазваляе сябе абнімаць, цалаваць. Упершыню Васіль бачыць яе буйное, асабліва ў бёдрах, цела. Усё ў Гэлі падабаецца Васілю. Яна жанчына ягонай мары...

Па гулкім пустым горадзе Васіль праводзіць Гэлю дамоў. Патрэсквае пад нагамі тонкі лядок. Яны раз-пораз спыняюцца, не баючыся, што хто-небудзь убачыць, цалуюцца. Так да самага Гэлінага дома. Душа ў Васіля спявае...

У рэдакцыю ён вяртаецца перапоўнены шчасцем. Такая выдатная жанчына яго любіць. Два гады ён займаў яе пустымі

размовамі. А яна ж замужам была. Таго далёкага невядомага мужчыну, Гэлінага мужа, Васіль у разлік не бярэ. Ён яго не бачыў. Гэля ведала, што загінулі бацькі. Адзінокай, самотнай, ёй была патрэбна хоць якая-небудзь падтрымка.

Захар на варце. Зноў адчыняе дзверы. Пра тое, што нядаўна адбылося, маўчыць. Малайчына Захар...

Васіль не спяшаецца выбірацца з Мазыра. Ён цяпер пад Гэлінай уладай. Неадольна цягне яго да сябе вялікае, гарачае Гэліна цела, яна ўся — падатлівая, блізкая. Але дзе сустрэцца? У рэдакцыі нельга. Ёсць штосьці абразлівае ў тым, як ён, нібы злодзей, вёў Гэлю ў кабінет рэдактара.

Нарэшце Войцік успамінае пра карэспандэнта Троньку. Таго самага, да жонкі якога валэндаецца дужы аднарукі абібок Брахалка (пад матэрыяламі ён падпісваецца «Пятроўскі»). Васіль звоніць карэспандэнту дамоў.

— Хачу бачыць цябе, Валодзя.

— Прыйсці ў рэдакцыю?

— Лепей у парк. Я буду чакаць каля ўвахода.

Тронька з’яўляецца хутка.

— Дай мне сваё пасведчанне, Валодзя.

— Навошта?

— Хачу атрымаць пакой у гасцініцы.

— Так не атрымаецца. Мяне ведаюць. Дый мая абразіна на тваю не падобна.

Тым часам Тронька выйсце знаходзіць. Заходзяць у першы дамок, дзе ёсць тэлефон. Тут размяшчаецца кантора нейкай арцелі. Тронька просіць дазволу пазваніць.

— Ты, Ліхачоў? Пазнаў мяне? Прывітанне ад нашага рэдактара. Тут мы з карэспандэнтам абласной газеты Войцікам робім матэрыял. Яму няма дзе жыць. Дай яму пакой у інтэрнаце. Асобны. Бо пісаць будзем разам: спрачацца, гарланіць...

Калі выходзяць з канторы, Тронька заяўляе:

— Усё ў парадку. Ідзі ў інтэрнат. Дамоўленасць жалезная...

Інтэрнат трэста будаўнікоў на горцы, насупраць драўлянага часовага моста праз Прыпяць.

Пакоік у інтэрнаце на трэцім паверсе. Светлы, чысты, абклеены блакітнымі шпалерамі. І выгляд з акна прывабны.

Шырокая стужка яшчэ заледзянелай, з цёмнымі прамоінамі Прыпяці, аснежаныя зарэчныя далі, далёкая цёмна-сіняя стужка лесу.

Ужо вечар наступае. Войцік звоніць Гэлі. На службу. Дамаўляецца аб сустрэчы. У парку.

Ён завітвае ў два-тры магазіны, сёе-тое набывае. Брызентавая лейтэнанцкая сумка вельмі прыдатная для тых рэчаў, якія ён купляе.

Гэля вясёлая. Нават як бы ўзбуджаная.

— Не паехаў? Воўк у лесе здох. Павядзеш мяне ў рэдакцыю?

— Прабач за рэдакцыю. Добра не падумаў. Цяпер маю пакой.

Зусім згушчаецца сінеча адвячорка. Яны ідуць па верхняй набярэжнай вуліцы, затым па гарбатым, замошчаным дзікім каменем правулку, які вядзе на гару. Тут дамкі,— хаціны бадай што вясковага выгляду, але з прыбітымі белымі талеркамі адрасоў. У снезе разгалістыя, з цёмным суччам яблыні, грушы. У адным месцы нават тры стройныя бярозы стаяць.

Нарэшце перад вачамі вырастае квадратная чатырохпавярховая каробка інтэрната.

Пакойчык Гэлі падабаецца. Але ў іх на дваіх дзве бутэлькі віна і толькі адна гранёная шклянка.

— Як будзем піць? — пытае Васіль.

У Гэліных вачах вясёлыя чорцікі.

— Як на ганку школы пілі. Памятаеш? З рыльца бутэлькі...

Васіль налівае паўшклянкі віна.

— З рыльца буду піць я. Ты — як у прыстойных кампаніях... Са шклянкі...

На закуску — цукеркі, парэзаны на лісткі галандскі сыр.

Гэля выпівае сваю паўшклянку.

— Хачу напіцца,— заяўляе.

— Цікава пабачыць цябе п’янай.

Васіль налівае сабе поўную шклянку. Выпівае. І адразу пачынае кружыцца ў галаве. Можа, таму, што з раніцы нічога не еў.

— Дамоў сёння не паедзеш?

— І заўтра не збіраюся.

— Нешта дзіўнае.

— Дзіўнага няма. Цябе знайшоў. Згубіў, потым знайшоў...

Гэлін твар хмурнее.

— Як мне цяжка тут. Каб ты ведаў...

— Я табе рабіў прапанову. Давай пажэнімся.

Гэля глядзіць на Васіля, звузіўшы вочы, з насмешкай.

— Хлопчык, пастаў тады крыж на сваім універсітэце. Думаеш, я не разумею...

Між імі нарэшце адбываецца тое, што ўчора...

— Больш не прыйду,— заяўляе Гэля.— Ты як шалёны...

— Ты абяцала напіцца.

— І піць болей не буду.

— Не ведаю, чаго хочаш?

— Сама не ведаю. З'ехаць бы куды-небудзь. Але ж ты са мной не паедзеш. Будзеш пісаць свае заметкі і здаваць экзамены.

— Ты таксама павінна здаваць экзамены...

— Пляваць я на іх хацела. Яшчэ не адолела ніводнага...

Васіль пачынае злавацца. Сапраўды, чаго Гэля хоча? Да яго асабліва не хінецца. Ні разу ласкавага слова не сказала. У гэтым яна падобна на Алесю. Ёй тут сапраўды цяжка. Але вольнаму воля. Няхай едзе, куды хоча. Але ці трэба дзеля гэтага рваць адносіны?..

— Не праводзь мяне,— просіць Гэля.— Пайду адна...

— Ідзі.

Яна парывіста апранаецца, вышмыгвае за дзверы. Васіль адчувае: штосьці з Гэляй адбываецца. Але што?

Фактычна новы разрыў адносін. Застаецца толькі чакаць. Ён, Васіль, уступіў у свет жанчын, а гэта, аказваецца, складаны, супярэчлівы свет.

Васіль выходзіць на ганак інтэрната. Вецер узмацняецца, ён глуха шуміць у галінах яблынь, груш, а ў нацягнутых тэлефонных дратах проста завывае. Раптам з дзвярэй інтэрната вышмыгвае Алеся Малейка. Ахінуўшыся вязанай хусткай, яна нагадвае малую шэрую мышку. Дзіўна: Васіль не адчувае ніякай горычы. Калі на тое пайшло, не трэба яму ні Гэля,

ні Алеся. Ён успамінае словы Сакалоўскага-малодшага — настаўніка з Суражскай школы. Той гаварыў, што Алеся можа пайсці па руках. Відаць, пайшла ўжо. І ніякіх дакораў сумлення не адчувае. Бярэ магчымую даніну з маладосці...

Васіля агортвае горкая абыякавасць, безуважлівасць. Што б ні гаварыла Гэля, ён будзе пісаць заметкі і здаваць экзамены. Нічога другога яму не застаецца...

Не паказаўшыся ў рэдакцыі, Васіль выязджае з Мазыра. Зіма адступае, але неяк павольна, марудна, неахвотна. Снег яшчэ пакрывае заліўныя сенажаці. На іх стала толькі больш праталін. Вось каб дождж пайшоў! За дзень ці два ён бы з'еў пацямнелы, заледзянелы снег.

У мястэчку — навіна. Яна б'е Васіля нібы абухом. З пасады сакратара райкама камсамола зняты Сяргей Шугай. У райкам партыі нехта падкінуў ананімку. Нібыта, перш чым рушыць у партызаны, Шугай месяц ці два працаваў настаўнікам. У пачатковай школе, якая нават паўгода не праіснавала.

Вось такія на свеце справы. Лабанчука знялі з рэдактарства, Шурко — з партыйнай работы і нарэшце Шугая — з камсамольскай. Не перастае круціць людскія лёсы праклятая акупацыя...

Войціка выклікае ў райкам партыі Соф'я Андрыенка, сакратар па кадрах. Яе некалі прыгожы, нават вытанчаны твар зблажэў, змізарнеў. Замужам яна не была і ўсю сябе аддае партыйнай рабоце.

Можа б, Войцік згадзіўся стаць першым сакратаром райкама камсамола. Райкам партыі яго падтрымае. Шугай быў выпадковы чалавек...

Не, Войцік на такую пасаду не пойдзе ні пры якіх абставінах. Па-першае, няздатны да арганізацыйнай работы і наогул яе не любіць. Па-другое, ён студэнт БДУ, летам мусіць скончыць трэці курс. Працуючы ў райкаме камсамола, універсітэта не скончыш.

Хоць хвароба, якую напрарочыў рэнтгенолаг, нічым пра сябе не нагадвае, Войцік усё-такі схадзіў у амбулаторыю. Калі ён сапраўды хворы, мог Гэлю заразіць. Тады, у Мазыры, Васіль пра гэта не падумаў.

Здаравенны рыжы доктар Мілер круціў, як мог, Войціка ў вузкай клетцы рэнтгена, выстукваў, выслухваў стэтаскопам. У заключэнне сказаў:

— У дзяцінстве, малады чалавек, вы перахварэлі туберкулёзам. Сур’ёзна. Каверны даўно зарубцаваліся. Як вы лячыліся?

Ніяк ён не лячыўся. Нават не ведаў пра сваю грозную хваробу.

Выйшаўшы ад доктара, Васіль штосьці смутна ўспамінае. Калі ён вучыўся ў другім ці трэцім класе, адчуваў сябе неяк млосна. Часта пацеў, губляў апетыт. Але летам, вышукваючы птушыныя гнёзды, ён гайсаў па лесе, еў ягады. Пад восень, выбіраючыся па грыбы, ледзь не штодзень, блукаў па баравінах.

Так, апетыт у яго быў дрэнны. Але маці, як бы што прадчуваючы, не шкадавала Васілю малака. Малако Васіль піў па збанку або, можа, і болей на дзень. Дзякуй табе, маці...

Зноў Васіль у падарожжы. Цяпер зноў у заходнім кутку раёна, дзе ўжо неаднойчы быў.

Васіль пастаянна думае пра Гэлю. З ёю адбываецца нешта дзіўнае. Нешта падобнае на тое, што было з Алесяй Малейкай, калі яна пазнаёмілася з капітанам і, відаць, збіралася выйсці за яго замуж. Але хто невядомы, нябачны супернік Васіля? І чаму Гэля не адштурхнула Васіля, калі мела добрага прыяцеля?..

Вясна ўвабралася ў сілу. Лес яшчэ стаіць шэры, толькі вербы распусцілі свае коцікі і далікатныя завушніцы. Яшчэ дзе-небудзь у яме нават снег ляжыць. Але перагукваюцца ўжо на розныя галасы птушкі, з-за калматых хмар выглядваюць блакітна-чыстыя кавалкі неба, ды і сонца сяды-тады праглядвае.

Васіль на поўныя грудзі дыхае чыстым лясным паветрам з размаітымі пахамі зямлі, прэлага лісця, першай кволай зеляніны.

Бесклапотны ён чалавек, карэспандэнт Васіль Войцік. Пасля грознага папярэджання рэнтгенолага нават курыць не кінуў. Згортвае тоўстыя цыгаркі, пыхкае дымам.

На адным полі, заціснутым з трох бакоў лесам, карэспандэнт бачыць незвычайную карціну. Яшчэ толькі канец сакавіка, а вяскоўцы ўжо сеюць авёс.

Карэспандэнт распытвае сейбітаў, двух вахлакаватых дзядзькоў з сеўнямі-лубянкамі на грудзях, аб глыбіні ворыва, нормах высеву. Нібыта ён які-небудзь аграном ці нават агратэхнік. Але такія лічбы трэба для газеты.

— Па леташнім бульбянішчы сеем,— тлумачаць дзядзькі.— Хіба не бачыш? Сей у гразь, будзеш князь. Пра нормы не ведаем. Сеем, як дзяды сеялі...

Войцік частуе сейбітаў махоркай, нарэшце збіраецца адыходзіць. Дзядзькі, аднак, яго запыняюць.

— Ты, дарагі чалавек, вот пра што напішы. Поля ў нас няшмат. Адсеемся за тыдзень. А потым што? Да вайны мелі цагельны заводзік. Цэглу рабілі, дажа чарапіцу. А цяпер рукі няма за што зачапіць. Пачнуць разыходзіцца людзі. Напішы, каб банк даў крэдыт. Астальное самі зробім...

Войцік выходзіць на Макаў. Сяло вялікае, доўгае. Толькі надзвычай беднае. Бо стаіць на пясках і населена не беларусамі, а ўкраінцамі, якія сюды перабраліся яшчэ да рэвалюцыі. У сельсавеце — старой, амаль пустой будыніне — ёсць тэлефон. З сельсавета вельмі няпроста дазваніцца да Мазыра. Патраціўшы паўгадзіны на ўгаворы тэлефаністак, Войцік нарэшце перадае ў рэдакцыю заметку аб пачатку сяўбы. Будзе сенсацыя! У сакавіку пачалася сяўба!.. Войцік нібы бачыць сваю заметку на першай паласе, надрукаваную буйным шрыфтам.

Макаўшчына — знаёмыя мясціны. У юнацкіх грыбных вандраваннях Войцік выходзіў з маладых саснякоў на прагал і ўдалечыні бачыў шэрыя, выцягнутыя ў шнур хаткі вёскі Макаў. Паварочваў, ішоў назад.

На верасовых прасцягах ён марыў пра будучыню і, вядома, пра дзяўчыну, якую ён у гэтай будучыні напаткае. Дык вось цяпер такая дзяўчына ёсць. Гэля. Хоць лес, які разросся, падбіраецца пад сапраўдны бор, пра Гэлю не ведае. Бо восенню апошняга мірнага года Васіль з ёй пазнаёміўся. Тады яшчэ Гэля не займала ў яго душы такога месца, як цяпер. Тады ён больш думаў пра Алесю Малейку.

Васіль выходзіць з памяшкання сельсавета. Пачынае згушчацца вячэрняя сінеча. Лес паступова робіцца цёмным, зацятым. Хутка прыйдзе пасажырскі цягнік. На хвіліну спыніцца на маленькай станцыі. Можна сесці на цягнік, даехаць да чыгуначнага гарадка, а там і да Мазыра дабрацца. У Мазыры Гэля...

Васіль адкідвае зваблівую думку. Тыдзень назад у Мазыры ён быў. Гэля ад яго фактычна ўцякла. А ён за дзяўчатамі не будзе бегаць. Хто б яны ні былі. Асабліва калі не адчувае за сабой віны.

І ўсё-такі здараецца цуд. Калі на станцыі спыняецца цягнік, Васіль не вытрымлівае і лезе ў вагон.

У Мазыры карэспандэнта чакае радасная неспадзяванка. Пакуль Васіль падарожнічаў, газета надрукавала два яго невялікія нарысы. Пра фурманку, што прывезла ў Глушаўку прадукты з Рэчыцы, і пра вяселле ў Дуброве.

Матэрыялы змешчаны на першай старонцы. Гэта што-небудзь ды значыць.

А з заметкай пра раннюю сяўбу выйшла асечка. Не атрымалася сенсацыі. Наадварот, Васіль атрымаў вымову ад загадчыка сельгасаддзела Гарватоўскага.

— Вобласць яшчэ не вядзе палявыя работы! — цярэбячы рэдкаватыя валасы, крычыць глухаваты загадчык аддзела.— Не займайся дэзінфармацыяй. Зразумеў?..

Так, Войцік разумее. Абласныя кіраўнікі хітруюць. Дзе-небудзь з сярэдзіны месяца пачнуць выхваляцца шпаркімі тэмпамі сяўбы. Прыплюсуюць тое, што даўно пасеяна...

Міма ўвагі Войціка не праходзіць, што Гарватоўскі залішне да яго прыдзіраецца. Карэспандэнцыя, дзе Васіль апісаў размову з калгаснікамі наконт аднаўлення цагельнага заводзіка, выклікае яго нястрыманы гнеў.

— Стратэг знайшоўся! Каго вучыш? Абкам партыі, аблвыканкам? Ёсць планавая камісія. Яна ведае, дзе і што будаваць.

Войцік таксама набіраецца злосці. Ідзе да рэдактара. Расказвае пра стычку з Гарватоўскім. Кладзе на стол матэрыял, і рэдактар прабягае яго вачамі.

— Пакінь у мяне. Хутчэй за ўсё надрукуем. Промыслы ў вёсцы патрэбны. А то людзі пачынаюць разбягацца...

Рэдактар глядзіць на Войціка запытальна. Як бы нешта хоча сказаць. Нарэшце гаворыць:

— Слухай, карэспандэнт. У сваім раёне ты закіс. Што скажаш, калі перавядзём цябе ў апарат? Загадчыкам таго ж сельгасаддзела. Гарватоўскі хворы, яму трэба лячыцца...

Да Войціка цяпер даходзіць, чаму так варожа глядзіць на яго Гарватоўскі.

— Калі летам скончу трэці курс, то яшчэ два гады вучыцца. Ці здолею на такой пасадзе? І кватэру вы мне не дасцё...

Чорненькія рэдактаравы вочкі-свярдзёлкі свецяцца хітрым бляскам.

— Кажуць, у цябе дама сэрца ёсць. Тут, у горадзе. Весялей будзе вучыцца.

Паспелі данесці, мільгае ў Войціка думка. Толькі хто? Захар ці Тронька...

Услых Войцік гаворыць:

— Дазвольце, Мікалай Рыгоравіч, адказаць на ваша пытанне пазней. Пасля сесіі. Адказ залежыць не ад аднаго мяне...

— Што ж, разумею. Наконт вучобы не хвалюйся. Дапаможам. Я сам езджу на сесіі. У Маскву.

Ледаход на Прыпяці знёс часовы драўляны мост. З горада, з правага берага ракі на левы трэба дабірацца на пароме. Або на лодцы. Хітрыя дзялкі гэтым карыстаюцца. Дзяруць з пасажыраў чырвонцы неміласэрна.

На таполях-абрубках праклёўваецца першае клейкае лісце. З зямлі вытыркаецца трава. Свеціць сонца, і яго хвалі адбівае шырокая, якая нават сенажаці заліла, Прыпяць.

Войцік начуе ў рэдакцыі. Днём сядзіць у зальчыку абласной бібліятэкі. Дачытвае тоўсты і нудны падручнік па дыялектычным матэрыялізме.

Ён хоча пабачыць Гэлю. Сказаць аб прапанове рэдактара. Толькі не ведае, як сустрэцца з Гэляй. Яна ад яго фактычна ўцякла.

Шчаслівы выпадак надараецца. Войцік спатыкае на вуліцы кучаравага Грышу, які працуе інструктарам абкама і жыве ў адной кватэры з Гэляй.

Грыша чамусьці адводзіць позірк. Размаўляюць аб дробязях. Нарэшце Войцік пытае пра Гэлю.

Грыша бярэ Войціка пад руку, адводзіць з тратуара ў двор.

— Не хацеў бы я ўмешвацца ў вашы адносіны. Толькі як мужчына мужчыну скажу: пакінь пакуль Гэлю. Няхай сама разбярэцца. У вайну яна нібыта выходзіла замуж. Дык той яе жаніх прыехаў. Спачатку прыслалі пахаронку, а цяпер прыехаў. Дні тры яна яго на парог не пускала. Цяпер сустракаюцца...

Дзякуй табе, Грыша. Васіль нядобрае прадчуваў. Аднак прадчуваць адно, ведаць — зусім другое...

Васіль бярэ адпачынак. На затравелым двары, схаваўшыся ў цянёк, чытае палітэканомію. Па парадку: то падручнік Сегаля, то Леонцьева. З навук грамадскіх палітэканомія самая сур'ёзная.

Цёплым надвячоркам Васіль спатыкае Вольку Сіўчыкаву. Яна, убачыўшы яго, зусім не тоіць радасці. Не згаворваючыся, яны ідуць пясчаным правулкам у напрамку да старой школы. Той самай з шырокім, як майдан, пясчаным дваром, разгалістымі таполямі, дзе Васіль вучыўся да палавіны пятага класа, дзе канчаў пасля сямігодкі настаўніцкія курсы, пазнаёміўся з Алесяй Малейкай, затым сядзеў на школьным ганку, шчыльна атуленым бэзавымі кустамі з Гэляй. Дзіўна: дарогі хісткага, няпэўнага Васілёвага кахання вядуць да гэтай школы.

Яны садзяцца на плот пад разгалістай бярозай. Бяроза зусім не змянілася з таго часу, як Васіль прыйшоў у школу, у першы клас. Пад ёй у снезе на другім годзе вучобы ён хаваў, каб не здаваць настаўніцы (кнігі тады выдавала школа), чытанку, у якой яму вельмі падабаліся малюнкі. У гэтым месцы сутыкаюцца агароды і заўсёды пануе цішыня.

— Я тваёй лялькцы новую сукенку пашыла,— гаворыць Волька.— Сінюю. Яна ёй вельмі да твару.

— Якой лялькцы?

— Якую ты мне падараваў на Новы год.

— Я табе яшчэ падарунак прывязу. Што лепей: ліс ці мядзведзь?

— Ліс,— прыгожы Вольчын тварык пунсавее.— Ліс далікатны...

На душы ў Васіля смутак. Ён яго яшчэ не хутка пакіне. Але прыемна Васілю: ёсць яшчэ на свеце такія шчырыя, даверлівыя дзяўчаты, як Волька, якія не ўмеюць таіць пачуццяў і радуюцца кожнай драбніцы.

*1996*

# ДАЛЯГЛЯДЫ ТВОРЧЫХ ПОШУКАЎ

Як аўтар аповесцяў І. Навуменка заявіў пра сябе ў сярэдзіне 1950-х гадоў. Пасняховасць дэбюту празаіка ў новым для яго жанры грунтавалася як на суб'ектыўнай абумоўленасці (асабістая адоранасць пісьменніка, імкненне да наватарскіх мастацкіх пошукаў), так і на аб'ектыўных фактарах: пачатак актыўнай творчай дзейнасці супаў з гэтак званай хрушчоўскай адлігай, калі ў краіне шырока разгарнуўся працэс дэмакратызацыі практычна ўсіх сфераў грамадска-палітычнага і духоўна-культурнага жыцця. Подых пазітыўных перамен адчулі на сабе ўсе жанры беларускай літаратуры. Найбольш аператыўна — у сілу сваёй выяўленчай мабільнасці — новыя творчыя падыходы дэманстравала апавяданне. Сведчаннем таму сталі творы Я. Брыля, А. Кулакоўскага, М. Лупсякова, І. Мележа, Я. Скрыгана, І. Шамякіна. У гэтым шэрагу І. Навуменку належыць далёка не апошняе месца: у беларускую літаратуру прыйшоў пісьменнік з адметнай творчай манерай пісьма і маштабным мастацкім мысленнем. Апошняя акалічнасць дазволіла яму без асаблівай цяжкасці «пераступіць» мяжу апавядання, упэўнена пачуваць сябе ў гэтак званых вялікіх жанрах.

У размове пра аповесці І. Навуменкі важкае слова самога аўтара. У 1953 годзе ў газеце «Чырвоная змена» друкавалася яго рэцэнзія на раман «Мінскі напрамак» І. Мележа. Як вядома, пісьменніцкая крытыка звяртае ўвагу найперш на агульнае для абодвух аўтараў. Так, І. Навуменка пісаў, што ўжо ў ранніх апавяданнях і аповесцях І. Мележа «праявіліся асаблівасці творчай манеры пісьменніка: уменне ў звычайнай будзённай з'яве знайсці праяўленне чалавечага характару, зазірнуць у яго душэўны свет... Апавяданні падкуплялі чытача непасрэднасцю, шчырасцю, праўдзівасцю адлюстраваных у

іх жыццёвых фактаў. За невялікім выключэннем пабудаваны яны не на вострых сутыкненнях, а ўяўляюць сабой кавалкі па-мастацку асэнсаванага паўсядзённага жыцця»[1]. Ёсць у такой характарыстыцы творчасці пэўны эфект люстэркавасці, але падобныя выказванні пазней неаднаразова прагучаць у аўтарытэтных даследчыкаў, якія ў розны час звярталіся да разгляду прозы І. Навуменкі.

Дэбютная аповесць пісьменніка «Вайна каля Цітавай копанкі» пабачыла свет на старонках часопіса «Маладосць» у снежні 1957 года, а праз два гады выйшла асобнай кнігай. Яе з'яўленне адразу было адзначана некалькімі рэцэнзіямі ў рэспубліканскім друку.

У артыкуле «Почырк пісьменніка» А. Яскевіч засяроджваў увагу на некаторых асаблівасцях аповесці: выкарыстанні аўтабіяграфічнага матэрыялу, веданні дзіцячай псіхалогіі, валоданні мастацкімі сродкамі стварэння гумарыстычнай плыні апавядання. «Стыль аповесці І. Навуменкі часта носіць апісальны характар»[2],— канстатаваў рэцэнзент, робячы заўвагу адносна празмерна разгорнутых пошукаў мастацкай дэталі. Ён падкрэсліваў, што недахопы стылю аўтар кампенсуе, прапускаючы апісанне праз лірычнае ўспрыманне галоўнага героя: «Яша з яго сэрцам, адкрытым для ўсяго жывога і чыстага, з дапытлівымі вачыма, з яго наіўным тлумачэннем незразумелага — гэта той лірычны і гумарыстычны свет, якім пісьменнік пранізаў аповесць, адцяніўшы ў героях і эпізодах тое, што характэрна для дзяцей сярэдняга ўзросту»[3]. Не засталося без увагі і відавочнае імкненне празаіка зрабіць кожнага персанажа лёгка пазнавальным, надзяліць яго адметнай манерай выказвання, і як вынік — актыўнае выкарыстанне формы маналогу і дыялогу, што надало рухомасці фразе, зрабіла яе «выразнай», «мускулістай».

Са з'яўленнем твораў аўтара-пачаткоўца заўсёды паўстае пытанне пра літаратурных настаўнікаў. Цікава, што на старонках таго самага нумара «Маладосці», дзе друкавалася «Вайна каля Цітавай копанкі», была змешчана і рэцэнзія М. Лазарука на першы зборнік апавяданняў І. Навуменкі. У ёй трапна адзначаны тыя шляхі і

[1] Навуменка, І. «Мінскі напрамак» / І. Навуменка // Чырвоная змена.— 1953.— 9 ліп.— С. 4.

[2] Яскевіч, А. Почырк пісьменніка / А. Яскевіч // ЛіМ.— 1958.— 4 чэрв.— С. 3.

[3] Тамсама.

выніку творчага мастацкага пераасэнсавання літаратурнай класікі, пра якія ў вельмі хуткім часе загавораць у сувязі з выхадам першай аповесці: «…мімаволі ўспамінаецца К. Чорны з яго ўменнем адным трапным словам ахарактарызаваць героя, з яго пластычнай дэталлю, глыбокім псіхалагізмам. Справа тут, зразумела, не ў перайманні маладым пісьменнікам К. Чорнага, а ў тым, што Навуменка, відаць, не без уплыву К. Чорнага, правільна зразумеў выяўленчыя магчымасці мастацкай дэталі і такі закон мастацтва, як уменне ў малым, звычайным убачыць значнае, у кароткай рэпліцы пачуць голас душы чалавека»[1]. Не аспрэчваючы відавочную слушнасць гэтага выказвання, крытыка ў далейшым нязменна заўважала ў прозе І. Навуменкі ўплывы найперш творчай спадчыны Я. Коласа. У. Юрэвіч сцвярджаў: «Талент І. Навуменкі развіваецца не без адчувальнага ўплыву Якуба Коласа з яго рэалістычнай манерай пісьма, высокай праўдзівасцю адлюстравання, неўтаймоўнай жыццярадаснасцю, якой памагаюць светлая іронія і лагодны гумар, выключнай прастатой апавядання і нейкай па-сялянску сцішанай, непаказной мудрасцю»[2]. Сказанае яскрава пацвердзіла першая аповесць з яе характэрнай — «з тонкай іроніяй, з лёгкай хітрынкай» — манерай апавядання і імкненнем да паэтызацыі навакольнага свету.

«Вайна каля Цітавай копанкі» — твор пра дзяцей, адрасаваны не толькі падлеткам. На яго старонках ідзе размова пра «дарослыя» праблемы, і чым больш праходзіць часу з моманту першага знаёмства чытача з аповесцю, тым мацней завастраецца ўвага даследчыкаў на значнасці ўзнятых пытанняў. Праз адлюстраванне дзіцячага свету, дзе ёсць свой «тыран» і вядзецца свая «вайна», адбываецца асэнсаванне эпахальных для краіны падзей, уздымаюцца складаныя пытанні агульначалавечай маралі. «З тонкім разуменнем псіхалогіі герояў Навуменка паказаў, як выспявае пратэст супраць «дыктатара», супраць маленькага «культу» ў дзіцячым маштабе, як ідзе вызваленне іх з-пад улады яго жорсткай сілы, калі, нарэшце, распалася яго «армія»…»[3] — пісала Э. Гурэвіч, заўважаючы,

[1] Лазарук, М. Першая кніга / М. Лазарук // Маладосць.— 1957.— № 12.— С. 152—153.

[2] Юрэвіч, У. Выбранае / У. Юрэвіч.— Мінск, 1987.— С. 431.

[3] Гурэвіч, Э., Андраюк С. Беларуская літаратура: Дзень сённяшні / Э. Гурэвіч, С. Андраюк (і інш.).— Мінск, 1982.— С. 220.

што абраны пісьменнікам мастацкі ракурс вывучэння рэчаіснасці дазволіў па-новаму ацаніць як мінулае, так і сучаснасць.

Крытыка разважала не толькі пра творчыя дасягненні аўтара, але і пра шляхі ўдасканалення майстэрства празаіка. Так, да прыкладу, гучалі парады зняць у аповесці вобраз пастуха-дзівака Пепы, які, на першы погляд, мала звязаны з асноўным дзеяннем. Аднак пры аналізе твора з гледзішча мастацкага ўвасаблення пазачасавых вартасцяў, гуманістычных ідэй, агульначалавечых каштоўнасцяў раскрываецца багатае сэнсавае напаўненне вобраза. Праз дваццаць гадоў пасля выхаду сваёй першай рэцэнзіі на аповесць «Вайна каля Цітавай копанкі» А. Яскевіч сцвярджаў: «…гэты вобраз, што здаваўся некаторым крытыкам лішнім у аповесці, узбагаціў, па-новаму асвятліў жыццё асноўных герояў, паглыбіў змест твора, надаў дзіцячым канфліктам і гульням — адным сваім суседствам — асаблівую маральную значнасць, больш шчыльна звязаў дзіцячы свет з жыццём, з дзівосным светам прыроды»[1]. Як лічыць даследчык, менавіта праз другарадныя, эпізадычныя вобразы, якія «адной сваёй прысутнасцю «здымаюць» дзіцячую наіўнасць у разуменні свету», адбываецца «размыканне дзіцячай рэчаіснасці ў кола ўсіх шырокіх жыццёвых вымярэнняў».

У гісторыю айчыннай літаратуры (і не толькі дзіцячай) «Вайна каля Цітавай копанкі» ўвайшла як шматгранны твор, дзе, паводле слоў П. Васючэнкі, «дзяцінства з яго непасрэднасцю і свежасцю ўражанняў утварае той мастацкі эксперыментальны свет, у якім адбываюцца ацэнка і карэкцыя «дарослага» грамадскага і этычнага досведу»[2]. У аповесці пошукі аўтарам свайго арыгінальнага мастацкага бачання свету і мастацкай трактоўкі «вечных» пытанняў маюць пэўныя асаблівасці: у творы «пазначыўся паварот да «неканфліктных» маральных каштоўнасцяў, тых, што не падзяляюць, а аб’ядноўваюць чалавечую супольнасць: спагада, літасць, памяркоўнасць»[3]. Бясспрэчна, гэта, нараўне з іншымі важнымі фактарамі, паўплывала на апавядальную манеру пісьменніка, і не толькі ў дадзеным выпадку. У аповесцях І. Навуменкі сутыкненне ідэй,

---

[1] Яскевіч, А. У свеце мастацкага твора / А. Яскевіч.— Мінск, 1977.— С. 178.

[2] Васючэнка, П. Іван Навуменка / П. Васючэнка // Гісторыя беларускай літаратуры ХХ стагоддзя: у 4 т.— Мінск, 2001.— Т. 3.— С. 711.

[3] Тамсама. С. 712.

поглядаў, думак носіць пераважна не завостраны характар, мае не наўпроставае выяўленне, а прачытваецца апасродкавана на розных узроўнях мастацкага твора. Адсюль, на нашу думку, і амаль абавязковы зварот у многіх аповесцях да другарадных вобразаў, якія не толькі звязваюць дзіцячы і дарослы свет, розныя часы і пакаленні, але, што не менш важна, служаць праваднікамі альтэрнатыўнай думкі. Згаданыя персанажы (незалежна ад таго, станоўчыя яны ці адмоўныя) часта пастаўлены ў сітуацыю складанага жыццёва важнага выбару, на іх лёсах пакідае адбітак трагізм эпохі, праз стаўленне да іх (як у выпадку з пастухом Пепам) характарызуецца маральнае аблічча дарослага героя або духоўны патэнцыял яшчэ нясталай асобы.

Пасля першай публікацыі аповесці «Вайна каля Цітавай копанкі» яе аўтару рабілася і такая заўвага: «І цяжка верыцца ў тое, што Косця Кветка,— галоўны герой аповесці,— у сваёй камуне выступае як самастойны і сталы кіраўнік, які даходзіць да разумення ідэй камуны без дапамогі дарослых. А трэба было б, каб у яго быў, калі не кіраўнік, дык чалавек, які б натхняў яго, падказваў яму. Такім чалавекам мог быць Косцеў дзядзька з горада або які-небудзь іншы ўведзены персанаж»[1]. І. Навуменка заўвагу ўлічыў, але зрабіў акцэнт не на пэўнай, няхай сабе і актуальнай для свайго часу ідэі, а на больш складаных пытаннях станаўлення чалавечага характару, выбару жыццёвых арыенціраў, адлюстраваўшы іх у такой форме, якой патрабаваў вонкава «несамавіты» матэрыял аповесці. У выніку ў творы хутка з'явіўся новы, адзінаццаты паводле ліку раздзел, дзе апісваецца добра вядомая сённяшняму чытачу даверлівая размова паміж Косцем і яго дзядзькам.

Па-за ўвагай даследчыкаў звычайна застаецца адзін немалаважны цікавы момант, звязаны з працай пісьменніка над тэкстам аповесці «Вайна каля Цітавай копанкі». Толькі ў першадруку твора быў яшчэ адзін — заключны — раздзел, у якім расказвалася пра далейшыя жыццёвыя шляхі малых герояў са Слабодкі і Першамайкі (у трэцім томе Збору твораў ён змешчаны ў раздзеле «Каментарыі»).

Як вядома, І. Навуменка ахвотна дзяліўся з прыхільнікамі свайго таленту сакрэтамі ўласнай творчай лабараторыі. Ён неаднаразова паўтараў, што пісьменніцкая праца не церпіць рэгламентацыі, не падпарадкоўваецца строгім планам і заўсёды нясе ў сабе

[1] Яскевіч, А. Почырк пісьменніка.— С. 3.

пачуццёвы пачатак, тоіць шмат нечаканага і невядомага не толькі для герояў, але і для самога аўтара. Такія развагі мы знойдзем у артыкулах і інтэрв'ю ўжо сталага празаіка. Разам з тым, не засталося без увагі, што І. Навуменка прыйшоў у літаратуру са сваім героем і са сваёй тэмай, якія многае прадвызначылі ў яго творчасці і — нават больш — сфармулявалі яе звышзадачу. На прыкладзе апошняга раздзела «Вайны каля Цітавай копанкі» можна прасачыць нараджэнне задумы пазнейшых аповесцяў. «Знайшліся нейкія нябачныя ніці, якія працягнуліся ад зарослай хмызняком Цітавай копанкі да акопаў і бітваў вялікай вайны…» — піша аўтар. Сапраўды, амаль усё, што ў недалёкай будучыні адлюструецца на старонках твораў, прысвечаных ваеннаму юнацтву, вельмі сцісла акрэслена ў фінале «Вайны каля Цітавай копанкі»: мары пра самастойнае жыццё, напоўненае подзвігамі, змаганне з ворагам на франтах і партызанская барацьба, нешчаслівае каханне. Але на гэтым аўтар не спыняецца: будучыня герояў праглядваецца на дваццаць гадоў наперад ад падрабязна апісаных дзіцячых «баталій». Безумоўна, такі фінал дазваляе лепш зразумець, як нараджаліся творчыя задумы і адбывалася станаўленне таленту празаіка, але для аповесці ён аказаўся быццам «навырост»: парушалася цэласнасць твора, а новы матэрыял, якому было яўна цесна ў адведзеных яму межах, патрабаваў іншай формы выкладу. У 1959 годзе «Вайна каля Цітавай копанкі» выйшла асобнай кнігай ужо ў адрэдагаваным выглядзе: апошні раздзел быў зняты, што дазволіла пазбегнуць паўтораў і рэалізаваць творчыя задумы ва ўсёй паўнаце.

П. Васючэнка заўважае, што істотнай акалічнасцю, якая вызначае канцэптуальны напрамак творчасці І. Навуменкі, з'яўляецца фактар узросту: «Герой большасці апавяданняў і аповесцяў І. Навуменкі ў сваім самараскрыцці выяўляе шэраг характарыстык, звязаных з асаблівасцямі ўзроставай псіхалогіі. Станаўленне яго «я» — гэта адначасна і фармаванне асобы ў складанай сістэме грамадскіх адносін, у дачыненні да натуральнага хранатопу (прырода, вёска), і самаідэнтыфікацыя ў межах уласнага сталення, у каардынатах пераходу з дзяцінства ў юнацтва, з юнацтва — у маладосць»[1]. Чалавек і час — так можна акрэсліць вектар мастацкага даследавання асобы ў аповесцях І. Навуменкі. Пільная ўвага празаіка была скіравана якраз на тыя моманты жыцця, якія ў далейшым прадвызначаць лёс героя.

[1] Васючэнка, П. Іван Навуменка.— С. 692.

Складаны працэс фармавання характару паказвае аўтар у аповесці «Пераломны ўзрост» (1958). Толькі на першы погляд яе тэматыка абмяжоўваецца школьнымі ды сямейнымі праблемамі. Крытыка пераважна звяртала ўвагу на вобразы настаўнікаў, на ўзнятыя пытанні выхавання ў сям'і і школе. Але калі мець на ўвазе згаданы ўжо фактар узросту і нязменны прыярытэт маральнай праблематыкі ў творчасці І. Навуменкі, то становіцца відавочным, што мы маем справу з мастацкім даследаваннем узаемадачыненняў дарослага і дзіцячага свету на якасна новым узроўні. Цяпер героі ўжо не проста ацэньваюць пэўныя рэаліі, яны могуць і павінны абіраць паміж дабром і злом, няхай пакуль што ў невялікіх, адпаведных іх узросту, маштабах.

У адзін год з «Пераломным узростам» пабачылі свет яшчэ дзве аповесці І. Навуменкі — «Снежань» і «Мой сябар Пятрусь». Яны засведчылі асваенне новым жанрам магістральнай тэмы творчасці празаіка — тэмы ваеннага юнацтва, «сямнаццатай вясны».

Аповесці І. Навуменкі пра падзеі Вялікай Айчыннай адносяцца да так званай другой хвалі літаратуры пра вайну, прадстаўнікі якой выступілі са сваімі творамі не па гарачых слядах падзей, а толькі па нейкім часе, што спатрэбіўся на асэнсаванне перажытага. М. Тычына піша: «Сярод беларускіх «ваенных празаікаў» (Васіль Быкаў, Янка Брыль, Іван Шамякін, Алесь Адамовіч) Іван Навуменка займае месца ў «залатой пяцёрцы». Творы згаданых празаікаў пра вайну сваім узнікненнем пазначылі паварот сучаснай літаратуры да рэалістычнай традыцыі класікі і канчаткова рассталіся з сацрэалістычнай спадчынай. Сам жыццёвы матэрыял дыктаваў пісьменнікам неабходнасць быць максімальна праўдзівымі: суровая рэальнасць вайны, і аб гэтым не раз гаварылі «ваенныя празаікі», катэгарычна не прымае ідэалізацыю і рамантызацыю як мастацкі прынцып»[1]. У аснове твораў І. Навуменкі пра вайну ляжыць асабісты вопыт, неабходнасць якога для раскрыцця названай тэмы неаднаразова падкрэслівалі В. Быкаў, К. Сіманаў, Г. Бакланаў і іншыя пісьменнікі. Гэты вопыт абумовіў спецыфіку паказу ваеннай

[1] Тычына, М. Аўтабіяграфічная трылогія Івана Навуменкі «Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва»: дзённік духоўнага пасталення пакалення «дзяцей вайны» / М. Тычына // Рэгіянальнае, нацыянальнае і агульначалавечае ў славянскіх літаратурах: матэрыялы Міжнародных навук. чытанняў (Гомель, 7—8 кастр. 2010 г.) — Гомель, 2010.— С. 23.

праўды. М. Гіль адзначыў: «…са сваімі творамі ён прынёс у нашу літаратуру духоўны і жыццёвы вопыт свайго пакалення, вопыт пакалення, юнацтва якога абарвала вайна. А яшчэ — І. Навуменка надзвычай даверліва паставіўся да гэтага вопыту, і гэта, мажліва, вызначыла адметнасць почырку апавядальніка: прыцягальную «асабістасць» яго твораў, «субяседніцкую» шчырасць тону, асабліваe, унутранае «свячэнне» жыццёвага матэрыялу, якое вызначаецца менавіта «навуменкаўскім» поглядам на свет і людзей»[1].

Аповесці «Снежань» і «Мой сябар Пятрусь» побач з іншымі творамі пра Вялікую Айчынную рэалізоўвалі задуму аўтара напісаць рэквіем свайму пакаленню. Яны адлюстроўваюць падзеі самага складанага, пачатковага перыяду вайны, калі ўвесь трагізм сітуацыі героямі яшчэ не ўсведамляўся. Ацэньваючы сітуацыю з вышыні свайго жыццёвага вопыту, пісьменнік паказаў, як вывяраліся жорсткімі абставінамі людскія, пераважна яшчэ нясталыя, характары і агульнапрынятая ў тагачасным грамадстве сістэма каштоўнасцяў. Не ўсё з перажытага магло стаць прадметам мастацкага ўвасаблення, значную сэнсавую нагрузку нёс на сабе падтэкст твораў.

Крытыка шмат пісала як пра згаданыя аповесці, так і пра апавяданні такога ж плана, і нельга не заўважыць, што калі не сам ракурс аналізу, то асобныя акцэнты з цягам часу мяняліся, любая з'ява пачынала разглядацца ва ўсёй складанасці яе жыццёвага і мастацкага праламлення. Вось як, да прыкладу, пісаў В. Каваленка пра творчыя набыткі І. Навуменкі ў раскрыцці тэмы сямнаццацігадовых на вайне: «Ён праўдзіва паказаў светапоглядны характар сацыяльнай арыентацыі свайго пакалення ў маладыя гады. Вядома, у глыбока ўнутранай нязмiранасці з акупантамі, у максімалісцкай гатоўнасці дзейнічаць ва ўсенародным змаганні з імі — прывабная рыса гэтага пакалення, але і яго слабасць — высокая ступень ахвярнай асуджанасці ў змаганні. Такі быў час, і пісьменнік добра адчувае гэта. Безагляднасць, неапраўданая рызыка, ледзь не дэманстратыўная гатоўнасць схапіцца з моцным ворагам, не спадзеючыся на больш-менш істотны вынік, выклікаліся, мабыць, і падсвядомым страхам, прывітым сталінскім часам, што без такой нормы паводзін патрыятычная пазіцыя чалавека пасля вайны не будзе заўважана і ацэнена належным чынам. Гэтая думка, хай

[1] Гіль, М. На той самай зямлі / М. Гіль // Полымя.— 1972.— № 7.— С. 239.

нясмела, прарывалася ў свядомасць пісьменніка яшчэ ў сярэдзіне 50-х гадоў»[1].

Трагедыя пакалення, чыё юнацтва было апалена вайной, асэнсоўвалася і перажывалася празаікам у непарыўнай сувязі з уласным лёсам. Апрача вышэйзгаданых, гэта абумовіла яшчэ адну асаблівасць яго твораў, пра якую часта гаварылі даследчыкі. Ва ўспамінах пра аднагодкаў І. Навуменка адкрыта ўмешваецца ў ход сюжэтных падзей, каментуе паводзіны герояў. Адступленні ад аб'ектыўнай манеры пісьма, адкрытае выяўленне аўтарскага «я», на думку В. Жураўлёва, не парушаюць сюжэта твораў і не шкодзяць раскрыццю характараў: «Суб'ектыўна асабістае слова пісьменніка настолькі вынашана, настолькі абдумана і перажыта, што яно гучыць свежа і зусім натуральна. Хвалюючы і страсны голас аўтара дапамагае шырэй і глыбей зразумець задуму твораў, узмацняе іх лірычную афарбоўку»[2]. Поруч з іншымі гэтыя асаблівасці твораў паўплывалі на вызначэнне іх жанравай прыналежнасці: аповесці «Снежань» і «Мой сябар Пятрусь» друкаваліся ў зборніку «Верасы на выжарынах» (1960) як апавяданні; жанр наступнай за імі паводле часу напісання аповесці «Трымценне дубовага лісця» (1964) у анатацыі да зборніка «Таполі юнацтва» (1966) вызначаецца як «апавяданне, што нагадвае невялікую лірычную аповесць». «З пункту гледжання жанравай формы часам цяжка размежаваць аповесці і апавяданні І. Навуменкі»,— піша Г. Сіненка. Прычыну складанасці размежавання ён бачыць у стылёвай блізкасці твораў і працягвае: «У зборніках пісьменніка падзел на апавяданні і аповесці часам чыста ўмоўны, у аснове яго ляжаць знешнія прыкметы, а іменна — аб'ём твораў»[3]. Даследчык падкрэсліў і змястоўную незавершанасць, прамежкавасць твораў. Такая іх асаблівасць узмацняе драматызм у паказе падзей і прыадкрывае аўтарскую задуму стварэння эпічнага палатна: «У распрацоўцы тэмы «чалавек на вайне» пісьменнік ідзе ад апавядання да аповесці і рамана. Іменна гэты прыцэл на аб'ёмны, сінтэтычны твор, якім з'яўляецца раман,

---

[1] Каваленка, В. І радасць, і смутак, і боль… / В. Каваленка // Навуменка, І. Выбраныя творы: у 2 т.— Мінск, 1995.— Т. 1.— С. 7.

[2] Жураўлёў, В., Дзюбайла П. Праблемы сучаснай беларускай прозы / В. Жураўлёў, П. Дзюбайла (і інш.).— Мінск, 1967.— С. 246.

[3] Сіненка, Г. Іван Навуменка: Нарыс творчасці / Г. Сіненка.— Мінск, 1981.— С. 84.

кладзе своеасаблівы адбітак на стылёвую палітру і апавядання, і аповесці аб вайне. У іх аўтар як бы прыцэльваецца да падзей і характараў, адбірае істотнае і важнае, знаходзіць адпаведную танальнасць, патрэбную інтанацыю. Гэта адзіны і працяглы працэс жанрава-стылёвых пошукаў, які ў канчатковым выніку завершыцца стварэннем партызанскай трылогіі»[1]. Аповесці «Снежань» і «Мой сябар Пятрусь» амаль без змен увайшлі ў раман «Сасна пры дарозе».

Сярэдзіну 1960-х гадоў, калі былі напісаны аповесці «Бульба» (1964) і «Трымценне дубовага лісця» (1964), даследчыкі лічаць пачаткам новага этапа творчасці І. Навуменкі. У рэцэнзіі на зборнік «Таполі юнацтва» (1966), дзе змешчана апошняя з названых аповесцяў, С. Гусак сцвярджае: «…кніга трывала замацоўвае за І. Навуменкам славу пісьменніка, талент якога адчувае сябе вольна і ўпэўнена ў дзівосным і складаным свеце юнацтва. З другога боку, яна сведчыць, што празаік бярэ кірунак на сучасную тэму, паглыбляецца ў новыя для яго пласты жыцця, выходзіць у паласу значных якасных змен у сваёй творчасці»[2]. На гэтым этапе якасныя змены заключаюцца ў тым, што «мастацкае бачанне пісьменніка ўскладняецца аб’ектыўна аналітычнай пазіцыяй», у раскрыцці характару «заяўляе пра сябе тэндэнцыя да індывідуалізацыі»[3].

На старонках аповесці «Бульба» чытач сустракаецца з новым тыпам героя, прадстаўніком іншага пакалення, будучым інтэлігентам. У артыкуле «Пра сённяшніх студэнтаў» Н. Гілевіч апавёў, як ішла работа аўтара над творам. Паэта ўразіў шматразова перапрацаваны рукапіс. Сёння няпоўны чарнавы варыянт аповесці, які захоўваецца ў фондах Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, стаў даступны для вывучэння. Ён сведчыць не толькі пра моўна-стылёвае ўдасканаленне тэксту. Выразна бачна, што І. Навуменка значна адступіў ад першапачатковай задумы твора. Напачатку ў цэнтры ўвагі быў цалкам станоўчы вобраз маладога аспіранта, які моцна нагадваў галоўных герояў пазнейшых аповесцяў. Імкненне да аб’ектывізацыі ў абмалёўцы персанажаў з мэтай паглыблення праблемнасці ў паказе сучаснага жыцця прывяло

[1] Сіненка, Г. Іван Навуменка: Нарыс творчасці.— С. 88.

[2] Гусак, С. Свет юнацтва / С. Гусак // Маладосць.— 1967.— № 2.— С. 141.

[3] Васючэнка, П. Іван Навуменка.— С. 707.

да стварэння двух асобных, процілеглых паводле свайго складу, характараў. Сутыкненні паміж імі, паводле слоў П. Васючэнкі, прыводзяць «да трывожнага роздуму пра час, пра лёс новага пакалення. Бо не хто іншы, як гэтая моладзь — «шасцідзясятнікі» — уяўляюць сабой генерацыю інтэлігентаў, якая ў недалёкай будучыні стане вызначаць інтэлектуальнае, духоўнае аблічча часу, уплываць на рух грамадства напрыканцы XX стагоддзя»[1].

Як лепшы твор са зборніка «Тапалі юнацтва» вылучае аповесць «Трымценне дубовага лісця» У. Гніламёдаў, бо яна «ўвабрала ў сябе шмат менавіта «навуменкаўскага», найбольш характэрнага для пісьменніка як у выбары жыццёвага матэрыялу, так і ў іранічна-гумарыстычным (што, аднак, не выключае драматызму некаторых сітуацый) поглядзе на свет, нарэшце ў пэўным тыпе героя — рамантычнага юнака, выразна пазначанага асаблівасцямі свайго часу, а таксама і ў своеасаблівым вырашэнні тэмы кахання»[2]. Прайшоўшы дарогамі вайны, герой вяртаецца дадому з чаканнем здзяйснення надзеі на шчасце. Але выпрабаванні працягваюцца, наперадзе — асабістая драма. Аповесць з яе тэмай так званага «латанага шчасця» насамрэч закранае куды большы спектр складаных праблем. Праз асабістыя стасункі герояў найбольш поўна раскрываецца характар, стаўленне чалавека да свету. У аповесцях, прысвечаных тэме кахання (дадамо ў пералік «Развітанне ў Кавальцах» (1974), «Замяць жаўталісця» (1976)), даследаванне пачуцця становіцца даследаваннем духоўнага свету асобы і грамадства ў цэлым. У той ці іншай ступені гэта адзначалася неаднойчы, але найбольш падрабязна згаданы аспект творчасці І. Навуменкі прааналізаваў В. Каваленка. Ён звярнуў увагу не толькі на сацыяльны складнік тэмы, яе значнасць для грамадскага светаадчування, але і на пэўны тып героя дадзеных твораў. Навуковец падкрэсліў, што галоўныя вобразы аповесцяў Івана Навуменкі на тэму кахання — вобразы беларускіх інтэлігентаў: «Пісьменнік з зайздроснай выразнасцю праз перыпетыі інтымнага жыцця вымалёўваў праўдзівы сацыяльна-псіхалагічны партрэт беларускай інтэлігенцыі пасляваеннага часу»[3].

---

[1] Васючэнка, П. Іван Навуменка.— С. 707.

[2] Гніламёдаў, У. Дыханне часу, лёс пакалення / У. Гніламёдаў // Полымя.— 1967.— № 7.— С. 251.

[3] Каваленка, В. І радасць, і смутак, і боль...— С. 10.

У сярэдзіне 1970-х гадоў у сваіх творах І. Навуменка зноў вяртаецца ў перадваеннае юнацтва, да вытокаў фармавання характару яго ўлюбёнага героя. Аповесць «Апошняя восень» (1975) паказала шматвектарнасць мастацкага даследавання працэсу станаўлення асобы. «У вырашэнні гэтай праблемы,— адзначае Л. Ламека,— празаік выступае і як філосаф, які гаворыць аб адкрыцці «я» як аб сацыяльным, светапоглядным і маральным самавызначэнні; і як псіхолаг, які даследуе індывідуальныя і тыповыя рысы асобы, што аб’ядноўваюцца ў канцэпцыі характару; і як гісторык, які разглядае «я» як культурна-гістарычны феномен; і як мастак, якога вылучае высокая эмацыянальная культура пісьма ў абмалёўцы чалавечых характараў, жыццёвых канфліктаў»[1]. Галоўны герой аповесці жыве прагай пазнання свету, цесна пераплеценай з любоўю да роднага кута і навакольнай прыроды. Паказваючы далейшыя жыццёвыя шляхі юнакоў перадваеннай пары, пісьменнік заўсёды будзе звяраць іх дарослыя дасягненні з ранейшымі памкненнямі і ідэаламі.

Рознапланавасць у паказе характару героя наўпростава звязана з выкарыстаннем багатага арсеналу мастацкіх сродкаў, добрае валоданне якімі асабліва выразна выявілася на прыкладзе твораў сталага перыяду творчасці, да якога адносіцца «Апошняя восень». У пошуках адметнасці таленту празаіка У. Юрэвіч прыйшоў да высновы: «Івана Навуменку нельга ахарактарызаваць адназначна, як многіх яго сучаснікаў,— майстар вострага сюжэта, або майстар дэталі, або жывапісец словам… Усе гэтыя і іншыя адметныя якасці таленту выступаюць… узаемаспалучана і ўзаемаўзгоднена. Калі не стае ў якім-небудзь творы напружанасці, драматызму, пачынае дзейнічаць жывапіс слова, каб стварыць маляўнічы краявід і выклікаць адпаведны настрой у чытача альбо каб накідаць уражлівы трапнай дэталлю партрэт чалавека для выяўлення сімпатыі ці антыпатыі да яго. Жвавасць апісання часта ўзмацняецца ўдала заўважаным камізмам паводзін ці мяккім гумарам, раскрытым праз гаворку ўнутраным зместам чалавека. Імкненне да сінтэзу мастацкіх сродкаў і прыёмаў мае ў І. Навуменкі канчатковым вынікам стварэнне цэльнага светаўспрымання народнага жыцця»[2].

[1] Ламека, Л. Прага высокай духоўнасці / Л. Ламека // Полымя.— 1985.— № 2.— С. 192.

[2] Юрэвіч, У. Вяртанне ў маладосць.— С. 430—431.

Даўно заўважана, што І. Навуменка «спецыяльнымі выяўленчымі сродкамі — тропамі і фігурамі… карыстаецца рэдка», а «ўвесь сакрэт яго моўнага майстэрства — у рабоце над простымі нейтральнымі словамі…»[1]. Ёсць, безумоўна, выключэнні з правіла. Гэта датычыць у першую чаргу пейзажных замалёвак, якія ў аповесці «Апошняя восень» дэманструюць багацце моўных сродкаў. Пейзаж уяўляе каштоўнасць не толькі сам па сабе, ён раскрывае вонкавую і ўнутраную прыгажосць наваколля і чалавека, з'яўляецца неад'емнай часткай створанага літаратурай нацыянальнага вобраза свету. Аналізуючы гэты аспект творчасці І. Навуменкі, Л. Ламека адзначыла: «Справядліва кажуць, што творчасць любога таленавітага мастака адкрывае прыгажосць краю, у якім жывуць яго героі. З нашых (савецкіх.— *Заўв. аўт.*) сучасных пісьменнікаў Васіль Бялоў дае нам магчымасць адчуць край лясны, валагодскі, Чынгіз Айтматаў — шырокае раздолле казахскіх палыновых стэпаў, прыгажосць горных азёраў і глыбокіх стэпавых крыніц. Георгій Маркаў змог паказаць чытачу ва ўсёй велічы і строгасці суровую прыроду Сібіры, у творчасці ж Івана Навуменкі — веліч беларускай прыроды, непаўторная чароўнасць нашых лясоў»[2]. Даследчыца падкрэслівае, што ў стварэнні вобраза беларускай прыроды І. Навуменка ідзе ўслед за нацыянальнай літаратурнай традыцыяй: «Ва ўспрыняцці прыроды, яе адлюстраванні І. Навуменка блізкі Я. Коласу. Ён, як і Колас, перш за ўсё настраёва, музычна ўспрымае прыроду. Яна паэтызуецца ім, успрымаецца як «жывая» істота. Навуменкаўскі антрапамарфізм, як і коласаўскі, ідзе ад фальклорнай традыцыі з яе персаніфікацыяй прыродных з'яў»[3].

У 1970-х гадах І. Навуменка напісаў яшчэ дзве аповесці — «Замяць жаўталісця» (1976) і «Інтэрнат на Нямізе» (1978), якія смела можна назваць падсумаваннем перажытага. Героі азіраюцца на пройдзены шлях, успамінаюць мінулае, а іх падарожжа ў часе з'яўляецца, як пісаў А. Бачароў, падарожжам у глыб сябе. Даследчыкі адзначылі, што творы «грунтуюцца ў асноўным на аўтабіяграфічным матэрыяле», «у іх дакладна адлюстроўваецца атмасфера часу (перадваенныя і пасляваенныя гады), бярэцца важная жыццёвая

[1] Яскевіч, А. Почырк пісьменніка.— С. 3.

[2] Ламека, Л. Прага высокай духоўнасці / Л. Ламека // Полымя.— 1985.— № 2.— С. 194.

[3] Ламека, Л. Тамсама.

праблематыка, унутраны змест якой складаюць пафас барацьбы за сапраўдную духоўнасць чалавека, паэтызацыя яго імкнення да сур'ёзных мэт і значных здзяйсненняў, адмаўленне бяскрылай прагматычнасці і мяшчанскай абмежаванасці»[1]. Нягледзячы на розніцу ў часе напісання, у многім блізкай згаданым творам з'яўляецца аповесць «Любімы горад» (1996), надрукаваная ў аднайменным зборніку ў 1999 годзе. У ёй, як і ў папярэдніх аповесцях, пануе стыхія ўспаміну, якая выступае сэнса- і формаўтваральнай асновай тэксту.

Пры аналізе названых аповесцяў крытыкі і літаратуразнаўцы зноў і зноў звярталіся да пытання, якое так ці інакш заўсёды закраналася ў гаворцы пра творчасць І. Навуменкі,— пытанне аўтабіяграфізму.

Пісьменнік неаднаразова гаварыў пра цесную сувязь сваёй творчасці з перажытым. У аўтабіяграфіі і шматлікіх інтэрв'ю ён пастаянна падкрэсліваў як значнасць гэтага моманту, так і спецыфіку яго мастацкага асваення. Вось што І. Навуменка адказаў на пытанне пра тое, ці аўтабіяграфічная яго аповесць «Замяць жаўталісця»: «…яна — выдумка. Выдумка ў тым сэнсе, што я ніколі не выкладаў у Мазырскм педінстытуце, ніякіх лекцый там не чытаў, і такой гераіні не было. (…) Дзесьці гэта ўсё — якраз у маёй унутранай біяграфіі, (…) якая непасрэдна не раскрываецца і не пішацца»[2].

Трэба сказаць, што павага да факта, жыццёвай канкрэтыкі ігралі важную ролю ў творчасці многіх беларускіх празаікаў, якія ў адзін час з І. Навуменкам працавалі ў літаратуры. «Я. Брыль, Я. Скрыган, І. Мележ, І. Навуменка, І. Чыгрынаў і І. Пташнікаў, М. Стральцоў і У. Дамашэвіч, В. Адамчык і Б. Сачанка пераважна пішуць пра тое, чым узбагацілі іх жыццё цікавыя людзі, з якімі адбываліся ў іх сустрэчы і знаёмствы, і ўсё, нарэшце, тое, што яны зведалі, пабачылі, перажылі»[3],— заўважыў В. Жураўлёў. Аднак кожны майстар слова мае ў сваім творчым арсенале сродкі, якім аддае перавагу пры мастацкім асваенні рэчаіснасці. І. Навуменку

[1] Бугаёў, Д. Пра сучасную прозу / Д. Бугаёў // Чалавечнасць: Літ. крытыка.— Мінск, 1985.— С. 102—103.

[2] Навуменка, І. Давайце верыць у чалавека: (Інтэрв'ю) / Зап. М. Чэмер // ЛіМ.— 1996.— 19 ліп.— С. 5.

[3] Жураўлёў, В. Апавяданне на сучасным этапе / В. Жураўлёў // Беларуская савецкая проза. Апавяданне і нарыс / С. Андраюк (і інш.).— Мінск, 1971.— С. 153.

называюць пісьменнікам аўтабіяграфічным, у яго прозе вельмі моцна адчуваецца прысутнасць аўтара. Характар аўтабіяграфізму, выяўленага на розных узроўнях мастацкай сістэмы, ступень суаднесенасці ў творах «я» героя і «я» аўтара падрабязна разглядаліся ў многіх публікацыях А. Адамовіча, П. Васючэнкі, Т. Грамадчанкі, П. Дзюбайлы, В. Жураўлёва, В. Каваленкі, Л. Кароткай, Ф. Куляшова, Л. Ламекі, С. Лаўшука, А. Марціновіча, М. Мішчанчука, Л. Піскун, Г. Сіненкі, М. Тычыны, У. Юрэвіча і інш.

Найбольшую колькасць цалкам супрацьлеглых меркаванняў выклікала і выклікае непасрэдна звязаная з аўтабіяграфічным характарам творчасці сістэма разнастайных паўтораў. Большасць даследчыкаў пагаджаецца з тым, што паўтор у звароце да пэўнай тэмы, героя, факта, спосабу падачы матэрыялу і г. д. звязаны з іх пераасэнсаваннем, пераацэнкай. Некаторыя прычыны такой неабходнасці заключаны як у самім часе, які па-новаму высвечвае мінулае, так і ў прыродзе навуменкаўскага аўтабіяграфізму з яго іншы раз амаль няўлоўнай мяжой паміж аўтарам і героем, якая пры самых малых зрухах можа істотна паўплываць на мастацкі ракурс адлюстравання рэчаіснасці. Пра гэта выразна сведчыць аповесць «Любімы горад» — працяг аўтабіяграфічнай трылогіі «Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва». Яна напісана ў апошні перыяд творчасці, для якога, паводле словаў П. Васючэнкі, характэрна «вяртанне да этычных канстантаў, пошук мяжы паміж сталым, адвечным і часовым, нанасным»[1], прадыктаванае непрыняццем сучаснасці.

Выразна ацэначны, крытычны погляд на свет пакінуў адбітак на манеры пісьма, лірызм якой стаў відавочна больш стрыманым. А. Марціновіч заўважыў: «Пісьменнік, відаць, свядома адмаўляецца ад вобразнай насычанасці радка, разгорнутых лірычных адступленняў, маляўнічых краявідаў. Лаканічнасць стылю, а разам з тым і ўзважанасць кожнага радка дазваляе заставацца на дзіва аб'ектыўным узнаўляльнікам падзеяў. У новых творах І. Навуменкі ўсё як у жыцці. А ў жыцці не заўсёды знаходзіцца месца паэзіі, калі ж яна і сустракаецца, дык нярэдка нестае часу ацаніць яе прывабнасць. Зноў жа — з-за прозы будняў»[2]. Сам аўтар так патлумачыў змены, што адбыліся ў яго прозе: «Я пісаў апошнюю

[1] Васючэнка, П. Іван Навуменка.— С. 713.

[2] Марціновіч, А. З вышыні пражытага: Штрыхі да творчага партрэта Івана Навуменкі / А. Марціновіч // Роднае слова.— 2000.— № 2.— С. 7.

сваю аповесць з біяграфічнага цыкла — «Любімы горад» — і адчуваў (пішаш не розумам, а пачуццём, падсвядомасцю), што дзесьці ўсё-такі мінор, сумна. Чаму сумна? А таму, што тыя хлопцы, з якімі я радаваўся, марыў, якіх я ведаў,— яны ж не вярнуліся. І вось гэты налёт — я цяпер ужо і розумам дайшоў — ляжыць на гэтай аповесці… Словам, вайна ёсць вайна, жорсткая, крывавая»[1]. І ўсё ж гэта відавочная незадаволенасць жыццём, што праглядваецца і ў выказваннях аўтара, і ў творах, пераадольвалася актыўнасцю героя, які не стамляўся супраціўляцца нягодам.

Іван Навуменка стварыў свой мастацкі свет. У яго творах мы бачым адметнага героя, «нашага сучасніка ў гістарычнай плыні» (П. Дзюбайла). Пісьменнік ні пры якіх абставінах не стамляўся шукаць ні ў жыцці, ні ў літаратуры. Вынікі шматгадовай працы — свае творы, і аповесці ў тым ліку — ён пакінуў нам, каб пошук працягваўся.

*Інеса Баўтрэль*

---

[1] Навуменка, І. Давайце верыць у чалавека.— С. 5.

# КАМЕНТАРЫІ

У трэці том Збору твораў І. Навуменкі ўваходзяць аповесці 1957—1996 гг. Усе творы былі апублікаваны пры жыцці пісьменніка ў перыядычным друку, зборніках «Верасы на выжарынах» (1960), «Таполі юнацтва» (1966), «Вераніка» (1968), «Тая самая зямля» (1971), «Падарожжа ў юнацтва. Выбранае» (1972), «Замяць жаўталісця» (1977), «Смутак белых начэй» (1980), «Сярэбраныя мхі» (1983), «Пераломны ўзрост» (1986), «Водгулле далёкіх вёснаў» (1989), «Любімы горад» (1999), «Сасна пры дарозе» (2001), а таксама ў першым томе двухтомніка «Выбраныя творы» (1995). Асобнымі кнігамі выходзілі аповесці «Вайна каля Цітавай копанкі» (1959) і «Бульба» (1964).

Аповесці друкуюцца ў храналагічным парадку, датуюцца па прыжыццёвых выданнях, аўтографах і машынапісных крыніцах.

За асноўны тэкст прыняты Збор твораў у 6 тамах (Мінск, 1981—1982, т. 1—3) як найбольш аўтарытэтнае прыжыццёвае выданне і прыжыццёвы зборнік «Любімы горад» (Мінск, 1999). З прычыны таго, што крыніц асноўнага тэксту некалькі, яны ўказваюцца ў каментарыях да кожнай аповесці. Пры наяўнасці аўтографаў і машынапісаў падаюцца іх апісанні.

Для ўзнаўлення дакладнага аўтарскага тэксту твораў, удакладнення іх датавання і напісання каментарыяў выкарыстаны наступныя крыніцы:

**1. Матэрыялы, якія захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ):**

а) аўтографы аповесцяў «Апошняя восень», «Бульба», «Замяць жаўталісця», «Інтэрнат на Нямізе», «Развітанне ў Кавальцах», «У бары на світанні»;

б) машынапіс аповесці «Вайна каля Цітавай копанкі».

**2. Прыжыццёвыя выданні твораў Івана Навуменкі:**

а) Зб. тв., 1981, т. 1; Зб. тв., 1982, т. 2; Зб. тв., 1982, т. 3; Выбр. тв., 1995, т. 1.

б) зб.: «Верасы на выжарынах», 1960; «Таполі юнацтва», 1966; «Вераніка», 1968; «Тая самая зямля», 1971; «Падарожжа ў юнацтва. Выбранае», 1972; «Замяць жаўталісця», 1977; «Смутак белых начэй», 1980; «Сярэбраныя мхі», 1983; «Пераломны ўзрост», 1986; «Водгулле далёкіх вёснаў», 1989; «Любімы горад», 1999; «Сасна пры дарозе», 2001.

**3. Прыжыццёвыя публікацыі ў перыядычным друку:**

а) часопісы: «Беларусь», 1975, № 2; «Маладосць», 1957, № 12; 1958, № 4, 10; 1964, № 8; 1965, № 2; 1971, № 7; 1976, № 10; 1978, № 10; «Полымя», 1958, № 3; 1974, № 12; 1976, № 3; 1996, № 2, 3;

б) газеты: «Звязда», 1976, 11—13, 15, 17 лют.; 1978, 6—8 верас.; «ЛіМ», 1964, 1 мая; 1974, 9 жн.; 1976, 30 ліп.; 1978, 29 верас.; «Мінская праўда», 1963, 21 ліп.

**4. Пасмяротныя выданні:**

а) зборнік: «Аповесці, апавяданні», 2009.

У выніку зверкі тэкстаў з аўтографамі і прыжыццёвымі выданнямі выпраўлены памылкі друку. Аповесці публікуюцца паводле правіл сучаснай арфаграфіі з захаваннем характэрных асаблівасцей мовы І. Навуменкі.

У раздзеле «Каментарыі» прыводзяцца звесткі па гісторыі напісання аповесцяў, называюцца крыніцы тэкстаў з апісаннем пры наяўнасці аўтографаў і машынапісаў.

Выяўленыя ў працэсе зверкі розначытанні тэксту носяць пераважна моўна-стылёвы характар. Розначытанні і варыянты падаюцца ў каментарыях асобным падраздзелам пад назвай «Варыянты і розначытанні».

Прыведзены звесткі пра пераклады твораў на іншыя мовы.

## 1957

### Вайна каля Цітавай копанкі (с. 3)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1982, т. 2. Пад тэкстам: 1957 г.

Упершыню — часоп. «Маладосць», 1957, № 12.

Уваходзіла ў зб.: «Сярэбраныя мхі», 1983; «Пераломны ўзрост», 1986; «Водгулле далёкіх вёснаў», 1989; Выбр. тв., 1995, т. 1; «Аповесці, апавяданні», 2009.

Выходзіла асобнай кнігай: «Вайна каля Цітавай копанкі», 1959.

Аповесць пераклалі на рускую мову І. Клімашэўская і В. Міхайлава («Война у Титова пруда», 1963), Я. Мазалькоў (зб. «Голубиный взлет», 1961; «Тополя нашей юности», 1978).

У БДАМЛМ, у асабістым архіве І. Навуменкі, захоўваюцца два экзэмпляры чыставога машынапісу па 85 старонак кожны (ф. 495, воп. 1, ум. адз. 21, арк. 1—85). Тэкст адпавядае тэксту Зб. тв., правак няма, дата не пазначана.

С. 6:

*«Містар Твістэр»* (1933) — аповесць у вершах расійскага паэта, перакладчыка, аднаго з пачынальнікаў расійскай дзіцячай літаратуры С. Маршака (1887—1964).

С. 7:

*Вялікдзень* — веснавое свята старажытных славян у гонар сонца, абуджэння прыроды і надыходу «вялікіх» палявых работ. Адсюль і назва. Хрысціяне пераасэнсавалі Вялікдзень у свята ўваскрэсення ўкрыжаванага Ісуса Хрыста, якое стала галоўным хрысціянскім святам. Яму надаецца асаблівы сэнс як азнаменаванню перамогі над грахом і смерцю.

*Споведзь* — пакаянне, адно з сямі хрысціянскіх таінстваў, якое заключаецца ў прызнанні вернікам сваіх грахоў перад святаром, які ад імя Ісуса Хрыста адпускае грахі хрысціяніну, што шчыра пакаяўся.

С. 8:

*Прычасце (еўхарысція)* — галоўны абрад, адно з сямі таінстваў у праваслаўнай і каталіцкай цэрквах. У час прычасця вернікі з’ядаюць кавалачак асвячонага хлеба і выпіваюць лыжачку віна, якія сімвалізуюць «цела і кроў» Ісуса Хрыста, і тым самым далучаюцца да «Боскай сутнасці». Лічыцца, што ў час апошняй трапезы Ісус Хрыстос частаваў сваіх вучняў віном і хлебам, ператвараючы іх у цела і кроў сваю, наказваў захоўваць гэты абрад у памяць аб ім.

*...рэлігія — опіум народа...* — выраз, які ўзнік на аснове выказванняў К. Маркса з уводзінаў «Да крытыкі гегелеўскай філасофіі права».

*...ў дзеда было шмат мікалаеўскіх і керанскіх грошай.*— маюцца на ўвазе грошы, якія былі ў абарачэнні ў час праўлення апошняга расійскага імператара Мікалая ІІ і пры Часовым урадзе пад кіраўніцтвам А. Ф. Керанскага.

*Пуд* — старажытная адзінка масы ў Беларусі і Расіі, роўная 16,38 кг. Афіцыйна выкарыстоўваўся да 1924 г.

С. 9:

*Страшны Суд* — у хрысціянстве суд, які канчаткова вызначыць лёс грэшнікаў і праведнікаў.

*Чапаеў Васіль Іванавіч* (1887—1919) — савецкі военачальнік, легендарны герой грамадзянскай вайны, камандзір 25-й стралковай дывізіі Чырвонай Арміі.
С. 12:

*Маці Багародзіца* — Багародзіца, Божая Маці, у хрысціянстве найсвяцейшая Дзева Марыя, Мадонна, маці беззаганна зачатага Ісуса Хрыста.
С. 13:

*Белае мора* — унутрымацерыковае мора Паўночнага Ледавітага акіяна, на паўночным захадзе еўрапейскай часткі Расіі.
С. 15:

*Махно Нестар Іванавіч* (1889—1934) — украінскі палітычны дзеяч, адзін з кіраўнікоў анарха-сялянскага паўстанцкага руху ва Украіне ў 1918—1921 гг.
С. 19:

*«Рабяты і звераняты»* (1925) — кніга рускай савецкай дзіцячай пісьменніцы В. В. Пяроўскай (1902—1961).
С. 28:

*Рот фронт* (ад ням. Rot Front — чырвоны фронт) — інтэрнацыянальнае прывітанне (словы і жэст: паднятая напаўсагнутая (або амаль выпрастаная) рука (звычайна правая) з павернутым ад сябе сціснутым кулаком). Атрымала папулярнасць у 1930-х гадах, асабліва ў час грамадзянскай вайны ў Іспаніі (1936—1940).
С. 29:

*...гісторыю пра мужнага хлопчыка Гаўроша, які загінуў на барыкадах, пра маленькую Казету, якая ўпусціла ў студню сярэбраную манету...* — маюцца на ўвазе персанажы рамана «Адвержаныя» (1862) французскага пісьменніка В. Гюго (1802—1885).

*...апавяданні пра грамадзянскую вайну...* — маецца на ўвазе грамадзянская вайна і ваенная інтэрвенцыя 1918—1922 гг.
С. 30:

*...кніжку пра Бураціна і залаты ключык.*— маецца на ўвазе казка «Залаты ключык, або Прыгоды Бураціна» (1936) рускага савецкага пісьменніка А. М. Талстога (1883—1945).
С. 31:

*Цвінтар* — царкоўны двор ці агароджанае месца пры царкве. Часам цвінтаром называюць могілкі пры царкве.

*Усяночная* (усяночнае дбанне, няспанне) — вечаровае набажэнства праваслаўнай традыцыі напярэдадні нядзелі або асобных царкоўных святаў.
С. 44:

*...яшчэ ў грамадзянскую вайну яму разбілі галаву белапалякі.*— маюцца на ўвазе грамадзянская вайна і ваенная інтэрвенцыя

1918—1922 гг., у час якой значная частка тэрыторыі Беларусі акупавалася германскімі і польскімі войскамі.

С. 49:

*«Палескія рабінзоны»* (1930) — аповесць беларускага пісьменніка, аднаго з пачынальнікаў беларускай дзіцячай літаратуры Янкі Маўра (сапр. Фёдараў Іван Міхайлавіч, 1883—1971).

*…ён служыў недзе аж у Туркестане на граніцы, і яго забілі там басмачы.*— Басмачы — удзельнікі антысавецкага ўзброенага нацыянальна-рэлігійнага руху ў Сярэдняй Азіі ў 1917—1926 гг.

С. 50:

*Японскага мікаду ў «палон» браў…* — Мікада — адзін з тытулаў японскага імператара, паходзіць ад назвы імператарскага палаца.

С. 53:

*Зайцава цыбуля* — народная назва кісліцы звычайнай — кветкавай расліны сямейства кіслічных.

С. 62:

*Сахара* — пустыня ў Паўночнай Афрыцы, найвялікшая на зямным шары.

*Паўночны полюс* — пункт, у якім уяўная вось вярчэння Зямлі перасякае яе паверхню ў Паўночным паўшар'і. Знаходзіцца ў цэнтральнай частцы Паўночнага Ледавітага акіяна, дзе глыбіня перавышае 4000 м.

С. 65:

*Ніл* — рака ў Афрыцы, адна з найдаўжэйшых рэк свету.

С. 66:

*...можна яшчэ быць і магеланамі, і калумбамі…* — Калумб Хрыстафор (1451—1506) — мараплавец, адкрывальнік Новага Свету; Магелан, Магальяінш Фернан (каля 1480—1521) — партугальскі мараплавец, экспедыцыя якога ажыццявіла першае кругасветнае плаванне.

*Поўнач* — тут: мясцовасць з халодным, суровым кліматам, якая знаходзіцца пераважна паўночней за палярнае кола.

Варыянты і разначытанні:

Зб. тв. // *часоп. «Маладосць»*

С. 4:

[20] дня // часу

[22] Лізу // яе

[22] нават // з-за гэтага нават

[23] які лічыўся // які нядаўна прыехаў у іхнюю школу, але ўжо лічыўся

[28—29] Жаніх і нявеста / Паелі ўсё цеста… // Жаніх і нявеста / Паелі ўсё цеста… / Цеста пасохла, / Нявеста здохла…

[31] а разам з ім, нібы па камандзе, скакалі // а ўслед за ім скакалі

С. 5:

[16] блін // блінец

[22] насуплены // нахмураны

С. 6:

[1] ластавак // сёлета ластавак

[7] на ластавак // на чатырох ластавак

[9] Маленькія ластавачкі // Ластаўкі з жоўтымі дзюбамі

[13] з іхняга гумна. // з Яшавага гумна.

[15] Тарабаны ледзь не штодня крыўдзілі Яшу. // Праз Тарабанаў Яша зносіў і многа другой крыўды.

[15—16] дзень пры дні // дзень у дзень

[16] не ўяўляў сабе // не дапускаў думкі

[32—34] За добрую вучобу хлопца ўзнагародзілі кнігай «Містар Твістэр». Гэта была цудоўная кніга, і Яша ёю вельмі ганарыўся. // За добрую вучобу хлопца ўзнагародзілі кнігай «Грамадазнаўства». Што такое грамадазнаўства, Яша не ведаў, але кнігай ганарыўся.

С. 7:

[17] пакруціў // павярцеў

[26—27] сумна ківаючы галавой, прамовіў дзед Атрахім. // сумна заківаў галавой дзед Атрахім.

[29] У часопісе пасля сказа «Дзед Атрахім не прызнаваў новых парадкаў» ідзе сказ: «Ён заўсёды тлумачыў Яшу, што раней жылося вельмі добра, а цяпер чалавек не жыве, а пакутуе».

С. 8:

[4—5] пацягнуў яго за крысо. // пацягнуў яго назад.

[36] новых парадкаў. // падаткаў.

С. 9:

[2] настане // наступіць

[12—13] імчаў наўскач так, што аж дух займала. // скакаў ва ўвесь апор так, што аж дух зацінала.

[22] не было нікога // наогул не было нікога

[25] які пачынаўся ад Алёшавага двара // што ляжыць насупраць Алёшавага двара

[25] нібы // як

[27] Яшу // Яшава паяўленне

[35—36] У часопісе перад сказам «Усе цягнуліся за рудым Алёшам, і гаварыць тут што-небудзь у сваю абарону было проста бескарысна» ідзе сказ: «Яша не ўмеў апраўдвацца».

С. 10:

[9—10] пачаў яго забаўляць // стаў з ім забаўляцца

[21] крошку // драбязу

[22] зрабілася // стала

[27] кашулю // сарочку

[29] шмат // шмат у паветры

[31—32] на лістах якой іх вісела процьма. // якая расла на выгане.

[38] падзяўбуць. // паклююць.

С. 11:

[6] прывяла // апарасіла

[22] Мой дзед // Мой дзед, які летась памёр

[30] а шкуру // і скуру

[34—35] які да самай позняй восені // які забываў надзяваць свае боты з воўчай скуры і да самай позняй восені

[36—37] чым-небудзь цікавым. // якім-небудзь выдатным здарэннем.

С. 12:

[7] дарэчы // вельмі дарэчы

[13] Багародзіцкая // Багародзіца

[22] качак // дзікіх качак

[24] балота. // суцэльнага балота.

[25—26] на гэтую гару // на Багародзіцу

[32] цішыню // наступіўшую цішыню

С. 13:

[7] не пашанцавала // не павязло

[13] шкуру // скуры

[19] Ён завербаваўся // У галадоўку ён завербаваўся

[21] суседзі // Змітраковы суседзі

С. 14:

[4] Стары Панядзелак, даглядчык чыгуначнай лазні // Панядзелкаў бацька тапіў чыгуначную лазню

[9—11] бацька лавіў бандытаў, а самага галоўнага іх атамана запёр у лазні, калі той парыўся. // бацька біў белых разам з Чапаевым, што ў яго ёсць грамата, якую падпісаў сам Чапаеў.

[34] кольцаў // калёс

С. 15:

[5] за Цітаву копанку. // з-за Цітавай копанкі.

[20—23] Але па-ранейшаму хацелася нечага вялікага, гераічнага. Хіба ж можна адмовіцца ад подзвігу, ад вайны за праўду, калі табе дзесяць, а то і цэлых дванаццаць гадоў?.. // Мабыць, трэба

было шукаць іншых форм для выяўлення сваёй ваяўнічасці, якая абавязкова прыходзіць да людзей, калі ім па дзесяць, а то і па цэлых дванаццаць гадоў.

С. 16:

[11] грудку // глыжку

[15] недарма // відаць, недарма

[19] усялякі друз. // усялякая збынь.

[20] першамайцы // першамайскія хлопцы

[25] за слабадскімі хлопцамі. // за Слабодкай.

[27] баязлівай // труслівай

[29] з’явіліся такі спрыт і адвага? // паявіўся такі спрыт і такая адвага?

[36] хлопцы думалі. // Слабодка думала.

С. 17:

[2] палёгкі. // палегчання.

[36] захаваў за сабой пост галоўнага камандуючага. // застаўся галоўнакамандуючым.

С. 18:

[23] склаўся // наспеў

[29] злосныя // злыя

[32] вяртацца // варочацца

[38] ў белай сукенцы // ў белым плацці

С. 19:

[3—4] не закрывала рукой сваёй чарніліцы ад Яшы і наогул ставілася да яго прыхільна. // не закрывала рукой сваёй чарніліцы ад Яшы.

[10—11] «Містара Твістэра» // «Грамадазнаўства»

С. 20:

[1] закончылася // прайшла

[2] Пасля // З часу

[33] Хлопцы стаялі пахмурныя // Слабодка стаяла пахмурная

С. 21:

[3] пачаў // стаў

[7] налаташыў // усё ж налаташыў

[30] змяшаліся. // здрыгануліся.

[30] Частка войска кінулася // Частка варожага войска пусцілася

С. 22:

[11] давялося // прыйшлося

[22] за палонных // за палонных і самога Косцю Кветку

С. 23:

[5] баязлівец // трус

[23—24] пабывалі нават у пелі,— густым асінавым лесе,— дзе, як гаварылі бацькі // пабывалі нават у пелі, дзе, па сведчанню бацькоў

[35—36] распачалі бойку // завязалі новую бойку

С. 24:

[8] нельга было // немагчыма стала

[27] пры ўсіх. // на вачах усіх.

[29] растлумачыў // паясніў

С. 26:

[6] падаваў // працягваў

[8] бялёсымі // алавянымі

[26] болей чым каму. // болей за ўсіх.

[31—32] усіх, хто быў на сцэне. // тых, што прадстаўлялі.

С. 27:

[21—22] Вайна, якую яны вялі летам, зусім не датычыла цікавай п’есы. // Вайна, якую яны вялі летам, гэта адно, а п’еса — зусім другое.

С. 29:

[6—8] Пазней высветлілася, што ў той вечар Таня праводзіла ў армію трактарыста, з якім дружыла. // У той вечар Таня Цырульнікава на рэпетыцыю не з’явілася.

[12] Набліжалася // Блізілася

[13—14] Другі клас паўтараў пройдзенае. // Другі клас сваю праграму ўжо выканаў. На ўроках цяпер было нецікавае паўтарэнне.

[16] гучна іх чытала. // пачынала іх гучна чытаць.

[17—18] ажыўшая пасля зімы // аджыўшая ад зімы

[19] мужнага хлопчыка // хлопчыка

[32] пра шкоднасць рэлігіі. // пра рэлігію — опіум народа.

С. 30:

[1] Туды для Яшы пакуль што доступу не было. // Туды для Яшы, пакуль ён не перайшоў у трэці клас, ходу не было.

[6] Таня // піянерважатая Таня

[9—10] сябруе з хуліганамі… // сябруе з хуліганамі, нагрузак не выконвае…

[11] Гэта і вырашыла справу. // Гэтыя нагрузкі і падвялі. Яшу ніхто не даваў ніякіх нагрузак, і чаму пра іх сказала піянерважатая, ён не ведаў.

С. 31:

[17—20] Крук быў вядомы на ўсю акругу прайдзісвет і задзіра. Без яго не абыходзілася ні вяселле, ні святочны кірмаш. Кажуць, сам ён жаніўся разоў восем. Паедзе ў далёкую вёску, дзе яго не ведаюць, і жэніцца. // Ён прадстаўляў чорта. Казалі, што старога Крука падгаварылі стаць чортам камсамольцы, бо ён быў злы на папа. Крук перайшоў у хрысціянскую веру, але ён восем разоў жаніўся і

апошнія сем разоў без вянца. Можа, таму ён і злаваўся на папа за тое, што той яго не вянчаў.

[22] Крук. // Крук, апрануты чортам.

С. 32:

[14—16] Ды нават калі б і ўдалося перабрацца цераз паркан, то ў садзе трэба было бараніцца ад Рудзькі, які і блізка не падпускаў да дрэў. // У дадатак ён яшчэ накідаў каля паркану бутэлечных ашкелкаў. Так што калі б і ўдалося перабрацца праз паркан, то ў садзе, каб не пакалечыць ногі, трэба было б абуваць боты. Але ўсё роўна злы Салвэсеў Рудзька нават блізка не падпускаў да саду.

С. 33:

[1—2] У часопісе адсутнічае сказ: «Пазней была арганізавана лёгкая кавалерыя з ліку хлопцаў, якія бегалі хутчэй за ўсіх».

[3—8] У слабадскім войску з'явіліся дзве гарматы, зробленыя з жалезнай трубы. Вядома, ніякай небяспекі для першамайцаў ад іх не было. Хутчэй наадварот. Каб гармату раптам разарвала, то таму, хто яе абслугоўваў, прыйшлося б нялёгка. Артылерыю арганізавалі з тым разлікам, каб наганяць на Першамайку страх. // Артылерыю стварылі. Са школьнага турніка прыцемкам сцягнулі жалезную трубу. Рашпілем распілавалі папалам, загнулі і запаялі бабітам па аднаму канцу ствалоў. Тады яшчэ прарэзалі невялікія дзірачкі ў ствалах, каб падпальваць порах, і пушкі былі гатовы. Вядома, ніякай небяспекі для варожага войска яны не ўяўлялі. Хутчэй наадварот. Каб пушку раптам разарвала, то таму, хто яе абслугоўваў, прыйшлося б нялёгка. Артылерыю ж стварылі з тым разлікам, каб наводзіць на Першамайку жах.

[10] на плячы гармату // на плячах пушку

[15] незапомных // незапамятных

[27] папала б // дасталося б

С. 34:

[3] ляжалых груш-дзічак. // гнілак.

[4] дзве шапкі. // дзве шапкі ігруш.

[16] спадабалася. // ўсім спадабалася.

[21] рабілася // атрымлівалася

С. 35:

[22] выхваляўся // развіваў свае планы

С. 36:

[3] бок. // адвіслы бок.

[18] Першамайскія хлопцы // Першамайцы

[31—32] Хоць яго бацька і лавіў бандытаў, але Аркадзь здраднік. // Хоць яго бацька і ваяваў разам з Чапаевым, але Аркадзь здраднік. Ён жа і летась, і зімой колькі разоў пераходзіў на бок Першамайкі.

С. 37:
[9—10] А ты не сунь носа, куды не просяць… // Калі ж ты спрос, то пацалуй кабыле пад хвост…
С. 38:
[10] паказаўся // паявіўся
[18—19] Мой бацька міліцыі скажа… // Мой бацька чапаевец. Ён пра вас міліцыі раскажа…
[22] Сюды ніколі ніхто не заглядваў. // Сюды ніхто не хадзіў, адны сабакі спраўлялі тут свае вяселлі.
[28—29] з першых дзён // з самага пачатку
[32] хлопцам з чыгункі // чыгуначным хлопцам.
С. 39:
[2] гулялі іхнім валейбольным мячом. // гулялі ў іхні валейбольны мяч.
[15] у калючым дзядоўніку // у калючых дзядах
[32] «кругавога». // «падкіднога».
С. 40:
[18] да самага носа Аркадзя. // да самага Аркадзевага носа.
С. 41:
[4] дзяўчына. // дзеўка.
[6] ваяку. // чапаеўцу.
[10] Аркадзь // Аркадзь Панядзелак
[13] падраных // рваных
[18] гармат. // пушак.
[33] грудкі // глыжкі
С. 42:
[5] дае яму кніжкі, сябруе з ім // ніколі не закрывае ад яго чарнільніцы
[7] больш, чым каму. // больш за ўсіх.
[28] памятаў // помніў
С. 43:
[17—18] Ніколі, мабыць, у час купання не было на Цітавай копанцы так ціха. // Ніколі, мабыць, не стаяла над Цітавай копанкай такая цішыня, як цяпер.
[25] без літасці. // як злодзея, якога злавілі на месцы злачынства.
[26] Алёша спагнаў // руды Алёша выліў
[34] Вельмі ганарлівы стаў // Нос вельмі задзірае
[37] папляліся // пабрылі
С. 44:
[1] Яго душа працівілася парадку // Уся яго істота працівілася таму парадку
[3] сам // ахвотна

[4—5] Перад вачамі Яшы паўставаў // У вачах Яшы міжвольна ўставаў

[26] каровы прабілі Рагулі бок // Яшавай Рагулі каровы прабілі бок

[28] таму // ад таго

[33] ніхто з хлопцаў не ведаў. // ніхто не ведаў.

[34—35] вопратка на ім вісела як на калку. // у самую халодную пару не насіў шапкі.

С. 45:

[3] яго // гэта

[37] з сябе. // над сабой.

С. 46:

[18] злосны // злы

[21—22] Яша рэдка ўспамінаў Тарабана. // Яша зусім забыў пра Тарабана. Ён зрабіўся цяпер для хлопца нейкім маленькім, непрыкметным.

[36] узлезці // дабрацца

[36—37] У часопісе пасля сказа «А туркалік нават не масціў сабе добрага гнязда» ідзе сказ: «На сплеценых галінах алешын ён рабіў лёгкі насціл — і гняздо гатова».

С. 47:

[10] вось на табе — не хоча // не хацела

[15] дужэйшым // мацнейшым

[15—16] ад гэтага было крыўдна. // гэта крыўдзіла хлопца.

[24] У часопісным першадруку раздзела, які адпавядаў бы па змесце раздзелу XI, змешчанаму ў Зб. тв., няма.

С. 52:

[16—17] цэлы // круглы

[17] У часопісе пасля сказа «Ён мог прахадзіць так круглы дзень, не прамовіўшы ні слова» ідзе сказ: «Ад размоў гуртавы пастух ухіляўся».

[21] Рагуля. // Яшава Рагуля.

[22] сакавітага бабоўніку. // бабоўніку.

[27—28] ганьбы ля Цітавай копанкі. // ганьбы пры той апошняй бітве ля Цітавай копанкі.

С. 53:

[2] па гэты бабоўнік // за гэтым бабоўнікам

[20] злосных // злых

С. 54:

[1—2] гнёзды, якія ведаў. // наведаныя гнёзды.

[16] з гнязда // з наведанага гнязда

[18] дзяўбці // кляваць

[28] У часопісе пасля сказа «Тады хлопцы ўжылі больш рашучыя меры» ідзе сказ: «Яны рашылі працяць Кузьму страхам».

С. 55:

[4—5] адно на аднаго. // адзін на другога.

[7] помнік. // крыжык.

[21] Хлопцы не ведалі, што і думаць. // Іх нехта адтуль павыцягваў. Хлопцы губляліся ў здагадках і не ведалі, што і думаць.

[26—27] — Не румзай,— сказаў бацька.— Навошта ў хляве гэтая дрэнь? Яшчэ куранят перадушаць твае вароны. // — Не румзай,— злосна сказаў бацька,— я пабіў гэтую дрэнь. Свінню карміць нечым, а тут яшчэ вароны.

[32] Старыя // Гэтыя старыя

С. 56:

[5] берасцянак // берасцянікаў

[13] У часопісе адсутнічае сказ: «Яны весела пархнулі і зніклі з віду».

С. 57:

[7] вужакамі // вужамі

[17] мала месца. // малое месца.

С. 58:

[6] не хадзіў. // цяпер не хадзіў.

[9] налаташыўшы яблыкаў // налаташыўшы поўную пазуху яблыкаў

[12] пачырванеў // заірдзеўся

[18] абыякава // раўнадушна

[27—28] ў арэхі. // па арэхі.

[34] не было ніякай злосці. // не было напісана ніякай пагрозы.

С. 59:

[8] нейкія качэлі // нейкую качэлю

[12] Хлопцы непрыкметна дайшлі // Талака непрыкметна дабралася

[15] у Цітавай. // у Цітавай копанцы

С. 60:

[16—17] сказаць Косцю прыемнае // зрабіць добрае Косцю

[21] гіганцкія крокі, качэлі такія // вінтавую качэлю

[22] надзьмуўшыся. // надзьмуты.

[33—34] Іх сапраўды не трэба было папіхаць ззаду. Толькі вадзі за рычаг уперад і назад. // Яны сапраўды рухаліся без нічыёй дапамогі. Трэба было толькі вадзіць за рычаг уперад і назад.

С. 61:

[9—11] Прапанаваць стары падручнік арыфметыкі ён не адважыўся, а «Містара Твістэра» — падарунак настаўніцы — не хацелася

аддаваць. // Прапанаваць стары падручнік арыфметыкі для першага класа, які ён утаіў і не здаў настаўніцы (кнігі тады давала школа), ён не адважыўся, а «Грамадазнаўства» — падарунак настаўніцы — не хацелася аддаваць.

[17] хлопец // быў хлопец

[18] вельмі // з гэтага першага знаёмства

[24] слабым // слабенькім

[26] камандзірам. // ў якасці камандзіра.

[27] Фрагмент тэксту ад слоў «Белагаловы Косця…» да слоў «…хата стала штабам» у часопісным першадруку адсутнічае.

С. 62:

[23] «кругавога». // «падкіднога».

[23] стаялі ўжо качэлі. // стаяла ўжо качэля.

[26—27] жалезным колам, якое ён прывалок з дому. // жалезным колам ад малатарні, якое ён паціху сцягнуў з-пад Тарабанавай павеці.

[28] ніякіх качэляў. // ніякай качэлі.

[33] тады // некалі

[34] ніколі // ніколькі

[35] У цябе ёсць сшыткі? // У цябе ёсць сшыткі, Яша?

С. 63:

[2] дам // прадам

[2] сказала // злітасцівілася

[4] сшыткаў // добраахвотнага ўраўнення сшыткаў

[12—13] чымсьці вялікім, прыгожым, дзівосным, што бывае толькі ў казцы. // велізарнай бліскучай машынай, якая ўсё робіць сама.

[15] казка // машына

[15—16] Проста ўсе людзі будуць некалі так жыць. // Яе нельга проста так пабачыць або памацаць.

[17] качэлі // качэлю

[18] дзіўнага, незвычайнага // дзіўнага

[21] новае. // цікавае.

[21] На Косцевым двары // У Косцевым двары

[30] сорак восем // сто дванаццаць

[31] У яго не было ні канькоў, ні лыж. // Яго дзядзька, які вучыўся на курсах, хоць і абяцаў, канькоў, мабыць, не прывязе. Ён ужо два разы прыязджаў з горада і не прывёз. Можа, забывае, а можа, у яго грошай няма.

[32] Каб ён ведаў // Яша, каб ведаў

С. 64:

[4] пахваляўся. // расхваліўся.

[9] крылы. // крыллі.

[10] снягурачкі, якія справіць, і ўяўляў сабе // снягурачкі, якія справіць без ніякага дзядзькі, маляваў ва ўяўленні карціну

[12] цудоўныя // выдатныя

[14—15] лавілі капканамі кратоў і нават памагалі касіць калгаснае жыта. // лавілі капканамі кроцікаў і нават касілі калгаснае жыта на сапраўднай жняярцы.

[17] здагадаўся // прыкмеціў

[33—34] добрых планёраў ён клеіць яшчэ не ўмее… // добрых планёраў ён клеіць не ўмее, але ў гэтую хвіліну не смяяліся са свайго камандзіра…

С. 65:

[1] знаходзілася ў канцы вуліцы // размяшчалася на ўскрайку

[1—2] на начлег // нанач пасвіцца

[3] Гэта асабліва ўзрадавала Яшу. // Гэта адкрыццё ўсхвалявала Яшу да глыбіні сэрца.

[6] баючыся, што яму адмовяць // баючыся адмовы

[7] на начлег. // у начное.

[20] на начлег кожны вечар… // на папас кожнага вечара…

С. 65—66:

[21—11] Фрагменту тэксту ад слоў «Цудоўная летняя ноч…» да слоў «…слухаюць Косцю» ў часопісным першадруку адпавядае наступны фрагмент: «На папасе хлопцы расклалі агонь і пачалі пячы ў прыску бульбу. Бульбы набраў з сабой кожны. Стары Лявон, накрыўшыся кажухом з галавой, хроп непадалёку ад вогнішча. Ніколі яшчэ, здаецца, Яша не еў такой смачнай бульбы. Яна сама рассыпалася ў роце і была смачней за ўсё, што яму прыйшлося да гэтай пары каштаваць. Была ноч, гарэў агонь, на небе блішчэлі зоркі, званілі званкамі коні, а хлопцы расказвалі розныя гісторыі. Цікавей за ўсіх расказваў Косця. Ён прачытаў вельмі многа кніг, і Яша цяпер разумеў, чаму першамайцы слухаюць Косцю».

С. 66:

[16] Ніколі яшчэ Яша // Ніколі яшчэ, здаецца, Яша

[18] даводзілася да гэтага часу // прыйшлося да гэтай пары

[23] А гара Багародзіцкая ўзнікла пасля ледавіка. // А гара Багародзіцкая вырасла ад ледніка. Там, дзе цяпер гара, было дно марэны. І балота таму ўтварылася.

[24] ледавікі // леднікі

[26] і не мог наслухацца… // разявіўшы рот…

[33] выжыў. // аджыў.

[35] працаваў у горадзе // працаваў у горадзе ледзь не самым галоўным

[34—36] У часопісе пасля сказа «Можа, яму расказваў пра ўсё гэта дзядзька, які працаваў у горадзе ледзь не самым галоўным і летась

прыслаў Косцю валейбольны мяч і сетку» ідуць сказы: «Яшаў дзядзька таксама вучыўся ў горадзе на трактарыста. Але расказваў ён мала і, вядома, не купіў канькоў, хоць абяцаў два разы».

С. 67:

[1] на качэлях. // на вінтавой качэлі.

[5] пабойваўся // калаціўся

[18] даўшы моцнага кухталя, адпусціў Яшу. // даўшы Яшу моцнага штурхеля, адпусціў яго.

[21] У часопісе пасля сказа «Крыўда перапаўняла Яшавы грудзі» ідзе сказ: «Ён ішоў дадому, павесіўшы галаву».

[25] Але // Разам з гэтым

[31] вагаўся // хістаўся

[33] Утрох // Утраіх

[34] з выклікам // для смеласці

С. 68:

[17—18] Яшу зрабілася нават шкада Алёшы. // Яшу стала яго ў гэтую хвіліну проста шкада.

[18] Ён // Алёша

[18—19] У часопісе пасля сказа «Ён жа і не дурны» ідзе сказ: «Чаму толькі ён нікога не хоча разумець?»

[19] ніякай // гэтай

[28] Па Яшу // За Яшам

[35—36] Давай пусцім яго на волю. // Давай пусцім гэтага голуба. Галубы ж паляцяць хутка ў вырай…

С. 69:

[3] адчыніў дзверцы. // адкрыў дзверцы клеткі.

[3] з клеткі // адтуль

[5] пачаў // стаў

[6] шэрая кропка // адна шэрая кропка

[9] У часопісе перадапошні раздзел заканчваецца сказам: «Хлопцы пакрочылі ў школу».

У часопісе аповесць заканчваецца наступным раздзелам:

«Мілае, далёкае дзяцінства!.. Ты праляцела залатым карагодам незабыўных дзён і болей ніколі не вернешся. Яснымі і чыстымі вачамі глядзела ты на свет, цягнучыся да ўсяго гераічнага, прыгожага, справядлівага. І хоць не заўсёды роўна ляжалі твае жыццёвыя сцяжынкі, цябе лёгка прабачыць. Яны ж, гэтыя сцяжынкі, былі яшчэ першымі і няходжанымі…

Міналі вёсны і зімы, прыходзілі новыя захапленні, і ўжо нават ранняе юнацтва глядзела на вайну ля старой Цітавай копанкі як на дзіцячую гульню і забаву. Але настала і вялікая, сапраўдная вайна.

Яна прыйшла вельмі хутка, праз якія-небудзь сем або восем гадоў, і не абмінула нікога з тых, хто наступаў і адступаў у арміях Слабодкі і Першамайкі.

І — дзіўныя шляхі твае, чалавек!.. Знайшліся нейкія нябачныя ніці, якія працягнуліся ад зарослай хмызняком Цітавай копанкі да акопаў і бітваў вялікай вайны…

Косця Кветка раней другіх герояў гэтага зусім не выдуманага апавядання зрабіў крок у самастойнае жыццё. Ён, нават не закончыўшы дзясятага класа, паехаў вучыцца за лётчыка ў далёкі горад Энгельс.

Ён аказаўся не такім ужо ціхім, гэты Косця. Хто мог падумаць раней, што ён марыць пра неба, пра яго неабсяжную прастору? Тыя ж планеры, якія майстравала Першамайка, на жаль, зусім не ўзляталі ў паветра.

Калі ішоў ужо ледзь не трэці год вайны і Цітава копанка, не адзначаная нават кропкай ні на якіх вайсковых картах, знаходзілася за межамі фронту, у нямецкім тыле, Косця Кветка адной вясновай ноччу доўга кружыў на самалёце над родным сялом. Ён абстраляў чыгуначную станцыю, дзе размяшчаліся фашысты, і разбамбіў вадакачку. Косцеў самалёт лятаў ледзь не над самымі дахамі ўстрывожанага сяла і цэлую паўгадзіну наводзіў на фашыстаў жах. Пра тое, што гэта быў Косця, здагадваліся толькі самыя блізкія яго сябры — Яша і Змітрок. Яны выконвалі ў родным сяле партызанскае заданне і не баяліся, што на іх галовы ўпадзе Косцева бомба.

Разам з фашыстамі дрыжаў у тую ноч толькі адзін чалавек, які некалі браў удзел у вайне ля Цітавай копанкі — Цярэшка Лузанік. Ён так і не адолеў трэцяга класа, але калі сяло занялі немцы, вельмі хутка змікіціў, што пасада паліцая падыходзіць для яго ва ўсіх адносінах. Кар'ера Лузаніка скончылася ганебна, і пра гэта нават не варта ўспамінаць.

Восенню таго самага года Яша і Змітрок Калашкан пайшлі на фронт. З роднага сяла фашыстаў прагналі ўжо, і ў Яшаў адрас прыслаў свой першы вайсковы ліст Косця Кветка. Ён пытаўся ў ім пра вынікі сваёй вясновай бамбёжкі. Але гэты ліст не застаў Яшы. Ён ужо быў салдатам. Яны з Калашканам трапілі на далёкія адзін ад другога франты: Яша на поўнач, у Карэльскія лясы, а Змітрок аж пад Перакоп. Вайна раскідала былых сяброў па розных дарогах, і здавалася, што дарогі гэтыя ніколі не сыдуцца. Але — нязведаныя шляхі твае, чалавек!..

У пачатку лета сорак чацвёртага года малодшага сяржанта Якава Яскаўца параніла. Яго прывезлі ў шпіталь у Ленінград. Трэба было

дастаць асколак, які глыбока засеў у целе. Калі вымалі гэты асколак, Яшу страшэнна балела. Але ён не крычаў. Дзяўчына ў белым халаце ўвесь час выцірала марляй пот з Яшавага ілба, а пры ёй крычаць было сорамна. Яша не пазнаў дзяўчыны, калі ляжаў на аперацыйным стале. Ён пазнаў яе толькі на другі дзень, калі яна зайшла ў палату.

— Мы з вамі разам вучыліся,— сказала дзяўчына.— Мяне завуць Ліза. Памятаеце, вы мяне некалі ў палон бралі?..

Так, гэта была Ліза. Яна стаяла над Яшавым ложкам, высокая, стройная, з белымі кудзеркамі завіткоў, і смяялася вачамі. Яша не бачыў Лізы, мабыць, гадоў восем. Яна паехала са сваёй маці жыць у Ленінград, як толькі закончыла чацвёрты клас. Цяпер гэтая прыгожая дзяўчына мала чым нагадвала тую імклівую і гаваркую Лізу, якая некалі заўсёды заступалася за Яшу.

— Вы ўвесь час былі тут, і ў блакаду? — нясмела спытаў малодшы сяржант.

— Была. Я яшчэ ў сорак першым паступіла на курсы медсясцёр. Мая маці памерла тут…

Лізіны вочы сталі сур’ёзнымі. Яны былі сінія і глыбокія-глыбокія…

Ліза штодня прыходзіла ў палату да Яшы. Яна іншы раз прыносіла з сабой тое-сёе, чаго не прадугледжваў шпітальны паёк. Суседзі па ложках люта зайздросцілі Яшу.

— Нявеста? — дапытваліся яны.— Шанцуе ж чалавеку…

Яша не ведаў сам, кім яму даводзіцца Ліза. Ён цяпер думаў пра яе цэлымі гадзінамі. Якраз стаялі ленінградскія ночы і ў палаце амаль круглыя суткі было светла, як днём. Франтавыя зводкі штодня прыносілі новыя радасці: нашы з поспехам наступалі на ўсіх франтах. Яшу мроілася хуткая перамога, і гэтая перамога нязменна выступала ў вобразе Лізы.

Месяц, праведзены ў шпіталі, запаў Яшу ў душу на ўсё жыццё. Ён адчуваў ужо, што кахае Лізу. Гэта было яшчэ нязведанае, цудоўнае пачуцце. Яно ахапіла ўсю істоту, клікала да нечага прыгожага, высокага. «Мы сустрэліся не выпадкова»,— хвалявала прадчуванне. І Яшу ахопліваў страх пры думцы, што ён мог лёгка размінуцца з Лізай. Ліза ж была ласкавая, шчырая і крыху задуменная.

Яша ўжо хадзіў, і кожнага вечара, калі ў Лізы быў вольны час, яны прагульваліся па шпітальным двары. Шпіталь размяшчаўся ў школе, і двор быў засаджан дрэвамі. Яны хадзілі па алеі, якая шумела лісцем, і цэлымі гадзінамі гаварылі пра кнігі, пра дзяцінства,

пра вайну. Гэта былі цудоўныя дні… Перад самай выпіскай са шпіталю Яша напісаў Лізе ліст. Ён перадаў яго ўласнаручна, чырванеючы і страшэнна хвалюючыся. У лісце ён пісаў пра сваё каханне…

Назаўтра была іх апошняя сустрэча. Ліза прыйшла разгубленая і ціхая.

— Я хачу вам сказаць, Яша,— пачала яна, апусціўшы вочы.— Некалі вы былі маім школьным рыцарам. Вы былі такі чысты, ясны… Але ж то было дзяцінства… Вы і цяпер харошы, Яша. Толькі я ўжо кахаю другога. Ён таксама на фронце…

Яна пацалавала яго ў губы. Гэта быў першы пацалунак у Яшавым жыцці…

Яны перапісваліся з Лізай. Вясной сорак пятага года Ліза напісала, што муж яе загінуў на фронце.

На дарозе вайны Яша спаткаў яшчэ аднаго блізкага чалавека. Ля пераправы праз нямецкую раку Одэр ён сустрэўся з Аркадзем Панядзелкам. Той у новенькай гімнасцёрцы ішоў з маршавай ротай на фронт. Аркадзь перад вайной паехаў у рамесніцкае вучылішча. У сорак другім годзе яго забралі ў армію, і ў тым жа годзе ён трапіў у палон. З палону ён уцёк і некалькі месяцаў хаваўся ў палякаў.

— Ты, можа, проста перабег, як тады, ад нашых да вашых,— пажартаваў Яша.— Помніш Цітаву копанку?

— Гэтым не жартуюць,— сумна прамовіў Аркадзь.— То ж была гульня…

Лёс астатніх стаў вядомы толькі пасля вайны. Косця Кветка вярнуўся дадому з пустым правым рукавом і трыма ўзнагародамі. Ён адразу паехаў вучыцца ў педагагічны інстытут. Змітрок Калашкан застаўся ў арміі. Яго бабуля не крыўдзіцца на ўнука, Змітрок памагае старой як родны сын. Алесь Бахілка з фронту не вярнуўся…

Поўнай нечаканасцю для ўсіх, хто некалі ваяваў за Цітаву копанку, была вестка пра Тарабана Алёшу. На Алёшу да вайны махнулі рукой. За хуліганства яго выключылі яшчэ з сёмага класа. Праз год ён дастукаўся і да турмы: пырнуў нажом чалавека. Ніхто не ўспамінаў Алёшу добрым словам. Толькі пасля вайны пра няўрымслівага Тарабана загаварылі па-другому. Алёша выкупляў свае грахі на фронце. Ён загінуў пры пераправе праз Дняпро. Тарабанавай сям'і прыслалі Алёшаву пасмяротную ўзнагароду.

Яша — галоўны герой гэтага апавядання — стаў ляснічым. Ён садзіць і даглядае лес у тых самых мясцінах, дзе грымела і малая, і вялікая вайна.

Дырэктар школы Кветка і маёр Калашкан іншы раз прыязджаюць у роднае сяло. Яны збіраюцца тады ў Яшы. І калі заходзіць гутарка пра Цітаву копанку, ляснічы здзіўляецца, чаму маёр Калашкан усё яшчэ не камандуе палком. Ён жа быў камандзірам палка яшчэ ў тарабанавым войску больш як дваццаць гадоў назад і з таго часу не расце.

Дырэктар школы Косця Кветка гне сваю лінію. Ён націскае на тое, што ва ўсіх удзельнікаў слаўнай баталіі за Цітаву копанку растуць дзеці, і іх бацькам варта пра гэта думаць больш».

## 1958

### Снежань (с. 69)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1958 г.

Упершыню — часоп. «Полымя», 1958, № 3.

Уваходзіла ў зб.: «Верасы на выжарынах», 1960; «Падарожжа ў юнацтва. Выбранае», 1972; Выбр. тв., 1995, т. 1.

Аповесць пераклаў на рускую мову Я. Мазалькоў (зб. «Друзья-товарищи», 1959; «Голубиный взлет», 1961; «Прощание в Ковальцах», 1986).

С. 69:

*Гейнэ Генрых* (1797—1856) — нямецкі паэт, празаік, эсэіст.

*Па-ранейшаму ззяе на ім расцягнуты чарпак Вялікай Мядзведзіцы*… — Вялікая Мядзведзіца — сузор'е Паўночнага паўшар'я неба. Сем галоўных, найбольш яскравых зорак размяшчэннем нагадваюць карэц.

*Млечны Шлях* — белая паласа, якая перасякае неба, утворана з вялікай колькасці слабых зорак.

*Арол* — горад у Расіі, цэнтр Арлоўскай вобл.

С. 72:

*Ленінград* — горад на тэрыторыі Расіі, заснаваны ў 1703 г. Пятром І і названы ў яго гонар Санкт-Пецярбургам. У гады Першай сусветнай вайны перайменаваны ў Петраград. Пасля смерці У. І. Леніна ў 1924 г. названы Ленінградам. З 1991 г. носіць ранейшую назву — Санкт-Пецярбург.

С. 73:

*«В минуту унынья, о Родина-мать, / Я мыслью вперед улетаю, / Еще суждено тебе много страдать, / Но ты не погибнешь,*

*я знаю»...* — радкі з II часткі «Эпілога» паэмы «Каму на Русі жыць добра» (1866—1876) рускага паэта М. А. Някрасава (1821—1878).

*...успаміналі Карла XII і Палтаву, Напалеона і яго ганебныя ўцёкі з нашай зямлі.*— Карл XII (1682—1718) — кароль Швецыі (1697—1718), палкаводзец. Удзельнік Паўночнай вайны 1700—1721 гг. супраць Паўночнага саюза (Расія, Рэч Паспалітая, Данія). У 1708 г. войскі Карла XII уступілі ў Беларусь, потым ва Украіну. У 1708—1709 гг. пацярпеў паражэнне каля Лясной і Палтавы, уцёк у Турцыю; Напалеон I, Напалеон Банапарт (1769—1821) — французскі дзяржаўны дзеяч і палкаводзец, першы консул Французскай Рэспублікі (1799—1804), імператар Францыі (1804—1814, 1815). 24 чэрвеня 1812 года пачаў вайну супраць Расійскай імперыі. У выніку яго «Вялікая армія» была разгромлена. Пасля пераправы праз раку Беразіна ў лістап. 1812 г. пад камандаваннем Напалеона заставалася не больш як 10 тыс. салдат, якія неарганізавана адступалі да Вільні. 5 снеж. у Смаргоні Банапарт даручыў камандаванне І. Мюрату і выехаў у Парыж.

*…прыгодніцкія кнігі Конан-Дойля.*— Дойл Артур Конан (1859—1930) — англійскі пісьменнік, аўтар прыгодніцкіх («Выгнаннікі», 1893, «Родней Стон», 1896) і навукова-фантастычных («Згублены свет», 1912, «Атручаны пояс», 1913) раманаў і аповесцяў. Сусветную вядомасць пісьменніку прынеслі творы, аб’яднаныя вобразам сышчыка-аматара Шэрлака Холмса: «Знак чатырох» (1890), «Сабака Баскервіляў» (1901—1902), «Даліна жаху» (1914—1915), зборнік апавяданняў «Прыгоды Шэрлака Холмса» (1891—1892) і інш.

С. 84:

*Калінін* — у 1931—1990 гг. назва горада Цвер, цэнтра Цвярской вобл. Расіі.

*Калуга* — горад у Расіі, цэнтр Калужскай вобл.

С. 85:

*...знайшлі ўплывы Пушкіна, Лермантава, Блока, Янкі Купалы...* — Пушкін Аляксандр Сяргеевіч (1799—1837) — рускі пісьменнік; пачынальнік новай рускай літаратуры, заснавальнік сучаснай рускай літаратурнай мовы; Лермантаў Міхаіл Юр’евіч (1814—1841) — рускі пісьменнік; Блок Аляксандр Аляксандравіч (1880—1921) — рускі паэт-сімваліст; Купала Янка (сапр. Луцэвіч Іван Дамінікавіч; 1882—1942) — беларускі паэт, драматург, публіцыст, перакладчык, грамадскі дзеяч; класік беларускай літаратуры; адзін з заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратуры і беларускай літаратурнай мовы. Народны паэт Беларусі (1925).

*...школьных гурткоў ППХА і ГСА.*— гурткі, якія займаліся падрыхтоўкай школьнікаў да здачы нарматываў на значкі «Гатовы

да ПВХО» («Гатовы да проціпаветранай і проціхімічнай абароны») і «Гатоў да санітарнай абароны».

С. 87:

*...на комінку, як у вершы Якуба Коласа, ярка палае смольны корч.*— маецца на ўвазе верш «Асенні вечар» (1906) Я. Коласа; Колас Якуб (сапр. Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч; 1882 — 1956) — беларускі паэт, празаік, драматург, крытык, публіцыст, перакладчык, навуковец, педагог, грамадскі дзеяч; класік беларускай літаратуры, адзін з заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратуры і беларускай літаратурнай мовы. Народны паэт Беларусі (1926).

С. 91:

*...яшчэ ў першую вайну прыйшлося пакаштаваць нямецкага хлеба.*— Першая сусветная вайна (1914—1918) — імперыялістычная вайна паміж аўстра-германскім і англа-франка-расійскім (Антанта) блокамі, выкліканая абвастрэннем супярэчнасцей паміж галоўнымі капіталістычнымі краінамі за перадзел ужо падзеленага свету, за ўмацаванне свайго панавання ў свеце і занявольванне іншых народаў.

С. 96:

*Райза* — раённы аддзел нарыхтовак («раённае забеспячэнне»).

Варыянты і разначытанні:

Зб. тв. // *часоп. «Полымя»*

С. 73:

17 набытыя // атрыманыя

С. 75:

12 недвухсэнсава // недвухсэнсоўна

С. 84:

6 лоўка далі ў зубы фашыстам // абвялі вакол пальца фашыстаў

С. 87:

6 Мы наважылі абмяняць соль // Яшчэ ў мястэчку мы наважылі абмяняць соль

С. 88:

22 доўгую // другую

С. 97:

8 У канцы перадапошняга абзаца аповесці ў часопісе ідзе сказ: «Дзіўныя, нібы ў казцы, справы тварыліся гэтай цудоўнай зімой!»

14 У часопісе аповесць заканчваецца сказам: «Дзіўная, казачная была зіма!»

## Пераломны ўзрост (с. 97)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1958 г.

Упершыню — часоп. «Маладосць», 1958, № 4.

Уваходзіла ў зб.: «Верасы на выжарынах», 1960; «Вераніка», 1968; «Падарожжа ў юнацтва. Выбранае», 1972; «Пераломны ўзрост», 1986; «Водгулле далёкіх вёснаў», 1989; «Аповесці, апавяданні», 2009.

Аповесць пераклаў на рускую мову Я. Мазалькоў (зб. «Друзья-товарищи», 1959; «Голубиный взлет», 1961; «Тополя нашей юности», 1978).

С. 98:

*...чытаў «Капітана Гатэраса»...* — «Падарожжы і прыгоды капітана Гатэраса» (1866) — раман французскага пісьменніка, аднаго з заснавальнікаў рэалістычнай навуковай фантастыкі Ж. Верна (1828—1905).

С. 99:

*«Рабінзон Круза»* — раман «Жыццё і дзіўныя прыгоды марахода Рабінзона Круза» (1719) англійскага пісьменніка, публіцыста, аднаго з заснавальнікаў еўрапейскага рэалістычнага рамана Д. Дэфо (1660?—1731).

С. 107:

*Каўказ* — тэрыторыя паміж Чорным, Азоўскім і Каспійскім морамі ад Кума-Маныцкай упадзіны да паўднёвай часткі Армянскага нагор’я. У межах Каўказа частка Расіі, Азербайджан, Арменія, Грузія, частка Турцыі і Ірана.

С. 116:

*«Ташкент — горад хлебны»* (1923) — аповесць рускага савецкага пісьменніка А. С. Няверава (сапр. Скобелеў; 1886—1923).

С. 118:

*Пушкін* — гл. камент. да апов. «Снежань» (с. 808).

*Кутузаў (Галяніішчаў-Кутузаў) Міхаіл Іларыёнавіч* (1745—1813) — расійскі палкаводзец, дыпламат.

*Барадзінскі бой (Барадзінская бітва)* — генеральная бітва ў час вайны 1812 г. паміж расійскімі і французскімі войскамі 7 верас. каля сяла Барадзіно за 124 км на захад ад Масквы.

*...пра Пушкіна, Лермантава і Максіма Горкага.*— Лермантаў — гл. камент. да апов. «Снежань» (с. 808); Горкі Максім (сапр. Пешкаў Аляксей Максімавіч; 1868—1936) — рускі пісьменнік і грамадскі дзеяч, ганаровы акадэмік АН БССР (1932).

Варыянты і разначытанні:

Зб. тв. // *часоп. «Маладосць»*

С. 97:

[25] каля нашай хаты // насупраць нашага двара

С. 98:

[31] Я ў той час не гуляў у шахматы… // Сам я тады яшчэ не гуляў у шахматы…

[34] козыры былі яшчэ не раскрыты // козыры яшчэ зусім былі не раскрыты

С. 99:

[25] заробкі // заработкі

С. 100:

[4] даказваючы // і запэўняў, даказваючы

[37—38] У часопісе пасля сказа «Мабыць, занятыя працай, мы не пачулі, калі яна клікала Пеку» ідзе сказ: «Рашэль прыляцела пад павець страшэнна разгневаная».

С. 101:

[2] запэцкаў // выпэцкаў

[25] як толькі мог. // з усіх сіл.

С. 102:

[16—17] адыгравацца. // звесці з ім рахунку.

С. 103:

[23] ўчынкі. // рэчы.

С. 104:

[6—7] па астатніх прадметах я ад яго не адставаў. // у веданні астатніх прадметаў я яму не ўступаў.

[24—25] У часопісе пасля сказа «З Пекам я сябраваў, мы абмяркоўвалі з ім многія рэчы, але адно ў ім было незразумела» ідзе сказ: «Ён страшэнна баяўся сваёй доўгай сястры».

[25—26] Ён ніколі не гаварыў праўды сваёй доўгай сястры. Змаўкаў, калі яна // Ён ёй ніколі не гаварыў праўды, змаўкаў, калі яна

[28] дваістым // двайным

[37] Мы ледзь тады ўгаварылі таго вучня не скардзіцца ў школе… // Мы ледзь тады ўгаварылі таго вучня не скардзіцца ў школе, бо Пеку пагражала вялікая непрыемнасць…

С. 105:

[6] ў руках. // ў сваіх руках.

[12—15] У часопісе пасля сказа «Мабыць, з-за яе я пачаў пільней прыглядацца да настаўнікаў, якія нас вучылі, знаходзячы іншы раз у іх паводзінах нешта такое, што ў маім уяўленні крыху псавала іх абсалютную ідэальнасць» ідзе сказ: «Яшчэ тады, у пятым класе, некаторыя настаўнікі пераcталі для мяне быць толькі багамі…»

21—22 Пра яго строгасць старэйшыя вучні гаварылі, акругляючы вочы. // Пра яго строгасць і патрабавальнасць хадзілі легенды.

30 за вылікам // за выключэннем

32—33 У часопісе адсутнічае сказ: «Але ён быў сапраўды строгі і не даравав нічога».

С. 106:

5 настаўніка. // свайго настаўніка рускай мовы.

12 аб выбрыках // аб прадзелках

14 задавацца // зазнавацца

15 Вучышся добра і таму лічыш // Вучышся ты добра і таму стаў лічыць

20—21 Але размаўляў ён з намі, як з дарослымі. // Але размаўляў ён з намі, як з дарослымі — сур’ёзна і патрабавальна. За гэта, мабыць, больш за ўсё і паважалі настаўніка.

С. 107:

9 двары // вечары

21 хіліцца // горнецца

37 па звонкім лёдзе // па звонкім ільду

С. 108:

14 цэлая гадзіна // можа, цэлая гадзіна

С. 109:

12 не зроблены ніводзін прыклад. // не рашоны ніводны прыклад.

С. 111:

33 ты // вы

34 пішаш // пішаце

35 трымаеш. // трымаеце.

35 тваімі // вашымі

С. 112:

17 едкі // рэзкі

С. 113:

5 пароць // варсаць

С. 114:

30 ў прытулкі // ў розныя дзетдамы

30—31 бадзяўся з беспрытульнымі. // далучаўся да беспрытульных.

33—34 пачаў вучыцца // забыў пра вуліцу, вучыўся

С. 115:

21—22 павінен раскусіць гэтую Рашэль. // павінен раскусіць гэтую Рашэль, раз яму прыходзілася з ёю размаўляць.

37 не крыўдзіўся. // не крыўдаваў.С. 119:

3—4 каго-небудзь з вучняў. // якога-небудзь вучня.

[9—10] не рабіліся лепшымі. // не станавіліся лепшымі.
С. 120:
[26] Вясной усё ж стала весялей. // Вясной было ўсё ж добра.
[31] рабіўся змрочны і зацяты. // становячыся змрочным і зацятым.
[32—33] Гэта было лепш. // Я быў рады гэтаму.
С. 122:
[4] насцярожанай // наступіўшай
[8] Я анямеў. // Я абмёр.
[24] далей. // у далейшым.
[32] гэтую гісторыю… // аб усёй гэтай гісторыі…
С. 124:
[25] насунулася // насунулася ўшчыльную

**Мой сябар Пятрусь (с. 127)**

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1958 г.
Упершыню — часоп. «Маладосць», 1958, № 10.
Уваходзіла ў зб.: «Верасы на выжарынах», 1960; «Падарожжа ў юнацтва. Выбранае», 1972; «Пераломны ўзрост», 1986.
Аповесць пераклаў на рускую мову Я. Мазалькоў (зб. «Голубиный взлет», 1961; «Тополя нашей юности», 1978).

С. 128:
*...у асаавіяхімаўскі гурток...* — гурток Асаавіяхіма (Таварыства садзейнічання абароне, авіяцыйнаму і хімічнаму будаўніцтву) — масавай добраахвотнай грамадскай арганізацыі ў СССР у 1927—1948 гг., асноўнай задачай якой было распаўсюджванне ваенных ведаў сярод насельніцтва. У 1948 г. замест Асаавіяхіма створаны тры самастойныя таварыствы, якія ў 1951 г. аб'яднаны ў ДТСААФ.
*Блок* — гл. камент. да апов. «Снежань» (с. 808).
*Нас было чацвёра дружбакоў, як у рамане французскага пісьменніка Дзюма пра мушкецёраў.*— маецца на ўвазе раман «Тры мушкецёры» (1844) французскага пісьменніка А. Дзюма-бацькі (1802—1870).
С. 137:
*Медаль «За працоўную доблесць»* — медаль заснаваны ў 1938 г. для ўзнагароды за самаахвярную працоўную дзейнасць і выяўленую пры гэтым доблесць.

*Значкісты ППХА — у райсавет Асаавіяхіма…* — гл. камент. да апов. «Снежань» (с. 808).

С. 138:

*Маркс Карл* (1818—1883) — нямецкі мысляр, грамадскі дзеяч, рэвалюцыянер, заснавальнік марксізму.

*Энгельс Фрыдрых* (1820—1895) — нямецкі мысляр, тэарэтык сацыялізму, адзін з заснавальнікаў марксізму.

С. 140:

*Дняпро* (Днепр) — рака ў Расіі, у Віцебскай, Магілёўскай і Гомельскай абласцях Беларусі і ва Украіне; трэцяя паводле даўжыні і плошчы басейна рака Еўропы пасля Волгі і Дуная, упадае ў Чорнае мора.

*Бярэзіна* (Беразіна) — рака ў Беларусі, у Віцебскай, Мінскай, Магілёўскай і Гомельскай абласцях, правы прыток Дняпра.

С. 142:

*Варашылаў Клімент Яфрэмавіч* (1881—1969) — савецкі партыйны, дзяржаўны і ваенны дзеяч, Маршал Савецкага Саюза (1935).

С. 143:

*Смаленск* — горад, цэнтр Смаленскай вобл. Расіі.

С. 144:

*Вялікая Мядзведзіца* — гл. камент. да апов. «Снежань» (с. 807).

*Сузор'е Арыёна* — экватарыяльнае сузор'е, якое на тэрыторыі Беларусі бачна ўвосень і ўзімку.

*Марс* — чацвёртая ад Сонца планета Сонечнай сістэмы. Мае выгляд яскравага свяціла чырвонага колеру.

С. 146:

*…кніжкі значкістаў ГПА, ЮВС, ППХА, ГСА, мандаты Асаавіяхіма і Саюза ваяўнічых бязбожнікаў.*— дакументы, якія пацвярджалі паспяховую здачу нарматываў па адпаведных праграмах ГПА («Гатоў да працы і абароны»), ЮВС («Юны варашылаўскі стралок»), ППХА («Гатовы да процілаветранай і процілімічнай абароны»), ГСА («Гатоў да санітарнай абароны»), удзел у рабоце Асаавіяхіма (гл. камент. да апов. «Снежань», с. 808) і Саюза ваяўнічых бязбожнікаў (масавая атэістычная арганізацыя ў СССР у 1925—1947 гг.).

*Ленінград* — гл. камент. да апов. «Снежань» (с. 807).

С. 147:

*Кіеў* — горад, сталіца Украіны.

С. 148:

*Курск* — горад у Расіі, цэнтр Курскай вобл.

С. 149:

*...узяў з сабой кніжку «Плутонія» акадэміка Обручава...* — маецца на ўвазе раман «Плутонія» (1924) расійскага геолага і географа У. А. Обручава (1863—1956).

С. 151:

*Чарнігаўшчына* — Чарнігаўская вобл. Размешчана на поўначы Украіны. Мяжуе на паўночным захадзе з Беларуссю, на поўначы з Расіяй. Утворана 15 кастр. 1932 г. Цэнтр — г. Чарнігаў.

С. 154:

*Сенека Луцый Аней* (каля 4 да н. э.— 65 н. э.) — старажытнарымскі філосаф, пісьменнік і дзяржаўны дзеяч.

С. 155:

*Гітлер* (сапр. Шыкльгрубер Адольф; 1889—1945) — фашысцкі дыктатар Германіі ў 1933—1945 гг., правадыр (фюрар) Нацыянал-сацыялістычнай партыі ў 1921 г., рэйхсканцлер з 1933 г. Палітычны курс Гітлера прывёў да развязвання Другой сусветнай вайны. Паводле Нюрнбергскага працэсу (1945—1946) прызнаны галоўным нацысцкім ваенным злачынцам. Скончыў жыццё самагубствам.

*Ленін Уладзімір Ільіч* (сапр. Ульянаў; 1870—1924) — расійскі і савецкі палітычны, дзяржаўны дзеяч, дзеяч міжнароднага рабочага руху, арганізатар і кіраўнік Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г., адзін з ініцыятараў стварэння СССР.

С. 156:

*«Інтэрнацыянал»* — міжнародны пралетарскі гімн. Тэкст напісаў у 1871 г. Э. Пацье, музыку ў 1888 г. П. Дэгейтар. З 1918 г. «Інтэрнацыянал» быў гімнам Савецкай дзяржавы, у 1944 г., з прыняццем новага Дзяржаўнага гімна СССР зацверджаны як гімн КПСС. Тэкст «Інтэрнацыянала» на беларускую мову пераклаў Я. Купала.

С. 160:

*Была ранняя восень другога года вайны. (...) У Сталінградзе фашысты рваліся да Волгі...* — Сталінград — у 1925—1961 гг. назва г. Валгаграда на паўднёвым усходзе еўрапейскай часткі Расіі (да 1925 г. меў назву Царыцын); *Волга* — рака ў еўрапейскай частцы Расіі, адна з найвялікшых рэк на зямным шары, найбуйнейшая ў Еўропе; 17 ліп. 1942 года пачалася Сталінградская бітва — адна з найбуйнейшых бітваў Другой сусветнай і Вялікай Айчыннай войнаў.

Варыянты і разначытанні:
Зб. тв. // *часоп. «Маладосць»*

С. 127:

[29] радасць. // радасць, дружбу і здраду.

С. 128:

[25—26] закаханы ў яго. // закаханы ў яго, як можна быць закаханым у самую цудоўную дзяўчыну.

С. 133:

[32] чымсьці недасягальным. // нейкім недасяжным ідэалам.

С. 134:

[1—2] Ён ганарыўся Петрусём, гэты просты, працавіты чалавек, які еў хлеб са сваіх мазольных рук. // Ён ганарыўся Петрусём, гэты просты, працавіты чалавек, які еў хлеб са сваіх мазольных рук і які жадаў сваім дзецям лепшай будучыні.

С. 139:

[35] У канцы першага абзаца трэцяй часткі ў часопісе ідзе наступны фрагмент: «Парты з класаў павыносілі і паставілі на двары, пад адкрытым небам. У класах на падлозе была наслана салома, і на ёй уночы спалі байцы знішчальнага батальёна. Мы з Петрусём выбралі сабе месца ў дзясятым класе. Нам не прыйшлося ў ім вучыцца, але ж лічыліся мы ўсё-такі дзесяцікласнікамі».

С. 144:

[6—7] Я хацеў верыць Петрусю, але сапраўднасць была больш складанай // Я хацеў верыць Петрусю і не мог. Сапраўднасць была больш складанай

[11] «дэмабілізаваныя» // адлічаныя

С. 145:

[15] што рабіць. // як паступіць.

С. 146:

[18—19] не такім нам некалі ўяўляўся адлёт // не такім уяўлялася нам некалі адбыццё

С. 149:

[34] разлягаюцца глухія выбухі… // чуюцца выбухі…

С. 153:

[33] задрыжаў. // раптам задрыжаў.

С. 156:

[26—27] Што чакае іх, бяздомных валацуг? // Хто чакае іх дома, бяздомных бадзяг?

С. 157:

[10] Сапраўднасць разбурала ранейшыя ўяўленні. // Ад такіх разважанняў было і сумна, і балюча. Сапраўднасць разбурала ранейшыя ўяўленні.

С. 158:

[16] паліцаі ходзяць па мястэчку, патрулююць… // паліцаі ходзяць па мястэчку ў якасці патрулёў…

С. 161:

[11] ведаў. // ведаў сам.

[33] У часопісе ў канцы аповесці ёсць сказ: «Трэба было жыць, берагчы сваю краіну, змагацца».

## 1964

### Бульба (с. 162)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1982, т. 3. Пад тэкстам: 1964 г.

Упершыню — часоп. «Маладосць», 1964, № 8.

Уваходзіла ў Выбр. тв., 1995, т. 1.

Выходзіла асобнай кнігай: «Бульба. Аповесць», 1964.

Аповесць пераклаў на рускую мову Я. Мазалькоў (зб. «Путешествие в юность», 1967).

У БДАМЛМ, у асабістым архіве І. Навуменкі, захоўваюцца фрагменты чарнавога варыянта рукапісу-аўтографа (ф. 495, воп. 1, ум. адз. 25).

У БДАМЛМ, у папцы часоп. «Маладосць», захоўваецца машынапіс аповесці «Бульба» з аўтарскімі праўкамі (ф. 37, воп. 1, адз. зах. 325, арк. 1—122). На першай старонцы пазначана дата 6/IV 64 г.

С. 162:

*Шэкспір Уільям* (1564—1616) — англійскі драматург і паэт.

*...ці натрапіш у наш век на Рамэа і Джульету?* — Рамэа і Джульета — галоўныя героі трагедыі «Рамэа і Джульета» (1594) У. Шэкспіра (1564—1616).

С 163:

*«Чем меньше женщину мы любим, тем больше нравимся мы ей…»* — радкі з чацвёртага раздзела рамана ў вершах «Яўген Анегін» (1823—1831) А. С. Пушкіна (1799—1837). *Пушкін А. С.*— гл. камент. да апов. «Снежань» (с. 808).

С. 165:

*Вавілонскае стоўпатварэнне* — біблейскі міф пра спробу людзей пабудаваць пасля сусветнага патопу ў зямлі Сенаар (Месапатамія) горад і вежу да нябёс. Разгневаны дзёрзкасцю людзей, Бог,

паводле Бібліі, «змяшаў іх мовы» так, што тыя перасталі разумець адзін аднаго, і «рассеяў іх па ўсёй зямлі, і яны перасталі будаваць горад». Недабудаваны горад назвалі Вавілон. У пераносным значэнні Вавілонскае стоўпатварэнне — мітусня, поўны беспарадак.

*«Общежитие, пристань моя путевая...»* — словы з песні «Студэнцкая развітальная» (словы С. Смірнова, музыка М. Блантэра).

*«Ты — мая пчолка, з табою не ведаю скрухі...»* — два першыя радкі верша «Ты — мая пчолка» (1958) беларускага паэта П. Броўкі (1905—1980).

*Броўка Пятрусь* (Пётр Усцінавіч; 1905—1980) — беларускі паэт і грамадскі дзеяч. Народны паэт Беларусі (1962).

С. 166:

...зеленаватая зорка Сірыус і ладны кавалак Млечнага Шляху.— Сірыус — найяскравейшая зорка начнога неба і адна з найбліжэйшых да нас зорак; Млечны Шлях — гл. камент. да апов. «Снежань» (с. 807).

С. 167:

*Жыццё — сон...*— адсылка да п’есы «Жыццё ёсць сон» (1635) іспанскага драматурга П. Кальдэрона (1600—1681).

*«Честь безумцу, который навеет человечеству сон золотой...»* — радок з верша «Вар’яты» (1833) французскага паэта П. Ж. Беранжэ (1780—1857).

*Дон Кіхот* — галоўны герой рамана «Хітрамудры гідальга Дон Кіхот Ламанчскі» (1615) іспанскага пісьменніка эпохі Адраджэння М. дэ Сервантэса Сааведры (1547—1616).

С. 168:

*...цень Напалеона.*— гл. камент. да апов. «Снежань» (с. 808).

С. 169:

*Ніцшэ Фрыдрых Вільгельм* (1844—1900) — нямецкі філосаф, філолаг і паэт, адзін з заснавальнікаў філасофіі жыцця.

С. 173:

*Блок, Лермантаў* — гл. камент. да апов. «Снежань» (с. 808).

С. 176:

*Папанінцы* — гераічныя даследчыкі Арктыкі. Паводле прозвішча І. Д. Папаніна (1894—1986), які разам з Э. Т. Крэнкелем, П. П. Ширшовым і Я. К. Фёдаравым у 1936—1937 гг. здзейсніў дзевяцімесячны дрэйф на льдзіне ад Паўночнага полюса да Грэнландыі, у 1937—1938 гг. быў начальнікам першай навукова-даследчай станцыі «Паўночны полюс».

С. 177:

*Вавілон* — у старажытнасці горад у Месапатаміі на рацэ Еўфрат; руіны — каля сучаснага г. Хіла (Ірак).

*Парыжская камуна* — орган улады ў Парыжы ў час народнай рэвалюцыі 18.3—28.5.1871 г., а таксама пашыраная ў гістарычнай літаратуры назва гэтай рэвалюцыі.

*Іван Грозны* (Іван IV Васілевіч Жахлівы, 1530—1584) — вялікі князь (з 1533), з 1547 г.— цар маскоўскі. Праводзіў палітыку тэрору і рэпрэсій, якая дасягнула свайго апагею ў часы апрычніны (1565—1572). У знешняй палітыцы прытрымліваўся курсу на пашырэнне межаў дзяржавы.

*«Мы почитаем всех нулями, а единицами себя...»* — радкі з другога раздзела рамана ў вершах «Яўген Анегін» (1823—1831) А. С. Пушкіна (1799—1837).

С. 179:

*«Кветкі зла»* (1857) — вершаваны зборнік, найбольш значны твор французскага паэта Ш. Бадлера (1821—1867).

С. 182:

*Глядзіш на сённяшніх дзяўчат праз тургенеўскія раманы.*— Тургенеў Іван Сяргеевіч (1818—1883) — рускі пісьменнік, аўтар раманаў «Рудзін» (1856), «Дваранскае гняздо» (1859), «Напярэдадні» (1860), «Бацькі і дзеці» (1862), «Дым» (1867), «Новае» (1877).

С. 186:

*«Як дзядзька ў Вільні»...* — параўнанне ўжываецца ў значэнні ‘няўпэўнена, не на сваім месцы’. Запазычана з паэмы «Новая зямля» (1911—1923) Я. Коласа. Колас Якуб — гл. камент. да апов. «Снежань» (с. 809).

С. 187:

*Людовік I* (Людвіг I, 1786—1868) — кароль Баварыі (1825—1848).

С. 188:

*Ясенін Сяргей Аляксандравіч* (1895—1925) — рускі паэт.

С. 193:

*Чукотка (Чукоцкі паўвостраў)* — паўвостраў на паўночным усходзе Азіі, у Чукоцкай аўтаномнай акрузе Расіі.

С. 195:

*Прачыстая* — летняе свята народнага календара, якое адзначалі 15 жн. паводле старога стылю; адно з дванадзясятых святаў. Праваслаўная царква прымеркавала да гэтага дня Успенне Багародзіцы.

С. 196:

*«Дунайскія хвалі»* — вальс, напісаны румынскім кампазітарам сербскага паходжання І. Івановічам (1845—1902) у 1880 г. Гэта адна з найбольш вядомых румынскіх мелодый у свеце.

С. 198:

*Ордэн Айчыннай вайны* — дзяржаўная ўзнагарода, ваенны ордэн СССР, зацверджаны Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 20 мая 1942 г.

*Ордэн Чырвонай Зоркі* — дзяржаўная ўзнагарода. Зацверджаны Пастановай Прэзідыума ЦВК СССР ад 6 крас. 1930 г.

*Джоні Пэдлер* — джаз-полька. Стваральнікі мелодыі — бразільскія музыкі, якія працавалі ў ЗША. Англійскі тэкст песні напісаў Лью Браўн.

С. 199:

*Тут было прыгранічча, мяжа з Польшчай...* — 18 сак. 1921 г. была падпісана Рыжская мірная дамова, паводле якой да Польшчы адыходзіла тэрыторыя Заходняй Беларусі.

*Котлас* — горад у Расіі, раённы цэнтр у Архангельскай вобл.

С. 200:

*Данбас* — Данецкі вугальны басейн, на тэрыторыі Днепрапятроўскай, Данецкай, Луганскай абласцей Украіны і Растоўскай вобл. Расіі, адна з найважнейшых паліўна-энергетычных баз Еўропы.

С. 203:

*Петрарка пісаў пра Лауру.*— Петрарка Франчэска (1304—1374) — італьянскі паэт, вучоны-гуманіст эпохі Адраджэння. Вяршыня яго творчасці — зборнік лірыкі «Канцаньерэ» («Кніга песень», 1327—1374), дзе ў вершах, аб’яднаных у цыклы «На жыццё мадонны Лауры» і «На смерць мадонны Лауры», услаўляецца каханне.

С. 205:

*Сібір* — большая частка азіяцкай тэрыторыі ў Расійскай Федэрацыі, якая распасціраецца ад Урала на захадзе да хрыбтоў ціхаакіянскага водападзелу на ўсходзе і ад Паўночнага Ледавітага акіяна на поўначы да стэпаў Казахстана і мяжы з Цэнтральнай Азіяй на поўдні.

С. 207:

*«Масквіч»* — легкавы аўтамабіль малога класа. Выпускаецца Маскоўскім аўтамабільным заводам імя Ленінскага камсамола з 1946 года.

С. 212:

*Пётр I Аляксеевіч* (1672—1725) — расійскі цар з 1682 г., імператар з 1721 г.

*Калумб* — гл. камент. да апов. «Вайна каля Цітавай копанкі» (с. 792).

С. 218:

*«На нее, подбоченясь игриво, / Загляделся проезжий Кармен...»* — скажоныя радкі верша «Тройка» (1846) рускага пісьменніка М. А. Някрасава (1821—1878).

*Іерыхонская труба* — выраз з біблейскага міфа. Яўрэі пасля егіпецкага палону на сваім шляху ў Палесціну павінны былі ўзяць горад Іерыхон, але не маглі разбурыць яго моцных сцен. Аднак ад гуку свяшчэнных труб іерыхонскія сцены палі самі сабой, і дзякуючы гэтаму цуду яўрэі захапілі горад (кніга Ісуса Навіна, 6). Выраз «труба іерыхонская» ўжываецца ў значэнні: ‘моцны, трубны голас’.

С. 220:

*Геркулес (Геракл)* — у старажытнагрэчаскай міфалогіі адзін з найвыдатнейшых герояў, які валодаў незвычайнай сілай, сын Зеўса і Алкмены, жонкі фіванскага цара.

С. 221:

*Паўлаў Іван Пятровіч* (1849—1936) — расійскі фізіёлаг, стваральнік вучэння пра вышэйшую нервовую дзейнасць.

*Талстой Леў Мікалаевіч* (1828—1910) — рускі пісьменнік і публіцыст.

*Горкі* — гл. камент. да апов. «Пераломны ўзрост» (с. 810).

С. 224:

*«Волга»* — легкавы аўтамабіль сярэдняга класа. Выпускаецца вытворчым аб’яднаннем «ГАЗ» (г. Ніжні Ноўгарад, Расія) з 1956 г.

С. 231:

*Ялта* — горад і прыморскі курорт у Аўтаномнай Рэспубліцы Крым, ва Украіне.

С. 234:

*...Мікіцёнак партызан дзвюх войнаў. Партызаніў яшчэ ў белапольскую акупацыю, потым пры немцах.*— маецца на ўвазе ўдзел у партызанскай барацьбе, калі тэрыторыя Беларусі неаднаразова акупавалася польскімі войскамі ў час грамадзянскай вайны і ваеннай інтэрвенцыі 1918—1922 гг., і пры фашысцкай акупацыі ў Вялікую Айчынную вайну 1941—1945 гг.

С. 237:

*Палессе* — гісторыка-этнаграфічны рэгіён Беларусі, Украіны, Польшчы і Расіі. Размешчаны ў паўднёва-заходняй частцы Усходне-Еўрапейскай раўніны, у межах Палескай нізіны, пераважна паабапал беларуска-ўкраінскай мяжы, а таксама часткова ў Польшчы і Расіі.

С. 240:

*«Мне грустно и легко, печаль моя светла, печаль моя полна тобою...»* — радкі з верша «На ўзгорках Грузіі…» (1829) А. С. Пушкіна (1799—1837).

С. 241:

*Жывая Джыяконда, якая вандруе між алешын і лазнякоў ад вёскі.*— «Джаконда» («Мона Ліза», поўная назва «Партрэт спадарыні Лізы Джаконды», каля 1503—1505 гг.) — карціна італьянскага жывапісца Леанарда да Вінчы (1452—1519), адзін з найвядомейшых твораў жывапісу ў свеце.

С. 242:

*Гамлет* — галоўны герой трагедыі «Гамлет, прынц Дацкі» (1600) У. Шэкспіра (1564—1616).

С. 245:

*Пока не требует поэта / К священной жертве Апполон, / В заботах суетного света / Он малодушно погружен...* — радкі з верша «Паэт» (1827) А. С. Пушкіна (1799—1837).

С. 247:

*Гора ад розуму* — выраз са знакамітай камедыі ў вершах «Гора ад розуму» (1824) рускага пісьменніка А. С. Грыбаедава (1795—1829).

С. 248:

*У класе разбіраюць верш Якуба Коласа «Дуб».*— Колас Якуб — гл. камент. да апов. «Снежань» (с. 809). Верш «Дуб» («Сілачом стаіць / Дуб разложысты…») датуецца 22/VI 1910.

Варыянты і розначытанні:

Зб. тв. // *машынапіс*

С. 162:

[1] пахаджвае // блукае

С. 164:

[11] русых // русявых

[12] мятліцы. // мятліка.

[12—14] Травінку заўважыў сусед дзяўчыны, і ад Веньяміна не схавалася, што ён хоча яе зняць. // Травінка заўважана суседам дзяўчыны, і Веньямін згледзеў, што той хоча яе зняць.

С. 165:

[11] трывае // стаіць

С. 167:

[21] дамінуючым // заўсёдным

[33] уласных // сваіх

С. 169:

[7] Па духу ён адкрывальнік. // Ён па духу адкрывальнік.

С. 170:

[16] кіпяціцца // гарачыцца

[20] пад вачамі сінякі. // цёмныя кругі пад вачамі.

С. 171:

[9] выгукі // крыкі

С. 172:

[4] Адзіны ў сям’і сын // Ён, адзіны ў сям’і сын

[7—8] У машынапісе пасля сказа «Цяжка табе будзе жыць» ідзе сказ: «Жанчыны — нягодныя, жорсткія, я ведаю…»

[14] прыгожыя. // менавіта прыгожыя.

[17] Дзесяцігодку Веньямін канчаў // У дзесяцігодцы Веньямін вучыўся

[32] завітваў // залятаў

С. 173:

[2] Веньямін // Ён

[36] фанабэрыцца. // заносіцца.

С. 174:

[3] уздымала // узвялічвала

С. 175:

[28] быў зусім бездапаможны // зусім губляўся

С. 176:

[1] Пачынаючы з далёкіх юнацкіх дзён // Яшчэ з юнацкіх дзён

[31] іскарка // іскрынка

[34] менавіта // якраз

С. 177:

[8] неразгаворлівы // маўклівы

[23] Паснедаўшы ў кафэ, Веньямін // Паснедаўшы ў кафэ, дзе кожны абслугоўваў сам сябе, Веньямін

С. 178:

[6] Колькі яшчэ ёсць вёсак // Ёсць яшчэ вёскі

[6—7] У машынапісе пасля сказа «Ёсць яшчэ вёскі, дзе і радыё няма, дзе кіно бывае гады ў рады» ідзе наступны фрагмент: «А ўсюды ж жывуць людзі, ім дадзена такое ж жыццё, як і тым, што з бесклапотным выглядам шпацыруюць па асфальту праспектаў, не ведаючы, як стравіць час — пайсці на стадыён, у кіно ці набраць кампанію ў пульку. Вядома, вёска мае многа новага. У сваім жыццёвым побыце яна цягнецца за горадам. У кожным, самым глухім кутку не дзіва сёння трактар, аўтамашына, веласіпед. Але ж ёсць яшчэ вёскі з саламянымі стрэхамі, са старасвецкімі пахілымі

хатамі, якія сумуюць у доўгія асеннія вечары і ў снежаньскія зімовыя дні. «Ой, мяцеліца, ой, мяцеліца — ўсе дарожкі замяла…»

[8] закіданую // занесеную

[13] Вучні // Шкаляры

[19—20] У машынапісе пасля сказа «А калі і гарманіста няма?..» ідзе наступны абзац: «Вёска мае поўнае права на ўсе дары культуры, думае Веньямін, і немалая роля ва ўсім гэтым належыць настаўніку і наогул інтэлігенту, які там працуе. Хіба абавязак настаўніка, урача, агранома толькі ў тым, каб трымацца вузкага кола прафесійных заняткаў?..»

[21] Заняты гэтымі думкамі, Веньямін падышоў // Заняты гэтымі думкамі, якія нібы прасілі гучных урачыстых слоў, Веньямін падышоў

[31—32] сустракае знаёмыя, многа разоў бачаныя твары // сустракае знаёмых

[36—38] Загадчык крамкі — нізенькі, рухавы, з сівой казлінай бародкай — знешнасцю і абыходжаннем з пакупнікамі цалкам пасуе да тавару, якім гандлюе. // Загадчыку крамкі — нізенькаму, рухаваму, з сівой казлінай бародкай — нібы самой прыродай наканавана гандляваць кнігамі.

С. 179:

[21—22] У машынапісе пасля сказа «Бадлер усё-такі паэт, і напісанае ім — паэзія» ідзе сказ: «Поэзия — пресволочнейшая штуковина, существует и ни в зуб ногой…»

[31] дзякуючы запрудам // пабудавалі запруды

С. 181:

[14] кідаў яму ў твар // гаварыў яму

[23] гаварун. // краснабай.

С. 182:

[32—33] сапраўдная рэальнасць, якой трэба глядзець у твар. // сапраўдная рэальнасць.

[36] Дык // То

С. 183:

[38] глеба // зямля

С. 184:

[35] у бакавую кішэнь // у кішэнь

С. 185:

[20] знік // збег

С. 186:

[9—10] У машынапісе пасля сказа «Бэла,— сказала дзяўчына, працягнуўшы яму руку, і ён пацiснуў гэтую руку, не ведаючы, што далей трэба гаварыць» ідзе фрагмент: «Ён паэт,— сказаў Бандарэнка.— Друкуецца».

[17] зале // зальцы

[18] кушэтак // канапак-лежакоў

[30—31] ў кароткіх, з недарагога матэрыялу, але таксама пярэстых сукенках // ў кароткіх пярэстых сукенках

[32—33] Дзявочыя ўборы не вызначаюцца складанасцю і, здаецца // Дзявочыя ўборы, здаецца

С. 187:

[8] Хацелася вызначыцца, звярнуць на сябе ўвагу. // Хацелася звярнуць на сябе ўвагу.

С. 188:

[6] дзяціна // дзяцюк

[29] Спецыяльна закуплены маршрутны аўтобус // Маршрутны аўтобус

[31] суправаджаўся выбухам смеху. // выклікае выбух смеху.

С. 189:

[8] дарам. // Божым дарам.

С. 190:

[1] якім і ліку няма // якіх не злічыш

[13—14] у нядаўнім мінулым вядомая артыстка. // вядомая артыстка.

С. 191:

[14] іменна // якраз

[17—19] з горкі чамаданаў упаў на падлогу і расчыніўся вялікі фанерны чамадан // упаў і расчыніўся вялікі фанерны чамадан

[26—27] чырвоны як памідор // пачырванеўшы як рак

[27] па падлозе // па аўтобусе

С. 192:

[35—36] па чарзе пацалаваўшы грыбы // пацалаваўшы кожны грыб

С. 194:

[7] У машынапісе адсутнічае сказ: «Ён пачынаў траціць цярпенне».

С. 195:

[9] палагаднеўшым // лагаднейшым

С. 198:

[7] Брыгадзір трохі пад хмяльком. Дыхнуўшы ў твар // Брыгадзір, дыхнуўшы

[17] Нарэшце // Зрэшты

С. 199:

[28] пруцікаў // дубцоў

С. 200:

[17] на ўладу над другімі. // на ўладу.

[29] паўтонаў // няпэўных тонаў

[38] кварталы // абрысы

С. 201:

[25] Маскву // Пухавічы

С. 205:

[11—12] У машынапісе пасля сказа «Арыстакрат духу, захудалы, слабы на розум Ламанчскі гідальга» ідзе сказ: «Вперед, Дон-Кихоты, вперед Дон-Кихоты, у нас на планете так много работы…»

[28—31] Саша Красуцкі, як толькі разам з брыгадзірам Кійком зайшоў у хату да крамніцы Раісы Троські (імя і прозвішча гаспадыні Кіёк паведаміў яму па дарозе), адразу адчуў, што тут яму будзе някепска. // Саша Красуцкі, як толькі зайшоў разам з брыгадзірам Кійком у хату да крамніцы Раісы Троські, адразу адчуў, што тут яму будзе паводзіцца някепска.

С. 206:

[11] зразумела. // умомант зразумела.

[29—30] У машынапісе адсутнічае сказ: «Гэта праверана вопытам дваццаці дзевяці год жыцця».

[32] Але ў дадзеным выпадку спяшацца не варта. // Але спяшацца не варта.

[33] разводніцы // разводцы

[35] напагатове. // начаку.

С. 207:

[23—26] Дзякуючы таму, што Саша дыпламат, у дырэктара ўдалося выведаць, што ўваходзіць у круг абавязкаў студэнтаў у час праходжання практыкі пазакласнай работы. // Саша дыпламат, і яму ўдалося выведаць у дырэктара, што ўваходзіць у абавязкі студэнтаў на практыцы.

[36] З кабінкі // З «Масквіча»

С. 209:

[24] ёмісты // ладны

[34] за сваім кавалкам // па свой кавалак

[35] запырскалі // пырскаюць

С. 210:

[38] да бульбянішча // да поля

С. 211:

[31] расло. // пасевы.

[32—33] Пры набліжэнні студэнтаў // Калі падыходзяць студэнты

[36] засаджаную бульбай лагчыну. // бульбяное поле.

С. 212:

[16] някемлівыя // не вызначаліся кемлівасцю

С. 213:

[11] дробныя. // дробныя, як арэхі.

С. 215

[16] па калідоры // па скрыпучых масніцах калідора

С. 218:

[8—9] ператварылася ў фігуру // стала асобай

[18] пра яго заляцанні трэплюцца… // пра яго гавораць…

С. 219:

[29] У машынапісе адсутнічае сказ: «Яно ўсё ў галіне чалавечай дзейнасці».

[34—35] У машынапісе пасля сказа «Ясна — ён адчувае амаль тое, што і вучоны, які зрабіў найвялікшае адкрыццё» ідзе сказ: «Когда труд удовольствие, жизнь хороша…»

[35—36] Асалода жыцця // Насалода жыццём

[35—37] У машынапісе пасля сказа «Асалода жыцця — у пачуцці сілы, карысці, уменні зрабіць так, як другія не зробяць» ідзе сказ: «Маральная ўлада…»

С. 220:

[24] дамы // будынкі

[25] і нікога з людзей няма. // а людзей няма.

[37] кашмары // страшнае

[37] іх забываў // усё забываў

С. 221:

[38] Зусім магчыма // Магчыма

С. 222:

[26] пазней звычайнага // пазней

[31—32] у шэрых хустках, якімі завязаны іх галовы, і ў разлезлых // у шэрых хустках і ў разлезлых

[34] шурпатымі. // шурпатымі, шорсткімі.

С. 223:

[24—27] У машынапісе адсутнічае сказ: «Выкопваюць доўгую прамавугольную яму, засцілаюць дол, берагі саломай і воз за возам насыпаюць высокі конус, які затым зноў накрываецца саломай і засыпаецца зямлёй».

[31—32] У машынапісе адсутнічае сказ: «У капцы яны могуць гнісці і заражаць здаровыя».

[32] страта. // урон.

С. 224:

[30] цвёрдай, як і прыйшла, хадою // цвёрдай хадою

[32—33] лезе ў кабіну да маці. // садзіцца.

С. 225:

[18] Ну і практыка — пазакласная работа // Знайшлі мне практыку — пазакласную работу

С. 226:

[28—29] У машынапісе адсутнічае сказ: «Усё падпарадкавана строгаму і прыгожаму рытму».

С. 227:

[10] паведаміў // сказаў

С. 228:

[1] У машынапісе адсутнічае сказ: «Ніколі не трэба зрываць ружу, якая не расцвіла».

[6] у дадзеным выпадку. // цяпер.

[10] на гэта. // аблытаць.

[20] шуршыць. // шамаціць.

[24] не кахае або перастае кахаць. // не любіць або любіць перастае.

[26] Ён дастае з партфеля бутэльку віна і ставіць на стол. // Ён раскрывае партфель, дастае і ставіць на стол яшчэ і сваю бутэльку віна.

[30] самы інтымны // найінтымнейшы

[30—31] У машынапісе адсутнічае сказ: «Радасная хваля захліствае грудзі».

[36—37] агеньчыка // аганька

[37] выдумліваюць // выдумляюць

[37—38] У машынапісе адсутнічае сказ: «Кожнаму хочацца салодкага…»

С. 229:

[29—30] звычайны зямны // звычайны

С. 230:

[15—16] У машынапісе пасля сказа «Болей хвалі яе і старайся здавацца таямнічым, неразгаданым» ідзе сказ: «Коціцца шар, прамавугольнік і квадрат не могуць каціцца…»

[33—34] У адваротным выпадку // Іначай

С. 231:

[11—12] Саша не хоча болей стрымлівацца. Было ясна з першага дня. Тушыць святло і абнімае жанчыну… // Саша не хоча болей стрымлівацца і тушыць святло.

С. 232:

[14] Выбіраюць суседнія барозны. // Іх барозны побач.

С. 233:

[10—11] Нібы ў іх ёсць якія-небудзь рахункі да Жэні. // Нібы Жэня перад імі ў чым-небудзь вінавата.

[23] ад чаго ўсе кладуцца ад смеху. // што ўсе кладуцца са смеху.

С. 234:

[35—36] Веньяміну расказаў гаспадар — Мікіцёнак партызан дзвюх войнаў. Партызаніў // Веньяміну расказаў гаспадар — Мікіцёнак партызаніў

С. 235:

[28] ідучы з поля, адведзенага школьнікам. // ідучы з поля.

С. 237:

[38] маслят. // маслюкоў.

С. 238:

[33] на ўздым // угору

С. 242:

[25] віснуць // павісаюць

С. 243:

[9] У машынапісе адсутнічае сказ: «Тым болей што выбарная кампанія ў інстытуце канчаецца».

[15] вагаецца. // не рашаецца.

С. 244:

[4] Дзяўчаты абветрылі твары // У дзяўчат пасівералі твары

С. 245:

[6] другое. // іншае.

[10] мае рацыю. // кажа праўду.

[12] У машынапісе пасля сказа «Будзем вучыць жыць» ідзе сказ: «Павінны быць цэльнымі».

[13] за якой // па якую

[24—27] Пока не требует поэта / К священной жертве Апполон,/ В заботах суетного света / Он малодушно погружен… // Пока не требует поэта / К священной жертве Апполон, / Среди детей презренных света / Быть может, всех презренней он…

С. 249:

[38] замерлі ў чаканні асалоды. // заціхлі.

С. 251:

[9] уласныя // свае

С. 252:

[28] мястэчку. // цэнтры.

С. 253:

[17] пахвала — прыемная // пахвала — рэч прыемная

[25] два паляўнічыя ружжы // дзве паляўнічыя стрэльбы

[28] Зімой аблажылі // Аблажылі

С. 255:

[2] у сялянскіх хустках-канаплянках // у хустках-канаплянках

[26] Нягледзячы на імжу, да пояса голы. // Да пояса голы.

С. 256:

[4] брывей. // броваў.

[6] Пайшоў на здзелку // Знюхаўся

[15] У прамежках між хатамі // У прагалах між хат

[23] горка // гара

С. 258:

[10] сад. // яблыні.

[14] трэба рабіць своеасабліва. // трэба ўмець рабіць.

[31] бульбяным полі // бульбянішчы

**Трымценне дубовага лісця (с. 260)**

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1964 г.

Упершыню — часоп. «Маладосць», 1965, № 2.

Уваходзіла ў зб.: «Таполі юнацтва», 1966; «Падарожжа ў юнацтва. Выбранае», 1972; «Сярэбраныя мхі», 1983; «Пераломны ўзрост», 1986; «Водгулле далёкіх вёснаў», 1989; Выбр. тв., 1995, т. 1.

Аповесць пераклала на рускую мову К. Дабравольская (зб. «Путешествие в юность», 1967; «Тополя нашей юности», 1978; «Прощание в Ковальцах», 1986).

У БДАМЛМ, у папцы часоп. «Маладосць», захоўваецца машынапіс аповесці «Трымценне дубовага лісця» з аўтарскімі і рэдактарскімі праўкамі (ф. 37, воп. 1, адз. зах. 348, арк. 28—56). На першай старонцы пазначаны нумар 911, дата 17/XII—64 г. і нумар часопіса, у якім будзе друкавацца твор [№ 2 (65)].

С. 260:

*Старажытны Рым* — найбуйнейшая антычная цывілізацыя са своеасаблівай дзяржаўнасцю і культурай у 8 ст. да н. э.— 5 ст. н. э.

С. 264:

*Ленінград* — гл. камент. да апов. «Снежань» (с. 807).

*Адэса* — горад ва Украіне, цэнтр Адэскай вобл.

*Адзін апеты паэтамі горад паўстаў на беразе паўночнага мора, другі вырас на беразе сіняга Понта Эўксінскага...*— горад Санкт-Пецярбург (Ленінград) размешчаны на беразе Фінскага заліва (усходняя частка Балтыйскага мора), Адэса — на беразе Чорнага мора, якое мела старажытнагрэчаскую назву Понт Эўксінскі.

С. 269:

*ТАСС* — Тэлеграфнае агенцтва Савецкага Саюза.

С. 271:

*Днепр* — гл. камент. да апов. «Мой сябар Пятрусь» (с. 814).

*Эльба* — рака ў Чэхіі і Германіі.

С. 278:

*Карэльскі перашыек* — участак сушы паміж Фінскім залівам Балтыйскага мора і Ладажскім возерам, у Ленінградскай вобл. Расіі.

С. 279:

*Усходняя Прусія* — герцагства Прусія, якое ўзнікла ў 1525 г. на частцы земляў Тэўтонскага ордэна, захопленых немцамі ў прусаў (адсюль назва), у 1618 г. аб'ядналася з Брандэнбургам. Аб'яднаная дзяржава атрымала назву Прусія, былое герцагства стала лічыцца Прусіяй Усходняй. У 1947 г. Усходняя Прусія ліквідавана, землі адышлі да СССР (пазней — Расіі) і Польшчы.

С. 280:

*Быў верш, якога я нікому не паказваў, лічыў несамастойным, бо напісаны ён быў на матыў славутай у часы вайны «Сіняй хусцінкі»…* — «Сіняя хусцінка» — вядомая савецкая вальсовая песня. Кампазітар — польскі музыка Ежы Петэрсбурскі. Аўтараў вершаў вядома некалькі. Франтавы варыянт «Сіняй хусцінкі» напісаў літсупрацоўнік газеты «В решающий бой» 54-й арміі Волхаўскага фронту лейтэнант Міхаіл Аляксандравіч Максімаў. Верш датуецца 9 крас. 1942 г.

Варыянты і разначытанні:

Зб. тв. // *машынапіс*

С. 260:

[14] акон // вокан

С. 262:

[38] лбе. // лобе.

С. 263:

[6] маю нейкія прывабныя рысы // дастаткова прыгожы

С. 264:

[7—8] серабрыстым // срабрыстым

С. 266:

[8] У машынапісе пасля сказа «Сустракаліся мы толькі ў школе» ідзе сказ: «Пра тое, каб сустрэцца дзе-небудзь наводшыбе, адзін на адзін, не было нават гаворкі ні ў маіх, ні ў Люсіных лістах».

С. 268:

У машынапісе пасля сказа «Цяпер, калі мы засталіся з Люсяй удваіх, мне не было ніякай справы ні да вечара, ні да хлопцаў-аднакласнікаў, ні да віна, якое засталося не выпітым» ідзе сказ: «Люся ішла побач са мной, і яшчэ ніколі ў жыцці я не быў такі шчаслівы, як цяпер».

С. 269:

[31—32] сама пацалавала мяне ў губы. // на адно імгненне павісшы на мне, як на дрэве, сама пацалавала мяне ў губы.

С. 270:

[3] якія, мусіць, даўно спалі. // якія клаліся спаць рана.

С. 282:

[2—3] я адгаварваў яе, яна казала //я адгаварыў яе, яна гаварыла

С. 283:

[19—20] У машынапісе пасля сказа «Яна асцярожна зняла маю руку» ідзе сказ: «Яе рука была халодная і вялая».

[21—22] набягалі шэра-шызыя, як дым, воблачкі, а месяц некуды імкліва ляцеў. // набягалі шэра-шызыя, як дым, воблачкі, і было такое ўражанне, што гэта не воблачкі, а месяц некуды імкліва ляціць.

## 1971

### У бары на світанні (с. 283)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1971 г.

Упершыню — часоп. «Маладосць», 1971, № 7.

Уваходзіла ў зб.: «Тая самая зямля», 1971; «Падарожжа ў юнацтва. Выбранае», 1972.

Аповесць пераклала на рускую мову Р. Веташкіна (зб. «Та самая земля», 1973; «Прощание в Ковальцах», 1986; «В бору на рассвете», 1988).

У БДАМЛМ, у асабістым архіве І. Навуменкі, захоўваецца поўны чарнавы варыянт рукапісу-аўтографа (ф. 495, воп. 1, ум. адз. 19). У тэксце 80 старонак, на апошняй старонцы дата 2.2.1971 г.

С. 284:

*Дняпро* — гл. камент. да апов. «Мой сябар Пятрусь» (с. 814).

*Прыпяць* — рака на тэрыторыі Украіны і Беларусі, правы прыток ракі Дняпро.

С. 289:

*Сож* — рака ў Смаленскай вобласці Расіі, у Магілёўскай і Гомельскай абласцях і на мяжы Беларусі з Расіяй і Украінай, левы прыток ракі Дняпро.

*...у Мазыры гастраляваў Станіслаўскі тэатр.*— Станіслаўскі (сапр. Аляксееў) Канстанцін Сяргеевіч (1863—1938) — расійскі рэжысёр, акцёр, педагог, тэарэтык тэатральнага мастацтва, рэфарматар тэатра, які заклаў фундамент навукі аб сцэнічным мастацтве. У 1898 г. з У. Неміровічам-Данчанкам заснаваў Маскоўскі Мастацкі тэатр, які сёння носіць яго імя.

С. 290:

*Карпаты* — горная сістэма на ўсходзе Цэнтральнай Еўропы. Размешчана на тэрыторыі Румыніі, Чэхіі, Славакіі, Украіны, Польшчы, Венгрыі і Аўстрыі.

*Сібір* — гл. камент. да апов. «Бульба» (с. 820).

*«Огонёк»* — расійскі і савецкі грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі ілюстраваны часопіс. Выходзіць з перапынкамі з 1879 г.

С. 297:

*«Иностранная литература»* — літаратурна-мастацкі часопіс. Выходзіць у Маскве з 1955 г.

С. 298:

*Калінінград* — горад у Расіі, цэнтр Калінінградскай вобл.

С. 304:

*Карэлія* — Рэспубліка Карэлія, у складзе Расійскай Федэрацыі. Мяжуе на захадзе з Фінляндыяй, на ўсходзе абмываецца Белым морам, на поўдні Ладажскім і Анежскім азёрамі.

*Калыма* — залатаносная тэрыторыя ў басейне ракі Калыма (сучасная Магаданская вобл. і суседнія раёны).

С. 305:

*«Іж»* — савецкая і расійская марка матацыклаў, якая была распрацавана і выпускаецца ў горадзе Іжэўску на заводзе «ІЖМАШ» з 1929 г.

С. 314:

*...спыніўся «казёл» дырэктара лясгаса.*— мянушку «казёл» атрымаў першы аўтамабіль Ульянаўскага (Горкаўскага) аўтазавода «ГАЗ-А». Ад яго назва распаўсюдзілася на ўсе астатнія машыны. Паводле адной з версій назва паходзіць ад станцыі Клізякоўка, паблізу ад якой у 1941 г. пачаў будавацца завод.

*...ў Коласавай «Новай зямлі».*— Колас Якуб — гл. камент. да апов. «Снежань» (с. 809); «Новая зямля» — гл. камент. да апов. «Бульба» (с. 819).

Варыянты і разначытанні:

Зб. тв. // *часоп. «Маладосць»*

С. 289:

[14] Станіслаўскі тэатр // тэатр Станіслаўскага

С. 290:

[7—8] яго рука // рука

[36] «Огоньки» // «Аганькі»

С. 292:

[12] Пайду пераапрануся. // Пайду пераапрануся. Я ў халаце…

С. 297:

[32] не клеіцца. // не клеілася.

С. 299:

[1] У часопісе адсутнічае сказ: «Гэта іх абавязак».

С. 300:

[23—24] У часопісе пасля сказа «Нафту шукаюць у многіх іншых мясцінах, таму проста ў лесе вырастаюць часовыя паселішчы» ідзе сказ: «Калі едзеш ноччу, то здаецца, што ўвесь гэты край густа заселены».

С. 302:

[31] У часопісе пасля сказа «Але ў цэлым становішча здавальняючае» ідзе сказ: «Цяпер, пасля дажджоў, дрэўцы акрыяюць».

С. 303:

[17] дошчачку. // дашчэчку.

С. 311:

[31—32] вышэй за яе // трошкі вышэй за яе

С. 312:

[4] з выклікам // груба, з выклікам

С. 314:

[5] тлумачыў // тлумачу

[36] выдыбваў // выдыбаў

С. 315:

[34—36] У часопісе пасля сказа «Устанавіўшы факт з дрывамі, лясгасаўскія служачыя настойліва дапытваліся, з кім і як часта я выпіваю…» з абзаца ідзе сказ: «Было зразумела: для мяне цяпер самая малая кара, калі проста здымуць з работы…»

С. 316:

[2] У часопісе пасля сказа «Абараняць мяне» ідзе сказ: «Вярнуўся невясёлы».

[11—12] У часопісе пасля сказа «Я доўга стаю пад школьнымі вокнамі» ідзе фрагмент: «Пад нагамі шасціць апалае лісце. У голым вецці бяроз злёгку шуміць вецер…»

[28] У часопісе пасля сказа «Дык чаму ўцякаю ад Стасі?» ідзе сказ: «Раз на месяц бачыўся летась, а сёлета яшчэ горш…»

С. 317:

[11—12] Я магу рушыць, куды захачу. Нават у тайгу… // Прыкметнага следу я тут не пакінуў, ніхто па мне сумаваць не будзе. А я магу рушыць, куды захачу. Нават у тайгу…

[19] відаць, звольняць. // хутчэй за ўсё звольняць.

[26] цыгарэтку // цыгарэту

[30] разблытаюць // разблытаць

С. 318:

[3] Чаму дырэктар // Мне незразумела, чаму дырэктар
[4] Каб перакласці віну // Ясней яснага. Можна перакласці віну
[17] У бары трубяць ласі // У бары на світанні трубяць ласі
[20] Я выйшаў на двор. // Я накінуў плашч, выйшаў на двор.

**1974**

**Развітанне ў Кавальцах (с. 319)**

Друкуецца паводле Зб. тв., 1982, т. 2. Пад тэкстам: 1974 г.

Упершыню — часоп. «Полымя», 1974, № 12.

Уваходзіла ў зб.: «Замяць жаўталісця», 1977; «Водгулле далёкіх вёснаў», 1989.

Аповесць пераклаў на рускую мову А. Астроўскі (зб. «Замять желтолистья», 1978; «Прощание в Ковальцах», 1986; «В бору на рассвете», 1988).

У БДАМЛМ, у асабістым архіве І. Навуменкі, захоўваюцца фрагменты чарнавога варыянта рукапісу-аўтографа (ф. 495, воп. 1, ум. адз. 24). На апошняй старонцы пад нумарам 125 дата: кастрычнік 1973—ліпень 1974 г.

С. 320:

*Я толькі дзве прачытала. Пра Алі-Бабу і сорак разбойнікаў і яшчэ пра Сіндбада-марахода.*— маюцца на ўвазе казкі са зборніка «Тысяча і адна ноч» — помніка сярэднявечнай арабскай і персідскай літаратуры, апавяданні, аб’яднаныя гісторыяй пра персідскага цара Шахрыяра і яго жонку Шахразаду.

*Вось тут, у гэтым гарадку, Рагнеда жыла да самай смерці...*— Рагнеда Рагвалодаўна (?, г. Полацк — 1000) — полацкая князёўна, дачка полацкага князя Рагвалода, жонка вялікага князя Уладзіміра Святаславіча, маці князя Ізяслава Уладзіміравіча. Паводле летапісаў, адхіліла сватанне Уладзіміра Святаславіча, які тады княжыў у Ноўгарадзе. Каля 980 г. Уладзімір захапіў Полацк, забіў бацьку, маці і двух братоў Рагнеды, а яе гвалтоўна зрабіў сваёй жонкай і даў славянскае імя Гарыслава. З пачуцця помсты Рагнеда зрабіла няўдалы замах на жыццё мужа. Уладзімір хацеў пакараць Рагнеду, але за маці заступіўся сын Ізяслаў. Тады Уладзімір саслаў Рагнеду і сына ў аддаленыя землі княства, дзе на месцы пасялення выгнаннікаў быў заснаваны г. Ізяслаўль (Заслаўе).

С. 327:

*«Масквіч»* — гл. камент. да апов. «Бульба» (с. 820).

*Некалі тут пралягала граніца з Польшчай...* — гл. камент. да апов. «Бульба» (с. 820).

С. 335:

*Зыкіна Людміла Георгіеўна* (1929—2009) — расійская спявачка. Народная артыстка СССР (1973).

С. 338:

*...смешна быць донкіхотам...* — гл. камент. да апов. «Бульба» (с. 818).

*...выдумваць дульцыней табоскіх...* — Дульцынея — увасабленне «дамы сэрца» і рыцарскага ёй служэння; вобраз з рамана «Хітрамудры гідальга Дон Кіхот Ламанчскі» (1615) М. дэ Сервантэса Сааведры (1547—1616).

С. 341:

*...новы томік Купалы...* — гл. камент. да апов. «Снежань» (с. 808).

*Купала нарадзіўся ў нашых мясцінах, тут прайшло яго дзяцінства, маладосць.*— Янка Купала нарадзіўся ў фальварку Вязынка былой Радашковіцкай воласці (цяпер вёска Вязынка Маладзечанскага раёна Мінскай вобл.).

С. 344:

*«Волга»* — гл. камент. да апов. «Бульба» (с. 821).

*«Жыгулі»* — марка легкавых аўтамабіляў Волжскага аўтамабільнага завода (г. Тальяці, Расія).

*«Запарожац»* — марка легкавых аўтамабіляў асабліва малога класа Запарожскага аўтамабільнага завода (Украіна). Характэрная асаблівасць — задняе размяшчэнне рухавіка.

С. 348:

*Дзень Канстытуцыі* — 5 снеж. 1936 г. на VIII Усесаюзным надзвычайным з’ездзе Саветаў была прынята Канстытуцыя СССР (неафіцыйныя назвы «Сталінская канстытуцыя», «Канстытуцыя пераможнага сацыялізму»). Да 1977 г. гэта дата адзначалася як афіцыйнае дзяржаўнае свята — Дзень Канстытуцыі.

С. 350:

*Камсамольскае возера (Мінскае возера)* — штучны вадаём у паўночна-заходняй частцы Мінска, месца адпачынку гараджан. Створана ў 1941 г.

С. 362:

*Чалябінск* — горад, цэнтр Чалябінскай вобл. Расіі.

С. 364:

*ФЗН* (фабрычна-заводскага навучання школы) — ніжэйшыя прафесійныя навучальныя ўстановы ў СССР. Створаны паводле Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 2 кастр. 1940 г. з мэтай падрыхтоўкі рабочых масавых прафесій вытворчых спецыяльнасцяў.

С. 366:

*«Родная прырода»* — грамадска-палітычны, навукова-папулярны ілюстраваны часопіс. Выдаецца з 1972 г. у Мінску на беларускай мове раз на два месяцы.

С. 368:

*«Беларускі вакзал»* (1970) — фільм рэжысёра А. С. Смірнова (нар. 1941).

Варыянты і разначытанні:

Зб. тв. // *часоп. «Полымя»*

С. 319:

[16] дзе, якія першымі пачынаюць расці грыбы. // дзе, якія, у якім месцы першыя пачынаюць расці грыбы.

С. 326:

[24] да маразоў. // да сталых маразоў.

С. 327:

[18—19] Запаветны барок, мох цёплы, мяккі. // Запаветны барок, цёплы мяккі мох не падвялі.

[23] да снегу. // да сталага снегу.

С. 333:

[6—7] У часопісе адсутнічае сказ: «У садзе выразна відаць цёмныя сукі і галіны».

С. 335:

[25] задыхаешся. // задыхнешся.

С. 339:

[33—34] У часопісе пасля сказа «Неба нізкае, наваколле шэрае, аднастайнае» ідзе сказ: «Зіма без снегу — самы нецікавы час».

С. 355:

[24] сасняком // хвайняком

С. 363:

[33] грэйдары. // грэйдарам.

С. 370:

[26] Глядзім адно на аднаго. // Глядзім адно на аднаго і маўчым.

[30—31] У часопісе пасля сказа «Там адкрылі вылічальны цэнтр» з абзаца ідзе сказ: «Антаніна як бы нават узрадавалася».

## 1975

### Апошняя восень (с. 371)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1982, т. 2. Пад тэкстам: 1975 г.

Упершыню — часоп. «Маладосць», 1976, № 10.

Уваходзіла ў зб.: «Замяць жаўталісця», 1977; «Водгулле далёкіх вёснаў», 1989.

Аповесць пераклаў на рускую мову Л. Салавей (зб. «Замять желтолистья», 1978; «Прощание в Ковальцах», 1986; «В бору на рассвете», 1988).

У БДАМЛМ, у асабістым архіве І. Навуменкі, захоўваецца поўны чарнавы варыянт рукапісу-аўтографа (ф. 495, воп. 1, ум. адз. 18). Тэкст мае 145 старонак з дапісанымі да некаторых з іх устаўкамі, датаваны аўтарам лістападам 1975—лютым 1976 г.

С. 376:

*Колькі за адзін толькі год усяго адбылося! Заключан дагавор з Германіяй, вызвалены заходнія беларусы і ўкраінцы, зведзены на нішто прошукі белафінаў — цяпер Ленінград можа ўздыхнуць спакойна. Не менш важныя падзеі выніклі ў апошнія месяцы. Літва, Латвія, Эстонія, Бесарабія, што на школьных геаграфічных картах былі заўсёды заштрыхаваны жоўтымі паскамі як незаконна захопленая тэрыторыя — усе гэтыя краіны зноў сталі савецкімі.*— СССР заключыў з Германіяй 23.8.1939 г. пакт аб ненападзе, а 28.9.1939 г.— дагавор «Аб дружбе і граніцы». 17.9.1939 г. СССР увёў свае войскі на тэрыторыю Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, якія былі ў складзе Польшчы. Заходняя Беларусь аб'ядналася з БССР, Заходняя Украіна — з УССР. Улетку 1940 г. да СССР былі далучаны Прыбалтыйскія дзяржавы. 28.6.1940 г. Чырвоная Армія ўвайшла ў Бесарабію і Паўночную Букавіну. 12.3.1940 г. паміж СССР і Фінляндыяй быў падпісаны мірны дагавор, паводле якога мяжа на поўнач ад Ленінграда адсоўвалася на лінію Выбарг — Сортавала.

*Гітлер* — гл. камент. да апов. «Мой сябар Пятрусь» (с. 815).

С. 378:

*…з часу польскай вайны.*— г. зн. з часу польска-савецкай вайны 1919—1920 гг., выкліканай экспансіяй Польшчы пры падтрымцы дзяржавамі Антанты і ЗША.

С. 379:

*«Артэк»* — міжнародны дзіцячы цэнтр, у мінулым — усесаюзны піянерскі лагер імя Леніна. Заснаваны ў 1925 г. на беразе Чорнага мора каля пасёлка Гурзуф Крымскай вобл. (Украіна).

С. 382:

*...узнагароджаны медалём «За працоўную доблесць».*— гл. камент. да апов. «Мой сябар Пятрусь» (с. 813).

*Крэмль* (Крэмль Маскоўскі) — старажытная частка, галоўны грамадска-палітычны і гістарычна-мастацкі комплекс цэнтра Масквы; месцазнаходжанне вышэйшых органаў дзяржаўнай улады Расійскай Федэрацыі, раней — СССР.

*Калінін Міхаіл Іванавіч* (1875—1946) — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Старшыня ЦВК РСФСР (з 1919), ЦВК СССР (з 1922), Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР з 1938 г.

*МТС* — скар.: машынна-трактарная станцыя.

*...з ордэнам «Знак Пашаны».*— Ордэн «Знак Пашаны» — дзяржаўная ўзнагарода. Уведзены ў 1935 г., з 1988 г. называецца ордэн Пашаны.

С. 383:

*«Правда»* — масава-палітычная газета; орган Камуністычнай партыі Расійскай Федэрацыі (да жн. 1991 г.— Камуністычнай партыі Савецкага Саюза). Заснавана У. І. Леніным. Першы нумар выйшаў 22.4(5.5)1912 г. у Пецярбургу. З 1918 г. выдаецца ў Маскве.

*«Красная звезда»* — газета Узброеных Сіл Расійскай Федэрацыі. Выходзіць з 1 студз. 1924 г. Да 1991 г.— цэнтральны орган Міністэрства абароны СССР.

*«Огонёк»* — гл. камент. да апов. «У бары на світанні» (с. 833).

С. 385:

*«Лясная быль»* (1926) — першы беларускі мастацкі фільм. Зняты паводле аповесці М. Чарота «Свінапас» рэжысёрам Ю. Тарычам.

*«Абрэк-Заур»* (іншая назва «Сын гор», 1926) — нямы фільм рэжысёра Б. Міхіна.

*«Двойчы народжаны»* (1933) — першы гукавы фільм на беларускай мове. Рэжысёр — Э. Аршанскі.

*«Чырвоныя д’ябаляты»* (1923) — савецкі нямы мастацкі фільм рэжысёра І. Перасціяні, экранізацыя аднайменнай аповесці П. Бляхіна.

*Верн Жуль* — гл. камент. да апов. «Пераломны ўзрост» (с. 810).

*Гюго Віктор* — гл. камент. да апов. «Вайна каля Цітавай копанкі» (с. 791).

*Бусенар Луі Анры* (1847—1910) — французскі пісьменнік, аўтар шматлікіх прыгодніцкіх раманаў для дзяцей і юнацтва, чыя

творчасць у многім апярэдзіла развіццё навукова-фантастычнага і прыгодніцкага жанраў у XX ст.

*«Комсомольская правда»* — масавая грамадска-палітычная газета. Выдаецца з мая 1925 г. у Маскве на рускай мове.

С. 389:

*Германія летась праглынула Польшчу, сёлета — Францыю, іншыя краіны і, відаць, наелася.*— Другая сусветная вайна пачалася нападам 1 верас. 1939 г. гітлераўскай Германіі на Польшчу. 10 мая 1940 г. нямецка-фашысцкія войскі пачалі наступленне на Францыю. 22 чэрв. Францыя падпісала акт аб капітуляцыі. У верас. 1940 г. Германія ўвяла свае войскі ў Румынію.

С. 391:

*На відным месцы стаіць «Ціхі Дон» Шолахава.*— «Ціхі Дон» (1928—1940) — раман М. А. Шолахава (1905—1984); *Шолахаў Міхаіл Аляксандравіч* (1905—1984) — рускі савецкі пісьменнік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1965).

С. 393:

*Сталін (сапр. Джугашвілі) Іосіф Вісарыёнавіч* (1879—1953) — савецкі палітычны і дзяржаўны дзеяч.

С. 399:

*Ён старшыня савета Асаавіяхіма, кіруе здачай норм на абаронныя значкі ППХА, ГСА, ГПА, ЮВС і ВС.*— гл. камент. да апов. «Снежань» (с. 808) і «Мой сябар Пятрусь» (с. 813). «Варашылаўскі стралок» — нагрудны значок для ўзнагароджвання трапных стралкоў. Палажэнне пра стварэнне звання «Варашылаўскі стралок» было зацверджана 29 кастр. 1932 г. Прэзідыумам Цэнтральнага Савета Асаавіяхіма СССР і РСФСР, а сам значок «Варашылаўскі стралок» — 29 снеж. 1932 г.

С. 407:

*Ясенін* — гл. камент. да апов. «Бульба» (с. 819).

С. 411:

*Толькі за апошнія два-тры гады разбілі японцаў ля возера Хасан і ля ракі Халхін-Гол…* — Хасан — возера ў Прыморскім краі Расіі. У 1938 г.— месца ваеннага канфлікту паміж савецкімі і японскімі ўзброенымі сіламі; Халхін-Гол — рака ў Манголіі і Кітаі, пачынаецца на заходніх схілах Вялікага Хінгана. У 1939 г. тут адбыўся ваенны канфлікт паміж савецка-мангольскімі і японскімі войскамі, які завяршыўся поўным разгромам японскіх сіл.

*Ленінград* — гл. камент. да апов. «Снежань» (с. 807).

С. 416:

*Гётэ Іаган Вольфганг фон* (1749—1832) — нямецкі пісьменнік, мысліцель і прыродазнавец; адзін з заснавальнікаў нямецкай літаратуры новага часу.

*Грым* — нямецкія філолагі, браты (Якаб, 1785—1863; Вільгельм, 1786—1859). Даследавалі нямецкую народную культуру, збіралі фальклор і апублікавалі некалькі зборнікаў пад назвай «Казкі братоў Грым», якія сталі надзвычай папулярнымі.

С. 420:

*...памятае паэму Пушкіна «Цыганы»...* — Пушкін — гл. камент. да апов. «Снежань» (с. 808). Паэма «Цыганы» напісана ў 1824 г.

С. 425:

*Чэхаў Антон Паўлавіч* (1860—1904) — рускі празаік і драматург.

*Шаўчэнка Тарас Рыгоравіч* (1814—1861) — украінскі пісьменнік, мастак, рэвалюцыянер-дэмакрат; заснавальнік новай украінскай літаратуры і нацыянальнай літаратурнай мовы.

С. 426:

*Раман «Уваскрэсенне»* (1899) — раман рускага пісьменніка Л. М. Талстога (1828—1910).

*ТАСС* — гл. камент. да апов. «Трымценне дубовага лісця» (с. 830).

С. 429:

*...п'есу «Паўлінка» Янкі Купалы.*— Янка Купала — гл. камент. да апов. «Снежань» (с. 808); п'еса «Паўлінка» напісана ў 1913 г.

С. 432:

*...табліцы Брадзіса ці Пржавальскага...* — Брадзіс Уладзімір Мадэставіч (1890—1975) — расійскі матэматык-педагог, член-карэспандэнт Акадэміі педагагічных навук СССР (з 1955). У 1921 г. упершыню выйшлі яго «Табліцы чатырохзначных лагарыфмаў і натуральных трыганаметрычных велічыняў». Пржавальскі Яўген Міхайлавіч (1844—1925) — расійскі матэматык-педагог. Аўтар «Пяцізначных табліцаў лагарыфмаў».

С. 433:

*Песню ўжо год ці два спяваюць. Васілю больш астатніх падабаецца песня — пра юнака, які пакідае любімы горад, і дзяўчыну, якая ў родным горадзе будзе яго чакаць.*— маецца на ўвазе песня «Любімы горад» у выкананні М. Н. Бернэса (1911—1969) з кінафільма «Знішчальнікі» (1939) Э. А. Пенцліна (1903—1990). Словы Я. А. Далматоўскага, музыка М. У. Багаслоўскага.

С. 434:

*Італія ў Грэцыі завязла, ваенныя дзеянні вядуцца толькі ў Афрыцы, у лівійскай пустыні, дзе Ромель наступае на англічан, ды немцы бамбардзіруюць Лондан і некаторыя іншыя англійскія*

*гарады.*— Пачатае ў кастр. 1940 г. наступленне італьянцаў з Албаніі на Грэцыю грэчаская армія адбіла. У студз.—маі 1941 г. брытанскія войскі пры падтрымцы паўсталага насельніцтва і партызан выгналі італьянцаў з Брытанскай Самалі, Кеніі, Судана, Эфіопіі, Італьянскай Самалі, Эрытрэі. Італьянскі флот на Міжземным моры панёс вялікія страты. На пачатку 1941 г. у Паўночную Афрыку на дапамогу італьянскім войскам прыбыў германскі Афрыканскі корпус генерала Э. Ромеля. У жн. 1940 г. германская авіяцыя пачала масіраваную бамбардзіроўку Вялікабрытаніі. Бітва за Англію працягвалася да мая 1941 г.

С. 434—435:

*...чытае пра наступленне рускіх армій пад Аўгустовам, пра іх акружэнне ля Мазурскіх азёр, пра «цуд» на Марне.*— Бітва на Марне (цуд на Марне, 1-я бітва на Марне; 5—12 верас. 1914 г.) — вялікая бітва паміж нямецкімі і англа-французскімі войскамі на рацэ Марна ў час Першай сусветнай вайны, якая скончылася паражэннем немцаў. У выніку бітвы быў сарваны план наступу нямецкай арміі, які арыентаваўся на хуткую перамогу на Заходнім фронце і вывад Францыі з вайны.

С. 435:

*І яшчэ адну кніжку праглытвае Васіль — «Гитлер против СССР», напісаную, відаць, чужаземцам — Эрнстам Генры.*— Эрнст Генры (сапр. Сямён Мікалаевіч Растоўскі, 1904—1990) — савецкі разведчык, пісьменнік, журналіст. Сярод даваенных кніг Э. Генры найбольш вядомымі былі «Гітлер над Еўропай» (Лондан, 1934 г.; Масква, 1935 г.) і «Гітлер супраць СССР» (Лондан, 1936 г.; Масква, 1937 г.), якія публікаваліся ў Маскве як пераклады кніг «прагрэсіўнага» англійскага журналіста.

*«Полымя рэвалюцыі»* — назва часопіса «Полымя» ў 1932—1941 гг.

*«Полымя»* — літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс. Выдаецца ў Мінску са снеж. 1922 г.

*Паўночны полюс* — гл. камент. да апов. «Вайна каля Цітавай копанкі» (с. 792).

С. 439:

*«Любоў Яравая»* — найбольш вядомая п’еса рускага празаіка, драматурга К. А. Транёва (1876—1945). Упершыню пастаўлена ў 1926 г., у 1936 г. аўтарам падрыхтавана новая рэдакцыя твора.

С. 442:

*«Жан Крыстоф»* (1904—1912) — раман-эпапея французскага пісьменніка Р. Ралана (1866—1944).

С. 445:

*Мусаліні Беніта Амількар Андрэа* (1883—1945) — заснавальнік і кіраўнік (дучэ) фашысцкай партыі і дзяржавы ў Італіі, журналіст. Узначальваў Італію як прэм'ер-міністр з 1922-га па 1943 г.

*Праз дзень пасля таго як Савецкі Саюз падпісаў дагавор аб дружбе і ненападзе з Югаславіяй, фашысты на Югаславію напалі.*— Югаславія — дзяржава ў паўднёва-ўсходняй Еўропе ў 1918—2003 гг.; да 1991 г. на тэрыторыі сучасных Сербіі, Чарнагорыі, Харватыі, Босніі і Герцагавіны, Македоніі і Славеніі, з 1992 г.— толькі Сербіі і Чарнагорыі; урад генерала Сімовіча 5 крас. 1941 г. заключыў дагавор аб сяброўстве і ненападзе паміж СССР і Каралеўствам Югаславія.

*У Югаславіі рэвалюцыя. Ранейшы ўрад далучыўся да Берлінскага пакта. Гітлер душыць рэвалюцыю.*— Берлінскі пакт 1940 г.— пакт аб ваенным саюзе, падпісаны Германіяй, Італіяй і Японіяй 27 верас. у Берліне. Прадугледжваў падзел свету паміж саюзнікамі, быў этапам у падрыхтоўцы агрэсіі супраць СССР. Да пакта далучыліся залежныя ад Германіі ўрады, у тым ліку ўрад Югаславіі. Аднак 27 сак. 1941 г. урад Цветкавіча быў скінуты, новы югаслаўскі ўрад адмовіўся зацвердзіць пакт пра далучэнне.

С. 447:

*Законы Кеплера* — тры законы руху нябесных цел, выведзеныя нямецкім астраномам, адным са стваральнікаў нябеснай механікі І. Кеплерам (1571—1630).

Варыянты і разначытанні:
Зб. тв. // *часоп. «Маладосць»*

С. 371:

[11] шэсць // сем
[12] зарплатай // малой зарплатай

С. 372:

[7] немалое // ладнае
[16] вядомы // вядомы, знаёмы
[18] на паласе адчужэння // на паласе ўзбоч чыгункі
[22] мясціны // месца
[25] ў перадасеннім задуменні. // ў перадасенняй задумлівасці.

С. 373:

[19] на сенавал // у застаронак
[38] адменнага // добрага

С. 374:

[22—23] рвуцца падалей, паглыбей у лес, а ён ніяк не можа здрадзіць прывычцы. // рвуцца далей, а ён усё топчацца на месцы.

С. 375:

[3—4] Лес існуе для таго, каб быць з ім адзін на адзін. // У лесе прыемна блукаць аднаму.

[20] пачуццё // адчуванне

[38] Няясныя зовы // Можа, покліч

С. 376:

[15—18] Можа, нават не ў думках, не ў развагах справа, а ў нязвычна вострым адчуванні жыцця, імклівая плынь якога проста мільгаціць уваччу. // Нібы застаецца Васіль сам-насам з цэлым светам. Нязвычна востра ў такія моманты паўстаюць у свядомасці падзеі грамадскага жыцця.

[20] зведзены на нішто прошукі // адбіты наскокі

[21] важныя // буйныя

[24] захопленая // адарваная ад нас

С. 377:

[1] смутная // няясная

[12] бытаванне ў абсягу бліжэйшай будучыні // жыццё праз дватры гады

[14—15] ў мінулых // ў мінулых, прошлых

С. 378:

[7] польскай // апошняй

С. 379:

[5] работаеш // робіш

[17] смутнай // няяснай

[32] мінулагодняй // леташняй

С. 380:

[37] Памяшканне яго не кідкае, закуранае // Нізкае закуранае яго памяшканне не лашчыць позірку

С. 381:

[5] з жалеза // з жалезных лістоў

[18] у чакальную залу // у пачакальню

[35] тым часам // між тым

С. 382:

[20] затым другі // яшчэ адзін

[33—34] стараецца думаць высока // глядзіць і думае з павагай

[35—36] некаторыя супярэчнасці, вядома, ёсць. // не на ўсіх можна так глядзець.

[38] асаблівых прыкмет выключнасці // асабліва выдатных якасцяў

С. 383:

[27] на аснове // на грунце

С. 384:

[1] прыходзіцца // даводзіцца

[2] на аліменты з бацькавага заробку // з бацькавага заробку

[6] Цёпла // Цёпла, добра

[8] палавінкамі гарбузоў. // гарбузамі.

[9] абгаварыць бягучыя падзеі. // пагаварыць аб тым, што дзеецца на свеце.

С. 385:

[23] ў спулку // ў суполку

[32] думаеш // ведаеш

С. 386:

[30] Вечар харошы плыве. // Пазнавата ўжо.

[35] зламысніка // каханка

С. 387:

[22] завадатара. // крытыка.

[25] і навіну прыемную мае. // паведамляе, што.

[36] купаецца басота // купаюцца

С. 389:

[3] У часопісе трэці раздзел пачынаецца са сказа: «Назаўтра і ў наступныя дні Васіль ходзіць у лес».

[4—5] страх трэба пераадольваць. // няпэўнасць у душы трывае нядоўга.

[14—15] у якіх становішчах // у якім становішчы

[20] У часопісе пасля сказа «Васілёва сям'я жыве цяжкавата» ідзе сказ: «У хаце тры хлопцы, дзяўчынка, усе маладзейшыя за Васіля, тым часам бацькаў заробак невялікі: ледзь-ледзь хапае яго на хлеб».

[30] як быць далей? // што рабіць?

[31—32] жніveньскую палучку // жніveньскі заробак

[34] сорамна. // няёмка.

[36] раздражняецца // злуецца

С. 390:

[5—6] У часопісе адсутнічае сказ: «Але ўраджай сёлета добры, і справы могуць палепшыцца».

[7—8] Васілёвы паходы ў лес апрача радасці яднання з прыродай маюць і чыста практычнае значэнне. // Грыбы, якія Васіль прыносіць, немалая падмога ў харчаванні.

[13—14] прыдае яму зусім іншы смак, робячы ў канечным выніку весялейшым жыццё. // прыдае яму зусім іншы смак. А як добра пад'ясі, дык і на свет весялей глядзіш.

[25] У хляве // У застаронку на сене

[26] чыстае, карыснае для здароўя. // лепшае, чым у хаце.
С. 391:
[7] палучыць. // атрымаць.
С. 392:
[6] да ўнівермага. // да магазіна.
[10—11] Чэргі за хлебам, цукрам не йдуць ні ў якое параўнанне // Чэргі па хлеб, цукар — драбяза ў параўнанні
[14] сорамна глядзець. // душу выціснуць.
С. 393:
[15] разумным // задумлівым
[16—17] і ў тым, аб чым гаварыў, сапраўды было што слухаць. // гаварыў разважліва, разумна — было што слухаць.
[38] абразіўся. // узлаваўся.
С. 394:
[19] Скрозь // Праз
[26] са смутным // з няпэўным
С. 395:
[5—6] сядзяць, перамаўляюцца да позняга вечара // сядзяць да позняга вечара
С. 396:
[5] вельмі лае яго жонку. З яе апавядання вынікае, што кладаўшчык вельмі любіў жонку // надта лае яго жонку, хоць кладаўшчык яе вельмі любіў
С. 397:
[32] У часопісе адсутнічае сказ: «Васіль, дрыжучы ад гневу і ўзбуджэння, пабрыў дамоў».
[37] не астаўляй. // не пакідай.
С. 398:
[27] не гаманкі // не гаваркі
С. 399:
[1] харошы. // слаўны.
[32] ў сундучку. // ў куфэрку.
С. 400:
[22] пра іх // пра заняткі
[25] дзела спорыцца. // можна вывучаць мову.
С. 401:
[2] высокае службовае становішча. // высокія пасады.
[7] той // таварыш
[9] Васілёў гонар зневажаецца // Васіль трохі пакутуе ад знявагі
С. 403:
[15] ціхмянасці // ціхамірнасці

[21] у беспаветранай прасторы // у бяздонні
[38] на ладнай // на прыгожай

С. 404:

[12—13] праходзяць, пачынаючы з шостага класа. // паўтараюць, пачынаючы з матэрыялу шостага класа.
[18] дакладна даводзіць // падрабязна расказвае
[33] чамусьці // задумаўся

С. 405:

[16] скончылася ўсё горш не прыдумаеш // скончылася ўсё дрэнна, горш не прыдумаеш

С. 407:

[12—13] развітваюцца з настаўніцай. // запыніліся.
[27] Чыгуначны правулак // Чыгуначны завулак

С. 408:

[33—34] неба — не ў прыклад папярэднім вечарам — зацягнута воблакамі. // неба зацягнута воблакамі.
[35] Застаюцца ззаду млын — яго выдзяляе высокая з адводамі дратоў труба, — нізкія, нібы хлявы, памяшканні абоднай майстэрні // Застаюцца ззаду паравы млын, высокая з адводамі дратоў труба відаць здалёку, нізкія, нібы хлявы, памяшканні абодні

С. 409:

[13] крочыць // дыбае
[21] займае віднае становішча. // на відным месцы.
[27—28] насценгазету — рэдактар насценгазеты — трэцяя пасада — Васіль // насценгазету Васіль

С. 410:

[23—24] чыгуначнікі, і Васілю лёгка з хлопцамі. // чыгуначнікі.
[24] нават // нядаўна

С. 411:

[16] У часопісе адсутнічае сказ: «У гэтым сэнс гульні».
[35—36] Камандзірам васьмікласнікаў, паколькі з’яўляецца старастам // Камандзірам свайго класа, як і іншыя старасты

С. 411—412:

[36—1] дзе прыхавацца ад дажджу можна і дзе чырвоных не прапусціш, калі затрашчаць трашчоткамі і паплыве паласа дыму. // дзе можна прыхавацца ад дажджу і адкуль найлепш сачыць за захадамі праціўніка.

С. 412:

[8] падкавыркі // кепікаў

С. 413:

[38] яго // бінта

С. 414:

[6—7] за руку ў напрамку да вогнішча // за руку да вогнішча

[9] казачным. // несапраўдным.

[17] яна // тая

[27] да кастра хворaст // да агню вецце

[28—29] Яшчэ праз нейкі час ён узбудзіўся сам, насіўся па лесе, збіраючы сукі, галіны, кідаючы ў зыркае, гарачае вогнішча. // Праз нейкі час ён насіўся па лесе, збіраў сукі, галіны, кідаў у вялікае зыркае вогнішча.

[30] Выдатная // Прыгожая

[37] прыадчыняе // пачынае раскрываць

С. 417:

[15—17] Ізя Цукерман — бацька яго загадвае аптэкай — не пойдзе, бо калі нават стыпендыі ў інстытуце не атрымае, усё адно будзе вучыцца. // Ізя Цукерман — бацька яго загадвае аптэкай — не пойдзе. Будзе вучыцца ў інстытуце, калі нават стыпендыі не дадуць — бацька дапаможа.

[23—25] Пра ваенны лёс не згадваў, лётчыкам сябе не ўяўляў. У гэтым, мабыць, выявілася яго імкненне да вышыні. // Пра тое, што будзе ваенным, не думаў, камандзірам сябе не ўяўляў. Відаць, у яго ўчынку выявілася імкненне да незвычайнага.

[27] відна // відаць

[30] рабяты. // хлопчыкі.

С. 419:

[11] Зняўшы сарочку // Распрануўшыся да пояса

[37] паўднёвыя расліны. // рэдкія паўднёвыя дрэўцы.

С. 421:

[5] Хораша // Добра

[6] не ўдарыць тварам у гразь // як маглі

С. 423:

[1] бліжнім і дальнім // блізкім і далёкім

[3] скаціну. // кароў.

[7] возчыкам // вазакам

[26] будаваліся лугас // будавалі той самы лугас

[28—29] сталі звычайнасцю. // перасталі быць дзівам.

[35] паўсядзённай // дамашняй

[36] сямейны // местачковы

С. 424:

[1—2] У інстытут ці тэхнікум, пасля таго як увялі плату за навучанне, прабіцца будзе нялёгка // У інстытутах, тэхнікумах увялі плату за навучанне, прабіцца туды будзе нялёгка

[15] на справядлівых пачатках. // на справядлівасці.

С. 425:
[12] здзейсніць // зрабіць
[28] стварае // піша
С. 427:
[7] іва // вярба
С. 428:
[16] івай // вярбой
[21] бліжнім і дальнім // блізкім і далёкім
С. 429:
[13] на непралазныя зараслі // на непралазную гушчэчу
[23] камлі. // чурбакі.
[35] Іх // Бярвенні
С. 430:
[2] носяць толькі верхавінкі // носяць па сіле, толькі вяршкі
[12—13] У часопісе адсутнічае сказ: «У тым свеце спіна, паясніца ад натугі не ньюць, плячо не смыліць».
[22] бярвенняў // плашак
[23] задаволен. // рад.
С. 431:
[8] ўзбудзіўся // расхваляваўся
[13—14] Васіль заснуў толькі пад раніцу. Назаўтра бяжыць да Івана поўны надзей // Назаўтра — Васіль заснуў толькі пад раніцу — бяжыць да Івана. Бяжыць поўны надзей
[20] узбуджаецца // захапляецца
[21] захоплена // узбуджана
С. 432:
[24] звёздаў! // зорак!
[27] ад Зямлі да другіх // ад Зямлі да іншых
С. 434:
[9—10] У часопісе адсутнічаюць сказы: «Не, нікому з хлопцаў, занятых у п’есе, ён не зайздросціць. Але ж ён ведае іх здольнасці».
[13] Мінулагодняй // Леташняй
С. 435:
[10] такая цяга паявілася. // чытае іх з ахвотай.
[28] раздаюцца // разлягаюцца
[32] каменную // цагляную
С. 436:
[2—3] заспіртаваная ў сасудзе гадзюка // заспіртаваная гадзюка
[12] розныя// роўныя
[13] від // краявід
[16—18] Васіль настолькі аддадзены школьнаму, кніжнаму, што, апрача алгебры, геаметрыі, трыганаметрыі для яго нічога не існуе. //

Васіль шчыра аддадзен школьнаму, кніжнаму, апрача прадметаў, якія вывучае, для яго больш нічога не існуе.

[18] як бы // нібы

[34] калі прыналегчы, напору паддаецца. // калі сур’ёзна ў яго ўгрызціся, паддаецца.

С. 437:

[15] дальнім // далёкім

[19] хмуры // пахмурны

[24] мнагалучны // шматлучны

[28—29] падэшвай // абцасам

С. 438:

[9] грамадскія нагрузкі нясе. // мае грамадскія нагрузкі.

[18] «За трудовую доблесть» // «За працоўную доблесць»

[34] П’еса ідзе нядрэнна. // І вось спектакль! У зале напружаная, стоеная цішыня.

[34—37] У часопісе пасля сказа «Дзесяцікласнікі папрыклейвалі вусы…» ідуць сказы: «П’еса добра ідзе. Васіль нават забывае, што там, на сцэне, выдуманы свет — так хочацца ў яго верыць».

С. 439:

[1] Васілю трохі лягчэй стала // Ён зусім развесяліўся

[9—10] У часопісе адсутнічае сказ: «Гэта ў школе ўмеюць».

[25] валасы павязаны // галава павязана

С. 440:

[3] сваё яшчэ пакажа… // свайго даможацца…

[20] наступіць // надыдзе

[21] кабанчыка // вепручка

С. 442:

[10] сарочку // рубашку

С. 444:

[9] своечасова стрымаўся. // стрымаўся.

[13] не абвядзеш… // не ашукаеш…

С. 445:

[8] Харошы // Добры

[30] нашу // нашы

С. 446:

[18] афіцыйны запрос. // афіцыйнае запытанне.

С. 447:

[25] да смешнага // надзвычай

С. 448:

[3—4] У часопісе адсутнічае сказ: «Васіль пажынаў славу».

[9] за дванаццаць вёрст // за дванаццаць вёрст ад мястэчка

[24] спакой, задавальненне // спакой

С. 450:

[1] цудоўны. // на славу ўдаўся.

[3] дзесяцікласнікаў. // тых, што скончылі школу.

[13] прыхінае // прытульвае

[14—15] усю яе гнуткую, гарачую, моцную. // яе гнуткую, моцную паставу.

[20] прыхінае // туліць

[22—23] нібы птушка, усклікнуўшы, пытае Надзя. // пытае Надзя.

С. 451:

[3—5] У часопісе адсутнічаюць сказы: «Ходзіць цыбаты хлапчучок, твар харошы, у лесе нічога не баіцца… Шчасце поўнае».

[16] цягнуцца // грукочуць

[30] сарочка // рубашка

[36] У часопісе адсутнічае сказ: «Трактарыстаў трэба сабраць…».

## 1976

### Замяць жаўталісця (с. 452)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1982, т. 2. Пад тэкстам: 1976 г.

Упершыню — часоп. «Полымя», 1976, № 3.

Уваходзіла ў зб. «Замяць жаўталісця», 1977.

Аповесць пераклаў на рускую мову М. Гарбачоў (зб. «Замять желтолистья», 1978; «Прощание в Ковальцах», 1986; «В бору на рассвете», 1988).

У БДАМЛМ, у асабістым архіве І. Навуменкі, захоўваюцца фрагменты чарнавога варыянта рукапісу-аўтографа на беларускай мове і адна старонка машынапісу перакладу твора на рускую мову, на якой пазначана дата 3.5.76 г. (ф. 495, воп. 1, ум. адз. 23).

У БДАМЛМ, у папцы часоп. «Полымя», захоўваецца машынапіс аповесці «Замяць жаўталісця» з аўтарскімі і рэдактарскімі праўкамі (ф. 42, воп. 1, адз. зах. 777, арк. 88—209). У канцы машынапісу надрукавана пазней закрэсленая дата 28.9.75 г.

С. 452:

[33] *Прыпяць* — гл. камент. да апов. «У бары на світанні» (с. 832).

С. 459:

*Рым* — горад, сталіца Італіі, на рацэ Тыбр. Адзін з найстаражытнейшых і багатых гістарычнымі і культурнымі помнікамі гарадоў свету, атрымаў назву «вечнага горада».

С. 464:

*Дняпро, Беразіна* — гл. камент. да апов. «Мой сябар Пятрусь» (с. 814).

С. 465—466:

*...савецкімі сталі Заходняя Беларусь і Украіна, прыбалтыйскія рэспублікі, Бесарабія, пераможна адгрымелі баі з японцамі на возеры Хасан і ля ракі Халхін-Гол.*— гл. камент. да апов. «Апошняя восень» (с. 840).

С. 468:

*Буг* — рака ў Беларусі, Украіне і Польшчы.

*Мухавец* — рака ў Брэсцкай вобласці, правы прыток ракі Заходні Буг.

*З Германіяй існаваў дагавор аб ненападзенні і нават аб дружбе…*— гл. камент. да апов. «Апошняя восень» (с. 838).

С. 469:

*Цім* — пасёлак гарадскога тыпу ў Курскай вобл. Расіі.

С. 482:

*Чэхаславакія* — дзяржава ў Цэнтральнай Еўропе ў 1918—1992 гг. на тэрыторыі сучасных Чэхіі і Славакіі.

С. 483:

*...ужо шумелі Днепрагэсы, Магнітагорскі, Хібінагорскі, экспедыцыі Шміта і папанінцаў.*— Днепрагэс — найбуйнейшая ў СССР у 1930—1950 гг. гідраэлектрастанцыя на рацэ Днепр, у г. Запарожжа (Украіна). Пачатак будаўніцтва — 1927 г. Урачыстае адкрыццё — 10.10.1932 г.; Магнітагорск — горад у Расіі, у Чалябінскай вобл., на рацэ Урал. Заснаваны ў 1929 г. у сувязі з будаўніцтвам металургічнага камбіната, горад з 1931 г.; Хібінагорск — назва г. Кіраўска (да 1934 г.) у Мурманскай вобл. Расіі. Хібінскія радовішчы — база фасфатнай сыравіны — распрацоўваюцца з 1930 г.; Шміт Ота Юльевіч (1891—1956) — расійскі матэматык, астраном і геафізік, дзяржаўны дзеяч, адзін з арганізатараў асваення Паўночнага марскога шляху. У складзе першай савецка-германскай экспедыцыі даследаваў ледавікі Паміра (1928). Узначальваў экспедыцыі на ледаколе «Г. Сядоў» на Зямлю Франца-Іосіфа (1929—1930), на параходзе «Чалюскін» (1933—1934); на ледаколе «Сібіракоў» упершыню за адну навігацыю прайшоў увесь Паўночны марскі шлях (1932). У 1937 г. кіраваў паветранай экспедыцыяй па арганізацыі першай у свеце дрэйфуючай навуковай станцыі «Паўночны полюс-1», у 1938 г.— аперацыяй па зняцці персаналу станцыі з ільдзіны; папанінцы — гл. камент. да апов. «Бульба» (с. 818).

С. 484:

*Харкаў* — горад ва Украіне, цэнтр Харкаўскай вобл.

С. 485:

*...быў трохі «не от мира сего»...* — выраз з Евангелля, які ўжываецца ў гаворцы пра людзей, паглыбленых у мары, адарваных ад клопатаў пра рэальнасць.

*...насіў у сваёй камандзірскай сумцы томік Канта з «Крытыкай чыстага розуму» і «Пралегаменамі».*— Кант Іммануіл (1724—1804) — нямецкі філосаф, родапачынальнік нямецкага класічнага ідэалізму. Сярод яго шматлікіх прац — «Крытыка чыстага розуму» (1781) і «Пралегамены да любой будучай філасофіі» (1783).

*Арыстоцель* (384 да н. э.— 322 да н. э.) — старажытнагрэчаскі філосаф і вучоны-энцыклапедыст.

*Гегель Георг Вільгельм Фрыдрых* (1770—1831) — нямецкі філосаф, стваральнік сістэмнай тэорыі дыялектыкі.

*Экзістэнцыялісты* — прадстаўнікі экзістэнцыялізму — ірацыяналістычнага кірунку ў філасофіі, які ўзнік напярэдадні Першай сусветнай вайны ў Расіі (Л. Шастоў, М. Бярдзяеў), пасля вайны склаўся ў Германіі (К. Ясперс, М. Хайдэгер, М. Бубер), у перыяд Другой сусветнай вайны — у Францыі (Ж.-П. Сартр, А. Камю і інш.).

С. 486:

*Шапенгаўэр Артур* (1788—1860) — нямецкі філосаф, прадстаўнік валюнтарызму і ірацыяналізму. Яго філасофія стала крыніцай філасофіі жыцця і папярэдніцай шэрагу канцэпцый глыбіннай псіхалогіі (вучэнне пра бессвядомае).

*Ніцшэ* — гл. камент. да апов. «Бульба» (с. 818).

*Маркс* — гл. камент. да апов. «Мой сябар Пятрусь» (с. 813).

*Ленін* — гл. камент. да апов. «Мой сябар Пятрусь» (с. 815).

*«Майн кампф» Адольфа Гітлера...* — Гітлер Адольф — гл. камент. да апов. «Мой сябар Пятрусь» (с. 815); кніга «Mein Kampf» («Мая барацьба»; т. 1 надрукаваны ў 1925 г., т. 2 — 1926 г.) — ідэалагічная і палітычная праграма нацыстаў.

*«Міф дваццатага стагоддзя» Альфрэда Розенберга.*— Розенберг Альфрэд (1893—1946) — нямецкі дзяржаўны і палітычны дзеяч, адзін з найбольш уплывовых членаў і ідэолаг Нацыянал-сацыялістычнай нямецкай рабочай партыі. «Міф дваццатага стагоддзя» (1930) — адна з яго кніг антысеміцкага зместу, што сталі падмуркам нацысцкай ідэалогіі.

*«Свет як воля і ўяўленне»* (1819—1844) — асноўная праца А. Шапенгаўэра.

С. 488:

*Харкаў* — горад ва Украіне, цэнтр Харкаўскай вобл.

С. 492:

*МТС* — гл. камент. да апов. «Апошняя восень» (с. 839).

*Райза* — гл. камент. да апов. «Снежань» (с. 809).

С. 493:

*Карэлія* — гл. камент. да апов. «У бары на світанні» (с. 833).

*Данбас* — гл. камент. да апов. «Бульба» (с. 820).

С. 495:

*...Бізонія, Трызонія...* — Бізонія — частка Германіі, пасля Другой сусветнай вайны акупаваная войскамі ЗША і Вялікабрытаніі. Амерыканскія і брытанскія зоны акупацыі былі аб'яднаны, адпаведнае пагадненне падпісана 2 снеж. 1946 г. Аб'яднаная зона атрымала назву Бізонія. Пасля таго як ЗША і Вялікабрытанія пачалі ствараць органы ўлады ў Бізоніі, Францыя 8 крас. 1949 г. далучыла да яе сваю зону. Амерыка-англійская Бізонія ператварылася ў Трызонію, з якой у тым самым годзе ўтварылася Федэратыўная Рэспубліка Германія.

*...заакіянская Амерыка...* — тут: Злучаныя Штаты Амерыкі.

С. 496:

*Кок-сагыз* — кветкавая расліна роду дзьмухавец. Пашыраны ў міжгорных далінах Усходняга Цянь-Шаня. Да 1954 г. вырошчваўся ў Еўрапейскай частцы СССР як найлепшы натуральны каўчуканос флоры. З развіццём вытворчасці сінтэтычнага каўчуку не культывуецца.

С. 497:

*Сталінград* — гл. камент. да апов. «Мой сябар Пятрусь» (с. 815).

С. 498:

*Чэхаў* — гл. камент. да апов. «Апошняя восень» (с. 841).

*Гогаль Мікалай Васілевіч* (1809—1852) — рускі пісьменнік, пачынальнік крытычнага рэалізму ў рускай літаратуры.

*Купрын Аляксандр Іванавіч* (1870—1938) — рускі пісьменнік.

С. 501:

*Купала* — гл. камент. да апов. «Снежань» (с. 808).

С. 502:

*Першая руская рэвалюцыя* — маецца на ўвазе лютаўская рэвалюцыя 1917 г.— буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя ў Расіі, у выніку якой скінута царскае самадзяржаўе.

*Кастрычніцкая рэвалюцыя 1917 г.*— узброенае звяржэнне Часовага ўрада і прыход да ўлады ў Расіі партыі бальшавікоў.

С. 505:

*Палессе* — гл. камент. да апов. «Бульба» (с. 821).

*Сандамірскі плацдарм* — аператыўны плацдарм, захоплены савецкімі войскамі 1-га Украінскага фронту (Маршал Савецкага Саюза І. С. Конеў) 29 ліп.— 29 жн. у ходзе Львоўска-Сандамірскай аперацыі 1944 г. на заходнім беразе ракі Віслы ў раёне горада Сандамір (Польшча).

С. 506:

*Байкала-Амурская магістраль (БАМ)* — чыгунка ў Расіі; другі (пасля Транссібірскай чыгункі) больш кароткі чыгуначны выхад да Ціхага акіяна. Праходзіць праз Іркуцкую, Чыцінскую, Амурскую вобл., Хабараўскі край, рэспублікі Бурацкую і Саха (Якуція).

С. 508:

*На смуглявым твары загадкавая і як бы прызыўная ўсмешка — нібы ў славутай Джаконды.*— Джаконда — гл. камент. да апов. «Бульба» (с. 821).

С. 519:

*Сан* — рака на паўднёвым усходзе Польшчы, правы прыток ракі Вісла, у вярхоўях на невялікім участку цячэ па мяжы Польшчы з Украінай.

С. 520:

*Усходняя Прусія* — гл. камент. да апов. «Трымценне дубовага лісця» (с. 831).

*...наступленне супроць саюзнікаў у Ардэнах.*— Ардэны — узвышша, заходні працяг Рэйнскіх Сланцавых гор на поўдні Бельгіі, часткова Францыі і Люксембурга; Ардэнская аперацыя 1944—1945 гг.— контрнаступленне нямецкіх армій у раёне Ардэнаў (Бельгія) 16.12.1944—28.1.1945 з мэтай разграміць амерыкана-англійскія войскі і дасягнуць пераломy ў Другой сусветнай вайне на карысць Германіі.

С. 522:

*У белым, чыстым, акуратным Глейвіцы — з гэтага горада пачыналася Германія і менавіта тут фашысты справакавалі напад палякаў на радыёстанцыю, каб развязаць вайну супраць Польшчы — узвод Высоцкага затрымаўся на тыдзень...* — маецца на ўвазе Гляйвіцкі інцыдэнт (Гляйвіцкая правакацыя) — аперацыя пад кодавай назвай «Кансервы», праведзеная СС у г. Гляйвіц (цяпер г. Глівіцы, Польшча) у межах яшчэ больш маштабнай «аперацыі Гімлер», якая паслужыла нагодай для нападу Германіі на Польшчу 1 верас. 1939 г., што стала пачаткам Другой сусветнай вайны.

*Одэр* (Одра) — рака ў Чэхіі (вярхоўі), Польшчы і Германіі (часткова служыць мяжой паміж імі).
С. 524:

*Дунай* — рака ў Еўропе, на тэрыторыі ФРГ, Аўстрыі, Славакіі, Венгрыі, Сербіі, Чарнагорыі, Харватыі, Босніі і Герцагавіны, Македоніі і Славеніі, Балгарыі, Румыніі, Украіны.

*Вісла* — найвялікшая рака Польшчы, найбольш працяглая рака басейна Балтыйскага мора.

*Брэслау* — нямецкая назва г. Вроцлаў (Польшча).
С. 534:

*«Волга»* — гл. камент. да апов. «Бульба» (с. 821).
С. 537:

*Па магутнасці завод пераўзыдзе Наваполацкі...* — Наваполацк — горад абласнога падпарадкавання ў Полацкім раёне Віцебскай вобл., на левым беразе Заходняй Дзвіны. Узнік у 1958 г. у сувязі з будаўніцтвам нафтахімічнага прамысловага комплексу. З 22.10.1959 рабочы пасёлак Полацкі, з 14.12.1963 горад абласнога падпарадкавання, атрымаў назву Наваполацк. Полацкі нафтаперапрацоўчы завод пабудаваны ў 1958—1963 гг.; з 1976-га па 1980 г.— Наваполацкі перапрацоўчы завод. Наваполацкае вытворчае аб'яднанне «Палімір» заснавана ў г. Наваполацк Віцебскай вобл. на базе Полацкага хімічнага камбіната (пабудаваны ў 1964—1968 гг.).
С. 543:

*...вылучылі дэпутатам Вярхоўнага Савета.*— Вярхоўны Савет Беларускай ССР — вышэйшы орган дзяржаўнай улады рэспублікі. Выбіраўся грамадзянамі БССР на 4 гады на аснове ўсеагульнага, роўнага і прамога выбарчага права пры тайным галасаванні (1 дэпутат ад 20 тыс. чал. насельніцтва). Узначальваў усю сістэму дзяржаўных органаў рэспублікі як адзіная заканадаўчая і вышэйшая прадстаўнічая ўстанова.
С. 547:

*ГТО* — праграма фізкультурнай падрыхтоўкі ў агульнаадукацыйных, прафесійных і спартыўных арганізацыях СССР, асноўная ў адзінай дзяржаўнай сістэме патрыятычнага выхавання моладзі. Існавала з 1931 па 1991 г., ахоплівала насельніцтва ва ўзросце ад 10 да 60 гадоў.
С. 554:

*Юр'еў дзень* — вызначаны законам тэрмін, у які феадальназалежным сялянам дазваляўся пераход ад аднаго землеўладальніка да другога ў Рускай дзяржаве XV — пач. XVII ст. Назва ад царкоўнага свята Георгія (Юр'я) — Юр'ева дня (восеньскага) 26 ліст. ст. ст., калі сканчаліся асноўныя сельскагаспадарчыя работы.

Варыянты і разначытанні:

Зб. тв. // *машынапіс*

С. 452:

[8] і ён мог // мог

[36] іх мядзвяны пах // іх пах

С. 456:

[29] заблудзіў. // заблудзіўся.

[30] акон // вокан

С. 457:

[16] асочваў // аглядваў

[30] вэзгануў // скрабянуў

С. 458:

[5] праз шасейку // цераз шасейку

[8—9] разам з даваеннай і пасляваеннай парой // дзе ў даваенную і пасляваенную пару разам

[15—16] Ціха звінючы струменьчыкамі, малако білася аб бляшаныя сценкі вядра. // Ціха звіняць струменьчыкі малака, б'юцца аб бляшаныя сценкі вядра.

[35] тут, у прадмесці, ён бываў рэдка // тут ён бываў рэдка

С. 459:

[5] пладагароднінай // садавінагароднінай

С. 461:

[5—6] Назад у горад Высоцкі не паехаў // Высоцкі не паехаў

С. 462:

[5] рашае // вырашае

С. 464:

[21] вярхушкамі. // вяршалінкамі.

[26] вытвараў // вырабляў

С. 466:

[23] стромы // стромкі

[24] асветленымі // светлымі

[36] правулкі // завулкі

С. 470:

[30—32] У машынапісе сказ «Некалькі маляроў-яўрэяў у запэцканых вапнай спяцоўках п'юць піва, наперабой спрачаюцца пра нарады, тарыфы, расцэнкі, лаюць начальніка» выкраслены.

С. 473:

[31] Дзяўчына // Жанчына

С. 477:

[16—17] У машынапісе адсутнічаюць сказы: «Ён, нібы юнак, ішоў насустрач незвычайным прыгодам. Чакаў гэтых прыгод».

[33] парадкам // добра

С. 478:

[18] Чытаю без слоўніка. // Чытаю без слоўніка, магу есці папрасіць і ўсё такое іншае…

С. 479:

[17] Я наўмысна бяру // Наўмысна бяруцца

С. 481:

[35—36] каб не другія людзі // каб не людзі

С. 482:

[33] пладагародніннай // садавінагародніннай

С. 486:

[36—37] Трэба толькі воля, сіла. На ёй трымаецца свет. // Трэба, паіхняму, толькі воля, сіла. На іх трымаецца свет.

С. 487:

[2—3] залішне вялікае месца // залішне месца

[18] стусамі // штабялямі

[23] да сінеючага ў далечыні лесу // да лесу, што сінеў удалечыні

С. 489:

[4] Нешта атрымліваецца. Ён гэта нутром выразна адчувае. // Нешта вымалёўваецца.

[5] ён, які столькі гадоў // ён, тэарэтык, які столькі гадоў

[6] дакладна // і сам

С. 490:

[18] дзе ў суседстве // калісьці па суседству

[21] Па ўсіх прыкметах, тут цяпер // Ён ужо тут быў, па ўсіх прыкметах, тут цяпер

С. 492:

[36] У машынапісе пасля сказа «Рэгламентацыя поўная» ідзе сказ: «Калгаснікам заставалася ўважліва чытаць і выконваць пастановы».

С. 495:

[6—9] У машынапісе абзац, які пачынаецца са слоў «Сам між іншым…», выкраслены.

[37] умовы для новых // умовы для жыцця новых

С. 496:

[13—14] А газеты спявалі. Матэрыялы, якія ў іх змяшчаліся, дыхалі бадзёрасцю // А матэрыялы, якія змяшчаліся ў газетах, дыхалі бадзёрасцю

С. 497:

[20—25] У машынапісе абзац, які пачынаецца са слоў «І замільгаў…», выкраслены.

[29—31] якія падзеляць тых, хто мае аднакае права на зямлю, ваду, паветра, сонца, на беленькіх, чорненькіх, паласаценькіх…// якія

падзеляць людзей на добрых і благіх, незалежна ад таго, які пай уносіць кожны ў агульную справу.

С. 498:

[16] задуменны // абыходлівы

[17—19] Немалады — на галаве пралегла прыкметная лысіна — вастратвары, з глыбокімі западзінамі ў падлоб'і // Вастратвары, немалады — на галаве пралегла прыкметная лысіна, глыбокія западзіны ў падлоб'і

С. 500:

[32] ў горадзе // ў гэтым горадзе

С. 503:

[19—20] спакой,— і гул гарматнай кананады, вывернутыя, пасечаныя снарадамі // спакой,— і вывернутыя, пасечаныя снарадамі

С. 504:

[31] У машынапісе адсутнічае сказ: «Але яно даволі хутка прытухла».

С. 505:

[2] не больш пяці гадзін // не больш як пяць гадзін

С. 506:

[6] ў горадзе. // ў гэтым горадзе.

[19—20] Старшыню мэблевай арцелі // Дырэктара мэблевай фабрыкі

С. 507:

[24] Ён апранаецца і выходзіць з гасцініцы. // Ён голіцца электрычнай брытвай, апранаецца і выходзіць з гасцініцы.

С. 508:

[11—12] I да выкладчыкаў у гасцініцу прыходзіла. // I да выкладчыкаў у гасцініцу прыходзіла. Цяпер ведаю, дзе вы жывяце.

[15] Джыяконды // Джаконды

С. 515:

[6] другое. // іншае.

С. 516:

[16—17] замежнай імперыі. // якой-небудзь заморскай дзяржавы.

С. 518:

[8] Пры тым, што выяўляюць пачуцці. // Пры тым, што выяўляюць пачуцці. Агульныя.

[14] замяшаўся. // разгубіўся.

[16] якім вы былі малады. // якім вы былі ў маладосці.

[36] ніколі // зусім

С. 519:

[21—22] У яго амаль дарослыя дзеці і позна гаварыць пра пачуцці. // Стары вертыкальны казёл у штанах.

[31] як лічылі сябе ўсе // як лічылі ўсе

С. 520:

[6—8] У пачатку сорак другога ён скончыў вучылішча сувязі і ўпершыню трапіў на фронт па прамому прызначэнню — у полк сувязі. // Тады, у сорак першым і пачатку сорак другога, ён скончыў вучылішча сувязі і цяпер упершыню трапіў на фронт па прамым прызначэнні — у полк сувязі.

[14—15] мільгацелі барвовыя сполахі, выбухі глуха разлягаліся ў наваколлі. // мільгацелі барвовыя сполахі выбухаў, глуха разлягаючыся ў наваколлі.

С. 522:

[9] вывучыў польскі гімн і яшчэ некалькі песень // вывучыў некалькі песень

[17] И звезды как там мерцают // И звезды как дома мерцают

[23] паўставалі // міналі

[27] не больш адной ночы. // не больш чым адну ноч.

[37] яго // людзей

С. 523—524:

[36—5] У машынапісе фрагмент тэксту ад слоў «У шпіталі ён быў…» і да канца абзаца выкраслены.

С. 524:

[18] З акружанага Брэслау // З акружанага гарадка Брэслау

[32] Магло здарыцца // Магло быць

[35] Высоцкі ўсю «сваю» вайну // Высоцкі быў малады і ўсю «сваю» вайну

С. 525:

[12] пладагароднiннай // садавінагароднiннай

[12] базы, якая відаць з акна // базы

С. 526:

[11—12] У машынапісе адсутнічае сказ: «Толькі яго матэрыял — слова».

С. 528:

[26] старана // бок

С. 529:

[5] пярэстая // стракатая

[23] другое. // іншае.

С. 531:

[4] хмуры // хмурны

С. 532:

[2] ў вокамгненне // вокамгненна

[17] краявіды, якія іх акружаюць // краявіды

[33—34] кілаграм на працадзень — такую аплату рэдка перавышаў які калгас. // аплата не падрасла — кілаграм на працадзень рэдка перавышаў які калгас.

С. 532—533:

[35—18] У машынапісе фрагмент тэксту ад слоў «Дзіўна ў той ужо далёкі час» да слоў «на дзяржаўны склад» выкраслены.

С. 534:

[11] дырэктар чайной // дырэктар сталовай

С. 541:

[5—6] Як выпусцілі з турмы, быў загадчыкам сельпо. // Быў загадчыкам сельпо.

[13—14] як бы ў нечым нават трывожна-ўзвышаны // нават трывожна-ўзвышаны

[18] залоцяць апошнія промні // залоцяцца апошнімі промнямі

С. 543:

[11—12] У машынапісе сказ «Калгасныя цяляты падалі ад бяскорміцы, і яна гатавала ім пойла з уласнай бульбы» выкраслены.

[21—22] яе як дэпутата адвязлі ў горад, у раддом, там яна нарадзіла двойню // яе адвязлі ў горад, у радзільны дом, там яна нарадзіла двайнят

С. 546:

[8] думаю пра вас. // люблю вас.

[30—31] толькі так прыгожа намецілася? // толькі намецілася?

С. 547:

[8] абыдзеным. // абойдзеным.

С. 548:

[5—16] У машынапісе фрагмент тэксту ад слоў «Два разы…» да слоў «…на пяць гадоў» выкраслены.

С. 551—552:

[24—20] У машынапісе фрагмент тэксту ад слоў «Ён ехаў у горад юнацтва» да слоў «ўзвіхрыла прыспаныя сілы, вызваліла іх з палону» адсутнічае.

## 1978

### Інтэрнат на Нямізе (с. 555)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1982, т. 3. Пад тэкстам: 1978 г.

Упершыню — часоп. «Маладосць», 1978, № 10.

Уваходзіла ў зб. «Смутак белых начэй», 1980.

Аповесць пераклаў на рускую мову В. Элькін (зб. «Прощание в Ковальцах», 1986; «В бору на рассвете», 1988).

У БДАМЛМ, у асабістым архіве І. Навуменкі, захоўваецца чарнавы экзэмпляр рукапісу-аўтографа (ф. 495, воп. 1, ум. адз. 20). Тэкст не датаваны, асобныя старонкі адсутнічаюць.

С. 555:

*Няміга* — рака ў Мінску, прыток Свіслачы. Упершыню згадваецца ў «Слове пра паход Ігараў» у аповедзе пра бітву Яраславічаў з Усяславам Брачыславічам.

*«Слова аб палку Ігаравым»* — помнік літаратуры Кіеўскай Русі XII ст., у якім прыведзена трагічнае апісанне Нямігскай бітвы 1067 г. каля сцен Мінска.

С. 556:

*Палессе* — гл. камент. да апов. «Бульба» (с. 821).

С. 557:

*Ленінград* — гл. камент. да апов. «Снежань» (с. 807).

*Чэхаславакія* — гл. камент. да апов. «Замяць жаўталісця» (с. 852).

С. 559:

*Камуністычны інстытут журналістыкі (КІЖ)* — Камуністычны інстытут журналістыкі імя С. М. Кірава (КІЖ) існаваў у 1932—1940 гг. у Мінску як навучальная ўстанова для падрыхтоўкі кадраў для раённых, абласных і рэспубліканскіх газет. Заснаваны на базе газетнага аддзялення Камуністычнага ўніверсітэта Беларусі. Рэарганізаваны ў Беларускі інстытут журналістыкі (існаваў да 1941 г.).

С. 563:

*...ў маскоўскім часопісе пачалі друкавацца першыя раздзелы рамана А. Фадзеева «Маладая гвардыя».*— раман «Маладая гвардыя» рускага савецкага пісьменніка А. А. Фадзеева (1901—1956) напісаны ў 1945 г., кніга ўпершыню выйшла ў 1946 г., перапрацаваная рэдакцыя з'явілася ў 1951 г.

*Данбас* — гл. камент. да апов. «Бульба» (с. 820).

С. 565:

*Эсхіл* (525 да н. э.— 456 да н. э.) — старажытнагрэчаскі паэт-драматург.

*Сафокл* (каля 496 да н. э.— 406 да н. э.) — старажытнагрэчаскі драматург.

*Эўрыпід* (каля 485 ці 480 да н. э.— 406 да н. э.) — старажытнагрэчаскі драматург.

С. 566:

*Северанін Ігар* (сапр. Лотараў Ігар Васілевіч; 1887—1941) — рускі паэт, стваральнік эгафутурызму.

С. 567:

*...брашуру Сталіна «Аб Вялікай Айчыннай вайне»...* — Сталін — гл. камент. да апов. «Апошняя восень» (с. 840). Маецца

на ўвазе кніга «Пра Вялікую Айчынную Вайну Савецкага Саюза» (1946).

*Усходняя Прусія* — гл. камент. да апов. «Трымценне дубовага лісця» (с. 831).

*...шмат разоў бачыў кнігу Гітлера «Майн кампф», як і кнігу другога фашысцкага прарока Альфрэда Розенберга «Міф дваццатага стагоддзя».*— гл. камент. да апов. «Замяць жаўталісця» (с. 853).

С. 571:

*Песня «Любімы горад»...* — гл. камент. да апов. «Апошняя восень» (с. 841).

*Волга* — гл. камент. да апов. «Мой сябар Пятрусь» (с. 815).

*Ледзь не ў кожным нумары газеты партрэт Вярхоўнага Галоўнакамандуючага. Вайна скончылася, а Вярхоўны ў мундзіры з шырокімі пагонамі, вялізнай зоркай на іх.*— маецца на ўвазе партрэт І. В. Сталіна (гл. камент. да апов. «Апошняя восень» (с. 840)).

*...па гісторыі Грэцыі, Рыма, Усходу.*— Старажытная Грэцыя, Элада — цывілізацыя, дзяржаўнасць і культура на тэрыторыі паўднёвай часткі Балканскага паўвострава, астравоў Эгейскага мора, заходняга ўзбярэжжа паўвострава Малая Азія і іншых зямель у II—I тыс. да н. э. (ад узнікнення першых грэчаскіх гарадоў-дзяржаў да рымскага заваявання ў II ст. да н. э.); Старажытны Рым — гл. камент. да апов. «Трымценне дубовага лісця» (с. 830); гісторыя старажытнага Усходу ахоплівае гістарычнае развіццё самых старажытных дзяржаў, якія існавалі на тэрыторыі паўночна-ўсходняй Афрыкі, Пярэдняй, Паўднёвай і Усходняй Азіі.

С. 572:

*«Адысея»* — старажытнагрэчаская эпічная паэма, якую разам з «Іліядай» (створанай раней за «Адысею») прыпісваюць Гамеру. Згаданыя творы — класічныя ўзоры старажытнагрэчаскага эпасу, якія зрабілі вялікі ўплыў на еўрапейскую і сусветную літаратуру. Гамер — паўлегендарны паэт Старажытнай Грэцыі. Большасць сучасных даследчыкаў лічаць, што ён жыў прыкладна ў VIII ст. да н. э.

С. 580:

*Будапешт* — сталіца Венгрыі.

С. 583:

*Трэба Кастрычнік адзначыць...*— Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі адзначаецца 7 ліст.; Кастрычніцкая рэвалюцыя — гл. камент. да апов. «Замяць жаўталісця» (с. 854).

С. 584:

*Уласаўцы* — салдаты і афіцэры, што ваявалі на баку гітлераўскіх войск у складзе «Рускай вызваленчай арміі» пад камандаваннем А. А. Уласава (1901—1946), былога генерал-лейтэнанта Чырвонай Арміі, які ў ліп. 1942 г. трапіў у палон і перайшоў на бок ворага.

С. 586:

*Карл Маркс* — гл. камент. да апов. «Мой сябар Пятрусь» (с. 813).

С. 598:

*…у Мінску ў сорак другім годзе «Звязда» выходзіла…* — у маі — верас. 1942 г. газета «Звязда» выдавалася нелегальна як орган Мінскага падпольнага камітэта КП(б)Б (выйшлі 4 нумары).

С. 605:

*Ніцшэ Фрыдрых* — гл. камент. да апов. «Бульба» (с. 818).

С. 606:

*Кёльн* — горад на захадзе Германіі, зямля Паўночны Рэйн-Вестфалія.

*Саарбрукен* — горад на захадзе Германіі, на рацэ Саар.

С. 613:

*Сталінград* — гл. камент. да апов. «Мой сябар Пятрусь» (с. 815).

С. 616:

*«Студэбекер»* — грузавыя аўтамашыны УС-6, што выпускаліся амерыканскай фірмай «Студэбекер» і пастаўляліся ў Савецкі Саюз з 1941 г.

С. 621:

*Другі курс журналістыкі едзе на маёўку ў вёсачку, дзе нарадзіўся Янка Купала.*— гл. камент. да апов. «Развітанне ў Кавальцах» (с. 836).

С. 625:

*Аднойчы вычытаў у паэта: «Общежитие, пристань моя путевая…» і адразу выбліснула — і любоў у яго тая самая, што і ў паэта.*— гл. камент. да апов. «Бульба» (с. 817).

Варыянты і розначытанні:

Зб. тв. // *часоп. «Маладосць»*

С. 563:

[35] не адрозніваецца // не адрознівалася

С. 565:

[2] ён быў выпеставаў // ён выпеставаў

[6] важнай // буйной

[14] тут // у гэтым будынку

С. 569:

[7] сцягвае // скоўвае

[37] вылучаецца // вылучылася

С. 580:

[11] Арона // Майсея

С. 581:

[9] з замілаваннем кінулася // ўпала

С. 584:

[23] кавалачак рыбіны. // кавалачак яго ж рыбіны.

С. 593—594:

[36—12] У часопісе адсутнічае фрагмент тэксту: «Назаўтра на яго нахлынула падазрэнне і ён спецыяльна сходзіў у той двор, куды Ася забягала наведаць сяброўку. Ніякага дома ў двары няма. Ляжаць зацярушаныя снегам руіны, груды абпаленай цэглы. Па другой справе забягала сюды Ася».

С. 596:

[12] намёрзся, напакутаваўся. // напакутаваўся.

[28] усё гэта выклікае захапленне // робяць Алу прадметам захаплення

С. 597:

[14] любую кампанію. // любую, нават выпадковую, кампанію.

С. 598:

[18—19] на дрэвах, слупах // на кожным дрэве, слупе

[19—20] на слупах і дрэвах. // на кожным слупе і дрэве.

С. 601:

[37—38] У часопісе адсутнічае сказ: «Пайшла, а ён яшчэ доўга стаяў».

С. 613:

[12—13] на якой паспела // на якой пасля ранішняга галення паспела

С. 617:

[12] Іх часта цяпер бачаць разам, гавораць пра іх дружбу. // Іх часта цяпер бачаць разам.

[13] Зарабіўшы, колькі грошай паклаў на зберкніжку. // Нечаканае здарылася ў той вечар, калі ў газетах, па радыё аб’явілі грашовую рэформу. Рэформа Кавалюку на руку: наяўныя свае фінансы абмяняў рубель на рубель, пабагацеўшы ў дзесяць разоў.

С. 618:

[2] У часопісе адсутнічае сказ: «Усё гэта надзвычай хвалявала».

[4] душу // толькі душу

С. 619:

[1—2] маці не сядзіць на месцы, прыязджае і ад'язджае. // маці прыязджае і ад'язджае.

[9—10] асабліва не цікавіцца. // не цікавіцца.

[20—21] У часопісе адсутнічае сказ: «Шкада хлапчука, відаць, не пашанцавала».

С. 620:

[20] У часопісе адсутнічае сказ: «І вельмі ж горка на душы».

[22] органаў. // міліцыі.

[35—36] яго гарачнасці, а больш легкадумнасці. // гарачнасці, легкадумнасці.

С. 622:

[19] У часопісе адсутнічае сказ: «Была прычына абрадавацца».

[23] У часопісе адсутнічае сказ: «Нешта ў яе душы адбываецца».

[33] У часопісе адсутнічае сказ: «Дажыўся».

С. 623:

[8] У часопісе адсутнічае сказ: «Вось як…».

[16—17] ваенныя чаравікі, не першай свежасці сарочку. // ваенныя чаравікі.

[21—22] У часопісе адсутнічае сказ: «Цікавы матэрыял можа атрымацца».

[26—27] У часопісе адсутнічае сказ: «Ужо нават ад пісаніны рука разбалелася».

[38] У часопісе адсутнічае сказ: «Што тут думаць?».

С. 625:

[3] У часопісе адсутнічае сказ: «Пашанцавала Мікалаю на сына, але ж…».

[11] У сваіх вандроўках Мікалай Іванавіч // У сваіх вандроўках — мысленных і сапраўдных — Мікалай Іванавіч

## 1996

### Любімы горад (с. 625)

Друкуецца паводле зб. «Любімы горад», 1999.

Упершыню — часоп. «Полымя», 1996, № 2, № 3.

Уваходзіла ў зб.: «Любімы горад», 1999; «Сасна пры дарозе», 2001; «Аповесці, апавяданні», 2009.

Аповесць пераклаў на рускую мову А. Ждан (часоп. «Нёман», 1997, № 9).

С. 625:

*Когда товарищ мой домой вернется, / Родные ветры вместе прилетят, / Любимый город другу улыбнется, / Знакомый дом, зеленый сад и нежный взгляд... (З даваеннай песні)* — у якасці эпіграфа выкарыстаны словы з песні «Любімы горад» (гл. камент. да апов. «Апошняя восень», с. 841).

*Харкаў* — гл. камент. да апов. «Замяць жаўталісця» (с. 853).

С. 627:

*Ленінград* — гл. камент. да апов. «Снежань» (с. 807).

*Карэльскі перашыек, Усходняя Прусія* — гл. камент. да апов. «Трымценне дубовага лісця» (с. 830, 831).

*Чэхаславакія* — гл. камент. да апов. «Замяць жаўталісця» (с. 852).

С. 628:

*КІЖ* — гл. камент. да апов. «Інтэрнат на Нямізе» (с. 862).

*Сілезія* — гістарычная славянская вобласць у верхнім і сярэднім цячэнні ракі Одра (Одэр). Большая частка ў складзе Польшчы, Паўднёвая Сілезія часткова ўваходзіць у склад Чэхіі (раёны каля мяжы з Польшчай).

С. 629:

*Палессе* — гл. камент. да апов. «Бульба» (с. 821).

*Луцк* — горад ва Украіне, цэнтр Валынскай вобл.

С. 632:

*МТС* — гл. камент. да апов. «Апошняя восень» (с. 839).

С. 633:

*Прыпяць* — гл. камент. да апов. «У бары на світанні» (с. 832).

С. 634:

*«Огонёк»* — гл. камент. да апов. «У бары на світанні» (с. 833).

С. 635:

*Першая сусветная вайна* (1914—1918 гг.) — гл. камент. да апов. «Снежань» (с. 809).

*...ён з ходу перакладае тэкст (гаворка ў ім пра «страчанае пакаленне» Першай сусветнай вайны, апісанае Рэмаркам).*— Рэмарк Эрых Марыя (1898—1970) — нямецкі пісьменнік. Удзельнік Першай сусветнай вайны. Шырокую вядомасць яму прынёс раман «На Заходнім фронце без перамен» (1929), які разам з раманамі «Вяртанне» (1931) і «Тры таварышы» (1938) склалі своеасаблівую трылогію пра Першую сусветную вайну і яе трагічныя наступствы ў лёсах франтавікоў гэтак званага страчанага пакалення.

С. 636:

*Вярхоўны Савет СССР* — вышэйшы пастаянна дзеючы орган дзяржаўнай улады ў СССР у 1936—1991 гг. Да 1989 г. выбіраўся грамадзянамі СССР на 4 гады на аснове ўсеагульнага, роўнага і прамога выбарчага права тайным галасаваннем. З 1989 г. склад Вярхоўнага Савета СССР фармаваўся на з'ездзе народных дэпутатаў СССР.

С. 637:

*...матэрыялы (за выключэннем тасаўскіх і белтаўскіх)...* — матэрыялы, якія паступалі з ТАСС (Тэлеграфнага агенцтва Савецкага Саюза) і БелТА (Беларускага тэлеграфнага агенцтва).

*Дае прачытаць артыкул галоўнаму заатэхніку райза Сапегу (прозвішча як у славутага князя).*— райза — гл. камент. да апов. «Снежань» (с. 809); Сапега Леў Іванавіч (1557—1633) — беларускі дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага.

*Райза* — гл. камент. да апов. «Снежань» (с. 809).

С. 641:

*Эсхіл, Сафокл, Эўрыпід* — гл. камент. да апов. «Інтэрнат на Нямізе» (с. 862).

С. 642:

*Ён ледзь не на памяць ведае брашуру Сталіна «Аб Айчыннай вайне».*— Сталін — гл. камент. да апов. «Апошняя восень» (с. 840), «Інтэрнат на Нямізе» (с. 862).

*«Майн кампф»* — гл. камент. да апов. «Замяць жаўталісця» (с. 853).

С. 646:

*...на вуліцы Чангарскай дывізіі...* — у гонар 6-й кавалерыйскай Чангарскай дывізіі, якая існавала з кастр. 1918-га па 19 верас. 1941 г. У свой час дывізія ўваходзіла ў склад Першай коннай арміі і вызначылася ў баях на Чангарскім паўвостраве (1920). Доўгі час размяшчалася на тэрыторыі Беларусі, у Гомелі.

С. 647:

*Талстой Леў* — гл. камент. да апов. «Бульба» (с. 821).

*Да рэвалюцыі з Рэчыцы, Гомеля патаемна прыязджалі да Язэпа розныя крамольнікі: эсэры, сацыял-дэмакраты, бальшавікі, бундаўцы.*— эсэры (сацыялісты-рэвалюцыянеры) — палітычная партыя ў Расіі ў 1901—1923 гг. Узнікла ў канцы 1901 — пачатку 1902 г. у выніку аб'яднання шэрагу народніцкіх груп і гурткоў; сацыял-дэмакраты — члены Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі — палітычнай партыі ў Беларусі ў 1918—1924 гг. Яе папярэдніцай была Беларуская сацыялістычная грамада, якая ўяўляла

сабой блок народнікаў і марксістаў; бальшавікі — прадстаўнікі адной з дзвюх галоўных плыняў у Расійскай сацыял-дэмакратыі. Аформіліся як сацыял-дэмакратычная фракцыя ў выніку барацьбы расійскіх рэвалюцыйных марксістаў на чале з У. І. Леніным за стварэнне рэвалюцыйнай партыі. Тэрмін «бальшавікі» ўзнік у працэсе выбараў кіруючых органаў партыі на 2-м з'ездзе РСДРП (1903), дзе прыхільнікі Леніна атрымалі большасць галасоў; бундаўцы — члены Бунда (ад *ідыш* der Bund — саюз) — нацыянальнай сацыял-дэмакратычнай арганізацыі яўрэйскіх рабочых, якая існавала ў 1897—1939 гг.

С. 648:

*Днепр* — гл. камент. да апов. «Мой сябар Пятрусь» (с. 814).

*Бранск* — горад у Расіі, цэнтр Бранскай вобл.

С. 651:

*Герой Савецкага Саюза* — ганаровае званне ў СССР у 1936—1991 гг., найвышэйшая ступень адзнакі за асабістыя ці калектыўныя заслугі, звязаныя са здзяйсненнем гераічнага подзвігу. Зацверджана пастановай ЦВК СССР ад 16 крас. 1934 г.

С. 652:

*Уласаўцы* — гл. камент. да апов. «Інтэрнат на Нямізе» (с. 864).

С. 658:

*Вялікдзень* — гл. камент. да апов. «Вайна каля Цітавай копанкі» (с. 790).

*Сталінград* — гл. камент. да апов. «Мой сябар Пятрусь» (с. 815).

С. 659:

*СС* (*ням.* SS, скарачэнне ад Schutzstaffeln — ахоўныя атрады) — арганізацыя германскіх фашыстаў, адна з галоўных апор фашысцкага рэжыму. На Нюрнбергскім працэсе (1946) была прызнана злачыннай.

*СД* (*ням.* SD, скарачэнне ад Sicherheitsdienst des Reichsführers SS — служба бяспекі рэйхсфюрэра СС) — служба бяспекі і палітычнай разведкі (шпіянажу) унутры СС, якая дзейнічала ў межах Нацыянал-сацыялісцкай партыі (НСДАП) у час дыктатуры гэтай партыі ў Германіі. Заснавана ў 1931 г. Г. Гімлерам як служба разведкі, з верас. 1932 г. называлася СД.

*Вермахт* (ням. Wehrmacht) — афіцыйная назва ўзброеных сіл фашысцкай Германіі ў 1935—1945 гг.

С. 667:

*Мее Антуан* (1866—1936) — французскі мовазнавец, прадстаўнік індаеўрапейскага параўнальна-гістарычнага мовазнаўства.

С. 668:

*Ольвія* — антычны горад-дзяржава ў Паўночным Прычарнамор'і, паблізу вусцяў Дняпра і паўднёвага Буга. Рэшткі Ольвіі знаходзяцца каля с. Паруціна Ачакаўскага р-на Мікалаеўскай вобл. (Украіна).

*Херсанес Таўрычаскі* — старажытны горад у Крыме (цяпер у межах г. Севастопаля), заснаваны ў 422—421 гг. да н. э. грэкамі-перасяленцамі з Гераклеі Пантыйскай.

*Любек* — горад на поўначы Германіі, зямля Шлезвіг-Гольштэйн.

С. 669:

*Гамсун Кнут* (1859—1952) — нарвежскі раманіст, навеліст, драматург, паэт, лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1920, за раман «Сокі зямлі», 1917). Сярод яго твораў раманы «Пад асенняй зоркай» (1906) і «Вандроўнік, які іграе пад сурдзінку» (1909).

С. 670:

*Чэхаславакія* — гл. камент. да апов. «Замяць жаўталісця» (с. 852).

*Данбас* — гл. камент. да апов. «Бульба» (с. 820).

С. 671:

*Карэлія* — гл. камент. да апов. «У бары на світанні» (с. 833).

С. 674:

*...юнраўскія кансервы...* — маецца на ўвазе дапамога, атрыманая ад ЮНРРА (ад *англ.* United Nations Relief and Rehabilitation Administration) — Адміністрацыі дапамогі і аднаўлення Аб'яднаных Нацый, міжнароднай арганізацыі (1943—1947 гг.), створанай у Вашынгтоне 44 дзяржавамі-ўдзельніцамі антыгітлераўскай кааліцыі з мэтай аказання дапамогі насельніцтву краін, якія вызваліліся ад нямецка-фашысцкай і японскай акупацыі. Беларусь далучылася да ЮНРРА ў жн. 1945 г. Дапамога ажыццяўлялася прадуктамі, медыкаментамі і іншымі рэчамі.

С. 676:

*Волга* — гл. камент. да апов. «Мой сябар Пятрусь» (с. 815).

*Эльба* — гл. камент. да апов. «Трымценне дубовага лісця» (с. 830).

С. 677:

*Давно ты не видел подружку, / Дорогу к родимым местам. / Налей же в железную кружку / Свои боевые сто грамм...* — недакладная цытата з песні «Салдацкі вальс» (словы У. А. Дыхавічнага і М. Р. Слабадскога, музыка М. У. Багаслоўскага). У арыгінале другі радок гучыць так: «Дорогу к знакомым местам».

С. 678:

*Старажытная Грэцыя* — гл. камент. да апов. «Інтэрнат на Нямізе» (с. 863).

*Старажытны Рым* — гл. камент. да апов. «Трымценне дубовага лісця» (с. 830).

*Апулей Луцый* (каля 125—каля 180) — старажытнарымскі пісьменнік, аратар.

*«Залаты асёл» («Метамарфозы»)* — авантурна-алегарычны раман Апулея ў 11 кнігах з устаўнымі навеламі (у т. л. казка пра Амура і Псіхею, кн. 4—6), у якім рэалістычныя і сатырычныя малюнкі з жыцця рымскай правінцыі II ст. н. э. спалучаюцца з эротыкай, фантастыкай і містыкай,— адзін з першых псіхалагічных раманаў у еўрапейскай літаратуры.

*Сенека* — гл. камент. да апов. «Мой сябар Пятрусь» (с. 815).

*Авідзій, Публій Авідзій Назон* (43 да н. э.— каля 18 н. э.) — рымскі паэт.

*Гарацый, Квінт Гарацый Флак* (65 да н. э.— 8 да н. э.) — рымскі паэт.

*Гамер* — гл. камент. да апов. «Інтэрнат на Нямізе» (с. 863).

*...тоўсты падручнік прафесара Сяргеева па Старажытнай Грэцыі...* — Сяргееў Уладзімір Сяргеевіч (1883—1941) — савецкі гісторык антычнасці, аўтар першых савецкіх падручнікаў па гісторыі Старажытнай Грэцыі і Рыма для ўніверсітэтаў і педінстытутаў («Очерки по истории Древнего Рима», ч. 1—2, 1938; «История Древней Греции», 1939).

С. 679:

*...старажытны Усход...*— гл. камент. да апов. «Інтэрнат на Нямізе» (с. 863).

*Індуізм* — адна з індыйскіх рэлігій, сукупнасць светапоглядных падыходаў, рэлігійна-філасофскіх поглядаў і сацыяльных дактрын, што сфармаваліся ў Індыі ў I тысячагоддзі н. э. на аснове ведычнай рэлігіі, касмалогіі, брахманізму, асіміляваных элементаў мясцовых неарыйскіх культаў і іншых рэлігійных сістэм.

*Будызм* — адна з трох сусветных рэлігій (разам з хрысціянствам і ісламам).

С. 680:

*Ігар Севяранін* — гл. камент. да апов. «Інтэрнат на Нямізе» (с. 862).

*Гумілёў Мікалай Сцяпанавіч* (1886—1921) — рускі паэт, крытык, перакладчык.

*Ясенін* — гл. камент. да апов. «Бульба» (с. 819).

*Выбарг* — горад у Ленінградскай вобл. Расіі.

С. 682:

*Шэлі Персі Біш* (1792—1822) — англійскі паэт-рамантык.

С. 685:

*Часопіс «Полымя»* — гл. камент. да апов. «Апошняя восень» (с. 842).

С. 689:

*Рыга* — сталіца Латвіі.

С. 693:

*«Дэкамерон»* (1351—1353) — галоўны твор (зборнік навел з абрамленнем) італьянскага пісьменніка ранняга Адраджэння Д. Бакачыа.

С. 696:

*Сервантэс, «Дон-Кіхот»* — гл. камент. да апов. «Бульба» (с. 818).

*Цяпер зацята займаецца Васіль Шэкспірам. Па рэкамендацыі Ліхтаровіча нават у тэатр схадзіў, паглядзеў «Гамлета», якога паказваў Віцебскі тэатр імя Якуба Коласа.*— Шэкспір — гл. камент. да апов. «Бульба» (с. 817); «Гамлет» — гл. камент. да апов. «Бульба» (с. 822). Тут маецца на ўвазе спектакль «Гамлет» (пастаноўка 1946 г. рэжысёра В. Бебутава) Беларускага дзяржаўнага тэатра імя Якуба Коласа (сёння — Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа).

С. 697:

*Пестрак надрукаваў у «Полымі» аповесць «Пачатак» — пра першыя асяродкі партызанскага руху на Палессі. Васіль адгукнуўся рэцэнзіяй у абласной газеце.*— Пестрак Піліп Сямёнавіч (1903—1978) — беларускі пісьменнік. Яго аповесць «Пачатак» была надрукавана ў часопісе «Полымя» ў 1948 г. (№ 4). 10 ліп. таго ж года на старонках газеты «Бальшавік Палесся» з’явілася рэцэнзія І. Навуменкі «Пачатак вялікай барацьбы».

*«Чырвоная змена»* — маладзёжная газета, орган Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі. Выдаецца з 1921 г. у Мінску. З 2002 г. выходзіць як дадатак да газ. «Звязда».

С. 698:

*...толькі адно дадатковае пытанне задае дацэнт: пра п’есу Сервантэса.*— маецца на ўвазе драма М. дэ Сервантэса Сааведры «Алжырскія норавы», напісаная ў перыяд з 1575-га па 1580 г.

*...спявае «Перапёлачку»...* — «Перапёлачка» — беларуская народная песня.

С. 703:

*Вярхоўны Савет Беларускай ССР* — гл. камент. да апов. «Заяц жаўталісця» (с. 856).

С. 705:

*«Віліс»* — аўтамабіль, які лічыцца прататыпам сучасных пазадарожнікаў. Вытворца — амерыканская фірма Willys-overland motors, гады вытворчасці 1941—1945. З лета 1942 г. па ленд-лізу масава пачалі пастаўляцца ў СССР і адразу набылі папулярнасць як камандзірскае аўто. Часам выкарыстоўваліся як цягачы для 45-мм пушак.

С. 706:

*...на райкамаўскім «газіку»...* — гл. камент. да апов. «У бары на світанні» (с. 833).

С. 709:

*Лявонцьеў Васіль Васілевіч* (1906—1999) — амерыканскі эканаміст, лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1973).

С. 711:

*Гудзій Мікалай Калінікавіч* (1887—1965) — рускі і ўкраінскі гісторык літаратуры.

*Астрамірава Евангелле* — найбольш старажытны датаваны помнік старaславянскага кірылічнага пісьменства; кніга евангельскіх чытанняў па тыднях. Перапісана ў 1056—1057 гг. з балгарскага арыгінала дыяканам Грыгорыем для наўгародскага ваяводы і пасадніка Астраміра (адсюль назва).

С. 718:

*Памятаеш: дала мне кнігу Гамсуна «Вікторыя»?* — раман К. Гамсуна «Вікторыя» датуецца 1898 г.

С. 721:

*Кок-сагыз* — гл. камент. да апов. «Заяц жаўталісця» (с. 854).

С. 723:

*Фольксдойчэ* (ням. Volksdeutsche) — абазначэнне «этнічных германцаў», якія жылі за межамі Германіі. У адрозненне ад «рэйхсдойчэ» (ням. Reichsdeutsche, «германцаў рэйха»), прыналежнасць да «фольксдойчэ» («германскасць») вызначалася паводле асобных прыкмет: «сямейнай гісторыі» (ці былі бацькі дойчэ), нямецкай мовы як роднай, імя, царкоўных запісаў і г. д.

С. 725:

*Дыфтонгі* — складаныя галосныя гукі, якія ўключаюць складаўтваральны і нескладаўтваральны элементы ў адным складзе.

*Украінізмы* — словы або выразы слоў, запазычаныя беларускай мовай з украінскай мовы.

*Русізмы* — словы або выразы, запазычаныя з рускай мовы.

С. 726:

*Стараверы* — прадстаўнікі стараверства — рэлігійнай плыні, якая ўзнікла ў другой палове XVII ст. у выніку расколу ў Рускай праваслаўнай царкве і адмовы часткі насельніцтва прызнаць царкоўныя рэформы патрыярха Нікана.

С. 727:

*Жылінскі Іосіф Іпалітавіч* (1834—1916) — расійскі і беларускі геадэзіст. У 1863—1873 гг. кіраваў градусным вымярэннем дугі паралелі 52° паўночнай шыраты (у Беларусі прыкладна паводле лініі Брэст — Пінск — Мазыр — Гомель). У 1873—1898 гг. узначальваў Заходнюю экспедыцыю па асушэнні балот Палесся.

С. 729:

*Беразіна* — гл. камент. да апов. «Мой сябар Пятрусь» (с. 814).

С. 730:

*Данбас* — гл. камент. да апов. «Бульба» (с. 820).

С. 731—732:

*Люблінская ўнія 1569 года* — міжнародна-прававы акт аб’яднання Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы ў адну федэратыўную дзяржаву — Рэч Паспалітую. Прыняты 1 ліп. 1569 года ў Любліне.

С. 732:

*Ён трымаў у руках «Живописную Россию» Адама Кіркора, а таксама том Сямёнава-Цян-Шанскага.*— Кіркор Адам Ганоры Карлавіч (1812—1886) — этнограф, археолаг, публіцыст, выдавец, гісторык, грамадскі дзеяч. Сярод яго прац нарысы гісторыі і культуры Беларусі ў «Маляўнічай Расіі» (т. 3, 1882); Сямёнаў-Цян-Шанскі (да 1906 Сямёнаў) Пётр Пятровіч (1827—1914) — расійскі географ, падарожнік, статыстык, батанік, энтамолаг, дзяржаўны і грамадскі дзеяч. Кіраваў выданнямі «Расія. Поўнае геаграфічнае апісанне нашай айчыны» (т. 1—19, 1899—1914; т. 9 — Верхняе Падняпроўе і Беларусь, 1905); «Маляўнічая Расія» (т. 1—12, 1881—1895; т. 3, ч. 1 — Літоўскае Палессе, ч. 2 — Беларускае Палессе, 1882).

С. 733:

*Бранская вобласць* — вобласць у складзе Расійскай Федэрацыі. Цэнтр — г. Бранск.

С. 734:

*МТС* — гл. камент. да апов. «Апошняя восень» (с. 839).

С. 735:

*...табліца Мендзялеева...* — Мендзялееў Дзмітрый Іванавіч (1834—1907) — расійскі навуковец. Адкрыў адзін з асноўных законаў прыродазнаўства — перыядычны закон хімічных элементаў (1869). Перыядычная сістэма элементаў была прапанавана ў выглядзе табліцы «Спроба сістэмы элементаў, заснаваная на іх атамнай вазе і хімічным падабенстве».

*Жыў бы ў лясной вёсцы, вывучаў характары, норавы людзей. Як Лабановіч з «Палескіх аповесцяў» Якуба Коласа.*— Якуб Колас — гл. камент. да апов. «Снежань» (с. 809); Лабановіч — галоўны герой «Палескіх аповесцяў» («У палескай глушы», 1923; «У глыбі Палесся», 1927), якія пазней увайшлі ў трылогію «На ростанях» як першыя дзве часткі (завершана трылогія ў 1954 г.).

С. 737:

*Дыялектычны матэрыялізм* — адна з форм матэрыялізму, заснаваная на дыялектычным метадзе пазнання рэчаіснасці з'яў і працэсаў прыроднага свету. Заснаваны ў XIX ст. К. Марксам і Ф. Энгельсам.

С. 738:

*Броўка Пятрусь* — гл. камент. да апов. «Бульба» (с. 818).

*Глебка Пятро* (Пётр Фёдаравіч; 1905—1969) — беларускі паэт, акадэмік АН БССР (1957).

*Лынькоў Міхась* (Міхаіл Ціханавіч; 1899—1975) — беларускі пісьменнік, літаратуразнавец, грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік Беларусі (1962).

С. 743:

*Сібір* — гл. камент. да апов. «Бульба» (с. 820).

С. 744:

*Гогаль* — гл. камент. да апов. «Замяць жаўталісця» (с. 854).

*Салтыкоў-Шчадрын Міхаіл Яўграфавіч* (сапр. Салтыкоў; 1826—1889) — рускі пісьменнік, крытык, публіцыст дэмакратычнага кірунку.

*Пушкін* — гл. камент. да апов. «Снежань» (с. 808).

С. 745:

*Оўруч* — горад у Жытомірскай вобл. Украіны.

С. 755:

*Енісей* — рака ў Сібіры, у Краснаярскім краі (вярхоўі ў Рэспубліцы Тува), Расія. Адна з найвялікшых рэк на зямным шары.

С. 757:

*Шолахаў* — гл. камент. да апов. «Апошняя восень» (с. 840).

*Каўказ* — гл. камент. да апов. «Пераломны ўзрост» (с. 810).

Варыянты і розначытанні:

Зб. «Любімы горад» // *часоп. «Полымя»*

С. 644:

[20—21] стаяць мяхі з бульбай, на старым табурэце — закапцелы керагаз. // стаіць на старым табурэце закапцелы керагаз, мяхі з бульбай.

С. 658:

[18—19] Там я канчаў сямігодку, знаёмых маю. // Давай сходзім у Гарохавічы. Там я

## АЛФАВІТНЫ ДАВЕДНІК[1]


Апошняя восень ........................................ 371 ........... 838
Бульба ........................................ 162 ........... 817
Вайна каля Цітавай копанкі ........................................ 3 ........... 789
Замяць жаўталісця ........................................ 452 ........... 851
Інтэрнат на Нямізе ........................................ 555 ........... 861
Любімы горад ........................................ 625 ........... 866
Мой сябар Пятрусь ........................................ 127 ........... 813
Пераломны ўзрост ........................................ 97 ........... 810
Развітанне ў Кавальцах ........................................ 319 ........... 835
Снежань ........................................ 69 ........... 807
Трымценне дубовага лісця ........................................ 260 ........... 830
У бары на світанні ........................................ 283 ........... 832


[1] Першая калонка лічбаў — старонкі тэкстаў, другая — каментарыяў.

ЗМЕСТ[1]


| | | |
|---|---|---|
| Вайна каля Цітавай копанкі | 3 | 789 |
| Снежань | 69 | 807 |
| Пераломны ўзрост | 97 | 810 |
| Мой сябар Пятрусь | 127 | 813 |
| Бульба | 162 | 817 |
| Трымценне дубовага лісця | 260 | 830 |
| У бары на світанні | 283 | 832 |
| Развітанне ў Кавальцах | 319 | 835 |
| Апошняя восень | 371 | 838 |
| Замяць жаўталісця | 452 | 851 |
| Інтэрнат на Нямізе | 555 | 861 |
| Любімы горад | 625 | 866 |
| *Далягляды творчых пошукаў* | 772 | |
| *Каментарыі* | 788 | |
| *Алфавітны даведнік* | 877 | |


[1] Першая калонка лічбаў — старонкі тэкстаў, другая — каментарыяў.

**Навуменка, І. Я.**

Н15 Збор твораў. У 10 т. Т. 3. Аповесці, 1957—1996 / Іван Навуменка ; падрыхт. тэкстаў, камент. і паслясл. І. Баўтрэль. рэд. тома С. С. Лаўшук ; Нац. акад. навук Беларусі, Цэнтр даслед. беларус. культуры, мовы і літ.— Мінск : Мастацкая літаратура, 2013.— 878 с. : іл.

ISBN 978-985-02-1520-8.

У трэці том Збору твораў народнага пісьменніка Беларусі Івана Навуменкі (1925—2006) увайшлі аповесці, напісаныя ім у 1957—1996 гг.

**УДК 821.161.3-31**
**ББК 84(4Беи)-44**

Літаратурна-мастацкае выданне

**НАВУМЕНКА** Іван Якаўлевіч

ЗБОР ТВОРАЎ
У дзесяці тамах

**Том 3**

*Аповесці*
*1957—1996*

Рэдактар *А. В. Спрынчан*
Мастацкае афармленне *В. Г. Паўлавец*
Мастацкі рэдактар *В. А. Макаранка*
Тэхнічны рэдактар *В. Ю. Серчанка*
Стылістычныя рэдактары *М. У. Віцько, М. М. Адам, М. А. Паддубская, Л. Г. Ганчарэнка*

Падпісана да друку 21.11.2013. Фармат 84×108$^1/_{32}$. Папера афсетная.
Гарнітура Таймс. Афсетны друк. Умоўн. друк. арк. 46,2+0,42.
Улік.-выд. арк. 46,28. Тыраж 1200 экз. Заказ 385.

Выдавецкае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура»
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. ЛИ № 02330/0494049 ад 03.02.2009.
Праспект Пераможцаў, 11, 220004, Мінск. www.mastlit.by; e-mail: mail@mastlit.by

ААТ «Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа».
ЛП 02330/0150496 ад 11.03.2009. Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, Мінск.